УДК 94(476)+929Скірмунт
ББК 63.3(4Беи)-8
С50

Рэцэнзенты

Доктар гістарычных навук *Сяргей Токць* (Варшаўскі ўніверсітэт),
Доктар гістарычных навук *Захар Шыбека* (Універсітэт Тэль-Авіва).




Кніга выдадзеная пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску

*This book is published with a support of Orsa-Romano Cultural and Educational Foundation Inc.*

**Смалянчук**, А.

С50 Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю / Смалянчук Аляксандр Фёдаравіч. — Мінск : Выдавец Зміцер Колас, 2018.— 700 с. [12] л. іл. : іл.

ISBN 978-985-23-0016-2.

У цэнтры ўвагі біяграфія «краёўца» Рамана Скірмунта (1868–1939). Кніга знаёміць з асобай прадпрымальніка, ідэолага «краёвасці», беларускага і польскага палітыка і грамадскага дзеяча, для якога зыходным пунктам публічнай дзейнасці было замілаванне да роднага Краю. Гэты Край пачынаўся з Парэчча на Піншчыне і ахопліваў землі ўсёй гістарычнай Літвы. Краёвы патрыятызм паспрыяў далучэнню Р. Скірмунта да беларускага руху і ўдзелу ў змаганні за незалежнасць Беларусі ў 1918 г. Ягонае жыццё і дзейнасць можна лічыць апошнім актам польска-беларускага сімбіёза, які трагічна абарваўся ўвосень 1939 г.

Кніга адрасаваная ўсім, каго цікавіць мінулае гістарычнай Літвы, Беларусі, Польшчы.

ББК 63.3(4Беи)-8
УДК 94(476)+929Скірмунт

**ISBN 978-985-23-0016-2**

## ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА

Гэтая кніга павінна была называцца «Апалогія Рамана Скірмунта»... Пры гэтым апалогія разумелася як абарона ў адпаведнасці з традыцыяй літаратуры старажытнай Грэцыі. Прыгадвалася славутая платонаўская «Апалогія Сакрата». Але падчас працы прыйшло разуменне, што гісторык не павінен ператварацца ў адваката або ў пракурора, што ягоны прафесійны абавязак звязаны з імкненнем зразумець. Гэта ў першую чаргу датычыць гістарычнай біяграфістыкі, якая займае важнае месца ў гістарыяграфіі. Усё ж гісторыя застаецца навукай пра чалавека ў часе, што калісьці трапна заўважыў вядомы французскі даследчык Марк Блок.

Хто такі Раман Скірмунт? Чаму ягоная постаць вартая ўвагі? Раман Скірмунт быў палітыкам трох краін і адным з ідэолагаў г. зв. «краёвасці», з якой многія даследчыкі звязваюць спробу будаўніцтва нацыі палітычнага тыпу на землях гістарычнай Літвы. Галоўным крытэрыем прыналежнасці да яе абвяшчалася адчуванне асобай уласнага краёвага «грамадзянства». Улетку 1918 г. былы дэпутат Дзяржаўнай Думы і сябра Дзяржаўнай Рады Расійскай імперыі ўжо фарміраваў урад Беларускай Народнай Рэспублікі, а ўвосень 1930 г. быў абраны ў Сенат Польшчы. На пачатку кастрычніка 1939 г. пасля прыходу г. зв. «першых саветаў» ён быў забіты паблізу роднага Парэчча на Піншчыне.

Ягоны жыццяпіс прыцягнуў увагу не толькі крутымі паваротамі палітычнай біяграфіі і надзвычай трагічным фіналам. Гісторыя жыцця Рамана Скірмунта, які называў сябе «беларусам польскай культуры» (1906), дазваляе зазірнуць у самасвядомасць супольнасці «літоўскіх» (*vel* «беларускіх») палякаў пачатку XX ст., закрануць праблему іх нацыянальнага выбару, які не заўсёды быў простым і відавочным. Даследаванні «краёвай ідэі», да выпрацоўкі якой ён меў непасрэднае дачыненне, значна паглыбляюць разуменне спецыфікі нацыянальных працэсаў на землях былога Вялікага Княства Літоўскага. Удзел палітыка ў беларускім Адраджэнні выклікае думкі пра магчымую альтэрнатыву беларускай гісторыі XX ст., менавіта пра Беларусь са Скірмунтамі і Радзівіламі.

Жыццяпіс Скірмунта – гэта таксама гісторыя Палесся, якое застаецца адным з найбольш прыгожых і таямнічых куткоў Беларусі. Дакрануцца да гэтай таямніцы і адчуць прывабнасць Палесся і ягоных жыхароў дапамаглі шматлікія экспедыцыі па вуснай гісторыі. Палешукі казалі «наш Скірмунт» і шчодра дзяліліся ўспамінамі пра «добрага пана», якія паведамлялі шмат цікавага не толькі пра ўладальніка маёнтка ў Парэччы, але таксама пра іх саміх, пра Палескі край.

Зразумець палітыка і грамадскага дзеяча немагчыма без сустрэчы з ім як з чалавекам з пэўнымі асаблівасцямі характару і менталітэту. Ігнараванне індывіду-

альнасці, якое часцяком сустракаецца ў гістарыяграфіі, недапушчальнае ў біяграфічных даследаваннях. Біяграфістыка (біяграфіка) апошнім часам ператварылася ў асобную галіну гуманітарных ведаў, якая грунтуецца на міждысцыплінарнасці. Метад біяграфістыкі, безумоўна, аказаў уплыў на аўтара гэтых радкоў, які, аднак, застаўся ў межах гістарычнай навукі. Пры гэтым атрымалася праца, якую можна трактаваць як пэўны выклік той беларускай гістарыяграфіі, якая ствараецца калегамі ў сценах дзяржаўных інстытутаў з аглядкай на «цэнзараў» ад афіцыйнай ідэалогіі, а яшчэ больш на «ўнутранага цэнзара».

Хачу выказаць удзячнасць тым людзям, якія цікавіліся ходам даследаванняў, дзяліліся гістарычнымі крыніцамі, выказвалі заўвагі і давалі парады, стваралі магчымасці публічных выступленняў і абмеркаванняў найбольш складаных пытанняў жыццяпісу Рамана Скірмунта. Імёны гэтых людзей таксама прысутныя ў гэтай кнізе. Асаблівая падзяка належыць старэйшым жыхарам Пінска, а таксама вёсак Парэчча, Табулкі, Моладава, Чамярын, Моталь, Мерчыцы, Рудка, Ахова, Бакінічы ды іншых на Піншчыне. Іх успаміны паглыблялі маё разуменне як асобы Рамана Скірмунта, так і асаблівасцяў гістарычнага даследавання.

Большасць ілюстрацый паходзяць з архіваў Беларусі, аддзела рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы (Вільня) і збораў спадарыні Зоф'і Дэрналовіч (Варшава).

Выданне гэтай кнігі стала магчымым дзякуючы падтрымцы Польскага Інстытута ў Менску, а таксама *Orsa-Romano Cultural and Educational Foundation Inc.*

P. S. Вяртаючыся да адкінутай першапачатковай назвы кнігі… Ужо пасля напісання прадмовы прыйшла думка, што апалогія (абарона) Рамана Скірмунта патрэбная не яму, а нам, жыхарам сучаснай Беларусі. Прынамсі тым, якія хочуць жыць у краіне свабодных людзей, дзе моц дзяржавы і закона не парушае, а абараняе іх вольнасць, годнасць і інтарэсы. Якраз пра гэта марыў Раман Скірмунт…

## «СМЕРЦЬ, ДЗЕ ТВАЁ ДЖАЛА?!»

Імкненне захаваць жыццё – натуральная прага ўсяго жывога. Але смерць – гэта непазбежны лёс кожнай жывой істоты. Як прымірыцца з ёй? Рэлігія прапануе адказ, які здымае праблему смерці як уяўную. Вядомы культуролаг Юры Лотман у сувязі з гэтым заўважыў, што культура занадта пагружаная ў чалавечую прастору, каб задаволіцца падобным рашэннем загадкі смерці[1]. Па-за межамі рэлігійнай свядомасці застаецца прыняцце смерці як непазбежнай і незалежнай ад волі чалавека. І таямніца смерці застаецца… Але часам менавіта смерць як найбольш драматычны элемент жыцця надае яму цэльнасць і стварае магчымасць ягонага асэнсавання. У гэтай сітуацыі асаблівы трагізм набываюць выпадкі гвалтоўнай смерці.

Рамана Скірмунта забівалі двойчы. 7 кастрычніка 1939 г. колішні дэпутат Дзяржаўнай Думы Расійскай імперыі (1906), кіраўнік Беларускага Нацыянальнага Камітэта (1917) і палітык Беларускай Народнай Рэспублікі (1918), сябра Канстытуцыйнай камісіі Сената міжваеннай Польшчы (1930–1935) быў забіты мясцовымі «актывістамі савецкай улады»[2] ва ўрочышчы «Корань» паблізу вёскі Парэчча на Піншчыне. Забойства было адным з наступстваў г. зв. «вызвалення Заходняй Беларусі ад польскіх паноў».

Пазней тыя гісторыкі, якія абслугоўвалі камуністычную ўладу, паспрабавалі забіць і памяць пра гэтага чалавека. Менавіта іх намаганнямі Раман Скірмунт у беларускай савецкай гістарыяграфіі ператварыўся ў сімвал «панскага прыгнёту» над беларускім народам[3].

Вяртанне з нябыту пачалося толькі ў 1990-я гг. У старым парку в. Парэчча з’явіўся памятны крыж, а беларускія гісторыкі, абапіраючыся на гістарычныя дакументы, паспрабавалі распавесці пра жыццё і дзейнасць палітыка і грамадскага дзеяча Рамана Скірмунта. Характэрнае для першых гадоў існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь імкненне пазбыцца згаданага савецкага «сімвалізму» і адрадзіць гісторыяпісанне як навуковую дысцыпліну стварыла шанс вяртання

---

1 Ю. Лотман, *Смерть как проблема сюжета* (гл. зборнік *Studies in Slavic Literature and Poetics*, Vol. XX; Literary Tradition and Practice in Russian Culture, Amsterdam-Atlanta, 1993. Рэжым доступу: http://vivovoco.astronet.ru/VV/PAPERS/LOTMAN/LOTMAN06.HTM. Дата доступу: 02. 01. 2018

2 Гл., напр., Электронная энцыклапедыя. Рэжым доступу: http://slounik.org/122364.html Дата доступу: 27. 04. 2018 г.

3 Гл., напр., *Гісторыя Беларускай ССР.* Т. II. Пад рэд. І. С. Краўчанкі, Н. В. Каменскай. Мінск 1958, с. 93 ды інш.

ў прастору памяці не толькі постаці Рамана Скірмунта, але і тысячы іншых асоб, выкрасленых з айчыннай гісторыі савецкімі цэнзарамі.

## *Забойства ў Парэччы*

Мая цікавасць да асобы Рамана Скірмунта першапачаткова была звязана з ягонай палітычнай дзейнасцю. Ва ўмовах дамінавання этнакультурнага нацыяналізму на землях былой Рэчы Паспалітай у пачатку XX ст. ён выступіў як адзін з ідэолагаў г. зв. краёвасці. Краёвасць (краёвую ідэю) можна трактаваць як спробу пашырэння канцэпцыі палітычнага або грамадзянскага разумення нацыі. Мэтаю краёўцаў было захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці гістарычнай Літвы, а таксама ўлагоджванне нацыянальных канфліктаў і сацыяльных супярэчнасцяў. Дарэчы, імкненне ісці супраць «плыні» было адной з дамінуючых рысаў характару Рамана Скірмунта.

Вобраз палітыка і «краёўца» набыў зусім іншыя фарбы, калі ў 1999 г. я ўпершыню наведаў вёску Парэчча Пінскага раёна, дзе яшчэ ў міжваенны час знаходзіўся маёнтак Скірмунтаў. Мяне цікавілі абставіны ягонай трагічнай смерці. Ужо першыя размовы ў вёсцы паказалі, што Раман Скірмунт з'яўляецца надзвычай важным «месцам памяці» парэчан. Аповед пра «нашага Скірмунта» і «добрага пана» быў (і застаецца!) абавязковым сюжэтам вусных успамінаў старэйшых жыхароў Парэчча. Вось, напрыклад, як прыгадвала яго Соф'я Хвясюк, 1933 г. нар.: *Такіх панів як наш пан, то нігде такей душы, наверное, не було. Очэнь-очэнь буў добры. Сочувствовал каждому бідному, помогал бідным…*[4] Тады ж я пачуў, што «пана» забілі не нейкія там «актывісты», а «хуліганы і гулякы».

Ужо праз год у Парэччы, а таксама ў навакольных вёсках, у т. л. у Моладаве Іванаўскага раёна, дзе таксама быў маёнтак Скірмунтаў, пад маім кіраўніцтвам працавала першая экспедыцыя па вуснай гісторыі. Яе ўдзельнікамі былі навукоўцы, мясцовыя краязнаўцы і студэнты з Гародні. Мэтаю быў збор вусных сведчанняў пра Рамана Скірмунта, пра штодзённае жыццё ў маёнтку і блізкіх вёсках у міжваенны час. Асаблівая ўвага надавалася абставінам гібелі Скірмунтаў у Парэччы і Моладаве.

Пра спецыфіку *oral history* гаворка наперадзе. Зараз адзначу толькі, што ў беларускай гістарыяграфіі і *memory study* вусная гісторыя з'яўляецца адносна новым накірункам. Яна грунтуецца на выкліканых даследчыкам падчас інтэрв'ю вусных успамінах, якія становяцца гістарычным дакументам і аб'ектам навуковай інтэрпрэтацыі. У беларускай сітуацыі, калі значныя масівы пісьмовых дакументаў не захаваліся, а да іншых доступ часткова абмежаваны або наогул забаронены, вусная гісторыя мае асаблівую каштоўнасць. Пры гэтым трэба разумець, што

[4] Тут і далей у цытаванні вусных успамінаў захоўваюцца ўсе асаблівасці вымаўлення рэспандэнтаў.

«факты» памяці рэспандэнтаў належаць не толькі мінуўшчыне, але і сучаснасці. Зрэшты, суб'ектыўнасць уласцівая кожнай гістарычнай крыніцы, бо ўсе яны так ці інакш створаны чалавекам. Прычым іх аўтары звычайна не мелі магчымасці або не імкнуліся да аб'ектыўнага апісання падзеі ці асобы.

Даследаванні вуснай гісторыі 2000–2016 гг. у вёсках Парэчча, Моладава, Табулкі, Чамярын, Рудка, Ахова, Палтаранавічы, Кашавічы, Бакінічы, Юзэфіны, Церабень, Моталь, былое Альбрэхтова ды інш. Пінскага і Іванаўскага раёнаў Берасцейскай вобл. дазволілі аднавіць той вобраз трагічных падзей восені 1939 г. у палескіх маёнтках Скірмунтаў, які захавала памяць нашых рэспандэнтаў (суразмоўцаў). Імі былі пераважна вяскоўцы 1910–1930-х гг. нараджэння[5]. Аповеды «парыцкіх людзей» былі дапоўнены вуснымі ўспамінамі пляменніцы Рамана Скірмунта Вацлавы Нээф, дачкі Тэафілы са Скірмунтаў і Эдварда Корсак-Залескага, запісанымі польскай даследчыцай Зоф'яй Дэрналовіч у Кёнігсфельдзе (Германія) у 1985 г.[6], а таксама ўспамінамі Гераніма Тукальскага-Нелюбовіча з фондаў Асалінэум у Вроцлаве (Польшча).

Што адбылося ў Парэччы з прыходам Чырвонай арміі? Паводле ўспамінаў Вацлавы Нээф і Гераніма Тукальскага-Нелюбовіча, атрымаўшы звесткі пра агрэсію СССР супраць Польшчы, Раман Скірмунт з сястрой Аленай і яе мужам Баляславам Скірмунтам выехалі з Парэчча ў Пінск. Вечарам 20 верасня 1939 г. у горад увайшлі часткі Чырвонай арміі. У наступныя дні адбыліся масавыя арышты «класава чужога элементу». Былі арыштаваныя таксама Скірмунты. Але ў турме яны прабылі толькі суткі. Пасля допыту і запісу асабістых дадзеных іх, як і большасць іншых арыштантаў, выпусцілі на свабоду[7].

Напрыканцы верасня Раман і Баляслаў Скірмунты вырашылі вярнуцца ў Парэчча. У вёсцы Скірмунта вельмі шанавалі, і, магчыма, ён якраз і разлічваў на дапамогу вяскоўцаў. Тым больш, што ў Пінску ўжо распавядалі як пра факты «стыхійных» забойстваў і расправаў з землеўласнікамі (зямянамі), так і пра эпізоды, калі жыхары палескіх вёсак ратавалі іх ад рэпрэсій з боку новай улады. Праз даверанага чалавека (лакея Олеся) ён перадаў ліст Вацлаве Нээф. Яна жыла ў апусцелай плябаніі ў Парэччы і, дзякуючы мужу, які быў грамадзянінам Германіі, адчувала сябе больш-менш упэўнена. Савецкая ўлада нямецкіх саюзнікаў не крыўдзіла.

Каб вярнуцца ў Парэчча, патрэбны быў дазвол новай мясцовай улады. В. Нээф прыгадала, што «камісар» Марозаў, які знаходзіўся ў Парэччы, дазволіў вяртанне

---

5 Аўдыёзапісы ўспамінаў жыхароў вёсак знаходзяцца ў асабістым архіве аўтара, а таксама ў Беларускім архіве вуснай гісторыі (http://www.nashapamiac.org/archive/home).

6 Хачу выказаць шчырую ўдзячнасць спадарыні Зоф'і Дэрналовіч (Zofia Dernałowicz) за дазвол карыстацца запісамі гэтых успамінамі, а таксама фотадакументамі.

7 Biblioteka Zakładu Narodowego imienia Ossolińskich we Wrocławiu (далей: ZNiO). Dział rękopisów, sygn. 15444 II/cz. 2. H. Tukalski-Nelubowicz. *Pół wieku wspomnień. Cz. 2. W siodle 1926–1939*, T. 1, k. 16.

з умовай, што Скірмунт не будзе ўмешвацца ў справы вясковага «рэвалюцыйнага камітэта».

Вацлава Нээф таксама распавяла, што не раіла Скірмунту вяртацца, бо згаданы Камітэт ужо пачаў распраўы. Адной з першых ахвяр стаў ляснік Яворскі. Да таго ж у складзе Камітэта аказаўся чалавек, асуджаны за крадзяжу мёду з вулляў маёнтка, які меў асабісты канфлікт з Скірмунтам.

Аднак Раман і Баляслаў Скірмунты ўсё ж прыехалі ў Парэчча і пасяліліся таксама ў плябаніі. Р. Скірмунт, як і Нээфы, амаль не пакідаў будынку. Магчыма, ужо ў Парэччы ён даведаўся пра трагічны лёс сваякоў з Моладава. Генрык і Марыя Скірмунты былі забітыя 20 верасня. У гэтыя трывожныя дні ён, верагодна, прыгадваў успаміны свайго сябра Эдварда Вайніловіча пра рабунак і знішчэнне ягонага палаца ў Савічах (Слуцкі пав.) дэзертырамі, сялянамі і слугамі ў лютым 1918 г. Жыццё Вайніловічу і ягонай жонцы выратавала толькі тое, што, папярэджаныя служкам, яны паспелі схавацца ў лесе...

Праз некалькі дзён пасля вяртання жыхароў плябаніі ўначы абудзіў адзін з парэцкіх сялян, які паведаміў, што «рэвалюцыйны камітэт» прыняў рашэнне расстраляць Скірмунтаў, і параіў ім уцякаць. Паводле ўспамінаў В. Нээф, Раман Скірмунт не паверыў і не хацеў пакідаць вёску, але ўрэшце паддаўся ўгаворам і заявіў, што раніцай яны паедуць вузкакалейкай да Янава, а адтуль чыгункай да Пінска.

Аднак іх апярэдзілі. Раніцай 6 кастрычніка Скірмунтаў арыштавалі ўзброеныя «камітэтчыкі» і памясцілі ў карцар былой управы гміны, якая стала сядзібай Камітэта. Раніцай наступнага дня арыштаваных пасадзілі на воз і заявілі, што павязуць у Пінск на допыт. Муж Вацлавы Нээф адразу ж пайшоў да «камісара» Марозава, і той пацвердзіў, што арыштаваных павязуць у Пінск. Насамрэч, яны былі расстраляныя ў лесе «Корань» паміж вёскамі Велясніца і Кажанёва (8–10 км ад Парэчча).

Вацлава Нээф прыгадала, што на наступны дзень адзін з забойцаў хадзіў у адзенні Рамана Скірмунта і меў на руцэ ягоны гадзіннік. Ён нават зайшоў у плябанію і папрасіў вады. Магчыма, чакаў нейкіх роспытаў, але не дачакаўся.

Вясковыя суразмоўцы пацвердзілі спадзяванні Скірмунта на дапамогу сялян. Марыя Кучынская (1919 г. нар.): *Быў пэўны на свой народ, бо він яго не обіжаў. Ён мог уцячы, але думаў, што прыйдуць Саветы і разбяруцца.* Яна ж прыгадала ягоныя словы пасля вяртання ў Парэчча: *Він хаціў так: Знаю, шчо ўжэ не памешчык, такі ж робочы, як і ўсі. Я буду робыты, але трэба, коб прыйшло начальство […] Ну, ідітэ, забырайтэ ўсё мае багатство. Но рабітэ. А я посмотру, як вы будытэ робіты. Маладнякы шчэ ж вы, ныц ны знаетэ.*

Спадзяванне Рамана Скірмунта на сустрэчу і размову з «начальствам» пацвердзілі і іншыя суразмоўцы. Але гэтага спаткання не адбылося. «Начальства» (рэспандэнты прыгадвалі прозвішчы «камісараў» Холадава, Кавалёва і Маскалёва) не збіралася сустракацца з уладальнікам маёнтка. Магчыма, якраз гэтыя

«камісары» (часцей вясковыя суразмоўцы згадвалі Холадава) і стаялі за спіной забойцаў (Фёдар Хвясюк, 1912 г. нар.; Анастасія Вакульчык, 1911 г. нар. ды інш.).

Забойству папярэднічаў агульны сход, які павінен быў стаць «народным судом» над памешчыкам. Пра яго распавёў былы шафёр Рамана Скірмунта Мікалай Куцко (1911 г. нар.): *У 39 годзе Саветы сабралі суд: Што будзем рабіць са Скірмунтам? Некаторэ казалі, хай ён ідэ да сваіх лёкаеў на калёнію, і хай яны яго кормяць. Другія казалі, што трэба выдзяліць яму пакой у палацы. Хай там жыве. Ніхто не хацеў забіваты. Тады выступіў камісар Холадаў: «Вы ня знаеце, што такое памешчык, а мы знаем. Он і конюхам работаць можа, але возьме хлеў зачыніць, падпаліць, цялё на плечы, бяжыць і крычыць «Спасайте!» По-мойму такім як Скірмунт не должно быць места на земле».*

Сярод парэчан знайшліся людзі, якія прыслухаліся да гэтага меркавання. Суразмоўцы асуджалі іх: *А між людьмы ўсякы ест. Е подхалімы такы* (Рыгор Цярэшка, 1932 г. нар.); *Люды, шчо забылы Скірмунта, булы гулякамы, любылы вы-пыты, пагуляты* (Фёдар Хвясюк).

Калі Рамана і Баляслава Скірмунтаў везлі на смерць, нехта з парэчан паспрабаваў заступіцца: *«Шчо вы робытэ? Куды вы його выдэтэ?» І почуў у адказ: «Моўчы, бо і тобі гэтэ будэ шчэ!»* (Анастасія Вакульчык).

Марыя Нікалайчык (1920 г. нар.) распавяла, што людзі плакалі, а Скірмунт сказаў: *«Я з вамы прошчаюса назаўсёды. Спадзяюся, што нікому не зрабіў кепскага»*. У адказ на пытанне, чаму ж вы не абаранілі чалавека, суразмоўцы разводзілі рукі і адказвалі: *«А як жа абароніш? Нічога не зробіш!»* (Марыя Кучынская).

Прыгадвалі, што перад смерцю Раману Скірмунту загадалі адвярнуцца ад забойцаў. Ён адмовіўся: *«Я ад людзей ніколі не адварочваўся»*. І дадаў: *«Я б вам не саветаваў гэта рабіць, бо вы маладыя. Я ўжо аджыў свае гады»* (Анастасія Вакульчык). У аднаго з забойцаў нават ружжо з рук выпала. Але сваю злачынную справу яны давялі да канца. Галоўным выканаўцам быў Сільвестр Лукашык (вясковае прозвішча «Соловэй»).

Найбольш поўны аповед пра забойства «пана» належаў Мікалаю Калбаску (1925 г. нар.) з в. Рудка. Прывяду фрагменты інтэрв'ю, запісанага ў 2004 г.:

*Бачыў, як вызлы його страляты [...] Мы, хлопчыкі тагді короў паслы. Гадоў 14 було. Його вызлы, кучар сыдіў, пара коней з Парычча, і тры ішлі з ружжамі ззаду. А він і шурын його з Варшавы (прыехаў да яго ў госты)... І тут ужо большовыкы захватылы його, да ўсё. А він нікуды ны ўтыкаў. [...] Його вызлы Козак, Соловэй і Просіф. [...] Соловэй – гэтэ маей мамы сыстры буў шурын. Я Солоўя добрэ помню. [...] Трое ззаду з ружжамі ішлы, а кучар упэраді, а оны ў капэлюшах сыділы ззаду. Повозка наслана була – салома, адэяла засланэ було, усё хорошэ. Сумок ны було. [...] І тому пану і шурыну той Соловэй казаў: «Одвырныса задом. Коб у зад стрыляты. А він говорыты: «Я од людэй ны одворочваўса. Хто до мынэ прыходыў, я каждому помоч даваў». У ліцо выстрылиў. Так тому Солоўю він мо годоў з дэсять, мо і бульш, як застрэліў, так у вочах усё врэмя стояў. Шчо ў ліцо стрыляў.*

– Адкуль вядома, што гэта Скірмунт сказаў? Няўжо Соловэй пра гэта распавядаў?

*Ну, пэўно! Там буў такі Сак Коля. Так він ёму казаў, як пана стрыляў. А той буў хорошы і з панам, і з тым. Він у пана служыў, стары Сак. Скірмунт кажэ: «Чы я тыбэ колі тронуў, а ты хочэш мынэ застрэлыты». О, пан хорошы буў Скірмунт.*

– А можа, якая крыўда была на Скірмунта?

*Якая там крыўда!? Він на роботу до Скірмунта не хадыў ныяк! Стары Паўлюк Лукашык (Гарбарук) мні казаў, што він на роботу ны ходыў. А свое поле ны обробляў.*

*[…] На другі дэнь мы бігалы туды, на Корэнь, дэ маёнток буў. Кілометрэў два ці тры. І там булы такы здоровы дубы. […] Калі мы прыйшлі тые місцэ глядзець, дэ застрэлылы, то адын з Рудкі хлопэц дажэ туфлі сорваў. Ны знаю, чы з пана, чы з того, бо ногы наверсы булы ў одного. Іх толькы прысыпалы. Булы там тры годы. А колы німцы прыйшлы, прыіхала сыстра. Она собрала костачкы і поховала ў Парыччы, дэ дарога на Чамырын. […] Во, шчо я знаю про Скірмунта. Хорошы мужык буў!*

– Людзі гавораць, што калі Скірмунт не захацеў адварочвацца, то двое з тых забойцаў кінулі стрэльбы і ўцяклі. Застаўся адзін Соловэй, які і забіў іх. Гэта праўда?

*Гэтого я ны знаю. Можэ так і було. Только я знаю, шчо Скірмунту Соловэй казаў: «Одвырныса» А він говорыт: «Я од людэй ны одворочваўся». Гэто ў Парыччы мні расказвалі. Кажэ: «Хто до мынэ обрашчаўся, я каждому помоч даваў». Помогаў хаты робыты, грошыма помогаў, даваў усё. Колы-то ў Варшаве буў Сэнат, як зарэ Дума, так він жэ тожэ участвоваў там. То він сказаў, шчо ўсю зымлю трэба ў помешчыкаў забраты і оддаты людям. Помешчыкам надо покынуты по 40 гектар. Хватыты з іх. А ўсю зымлю зобраты і народу роздаты. Дык у ёго стрылялы, і він чэрэз окно выпрыгнуў. Тая Дума (ілі як) стрыляла. Матка моя расказвала. Він сам прыіхаў у Парыччэ і народу казаў, што так выступаў, а по мні стрылялы. Хорошы мужык буў.*

– Але ж і ён бы зямлю страціў.

*А він не жалеў. Холосцяк буў, дыты ны було ў ёго. Як застрылылы ёго, то ёму було 72 годы. Матка расказвала. Той другі Скірмунт буў малодшы. Він з Варшавы ў госты прыіхаў. Можэ од німцоў утыкаў. А сыстры ны було. Коб сыстра була, то і сыстру б застрэлылы. Ужэ пры німцах сыстра прыіхала, іх одкопала і похороныла.*

– А чаму Скірмунт не з’ехаў, калі Саветы ішлі?

*Він народу добрэ робыў, він ны бояўса. Хто мыны заб’е? Він врэды ны робыў. […] У концы він мог быты прызідэнтом.*

А вось фрагмент аповеду Соф’і Хвясюк (запіс 2015 г.):

*Той чоловік, што пана ўбіваў жыў недалёко от маей сяястры. Яна расказвала: Вязуць пана Козак Лысыков (не знаю як яго зваты), Гарбарук Соловэй (Лукашык)*

*і Пархомчук (тылько не знаю як яго зваты)… І вязуць пана і панавай сястры мужа. Сядзяць на возу. Ужас! Сястра говорыць, што не магла дывіцца, плакала. […] І всым сілом везлі яго і завезлі яго на Корань. Там Холожын дзерэўня, а когда-то там часнікі булы, самі людзі кірпыч робылы. Там цыгельня була, і булы вялікія ямы. І завізлы туды того пана і яго швагра, і поставілы стрэляты… А той Соловэй кажэ: «Одвэрнісь». А він кажэ: «Я од людзей своіх не адворочваўся, а от цебя, подлеца тем более я не одвернусь». І прама яму ў глаза дывіўся. […] І іх пострэлялы, і там в тых ямах прысыпалы зымлёй.*

А вось як пераказаў успаміны парэчанкі Хрысціны Цярлецкай (1912 г. нар.) пра гэтую трагічную падзею пінскі журналіст Вячаслаў Ільянкоў:

*Однажды я свидетельницей была, как Селивестр Лукашик подвыпил и рассказывал: Завели мы их и заставили яму копать. Роман отказался: Я не заслужил себе могилу рыть. Болеслав помоложе был, сразу струсил, потерялся. Заметил это Скирмунт, обоперся на сук – тяжело стоять, шли долго – и просит: «Быстрей делайте, что решили».*

*«Повернись», – говорю ему.*

*А он смотрит на меня: «Я ничего плохого людям не делал». Ударил его, а он говорит: «Не думайте, что прошусь, свое прожил, но вы не берите грех на душу».*

*Цудило винтовку кинул, Пархомчук тоже побежал. Пришлось мне кончать*[8].

Паводле Вацлавы Нээф, забойства адбылося 7 кастрычніка 1939 г. Целы забітых былі скінуты ў вырытую магілу і прысыпаны зямлёй…

Пасля забойства Рамана Скірмунта палац быў разрабаваны. Рэспандэнты звычайна адмаўляліся распавядаць пра лёс сядзібы, маўляў, «не памятаем». Толькі Мікалай Куцко прызнаўся, што ў пэўны момант вёска пайшла рабаваць палац. А Яўдакія Пракопчык (1928 г. нар.) удакладніла: *Бяднейшыя ўсё расцягнулі. Тыя, што працавалі на пана, не пайшлі. […] Усё пазабіралі... лыжкі, талеркі...* Яна ж прыгадала, што мэблю з палаца забрала згаданыя «камісары». І тут ізноў фігураваў Холадаў…

Большасць рэспандэнтаў у забойстве «добрага пана» вінаваціла выключна «сваіх» і сцвярджала, што савецкае «начальства» не мела дачынення да гэтай трагедыі. Толькі Харыта Чырко (1913 г. нар., в. Парэчча) заявіла, што смяротны прысуд вынеслі якраз «камісары»: *Савецкі булы люды, ну, то тые его прыговорылы, што забіты. […] Тэе начальство, што оно наіхало, а не поріцкія. Поріцкі […] то его век не далы б забіты. Нікогда б не далы, бо він хорошы чоловік быв. Він такі, бідных людэй так він шкодовав.*

Амаль усе запісаныя аповеды пра забойства Рамана і Баляслава Скірмунтаў утрымлівалі згадкі пра «божую кару» для забойцаў. Паводле аповеду С. Хвясюк, Сільвестр Лукашык («Соловэй») часта жаліўся сваёй сястры: «*Хрысцечка, і ходзю, то ў вачах мне пан стоіць, і ложусь, і встаю, і в ноч, і в дзень у вачах стаіць.*

[8] В. Ильенков, *Трагедия Скирмунтов*, «Пинский вестник». 1992, 25 сакавіка.

*Як дывіўся ў вочы, так у вачах стаіць» […] А той Пархомчук, то яго німцы забралі. Бацька казав… І там быв Рабы мост, і там яго немцы мучылі: «Што ж ты зрабыв? Нашчо Скірмунта ўбів?» Он погыб там. Трэці Цудзіла я не знаю дзе…*

Іншыя суразмоцы прыгадвалі, што «Соловэй» хварэў на сухоты і выглядаў як *шкілет абцягнуты скурай*. Усцім Пархамчук («Козак»), паводле іншай версіі, падчас нямецкай акупацыі хаваўся ад немцаў і ад парэчан. А калі памёр, то быў закапаны жонкай у бульбяной яме. Тры ягоныя сыны трагічна загінулі[9]. Іван Цудзіла («Просіф») пасля вайны з'ехаў у Расію і згінуў без следу.

Вясковая калектыўная нарацыя перадае адчуванне вялікай несправядлівасці, якая здзяйснялася ў Парэччы. Яна відавочная ў прыгаданых апошніх словах Рамана Скірмунта, у абурэнні забойствам, у агульным перакананні ў «божай кары» для забойцаў. За ўсе гады даследаванняў па вуснай гісторыі ў гэтым рэгіёне не знайшлося аніводнага суразмоўцы, які б не асудзіў злачынцаў і не сказаў добрыя словы пра Рамана Скірмунта. Амаль усе падкрэслівалі вытрымку «пана», які і перад смерцю захоўваў яснасць думкі і годнасць. Загад адвярнуцца ён не выканаў. Глядзеў у твар смерці, якая прыйшла з той вёскі, якую ён любіў, і жыхарам якой так часта дапамагаў.

Варта звярнуць увагу на апошнія словы, якія, паводле вяскоўцаў, казаў Раман Скірмунт перад смерцю: «*Я ад людзей ніколі не адварочваўся…*» Магчыма, сапраўды, квінтэсэнцыяй ягонага жыцця была гатоўнасць дапамагаць людзям, падтрымліваць тых, хто апынуўся ў цяжкай сітуацыі.

Аналізуючы вусныя ўспаміны, між волі звяртаеш увагу і на тое, што постаць забітага Баляслава Скірмунта і ягоны трагічны лёс засталіся ў цені Рамана. Быццам людзі асуджалі не столькі самое забойства, колькі забойства менавіта «добрага пана».

На пачатку нямецкай акупацыі прах Рамана і Баляслава Скірмунтаў быў пахаваны ў парку, які некалі заснаваў сам гаспадар маёнтка. З аповеду Соф'і Хвясюк: А *после, як прышлі ўжэ німцы, прыіхала сястра Скірмунта з Польшчы… А мы жылі на хутары, і дарога тут була. І немцы поіхалы, а людзі з Холожына показалы, дзе іх пострэлялы. Німцы досталы, і в гробах повезлы. І покіль нас везлы. Кінь чорны. Збруя з такімі белымі гузічкамі. Гроб чорным абабіты і очэнь разукрашэны… Одын военны кіня погоняе, а німцы з адного боку і з другого ідуць вооружоны. Одна фурманка з гробом поіхала. Другая фурманка такасама. Трэця фурманка едзе, і сядзіць ужэ сястра Скірмунта, чорным накрыта. Ззаду дзесяць, мо і больше німцов ішло вооружоных. Пана повызлі прамо ў яго ліс, у урочышча Лісына, у Корчэва. І вот там яго сястра і похороніла.*

Як ужо адзначалася, 20 верасня 1939 г. у суседнім Моладаве былі забітыя

---

[9] В. Кучынскі, *Бог пакараў сям'ю забойцы,* «Народная воля». 2010, 18–19 красавіка.

ўладальнік маёнтка Генрык Скірмунт і яго сястра Марыя[10]. Наогул, на Піншчыне былі рэпрэсаваныя ўсе Скірмунты, якія не пакінулі родныя мясціны ў верасні 1939 г. Падобна, што ва ўласным ложку памёр толькі старэйшы брат Рамана Аляксандр Скірмунт (1858–1940). Скірмунты падзялілі лёс шматлікіх польскіх землеўласнікаў, якія разам з дзеячамі беларускага нацыянальнага руху былі першай ахвярай савецкіх рэпрэсій у Заходняй Беларусі. Пазней прыйдзе чарга мясцовай інтэлігенцыі, польскіх і беларускіх «кулакоў», габрэйскай «буржуазіі».

У 1990-я гг. у парэчскім парку быў пастаўлены помнік Скірмунтам – жалезны крыж з надпісам па-польску. Ужо ў XXI ст. паблізу першага крыжа на меркаванай магіле Скірмунтаў з’явіўся драўляны крыж з надпісам па-беларуску...

Сумныя думкі нараджаюцца каля гэтага крыжа. Лёс многіх таленавітых сыноў і дачок Беларусі быў надзвычай трагічным. Звычайна – гэта самотнасць, перадчасовая смерць ці выгнанне на чужыну. Дачка ўладальніка сядзібы ў Бакінічах Станіслава Скірмунта Тэрэза, дзяцінства якой прайшло ў адным з калгасаў Казахстана, у размове заўважыла, што трагедыя Беларусі не толькі ў тым, што вынішчылі найлепшых. Самым жахлівым было тое, што роль непасрэднага ката часта выконвалі самі беларусы. Быццам забівалі ўласную будучыню.

Аднак нельга забываць пра прысутнасць у Парэччы «камісараў». Упэўнены, што гэтае забойства не магло адбыцца без іх дазволу ці загаду. Забойцы папросту зрабілі тое, чаго дамагалася новая ўлада. Геранім Тукальскі-Нелюбовіч ва ўспамінах сцвярджаў, што г. зв. «народны гнеў» восені 1939 г. быў арганізаваны савецкай уладай і «камісарамі»[11]. Яны змянілі тактыку знішчэння «класава чужога элементу» і пачалі дзейнічаць рукамі мясцовых прыхільнікаў бальшавізму. Таксама нельга выключаць матываў, звязаных з прагай нажывы і хцівасцю прадстаўнікоў новай улады. Менавіта пасля забойства Скірмунтаў пачаўся рабунак сядзібы, а першымі рабаўнікамі былі якраз згаданыя «камісары».

На зварот у Архіў КДБ Беларусі ў студзені 2018 г. атрымаў адказ: «...Паведамляем, што матэрыялаў, якія тычацца асобы і дзейнасці Рамана Аляксандравіча Скірмунта ў фондах архіваў органаў дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь не маецца». Намеснік начальніка Цэнтральнага архіва КДБ сп. Варапаеў, які падпісаў гэты адказ, параіў звярнуцца да выданняў, якія распавядаюць пра дзейнасць органаў дзяржаўнай бяспекі…

---

10 В. Ильенков, *Трагедия Скирмунтов,* «Пинский вестник». 1992, 25 сакавіка; ён жа, *Скирмунты*, «Пинский вестник». 1993, 27 студзеня; А. Сідлярэвіч, А. Смалянчук, *«Добры быў пан...»,* «Спадчына». 2000, № 5–6; У. Арлоў, *Раман Скірмунт* (у:) Імёны свабоды. Менск, 2007; А. Дзікавіцкі, *Помнік над катлаванам,* «Наша Ніва». 2001, 23 ліпеня; А. Смалянчук, *Успамін пра Рамана Скірмунта,* «Наша Ніва». 2000, 18 снежня; А. Смалянчук, *«Сфінкс» беларускай гісторыі?,* «Биржа информации». 1999, 10 июня.

11 H. Tukalski-Nelubowicz, *Pół wieku wspomnień*…, k. 30–31.

## *«Скірмунт» як вобраз прыгнятальніка*

Пасля 1939–1940 гг. Скірмунты зніклі з далягляду беларускай гісторыі, а «добры пан» Раман Скірмунт у выніку намаганняў савецкіх гісторыкаў стаўся сімвалам «панскага прыгнёту».

Гістарыяграфічнае «забойства» Рамана Скірмунта пачалося яшчэ ў даваенны час. Яно было непасрэдна звязана з імкненнем камуністычных ідэолагаў асудзіць і перакрэсліць усе культурніцкія і палітычныя намаганні беларускага нацыянальнага руху пачатку XX ст., якія маглі прывесці да стварэння несавецкай беларускай дзяржавы. Стаўленне савецкіх гісторыкаў да асобы Скірмунта цалкам вызначалася іх надзвычай негатыўнымі ацэнкамі «беларускага буржуазнага нацыяналізму». Імкнучыся пераканаць чытача ў ягонай «антынароднай» сутнасці, многія аўтары ішлі на свядомую фальсіфікацыю мінулага Беларусі.

Адна з першых згадак палітыка і краёўца ў беларускай савецкай гістарыяграфіі належала актыўнаму змагару з «нацдэмаўшчынай» Андрэю Зюзькову[12]. У артыкуле «Беларускія нацдэмы – супроць Кастрычніка» (1934) ён сцвярджаў імкненне «нацыянальнай буржуазіі» да кансалідацыі пасля звяржэння самаўладдзя ў лютым 1917 г. Паводле Зюзькова, адным з «агульна нацыянальных інстытутаў» буржуазіі быў «Беларускі нацыянальны камітэт, у якім аб'ядналіся прадстаўнікі БСГ, лічыўшыя сябе «левымі», і памешчык Скірмунт, і ксёндз Гандлеўскі»[13]. Таксама аўтар прыгадаў «князя Радзівіла» як фундатара Беларускага нацыянальнага камітэта (БНК). Варта заўважыць, што для гісторыка 1930-х гг., як і для большасці тагачаснага савецкага грамадства, ужо самі словы «памешчык», «ксёндз» і «князь» мелі выразна адмоўную канатацыю.

Аўтар асуджаў дзеячаў Беларускай сацыялістычнай Грамады (БСГ) за тое, што яны не жадалі працягваць рэвалюцыю паводле ленінскіх лозунгаў, імкнуліся захапіць уладу, каб стварыць «уласную» нацыянальную дзяржаву. Паводле Зюзькова, аб'яднанне БСГ і Скірмунта «адразу адштурхнула ад сябе масы беларускіх рабочых і сялян». Патрабаванне аўтаноміі Беларусі ў межах Расіі, на ягоную думку, тлумачылася страхам буржуазіі, што «адна яна не здолее спыніць пралетарскі рух і рэвалюцыю». Вельмі крытычна і эмацыйна ацэньвалася праграма БНК, асабліва ў раздзелах, што датычылі аграрнага і канфесійнага пытанняў, стаўлення да вайны і надзей на Устаноўчы сход. «Дык чаго можна было і чакаць ад ксяндзоў, папоў, паноў, памешчыкаў і іх лёкаяў, хоць большасць з іх і звала сябе "соцыялістамі?"»[14] – рытарычна запытваў аўтар. Ён пераконваў чытачоў, што

---

[12] Андрэй Зюзькоў (1904–1938) падзяліў трагічны лёс тых «нацдэмаў», з якімі ён зацята змагаўся на старонках сваіх кніг. У лістападзе 1937 г. ён быў арыштаваны НКВД, а ўлетку 1938 г. расстраляны ў Менску.

[13] А. Зюзькоў, *Беларускія нацдэмы – супроць Кастрычніка* (у:) Кастрычнік на Беларусі. Мінск, 1934, с. 100. Ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага ён называў «Гандлеўскім».

[14] Тамсама.

толькі «партыя Леніна і Сталіна», а таксама «дапамога больш перадавога рускага пралетарыяту» дазволілі рабочым і працоўным сялянам Беларусі стварыць БССР. Беларуская Народная рэспубліка (БНР) наогул не згадвалася.

Ужо ў пасляваенны час пра БНР як «буржуазна-памешчыцкую дзяржаву» пісала Ніна Каменская (1913–1986) у *Гісторыі Беларускай ССР* (том 2, 1958). Яна характарызавала нацыянальных дзеячаў як «верных паслугачоў» нямецкіх акупантаў, якія «імкнуліся парваць шматвяковыя сувязі працоўных мас Беларусі і Расіі і ператварыць Беларусь у калонію капіталістычных дзяржаў». Каменская сцвярджала, што ў ліпені 1918 г. «крайні рэакцыянер і памешчык» Раман Скірмунт узначаліў «Часовы ўрад Беларусі», які дапамагаў акупантам «падаўляць рэвалюцыйны рух рабочых і сялян»[15]. Гэты тэзіс быў паўтораны ў рускамоўным выданні гэтай кнігі (1961). Праўда, у тэксце ўжо адсутнічала згадка пра несавецкую форму беларускай дзяржаўнасці[16].

Варта адзначыць першую публікацыю дакументаў пра стварэнне БНК і ягоныя мэты ў зборніку *Революционное движение в России после свержения самодержавия. Документы и материалы* (Москва, 1957). Там была змешчана інфармацыя газеты «Речь» (Петраград) пра сакавіцкі з’езд беларускіх арганізацый у Менску (1917), стварэнне БНК і ягоную дэкларацыю ў падтрымку Часовага ўрада. Таксама публікавалася *Докладная записка делегации Белорусского национального съезда* ад 14 красавіка 1917 г. з інфармацыяй пра рашэнні з’езда, падпісаная Раманам Скірмунтам і яшчэ шасцю сябрамі дэлегацыі[17]. У дакуменце гаворка ішла галоўным чынам пра неабходнасць беларусізацыі сістэмы адукацыі і паскораны ўвод установаў земскага і гарадскога самакіравання на дэмакратычных пачатках. Гэтыя дакументы не суправаджаліся каментарамі і стваралі цалкам пазітыўны вобраз дзеячаў беларускага руху, у т. л. Рамана Скірмунта. Аднак маскоўская публікацыя нічога не змяніла ў ацэнках гісторыкаў у БССР, якія ішлі ў першых шэрагах змагароў з «беларускім буржуазным нацыяналізмам».

Любімым сюжэтам некалькіх пакаленняў гэтых гісторыкаў былі згадкі пра сялянскія хваляванні ў маёнтку Скірмунтаў у в. Пінкавічы (Пінскі пав.) увосень 1905 г., у якіх удзельнічаў мясцовы настаўнік Канстанцін Міцкевіч (*Якуб Колас*). Звычайна, адзначалася, што памешчык Скірмунт не прыняў патрабаванняў, і сяляне пачалі самавольную лоўлю рыбы ў возеры[18].

---

15 *Гісторыя Беларускай ССР.* Т. II. Пад рэд. І. С. Краўчанкі, Н. В. Каменскай. Мінск 1958, с. 93.

16 *История Белорусской ССР в 2-х т.* Второе доп. изд. Под ред. Л. Абецедарского, Т. Горбунова и др. Т. 2. Минск 1961, с. 103.

17 *Революционное движение в России после свержения самодержавия. Документы и материалы*. Под ред. Л. С. Гапоненко. Москва 1957, с. 739, 746.

18 *Гісторыя Беларускай ССР.* Т. I. Пад рэд. В. Н. Перцава, К. І. Шабуні, Л. С. Абэцадарскага. Мінск 1955, с. 379; *История Белорусской ССР в 2-х т.* Второе доп. изд. Под ред. Л. Абецедарского, Т. Горбунова и др. Т. 1. Мінск 1961, с. 504; Л. Абэцадарскі, *У святле*

Канстанцін Шабуня ў манаграфіі, прысвечанай сялянскаму руху ў Беларусі падчас рэвалюцыі 1905–1907 гг., прывёў кароткія звесткі пра хваляванні ў в. Моладава (Кобрынскі пав.), падчас якіх сяляне фактычна паралізавалі жыццё маёнтка Скірмунтаў. Адзначалася, што пры падаўленні гэтых хваляванняў быў забіты селянін і былі параненыя[19]. Ён жа паведаміў, што сяляне спынілі працу на ўсіх прадпрыемствах «памешчыка Скірмунта» ў Парэччы (Пінскі пав.) і выступілі з «эканамічнымі патрабаваннямі»[20].

Дарэчы, суконная фабрыка Аляксандра Скірмунта ў Парэччы часта прысутнічала ў беларускай гістарыяграфіі як ілюстрацыя да раздзелаў, прысвечаных эканамічнаму развіццю[21]. Таксама ў томе 1 *Гісторыі Беларускай ССР* (1972) фігуравала нібыта выява «сядзібы памешчыка Скірмунта першай паловы XIX ст. Пінскі павет»[22]. Насамрэч, на рэпрадукцыі можна было ўбачыць палац Сымона Скірмунта ў в. Моладаве Кобрынскага пав.

Трэба адзначыць, што звычайна гісторыкі карысталіся толькі прозвішчам Скірмунта, не згадваючы імя прадстаўніка роду. У выніку ў беларускай савецкай гістарыяграфіі з'явіўся нейкі «бессмяротны» Скірмунт, які з канца XVIII і да пачатку XX ст. прыгнятаў сялян і рабочых, душыў сялянскія хваляванні, узначальваў беларускіх «буржуазных нацыяналістаў» і вёў «контррэвалюцыйную дзейнасць». Так, напр., М. Матусевіч, характарызуючы канцэнтрацыю капіталаў у Беларусі, прывёў прыклад «памешчыка Скірмунта» з Пінскага пав., якому належала «пяць вінакурных, дрожджава-вінакурны, соладавы, піваварны, лесапільны і шкіпінарны заводы»[23].

Толькі Канстанцін Шабуня вярнуў «Скірмунту» імя, дакладней ініцыялы. Распавядаючы пра выбары ў I Дзяржаўную Думу (1906), ён паведаміў пра абранне «буйнога памешчыка Р. А. Скірмунта». Упершыню ў гістарыяграфіі Раман Аляксандравіч Скірмунт быў згаданы не ў сувязі з «контррэвалюцыйнай дзейнасцю». Паводле К. Шабуні, у Думе ён «абараняў прынцып недатыкальнасці прыватнай уласнасці на зямлю і, прыкідваючыся прыхільнікам інтарэсаў сялянства, абараняў іх зямельную ўласнасць»[24]. Пры гэтым гісторык каратка пераказаў асноўныя аргументы дэпутата, які сцвярджаў, што ліквідацыя прыватнай уласнасці на зямлю абернецца панаваннем бюракратыі, пазбавіць сялянства заробкаў,

*неабвержных фактаў*. Мінск 1969, с. 104; *Гісторыя Беларускай ССР.* У пяці тамах. Пад рэд. І. М. Ігнаценкі ды інш. Т. 2. Мінск 1972, с. 380.

19 К. Шабуня, *Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг.* Мінск 1962, с. 284. Даследчык выкарыстаў матэрыялы перыядычнага друку. Насамрэч, забітых у Моладаве не было (заўвага – *А. С.*).

20 Тамсама, с. 274.

21 Гл., напр. *История Белорусской ССР в 2-х т.* Т. 1, с. 382.

22 *Гісторыя Беларускай ССР.* У пяці тамах. Пад рэд. І. М. Ігнаценкі ды інш. Т. 1, с. 550.

23 Тамсама. Т. 2, с. 249.

24 К. Шабуня, *Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии*…, с. 352, 367.

прывядзе дзяржаву да эканамічнага крызісу і банкроцтва, і, нарэшце, створыць небяспечны прэцэдэнт для выступаў за адмену прыватнай уласнасці на іншыя сродкі вытворчасці. Таксама быў адзначаны намер Рамана Скірмунт «па меры магчымасці садзейнічаць паляпшэнню сялянскай гаспадаркі і павялічэнню плошчы землеўладанняў»[25]. Фактычна, гісторык даў магчымасць чытачу пазнаёміцца з крытычнай ацэнкай наступстваў сацыялістычных пераўтварэнняў у вёсцы.

Але падобны падыход быў рэдкім у беларускай савецкай гістарыяграфіі. Выразна дамінавала пазіцыя, сфармуляваная ў *Очерках истории Коммунистической партии Белоруссии* (1968). Старонкі гэтых нарысаў, прысвечаныя падзеям 1917–1918 гг., сёння немагчыма чытаць без абурэння. Ужо згаданая Ніна Каменская характарызавала БНК як «контрреволюционный комитет», а БСГ называла «кучкой политических авантюристов, перешедших затем на службу иностранных разведок», «социал-предателями»[26]. Першы Усебеларускі з’езд снежня 1917 г. ацэньваўся як «заговор черносотенных элементов против Советской власти». Сцвярджалася існаванне ў ліпені 1918 г. нейкага «Часовага ўрада Беларусі» (?!) на чале з «крайним реакционером помещиком Скирмунтом». Паводле Каменскай, Рада БНР «раболепствуя перед немцами, в тоже время обратилась к правительству США и предложила американским империалистам купить богатства Белоруссии […] Ненавидя Советскую власть, буржуазные националисты готовы были превратить Белоруссию в колонию иностранных империалистов»[27]. Тут і каментары не патрэбныя…

Адзін з найбольш вядомых і ўплывовых у 1960–70-я гг. савецкіх гісторыкаў Лаўрэнці Абэцэдарскі (1916–1975) таксама далучыўся да кампаніі пасмяротнай расправы з Раманам Скірмунтам і дзеячамі беларускага руху. Па даручэнні ўлады ён выступіў з крытыкай «буржуазных фальсіфікатараў гісторыі» ў брашуры *У святле неабвержных фактаў* (Мінск, 1969), якая выйшла накладам у 30 тыс. асобнікаў (!).

Аўтар прыгадаў Рамана Скірмунта ў раздзеле, прысвечаным «развянчанню міфа гітлераўскіх паслугачоў» наконт адсутнасці беларускай буржуазіі. Падчас гэтага «развянчання» гісторык прыгадаў, што «буйныя землеўласнікі Скірмунты» былі «сапраўднымі прадпрыемцамі, капіталістамі». Раман Скірмунт быў згаданы як кіраўнік «контррэвалюцыйнага, самазванага Беларускага Нацыянальнага камітэту». Абэцэдарскі таксама распавёў пра канфлікт Р. Скірмунта з сялянамі в. Альшанка ў 1912 г., падчас якога нібыта «ў крывавых стычках з паліцэйскімі,

---

25 Тамсама, с. 367.

26 *Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии*. В 2-х частях. Часть 1. Минск 1968, с. 287–288.

27 Тамсама, с. 414–415.

сцягнутымі з усяго павету на абарону маёмасці Скірмунта, многа сялян было цяжка паранена»[28].

Гэтыя ж ацэнкі палітычнай дзейнасці Рамана Скірмунта былі паўтораныя Верай Гняўко на старонках тома 3 *Гісторыі Беларускай ССР*[29]. У гэтым жа томе Н. Каменская ў раздзеле «Партызанскі рух на акупаванай тэрыторыі Беларусі» сцвярджала існаванне ў Менску ў лістападзе 1919 г. нейкага «Беларускага нацыянальнага камітэту на чале з памешчыкам Скірмунтам». Паводле аўтаркі, «у рабоце гэтага камітэту актыўна ўдзельнічалі ярые ворагі беларускага народу Варонка, Аляксюк, Ластоўскі і інш. БНК дапамагаў акупантам занявольваць беларускі народ, рабаваць яго нацыянальныя багацці». Старонкі гэтай кнігі, дзе разглядаюцца пытанні дзяржаўнага будаўніцтва на тэрыторыі Беларусі ў 1917–1920 гг. перапоўнены ненавісцю да дзеячаў беларускага руху як іншадумцаў.

Пытанне пра тое, каму было патрэбнае гэтае гістарыяграфічнае забойства Рамана Скірмунта, гучыць рытарычна. Расійскі гісторык Юры Афанасьеў вельмі трапна ахарактарызаваў савецкую гістарычную навуку як асобны навукова-палітычны феномен, гарманічна ўпісаны ў сістэму таталітарнай дзяржавы і прыстасаваны да абслугоўвання яе ідэйна-палітычных патрэб[30]. Камуністычная ўлада, якая нясе адказнасць за фізічнае забойства Рамана Скірмунта, паклапацілася і пра тое, каб ён застаўся ў памяці як сімвал прыгнёту і як абагульнены вобраз ворага беларускага народу.

Людзі, якія выконвалі гэтую замову, звычайна самі не лічылі сваю працу навуковай дзейнасцю. Можа не варта было пісаць пра гэтыя прапагандысцкія клішэ? Але ж адгалоскі той даўняй ідэалагічнай вайны з беларускай нацыянальнай ідэяй чуваць і сёння. Прычым яны адчувальныя нават у працах, што прэтэндуюць на самы высокі ўзровень прафесіяналізму. Так, падфарбаваныя савецкія тэзісы гісторыі беларускай дзяржаўнасці відавочныя ў апошніх працах вядомага беларускага гісторыка Вадзіма Круталевіча (1922–2006). У манаграфіі *История Беларуси: Становление национальной державности* (Менск, 1999) аўтар заявіў, што да паняцця беларускай дзяржаўнасці ў XX ст. маюць дачыненне толькі БССР і сучасная Рэспубліка Беларусь. Вытокі гэтай дзяржаўнасці, паводле В. Круталевіча, у Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. Гісторык шырока цытаваў бальшавіцкія выпады супраць БНР, сцвярджаў, што Рада БНР дыскрэдытавала сябе «угодничеством перед немецкими властями», падкрэсліваў «условность» тэрмінаў «Белорусская Народная республика», «Рада БНР» і паўтараў вядомую савецкую формулу: «БНР не состоялась».

Раман Скірмунт неаднаразова згадваўся ў кнізе. У прыватнасці, аўтар паведаміў, што на чале БНК у сакавіку 1917 г. стаў «крупный помещик Р. Скирмунт». У лютым

---

28 Л. Абэцэдарскі, *У святле неабвержных фактаў*. Мінск 1969, с. 104.

29 *Гісторыя Беларускай ССР.* У пяці тамах. Пад рэд. І. М. Ігнаценкі ды інш. Т. 3, с. 15.

30 Ю. Афанасьев, *Феномен советской историографии* (у:) Советская историография. Москва 1996, с. 37.

1918 г. падчас «активизации буржуазно-помещичьих кругов» ён увайшоў у Камітэт Менскага народнага прадстаўніцтва (Беларускага народнага прадстаўніцтва), які імкнуўся наладзіць супрацу з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ды інш.[31] У кнізе выразна дамінавалі ацэнкі і тэрміналогія гістарыяграфіі СССР/БССР.

Другая палова 1990-х – пачатак 2000-х гг. у беларускай гістарыяграфіі, прадстаўленай дзяржаўнымі інстытутамі, сталі перыядам рэанімацыі савецкіх ідэалагічных канцэптаў. Асабліва выразна гэта праявілася ў ацэнках ролі БНР і БССР у гісторыі дзяржаўнасці, а таксама ў трактоўцы польска-беларускіх адносін першай паловы XX ст. Яскравым прыкладам рэсаветызацыі гістарычнай навукі стаў зборнік дакументаў і матэрыялаў *Польша-Беларусь. 1921–1953* (2-е изд. Ред. А. А. Каваленя и др., Минск 2013). Ужо ў ананімнай прадмове (*Предисловие*, с. 3–27) падзел Беларусі на перамовах у Рызе тлумачыўся выключна імперскімі амбіцыямі польскіх палітыкаў, а эліта Польскай дзяржавы абвінавачвалася ў імкненні «развалить и расчленить СССР». Палітычнае жыццё ў міжваеннай Польшчы параўноўвалася з нацысцкай Германіей (?!), а агрэсія СССР у верасні 1939 г. тлумачылася імкненнем савецкага кіраўніцтва «прийти на помощь белорусам и украинцам». Адпаведна гэтым тэзісам былі падабраныя гістарычныя дакументы і матэрыялы. Міжволі прыгадваюцца словы аднаго з класікаў сусветнай гістарыяграфіі французскага гісторыка Люсьена Февра: «Самы агідны тып хлусні – гэта хлусня, якая абапіраецца на гістарычныя факты».

Выключна як спробу рэсаветызацыі трэба расцэньваць шматлікія выказванні беларускіх «гісторыкаў на пасадах» адносна значэння кастрычніцкіх падзей 1917 г. для айчыннай гісторыі. 100-годдзе Расійскай рэвалюцыі зноў актуалізавала гэтае пытанне. Напрыклад, чытаючы адказы С. Траццяка, М. Смальянінава, В. Гігіна, І. Марзалюка на пытанне карэспандэнта БелТА пра ролю і значэнне «Кастрычніцкай рэвалюцыі», нібыта вяртаешся ў 1987 г. Добра знаёмая савецкая ідэалагічная «жуйка»: «Октябрьская революция освободила народы от социально-экономического и национального гнета», «Октябрьская революция открыла для Беларуси практический путь к созданию своего государства», «Современная Беларусь – прямой наследник и правопреемник БССР, а БССР стала возможна только после Октябрьской революции»[32]. Быццам і не было амаль 30 гадоў развіцця гістарыяграфіі незалежнай Беларусі…

Пэўныя навацыі ў трактоўцы БНР з’явіліся толькі ў пачатку 2018 г, калі «прыдворныя гісторыкі» падкінулі грамадству ідэю «двух вытокаў» незалежнасці, звя-

---

[31] В. Круталевич, *История Беларуси: становление национальной державности*. Мінск, 1999, с. 22, 45, 204. Варта адзначаць, што на пачатку 1990-х гг. у працах В. Круталевіча фігуравалі больш аб’ектыўныя ацэнкі БНР і яе палітычных лідэраў (заўвага – *А. С.*).

[32] *Сто лет Октября: эксперты о достижениях и уроках революции 1917 года*. Рэжым доступу: http://www.belta.by/society/view/sto-let-oktjabrja-eksperty-o-dostizhenijah-i-urokah-revoljutsii–1917-goda–274565–2017/. Дата доступу: 03. 01 2018.

заных з БССР і БНР. Відавочна, што гэты праект нарадзіўся пры актыўным удзеле дзяржаўных чыноўнікаў з аддзелаў ідэалогіі. Агучаны ён быў І. Марзалюком падчас «круглага стала» ў рэдакцыі газеты «Звязда» ў студзені 2018 г. Між іншым, Марзалюк сцвярджаў, што «с начала 1918 г. в белорусском движении существовали и соперничали два течения – «белнацкомовцы» и «бэнээровцы». Каждое из этих течений отрицало другое, обвиняя в измене белорусскому делу и белорусскому народу. Объективно же – и те, и другие работали на благо Беларуси, стремились к созданию белорусской государственности»[33].

Насамрэч, у гэтай «навацыі» хаваецца чарговая ідэалагічная хлусня. Даследчыкі ведаюць, што галоўнай мэтай стварэння бальшавікамі Беларускага нацыянальнага камісарыяту і пазнейшага абвяшчэння БССР была якраз барацьба супраць ідэі незалежнасці Беларусі і тых людзей, якія спрабавалі яе ажыццявіць. БССР стваралася толькі дзеля таго, каб ніколі не паўстала незалежная Беларусь.

Пра ўсё гэта, магчыма, не варта было б і казаць, але рэсаветызацыя гістарычнай навукі ў Беларусі непасрэдна датычыць асобы Рамана Скірмунта і вяртання ягонага імя ў прастору беларускай культурнай памяці.

## *Вяртанне з нябыту*

Напачатку 1990-х гг. пачалі з'яўляцца даследаванні, аўтары якіх спрабавалі пераасэнсаваць ролю Рамана Скірмунта ў беларускай гісторыі, аспрэчвалі савецкі вобраз «Скірмунта-прыгнятальніка», а таксама імкнуліся зразумець стаўленне палітыка да беларускага руху.

Адным з першых быў вядомы беларускі гісторык і публіцыст Янка Запруднік. Выступаючы на канферэнцыі «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў» (Маладэчна, 1992) з рэфератам «Дваранства і беларуская мова», ён высока ацаніў крытычную пазіцыю Рамана Скірмунта як дэпутата Дзяржаўнай Думы адносна праектаў нацыяналізацыі зямлі, а таксама сцвердзіў беларускасць палітыка, які быў толькі «ўзгадаваны ў польскай культуры». Паводле Янкі Запрудніка, прыклад Скірмунта ды некаторых іншых прадстаўнікоў беларускіх губерняў у Думе сведчыць пра тое, што «беларускасць у розных формах і з рознай ступенню інтэнсыўнасьці праяўлялася сярод розных сацыяльных пластоў, у тым ліку сярод дваранства […] Гэта значыць, што беларускі нацыянальна-гістарычны гмах другой паловы XIX ст. ня быў канчаткова зруйнаваны аж да свайго сацыяльнага падмурку – сялянства, а былі яшчэ ў ім сьцены і нават крыху даху»[34].

---

[33] *1918-й год для нашей государственности: приобретения и потери.* Рэжым доступу: http://house.gov.by/ru/interview-ru/view/1918-y-god-dlja-nashaj-dzjarzhaunastsi-nabytki-i-straty–3551/. Дата доступу: 27.04.2018.

[34] Тэкст рэферату быў апублікаваны ў зборніку *Беларусіка=Albaruthenica. Кн. 2: Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.* Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Маладзечна, 19–20 жніўня 1992 г.). Мінск 1992,

Першая сустрэча аўтара гэтай кнігі з Раманам Скірмунтам адбылася падчас працы над дысертацыяй *Польскі грамадска-палітычны рух у Беларусі і Літве напярэдадні і падчас рэвалюцыі 1905–1907 гг.* (навуковы кіраўнік праф. Міхась Біч). Адной з першых публікацый быў артыкул *Раман Скірмунт: шлях да Беларусі* (1994), у якім разглядалася паступовая эвалюцыя светапогляду палітыка, які пачынаў дзейнасць як прадстаўнік «краёвай» плыні польскага руху, а ў 1916 г. далучыўся да беларускага Адраджэння і стаўся адным з ягоных лідэраў[35]. У шэрагу іншых маіх публікацый, прысвечаных феномену краёвасці, аналізаваліся погляды Скірмунта як аднаго са стваральнікаў кансерватыўнага (кансерватыўна-ліберальнага) накірунку гэтай ідэалогіі[36].

Пазней аб'ектам увагі сталі іншыя аспекты жыцця палітыка, звязаныя з беларускім нацыянальным рухам, у т. л. з дзейнасцю на чале Беларускага нацыянальнага камітэта і ў якасці сябра Рады БНР, паўсядзённым жыццём у Парэччы ў 1920–1930-я гг. уключна са спробай рэканструкцыі сродкамі вуснай гісторыі абставін трагічнай смерці, а таксама радавод Скірмунтаў[37]. Адначасна з навуковымі даследаваннямі праводзілася публічная дзейнасць па азнаямленню грамадскасці з асобай Рамана Скірмунта. Так, на працягу 2013–2018 гг. чыталіся

с. 29–36. Цытата паводле публікацыі: Я. Запруднік, *Дваранства і беларуская мова* (у:) *З гісторыяй на «Вы»*. Выпуск 3. Мінск 1994, с. 339–340.

35 А. Смалянчук, *Раман Скірмунт: шлях да Беларусі,* «Спадчына». 1994, № 6, с. 6–10 (артыкул рыхтаваў да друку Вінцук Вячорка).

36 Напр., А. Смоленчук, *Историческое сознание и идеология поляков Белоруссии и Литвы в начале XX в.*, «Славяноведение». 1997, № 3, с. 100–105; ён жа, *Краёвасць у беларускай і літоўскай гісторыі*, «Беларускі гістарычны агляд». 1997. Т. 4, сш. 1–2(6–7), с. 56–67; ён жа, *Ewolucja ideologii krajowej w społeczno-politycznej działalności Romana Skirmunta (1905–1921)* (у:) *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu.* Materiały z międzynarodowej konferencji naukowej w Instytucie Historii UAM w Poznaniu (11–12 maja 1998). Pod redakcją Jana Jurkiewicza. Poznań 1999, s. 267–280; ён жа, *Беларускі нацыянальны рух і краёвая ідэя*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne». 2000, Nr 14, с. 45–53; ён жа, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г.* 2-е выд. Санкт-Петербург 2004, 402 с.; ён жа, *«Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі*. Мінск 2017, 460 с. ды інш.

37 Напр., А. Смалянчук, «*Пакажэце ўсяму сьвету, што жыве Беларусь…» Раман Скірмунт (1868–1939) і дзейнасць Беларускага Нацыянальнага камітэту ў сакавіку – траўні 1917 г.* «Гадавік Цэнтра Беларускіх студыяў». 2016, № 2, с. 175–198; ён жа, *Жыццё і смерць Рамана Скірмунта (паводле вусных успамінаў жыхароў Пінічыны)*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne». 2002. T. 18, s. 214–222; ён жа, *Род Скірмунтаў у беларускай гісторыі*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne». 2004. T. 21, s. 169–177; ён жа, *«Добры быў пан...» Раман Скірмунт у вусных успамінах жыхароў в. Парэчча Пінскага раёну*, «Спадчына». 2002. № 5–6, с. 96–103 (разам з Алесяй Сідлярэвіч); ён жа, *Палеская вёска ў стасунку да пана* (у:) А. Смалянчук, *Беларуская гісторыя: знайсці чалавека.* Мінск 2013, с. 138–154 ды інш.

публічныя лекцыі, арганізацыі якіх паспрыяў Лятучы ўніверсітэт у Менску (каардынатар Таццяна Вадалажская) , Цэнтр гарадскога жыцця ў Гародні (кіраўнік Павел Мажэйка), праект «Мова нанова» (арганізатары Алеся Літвіноўская і Глеб Лабадзенка), Беларускі калегіум (каардынатары Ірына Дубянецкая і Аляксей Ластоўскі) ды інш.[38]

Гаспадарчыя аспекты дзейнасці сям'і Скірмунтаў на Палессі ўзняў у шэрагу артыкулаў даследчык гісторыі прадпрымальніцтва Андрэй Кіштымаў. Дзякуючы ягоным працам, у беларускай гістарыяграфіі прадстаўлены феномен прамысловага цэнтра Скірмунтаў у Парэччы і Моладаве, стварэнне якога распачаў яшчэ Аляксандр Скірмунт (1799–1870) на пачатку 1830-х гг.[39]

На рубяжы стагоддзяў артыкулы, прысвечаныя дзейнасці Рамана Скірмунта публікаваліся на старонках «Гістарычнага альманаха» (рэд. Аляксандр Краўцэвіч). У першую чаргу трэба адзначыць грунтоўнае даследаванне палітычнай біяграфіі нашага героя ў 1917–1918 гг., праведзенае Станіславам Рудовічам. Ён здолеў акрэсліць асноўныя вехі палітычнай кар'еры Рамана Скірмунта як беларускага дзеяча, выкарыстаўшы раней невядомыя гістарычныя крыніцы. Аўтар паказаў трагізм дзейнасці «беларускага дзеяча з вялікіх паноў» у складаных умовах Першай сусветнай вайны, абцяжараных супрацьстаяннем з прадстаўнікамі сацыялістычнай плыні беларускага руху[40]. Таксама варты ўвагі артыкул даследчыка з Пінска Аляксандра Ільіна, прысвечаны ўдзелу Рамана Скірмунта ў грамадска-палітычным і культурным жыцці Піншчыны ў 1920–1930-х гг.[41]

С. Рудовіч быў таксама аўтарам біяграмы Рамана Скірмунта, змешчанай на старонках *Энцыклапедыі гісторыі Беларусі* (том 6, кніга 1)[42]. У гэтым самым томе быў апублікаваны артыкул пра род Скірмунтаў Уладзіслава Вяроўкіна-Шэлюты[43].

Як бачна, беларуская постсавецкая гістарыяграфіі паступова пераадольвае спадчыну савецкіх часоў у трактоўцы ролі Рамана Скірмунта ў айчыннай гісторыі.

---

38 Гл., напр., Жыццяпіс Рамана Скірмунта як выклік для гісторыка. Рэжым доступу: https://www.youtube.com/watch?v=uZZfYDRoeRo. Дата доступу: 27.04.2018.

39 А. Киштымов, *Скирмунты–династия предпринимателей*, «Деловой вестник». 1994, № 9–10, с. 32; он же, *Западнополесская династия Скирмунтов XIX–XX вв.* (у:) *Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця заходняга рэгіёну Беларусі*. Рэд. С. В. Арцёменка ды інш. Брэст 1998, с. 88–92; он же, *Аляксандр Скірмунт (1799–1870)* (у:) *Славутыя імёны Бацькаўшчыны*. Выпуск 2. Мінск, 2003, с. 374–380.

40 Рудовіч С. «...*Беларускі дзеяч з вялікіх паноў*». *Эпізоды палітычнай біяграфіі Рамана Скірмунта*, «Гістарычны альманах». 1999. Том 2, с. 20–57.

41 А. Ільін, *Раман Скірмунт у грамадска-палітычным і культурным жыцці Піншчыны ў 20–30-х гг. 20 ст.*, «Гістарычны альманах». 2003. Том 8, с. 98–106.

42 С. Рудовіч, *Скірмунт Раман Мар'ян Аляксандравіч* (у:) *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*. Том 6. Кніга 1. Мінск 2001, с. 321.

43 У. Вяроўкін-Шэлюта, *Скірмунты* (у:) *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*. Том 6. Кніга 1, с. 321–322.

З «ворага беларускага народа» ён ператварыўся ў аднаго з ягоных лідэраў у важны перыяд гісторыі. З дзейнасцю Скірмунта пачалі звязваць альтэрнатыўны шлях развіцця Беларусі. Відавочная свайго роду нацыянальная прыватызацыя чалавека, які, насамрэч, быў не толькі палітыкам і думаў не толькі пра Беларусь...

Значную ролю ў аднаўленні памяці пра Рамана Скірмунта адыгралі краязнаўцы Піншчыны. Гэта ўжо згаданы рэдактар часопіса «Гістарычная брама» Аляксандр Ільін, супрацоўнік аддзела культуры Пінскага гарвыканкаму Эдуард Злобін, журналісты Вячаслаў Ільянкоў і Зміцер Кісель, настаўніца з Парэчча Антаніна Сідарук, настаўнік Валеры Кучынскі ды інш. Так, Вячаслаў Ільянкоў на старонках газеты «Пінскі веснік» (1992) змясціў кароткі нарыс гісторыі палескай галіны роду Скірмунтаў і адным з першых паспрабаваў аднавіць карціну забойства ў Парэччы, запісаўшы вусныя ўспаміны старэйшых вяскоўцаў[44].

Намаганнямі краязнаўцаў пры ўдзеле Тэрэзы Скірмунт з Варшавы і падтрымцы мясцовых уладаў была ўшанавана памяць Скірмунтаў у Моладаве і Парэччы. 2 жніўня 1992 г. у парку былога Парэцкага маёнтка быў усталяваны крыж з надпісам на польскай мове[45]. Пазней намаганнямі беларускіх суполак на меркаванай магіле Рамана і Баляслава Скірмунтаў быў усталяваны яшчэ адзін крыж з надпісам па-беларуску.

Захавальніцай памяці пра парэцкіх Скірмунтаў стала жыхарка Парэчча Антаніна Паўлаўна Сідарук, якая таксама кіруе музеем, прысвечаным жыццю і творчасці славутай беларускай паэткі Яўгеніі Янішчыц (1948–1988). Музей месціцца ў Парэцкай школе, а яго кіраўніцу не пакідае надзея на стварэнне музея памяці Рамана Скірмунта. Пры непасрэдным удзеле А. Сідарук у 2012 г. на ўскрайку Парэцкага парку была ўсталяваная шыльда з надпісам: *У в. Парэчча нарадзіўся і жыў вядомы беларускі палітычны і грамадскі дзеяч Раман Аляксандравіч Скірмунт (7. 05. 1868–7. 10. 1939).*

У 2009 г. сябры Беларускага гістарычнага таварыства сабралі сродкі на шыльду памяці Рамана Скірмунта як «патрыёта Беларуска-Літоўскага краю і кіраўніка ўрада БНР (1918)». У наступным годзе гарадзенскі скульптар Уладзімір Панцялееў вырабіў шыльду з выявай палітыка і грамадскага дзеяча. Яе ўсталяванне планавалася ў касцёле св. Сымона і св. Алены ў Менску. Аднак напярэдадні ўрачыстасці яна была адменена па незалежным ад арганізатараў прычынам. Сёння шыльда ўпрыгожвае сцены грэка-каталіцкай царквы ў Івацэвічах (Берасцейская вобл.).

Таксама трэба адзначыць працы польскіх даследчыкаў. Так, біяграма Рамана Скірмунта змешчана ў Польскім слоўніку біяграфічным (ПСБ), дзе наогул род Скірмунтаў прадстаўлены даволі шырока. Аўтары біяграмы Чэслаў Бжоза і Каміль Стэпан стварылі панарамную карціну яго дзейнасці як польскага палітыка, фраг-

---

[44] В. Ильенков, *Скирмунты,* «Пінскі веснік». 1992, 27 студзеня; ён жа. *Трагедия Скирмунтов,* «Пінскі веснік». 1992, 25 сакавіка.

[45] Б. п., *На магіле прэм'ера БНР*, «Свабода». 1992, № 7–8.

ментарна засяродзіўшы ўвагу на «краёвых» поглядах і дзейнасці ў беларускім руху 1917–1918 гг.[46]

У ПСБ таксама змешчаны біяграмы дэпутата Пастаяннай Рады Рэчы Паспалітай Адама Скірмунта (другая палова XVIII ст. – каля 1820 г.)[47], стваральніка прамысловага цэнтра ў Моладаве і Парэччы Аляксандра Скірмунта (1799–1870)[48], мастачкі Алены Скірмунт (1827–1874)[49], ксяндза і кананічнага дарадцы пасольства Польшчы ў Ватыкане Казіміра Скірмунта (1861–1931)[50], літаратара і кампазітара Генрыка Скірмунта (1868–1939)[51], палітыка і дыпламата Канстанціна Скірмунта (1866–1949), грамадскай дзяячкі і «краёвай» публіцысткі Канстанцыі Скірмунт (1851–1934)[52].

Беларуская палітычная дзейнасць Рамана Скірмунта была прадстаўлена на старонках кнігі, прысвечанай гісторыі БНР, даследчыцы з Торуня Дароты Міхалюк[53]. Яна пазначыла асноўныя вехі гэтай дзейнасці, апофеозам якой лічыла стварэнне ўрада БНР на чале са Скірмунтам. Імя Рамана Скірмунта таксама згадваецца ў публікацыях, датычных дзейнасці іншых прадстаўнікоў роду Скірмунтаў першай трэці XX ст., у прыватнасці згаданых Канстанціна[54] і Канстанцыі Скірмунт[55].

Таксама варта адзначыць працы літоўскіх і польскіх даследчыкаў, у якіх разглядаецца феномен краёвай ідэі і аналізуюцца погляды асобных краёўцаў. Без гэтых даследаванняў немагчыма зразумець той ідэйны кантэкст, у якім адбывалася

---

46 Cz. Brzoza, K. Stepan, *Skirmunt Roman (1868–1939)* (у:) *Polski słownik biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158. Warszawa-Kraków 1998, s. 184–187.

47 E. Zielińska, *Skirmunt Adam (2. poł. XVIII w.)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. T. XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 173–174.

48 St. Konarski, *Skirmunt Aleksander (1798–1870)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny.* T. XXXVIII/2, zeszyt 158, s. 174–175.

49 J. Polanowska, *Skirmuntowa (Skirmunttowa, Skirmuntt) Helena (1827–1874)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 187–189.

50 H. Fokciński, *Skirmunt Kazimierz (1861–1931)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. T. XXXVIII/2, zeszyt 158, s. 177–178.

51 Z. Dernałowicz, *Skirmunt (Skirmuntt) Henryk (1868–1939)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 175–177.

52 M. Nowik-Kiełbikowa, *Skirmunt (Skirmuntt) Konstanty (1866–1949)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 178–183; P. Łossowski, *Skirmuntówna (Skirmuntt) Konstancja (1851–1934)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 189–190.

53 D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920. U podstaw białoruskiej państwowości*. Toruń 2010.

54 M. Nowik-Kiełbikowa, *Konstanty Skirmunt. Polityk i dyplomata.* Warszawa, 1998; K. Skirmuntt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*. Wstęp i opracowanie Ewa Orlof, Andrzej Pasternak. Rzeszów 1997.

55 D. Szporer, *Gente Lithuana, natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmunt (1851–1934)*. Gdańsk 2009.

палітычная дзейнасць Рамана Скірмунта. У першую чаргу неабходна прыгадаць даследаванні вядомага польскага гісторыка права Юліуша Бардаха (1914–2010), якія актуалізавалі праблему вывучэння свядомасці «літоўскіх палякаў» XIX – пачатку XX ст. і сталі падмуркам даследавання краёвасці. Пра разуменне гісторыкам важнасці гэтай тэмы сведчыць і тое, што ягоны апошні артыкул таксама быў прысвечаны краёвай ідэі[56].

Адным з «піянераў» даследавання феномену краёвай ідэі з'яўляецца польскі гісторык Ян Юркевіч (Познань). Менавіта ягоная манаграфія, прысвечаная развіццю польскай палітычнай думкі на літоўскіх і беларускіх землях на пачатку XX ст., справакавала рост цікавасці да краёвай ідэі ў Літве і Беларусі[57]. У публікацыях Яна Юркевіча краёвасць атрымала найбольш грунтоўнае асвятленне. У 1998 г. гісторык ініцыяваў міжнародную навуковую канферэнцыю, прысвечаную краёвай ідэі і краёўцам, і быў рэдактарам зборніка яе матэрыялаў[58].

Іншы польскі даследчык Збігнеў Соляк стаў аўтарам грунтоўнага даследавання фарміравання светапогляду і дзейнасці аднаго з стваральнікаў ліберальна-дэмакратычнай плыні краёвасці Міхала Ромэра ў перыяд 1880–1920 гг.[59] Поспех ягоных даследаванняў быў немагчымы без супрацоўніцтва з віленскім асяродкам вывучэння краёвасці, які склаўся ў першай палове 1990-х гг. Трэба прыгадаць даследаванні краёвай ідэі і палітычнай дзейнасці М. Ромэра, праведзеныя літоўскім гісторыкам Рымантасам Мікнісам, і ягоную шматгадовую працу па выданні Дзённіка Міхала Ромэра (1911–1944), публікацыі Дарыюса Сталюнаса, а таксама Яна Савіцкага[60].

---

56 J. Bardach, *O dawnej i niedawnej Litwie.* Poznań 1988; idem, *Od narodów politycznych do narodów etnicznych w Europie Środkowowschodniej* (у:) *Mniejszości narodowe i religijne w Europie Środkowowschodniej.* Cz. 1. Lublin 1993; idem, *Polacy litewscy a inne narody Litwy historycznej. Próba analizy systemowej* (у:) *Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine. The foundations of historical and cultural traditions in East Central Europe*. Internacional Conference Rome, 28 April–6 May. Lublin-Rome 1990; idem, *O krajowcach, krajowości i patriotyzmie krajowym – dawniej i dziś* (у:) *Księga Wielkiego Księstwa Litewskiego. Ku europejskim tradycjom wspólnotowości, Sejny 2008, s. 495–531.*

57 J. Jurkiewicz, *Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905–1922.* Poznań 1983; idem, *Koncepcja krajowa a przemiany stosunków narodowościowych na Litwie i Białorusi w początkach XX w. (do 1918 r.)* (у:) *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu*. Materiały z międzynarodowej konferencji naukowej w Instytucie Historii UAM w Poznaniu (11–12 maja 1998). Pod red. J. Jurkiewicza. Poznań 1999, s. 119–134.

58 *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…*

59 Z. Solak, *Między Polską a Litwą. Życie i działalność Michała Romera. 1880–1920*. Kraków 2004.

60 R. Miknys, *O «Dzienniku» Michała Römera*, «Lithuania». 1998, Nr 4 (29); idem. *Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w.,* «Biuletyn historii pogranicza». 2000. Nr 1, s. 21–32 ды інш.; D. Staliunas, *Tadeusz Wróblewski a idea kulturalnej autonomii personalnej na Litwie na początku XX w.* (у:) *Krajowość – tradycje zgody*

Палітычную дзейнасць кансерватыўнай плыні краёўцаў закранталі ў сваіх даследаваннях польскія гісторыкі Раман Юркоўскі і Дарыуш Шпопэр[61]. Р. Юркоўскі ў шэрагу даследаванняў грунтоўна ахарактарызаваў светапогляд і палітычныя пазіцыі польскіх землеўласнікаў на беларускіх і літоўскіх землях. Менавіта яму належаць найбольш цікавыя даследаванні дзейнасці аднаго з прызнаных лідэраў «беларускіх палякаў» пачатку XX ст. Эдварда Вайніловіча[62]. Не абмінуў ён увагай і Рамана Скірмунта, які быў калегам і сябрам Вайніловіча. Д. Шпопэр прысвяціў асобнае даследаванне жыццю і дзейнасці Канстанцыі Скірмунт[63].

Варта адзначыць даследаванне краёвай ідэі беларускімі гісторыкамі[64]. Прычым апошнім часам тон задаюць гісторыкі і палітолагі з Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» (кіраўнік Андрэй Казакевіч). Менавіта па ініцыятыве гэтага асяродку была падрыхтавана электронная анталогія тэкстаў *Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX ст.*[65]

---

*narodów w dobie nacjonalizmu…*, s. 99–108 ды інш.; J. Sawicki, *Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego*. Toruń 1998; idem, *Michał Römer wobec problemów narodowościowych ziem Litewsko-białoruskich na początku XX w.* (у:) *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…*, s. 71–86 ды інш.

61 D. Szpopper, *Stronnictwo Krajowe Litwy i Białej Rusi: przyczynek do dziejów «koncepcji krajowej» w polskiej myśli konserwatywnej,* «Myśl konserwatywna». Jesień 1997, Nr 1. Idem. *Sukcesorzy Wielkiego Księstwa. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1904–1938.* Gdańsk 1999.

62 R. Jurkowski, *Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich 1864–1904. Działalność społeczno-gospodarcza*. Warszawa 2001; idem, *Stronnictwo Konstytucyjno-Katolickie na Litwie i Białorusi w 1906 r. Szkic do dziejów*, «Acta Baltico-Slavica». 1986, t. XVIII, s. 93–118; idem, W *epoce defensywy narodowej. Działalność i poglądy społeczno-polityczne Edwarda Woyniłłowicza w latach 1878–1909* (у:) *Polska i Polacy. Studia z dziejów polskiej myśli i kultury politycznej XIX i XX wieku*. Pod red. M. Mroczki. Gdańsk 2000; idem, *Sukcesy i porażki. Ziemiaństwo polskie Ziem Zabranych w wyborach do Dumy Państwowej i Rady Państwa. 1906–1913*. Olsztyn 2009.

63 D. Szpoper, *Gente Lithuana, Natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt (1851–1934)*. Gdańsk 2009.

64 А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–люты 1917 г.* 2-е выд., дапрац. Санкт-Петербург 2004; ён жа, «*Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі*. Мінск, 2017; А. Унучак, *Беларуская нацыянальна-дзяржаўная ідэя ў канцы XIX – 1917 г. (у:) На шляху станаўлення беларускай нацыі. Гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы.* Рэд. В. Яноўская ды інш. Мінск, 2011; ён жа, «*Заходнерусізм» і «краёвасць»: гістарыяграфія пытання* (у:) *Российские и славянские исследования*: Сб. науч. статей. Вып. 5. Редкол.: О. А. Яновский (отв. ред.) и др., Минск 2010, с. 243–252; І. Бабкоў, *Генеалёгія беларускай ідэі*, «Arche», 2005, № 3, с. 136–165; А. Казакевіч, *Яшчэ адна гісторыя пра беларускі нацыяналізм*, «Arche», 2007, № 7, с. 5–22.

65 Анталогія краёвай ідэі канца XIX – пачатку XX ст. Рэжым доступу: http://palityka.org/2015/04/antalohija-krajovaj-idei-xix-xx/. Дата доступу 27. 04. 2018.

Даследаванні беларускіх, літоўскіх і польскіх гісторыкаў стварылі магчымасць для аналізу дзейнасці Рамана Скірмунта на фоне тых палітычных, сацыяльна-эканамічных і культурных перамен, якія адбываліся ў рэгіёне ў перыяд паміж паўстаннем 1863 г. і пачаткам Другой сусветнай вайны.

На жаль, існуючая гістарыяграфія ў самай малой ступені дазваляе зразумець асобу Рамана Скірмунта. Між тым, без разумення жыццёвых і каштоўнасных арыенціраў і матываў ягонай дзейнасці немагчыма прэтэндаваць на глыбокі аналіз грамадскай і палітычнай пазіцыі.

Гэтая кніга з'яўляецца спробай вярнуць у прастору беларускай гістарычнай памяці Рамана Скірмунта не толькі як палітыка трох дзяржаў, ідэолага краёвасці і грамадскага дзеяча, але перадусім як ЧАЛАВЕКА і АСОБУ. Зразумела, наколькі гэта дазволяць зрабіць гістарычныя крыніцы і аўтарская здольнасць іх інтэрпрэтацыі.

P. S. …Працэс вяртання Рамана Скірмунта ў публічную прастору і памяць сучаснай Беларусі прымушае згадаць словы з Новага Запавету (Першае пасланне да карынцян): *Смерць, дзе тваё джала?! Пекла, дзе твая перамога?* У гэтых словах – вера ў перамогу жыцця над смерцю, насмешка над бяссіллем апошняй. Па-за межамі рэлігійнай свядомасці такую веру можа даць толькі памяць. Як пісаў паэт Рыгор Барадулін: *І датуль чалавек жывы, покуль зь ім душа размаўляе…*

# РОД І РАДЗІМА

Жыццяпіс прадстаўніка вядомага шляхецкага роду немагчымы без прэзентацыі ягонага радаводу. І справа нават не ў выкананні пэўных фармальных патрабаванняў. Гісторыя роду была важным элементам свядомасці кожнага шляхціча, род якога не згінуў у сацыяльных і палітычных катаклізмах і не страціў ні амбіцый, ні памяці. Даследчык шляхецкай культуры другой паловы XIX ст. Станіслаў Сякерскі адносіў яе да найважнейшых элементаў шляхецкага этасу[66].

Раман Скірмунт павінен быў так ці інакш суадносіць свае дзеянні з вядомым яму радаводам. Гэтыя веды былі адным з тых чыннікаў, якія вызначалі ягоны выбар у важных жыццёвых сітуацыях. Яны таксама ўплывалі на рашэнні бацькоў, калі сын яшчэ не быў у стане дзейнічаць самастойна. На жаль, аднавіць ягоныя веды ўласнага радаводу немагчыма, але можна з дапамогай архіўных дакументаў і гістарычных даследаванняў прадставіць у агульных рысах генеалогію Скірмунтаў.

Этымалогія імя і прозвішча *Скірмунт* звязана з літоўскай мовай. Літоўскі слоўнік прозвішчаў сцвярджае, што *Скірмантас* (пашыраная літоўская форма) складаецца з двух каранёў: *skir-* (skirti, г. зн. раздзяляць альбо падзяляць) і *man-* (manyti, г. зн. думаць, мець меркаванне)[67]. Найчасцей гэтае прозвішча сустракаецца ў раёне г. Рэтавас на Жмудзі.

Арыгінальную гіпотэзу выказаў беларускі даследчык Іван Ласкоў, які сцвярджаў наяўнасць фінскага (фіна-угорскага) субстрату ў этнагенезе беларусаў. Выкарыстаўшы сучасны комі-пярмяцкі дыялект у якасці ключа для прачытання імёнаў, ён «расшыфраваў» імя Скірмунт як «злы чалавек» або «сярдзіты чалавек»[68].

## *Легенда Скірмунтаў*

Імя *Скірмунт* (або *Скірмонт*) ахутана легендамі і паданнямі, аналізам якіх варта распачаць аповед пра гісторыю роду. Гэтае імя сустракаецца ўжо ў славутай легендзе пра Палемона, якая звязвала пачаткі гісторыі Літвы з перасяленнем часткі рымскай знаці на берагі Нёмана ў перыяд праўлення імператара Нерона (I ст. н. э.). У легендзе прысутнічаў князь Скірмунт як адзін з нашчадкаў Палемона.

Дзякуючы гісторыку Яну Юркевічу, навуковыя даследаванні якога апошнім

---

66 St. Siekierski, *Kultura szlachty polskiej w latach 1864–2001*. Pułtusk 2003, s. 11–14.

67 *Lietuvių pavardžių žodynas.* T. 2. Vilnius 1989, p. 152–153, 742–743.

68 І. Ласкоў, *Летапісная літва: сваяцтва і лёс. Ч. 1.* Койданава 2012. Рэжым доступу: http://acarajjjj-kut.blogspot.com/2014/05/2012.html. Дата доступу 04. 01. 2018.

часам звязаны пераважна з легендай пра Палемона[69], а таксама працам беларускіх даследчыкаў Міколы Улашчыка, Вячаслава Чамярыцкага і Валеры Пазднякова, ёсць магчымасць паглыбіцца ў гэтую легенду[70].

Упершыню згадкі пра рымскае паходжанне магнатаў і шляхты ВКЛ сустракаюцца ў працах Яна Длугаша (1415–1480). Ён аднёс гэтыя падзеі да часоў Юлія Цэзара. Аднак імя Палемона і яго спадарожнікаў не называлася. Арыгінал твору, у якім легенда была запісана ўпершыню, не захаваўся. Самы старажытны яе тэкст перадаюць летапісы Яўрэінаўскі і Красінскага. Пазней легенду (ужо з дапрацоўкамі і ўстаўкамі) пераказалі іншыя беларуска-літоўскія летапісы[71], а менавіта: Альшэўскі, Румянцаўскі, Археалагічнага таварыства, Рачынскага, а таксама Хроніка літоўская і жамойцкая, Хроніка Быхаўца. Канчатковае афармленне легенды адбылося недзе напрыканцы першай чвэрці XVI ст. Ян Юркевіч датуе апошнюю рэдакцыю Хронікі Быхаўца з найбольш поўнай версіяй легенды сярэдзінай XVI ст.[72] Сучасныя даследчыкі звязваюць нараджэнне легенды з агульнаеўрапейскімі працэсамі стварэння этнагенетычных міфаў.

Паводле найбольш вядомага варыянта легенды, уцёкі Палемона адбыліся ў I ст. н. э., а іх прычынай была жорсткасць імператара Нерона: «...Подданыи его для великаго окрутинства и неуставичности его не был певенъ а ни безпечонъ не толко именеи або скарбов але и здорова своего, а так многии опускаючы имъеня и скарбы свои утекали до размаитых земел наследуючы справедливаго покою»[73].

Пагроза жыццю прымусіла 500 сямей рымскай знаці выправіцца ў далёкае марское падарожжа ў заходнім накірунку. Паводле варыянта Мацея Стрыйкоўскага (пераказанага ў Хроніцы Быхаўца), гэтыя падзеі адбыліся ў 401 г. і былі звязаны з нападам гунаў Атылы на Італію: «А князь іменем Палемон, які таксама ў тым месце быў, усё сабраўшы, уцёк з імі. І з ім было пяцьсот сем'яў рымскае шляхты, а між імі на востраве аказалася чатыры роды рымскае шляхты: з герба Кітаўраса –

---

69 J. Jurkiewicz, *Od Palemona do Gedymina. Wczesnonowożytne wyobrażenia o początkach Litwy. Część I. W kręgu latopisów litewskich*. Poznań 2013.

70 Н. Улащик, *Введение в изучение Белорусско-литовского летописания*. Москва 1985; В. Чамярыцкі, *Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў*. Мінск 1969; В. Пазднякоў, *Палемон* (у:) ЭГБ. Т. 5 Мінск 1999, с. 384.

71 Тэрмін «беларуска-літоўскія летапісы» быў прапанаваны Міколам Улашчыкам у кнізе *Введение в изучение Белорусско-литовского летописания* (Москва, 1985). Ён адносіў да «беларуска-літоўскіх» тыя летапісы, у якіх выкладалася гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, і якія былі напісаны на яго тэрыторыі (с. 3).

72 J. Jurkiewicz, *Od Palemona do Gedymina. Wczesnonowożytne wyobrażenia o początkach Litwy…*, s. 83.

73 *Кроники Великаго Княжства Литовского и Жамойтскаго. Список Археологического общества*. Стлб. 240 (у:) *Полное собрание русских летописей* (далее: ПСРЛ). Т. 17. Западнорусские летописи. Санкт-Петербург 1907.

Даўспрунк, з герба Калюмнаў – Прэшпар Цэзарынус, з герба Урсінаў – Юліанус, а з герба Ружы – Гектар. І паплыў Палемон морам Міжземным [...] дабраліся да вусця ракі Нёман, дзе яна ўпадае ў мора-акіян [...] І ўверх па Нёмане дабраліся да ракі Дубісы, дзе, увайшоўшы ў тую раку Дубісу, знайшлі горы высокія, і сярод тых гор – раўніны вялікія і дубровы раскошныя, размаітым багаццем поўныя, звярамі рознага роду [...] І на некаторых рэках – на Дубісе, на Нёмне, на Юры – пасяліліся яны і пачалі размнажацца. Тое іх пасяленне на тых рэках вельмі ім спадабалася, і назвалі яны тую зямлю Жамойцкаю»[74].

Сыны Палемона (Борк, Кунос і Спера) заснавалі гарады Юрборк, Куносаў і Кернову. Кунос перабраўся праз Вяллю і пачаў асвойваць «землю Завілейскую». Пазней ён перадаў гэтую зямлю свайму сыну Кернусу. Паводле легенды, «празваў Кернус бераг той, дзе людзі множыліся, моваю сваёй валоскаю, на лаціне, – Літус, а трубы, на якіх яны гралі, – туба, і даў найменне тым людзям на лаціне, склаўшы назву берага са словам «туба», – «Лістубанія». Але простыя людзі не ўмелі называць на лаціне і пачалі называць проста Літвою»[75].

Вядомы беларускі даследчык Мікола Улашчык лічыў, што пачатковая частка легенды заканчваецца паведамленнем пра тое, як унук Палемона вялікі князь жмудскі Монтвіл накіраваў свайго сына Скірмунта (у летапісах таксама ён фігуруе пад іменем Эрдзівіл)[76] з войскам «на Русь»[77]. Перабраўшыся праз Вяллю і Нёман, Скірмунт заснаваў Наваградак і стаў вялікім князем Наваградскім: «Скирмонт почне княжити на Новъгородцы»[78]. Ён жа «заснаваў горад Горадзень, потым пайшоў да Берасця і знайшоў Берасце, Дарагічын і Мельнік, Батыем спустошаныя і панішчаныя, і тыя гарады адбудаваў нанова, і пачаў у іх княжыць»[79].

Сын і пераемнік Скірмунта-Эрдзівіла ў беларуска-літоўскіх летапісах выступае пад іменем Мінгайла. Пасля перамогі пад Полацкам ён набыў тытул «вялікага князя Полацкага». Адзін з ягоных сыноў меў імя Скірмунт (таксама ў летапісах ён фігуруе як Шварн або Ямонт). Менавіта ён пры падтрымцы вялікага князя літоўскага і жамойцкага Жывібунда разграміў на берагах Ясельды князя луцкага і пінскага Мсціслава і далучыў да Літвы Пінск і Тураў: «І загаласіла Русь вялікім плачам, што так усе пабіты бязбожнаю Літвою»[80]. Потым быў канфлікт з «царом заволжскім Балаклаем», які патрабаваў даніны. Скірмунт загадаў «насы ды губы

---

[74] *Хроніка Быхаўца* (у:) *Беларускія летапісы і хронікі*. Нав. рэд. В. Чамярыцкі. Мінск, 1997, с. 72–73. Аўтарам перакладу на беларускую мову з'яўляецца Зміцер Саўка.

[75] *Хроніка Быхаўца*, с. 74.

[76] Напр., Хроніка Быхаўца называе яго Эрдзівілам (гл.: *Хроніка Быхаўца*, с. 75–76).

[77] Н. Улащик, *Введение в изучение Белорусско-литовского летописания*. Москва 1985, с. 134.

[78] *Кроники Великаго Княжства Литовского и Жамойтскаго. Список Археологического общества,* стлб. 245.

[79] *Хроніка Быхаўца*, с. 75.

[80] Тамсама, с. 78.

паслам Балаклаевым паадрэзваць, і потым да Балаклая іх адпусціў». Балаклай адпомсціў паходам, падчас якога «многа зла ўчыніў у Рускай зямлі». Вайна скончылася разгромам татарскага войска ў Койданаве і далучэннем да Літвы Мазыра, Чарнігава, Старадуба і Карачова[81]. Пра далейшае кіраванне Скірмунта Хроніка Быхаўца маўчыць. А вось у Румянцаўскім летапісе адзначалася: «Князь велики Скирмонт в великой старости свое умре»[82].

Паводле летапіснай традыцыі, апошнім прадстаўніком роду Палемона быў вялікі князь Рынгольт[83]. Пасля роду Палемона ўлада перайшла да Швінтарога, які быў сынам вялікага князя літоўскага і жамойцкага Уценуса з гербу Кітаўраса (Кентаўра). Цэнтр княства перамясціўся на берагі Вяллі, туды, дзе ў яе ўпадала рака Вільня. Менавіта там летапісец змясціў жэглішча або святыя могілкі, на якіх сын Швінтарога Скірмунт згодна з традыцыямі і бацькавым запаветам спаліў яго цела разам са слугой, канём, сабакам і сокалам.

Аповяд пра асаблівасці кіравання трэцяга легендарнага Скірмунта ў Хроніцы Быхаўца таксама адсутнічае. Затое Румянцаўскі летапіс паведамляе пра вайну Скірмунта з «латыголамі»: «[...] собралися мужи латыгалове […] и пришли в землю жамотскую, и шкоды многие починили, и крови пролития в людях жамотских от них много стало. И князь Скирмонт, собравшись с силами своими, и поиде на них в землю их и их самих вытинал, а инших в полон вывел, и землю их пусту учинил»[84].

*Кроники Великаго Княжства Литовского и Жамойтскаго* (спіс Археалагічнага таварыства) дадаюць, што пасля вынішчэння «латыголаў» Скірмунт засяліў іх зямлю «немцамі»[85]. У Яўрэінаўскім летапісу адзначаецца, што пасля смерці Швінтарога Скірмунт стаў «вялікім князем Літоўскім, Рускім і Жамойцкім»[86], а летапіс Археалагічнага таварыства надзяліў яго тытулам «вялікага князя Літоўскага і Жамойцкага»[87].

Трэці легендарны Скірмунт пакінуў пасля сябе двух сыноў – Трабуса і Гілігіна. Праўнукамі гэтага Скірмунта былі пяцёра братоў, з якіх варта назваць старэйшага

81 Тамсама, с. 77–78.

82 *Румянцевская летопись* (у:) *ПСРЛ*. Т. 35. *Летописи Белорусско-Литовские*. Москва 1980, с. 196.

83 У Хроніцы Быхаўца як апошні з роду Палемона згадваецца Войшалк, унук Рынгольта (с. 84). Іншыя беларуска-літоўскія летапісы дзяцей і ўнукаў Рынгольта не згадваюць.

84 *Румянцевская летопись*, с. 197.

85 *Кроники Великаго Княжства Литовского и Жамойтскаго. Список Археологического общества,* стлб. 252.

86 *Книга Великага Княжества Литовскаго и Жамойцкаго. Евреиновский список* (у:) *ПСРЛ*. Т. 17. *Западнорусские летописи.* Санкт-Петербург 1907, стлб. 366.

87 *Кроники Великаго Княжства Литовского и Жамойтскаго. Список Археологического общества,* стлб. 251.

Нарымунта і малодшага Тройдзена[88]. У гэтым месцы легенда пачынае ператварацца ў гісторыю.

Менавіта Тройдзена вядомыя польскія гісторыкі 1920–30-х гг. Генрык Пашкевіч і Юзаф Пузына лічылі заснавальнікам дынастыі Гедымінавічаў. Пазней гэты тэзіс аспрэчваў Ежы Ахманьскі, які спасылаўся на *Задоншчыну* Сафонія Разанца. У гэтым творы Андрэй Полацкі, звяртаючыся да князя Дзмітрыя, згадвае, што ён разам з братам Дзмітрыем Бранскім з'яўляецца праўнукам Скаламенда[89]. Паводле Тадэуша Васілеўскага, «Скаламендам» мог быць перайначаны ў старарускім вымаўленні вялікі князь Скірмунт[90]. Даследчык нават увёў у генеалогію князёў ВКЛ тэрмін «род Скірмунтовічаў-Гедымінавічаў»[91]. Беларускія медыевісты таксама лічаць верагодным пачынальнікам роду Гедымінавічаў Скалманта (Скаламенда, XIII ст.)[92]. Падобна, што гэта ўсё той жа пераназваны Скірмунт.

Першыя даследчыкі генеалогіі Скірмунтаў актыўна карысталіся легендай пра Палемона. Напрыклад, яе пераказам пачынаў гісторыю роду Войцах Віюк Каяловіч у *Herbarze rycerstwa W. X. Litewskiego*[93] *у* XVII ст. Пэўны водгук гэтая легенда атрымала ў выданні *Materiałów do biografii i genealogii i heraldyki* (пад рэд. Шымона Канарскага). У тэксце пра Скірмунтаў сцвярджалася, што яны паходзяць з роду ўдзельных князёў Літвы, Жамойці і Русі, якія некалі былі падзелены паміж трыма братамі. Тамсама згадвалася іх легендарная сястра манахіня Пракседа, якая нібыта была фундатарам базыліянскага кляштара ў Полацку[94]. Юзаф Вольф таксама распачынаў радавод Скірмунтаў са згадкі сына князя Мінгайлы Скірмунта[95]. А вось Тэадор Жыхліньскі ў *Złotej księgie szlachty polskiej* крытычна паставіўся да тэзіса пра князя наваградскага Скірмунта як пачынальніка роду[96].

Сёння згадкі пра княскае паходжанне Скірмунтаў часцей сустракаюцца на старонках папулярных і сенсацыйных выданняў або адпаведных сайтаў інтэрнэту.

---

[88] *Хроніка Быхаўца*, с. 86.

[89] *Задонщина,* (у:) *Памятники литературы древней Руси: XIV–середина XV века*. Москва 1981, с. 96–111.

[90] T. Wasilewski, *Początkowe dzieje dynastii Gedymina,* (у:) *Człowiek w społeczeństwie średniowiecznym*. Warszawa 1997, s. 348.

[91] Ibidem, s. 362.

[92] *Вялікае Княства Літоўскае*. Энцыклапедыя ў двух тамах. Том 1. А–К. Мінск 2005, с. 520.

[93] Ks. Wojciecha Wijuka Kojałowicza S. J., *Herbarz rycerstwa W. X. Litewskiego tak zwany Compendium czyli o klejnotach albo Herbach których familie stanu tycerskiego w prowincyach Wielkiego Xięstwa Litewskiego zażywają*. Kraków 1897.

[94] *Materiały do biografii i genealogii i heraldyki polskiej.* T. II. Red. Sz. Kanarski. Buenos Aires-Paryż 1964, s. 44.

[95] J. Wolff, *Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku*. Warszawa 1895.

[96] *Złota księga szlachty polskiej przez Teodora Żychlińskiego*. Rocznik pierwszy. Poznań 1879, s. 284–285.

Існуе таксама легенда, якая звязвае паходжанне Скірмунтаў з яцвягамі. Пра гэта пісаў польскі публіцыст, грамадскі і рэлігійны дзеяч XX ст. Валер'ян Мэйштовіч у зборніку эсэ, прысвечаных вядомым родам літоўскіх і беларускіх палякаў[97]. Паводле В. Мэйштовіча, роды Давятаў, Кунатаў і Скірмунтаў выводзяцца з яцвяжскіх плямён, вынішчаных дружынамі мазавецкага князя Лешка Белага. Сам аўтар прызнаў, што гістарычныя дадзеныя, якія б пацвердзілі ягоную версію, адсутнічаюць. Адзіным ягоным аргументам было паведамленне, што пра яцвяжскае паходжанне Скірмунтаў «хадзілі ў нас чуткі»[98]. Магчыма, гэтая версія паходжання абмяркоўвалася ў асяродку літоўскіх палякаў XIX–пачатку XX ст.

Яе карані таксама можна знайсці ў летапісах. У Галіцка-Валынскім летапісе, уключаным у Іпацьеўскі, згадваюцца імёны некалькіх яцвяжскіх князёў. Сярод іх Комат[99] і Скоманд. Апошні атрымаў ад летапісца вельмі яркую характарыстыку: «Скомонд бо бе волхв і кобник нарочит, борз же бе яко звер, пеш бо ходя повоева землю Пинскую, иные страны; и убьен бысть нечестивый, и глава его взотечена бысть на кол»[100].

Паданні пра яцвяжскага правадыра Скомэна (ён жа Кумат або Комат) змешчаныя ў выданні «*Legendy, podańni i baśni Suwalszczyzny*» (укладальнік Януш Копцял, 1997). Паводле легенды, Скомэн загінуў у бітве з польскімі князямі недзе ў міжрэччы Нурца і Бранка. Ягоны сын Скірмунт быў прывезены як здабыча на двор мазавецкага князя Лешка Белага. Калі ён вырас, то вярнуўся на радзіму і быў абраны кіраўніком паходу супраць крыжакоў. Паход аказаўся паспяховым, і Скірмунт застаўся правадыром яцвягаў. Аднак вайна закончылася паражэннем, і ён збег у Польшчу. Гэтую гісторыю выкарыстаў у рамане *Skirmunt syn Kumata* (Warszawa, 1973) пісьменнік Рышард Краська. Галоўная сюжэтная лінія прысвечана лёсу ганарлівага яцвяжскага князя Скірмунта, які ўрэшце прызнаў сябе васалам Пястаў і стаў бараніць іх усходнія межы.

А як трактавалі сваё паходжанне самі Скірмунты? Трэба прызнаць, што згадкі пра вялікакняскае паходжанне зрэдку сустракаюцца ў дакументах і тэкстах сямейнага паходжання. Напрыклад, ва ўспамінах Баляслава Скірмунта (1931), прысвечаных дарадцу пасольства Польшчы ў 1920-я гг. у Ватыкане і ягонаму брату Казіміру, сцвярджаецца паходжанне роду ад «удзельных князёў літоўскіх»[101]. Таксама князі прыгадваліся ў дакументах на зацвярджэнне Скірмунтаў у шляхецтве, пададзеных на разгляд у Магілёўскі шляхецкі сход (1834). У перакладзе на рускую мову прыводзіўся выпіс з земскіх кніг Дынабургскага пав. (1773), у якім

---

[97] W. Meysztowicz, *Poszło z dymem. Gawędy o czasach i ludziach.* Londyn 1973, s. 114–115.

[98] Ibidem, s. 114.

[99] *Ипативская летопись* (у:) *ПСРЛ.* Санкт-Петербург 1843, с. 191.

[100] Там же, с. 182.

[101] Archiwum PAN w Warszawie. Sygn. III–83, j. 96, k. 1; Гл. таксама: B. Skirmunt, W *służbie Kościoła i Polski. Ks. Dr Kazimierz Skirmunt.* Wilno 1931.

сцвярджалася, што род Скірмунтаў «некогда происходящий от литовских самогитских и русских владетельных князей по свидетельствам различным летописцев пользовался впоследствии времени дворянским достоинством с разными противу старинного своего герба переменами...»[102]

Вялікакняскае паходжанне з іроніяй прыгадвалася ў лісце Ганны Скірмунт да віленскага выдаўцы Юзафа Завадскага ад 20 красавіка 1842 г. Гэты ліст быў адпраўлены з Волагды і ўтрымліваў просьбу аўтаркі прысланць на яе пінскі адрас некалькі выданняў. Яна падпісала ліст: «Pana Dobrodzieja Najniższa sługa Anna Skirmuntt», а ніжэй дадала: «Wielka Księżna Litewska, nieswieżska y Nowogródzka»[103].

Затое ў дакументах, што пацвярджалі шляхецкае паходжанне Скірмунтаў і падаваліся ў Дэпартамент герольдыі і губернскія шляхецкія дэпутацкія сходы ў Менску, Коўне і Вільні, легендарныя князі ВКЛ не фігуравалі.

Канстанцыя Скірмунт у сваіх даследаваннях пачаткаў гістарычнай Літвы легенду пра Палемона распавядала паводле Хронікі Быхаўца[104]. У адным з выданняў яна паспрабавала параўнаць гэтую легенду з народнымі паданнямі жмудзінаў, у якіх таксама прысутнічае Палемон. Як жмудскі князь, ён «розумам, а не крывёю» далучыў да Жмудзі (у паданнях яна месцілася на заходнім беразе Нёмана) усходняе Панямонне[105]. Даследчыца згадвала толькі аднаго Скірмунта, а менавіта князя Наваградскага, сына Мінгайлы. Пры гэтым заўсёды падкрэсліваўся легендарны характар падання, адзначалася адсутнасць дакладных звестак пра князя. Канстанцыя Скірмунт нават не спрабавала звязаць яго з уласным родам.

Згадкі пра легендарныя карані роду адсутнічалі таксама ў гістарычных экскурсах публіцыстыкі Рамана Скірмунта. А ў лісце да беларускага дзеяча Яўсея Канчара ён сціпла адзначыў, што з'яўляецца «потомком литовской семьи с древних времен, с испокон веков оседлой в этом крае...»[106]

Важным элементам генеалогіі кожнага шляхецкага роду з'яўляецца герб. Першым вядомым нам гербам Скірмунтаў быў «Дуб» (у чорным полі – залаты дуб з пяццю каранямі, двумя лістамі на сярэдзіне ствола і трыма жалудамі замест верхавіны, наверсе княская мітра. Канарскі сцвярджаў, што герб Скірмунтаў меў блакітнае поле[107]).

---

[102] Российский государственный исторический архив (далей: РГИА). Ф. 1343, оп. 29, д. 3567, л. 14.

[103] Lietuvos valstybes istorijos archyvas (далей: ЛДГА). Ф. 1135, воп. 7, спр. 454, арк. 8. Хачу выказаць удзячнасць др Лііі Коўкель за магчымасць пазнаёміцца з гэтымі дакументамі.

[104] K. Skirmuntt, *Dzieje Litwy. Opowiedziane w zarysie*. Kraków 1886; idem, *Nad Niemnem i Bałtykiem. T. II. Podanie. Czasy przed-mendogowe. Dzieje starożytnych Prus*. Kraków 1903.

[105] Idem, *Nad Niemnem i Bałtykiem. T. I. W zaraniu dziejów.* Warszawa [1897], s. 93. Пры гэтым аўтарка спасылалася на *Zbiór podań żmujdskich* М. Давойны-Сільвестровіча.

[106] З перапіскі Рамана Скірмунта з Яўсеям Канчарам, «Чырвоны шлях». 1918, № 1–2, с. 12.

[107] *Materiały do biografii i genealogii…*, s. 44.



*Герб «Дуб» роду Скірмунтаў на малюнку Сяргея Харэўскага.*

Паводле нямецкага даследчыка Эмільяна Жарніцкага-Шалігі гэты герб вядомы з 1340 г.[108] У пастанове Менскага губернскага шляхецкага схода, які ў 1802 г. пацвердзіў шляхецтва Скірмунтаў, фігураваў якраз герб «Дуб» («Dąb»)[109]. Каспер Нясецкі ў 1841 г. паведамляў, што гэты герб яшчэ ўжываюць многія прадстаўнікі роду, асабліва ягонай «пінскай» галіны. Гэта пацвердзілі і самі Скірмунты. Ва ўспамінах Баляслава Скірмунта (1931) адзначалася карыстанне гербом «Дуб пад мітрай»[110].

Аднак Скірмунты мелі таксама іншыя гербы. Сярод даследчыкаў першым звярнуў увагу на геральдыку роду Скірмунтаў В. Каяловіч. Ён заўважыў, што Скірмунты, якія прынялі прозвішча Стравінскіх, карысталіся гербам «Прыяцель» («Przyjaciel»): у блакітным полі – два чырвоныя сэрцы, паміж імі – дзве срэбраныя стралы ўгару, наверсе – рыцарскі шлем з трыма страусінымі пёрамі[111].

Каспер Нясецкі ў *Herbarze Polskim* сцвярджаў, што герб «Прыяцель» Скірмунты пачалі ўжываць пасля Люблінскай уніі (1569) як сімвал сяброўства з параднёнымі польскімі шляхецкімі родамі. Сучасныя даследчыкі Ян Цехановіч і Эдмундас Рымша выказалі меркаванне, што Скірмунты ўжывалі герб «Гадземба» («Godzięba»). Ян Цехановіч пры гэтым спаслаўся на радавод Скірмунтаў, зацверджаны Віленскім шляхецкім сходам у 1819 г.[112] У выпісцы з земскіх кніг Дынабургскага пав. (1773), перададзенай разам з іншымі дакументамі ў Магілёўскі шляхецкі сход у 1835 г., сцвярджалася, што пачынальнік гэтай лініі роду Мацей Скірмунт (маёнтак Буткішкі ў Самагіцкім княстве, XVII ст.) меў на гербе выявы трох лілій[113].

Ужыванне розных гербаў было адлюстраваннем даволі шырокай геаграфіі роду Скірмунтаў, якія ў часы Рэчы Паспалітай рассяліліся па ўсім Беларуска-Літоўскім краі, а ў XIX ст. выйшлі па-за яго межы.

Паспрабую на падставе матэрыялаў расійскага Дэпартамента герольдыі і шляхецкіх сходаў, а таксама генеалагічных даследаванняў аднавіць у агульных рысах радавод Скірмунтаў.

---

108 *Die polnischen Stammwappen ihre Geschichte und ihre Sagen Von Emilian von Żernicki-Szeliga*. Hamburg 1904, s. 21

109 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ). Ф. 319, воп. 2, спр. 2969, арк. 159.

110 Archiwum PAN w Warszawie. Sygn. III–83, j. 96, k. 1.

111 Віленскі даследчык Эдмундас Рымша назваў гэты варыянт «Прыяцеля» «літоўскім».

112 J. Ciechanowicz, *Rody rycerskie Wielkiego Księstwa Litewskiego.* T. V. S-Ż. Rzeszów 2001, s. 96.

113 РГИА. Ф. 1343, оп. 29, д. 3567, л. 14.

## *Карані «Дуба»*

Трэба адзначыць існаванне «жмудскай» і «палескай» галін роду. Звычайна, большую ўвагу гісторыкаў прыцягвала жмудская. Адным з першых даследчыкаў радаводу Скірмунтаў быў ужо згаданы Войцах Віюк Каяловіч, які паведаміў пра ковенскага стольніка Мікалая Скірмунта і Базыля Скірмунта з Берасцейскага ваяв. Апошні меў сыноў – Іяхіма, Яна (дэпутата Вялікага трыбунала 1685 г.) і Стэфана (гусарская каралеўская рота Крыштафа Белазора). Даследчык таксама згадаў «каплана вучонага» жмудскага каноніка ксяндза Валенты Скірмунта[114].

Каспер Нясецкі сярод першых вядомых Скірмунтаў назваў ковенскага стольніка Мікалая з Жмудзі (1621) і Базыля з Берасцейшчыны (1632). Паводле яго звестак, апошні ўдзельнічаў у падпісанні *pacta conventa* караля Яна Казіміра (1648). Апрача іх Нясецкі назваў Іяхіма Скірмунта і ягонага сына Валенты (пінскі возны, інтурскі стараста), жмудскага біскупа суфрагана, а пазней уцянскага біскупа Іяхіма Скірмунта (памёр у 1718 г.) і гродскага ашмянскага суддзю (1778) Крыштафа Скірмунта. Ён жа згадаў земскага пінскага суддзю Адама, мастаўнічага пінскага Сымона, інфлянцкага стражніка Зыгмунта і ашмянскага суддзю Юзафа Скірмунтаў (1788)[115]. Ковенскі падстолі Мікалай Скірмунт, які падпісаў *pacta coventa* Яна Казіміра, таксама згадваецца ў *Herbarze Polski i imionopisu zasluzonych w Polsce ludzi*[116].

Найбольш поўна «жмудская лінія» Скірмунтаў апісана ў працы польскага гісторыка Гжэгажа Блашчыка *Herbarz szlachty żmudzkiej* (Tom 5, 2016). Паводле даследчыка, першая згадка Скірмунтаў на Жмудзі звязана з прывілеем вялікага князя Вітаўта для медніцкіх баяр (1422). Адзін з іх, Скобут, названы «пляменнікам» Скірмунта, атрымаў «падданага». Пазней Скірмунты згадваліся ў вайсковых попісах ВКЛ (напр., 1567 г.), а таксама ў жмудскіх земскіх актах. Пры гэтым усе згаданыя Скірмунты мелі ўладанні ў Ёсвайнскай, Велёнскай і Тэнджаголскай валасцях. Аднак родавае «гняздо» Г. Блашчык схільны шукаць у Айрагольскім пав., з якім звязаны найдаўнейшыя згадкі Скірмунтаў. У дакументах XVII ст. ён адшукаў інфармацыю пра мясцовасць Кірмонты ў Айрагольскім пав., а таксама Пашвентупе Скірмонты і Швентупе Скірмунты ў Велёнскім пав., якіх не атрымалася лакалізаваць. Мясцовасці з назвамі Скірмантышкі (Ковенскі пав.) або Скірмунцішкі (Ашмянскі пав.) даследчык лічыць пазнейшымі[117].

Паводле Г. Блашчыка, Скірмунты на Жмудзі прадстаўлялі ўсе слаі шляхецкага саслоўя – ад зямян на высокіх пасадах да беззямельнай шляхты. Пры гэтым

---

114 *Ks. Wojciecha Wijuka Kojałowicza S. J. Herbarz rycerstwa...*, s. 246.

115 *Herbarz Polski Kaspra Niesieckiego S. J. powiększony dodatkami z późniejszych autorów, rękopiśmów, dowodów urzędowych.* T. VIII. Lipsk 1841, s. 380–381.

116 *Herbarz Polski i imionopisy zasłużonych w Polsce ludzi wszystkich stanów i rodów.* T. III. Lwów 1862, s. 60.

117 G. Błaszczyk, *Herbarz szlachty żmudzkiej*. Tom 5. Warszawa 2016, s. 257.

яны карысталіся гербамі «Гадземба» і «Прыяцель». У шэрагу найбольш вядомых жмудскіх Скірмунтаў (Скірмонтаў) гісторык назваў каноніка жмудскага Валенты Скірмунта, таварыша гусарскай харугвы караля польскага Стэфана Скірмунта, а таксама Іяхіма Скірмунта (1644–1718), які займаў пасаду жмудскага біскупа суфрагана (1701–1707)[118].

Матэрыялы Віленскага шляхецкага схода называюць пачынальнікам роду Мацея Скірмунта (герб «Дуб»), які валодаў маёнткам Буткішкі (Будкішкі) у Жмудзі[119]. Яго сын Ян атрымаў у спадчыну бацькоўскія землі і павялічыў зямельныя ўладанні сям'і набыццём маёнткаў Кольне (Гольне) і Пашкевічы на Піншчыне (1676). Пасля смерці Яна Скірмунта маёнткі адышлі да сына Пятра.

Другі сын Яна Міхал перасяліўся ў Інфлянты. У шлюбе з Альбрэхтоўнай нарадзіліся сыны Зыгмунт, Караль і Багуслаў, якія займалі ў Інфлянтах адпаведна пасады падчашага, войскага і канюшага. Вялікай кар'еры і багацця яны не здабылі. Выключэннем быў сын Караля Адам Скірмунт, які займаў пасады каморніка інфлянцкага, ротмістра наваградскага і сакратара земскай пячаткі Дзвінскай правінцыі. Яны, як і Скірмунты з Піншчыны, захавалі герб «Дуб»[120].

Менавіта з гэтымі прадстаўнікамі роду звязана з'яўленне Скірмунтаў у Віленскай, Віцебскай і Магілёўскай губ. на рубяжы XVIII–XIX ст. Так, Юзаф Багуслававіч Скірмунт перабраўся ў Вільню, дзе ажаніўся з Багуславай Садоўскай. Ад гэтага шлюбу нарадзіліся сыны Ян, Юзаф, Міхал і дачка Феліцыяна[121]. Апошняя ў 1799 г. падала дакументы аб зацвярджэнні шляхецтва ў Віленскі шляхецкі сход. Дакументы сведчаць, што гэтая галіна Скірмунтаў карысталася гербам «Гадземба»[122].

У *Polskiej encyklopedii szlacheckiej* таксама згадваюцца маёнткі Скірмунтова ў Ашмянскім і Пінскім пав., якія належалі Скірмунтам герба «Прыяцель», і маёнтак з такой самай назвай у Менскім пав., што належаў Скірмунтам герба «Дуб»[123].

У матэрыялах Дэпартамента герольдыі фігураваў Іван Казіміравіч Стравінскі-Скірмунт (герб «Прыяцель»), які валодаў вотчынным маёнткам Гронскішкі з сялом Вінажэндзь у Ашмянскім пав. У 1658 г. ён набыў маёнтак Ласосна пад Гародняй[124]. Скірмунты гэтага герба атрымалі пацвярджэнне шляхецтва ў 1798 г. (Віленская губ.). Яны прадставілі дакументы, якія сведчылі, што Мікалай Скірмунт (сын

---

118 Ibidem, s. 259.

119 ЛДГА. Ф. 391, воп. 1, спр. 1553, арк. 51; J. Ciechanowicz, *Rody rycerskie Wielkiego Księstwa Litewskiego*. Tom V, s. 96–97.

120 *Materiały do biografii i genealogii...*, s. 44.

121 ЛДГА. Ф. 391, воп. 1, спр. 1553, арк. 52.

122 Тамсама, воп. 4, спр. 2705, арк. 5.

123 *Polska encyklopedia szlachecka.* T. XI. Warszawa 1988, s. 71.

124 РГИА. Ф. 1343, оп. 29, д. 3564.

Войцаха) у 1638 г. перадаў вотчынны маёнтак Скірмонты (як варыянты: Скірмонт і Скірмунцішкі) у Ашмянскім пав. сынам Аляксандру і Станіславу[125].

Скірмунты таксама мелі вотчынныя ўладанні ў Падляскім ваяв. Гэта маёнтак Грэгароўцава ў Бельскай зямлі, набыты за 10 тыс. польскіх злотых Станіславам Адамам Скірмунтам у 1698 г., а таксама маёнткі Войтава і Алексін, якія ў 1736 г. перайшлі ў валоданне Мікалая Скірмунта[126].

Геаграфія і храналогія росту зямельных уладанняў Скірмунтаў пацвярджае іх жмудскае паходжанне. Першая дакументаваная згадка пра прадстаўніка роду Скірмунтаў, якая датычыць Палесся, паходзіць з сярэдзіны XVI ст. Так, падкаморны пінскі Адам Скірмунт, які ў 1802 г. прадставіў дакументы, пацвярджаючыя прыналежнасць Скірмунтаў да шляхты, вытокі роду звязаў з Богушам Скірмунтам[127]. Апошні атрымаў ад каралевы Боны 22 чэрвеня 1552 г. маёнтак Плотніцу Пінскага пав.[128] Менавіта яго можна лічыць пачынальнікам «палескай» галіны роду Скірмунтаў[129].

У 1833 г. сярод дакументаў, перасланых Мінскім шляхецкім сходам у Сенат, аказалася копія прывілея каралевы Боны, перакладзеная на рускую мову: «Желая го на потомственные времена к службе нашей поощрить, оное Тарасовское дворище в Плотница… собственность нашу государственную ему же пожаловать и сею нашею грамотою… жалуем. …на вечныя времена… а нам из того военную земскую службу производить сродно тому, как и прочие наши пинские земяне из своих имений служат… ему Богушу Скирмунтовичу и его потомкам повелели выдать сию нашу грамоту. Писано в Варшаве 22 июня 1552 г.»[130]

Польскі даследчык Адам Банецкі паведаміў, што ў 1543 г. Богуш Скірмунт (як варыянты: Скірмонт, Скірмант) займаў пасаду падстарасты пінскага, а ў 1551 г. пачаў судовы працэс супраць Капусцічаў за валоданне маёнткам Тарасава[131]. Яшчэ раней, у чэрвені 1544 г. ён набыў у Олюхны Крывецкуўны паўтары дварышчы ў в. Дубоі Пінскага пав. за 60 коп грошаў літоўскіх.

У шлюбе Богуша Скірмунта з Анастасіяй Сыруцінай нарадзіліся два сыны – Мікалай і Крыштаф. Лінія роду ад Мікалая згасла ў чацвёртым калене. Лінія Крыштафа працягваецца па сённяшні дзень. Менавіта ён быў уладальнікам

---

125 Там же, д. 3565, л. 15–16.

126 Там же, д. 3570, л. 2 адв.–3.

127 НГАБ. Ф. 319, воп. 2, спр. 2969.

128 На карце беларускага гісторыка Міхаіла Спірыдонава *Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.)* (Минск, 1992) в. Плотніца знаходзіцца паміж Пінскам і Давыд-Гарадком. Сёння гэта вёска ў Столінскім раёне Берасцейскай вобл.

129 Д. Шпопэр у кнізе *Gente Lithuana, natione Lithuana* (Gdańsk, 2009, s. 16) памылкова лічыць такім пачынальнікам Крыштафа Скірмунта (сяр. XVII ст.).

130 РГИА. Ф. 1343, оп. 29, д. 3574, л. 46.

131 *Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI w. ułożył i wydał Adam Boniecki*. Warszawa 1883, s. 314.

Плотніцы, а таксама займаў пасады старасты плотніцкага і суддзі пінскага. Ён меў чатырох сыноў – Яна, Матэуша, Дзмітрыя і Аляксандра. Плотніца знаходзілася ў іх сумесным валоданні.

Паводле звестак беларускага даследчыка Анатоля Федарука, найбольш вядомы з іх – Ян, які быў дэпутатам Смаленскага ваяв. на Люблінскі сейм і пакінуў подпіс на акце Люблінскай уніі 1569 г.[132]

Што датычыць культурніцкай арыентацыі гэтых найбольш далёкіх ад нас Скірмунтаў, то вартым увагі з'яўляецца прызнанне Рамана Скірмунта, зробленае ім увесну 1917 г. у лісце да Яўсея Канчара: «…Мои предки до 17 столетия пользовались белорусским языком как домашним»[133].

Паводле прадстаўленай Скірмунтамі напрыканцы XIX ст. схемы радаводу, Ян Скірмунт меў шасцёра сыноў – Казіміра, Яраша, Льва, Бенедыкта, Адама і Юрыя. Два апошнія атрымалі ў спадчыну (паводле тэстамента ад 15 ліпеня 1649 г.) родавы маёнтак Плотніцу. Гэтая лінія роду згасла ў сёмым калене.

Сярод сыноў Дзмітрыя найбольш вызначыўся «паводле здольнасцяў і заслугаў перад Айчынай» Ян, які займаў пасаду войскага житомірскага і меў шасцёра сыноў ад чатырох жонак[134]. Сярод іх варта назваць Аляксандра (памёр да сакавіка 1746 г.), які займаў пасады вознага пінскага (1704), гараднічага пінскага (1726) і старасты вечыкоўскага (1710–1740). Ён ажаніўся на Карнеліі Ордзе, якая нарадзіла сямёра сыноў – Франца, Станіслава, Ігнацыя, Баніфацыя, Міхала, Яна і Карла. Апошні вядомы як стараста інтурскі[135].

Зямельныя ўладанні Аляксандра Скірмунта знаходзіліся ў Пінскім, Вількомірскім, Ашмянскім, Менскім і Кіеўскім пав., а таксама на Віленшчыне і Ковеншчыне. У. Вяроўкін-Шэлюта сцвярджаў, што Аляксандр Скірмунт валодаў маёнткамі Сушыцк[136], Выласкія Увалокі, Кашэвічы, Цмень, Ругаз, Лугаж, Плотніца ў Пінскім пав.[137] Таксама ён меў землі ў Вількомірскім, Ашмянскім, Менскім і Кіеўскім паветах, Віленскім ваяв. і Самагіцкім княстве[138].

Паводле маёмаснага падзелу 1728 г. Плотніца перайшла да ягонага сына Франца, а ў 1746 г. – да двух сыноў ягонага брата старасты васількаўскага Міхала Скірмунта – харунжага пінскага Тамаша і Адама. Тамаш у 1792 г. быў старастам пінскім, а праз год засядаў ужо ў расійскай Ліквідацыйнай камісіі Менскай губ. па праверцы дакументаў на права валодання нерухомай маёмасцю[139].

---

132 А. Федорук, *Стариные усадьбы Берестейщины*. Минск 2004, с. 32–41.

133 З перапіскі Рамана Скірмунта з Яўсеям Канчарам, «Чырвоны шлях». 1918, № 1–2, с. 12.

134 НГАБ. Ф. 319, воп. 2, спр. 2969, арк. 160.

135 Biblioteka naukowa PAN i PAU w Krakowie. Zbiory specjalne, j. 4480, k. 33.

136 На карце М. Спірыдонава – у 10 км на паўночны ўсход ад Пінска.

137 Вяроўкін-Шэлюта У. *Скірмунты* (у:) *ЭГБ*. Т. 6, с. 321.

138 НГАБ. Ф. 319, воп. 2, спр. 2969, арк. 160.

139 Biblioteka naukowa PAN I PAU w Krakowie. Zbiory specjalne, j. 6125, k. 1; j. 5924, k. 150–152.

А вось ягоны брат Адам стаўся адной з найбольш прыкметных постацей сярод Скірмунтаў XVIII ст. Прынамсі, ён аказаўся адзіным прадстаўніком роду гэтага стагоддзя, біяграфія якога трапіла на старонкі *Польскага слоўніка біяграфічнага*[140].

Аўтар артыкула Эва Зеліньска галоўную ўвагу звярнула на палітычную дзейнасць Адама Скірмунта. У 1773 г. ён быў абраны паслом на сейм ад Пінскага пав. Удзельнічаў у працы сейма да канца яго тэрміну, г. зн. да красавіка 1775 г. У гэтым годзе Адам Скірмунт быў ужо пінскім земскім суддзёй. На апошнім пасяджэнні ў якасці прадстаўніка шляхты Берасцейскага ваяв. ён быў абраны суддзёй сеймавага суда. Удзельнічаў у працы сейміка Пінскага пав., які выбіраў паслоў на Чатырохгадовы сейм. У лістападзе 1790 г. быў узнагароджаны ордэнам св. Станіслава. Прадстаўляў пінскую шляхту на апошнім сейме Рэчы Паспалітай у Гародні ў 1793 г.

Паводле Зеліньскай, Адам Скірмунт пагаджаўся задаволіць прэтэнзіі Расіі, але быў праціўнікам Прусіі, настойваў на эвакуацыі яе войск з тэрыторыі Рэчы Паспалітай і кампенсацыі нанесенай імі шкоды. У 1794 г. як кандыдатура расійскага пасла Восіпа Ігельстрома і біскупа Юзафа Касакоўскага ён быў уключаны ў склад Пастаяннай Рады. Адбылося гэта насуперак меркаванню караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Аднак «усходнія апекуны» таксама крытыкавалі Адама Скірмунта, які часта аспрэчваў прапановы расійскага пасла.

Апрача палітычнай дзейнасці Адам Скірмунт актыўна ўдзельнічаў у будаўніцтве канала Агінскага. За ягоныя сродкі будавалася частка канала ад Гаравахі да Вяляцічаў. Ён таксама быў канюшым пінскім, падкаморым пінскім, старастам пінскім (1775) і войтам пінскім (1792)[141].

Дакументы таксама сведчаць, што пры выкананні службовых абавязкаў Адам Скірмунт злоўжываў сваім становішчам. Так, 7 мая 1792 г. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі зацвердзіў рашэнне Асэсарскага суда Вялікага Княства Літоўскага па выніках разгляду скаргі пінскіх мяшчан на супрацьзаконную дзейнасць гетмана Міхала Казіміра Агінскага, старасты пінскага Тамаша Скірмунта, войта пінскага Адама Скірмунта і камісара Себасцьяна Бароўскага.

*ДАКУМЕНТ*

**Скарга мяшчан горада Пінска. 1792 г.**[142]

*[...] места Пінск, некалі гандлёвае і шматлюднае праз розныя краёвыя рэвалюцыі або праз шматлікія пажары зруйнаванае да такой ступені, што толькі след мяс-*

---

140 E. Zielińska, *Skirmunt Adam (2. poł. XVIII w.)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny.* T. XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 173–174.

141 J. Gordziejew, *Materiały źródłowe do dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego. Cz. 1. Inwentarze miasta Pińska z lat 1764 i 1778,* «Rocznik Biblioteki naukowej PAU i PAN w Krakowie». Rok. XLVIII (2003), s. 185; А. Федорук, *Старинные усадьбы Берестейщины*, с. 32–41.

142 Biblioteka naukowa PAN i PAU w Krakowie. Zbiory specjalne, j. 5924, k. 150–152.

*цовай юрысдыкцыі, раней называнай Магдэбургіяй, з невялікай лічбай мяшчан у ім застаўся, у той жа час кіраўніцтва старасты [Тамаша Скірмунта – А. С.] так далёка пашырыла межы сваёй улады, што ўсе фундушы, прыбыткі і выгоды на ўпрыгожванне, парадак ды іншыя патрэбы места ад Найсвятлейшых Каралёў Польскіх і Вялікіх Князёў Літоўскіх прывілеямі перад і пасля ўнійнымі, Канстытуцыямі сеймавымі зацверджаныя і нададзеныя, былі незаконна адабраны на карысць старасты.*

*Менавіта ўвесь прыбытак прапінацыі ад вырабу і продажы ў месце напояў, а таксама чыншы з мясцовых пляцаў, купецкіх крамаў, з камораў солі ды інш., з крамаў хлебных і мясных, таксама прыбытак з Дома гасціннага, прыбытак за вагу і вымярэнні з васкабойні, цырульні і лазні. Таксама ад […] гандлюючых на Рынку і Рыбным базары ды іншых базарах, адным словам, усё, што павінна ісці на ўтрыманне, упрыгожванне і парадак з самых старажытных часоў наданых і выкарыстаных, усё гэта названым ваяводам [гетманам Міхалам Казімірам Агінскім – А. С.] з папярэднікамі сваімі, старастамі пінскімі адабрана, места апрача жахлівых карцін знішчанай Ратушы пакінуў без найменшых фундушаў. Таксама на самым пачатку сваёй улады староста, заключыўшы на шкоду места Пінска змову з названымі Скірмунтам войтам места Пінска [Адам Скірмунт – А. С.] і Бароўскім, у той час наменнікам замкавым Пінска, грунт мясцовы Бронага да шасці валок, які з незапамятных часоў быў уласнасцю пінскіх мяшчан (пра тое сведчыць Маніфест, унесены у гродскія акты Берасцейскага ваяводства) з фальваркам Вайтоўскім і млынам ветраным забраў і да гэтага часу прыбытак сабе забірае. Акрамя таго, розныя манаполіі, якія сціскаюць гандаль і перашкаджаюць прамысловасці, надзвычайныя падаткі як ад солі, што прывезена на продаж, ад продажы алею, дзёгцю, а таксама яблык, цыбулі ды іншага харчу на мяшчан пінскіх, якія жывуць з працы сваіх рук і з прамысловасці, накінуў.*

*Названы Гетман пасля атрымання Эканоміі Пінскай усялякі ўваход у пушчу Эканоміі Пінскай, нягледзячы на даўнія правы і звычаі, мяшчанам пінскім забараніў. Таксама, будучы старастам пінскім, аўстэрыю на самым Рынку места збудаваў, і па гэты час на шкоду прапінацыі мясцовай прыбытак незаконна забірае.*

У выніку гетман Міхал Казімір Агінскі, Тамаш і Адам Скірмунты, Себасцьян Бароўскі былі прызнаныя каралём і вялікім князем вінаватымі ў тым, што пазбавілі пінскіх мяшчан законных прывілееў, прысвоілі гарадскую маёмасць, наклалі вялізарныя падаткі на гандаль і прамысловасць і г. д. Суд прызнаў справядлівасць скаргі і прымусіў адмяніць усе незаконныя акты, якія парушалі правы пінчукоў.

Цікава, што адначасна ў земскім судзе Пінскага пав. разглядаўся пазоў Адама Скірмунта да гетмана Міхала Казіміра Агінскага, які быў вінаваты яму значную суму грошай і не спяшаўся яе вяртаць. Суд падтрымаў пазоў і абавязаў гетмана выплаціць Адаму Скірмунту 1 тыс. чырвоных злотых па набытых у гетмана аблігацы-

ях і амаль 2,5 тыс. злотых як працэнтаў за ранейшы доўг[143]. Гэтыя судовыя працэсы не пашкодзілі палітычнай кар'еры Адама Скірмунта, які памёр каля 1820 г.[144]

Вяроўкін-Шэлюта згадаў таксама пінскага каморніка гранічнага, мастаўнічага і харунжага пінскага Аляксандра (сын Баніфацыя, памёр да чэрвеня 1801 г.) і яго-ных сыноў – пінскага падсудка і падкаморага Каспера Вінцэнта (нар. у 1775 г.) і лаўніка пінскага павятовага земскага суда, пазней прэзідэнта межавага пінскага суда Амброжыя Вінцэнта (1776–да 1840 г.)[145].

Значны след у гісторыі XVIII ст. пакінуў таксама сын Ігнацыя Аляксандравіча Сымон (1747–1835). Ён займаў пасады мастаўнічага пінскага (1776-1788), мечніка пінскага (1788–1792), падчашага Пінскага пав. (1793), дэпутата Галоўнага Літоўскага трыбунала (з 1776 г.) і дэпутата Чатырохгадовага сейма (з 1790 г.), маршалка шляхты Берасцейскага ваяводства і маршалка шляхты Пінскага пав. (1812). Дзякуючы хуткаму кар'ернаму росту і шлюбу з Эльжбетай Ажэшка ён сабраў значны капітал. Сярод дакументаў Бібліятэкі Польскай Акадэміі навук у Кракаве захавалася шмат квіткоў, якія сведчаць пра пэўную фінансавую залежнасць гетмана Міхала Казіміра Агінскага ад мечніка пінскага[146]. Ён спачатку арандаваў у гетмана землі на Піншчыне і на Ашмяншчыне, а ў 1792 г. выкупіў у Агінскіх маёнтак Моладава з фальваркам Парэчча. Пачалася гісторыя моладава-парэчскай галіны роду[147].

Плотніца засталася сынам Тамаша Міхайлавіча – выпускніку Віленскага ўніверсітэта, «кандыдату філасофіі» (1811) Адаму і маршалку шляхты Пінскага пав. Аляксандру. У 1820 г. яны падзялілі маёнтак паміж сабой[148].

У лістападзе 1802 г. Скірмунты былі прызнаны «древними и родовыми полными дворянами» і запісаны ў шостую частку Радаводнай кнігі Менскай губ. Шляхецтва Скірмунтаў пацвярджалася ў 1811, 1820 і 1829 гг.

Яшчэ адна лінія роду Скірмунтаў мела татарскае паходжанне. Станіслаў Дзядулевіч у *Herbarze rodzin tatarskich w Polsce* распавёў пра татарскі княжы род Кадышэвічаў (Аксак-Мірза). Прадстаўнікі гэтага роду сыны Найманскага харунжага Асана, а менавіта Абрахім і Багдан, іх пляменнік Алей Ахміцевіч у 1631 г. прынялі прозвішча *Скірмунт*[149]. Паводле Дзядулевіча, Кадышэвічы захавалі ўласны герб, які з гэтага часу пачаў называцца герб Скірмунт. Аднак дакументы Дэпартамента

---

143 Biblioteka naukowa PAN i PAU w Krakowie. Zbiory specjalne, j. 4391, k. 146–147.

144 У. Вяроўкін-Шэлюта, *Скірмунты…*, с. 321. Вынікі экспедыцыі па Піншчыне ў 2004 г. дазваляюць лічыць верагодным месцам пахавання Адама Скірмунта могілкі в. Ахова Пінскага раёна.

145 У. Вяроўкін-Шэлюта, *Скірмунты…*, с. 321–322.

146 Biblioteka naukowa PAN i PAU w Krakowie. Zbiory specjalne, j. 4458; j. 4462, т. 1; j. 4463, т. 2.

147 НГАБ. Ф. 319, воп. 2, спр. 2969, арк. 160–162; А. Федорук, *Старинные усадьбы Берестейщины*, с. 32–41.

148 А. Федорук, *Старинные усадьбы Берестейщины*, с. 32–41.

149 *Herbarz rodzin tatarskich w Polsce.* Opr. Stanislaw Dziadulewicz. Wilno 1929, s. 295.

герольдыі сведчаць, што прынамсі ў XVIII ст. татарскі род Скірмунтаў карыстаўся гербам «Прыяцель».

Пра перайманне адным з татарскіх родаў на Гарадзеншчыне прозвішча *Скірмунт* пісаў таксама расійскі даследчык Станіслаў Думін[150]. Вядомы публіцыст пачатку XX ст. Чэслаў Янкоўскі ў даследаванні гісторыі Ашмянскага пав. (1896) у пераліку найбольш уплывовых татарскіх родаў («татары дагестанскія») назваў род Аксак – эмірза – Скірмунты[151]. Прычыны гэтага пераймання вядомыя. Такім чынам прадстаўнікі татарскіх родаў Рэчы Паспалітай у XVII ст. імкнуліся падкрэсліць лаяльнасць да дзяржавы. Зразумела, без дазволу Скірмунтаў перадача прозвішча была немагчымай.

Паводле С. Дзядулевіча, Скірмунты татарскага паходжання жылі пераважна на Гарадзеншчыне. Гэта пацвярджаюць і матэрыялы Дэпартамента герольдыі. У 1847 г. разглядалася справа пра шляхецтва Мустафы і Асмана Скірмунтаў з Сакольскага пав. Дакументы пацвярджалі іх паходжанне ад Найманскага харунжага Багдана Асанавіча Скірмонта герба «Прыяцель». Таксама ў справе фігураваў палкоўнік Ахмет Скірмунт, які валодаў вёскамі Драгна, Горныя, Панятовічы і Каменка[152].

У перыяд Рэчы Паспалітай прадстаўнікі роду займаліся пераважна гаспадарчай дзейнасцю або знаходзіліся на адміністрацыйных ці вайсковых пасадах ніжэйшага і сярэдняга ўзроўню. Духоўную кар’еру сярод Скірмунтаў выбіралі адзінкі. Так, у Энцыклапедыі Бракгауза і Эфрона згаданы суфраган жамойцкі і біскуп уцянскі Іяхім Скірмунт, які памёр у 1781 г.[153] Вядомы даследчык гісторыі ордэна езуітаў Людвік Гжэбень паведаміў пра ксяндза Яна Скірмонта (Скірмунта) (1667–1718), прафесара граматыкі, паэтыкі і рыторыкі, а таксама аўтара драматычных твораў[154]. Ён уступіў у ордэн у верасні 1688 г. у Вільні. На пачатку XVIII ст., у перыяд Паўночнай вайны быў прэфектам школ і бібліятэкі ў Навагрудку, Драгічыне і Пінску, рэгенсам канвікту[155] Клакоцкага ў Слуцку, потым – місіянерам у Чарнігаве, а памёр у Бабруйску на пасадзе суперыёра[156] *Society of Jesus*. Таксама

---

150 С. Думін, *Татарская шляхта на ўсходніх землях былой РП у 1795–1999 гг.* (у:) *Europa nie prowincjonalna. Przemiany na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej (Białoruś, Litwa, Łotwa, Ukraina, wschodnie pogranicze III Rzeczypospolitej Polskiej) w latach 1772–1999*. Pod redakcją K. Jasiewicza. Warszawa 1999, s. 537.

151 Cz. Jankowski, *Powiat Oszmiański. Część pierwsza*. Petersburg 1896, s. 240.

152 РГИА. Ф. 1343, оп. 29, д. 3569, л. 1.

153 *Энциклопедический словарь*. Издатели Ф. А. Брокгауз и И. А. Ефрон. Т. 30 (59): Сим-Слюзка. Санкт-Петербург 1900, с. 200.

154 *Encyklopedia wiedzy o jezuitach na ziemiach Polski i Litwy, 1564–1995*. Opracował Ludwik Grzebień S J przy współpracy zespołu jezuitów. Kraków 1996.

155 Регенс канвікту – кіраўнік інтэрнату для вучняў калегіума.

156 Суперыёр узначальваў «dom zakonny». Гэта была найменшая адміністрацыйная адзінка ордэна. У 1630–1633 гг. гэтую пасаду ў Бабруйску займаў св. Андрэй Баболя.

варта згадаць манаха ордэна базыліян Пятра Дамініка, прадстаўніка пятага «калена» роду, які фігураваў у дакументах, прад'яўленых Менскаму шляхецкаму сходу ў 1802 г.[157]

Такім чынам, Скірмунты па-за легендарнай часткай радаводу не належалі да эліты Вялікага Княства Літоўскага. Сярод іх нячаста сустракаліся выбітныя асобы, якія мелі ўплыў на прыняцце важных палітычных рашэнняў. Скірмунты XV–XVIII стст. – гэта адзін са шматлікіх шляхецкіх родаў Беларуска-Літоўскага краю, якія служылі яму на розных грамадскіх і адміністрацыйных пасадах і панавалі на сваіх «загродах».

Вельмі важную рысу гэтага роду адзначыў Браніслаў Залескі ў кнізе, прысвечанай Алене Скірмунт (1874). Ён пісаў, што род Скірмунтаў быў адным з тых, каго называлі «гнездавымі», бо яго пачатак быў звязаны з пачаткамі самой шляхты, і Скірмунтаў ніхто не мог назваць чужынцамі. Наколькі сягала чалавечая памяць, яны належалі да спрадвечаных жыхароў Беларуска-Літоўскага краю[158].

У апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай Скірмунты здолелі ўмацаваць свае пазіцыі і парадніліся з Друцкімі-Любецкімі, Бутрымовічамі, Твардоўскімі, Сулістроўскімі, Ажэшкамі ды інш.

## *Крона «Дуба»*

XIX стагоддзе ў гісторыі Беларуска-Літоўскага краю стала перыядам вялікіх перамен, якія непасрэдна датычылі шляхецкага саслоўя. Іх галоўным зместам быў працэс палітычнай і эканамічнай дэградацыі шляхты, яе паступовы сыход з гістарычнай арэны. Важным элементам гэтага працэсу была працэдура г. зв. «разбору шляхты», ініцыяваная расійскімі ўладамі. Шляхта была вымушана прад'яўляць дакументы, якія пацвярджалі шляхецкасць, і чакаць рашэння чыноўнікаў з Дэпартамента герольдыі. Зрабіць гэта па розных прычынах было складана. Паводле падлікаў беларускай даследчыцы Сузанны Самбук, у 1868–1869 гг. у Менскай губ. пацвердзілі шляхецтва толькі 53,4 % усіх, хто падаваў дакументы (10 850 чал.)[159]. Іншых запісвалі ў катэгорыю «сялян-аднадворцаў».

Пераважная большасць незаможнай шляхты, каб выжыць павінна была сама адмовіцца ад прэтэнзій на пэўныя прывілеі і ўтрымлівацца коштам уласных намаганняў. Са шляхтай былой Рэчы Паспалітай іх яднала толькі ўсведамленне ўласнай шляхецкасці, якое насуперак расійскай палітыцы г. зв. «дэпаланізацыі», звычайна спалучалася з пачуццём польскасці. Пры гэтым захоўвалася этнакультурная адметнасць мясцовай шляхты ад насельніцтва этнічных польскіх земляў,

---

157 НГАБ. Ф. 319, воп. 2, спр. 2969, арк. 159.

158 B. Zaleski, Z *życia Litwinki. 1823–1874. Z listów i notatek.* Poznań 1876, s. 7–8.

159 С. Самбук, *Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в.* Минск 1980, с. 38.

пра якую ў 1908 г. пісаў адзін з ідэолагаў краёвасці Міхал Ромэр[160]. Складанасць феномена свядомасці шырокіх колаў шляхты адлюстравалася таксама ў моўнай сітуацыі. Польская даследчыца Зофія Кужова (Zofia Kurzowa) звярнула ўвагу на феномен білінгвізму, калі польская мова станавілася мовай кантактаў звонку, а беларуская ці літоўская мовы захоўвалі пазіцыі першай і хатняй[161].

Больш істотным фактарам дэградацыі шляхты сталі сацыяльна-эканамічныя працэсы, звязаныя з эпохай мадэрнізацыі, якая паступова ахоплівала еўрапейскую частку Расійскай імперыі. Традыцыйнае грамадства паступова трансфармавалася ў грамадства сучаснае. Гэта выяўлялася ў яго ўрбанізацыі, рацыяналізацыі свядомасці і дзейнасці, змяншэнні ролі рэлігіі ў грамадскім жыцці, дэмакратызацыі і нівеліяванні сацыяльных адрозненняў ды інш.

Аналіз матэрыялаў Дэпартамента герольдыі сведчыць, што шматлікія прадстаўнікі роду Скірмунтаў не мелі праблемы з пацвярджэннем шляхецтва. Але і яны павінны былі прыкладаць намаганні, каб даказаць уласную прыналежнасць да прывілеяванага саслоўя.

Гэтыя намаганні дазваляюць сучасным даследчыкам убачыць не толькі тых Скірмунтаў, якія сталі свайго роду «візіткай» роду і звычайна фігуруюць ва ўсіх публічных радаводах, але таксама іншых, што не пакінулі прыкметнага следу ў аналах гісторыі. Мажліва, гэта пра іх жартавалі палешукі яшчэ на пачатку XX ст.: *Шчо ні морда, то Орда, шчо ні шпунцік то Скірмунцік*. Аднак дакументы Дэпартамента герольдыі спрыяюць усведамленню, што без гэтых «іншых» немагчыма зразумець гісторыю роду Скірмунтаў, і, што яны маюць не меншае права прысутнічаць у радаводах, чым вядомыя палітыкі і прадпрымальнікі.

Матэрыялы, прадстаўленыя Скірмунтамі ў Магілёўскі шляхецкі сход у 1834 г., утрымліваюць звесткі пра харунжага прускай арміі Тадэуша Скірмунта, які тэстаментам 1784 г. перадаваў маёнтак Вяляцічы Ашмянскага пав. сынам Юстыну, Міхалу і Станіславу. Юстын 12 гадоў праслужыў на расійскай Белянскай мытнай заставе *Самогитской провинции*, якая знаходзілася на старой мяжы паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай і была створана расійскімі ўладамі ўжо пасля першага падзелу краіны (1773). Ён быў звольнены ў 1794 г. з характарыстыкай, што «вёл себя как найлучше»[162]. Варта адзначыць, што сваіх сыноў Яна (1802 г. нар.) і Іосіфа (1804 г. нар.) ён хрысціў у грэка-каталіцкай царкве.

Ягоны брат Міхал з 1799 па 1828 г. быў упраўляючым маёнткамі ў Віцебскай, Менскай і Магілёўскай губ. і рабіў «честно, примерно и трезво»[163], што пацвярджалі 10 (!) атрыманых ім атэстатаў. Сына Аляксандра (1821 г. нар.) таксама хрысціў ва ўніяцкай царкве ў Бабруйскім пав. У 1828 г. ён набыў маёнтак у Быхаўскім пав.

---

160 M. Römer, *Litwa. Studyum o odrodzeniu narodu litewskiego*. Lwów 1908, s. 24.

161 Z. Kurzowa, O *mowie Polaków na kresach wschodnich*. Kraków 1993.

162 РГИА. Ф. 1343, оп. 29, д. 3567, л. 26.

163 Тамсама, л. 14.

Уніяцкі сюжэт у радаводзе Скірмунтаў можна дапоўніць звесткамі пра сыноў харунжага Пятра Скірмунта Яна (1800 г. нар.) і Стэфана (1803 г. нар.), якія былі хрышчаны ва ўніяцкай Рухоцкай царкве Пінскага пав.

Хрышчэнне ва ўніяцкіх цэрквах дзяцей старажытнага каталіцкага роду ў перыяд Расійскай імперыі – варты ўвагі феномен. Асабліва з улікам таго, што пераследу каталіцкага касцёлу на рубяжы XVIII–XIX ст. не было. Зрэшты, як і ўніяцкай царквы. Як вядома, імператар Павел I адмовіўся ад антыўніяцкай палітыкі Кацярыны II.

Трэба адзначыць, што хрышчэнне дзяцей ва ўніяцкіх храмах практыкавалася Скірмунтамі і раней. Так, у 1793 г. у маёнтку Сяляцічы на Піншчыне быў хрышчаны святаром Фамой Рабановічам Адам Людвік Скірмунт[164], які ў 1811 г. атрымаў дыплом «кандыдата філасофіі» Віленскага ўніверсітэта. Аднак у 1799 г. манах францысканец Пётр Твароўскі ў касцёле Пінска правёў над ім адмысловы абрад увядзення ў каталіцкі касцёл.

Дакументы геральдычных камісій таксама паведамляюць пра Іосіфа Мустафавіча Скірмунта, сына адстаўнога карнета расійскай арміі, які Беластоцкім шляхецкім сходам быў прызнаны шляхцічам у 1818 г. Ён наогул не меў нерухомай маёмасці і арандаваў фальварак у Наваградскім пав.[165] Не меў уласнасці таксама Станіслаў Скірмунт, які трапіў у Спіс шляхты Дзісенскага пав. (1864). Ён «працаваў на зямлі» і, як дадалі складальнікі спісу, быў «палітычна дабранадзейным, у бунце не ўдзельнічаў»[166].

Незаможнасць згаданых прадстаўнікоў роду абумовіла даволі гарачыя спрэчкі паміж імі пасля смерці Міхаіла Міхайлавіча Скірмунта, які памёр у 1884 г. у Крыме, не пакінуўшы спадкаемцаў. У гэтых судовых спрэчках удзельнічалі магілёўскія, беластоцкія і віленскія Скірмунты. На жаль, матэрыялы Дэпартамента герольдыі не дазваляюць ацаніць спадчыны памерлага. Вядома толькі, што ягоны бацька адстаўны штабс-капітан Міхаіл Стэфанавіч Скірмунт наогул не меў нерухомай маёмасці, а маці памерлага валодала фруктовым садам каля Сімферопаля і 9 «душамі обоего пола»[167].

Вайсковая кар'ера вабіла Скірмунтаў. Ужо згаданы Міхаіл Стэфанавіч Скірмунт як афіцэр расійскага войска ўдзельнічаў у вайне з Турцыяй 1829–1831 гг., быў паранены і ўзнагароджаны срэбным медалём. Не задаўся вайсковы лёс Феліцыяна Скірмунта, які ў складзе Эстляндскага пяхотнага палка ўдзельнічаў у франка-расійскай вайне 1812 г. Падчас ваенных дзеянняў на тэрыторыі Саксоніі ў 1813 г. ён трапіў у палон. Пасля вызвалення (1814) выйшаў у адстаўку ў чыне

---

164 Тамсама, д. 3574, л. 140.
165 ЛДГА. Ф. 391, воп. 6, спр. 665, арк. 80.
166 Ibidem, спр. 2057, арк. 19.
167 РГИА. Ф. 1343, оп. 29, д. 3575, л. 13.

падпаручніка[168]. На іншым баку былі сімпатыі маршалка шляхты Пінскага пав. Сымона Скірмунта, які пры адступленні расійскага войска не дапусціў знішчэння запасаў збожжа ў Пінску, а пасля прыходу войск Напалеона арганізаваў шыкоўны баль і банкет, на які былі прывезены запасы віна з Моладава[169].

Стрыечны брат Феліцыяна Стэфан Пятровіч Скірмунт, хрышчаны таксама ва ўніяцкай царкве, быў звольнены ў адстаўку (1833) у чыне паручніка з мундзірам і «пенсионам полного жалованья». У архиве захаваліся копіі імператарскіх указаў.

*ДАКУМЕНТ*

**Указы Мікалая I датычна вайсковай службы Стэфана Скірмунта (Скірмонда, Скірмунда). 1831–1832 гг. Фрагменты**[170]

*Подпоручику Литовского гренадерского полка Скирмунду. В воздаяние ревностной вашей службы и отличия, оказанного вами в сражении против польских мятежников 8 февраля 1831 г., вы мужеством и храбростью подавая собою пример, поощряли людей к поражению неприятеля, нанося ему большой вред сильным огнем стрелков, причем вы тяжело контужены ядром в грудь, Всемилостивейше пожаловали мы вас Указом в 2-й день августа 1831 г. капитулу данным Кавалером ордена св. Анны 4-й степени с натписью за храбрость […]*

*Подпоручику Луцкого гренадерского полка Скирмонду. В воздаяние ревностной вашей службы и отличного мужества и храбрости, оказанных при штурме Варшавских укреплений […], пожаловали мы вам Указом в 19-й день мая 1832 г. капитулу данным орден св. Анны 3-й степени с бантом […]*

Відавочна, што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай Скірмунты апынуліся ў розных палітычных лагерах. Стрыечны брат Стэфана Ігнацы Скірмунт быў абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні 1830–1831 гг. Інфармацыю пра гэта ўлады атрымалі толькі ў 1850 г. ад салдата-дэзерціра, які паведаміў, што ў 1831 г. у лясах Ігнацыя Скірмунта (маёнтак Туляцін на Піншчыне) у адмысловым лагеры збіраўся паўстанцкі атрад (да 50 чал.). Гэты атрад аб'яднаўся з атрадам Цітуса Пуслоўскага. Пасля разгрому паўстанцаў іх камандзір нейкі час хаваўся ў сядзібе Скірмунтаў[171].

Пінскі земскі суд распачаў следства, якое ўстанавіла датычнасць І. Скірмунта да «мятежных действий». Мінскае губернскае праўленне прыняло рашэнне ўнесці яго імя ў спіс асобаў «принимавших участие в злоумышленных противу

---

[168] Тамсама, л. 163.

[169] H. Skirmunt, Z *dziejów Pińszczyzny. Trzy najazdy: 1709–1812–1915*, «Gazeta Warszawska». 1925, Nr 154, 6 czerwca,.

[170] РГИА. Ф. 1343, оп. 29, д. 3575, л. 115.

[171] Государственный архив Российской Федерации (далей: ГАРФ). Ф. 109, оп. 25, д. 280, л. 1–1 адв.

правительства предприятиях». Але гэта не было зроблена, бо за «мяцежніка» заступіўся... віленскі генерал-губернатар Ілля Бібікаў. Ён звярнуўся з лістом да начальніка Корпуса жандараў генерала Л. Дубельта, у якім нагадаў пра ўказ Мікалая I (1832) наконт забароны весці следства адносна новых удзельнікаў паўстання, калі гэта не яго ініцыятары і кіраўнікі. Бібікаў прапанаваў пакараць парушальнікаў імператарскага ўказу. Дубельт пагадзіўся з ім, і Ігнацы Скірмунт пазбег пакарання[172].

Прычыны гэтага заступніцтва застаюцца таямніцай. Але варта адзначыць, што Скірмунты на Палессі адыгрывалі значную ролю ў гаспадарчым жыцці і займалі высокія пасады ў органах шляхецкага самакіравання. Менавіта Скірмунты з 1811 па 1838 г. былі маршалкамі шляхты Пінскага пав. – Сымон (1811–1814), Адам Тамашавіч (1814–1817 і 1835–1838) і Аляксандр Сымонавіч (1823–1835)[173]. Магчыма, гэта адыграла пэўную ролю ў лёсе Ігнацыя Скірмунта.

Пра моцныя пазіцыі Скірмунтаў на Піншчыне сведчыць таксама рэестр шляхты Пінскага пав. за 1815 г. У рэестры фігуравалі былы падкаморны Пінскага пав. Адам Станіслававіч Скірмунт (82 г.) як уладальнік маёнткаў Рухна і Калоднае (2 044 прыгонныя «душы обоего полу»), маршалак павятовай шляхты Адам Тамашавіч (25 г., Вяляцічы, 500 прыгонных), харунжы павету Аляксандр Тамашавіч (24 г., Чарвенічы, 489), былы маршалак шляхты Сымон Ігнацьевіч (64 г., Парэчча і Альбрэхтова, 1 897), былы падсудак земскі Каспер Аляксандравіч (42 г., Кашавічы, 240), былы суддзя земскі Амброжы Аляксандравіч (40 г., Бакінічы, 200), суддзя гранічны павета Антон Аляксандравіч (36 г., Плоскінь, 440), былы шамбелян Ігнацы (30 г., Туляцін, 110), паручнік польскага войска Каэтан Васільевіч (52 г., Зарэчча, 350), харунжы Пётр Андрэеевіч (54 г., Плотніца, 34), харунжы Якуб (54 г.) і стараста павета Антон Норбертавіч (30 г.)[174]. Сын Сымона Скірмунта Аляксандр у 1826 г. стаў старшынём Пінскага межавага суда, а праз тры гады быў абраны маршалкам шляхты Пінскага пав. На гэтай пасадзе ён заставаўся і ў 1835 г.[175]

Пасямейныя спісы шляхты II разраду Пінскага пав. за 1834 г. пацвердзілі моцныя пазіцыі Скірмунтаў у эканоміцы і грамадскім жыцці рэгіёна. У спісе згаданыя Антон Пятровіч (38 г.), які жыў з сям'ёй ва ўласным доме ў Пінску, былы падкаморны Пінскага пав. Каспер Аляксандравіч (60 г.) як уладальнік маёнтка Кашавічы (373 прыгонныя «душы»), былы суддзя Пінскага павятовага суда Амброжы Аляксандравіч (56 г., Бакінічы, 361), былыя суддзі павятовага межавага суда Антон Аляксандравіч (55 г., Плоскінь, 398), Ігнат Ануфрыевіч (44 г., Туляцін, 476) і Іосіф Іванавіч (48 г., Відзібор, 192), Франц Якубавіч (39 г., Плотніца, 137),

---

172 Тамсама, л. 3.

173 *Алфавитный список дворянским родам Минской губ., внесенным в дворянскую родословную книгу па 1 июля 1903 г.* Минск 1903, с. 145.

174 НГАБ. Ф. 319, воп. 1, спр. 69а, арк. 32–34.

175 Тамсама, спр. 952, арк. 4–6, 37.

маршалак шляхты павета і камер-юнкер Аляксандр Сымонавіч (34 г., Парэчча, 2 195), былыя маршалкі павятовай шляхты Адам Тамашавіч (42 г., Вяляцічы ды інш., 1 875) і Аляксандр Тамашавіч (40 г., Рум ды інш., 1 255) ды інш.[176]

Большасць згаданых Скірмунтаў вяла звычайнае шляхецкае жыццё, якое грунтавалася на больш ці менш эфектыўным прыгнёце «душ абоего полу». Толькі некаторыя прадстаўнікі роду ступілі на шлях рэфармавання ўласных маёнткаў і паступова ператварыліся ў паспяховую дынастыю прадпрымальнікаў. Гаворка ідзе ў першую чаргу пра ўладальнікаў маёнткаў Парэчча Пінскага пав. Менскай губ. і Моладава Кобрынскага пав. Гарадзенскай губ.

Як ужо адзначалася, гэтыя землі напрыканцы XVIII ст. Сымон Скірмунт выкупіў у Агінскіх. Агінскія аказаліся не вельмі добрымі гаспадарамі. Іх палескі маёнтак не даваў прыбытку і быў абцяжараны вялізнымі даўгамі. Сымон Скірмунт пачаў гаспадарыць з пабудовы ўласнага палаца, які павінен быў замяніць старую сядзібную забудову Агінскіх. Такі традыцыйны пачатак для амбіцыёзнай і багатай шляхты…

Палітык і дыпламат першай трэці XX ст. Канстанцін Скірмунт успамінаў, што мастаўнічы пінскі, маршалак шляхты Пінскага пав. і дэпутат сейма Сымон Скірмунт, які ажаніўся на Эльжбеце з Ажэшкаў (герб «Кораб»), быў адным з найбагацейшых жыхароў Палесся. У Моладаве спачатку была збудавана мураваная сядзіба (1795), а пазней (1798) пад кіраўніцтвам архітэктара фон Гроса – прыгожы палац, прызнаны за адзін з найпрыгажэйшых у тагачаснай гістарычнай Літве[177].

Француженка Роза Белі, генеральны сакратар *Les Amis de la Pologne*, якая наведала Моладава ў 1936 г., прызнавалася, што ёй гэты палац нагадваў «мару пры святле месяца пад цудоўную музыку Моцарта»[178]. Ягоныя пакоі ўпрыгожвалі партрэты Скірмунтаў і Ажэшкаў. Атачалі палац дрэвы парка ў англійскім стылі.

Выключную ролю ва ўзвышэнні роду і пераўтварэнні палескай лініі Скірмунтаў у дынастыю славутых прадпрымальнікаў адыграў сын Сымона Аляксандр Ізідар (1799–1870). Дзякуючы яго прадпрымальніцкім здольнасцям і гаспадарчай актыўнасці, уладанні Скірмунтаў на Піншчыне ператварыліся ў свайго роду плацдарм фабрычнай прамысловасці ў Беларусі.

Аляксандр Скірмунт закончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта (1818) і працягнуў адукацыю па-за межамі Расіі. Ва ўніверсітэтах Германіі і Францыі ён вывучаў хімію і прайшоў практыку на адной з фабрык як звычайны рабочы. Дадому вярнуўся ў 1823 г. У тым жа годзе ажаніўся з дачкой менскага гу-

---

[176] ЛДГА. Ф. 391, воп. 6, спр. 612, арк. 199, 264, 265, 308–309.

[177] K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*; wstęp i oprac. E. Orlof, A. Pasternak. Rzeszów 1997, s. 19.

[178] Цытата па: А. Киштымов, *Скирмунты: династия предпринимателей*, «Деловой вестник». 1994. № 9–10.

бернатара Канстанцыяй Сулістроўскай[179] і ўзяў у свае рукі кіраванне сямейнай гаспадаркай[180]. На той час яна ўключала маёнткі Моладава (з фальваркам Парэчча), Альбрэхтова, Кажанёва і Клетна ў Кобрынскім пав. Гарадзенскай губ. і Пінскім пав. Менскай губ. Акрамя таго, у пасаг за жонку атрымаў маёнтак Шаметаўшчына ў Свенцянскім пав. Віленскай губ. (сучасная в. Шэметава Мядзельскага раёна). Агульная плошча зямельных уладанняў перавышала 33 тыс. га[181].

Аляксандр Скірмунт заняўся гаспадаркай, імкнучыся выкарыстаць набытыя веды. У 1830 г. у Моладаве пачала дзейнічаць цукроўня, адна з першых у Беларусі. У 1836 г. у Парэччы, якое ў гэты час вылучылася ў асобны маёнтак, распачаўся выпуск прадукцыі суконнай фабрыкі, якая праславіла Скірмунтаў амаль на ўсёй тэрыторыі імперыі.

Гаворка пра прамысловасць Парэчча яшчэ наперадзе, а пакуль варта адзначыць, што эканамічныя пераўтварэнні Аляксандр Сымонавіч Скірмунт спалучаў з незвычайнай для таго часу сацыяльнай палітыкай. У прыватнасці, будаваліся дамы для сямейных рабочых, дзейнічаў шпіталь, было арганізавана прафесійнае навучанне для дзяцей.

Апрача таго, у Моладаве дзейнічаў вінакурны завод. Аляксандр Скірмунт таксама меў дачыненне да адкрыцця фабрыкі свечак і туалетнага мыла ў Альбрэхтове, паравога млына ў Пінску ды інш.

У шлюбе з Канстанцыяй Сулістроўскай (1806–1845) нарадзілася 11 дзяцей: шасцёра сыноў – Казімір (1824–1877), Канстанцін (1828–1880), Аляксандр (1830–1909), Сымон (1835–1902), Генрык (1836–1916), Зыгмунт (1839–1863) і пяцёра дачок – Караліна (1826?–1916), Антаніна (1825–?), Эмілія (1833–1905), Канстанцыя і Гартэнзія (памерла ў маладосці).

Казімір Скірмунт як уладальнік маёнтка Калоднае прадстаўляў Пінскі пав. у Менскім губернскім Камітэце паляпшэння сялянскага жыцця (1858), а пасля адмены прыгону ў 1861 г. актыўна працаваў як міравы пасярэднік. Падчас паўстання 1863 г. ён пакінуў гэтую пасаду і адмовіўся падпісаць «адрас» на імя імператара, у якім менская шляхта выказвала сваю адданасць расійскаму прастолу. Быў арыштаваны і змешчаны разам з іншымі былымі міравымі пасярэднікамі, якія таксама адмовіліся ад пасады, у гмаху Менскага шляхецкага схода, а потым высланы ў Кастраму. Як удзельніца паўстання была выслана ў Тамбоў і ягоная жонка, таленавіты скульптар Алена Скірмунт (1827–1874).

Маёнткі падвергліся прымусоваму продажу. Дачку Канстанцыю (1851–1934), якая стане вядомай грамадскай дзеячкай і публіцысткай, выхоўвала бабуля

---

179 Cz. Jankowski, *Powiat Oszmiański. Część druga*. Petersburg 1897, s. 35 (Чэслаў Янкоўскі ў сваёй кнізе згадаў пра «шумнае вяселле» 1823 г. у Варнянах на Ашмяншчыне).

180 N. Orda, *Aleksander Skirmunt,* «Tygodnik ilustrowany». 1871. Nr 175.

181 St. Konarski, *Skirmunt Aleksander (1798–1870)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. T. XXXVIII/2, zeszyt 158, s. 174

Гартэнзія Скірмунт (з Ордаў). Пасля вяртання з ссылкі ў 1867 г. Казімір, якому не дазволілі застацца на Меншчыне, атрымаў ад бацькі падарунак у выглядзе балаклаўскіх вінаграднікаў і паехаў у Крым. Алена Скірмунт разам з дачкой Канстанцыяй далучыліся да яго праз два гады.

У гісторыю мастацтва земляў гістарычнай Літвы Алена Скірмунт увайшла як першая жанчына, якая прафесійна займалася скульптурай. Вучылася ў мастакоў і скульптараў з Берліна, Вены і Рыма і ўласным талентам ламала гендарныя стэрэатыпы. Яе творы дэманстраваліся на выставах у Львове, Варшаве і Кракаве ў 1870–80-я гг.

Найбольш вядомым творам Алены Скірмунт былі «гістарычныя шахматы», фігуры якіх увасаблялі паход караля Яна III Сабескага на Вену падчас вайны з Асманскай імперыяй (1683). Стварэнне шахмат пачалося ў 1864 г. Фігуры прызначаліся для ўдзельнікаў паўстання, якіх высылалі ў Сібір. Пасля вяртання з ссылкі яна працягнула працу над імі. Усяго было створана 12 фігур войска Рэчы Паспалітай і 10 – Асманскага войска. У 1873 г. у Вене гэтыя фігуры былі адлітыя з бронзы і пакрытыя срэбрам або золатам. Пазней яны распаўсюджваліся ў выглядзе літаграфій і фотаздымкаў[182]. Браніслаў Залескі назваў іх «гістарычнай паэмай»[183].

Канстанцін атрымаў маёнтак Шаметаўшчыну і заняўся добраўпарадкаваннем як сваёй гаспадаркі, так і сялянскіх. Ён быў ініцыятарам стварэння Таварыства ўзаемнага крэдыта з удзелам сялян, што спрыяла іх вызваленню ад ліхвярства, выдаткоўваў значныя сродкі на культурныя і гаспадарчыя патрэбы. Падчас паўстання 1863 г. быў арыштаваны і зняволены ў Менску па справе Зыгмунта Серакоўскага[184]. Аднак па выніках следства быў вызвалены і вярнуўся ў Шаметаўшчыну.

Сын Канстанціна Скірмунта і Габрыэлы Умястоўскай Казімір (1861–1931) стаў вядомым юрыстам і рэлігійным дзеячам, які на пачатку XX ст. быў пасярэднікам паміж польскім епіскапатам і Апостальскай сталіцай, а ў 1919 г. заняў пасаду кананічнага дарадцы пасольства Польшчы ў Ватыкане[185]. Ягоны брат Баляслаў стаў пісьменнікам, аўтарам біяграфіі Казіміра[186]. Сястра Марыя (1858–1907) вучылася ў Вышэйшай школе Баранецкага ў Кракаве і цікавілася батанікай. Пазней,

---

[182] J. Polanowska, *Skirmuntowa (Skirmunttowa, Skirmuntt) Helena (1827–1874)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 187–189; Б. Залескі, З *жыцця літвінкі. З лістоў і нататак. 1823–1874.* Мінск 2009.

[183] Б. Залескі, З *жыцця літвінкі…*, с. 312.

[184] Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта (далей: БВУ). Адзел рукапісаў F 33, j. 702 a. З ліста Рамана Скірмунта да Мар'яна Здзяхоўскага ад 11 верасня 1931 г.

[185] H. Fokciński, *Skirmunt Kazimierz (1861–1931)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2, zeszyt 158, s. 177–178.

[186] B. Skirmunt, W *służbie Kościoła i Polski. Ks. Dr Kazimierz Skirmunt.* Wilno 1931.

ужо як Марыя Твардоўская працавала ў рэдакцыі часопіса «Zielnik Flory Polskiej», збірала гербарый, які перадала Таварыству сяброў навукі ў Познані[187].

Брат Канстанціна Зыгмунт стаў доктарам філасофіі Гейдэльбергскага ўніверсітэта, але яго жыццё абарвалася ў 24-гадовым узросце. Сымон уладарыў у маёнтку Клетна, аднак больш цікавіўся жывапісам, чым гаспадаркай. Таксама валодаў вінаграднікамі ў в. Перыно паблізу Брындызі ў Італіі. Генрыку дасталася моладаўская гаспадарка, якую ён зрабіў узорнай. Тут былі ўведзены чатырохпольны і васьміпольны севазвароты, разводзілі пародзістую скаціну. Сметанковае масла з Моладава ішло на экспарт у Данію і Англію.

Парэчча атрымаў Аляксандр Аляксандравіч, які паспяхова кіраваў прамысловым цэнтрам у Парэччы, актыўна дзейнічаў падчас падрыхтоўкі і ажыццяўлення аграрнай рэформы 1861 г. і заслужыў павагу сялян і памешчыкаў на пасадзе міравога пасярэдніка. Быў адным з заснавальнікаў Таварыства дабрачыннасці ў Пінску, павятовага Сельскагаспадарчага таварыства, а таксама Пінскага банка ўзаемнага крэдыту, які сам і ўзначаліў. Ён таксама ўдзельнічаў у паўстанні 1863 г. Паводле ўспамінаў Якуба Гейштара, Аляксандр Скірмунт быў праціўнікам узброенай барацьбы, але аказаў паўстанцам важныя паслугі. Між іншым, перавозіў у карэце кіраўніка паўстання Рамуальда Траўгута[188]. Магчыма, толькі самаахвярнась сяброў і аднадумцаў дазволіла пазбегнуць рэпрэсій і захаваць уладанні.

У ягоным шлюбе з Тэафілай Любаньскай (1836–1928) нарадзілася 10 дзяцей. Адным з іх быў Раман Скірмунт. Разам з ім у Парэцкім маёнтку выхоўваліся браты Аляксандр (1858–1940), Вацлаў (1867–1872), Зянон (1874–1910) і сёстры Тэафіла (1857–1935), Браніслава (1864–1916), Ванда (1866–1954), Феліцыя (1873–1950) і Алена (1869–1943?)[189]. У дакументах Дэпартамента герольдыі згадваўся таксама Юзаф, які нарадзіўся ў 1862 г., але падобна, што ягонае жыццё было вельмі кароткім.

У суседнім Моладаве ў шлюбе Генрыка Скірмунта з Марыяй Твардоўскай (1840–?) нарадзілася 4 дзяцей – Канстанцін (1866–1949), Генрык (1868–1939), Марыя (1870–1939) і Ядвіга (1874–1968).

Найбольш вядомым з іх быў Канстанцін Скірмунт. Ён вучыўся ў Мікалаеўскай гімназіі ў Лібаве, працягваў навучанне ў Пецярбурзе, дзе ў 1887 г. атрымаў дыплом «кандыдата права». Наступныя два гады служыў у Сенаце, а потым па просьбе бацькі выйшаў у адстаўку і вярнуўся ў Моладава, каб займацца гаспадаркай. На пачатку XX ст. стаў адным з заснавальнікаў Гарадзенскага сельскагаспадарчага таварыства і з'яўляўся ягоным фактычным кіраўніком з 1902 па 1905 г. У верасні 1904 г. удзельнічаў у адкрыцці помніка Кацярыне II у Вільні і атрымаў прыдвор-

---

187 Fr. Chłapowski, *Maria Twardowska z Skirmuntów. Notka biograficzna.* [Poznań] 1908.

188 J. Gieysztor, *Pamiętniki z lat 1850–1865.* Tom I. Wilno 1913, s. 402.

189 НГАБ. Ф. 295, воп. 2, спр. 2969, арк. 43; *Złota księga szlachty...,* s. 284–285; А. Федорук, *Стариные усадьбы Берестейщины,* с. 32–41.

ны тытул камер-юнкера. Моцная крытыка г. зв. «катараняжаў» як адступнікаў і здраднікаў прымусіла яго на нейкі час адысці ад грамадскай дзейнасці. Але ўжо ў 1906 г. Канстанцін Скірмунт удзельнічаў у выбарах у І Дзяржаўную Думу ад Гарадзенскай губ. Гэтая спроба распачаць палітычную дзейнасць аказалася няўдалай. Поспех прыйшоў у 1909 г., калі «галасамі» зямян Гарадзеншчыны ён быў абраны ў Дзяржаўную Раду і да 1917 г. заставаўся яе сябрам.

Палітычныя перамены 1917 г. паспрыялі рэзкай змене накірунку палітычнай дзейнасці. К. Скірмунт стаў адным з заснавальнікаў Польскага нацыянальнага камітэта, а пазней – яго прадстаўніком у Рыме. З 1919 па 1921 г. быў паслом Польскай дзяржавы ў Італіі, а ў 1921–1922 гг. займаў пасаду міністра замежных спраў Польшчы. Потым (да 1934 г.) быў паслом у Вялікабрытаніі. Як дыпламат адыграў значную ролю ва ўмацаванні міжнародных пазіцый адроджанай Польскай дзяржавы[190].

Ягоны брат Генрык (1868–1939) увайшоў у польскія энцыклапедыі як паэт і кампазітар. Пасля заканчэння гімназіі ў Лібаве паступіў у кансерваторыю ў Пецярбурзе, пазней вучыўся ў Парыжы, Варшаве і Берліне. У 1902 г. у Львове адбылася прэм’ера яго оперы «Пан Валадыеўскі» паводле твораў Генрыка Сянкевіча. Рэцэнзіі былі вельмі стрыманыя. Пачаў пісаць вершы, якія, між іншым, публікаваліся на старонках пецярбургскага «Краю». Сябраваў з Элізай Ажэшка, якая падтрымлівала яго творчасць. У Варшаве (1903) і Кракаве (1912) выйшлі з друку два тамы «Паэзіі», якія, аднак, не былі заўважаны крытыкамі. У 1925 г. быў прыняты ў Секцыю кампазітараў пры Варшаўскім музычным таварыстве[191]. У 1913 г. у сувязі з занятасцю старэйшага брата палітычнымі і грамадскімі справамі Генрык быў вымушаны ўзначаліць гаспадарку Моладава. У міжваеннай Польшчы ён уваходзіў у Саюз землеўласнікаў і актыўна падтрымліваў дзейнасць каталіцкага касцёла.

Асобнай згадкі заслугоўвае публіцыстка Канстанцыя Скірмунт (1851–1934), дачка Алены і Казіміра. Яе першыя публікацыі, якія звярнулі на сябе ўвагу чытачоў, з’яўляліся папулярызацыяй гісторыі старажытнай Літвы. Так, у 1886 г. у Кракаве выйшла з друку кніга *Dzieje Litwy opowiedziane w zarysie*. У гэтай ды іншых працах яна ў папулярнай форме распавядала пра пачаткі гісторыі Літвы, дзейнасць першых князёў, прычым крытычна ацэньвала ролю Польшчы ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

---

190 M. Nowik-Kiełbikowa, *Skirmunt (Skirmuntt) Konstanty (1866–1949)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny.* Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 178–183; M. Nowik-Kiełbikowa, *Konstanty Skirmunt. Polityk i dyplomata.* Warszawa 1998; P. Bojarski, *Zapomniany dygnitarz: Konstanty Skirmunt – minister spraw zagranicznych w latach 1921–1922*, «Meritum». 2016, Tom 6, s. 57–70.

191 Z. Dernałowicz, *Skirmunt (Skirmuntt) Henryk (1868–1939)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny.* Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 175–177.

Актывізацыі яе публіцыстычнай дзейнасці на пачатку XX ст. паспрыяла палеміка паміж «старалітвінамі» і «младалітвінамі», якая фактычна была дыскусіяй пра месца літоўскіх палякаў у будучыні гістарычнай Літвы. Канстанцыя Скірмунт падзяляла галоўныя пастулаты ідэалогіі краёўцаў і прапагандавала ідэю палітычнай нацыі. Галоўным крытэрыем нацыянальнай прыналежнасці лічыла пачуццё патрыятызму і грамадзянскага абавязку ў дачыненні да Айчыны-Літвы і яе карэнных народаў. Праўда, у адрозненне ад іншых краёўцаў Канстанцыя Скірмунт карэннымі народамі лічыла толькі літоўцаў, палякаў і беларусаў.

У артыкуле на старонках «Кур'ера Польскага» (1906, № 193) яна вызначыла ўласную свядомасць як *Gente Lithuana, natione Lithuana*, што, прынамсі, па форме адрознівалася ад традыцыйнай формулы свядомасці літоўскіх палякаў: *Gente Lithuani, natione Poloni*.

Выступаючы пад псеўданімамі (*Futurus, Pojata, Helena-Pojata*), Канстанцыя Скірмунт актыўна змагалася з усімі праявамі радыкальнага нацыяналізму. Але пры гэтым падтрымлівала літоўскі нацыянальны рух, абараняла яго на старонках польскага друку, кантактавала з дзеячамі літоўскага руху, у прыватнасці, перапісвалася з Ёнасам Басанавічусам. Публіцыстка была прыхільніцай «ягелонскай ідэі», разумеючы яе як яднанне народаў былой Рэчы Паспалітай на прынцыпах роўнасці. У 1907 г. на старонках «Кур'ера Літэўскага» заявіла, што Польшча не дасягне нічога, калі не ўбачыць на Усходзе замест «крэсаў» краіны і народы[192].

Яе дом («Мур») у Пінску ўжо ў 1880–1890-я гг. стаў пэўным цэнтрам асветніцкай і грамадскай дзейнасці, у якой краёвасць спалучалася з абаронай інтарэсаў мясцовых палякаў і каталіцкага касцёла. З непасрэдным удзелам Канстанцыі і яе сяброўкі Юзэфы Кужанецкай ў часы прэм'ерства Пятра Сталыпіна быў выратаваны ад руйнавання касцёл у Гарадзішчы, што на Піншчыне. Таксама яна была актывісткай дабрачыннага руху[193]. Адначасна Канстанцыя Скірмунт цалкам падтрымлівала беларускую палітычную дзейнасць стрыечнага брата Рамана ў перыяд нацыянальна-культурнага Адраджэння і спробы пабудовы беларускай дзяржаўнасці.

Пачатак Другой сусветнай вайны і савецкая агрэсія супраць Польшчы абярнуліся рэпрэсіямі супраць Скірмунтаў, якія засталіся на тэрыторыі Заходняй Беларусі. У перыяд панавання «першых саветаў» (1939–1941) загінулі амаль усе мужчыны з роду Скірмунтаў, якія трапілі ў рукі «вызваліцеляў», а іх маці, жонкі, сёстры і дзеці былі вывезены ў калгасы Казахстана або ў лясгасы Поўначы СССР. Рэпрэсіі, якія працягваліся савецкімі партызанамі падчас нямецкай акупацыі, сталі канцом гісторыі палескіх Скірмунтаў.

---

192 Futurus [Konstancja Skirmuntt], *Idea Jagiellońska, a polityka kresowa*, «Kurjer Litewski». 1907, Nr 24, 31 stycznia.

193 P. Łossowski, *Skirmuntówna (Skirmuntt) Konstancja (1851–1934)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 189–190; D. Szpoper, *Gente Lithuana, natione Lithuana…*

## *«Ліверпуль на Ясельдзе»*

Радзімай Рамана Скірмунта было Парэчча на беразе р. Ясельды. Менавіта тут, у сямейным коле і ў атачэнні жыхароў палескай вёскі ён сфарміраваўся як асоба. Ягоная сувязь з гэтай малой Радзімай выходзіла далёка па-за межы звычайных матэрыяльных патрэб. Парэчча было для Скірмунта тым родным домам, які дапамагаў пераждыць выпрабаванні, мацаваў дух і даваў надзею. Рызыкну выказаць меркаванне, што якраз маленькае Парэчча, а не вялікая палітыка было галоўнай справай ягонага жыцця.

Гісторыя «скірмунтаўскага Парэчча» пачалася задоўга да нараджэння будучага палітыка і грамадскага дзеяча. Нагадаю, што калі прадзед Рамана Сымон Скірмунт выкупляў маёнтак Моладава на Піншчыне ў Агінскіх, то Парэчча з'яўлялася толькі фальваркам. Доўгі час менавіта Моладава было цэнтрам гаспадарчых ініцыятыў палескіх Скірмунтаў. Толькі ў сярэдзіне XIX ст. гэты цэнтр перамясціўся ў Парэчча Пінскага пав. Яго ўладальнікі ўвайшлі ў беларускую гісторыю як прадстаўнікі адной з найбольш паспяховых дынастый мясцовых прадпрымальнікаў у XIX – пачатку XX ст.

Варта засяродзіцца на пераўтварэнні Парэчча ў буйны па мерках Менскай губ. прамысловы цэнтр і на той ролі, якую ў гэтым працэсе адыгралі Аляксандр Сымонавіч і Аляксандр Аляксандравіч Скірмунты. Жыццё і дзейнасць дзеда і бацькі былі пэўным жыццёвым арыенцірам для Рамана Скірмунта.

Аналіз асобаснага чынніка станаўлення беларускага «Ліверпуля на Ясельдзе» дазваляе выказаць меркаванне, што сярод матываў дзейнасці дзеда і асабліва бацькі дамінавала не асабістае ўзбагачэнне, а імкненне да развіцця роднага краю, пераўтварэння Піншчыны як часткі гістарычнай Літвы ў квітнеючы прамысловы рэгіён.

Магчыма, падчас свайго навучання ў Еўропе Аляксандр Скірмунт (старэйшы) пазнаёміўся з працамі славутага эканаміста Адама Сміта (1723–1790), галоўная кніга якога *An Inquiry into the Nature and Causes of the Wealth of Nations* (Даследаванне пра прыроду і прычыны багацця народаў, 1776) была перакладзена на французскую і нямецкую мовы яшчэ пры жыцці аўтара. Аднак пацвердзіць гэтае меркаванне гістарычнымі дакументамі немагчыма. Адзіным пацвярджэннем можа быць толькі сама дзейнасць заснавальніка прамысловага цэнтра і ягоных пераемнікаў. Ізноў жа гіпатэтычна можна сцвярджаць уплыў на жыццё і дзейнасць трох пакаленняў палескіх Скірмунтаў кніг Джона Сцюарта Міля (1806–1873), дзе былі выкладзены асновы класічнай палітэканоміі і дактрыны лібералізму. Дарэчы, яны маглі чытаць гэтыя працы ў арыгінале, бо валодалі англійскай мовай.

Нагадаю, што асновай рынкавай эканомікі Сміт лічыў імкненне прадпрымальніка атрымаць прыбытак, што, незалежна ад яго волі і свядомасці, працавала на эканамічны прыбытак усяго грамадства. Пры гэтым галоўнай умовай поспеху і ўзбагачэння грамадства былі эканамічныя свабоды ўсіх суб'ектаў гаспадарання.

Гаворка ішла пра свабоду выбару сферы дзейнасці і прыняцця рашэнняў, свабоду канкурэнцыі і гандлю.

У гаспадарчай дзейнасці палескіх Скірмунтаў заўсёды былі адчувальнымі пэўныя грамадскія матывы. Іх жыццё ніколі не абмяжоўвалася інтарэсамі ўласнай сям'і і нават таго саслоўя, да якога належалі. Аляксандр Скірмунт (малодшы), паводле сцвярджэння сына Рамана, быў прыхільнікам «варшаўскага пазітывізму» і «лічыў галоўным абавязкам працу на сваім загоне дзеля ўздыму матэрыяльнага дабрабыту ўласнага грамадства»[194]. Менавіта шырыня мыслення, клопат пра «малую» і «вялікую» Радзімы ды іх жыхароў, імкненне пашырыць межы еўрапейскай цывілізацыі ператваралі паспяховых прадпрымальнікаў у людзей, якія намагаліся змяніць рэчаіснасць, прыспешыць ход гісторыі, і тым самым станавіліся небяспечнымі для Расійскай імперыі.

Як фармаваўся і што сабой уяўляў «Ліверпуль на Ясельдзе»? Што абумовіла нетыповае для шляхты жыццё прадстаўнікоў парэцкай галіны роду Скірмунтаў? Якім чынам прадпрымальніцкая дзейнасць дзеда і бацькі паўплывала на «краёвую» канцэпцыю Рамана Скірмунта?

### *Аляксандр Сымонавіч Скірмунт (1799–1870)*

Магчыма, штуршком для пераўтварэння шляхцічаў у прадпрымальнікаў сталі даўгі Агінскіх, якія Сымон Скірмунт выкупіў разам з маёнткам Моладава. Апрача таго, пачатак XIX ст. не быў спрыяльным для гаспадарчага развіцця. Вайна 1812 г. адмоўна паўплывала на эканамічны стан Піншчыны, у т. л. на стан скірмунтаўскіх уладанняў. Так, у красавіку 1814 г. маршалак шляхты Пінскага пав. Сымон Скірмунт падчас агульнага схода шляхецкіх дэпутатаў Менскай губ. адзначыў цяжкія наступствы знішчэнняў і рэквізіцый апошняй вайны і заявіў, што пасля пагашэння працэнтаў па тых даўгах, што ўсё яшчэ абцяжарвалі маёнтак, і ўсіх выплат у дзяржаўны скарб за 1813 г. ён не атрымаў аніякага прыбытку[195].

Вялікую ролю ў станаўленні дынастыі Скірмунтаў-прадпрымальнікаў адыграў сын Сымона Аляксандр Ізідар (1 ліпеня 1799 – 22 ліпеня 1870)[196]. Жыццё і дзейнасць гэтага чалавека заслугоўвае асобнай манаграфіі, якая магла б стаць важнай старонкай у эканамічнай гісторыі Беларусі і ўсёй гістарычнай Літвы. У гэтай працы абмяжуюся толькі сціплым пералікам зробленага ім дзеля стварэння ў Моладаве і Парэччы буйнога прамысловага цэнтра.

Пасля вяртання з Еўропы, дзе ён удасканальваў сваю ўніверсітэцкую адукацыю і атрымліў пэўныя практычныя навыкі фабрычнай працы, Аляксандр Сымонавіч у 1823 г. ажаніўся з дачкой былога менскага губернатара Канстанцыяй

---

[194] [R. Skirmunt], *Żywot, zgon i pogrzeb ś. p. Aleksandra Skirmunta*, «Słowo». 1909, Nr 165.
[195] НГАБ. Ф. 319, воп. 1, спр. 848, арк. 18.
[196] РГИА. Ф. 1343, оп. 29, д. 3574, л. 2.



*Аляксандр Сымонавіч Скірмунт на партрэце В. Ваньковіча*

Сулістроўскай і заняўся рэфармаваннем уласнай гаспадаркі. Бацька перадаў яму права кіравання ўсімі маёнткамі і капіталамі. У той час гаспадарка гэтай лініі Скірмунтаў уключала маёнткі Моладава ў Кобрынскім пав. Гарадзенскай губ., Парэчча, Альбрэхтова, Кажанёва і Клетна ў Пінскім пав. Менскай губ., а таксама маёнтак Шэметаўшчыну ў Свенцянскім пав. Віленскай губ. Нагадаю, што апошні Скірмунты атрымалі ў пасаг за Канстанцыю Сулістроўскую. Гаспадарчае жыццё на гэтых землях традыцыйна абмяжоўвалася земляробствам.

У 1829 г. супрацоўнік Польскага банка Казімір Контрым, вядомы таксама як сакратар скарба ўрада Вялікага Княства Літоўскага ў 1812 г. і бібліятэкар Віленскага ўніверсітэта, што ў свой час апекаваўся філаматамі, па загаду кіраўніцтва банка выбраўся на Палессе, каб пазнаёміцца з узроўнем гандлю і гаспадаркі рэгіёна. Узровень быў даволі нізкі. На фоне гаспадарчай актыўнасці прадстаўнікоў габрэйскай супольнасці мясцовая заможная шляхта дэманстравала няздольнасць да эфектыўнага вядзення гаспадаркі, нежаданне і адсутнасць умення ўлічваць прыродныя асаблівасці Палесся. Іх прамысловыя і гандлёвыя зацікаўленні дыктаваліся модай і традыцыяй, а не рацыянальным разлікам і інтарэсамі капіталу. Марнатраўства капіталаў і працы было нормай гаспадарання ў маёнтках. Галоўнай крыніцай шляхецкай заможнасці з’яўляліся не гаспадарчыя поспехі, а звычайны рабунак галоўнага багацця Краю, а менавіта – лесу і селяніна.

Значна пазней вядомы даследчык Палесся этнолаг Юзаф Абрэмбскі, разважаючы пра вытокі гаспадарчага заняпаду Палесся ўжо ў 1920–30-я гг., справядліва адзначаў: «Малыя палескія «Версалі» з іх палацамі, стайнямі, сабакарнямі, бібліятэкамі, аранжарэямі, паркамі і звярынцамі, з іх айчынным марнатраўствам і імпартаванай раскошай, усёй спажывецкай пышнасцю – грунтаваліся не на прадпрымальніцтве землеўласніка, не на паляпшэнні прадукцыйнасці ці тэхнічных удасканаленнях, не на росце вытворчасці ці развіцці прамысловасці і гандлю, а на вынішчэнні лесу і прыгнёце селяніна»[197].

Контрым асцярожна ацэньваў мясцовыя перспектывы развіцця фабрычнай прамысловасці. Ён канстатаваў, што нізкі тэхнічны ўзровень звычайна спалучаецца з адсутнасцю падрыхтаваных работнікаў і ігнараваннем патрэбаў рынку. Пры гэтым падарожнік з вялікай цікавасцю прыглядаўся да шляхецкіх спроб

---

[197] J. Obrębski, *Polesie. Studia etnosocjologiczne. 1*. Red. naukowa i wstęp A. Engelking. Warszawa 2007, s. 66.

ажыўлення гаспадарчага жыцця. Паспяховы шляхціч-прадпрымальнік на Палессі ў часы Контрыма быў з’явай унікальнай. Так, ён згадаў з’яўленне на берагах Ясельды і Шчары невялікіх суконных фабрык, у т. л. фабрыкі Войцаха Пуслоўскага ў наваколлях мяст. Хомска і г. Слоніма, а таксама паведаміў пра плантацыі цукровых буракоў у Моладаве Аляксандра Скірмунта і будаўніцтва там цукроўні, першая прадукцыя якой павінна была з’явіцца ўжо ў 1829 г.[198]

Магчыма, што абранне А. Скірмунтам менавіта гэтай галіны прамысловасці было абумоўлена таксама ягонай цікавасцю да хіміі. Уладальнік маёнтка, дарэчы, атрымаў патэнт на ўласнае вынаходніцтва – апарат для паскоранага выпарэння цукровага сіропу[199]. Сутнасць вынаходніцтва заключалася ў выкарыстанні г. зв. «праката». Гэта была металічная паверхня, што награвалася парам, па якой сцякаў цукровы сіроп. «Пракат» дазваляў значна паскорыць тэхналагічны працэс выпарвання цукру. Замест 4–5 гадзінаў ён доўжыўся 3–4 хвіліны. Наогул, гэта патэнт лічыцца першым у гісторыі Беларусі.

Вытворчасць цукра на Палессі была наватарскай справай. Паводле дадзеных Энцыклапедычнага слоўніка Ф. Бракгаўза і І. Ефрона, ва ўсёй Расійскай імперыі ў 1830 г. мелася толькі 20 (!) цукровых заводаў[200]. Адпаведна, збыт прадукцыі быў гарантаваны.

Аднак маладога прадпрымальніка напаткала няўдача. Фабрыка не давала прыбытку. На думку Напалеона Орды, які быў сваяком Скірмунта і ведаў сітуацыю з «першых рук», няўдача была абумоўлена як адсутнасцю падрыхтаваных да фабрычнай працы кадраў, так і занятасцю ўладальніка, які ў 1829 г. быў упершыню абраны маршалкам шляхты Пінскага пав[201]. Выправіць сітуацыю не атрымалася, бо ў 1835 г. фабрыка з усімі гаспадарчымі пабудовамі згарэла.

Гэтая няўдача не спыніла Аляксандра Сымонавіча. Шматлікія суседзі, для якіх непрымальнымі былі ўсе навацыі, а працавітасць і няўрымслівасць маладога ўладальніка Моладава выклікала раздражненне, казалі пра хуткі крах маёнтка. Між тым Скірмунт аднавіў цукроўню. Але і ў гэтым выпадку складана казаць пра паспяховасць праекта.

Паводле інфармацыі гарадзенскай губернскай канцылярыі, у 1841 г. у Моладаве знаходзілася цукроўня, на якой выраблялiся розныя віды цукру (у т. л. цукар-рафінад) і цукровы сіроп. На фабрыцы дамінавала ручная праца. Толькі пры першаснай апрацоўцы буракоў выкарыстоўвалася машына, якую прыводзілі ў дзе-

---

198 *Podróż Kontryma, urzędnika Banka Polskiego odbytaja w roku 1829 po Polessiu.* Wydana przez Edwarda Raczyńskiego w Poznaniu, 1839, s. 50.

199 *Свод выданных в России привиллегий с 1814 по 1835 г.* СПб. 1865, с. 289–292; А. Киштымов, *Западнополесская династия Скирмунтов XIX –XX вв.*, с. 88.

200 *Энциклопедический словарь.* Издатели Ф. А. Брокгауз и И. А. Ефрон. Т. 29 (58): Сахар-Семь мудрецов. Спб. 1900, с. 16.

201 N. Orda, *Aleksander Skirmunt*, «Tygodnik ilustrowany». 1871, Nr 175, s. 213.

янне коні. Кіраваў вытворчасцю майстар з сялян Моладаўскага маёнтку Адам Васілеўскі, якому дапамагаў таксама селянін Давід Вырвіч. Штодня працавалі ад 10 да 20 сялян у залік паншчыны. Сыравінай служыла новая для Палесся тэхнічная культура, менавіта цукровыя буракі, якія вырошчваліся ў маёнтку. Плошча плантацыі буракоў складала каля 2 300 *четвертей* або прыблізна 1 150 дзесяцін. Кошт усёй прадукцыі за 1841 г. склаў больш 2 200 руб.[202]

У Канцылярыі гарадзенскага губернатара захаваліся статыстыка дзейнасці гэтай цукроўні да 1846 г. Трэба адзначыць, што з кожным годам вытворчасць цукру змяншалася. Так, у 1846 г. кошт усёй прадукцыі склаў толькі 841 руб. Прытым што рознічныя цэны засталіся нязменнымі. Плошча «бурачнай плантацыі» скарацілася да 1 тыс. *четвертей*[203]. Праз два гады моладаўская цукроўня была наогул зачынена.

Поспех да А. Скірмунта прыйшоў у іншай галіне прамысловасці. У 1836 г. першую прадукцыю пачала даваць суконная фабрыка, збудаваная ў Парэччы. Спачатку яна была зусім маленькай, але паступова колькасць станкоў была павялічана да 100. Абсталяванне набывалася па-за межамі Расіі. З Германіі і Францыі ў Парэчча прыехалі вопытныя ткачы. Дырэктарам фабрыкі стаў нямецкі спецыяліст. Тым не менш, у першыя гады яе існавання прыбытку не было. Адной з праблем былі занадта вялікія выдаткі на замежных спецыялістаў, што значна падвышала кошт прадукцыі. Урэшце Аляксандр Скірмунт звольніў дырэктара і сам узначаліў прадпрыемства. Праз некалькі гадоў дзякуючы ягоным высілкам Парэцкая суконная фабрыка па колькасці і якасці прадукцыі стала адным з лідэраў гэтай галіны прамысловасці на беларускіх землях.

Напачатку 1840-х гг. асноўнай сыравінай для вытворчасці сукна была воўна «іспанскіх авечак», якіх паспрабавалі разводзіць у Парэччы. Фарба набывалася за межамі Расіі. Сукно прадавалася ў Віленскай, Кіеўскай, Гарадзенскай і Менскай губ.

Зразумела, што цалкам абысціся без ткачоў з Еўропы было немагчыма. У 1843 г. на фабрыцы працавалі 2 замежныя спецыялісты і 215 мясцовых рабочых[204]. Адным з такіх «суконных фабрыкантаў» быў грамадзянін Францыі Ксаверы Маўрос. Разам з жонкай ён прыехаў у Парэчча ў ліпені 1844 г., а напрыканцы года звярнуўся да ўладаў з просьбай дазволіць застацца ў Парэччы на пастаяннае жыхарства пры суконнай фабрыцы[205]. Звычайна, замежнікі, апрача асноўных абавязкаў, павінны былі рыхтаваць рабочых і майстроў з мясцовых ураджэнцаў.

Найбольш здольных мясцовых работнікаў Скірмунт пасылаў вучыцца

---

202 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гародні (далей: НГАБ у Гародні). Ф. 1, воп. 20, спр. 466, арк. 126 адв.–127.

203 Тамсама, воп. 21, спр. 30, арк. 241 адв.–242; воп. 21, спр. 25, арк. 12.

204 НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 871, арк. 109 адв. – 110.

205 Тамсама, спр. 879, арк. 354–354 адв.

і набіраецца вопыта на іншыя фабрыкі. Пасля вяртання яны займалі кіруючыя пасады на фабрыцы. Прынамсі, такім быў лёс дырэктара фабрыкі ў 1850–70-я гг. Аляксандра Скупееўскага, які пачынаў фарбавальшчыкам сукна[206].

На пачатку 1850-х гг. на фабрыцы дзейнічала адна паравая машына, а праз дзесяць гадоў – ужо тры машыны агульнай магутнасцю ў 62 конскія сілы. Са «Спісу фабрык і заводаў Менскай губ за 1859 г.» можна даведацца, што ў гэтым годзе на фабрыцы было выраблена 120 тыс. аршын[207] сукна на суму 300 тыс. руб. На фабрыцы працавалі 16 майстроў і 382 рабочыя[208]. Першапачатковыя драўляныя будынкі фабрыкі зніклі. На беразе Ясельды выраслі каменныя фабрычныя гмахі, якія ўражвалі сваімі памерамі і пры гэтым адпавядалі пэўным эстэтычным густам таго часу.

Яшчэ раз трэба адзначыць «сацыяльную палітыку» Аляксандра Сымонавіча. У Парэччы былі збудаваны чатыры дамы (90 кватэр) для сямейных рабочых і чатыры інтэрнаты для тых, хто сям'і не меў. Уладальнік утрымліваў лекара і шпіталь на 12 ложкаў. Ён жа аплачваў харчаванне. Існавала вучылішча, дзе дзяцей вучылі асновам ткацкага рамяства.

Прамысловасць дапаўняў вінакурны завод у Моладаве. Звесткі пра яго ўтрымліваюцца ў інвентары Моладаўскага маёнтка, складзеным у сакавіку 1839 г. дзеля атрымання банкаўскага крэдыта[209]. У той час маёнтак меў 8 380 дзес. зямлі (каля 8 400 га), у т. л. 529 дзес. дваровай пашні і 1 446 дзес. пашні сялянскай. У маёнтку пражывала 1 037 «душ обоего пола». Прычым «дваровых» толькі 37 чал. Кожны сялянскі двор («дым») штотыдзень меў два мужчынскія і два жаночыя дні паншчыны (усяго 14 325 дзён). Апрача таго, кожная «душа» была абавязаная адпрацаваць 12 дзён у год г. зв. «гвалту»[210]. Маёнтак быў землеробчым, а ягоная прадукцыя складалася з «хлеба» і... «горячего вина». Першае і другое адпраўлялася па рэках у Палтаўскую губ., Каралеўства Польскае, у Прусію (Данцыг і Кёнігсберг), а таксама пастаўлялася ў корчмы і прадавалася на рэгіянальных кірмашах. Аляксандр Скірмунт сцвярджаў, што прыбытак з маёнтку складаў ад 10 да 12 тыс. руб. на год.

Сярод гаспадарчых пабудоў інвентар зафіксаваў вінакурню з сасновага дрэва на каменным падмурку плошчай 120 кв. сажняў (прыблізна 240 м$^2$). У далейшым вытворчасць гарэлкі і спірта набывала ўсё большы размах. Прынамсі, у інвентары Моладаўскага маёнтка за 1858 г. згадвалася ўжо «вінакурня каменная двухпавярховая»[211]. Дарэчы, гэты ж інвентар сцвярджаў, што гадавы прыбытак

---

[206] N. Orda, *Aleksander Skirmunt*, s. 214; НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 3401, арк. 4.

[207] Старажытная мера даўжыні. 1 аршын роўны прыблізна 0,7 м.

[208] НГАБ. Ф. 21, воп. 1, спр. 5, арк. 448 адв.

[209] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 11, спр. 643, арк. 33–34.

[210] «Гвалт» – павіннасць, згодна з якой усе працаздольныя сяляне або мяшчане абавязаны былі з'яўляцца на працу туды, куды ім загадаюць.

[211] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 27, спр. 1520, арк. 27–28.

маёнтка складаў каля 8 тыс. руб. Відавочна, што ўвагу ўладальніка больш прыцягвала прамысловаць Парэчча.

Аляксандр Сымонавіч таксама меў непасрэднае дачыненне да адкрыцця фабрыкі туалетнага мыла, стэарынавых і васковых свечак у Альбрэхтове, паблізу Пінска. Ён прапанаваў варшаўскаму купцу Робэрту Ботэ заснаваць фабрыку і перадаў яму ў арэнду пляц і забудовы на тэрыторыі ўласнага маёнтка[212]. Даволі хутка фабрыка стала адной з самых буйных у імперыі. Асаблівай папулярнасцю карысталася туалетнае мыла, якое было новым таварам для Беларусі. Напрыканцы 1850-х гг. гэтая фабрыка стала ўласнасцю Скірмунта. Ён таксама спрычыніўся да з'яўлення паравога млына ў Пінску і фабрыкі металічных інструментаў у Дастоеве Пінскага пав.

Як ужо адзначалася, прадпрымальніцкая дзейнасць Скірмунта, якая не належала да традыцыйных шляхецкіх заняткаў, выклікала раздражненне суседзяў. Архіўныя дакументы даносяць да нас водгукі канфліктаў гэтага надзвычай энергічнага чалавека з жыхарамі навакольных маёнткаў і вёсак. Так, у 1847 г. гарадзенскі губернатар задаволіў прашэнне памешчыкаў Пружанскага пав., абураных пабудовай шлюзаў на тэрыторыі Моладаўскага маёнтка. Яны сцвярджалі, што ў выніку з'яўлення шлюзаў «для личных выгод» вада пачала заліваць іх лугі[213]. Праз год Гарадзенская палата дзяржаўнай маёмасці ў чарговы раз разглядала скаргу ўжо Скірмунта на сялян мяст. Моталь, якія перасталі выплочваць памешчыку чынш. Палата накіравала даручэнне Кобрынскаму земскаму суду вырашыць гэтую праблему на месцы пры ўдзеле Скірмунта. Гэта было ўжо 11-е (!) даручэнне Палаты па дадзенай справе[214]. Падобна, што ў гісторыі трансфармацыі шляхецкага саслоўя на беларускіх землях Скірмунты выглядалі хутчэй выключэннем, чым тыповым прыкладам перамен.

Жыццё Аляксандра Скірмунта было напоўнена не толькі гаспадарчымі клопатамі. Паводле меркавання Аляксандра Ільіна, менавіта ён пачаў ствараць у Моладаве бібліятэку. Ёсць згадкі пра тое, што яго сын Генрык выпісваў напрыканцы 1850-х гг. папулярную «Тэку віленьску»[215], рэдактарам якой быў Адам Ганоры Кіркор (1818–1886). Ролю апошняга ў кантынуацыі традыцый ліцвінскага патрыятызму і фарміраванні ўласна ліцвінскай культурнай традыцыі цяжка пераацаніць.

Цікавасць Аляксандра Сымонавіча да мінулага гістарычнай Літвы прывяла яго ў шэрагі фундатараў і дабрачынцаў Віленскага музея старажытнасцяў і Віленскай археалагічнай камісіі (1855–1865), створаных па ініцыятыве графа Яўстаха

---

212 НГАБ. Ф. 147, воп. 3, спр. 26892, арк. 5.

213 НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 5, спр. 681.

214 Тамсама, спр. 746.

215 А. Ильин, Е. Игнатюк, *Очерки истории культуры Пинщины (IX – начало XX в.)*. Пинск 2013, с. 211.

Тышкевіча (1814–1873)[216]. Відавочна, што ў гэтага пакалення Скірмунтаў прыналежнасць да польскай культуры спалучалася з патрыятызмам у дачыненні да гістарычнай Літвы. У далейшым гэтая рыса паспрыяла афармленню краёвай ідэалогіі, стваральнікамі якой стануць унук і ўнучка Аляксандра Сымонавіча Раман і Канстанцыя Скірмунты.

Сямейнае жыццё складвалася шчасліва. Як ужо адзначалася, у шлюбе з Канстанцыяй Сулістроўскай нарадзілася 11 дзяцей, з іх шасцёра сыноў – Казімір, Канстанцін, Аляксандр, Сымон, Генрык і Зыгмунт. Са спадкаемцамі Аляксандр Сымонавіч не меў праблем. Але ў 1845 г. жонка памерла, і яе смерць стала моцным ударам па ўсёй сям'і. Аляксандр Скірмунт заставаўся ўдаўцом да канца жыцця.

Не ўсе спадкаемцы мелі жаданне працягваць гаспадарчую дзейнасць бацькі і займацца прадпрымальніцтвам. Усё ж большасць сваякоў вяла традыцыйны лад жыцця, які не выходзіў па-за межы прыгонніцкай сістэмы і пэўных узораў шляхецкай штодзённасці часоў Рэчы Паспалітай. Жыццё і дзейнасць паспяховага прадпрымальніка Аляксандра Скірмунта часам ацэньвалася даволі крытычна. Так, ягоны сваяк Эдвард Ромэр у сваім дзённіку 26 сакавіка 1866 г., прыгадваючы Скірмунта, з раздражненнем адзначыў, што той усё сваё жыццё прысвяціў «спекуляцыі», і нават дзяцей прывучыў да гандлю[217].

Вяртаючыся да сыноў Аляксандра Сымонавіча, трэба адзначыць, што ўсе яны закончылі гімназію ў Мітаве. Старэйшы Казімір потым паспяхова закончыў факультэт прыродазнаўства Пецярбургскага ўніверсітэта. У 1848 г. ён узяў шлюб з Аленай, дачкой Аляксандра Тамашавіча і Гартэнзіі з Ордаў Скірмунтаў. Яны пасяліліся ў маёнтку Калоднае на Піншчыне. Канстанцін паспрабаваў сябе на дзяржаўнай службе, але ў 1859 г. перабраўся ў маёнтак Шаметаўшчыну Свенцянскага пав. Ён ажаніўся з Габрыэлай Умястоўскай і распачаў уласныя гаспадарчыя пераўтварэнні, якія таксама спалучаліся з грамадскай дзейнасцю. Генрыка прывабіла вайсковая кар'ера ў лейб-гвардыі Валынскім палку.

Пераемнікам усёй гаспадарчай дзейнасці стаў сын Аляксандр, якому нават не далі скончыць універсітэт. Ён пачаў дапамагаць бацьку ўжо на пачатку 1850-х гг. У 1860 г. Аляксандр Сымонавіч перадаў сыну кіраванне маёнткамі Моладава, Альбрэхтова і Парэчча, а сам пераехаў у Крым.

У даліне Балаклавы (Таўрычаская губ.) ён набыў 200 га зямлі і заснаваў вінаграднікі, дзе вырошчваліся выключна венгерскія і нямецкія гатункі вінаграда. Пасля вяртання з ссылкі сына Казіміра, якому ўлады не дазволілі застацца на тэрыторыі «Паўночна-Заходняга краю», ён запрасіў сына да сябе і перадаў яму гаспадарку. Пасля гэтага Аляксандр Сымонавіч пераехаў у Італію (раён Брындызі), дзе таксама заняўся вінаградарствам. Аднак праблемы са здароўем перапынілі

[216] Г. Каханоўскі, А. Каханоўскі, *Руплівец нашай старасветчыны*. Мінск 1991, с. 31.

[217] Biblioteka Narodowa (далей: BN). Dział rękopisów. Sygn. IV. 8724. Dzienniki Edwarda Römera z lat 1855–1872. Tom 11, 1866, k. 32–32 v.

ягоную працу. Аляксандр Скірмунт паехаў на лячэнне ў Германію, дзе і памёр 22 ліпеня 1870 г.

Адным з першых даў ацэнку ягонай дзейнасці Напалеон Орда на старонках часопіса «Tygodnik ilustrowany» (1871, № 175). Між іншым, ён адзначыў, што напрыканцы першай трэці XIX ст., калі ў Моладаве распачыналіся пераўтварэнні, уся прамысловасць Піншчыны складалася з фабрыкі па вырабу шкла ў Плотніцы, ганчарнага промысла ў Гарадной, вытворчасці паркету ў Пакосце, а таксама з гарбарняў у Століне і Рэчыцы. На гэтым фоне больш відавочным становіцца значэнне дзейнасці Аляксандра Сымонавіча Скірмунта. Менавіта дзякуючы ягоным намаганням Пінскі пав. у сярэдзіне XIX ст. выйшаў у лідэры прамысловага развіцця ўсёй Менскай губ.

## *Аляксандр Аляксандравіч Скірмунт (1830–1909)*

Аляксандр Аляксандравіч Скірмунт (1830–1909) з годнасцю працягваў справу бацькі, паспяхова спалучаючы прадпрымальніцтва і грамадскую дзейнасць.

Універсітэт ён не скончыў. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захавалася справа пад назвай *О высылке сыновей дворян на военную службу*. У спісе памешчыкаў і іх сыноў, якія мелі не менш 100 прыгонных «душ» у Пінскім пав. (1852), насупраць імя Аляксандра ёсць кароткі запіс: «По выбытии из Императорского Санкт-Петербургского университета занимается по настоящее время при суконном заводе своего отца в имении Поречье»[218].

Прычыны гэтага «выбытия», хутчэй за ўсё, звязаны з патрэбамі гаспадаркі. Магчыма, ужо ў той час Аляксандр Скірмунт (старэйшы) пачаў глядзець на сына Аляксандра як на свайго пераемніка. Выраз «занимается по настоящее время при суконном заводе своего отца» мог азначаць якраз падрыхтоўку сына да самастойнай дзейнасці ў якасці будучага кіраўніка маёнтка. Іншую версію выказаў Якуб Гейштар, які сцвярджаў, што Аляксандр Сымонавіч забраў сына з Пецярбурга незадоўга да заканчэння ўніверсітэта, бо баяўся наступстваў устаноўленага над студэнтамі жорсткага нагляду пасля рэвалюцыйных падзей 1848 г.[219] Магчыма і тое, што якраз гэтыя падзеі падштурхнулі бацьку да прыняцця рашэння наконт спадкаемцы. Дарэчы, спадкаемца не толькі атрымліваў магчымасць распараджацца маёмасцю «моладава-пінскіх» Скірмунтаў. Ён адначасна браў на сябе абавязак утрымання ўсёй вялікай сям'і і нёс пэўную адказнасць за лёс сваякоў.

У 1855 г. Аляксандр Аляксандравіч Скірмунт узяў шлюб з Тэафілай Любаньскай. Запіс метрычнай кнігі Кужанецкага касцёла сведчыць, што 19 лістапада 1855 г. ксёндз Антоні Пузарэвіч павянчаў «дворянина Александра Скирмунта, юношу 25 лет из имения Молодово прихода Яновского Гродненской губернии

[218] НГАБ. Ф. 320, воп. 1, спр. 313, арк. 50.
[219] J. Gieysztor, *Pamiętniki z lat 1850–1865.* Tom I. Wilno 1913, s. 402.

Кобринского уезда с дворянкою Теофилою Любанскою, девицею лет 18 из имения Токлипаны (правільна Тэклінаполь – *А.С.*) Куренецкого прихода»[220].

Жонка прынесла ў пасагу фальварак Тэклінаполь, што паблізу Вілейкі. Інфармацыя пра фальварак, якая ўтрымліваецца ў выданні *Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych państw słowiańskich* (Том XII, 1892), не сведчыць пра заможнасць гэтай лініі роду Любаньскіх. Прынамсі, у 1865 г. у Тэклінаполі пражывала толькі 28 чалавек і знаходзіўся адзін мураваны дом[221].

Маладыя пасяліліся ў Альбрэхтове пад Пінскам. Аляксандр Скірмунт (малодшы) паспяхова займаўся справамі фабрыкі свечак і мыла, якую Скірмунты выкупілі ў Р. Ботэ. Згаданы «Спіс фабрык і заводаў» (1859) паведамляў, што на фабрыцы было выраблена 2 230 пудоў стэарынавых свечак на суму 18 590 руб. срэбрам, а звычайнага мыла – 3 230 пудоў на суму 8 190 руб.[222] Адначасова А. Скірмунт займаў пасаду куратара вучылішч Пінскага пав. У Альбрэхтове нарадзіліся дачка Тэафіла (1857) і сын Аляксандр (1858). Імёны першых дзяцей паўтаралі імёны бацькоў, што, магчыма, сведчыць на карысць думкі пра рамантычныя падставы гэтага шлюбу.

У 1860 г. Аляксандр Скірмунт (малодшы) стаў кіраўніком вялізнай гаспадаркі Моладава, Парэчча і Альбрэхтова, фармальным уладальнікам якой заставаўся ягоны бацька. З новымі абавязкамі быў звязаны пераезд у Парэчча, якое адыгрывала вядучую ролю ў гаспадарцы маёнтка. Тут паспяхова дзейнічала суконная фабрыка, і была заснавана цукроўня.

Пачатак цалкам самастойнай дзейнасці А. Скірмунта супаў з вялікімі пераменамі ў эканамічным, палітычным і культурным жыцці ўсёй імперыі і Беларуска-Літоўскага краю. Прыход да ўлады Аляксандра II спарадзіў надзеі на змену палітычнага клімату ў імперыі. Station Браніслаў Залескі ў кнізе, прысвечанай Алене Скірмунт, пісаў пра агульнае адчуванне гэтых перамен мясцовай шляхтай: «Вяртанне шматлікіх ссыльных з найбольш далёкіх краёў расчульвала сэрцы і напаўняла бадзёрасцю, мясцовыя ўлады пачыналі інакш размаўляць і паводзіць сябе, чым дагэтуль [...] Паўсюль казалі, то аб прыязных да нас пачуццях новага імператара, то аб тайных нібыта на нашу карысць абавязацельствах, якія наклаў на яго Парыжскі кангрэс. Генерал-губернатар у Вільні абвяшчаў пра шматлікія памілаванні, дазваляў сабе казаць нават аб аднаўленні ўніверсітэта, і нават розумы, што найменш паддаюцца ілюзіям, спадзяваліся на лепшую будучыню краю»[223].

На глебе гэтых спадзяванняў нарадзілася ідэя стварэння Сельскагаспадарчага таварыства, якое павінна было ахапіць большасць губерняў Беларуска-Літоўскага

[220] НГАБ у Гародні. Ф. 915, воп. 1, спр. 27, арк. 36.

[221] *Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych państw słowiańskich*. Tom XII. Warszawa 1892, s. 279.

[222] НГАБ. Ф. 21, воп. 1, спр. 5, арк. 448 адв.

[223] Б. Залескі, З *жыцця літвінкі*..., с. 109.

краю. Як сцвердзіў Д. Шпопер, ініцыятыву стварэння такога Таварыства ў Менскай губ. агучыў землеўласнік з Наваградскага пав. Юльян Карповіч падчас шляхецкіх выбараў у Менску (1859). Яе падтрымалі і пашырылі. Таварыства павінна было ахопліваць не толькі Менскую, але таксама Віленскую, Гарадзенскую і Ковенскую губ.[224]

Дзеля распрацоўкі Статута ў 1860 г. у Вільні пачаў працаваць Камітэт прадстаўнікоў названых губерняў. Ад Менскай губ. у яго склад увайшоў брат Аляксандра Казімір Скірмунт. Пра цікавасць іншых прадстаўнікоў роду да гэтай ініцыятывы сведчыць тое, што распрацаваны праект Статута разам з іншымі матэрыяламі захаваўся сярод карэспандэнцыі Скірмунтаў у Асалінэум (Вроцлаў).

Знаёмства са зместам праекта дазваляе сцвярджаць, што гэтае Таварыства павінна было аб'яднаць эліту літоўскіх і беларускіх палякаў, а ў выпадку неабходнасці ягоная дзейнасць магла набыць нават больш шырокі характар. Між іншым, пра гэта сведчаць прапанаваныя ўмовы ўступлення ў арганізацыю: «Усе грамадзяне краю без розніцы саслоўя і веравызнання могуць быць сябрамі Таварыства»[225]. Гэтае палажэнне цалкам адпавядала адной з задач Таварыства: «У сувязі з тым, што праблема развіцця сельскай гаспадаркі і павялічэння краёвай прадукцыі датычыць не толькі землеўласнікаў, але ўсіх без выключэння жыхароў краю, якія могуць быць карыснымі для сельскай гаспадаркі, заклікаем да ўдзелу ў працах Таварыства...»[226]

Праект Статута праз віленскага генерал-губернатара Назімава быў перададзены імператару, але той яго не падпісаў. Магчыма, расійскія ўлады адчулі пэўную небяспеку ў яднанні эліты палякаў чатырох губерняў, хоць бы і дзеля развіцця сельскай гаспадаркі.

Зрэшты ў парадку дня ўжо стаяла адмена прыгону, што павінна было прывесці да вялікіх перамен ва ўсёй сістэме сацыяльна-эканамічных адносін. Аляксандр Скірмунт (малодшы) вітаў гэтыя перамены і актыўна ўдзельнічаў у сацыяльных і гаспадарчых пераўтварэннях. Як прадстаўнік шляхты Пінскага пав., ён прысутнічаў у нарадах у Менску, дзе абмяркоўваліся прынцыпы сялянскай рэформы, а потым, як прадстаўнік Меншчыны, працаваў у складзе Рэдакцыйнай камісіі па падрыхтоўцы асноўных рэфарматарскіх указаў[227].

А вось які запіс у сваім календары на пачатку 1861 г. зрабіла Алена Скірмунт: «Бягучая праблема займае нас цалкам [...] Казімір укараняе даўно прыгатаваныя новыя распараджэнні, і мы вельмі радуемся, што як сябе, так і людзей настроілі прыхільна да гэтай акцыі гуманізму»[228].

---

224 D. Szpoper, *Gente Lithuana, natione Lithuana*..., s. 34–35.

225 ZNiO. Dział rękopisów. Sygn. 13817/II. Korespondencja Skirmuntów z lat 1817–1933, k. 5.

226 Ibidem, k. 11.

227 БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–702a. З ліста Р. Скірмунта да М. Здзяхоўскага, арк 15.

228 B. Zaleski, Z *życia Litwinki*..., s. 95.

Зразумела, што гэта не былі настроі большасці зямян Беларуска-Літоўскага краю. Прынамсі, чаканне перамен спалучалася з хваляваннем пра ўласны заўтрашні дзень. Так, Эдвард Вайніловіч прыгадваў, што ў дзень рэформы ягоны бацька звярнуўся да дзяцей: «Вось, дзеткі, заўтра сам пайду карміць коней і кароў, а вы будзеце мне дапамагаць»[229].

У лютым 1861 г. быў абвешчаны Маніфест, якім заканчвалася эпоха ўзаконенага рабства ў Расійскай імперыі. Праўда, зямлю і свабоду для былых прыгонных гэты дакумент толькі дэклараваў. Уводзілася «часоваабавязанае становішча», якое прадугледжвала 9-гадовае выкананне сялянамі ўсіх ранейшых павіннасцяў. Аднак вызначаны парадак быў змецены паўстаннем 1863 г. Расійскія ўлады, каб перацягнуць на свой бок сялянства, былі вымушаны істотна палепшыць умовы адмены прыгону ў Беларусі і Літве. Ужо ў 1863 г. тут адмянялася «часоваабавязанае становішча», на 20 % змяншаліся выкупныя плацяжы, а з 1 мая 1863 г. сялянам дазваляўся выкуп зямлі. Як вядома, з памешчыкамі за зямлю расплацілася дзяржава, а сяляне павінны былі разлічыцца за гэты крэдыт на працягу 49 гадоў.

Пасля 19 лютага 1861 г. Аляксандр Скірмунт (малодшы) заняў пасаду міравога пасярэдніка. Забягаючы наперад, адзначу, што па выніках сваёй дзейнасці ён атрымаў срэбны медаль на Аляксандраўскай ленце. У абавязкі пасярэдніка ўваходзіў разгляд сялянскіх і памешчыцкіх скаргаў, вырашэнне канфліктных сітуацый, а таксама нагляд за дзейнасцю сялянскіх органаў самакіравання. Пасярэднікі прызначаліся губернатарамі паводле спісу, прад'яўленага павятовымі шляхецкімі сходамі. Але іх звальненне знаходзілася ўжо ў кампетэнцыі Сената, што стварала ўмовы пэўнай незалежнасці ад мясцовага чыноўніцтва. Падобна, што Аляксандр Скірмунт актыўна карыстаўся гэтай магчымасцю. Прынамсі, вядома, што ён заслужыў любоў і павагу навакольнага сялянства[230].

Магчыма, апошняе было звязанае таксама з тым, што, як сцвердзіў Якуб Гейштар, Аляксандр Скірмунт у 1861 г. цалкам урэгуляваў праблему сервітутаў, якая была адной з галоўных прычын канфліктаў паміж памешчыкам і сялянамі, а таксама паспрыяў ліквідацыі цераспалосіцы[231]. Ён жа пайшоў насустрач пажаданням сялян пры падпісанні Устаўнай граматы (1864), што размяжоўвала ўладанні памешчыка і вёскі і вызначала суму выкупнога плацяжу. Акт міравога пасярэдніка 4 участка Кобрынскага пав. Паўла Капторава засведчыў, што, паводле планаў каморніка, сяляне атрымлівалі значныя лішкі зямлі. Так, сялянам вёсак Моладава і Бусы адыходзіла на 60 дзес. болей, чым яны валодалі. Аднак Аляксандр

---

229 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1847–1928. Część pierwsza*. Wilno 1931, s. 12.

230 S. K. [Konstancja Skirmuntt?], *Aleksander Skirmunt (wspomnienia pośmierne),* «Kurier Litewski». 1909, Nr 161, 19 lipca (1 sierpnia).

231 J. Gieysztor, *Pamiętniki z lat 1850–1865.* Tom I, s. 402.

Скірмунт не выказаў прэтэнзій і падпісаў гэты акт. Пазней ён без спрэчак саступіў сялянам яшчэ 16 дзес. зямлі пад выганы і дарогу для скаціны[232].

Аднак цалкам бесканфліктнымі стасункі Скірмунта з сялянамі навакольных вёсак не былі. Амаль 8 гадоў (1862–1870) працягвалася межавая спрэчка з сялянамі дзяржаўнага маёнтка Багрылаўка[233]. У 1873 г. сяляне в. Табулкі звярнуліся ў суд, патрабуючы вярнуць ім права выпасу скаціны на поле, якое памешчык зрабіў ворным. Спрэчка скончылася толькі ў 1882 г.[234]

Але ўсё гэта яшчэ наперадзе, а ў тым жа лютым 1861 г. да Палесся дайшла інфармацыя пра трагедыю ў Варшаве. Падчас разгону патрыятычнай маніфестацыі расійскія войскі прымянілі зброю, у выніку чаго загінулі пяць чалавек. Хваля пратэстаў ахапіла Каралеўства Польскае і перакінулася на ўсходнія землі былой Рэчы Паспалітай. У касцёлах адбываліся патрыятычныя набажэнствы, вернікі спявалі гімн «Boże, coś Polskę...», які стаўся песняй пратэсту.

У касцёлах Пінска і Асовай таксама праходзілі набажэнствы са спевамі гімна. У кастрычніку 1861 г. дзеля памяці пра варшаўскія ахвяры каля Францысканскага касцёла ў Пінску быў усталяваны вялізны крыж з выявай Маці Божай, а таксама караля Ягайлы і каралевы Ядвігі. Каля крыжа спяваліся патрыятычныя і рэлігійныя песні. Уздым патрыятычных пачуццяў закрануў таксама Скірмунтаў. Пра гэта сведчаць нататкі Алены Скірмунт, якія ў сваёй кнізе цытаваў Браніслаў Залескі. Фотаздымкі загінулых дэманстрантаў захаваліся сярод іншых дакументаў сям'і Скірмунтаў у Асалінэум[235].

У 1862 г. улады здолелі аслабіць «маніфестацыйны рух», але сутыкнуліся з новай праблемай. Распачалася кампанія зваротаў шляхецкіх сходаў да імператара з просьбай далучыць землі былога Вялікага Княства Літоўскага да Каралеўства Польскага. Улады адрэагавалі на гэта традыцыйна: шляхецкім сходам забаранялася звяртацца да імператара з падобнай просьбай.

У фондзе «афіцыйнага» гісторыка паўстання 1863 г. генерала Васіля Ратча ў аддзеле рукапісаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі захаваўся пратакол пасяджэння шляхты Менскай губ. Сярод тых, хто падпісаўся, нягледзячы на забарону, былі Генрык, Станіслаў і Казімір Скірмунты[236]. Аднак іншыя Скірмунты ўстрымаліся ад падобнай дэманстрацыі польскага патрыятызму. Справа была не толькі ў боязі рэпрэсій. Усё яшчэ моцнымі былі надзеі на паступовую лібералізацыю палітыкі ў дачыненні да польскай супольнасці. Апрача таго, польскасць Скірмунтаў заўсёды

---

232 НГАБ у Гародні. Ф. 10, воп. 2, спр. 137 арк. 91–92, 113–116, 217.

233 НГАБ. Ф. 147, воп. 3, том 7, спр. 11391.

234 Тамсама, том 9, спр. 25657, 25657а.

235 ZNiO. Dział rękopisów. Sygn. 13816/II. Papiery różne z rodu Skirmuntów.

236 Российская национальная библиотека (далей: РНБ). Отдел рукописей. Фонд 629, д. 248. *Дворянские выборы в Минской губ. и обсуждение присоединения Минской губ. к Польше*, л. 27–27 об.

спалучалася з адчуваннем адметнасці Беларуска-Літоўскага краю («Літвы») ад карэннай Польшчы («Кароны»).

У студзені 1863 г. у Варшаве выбухнула паўстанне. Пра стаўленне Скірмунтаў да яго сведчаць радкі з кнігі Б. Залескага: «У апошнія дні студзеня Казімір, які позна вярнуўся з Пінска, прывёз глухія навіны пра выбух у Варшаве. У Рухчы яны сталі прычынай глыбокага смутку. Алена ўсю ноч не самкнула вачэй»[237]. Пазней у адным з лістоў у яе вырвалася: «Зараз жа толькі страх: ці не заўчасная паводка, якая пасевы залье і знішчыць?»[238]

Боязь была цалкам абгрунтаваная, бо належных рэсурсаў для перамогі паўстанцы не мелі. Скірмунты гэта разумелі і асцерагаліся павароту імперыі да агрэсіўнай антыпольскай палітыкі. Пра апошняе сведчыць ліст Аляксандра Скірмунта (старэйшага), адрасаваны да Міхаіла Пушчына. Ён быў напісаны ў мясцовасці Перына каля Брындызі 22 лютага 1863 г. і высланы ў маёнтак Парычы Бабруйскага пав., дзе ў той час жыў колішні дзекабрыст. А. Скірмунт лічыў паўстанне трагедыяй і прадракаў ягоны хуткі разгром. Але пры гэтым сцвярджаў, што ідэя паўстання «ўжо ніколі не згіне».

Пафас ліста быў скіраваны супраць пэўнага публічнага зварота да імператара, складзенага і распаўсюджанага праваслаўным духавенствам. А. Скірмунт пісаў, што змест гэтага звароту разбурае этычныя межы, уведзеныя хрысціянствам і правамі народаў, што царква выйшла па-за межы дазволенага чалавечай культурай. Ён выказваў упэўненасць, што «хотя это писание направлено только против поляков, Вы будете не менее возмущены, так как этот документ полон лжи, злобы и ненависти. Такими средствами невозможно вызвать ни уважения, ни любви»[239].

Крытыкуючы паўстанне, Скірмунты, тым не менш, былі на баку змагароў. Так, Аляксандр і Казімір Скірмунты разам з некаторымі іншымі міравымі пасярэднікамі пакінулі пасады. Як ужо адзначалася, Казімір быў выкліканы ў Менск і арыштаваны. Таксама была арыштавана і выслана Алена Скірмунт, якая самаручна даставіла карэспандэнцыю ў адзін з паўстанцкіх атрадаў.

Аляксандр Скірмунт (малодшы), як і ягоны бацька, належаў да праціўнікаў узброеннай барацьбы. Пры гэтым ён падтрымліваў кантакты з паўстанцамі. Так, польскі гісторык Стэфан Кяневіч у кнізе *Dereszewicze. 1863* (1986), распавядаючы пра атрад Рамана Рагіньскага, паведаміў, што 9 (21) лютага 1863 г. той наведаў Парэчча і перадаў уладальніку ягоныя вэкселі, захопленыя падчас нападу на пошту[240]. Паводле кіраўніка Літоўскага аддзела Якуба Гейштара, Аляксандр

237 B. Zaleski, Z *życia Litwinki…*, s. 112.

238 Ibidem.

239 Інстытут рускай літаратуры РАН. Рукапісны аддзел. Ф. 248, д. 6697/XXXIVб. 36, арк. 1–2. Хачу выказаць шчырую падзяку Алесю Петухову за магчымасць пазнаёміцца з гэтым дакументам.

240 St. Kieniewicz, *Dereszewicze. 1863*. Wrocław 1986, s. 122–123.

Скірмунт двойчы перавозіў праз пінскія лясы Рамуальда Траўгута. Пазней ён быў прызначаны камісарам Пінскага пав.[241]

Магчыма, якраз гэта меў на ўвазе аўтар (Канстанцыя Скірмунт?) згаданых пасмяротных успамінаў пра Аляксандра Скірмунта, апублікаваных у газеце «Kurier Litewski» (1909, Nr 161). Аўтар адзначыў патрыятызм Скірмунта, які праявіўся ў тым, што «калі большасць складала ахвяры, ён не вагаўся, рызыкаваў сваім жыццём і маёмасцю».

Рэпрэсіі яго абмінулі. Якуб Гейштар тлумачыў гэта паводзінамі на следстве намесніка начальніка Менскай губ. Баляслава Сьвіды, які адказваў у т. л. і за Пінскі пав. Ён узяў віну на сябе, што дапамагло пазбегнуць пакарання Аляксандру Скірмунту, Вітальду Ордзе, Генрыку Аскерцы, а таксама Гераніму Кяневічу[242].

Скірмунты сапраўды захавалі свае маёнткі, за выключэннем Калоднага. Ягоныя ўладальнікі Казімір і Алена Скірмунты былі высланы, а маёнтак прададзены.

Пасля разгрому паўстання магчымасці для грамадскай дзейнасці амаль зніклі. Польская супольнасць Літвы і Беларусі трапіла пад ціск палітыкі «дэпаланізацыі», якая, насамрэч, больш нагадвала татальную русіфікацыю. Для літоўскіх і беларускіх палякаў быў зачынены шлях кар’еры ў мясцовай адміністрацыі, і шматлікая шляхта, як успамінаў Эдвард Вайніловіч, павінна была «шукаць хлеб у незалежных сферах»[243].

Імператарскі ўказ ад 10 снежня 1865 г., які забараняў палякам набываць зямлю ў «Паўночна-заходнім краі», яшчэ больш абмежаваў сферу жыцця і дзейнасці мясцовай польскай грамадскасці. Але ён жа меў таксама нечаканы для расійскай улады вынік. Боязь страціць зямлю ператварылася ў патрыятычны абавязак па яе захаванні. Вайніловіч сцвярджаў, што адмова ад зямлі або выгнанне зямяніна з яе ацэньваліся як здрада. Здараліся выпадкі, калі нават не вельмі багатыя людзі лічылі за лепшае страціць пазычаныя камусьці з польскіх зямян грошы, але не прымушаць таго прадаваць зямлю[244]. У новых умовах найбольш аптымальным шляхам захавання ранейшых уплываў стала гаспадарчая і прадпрымальніцкая дзейнасць. Гэты шлях быў добра вядомы Аляксандру Аляксандравічу. Для палескіх Скірмунтаў ён быў актуальным яшчэ да паўстання.

Шмат інфармацыі для разумення свядомасці і характару Аляксандра Скірмунта (малодшага) дае гісторыя з парэцкім «палацам». Яна, дарэчы, таксама сведчыць пра тую культурную і ментальную дыстанцыю, якая падзяляла маёнткі Моладава і Парэчча.

Справа ў тым, што Аляксандр Скірмунт вырашыў не будаваць палац. Месцам

---

241 J. Gieysztor, *Pamiętniki z lat 1850–1865.* Tom I, s. 282, 402.

242 Ibidem. Tom II, s. 148.

243 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1847–1928. Część pierwsza*, s. 38.

244 Ibidem, s. 39.

жыцця ягонай сям'і стаўся перабудаваны цэх суконнай фабрыкі (?!). Славутая «шляхецкая пыха» цалкам адсутнічала ў парэцкага ўладальніка.

Пасля рамонту сядзіба парэцкіх Скірмунтаў была абсаджана дрэвамі і кветкамі, потым з'явіліся альтанкі, абвітыя плюшчом і дзікім вінаградам. У 1876 г. карэспандэнт варшаўскага часопіса «Kłosy» Ігнацы Аніхімоўскі нават быў уражаны прыгажосцю гэтага «палацыка»[245], дзе нарадзіліся Браніслава, Юзаф, Ванда, Вацлаў, Раман, Алена, Феліцыя і Зянон.

Аляксандр Скірмунт цалкам паглыбіўся ў гаспадарчыя справы. Найбольш цікавай старонкай яго дзейнасці было развіццё прамысловасці ў Парэччы і Моладаве.

Аўтар апісання Менскай губ. падпалкоўнік Генеральнага штаба Іван Зяленскі на пачатку 1860-х гг. меў усе падставы сцвярджаць, што мануфактурная прамысловасць у губерні мае «ничтожное значение»[246]. Паводле ягоных падлікаў і аналізу, прамысловасць Менскай губ. у гэты час была прадстаўлена шасцю цукроўнямі, дзвюма суконнымі фабрыкамі, свечным і мылаварным заводам[247]. Застаецца толькі дадаць, што трэцяя частка гэтай прамысловасці належала Аляксандру Сымонавічу Скірмунту, а кіраваў ёй ягоны сын Аляксандр.

З усіх цукровых заводаў Зяленскі вылучыў завод у Парэччы як «самый замечательный». Ён адзначыў, што завод месціцца ў 4-павярховым каменным будынку, мае два лакамабілі і чатыры паравыя катлы. Вытворчасць цукру была заснавана на выкарыстанні цэнтрыфугі, што значна павялічвала яе эфектыўнасць у параўнанні з традыцыйным прэсам. Штогод Парэцкі завод прадукаваў каля 9 тыс. пудоў цукру, у той час як астатнія пяць цукровых заводаў губерні – толькі каля 2,2 тыс.[248]

Іван Зяленскі таксама адзначыў, што вырошчванне цукровых буракоў значна палепшыла дабрабыт сялян навакольных вёсак. 1 дзес. «бураковай плантацыі» магла прынесці гаспадару да 137 руб. у год. Паводле падлікаў афіцэра Генштаба, за 5 месяцаў дзейнасці ў 1861–1862 г. цукроўня ў Парэччы прынесла 12,5 тыс. руб. (!) «чыстага прыбытку». Пры гэтым ён адзначыў, што на заробкі 120 рабочых пайшло толькі 3,6 тыс. (з разліку 6 руб. у месяц), іншыя выдаткі на іх утрыманне склалі яшчэ 1,8 тыс., а зарплата двух майстроў дасягнула 3 тыс. руб.[249]

Параўнанні заробкаў дазволілі аўтару апісання Менскай губ. сцвярджаць, што прадпрымальніцкі поспех Скірмунтаў у вялікай ступені грунтаваўся на выкарыстанні дармовай працы сялян і рабочых. Варта адзначыць, што Зяленскі цалкам праігнараваў вышэйзгаданую сацыяльную палітыку ўладальніка Парэчча (кватэры пры фабрыцы, дровы, харчаванне, лекар ды інш.).

---

245 Z. Szczerzy, *Wycieczka po Pińsk i Pińszczyźnie*, «Kłosy» 1877, Nr 606.

246 *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губ.* Часть 2. Составил И. Зеленский. Санкт-Петербург 1864, с. 234.

247 Тамсама, с. 241–242.

248 Тамсама, с. 246–248.

249 Тамсама, с. 249–250.

Найбольш увагі Зяленскі надаў Парэцкай суконнай фабрыцы. Яе асноўнай прадукцыяй у той час былі тонкае сукно, трыко, сацін ды інш., а таксама падвойнае сукно. Па ўзроўні абсталявання фабрыка належала да самых сучасных. Аўтар апісання адзначыў, што ўладальнік не шкадаваў сродкаў дзеля набыцця апошніх навінак тэхнікі. Кошт усяго абсталявання разам з будынкамі ён ацаніў у 80 тыс. руб. Воўна набывалася ў Падольскай, Кіеўскай, Валынскай, Гарадзенскай і Менскай губ., а таксама на кірмашах Варшавы, Харкава і Палтавы.



*«Ліверпуль на Ясельдзе» на малюнку Напалеона Орды.*

Сукно выраблялася на 60-ці механічных станках саксонскай вытворчасці. Большая частка рабочых і падмайстраў складалася з былых прыгонных, а 1/3 – з габрэяў, былых салдат і дзяржаўных сялян. Усе яны мелі жыллё і харчаваліся пры фабрыцы за кошт уладальніка. Пры гэтым рабочыя атрымлівалі заробку ад 15 да 40 руб. у год, а падмайстры – ад 100 да 200 руб. у залежнасці ад працоўных абавязкаў. Колькасць усіх работнікаў вагалася ад 200 да 300 чал. у залежнасці ад маштабу вытворчасці. Майстроў было толькі пяцёра. Усе яны прыехалі з Германіі. Іх заробак складаў ад 500 да 1 000 руб.[250] Дарэчы, у спіс замежных падданых у Пінскім пав. (1905), магчыма, трапіў адзін з гэтых майстроў – Аляксандр Мель. Ён жыў пры фабрыцы з 1862 г. (!)

Паводле дадзеных Івана Зяленскага, якія грунтаваліся на дакументах А. А. Скірмунта, гадавая вытворчасць сукна вагалася ў межах ад 60 да 90 тыс. аршынаў. За перыяд з 1856 па 1860 г. яе кошт вырас з 205 да 300 тыс. руб. Прадукцыя збывалася на месцы, а таксама прадавалася ў Менску, Вільні, Кіеве, Адэсе, Бердычаве, Варшаве, Маскве і Пецярбурзе[251].

Пра памеры маёмасці Скірмунтаў сведчаць матэрыялы г. зв. «запісу падзелу» (7 снежня 1873 г.), згодна з якім, агульны маёнтак быў падзелены паміж сынамі нябожчыка Аляксандра Сымонавіча Скірмунта. У дакуменце згадваліся ў Пінскім пав. Альбрэхтова (3 671 дзес. зямлі, пляцы пад Пінскам і фабрыка свечак і мыла), Клетнае (5 473 дзес.), Парэчча (5 169 дзес., суконная фабрыка, ацэненая ў 100 тыс. руб., і цукроўня – у 50 тыс.), у Кобрынскім пав. – Моладава (5 471 дзес.), у Ялцінскім пав. – каменны дом (Балаклаўская даліна) з зямельнымі участкамі пад вінаграднікамі (больш 162 дзес.), у Свенцянскім пав. – Шаметаўшчына

250 Тамсама, с. 256–257.
251 Тамсама, с. 258.

(4 392 дзес.). Агульны кошт маёнтка Скірмунтаў быў ацэнены ў 510 тыс. руб.[252] Вінаграднікі каля Брындызі ў гэты дакумент не трапілі.

Падзел адбываўся паміж братамі Аляксандрам, Казімірам, Сымонам, Генрыкам і Канстанцінам, а таксама маленькім Зыгмунтам, сынам ужо памерлага Зыгмунта Аляксандравіча. У выніку кожны з братоў атрымаў у той ці іншай форме па 85 тыс. руб. Маёнтак Парэчча застаўся ва ўласнасці Аляксандра Аляксандравіча, а суконная фабрыка і цукроўня былі падзелены паміж ім, Канстанцінам і Сымонам. Казімір атрымаў вінаграднікі ў Балаклаўскай даліне, Канстанцін – Шаметаўшчыну на Віленшчыне, Генрык – Моладава ў Кобрынскім пав., Сымон – Клетнае, а Альбрэхтова перайшло да іх пляменніка Зыгмунта Зыгмунтавіча.

На працягу 1870-х гг. Аляксандр выкупіў долі сваіх братоў[253] і стаў адзіным уладальнікам прамысловасці Парэчча. У гэты час колькасць рабочых на суконнай фабрыцы, цукроўні і ў механічных майстэрнях Парэчча даходзіла да 600 чал.

Развіццё прамысловасці ўносіла свае карэктывы ў сельскагаспадарчую вытворчасць маёнтка і вёскі. Настаўнік Парэцкага народнага вучылішча Пётр Гякоўскі, адказваючы на апытальнік Паўночна-Заходняга аддзелу Імператарскага Рускага геаграфічнага таварыства (1872) у межах праграмы вывучэння стану сельскай гаспадаркі і прамысловасці, паведаміў пра плантацыі цукровых буракоў (*свекловицы*) і варсільных шышак. Ён сцвярджаў, што плантацыі буракоў займалі плошчу ў 39 дзес. на землях А. Скірмунта і яшчэ 32 дзес. у суседніх маёнтках Велясніцы і Кажанёва. Сяляне таксама вырошчвалі цукровыя буракі, тым больш, што ўладальнік Парэчча ў гэтым выпадку кампенсаваў сялянскія выдаткі і перадаваў у бясплатнае карыстанне землі для пасеву зернавых, бульбы ды інш.[254] На цукроўні за пуд буракоў плацілі ад 10 да 12 кап.

Гякоўскі ўпершыню згадаў пра плантацыі варсільных шышак, прысутнасць якіх на Палессі ў 1870-я гг. мела адценне сенсацыі. Справа ў тым, што шышкі, без якіх не працавалі варсільныя машыны і была недасягальнай высокая якасць сукна, раслі толькі ў Францыі. Гэты імпартны прадукт быў надзвычай дарагім. Між тым, у Парэччы іх вырошчвалі не толькі на ўласныя патрэбы, але і на продаж. Карэспандэнт Паўночна-Заходняга аддзела нават заўважыў, што «если бы крестьяне и другие землевладельцы занялись посевом их, то Россия бы обрела несколько сот тысяч рублей, поглощаемых другими державами»[255].

Гякоўскі таксама пісаў пра паравы млын і тартак у маёнтку. Апрацаваныя брусы з дуба і сасны водным шляхам адпраўляліся ў Прусію, дзе каштавалі ад 2-х да

---

[252] НГАБ. Ф. 147, воп. 3, спр. 26892, арк. 5.

[253] Тамсама, арк. 1.

[254] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 34–248. П. Гяковский, *Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Поречского народного училища*, вопросы 14, 51.

[255] Тамсама, вопрос 51.

4-х руб. за штуку. Дрэва іншых гатункаў прадавалася для сялянскіх пабудоў і каштавала ад 60-ці да 80-ці кап. з вырубкай і вывазам[256].

Найбуйнейшым прадпрыемствам заставалася суконная фабрыка. Паводле інфармацыі Гякоўскага, якую ён атрымаў у фабрычным праўленні, у 1872 г. кошт яе прадукцыі склаў больш за 313 тыс. руб. Прадукцыю цукроўні ацанілі прыблізна ў 61 тыс. Сукно прадавалася ў Маскве, Пецярбурзе, Вільні, Кіеве і Пінску. У тым самым кірунку (за выключэннем Кіева) вывозіўся і цукар[257].

Карэспандэнт варшаўскага часопіса «Kłosy» Ігнацы Аніхімоўскі (*Земіслаў Шчыры*) наведаў Парэчча ўвосень 1876 г. і быў уражаны маштабам вытворчасці Парэцкай фабрыкі. Паводле ягоных звестак, фабрыка штогод вырабляла прадукцыі (драп і тонкае сукно) на 250 тыс. руб. На ёй працавалі 420 рабочых, дзейнічала адна паравая машына, 100 ткацкіх станкоў і фарбавальня. Аніхімоўскага таксама ўразіла тое, што кіраўніцтва фабрыкі цалкам складалася з мясцовых ураджэнцаў, пераважна моладзі. Сярод іх ён заўважыў сына паэта Людвіка Кандратовіча (*Уладзіслава Сыракомлі*). Аўтар заметкі таксама звярнуў увагу на дамы для рабочых і іх сямей.

*ДАКУМЕНТ*

**Парэчча ў апісанні Ігнацыя Аніхімоўскага. 1876 г.** [258]

*Парэчча нагадвае невялікае замежнае мястэчка. Прыгожы двухпавярховы палацык, устроены з камфортам, аточаны напоўненымі кветкамі скверамі і стылёвымі альтанкамі, аплеценымі плюшчом і дзікім вінаградам. Франтон упрыгожаны фантанам. З вокнаў адкрываецца прыемны від на Ясельду, якая цячэ каля скавераў і дубовага парка, шырока разліваецца і губляецца за даляглядам.*

*Паўсюль пануе суровы парадак. Усё адбываецца ва ўласцівы час. Нават штодзённае жыццё пана Скірмунта прыстасавана да фабрычнага званка. Калі глядзіш на гэтых рацыянальна актыўных людзей, пачынаеш разумець, якой каштоўнасцю з'яўляецца працоўны час […] З асаблівым задавальненнем я прыглядаўся да ўпарадкаванай сельскай гаспадаркі, клапатлівага вырошчвання лясоў, шырокіх і добра дагледжаных дарог. Быў сведкам завяршэння дрэнажа 50 моргаў зямлі, прызначанай пад буракі. Такім спосабам гаспадар асушыў поле. За гэты дрэнаж Аляксандр Скірмунт на выставе ў Шаўлях атрымаў медаль […] Адным словам, паўсюдна пануе парадак, скіраваны на тое, каб зробленыя паляпшэнні далі як найлепшы вынік. Немагчыма лепей выкарыстаць галоўны прынцып палітычнай эканоміі.*

Напрыканцы 1870-х гг. суконная фабрыка ў Парэччы па-ранейшаму застава-

---

256 Тамсама, вопрос 19.

257 Тамсама, вопрос 43–47.

258 Z. Szczerzy, *Wycieczka po Pińsku i Pińszczyźnie*, «Kłosy». 1877, Nr 606.

лася адным з буйнейшых прадпрыемстваў Менскай губ. Пра гэта сведчыць статыстыка развіцця прамысловасці і гандлю за 1879 г., якую аналізаваў эканаміст Мячыслаў Дабашыньскі на старонках пецярбургскай газеты «Край». Дык вось, сукно ў губерні выраблялася на 6 фабрыках, дзе працавалі 542 працаўніка, а кошт усёй вытворчасці складаў 343,5 тыс. руб. Зразумела, якое значнае месца ў гэтай вытворчасці займала фабрыка Скірмунта! Таксама варта адзначыць, што статыстыка зафіксавала большую колькасць працоўных толькі ў вытворчасці віна і спірту, але там існавала 212 прадпрыемстваў[259].

Цікавай крыніцай па гісторыі прамысловасці ў Парэччы з'яўляюцца кнігі рэгістрацыі споведзі і прычасця Парэцкай праваслаўнай царквы другой паловы XIX ст., якія захаваліся часткова[260]. Яны ўтрымліваюць спісы фабрычных рабочых праваслаўнага веравызнання разам з іх сем'ямі («Двора Поречье крестьяне, состоящие при суконной фабрике», «Дворовые и их домашние»). Прагляд матэрыялаў за 1854, 1862, 1865, 1868, 1870, 1880 і 1886 гг. дазваляе сцвярджаць, што на фабрыцы працавалі як мясцовыя ўраджэнцы, так і прышлыя. У асобных выпадках (Мельнікі, Лукашыкі ці Лукашэвічы, Шпакоўскія ды інш.) можна нават казаць пра працоўныя дынастыі.

Праца на фабрыцы дазваляла ўтрымліваць даволі вялікія сем'і. Адзін з запісаў у кнізе за 1854 г. сведчыць, што рабочы Юстын Іванавіч Мельнік (32 г.), які меў дачку Караліну (5 г.), утрымліваў таксама служанку (!).

У кнізе за 1880 г. зафіксавана найбольшая колькасць праваслаўных працоўных фабрыкі разам з сем'ямі – каля 180 чал. У 1886 г. – толькі каля 60 чал. Праўда, у гэтым годзе ў кнізе таксама пачалі фігураваць «Мещане и их домашние» (35 чал.). Растлумачыць змяншэнне колькасці праваслаўных работнікаў складана, бо аб'ём фабрычнай вытворчасці за 1885 г. ніяк не сведчыў пра крызіс фабрыкі ў Парэччы.

Матэрыялы Менскага губернскага статыстычнага камітэта даюць больш поўную інфармацыю пра дзейнасць фабрыкі ў другой палове 1880-х гг. Так, у 1885 г. на фабрыцы было выраблена больш 65,6 тыс. аршын драпа і 2,2 тыс. аршын тонкага сукна на агульную суму амаль 200 тыс. руб. Колькасць рабочых перавысіла 370 чал. На фабрыцы былі дзве паравыя машыны, тры паравыя катлы, 100 ткацкіх станкоў і 2 тыс. верацён.

Прадукцыя Парэцкай фабрыкі (асабліва драп) карысталіся вялікім попытам і прадавалася ў Пецярбурзе, Маскве, Вільні, Коўне, Беластоку, Варшаве, Кіеве ды інш. Дырэктарам фабрыкі быў згаданы А. Скупееўскі, які меў «общее образование (техническое)». Таксама адзначалася, што пры фабрыцы існаваў шпіталь на 12 месцаў і ашчадная каса (з 1878 г.) з гадавым абаротам у 30 тыс. руб.[261] Праз ча-

---

[259] «Kraj». 1883, Nr 46.

[260] Кнігі былі выратаваныя ад спалення Антанінай Сідарук (в. Парэчча, 2015) і перададзеныя ў НГАБ.

[261] НГАБ. Ф. 21, воп. 1, спр. 34, арк. 187.

тыры гады (1889) агульны кошт прадукцыі склаў ужо каля 192 тыс. руб. Рабочыя жылі ў чатырох дамах. Працягласць працоўнага дня складала 13 гадзін, а месячны заробак вагаўся ў межах ад 4-х да 10-ці руб.[262]

У 1890 г. Парэчча наведаў падчас Палескай экспедыцыі па заданні Маскоўскага таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі малады навуковец Мітрафан Доўнар-Запольскі. Пазней на старонках газеты «Виленский вестник» (1890–1891) ён паведаміў, што Парэцкая фабрыка стала першай у Расіі, дзе працоўныя атрымлівалі пэўную долю ад прыбыткаў. Назіраючы за трэцім пакаленнем парэцкіх рабочых, большасць якіх былі пісьменнымі, даследчык адзначыў іх знешнюю адметнасць ад сялян. Таксама звярнуў увагу на габрэяў, што працавалі ў фарбавальні.

М. Доўнар-Запольскі быў уражаны плантацыяй варсільных шышак у Парэччы. Праекты іх вырошчвання на Каўказе і на поўдні Расіі толькі абмяркоўваліся, але нічога не было зроблена. А вось Скірмунты ў Парэччы здаўна карысталіся выключна ўласнымі шышкамі. Гаспадар маёнтка паведаміў даследчыку, што гадавы прыбытак з дзесяціны варсільных шышак складаў каля 400 руб.[263]

У наступным годзе госцем маёнтка быў Юльян Талько-Грынцэвіч. Пад псеўданімам *Ян Ілгоўскі* ён распавёў на старонках газеты «Край» пра сваё падарожжа па Палессі (1891) і таксама не абмінуў увагай прамысловасць Парэчча. Ён адзначыў вялікі маштаб вытворчасці на суконнай фабрыцы і дадаў, што яе ўладальнік нават ва ўмовах крызісу апошніх гадоў не стаў на шлях скарачэння вытворчасці. Паводле меркавання аўтара, Скірмунт кіраваўся выключна пачуццём «грамадзянскага абавязку» і не хацеў пазбавіць сваіх рабочых заробкаў[264].

Пра поспехі суконнай вытворчасці ў Парэччы таксама сведчаць узнагароды, якія атрымлівала фабрычная прадукцыя. У 1865 г. на Мануфактурнай выставе ў Маскве парэцкае сукно атрымала вялікую срэбную медаль, а праз два гады ў Парыжы на Сусветнай выставе – ганаровы ліст[265]. Андрэй Кіштымаў знайшоў звесткі пра поспехі парэцкага сукна на Сусветных выставах у Вене (1873) і Парыжы (1878), дзе быў атрыманы вялікі срэбны медаль, на ўсерасійскіх выставах у Маскве ў 1882 г. (залаты медаль) і Ніжнім Ноўгарадзе ў 1896 г. (срэбны медаль)[266]. Сукно Парэцкай фабрыкі дэманстравалася на выставе ў Менску з нагоды 25-годдзя дзейнасці Менскага таварыства сельскай гаспадаркі ў аддзеле рамесных вырабаў і прамысловасці (1901). У тым самым годзе ў Менску прадукцыя фабрыкі атрымала залаты медаль на Юбілейнай выставе вырабаў сель-

---

262 Тамсама, спр. 54.
263 М. Запольский, *Заметки из путешествия по Белоруссии*, «Виленский вестник». 1890, № 265.
264 J. Iłgowski [J. Talko-Hryncewicz], Z *wycieczki na Białoruś*, «Kraj». 1891, Nr 36.
265 Z. Szczerzy, *Lipowa, w październiku 1876 r.,* «Kłosy». 1877, Nr 606.
266 А. Киштымов, *Западнополесская династия Скирмунтов XIX–XX вв.,* с. 89.

скай гаспадаркі і прамысловасці[267]. Апошнія поспехі былі звязаны з Раманам Скірмунтам, які ў 1880–90-я гг. актыўна ўдзельнічаў у кіраванні Парэцкім маёнткам.

На пачатку XX ст. фабрыка захоўвала свае высокія пазіцыі, хоць колькасць рабочых скарацілася да 250 чал. (1901, 1906)[268]. Сустракаюцца звесткі, што Парэчча было адным з галоўных пастаўшчыкоў драпа для пашыву шынеляў афіцэраў расійскай арміі. Таксама вядома, што ў 1900 г. сукно з Парэчча прадавалася ў адмысловых крамах у Маскве і Вільні[269].

Аляксандр Скірмунт (малодшы) адрадзіў цукровую вытворчасць у маёнтку. Новая цукроўня (1860) істотна адрознівалася ад папярэдніх. Яна была адным з буйнейшых прадпрыемстваў гэтай галіны прамысловасці ў Беларусі. Штодня тут перапрацоўвалася да 1 000 ц цукровых буракоў па новай для таго часу тэхналогіі з выкарыстаннем цэнтрыфугі. У 1862 г. у цукроўні былі ўсталяваны чатыры паравыя катлы агульнай магутнасцю ў 100 к. с. і працавала 300 рабочых[270].

Сялянам навакольных вёсак прамысловыя прадпрыемствы Скірмунтаў дапамаглі палепшыць дабрабыт, бо стваралі дадатковыя магчымасці для заробкаў, звязаных, напрыклад, з падвозам дроў і з вырошчваннем цукровых буракоў. Ужо ў 1860 г. замест чыншу і паншчыны прыгонныя павінны былі пастаўляць на цукроўню 20 «бочак» буракоў з «дыму»[271]. Сяляне іншых маёнткаў маглі толькі зайздросціць парэчанам.

Прадукцыя цукроўні была прадстаўлена на сусветнай выставе ў Парыжы, дзе атрымала бронзавы медаль і дыплом[272]. Аднак, калі ўзнагарода дайшла да ўладальніка фабрыкі, тая ўжо не існавала. Пажар 1879 г. цалкам знішчыў цукроўню. Скірмунт вырашыў яе не аднаўляць. На яе месцы збудавалі вінакурны завод, які стаў годным канкурэнтам вінакурні ў Моладаве. Верагодна, менавіта гэта стала прычынай атрымання А. Скірмунтам у 1879 г. закладнага пасведчання на маёнтак Парэчча. Падобна, што з'явілася вострая патрэба ў значных фінансавых сродках, і ўладальнік не знайшоў іншага шляху, як «закласці» маёнтак у Віленскі зямельны банк пад пазыку[273].

Вінакурны завод у Парэччы месціўся ў адбудаваным каменным гмаху былой цукроўні. Ён пачаў даваць прадукцыю ў 1880 г. Матэрыялы Менскага статыстычнага камітэта паведамляюць, што кошт прадукцыі ў 1887 г. склаў каля 19 тыс.

---

267 *Wystawa w Mińsku*, «Kraj». 1901, Nr 36.

268 НГАБ. Ф. 458, воп. 1, спр. 352, арк. 43–44 адв.

269 *Вся Россия. Русская книга промышленности, торговли, сельского хозяйства и администрации. Адрес-календарь Российской империи.* Том 1. СПб. 1900, стлб. 94, 1065.

270 N. Orda, *Aleksander Skirmunt,* «Tygodnik ilustrowany». 1871, Nr 175, s. 214.

271 Ibidem. («Бочка» – расійская мера аб'ёму і вагі. 1 бочка роўная 10 пудам або 163,8 кг).

272 НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 3401, арк. 1–3.

273 Тамсама. Ф. 147, воп. 3, том 9, спр. 26551, арк. 1–2.

руб.[274] Дзеля параўнання адзначу, што ў 1896 г. кошт прадукцыі моладаўскай вінакурні склаў трохі болей за 13 тыс. руб.[275]

З-пад увагі ўладальніка Парэчча не выходзілі і іншыя сферы гаспадарчай і прадпрымальніцкай дзейнасці, у т. л. гандаль вінам і гарэлкай. Напрыканцы 1880-х гг. Аляксандр Скірмунт меў склады і крамы він у Вільні, Коўне і Менску. Там прадавалася прадукцыя крымскіх ды італьянскіх вінаграднікаў, якія належалі братам Казіміру і Сымону, а пазней сталі ўласнасцю Аляксандра Аляксандравіча. Газета «Край» на працягу ўсяго 1905 г. друкавала рэкламу скірмунтаўскай «Старой гарэлкі» з Парэчча (яе таксама называлі «скірмунтоўкай»). Бутэлька каштавала 2,5 руб. і прадавалася ў крамах Вільні і Коўне.

Шмат намаганняў прыкладалася дзеля развіцця лясной гаспадаркі, правядзення меліярацыі, увядзення рацыянальнай сістэмы земляробства і жывёлагадоўлі. Менавіта на гэта ў першую чаргу звярнуў увагу малады даследчык Мітрафан Доўнар-Запольскі падчас наведвання маёнтка (1890).

*ДАКУМЕНТ*

**Мітрафан Доўнар-Запольскі пра наведванне Парэчча. 1890 г.** [276]

*Я в кратких словах расскажу о тех коренных улучшениях, которые введены Скирмунтами в их имении. Правильная система лесоводства ведется с 30-х годов. Огромные леса разделены на участки, по возрасту и качеству леса. Рубится, конечно, только вполне зрелый лес. Кроме того, леса и болота канализированы, пересечены целою сетью каналов, изливающих свои воды в Яцольду [Ясельду – А. С.], на берегах которой расположено имение. Каналы приносят огромную пользу имению. Кроме того, что они осушают лес, гарантируя его от чрезвычайной сырости, которая здесь во многих местах уменьшает качественность леса. Каналы служат, главным образом, ещё для сплава леса. Они устроены так, что главные жилы их соединяются недалеко от двора имения, и притом каналы проникают в самые отдаленные участки лесов и болот и соединяют их с двором.*

*Весной можно по этим каналам сплавлять в имение дровяной и строевой лес с вырубленных участков. Нужно заметить, что такая операция значительно сохраняет расходы по имению: заводы поглощают огромное количество топлива, и, кроме того, лес, идущий в продажу выигрывает в цене, так как он подвозится к сплавной реке Яцолде. Мы уже не будем упоминать о той огромной пользе, которую принесли каналы осушению полей и лугов.*

*Луга в имении также обращают на себя внимание: они лежат в долине реки Яцольды, занимая огромное пространство в несколько тысяч десятин.*

---

[274] Тамсама. Ф. 21, воп. 1, спр. 44, арк. 423–423 адв.

[275] НГАБ у Гародні. Ф. 313, воп. 1, спр. 13, арк. 1.

[276] М. Запольский. *Заметки из путешествия по Белоруссии,* «Виленский вестник». 1890, № 265.

*Пространство, занятое лугом, совершенно чистое и ровное: ни лозы, ни зарослей где-либо вы не встретите. Культура сенокоса доведена до того, что он обязательно косится два раза в год.*

*Нельзя не обратить внимания на дороги, проведенные по всему имению в лесах и по лугам. В виду низменной местности, дороги насыпаны выше ее уровня и с обоих сторон акопаны канавами. Такое устройства дорог частным владельцем – мера исключительная.*

*Но что самое замечательное в местном хозяйстве владельцев имения Поречье – это искусственное заселение леса. Всякий кусок поля, неудобный для хлебопашества, в имении не пропадает: он засеивается лесом. Кроме того, лесосеяние приносит пользу земледелию: все поля, подвергающиеся наносным пескам с соседних песчаных холмов, также обсажены лесом. Лесосеяние ведется здесь уже более 60 лет.*

*Конечно, при таком лесном хозяйстве необходим ученый лесничий и соответствующий штат служащих, что существует уже много десятков лет в имении.*

*Я не буду говорить о мелких улучшениях в культировании различных растений, о рациональном земледелии и скотоводстве – общие приемы того и другого известны, замечу только, что все стороны хозяйства заведены по улучшенным системам ещё в то время, когда у нас в России ещё никто и не помышлял о каких-либо нововведениях в сельском хозяйстве; системы хозяйства в Поречье постепенно улучшаются сообразно с успехами науки.*

На жаль, іншыя бакі штодзённасці «Ліверпуля на Ясельдзе» або сямейнага жыцця Скірмунта ахарактарызаваць складана па прычыне адсутнасці дакументаў. Так, застаюцца невядомымі матывы падпісання Аляксандрам Скірмунтам 22 лістапада 1882 г. даверанасці на імя старэйшага сына Аляксандра (1858 г. нар.), які ў той час быў студэнтам Варшаўскага ўніверсітэта.

У адпаведнасці з даверанасцю апошні атрымаў права распараджацца маёнткам і суконнай фабрыкай: «Имея надобность часто отлучаться из дому и не имея возможности постоянно заниматься делами, касающимися управления недвижимым имением моим Поржече, в Пинском уезде положенном, и суконною фабрикою, там же находящеюся, прошу Вас принять труд управления сказанным имуществом моим на себя, а посему предоставляю Вам иметь хождение и ходатайство по всем моим делам, сказанных имений касающихся… А всё, что вы на основании моей доверенности законно учините за благо приму, спорить и прекословить не буду. 22. 11. 1882 г.»[277]

Аднак Аляксандр Скірмунт (ІІІ) як новы гаспадар Парэчча ніколі не фігураваў у захаваных дакументах. Падобна, што гэтая даверанасць былаануляваная. Імя старэйшага сына фігуравала толькі ў матэрыялах нарад Менскага губернскага

---

277 НГАБ. Ф. 147, воп. 3, том 9, спр. 25657а, арк. 46–46 адв.

і Пінскага павятовага камітэтаў пра патрэбы сельскагаспадарчай прамысловасці (1902–1903), а таксама ў дакументах Пінскага рымска-каталіцкага дабрачыннага таварыства (1902–1917). Яшчэ ён згадваецца як уладальнік маёнтка Кажанёва (2,3 тыс. дзес.). Вядома, што пазней такой даверанасцю карыстаўся ўжо Раман Скірмунт. Менавіта ён замяніў старэйшага брата і стаў галоўным пераемнікам бацькоўскай справы.

Пры ўсёй сваёй вялізарнай занятасці і пагружанасці ў гаспадарчыя клопаты Аляксандр Скірмунт (малодшы) знаходзіў час для адпачынку і для іншых спраў. Так, узімку 1883 г. «Край» паведаміў, што ў лясах маёнтка Парэчча ў Пінскім пав. 19 і 22 лютага адбылося паляванне на ласёў з удзелам гасцей з Каралеўства Польскага, Галіцыі і Прусіі. Было забіта 12 ласёў, дзік і шмат дробнай жывёлы. Пасля палявання госці наведалі суконную фабрыку, вінакурны завод сучаснай тэхналогіі, тартакі ды інш. Убачанае пераканала гасцей, што Парэчча з'яўляецца цэнтрам прамысловасці ўсяго Краю, які некалі называлі «глухім Палессем»[278]. Дарэчы, такія паляванні былі магчымыя таму, што ў адрозненні ад многіх зямян Беларускага краю А. Скірмунт не дапускаў масавай вырубкі лесу і захоўваў вялікія пушчы, дзе мог жыць буйны лясны звер.

Пра культурнае жыццё ў маёнтку вядома няшмат, хоць узровень адукацыі ўсіх прадстаўнікоў парэцкай сям'і Скірмунтаў быў гарантыяй, што яно павінна было быць на адпаведна высокім узроўні. Знойдзеныя А. Ільіным дакументы сведчаць, што ў канцы 1870-х гг. гаспадар маёнтка вёў перапіску з вядомым польскім лінгвістам і этнографам, рэдактарам часопіса «Вісла» Янам Карловічам (1836–1903). Карэспандэнцыя сведчыць пра сталыя кантакты паміж імі[279]. Дарэчы, перапіску з Янам Карловічам у гэты ж час вяла і Канстанцыя Скірмунт[280].

Жыццё Парэчча, у якім, паводле Аніхімоўскага, панаваў «суровы парадак», а рытм задавалі прамысловыя прадпрыемствы, знаходзілася ў выразнай супярэчнасці з жыццём навакольных палескіх вёсак і маёнткаў нават блізкіх сваякоў Скірмунтаў.

У Моладаве, якое знаходзілася на адлегласці 8 км ад Парэчча, захоўваліся традыцыі шляхецка-арыстакратычнага ладу жыцця. Часам здаецца, што жыхары маёнтка быццам спрабавалі спыніць час. Тут не даводзіцца казаць пра нейкае збліжэнне Скірмунтаў і вёскі. Наадварот, пступова нарастаў канфлікт, які ўпершыню адкрыта праявіўся ў снежні 1905 г., калі ў Моладаве адбыліся моцныя сялянскія хваляванні.

Адзіным прамысловым прадпрыемствам тут была вінакурня, якая, аднак, ніколі

278 «Kraj». 1883, Nr 8.

279 А. Ильин, Е. Игнатюк. Очерки истории культуры Пинщины (IX – начало XX в.), с. 193–194. (Лісты знаходзяцца ў Аддзеле рукапісаў Навуковай бібліятэкі імя В. Стэфаніка ў Львове).

280 Тамсама, с. 198–203.

не была аб'ектам асаблівай увагі ўладальніка Моладава Генрыка Скірмунта. Затое гэты маёнтак паступова ператвараўся ў пэўны аазіс культуры, які часта наведвалі многія творцы. Адным з іх быў сваяк Скірмунтаў вядомы кампазітар, музыкант, мастак і пісьменнік Напалеон Орда (1807–1883). Улетку 1867 г. ён прыехаў сюды ўжо не па сваёй волі. Год таму Напалеон Орда быў арыштаваны па падазрэнні ў «содействии мятежу» 1863 г. Пасля шматлікіх прашэнняў жонкі і ўмяшальніцтва пасла Францыі ў Расіі ён выйшаў з Кобрынскай турмы па амністыі. На пэўны час месцам пражывання без права выезду сталася якраз Моладава.

Частым госцем Моладаўскага палаца была пісьменніца Марыя Радзевічуўна (1863–1944), якая сябравала з дачкой Генрыка Ядвігай Скірмунтуўнай (1874–1968). Радзевічуўна амаль адразу пасля нараджэння засталася сіратой, бо бацькі былі высланы ў Сібір за падтрымку паўстання. Дзяўчынкай апекавалася Марыя Скірмунт з Кажанёва, а Скірмунты з Моладава і Парэчча сталі для яе бліжэйшымі сваякамі і сябрамі, а некаторыя яшчэ і пэўным жыццёвым узорам. Сярод літаратуразнаўцаў існуе меркаванне, што нехта са Скірмунтаў (часцей называюць Канстанціна з Моладава або Рамана з Парэчча) быў прататыпам Марка Чэртвана з рамана «Дэвайціс».

У Моладаве гасцяваў і знаходзіў віды для сваіх пейзажаў вядомы польскі мастак Юзаф Хэлмоньскі (1849–1914). Менавіта тут быў напісаны ягоны вядомы твор «Голас з Літвы», у якім мастак прадставіў пастуха, што граў на палескай сурме (1907).

Таксама тут гасцявала вядомая пісьменніца і сваячка Скірмунтаў Эліза Ажэшка (1841–1910), якая падтрымлівала з моладаўскімі Скірмунтамі сяброўскія адносіны і на працягу многіх гадоў ліставалася з імі. Яна ж актыўна спрыяла паэтычнай творчасці Генрыка. Так, у лісце да яго ад 9 сакавіка 1902 г. пісьменніца сцвярджала: «Ваш паэтычны талент будзе на нашым польскім небе зоркай першай велічыні»[281].

Красамоўны вобраз Моладава намаляваны ў лістах Элізы Ажэшкі да літаратурнага крытыка Аўрэлія Драгашэўскага. Так, у лісце ад 7 лютага 1904 г. яна прасіла падтрымаць «добрым словам» першы том *Poezji* (Варшава, 1903) Г. Скірмунта і наступным чынам ахарактарызавала гаспадароў Моладаўскага маёнтка: «Гэтыя два браты Скірмунты – дзеці з сям'і выключна інтэлігентнай і грамадска актыўнай. Старэйшы (Канстанцін Скірмунт) весь пагружаны ў грамадскія справы, шмат працуе, ахвяруючы час і сродкі, забываючы пра асабістыя інтарэсы і ўласнае шчасце. Блізка яго ведаю і часта бачу, бо бывае тут [у Гародні – *А. С.*] па грамадскіх справах. Розум, сэрца і рука – шчырыя і гарачыя. Малодшы (Генрык Скірмунт) – кампазітар і паэт. Гэтага ведаю менш, але бачу, што жыве цалкам у му-

---

[281] E. Orzeszkowa, *Listy zebrane*. T. 8. Do druku przygot. i komentarzem opatrzył Edmund Jankowski. Wrocław 1976, s. 305.

зыцы і паэзіі. Ёсць яшчэ дзве сястры – прыгожыя тыпы жанчын з высокімі ідэямі, якія нягледзячы на багацце, шмат і цяжка працуюць на розных палетках»[282].

Наведаўшы Моладава ўлетку 1905 г., Ажэшка падзялілася ўражаннямі з вядомым літаратуразнаўцам і гісторыкам літаратуры Мар'янам Здзяхоўскім у лісце ад 4 ліпеня 1905 г.: «Вельмі прыемная атрымалася паездка як з пункту гледзішча прыроды, сярод якой я апынулася, так і – у большай ступені – людзей, якіх наведала. Я жыла ў сельскім доме, прыгожым і старым, напоўненым прыгожымі і старымі рэчамі, атачоным дрэвамі, жыццё якіх вылічваецца стагоддзямі, доме адукаваным, у якім граюць, чытаюць, высока і шырока мысляць, а для мяне, беднай, доме здаўна сяброўскім»[283].

Пра жыццёвы рытм Моладава шмат гавораць радкі з ліста Канстанціна Скірмунта да Элізы Ажэшкі ад 30 верасня 1903 г.: «Восень тут ужо халодная і шэрая. Увечары распальваем у каміне бібліятэкі полымя і сядзім за вялікім сталом над кнігамі. Хто-небудзь зайграе на піяніна, часам падзелімся нейкімі меркаваннямі, а потым ізноў цішыня, сярод якой нараджаюцца і пранікаюць у душу думкі…»[284]

Вялізарная розніца паміж ладам жыцця і зацікаўленасцямі гаспадароў Парэчча і Моладава дазваляе яшчэ раз узняць праблему стаўлення заможнай шляхты да працэсаў сацыяльнай трансфармацыі, якія ў другой палове XIX ст. закранулі Беларуска-Літоўскі край. Відавочна, што большасць шляхты не прыняла перамен. Парэцкія гаспадары ўспрымаліся як нейкія дзівакі. З вялікай сям'і Аляксандра Сымонавіча Скірмунта і Канстанцыі з Сулістроўскіх духоўным «паплечнікам» уладальніка Парэчча стаў толькі брат Канстанцін, які гаспадарыў у маёнтку Шаметаўшчына Свенцянскага пав.

У некралогу, падпісаным крыптонімам *S. K.* (Канстанцыя Скірмунт?), адзначалася ягоная актыўная грамадская і гаспадарчая праца. Менавіта ён быў ініцыятарам і галоўным арганізатарам мясцовай крэдытна-ашчаднай суполкі ў Шаметаўшчыне (1877), якая «паспрыяла вызваленню селяніна з-пад улады ліхвяра». Ужо праз тры гады суполка налічвала 384 сябра, мела больш 60 тыс. руб. капіталу, $^{2}/_{3}$ якога пайшлі на крэдытаванне[285]. Канстанцін Скірмунт быў вядомым фундатарам культурніцкіх праектаў. На ягоныя сродкі выдаваліся паэтычныя зборнікі, былі адлітыя ў бронзе чатыры асобнікі ўжо згаданых шахмат Алены Скірмунт. Ён жа абвясціў грашовую прэмію за знаходку рукапісу «Гісторыі Літвы» Ігната Анацэвіча (1780–1845)[286].

282 Ibidem, s. 167.

283 Ibidem. T. 2, 1955, s. 264.

284 Ibidem. T. 9, 1981, s. 564.

285 *Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych państw słowiańskich.* Tom XI. Warszawa 1890, s. 894.

286 Гэты загадковы рукапіс, над якім працаваў вядомы гісторык, так і не быў знойдзены. Магчыма, І. Анацэвіч не паспеў закончыць працу над ім. Аднак існуе версія, што

Дзейнасць Аляксандра і Канстанціна Скірмунтаў не стала жыццёвым узорам нават для большасці сваякоў. Магчыма, іх таксама датычыла тая знішчальная ацэнка, якую пазней даў заможнай шляхце Палесся XIX ст. Юзаф Абрэмбскі. Ён адзначаў яе рэнцьерскі і спажывецкі характар, сцвярджаючы, што апошняе нават не залежала ад таго, ці шляхціч кіраваў уласным маёнткам архаічным спосабам і імкнуўся захаваць старашляхецкі лад жыцця, ці ён займаўся пэўнай мадэрнізацыяй гаспадаркі і ствараў імідж чалавека сучаснай эпохі. Паводле Абрэмбскага, месца шляхціча ў сацыяльнай іерархіі свайго саслоўя пераважна вызначалася памерамі зямельных уладанняў і колькасцю прыгонных ці працоўных. Спажывецкі эксгібіцыянізм заставаўся галоўным рэгулятарам чалавечых узаемадачыненняў, вызначаў сацыяльную пазіцыю шляхціча і адпаведна належную яму павагу атачэння[287].

Адначасна шляхціч з пагардай глядзеў на тых, хто ўзбагачаўся, дзякуючы ўласным ініцыятывам і гаспадарчым намаганням. Большасць заможнай шляхты ўсё яшчэ жыла мінулым і марыла пра вяртанне часоў Рэчы Паспалітай. Ідэалогія «варшаўскага пазітывізму» з яе высокай ацэнкай чалавека-стваральніка матэрыяльных і духоўных каштоўнасцяў была чужой для менталітэту большасці мясцовай шляхты.

А вось жыццё сялян у вёсках Моладава і Парэчча, як і сотні гадоў таму, вызначалася цыклам земляробчай працы. Ужо згаданы настаўнік Пётр Гякоўскі даволі падрабязна ахарактарызаваў асноўныя заняткі і гаспадарчыя схільнасці парэчан. Паводле ягоных дадзеных, у 1872–1873 гг. у вёсцы і маёнтку пражывала каля 1 200 чал. Мясцовы інфарматар Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства на падставе «наречия» вылучыў чатыры катэгорыі насельніцтва Парэцкай воласці – сялян-уласнікаў («белорусское наречие»), шляхту («дворян») і мяшчан з Пінска, што карысталіся польскай мовай, а таксама немцаў і чэхаў, што часова жылі ў воласці. У апошнім выпадку гаворка, відаць, ішла пра нешматлікіх «фабрыкантаў» і перасяленцаў-земляробаў.

Галоўным заняткам вёскі, які забяспечваў яе існаванне, было земляробства. Кожны сялянскі двор меў: зямлі пад сядзібу – 1 600 саж., пашні – 9 дзес. 424 саж., сенакосаў – 5 дзес. 1 224 саж. Выганы для скаціны знаходзіліся ў агульным карыстанні. У якасці асноўных палявых культур фігуравалі жыта, ячмень, авёс, пшаніца, грачыха, проса, а таксама бульба, рэпа і буракі. Ураджаі зернавых у гэты час гарантавалі пражыванне сям'і з 10 чалавек. Большая сям'я ўжо павінна была набываць хлеб.

Памешчыцкія землі і частка сялянскіх апрацоўваліся парабкамі. Іх гадавы заробак у Скірмунта складаў 35–40 руб., а ў сялян – 17–20 руб. пры харчаванні за

рукапіс быў перададзены аўтарам пісьменніку і гісторыку Юзафу Ігнату Крашэўскаму (1812–1887).

287 J. Obrębski, *Polesie. Studia etnosocjologiczne*…, s. 73.

кошт гаспадара. Садаводствам і гародніцтвам займаліся пераважна памешчыкі. За збор грыбоў і ягад у памешчыцкіх лясах сяляне павінны былі адпрацаваць два дні з «душы». Сабранае яны збывалі габрэям-пасярэднікам.

Пад сенакосамі ў Скірмунта знаходзілася 900 дзес., а пад выганам для быдла – каля 1 тыс. дзес. Сялянскія сенакосы не заўсёды гарантавалі магчымасць нармальнай зімоўкі для скаціны. Недахоп сена прымушаў набываць яго ў памешчыка. Так, увосень лугавое сена каштавала ад 12 да 15 кап. за пуд, а ўвесну кошты ўзрасталі да 35 кап.

Жывёлагадоўля ў сялянскіх дварах была арыентавана толькі на ўласныя патрэбы. Пры гэтым згадваюцца каровы «тирольской породы», якія каштавалі ад 40 да 60 руб., што амаль удвая перавышала кошт кароў «простой породы». Зямля апрацоўвалася валамі і коньмі. Хатнюю птушку таксама разводзілі толькі для ўласнай патрэбы. Рыбалоўствам сяляне займаліся пераважна ўзімку.

Варта дадаць, што выкупная пазыка за зямлю аплочвалася з двара (21 руб. 74 кап.), а дзяржаўныя падаткі – з «душы» (5 руб. 23 кап.). Таксама даводзілася аплочваць куплю і рамонт прыладаў працы і транспартных сродкаў, пэўнага харчу і тавараў. Паводле падлікаў Гякоўскага, кожная парэцкая сям'я выдаткоўвала штогод на соль, гарэлку, боты, шапку і рукавіцы ад 38 да 50 руб., на сала ішло ад 40 да 80 руб. Затое ўся вопратка выраблялася ў хаце з уласных матэрыялаў.

Асобную ўвагу Гякоўскі надаў дадатковым заробкам вёскі, магчымасць для якіх стварала прамысловасць маёнтка. На фабрыку сяляне звычайна ішлі позняй восенню і зімой. Заробкі былі даволі значнымі, хоць істотна саступалі заробкам сталых «фабрыкантаў», якія да таго ж мелі бясплатнае харчаванне, пражыванне і атрымлівалі дровы. Так, у залежнасці ад кваліфікацыі і характару працы гадавы заробак мужчыны складаў ад 40 да 300 руб., жанчыны – ад 20 да 40 руб., а дзіцяці (з 14 год) – ад 12 да 18 руб. Таксама працяглы час сяляне зараблялі грошы перавозкай цукра і сукна, якія даводзілася вазіць у Менск, Вільню, Берасце, Пінск і Коўна. Аднак развіццё чыгуначнага транспарта паступова перакрэсліла магчымасць такога заробку[288].

Трэба адзначыць, што актыўная гаспадарчая дзейнасць парэцкіх Скірмунтаў моцна закранала вёску, абуджала ініцыятыву і паступова ўцягвала ў эканамічны і гандлёвы вір сялян Парэчча. Усё гэта спрыяла пэўнаму збліжэнню маёнтка і вёскі, якіх у канцы XIX ст. ужо не дзяліла сацыяльная бездань, вядомая з часоў Рэчы Паспалітай. Дарэчы, менавіта Скірмунты заснавалі першую школу ў Парэччы, якая, праўда, арыентавалася амаль выключна на падрыхтоўку працоўных суконнай фабрыкі. Тым не менш, гэты факт варты ўвагі.

Патрэба ў адукацыі стала больш адчувальнай ужо пасля адмены прыгону.

---

288 БВУ. Аддзел рукапісаў. F 34–248. П. Гяковский. *Сведения о состоянии сельского хозяйства…*

Вядома, што ў 1864 г. існавала школа пры Парэцкай царкве, заняткі ў якой вёў святар. Пра гэта паведаміў у лісце міравому пасярэдніку парэцкі валасны старшыня Сідарук. Ён таксама даслаў спіс вучняў. Гэта былі Якаў Сідарук, Адам Горбач, Раман і Кірыла Чугаі, Грыгоры Лукашык, Максім Есіпчук, Сільвестр Цярлецкі, Патап Ковель, Павел Застружскі, Грыгоры, Якаў і Цімафей Хвясюкі, Лявон Юрчук, Адам Гур'янчык, Лукаш і Янка Глушкі[289]. Большасць гэтых прозвішчаў і сёння сустракаюцца ў Парэччы.

У згаданым лісце адчувальны клопат валаснога старшыні пра школу. Ён прыгадаў, што ў красавіку 1864 г. губернатар забараніў самавольнае будаўніцтва школ і загадаў чакаць распрацоўкі адзінага стандартнага праекта вясковай школы. Аднак і напрыканцы лета праект у Парэчча не даслалі, і Сідарука цікавіла магчымасць самастойнага будаўніцтва школы.

Сітуацыя з навучальнымі ўстановамі ў Пінскім пав. у гэты час сведчыць пра тое, што эпоха Асветніцтва сюды яшчэ не дабралася. У 1863 г. на ўвесь Пінскі пав. прыходзілася 10 народных вучылішчаў Міністэрства народнай асветы (МНА) (290 вуч.), 79 вучылішчаў пры цэрквах (733 вуч.) і 5 вучылішчаў Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў (329 вуч.). Такім чынам, у Пінскім пав. у 1863 г. у афіцыйных школах атрымлівалі пачатковую адукацыю ўсяго толькі 1 352 вуч. (у т. л. 128 дзяўчынак), з якімі працавалі 94 настаўнікі[290]. Для Расійскай імперыі гэта была звычайная сітуацыя.

Народнае вучылішча Міністэрства народнай асветы было адчынена ў Парэччы ў 1868 г.[291] Магчыма, Пётр Гякоўскі быў яго першым настаўнікам. *Памятные книжки Минской губернии* ўтрымліваюць імёны парэцкіх настаўнікаў, якія адыгралі вялікую ролю ў паступовай сацыялізацыі жыхароў палескай вёскі. Так, у 1886–1889 гг. у Парэччы выкладаў Павел Крычэўскі[292], а на пачатку XX ст. – Пётр Гоцка[293]. Паводле запісу спаведнай кнігі, у 1881 г. у Парэччы настаўнічала Соф'я Амоліч, якая мела ўсяго 21 год.

Гаспадарчая дзейнасць гаспадароў маёнтка спалучалася з грамадскай актыўнасцю. Дарыуш Шпопер лічыць, што ўжо ў 1880 г. фактычна аднавілася дзейнасць Таварыства дабрачыннасці, якая, аднак, не была публічнай і не афішавалася[294]. Ёсць усе падставы меркаваць, што Аляксандр Скірмунт меў непасрэднае дачыненне да яго дзейнасці. У некралозе на старонках «Кур'ера Літоўскага» (1909, № 161) сцвярджалася, што менавіта ён разам з Марыяй Скірмунтовай з Твардоўскіх заснаваў

---

289 НГАБ. Ф. 242, воп. 1, спр. 119, арк. 95–96.

290 Тамсама. Ф. 21, воп. 1, спр. 12, арк. 8.

291 Тамсама. Ф. 458, воп. 1, спр. 78, арк. 11 адв.

292 *Памятная книжка Минской губ. на 1886 г.* Минск 1885, с. 189; *Памятная книжка Минской губ. на 1889 г.* Минск 1888, с. 156.

293 *Памятная кніжка Мінской губ. і календарь на 1910 г.* Мінск 1909, с. 171.

294 D. Szpoper, *Gente Lithuana, natione Lithuana…*, s. 72.

у Пінску Таварыства дабрачыннасці ў перыяд урадавага «ціску і грамадскай апатыі». Варта адзначыць, што ў 1902 г., калі Пінскае рымска-каталіцкае дабрачыннае таварыства афіцыйна абвясціла пра пачатак сваёй дзейнасці, А. Скірмунт стаў адным з шасці яго ганаровых сяброў.

З 1873 г. А. Скірмунт быў «действительным членом» Менскага губернскага статыстычнага камітэта. Вядома, што гэтая дзейнасць працягвалася да самай смерці ў 1909 г.[295] У прыватнасці, ягонае імя як сябра Камітэту згадвалася ў Памятных кніжках Менскай губ. на 1885, 1886, 1889 і 1910 гг.

У 1878 г. Аляксандр Скірмунт пагадзіўся ўвайсці ў склад Менскага таварыства сельскай гаспадаркі. Яно было створана два гады таму і першапачаткова прызначалася выключна для чыноўнікаў і памешчыкаў «рускага паходжання». Аднак вынікам гэтага абмежавання стала амаль поўная бяздзейнасць Таварыства. Дзеля яго ажыўлення пасля шматлікіх узгадненняў, у якіх актыўную ролю адыграў уладальнік маёнтка Савічы Слуцкага пав. Эдвард Вайніловіч, арганізацыя папоўнілася некалькімі мясцовымі польскімі землеўласнікамі. Сярод іх быў Аляксандр Скірмунт[296].

Актыўнасць новых сяброў цалкам змяніла сітуацыю ў Таварыстве. Ужо праз некалькі гадоў пад фактычным кіраўніцтвам Э. Вайніловіча яно стала важным чыннікам эканамічнага жыцця ўсяго Беларуска-Літоўскага краю, а ў грамадскім плане значна ўмацавала пазіцыі мясцовых польскіх землеўласнікаў.

У тым самым 1878 г. у Парэччы па ініцыятыве Аляксандра Скірмунта ўзнікла першая ў Менскай губ. крэдытна-ашчадная суполка, якая па вызначэнні аўтараў тэксту *Слоўніка геаграфічнага земляў Каралеўства Польскага...* (адным з іх быў Аляксандр Ельскі), «перакрыла дарогу ліхвярству і паяднала сялян з інтэлігенцыяй»[297]. 1 студзеня 1879 г. суполка налічвала ўжо 460 сяброў, а яе фінансавы абарот за мінулы год склаў болей 43 тыс. руб. Праз два гады колькасць сяброў суполкі вырасла да 591, а гадавы абарот – да 63,5 тыс. руб. Суполка развівалася, і напрыканцы 1880-х гг. дзейнічала ў трох валасцях Пінскага пав. і памежных з імі валасцях Кобрынскага пав. Скірмунты з Моладава таксама далучыліся да гэтай ініцыятывы. Пазней паводле яе ўзору была створана суполка ў Клецку.

У 1881 г. Аляксандр Аляксандравіч Скірмунт быў запрошаны менскім губернатарам Аляксандрам Пятровым для ўдзелу ў нарадах адмысловай камісіі па зменах заканадаўства, якое датычыла габрэяў. У выніку ён стаў адным з трох прадстаўнікоў польскіх землеўласнікаў Менскай губ., якія ўвайшлі ў склад

---

[295] *Памятная книжка Минской губ. на 1874 г.* Ч. 1. Минск 1873, с. 11; *Памятная книжка Минской губ. на 1886 г.*, с. 29; *Памятная книжка Минской губ. на 1885 г.* Минск 1884, с. 31; *Памятная книжка Минской губ. на 1889 г.*, с. 68.

[296] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1847–1928. Część pierwsza*, s. 40.

[297] *Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych państw słowiańskich.* Tom VIII. Warszawa 1887, s. 835.

Рэдакцыйнай камісіі. Іншы сябра гэтай Камісіі Эдвард Вайніловіч ва ўспамінах назваў А. Скірмунта «светачам нашай правінцыі, чалавекам вопытным у рашэнні грамадскіх пытанняў, смелым і дзёрзкім» і прызнаў, што той быў для яго ўзорам грамадзяніна[298]. Можна меркаваць, што ацэнку Вайніловіча ў той час падзяляла значная частка зямян Меншчыны.

Дзякуючы А. Скірмунту, у 1901 г. Менскае таварыства сельскай гаспадаркі стварыла ў Пінску ўласны філіял – Аддзяленне па распрацоўцы сельскагаспадарчых і эканамічных пытанняў Менскага Палесся. Актыўным сябрам Аддзялення быў сын А. Скірмунта Раман.

У 1870–80-я гг. губернскі сакратар Аляксандр Скірмунт штогод прызначаўся на пасаду ганаровага міравога суддзі ў Пінскім пав. і адначасна быў сябрам *По крестьянским делам присутствия*[299]. Паводле Якуба Гейштара, у 1887 г. ён упершыню не быў зацверджаны на гэтую пасаду па прычыне «неблагонадежности»[300]. Памятная кніжка Менскай губ. на 1889 г. сапраўды не згадвала Скірмунта на гэтай пасадзе. Затое ён фігураваў як сябра *Податного присутствия* Пінскага пав.[301]

У сакавіку 1889 г., калі маршалак шляхты Пінскага пав. прасіў яго даслаць адпаведныя дакументы дзеля ўнясення ў спіс кандыдатаў на пасаду ганаровага міравога суддзі, ён пісьмова заявіў, што не жадае быць уключаным у гэты спіс[302]. Праўда, пазней ён пагадзіўся вярнуцца на пасаду, і незадоўга да смерці зноў яе заняў[303].

Паводле Якуба Гейштара, ён быў адным з заснавальнікаў і першым кіраўніком Палескага таварыства ўзаемнага крэдыту (1902). Трэба дадаць, што А. Скірмунт уваходзіў у кіраўніцтва гэтага Таварыства амаль да канца жыцця. Былы паўстанец бачыў у ім тыповага прадстаўніка «арганічнай працы» і пазітывіста ў шляхетным разуменні. Ён сцвярджаў, што А. Скірмунт да самай смерці асабіста кіраваў гаспадаркай, не меў палітычных амбіцый і лічыў абавязкам землеўласніка працу на зямлі сваіх продкаў[304].

1902–1903 гг. ён актыўна ўдзельнічаў у нарадах Менскага губернскага і Пінскага павятовага камітэтаў аб патрэбах сельска-гаспадарчай прамысловасці. Менскі камітэт зацвердзіў ягоны рэферат, прысвечаны праблеме сялянскага землеўладання, ліквідацыі церазпалосіцы і сервітутаў. Дарэчы, напрыканцы рэферату

---

298 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1847–1928. Część pierwsza,* s. 47.

299 *Памятная книжка Минской губ. на 1886 г.*, с. 179, 186; НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 6515, арк. 135 адв.

300 J. Gieysztor, *Pamiętniki z lat 1850–1865.* Tom I, s. 402.

301 *Памятная книжка Минской губ. на 1889 г.*, с. 156.

302 НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 4563, арк. 29.

303 *Памятная книжка Минской губ. и календарь на 1910 г.* Минск 1909, с. 162.

304 J. Gieysztor, *Pamiętniki z lat 1850–1865.* Tom I, s. 402.

А. Скірмунт заявіў пра неабходнасць поўнага ўраўнання сялян у правах з іншымі саслоўямі[305].

У 1904 г. як прадстаўнік «дворянства» Пінскага пав. (разам з Геранімам Кяневічам) стаў сябрам Менскай губернскай нарады па пераглядзе заканадаўства пра сялян. Гэтыя губернскія нарады ствараліся па загадзе міністра ўнутраных спраў Плеве з нагоды ўвядзення Палажэння пра земскіх начальнікаў[306].

Аляксандр Аляксандравіч Скірмунт памёр 26 чэрвеня 1909 г. у Парэччы. Напярэдадні пахавання парэцкія сяляне па ўласнай ініцыятыве ўпрыгожылі вёску кветкамі і зелянінай. Труну сяляне неслі на руках больш 8 км на родавыя могілкі Скірмунтаў у Моладава. З развітальнымі прамовамі выступілі старшыня Менскага таварыства сельскай гаспадаркі Эдвард Вайніловіч, прадстаўнік павятовай шляхты Ян Орда і прадстаўнік рабочых і служачых прадпрыемстваў Парэчча Ф. Енджэеўскі.

На рэштках помніка, зруйнаванага ўвосень 1939 г., застаўся надпіс: *Mąż wielkich zasług, współpracownik reformy włościańskiej (Чалавек вялікіх заслуг, супрацоўнік сялянскай рэформы)*. Цікава, што аўтары гэтага надпісу адзначылі менавіта ягоную грамадскую дзейнасць, звязаную з адменай прыгоннага рабства... Падобна, што і для ягоных нашчадкаў менавіта гэта, а не прадпрымальніцкая і гаспадарчая дзейнасць было пэўным прыярытэтам.

Моладава і Парэчча быццам сімвалізуюць два шляхі, па якіх пайшла шляхта былога Вялікага Княства Літоўскага ў ХІХ ст. Уладальнікі Парэчча сталі на шлях прамысловага рэфармавання маёнтка, што цалкам змяніла іх жыццёвы ўклад і ментальнасць. Сацыяльная палітыка парэцкіх Скірмунтаў ламала саслоўныя перагародкі і адкрывала шлях у новае грамадства, у якім краёвая ідэя мела шансы на рэалізацыю. Атмасфера Парэчча моцна паспрыяла фармаванню асобы Рамана Скірмунта як краёўца і палітыка. Ужо ў сваіх першых публікацыях (1904) ён сцвярджаў, што ХІХ ст. стала стагоддзем дэмакратызацыі грамадства, што гістарычная роля шляхты засталася ў мінулым, што ўжо люд «надае фарбы краёваму сцягу»[307]. А вось у Моладаве ў большай ступені спрабавалі захаваць старасвецкі лад жыцця і традыцыйныя адносіны паміж вёскай і маёнткам.

Аднак дзейнасць Скірмунтаў-рэфарматараў, як у гаспадарчай, так і ў сацыяльнай сферы, не стала ўзорам не толькі для большасці шляхты Беларуска-Літоўскага краю, але нават для сваякоў. Прыклад «Ліверпуля на Ясельдзе» нават у кантэксце гісторыі аднаго шляхецкага роду сведчыць хутчэй пра няўдачу працэсу трансфармацыі шляхецкага саслоўя. Гісторыя роду Скірмунтаў пацвярджае моц шляхецкіх традыцый і стэрэатыпаў, арыентацыю значнай часткі шляхты на

305 *Труды местных комитетов о нуждах сельскохозяйтвенной промышленности.* XXI. Минская губерния. Санкт-Петербург 1903, с. 328.

306 НГАБ. Ф. 68, воп. 1, спр. 1, арк. 52.

307 Ro…munt [R. Skirmunt], *Głos przeszłości i potrzeba chwili.* Lwów 1904, s. 29.

каштоўнасці, звязаныя з эпохай Рэчы Паспалітай. Відавочна, што не адбылося грунтоўных змен у той карціне свету, якая вызначала падыходы большасці шляхты да сацыяльна-эканамічных і палітычных перамен XIX ст. Адпаведна краёвая ідэя не магла мець шырокай сацыяльнай базы нават сярод «тутэйшай» эліты, якая ніколі не забывала пра мясцовыя карані ўласных радаводаў.

### *Раман Аляксандравіч Скірмунт: палескі фармат*

Раман Скірмунт нарадзіўся 25 красавіка 1868 г. у Парэччы. Ён быў сёмым нашчадкам у сям'і Аляксандра Скірмунта і Тэафілы з Любаньскіх. Нагадаю, што яшчэ ў Альбрэхтове нарадзіліся Тэафіла (1857) і Аляксандр (1858), а ў Парэччы – Браніслава (1864), Юзаф (1862), Ванда (1866) і Вацлаў (1867). Сям'я была вялікая. Пры жыцці Рамана нарадзіліся Алена (1869), Феліцыя (1873) і Зянон (1874), але трагічна загінуў Вацлаў (1872). 30 красавіка Раман Скірмунт быў ахрышчаны ў Пінскім парафіяльным касцёле ксяндзом Вікенціем Свідэрскім.

*ДАКУМЕНТ*

**Выпіска з метрычнай кнігі Пінскага парафіяльнага касцёла. 1876 г.** [308]

*Выпись метрики о рождении и крещении дворянина двуименного Романа-Марьяна Александрова Скирмунта, из подлинной Пинского римско-католического приходского костела книги страницы 30, ст. 62 требующей стороне выдана. Тысяча восемьсот шестьдесят восьмого года апреля тридцатого дня, в Пинском римско-католическом приходском костеле окрещен младенец по имени Роман-Марьян, преподобным отцем белого духовенства Викентием Свидерским с совершением всех обрядов таинства. Дворян помещиков Александра и Теофилы из Любанских Скирмунтов, законных супругов сын, родившийся сего ж года и месяца 25 числа в имении Поржече Пинского прихода. Восприемниками были помещик Казимир Твардовский с Мариею Скирмунтовою.*

*Что сия метрическая выпись о рождении и крещении дворянина двуименного Романа-Марьяна Скирмунта с подлинною Пинского римско-католического приходского костела книгою верна, имеет законную достоверность и не подлежит никакому сомнению, в чем я, ручаясь надлежащим подписом с приложением костельной печати, удостоверяю.*

*Октябрь 4 дня 1876 года. Гор. Пинск. № 469*
*/подлинную подписали:*
*Настоятель Пинского римско-католического приходского костёла /М.П./*

*По Указу Его Императорского Величества Виленская римско-католическая духовная консистория, сходно резолюции своей 9 октября 1876 г. состоявшейся,*

[308] НГАБ. Ф. 319, воп. 2, спр. 2969, арк. 77 адв.

*утверждая метрическую выпись о рождении и крещении Романа-Марьяна, сына дворянина Александра Скирмунта, свидетельствует надлежащею подписью и приложением казенной печати.*

*Октября 21 дня 1876 года. № 9068*
*/подлинную подписали:*
*Ассесор Пр. Каноник А. Вашкевич*
*Секретарь Поразинский*
*За столоначальника Горский.*

Хроснымі бацькамі сталі ўладальнік маёнтка Велясніца Казімір Твардоўскі і ягоная сястра Марыя, жонка Генрыка Скірмунта з Моладава.

Палессе на той час было радзімай трох пакаленняў роду Твардоўскіх, найбольш вядомым з якіх быў рэктар Віленскага ўніверсітэта Юзаф Твардоўскі (1786–1840). Пасля адстаўкі (1824), звязанай са справай філаматаў і філарэтаў, ён перабраўся ў маёнтак і паспяхова заняўся гаспадарчай дзейнасцю. Брат Марыі Эдвард за ўдзел у паўстанні быў высланы ў Табольск, дзе і памёр. Твардоўскія ўспрымаліся як цалкам мясцовы («гнездавы») род, што было важным для іх прэстыжу. Напрыклад, Вайніловіч нават у тэстаменце з гонарам адзначаў, што Вайніловічы не прыходзілі ні з Усходу, ні з Захаду, што яны карэнныя, «кроў ад крыві і косць з косці мясцовага люду», што жывуць і працуюць на «роднай беларускай зямлі»[309].

Дзяцінства Рамана Скірмунта праходзіла ў тым самым «палацыку», які ў 1876 г. прыемна ўразіў Ігнацыя Аніхімоўскага. Ён рос у шляхецкім асяродку, дзе дамінавала якраз «гнездавая шляхта». Побач кіпела фабрычная мітусня, а трохі далей сваё больш размеранае жыццё вяла палеская вёска.

Матэрыялы пра першыя гады ягонага жыцця адсутнічаюць. У апублікаваных тэкстах Рамана Скірмунта няма згадак пра дзяцінства. Толькі ў артыкуле «Пані з Муру» (1934), які быў развітаннем з памерлай сястрой Канстанцыяй, ён задаўся пытаннем пра вытокі фармавання нацыянальнай свядомасці. Паводле Скірмунта, усё пачынаецца з выхавання, апрача таго, «паходжанне і традыцыя ствараюць моцны падмурак, а асяродак, у якім жывем, мацуе яго або нішчыць»[310].

Гэтыя думкі падказваюць далейшы накірунак разважанняў. З дапамогай гістарычнай літаратуры і ўспамінаў можна паспрабаваць уявіць штодзённасць жыцця заможнага шляхецкага маёнтка, у якім падрасталі дзеці.

Польскі даследчык Міраслаў Устжыцкі, даследуючы штодзённасць шляхты і зямян заходніх губерняў Расійскай імперыі ў апошняе паўстагоддзе яе існавання, звярнуў увагу на вялікую ролю сям'і і блізкіх сваякоў у жыцці шляхціча. Менавіта яны ўтваралі натуральны асяродак і вызначалі ягоны ўнутраны свет на ўзроўнях

309 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1847–1928. Część pierwsza,* s. VIII.
310 R. Skirmuntt, *Panie z Muru*, «Słowo». 1934, Nr 130.

ад штодзённасці да ідэалогіі[311]. Прычым на першым месцы была сям'я, якая звычайна складалася з некалькіх пакаленняў, а таксама ў выпадку неабходнасці станавілася прытулкам для блізкіх сваякоў і асоб, што калісьці аказалі ёй важныя паслугі.

У выпадку Скірмунтаў месцам такога прытулку было хутчэй Моладава з ягонай доўгай гісторыяй і пэўнай традыцыяй. Парэчча стала месцам жыхарства сям'і Аляксандра Скірмунта (малодшага) толькі ў 1860 г. Але яго сям'я хутка расла, што, між іншым, патрабавала прысутнасці ў маёнтку шматлікіх гувернантак і хатніх настаўнікаў. Звычайна ў ролі гувернантак выступалі француженкі, але з улікам таго, што хлопчыкі гэтай лініі роду Скірмунтаў часта атрымлівалі сярэднюю адукацыі ў гімназіях Мітавы або Рыгі, гувернанткамі ў Парэччы і Моладаве маглі быць таксама немкі.

У пераважнай большасці шляхецкіх сем'яў дамінавалі мужчыны. У 1930 г. Раман Скірмунт у каментарах да выдання ўспамінаў Э. Вайніловіча адзначыў: «У Савічах, як і ў большасці крэсовых дамоў, якія клапаціліся пра традыцыю, добрыя звычаі і выхаванне дзяцей, найвялікшым аўтарытэтам быў бацька. Яго слухаліся слепа і ахвотна, а для мамы заставалася шчырая дзіцячая прыхільнасць»[312]. Магчыма, пішучы гэтыя словы, ён прыгадваў і ўласнае дзяцінства.

Паводле М. Устжыцкага, асобасная мадэль «добрага гаспадара» абавязкова ўключала ягоны клопат пра блізкіх, працу ў маёнтку дзеля падвышэння эфектыўнасці гаспадаркі і росту сямейнага дабрабыта, гасціннасць і таварыскасць[313]. Да гэтага трэба дадаць яшчэ і ўласцівую для многіх зямян актыўную грамадскую дзейнасць. Напрыклад, Эдвард Вайніловіч ва ўспамінах наступным чынам характарызаваў уласнага бацьку: «Пасля заканчэння вучобы ў Вільні адразу быў уцягнуты ў грамадскую дзейнасць. Цяжкая праца на зямлі ва ўласнай гаспадарцы [...] жыццё не па сродках і выдаткі, звязаныя з кіраваннем маёнткам бацькоў, патрабавалі вялікіх намаганняў. Добрасумленным выкананнем абавязкаў і пачуццём гонару, якія спалучаліся з эрудыцыяй і выхаваннем, што дала Віленская альма-матэр, Адам спаткаў агульнае прызнанне і павагу грамадскасці»[314].

Узорам такога гаспадара з'яўляўся Марк Чэртван з рамана Марыі Радзевічуўны «Дэвайціс» (1889). Кніга Радзевічуўны – гэта свайго роду гімн патрыярхальным парадкам і супрацы маёнтка і вёскі. Яна распавядае пра цяжкую працу, гонар, патрыятызм і цярплівасць, якія дапамагаюць выстаяць і захаваць традыцыі. У якасці іх сімвала фігураваў стары дуб-волат («Дэвайціс»), якога галоўны герой

---

311 M. Ustrzycki, *Ziemianie polscy na Kresach. 1864–1914. Świat wartości i postaw.* Kraków 2006, s. 111.

312 R. Skirmuntt, *Edward Woyniłłowicz. Wspomnienia 1847–1928 r. Wyd. 1931 r.,* «Słowo». 1932, Nr 1.

313 M. Ustrzycki, *Ziemianie polscy na Kresach. 1864–1914…*, s. 114.

314 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1847–1928. Część pierwsza,* s. 9.

твора спрабаваў абараніць ад сякеры. Як ужо адзначалася, Марыя Радзевічуўна была сваячкай Скірмунтаў, і цалкам магчыма, што сапраўды нехта з мужчын гэтага роду стаў прататыпам Марка Чэртвана. Прынамсі пра гэта сведчыць цэнтральны для аповесці вобраз дуба, выява якога была важным элементам герба роду Скірмунтаў, а таксама тое, што асноўныя падзеі разгортваюцца на Жмудзі, адкуль і паходзіў гэты род.

Безумоўна, Аляксандр Скірмунт адыграў значную ролю ў станаўленні асобы сына Рамана. Бацька сапраўды быў узорам працавітасці, цярплівасці, самастойнасці мыслення, краёвага патрыятызму і смеласці ў пракладванні новых шляхоў як у гаспадарчай дзейнасці, так і ў грамадскай.

Пра ролю бацькі ў станаўленні асобы нашага героя таксама можна меркаваць на падставе тэксту Рамана Скірмунта «Жыццё, смерць і пахаванне с. п. Аляксандра Скірмунта», апублікаванага на старонках варшаўскай газеты «Слова». Тэкст не быў падпісаны, але аўтарства Р. Скірмунта было ўстаноўлена дзякуючы ягонаму лісту да Ч. Янкоўскага, які ў 1909 г. фактычна кіраваў рэдакцыяй газеты. Пачатак тэксту ўяўляў сабой некралог, а ягоны працяг утрымліваў апісанне пахавання з развітальнай прамовай Вайніловіча. Найбольшую цікавасць уяўляе першая частка.

Варта прывесці фрагмент гэтага некралога, які пачынаўся адразу пасля кароткіх біяграфічных звестак пра нараджэнне, вучобу ў Пецярбургскім універсітэце і вяртанне ў Парэчча па просьбе бацькі Аляксандра Сымонавіча Скірмунта.

*ДАКУМЕНТ*

**Жыццё, смерць і пахаванне с. п. Аляксандра Скірмунта (1909). Фрагмент**[315]

*[…] У 1858 г. Аляксандр Скірмунт выступае на шырокую грамадскую арэну як прадстаўнік Пінскага пав. на нарадах па вызваленні сялян. Потым як прадстаўніка Менскай губ. мы яго бачым ужо ў сталіцы над Нявою. Актыўны ўдзел у працы па падрыхтоўцы сялянскай рэформы цалкам займае ягоны час з 1858 па 1861 г. Урэшце ён удзельнічае ў працы агульнай Рэдакцыйнай камісіі. С. п. Аляксандр Скірмунт быў гарачым прыхільнікам вызвалення сялян. У гэтай справе ён упарта бараніў прынцыпы сапраўднага прагрэсу.*

*Пасля 1861 г. бацька цалкам перадаў яму кіраванне абшырнымі зямельнымі уладаннямі ў краі, а таксама цукроўняй і суконнай фабрыкай. Характэрнае для яго ад нараджэння імкненне да парадку прымусіла адразу ж заняцца ўрэгуляваннем праблемы сервітутаў і ліквідацыяй церазпалосіцы на сваіх землях. Маёнтак Парэчча ён зрабіў узорным.*

*С. п. Аляксандр Скірмунт быў прынцыповым праціўнікам руху 1863 г. Балюча перажываў гэтыя падзеі, але выканаў свой абавязак адносна ўласнага народу, калі*

315 B. p. [Skirmunt R.]. *Żywot, zgon i pogrzeb ś. p. Aleksandra Skirmunta*, «Słowo». 1909, Nr 165.

*ўзнікла патрэба. Двойчы асабіста перавозіў Траўгута праз пушчы. Шчаслівы лёс і прыродная асцярожнасць дапамаглі пазбегнуць згубы ў тым жахлівым пажары, хоць ён і быў прызначаны «Нацыянальным урадам» начальнікам павета.*

*Руплівая праца над умацаваннем матэрыяльнага быту пасля ўсіх хваляванняў напоўняла ягонае жыццё да 1875 г. У тым жа годзе ён быў прызначаны ганаровым суддзёй Пінскага пав., але ў 1887 г. быў адпраўлены ў адстаўку як «неблагонадёжный». Праз 6 гадоў зноў быў прызначаны на гэтую пасаду. Ён карыстаўся вялікай пашанай як суддзя, бо ягоныя рашэнні адрозніваліся разважнасцю і празрыстасцю, і займаў гэтую пасаду амаль да самай смерці.*

*Да апошніх хвілін жыцця с. п. Аляксандр заставаўся руплівым грамадскім дзеячам. Ён быў адным са стваральнікаў і першым кіраўніком Палескага аддзелу Менскага таварыства сельскай гаспадаркі, Пінскага таварыства дабрачыннасці і Палескага таварыства ўзаемнага крэдыту. У красавіку 1908 г. падчас агульнага схода Палескага таварыства ўзаемнага крэдыту ён перажыў прыступ глаўкомы (кровазліццё ў вока). Гэта быў злавесны знак блізкага канца. З пасады кіраўніка ён сышоў толькі за два месяцы да смерці, адчуваючы, што выкананне гэтых абавязкаў стала для яго занадта цяжкім, і не жадаючы заставацца фармальным кіраўніком.*

*Ён займаўся і кіраваў уласнай гаспадаркай да дня смерці. Яшчэ напярэдадні гэтага фатальнага дня ён па шматгадовай звычцы аб'язджаў свае палеткі на аднаконным вазку. Беззаганная справядлівасць, памяркоўнасць, лагоднасць у ацэнках падзей і людзей, яснасць розума былі выдатнымі рысамі ягонай чыстай душы. Да апошніх дзён жыцця да яго звярталіся па парады і чакалі прысуду. Здаралася, што нават габрэі прасілі яго дапамогі ў сваіх унутраных спрэчках.*

*З замілаваннем займаўся ўласнай гаспадаркай. Ніякія ўдары лёсу і няўдачы не маглі расчараваць ці аслабіць ягонай прагі да працы. Калі ў 1879 г. згарэла цукроўня, якая не была застрахаваная, пасля скрупулёзнай калькуляцыі ён прыйшоў да высновы, што ў мясцовых умовах больш адпаведным будзе заснаванне вінакурнага завода. У тым жа годзе завод быў збудаваны і пачаў даваць прадукцыю. У 1876–1877 гг. ён правёў дрэнаж сваіх земляў на вельмі значных плошчах. Пры гэтым яго праца не была паспешлівай і імпульсіўнай. Настойлівасць і паслядоўнасць, сіла духу нават пасля самых цяжкіх няўдач – былі выдатнай рысай ягонага характару.*

*Ён быў грунтоўна падрыхтаваны да грамадскай дзейнасці, але палітычных амбіцый амаль не меў. Да 1905 г. лічыў галоўным абавязкам працу на сваім загоне дзеля ўздыму матэрыяльнага дабрабыту ўласнага грамадства. Не верыў у магчымасць шырокай палітычнай акцыі. Меў моцнае польскае нацыянальнае пачуццё, але без варожасці да расійцаў.*

*У адносінах з прадстаўнікамі ўладаў вызначаўся прастатой і праўдзівасцю, часта з дадаткам горычы. Калі ў 1888 г. пасля адстаўкі з пасады суддзі, якую ён любіў, у коле высокіх чыноўнікаў хтосьці выказаўся, што не ўсе палякі заслугоўваюць*

*звальнення з дзяржаўных установаў, і што сярод іх ёсць тыя, хто заслугоўвае даверу, с. п. Аляксандр Скірмунт заўважыў: «Толькі ў сучасных умовах невядома, чым трэба ганарыцца, ці заслугоўваць гэты давер, ці яго страціць...» У той жа групе чыноўнікаў, калі пачалі выказваць кампліменты адной высокапастаўленай асобе, с. п. Аляксандр Скірмунт не пабаяўся прыгадаць продаж дзяржаўных лясоў, якая ставіла пад сумнеў беззаганнасць гэтай асобы.*

*Аднаму з прадстаўнікоў улады, які ў яго прысутнасці паўтарыў хлусню, што нібыта рух 1863 г. узнік з прычыны вызвалення сялян, жорстка адказаў: «Спадар гэта можа казаць каму заўгодна, але не мне, бо асабіста выслухаў ад Яго Вялікасці (Аляксандра II) словы падзякі за ўдзел нашых землеўласнікаў у вызваленні сялян». Прадстаўнікам улады ахвотна нагадваў памятныя і важныя словы імператара Аляксандра II, якія той сказаў на сходзе дваранства пасля правядзення сялянскай рэформы, і якія ўтрымлівалі падзяку прадстаўнікам нашых губерняў «за прыклад, які далі ўсёй Расіі». Нягледзячы на гэтую жорсткую праўдзівасць, у колах расійскай адміністрацыі памерламу выказвалі належную павагу і нават прыхільнасць [...]*

У ацэнцы жыцця і дзейнасці бацькі сын выразна вылучыў ягоную грамадскую дзейнасць. У першую чаргу, гэта ўдзел у правядзенні сялянскай рэформы і выкананне свайго «абавязку» падчас паўстання 1863 г. Нават праца над «паляпшэннем матэрыяльнага дабрабыту» ў трактоўцы сына мела значэнне, якое выходзіла далёка за межы вузкіх сямейных інтарэсаў. «Праца на сваім загоне», якую Аляксандр Скірмунт лічыў галоўным абавязкам шляхціча, мела сваёй мэтаю ў першую чаргу ўмацаванне пазіцый «уласнага» грамадства. Пад апошнім разумелася мясцовая польская супольнасць. На пачатку тэксту Аляксандр Скірмунт быў ахарактарызаваны як «адзін з найбольш выбітных прадстаўнікоў польскіх землеўласнікаў у Беларусі», а напрыканцы сын падкрэсліў ягонае моцнае «польскае нацыянальнае пачуццё». Магчыма, гэты выраз павінен быў узмацніць тэзіс наконт адсутнасці ў А. Скірмунта выразнай варожасці да рускіх. Варта адзначыць, што ў далейшым сын Раман пашырыць тэрыторыю «свайго загона» да межаў усяго Краю і надасць гэтай працы іншы ідэалагічны падмурак...

На жаль, немагчыма нешта канкрэтнае сказаць пра ролю маці ў выхаванні дзяцей, якая, безумоўна, была значнай. Прынамсі, так было ў большасці шляхецкіх сем'яў. Напрыклад, Міхал Ромэр у сваёй аўтабіяграфіі адзначаў, што выхаваннем дзяцей займалася выключна маці і служба. Бацька не звяртаў на іх вялікай увагі[316].

Постаць Тэафілы Скірмунт (з Любаньскіх) адсутнічае ва ўспамінах Канстанціна Скірмунта або яго сястры Ядвігі з Моладава. Амаль нічога не распавяла пра яе і Вацлава Нээф. Маці таксама незаўважальная ў тых архіўных дакументах, якія з большага датычаць гаспадарчых спраў або грамадскай дзейнасці ўладальнікаў

316 Z. Solak, *Między Polska a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920*, s. 23.

Парэчча. Падобна, што жыццё маці не выходзіла па-за кола звычайных жаночых клопатаў, у цэнтры якога знаходзілася выхаванне дзяцей і здароўе сям'і.

Таксама можна меркаваць, што ў адрозненне ад большасці гаспадынь шляхецкіх маёнткаў маці не выхоўвала сваіх дзяцей ў духу кансерватызму і каталіцкасці. Дзеці выраслі адкрытымі на выклікі эпохі і не абмяжоўвалі духоўнае жыццё сценамі касцёла. Вядома, што той жа Раман Скірмунт ужо ў міжваенны час катэгарычна асуджаў рэлігійную канверсію, абумоўленую пошукамі пэўных матэрыяльных выгод.

Сумеснае жыццё Аляксандра і Тэафілы не было ідылічным. Рамантычная гісторыя кахання, якая магла мець месца ў пачатку гісторыі сям'і, верагодна, скончылася пасля нараджэння дзяцей. В. Нээф у сваіх успамінах прыгадала, што бацькі Рамана Скірмунта жылі кожны сам па сабе. Тэафіла толькі зімавала ў Парэччы, а з надыходам вясны выбіралася ў Тэклінаполь, дзе жыла да позняй восені. Калі здарыўся гэты разлад, устанавіць складана. Магчыма, з ім было звязана з'яўленне даверанасці на кіраванне маёнткам на імя Аляксандра Скірмунта (ІІІ) у лістападзе 1882 г. Ці не ён спрычыніўся да таго, што большасць дзяцей Аляксандра і Тэафілы не ўзялі шлюбу і не мелі ўласных сем'яў?

У Скірмунтаў, як і ў кожнай іншай шляхецкай сям'і, дзеці павінны былі добра ведаць гісторыю ўласнага роду. Звычайна гэтаму спрыялі аповеды бацькоў і дзядоў, радаводы, партрэты продкаў і сама шляхецкая сядзіба. У большай ступені гэтую сувязь сучаснага і мінулага перадавала атмасфера Моладава, з ягоным прыгожым палацам, старой мэбляй, карціннай галерэяй, бібліятэкай, што захоўвалі памяць пра ягоных ранейшых жыхароў. Гісторыя роду тут была элементам штодзённасці.

У Парэцкай сядзібе, гаспадары якой жылі ў перабудаваным фабрычным гмаху, падобная атмасфера даўніны і традыцыі ў дзіцячыя гады Рамана Скірмунта напэўна адсутнічала. Традыцыя тут толькі стваралася. Так, Аляксандр Ельскі на старонках *Слоўніка геаграфічнага земляў Каралеўства Польскага...* паведамляў (1887) пра бібліятэку[317], архіў, навуковыя зборы, а таксама памятныя рэчы роду Скірмунтаў у Парэччы[318].

Найбольш поўнае апісанне архітэктурнага аблічча дома і яго інтэр'ераў зрабіў аўтар гісторыі рэзідэнцый на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай Раман

---

[317] Экпедыцыі па вуснай гісторыі, а таксама кантакты з палескімі краязнаўцамі і гісторыкамі дазволілі адшукаць дзве кнігі з гэтай бібліятэкі, якія знаходзяцца ў прыватных асоб: М. Грушевский, *Киевская Русь. Том 1. Введение. Территория и население в эпоху образования государства* (Спб., 1911); F. Hösick, *Juliusz Słowacki. 1809–1849. Biografia psychologiczna*. Tom pierwszy (Kraków, 1907). На тытульным аркушы апошняга выдання захаваўся экслібрыс бібліятэкі Скірмунтаў у форме авала з стылізаванай выявай дуба з двума лістамі і трыма жалудамі і надпісам па краях авалу: PORZECZE NR… SKIRMUNT.

[318] *Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych państw słowiańskich*. Tom VIII. Warszawa 1887, s. 835.

Афтаназы[319]. Пры гэтым ён абапіраўся на ўласныя ўражанні ад наведвання маёнтка ў міжваенны час.

Сядзібны дом ўзвышаўся паблізу Ясельды. Нават пасля грунтоўнай рэканструкцыі і прыстасавання пад жыллё ён меў выгляд суровай глыбы, пазбаўленай пэўнага архітэктурнага стылю. Гэта быў мураваны трохпавярховы простакутны гмах з гладкім двухскатным дахам, які атрымаў бакавыя прыбудовы з зубчатым завяршэннем на даху. Фасад быў упрыгожаны ганкам з ляпным дэкорам у форме перавязанага стужкай вянка з каласоў і гербавага шчыта. Вокны паабапал уваходу мелі трохкутнае завяршэнне, а праёмы паміж вокнамі былі аздоблены гірляндамі ў выглядзе раслін. Манатоннасць фасада з боку Ясельды парушаў толькі балкон з чыгуннай балюстрадай, а адна з прыбудоў атрымала вялізную веранду, дах якой трымаўся на высокіх і тонкіх калонах.

Інтэр’ер сядзібнага дома з пункту гледзішча архітэктуры быў даволі сціплым. Сцены асобных салонаў і пакояў былі пафарбаваны. Толькі ў некаторых памяшканнях была паркетная падлога. Аднак усе рэпрэзентатыўныя пакоі (вялікі і малы салоны, сталовая, кабінет ды інш.) мелі стылёвы інтэр’ер канца XVIII ст. Часткова ён быў перавезены з Моладава.

У доме знаходзіліся сямейныя партрэты, мініяцюры, калекцыя абразоў, сярод якіх вылучаўся старажытны абраз з касцёла ў Любешове з выявай Маці Божай з Дзіцём у срэбнай шаце і каронах. Тут можна было ўбачыць медалі, якія атрымлівала прадукцыя парэцкіх фабрык і заводаў на міжнародных выставах, фарфоравыя вырабы галоўных еўрапейскіх мануфактур. Дарэчы, калі ўлетку 1919 г. падчас наступу Чырвонай арміі Скірмунты сталі бежанцамі, то Раман Скірмунт вывез у Варшаву і перадаў на дэпазітнае захоўванне мясцоваму прадстаўніцтву Таварыства аховы помнікаў сем пакункаў «старога фарфору і крышталя»[320]. Падобна, што гэтая калекцыя была вельмі каштоўнай.

Раман Афтаназы таксама паведаміў пра бібліятэку, дзе пераважала гістарычная літаратура, і частку сямейнага архіва. Галоўны герой гэтай кнігі моцна прычыніўся да папаўнення і бібліятэкі, і архіва.

З паўднёвага боку сядзібы адкрываўся вельмі «меланхалічны» (Р. Афтаназы) палескі пейзаж з Ясельдай і квітнеючымі лугамі. На першым плане гэтай маляўнічай перспектывы знаходзіўся востраў, на якім быў высаджаны сад. Прастору паміж домам і Ясельдай запаўнялі кветнікі. Вясной Ясельда шырока разлівалася, і з вокнаў сядзібы можна было назіраць «палескае мора» да самога далягляду.

Гэта былі першыя палескія пейзажы, якія мог назіраць маленькі Раман улетку 1868 г. Прырода Палесся на свой лад таксама фармавала характар і пэўныя

319 R. Aftanazy, *Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej*. Wydanie 2. Tom 2. Wrocław 1992, s. 121; гл. таксама А. Федорук, *Старинные усадьбы Берестейщины*. 2-е изд. Минск 2006, с. 498.

320 Archiwum Akt Nowych (далей: AAN). Sygn. 55/II. Towarzystwo Straży Kresowej. J. 648, k. 2.

каштоўнасныя арыенціры будучага палітыка і грамадскага дзеяча. Цікава, што з усіх новаўвядзенняў у Парэччы пачатку XX ст. з Раманам Скірмунтам найчасцей звязваюць стварэнне вялізнага парку на беразе Ясельды.

Паводле вядомага даследчыка сядзібаў і паркаў Беларусі прафесара Анатоля Федарука, да рэзідэнцыі падыходзілі тры алеі. Ліпавая алея ішла з поўначы. Уздоўж яе стаялі каменныя будынкі інтэрнатаў для рабочых. З супрацьлеглага боку знаходзіўся пладовы сад. Алея з конскіх каштанаў ішла ад дому ва ўсходнім накірунку, перпендыкулярна ліпавай, уздоўж суконнай фабрыкі і даходзіла да дарогі, што вяла з Парэчча ў Моладава. Паралельна ёй і бліжэй да Ясельды знаходзілася трэцяя ясеневая алея, якая выводзіла на дарогу да фабрыкі[321].

Дом быў моцна пашкоджаны ў 1943 г., калі партызаны забілі Алену Скірмунт, апошнюю з сям'і Аляксандра і Тэафілы. Канчаткова ён быў разбураны ўжо пасля вайны, а пляц быў перададзены пад прыватныя забудовы. Сёння тут знаходзіцца частка вёскі Парэчча.

Вяртаючыся ў XIX ст., варта адзначыць, што стварэнне ў Парэччы ўласнай традыцыі магло мець таксама пазітыўны эфект, звязаны з адсутнасцю снабізму і імкненнем уладальнікаў зліквідаваць характэрную для эпохі сацыяльную і культурную ізаляцыю маёнтка і ягоных жыхароў ад навакольнага сялянскага асяродку. Аляксандр Аляксандравіч Скірмунт працягваў сацыяльную палітыку, якую распачаў ягоны бацька, будуючы дамы для работнікаў фабрыкі. Варта яшчэ раз прыгадаць актыўнасць гаспадара Парэчча як міравога пасярэдніка падчас ліквідацыі прыгоннага ладу, заснаванне ім Крэдытна-ашчаднай суполкі з удзелам сялян, адкрыццё фабрычнай школы ў Парэччы ды інш.

Аднак другая палова XIX ст. у гісторыі Беларусі таксама была часам паступовага абвастрэння стасункаў паміж вёскай і маёнткам. Вёска пасля рэформы 1861 г. перастала быць «панскай». Яна ператварылася ў суседа, які забяспечваў гаспадарку маёнтка працоўнай сілай, з зайздрасцю глядзеў на зямельныя і лясныя багацці зямяніна і быў перакананы, што лясы і лугі ёсць «дарам Божым». Апошняе абарочвалася незаконнымі вырубкамі і выпасамі, нараджала бясконцыя канфлікты паміж вёскай і маёнткам. Вацлаў Лядніцкі ва ўспамінах канстатаваў, што лёсам кожнага зямяніна былі непазбежныя канфлікты з суседнімі вёскамі. Шкоду сенажацям наносілі сялянскія коні і скаціна, частымі былі крадзяжы ў лесе і нават на палях, дзе знікалі снапы. Дарэчы, апошняе нават з гледзішча сялянскай этыкі было злачынствам[322].

Важным фактарам абвастрэння стасункаў быў нарастаючы «зямельны голад». Тут варта прыгадаць указ ад 12 снежня 1865 г., які забараняў «лицам польского происхождения» набываць зямлю ў «паўночна-заходніх губернях». Непасрэдным наступствам гэтага ўказу было тое, што мясцовыя землеўласнікі каталіцкага вера-

---

321 А. Федарук, *Старинные усадьбы Берестейщины,* с. 498.
322 W. Lednicki, *Pamiętniki*. Tom 1. Londyn 1963, s. 561.

вызнання амаль не прадавалі свае землі. Між тым, вёска, якая перажывала ў другой палове XIX ст. дэмаграфічны выбух, патрабавала ўсё больш зямлі. Перасяленні не маглі вырашыць праблемы, якая стаяла надзвычай востра ў пачатку XX ст.

Скірмунты ў Парэччы здолелі захаваць пэўны патрыманіяльны характар адносін з вёскай. Падобна, што гэтаму спрыяла як згаданая грамадская дзейнасць Аляксандра Скірмунта, так і прамысловасць маёнтка, якая стварала для сялян магчымасць дадатковых заробкаў. Відавочна, што ў адрозненне ад многіх суседзяўземлеўласнікаў і сваякоў (у т. л. з Моладава) парэцкія Скірмунты разумелі важнасць добрасуседскіх адносін з вёскай і дзеля гэтага гатовы былі пайсці на пэўныя матэрыяльныя ахвяры. Канфлікты здараліся, але ўладальнікі маёнтка звычайна імкнуліся мінімалізаваць іх наступствы. Падобна, што раней за іншых сям'я Аляксандра Скірмунта зразумела непазбежнасць пэўных дэмакратычных перамен. Так, Раман Скірмунт у адной са сваіх першых публікацый (1904) заявіў пра гістарычную паразу шляхты і прызнаў, што менавіта народ (люд) у выніку перамен XIX ст. ператварыўся ў вызначальны чыннік гістарычнага развіцця[323].

На каштоўнасныя арыенціры маленькіх жыхароў Парэчча таксама ўплывала пачуццё сувязі з «малой Айчынай». Так, у 1852 г. Алена Скірмунт, ад'язджаючы на лячэнне ў Вену, пісала сваёй сяброўцы Ядвізе Кяневіч: «Ніколі не знаходзіла ў нашым бедным неадукаваным народзе столькі скарбаў сумленнасці, столькі запасаў для вышэйшых і высакародных пачуццяў, столькі роднай залатой удзячнасці, колькі цяпер. Калі будзеш мне пісаць, абавязкова расказвай што-небудзь пра сялян, пра нашых любых палешукоў, аб Літве дарагой нашай, аб Вільні пальмавай ад пакутніцтва»[324]. Раман Скірмунт у адной са сваіх першых публікацый (1904) параўнаў шляхціча, які страціў уласную зямлю з чалавекам без ценю з вядомай казкі Ганса Крыстыяна Андэрсана[325].

Мечыслаў Ялавецкі ва ўспамінах прызнаваўся, што вызначальнай у ягоным жыцці, таксама як і ў жыцці ягонага бацькі Баляслава, была сувязь з роднай зямлёй, з родавым «гняздом»: «Асабіста не ведаў свету па-за Сылгудышкамі і глядзеў на яго праз прызму двух парафій, а таксама пушчаў, азёраў, лугоў і гаёў Лаборнашчызны»[326].

Менавіта гэтую моцную сувязь з родным краем мела на ўвазе Канстанцыя Скірмунт, калі на пачатку XX ст. абараняла паняцце «тутэйшасці» ад насмешак польскіх нацыянальных дэмакратаў: «Тутэйшасць – гэта сувязь з роднай зямлёю, гэта патрыятызм»[327]. Паводле вядомай публіцысткі, «тутэйшасць» адлюстроўвала духоўную прывязанасць да зямлі, з яе тысячагадовай гісторыяй, магіламі продкаў,

---

323 Ro…munt [R. Skirmunt], *Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej*, s. 9.

324 Б. Залескі, З *жыцця літвінкі. З лістоў і нататак. 1823–1874,* с. 51.

325 Ro…munt [R. Skirmunt], *Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej*, s. 13.

326 M. Jałowiecki, *Na skraju imperium.* Warszawa 2000, s. 99.

327 «Kurier Litewski». 1906, Nr 214

і была доказам таго, што мясцовая шляхта з’яўляецца карэнным насельніцтвам Краю. «Тутэйшасць» таксама сведчыла пра сувязь з мясцовым насельніцтвам, якое было неад’емнай часткай «роднай зямлі».

Відавочная цікавасць парэцкіх Скірмунтаў да гісторыі Палесся як адметнага прыроднага і гісторыка-культурнага рэгіёну, да мовы і побыту палешукоў. Аляксандр Ільін, напрыклад, лічыць Аляксандра Аляксандравіча Скірмунта прадстаўніком «палеска-польскага пазітывізму»[328]. Згодна з ягоным меркаваннем, якое трымаецца на сведчаннях Ежы Асмалоўскага і высновах вядомага дыялектолага Фёдара Клімчука, Раман і Канстанцыя Скірмунты мелі непасрэднае дачыненне да выдання *Русінскага лементара* (1907), які быў першай спробай стварэння буквара на палескай гаворцы[329]. Тут варта дадаць, што сам Раман Скірмунт галоўным аўтарам *Лементара* назваў сяброўку Канстанцыі Скірмунт Юзэфу Кужанецкую[330].

Р. Скірмунт у публікацыях міжваеннага перыяду падкрэсліваў этнакультурную самабытнасць Палесся і ягоных жыхароў. На старонках выдання *Polesie ilustrowane* (1923) ён характарызаваў побыт, заняткі, ментальнасць і мову палешука. Аўтар аспрэчваў тэзіс вядомага ўкраінскага гісторыка Міхайлы Грушэўскага наконт прыналежнасці Палесся да Украіны і не згаджаўся з лінгвістам Яўхімам Карскім, які, сцвярджаючы дамінаванне на Палессі гаворак украінскай мовы, фактычна падтрымаў Грушэўскага. Раман Скірмунт звяртаў увагу на этнакультурную адметнасць палешука і сцвярджаў існаванне адметнай «палескай мовы». Пры гэтым ён трактаваў Палессе як частку Беларусі, прызнаючы, што «за выключэннем мовы паляшук больш падобны на беларуса, чым на ўкраінца»[331]. Відавочна, што «палескі фармат» заўсёды быў вельмі важным для яго, і гэтая важнасць сфарміравалася ўжо ў дзяцінстве.

### *Раман Аляксандравіч Скірмунт: пачаткі грамадскай працы*

Міраслаў Устжыцкі ў даследаванні каштоўнасных арыенціраў свету шляхецкіх маёнткаў Беларуска-Літоўскага краю шмат увагі надаваў агульнапольскім кампанентам ментальнасці. Ён шчыра прызнаўся, што папросту ігнараваў тых «нешматлікіх» прадстаўнікоў заможнай шляхты, якія напярэдадні Першай су-

---

[328] А. Ильин, Е. Игнатюк, *Очерки истории культуры Пинщины (IX – нач. XX вв.)*, с. 192.

[329] *Rusinsky Łementar=Русінскі Лементар*. Napysau Staryj Hospodar. Б. м. 1907; А. Ильин, Е. Игнатюк, *Очерки истории культуры Пинщины (IX–нач. XX вв.)*, с. 196, 211; А. Ільін, *Раман Скірмунт у грамадска-палітычным жыцці Піншчыны ў 20–30-я гг. XX ст.*, «Гістарычны альманах». 2008, Том 8, с. 103.

[330] R. Skirmunt, *Józefa Kurzeniecka (wspomnienia pośmiertne)*, «Kurier Litewski».1915, Nr 107, 25 kwietnia.

[331] R. Skirmunt, *Rysy odrębności Polesia*, (у:) *Polesie ilustrowane*. Monografia. Praca zbiorowa pod redakcją inż. Nelarda. Brześć n/B 1923; R. Skirmunt, *Rysy odrębności Polesia*, «Gazeta Warszawska». 1925, Nr 145.

светнай вайны адмовіліся ад польскасці і абвясцілі ўласную прыналежнасць да новых «крэсовых нацый»[332]. Аднак якраз гэтыя, сапраўды, нешматлікія прадстаўнікі шляхты і землеўласнікаў гістарычнай Літвы дапамагаюць больш грунтоўна зразумець асаблівасці свядомасці ўсяго мясцовага шляхецкага асяродку.

Відавочна, што для гэтай свядомасці было характэрна пачуццё ўласнай «ліцвінскай» адметнасці ад шляхты з тэрыторыі Каралеўства Польскага. Гэтая адметнасць у вялікай ступені грунтавалася на гістарычнай памяці пра мінулае Вялікага Княства Літоўскага. Так, вядомы літаратуразнаўца Мар'ян Здзяхоўскі (1861–1938) прызнаваўся: «У дзяцінстве мяне вучылі не толькі гісторыі Польшчы, але і гісторыі Літвы. Дзякуючы гэтаму я лічыў нацыянальнымі героямі не толькі тых, хто будаваў Польшчу, але і таго, хто імкнуўся адарваць Літву ад Польшчы – вялікага князя Вітаўта. Але хто тады задумваўся над гэтай непаслядоўнасцю? І калі б мяне сёння запыталі, кім я сябе адчуваю ў глыбіні душы, адказаў бы, што адчуваю сябе грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага, непарыўнай уніяй звязанага з Польшчай»[333].

Гэтая асаблівасць была характэрная і для Скірмунтаў. Дастаткова прыгадаць выяву «Пагоні» сярод славутых шахмат Алены Скірмунт, папулярныя гістарычныя працы яе дачкі Канстанцыі, перапіску Аляксандра Скірмунта з Янам Карловічам або абвешчаную Канстанцінам Скірмунтам прэмію за знаходку рукапісу «Гісторыі Літвы» Ігната Анацэвіча ды інш. Вялікае значэнне таксама мела ўсведамленне ўласнага паходжання, што, дарэчы, адзначаў і наш герой – Раман Скірмунт – у згаданым біяграфічным нарысе памяці Канстанцыі Скірмунт (1934).

Адзін са стваральнікаў ліберальна-дэмакратычнага накірунку краёвай ідэі пачатку XX ст. Міхал Ромэр у недапісанай аўтабіяграфіі згадваў уласную бабулю Сузанну Тукала з роду Багдановічаў. У размовах з унукам, маючы на ўвазе свой род ды іншыя шляхецкія роды з Беларусі, яна казала: «Мы не з'яўляемся ўласна палякамі. Мы – русіны. І хаця мы размаўляем па-польску і ўтвараем палітычнае адзінства з Польшчай, але па крыві і нацыянальнасці мы належым да асобнай русінскай грамадскасці»[334].

Маці Міхала Ромэра (Віталія Ромэр з Кабылінскіх) ужо не мела «русінскай» свядомасці. Затое яна жыла з выразным пачуццём адметнасці Беларусі і Літвы ад Польшчы. «Зрэшты, у XIX ст., – заўважыў М. Ромэр, – падобнае пачуццё было даволі распаўсюджаным у свядомасці краёвых землеўласнікаў. Яны лічылі сябе не адметнай і чужой «меншасцю», не часткай іншага замежнага народу, а кіраўнікамі

[332] M. Ustrzycki, *Ziemianie polscy na Kresach. 1864–1914. Świat wartości i postaw*, s. 10.
[333] M. Zdziechowski, *Idea Polska na kresach* (y:) *Widmo przeszłości*. Lozanne 1983, s. 3.
[334] Бібліятэка імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы (далей: БУАНЛ). Аддзел рукапісаў. F. 138–2262. М. Ромэр, *Аўтабіяграфія*, k. 24.

мясцовай, краёвай грамадскасці, ад імя якой іх продкі і нават яны самі, асабліва падчас паўстанняў, стваралі гісторыю гэтага краю як яго сапраўдныя грамадзяне»[335].

Узгадваючы ўласнае дзяцінства ў маёнтку Багданішкі на Жмудзі (Аляксандраўскі пав.), Ромэр адзначаў на старонках Дзённіка, што ў ягоным тагачасным уяўленні паміж польскасцю і літоўскасцю не было аніякай розніцы. Яны зліваліся ў адзінае цэлае як два бакі аднаго медаля. Усе элементы краёвага грамадства – літоўцы, беларусы і палякі – успрымаліся як непарыўнае цэлае, нягледзячы нават на тое, што розніліся мовамі[336].

Колішні сябра Рамана Скірмунта і будучы Генеральны камісар Усходніх земляў Ежы Асмалоўскі (1872–1954) ва ўспамінах прызнаваўся ў беларускім паходжанні сваёй сям'і, сцвярджаў, што толькі ягоны прадзед авалодаў польскай мовай. Для яго Радзімай была і Польшча, і Беларусь. Шукаючы формулу ўласнай ідэнтычнасці, ён пісаў: «Я паляк паводле мовы і культуры, каталік, але не жыву ў Польшчы і маю абавязкі ў стасунку да Краю, дзе нарадзіўся, і людзі, што мяне атачаюць, блізкія мне»[337]. Як ужо адзначалася, сам Раман Скірмунт называў сябе «потомком литовской семьи с древних времен, с испокон веков оседлой в этом крае […]»[338].

Гістарычная памяць і звязаныя з ёю пэўныя псіхалагічныя ўстаноўкі былі часткай унікальнага феномена падвоенай свядомасці тыпу *gente Lithuanus (vel Ruthenus) natione Polonus*. Даследчык Юліуш Бардах лічыў пачаткам яго фармавання другую палову XVII ст.[339]. Паводле яго пераканання, «палітычная нацыя» («naród polityczny») Вялікага Княства Літоўскага ў гэты час ужо пераняла польскую мову і культуру, што ў спалучэнні з палітычным «польска-літоўскім» збліжэннем спрыяла ўтварэнню адзінай шляхецкай нацыі Рэчы Паспалітай. Аднак шляхта Княства заўсёды захоўвала пачуццё ўласнай адметнасці ад жыхароў этнічнай Польшчы.

Варта згадаць пра шматлікія праявы мясцовага патрыятызму, якія палітыкі «Кароны» часта характарызавалі як «ліцвінскі сепаратызм», а таксама пра даволі крытычнае стаўленне «ліцвінаў» да жыхароў Кароны. Марыя Радзевічуўна нават акрэсліла гэта як «спрадвечны антаганізм»[340]. Ён адчуваўся і на пачатку XX ст. Напрыклад, Генрык Скірмунт 30 верасня 1905 г. у лісце да Элізы Ажэшкі, ацэньва-

---

335 Тамсама, k. 25–26.

336 J. Sawicki, *Od dwuszczeblowości do dwoistości litewsko-polskiej. Świadomość narodowa Michała Römera* (у:) *Wilno i Kresy północno-wschodnie*: Materiały II Międzynarodowej konferencji w Białymstoku 14–17. IX. 1994, tom 1. Białystok 1996, s. 132.

337 BN. Dział mikroform. Akc. 7042. J. Osmołowski, *Wspomnienia z przeszłości. Lata dziecinne i młodzieńcze*, k. 142.

338 З перапіскі Рамана Скірмунта з Яўсеям Канчарам, «Чырвоны шлях». 1918, № 1–2, с. 12.

339 J. Bardach, O *dawnej i niedawnej Litwie.* Poznań 1988, s. 201.

340 Ч. Милош, *Поиск Отчизны*. Петербург 2011, с. 24.

ючы палітычную сітуацыю, заўважыў: «Карона выкарыстоўвае Літву. Братэрскае пачуццё адсутнічае. Літва зноў павінна цягаць для Кароны каштаны з полымя»[341].

Звычайна гістарычная Літва ўспрымалася як «малая Айчына», а Рэч Паспалітая як свайго роду «ідэалагічная Айчына». Пры гэтым «караняжы» і «ліцвіны» называлі сябе «палякамі». Гэты тэрмін быў пазначэннем рэчпаспалітаўскага грамадзянства, незалежна ад месца пражывання, мовы або веравызнання.

Вядомы публіцыст і нашчадак «стараліцвіна» Валяр'ян Мэйштовіч параўноўваў гэтую сітуацыю з брытанскім патрыятызмам валійцаў і шатландцаў, якія фактычна страцілі свае родныя мовы на карысць англійскай. Яны падкрэслівалі ўласную адметнасць ад англічан, але праяўлялі салідарнасць з імі, калі справа даходзіла да дэманстрацыі брытанскага патрыятызму[342].

Прыкладам «ліцвінскага патрыятызму» можна лічыць «Катэхізіс ліцвіна», які распаўсюджваўся ў часы паўстання 1830–1831 гг. і, магчыма, быў вядомы жыхарам скірмунтаўскага Моладава.

*ДАКУМЕНТ*

**Катехизис литвина (1830–1831?). Фрагмент**[343]

*– Литвин ли ты?*

*– Литвин по милости Бога.*

*– Кто есть литвин?*

*– Тот, кто верит в вольность и исполняет права Статута.*

*– Почем узнается истинный литвин?*

*– По знаку усердного патриотизма. Во имя сабли, пороху и свинцовой пули. Аминь. […]*

*– Что есть вольность?*

*– Быть человеком, а не зверем, жить свободно на родной земле, говорить и писать на родном языке, устанавливать общие народные права, не подвергаться наказаниям и их указаниям, переноситься с места на место по своей воле и надобности, пользоваться привилегиями местных дворян, вести открытую торговлю, черпать образование из разных наук, не знать губернатора, прокурора, советников, исправников, асессоров, новосельцев, даже Пеликана, Мяновского и всех подобных плутов, шпионов и мошенников.*

*– Что есть единство с поляками?*

*– Составлять с ними единый и нераздельный народ, так чтобы литвин был поляком, а поляк – литвином одной и той же Конституции. […]*

---

[341] Archiwum Instytutu Badań Literackich PAN. Ліст Г. Скірмунта да Э. Ажэшкі ад 30 верасня 1905 г.

[342] W. Meysztowicz, *Poszło z dymem*. Londyn 1973, с. 33.

[343] РНБ. Аддзел рукапісаў. Sygn. 106. Фонд В. Ф. Ратча, арк. 4–7 (дакумент быў перакладзена на рускую мову).

*– Что такое Отечество?*

*– Это есть земля, на которой я родился, вырос, воздухом которой дышу, которая меня живит и кормит, где имею родных и друзей, где покоится пепел моих предков, где свободно могу действовать, думать и говорить природным языком, словом оно есть моя мать, и я ее сын. […]*

*Верю в святые дела Отечества нашего, родительницы моей и моих братий и в Статут Литовский – единственного ее сына, судьи нашего, который получил начало от разума, родился от вольности, чистой девицы, замучен царем Николаем, умер и похоронен, вступил ныне в Варшаву, опирается на право Конституции. Оттуда придет суд повешанным и неповешанным.*

*Верю в дух вольности поляков с литовцами, в искоренение заблуждений и в воскресение Польши, в жизнь вечную.*

*Аминь.*

Палітычныя і сацыяльна-эканамічныя змены канца XVIII–XIX ст. не знішчылі цалкам феномен падвоенай свядомасці. Мар'ян Здзяхоўскі нават у 1918 г. адзначаў, што гэты феномен «праяўляецца як жывая памяць уласнага літоўскага або рускага паходжання, як усведамленне непарыўнай сувязі з роднай зямлёю і мясцовым людам і адначасна характарызуецца глыбокай прыхільнасцю да польскай культуры і мовы, што стала роднай, пачуццём непадзельнасці як гістарычнага лёсу Літвы і Польшчы, так і іх будучыні»[344]. Пры гэтым трэба адзначыць, што палітыка культурнай русіфікацыі і палітычнай дэпаланізацыі спрыяла ўмацаванню ў свядомасці менавіта «польскага» кампанента. Гэты працэс таксама ўмацоўвала антыпольскасць літоўскага нацыянальнага руху, якая сталася выразнай ужо ў другой палове XIX ст.

Відавочна, што нацыянальная свядомасць значнай часткі шляхты Беларуска-Літоўскага краю напрыканцы XIX – пачатку XX ст. трымалася не столькі на культурнай і моўнай прыналежнасці, колькі на ўсведамленні свайго паходжання і сваёй сувязі з мінулым і сучасным гістарычнай Літвы. Юліуш Бардах наступным чынам характарызаваў гэтую свядомасць: «Паводле сваёй культурнай арыентацыі гэта былі палякі, аднак пры вызначэнні нацыянальнай прыналежнасці пераважала пачуццё краёвай адметнасці, што вяло да падпарадкавання інтарэсаў польскай грамадскасці інтарэсам усяго Краю […] Яны былі ліцвінамі ў гістарычным сэнсе, і гэта вызначала іх пазіцыю ў палітычным жыцці»[345].

Ён жа адзначыў немагчымасць правядзення дакладнай мяжы, дзе «заканчвалася пачуццё рэгіянальнай адметнасці літвінаў-палякаў (або беларусаў-палякаў) […] і нараджалася літоўская або беларуская нацыянальная свядомасць. Іншым разам на тэрыторыях, дзе канкуравалі паміж сабою розныя нацыянальныя

---

344 «Dziennik Miński». 1918, 6 (19) stycznia.

345 J. Bardach, O *dawnej i niedawnej Litwie*, s. 217–218.

супольнасці, адна і тая ж асоба ў розныя перыяды свайго жыцця дэкларавала сябе то палякам, то літоўцам, то беларусам. Асабліва цікавыя матывы гэтых зменаў у выпадку асобаў, якія належылі да інтэлектуальнай эліты Краю, г. зн. там, дзе працэс асіміляцыі саступаў свядома зробленаму выбару»[346]. Жыццяпіс Рамана Скірмунта – гэта спроба зразумець менавіта матывы такога выбару…

У апошняй трэці XIX ст. на тэрыторыі гістарычнай Літвы пачаў пашырацца этнонім «літоўскія палякі»[347]. Даследчык Рымантас Мікніс упэўнены, што на пачатку XX ст. распачаўся працэс фарміравання нацыі літоўскіх палякаў[348]. Відавочна, што польскасць многіх шляхецкіх маёнткаў Беларуска-Літоўскага краю была моцна звязана з традыцыямі гістарычнай Літвы і жыццём мясцовых беларускіх і літоўскіх сялян. Маёнтак Скірмунтаў у Парэччы не быў выключэннем.

М. Устжыцкі, аналізуючы шляхецкія ўяўленні пра Айчыну, сцвердзіў існаванне розных узроўняў патрыятызму, змяшанне нацыянальных крытэрыяў з сацыяльнымі, а таксама спецыфіку польскасці, якая ўключала ў сябе літоўскасць, беларускасць і валынскасць. Усё гэта існавала ў неідэалагізаванай і толькі часткова ўсвядомленай форме[349]. Аднак уласныя даследаванні, а таксама працы Ю. Бардаха, Р. Мікніса ды іншых даследчыкаў «ліцвінскага патрыятызму» прымушаюць паставіць пытанне: Ці сапраўды польскасць у гэтым сімбіёзе была дамінуючай формай?

Скірмунты, як іншыя літоўскія палякі, павінны былі адаптавацца да новых умоў жыцця і гаспадарання, падмуркі якіх былі закладзены яшчэ генерал-губернатарам М. Мураўёвым пасля паразы паўстання 1863 г. У другой палове XIX ст. Беларуска-Літоўскі край стаўся адной з галоўных арэн чарговай спробы расійскіх уладаў канчаткова вырашыць г. зв. «польскае пытанне». Пад апошнім яны разумелі ліквідацыю ўсялякіх уплываў мясцовай польскай грамадскасці на палітычнае, эканамічнае, культурнае і рэлігійнае жыццё рэгіёну. Пры гэтым антыпольскія па форме і антыкаталіцкія па змесце мерапрыемствы ўрада і мясцовай адміністрацыі датычылі таксама беларусаў-каталікоў і літоўцаў. Можна пагадзіцца з высновай М. Ромэра, які ў 1906 г. сцвярджаў, што расійскі ўрад на беларускіх і літоўскіх землях праводзіць палітыку русіфікацыі і асіміляцыі нерускіх народаў. Гэтая палітыка праяўлялася ў абмежаванні правоў гэтых народаў, стрымліванні іх культурнага развіцця і ўмацаванні ўплываў «вялікарускага племені»[350].

Варта прыгадаць яшчэ раз закон ад 10 снежня 1865 г., які забараняў набываць зямлю «асобам польскага паходжання» (апошняе датычыла каталіцкага

---

[346] Ibidem, s. 212.

[347] M. Budny, *Bronisław Piłsudski. Życie i twórczość,* «Niepodległość». T. XXI. Nowy York-Londyn 1988, s. 184.

[348] R. Miknys, *Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w.*, «Biuletyn Historii Pogranicza». 2000, Nr 1, s. 23–29.

[349] M. Ustrzycki, *Ziemianie polscy na Kresach. 1864–1914. Świat wartości i postaw*, s. 203.

[350] M. Römer, *Stosunki etnograficzno-kulturalne na Litwie*. Kraków 1906, s. 35.

насельніцтва), антыкаталіцкія мерапрыемствы (скарачэнне колькасці касцёлаў і кляштараў, спроба ўвядзення рускай мовы ў дадатковае каталіцкае набажэнства), «кантрыбуцыйныя зборы» са шляхецкіх маёнткаў (10 % усіх прыбыткаў), выгнанне літоўскіх палякаў з мясцовых органаў улады, забарону ўжываць у афіцыйнай перапісцы і карыстацца ў публічных месцах польскай мовай, далейшую русіфікацыю сістэмы адукацыі ды інш.

Гэты палітычны рэжым шмат каго прымусіў пашкадаваць аб нядаўняй захопленасці рамантычнымі марамі пра «свабоду нашу і вашу». Духоўнае жыццё шляхецкіх маёнткаў пасля разгрому паўстання было прасякнута настроямі горычы і расчаравання. Многія літоўскія палякі лічылі паўстанне (па выніках) шкодным, а дзейнасць Варшаўскага ўрада і ягоных «камісараў» у Літве – не адпавядаючай інтарэсам Краю[351]. Некаторыя нават ацэньвалі паўстанне як правакацыю і сцвярджалі, што яно выратавала расійскія ўлады, якія, дзякуючы дзейнасці «партыі» Аляксандра Веляпольскага, паступова страчвалі свае пазіцыі ў гістарычнай Літве. Разгром паўстання стаўся нагодай для расправы з польскасцю. Так, Юзаф Пілсудскі згадваў, што ў часы ягонага дзяцінства дарослыя рэдка выказваліся пра паўстанне, а тое, што казалі, шакіравала: «Паўстанне было не толькі памылкай, але і злачынствам»[352].

Браніслаў Залескі ў кнізе пра Алену Скірмунт (1876) абвінаваціў кіраўнікоў паўстання ў авантурызме і легкадумнасці: «Кіруючае рухам Літоўскае Аддзяленне, распаленае загадамі з Варшавы і падбадзёрваннямі з-за мяжы, намагалася працягваць барацьбу амаль без аніякіх матэрыяльных сродкаў, без зброі і грошай, нават энергіяй не раўнуючыся з ворагам. Але ўсе намаганні ў параўнанні з жаданнем былі слабыя і мізэрныя і каштавалі шмат жыццяў»[353].

Дзядзька Рамана Скірмунта, уладальнік маёнтка Моладава Генрык Скірмунт, паводле ўспамінаў сына Канстанціна, «усё жыццё знаходзіўся пад уражаннем несувымернасці нашых сіл і расійскай моцы»[354]. Сам Раман Скірмунт у пасмяротнай біяграфіі Канстанцыі Скірмунт пісаў пра «фатальны 1863 год», што меў «катастрафічныя наступствы для многіх зямянскіх родаў». Ён нават параўнаў яго з Рыжскім трактатам 1921 г. (!)[355]

Дакументы расійскай адміністрацыі сведчаць, што значная частка польскай грамадскасці Беларуска-Літоўскага краю думала толькі пра выжыванне. Так, у жніўні 1866 г. начальнік жандарскай управы Аршанскага пав. дакладваў свайму кіраўніцтву: «Шляхта без пярэчання выконвае ўсе распараджэнні ўрада і пры ўсялякай нагодзе выказвае яму адданасць, усведамляючы бяздумнасць удзелу

351 Гл., напр., E. Wojniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1929.* Cześć pierwsza, s. 36–37.

352 J. Piłsudski, *Jak stałem się socjalistą*. Warszawa 1986, s. 6.

353 Б. Залескі. З *жыцця літвінкі. З лістоў і нататак. 1823–1874*, с. 152.

354 K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*, s. 19.

355 R. Skirmuntt, *Panie z Muru*, «Słowo». 1934, Nr 130.

ў былых палітычных хваляваннях і разам з тым сваё бяссілле»[356]. Таксама ў архівах захаваліся шматлікія звароты да ўладаў з запытам, ці дастаткова будзе для вызвалення ад «кантрыбуцыйных збораў» публічнага адрачэння ад Каралеўства Польскага, ад польскай мовы і звычаяў, выхавання дзяцей у расійскіх навучальных установах у духу адданасці Расіі і г. д.[357]

Віленскі генерал-губернатар П. Альбядзінскі ў лісце да Аляксандра II у снежні 1879 г. адзначаў, што «местному польскому населению чуждо стремление проявлять, какую бы ни было враждебность к правительству»[358]. Праўда, ніжэйшыя паліцэйскія чыны такой пэўнасці не мелі. Было відавочным моцнае незадавальненне мясцовага каталіцкага насельніцтва палітыкай прыціску каталіцкага касцёлу. Падчас вайны Расіі з Турцыяй у 1876–1877 гг. праявіліся выразныя пратурэцкія сімпатыі літоўскіх палякаў.

А вось для моладзі паўстанцы 1863 г. заставаліся героямі. Як і прадказваў калісьці А. Скірмунт (старэйшы), ідэя змагання не знікла. Той жа Ю. Пілсудскі згадваў: «Усе мары канцэнтраваліся ў той час вакол паўстання і ўзброенай барацьбы супраць маскалёў, якіх я ўсёй душой ненавідзеў [...]»[359]. Іншы вядомы дзеяч польскага руху Вацлаў Студніцкі (Гізбэрт-Студніцкі), згадваючы пра свае дзіцячыя прагулкі з мамай каля Дынабургскай крэпасці, у якой быў пакараны смерцю Леан Плятэр, пісаў: «Неаднойчы калі праходзіў каля крэпасці, абдумваючы планы яе захопу, а заходзячае сонца зіхацела ў вільготным тумане, які ўздымаўся з палёў, здавалася мне, што бачу душу Плятэра, і я маліўся яму як мучаніку нацыянальнай справы і прасіў, каб паслаў на мяне моц вызваліцеля Польшчы»[360].

Ва ўмовах жорсткай русіфікацыйнай палітыкі галоўнай мэтай намаганняў літоўскіх палякаў стала захаванне ўласных эканамічных і культурных пазіцый. Большасць імкнулася да пэўнай згоды з уладамі, шукала кампраміс паміж інтарэсамі расійскага ўрада і ўласнымі патрэбамі, якія часам трактаваліся як інтарэсы ўсяго Беларуска-Літоўскага краю.

Парэчча не было выключэннем. У маёнтку падрасталі дзеці, якіх трэба было выхоўваць і вучыць. Звычайна адукацыя пачыналася ў родным доме. Гэта была агульная практыка заможнай шляхты. Так, першымі настаўніцамі Міхала Ромэра былі французжанкі-гувернанткі, што паспрыяла выдатнаму валоданню ім французскай мовай. Каб падрыхтаваць сына да навучання ў гімназіі бацькі запрасілі таксама настаўніцу рускай мовы. Але гэта аказалася недастаткова, і Міхал Ромэр у 1890 г. быў прыняты ў прыватную школу Цэброўскіх у Вільні. Праз год ён па-

356 Государственный архив Российской Федерации (далей: ГАРФ). Ф. 109 (с. а.), оп. 2, д. 763, л. 2.

357 Напрыклад, ЛДГА. Ф. 378 (п. а.), 1866, спр. 125, арк. 9 адв.

358 РНБ. Аддзел рукапісаў. Фонд Альбядзінскага П. П. Ф. 16, д. 53, л. 2 адв.

359 J. Piłsudski, *Jak stałem się socjalistą.* Warszawa 1986, s. 3.

360 Wł. Studnicki, Z *przeżyć i walk.* Warszawa 1928, s. 8–9.

спяхова здаў іспыты і паступіў у Першую віленскую мужчынскую гімназію[361]. А вось Эдварда Вайніловіча ў маёнтку Савічы Слуцкага пав. вучылі замежным мовам немка і француженка. Пазней бацькі запрасілі ў якасці хатняй настаўніцы сваячку Юлію Рэвеньскую з Наваградка. Навучанне адбывалася па-польску і па-французску. Вайніловіч ва ўспамінах адзначаў таксама вялікую выхаваўчую ролю хатняй настаўніцы[362]. Толькі ў 12-цігадовым узросце ён пачаў вывучаць рускую мову, і праз год паступіў у 4 клас Слуцкай гімназіі.

Відавочна, што і Рамана Скірмунта рыхтавалі да працягу навучання запрошаныя ў Парэчча настаўнікі. Далей ягоны шлях ляжаў у Курляндыю, якая была традыцыйным для Скірмунтаў месцам атрымання сярэдняй адукацыі.

Стрыечны брат Рамана Канстанцін Скірмунт, які разам з братам Генрыкам вучыўся ў нямецкай гімназіі ў Лібаве, ва ўспамінах тлумачыў такі адукацыйны выбар імкненнем бацькоў выдаліць сыноў з-пад ціску «ашалелай у нашым краі ў тыя гады русіфікацыі»[363]. У тагачаснай Курляндыі дамінавала нямецкая шляхта, якая карысталася шляхецкімі прывілеямі, і, паводле К. Скірмунта, захоўвала прыязнае стаўленне да палякаў[364].

Ён з прыемнасцю згадваў гімназічныя гады: «Там мы раслі і выхоўваліся […] Там мелі шматлікае кола польскіх калег, найбольш з блізкай Жмудзі. Прыгадваю братоў Камароўскіх, з якімі захаваў блізкія стасункі на доўгія гады, пазнейшага прэзідэнта Рэчы Паспалітай Польскай Габрыэля Нарутовіча, Тышкевічаў і Свіртунаў. Рускіх у школе амаль не было, а нашы стасункі з нямецкім калегамі, ці то са шляхты, ці то з мяшчанскіх колаў былі простыя і зразумелыя. Настаўнікі ставіліся да нас добразычліва і з вялікім клопатам»[365].

Гісторыя з адукацыяй Рамана Скірмунта заблытаная. Упершыню праблема паўстала ў 1909 г., калі яму як дэпутату шляхты Пінскага пав. (з 1905 г.) павінны былі надаць чын калежскага рэгістратара. Але не надалі, бо ён не здолеў прад’явіць атэстат аб заканчэнні гімназіі. У наступным годзе гэта праблема выйшла ўжо на ўзровень Дзяржаўнай Рады Расійскай імперыі. Раман Скірмунт быў абраны ў Раду ад Менскай губ. у 1909 г. Падчас звычайнай працэдуры праверкі правільнасці выбараў дэпутата высветлілася, што адсутнічае дакумент аб ягонай адукацыі.

Менскі губернатар Якаў Эрдэлі на афіцыйны запыт адказаў, што «точных данных об образовательном цензе названного Скирмунта, не получившего по частным сведениям будто бы среднего образования, у меня не имеется»[366]. Ён накіраваў запыт да папячыцеля Рыжскай навучальнай акругі. Той паведаміў, што

361 Z. Solak, *Między Polska a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920*, s. 25
362 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1847–1928. Część pierwsza*, s. 10.
363 K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*, s. 19.
364 Ibidem.
365 Ibidem, s. 20.
366 РГИА. Ф. 1162, оп. 8, д. 4, л. 143.

Раман Скірмунт у Рызе не вучыўся. Затое Рыжскую Аляксандраўскую гімназію ў 1886 г. закончыў Баляслаў Скірмунт (1866 г. нар.). Эрдэлі паведаміў пра гэта Камісіі Дзяржаўнай Рады і дадаў, што падчас прызначэння на пасаду дэпутата шляхты Пінскага пав. у Менскім шляхецкім сходзе (1905) Раман Скірмунт заявіў, што атэстат аб заканчэнні Рыжскай гімназіі застаўся ў лейб-гвардыі Валынскім палку, дзе напрыканцы 1880-х гг. ён праходзіў вайсковую службу. Быў зроблены чарговы запыт. Камандзір палка прыслаў копію выпіскі пра службу прапаршчыка запаса Рамана Скірмунта і заявіў, што дакумент аб адукацыі ў ягонай асабістай справе адсутнічае[367].

Усё скончылася тым, што ў студзені 1911 г. Раман Скірмунт накіраваў ліст да старшыні Рады, у якім адмовіўся ад звання дэпутата. У якасці галоўнай прычыны фігуравала смерць бацькі і неабходнасць займацца справамі маёнтка[368].

Даследаванні ў Дзяржаўным гістарычным архіве Латвіі ў Рызе, праяснілі сітуацыю. Сярод матэрыялаў пасяджэнняў педагагічнай рады Рыжскай гарадской гімназіі 1881–1883 гг. знайшлася інфармацыя пра Рамана Скірмунта. Так, з пратакола пасяджэння ад 11 жніўня 1881 г. можна даведацца, што Раман Скірмунт (Skirmundt, Skirmuntt) быў прыняты ў 5 клас прагімназіі па праграме «рэальнага» навучання. Ужо праз некалькі месяцаў (пратакол ад 12 снежня 1881 г.) ён быў пераведзены ў 4 клас з пераэкзаменоўкай па нямецкай мове[369].

Варта адзначыць, што навучанне ў гэтай гімназіі ў той час вялося па-нямецку. Існавалі два адукацыйныя накірункі – «рэальны» і «класічны». Поўны курс навучання працягваўся 8 гадоў. Звычайна хлопчыкі паступалі ў 7 клас прагімназіі, дзе вучыліся два гады. Пасля заканчэння 4 класа прагімназіі яны паступалі ў вышэйшае трохкласнае аддзяленне. Выпускнікі 1 класа атрымлівалі атэстат аб гімназічнай адукацыі.

Пратакольны запіс пасяджэння Педагагічнай рады ад 13–14 снежня 1882 г. сведчыць пра тое, што Раман Скірмунт (Skirmunt) быў пераведзены ў 3 клас з пераэкзаменоўкай па алгебры і геаграфіі[370]. У наступных пратаколах яго імя больш не згадвалася. Прагляд запісаў кнігі аплаты за навучанне сведчыць, што ў верасні 1881 г. Р. Скірмунт заплаціў за навучанне ў 5 класе «рэальнай праграмы» 15 руб. 75 кап., у снежні таго ж году – 11 руб. 25 кап.[371] У сакавіку 1882 г. ён унёс у касу яшчэ 11 руб. 25 кап.[372] І гэта апошняя згадка Рамана Скірмунта. Падобна на тое, што яго гімназічная адукацыя скончылася ў 3 класе Рыжскай гарадской гімназіі.

---

367 Тамсама, арк. 152.

368 Тамсама, спр. 5, арк. 95–95 адв.

369 Дзяржаўны гістарычны архіў Латвіі. Ф. 3155, воп. 1, спр. 67, арк. 76 адв., 79.

370 Тамсама, арк. 89.

371 Тамсама. Ф. 6715, воп. 2, спр. 439, арк. 31, 43.

372 Тамсама, спр. 440, арк. 11.

Як бачым, гімназічныя гады Рамана Скірмунта не былі працяглымі. Ягонае вяртанне ў Парэчча магчыма было звязана з няўдалай спробай бацькі перакласці кіраванне маёнткам на старэйшага сына Аляксандра. Праўда, у красавіку 1883 г. Раману споўнілася толькі 15 гадоў, і ён не меў права самастойна кіраваць маёнткам, ды і не быў да гэтага падрыхтаваны. Рыжскую гімназію замяніла хатняя адукацыя, найважнейшым прадметам якой было знаёмства з вопытам бацькі па кіраванню вялізнай гаспадаркай.

Такім чынам, Раман Скірмунт не здолеў закончыць гімназію і атрымаць адпаведны атэстат. Аўтары артыкула пра яго ў Польскім біяграфічным слоўніку Чэслаў Бжоза і Каміль Стэпан сцвярджалі, што ён вывучаў права па-за межамі Расіі[373]. Аднак адшукаць дакументальнае пацвярджэнне або нейкую верагодную інфармацыю пра гэта не атрымалася. Магчыма, больш дакладнай з'яўляецца інфармацыя пляменніцы Скірмунта Вацлавы Нээф, якая ў размове з Зоф'яй Дэрналовіч паведаміла, што яе дзядзька вучыўся ў Палітэхнічным інстытуце ў Рызе. Цалкам магчыма, што ён наведваў заняткі як вольны слухач. Праўда, інфармацыя пра вучобу ва ўніверсітэце адсутнічала ў біяграме кандыдата ў сенатары Рамана Скірмунта, апублікаванай у кастрычніку 1930 г. на старонках віленскай газеты «Слова»[374].

Пры гэтым аналіз палітычнай і грамадскай дзейнасці Рамана Скірмунта, ягоныя лісты, тэксты шматлікіх публікацый і выступаў у Дзяржаўнай Думе і Дзяржаўнай Радзе Расійскай імперыі, у Сенаце Польшчы сведчаць пра высокі ўзровень ягонай адукацыі.

У снежні 1888 г. Раман Скірмунт як *вольнопределяющийся* пачаў вайсковую службу ў лейб-гвардыі Валынскім палку. Статут пра вайсковую павіннасць 1874 г. уводзіў катэгорыю *вольноопределяющихся*, якімі маглі стаць выпускнікі рознага тыпу гімназій і рэальных вучылішчаў, а таксама тыя, хто мог прадставіць дакументы нават пра некалькі гадоў гімназічнай вучобы. Яны пачыналі службу шараговымі салдатамі і выконвалі ўсе службовыя абавязкі, апрача ўдзелу ў гаспадарчых працах. Мелі права жыць на кватэрах або ў асобных казарменных памяшканнях. Служылі 1 год, а потым здавалі іспыт на званне прапаршчыка.

У Расійскім ваенна-гістарычным архіве захавалася службовая справа Рамана Скірмунта. Яна сведчыць, што ў ліпені 1889 г. Скірмунт атрымаў званне унтэрафіцэра, а ў жніўні ў Макатоўскім лагеры пад Варшавай ужо здаваў іспыт на званне прапаршчыка. Трэба было прадэманстраваць веданне вайсковых статутаў, асаблівасцяў палявой службы, агнястрэльнай зброі і сродкаў умацавання пазіцый на мясцовасці. Па ўсіх прадметах ён атрымаў вышэйшыя адзнакі, стаў прапар-

---

[373] Cz. Brzoza, K. Stepan, *Skirmunt Roman (1868–1939)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 184.

[374] *Kandydaci B. B. W. R.,* «Słowo». 1930, Nr 254, 5 listopada.

шчыкам армейскай пяхоты, а 7 верасня звольніўся ў запас[375]. Праўда, на гэтым ягоная ваенная адукацыя не скончылася. У 1891 і 1896 гг. ён прымаў удзел у вайсковых вучэбных зборах у складзе Каломенскага пяхотнага палка. У снежні 1901 г. Р. Скірмунт па дасягненні 33-гадовага ўзросту быў вызвалены ад вайсковага абавязку[376].

Трэба адзначыць, што атэстат аб прысваенні звання ўтрымліваў непраўдзівую інфармацыю, што ў 1887 г. Раман Скірмунт закончыў поўны курс Рыжскай губернскай гімназіі. Падобна, што Скірмунты ў дадзенай сітуацыі знайшлі спосаб схаваць праўду пра адукацыю Рамана Аляксандравіча.

1890-я гг. для адстаўнога прапаршчыка Рамана Скірмунта былі напоўнены працай поруч з бацькам у маёнтку. Магчыма, пагружанасць у гаспадарчыя клопаты і інтарэсы сям’і стала істотнай перашкодай наладжвання ўласнага сямейнага жыцця.

Якраз ягоная самахвярнасць дзеля патрэбаў сям’і ды сваякоў паслужыла падставай сцвярджэння Ежы Асмалоўскага, што менавіта Раман Скірмунт стаў галоўным прататыпам ужо згаданага Марка Чэртвана, галоўнага героя «Дэвайціса». У 1888 г. Марыя Радзевічуўна атрымала за гэты твор прэмію газеты «Кур’ер Варшаўскі». Але ёсць пэўныя сумненні, ці сапраўды юнак, якому не споўнілася яшчэ і 20 гадоў, мог стаць прататыпам Марка Чэртвана?

Блізкасць бацькі ў гэты перыяд жыцця была вельмі важнай для Рамана Скірмунта. Бацька не толькі вучыў гаспадарыць. Ён быў пэўным узорам стаўлення да мясцовай адміністрацыі, да суседзяў-землеўласнікаў, да сваякоў, нарэшце, да палескай вёскі. Апошняя хоць і стала свабоднай, але па-ранейшаму патрабавала дапамогі, а часам і апекі. Прынамсі, парэцкія Скірмунты не збіраліся мяняць ранейшую лінію паводзін.

Гэта праяўлялася таксама ў экстрэмальных сітуацыях. Прыкладам можа служыць пажар у Парэччы напрыканцы 1891 г. Вось што пра гэтае здарэнне пісаў карэспандэнт «Краю», які схаваўся пад крыптанімам *В. М.*: «Напрыканцы мінулага месяца жахлівы пажар здарыўся ў вёсцы Парэчча, якая знаходзіцца на землях Аляксандра Скірмунта ў адлегласці адной вярсты ад сядзібы і вядомай суконнай фабрыкі. Згарэла каля 50 розных пабудоў і шмат людзей засталося без даху над галавой. Нягледзячы на моцны вецер, згарэла толькі сярэдзіна вёскі. Іншыя часткі ацалелі дзякуючы энергічнай дапамозе Рамана Скірмунта, які не толькі кіраваў пажарнай камандай, створанай Скірмунтамі, але і сам прымаў актыўны ўдзел у лакалізацыі пажара, рызыкуючы ўласным жыццём. Алена Скірмунт таксама дапамагала пагарэльцам, не ашчаджаючы сіл. Наогул, сяля-

375 Российский государственный военно-исторический архив (далей: РГВИА). Ф. 400, оп. 9, д. 25772, часть 2, л. 23. Хачу шчыра падзякаваць Яніне Карпенкінай за магчымасць аналізу архіўных дакументаў.

376 Там же, оп. 17, д 13551, л. 117.

не ваколіцы павінны быць вельмі ўдзячныя Скірмунтам. Суконная фабрыка і эканомія даюць ім пастаянны спакойны заробак, а ў выпадку няшчасця аказваюць матэрыяльную дапамогу»[377].

Забягаючы наперад, хачу адзначыць, што гэта быў далёка не апошні выпадак рэальнай дапамогі жыхарам вёскі з боку сям'і Скірмунтаў, і ў т. л. Рамана.

Што датычыць сумеснага з бацькам кіравання гаспадаркай, то пэўныя ўскосныя дадзеныя дазваляюць сцвярджаць, што Аляксандр Скірмунт канцэнтраваў свае намаганні на прамысловасці Парэчча, а галоўным клопатам сына стала сельская гаспадарка. Так, у ягонай біяграме на старонках Альбома дэпутатаў Дзяржаўнай Думы (1906) было сціпла пазначана: «Занимается сельским хозяйством»[378]. Пры гэтым сын таксама меў дачыненне да дзейнасці прамысловых прадпрыемстваў Парэчча, магчыма, у першую чаргу па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі (сыраварня, паравы млын ды інш.). Менавіта Рамана бацька загадзя зрабіў «распорядителем всего имущества» пасля сваёй смерці. Пра гэта можна даведацца з інфармацыі прystава 4 стана Пінскага пав. пра маёмасны стан Рамана Скірмунта ад 7 верасня 1905 г.[379]

Пра пэўны падзел абавязкаў паміж бацькам і сынам сведчыць таксама ліст Рамана Скірмунта да рэдактара варшаўскай газеты «Слова» і свайго сябра Чэслава Янкоўскага ад 6 чэрвеня 1909 г. Аўтар ліста скардзіўся, што пасля смерці бацькі ён застаўся адзіным кіраўніком вялікай гаспадаркі і не спраўляецца з навалам спраў. У сувязі з гэтым Раман Скірмунт паведамляў пра рашэнне зняць уласную кандыдатуру на выбарах дэпутата Дзяржаўнай Рады ад Менскай губ.[380]

Аднак не толькі гаспадарчыя клопаты займалі час Рамана Скірмунта. Менавіта ён стаў ініцыятарам і галоўным «архітэктарам» стварэння на пачатку XX ст. вялізнага ландшафтнага парку на беразе Ясельды, які сёння ў найбольшай ступені сведчыць пра неардынарны гістарычны лёс Парэчча.

Раман Афтаназы, які ў міжваенны час наведаў Парэчча, сцвярджаў, што ягоная кампазіцыя ўключала як фрагменты старога лесу, у т. л. дубы, так і розныя экзатычныя дрэвы, прывезеныя з розных краін свету[381]. Перад палацам цягнуліся газоны з клумбамі кветак і дэкаратыўнымі кустамі. Парк займаў увесь правы бераг Ясельды і яе прытока Ясеня, быў насычаны каналамі і сажалкамі, якія ўпрыгожвалі выгнутыя драўляныя масткі. Шматлікія сцяжынкі і сцежкі збягаліся і разбягаліся ў розныя бакі, шматразова перакрыжоўваліся, але пераважна вялі да Ясельды. Тут дубы перамяжоўваліся з вязамі, ясенямі, клёнамі і экзатычнымі дрэвамі, у т. л. цюліпанавымі. Надзвычай багатым быў жывёльны і птушыны свет

---

[377] «Kraj». 1891; Nr 46.

[378] *Альбом портретов депутатов Государственной Думы.* Москва 1906, с. 41.

[379] НГАБ. Ф. 299, воп. 7, спр. 2849, арк. 15 адв.

[380] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 102–122. Карэспандэнцыя Чэслава Янкоўскага, k.1.

[381] R. Aftanazy, *Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej.* Wydanie 2. Tom 2, s. 122.

Парэцкага парку. Для птушак былі збудаваны адмысловыя «хаткі». На востраве, які знаходзіўся ў месцы ўпадзення ў Ясельду яе прытока Ясеня, знаходзіўся вялікі сад.

Найбольш грунтоўнае апісанне парка ў Парэччы належыць беларускаму даследчыку Анатолю Федаруку[382]. Ён лічыў яго кампазіцыйным цэнтрам паляну з двума валунамі ў атачэнні старых дубоў, якія налічвалі некалькі соцень гадоў. Адсюль у розныя бакі разыходзіліся пяць вузкіх прыўзнятых сцежак, пасыпаных рачным пяском і з адмысловымі паглыбленнямі дзеля стоку вады. У глыбіні парку знаходзілася высокая альтанка ў тры яруса з пляцоўкай для агляду, на якую ўздымаліся па вінтавой лесвіцы.

Большасць сцяжынак вяла да лясной часткі парку, дзе працякала Ясельда. Тут адкрываўся прыгожы пейзаж з маляўнічай поймай ракі, астравамі, каналам з двума рукавамі, водны рэжым у якіх забяспечвала адмысловая сістэма рэгулявання ўзроўню вады. Важнае дэкаратыўнае значэнне мелі экзоты ў выглядзе адзінкавых дрэў або груп дрэў, асноўныя з якіх пералічыў яшчэ Афтаназы.

Дарогу да вінакурнага завода ўпрыгожвалі цюліпанавыя дрэвы, прадстаўнікі рэліктавай флоры даледавіковага перыяду сямейства магнолiевых. Перад заводам раслі арэхі шэры і бразільскі. У заходняй частцы парку былі высаджаны экзоты з субтрапічных лясоў Каўказа, Усходняй Турцыі і Ірана. Унікальны балотны кіпарыс, радзімай якога лічацца субтрапічныя балоты Фларыды, дажыў да нашых дзён. Ягоная вышыня сёння складае каля 10 м.

Прафесар Федарук у розных частках парка заўважыў піхту бальзамічную, белую і сібірскую, сасну еўрапейскую і сібірскую, яліну канадскую, яліну Энгельмана, яліну веймутаву, лістоўніцу еўрапейскую, лістоўніцу Кемпфера, бук лясны, клён вастралісты ды інш. Беларускі даследчык налічыў каля 30 назваў інтрадуцэнтаў. Парк разам з садам даглядаў Рыгор Клімовіч, а ягоным памочнікам быў Фёдар Лукашык. Парк быў важнай часткай маёнтка таксама ў міжваенны час, пра што гаворка наперадзе…

На пачатку XX ст. распачалося супрацоўніцтва Рамана Скірмунта з польскім тыднёвікам «Край», які выдаваўся ў Пецярбурзе. У адрозненне ад Беларусі і Літвы ў сталіцы імперыі польская мова не была забаронена. Напрыканцы 1904 г. на старонках газеты неаднаразова з'яўлялася інфармацыя за подпісам *Romunt*. Гэты псеўданім Раман Скірмунт выкарыстоўваў таксама ў форме *Ro…munt*.

*Romunt* інфармаваў чытачоў газеты пра ход мабілізацыі рэзервістаў у расійскае войска падчас вайны з Японіяй, а таксама засяроджваў увагу на ролі земстваў у развіцці асветы, аказанні лекарскай дапамогі, рамонце і будаўніцтве дарог і сродкаў сувязі. Як вядома, у красавіку 1903 г. у Менскай, Віцебскай і Магілёўскай губ. былі ўведзены губернскія земскія ўстановы, сябры якіх прызначаліся адміністрацыяй.

---

[382] А. Федарук, *Старинные усадьбы Берестейщины,* с. 499–500.

Паводле Рамана Скірмунта, нават абмежаваны ў паўнамоцтвах і цалкам пазбаўлены выбараў гэты «земскі дадатак» да адміністрацыі ў Менскай губ. паспрыяў паляпшэнню ўмоў жыцця насельніцтва. Скірмунт падкрэсліваў важнасць прызначэння на пасады земскіх начальнікаў аўтарытэтных мясцовых «кадраў» (меліся на ўвазе мясцовыя польскія зямяне), якія выдатна арыентаваліся ў праблемах Краю. Але якраз з гэтым была праблема, бо доступ палякаў на кіруючыя пасады быў забаронены пасля паўстання 1863 г. *Romunt* выказваў асцярожнае спадзяванне, што ў Менскай губ., а ў будучыні ў Ковенскай, Віленскай і Гарадзенскай губ., зямяне складуць значны адсотак усіх земскіх начальнікаў[383].

У гэты ж час распачалася актыўная грамадская дзейнасць Рамана Скірмунта. У 1902 г. ён належаў да ганаровых сяброў нядаўна заснаванага Пінскага рымска-каталіцкага дабрачыннага таварыства. Цалкам магчыма, што гэтае Таварыства ў 1902 г. толькі легалізавала сваю дзейнасць, бо ягоны першы Статут быў распрацаваны яшчэ ў 1897 г. Старшынём праўлення Таварыства быў А. Твардоўскі, а ягоным намеснікам старэйшы брат Рамана Аляксандр Скірмунт. Дарэчы, з 57 сяброў Таварыства 12 належалі да роду Скірмунтаў. У 1903 г. ужо Раман Скірмунт узначаліў Таварыства і кіраваў дабрачыннай дзейнасцю ва ўсім павеце. Пасаду скарбніка займала Канстанцыя Скірмунт.

Вялікай увагі заслугоўвае ўдзел Рамана Скірмунта ў працы Менскага таварыства сельскай гаспадаркі (МТСГ), бо ягоная грамадская актыўнасць на доўгія гады была звязана менавіта з ім. Ён з вялікай павагай ставіўся да неадменнага кіраўніка МТСГ Эдварда Вайніловіча, які нароўні з бацькам стаў для Рамана Скірмунта ўзорам адносін да Беларуска-Літоўскага краю і ўсведамлення абавязкаў «літоўскага шляхціча». З часам іх пачалі звязваць сяброўскія стасункі.

Менскае таварыства сельскай гаспадаркі было заснавана ў 1876 г. па ініцыятыве тагачаснага міністра ўнутраных спраў Льва Макава, які набыў маёнткі Блонь і Навасёлкі ў Ігуменскім пав. Галоўнай задачай МТСГ была падтрымка рускага землеўладання на Меншчыне. Яго ўзначаліў губернскі маршалак В. Паўлаў, а сябрамі сталі пераважна чыноўнікі губернскай канцылярыі. Адно з палажэнняў Статута сцвярджала, што сябрамі Таварыства могуць быць толькі «асобы рускага паходжання». Аднак дыскрымінацыя мясцовых землеўладальнікаў не спрыяла эфектыўнасці Таварыства. Праяўленне гаспадарчай або прадпрымальніцкай ініцыятывы было рэдкасцю на яго сходах, а цікавасць да сельскай гаспадаркі пераважна абмяжоўвалася ўрачыстым унясеннем у залу на пачатку кожнага пасяджэння драўлянай сахі.

У 1878 г. Паўлаў быў вымушаны прыцягнуць да працы МТСГ літоўскіх палякаў. Запрашэнні да сяброўства ў арганізацыі атрымалі былы губернскі маршалак Леан Ваньковіч, а таксама Аляксандр Скірмунт, Эдвард Вайніловіч, Віктар Сьвіда і Зыгмунт Свянціцкі. Але гэта быў толькі пачатак. Як пісаў ва ўспамінах

383 «Kraj». 1904. Nr 51.

Вайніловіч, «мундзіры» на пасяджэннях Таварыства саступілі месца «сапраўдным гаспадарам»[384]. У канцы 1878 г. колькасць сяброў МТСГ дасягнула 64 чалавек. Большасць з іх належалі да мясцовай польскай грамадскасці.

Уваходжанне зямян Меншчыны ў Таварыства паспрыяла актывізацыі ягонай працы. Прычым гэта датычыла не толькі гаспадарчых спраў. Хутка праявіліся тэндэнцыі да аднаўлення публічнай грамадскай дзейнасці літоўскіх палякаў. Так, на пачатку 1880-х гг. МТСГ прыняло актыўны ўдзел у спробе палітычнага рэфармавання Расіі. Ягоныя прадстаўнікі ўдзельнічалі ў г. зв. «акруговых з'ездах», ідэя якіх належала міністру ўнутраных спраў Міхаілу Лорыс-Мелікаву. Міністр паспрабаваў прыцягнуць да абмеркавання дзяржаўных праблем земскіх дзеячаў, а ад беларускіх і літоўскіх земляў – землеўласнікаў. Акруговыя з'езды павінны былі абраць дэпутатаў на Усерасійскі з'езд, які многія лічылі пачаткам расійскага парламента.

МТСГ накіравала на з'езд у Смаленск Э. Вайніловіча і В. Сьвіду. Першы нават трапіў у лік «запасных» кандыдатаў на ўдзел ва Усерасійскім з'ездзе[385]. Аднак бомба нарадавольца Ігната Грынявіцкага, якая 1 сакавіка 1881 г. абарвала жыццё імператара Аляксандра II, перакрэсліла праекты ліберальных пераўтварэнняў.

Таварыства спрабавала гаспадарчай актыўнасцю кампенсаваць адсутнасць палітычных правоў. Са з'езда ў Смаленску Вайніловіч прывёз узор статута Крэдытна-ашчаднага таварыства і дазвол на яго адкрыццё ў Клецку. Таварыства займалася крэдытаваннем землеўласнікаў і сялян. У асобныя гады ягоны капітал дасягаў 800 тыс. руб.[386].

У 1883 г. МТСГ арганізавала ў Менску сельскагаспадарчую выставу. Яе поспех спрычыніўся да значнага росту колькасці сяброў Таварыства. У 1884 г. па рэкамендацыі Аляксандра Скірмунта ў шэрагі Таварыства быў прыняты ягоны старэйшы сын Аляксандр[387]. Менавіта ў гэты час «асобы рускага паходжання» канчаткова адышлі на другі план[388].

Беларускі гісторык і палітык Аляксандр Цвікевіч на пачатку 1920-х гг. адзначаў, маючы на ўвазе губернскія сельскагаспадарчыя таварыствы: «Дарэмна расійская адміністрацыя пільна сачыла за тым, каб у «Пазямельных Таварыствах» ня зьвівала сабе гнязда ненавісная ёй «пальшчызна», яны ўсё-такі былі падобнымі «гнёздамі»»[389]. Ацэнка беларускага дзеяча падаецца перабольшанай. Польскасць

---

384 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1847–1928. Część pierwsza*, s. 40.

385 А. Смалянчук, *Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гг.* Гародня 2000, с. 54.

386 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1847–1928. Część pierwsza*, s. 48.

387 *Отчет о деятельности Минского общества сельского хозяйства за 1914 г.* Минск 1915, с. XXVI.

388 J. Lutosławski, *Edward Woyniłłowicz (Kartki z dziejów Kresów Wschodnich)*. Warszawa 1928, s 8.

389 А. Цьвікевіч, *«Западно-руссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.* Менск 1993, с. 266.

Таварыства доўгі час праяўлялася толькі ў тым, што яго паспяховая дзейнасць паляпшала эканамічнае становішча беларускіх і літоўскіх палякаў.

Менавіта ў гэтым, паводле Рамана Скірмунта, праяўлялася «польская праграма» Вайніловіча[390], які, насамрэч, адыграў важную ролю ў актывізацыі польскага руху на беларускіх землях. У 1888 г. Вайніловіч быў абраны віцэ-старшынём МТСГ і стаў ягоным фактычным кіраўніком, бо пасада старшыні, якая прызначалася губернатару, мела выключна ганаровы характар.

Сфера гаспадарчай дзейнасці МТСГ у 1880–1890-я гг. пастаянна пашыралася. У 1885 г. была заснавана Секцыя вінакурэння, якая ў 1894 г. ператварылася ў Менскае таварыства вінакурэння з капіталам у 100 тыс. руб.[391] У 1894 г. узнікла Лясная секцыя, галоўнай задачай якой было супрацьдзеянне масавай вырубцы лясоў з мэтаю продажу драўніны. У наступным годзе была створана Агранамічная секцыя, якая ў 1901 г. складалася з 70 сяброў (!) Таксама дзейнічалі секцыі жывёлагадоўлі і конегадоўлі. У 1896 г. быў нават арганізаваны Гандлёвы аддзел МТСГ, які прыносіў вялізарныя прыбыткі. Расла колькасць сяброў Таварыства. Калі ў 1888 г. іх было 209, то ў 1894 г. – 448, а ў 1901 г. – 701[392]. Паводле статута 1897 г., для ўступлення ў МТСГ было дастаткова заплаціць 10 руб. гадавых складак і мець вусныя рэкамендацыі трох сяброў Таварыства. Раман Скірмунт стаў сябрам Таварыства ў 1900 г. Разам з ім быў прыняты стрыечны брат Канстанцін з Моладава[393].

Адметнай падзеяй у гісторыі МТСГ стала арганізацыя напрыканцы лета 1901 г. вялікай сельскагаспадарчай выставы, прысвечанай 25-годдзю Таварыства. Менск упершыню прымаў выставу падобнага маштабу. Былі высланы больш за 3,5 тыс. запрашэнняў, прыехалі карэспандэнты ўсіх значных польскіх выданняў не толькі з Расіі, але таксама з Германіі і Аўстра-Венгрыі. Вялікую цікавасць выклікалі прэзентацыі экспанатаў у 12 павільёнах. Дарэчы, у павільёне прамысловых вырабаў дэманстравалася сукно Парэцкай фабрыкі Скірмунтаў, якое, як ужо адзначалася, па выніках выставы было ўзнагароджана залатым медалём. Адначасна ў Менску адбываліся шматлікія балы, рауты і тэатральныя пастаноўкі. На ўрачыстых пасяджэннях прысутнічалі прадстаўнікі ўлады як з Менску, так і з Пецярбургу.

Але першым узяў слова Эдвард Вайніловіч. Пасля традыцыйных і непазбежных рэверансаў у бок улады, ён прыгадаў, што дзейнасць Таварыства актывізавалася толькі пасля таго, як да яго далучыліся мясцовыя землеўласнікі. Паводле кіраўніка МТСГ, гэтыя людзі «адклалі ў бок усялякае палітыканства і пачалі араць родную зямлю, знаходзячы там скарбы, схаваныя мінулымі пакаленнямі. Бог благаславіў нашую шляхетную працу. Зерні дабра і працы, кінутыя ў зямлю

---

390 J. Lutosławski, *Edward Woyniłłowicz (Kartki z dziejów Kresów Wschodnich),*s. 28.

391 R. Jurkowski, *Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich. 1864–1904. Działalność społeczno-gospodarcza*. Warszawa 2001, s. 191.

392 R. Jurkowski, *Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich. 1864–1904…*, s. 183.

393 *Отчет о деятельности Минского общества сельского хозяйства за 1914 г.*, с. XXVI.

нашымі продкамі, узышлі і далі цудоўны плён – дабрабыт і шчасце».

Падсумоўваючы вынікі 25-гадовай дзейнасці Таварыства, Э. Вайніловіч адзначыў: «Сёння ўсё здаецца простым і ясным. Але, насамрэч, няпроста было дасягнуць такога выніку. Поспех стаў магчымым, бо, па-першае, Таварыства аніводнага разу не выйшла па-за межы свайго статута і не ставіла ніякіх іншых задач; па-другое, займалася праблемамі, якія не пераўзыходзілі яго магчымасці; па-трэцяе, канцэнтравала ўласныя намаганні і стала на шлях пэўнай дэцэнтралізацыі толькі пасля таго, як умацавалася; па-чацвёртае, заўсёды і ва ўсіх абставінах лічыла сябе прадстаўніком землеўласнікаў Заходняга краю і імкнулася не страціць гонар і годнасць гэтага саслоўя. […] Мы моцныя нашай праватой, ганарымся нашай мінуўшчынай. Таварыства сельскай гаспадаркі стала для нас школай падрыхтоўкі да грамадскага жыцця»[394].



*Эдвард Вайніловіч.*

Выстава яскрава дэманстравала моц гаспадарчых пазіцый эліты літоўскіх і беларускіх палякаў, але таксама яна стала нагодай, каб пазнаёміць расійскія ўлады з актуальнымі праблемамі сельскай гаспадаркі Меншчыны і ўсёй Беларусі, прынамсі, з той іх часткай, якая здавалася найбольш важнай арганізатарам выставы.

Мечыслаў Ялавецкі згадваў, якое моцнае ўражанне зрабіла выстава на ягоных бацькоў. Яны ўспрынялі яе як адзін з «доказаў жыццяздольнасці і ўплываў польскіх зямян на нашых крэсах»[395]. Падобнае пачуццё меў таксама Канстанцін Скірмунт. Пазней ён згадваў уражанне ад прамовы Э. Вайніловіча на пашыраным сходзе МТСГ 28 жніўня 1901 г.: «...тое, што казаў Вайніловіч было сапраўдным гімнам працы польскіх зямян. У яго словах не было хвальбы, а было канкрэтнае і праўдзівае падсумаванне вынікаў шматгадовай працы нашых землеўласнікаў»[396]. І гэта пры тым, што Эдвард Вайніловіч ва ўсіх прамовах старанна падкрэсліваў апалітычнасць Таварыства, ягоную засяроджанасць на праблемах сельскай гаспадаркі.

Раман Скірмунт у каментарах да ўспамінаў Вайніловіча (1931) таксама прыгад-

---

394 «Kraj». 1901, Nr 35

395 BN. Dział mikroform. Sygn. III.10592/cz, j. 1–5. M. Jałowiecki, *Wspomnienia*, k. 15.

396 K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*, s. 25–26.

ваў уласнае ўражанне ад менскай выставы, якая выдатна дэманстравала магчымыя накірункі дзейнасці ва ўмовах палітычнага бяспраўя[397].

Не менш чым выстава, многіх уразіла постаць Эдварда Вайніловіча, ягоная ўпэўненасць і шчырасць. Было відавочна, што ён казаў тое, што думаў. Раман Скірмунт лічыў гэта важнай рысай ягонага характару і сцвярджаў, што Вайніловіч не мог быць Конрадам Валенродам. У каментарах Скірмунт таксама прыгадаў выступ Вайніловіча на адкрыцці выставы Віцебскага таварыства сельскай гаспадаркі ў Дзвінску ў 1902 г., у якім прамоўца даволі крытычна выказаўся пра расійскую палітыку ў «польскім пытанні», пра палітычны пераслед польскай супольнасці, а закончыў сцвярджэннем, што самае цяжкае палякі ўжо перажылі, і цяпер перад імі адкрываюцца значна лепшыя перспектывы: «Казаў як гетман, які ведае шляхі і мэты... »[398]

Відавочна, што ў пэўны момант Эдвард Вайніловіч стаў для Рамана Скірмунта надзвычай важнай постаццю. У згаданых каментарах да выдання ўспамінаў Вайніловіча (1931) ён наступным чынам характарызаваў чалавека, які з настаўніка паступова ператварыўся ў сябра: «Любоў да роднага гнязда ў пэўнай ступені пераносіў на павет, які яго атачаў, з павета гэтае пачуццё пашыралася на ўсю Менскую зямлю, а адтуль – на ўсю супольную Айчыну. Лёс вызначыў для яго пост як найдалей высунуты на ўсход. Абараняючы яго, лічыў сваім першым абавязкам, паводле традыцыі, умацаванне сувязі з захадам Літвы – Белай Руссю. У тых справах не любіў слухаць указанняў з-над Віслы. [...] Ягоны лакальны патрыятызм быў моцны, без пазначэння гэтай рысы яго вобраз няпоўны. Гэта нагадвала замілаванне шатландцаў да сваёй малой радзімы. Шатландзец таксама з'яўляецца добрым брытанцам, як радавіты англічанін, і таксама робіць вялікі ўнёсак у нацыянальную скарбніцу. Мудры англічанін не злуецца на лакальны патрыятызм шатландца і не патрабуе, каб той адмовіўся ад уласнай крыві і паходжання. Гэтыя тэрытарыяльныя адрозненні не перашкаджаюць нацыянальнай еднасці.

Вайніловіч, у сваіх пачуццях паляк да мозгу касцей, адчуваў еднасць з мясцовым беларускім людам, жадаў, каб той прайшоў тую ж эвалюцыю, якую прайшлі яго ўласныя продкі. Ён не збіраўся адмаўляцца ад уласнай адметнасці інтэлекту і характару. Не госць, а свой чалавек сярод сваіх – менавіта такім ён хацеў быць на ўласнай зямлі. Моцнае пачуццё прывязанасці да краю, як ніякое іншае, умацоўвала ўплывы нацыянальнай культуры на далёкіх рубяжах і забяспечвала яе пазіцыі ў шырокіх межах. Якраз яно было злучальным звяном паміж Крэсамі і цэнтрам, якога ні час, ні полымя, ні іржа не здолелі знішчыць. Якраз яно было тым ідэалам актыўнай працы, якую ён павінен быў выканаць у жыцці»[399].

---

397 R. Skirmuntt, *Edward Woyniłłowicz. Wspomnienia 1847–1928 r. Wyd. 1931 r.,* «Słowo». 1932, Nr 3.

398 Ibidem.

399 R. Skirmuntt, *Edward Woyniłłowicz. Wspomnienia 1847–1928 r. Wyd. 1931 r.,* «Słowo». 1932, Nr 2.

Чытаючы ўсё гэта, міжволі думаеш, што Раман Скірмунт, згадваючы Эдварда Вайніловіча, насамрэч, пісаў свой уласны партрэт. Пры гэтым перакананы, што ў тэксце 1932 г. Скірмунт усё ж перабольшваў польскасць Эдварда Вайніловіча, магчыма, каб падкрэсліць польскі характар уласнай грамадска-палітычнай працы.

На пачатку XX ст. для маладога грамадскага дзеяча кіраўнік МТСГ быў узорам паводзін, які дэманстраваў шляхі выхаду па-за межы «палескага фармату». Пэўнае збліжэнне Эдварда Вайніловіча і Рамана Скірмунта адбылося ўжо пасля абрання апошняга ў шэрагі Рады МТСГ (1903). У адрозненне ад агульных сходаў Таварыства, што звычайна праводзіліся двойчы на год, сябры Рады сустракаліся значна часцей. Фактычна Рада была пастаянна працуючым органам Таварыства.

Як ужо адзначалася, сябрам МТСГ Раман Скірмунт стаў у 1900 г., і гэтае сяброўства было звязана з дзейнасцю адмысловай камісіі Таварыства па праблемах Палесся, якая была створана ў тым самым годзе. Менавіта яна стала падмуркам арганізацыі Аддзялення па распрацоўцы сельскагаспадарчых і эканамічных патрэб Палесся пры Менскім таварыстве сельскай гаспадаркі (1901). Паводле статута Пінскі аддзел павінен быў арганізаваць землеўласнікаў Пінскага, Мазырскага і Рэчыцкага пав. дзеля правядзення меліярацыі і ўпарадкавання «эксплуатацыі лясоў». Першым яго старшынём быў князь Геранім Друцкі-Любецкі (1901–1905), якога замяніў Раман Скірмунт (1906–1910)[400].

Пры непасрэдным удзеле апошняга распрацоўвалася адмысловая праграма дзейнасці Пінскага аддзела – *Программа занятий Отделения по разработке сельскохозяйственных и экономических вопросов Минского Полесья при Минском обществе сельского хозяйства* (Минск, 1901)[401]. Пры гэтым Раман Скірмунт займаўся і канкрэтнай арганізацыйнай працай. Так, ён меў непасрэднае дачыненне да арганізацыі ў 1902 г. выставы «жывога інвентара» ў Давыд-Гарадку[402].

Раман Скірмунт таксама ўдзельнічаў у працы Палескай камісіі МТСГ па падрыхтоўцы статута Палескага таварыства ўзаемнага крэдыту. У снежні 1900 г. на агульным сходзе Менскага таварыства старшыня Камісіі князь Г. Друцкі-Любецкі паведаміў пра заканчэнне працы па падрыхтоўцы статута[403]. А праз некалькі дзён Палеская камісія з дазволу «головы» Пінска Л. Брыянэ дэ Ласі правяла ўласны сход у будынку гарадской ратушы. У адсутнасць князя Друцкага-Любецкага працай сходу кіраваў Раман Скірмунт.

---

400 R. Jurkowski, *Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich. 1864–1904*…, s. 209.

401 А. Киштымов, *Экономический потенциал Полесья в начале XX в.* (у:) *Загароддзе–3*. Матэрыялы навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Палессе ў XX стагоддзі». 1–4 чэрвеня 2000 г., Беласток-Мінск 2001.

402 A. Kieniewicz, *Nad Prypiecią, dawno temu... Wspomnienia zamierzchłej przeszłości*. Przygotował do druku St. Kieniewicz. Wrocław 1989, s. 66–67.

403 «Kraj». 1901, Nr 1.

У цэнтры ўвагі апынулася праблема асушэння забалочаных земляў. Справа ў тым, што з 1873 г. у Заходнім Палессі ажыццяўлялася шырокамаштабная меліярацыя. Афіцыйна яна называлася «Заходняй экспедыцыяй па асушэнню балот», якой кіраваў генерал Іосіф Жылінскі, аўтар плана меліярацыі. Як сцвярджаў сам генерал, у 1897 г. было асушана 450 тыс. дзес. балот. Адначасна праводзіліся эксперыменты па вырошчванні на асушаных землях яравых і азімых культур, па пасадцы лесу. Аднак на рубяжы стагоддзяў асігнаванні на меліярацыю Палесся значна скараціліся. «Экспедыцыя» фактычна прыпыніла сваю дзейнасць у 1898 г., а ў 1902 г. яе дзейнасць наогул была спынена[404].

Палеская камісія МТСГ шукала магчымасці працягнуць меліярацыю, выкарыстоўваючы крэдыты. З рэфератамі выступілі сябра Камісіі Казімір Шчыт і інжынер «Заходняй экспедыцыі» Піятроўскі. У выніку вырашылі стварыць адмысловую аналітычную камісію. У яе склад быў абраны Раман Скірмунт, які якраз у гэты час распачынаў працы па асушэнні берага Ясельды на тэрыторыі Парэчча[405].

Статут Палескага таварыства ўзаемнага крэдыту быў зацверджаны на агульным сходзе МТСГ у пачатку сакавіка 1901 г. На гэтым сходзе Друцкі-Любецкі падрабязна распавёў пра дзейнасць Палескай камісіі, якая складалася з 60 сяброў. Аднак галоўную ролю ў распрацоўцы статута Таварыства ўзаемнага крэдыту адыграў ужо згаданы К. Шчыт, якому дапамагаў Канстанцін Скірмунт, адзін з найбольш актыўных сяброў створанага ў лютым 1901 г. Гарадзенскага таварыства сельскай гаспадаркі[406].

Асаблівай увагі заслугоўвае «сялянская палітыка» Пінскага аддзелу МТСГ. Справа ў тым, што якраз гэты Аддзел стаў першай арганізацыяй землеўласнікаў Менскай губ., якая пачала прымаць у свае шэрагі сялян. Вырашальную ролю адыграла пазіцыя Аляксандра і Рамана Скірмунтаў, а таксама кіраўніка Аддзела князя Гераніма Друцкага-Любецкага. Вядома, што іх актыўна падтрымаў Э. Вайніловіч. Каб стаць сябрамі арганізацыі сяляне павінны былі мець дзве вусныя рэкамендацыі, а таксама зрабіць гадавы ўнёсак у памеры 2,5 руб. Аднак не ўсе былі гатовыя плаціць такія грошы.

Аддзел правёў цыкл папулярных лекцый для сялян па праблемах арганізацыі гаспадаркі, а ў верасні 1904 г. арганізаваў сялянскую сельскагаспадарчую выставу ў Пінску. Паводле інфармацыі газеты «Край», гэта была першая сялянская выстава ў «Заходнім краі». Карэспандэнт таксама паведаміў, што напрыканцы выставы на мясцовай гаворцы прамаўляў Раман Скірмунт[407].

Гэтыя выставы сталі традыцыйнымі для Піншчыны і карысталіся вялікай па-

---

404 В. Аношка, *Заходняя экспедыцыя па асушэнню балот Палесся 1873–98* (у:) ЭГБ. 1996. Т. 3, с. 426.

405 «Kraj». 1901, Nr 4.

406 Ibidem, Nr 12.

407 Ibidem. 1904, Nr 39

пулярнасцю сярод сялян, асабліва пасля таго, як арганізатары пачалі праводзіць іх у форме кірмаша, дзе можна было нешта прадаць і набыць, праслухаць карысную лекцыю і ўбачыць новую тэхніку.

Таксама менавіта Пінскі аддзел стаў ініцыятарам стварэння сялянскіх сельскагаспадарчых гурткоў. У 1906 г. іх было ўсяго тры. Вялікай актыўнасці сяляне не праяўлялі, хоць з гатоўнасцю прымалі ўсе формы дапамогі з боку землеўласнікаў. Таксама не назіралася сялянскага наплыву ў шэрагі Пінскага аддзелу, хоць на пачатку 1906 г. сума гадавога ўнёску для сялян была зменшана да 1 руб.

Аўтар даследавання дзейнасці губернскіх таварystваў сельскай гаспадаркі польскі гісторык Раман Юркоўскі прыйшоў да высновы, што гэтыя гурткі не мелі шансаў: «Бездань, што дзяліла памешчыкаў і сялян, сялянскі недавер да землеўласнікаў, які падтрымлівала ўлада, неадукаванасць сялянскага насельніцтва Беларусі, перакрэслівала тыя нешматлікія, але вартыя ўвагі, спробы памешчыкаў палепшыць стасункі. Напэўна, памешчыкі не шмат сіл і сродкаў прысвяцілі стварэнню сялянскіх сельскагаспадарчых гурткоў, але ж пры гэтым яны, як і сяляне, не маглі пераадолець стэрэатыпы патрыярхальных адносін, паводле якіх «добры пан дае, а прыстойны селянін з пакорай і ўдзячнасцю прымае». Адсутнасць разумення важнасці пабудовы гэтых адносін на глебе матэрыяльнай карысці і не аднаразовай, а пастаяннай […] прыводзіла да таго, што селянін чакаў рашэння памешчыкаў, быў абыякавым да іх намаганняў, а тыя апускалі рукі пасля першых няўдач»[408].

Што б публічна ні казаў Эдвард Вайніловіч пра дзейнасць МТСГ, але, папраўдзе, значэнне Таварыства і асобы яго кіраўніка выходзіла далёка па-за межы гаспадарчых праблем. Гэта выразна праявілася ўлетку 1904 г., калі міністр унутраных спраў князь Пётр Святаполк-Мірскі запрасіў вядомых землеўласнікаў Віленскай, Ковенскай, Гарадзенскай і Менскай губ. прыняць удзел ва ўрачыстым адкрыцці помніка Кацярыне II у Вільні.

Эліта літоўскіх і беларускіх палякаў апынулася перад даволі складаным выбарам. Удзел ва ўрачыстасцях з нагоды адкрыцця помніка расійскай імператрыцы, што непасрэдна спрычынілася да падзелаў Рэчы Паспалітай, азначаў дэманстратыўны разрыў з ідэаламі польскай дзяржаўнасці і незалежнасці. Усё гэта пагражала кампаніяй шырокага грамадскага асуджэння. Аднак у якасці падзякі фігуравала абяцанне князя хадайнічаць пра адмену ўказа ад 10 снежня 1865 г., які, між іншым, забараняў «асобам польскага паходжання» набываць зямлю ў «Заходнім краі». Адмова ад запрашэння пагражала абвінавачваннем у нелаяльнасці і пэўнымі адміністрацыйнымі наступствамі. Напр., Канстанцін Скірмунт прыгадваў уласную боязь, што ягоная адсутнасць на адкрыцці помніка магла паўплываць на лёс Гарадзенскага таварыства сельскай гаспадаркі[409].

---

408 R. Jurkowski, *Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich. 1864–1904*…, s. 214.
409 K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*, s. 29.

Аляксандр Хаміньскі ўспамінаў бурлівы характар схода землеўласнікаў Віленшчыны, на якім вырашалася пытанне ўдзелу ў адкрыцці помніка. Большасць выказвалася за неабходнасць удзелу ў цырымоніі. Пры гэтым амаль кожны казаў, што пэўныя абставіны не дазваляюць яму прысутнічаць асабіста. Аднак, як зазначыў А. Хаміньскі, «пачуццё грамадзянскага абавязку» ўсё ж перамагло[410].

Канстанцін Скірмунт у гэты час знаходзіўся ў Італіі, дзе атрымаў ліст ад бацькі, які паведамляў, што іх абодвух запрасілі ў Вільню. Потым прыйшла тэлеграма з Моладава, у якой бацька настойваў на вяртанні сына. Разам з ёй даставілі ліст ад віцэ-старшыні Віленскага таварыства сельскай гаспадаркі, які таксама прасіў вярнуцца і быць у Вільні. Канстанцін Скірмунт тэрмінова прыехаў у Вільню, дзе на вакзале сустрэў свайго бацьку. У дзень адкрыцця помніка ў газетах з'явілася інфармацыя пра наданне шасці прадстаўнікам польскіх землеўласнікаў прыдворных тытулаў. Канстанцін Скірмунт атрымаў тытул камер-юнкера[411]. 10 верасня 1904 г. у Вільні на цырымоніі адкрыцця помніка Кацярыне II прысутнічалі многія вядомыя ў Краі землеўласнікі Віленскай, Ковенскай і Гарадзенскай губ.

А вось з Менскай губ. не было нікога. Справа ў тым, што Эдвард Вайніловіч склікаў таемны сход найбольш уплывовых сяброў Менскага таварыства ў кватэры сваёй сястры Ядвігі Кастравіцкай у Менску. Першым моцны і аргументаваны пратэст супраць удзелу ў адкрыцці помніка выказаў Аляксандр Скірмунт з Парэчча. Эдвард Вайніловіч яго падтрымаў, і справа была вырашана без галасавання[412]. У Менску не сталі гандляваць ідэаламі і гонарам. Для Скірмунта і Вайніловіча гэта было недапушчальна, а польская супольнасць Меншчыны не магла супрацьстаяць іх аўтарытэту.

Гэтыя падзеі яшчэ раз выявілі тую вялікую дыстанцыю, што дзяліла ўладальнікаў Моладава і Парэчча. Згадваючы пра пашыранае сярод шляхты асуджэнне парэцкіх Скірмунтаў за «спекуляцыю», трэба прызнаць, што сапраўднымі «спекулянтамі» аказаліся іх сваякі з Моладава.

Кампанія асуджэння не прымусіла сябе доўга чакаць. Асабліва рэзка асудзіла гэты ўчынак грамадскасць Каралеўства Польскага. Нават нарадзіўся тэрмін «катараняжы» як сінонім слова здраднікі.

Дамінуючым матывам гэтага вельмі непапулярнага кроку было імкненне дабіцца адмены «мураўёўскага» заканадаўства. Аднак надзеі на ўступкі расійскага ўрада спраўдзіліся толькі часткова. Паводле польскага даследчыка Лешака Яськевіча, менавіта акты «згодніцтва», у т. л. прысутнасць на віленскай цырымоніі, а таксама неаднаразовыя звароты да ўладаў спрычыніліся да з'яўлення Указа ад 12 снежня 1904 г., які наносіў моцны ўдар па «мураўёўскім» заканадаўстве. На думку даслед-

---

410 BN. Dział mikroform. Akc. 9736/3. L. Chomiński, *Pamiętniki*. T. 1, k. 153.

411 K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*, s. 30.

412 R. Skirmuntt, *Edward Woyniłłowicz. Wspomnienia 1847–1928 r. Wyd. 1931 r.,* «Słowo». 1932, Nr 3.

чыка, мемарандумы польскіх «згоднікаў» цалкам адпавядалі ўяўленням расійскай апазіцыі пра мадэрнізацыю дзяржаўнага ладу[413].

Адным з «катараняжаў» быў Канстанцін Скірмунт з Моладава, які да таго ж не адмовіўся ад тытула камер-юнкера. Надзвычай вострая крытыка на старонках польскага друку, дзе асабліва рэзка выказваліся прадстаўнікі Партыі нацыянальных дэмакратаў, прымусіла яго да пэўнага акту публічнага пакаяння.

Канстанцін Скірмунт прыехаў у Гародню да сваячкі Элізы Ажэшкі і ў яе салоне «пакаяўся» перад мясцовай польскай грамадскасцю. Ён распавёў пра матывы свайго прыезду ў Вільню і прызнаў уласную «памылку»[414]. Пісьменніца ў адказ запатрабавала ад яго на некалькі гадоў цалкам адмовіцца ад грамадскай дзейнасці і ўсялякай публічнасці. Канстанцін Скірмунт пагадзіўся. Ён адмовіўся ад кіравання Гарадзенскім таварыствам сельскай гаспадаркі. Аднак ужо ў 1906 г. прыняў удзел у выбарах у І і ІІ Дзяржаўныя Думы. Праўда, ягоная кандыдатура не была падтрымана на павятовым выбарчым сходзе ў Кобрыне. Але гэтая няўдача была часовай…

Раман Скірмунт, як і яго стрыечны брат з Моладава, даволі позна далучыўся да публічнай грамадскай дзейнасці. Доўгі час ён займаўся амаль выключна гаспадаркай маёнтка, але паступова рамкі Парэчча і Піншчыны перасталі яго задавальняць. Ён нібыта прадчуваў блізкасць перамен, якія праз некалькі гадоў ператвораць імперыю ў амаль што канстытуцыйную дзяржаву. Для Рамана Аляксандравіча прыклад бацькі з ягонай адданасцю «працы на ўласным загоне» заўсёды будзе галоўным арыенцірам. Вось толькі для сына гэтым «загонам» хутка стане ўвесь Беларуска-Літоўскі край.

---

413 L. Jaśkiewicz, *Carat i kwestja Polska na początku XX w.*, «Przegląd Historyczny». 1995. Tom LXXXVI, zeszyt 1, s. 38.

414 M. Nowak-Kiełbikowa, *Konstanty Skirmunt. Polityk i dyplomata*, s. 24–26.

## ГРАМАДЗЯНІН КРАЮ

Тэрмін «грамадзянін Краю» непарыўна звязаны з ужо згаданым феноменам ідэалогіі краёвасці, паводле якой галоўным крытэрыем нацыянальнай прыналежнасці з'яўлялася пачуццё агульнакраёвага патрыятызму[415]. Адпаведна, краёвасць звычайна тлумачыцца як варыянт ідэалогіі нацыі палітычнага тыпу. Гэтая ідэйная плынь нарадзілася ў асяродку шляхты гістарычнай Літвы. Яе ідэолагі належалі да супольнасці літоўскіх і беларускіх палякаў, якія выступалі як захавальнікі памяці пра палітычныя, канфесійныя і этнакультурныя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Прыгадваючы адзінства гістарычнага лёсу народаў былога княства, краёўцы імкнуліся захаваць тэрытарыяльную цэласнасць усяго Беларуска-Літоўскага краю.

Галоўнай мэтай краёвасці з'яўлялася прымірэнне інтарэсаў асобных мясцовых нацый з іх агульным інтарэсам, пад якім разумелася дабро супольнай Айчыны – гістарычнай Літвы. Апошняе патрабавала супрацы розных нацый на падмурку палітычнай ці грамадзянскай роўнасці. Прычым, як справядліва заўважыў Ян Юркевіч, гэтая супраца была не толькі шляхам да супольнай мэты, але таксама мэтаю самою па сабе[416]. Прыхільнікі краёвасці спадзяваліся, што краёвую ідэю атрымаецца сумясціць з мадэрновай нацыянальнай свядомасцю.

Магчыма, пашырэнню краёвасці паспрыяла г. зв. «тутэйшасць» мясцовага люду. Даследчыкі часта трактуюць яе як ніжэйшую ступень этнічнай самаідэнтыфікацыі, аднак такі погляд з'яўляецца павярхоўным. Невыпадкова, як ужо адзначалася, Канстанцыя Скірмунт па пачатку XX ст. абараняла паняцце «тутэйшасці» ад насмешак польскіх нацыянальных дэмакратаў[417]. Пра «тутэйшасць» пісаў і Юліуш Бардах: «У вёсцы, перш за ўсё беларускай, там, дзе сустракаліся розныя мовы, веравызнанні, уплывы розных культур, «тутэйшасць» азначала форму адмовы ад пэўнага выбару, нежаданне прызнаць сваю прыналежнасць да таго або іншага этнасу. Была боязь, што такі выбар можа парушыць традыцыйныя формы сумеснага жыцця і прывесці

---

[415] Больш падрабязна пра феномен краёвасці гл.: А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864-люты 1917.* Санкт-Петербург 2004; ён жа, «*Краёвая ідэя*» *ў беларускай гісторыі*. Мінск 2017 ды інш.

[416] J. Jurkiewicz, *Koncepcja krajowa a przemiany stosunków narodowościowych na Litwie i Białorusi w początkach XX w. (do 1918 r.)* (у:) *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu*…, s. 119.

[417] Futurus [Skirmuntt Konstancja], *Nasza «tutejszość»*, «Kurier Litewski». 1906, Nr 214, 22 września (1 października).




*Карта губерній Беларуска-Літоўскага краю (Бенэдыкт Хэртц).*

да канфліктаў»[418]. І сапраўды, «тутэйшасць» у пэўным сэнсе была краёвасцю «маўклівай большасці» (Арон Гурэвіч) жыхароў Беларуска-Літоўскага краю. Даследчык Алег Латышонак трапна назваў краёвасць «ідэалагізаванай тутэйшасцю». На яго думку, «тутэйшасць» можна лічыць свядомасцю, а краёвасць – светапоглядам[419].

Да ідэалагізацыі «тутэйшасці» спрычынілася актывізацыя нацыянальных працэсаў. Менавіта выбух нацыяналізму ў Беларуска-Літоўскім краі нарадзіў краёвую ідэю. На рубяжы XIX–XX ст. найбольш моцным быў літоўскі рух. Ён прапанаваў мадэрновае разуменне нацыі, ключавымі элементамі якога станавіліся мова, традыцыйная народная культура і гістарычная памяць. У мінулым засталося разуменне нацыі як палітычнай катэгорыі, што яднала прадстаўнікоў вышэйшых станаў. Найважнейшую ролю для свядомасці адыгрывала тоеснасць не гістарычна-палітычнай, а этнакультурнай (этналінгвістычнай) супольнасці. Менавіта літоўскі нацыянальны рух на пачатку XX ст. першым сфармуляваў задачу этнапалітычнага падзелу гістарычнай Літвы і Польшчы.

Польскі даследчык Збігнеў Соляк, аналізуючы біяграфію галоўнага ідэолага ліберальна-дэмакратычнага варыянта краёвай ідэі Міхала Ромэра, звярнуў увагу на ягоныя кантакты з літоўскімі нацыянальнымі арганізацыямі. Яшчэ ў гады вучобы ў Парыжы на пачатку XX ст. Ромэр наведваў пасяджэнні літоўскага тавары-

418 J. Bardach, *Polacy litewscy a inne narody Litwy historycznej. Próba analizy systemowej* (у:) *Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine. The foundations of historical and cultural traditions in East Central Europe*. Internacional Conference Rome, 28 April–6 May. Lublin-Rome 1990, s. 366.

419 O. Łatyszonek, *Krajowość i «zapadno-russizm». Tutejszość zideologizowana* (у:) *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu...*, s. 35.

ства «Želmuo», а пазней – аб'яднання літоўскіх студэнтаў «Lithuania», заснаванага Ёзасам Пятрулісам (1877–1958)[420].

Літоўскі рух, безумоўна, паўплываў таксама на пазіцыю прадстаўнікоў кансерватыўнай плыні краёвасці. Гаворка пра Рамана Скірмунта, першая кніга якога была інспіраваная якраз літоўскім нацыяналізмам, і пра Канстанцыю Скірмунт. Апошняя ў 1906 г. на старонках газеты «Кур'ер Польскі» (Nr 296) вызначыла ўласную ідэнтычнасць формулай: *Gente Lithuana, natione Lithuana*.

Вялікую ролю таксама адыграла афармленне польскага нацыянальнага руху. На пачатку XX ст. у грамадскім жыцці Беларуска-Літоўскага краю ён прысутнічаў прынамсі ў двух формах. Польскія нацыянальныя дэмакраты абвяшчалі прыярытэт польскай ідэі ў яе этнакультурным разуменні, а сацыялісты спрабавалі яе спалучыць з прывабнай сацыяльнай праграмай. У выніку прапаганды польскага нацыяналізму большасць палякаў гістарычнай Літвы паступова пачала атаясамліваць сябе з сучаснай Польшчай як у культурным, так і этнапалітычным сэнсе. Аднак даволі моцныя пазіцыі па-ранейшаму захоўвала ідэнтыфікацыя з гістарычнай Літвой, якая ўспрымалася як Айчына. Цікава, што яшчэ ў 1930 г. Міхал Ромэр у лісце да прафесара Уладзіслава Сэмковіча прызнаваўся ў прыналежнасці да «псіхічнага тыпу, які сёння ўжо вымірае, а ідэальным узорам якога быў Адам Міцкевіч, тыпу, што яднаў у сабе дзве нацыянальныя душы, і быў у такой ступені палякам, як і літоўцам, але не быў толькі палякам ці толькі літоўцам»[421]. Усё гэта якраз і дазволіла Рымантасу Мікнісу, аналізуючы актыўнасць ідэолагаў краёвасці і ступень яе пашырэння, выказаць ідэю пра працэс фарміравання «нацыі літоўскіх палякаў»[422].

На пачатку XX ст. стала відавочным як абвастрэнне польска-літоўскіх адносін, так і адсутнасць адзінства сярод польскай грамадскасці гістарычнай Літвы.

Большасць даследчыкаў сцвярджаюць існаванне двух варыянтаў краёвай ідэі – дэмакратычнага (ліберальна-дэмакратычнага) і кансерватыўнага (кансерватыўна-ліберальнага). Першы быў звязаны з выданнем «Газеты Віленьскай» (1906), фактычным кіраўніком якой быў Міхал Ромэр. Ідэолагамі кансерватыўнай плыні краёвасці з'яўляліся Раман і Канстанцыя Скірмунты, Баляслаў Ялавецкі (1843–1917).

Чым адрозніваліся гэтыя варыянты? Часам можна сустрэць меркаванне, што кансерватары ў адрозненні ад ліберальна-дэмакратычнай плыні краёўцаў былі праціўнікамі нацыянальнай эмансіпацыі літоўцаў і беларусаў. Але з гэтым тэзісам нельга пагадзіцца. Прыклад Р. Скірмунта, які ў 1907 г. спрабаваў стварыць «Краёвую партыю Літвы і Белай Русі» ў форме саюза польскай, беларускай і лі-

---

420 Z. Solak, *Między Polską a Litwą. Zycie i działalność Michała Römera 1880–1920*, s. 44–53.

421 Цыт. па: Z. Solak, *Między Polską a Litwą. Zycie i działalność Michała Römera 1880–1920*, s. 444.

422 R. Miknys, *Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w.*, «Biuletyn Historii Pogranicza». 2000, Nr 1, s. 23–29.

тоўскай партыйных арганізацый, сведчыць, што прынамсі частка прадстаўнікоў гэтага кірунку прымала нацыянальныя рухі суседніх народаў. Падобна, што сам Скірмунт быў упэўнены ў магчымасці сумяшчэння краёвай свядомасці з мадэрновым нацыяналізмам. Пра апошняе сведчыць таксама ягоны прыхільны стасунак да беларускага руху, які ўрэшце ператварыў яго ў аднаго з лідэраў гэтага руху ў 1916–1918 гг.

Краёўцы абодвух кірункаў дэманстравалі прыхільнасць і падтрымку патрабаванняў літоўскага і беларускага нацыянальных рухаў. Гэтая прыхільнасць мела розныя прычыны, але нават у дэкларатыўнай форме яна спрыяла пашырэнню талерантнасці. Праблемай было прымірэнне нацыянальнага адраджэння беларусаў і літоўцаў з захаваннем традыцыйных добрасуседскіх адносін паміж народамі гістарычнай Літвы, палітычная нейтралізацыя моўнага і канфесійнага падзелаў.

Таксама ўсе краёўцы імкнуліся да абмежавання палітычных амбіцый польскай супольнасці, пераконвалі яе ў неабходнасці ўлічваць інтарэсы беларусаў і літоўцаў. Якраз гэтым было абумоўлена іх рашучае змаганне супраць польскіх нацыянальных дэмакратаў. Менавіта Партыя польскіх нацыянальных дэмакратаў і яе галоўны ідэолаг Раман Дмоўскі (1864–1939), а не дзеячы літоўскага ці беларускага рухаў, трактаваліся краёўцамі як галоўныя праціўнікі.

Краёўцы, прымаючы сацыяльную і нацыянальную эмансіпацыю літоўцаў і беларусаў, падкрэслівалі ўласную польскасць і права на развіццё польскай культуры. Яны трактавалі паняцці нацыянальнасці і грамадзянства як камплементарныя. У адным з рэдакцыйных артыкулаў «Газеты Віленьскай» сцвярджалася: «Мы сыны польскага народу ў культурным і нацыянальным сэнсе, але ў сацыяльных, палітычных і эканамічных дзеяннях кіруемся інтарэсамі гістарычнай Літвы». Краёвая грамадскасць, якой прыпісваліся пэўныя атрыбуты палітычнай нацыі, павінна была падпарадкоўваць інтарэсы асобных нацыянальных супольнасцяў агульнакраёвым. Пры гэтым сацыяльная група літоўскіх палякаў трактавалася як адна з краёвых нацый[423].

## *Краёвасць паводле Рамана Скірмунта*

Раман Скірмунт ужо напярэдадні рэвалюцыі 1905–1907 гг. стаўся адным з галоўных ідэолагаў краёвай канцэпцыі. Біяграфія Рамана Скірмунта як «грамадзяніна Краю» распачалася выданнем у Львове (пад псеўданімам *Ro…munt*) двух брашур, прысвечаных грамадска-палітычнай і нацыянальнай сітуацыі ў Беларуска-Літоўскім краі – *Новыя лозунгі ў справе адраджэння літоўскай нацыянальнасці (Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej)*[424] *(1904),* а таксама

[423] J. Jurkiewicz, *Koncepcja krajowa a przemiany stosunków narodowościowych...*, s. 122–123.

[424] Ro…munt [R. Skirmunt]. *Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej.* Lwów 1904.



*Раман Скірмунт (1906).*

*Голас мінулага і патрэбы сучаснасці (Głos przeszłości i potrzeba chwili)* (1905)[425]. Яны ўтрымлівалі прапановы па пераадоленню крызіса «краёвага грамадства» і сталі падмуркам далейшай распрацоўкі краёвай ідэі.

Што прымусіла спадкаемцу Парэцкага маёнтка, яшчэ нядаўна цалкам пагружанага ў гаспадарчыя клопаты, выступіць публічна з уласнай пазіцыяй па актуальных праблемах жыцця Краю? І якія ідэі выказваліся ў гэтых першых «краёвых» тэкстах?

Сам аўтар на старонках брашуры «Новыя лозунгі ў справе адраджэння літоўскай нацыянальнасці» (1904) прызнаваўся, што ягоны публічны выступ быў абумоўлены крызісам «літоўскай» (ліцвінскай) грамадскасці, якая аказалася негатовай адказаць на нацыянальныя і сацыяльныя выклікі новай эпохі. Між тым, вырашэнне праблемы «адзінства нацыі» сталася жыццёва важнай справай: «Сфінкс гісторыі загадаў нам сваю загадку зусім нядаўна, а Эдыпа, які здольны разгадваць загадкі сфінкса, звычайна трэба доўга чакаць. Зрэшты, шляхціч-земляроб, заняты працай на зямлі, не мае асаблівага жадання ламаць галаву над падобнымі загадкамі, ён іх папросту ігнаруе. Але сфінкс забівае і тых, каго не цікавяць яго загадкі»[426].

Праявы крызіса Раман Скірмунт убачыў у канфлікце паміж «младаліцвінамі» і польскамоўнай літоўскай шляхтай («стараліцвінамі»). Гэты канфлікт увасобіўся ў публічную палеміку паміж ксяндзом Аляксандрасам Дамбраўскасам[427], аўтарам звароту *Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie* (1902) і ананімным аўтарам брашуры *Przenigdy! Odpowiedź na «Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie»*[428] *(1903).*

З тэксту відаць, як моцна *Ro…munt* усхваляваны канфліктам, наступствам якога магло стаць «разбурэнне адзінства літоўскай грамадскасці», што пашкодзіла б дасягненню галоўнай мэты, якая, на думку аўтара, стаяла перад УСІМІ гістарычнымі літоўцамі (ліцвінамі), а менавіта барацьбе з русіфікацыяй. У адзінстве гэтай літоўскай (ліцвінскай) грамадскасці Раман Скірмунт бачыў шлях да абароны

---

425 Ro…munt [R. Skirmunt]. *Głos przeszłości i potrzeba chwili.* Lwów 1905.

426 Ro…munt [R. Skirmunt], *Nowe hasła w sprawie odrodzenia…*, s. 15.

427 [A. Dambrauskas], *Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie*. [Tylza?] 1902.

428 B. a. *Przenigdy! Odpowiedź na «Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie»*, Kraków 1903. (Польскія гісторыкі Ян Юркевіч і Пётр Ласоўскі шукалі аўтара гэтага тэксту сярод прадстаўнікоў маладзейшага пакалення роду Мэйштовічаў).

«заходняй культуры». Пры гэтым аўтар зыходзіў з пастулата адзінства літоўцаў (ліцвінаў) незалежна ад паходжання (шляхецкага або сялянскага) і культурнай ці моўнай прыналежнасці. У брашуры выразна прысутнічала палітычная трактоўка паняцця «літоўская грамадскасць».

Першасным адрасатам публікацыі з'яўлялася шляхта. Раман Скірмунт пазітыўна ацэньваў літоўскі нацыянальна-культурны рух, сцвярджаючы, што толькі пашырэнне літоўскай культуры дазволіць дайсці да «сэрца люду» і зрабіць з яго саюзніка палякаў у цывілізацыйным змаганні з Усходам. Ён нават параўнаў ролю мадэрновай літоўскасці з колішняй польскасцю: «Як некалі польскасць [...] была паратункам ад асіміляцыі на карысць Белай Русі, так зараз толькі асвета ў роднай мове можа даць народу неабходную мужнасць і здольнасць абараніцца ад расійскай хвалі»[429].

Але паступова на старонках брашуры з'яўляецца і другі матыў аўтара, які даводзіць чытачу-шляхціцу, што літоўскі рух усё роўна «не стрымаць»[430], што толькі прызнанне права на свабоднае развіццё літоўскай нацыі, у т. л. на асвету па-літоўску, адкрывае шлях да паразумення ў дзвюх найважнейшых праблемах, а менавіта ў праблеме сучаснага стаўлення Літвы да Польшчы, а таксама ў праблеме развіцця адносін паміж польскамоўнымі і літоўскамоўнымі літоўцамі (ліцвінамі). У гэтым месцы Раман Скірмунт звяртаўся ўжо да «младаліцвінаў», сцвярджаючы, што адсутнасць такога паразумення будзе моцнай перашкодай на шляху літоўскага нацыянальнага Адраджэння. Аўтар крытыкаваў пазіцыю, выказаную ксяндзом А. Дамбраўскасам, і заяўляў, што «літоўцы маюць толькі аднаго натуральнага саюзніка – Польшчу». Лозунг «Палякі – гэта чужынцы» ён назваў «тупіковым»[431].

У другой частцы брашуры аўтар перастаў быць бесстароннім назіральнікам і прамаўляў ужо ад імя «літоўскай шляхты». Ён пачаў атаясамліваць сябе са шляхтай і землеўласнікамі і заявіў пра неабходнасць выпрацоўкі «палітычнай праграмы», якая павінна ўлічваць не толькі гістарычную традыцыю польска-літоўскага «згоднага гарманічнага сужыцця» («Польшча ніколі не пагражала этнаграфічнай Літве...»[432]), але і патрабаванні сучаснасці. Пад апошнімі аўтар разумеў важнасць паразумення з народам, які ў XIX ст. стаўся галоўным чыннікам гістарычнага развіцця.

Апошняя частка брашуры – гэта спроба выкласці пэўныя ідэйныя падставы новай палітычнай праграмы. У брашуры яшчэ не ўжываліся тэрміны «краёвасць» ці «краёвая ідэя», але ўжо прысутнічалі некаторыя з характэрных для краёвасці пастулатаў.

---

429 Ro…munt [R. Skirmunt], *Nowe hasła w sprawie odrodzenia*…, s. 7.
430 Ibidem.
431 Ibidem, s. 13.
432 Ibidem, s. 12.

Так, Р. Скірмунт сцвярджаў, што польскамоўная шляхта не з'яўляецца для Літвы «прышлым элементам», што яна належыць да карэннага насельніцтва і мае агульнае паходжанне з «навакольным людам»: «Адзіная кроў і адзінае паходжанне – адна маці-зямля спрадвеку»[433]. Менавіта гэты чыннік (агульнасць паходжання і крыві ці «братэрства») Скірмунт лічыў зыходным пунктам у выпрацоўцы культурнай праграмы мясцовай шляхты, якая павінна ўзгадаць пра свае абавязкі адносна «братэрскага» народу. Абавязкам шляхціча-літоўца (ліцвіна) аўтар лічыў удзел у літоўскім нацыянальным Адраджэнні і клопат пра захаванне польскай культуры. Пра перспектыўнасць падобнай пазіцыі, на яго думку, сведчылі прыклады Швейцарыі і Шатландыі. Ён сцвярджаў, што моладзь павінна ведаць польскую і літоўскую мовы і мець права на самастойнае вызначэнне ролі літоўскай мовы ў прыватным жыцці.

Аўтар надаваў вялікае значэнне пашырэнню «лакальнага патрыятызму», які моцна аслабеў падчас апошняга паўстання. *Ро…мунт* быў пэўны, што яднанне ўсіх элементаў літоўскага (ліцвінскага) грамадства павінна адбывацца «на падмурку любові да роднай зямлі, якая з'яўляецца галоўным сродкам жыцця як для селяніна, так і для шляхціча»[434]. Гэта і было галоўным новым лозунгам у справе Адраджэння літоўскай нацыі, які Раман Скірмунт імкнуўся данесці да свайго чытача.

У тэксце відавочная спроба Рамана Скірмунта знівеляваць сацыяльныя і культурныя адрозненні паміж польскамоўнай шляхтай і літоўскамоўным сялянствам і пераканаць абодва бакі канфлікту ў адзінстве «літоўскай грамадскасці» (пазней ён будзе пісаць пра адзінства «краёвай грамадскасці»), што грунтуецца на падмурку агульнага паходжання, агульнай крыві і любові да роднай зямлі.

Што найбольш хвалюе аўтара? Лёс Айчыны, якая атаясамліваецца з тэрыторыяй былога Вялікага Княства Літоўскага (не з «Каронай»!), ці лёс польскамоўнай літоўскай шляхты, да якой належыць сам аўтар?

І тут трэба звярнуць увагу на той вобраз ворага, які намаляваў Раман Скірмунт у сваёй публіцыстыцы. Гэта, у першую чаргу, расійскі ўрад і палітыка русіфікацыі, а таксама мадэрновыя нацыянальныя рухі як пагроза пэўнай традыцыі. Апрача таго, аўтар невыпадкова прыгадаў г. зв. крызіс «лакальнага патрыятызму» падчас Студзеньскага паўстання (мелася на ўвазе пазіцыя сялянства) і выказаў думку, што ў XIX ст. менавіта народ становіцца чыннікам гістарычнага развіцця. З гэтым трэба лічыцца. Прынамсі, не выпадае ігнараваць.

На першым плане для аўтара стаяла пагроза адзінству «літоўскай грамадскасці». Яго найбольш хваляваў лёс таго сацыяльнага слою, да якога сам належаў, а менавіта польскамоўнай шляхты. Але не варта трактаваць гэты выступ як толькі клопат пра

433 Ibidem, s. 14. (Больш грунтоўна гэты тэзіс быў раскрыты Б. Ялавецкім у *Нацыянальным катэхізісе Літвы* (Вільня, 1905)).

434 Ibidem, s. 18.

лёс уласнага маёнтка, у чым пазней будуць вінаваціць краёўцаў кансерватыўнага кірунку лібералы і сацыялісты. Усё ж літоўскія і беларускія палякі трактаваліся аўтарам як галоўны аплот «заходняй культуры» і гарант захавання традыцый гістарычнай Літвы.

І яшчэ адзін момант падаецца важным. Характарызуючы асаблівасці польска-літоўска-беларускіх стасункаў, Р. Скірмунт сцвярджаў, што менавіта польскасць выратавала «сапраўдную Літву» ад асіміляцыі з боку «Белай Русі» (аўтар пісаў пра «беларускае мора»), якая паглынала яе з усходу, поўначы і поўдня[435]. Упершыню ў польскамоўнай публіцыстыцы «Белая Русь» і беларусы разглядаліся як істотны фактар гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

Якой была рэакцыя мясцовай польскай эліты на з'яўленне гэтай брашуры? Карэспандэнт газеты «Край», які падпісаўся крыптанімам *А. С.*, увесну 1905 г. прааналізаваў дыскусію, справакаваную выступам ксяндза Дамбраўскаса. Брашуру Скірмунта аўтар гэтага агляду змясціў у адзін шэраг з зваротам «маладога літоўскага шляхціча» *Przenigdy* і публікацыяй Канстанцыі Скірмунт *O prawde i zgode z powodu Głosu Litwinów…* (1904).

Аўтар агляду адзначыў перакананне *Ромунта*, што праграма дзейнасці польскамоўных ліцвінаў павінна ўлічваць тую выключную ролю, якую яны адыгрывалі ў гісторыі Літвы. Літоўскія палякі не павінны разрываць духоўнай сувязі з «польскай цывілізацыяй» і адмаўляцца ад польскай мовы, якой карысталіся іх продкі, але адначасна яны абавязаны любіць літоўскі народ і яго мову, клапаціцца пра яго развіццё. Сумяшчэнне аднаго і другога будзе падставай для польска-літоўскага паразумення, а праблему мовы хатняга ўжытку будуць вырашаць ужо будучыя пакаленні. Гэтую пазіцыю аглядальнік «Краю» лічыў яснай і выразнай[436].

Брашура «Голас мінулага і патрэбы сучаснасці» (1905) пісалася ўжо пад уплывам тых палітычных перамен, што адбыліся на пачатку Першай расійскай рэвалюцыі. Ідэі, выказаныя ў 1904 г., даводзілася адстойваць у палеміцы не столькі з расійскім урадам, колькі з польскімі нацыянальнымі дэмакратамі і з «імпартаванай грамадска-палітычнай думкай […], што вырастала на іншай глебе, у чужых для нас умовах»[437].

Аўтар быў праціўнікам гэтага «імпарту», сцвярджаючы, што Край паміж Дняпром і Віслай мае ўласную гісторыю і ўласныя традыцыі. Толькі абапіраючыся на іх можна знайсці адказы на галоўныя пытанні сучаснасці: якую пазіцыю павінна займаць «шляхта Літвы і Русі» ва ўласным Краі? Якія адносіны трэба выбудоўваць з уласным народам, а таксама з Расіяй і з Польшчай?

Скірмунт, характарызуючы настроі шляхты, заўважыў, што «апрача людзей, якія ўсёй сілай уласных пачуццяў імкнуцца да «сваёй Радзімы» – Польскага

[435] Ibidem, s. 7.
[436] A. C., *Spór o szlachtą litewską,* «Kraj». 1905, Nr 18.
[437] Ro…munt [R. Skirmunt], *Głos przeszłości i potrzeba chwili*, s. 7.

каралеўства, і асоб, што прагнуць расійскай пяшчоты, сярод шляхты ёсць паважная група людзей, сэрцам і душою адданых справам сваёй «малой Айчыны» – Літвы ці Русі»[438].

Раман Скірмунт у гэтай працы шмат увагі надаў мінуламу. Менавіта там ён знаходзіў асноўныя аргументы. «Голас мінулага...» – гэта пераважна гістарычны нарыс. Ніколі пазней у публіцыстыцы Рамана Скірмунта гісторыя не будзе займаць такое значнае месца.

Шукаючы ў мінулым адказ на пастаўленыя пытанні, *Ромунт* сцвярджаў, што «з Польшчы пралілося на Літву спрадвечнае святло веры, […] святло заходняй культуры, якая магла толькі ўмацаваць нашу адвечную любоў да вольнасці»[439]. А вось стасункі з Масквой абмежаваліся войнамі: «Узаемная разня была іх зместам. Бедствы і спусташэнні – іх наступствам»[440].

Галоўнае пасланне аўтара свайму чытачу заключалася ў сцвярджэнні, што «Літва і Русь» не з’яўляецца часткай ні Расіі, ні Польшчы, што гэта адметны Край, характар якога ўжо вызначае не шляхта, а народ (люд). Польскасць мае правы на гістарычнае існаванне ў ім, але шляхта павінна працаваць не дзеля Польшчы, а дзеля «Літвы і Русі»: «Сёння ўжо ніхто не можа атаясамляць наш край з Каралеўствам Польскім. Не шляхта і нешматлікая інтэлігенцыя, а люд надае колеры краёваму сцягу. […] Наша культурная лучнасць з Польшчай мае паважную духоўную гісторыю, нас злучаюць сардэчныя стасункі, але нашая родная зямля, спрадвечная Айчына, для якой мы працуем і для якой з Божай дапамогай і наступныя пакаленні будуць працаваць – гэта Літва або Русь з ушанаваннем даўняй братняй уніі з Польшчай»[441].

Аўтар крытыкаваў пазіцыю польскай нацыянальнай дэмакратыі, якая, на яго думку, павінна дзейнічаць на карэнных польскіх землях, а «на сенажацях Літвы і Русі яна ператвараецца ў антынацыянальную арыстакратыю, бо чым жа іншым можа быць гэтая жменька шляхты, пазіцыя якой прывядзе да сацыяльнага і нацыянальнага антаганізму з мясцовым людам?»[442]

Паводле аўтара, шляхта «Літвы і Русі» павінна катэгарычна адкінуць лозунгі, якія прыходзяць з-над Віслы і падтрымаць літоўцаў і «русінаў» у іх нацыянальным адраджэнні. «Гэта складана зрабіць, гэты шлях стромкі, невядомы, цярністы, – адзначаў аўтар. – Тут актыўнасць на грамадскім поле – змаганне. Хто ідзе абараняць добрую справу, той не шукае асабістай карысці. Не здабудзе яе і той, хто абярэ гэтую стромкую і цярністую дарогу. Сепаратысты з-над Віслы выракуцца нас, младаліцвінаў ці русінаў. Неаднакроць мы застанемся незразумелымі, але

[438] Ibidem, s. 9.
[439] Ibidem.
[440] Ibidem, s. 14.
[441] Ibidem, s. 29–30.
[442] Ibidem, s. 32.

пракладзем шлях будучым пакаленням!»[443]. Кожны з нас, – працягваў думку Скірмунт, – паляк, літовец або русін – стане мацнейшым, змагаючыся пад сцягам справядлівасці для ўсіх, а не працуючы на эгаістычныя лозунгі. Гэта цалкам адпавядае традыцыям Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, якія пакінулі нам лозунг павагі да нацый[444].

Аўтар выступаў як прадстаўнік шляхты «Літвы і Русі». Але важна адзначыць, што якраз «Русі» Раман Скірмунт удзяляў асноўную ўвагу ў сваім гістарычным экскурсе. Ён лакалізаваў «Русь» у міжрэччы Прыпяці, Дзвіны і Дняпра, г. зн., што размова ішла пра Беларусь.

Вялікае значэнне *Ромунт* надаваў тлумачэнню адрозненняў гістарычнай Русі ад тагачаснай Расіі. Ён звярнуўся да пачатковага перыяду гісторыі рэгіёну. Ужо ўзнікненне «Уладзіміра-Маскоўскай дзяржавы», паводле публіцыста, прынцыпова адрознівалася ад гісторыі іншых славянскіх дзяржаў. Яе падмуркі заклаў яшчэ князь Андрэй Багалюбскі, «аўтакрат і дэспат, чужы і варожы сэрцам і розумам Заходняй Русі». Менавіта ён жорстка знішчыў Кіеў у 1169 г., апярэдзіўшы хана Батыя[445]. Татарскае нашэсце было моцным ударам па гэтай дзяржаве, але яна яго вытрымала і паступова пачала адраджацца. Вялікае Княства Маскоўскае пераймала традыцыі дзяржаўнага кіравання ад Залатой Арды («Карміцца і набіраецца моцы ад татарскай грудзі...»[446]). Пасля вызвалення з-пад татарскай няволі Масква адразу пачала ўласныя заваёвы ў заходнім напрамку (Іван III). У выніку на працягу стагоддзяў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Масквой адбываліся крывавыя войны.

Зусім па-іншаму ўяўляў Раман Скірмунт гісторыю «сапраўднай Русі». Яе пачатак – палітыка галіцка-валынскіх князёў, якую працягвалі літоўскія князі. Так, Міндоўг пачаў, а Гедымін і Альгерд закончылі аб’яднанне Русі ў межах Вялікага Княства, якое ў 1386 г. злучылася ўніяй з Польшчай.

*Ромунт* быў пэўны, што «сужыццё параднёных гісторыяй літоўцаў і русінаў было бесканфліктным»[447]. Літоўскія ваяры і палітыкі не аказвалі нацыянальнага ўціску. Наадварот, яны самі траплялі пад асіміляцыйныя ўплывы з боку русінаў. Апошнія дамінавалі пры двары князя Альгерда. На ўвядзенне пэўных прывілеяў для каталіцкай шляхты русіны адказалі паўстаннем, якое прымусіла Ягайлу ўраўнаць іх у правах.

Мова русінаў, паводле Скірмунта, на працягу трох стагоддзяў (да канца XVII ст.) была мовай Вялікага Княства Літоўскага. Яна была пашырана сярод насельніцтва ВКЛ паўсюдна, дзе русіны кантактавалі з літоўцамі. Не польская, а «русінская

443 Ibidem, s. 34–35.
444 Ibidem, s. 32.
445 Ibidem, s. 11.
446 Ibidem, s. 12.
447 Ibidem, s. 16.

мова» выцясніла літоўскую нават з хатняга ўжытку вядомых літоўскіх родаў. Ёю карысталіся нават дзеці Казіміра Ягелончыка, – сцвярджаў аўтар[448].

Русіны разам з палякамі і літоўцамі пралівалі кроў, баронячы агульную Айчыну. Толькі канфесійныя праблемы пры Жыгімонце III і казацкія бунты пры Яне Казіміры карэнным чынам змянілі становішча русінаў. Расія ж адразу паспрабавала гэта выкарыстаць у барацьбе супраць Рэчы Паспалітай.

Памяць пра мінуўшчыну Вялікага Княства Літоўскага для Рамана Скірмунта – гэта памяць адзінства трох народаў у абароне Радзімы. Аснова адзінства – роўнасць гэтых народаў незалежна ад узроўню іх матэрыяльнага і культурнага жыцця. У выніку «інтэлектуальныя і сардэчныя сувязі і сёння збліжаюць Літву і Русь з Польшчай. Захавалася гістарычнае братэрства...»[449]

Скірмунт лічыў памылковым меркаванне, што русіны – нібыта чужы для шляхты народ, з якім яе нічога не звязвае: «Нас яднае з імі агульная гісторыя самых далёкіх стагоддзяў, а таксама адзінства крыві і паходжання». Моўныя адрозненні, на яго думку, не адыгрывалі істотнай ролі[450].

Відавочна, што асаблівасцю ягонай трактоўкі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага з'яўлялася прысутнасць Русі і яе дамінаванне ў пэўны перыяд. Русь, якую аўтар атаясамліваў з беларускімі землямі, дамінавала ў культурным жыцці і актыўна ўплывала на ўнутраную і знешнюю палітыку гістарычнай Літвы. У брашуры Скірмунта «русінскі чыннік» станавіўся важным элементам ліцвінскай традыцыі.

Калі аналізаваць вобразы Літвы і Русі ў ранніх тэкстах Рамана Скірмунта з пазіцыі канцэпцыі «месцаў памяці» французскага даследчыка П'ера Нара, то, як ні дзіўна гэта будзе для краёўца, на першым месцы аказвалася мова русінаў. Скірмунт пісаў пра яе як пра «мову ўлады» (Статуты Княства ды інш.), адзначаў яе дамінаванне пры двары вялікага князя Альгерда, а таксама ў сем'ях магнацкіх родаў Літвы і г. д.

Аўтар імкнуўся ў пэўным сэнсе вярнуць Русь у Вялікае Княства Літоўскае. Ён абвяргаў расійскіх гісторыкаў і палітыкаў, якія даказвалі тоеснасць старажытнай Русі і Расіі і разыгрывалі «русінскую/рускую карту», каб на свой бок перацягнуць мясцовае праваслаўнае насельніцтва.

Варта адзначыць, што ў палітычнай частцы канцэпцыі Р. Скірмунта «Русь» паступова ператваралася ў Белую Русь або Беларусь (1906). Яе канчатковае пераўтварэнне адбылося ўжо не ў ягоных тэарэтычных працах, а ў практычнай палітычнай дзейнасці. Але гэта будзе трохі пазней...

З'яўленне аналізаваных тэкстаў было выклікана абвастрэннем польска-літоўскіх стасункаў на ўзроўні эліты літоўскай нацыі і мясцовай польскамоўнай

448 Ibidem, s. 16.
449 Ibidem, s. 19.
450 Ibidem, s. 35.

шляхты, а таксама складанай нацыянальна-культурнай і палітычнай сітуацыяй. Асаблівую ролю ў абвастрэнні міжнацыянальных стасункаў адыгрываў расійскі ўрад, які ўжо падчас рэвалюцыі 1905–1907 гг. пачаў праводзіць палітыку «падзяляй і пануй».

Іншым заўважальным матывам публічнага выступу Рамана Скірмунта стала ўсведамленне новай гістарычнай ролі ніжэйшых колаў грамадства. Ён быў перакананы, што народ (люд) ператвараецца ў рашаючы фактар развіцця гістарычнай Літвы. А гэта патрабавала выпрацоўкі пэўнай палітычнай праграмы дзейнасці польскамоўнай шляхты.

У гэтых першых тэкстах былі выказаныя наступныя ідэі канцэпцыі краёвасці:

● Ідэя супольнага («краёвага») грамадзянства як згоднага сужыцця розных нацый у Літве.

● Ідэя агульнага паходжання шляхты і сялянства (асабліва папулярная ў кансерватыўным варыянце краёвасці), кроўнае сваяцтва, «братэрства» шляхты і народу (люду).

● Ідэя «лакальнага патрыятызму», любові да Краю, да роднай зямлі як падмурку краёвага грамадзянства.

● Дапаўненне феномена «ліцвінства» чыннікам «Русі» (пазней «Белай Русі»).

Варта таксама адзначыць пэўныя аўтарскія разважанні наконт сутнасці і метадаў палітычнай дзейнасці, якія прысутнічалі ў брашуры «Голас мінулага…» і, магчыма, былі выкліканы ўдзелам прадстаўнікоў эліты літоўскіх і беларускіх палякаў у адкрыцці помніка Кацярыне II у Вільні. Так, Скірмунт катэгарычна аспрэчваў тэзіс, што «ў палітыцы няма годнасці»: «Дазволіць біць сябе ў твар, нават за добрае ўзнагароджанне, лічу вялізнай памылкай, таксама як адмову ад уласных прынцыпаў дзеля таго, каб спадабацца праціўніку»[451]. У іншым месцы ён працягваў думку: «У палітыцы трэба імкнуцца да дасягнення найвялікшай рэальнай карысці, не забываючыся пра нацыянальную годнасць. Яе абарона павінна заставацца краевугольным каменем у падмурку палітыкі. Імкненне атрымаць рэальную выгоду, спалучанае з адмовай ад уласнай годнасці можа быць добрым падчас… выпасу свіней, але не ў палітыцы»[452].

Выказаныя ў «Голасе мінулага…» думкі вартыя ўвагі, бо Скірмунт імкнуўся ім следаваць на працягу ўсёй сваёй грамадскай і палітычнай дзейнасці, што далёка не заўсёды гарантавала дасягненне «рэальнай карысці».

Што было прычынай пераўтварэння прадпрымальніка ў грамадскага дзеяча і палітыка, аднаго з аўтараў арыгінальнай палітычнай канцэпцыі? Верагодна, важную ролю адыграла адчуванне блізкасці перамен ды іх пачатак у 1905 г. У гэты час «палескі фармат» ужо здаваўся недастатковым. Ягоны інтарэс канцэнтраваўся

---

[451] Ibidem, s. 25.
[452] Ibidem, s. 26.

вакол ўсяго *Краю*, пад якім разумеўся абшар былога Вялікага Княства Літоўскага (пасля Люблінскай уніі).

Знойдзеныя біяграфічныя матэрыялы гавораць пра Рамана Скірмунта як пра асобу з вельмі высокай ступенню адказнасці за тое, што адбываецца вакол. Гэта датычыла як роду Скірмунтаў, так і Палесся, усёй гістарычнай Літвы, і, нарэшце, нават будучыні «заходняй культуры» ў гэтай частцы Еўропы. Магчыма, менавіта гэтае адчуванне асабістай адказнасці і падштурхнула Рамана Скірмунта да «краёвай дзейнасці». Тым больш, што апрача Канстанцыі Скірмунт, якая ў вялікай ступені падзяляла ягоны клопат і сама пашырала краёвую ідэю, былі таксама іншыя прадстаўнікі роду, якія не прымалі краёвасць.

Так, Скірмунты з Моладава належалі да той часткі літоўскіх і беларускіх палякаў, якія вельмі насцярожана сустрэлі нацыянальныя рухі і працэсы лібералізацыі грамадскага і палітычнага жыцця. Яны рабілі стаўку на Польшчу, якую атаясамлівалі з Рэччу Паспалітай. Канстанцыя Скірмунт звязвала лёс Краю з Літвой не толькі гістарычнай, але і «этнаграфічнай», а ўладальнік Парэчча сцвярджаў значную ролю «Русі-Беларусі» як у гісторыі, так і ў будучыні Краю. Відавочна, што сярод прадстаўнікоў палескай галіны Скірмунтаў мела месца сямейная дыскусія, і, магчыма, першы публічны выступ Рамана Скірмунта ў пэўным сэнсе быў адным з «галасоў» гэтай палемікі.

Можна выказаць меркаванне, што для Рамана Скірмунта, як, дарэчы, і для Міхала Ромэра, які трохі пазней (1906) выступіць з канцэпцыяй ліберальна-дэмакратычнага варыянта краёвасці, надзвычай важнымі аказаліся асабістыя матывы першых публічных выступаў. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што краёвасць Міхала Ромэра была непасрэдна звязана з праблемай ягонай самаідэнтычнасці. З іншага боку, прысутнасць гэтых асабістых матываў у дзейнасці піянераў краёвай ідэі рабіла ўсю канцэпцыю больш зразумелай і прывабнай для значнай часткі мясцовых палякаў.

Таксама можна выказаць меркаванне, што асобай, якая інспіравала грамадскую і палітычную дзейнасць Рамана Скірмунта як краёўца, магла быць стрыечная сястра Канстанцыя. У некралогу на яе смерць Раман Скірмунт адзначыў тое вялікае замілаванне да Літвы, якое яна пранесла праз усё жыццё[453]. Ён сцвярджаў, што вывучэнне гісторыі Літвы было справай яе жыцця і прыгадаў напісаны яшчэ ў 1880-я гг. падручнік па яе гісторыі[454]. Таксама варта прыгадаць тры кнігі Канстанцыі пад агульнай назвай *Nad Niemnem i Bałtykiem* (1879–1909). Яна ж у адным з лістоў да Ёнаса Басанавічуса (25 верасня 1891 г.) пісала пра два тыпы літоўскасці – «этнічны» і «гістарычны» і сцвярджала, што галоўнай задачай іх пакалення з'яўляецца збліжэнне гэтых тыпаў і нейтралізацыя антаганізму паміж імі[455].

---

453 R. Skirmuntt, *Panie z Muru*, «Słowo». 1934, Nr 134.
454 K. Skirmuntt, *Dzieje Litwy opowiedziane w zarysie.* Kraków 1886.
455 D. Szpoper, *Gente Lithuana, natione Lithuana…*, s. 139.

Магчыма, што многія ідэі першага тэксту Скірмунта нарадзіліся ў разважаннях над кнігамі Канстанцыі Скірмунт або ў размовах ці спрэчках з ёю ці з больш шырокім колам сяброў і сваякоў.

Пры гэтым аналіз публіцыстыкі 1904–1906 гг. сведчыць пра самастойнасць «краёвай канцэпцыі» Рамана Скірмунта. Дастаткова параўнаць змест аналізаванага тэксту Скірмунта з брашурай Канстанцыі Скірмунт *O prawdę i zgodę z powodu «Głosu Litwinów do magnatów, obywateli i szlachty na Litwie» i odpowiedzi młodego szlachcica litewskiego* (*Пра праўду і згоду з нагоды Голаса літоўцаў да магнатаў, грамадзянаў і шляхты Літвы і адказу маладога літоўскага шляхціча*) (1904)[456].

У адрозненні ад сястры Раман Скірмунт падкрэсліваў важнасць «русінскага чынніка» ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта Русь ён лічыў галоўным цывілізацыйным элементам у гісторыі Княства да Люблінскай уніі.[457] У значна большай ступені публіцыст з Парэчча ўлічваў дэмакратычныя перамены часу і быў гатовы іх прыняць.

Пашырэнню краёвай ідэі моцна паспрыялі рэвалюцыйныя падзеі і тыя ўступкі, на якія быў вымушаны пайсці царызм. Вялікае значэнне меў Маніфест ад 17 Кастрычніка 1905 г., які абвяшчаў увядзенне асноўных дэмакратычных свабод, а таксама выбары і дзейнасць Дзяржаўнай Думы. Гэтыя перамены спрыялі пераўтварэнню краёвасці ў палітычную праграму літоўскіх і беларускіх палякаў.

У лістападзе 1905 г. Раман Скірмунт як прадстаўнік «Часовага камітэта прыхільнікаў Краёвага кола» выступіў з ідэяй стварэння «Краёвай партыі Літвы і Русі» і прапанаваў праграму сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурных рэформ. На ягоную думку, Край, які мае ўласныя інтарэсы, павінен навучыцца іх самастойна бараніць, а дзеля гэтага неабходна агульнакраёвая партыя.

Паводле Скірмунта, «край з такой слаўнай гісторыяй і нацыянальнай адметнасцю, край, што ў мінулым быў радзімай шматлікіх славутых постацей, якія служылі яму з поўным самаахвяраваннем, і сёння знойдзе сярод сваіх сыноў людзей, гатовых выкарыстаць атрыманую палітычную свабоду дзеля агульнага дабра на шляху сумленнай і настойлівай працы».

У агульных палажэннях прапанаваная праграма паўтарала асноўныя задачы дзейнасці Менскага таварыства сельскай гаспадаркі, якое падчас рэвалюцыі дапоўніла ўласную праграму гаспадарчай дзейнасці палітычнымі пастулатамі. Яна ўключала патрабаванне рэальных грамадзянскіх і палітычных свабод, недатыкальнасць жытла і асобы, роўнасць усіх перад законам, а таксама ўвядзення школы на роднай мове і агульнадаступнай бясплатнай пачатковай адукацыі. Таксама прадугледжвалася адмена пашпартоў і ліквідацыя рысы аселасці для габрэйскага насельніцтва. Вялікае значэнне надавалася ўвядзенню самакіравання, пашырэн-

---

456 Futurus [K. Skirmuntt], *O prawdę i zgodę z powodu «Głosu Litwinów do magnatów, obywateli i szlachty na Litwie» i odpowiedzi młodego szlachcica litewskiego*. Lwów 1904.

457 Ro…munt [R. Skirmuntt], *Głos przeszłości i potrzeba chwili*, Lwów 1905.

ню жаночых правоў, уздыму матэрыяльнага дабрабыту. Краёвая партыя абяцала змагацца за роўнасць сялянства з іншымі саслоўямі. Важнай задачай з'яўлялася дапамога беззямельным і малазямельным сялянам у набыцці зямлі шляхам дзяржаўнага крэдытавання, паляпшэння культуры землекарыстання, правядзення меліярацыі, удасканалення працы земскіх устаноў. Таксама Краёвая партыя заяўляла, што будзе стаяць «на падмурку расійскай дзяржаўнасці», і выказвала спадзеў на яе паступовае рэфармаванне ў кірунку пашырэння палітычных свабод. Прадугледжвалася пераўтварэнне Дзяржаўнай Рады ў выбарны орган кіравання.

На гэтым пералік агульных прынцыпаў дзейнасці завяршаўся. У другой частцы звароту ўтрымліваліся канкрэтныя прапановы па партыйнай дзейнасці на бліжэйшы час. Гаворка ішла пра шляхі рэалізацыі краёвай ідэі, прапанаваныя Раманам Скірмунтам.

*ДАКУМЕНТ*

**Зварот Краёвай партыі Літвы і Русі. 1905 г.[458] Фрагмент.**

*Дзеля акрэслення нашага стаўлення з аднаго боку да Расійскай дзяржавы, а з другога да нашай малой радзімы прапануем наступныя тэзісы:*

*I. Стаім на падмурку расійскай дзяржаўнасці, спадзеючыся на далейшае паспяховае развіццё палітычных і канстытуцыйных свабод, пашырэнне агульначалавечых правоў;*

*II. Будзем падтрымліваць расійскіх дзеячаў у іх намаганнях па рэфармаванні дзяржаўнага ладу ў духу талерантнасці, свабоды, парадку і прагрэсу.*

*III. У сувязі з негатыўнымі наступствамі празмернай цэнтралізацыі кіравання і звычайным у гэтых умовах забыццём адметных інтарэсаў крэсаў, лічым адным з найважнейшых палажэнняў нашай праграмы ўвядзенне органаў самакіравання.*

*IV. Як спрадвечныя дзеці свайго краю імкнёмся ўсе свае сілы аддаць дзеля яго. Найлепшай формай абароны нацыянальных правоў у краі са змяшаным насельніцтвам з'яўляецца лозунг «Справядлівасць для ўсіх», які мы і выбіраем.*

*V. Уступленне ў Краёвую партыю магчымае для ўсіх прадстаўнікоў карэннага насельніцтва (літоўцаў, палякаў, русінаў), наогул для грамадзян, якіх з гэтаю зямлёю, як з Айчынай, звязваюць сардэчныя стасункі і якія імкнуцца шчыра і сумленна працаваць дзеля яе дабра.*

*VI. Нашы абранцы ў Дзяржаўнай Думе павінны імкнуцца да арганізацыі асобнага Краёвага Кола Літвы і Русі. Мы выступаем супраць навязвання ім мандатаў, якія б абмяжоўвалі свабоду дзеянняў. Апошняя будзе залежаць ад абставін і камбінацый, якія немагчыма прадбачыць на перадвыбарчых сходах.*

*VII. Уздымаючы лозунг агульнага росквіту краю, не будем перашкаджаць кожнай сумленнай культурна-нацыянальнай працы.*

---

458 R. Skirmunt, *Odezwa Stronnictwa Krajowego Litwy i Rusi*, «Kurier Litewski». 1905, Nr 65.

*VIII. Як дэмакратычная партыя прызнаем, што характар і назву краю надае большасць насельніцтва, а г. зн. надае люд (літоўцы і русіны). Прызнаем, што культурныя патрэбы люду ў мінулым былі цалкам занядбаныя і сёння патрабуюць ад нас асаблівай увагі і клопату. З іншага боку, правы польскай меншасці, якая займае ў Літве і Русі лёсавызначальнае становішча, павінны быць забяспечаны.*

*Грунтуючыся на прынцыпах хрысціянскай этыкі і на гісторыі Літвы і Белай Русі, не абцяжаранай вострымі нацыяльнымі сутыкненнямі, верым, што падобнае мірнае супрацоўніцтва нацыянальнасцяў цалкам магчымае і для нашага краю найбольш адпаведнае.*

*Мы перакананыя, што паміж шляхтай карэннай або ад вякоў аселай на нашых землях і мясцовым людам павінна і можа панаваць поўная згода ў грамадскай і палітычнай працы дзеля дабра супольнай Айчыны.*

*Часовы камітэт прыхільнікаў Краёвага Кола*

Гэты выступ Рамана Скірмунта сведчыць пра пашырэнне сярод краёўцаў разумення неабходнасці ўласнай палітычнай арганізацыі. Гэтаму моцна спрыяў вопыт назапашаны за час існавання таварystваў сельскай гаспадаркі. Найбуйнейшым з іх заставалася Менскае таварыства сельскай гаспадаркі. Менавіта яго сябры і склалі тую самую «групу грамадзян», ад імя якіх, як паведаміла рэдакцыя, Скірмунт даслаў гэты зварот у газету.

Гісторык Дарыуш Тарасюк на падставе матэрыялаў «Журнала Минского общества сельского хозяйства» за 1905 г. даволі падрабязна распавёў пра абмеркаванне і выпрацоўку канчатковага тэксту гэтага звароту на пасяджэннях МТСГ[459]. Яго галоўным ініцыятарам быў Раман Скірмунт. Напачатку 1906 г. ён паўтарыў свой зварот, што тлумачылася «анархіяй», у якую ператваралася рэвалюцыя.

Сапраўды, восень і зіма 1905 г. былі надзвычай бурлівымі не толькі ў цэнтральнай частцы імперыі, але таксама на яе акраінах, у т. л. у Беларуска-Літоўскім краі. У лістападзе і снежні прыкметна павялічылася колькасць разгромаў і падпалаў памешчыцкіх двароў, сутыкненняў з паліцыяй і войскам, палітычных сходаў, мітынгаў і дэманстрацый. Салдацкія хваляванні адбыліся ў Гародні, Берасці і Бабруйску. Гісторыкі таксама налічылі 460 сялянскіх выступаў на беларускіх землях[460].

Апошнія не абмінулі і Скірмунтаў. Так, у пачатку лістапада сяляне в. Пінкавічы Пінскага пав. запатрабавалі ад гаспадара маёнтка Альбрэхтова Зыгмунта Скірмунта перадаць ім у поўнае карыстанне азёры і балоты з правам рыбнай лоўлі, збору камыша ды інш., а таксама саступіць выган дляската (77 га), якім карысталіся на

---

459 D. Tarasiuk, *Między nadzieją a niepokojem. Działalność społeczno-kulturalna i polityczna Polaków na wschodniej Białorusi w latach 1905–1918.* Lublin 2007, s. 96–98.

460 *Гісторыя Беларусі. Том 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.).* Рэдкал.: М. Касцюк ды інш. Мінск 2005, с. 323.

правах сервітута. Сяляне быў ўпэўнены, што памешчык незаконна валодае двума азёрамі і выганам, бо ўсё гэта калісьці было сялянскім[461].

Вядома, што ў гэтых хваляваннях удзельнічаў настаўнік Канстанцін Міцкевіч (*Якуб Колас*) (1882–1956). Менавіта ён угаварыў сялян не ісці ўсёй вёскай да памешчыка, а паслаць прадстаўнікоў. Тыя вярнуліся ні з чым, бо Скірмунт нават не стаў іх слухаць. Пасля гэтага Канстанцін Міцкевіч склаў петыцыю, якую падпісалі 69 чалавек. Яе аднеслі ў Альбрэхтова. Не дачакаўшыся адказу, сяляне пачалі самавольна лавіць рыбу. У выніку паліцыя арыштавала двух сялянскіх «агітатараў», а настаўніка кіраўніцтва школ народнай асветы перавяло на працу ў Ігуменскі пав.

Значна больш сур'ёзны характар набылі хваляванні ў Моладаве. 9 снежня 1905 г. сялянскі натоўп (каля 150 чал.) запоўніў маёнтак і запатрабаваў ад Генрыка Скірмунта перадачы сялянам 50 дзес. пашы фальварка «Залугі», якія нібыта да адмены прыгону былі сялянскімі; 160 дзес., за карыстанне якімі сяляне адпрацоўвалі ў фальварку; 20–30 дзес. лесу там, дзе ён межаваў з сялянскімі землямі, і павышэння заробкаў да 50 кап. за адзін зімовы дзень і да 1 руб. – за летні. Апрача таго, патрабавалі браць на працу ў маёнтак выключна сялян з навакольных вёсак.

Генрык Скірмунт адмовіўся, заявіўшы, што сяляне не маюць ніякага права гэта патрабаваць. У адказ пачуў пагрозы: «Даб'ёмся сілаю!» Сяляне накіраваліся да гаспадарчых пабудоў і вінакурнага завода з заклікам да забастоўкі. Паколькі рабочыя і батракі не збіраліся баставаць, іх пачалі біць. Усе працы былі спынены.

10 снежня ў маёнтак прыйшло ўжо каля 200-т сялян. Яны зноў спынілі ўсе працы і пачалі збіваць рабочых. 12 снежня сяляне яшчэ раз выказалі свае патрабаванні Генрыку Скірмунту. Некаторыя нават уварваліся ў кухню палаца і забаранілі кухару гатаваць абед. Шукалі ўпраўляючага маёнткам і выламалі дзверы ў яго кватэру. Толькі ўвечары прыбыў атрад драгун з Пінска, які паспрабаваў арыштаваць найбольш актыўных сялян. Тыя аказалі супраціў. Ротмістр атрымаў удар па галаве, пасля чаго драгуны агалілі шашкі. Адзін з сялянскіх актывістаў быў цяжка паранены і адвезены ў шпіталь.

Урэшце былі арыштаваны 10 чалавек, якіх змясцілі ў Кобрынскую турму. Праўда, ненадоўга, бо пад *поручительство* вёскі і заклад у 200 руб. яны вярнуліся дадому чакаць суда. Віны сваёй не прызналі. У красавіку 1906 г. былі асуджаны 5 чалавек. Максімальны тэрмін пакарання склаў 8 месяцаў. Падчас следства высветлілася, што адной з прычын выступлення былі чуткі, што калі да пачатку новага 1906 г. сяляне не «забяруць сваё», то потым нічога не атрымаюць[462].

Жыхары маёнтка перажылі жахлівыя дні, адчуваючы сябе цалкам бездапаможнымі перад агрэсіўным натоўпам. Вось што пісала Ядвіга Скірмунт у лісце да Элізы Ажэшкі 27 снежня 1905 г.: «Аграрныя хваляванні пачаліся ў нас нечака-

---

[461] НГАБ. Ф. 458, воп. 1, спр. 300, арк. 30. Гэтыя падзеі Якуб Колас апісаў у сваёй трылогіі «На ростанях».

[462] НГАБ у Гародні. Ф. 34, воп. 1, спр. 7, арк. 2–6, 64, 160–162, 164.

на і набылі вельмі вострую форму. Гэта быў сапраўдны бунт. Аднойчы раніцай прыйшоў натоўп, які запатрабаваў зямлю, лясы, лугі і трохразовага павялічэння аплаты. Яны рабілі гэта так нахабна, што становішча адразу стала вельмі цяжкім. Усе мірныя сродкі замірэння хутка вычарпаліся. Костусь (Канстанцін Скірмунт – *А. С.*) адправіў губернатару тэлеграму, у якой прасіў вайсковай дапамогі. Засталося толькі вытрымаць да падыходу войска […] Праз чацвёра сутак прыйшоў атрад драгун, а таксама прадстаўнік губернатара сп. Сталяраў з трыма афіцэрамі. На наступны дзень, калі прыйшлося сілай разганяць натоўп, трое сялян былі паранены. […] Войска і зараз стаіць у нас, і мы перакананы, што толькі ягоная прысутнасць стрымлівае нашых сялян і навакольныя вёскі».

Чатыры дні чакання былі напоўнены драматычнымі падзеямі. Сяляне збілі кіямі і разагналі парабкаў, спынілі ўсе працы ў маёнтку, не дазвалялі нават карміць скаціну, забаранілі кухарам гатаваць ежу ды інш. Ядвіга Скірмунт прызнавалася, што сям’я была амаль упэўненая, што надышоў канец Моладава. Скірмунты падрыхтаваліся да ўцёкаў і маліліся, каб застацца жывымі. Пасля перажытага яны былі перакананы, што лёс эліты літоўскіх і беларускіх палякаў цалкам залежыць ад сітуацыі ў дзяржаве: «Калі пераможа ўрад, то можа і ў нас усё супакоіцца. Калі не, то хутчэй за ўсё нашыя пазіцыі будуць знішчаныя»[463].

У лістападзе таго ж года Казімір Здзяхоўскі з Ракава пісаў Элізе Ажэшка пра «цёмнае ўзбаламучанае народнае мора», якое можа ўзняцца супраць польскіх зямян і, карыстаючыся «канстытуцыяй», рабаваць, паліць і знішчаць: «Тут у Літве прыходзіць канец Польшчы, польскай культуры, працы, думкі […] Найбольш паважныя і мудрыя сярод нас ўпэўнена сцвярджаюць, што мы не пазбегнем разні ў вёсцы»[464].

Гэты трагізм адчувала і сама пісьменніца. У адным з лістоў (7 студзеня 1906 г.) яна сумна канстатавала: «Па вёсках шалее жахлівая навальніца. Шмат маіх найлепшых добрых знаёмых апынуліся ў сітуацыі тройчы трагічнай паміж бандамі раз’юшаных сялян і прыбываючым нібыта на дапамогу войскам. У такім самым стане знаходзіцца Моладаў Скірмунтаў, дзе нядаўна адбываліся сцэны, ад якіх уздымаюцца валасы на галаве. Але мы жывыя. Усе яшчэ жывем». І дадала, што не хвалюецца за ўласнае жыццё, якое і без таго набліжаецца да канца, але «сэрца баліць за іншых, за сваіх, за братоў…»[465]

Дарэчы, затрымка са з’яўленнем вайсковага атрада хутчэй за ўсё была абумоўлена тым, што ва ўсёй Менскай губ. склалася вельмі напружаная сітуцыя. 9 снежня ў Менску і па ўсёй губерні было абвешчана становішча «надзвычайнай аховы». У Пінску баставалі работнікі прамысловасці і гандлю, была паралізавана чыгунка. Па напружанасці сітуацыя была блізкай да паўстання.

---

463 E. Orzeszkowa, *Listy zebrane*. T. 1–9. Zebrał E. Jankowski. T. 2. Wrocław 1955, s. 417.
464 Ibidem, s. 417–418.
465 Ibidem, s. 270–271.

Рэвалюцыйная эйфарыя закранула таксама сялян Парэчча. У снежні 1905 г. яны ўвайшлі на тэрыторыю маёнтка, прымусілі рабочых суконнай фабрыкі і вінакурнага завода спыніць працу і, як адзначаў губернатар, выставілі «всевозможные экономические требования»[466]. У вуснай гісторыі вёскі захавалася памяць пра галодную скаціну, якую «бунтары» забаранялі карміць і пра ініцыятыву слуг з маёнтка, якія пераканалі сялян, што «скот не вінаваты» і выратавалі змучаную жывёлу. Таксама распавядалі, што ініцыятары гэтай акцыі і іх дзеці атрымалі шчодрыя ўзнагароды ад гаспадара маёнтка. А тая частка вёскі, дзе жылі бунтарныя парабкі, атрымала назву *Бунт*.

Дарэчы, сацыяльныя супярэчнасці праяўляліся і ў паслярэвалюцыйныя гады. Так, бальшавіцкая газета «Правда» ў 1912 г. паведамляла пра шматгадовы канфлікт уладальніка Парэчча з сялянамі в. Альшанка, які скончыўся судовым рашэннем пра выплату памешчыку 1 302 руб. За гэты доўг была апісана сялянская скаціна. Аднак сяляне адмаўляліся яе прадаваць. Спробы паліцыі выканаць судовае рашэнне абярнуліся сутычкамі і арыштамі. Сутнасць канфлікту на старонках газеты не раскрывалася. Варта адзначыць, што гэтую гісторыю ў кастрычніку 1937 г. пераказала менская газета «Звязда»[467]. Пра Рамана Скірмунта менскія бальшавікі не забываліся…

Рэвалюцыйныя падзеі не маглі не паўплываць на пэўнае пераасэнсаванне ролі рэвалюцыі нават тымі, хто яшчэ ўлетку вітаў перамены. Рамантычныя надзеі на хуткія і пазітыўныя перамены адыходзілі ў мінулае. Рэчаіснасць аказвалася больш жорсткай. Эліта літоўскіх і беларускіх палякаў пачынала ўсведамляць усю небяспеку аграрнай праблемы. У гэтыя дні Эліза Ажэшка ў лісце да Канстанцыі Скірмунт сцвярджала, што менавіта гэтая праблема з'яўляецца найбольш небяспечнай для «нашай нацыянальнасці і цывілізацыі»: «Альбо сялянскія масы атрымаюць прадмет сваіх пажаданняў, альбо пачнецца завіруха крыві і полымя. У першым выпадку наша нацыя будзе абезгалоўлена […], у другім – апынецца пасярод паводкі крыві і полымя»[468].

Сітуацыя патрабавала рашучых дзеянняў. І Раман Скірмунт яшчэ раз выступіў з прапановай стварэння Краёвай партыі. На гэты раз галоўным аргументам яе стварэння станавілася неабходнасць «спыніць знішчэнне грамадскага ладу» і супольнымі намаганнямі ўсіх народаў Краю будаваць лад у духу «свабоды, права і парадку» на падмурку Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г.

---

466 К. Шабуня, *Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг.* Минск 1962, с. 274.

467 *Барацьба сялян з памешчыкам Скірмунтам,* «Звязда».1937, № 243, 21 кастрычніка.

468 Цыт. па: E. Jankowski, *Eliza Orzeszkowa*. Warszawa 1964, s. 569–570.

*ДАКУМЕНТ*

**Зварот Краёвай партыі Белай Русі і Літвы. 1906 г.[469] Фрагмент.**

*Ад Рамана Скірмунта з Парэчча (менскага) мы атрымалі просьбу апублікаваць наступны зварот:*

*Галоўныя сілы, што дзейнічалі на першых этапах рэвалюцыйнай эпохі, складаліся з трох груп:*

*I. Урад і прыхільнікі старога дзяржаўнага ладу.*

*II. Партыі парадку, якія бачылі паратунак дзяржавы ў пераходзе да канстытуцыйнага жыцця.*

*III. Партыі, што намагаюцца перавароту любым коштам і імкнуцца да мэтаў, схаваных ад грамадства.*

*Каб аслабіць моц старога рэжыму, абедзве апазіцыйныя групы пачалі дзейнічаць супольна на карысць агульнай справы. З-за памылак сваіх правадыроў партыі парадку пацярпелі паразу, а радыкальныя сілы атрымалі рашучую перавагу ў кіраўніцтве вызвольным рухам. Важнай, хоць і не канчатковай перамогай над прыхільнікамі старога рэжыму стаўся Маніфест 17 кастрычніка. Для прыхільнікаў парадку ён стварыў шырокае поле для карыснай працы, магчымасць атрымання самых шырокіх свабод, і часткова ўжо даў гэтыя свабоды. У стасунку да гэтага факта ва ўсім аб'ёме выявілася добра схаваная прынцыповая розніца ў памкненнях двух крылаў апазіцыйнай арміі.*

*Трэба было распачаць творчую і стваральную працу. Аднак вялікае значэнне 17 кастрычніка аспрэчвалася і пагарджалася апанентамі, варожымі не толькі ўраду, але і грамадству. Іх голас падмануў вялікія масы прыхільнікаў парадку, якія ў віхуры падзей страцілі арыентацыю. На ўсе ўступкі ўрада яны адказвалі новымі патрабаваннямі і варожай дзейнасцю.*

*Адчуваючы ўласную сілу і падмануўшы былога саюзніка ў барацьбе за свабоду, радыкальныя партыі пачалі рэалізоўваць злачынныя мэты, настройваць адныя колы грамадства супраць другіх. Пачалася падрыўная праца на два франты. Дзеля падтрымкі з боку натоўпу маламаёмаснага насельніцтва яны пачалі заахвочваць да знішчэння і рабавання чужой маёмасці ў вёсках.*

*[…] Шмат хто з нас падтрымліваў рэвалюцыю, ці то з перакананняў, ці то з апартунізму надзеі, што пажар рэвалюцыі абміне маёмасць яе ваяроў. Да апошняга часу мы падтрымлівалі рэвалюцыю словамі і ахвяраваннямі.*

*Гэта было памылкай або злачынствам. На срэбранік, ахвяраваны на барацьбу з прыгнётам, была выкутая зброя супраць нас.*

*Лозунгі вызвалення былі велічнымі, але іх прыўлашчылі і дэкларавалі людзі, якія ў душы сваёй песцілі памкненні і думкі, варожыя агульнаму дабру. Натоўп прызвычаіўся верыць гэтым галасам і пайшоў за імі, хоць самазванныя правады-*

[469] R. Skirmunt, *Odezwa Stronnictwa Krajowego Białej Rusi i Litwy*, «Kurier Litewski». 1906, Nr 7–8.

*ры ў блуканнях па бездарожжы даўно змянілі накірунак і выракліся мэтаў, да якіх імкнецца амаль усё грамадства.*

*Мы марылі пра свабоду і развіццё інтэлектуальнага, грамадскага, палітычнага і эканамічнага жыцця. Але атрыманыя правы ператварыліся ў зброю супраць тых, хто не хоча падпарадкоўвацца загадам тыранаў анархічнага руху.*

*Тыя, хто найбольш голасна заклікаў да свабоды слова, сходаў і саюзаў на самой справе гвалцілі гэтую свабоду, каб не даць слова людзям, што маюць адрозныя ад іх погляды, імкнуліся пазбавіць грамадства правоў, якія лічацца святым здабыткам чалавецтва. Замест бачнага прыгнёту зверху мы атрымалі ананімны тэрор і тыранію людзей, якія хаваюцца ад дзённага святла.*

*Настаў час зразумець, што падтрымліваючы рэвалюцыю, мы крочым не да выпраўлення, а да знішчэння грамадскага ладу. Прыйшоў час вызваліцца ад гіпнозу, якому паддаліся, як тая птушка, што сама ляціць у пашчу крыважэрнага драпежніка.*

*[…] Дзеля гэтага неабходна з'яднаць усе нашы сілы. Раздрабленне партый у такі адказны момант вядзе да слабасці і згубы. Мы павінны адкласці спрэчкі пра неістотнае на заўтра і сабраць разам усе сілы, гатовыя абараняць прынцыпы свабоды і законнасці з улікам інтарэсаў шырокіх народных мас, дзяржаўнага і грамадскага ладу, які трэба разумець у хрысціянскім духу.*

*У якасці базавай мы прынялі праграму Менскага таварыства сельскай гаспадаркі, дапоўненую праграмай Краёвай партыі Літвы і Русі. Мы імкнемся да паразумення з людзьмі, блізкімі да нас па спосабу мыслення, з грамадзянамі ўсіх слаёў і саслоўяў Белай Русі і Літвы. Павінны наладзіць стасункі з блізкімі да нас партыямі іншых рэгіёнаў дзяржавы. Мы хочам падтрымліваць стасункі з тымі партыямі імперыі, якія прызнаюць важныя для нас прынцыпы дзеля абароны агульных мэтаў і лепшага разумення імі нашай сітуацыі, у якой яны, на жаль, не арыентуюцца.*

*[…] Калі ж не атрымаецца дасягнуць зліцця ўсіх груп нашага краю, якія прытрымліваюцца падобных прынцыпаў, то мы павінны стварыць саюз гэтых партый дзеля аб'яднання намаганняў у справах першачарговай вагі і дзеля паразумення з блізкімі па поглядах партыямі іншых рэгіёнаў дзяржавы.*

У заключэнне Раман Скірмунт абяцаў у бліжэйшы час разаслаць запрашэнні на сход у Менску ўсім тым асобам, якія імкнуцца да ўмацавання прававога ладу на падмурку прынцыпаў Маніфеста 17 кастрычніка.

Звяртае на сябе ўвагу змена ў назве партыі. У гэтым звароце яна фігуруе як «Краёвая партыя Белай Русі і Літвы». Магчыма, гэта сведчанне перамен у свядомасці некаторых краёўцаў (прынамсі, Рамана Скірмунта), якія павярнуліся да беларушчыны. Тэрмін «Русь» канчаткова саступіў месца тэрміну «Белая Русь». Зрэшты, апошні фігураваў ужо напрыканцы звароту ад 17 лістапада 1905 г. Таксама варта звярнуць увагу на заклік да яднання розных палітычных сіл, якія маюць агуль-

ную мэту. Падобнае імкненне было характэрнай рысай усёй палітычнай дзейнасці Рамана Скірмунта, якая праяўлялася ў розныя часы і ў розных сітуацыях.

Звароты Рамана Скірмунта па стварэнні Краёвай партыі засведчылі гатоўнасць эліты мясцовай польскай супольнасці да актыўнага ўдзелу ў палітычным і грамадскім жыцці Беларуска-Літоўскага краю і ўсёй Расіі, якая стала на шлях пераўтварэння ў канстытуцыйную манархію.

Відавочна, што Раман Скірмунт адным з першых прамовіў тое, што сапраўды хвалявала эліту літоўскіх і беларускіх палякаў. Гэтае «краёвае» рознагалоссе было надзвычай карысным. Ягоныя ўдзельнікі пагаджаліся ў галоўным, а менавіта ў імкненні нейтралізаваць нацыянальныя і сацыяльныя лініі расколу краёвага грамадства, актуалізаваць традыцыі талерантнасці часоў Вялікага Княства Літоўскага і, нарэшце,ператварыць Край у суб’ект палітычнага жыцця Расіі, у якім літоўскія і беларускія палякі захаваюць свае эканамічныя і культурныя пазіцыі. Голас Рамана Скірмунта ў гэтым рознагалоссі ў 1905–1906 гг. быў адным з найбольш выразных.

Але трэба аддаць належнае таксама іншым ідэолагам краёвасці. Значную ролю ў далейшай распрацоўцы канцэпцыі краёвасці ў гэты час адыгралі публікацыі Баляслава Ялавецкага, Канстанцыі Скірмунт, Міхала Ромэра, «кансерватыўна-краёвая» пазіцыя штодзённага «Кур’ера Літэўскага» (падчас яго рэдагавання Чэславам Янкоўскім у 1905–1907 гг.), «ліберальна-краёвая» праграма «Газеты Віленьскай» (рэдактар Міхал Ромэр, 1906), а таксама стварэнне Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі (1906) на чале з віленскім біскупам Эдвардам фон Ропам.

Варта спыніцца на *Нацыянальным катэхізісе Літвы* Баляслава Ялавецкага (1905), які таксама прапанаваў палітычную праграму[470]. На момант выдання *Катэхізіса* Ялавецкі быў адным з вядучых інжынераў чыгуначнага транспарту ў Расіі, арганізатарам першага ў краіне Таварыства вузкакалеек, сябрам Віленскага таварыства сельскай гаспадаркі. Ключавымі для Б. Ялавецкага былі пытанні, выкарыстаныя ў якасці эпіграфа: «Хто мы? Што нам патрэбна? Што трэба рабіць, каб усім нам было добра, як дзецям нашай агульнай маці-Айчыны?..»

Аўтар таксама пісаў пра «адзіную нацыю» з агульнай культурай, якую ўтварылі палякі, літоўцы і беларусы ў выніку супольнага гістарычнага лёсу. Існаванне трох розных моваў і для яго не было істотным. Усе яны абвяшчаліся «роднымі для нас, бо ў нашых жылах цячэ адна кроў»[471].

На старонках *Катэхізіса* шырока ўжываўся тэрмін «грамадзяне краю». Ялавецкі найважнейшым лічыў дасягненне рэальнага адзінства ў намаганнях па пераадоленні таго цяжкага становішча, у якім апынуўся Край: «Перш за ўсё мы, як грамадзяне краю, незалежна ад саслоўнай прыналежнасці, нацыянальнасці,

---

470 B. J…i [B. Jałowiecki], *Litwa – jej potrzeby… Katechizm narodowy Litwy*. Wilno [1905].

471 Ibidem, s. 6.

веравызнання, павінны паціснуць адзін аднаму рукі і з узаемным даверам узяцца за працу [...] Асобны чалавек ці асобная сацыяльная група не шмат здолеюць зрабіць, але калі за працу бярэцца ўся супольнасць, то пры мінімальных намаганнях у самым кароткім часе робіцца тое, чаго першыя не дамагліся б і за некалькі гадоў самай цяжкай працы, бо толькі ў адзінстве – моц»[472].

Ён заклікаў да распрацоўкі праграмы «грамадскай працы» на падмурку Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г. і далейшага развіцця канстытуцыяналізму. Падкрэслівалася вялікае значэнне дзейнасці Дзяржаўнай Думы. У якасці галоўных тэзісаў гэтай праграмы прапаноўвалася ўтварэнне на тэрыторыі шасці беларуска-літоўскіх губерняў «Літоўскай правінцыі» з шырокім самакіраваннем як для самой «правінцыі», так і для яе складовых частак – акругаў і гмінаў. Нормай жыцця Краю павінны былі стаць свабода веравызнання, роўнасць у правах незалежна ад нацыянальнасці, веравызнання і пола, роўнасць саслоўяў, свабода слова, друку, сходаў, саюзаў і арганізацый, недатыкальнасць асобы і жытла, незалежнасць судоў ад адміністрацыі і г. д. Таксама сцвярджалася неабходнасць першынства карэннага насельніцтва (аўтар ужыў тэрмін «краёўцы») ва ўсіх органах самакіравання, у судзе, а таксама свабода карыстання «краёвымі мовамі», а менавіта польскай, літоўскай і беларускай. Мову выкладання ў школах павінна было вызначаць якраз мясцовае самакіраванне.

Выключна ў кампетэнцыі самакіравання знаходзілася правядзенне аграрнай рэформы. Аўтар *Катэхізіса* лічыў, што аграрная праблема ў Літве павінна вырашацца шляхам камасацыі надзелаў і падтрымкі невялікіх, але моцных гаспадарак праз паступовае набыццё іх уладальнікамі новых угоддзяў, прадастаўленне таннага крэдыту, развіццё каапераціі, ліквідацыю цераспалосіцы і сервітутаў з правам (у пэўных выпадках) прымусовага адчужэння земляў у адпаведных памерах за аплату па яе рэальным кошце, не парушаючы сістэмы гаспадаркі фальварка або вёскі ды інш.[473]

Краёвая праграма Баляслава Ялавецкага ўключала таксама «братэрскае» стаўленне да рускіх і габрэяў, якія пастаянна жывуць у Краі, але толькі ў выпадку, калі яны «самі захочуць стаць актыўнымі грамадзянамі нашага Краю і будуць прымаць шчыры ўдзел у грамадскай працы»[474]. Пры гэтым выказвалася патрабаванне адмены рысы габрэйскай аселасці.

Трэба адзначыць, што ў якасці галоўнага суб'екта грамадска-палітычнага жыцця аўтары «краёвых» тэкстаў успрымалі менавіта эліту літоўскіх і беларускіх палякаў. Сцвярджэнне, што воблік краю вызначае люд, а не шляхта (Р. Скірмунт) было разлічана на ўсведамленне мясцовымі польскімі элітамі неабходнасці ўлічваць інтарэсы сацыяльных нізоў Беларусі і Літвы. У агульнапалітычных пы-

472 Ibidem, s. 10–11.
473 Ibidem, s. 19–20.
474 Ibidem, s. 21.

таннях Баляслаў Ялавецкі, Раман і Кастанцыя Скірмунты знаходзіліся ў рэчышчы лібералізму. Яны адстойвалі права насельніцтва на ўсю паўнату грамадзянскіх і палітычных свабод і выступалі як прыхільнікі эвалюцыйнага шляху развіцця грамадства. На гэтым шляху было магчыма паразуменне грамадства з уладай, якая разумелася досыць шырока (прынамсі, яна ўключала ў сябе ліберальную бюракратыю). Краёўцы таксама адрозніваліся беражлівым стаўленнем да гістарычных і культурных традыцый, што лічыліся падмуркам развіцця Краю. Усё гэта дае падставы для акрэслення гэтага кірунку краёвасці як кансерватыўна-ліберальнага. Дарэчы, вядомы амерыканскі гісторык Рычард Пайпс характарызаваў такіх расійскіх палітыкаў пачатку XX ст. як Дзмітры Шыпаў і Аляксандр Гучкоў як кансерватыўных лібералаў[475].

Сваю ролю ў пашырэнні краёвасці адыгрываў таксама пэўны прагматызм. Многія ідэолагі кансерватыўна-ліберальнага кірунку разумелі, што краёвая ідэя можа паспрыяць захаванню элітай літоўскіх палякаў уласных эканамічных і культурных пазіцый. Працэс мадэрнізацыі грамадства Беларусі і Літвы, прыспешаны пераменамі 1905–1907 гг., актуалізаваў праблему месца польскай эліты ў новым грамадстве. Яшчэ больш яе абвастрала палітыка русіфікацыі.

Цэнтрам краёўцаў кансерватыўна-ліберальнага накірунку стаў штодзённы «Кур’ер Літэўскі», першы нумар якога выйшаў 1 верасня 1905 г. У снежні ягоным рэдактарам стаў публіцыст, гісторык і паэт Чэслаў Янкоўскі, які займаў гэтую пасаду да красавіка 1907 г. Новы рэдактар падзяляў асноўныя палажэнні праграмы краёўцаў кансерватыўна-ліберальнага кірунку і здолеў зрабіць з «Кур’ера» ўплывовы і папулярны орган друку.

## *Думскі перыяд*

Выбары ў Дзяржаўную Думу сталі першым сур’ёзным выпрабаваннем для краёвай ідэі і яе носьбітаў. Асабіста для Рамана Скірмунта гэтыя выбары і праца ў Думе былі добрай школай палітычнай дзейнасці. Дзякуючы актыўнаму ўдзелу ў думскіх пасяджэннях яго імя прагучала далёка па-за межамі Беларусі і Літвы, але менавіта ў гэты час былі пакладзены першыя цаглінкі ў вобраз «рэакцыянера» Скірмунта.

Палітычная дзейнасць краёўцаў падчас выбараў у Думу і яе дзейнасці заслугоўвае асаблівай ўвагі. На фоне актывізацыі нацыянальных рухаў і абвастрэння сацыяльных адносін яны дэкларавалі імкненне ўзняцца над нацыянальнымі і сацыяльнымі супярэчнасцямі. Абвяшчэнне ў якасці першачарговай задачы абароны інтарэсаў усяго Беларуска-Літоўскага краю і ягоных народаў можна расцэньваць як першую у беларускай і літоўскай гісторыі спробу ідэалагічнага абгрунтавання існавання палітычнай нацыі. Але, насамрэч, у перыяд рэвалюцыі

[475] Р. Пайпс, *Русская революция*: В 2-х ч. Частка 1. Москва 1994, с. 182.

1905–1907 гг. ажыццявіць гэтую дэкларацыю не атрымалася. Яна засталася хутчэй заявай пра намеры.

У гэты перыяд краёўцы ўяўлялі сабой сапраўдны кангламерат дзеячаў з розным разуменнем сутнасці краёвай ідэі, але большасць з іх заставалася ў рэчышчы польскага грамадска-палітычнага руху. У тагачасных умовах многім мясцовым палякам «краёвая пазіцыя» здавалася найбольш аптымальнай для абароны ўласных эканамічных і нацыянальна-культурных пазіцый. У большай ступені гэта было характэрна для беларускіх земляў, дзе адсутнічаў нацыянальны польска-беларускі канфлікт, а падзеі рэвалюцыі 1905–1907 гг. мелі выразную сацыяльную афарбоўку.

На літоўскіх землях сітуацыя была больш складаная. Польска-літоўскі канфлікт яшчэ да рэвалюцыі праявіўся ў вострых спрэчках і сутычках па праблеме мовы касцельнага набажэнства або ў ацэнках «младаліцвінамі» ролі палякаў у гісторыі. Нацыянальная ідэя паступова пашыралася нават сярод літоўскага сялянства. У 1905 г. у многіх мясцовасцях Ковенскай губ. рэвалюцыйныя падзеі набылі выразную нацыянальную афарбоўку. Літоўскія гісторыкі гавораць пра нацыянальную рэвалюцыю ў Літве ў 1905 г.

Нацыянальныя і сацыяльныя перамены пачатку XX ст. для супольнасці літоўскіх і беларускіх палякаў сталі сапраўдным гістарычным выклікам. Краёвасць была адным з варыянтаў адказу на яго.

Нацыянальна-дэмакратычная плынь польскага руху ў Беларусі і Літве актывізавалася толькі напрыканцы 1905 г. У лютым 1906 г. было абвешчана стварэнне Польскай дэмакратычна-нацыянальнай партыі Літвы і апублікавана яе праграма[476]. Аднак існаванне партыі фактычна толькі дэкларавалася. Спробы адшукаць сярод архіўных дакументаў, успамінаў і матэрыялаў друку сляды дзейнасці гэтай партыйнай арганізацыі аказаліся марнымі. Таксама не шмат здолеў распавесці пра яе дзейнасць у азначаны перыяд гісторык Пшэмыслаў Дамброўскі ў манаграфіі, прысвечанай дзейнасці нацыянальных дэмакратаў на беларуска-літоўскіх землях у 1897–1918 гг.[477] Магчыма, публікацыя праграмы партыі была прадыктавана выключна агітацыйнымі намерамі ў сувязі з набліжэннем выбараў у Думу. Тым не менш, ідэі Рамана Дмоўскага (1864–1939) таксама станавіліся варыянтам адказу літоўскіх палякаў на выклікі новай эпохі.

Адной з галоўных мэтаў нацыянальных дэмакратаў было дасягненне аўтаноміі Каралеўства Польскага. А вось для краёўцаў найважнейшай задачай было ўвядзенне самакіравання ў Беларусі і Літве. Патрабаванне аўтаноміі для Каралеўства Польскага яны падтрымлівалі, але ўключаць яго ў сваю праграму не збіраліся. Краёўцы таксама выказваліся за роўныя магчымасці для развіцця нацыянальных

---

[476] *Polskie Stronnictwo demokratyczno-narodowe na Litwie*, Wilno 1906.

[477] P. Dąbrowski, *Narodowa Demokracja byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Studium z zakresu myśli politycznej i działalności obozu narodowego na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1897–1918*. Kraków 2010, s. 27–47.

культур усіх народаў Краю. Мэтаю нацыянальных дэмакратаў было дамінаванне польскай культуры.

Трэба адзначыць, што канцэпцыя краёвасці падчас рэвалюцыі атрымала далейшае развіццё. Так, у лютым 1906 г. аформілася дэмакратычна-ліберальная плынь краёвасці, цэнтрам якой стала «Газета Віленьска». Выданнем кіраваў Міхал Ромэр. У 1905 г. ён вярнуўся з Парыжа ў Вільню і акунуўся ў атмасферу рэвалюцыйных перамен. Гэты палітык і публіцыст быў звязаны з дзеячамі літоўскага руху, падтрымліваў кантакты з беларускімі адраджэнцамі. У адрозненні ад Р. Скірмунта ён разумеў краёвасць не як сужыцце розных этнасаў-нацый, а як утварэнне новай палітычнай нацыі. Пры гэтым усе этнасы, што зліваліся ў «нацыю ліцвінаў», павінны былі мець свабоду для развіцця ўласнай культуры.

У рэдакцыйным артыкуле першага нумара «Газеты Віленьскай» тлумачылася пазіцыя выдання: «Мы павінны кіравацца інтарэсамі Краю. У гэтым зыходны пункт усялякай палітычнай, грамадскай і культурнай дзейнасці. Мы – грамадзяне Літвы і Беларусі. І наш грамадзянскі абавязак – служыць роднаму Краю. Мы не можам быць польскімі каланістамі. З палітычнага пункту гледжання нашай Радзімай з’яўляецца Беларусь і Літва. Толькі з культурна-нацыянальнага – мы дзеці польскага народу»[478].

Паводле краёўцаў, польскасць заўсёды несла з сабой узоры талерантнасці і дэмакратыі. З гэтымі якасцямі яны звязвалі будучыню палякаў у Краі: «Польскасць у Літве можа забяспечыць сваю будучыню толькі пры ўмове радыкальнай дэмакратызацыі»[479].

Менавіта ў рэчышчы краёвай ідэалогіі дзейнічала першая легальная палітычная партыя краю – Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі (ККП) (1906). Яе заснавальнік і кіраўнік віленскі біскуп Эдвард фон Роп быў прыкметнай постаццю сярод краёўцаў кансерватыўна-ліберальнай арыентацыі.

Для праграмы Канстытуцыйна-каталіцкай партыі было характэрным пэўнае спалучэнне краёвасці з хрысціянска-дэмакратычнай ідэалогіяй[480]. Сярод галоўных пастулатаў праграмы трэба адзначыць пераўтварэнне Расіі ў дзяржаву шырокага самакіравання (фактычна гаворка ішла пра аўтаномію Беларуска-Літоўскага краю, хоць адкрыта гэтая мэта не прапісвалася), вырашэнне аграрнага пытання на падмурку прынцыпа недатыкальнасці прыватнай уласнасці, стварэнне бясплатнай народнай школы з адукацыяй на роднай мове і абавязковым вывучэннем рэлігіі, вяртанне каталіцкаму касцёлу маёмасці, канфіскаванай пасля паўстання 1863 г. або кампенсацыя гэтых страт ды інш.

Трэба адзначыць, што частка эліты літоўскіх палякаў даволі крытычна паставілася да палітычнай дзейнасці кліра. Распачалася дыскусія. На шматлікія

---

478 «Gazeta Wileńska». 1906, Nr 1.

479 Ibidem, Nr 37.

480 *Program Stronnictwa Konstytucyjno-Katolickiego na Litwe i Białoruś.* Wilno 1906.

заўвагі на старонках газеты «Навіны віленьске» адказваў біскуп. Менавіта ён быў галоўным аўтарам праграмы.

Партыя праіснавала нядоўга, бо ўжо ў сакавіку 1906 г. улады забаранілі правядзенне яе сходаў. Аднак актыўнасць яе сяброў напярэдадні і падчас выбараў у Думу мела плён. Так, з сямі дэпутатаў Думы ад Віленскай губ. шасцёра падтрымлівалі праграму ККП. Адным з дэпутатаў стаў віленскі біскуп.

У сакавіку 1906 г. Канстанцыя Скірмунт на старонках «Кур'ера Літэўскага» ў артыкуле «Краёвае кола» падтрымала ідэю стварэння агульнакраёвай партыі. Гэта быў адзін з першых водгукаў на зварот Рамана Скірмунта. Паводле меркавання публіцысткі, патрэба ў палітычнай арганізацыі, якая б з'яднала народы Краю, была відавочнай. Канстытуцыйна-каталіцкая партыя распачала гэты працэс, каб стаць ядром Краёвага кола. Да яго планавалася далучыць таксама праваслаўнае беларускае насельніцтва. Працяг працэсу партыйнага будаўніцтва публіцыстка звязвала з дзейнасцю МТСГ і ягонага нязменнага кіраўніка Э. Вайніловіча[481]. Галоўныя мэты дзейнасці Краёвага кола звязваліся з выбарамі ў Дзяржаўную Думу. Гэтым выбарам палякі Беларусі і Літвы надавалі вялікае значэнне. Менавіта на Думу ўскладаліся галоўныя надзеі на рэфармаванне палітычнай сістэмы і паляпшэнне становішча Краю.

Пачатак 1906 г. праходзіў пад знакам набліжэння выбараў, якія былі прызначаны на сакавік-красавік. Ужо ў студзені 1906 г. пачалі ўзнікаць польскія выбарчыя камітэты. Ініцыятыву захапілі краёўцы кансерватыўна-ліберальнай арыентацыі. Менавіта яны ўтварылі Выбарчы камітэт землеўласнікаў Менскай губ., аснову якога склалі сябры МТСГ. Яго праграма прадугледжвала прынццце канстытуцыі, дзяржаўныя гарантыі дэмакратычных свабод, усеагульнае і роўнае выбарчае права, ільготы малазямельным і беззямельным сялянам пры набыцці зямлі, ліквідацыю цераспалосіцы, недатыкальнасць прыватнай уласнасці і земскае самакіраванне[482].

Па меры набліжэння губернскіх выбарчых з'ездаў станавілася відавочным, што аніводная з трох выбарчых «курый» (землеўласнікі, гарадская і сялянская курыі) паасобку поспеху не дасягне. Напярэдадні з'езда ў Менску сябры МТСГ абмяркоўвалі два варыянты ўласнай тактыкі: змагацца за тое, каб кожная нацыянальнасць і кожны сацыяльны слой атрымалі дэпутацкія месцы або весці барацьбу выключна за поспех «сваіх» дэпутатаў? Абмеркаванне было вострым. У дадзеным выпадку краёвая пазіцыя задавальняла не ўсіх. Урэшце перамог першы падыход, але большасцю ўсяго ў адзін голас. Варта адзначыць, што гэта быў голас Аляксандра Аляксандравіча Скірмунта з Парэчча, які выказаўся апошнім[483].

Іншае важнае пытанне датычыла будучыні абранцаў літоўскіх палякаў

[481] Futurus [K. Skirmuntt], *Koło Krajowe*, «Kurier Litewski». 1906, Nr 49.

[482] «Kurier Litewski». 1906, Nr 19.

[483] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 112.

у Дзяржаўнай Думе, а дакладней іх магчымага далучэння да дэпутатаў з Каралеўства Польскага. Гэтая дыскусія яшчэ больш актуалізавала краёвую ідэю.

Эдвард Вайніловіч на старонках «Кур’ера Літэўскага» заклікаў будучых дэпутатаў быць салідарнымі і кіравацца толькі патрэбамі «Літвы і Русі», не пераймаць лозунгі Варшавы ці Масквы, а абапірацца выключна на ўласную гісторыю і традыцыі. Ён катэгарычна выказаўся ў падтрымку ідэі Рамана Скірмунта наконт стварэння фракцыі дэпутатаў, асобнай ад Каралеўства Польскага, якую назваў «Краёвай партыяй Літвы і Русі». Паводле Вайніловіча, яна будзе моцнай, калі з’яднае намаганні ўсіх краёвых арганізацый, у т. л. Канстытуцыйна-каталіцкай партыі, Менскага ды іншых таварыстваў сельскай гаспадаркі, а таксама будзе абараняць інтарэсы ўсіх народаў Краю[484].

Гэтую пазіцыю найбольш паслядоўна адстойваў Раман Скірмунт. 11 сакавіка 1906 г. падчас выбарчага сходу курыі землеўласнікаў у в. Хойна Пінскага пав. ён быў абраны дэпутатам на павятовы сход выбаршчыкаў у Пінск[485]. Ужо пінскі сход накіраваў яго ў Менск для ўдзелу ў заключным этапе выбараў ад губерні.

Выбары ў Менску аказаліся найбольш паспяховымі для літоўскіх і беларускіх палякаў. Напярэдадні яны заключылі пагадненне з прадстаўнікамі «гарадской курыі», што выклікала пратэсты сялянскіх удзельнікаў выбарчага сходу. У знак пратэсту сяляне пакінулі губернскі з’езд. У выніку дэпутатамі Думы былі абраны сямёра прадстаўнікоў мясцовай польскай супольнасці, у т. л. Раман Скірмунт. Па колькасці набраных галасоў (86) ён саступіў толькі адвакату Аляксандру Лядніцкаму (88)[486]. Дарэчы, апошні пазней сцвярджаў, што Раман Скірмунт імкнуўся не дапусціць сыходу прадстаўнікоў сялянства з выбарчага з’езда і нават хацеў зняць уласную кандыдатуру дзеля сялянскага дэпутата[487]. Ён выразна імкнуўся да паразумення з сялянамі. Але апошнія гэтай ахвяры не прынялі.

Пасля завяршэння выбараў «Кур’ер Літэўскі» пачаў знаёміць чытачоў з біяграфіямі і праграмамі польскіх дэпутатаў. У біяграме Рамана Скірмунта асаблівая ўвага надавалася якраз ягонай краёвай пазіцыі і стаўленню да народаў Краю. Сцвярджалася, што ён лічыць беларусаў моцным і скансалідаваным народам, верыць у адметнасць і перспектывы развіцця беларускай культуры. Цікава, што ў гэтым месцы прадстаўнік рэдакцыі не ўстрымаўся ад уласнага каментара. На яго думку, пазіцыя дэпутата тлумачылася яго пражываннем не столькі сярод беларускага, колькі сярод «маларускага» народу. Р. Скірмунт нібыта бачыў іх блізкасць і меў на ўвазе агульную «рускую» праблему. Таксама каментатар падкрэсліў (!), што дэпутат лічыў сябе палякам.

Яшчэ адзначалася, што Скірмунт выступае за стварэнне асобнай дэпутацкай

[484] E. Woyniłłowicz, *Koło Polskie*, «Kurier Litewski». 1906, Nr 80.

[485] НГАБ. Ф. 519, воп. 1, спр. 1, арк. 119.

[486] «Kurier Litewski». 1906, Nr 85.

[487] A. Lednicki, *Po wyborach,* «Kurier litewski». 1907, Nr 41.

фракцыі («Кола Літвы і Русі»), але не хоча, каб яна было выключна польскім. Ягонай мэтаю з'яўляецца ўтварэнне фракцыі з удзелам беларусаў, літоўцаў і, магчыма, габрэяў. Пры гэтым ён усведамляе, што гэта задача заўтрашняга дня[488].

Цікава, што гэтая інфармацыя істотна адрознівалася ад той, якую змясцілі ўкладальнікі альбомаў з біяграфіямі і фотапартрэтамі дэпутатаў Дзяржаўнай Думы (1906). У пецярбургскім выданні адзначалася актыўная дзейнасць Рамана Скірмунта ў МТСГ, асабліва ў справе наладжвання стасункаў з сялянствам: «Много сделал в целях сближения помещиков с крестьянами, и по его инициативе в Минское сельскохозяйственное общество стали принимать крестьян на льготных условиях». Таксама адзначалася, што ў публіцыстыцы дэпутата дамінуе прынцып «мирного сожительства национальностей». Палітычныя погляды характарызаваліся адным словам: *прогрессист*. Укладальнікі сцвярджалі ягоную прыналежнасць да «Группы представителей западных окраин», а таксама да думскай фракцыі Саюза аўтанамістаў»[489].

У аналагічным маскоўскім выданні Скірмунт характарызаваўся як «польский националист, защитник автономии Польши». Пры гэтым ён заставаўся *прогрессистом* і быў «человеком твёрдых убеждений, серьёзным и деятельным»[490]. Як бачна, укладальнікаў зусім не зацікавіла краёвая пазіцыя дэпутата. Яны фактычна ўпісвалі Р. Скірмунта ў кола больш зразумелых ім паняццяў. Менавіта пра гэта думаеш, калі разважаеш над гіпатэтычнай прыналежнасцю Р. Скірмунта да *прогрессистов*. У перыяд І Дзяржаўнай Думы гэты тэрмін быў сінонімам лібералізму і азначаў прыхільнасць ідэі праграсу і развіцця. Ён сапраўды адпавядаў поглядам дэпутата Менскай губ., але пры гэтым ператвараў яго ў звычайнага расійскага палітыка.

Апрача Скірмунта краёвую ідэю ў Думе гатовы былі падтрымаць уладальнік маёнтка Лунін у Пінскім пав. князь Геранім Друцкі-Любецкі (1861–1919), адвакат і сябра Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі Аляксандр Лядніцкі (1866–1934), а таксама абранцы Віленскай губ. біскуп Эдвард фон Роп, рэдактар «Кур'ера Літэўскага» Чэслаў Янкоўскі і Баляслаў Ялавецкі.

Усяго прадстаўнікі польскага грамадства атрымалі 14 дэпутацкіх мандатаў. Поспех быў абумоўлены колькасцю і згуртаванасцю літоўскіх і беларускіх палякаў і іх падрыхтаванасцю да палітычнай барацьбы. Гэта праявілася ў дзейнасці шматлікіх выбарчых камітэтаў і арганізацый, актыўнасці Канстытуцыйна-каталіцкай партыі, якая выкарыстоўвала аўтарытэт каталіцкага духавенства.

---

488 «Kurier Litewski». 1906, Nr 86.

489 *Биографии членов Государственной Думы*. Укладальник Г. В. Малаховский. Санкт-Петербург 1906, с. 38.

490 *Первая Государственная Дума. Алфавитный список и подробные характеристики и биографии членов Государственной Думы*. Москва 1906, с. 109.

Моцную падтрымку ў час выбараў яны атрымалі ад губернскіх таварystваў сельскай гаспадаркі і польскага віленскага друку.

Яшчэ больш паспяховымі для літоўскіх палякаў былі выбары ў Дзяржаўную Раду. Ва ўсіх шасці беларуска-літоўскіх губернях перамаглі іх прадстаўнікі, большасць якіх былі кіраўнікамі губернскіх таварystваў сельскай гаспадаркі. Менскую губ. у Дзяржаўнай Радзе павінен быў прадстаўляць кіраўнік МТСГ, аднадумец і сябра Скірмунта Эдвард Вайніловіч.

27 красавіка 1906 г. у Таўрычаскім палацы адбылося ўрачыстае адкрыццё працы Дзяржаўнай Думы. Вось як пазней успамінаў пра гэта Вайніловіч: «Зала была перапоўнена, а напружанне было такім, што, здавалася, дастаткова было невялікага інцыдэнта, каб справакаваць выбух. У сувязі з хваробаю састарэлага старшыні Дзяржаўнай Рады графа Дзмітрыя Сольскага ў прэзідыуме засядаў віцэ-старшыня Эдуард Фрыш. Ён зачытаў зварот імператара і даручыў сходу распачаць абранне старшыні Дзяржаўнай Думы. У сувязі з неабходнасцю выканання ўсіх маніпуляцый пры падачы і падліку галасоў працэдура зацягнулася, хоць кожны ведаў, што кадэты, якія «правілі баль» у Думе, ужо даўно прызначылі на гэтае месца маскоўскага адваката Сяргея Мурамцава. Урэшце Мурамцаў пад бурныя апладысменты заняў крэсла старшыні, падзякаваў за аказаны давер і прапанаваў пракрычаць *Ура!* у гонар «канстытуцыйнага манарха». Гэты тэрмін, які не быў прадугледжаны і зацверджаны ні ў якіх афіцыйных дакументах, выклікаў сапраўдны шквал апладысментаў»[491].

Ужо першыя прамовы, у т. л. старшыні Думы, яскрава паказалі, што дэпутаты не збіраюцца дзейнічаць выключна ў рамках вызначанай кампетэнцыі. Сяргей Мурамцаў заявіў, што ў дзейнасці Думы будзе рэалізоўвацца «воля народа» і заклікаў да працы дзеля народу і Радзімы.

Дэпутаты літоўскіх і беларускіх палякаў прыехалі ў Пецярбург, так і не скончыўшы дыскусію аб лёсе іх дэпутацкай групы. Толькі 4 мая было прынята канчатковае рашэнне стварыць самастойную тэрытарыяльна-нацыянальную фракцыю з уласнай праграмай і назвай «Група дэпутатаў ад заходніх губерняў». У друку яе звычайна называлі «Тэрытарыяльным колам». Прынцыповае значэнне мела заява, што ўвайсці ў «Групу» могуць усе дэпутаты Беларуска-Літоўскага краю незалежна ад нацыянальнасці.

Распрацоўка праграмы была закончана ў сярэдзіне чэрвеня 1906 г. Галоўнай мэтай абвяшчалася мірнае суіснаванне ўсіх народаў Краю і задавальненне іх патрэб. Будучае дзяржавы звязвалася з канстытуцыйна-парламенцкім ладам, заснаваным на дэмакратычных прынцыпах. Таксама праграма ўключала патрабаванні ўвядзення асноўных дэмакратычных свабод, поўнай роўнасці ўсіх грамадзян незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, ліквідацыі саслоўнага падзелу, канстытуцыйнага забеспячэння нацыянальных і культурных патрэб і правоў

[491] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 119.

нацыянальных меншасцяў, стварэнне органаў самакіравання як пераход да федэратыўнай структуры Расійскай дзяржавы, дазволу на карыстанне мясцовымі мовамі ў адміністрацыйных установах, судах, школах і грамадскіх арганізацыях, увядзення ўсеагульнага бясплатнага пачатковага навучання ды інш.

У аграрным пытанні адзінства дэпутаты не дасягнулі. Яны згаджаліся, што яго вырашэннем павінны займацца органы мясцовага самакіравання на аснове прынцыпа прыватнай уласнасці на зямлю і шляхам паляпшэння і павялічэння зямельнай уласнасці сялян. Дзеля гэтага прапанавалася выкарыстанне казённых, манастырскіх, дзяржаўных і кабінецкіх зямель. Розніца поглядаў датычыла толькі лёсу памешчыцкага землеўладання. «Палажэнне А» вызначала яго так: «Магчыма частковае прымусовае адчужэнне памешчыцкіх зямель за выкуп». «Палажэнне Б»: «Магчыма прымусовае адчужэнне прыватных зямель дзеля камасацыі, урэгулявання праблемы сервітутаў, ліквідацыі цераспалосіцы». Апошні варыянт прадугледжваў большыя гарантыі для захавання памешчыцкага землеўладання.

Якой была пазіцыя Рамана Скірмунта? На пачатку мая 1906 г. уласнае апытанне сярод сяброў «Групы дэпутатаў ад заходніх губерняў» правёў «Кур'ер Літэўскі». Першым выказаўся якраз Раман Скірмунт, абраны ў склад Аграрнай камісіі Думы: «У Думе ёсць шмат прыхільнікаў рабавання землеўласнікаў і нацыяналізацыі зямлі. Але большасць не дапусціць перамогі ініцыятараў гэтых рызыкоўных эксперыментаў. Перадача сялянам дадатковага надзелу магчыма толькі ў Цэнтральнай Расіі. У нас можа быць толькі частковае адчужэнне памешчыцкіх зямель за выкуп»[492]. Неабходнасць частковага адчужэння за выкуп таксама прызнавалі Геранім Друцкі-Любецкі і Эдвард фон Роп. «Палажэнне Б» падтрымалі Баляслаў Ялавецкі і Чэслаў Янкоўскі.

8 мая 1906 г. Дума пачала абмеркаванне аграрнага пытання. Да найбольш папулярных праектаў яго вырашэння належаў праект Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі, які прадугледжваў прымусовы выкуп прыватнаўласніцкіх земляў і перадачу іх сялянам. Апрача таго, дэпутаты г. зв. *Трудовой группы* («праект 104-х») прапанавалі стварэнне «грамадскага зямельнага фонда» дзеля забеспячэння зямлёй малазямельных і беззямельных сялян на ўмовах арэнды ўчасткаў у межах вызначанай «працоўнай нормы». Існаваў таксама эсэраўскі праект, які зыходзіў з пастулата ліквідацыі прыватнай уласнасці на зямлю і абвяшчэння яе ўласнасцю ўсяго насельніцтва Расіі.

Першым з дэпутатаў «Групы» ў Думе выступіў якраз Раман Скірмунт. Ён прызнаў неабходным павелічэнне сялянскага землеўладання, але выказаўся супраць папулярных у Думе і грамадстве праектаў радыкальнай аграрнай рэформы. Дэпутат рэзка крытыкаваў аграрны праект *трудовиков*, які прадугледжваў адчужэнне часткі памешчыцкіх зямель ды іх нацыяналізацыю разам з былымі царкоўнымі і казённымі ўладаннямі. Землі гэтага дзяржаўнага фонду потым пла-

[492] «Kurier Litewski». 1906, Nr 103.

навалася перадаць сялянам у доўгатэрміновую арэнду. Раман Скірмунт адзначыў, што ў гэтым выпадку месца былых землеўласнікаў зойме дзяржава і наступіць «рай» для бюракратыі.

Гэта быў адзін з найбольш аргументаваных і эмацыйных выступаў супраць праектаў радыкальнага вырашэння аграрнай праблемы. Выступленне не спадабалася большасці дэпутатаў і перапынялася выкрыкамі абурэння. Вось як апісаў заканчэнне выступу Скірмунта карэспандэнт «Кур'ера Літэўскага»: «Уся правіца і частка Цэнтра пляскаюць у далоні, левіца – шыпіць і крычыць. З месцаў, што займае Польскае кола, аніводнага гуку. Са сваіх месц уздымаюцца, каб павіншаваць прамоўцу, такія прадстаўнікі памяркоўных кадэтаў, як прафесар Сяргей Катлярэўскі і Міхаіл Львоў»[493].

*ДАКУМЕНТ*

**З прамовы Рамана Скірмунта на пасяджэнні Дзяржаўнай Думы 16 мая 1906 г.**[494]
**Фрагмент**

*[…] Вчера Дума поступила очень правильно, очень справедливо не решив прекратить все прения по этому поводу посредством упрощенной гильотины. Вопрос очень важный, сложный и было бы действительно странным, если бы мы, избирая комиссию (Аграрную камісію – А. С.) по столь важному вопросу, решились бы сделать это без каких-либо рассуждений. Тем более, ввиду материала, который нам доставлен заявлением (г. зв. «заява 42-х» рэзюміравала найбольш радыкальныя праекты аграрнага заканадаўства – А. С.), это представляется почти необходимым. На одном пункте, несомненно, мы всё таки будем единодушны, все согласны – это в желании по возможности содействовать улучшению положения крестьянского хозяйства и увеличению площади их землевладения или землепользования.*

*Согласно заявлению, отчуждение частной земельной собственности должно произойти в самых обширных, можно сказать, даже небывалых размерах. Несомненно, если все те предложения, которые заключены в этом заявлении, будут приняты, то крупное и среднее землевладение будет упразднено. Однако принудительное отчуждение не остановится только на этих формах землевладения. Во многих случаях и мелкое землевладение будет поглощено, ведь в пятом пункте «в» сказано, что различные угодья и земли, не превышающие по площади установленные по законам размеры на одного владельца, должны подлежать обязательному отчуждению, если местное население не может получить достаточного обеспечения из других земель в той же местности. Также в некоторых других случаях разрешается отчуждение даже мелких участков земли; словом, если бы*

493 «Kurier Litewski». 1906. Nr 152.

494 *Стенографические отчеты. Гос. дума, 1906 год, сессия первая*. Санкт-Петербург 1906–1907. Том 1. Заседания 1–18, с. 409–411.

*законопроект был разработан на основании заявления, то из прежней частной собственности не осталось бы ровно ничего, или остались бы самые жалкие незначительные остатки. Ломка прежнего строя в прежней форме землевладения произошла бы основательная, и от него не осталось бы камня на камне.*

*Однако вопрос – в чью пользу произошло бы это? Кто явился бы, так сказать, наследником этого бывшего землевладения? Местные землевладельцы были бы замещены миллионами новых счастливых собственников? Вовсе нет. Единственным наследником, единственным юридическим лицом, которое бы приняло в свою собственность все отчуждаемые земли, было бы государство – все земли поступили бы в государственный земельный фонд. Опять благодать для бюрократии[,] Эльдорадо.*

*Конечно, никто из крестьян и мелких землевладельцев не получит из всего этого ни одной десятины, ни малейшего куска земли. Ведь в 4-м пункте[, что] сказано? Все земли отчуждаюся в государственный земельный фонд. Из государственного земельного запаса все земли передаются в долгосрочное пользование на срок, установленный подлежащими учреждениями, однако, без права переуступки. Следовательно, все отчуждение частновладельческих земель, а их будет громадное количество, произойдет в пользу земельного фонда, и земли будут отдаваться казной в аренду на известный срок, на 10–20 лет, а, может быть, и пожизненно, однако, не в собственность; все наследственные права будут безусловно исключены: сын не будет пользоваться плодами трудов своего отца; сын не будет работать на том поле, где трудился его отец. По постановлению будущих бюрократических органов все земли могут быть перадаваемы новым владельцам, а наследники могут быть переведены в другие места, на другие участки, и плодами трудов прежних владельцев будут пользоваться новые, чужие люди.*

*Это предложение не ставит себе задачу – увеличение площади крестьянского землевладения. Здесь сказано только о пользовании землёй. Не знаю, как решение этого вопроса будет принято в тех местностях, где существует общинное землевладение, но в районах подворного, личного землевладения такой проект будет принят с недоумением, с ужасом.*

*Я обращаю внимание еще на один пункт этой программы, который вызовет недоумение. В п. 7 сказано: «Из государственного земельного запаса отводятся земли сначала местному населению, а за удовлетворением потребности местного населения, земли предназначаются для переселенцев». Мне кажется, что этот вопрос поставлен тоже неправильно. Не следует устраивать переселенческого дела во внутренних губерниях России с сравнительно значительным населением. Например, в некоторых уездах Волынской и Минской губерний в настоящее время оказалось бы еще много свободных участков, однако, прирост населения там значительно выше среднего нормального процента. Через несколько лет эти земли будут необходимы местному населению, между тем, они могут быть заняты переселенцами. Мне кажется, это было бы очень обидным и несправедливым для*

*местного населения. Думаю, оно будет всеми силами протестовать против этого и сумеет защищаться.*

*Однако, я еще скажу несколько слов об обязательном отчуждении. Я не буду упоминать о праве частной собственности – это понятие, по мнению многих, устарело, может быть, даже предрассудок? Однако передача и отчуждение таких громаднейших пространств, как полагается по этому проекту – ведь будут отчуждены сплошь и рядом все земли, находящиеся под пашней, под лугами, все леса, даже участки мелких землевладельцев, даже земли, находящиеся под усадьбами, промышленными заведениями, питомниками – все это требует громаднейших финансовых средств и расходов; откуда взять?*

*Вот об этом в заявлении не упоминается ни слова. Вопроса этого для авторов заявления не существует. Однако, это может отразиться неблагоприятно на положении всего государства. Как это повлияет на благосостояние населения, которое лишится миллионов заработка, который им доставляют в настоящее время среднее и крупное землевладение? Как это отразится на культуре и промышленности, не поведет ли это к государственному банкротству? Все это сомнения серъезные, немаловажные. Дать положительный ответ на эти вопросы необходимо прежде, чем мы приступим к решению земельного вопроса.*

*Если крестовый поход физиократов, аграриев и доктринеров против частной земельной собственности будет иметь успех, то этим всё-таки дело не кончится, еще останется множество безземельного населения, останутся рабочие, останется и бедное городское население. Они тогда выступят с иском к имущим классам с требованием передать в их пользование дома, промышленные заведения, капиталы. И это требование будет вполне справедливо, и мы не найдем никаких справедливых против него возражений. Такие требования несомненно поступят к нам.*

*После японской авантюры, после несчастной внутренней междоусобицы, вызванной нерадением и грехами правительства, не толкнем ли мы страну в новую экономическую и социальную авантюру, еще более опасную в своих последствиях, чем все те, которые мы уже пережили?*

*Вот те опасения и те сомнения, которые делают для многих из нас положительно невозможным согласиться с заявлением в его настоящем виде. Однако, мы, конечно, будем стоять, думаю, единогласно, за выборы комиссии. Частная собственность может быть сохранена и должна быть сохранена для общей пользы государства, однако одновременно площадь крестьянского землевладения может быть и должна быть увеличена. Мы знаем, что это невозможно сделать без многих жертв со стороны имущих классов, но на это все приготовлены. И вот мы будем стоять за выборы комиссии, переполненные желанием по мере возможности содействовать улучшению крестьянского хозяйства и увеличению площади землевладения. (Сдержанные знаки неодобрения).*

*Председатель: Прошу прощения, что в качестве председателя я позволяю*

*себе сказать следующее: авторитет законодательного учреждения, какова Государственная Дума, стоит высоко и может стоять высоко только при условии, что все члены Государственной Думы имеют возможность высказывать свободно свое мнение, именно потому, что Дума выслушивает все мнения и, выслушав их, постановит свое решение большинством голосов […], это решение приобретет особый авторитет и про него нельзя будет сказать, что решение постановлено под односторонним влиянием и т. д.*

*Поэтому я вас прошу, усерднейше прошу, воздерживаться от знаков неодобрения. Эти знаки неодобрения всегда ораторов смущают. Можно не одобрять дурной поступок, если только допустить, что кто-нибудь из нас способен на такой поступок, но не одобрять взгляды, которые высказываются членами Государственной Думы по долгу совести, мне кажется, не следует.*

*Прошу извинения, что я позволил себе это сказать, но достоинство... (Аплодисменты).*

А вось як ахарактарызаваў выступ Скірмунта Чэслаў Янкоўскі, які асвятляў працу Думы ў якасці карэспандэнта «Кур’ера Літэўскага» пад псеўданімам *Ligenza*:

*ДАКУМЕНТ*

**Ligenza [Чэслаў Янкоўскі]. Аграрная справа ў Дзяржаўнай Думе**[495].
**Фрагмент.**

*[…] У баявую сурму ўдарыў менскі дэпутат Раман Скірмунт. Не паглыбляючыся ў дэталі [праекта] аграрнай рэформы, які грунтаваўся на радыкальных дактрынах, менскі дэпутат паставіў Думу перад фактам, што экспрапрыяцыя будзе азначаць канец буйной і дробнай зямельнай уласнасці, што правядзенне такой рэформы запатрабуе вялізных сродкаў, і, нарэшце, што невядома, ці спадчыннікі (на праве арэнды) распарцэляванай зямлі атрымаюць хоць нейкую матэрыяльную карысць ад валодання гэтай доўгачаканай зямлёй, а вось гаспадарка і культура краю напэўна на доўгі час будзе зруйнаваная.*

*Скірмунт прамаўляў востра і пераканаўча. Нягледзячы на шум пратэстаў, якія несліся з лаваў сялянскай «Групы працы», ён ужыў слова «жах» для характарыстыкі таго ўражання, якое выклікаў праект аграрнай рэформы сярод землеўласнікаў.*

*Адважна і моцна прамаўляў менскі дэпутат, называючы рэчы сваімі імёнамі. Расійска-японскую вайну ён назваў «авантурай», а правядзенне аграрнай рэформы акрэсліў як яшчэ «большую авантуру». Адным словам, Скірмунт зрабіў сапраўднае expose той апазіцыйнай акцыі, якая збіраецца на даляглядзе, супраць аграрнай рэформы, што грунтуецца на экспрапрыяцыі і наступнай нацыяналізацыі зямлі.*

---

495 «Kurier Litewski».1906, Nr 111.

*Менскі дэпутат пайшоў вельмі далёка... Магчыма занадта далёка ў прынцыповай справе, а з пункту гледзішча тактыкі – безумоўна занадта далёка.*

*Вострая і безапеляцыйная прамова адразу ж выклікала рэпліку з боку «Групы працы», з якой супраць «абшарнікаў» выступіў ковенскі дэпутат Лопас. Такім чынам, замест планаванага першага падыходу да аграрнай праблемы, замест асцярожных дэбатаў (у выпадку, калі б не атрымалася іх пазбегнуць) адразу ж распачалося in medias res*[496]*… Што было непажадана» […]*

Затое Эдвард Вайніловіч вельмі высока ацэньваў пазіцыю і паводзіны Рамана Скірмунта падчас абмеркавання аграрнага пытання. Нават у яго пазнейшых успамінах адчувальны гонар за калегу, які «выступіў у абарону права ўласнасці, без якога немагчыма існаванне ні дзяржавы, ні грамадства, ні культуры […] Ад Віслы да Ціхага акіяна прагрымеў лозунг: Яшчэ не згінула ўласнасць!»[497].

Вядомы польскі палітык Уладзіслаў Студніцкі, які не падзяляў краёвай ідэі, гэтую прамову Р. Скірмунта лічыў узорам «грамадзянскай мужнасці»[498].

У абарону прыватнага землеўладання і супраць нацыяналізацыі зямлі выступілі таксама князь Друцкі-Любецкі і біскуп Роп. Пазіцыю дэпутатаў Кола падтрымала эліта літоўскіх палякаў, а вось у Пецярбурзе яны апынуліся ў атмасферы варожасці. І гэта пры тым, што па большасці пытанняў сябры «Групы» цалкам падтрымлівалі курс на дэмакратызацыю краіны. Так, Раман Скірмунт падтрымаў заяву 151-го дэпутата Думы «Асноўныя палажэнні законаў пра дзяржаўную роўнасць»[499]. Падмуркам прапаноў быў тэзіс: «Усе грамадзяне абодвух полаў роўныя перад законам». Заява прапанавала адмену ўсіх саслоўных прывілеяў і абмежаванняў, а таксама абмежаванняў, звязаных з нацыянальнай і канфесійнай прыналежнасцю, роўнасць жанчын у доступе да адукацыі, у выбарчым заканадаўстве ды інш.

Ягоны ж подпіс стаяў на шматлікіх дэпутацкіх запытах да міністра ўнутраных спраў Пятра Сталыпіна адносна зняволеных у турмах, асуджаных на адміністрацыйную высылку і на смерць. Ва ўсіх запытах адзначалася сваволле мясцовай адміністрацыі, паводле загадаў якой адбываліся арышты і турэмнае зняволенне без прад'яўлення абвінавачванняў, а таксама актыўна выкарыстоўваліся ваенныя суды[500].

Атмасфера ізаляцыі, якая ўзнікла вакол «Групы», не спрыяла яе кансалідацыі. Апрача лёсу памешчыцкага землеўладання ў Беларусі і Літве дэпутатаў падзяліла

---

496 Гэта можна перакласці з латыні як «у цэнтры падзей».

497 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 151.

498 Wł. Studnicki, *Pierwsza Duma Państwowa i działalność naszych posłów*. Warszawa 1907, s. 37.

499 *Стенографические отчеты. Гос. дума, 1906 год, сессия первая.* Том 1. Заседания 1–18, с. 378–380.

500 Там же, с. 629, 743; *Стенографические отчеты. Гос. дума, 1906 год, сессия первая*. Санкт-Петербург 1906–1907. Том 2. Заседания 19–38, с. 1075, 1572, 1681, 1758, 1801, 1845.

рознае стаўленне да нацыянальнай праблемы. Сябра Кола граф Юзаф Патоцкі на старонках «Дзенніка Кіеўскага» прызнаў існаванне супярэчнасцяў і з раздражненнем заўважыў: «Я заўсёды выказваюся як паляк, а некаторыя іншым разам выступаюць як беларусы»[501]. Не цяжка здагадацца, каго ён меў на ўвазе...

У адным з наступных нумароў гэтай газеты быў апублікаваны ліст *грамадзяніна Забранага краю П. В.* Аўтар быў абураны паводзінамі польскіх дэпутатаў ад Менскай губ., якія нібыта публічна прызналі, што з'яўляюцца «тутэйшымі», а таксама «беларусамі польскай культуры». Як здраднікі фігуравалі Р. Скірмунт, Г. Друцкі-Любецкі, В. Янчэўскі і М. Масоніус. Спрабуючы зразумець іх пазіцыю, аўтар адразу ж адкінуў варыянт беларускага паходжання і выказаў меркаванне, што такім чынам яны нібыта хочуць і надалей захаваць дэпутацкія мандаты. У лісце сцвярджалася існаванне ў «Групе» дзвюх плыняў, якія змагаюцца паміж сабой. Пры гэтым «беларусы» абзываюць апанентаў «ляхамі» і г. д.[502] Падобна, што «ляхамі» аказаліся якраз абранцы польскіх землеўласнікаў з украінскіх земляў (у т. л. згаданы граф Патоцкі), якія таксама далучыліся да «Групы дэпутатаў заходніх губерняў». «Дзеннік Кіеўскі» выступаў у іх абарону.

Адной з найбольш значных думскіх фракцый была «Парламенцкая група Саюза аўтанамістаў», якая яднала прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў Расіі, што з'яўляліся сябрамі розных палітычных партый. Падмуркам паяднання была ідэя дэцэнтралізацыі сістэмы ўлады і аўтаномія ўскраін. Група аўтанамістаў налічвала ад 120 да 150 дэпутатаў[503]. А найбольшай актыўнасцю вылучаліся якраз дэпутаты «заходніх губерняў». Магчыма, гэтаму паспрыяла тое, што адным з ініцыятараў стварэння гэтай парламенцкай групы, а потым яе кіраўніком быў адвакат Аляксандр Лядніцкі.

У лісце да прафесара Мар'яна Здзяхоўскага ён назваў Рамана Скірмунта сваім «найвялікшым саюзнікам у Думе» і заўважыў, што той «выдатна арыентуецца ў сітуацыі і з'яўляецца надзіва сімпатычным чалавекам». Адначасна дэпутатаў ад «Русі» (меліся на ўвазе ўкраінскія землі) Лядніцкі ахарактарызаваў як «сапраўдных феадалаў і цалкам апалітычных людзей»[504].

Для Аляксандра Лядніцкага адной з галоўных мэтаў думскай дзейнасці была аўтаномія Каралеўства Польскага. Менавіта таму ён быў вельмі асцярожны ў ацэнках праектаў аграрнай рэформы, заяўляючы, што рэформай павінна займацца мясцовае самакіраванне, і заклікаў да стрыманасці іншых дэпутатаў ад Менскай губ. Ён асцерагаўся, што выступы польскіх дэпутатаў па аграрнай пра-

---

501 «Dziennik Kijowski». 1906, Nr 101.

502 Ibidem. 1906, Nr 103.

503 Н. Бородин, *Государственная Дума в цифрах*. СПб. 1906, с. 42.

504 БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–534. Ліст А. Лядніцкага да М. Здзяхоўскага, арк. 7 адв.–8. Ліст не датаваны, але змест дазваляе сцвярджаць, што ён быў напісаны падчас дзейнасці I Дзяржаўнай Думы.

блеме могуць выклікаць недавер да самой ідэі аўтаноміі, якую будуць успрымаць як прыкрыццё інтарэсаў «абшарнікаў». Цікава, што паводзіны Р. Скірмунта пры абмеркаванні аграрнай праблемы не перашкаджалі Лядніцкаму бачыць у ім саюзніка.

Адносіны «Групы дэпутатаў ад заходніх губерняў» з Польскім колам складваліся няпроста. Па многіх пытаннях яны ўзгаднялі свае пазіцыі і дзейнічалі сумесна. Аднак дэкларацыю Польскага кола аб аўтаноміі Каралеўства Польскага сябры «Групы» не падтрымалі, заявіўшы пра адметнасць краёвых інтарэсаў. Чэслаў Янкоўскі пазней згадваў, што напярэдадні выступу прадстаўніка Польскага кола ў Думе з Дэкларацыяй пра аўтаномію Польшчы да дэпутатаў ад літоўскіх і беларускіх палякаў, якія збіраліся на кватэры Б. Ялавецкага, прыехаў Ф. Навадворскі, каб пазнаёміць з яе зместам. Яго сустрэлі даволі крытычна. Дэпутаты-краёўцы лічылі Дэкларацыю шкоднай для «польскага пытання» ва ўмовах І Думы і звярнулі ўвагу на адметнасць інтарэсаў Беларуска-Літоўскага краю. Пасля працяглай дыскусіі дамовіліся на наступны дзень правесці сход Польскага кола, на які дэлегаваць Рамана Скірмунта, Чэслава Янкоўскага і Уладзіміра Грахольскага з Валыні. Аднак Скірмунту перашкодзілі прыняць у ім удзел пільныя справы, а крытычныя заўвагі, прапановы і стылёвыя праўкі двух іншых дэлегатаў былі адкінуты сходам[505].

30 красавіка 1906 г. у Думе была прачытана Дэкларацыя Польскага кола пра аўтаномію Каралеўства Польскага. Папулярнасці польскім дэпутатам яна сапраўды не дадала. У сваю чаргу Польскае кола не падтрымала пазіцыі «Групы» па аграрным пытанні. Дэпутаты ад Каралеўства Польскага прагаласавалі за праект аграрнай рэформы Партыі канстытуцыйных дэмакратаў (кадэтаў), які быў непрымальны для эліты літоўскіх палякаў.

Між тым, сярод урадавых колаў яшчэ ў сярэдзіне мая ўзнікла ідэя роспуску Думы. 20 чэрвеня ўрад нанёс моцны ўдар. У гэты дзень была надрукавана ўрадавая заява аб прынцыпах аграрнай рэформы, у якой падкрэслівалася недатыкальнасць прыватнай уласнасці і недапушчальнасць вырашэння аграрнага пытання на прынцыпах, прапанаваных Думай.

Гэта быў адкрыты выклік, і Дума вырашыла прыняць яго. Сярод часткі кадэцкіх дэпутатаў узнікла ідэя думскага звароту да народу. Закон забараняў гэта рабіць, але дэпутаты свядома пайшлі на яго парушэнне. У дыскусіі па гэтым пытанні актыўна ўдзельнічала ўся «Група». Геранім Друцкі-Любецкі і Раман Скірмунт выступілі супраць звароту. Яны лічылі непажаданым адкрытае выступленне Думы супраць урада. Скірмунт, які расцаніў урадавую заяву як «памылковую», сцвярджаў, што зварот можа канчаткова знішчыць уладу. Ён заклікаў не ператвараць Думу ў зброю партыйнага змагання.

505 Cz. Jankowski, *W ciągu dwóch lat…* Warszawa 1908, s. 87–91.

*ДАКУМЕНТ*

**З прамовы Рамана Скірмунта на пасяджэнні Дзяржаўнай Думы 4 ліпеня 1906 г.[506] Фрагмент.**

*[…] Не всякий удар допустим, нельзя убивать назойливой мухи на чужой щеке; ведь от подобного удара необходимо воздержаться. При подобной партийной борьбе необходимо избирать почву тщательно и осторожно. Аграрный вопрос – вопрос очень щекотливый и очень опасный. Вспомните, когда в 1902 или в 1904 годах разрешался аграрный вопрос в Ирландии при министерстве Бальфура, то это происходило при заключении перемирия, при полном соглашении партий. Нам необходимо было бы следовать этому примеру. Желательно нанести удар министерству, но нам необходимо обращать внимание и на то, чтобы мы не нанесли одновременно удара и тому, что должно быть для нас всего дороже, благу родины. […]*

*Однако в настоящий момент я считаю более важным самый вопрос, вызвана ли действительно правительственным сообщением необходимость возражения? Мнения многих склоняются к утвердительному ответу; оно необходимо будто бы для того, чтобы успокоить взволнованное население. […]*

*Конечно, заслуга была бы громадная, если бы Государственная Дума пожелала и сумела бы повлиять на успокоение населения, на излечение от ран, от которых страдает страна. Однако, время наше очень занято, и у нас остаётся очень мало свободного времени. Мы всецело поглощены необходимой борьбой с министерством. Конечно, разносить министерство – занятие очень приятное (смех), иногда даже полезное, однако оно не должно всецело поглощать наше время. Многие придерживаются того мнения, что министерство давным давно само бы с нами расссталось, если бы слишком пылкие и громкие речи, произносимые здесь, с этой кафедры, не удерживали бы его искусственно при жизни. Что между министерством и нами существует полнейший раскол, разлад, это народу прекрасно известно; это известно из всех газет, из печатных наших речей.*

*Однако сообщение со стороны Государственной Думы в том виде, в каком оно предложено нашей комиссией, могло бы вызвать другое, может быть нежелательное впечатление, а именно то, что наш спор не кончается здесь у министерской скамьи, а идет значительно дальше. Подобное впечатление было бы нежелательно; оно было бы в состоянии разрушить окончательно тот жалкий призрак власти, который еще существует в стране; и как эта власть не опорочена, она все же лучше, чем полное господство анархии. […]*

*Думу, мне кажется, лучше оставить в покое, да не будет она служить оружием для партийной борьбы! Мы упрекаем, и вполне правильно, правительство в том, что оно потчует народ как бы несваренной пищей, оно разъясняет за-*

---

[506] *Стенографические отчеты. Гос. дума, 1906 год, сессия первая*. Том 2. Заседания 19–38, с. 1962–1966.

*коноположения, которые не получили еще в установленном порядке утверждения. Но мы в этом идём гораздо дальше, чем правительство. Мы желаем представить наши объяснения по поводу предположений, для которых у нас даже не разработан окончательный план, не разъяснены окончательно основы. Если мы будем передавать населению такие не вполне ясные сообщения, то ведь это может только увеличить существующее в стране и без того безобразное вавилонское столпотворение. Ведь многие из нас, членов Государственной Думы, еще не уяснили себе в полном размере объема предполагаемой аграрной реформы. […] Если вопрос, даже не вполне разрешенный ввел такую смуту в наше понимание, то что он должен произвести там, где нераздельно царствует власть тьмы, где наши неполные, не ясные предположения будут объясняться в деревенской глуши не всегда доброжелательными и не всегда добросовестными комментаторами?*

*В записке 42-х упоминаются, между прочим, при перечислении земель, которые не подлежат отчуждению, сады и огороды. И что же мы видим? Как бы в ответ на это, по сведениям, которые получаются в газетах, в некоторых местностях, при усовершенствованном способе погромов начинают именно с садов и огородов, как бы не желая, чтобы они мешали проведению полного принципа отчуждения, который, будто бы, установлен. Рассуждение тут очень просто и логично. Если добрые люди порешили раздать всю землю таким способом, т. е. подвергнув все частновладельческие земли полному отчуждению, и если эти добрые люди или Дума не могут этого сделать сейчас по каким-то соображениям, для исполнения каких-то формальностей, так, может быть, для населения не обязательно ожидать исполнения всех этих формальностей? Пусть себе Дума работает; можно уже справиться с тем, что присуждено в пользу населения и до окончания работ Думы. Мне кажется, что подобные недоразумения могут повторяться часто, что подобное сообщение, как оно предложено со стороны аграрной комиссии, введет только еще большую смуту (шум, среди депутатов волнение), будет так понято, что вся земля уже передана (восклицания). Я скоро кончаю; мне тоже надо предоставить свободу слова.*

*Необходимо было бы разъяснить, что вопрос еще не решен окончательно и потому вряд ли можно обращаться теперь с неполным разъяснением к народу. Желательно внести успокоение в страну. Я не стану обращаться к тем, кто готов удовлетвориться и успокоением на развалинах, успокоением, напоминающим знаменитую картину Верещагина «На Шипке всё спокойно»; я обращаюсь к тем, которые желают мирного обновления своей родины. Господа, мы переживаем время серьезное, время опасное. Мы находимся в борьбе с министерством, в борьбе, которая, несомненно, будет доведена до конца. Однако необходимо обращать внимание, чтобы от этого не пострадала вся страна. Мы желаем нанести удар министерству, однако надо обратить внимание, чтобы не нанести одновременно удар родине. Для мирного обновления страны необходимы новые прочные основы, необходимы новые законы. Конечно, первым должен быть спра-*

*ведливый закон об удовлетворении земельной нужды крестьян, однако в пустых воззваниях, декларациях страна не нуждается, она наслушалась их уже довольно.*

*Председатель: Оратор, я останавливаю вас за слова «пустые воззвания».*

*Голос: Возьмите назад эти слова.*

*Скирмунт: Я вовсе не желал применить это слово «пустое заявление» к докладу комиссии. Желательно было бы одно в обращении Государственной Думы к народу: желательно сказать, воздерживаясь от всяких полемических и неясных принципиальных заявлений, желательно подтвердить, что мы помним его нужды, что мы заботимся о них, что они будут справедливо удовлетворены, однако, для того, чтобы работа наша была плодотворна, необходимо соблюдать в стране законность и спокойствие (аплодисменты справа, шиканье слева, шум).*

*Председатель: Господа, мы прошлый раз уже условились, чтобы этот зал был залом свободы мнений. Высказывание разных мнений только гарантирует серьезный характер предстоящих решений и вследствие этого всякие порицания, произносимые по адресу ораторов в этом зале неуместны. Господа, будем же сохранять наш хороший договор как следует.*

Пазіцыю Рамана Скірмунта падтрымала большасць дэпутатаў Беларусі і Літвы. Аднак Дума ўсё ж прыняла рашэнне аб звароце да народа, а ўрад выкарыстаў гэта, каб распусціць парламент. 8 ліпеня Мікалай II падпісаў Маніфест аб роспуску Думы і прызначыў тэрмін склікання II Думы – 20 лютага 1907 г. Адначасова быў адпраўлены ў адстаўку старшыня Савета міністраў Іван Гарамыкін. Новым прэм’ерам стаў Пётр Сталыпін, які захаваў за сабой таксама пасаду міністра ўнутраных спраў.

Значная частка дэпутатаў (у асноўным фракцыя партыі канстытуцыйных дэмакратаў) пераехалі ў Выбарг, каб выпрацаваць тэкст думскага пратэсту. Урад загадаў уладам аўтаномнай Фінляндыі распусціць сход. Аднак дэпутаты ўсё ж паспелі падпісаць дакумент. Яго надрукавалі і тайна прывезлі ў Пецярбург. Аснову пратэсту склаў заклік да насельніцтва не плаціць падаткі і адмаўляцца ад службы ў войску.

«Група дэпутатаў заходніх губерняў» у гэтай акцыі не ўдзельнічала. Праз «Кур’ер Літэўскі» яны звярнуліся з уласным зваротам да насельніцтва Беларусі і Літвы. Дэпутаты заяўлялі, што імкнуліся абараняць інтарэсы Краю. Яны крытыкавалі ўрад, які не толькі не здолеў навесці парадак у краіне, але нават не зняў нацыянальных абмежаванняў. У звароце выказвалася шкадаванне, што не спраўдзіліся надзеі, звязаныя **з** Думай, крытыкаваліся «выбаржцы» і выказвалася спадзяванне на больш паспяховую дзейнасць новай Думы[507].

Сябры «Групы» палічылі патрэбным таксама выступіць з самастойнай заявай, апублікаванай на старонках варшаўскай газеты «Слова». У ёй сцвярджалася, што

507 «Kurier Litewski». 1906, Nr 158.

галоўнай мэтаю дзейнасці «Групы» было служэнне інтарэсам Беларуска-Літоўскага краю, які іх абраў. Крытыкуючы думскія праекты аграрнай рэформы, як не адпавядаючыя патрэбам Краю, яны прызнавалі неабходнасць паляпшэння дабрабыту малазямельных сялян пры дапамозе мясцовага самакіравання, і заклікалі да сумеснай працы дзеля росквіту гістарычнай Літвы. Сярод падпісаўшых фігураваў таксама Скірмунт...[508]

«Неафіцыйнае» стаўленне Рамана Скірмунта да роспуску Дзяржаўнай Думы адлюстравалася ў лісце Ядвігі Скірмунт да Элізы Ажэшкі ад 28 ліпеня 1906 г.: «Мой стрыечны брат вярнуўся з Пецярбургу з перакананнем, што роспуск Думы быў неабходнасцю. Калі б яна надалей існавала, то дайшло б да страшэннага выбуху»[509].

Падобна, што Раман Скірмунт звязваў з асобай Сталыпіна надзеі, як на «супакаенне» краіны, так і на перамены ў становішчы Краю і літоўскіх палякаў. Ён, напэўна, ведаў, што пасля роспуску Думу адбылася сустрэча толькі што прызначанага Старшынём Рады міністраў П. Сталыпіна з Э. Вайніловічам. Кіраўнік урада падзяліўся планамі ўключэння ў склад новага кабінета міністраў вядомых грамадскіх дзеячаў і палітыкаў-лібералаў князя Георгія Львова, Аляксандра Гучкова, Міхаіла Стаховіча і прапанаваў Вайніловічу пасаду віцэ-міністра сельскай гаспадаркі[510]. Такая пазіцыя Сталыпіна давала падставы для пэўнага аптымізму. Пазней у каментарах да ўспамінаў Эдварда Вайніловіча, апублікаваных на старонках віленскай газеты «Слова» (1932) Скірмунт прызнаваўся, што Пётр Сталыпін ствараў уражанне чалавека, якому можна было давяраць. Але, насамрэч, гэта было падманлівае ўражанне[511].

А вось Эліза Ажэшка раней пазбылася ілюзій наконт расійскіх палітыкаў. У лісце да Казіміра Здзяхоўскага ад 2 кастрычніка 1906 г. яна пісала: «Божа! Якія мы няшчасныя, і што зрабіла з намі стогадовае панаванне дзікуноў, якімі з'яўляюцца нашы ўладары! Ведаеце, з болем прыходзіць разуменне, што ўсе яны са сваімі кадэтамі, трудавікамі і г. д., паўдзікуны, што яны з'яўляюцца толькі матэрыялам да грамадства, а не грамадствам, і што з імі ніколі не атрымаецца знайсці паразумення»[512].

Між тым, набліжаліся выбары ў II Дзяржаўную Думу. У жніўні 1906 г. адбыўся з'езд землеўласнікаў Менскай губ., на якім была выказана прапанова распрацаваць праграму, якая б яшчэ на этапе выбараў аб'яднала ўсіх польскіх кандыдатаў. Неабходнасць такой праграмы была відавочная як для краёўцаў, так і для нацы-

---

508 «Słowo». 1906, Nr 202.

509 Instytut Badań Literackich PAN. Archiwum Elizy Orzeszkowej. List Jadwigi Skirmuntówny. 28. 07. 1906 r.

510 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 131.

511 R. Skirmuntt, *Edward Woyniłłowicz. Wspomnienia 1847–1928 r. Wyd. 1931 r.,* «Słowo». 1932, Nr 4.

512 Цытата па: Z. Opacki, *W kręgu Polski, Rosji i słowianszczyzny. Myśl i działalność społeczno-polityczna Mariana Zdziechowskiego do 1914 roku*. Gdańsk 1996, s. 169.

янальных дэмакратаў. Разыходжанні пачыналіся пры абмеркаванні яе зместу. Нацыянальныя дэмакраты па-ранейшаму імкнуліся падмяніць агульнакраёвыя патрэбы польскімі нацыянальнымі інтарэсамі[513]. Краёўцы з гэтым катэгарычна не пагаджаліся. Яны былі перакананы, што польскія дэпутаты Краю зноў павінны выступіць пад агульнакраёвымі лозунгамі.

У пачатку кастрычніка 1906 г. падчас візітацыі касцёлаў Менскай губ. Моладава і Парэчча наведаў віленскі біскуп Эдвард Роп. У Моладаве ён затрымаўся амаль на два дні. У палацы Скірмунтаў адбылося набажэнства, а на падворку – таінства святога прычасця, у якім удзельнічала каля 200 чалавек[514]. Падобна, што ў гэтыя дні ў Моладаве і Парэччы біскуп і зямяне таксама абмяркоўвалі стратэгію і тактыку выбарчай кампаніі.

Магчыма, лістападаўскія публікацыі Канстанцыі і Рамана Скірмунтаў былі водгукам гэтых абмеркаванняў. Так, Канстанцыя Скірмунт у артыкуле «Думкі і намеры»[515] заклікала шляхту і інтэлігенцыю працаваць над ідэяй адзінства Краю, імкнучыся, каб «Краёвае кола» было прадстаўніцтвам усіх народаў Літвы і Беларусі, якія спрадвеку былі і застаюцца ўзаемапрыязнымі. Яна сцвярджала неабходнасць збліжэння шляхты з народамі, якія становяцца на шлях самастойнага развіцця, пераконвала, што інтарэсы шляхты і народу не з'яўляюцца супрацьлеглымі, што паміж імі магчымае палітычнае паразуменне.

Амаль адразу на гэты артыкул адгукнуўся Раман Скірмунт. У лістападзе 1906 г. у трох нумарах «Кур'ера Літэўскага» быў апублікаваны ягоны артыкул «Праграмныя пытанні». Аўтар пераконваў чытачоў у тым, што ўдзел у палітычным жыцці з'яўляецца іх «святым абавязкам», што без гэтага немагчыма бараніць ні інтарэсы Краю, ні свае ўласныя. Скірмунт прыгадаў думскую дыскусію вакол праекта аграрнай рэформы, прапанаванага Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыяй, якую ён ахарактарызаваў як спробу «аплаціць вексель рэвалюцыі нашым коштам». Былы дэпутат яшчэ раз прыгадаў асноўныя хібы гэтага праекта і тыя прапановы, з якім выступаў ён ды іншыя яго праціўнікі[516]. Скірмунт імкнуўся давесці будучым дэпутатам неабходнасць мець уласную краёвую праграму, а не ісці за «фальшывымі багамі», роль якіх у І Думе, на яго погляд, выконвалі кадэты.

Таксама Раман Скірмунт спыніўся на адносінах да расійскага ўрада і «памяркоўных» палітычных партый ліберальнага кірунку. Ён заклікаў да «рэальнай палітыкі» ва ўмовах рэвалюцыйнага крызісу. Былы дэпутат не бачыў для эліты літоўскіх і беларускіх палякаў іншага шляху, як падтрымаць урадавыя намаганні па супакаенні краіны. На яго думку, калі ў выніку рэвалюцыйнага ціску будзе зруйнавана Расійская дзяржава, то пад яе руінамі будзе пахавана і краёвая

---

513 «Dziennik Wileński». 1906, Nr 4, 5, 19.

514 НГАБ. Ф. 1, воп. 18, спр. 1109, арк. 31 адв.–32.

515 S. K. [K. Skirmuntt]. *Myśl i dążenia*, «Kurier Litewski». 1906, Nr 265.

516 R. Skirmunt, *Kwestje programowe*, «Kurier Litewski». 1906, Nr 268.

шляхта. Аднак у выпадку вяртання ўрада да палітыкі рэакцыі і цемрашальства трэба будзе распачынаць змаганне ўжо з ім[517].

Скірмунт бачыў магчымасць супрацы думскага «Краёвага кола» з прадстаўнікамі такіх ліберальных партый як «Партия мирного обновления» і «Партия 17 октября» (*октябристы*). Упершыню на старонках «Кур'ера Літэўскага» Аляксандр Гучкоў атрымаў асцярожную пазітыўную характарыстыку. Аўтар яшчэ раз пацвердзіў сваё перакананне аб магчымасці пабудовы новай дзяржавы на падмурку Маніфеста ад 17 кастрычніка 1905 г.

Прынцыпова важным для Скірмунта было сцвярджэнне, што праграма Краёвага кола павінна ўлічваць інтарэсы шырокіх мас насельніцтва Краю і абавязкова ўключаць такія патрабаванні, як абарона свабод, неабходных для развіцця грамадства і кожнага індывідуума, уздым і пашырэнне асветы і ўдасканаленне тых паправак у заканадаўстве, што датычылі рабочых прамысловасці і сельскай гаспадаркі, якія былі прапанаваны ліберальнымі партыямі.

Дэвізам Краёвага кола ў II Думе Раман Скірмунт лічыў супрацоўніцтва ўсіх народаў, што насялялі Беларуска-Літоўскі край. Гэта зусім не пярэчыла патрыятычнаму стаўленню да ўласнай нацыі і, тым больш, абароне інтарэсаў усяго Краю. «Мы хочам жыць і працаваць там, куды закінуў нас лёс, на той зямлі, дзе выраслі, сынамі якой ад вякоў з'яўляемся як карэннае насельніцтва. Мы хочам, каб гэты край развіваўся і таму імкнемся не да барацьбы на яго нівах, а да мірнага і культурнага супрацоўніцтва […] Мірная супраца і роўныя правы для ўсіх – гэта наш лозунг»[518].

Ён быў перакананы як у недапушчальнасці ўваходу польскіх дэпутатаў Беларусі і Літвы ў Польскае кола, так і ў непазбежнасці супрацоўніцтва з ім. «Нашы дарогі не розныя, але адметныя», – сцвярджаў Раман Скірмунт. Ён яшчэ раз агучыў прапанову, выказаную падчас працы I Думы: уваход у Краёвае кола адкрыты для ўсіх без розніцы веравызнання і нацыянальнасці[519].

У заключэнні Скірмунт заклікаў да дыскусіі і прыгадаў насмешкі польскіх нацыянальных дэмакратаў, якія назвалі краёвы патрыятызм «парафіянствам». «Але ж гэта не абы якая «парафія», – адказаў краёвец. – Былы бюракратычны ўрад называў яе «Северо-Западным краем». Яе межы ад Дзвіны і Нёмана – да Дняпра і Прыпяці. Яна мае агульную гісторыю, і на яе тэрыторыі за выключэннем Ковенскай і часткі Віленскай губ. пануюць тыя ж этнаграфічныя стасункі. Кожны б пажадаў быць пробашчам такой парафіі! Вялікага памеру павінны быць людзі, якім цесна ў гэтай парафіі!»[520]

Але не ўсе краёўцы пагадзіліся з выказанымі ідэямі. У прыватнасці Баляслаў

---

517 R. Skirmunt, *Kwestje programowe*, «Kurier Litewski». 1906, Nr 269.
518 R. Skirmunt, *Kwestje programowe*, «Kurier Litewski». 1906, Nr 270.
519 Ibidem.
520 Ibidem.

Ялавецкі ў звароце «Да маіх высокародных землякоў з Літвы і Русі» (1906) выказаўся катэгарычна супраць надзей і, тым больш, пошукаў згоды з камандай Сталыпіна і расійскімі лібераламі. Кіраўніка ўрада ён характарызаваў як «рускага нацыяналіста».

Публіцыст не бачыў розніцы паміж расійскімі «правымі» і лібераламі ў падыходах да вырашэння нацыянальнага пытання. Ён быў упэўнены, што ўсе расійскія партыі падтрымліваюць ідэю жорсткага цэнтралізму, карані якой трэба шукаць у светапоглядзе самой нацыі. Гэта прымушае краёвыя сілы шукаць шляхі да самастойнага існавання: «Мы з рускімі не можам заставацца пад адной страхой і есці з адной міскі. Гэта было б для нас вялікім няшчасцем»[521].

Толькі пры ўмове самастойнасці гістарычнай Літвы аўтар звароту лічыў магчымым яе нармальнае сужыцце з усходнім суседам. Адпаведна найважнейшай задачай на дадзены момант з'яўлялася ўвядзенне самакіравання. Першым крокам да яго Ялавецкі лічыў стварэнне *Краёвага камітэта*, які б у сваёй дзейнасці абапіраўся на краёвыя губернскія і павятовыя камітэты, што рабіла яго падобным на агульнакраёвую партыю.

Баляслаў Ялавецкі заявіў пра поўную падтрымку пазіцыі Рамана Скірмунта ў пытанні, чые інтарэсы павінны адстойваць абранцы літоўскіх і беларускіх палякаў. Звяртаючыся да «высокародных землякоў», ён заклікаў помніць, што «землеўласнікі – палякі, літоўцы, русіны і беларусы – з'яўляюцца не «аграрыямі» ў вузкім разуменні гэтага слова, а грамадзянамі краю і дэмакратамі ў адпаведнасці з гістарычнай традыцыяй [...] У сітуацыі, калі ўсё насельніцтва краю пераўтварылася ў нацыю, то і мы, шляхта, не можам заставацца асобнай кастай. Нашым абавязкам з'яўляецца абарона інтарэсаў усёй нацыі»[522].

З апошнім тэзісам катэгарычна не згаджаліся польскія нацыянальныя дэмакраты. Другая палова 1906 г. прайшла пад знакам абвастрэння палемікі паміж прыхільнікамі двух кірункаў польскага руху. Гэтаму спрыяла з'яўленне ў Вільні штодзённага выдання сяброў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі «Дзенніка Віленьскага».

Першы нумар «Дзенніка» выйшаў на пачатку жніўня 1906 г. Галоўную ролю ў рэдакцыі адыгрываў Ян Замараеў, больш вядомы пад псеўданімам *Ежы Урсын*. Менавіта ён выступіў з праграмным артыкулам у першым нумары газеты[523]. Нацыянальныя дэмакраты абвінавачвалі краёўцаў у забыцці польскіх нацыянальных інтарэсаў. Яны ахрысцілі апошніх «тутэйшымі», г. зн. людзьмі без нацыянальнасці[524]. Краёўцы, у сваю чаргу, звярталі ўвагу на адасобленасць сваіх

---

521 B. Jałowiecki, *Do zacnych współziemian moich z Litwy i Rusi*. Petesburg 1906, s. 3.

522 Ibidem.

523 «Dziennik Wileński». 1906, Nr 1.

524 Ibidem, Nr 3.

ідэйных канкурэнтаў у Краі: «Калі мы выпусцім з рук сцяг з Пагоняй, наша місія на гэтай зямлі будзе скончана»[525].

«Кур'ер Літэўскі» адыгрываў прыкметную ролю ў гэтай палеміцы. У адным з лістоў да рэдактара Чэслава Янкоўскага Раман Скірмунт падзякаваў за адказ «звышпалякам» (*wszechpolakom*) і дадаў: «Злосцю яны нас значна перавышаюць. Зусім бы нас з'елі, калі б мы не мелі органа друку, які час ад часу дае адпор, і калі б зерне, што яны кідаюць, не было цалкам неадпаведным нашай глебе»[526].

Што датычыць арганізацыйных форм дзейнасці польскіх дэпутатаў Беларусі і Літвы ў Думе, то краёўцы і нацыянальныя дэмакраты працягвалі сваю ранейшую спрэчку наконт далучэння да фракцыі Польскага кола. Менскі з'езд землеўласнікаў абмінуў гэтае пытанне. А вось Віленскі сход, які адбыўся 6–7 снежня 1906 г., выказаўся за захаванне асобнай дэпутацкай групы.

Апрача гэтага, прынятая выбарчая праграма прапанавала ажыццяўленне канстытуцыйных палажэнняў і іх развіццё, роўнасць усіх нацый і рэлігій, недатыкальнасць права ўласнасці, рэгуляванне форм уласнасці і права валодання маёмасцю, ліквідацыю цераспалосіцы і сервітутаў, дэцэнтралізацыю ўлады і ўвядзенне самакіравання, а таксама супрацоўніцтва з Польскім колам[527].

З'езд адыграў значную ролю ў кансалідацыі літоўскіх і беларускіх палякаў у час выбараў. Выбарчыя праграмы і тактыка барацьбы губернскіх камітэтаў у значнай меры абапіралася на зацверджаныя з'ездам прынцыпы. Аднак у параўнанні з мінулымі выбарамі мясцовая адміністрацыя актыўна ўмешвалася ў ход выбарчай кампаніі, імкнучыся правесці ўласных кандыдатаў. Так, з відавочнымі парушэннямі (адсутнасць тайнага галасавання, агітацыя ў дзень выбараў ды інш.) прайшоў выбарчы сход у Пінску, па выніках якога на губернскія выбары не трапіў аніводны прадстаўнік літоўскіх палякаў. Праверка скаргаў Аляксандра і Рамана Скірмунтаў, князя Станіслава Радзівіла пацвердзіла факт парушэння закону[528]. Але вынікі сходу не былі адменены.

Сярод прайграўшых быў і Раман Скірмунт. Але ў ягоным выпадку рашаючую ролю адыграла не парушэнне працэдуры. Раман Скірмунт атрымаў толькі 39 галасоў, а г. зн., што амаль палова выбаршчыкаў галасавала супраць яго. Магчыма, што дробным землеўласнікам не спадабалася ягоная пазіцыя па аграрнай праблеме, агучаная ў І Думе. Да таго ж, мясцовыя палякі маглі быць незадаволены ўласна нацыянальнай пазіцыяй Р. Скірмунта, які, як ужо згадвалася, падчас адной з дыскусій унутры «Групы дэпутатаў заходніх губерняў» назваў сябе беларусам. Дарэчы, «беларусам польскай культуры», – называў яго ў сваіх успамінах

---

525 «Kurier Litewski». 1906, Nr 213.

526 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 102–122. Лісты Р. Скірмунта да Ч. Янкоўскага. 1906–1909, арк. 9 адв.

527 «Dziennik Wileński». 1906, Nr 84.

528 НГАБ. Ф. 317, воп. 1, спр. 54.

сябра Дзяржаўнай Рады Іпаліт Корвін-Мілеўскі[529]. Таксама не ўсім выбаршчыкам маглі падабацца даволі рэзкія выпады Скірмунта супраць польскіх нацыянальных дэмакратаў, якіх ён аднойчы параўнаў з вялікарускімі шавіністамі[530].

Вынікі выбараў у II Думу былі несуцяшальнымі для літоўскіх і беларускіх палякаў. Замест чатырнаццаці дэпутацкіх мандатаў, як было год таму, яны атрымалі толькі дзесяць. Сярод абраных ізноў пераважалі краёўцы кансерватыўна-ліберальнай арыентацыі. Аднак ў параўнанні з мінулагоднімі выбарамі значна ўзмацнілі свае пазіцыі нацыянальныя дэмакраты.

Па гарачых слядах распачаўся аналіз няўдачы. І адразу ўзнавілася ранейшая палеміка паміж краёўцамі і сябрамі партыі Р. Дмоўскага. Публіцысты абедзвюх плыняў галоўную прычыну паражэння бачылі ў адасабленні землеўласнікаў-палякаў ад сялянства. Але з гэтага бясспрэчнага факту рабіліся розныя высновы. Нацыянальныя дэмакраты лічылі, што трэба больш актыўна пашыраць польскасць сярод сялян. Магчымасці ўзмацнення пазіцый польскіх дэпутатаў ад краю ў Думе яны бачылі ў адзінстве з Польскім колам[531].

А Раман Скірмунт галоўнай прычынай няўдачы лічыў менавіта нацыяналістычную прапаганду, якая, на яго погляд, адштурхнула ад палякаў іншыя нацыі. Аляксандр Лядніцкі звярнуў увагу на сацыяльны аспект. Ён пісаў пра бездань, што падзяліла народ і памешчыкаў і была вынікам недэмакратызму апошніх. Ён вярнуўся да выказанай год таму Раманам Скірмунтам ідэі стварэння агульнакраёвай партыі і прапанаваў стварыць Краёвую партыю ліберальна-дэмакратычнай арыентацыі[532].

20 лютага 1907 г. пачала працу II Дзяржаўная Дума. Склад яе дэпутатаў быў нечаканым для ўрада. Адміністрацыйныя намаганні ў час выбараў далі толькі частковы эфект. Канстытуцыйныя дэмакраты страцілі каля 80-ці дэпутацкіх месцаў, але ў цэлым корпус дэпутатаў стаў яшчэ больш радыкальным. *Трудовики* атрымалі 104 месцы, сацыял-дэмакраты – 55. Фракцыя «правых» складалася з 54 дэпутатаў[533]. Урадавыя партыі атрымалі толькі пятую частку дэпутацкіх месцаў. Аднак казаць пра поўную няўдачу ўрадавай палітыкі нельга. Другая Дума ўжо не была такой кансалідаванай, як першая.

Польскія дэпутаты Краю прыехалі ў Пецярбург напярэдадні адкрыцця Думы і адразу занялiся выпрацоўкай арганізацыйных форм сваёй дзейнасці. Гэтая задача аблягчалася рашэннямі Віленскага снежаньскага з’езда. У адпаведнасці з імі дэпутаты вырашылі стварыць Кола польскіх дэпутатаў-канстытуцыяналістаў Літвы

---

529 H. Korwin-Milewski, *Siedemdziesiąt lat wspomnień. 1875–1925.* Warszawa 1993, s. 172.

530 «Kurier Litewski». 1907, Nr 10.

531 «Dziennik Wileński». 1907, Nr 32.

532 A. Lednicki, *Po wyborach*, «Kurier Litewski». 1907, Nr 41.

533 Н. Ерошкин, *История государственных учреждений дореволюционной России*. Москва 1983, с. 265.

і Русі, якое ўзначаліў дэпутат ад Віленскай губ. Міхал Венслаўскі. Таксама было прынята рашэнне пра салідарнасць з Польскім колам. Віленскі польскі друк вітаў вынікі арганізацыйнай працы дэпутатаў.

Асноўнай мэтай дзейнасці польскіх дэпутатаў Краю было перакананне II Думы ў неабходнасці рэформы самакіравання ў Беларусі, Літве і Украіне. Яе сутнасцю павінна было стаць увядзенне выбарных земстваў, заснаваных на роўнасці грамадзян без розніцы нацыянальнасці і веравызнання. Пра якую б рэформу не заходзіла размова, польскія дэпутаты заўсёды падкрэслівалі, што без увядзення земстваў і перадачы ім паўнамоцтваў па рэфармаванні ніякіх карысных перамен у Беларусі і Літве не адбудзецца.

Адным з цэнтральных пытанняў працы II Думы з’яўлялася абмеркаванне дзяржаўнага бюджэту. Аднак актыўная праца Думы была гвалтоўна спынена. Урад пачаў рыхтаваць яе роспуск, як толькі зразумеў, што Дума не адмовіцца ад патрабавання адчужэння памешчыцкіх зямель і не зацвердзіць Указ ад 9 лістапада 1906 г., якім распачыналася г. зв. «сталыпінская аграрная рэформа».

Падставай для роспуску стала абвінавачванне думскай сацыял-дэмакратычнай фракцыі ў антыдзяржаўнай змове. На закрытым пасяджэнні Думы 1 чэрвеня 1907 г. Пётр Сталыпін імкнуўся пазбавіць дэпутацкіх паўнамоцтваў усю сацыял-дэмакратычную фракцыю, а ў адносінах да 16-ці дэпутатаў патрабаваў дазволу на арышт. Гэта быў сапраўдны ўльтыматум. Прычым улады нават не сталі чакаць адказу на яго.

Ужо 3 чэрвеня 1907 г. быў абнародаваны Маніфест пра роспуск II Думы і заканчэнне другой сесіі Дзяржаўнай Рады. Адначасова было зменена Палажэнне аб выбарах. Апошняе было прамым парушэннем закона, бо змяняць выбарчую сістэму без санкцыі Думы не дазвалялася. Новы выбарчы закон, які павінен быў гарантаваць цалкам паслухмяны ўраду склад Думы, нават у Радзе міністраў назвалі «бессаромным». Гэтая падзею гісторыкі часта ацэньваюць як дзяржаўны пераварот. Аднак са шляху паламентарызму Расія яшчэ не сышла.

## *Краёвая партыя Літвы і Белай Русі*

Як ужо адзначалася, ідэю стварэння краёвай партыі («Краёвая партыі Літвы і Русі») Раман Скірмунт выказаў яшчэ ў лістападзе 1905 г. У студзені 1906 г. ён апублікаваў новы зварот, у якім упершыню прысутнічаў пэўны беларускі кампанент («Краёвая партыя Літвы і Белай Русі»).

Падчас працы II Дзяржаўнай Думы ідэя стварэння партыі зноў стала актуальнай. Аляксандру Лядніцкаму гэтая арганізацыя бачылася як «Прагрэсіўная краёвая партыя». «Прагрэсізм» як ідэалагічны кірунак і палітычны рух нарадзіўся якраз у перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. Ягоным палітычным ідэалам з’яўлялася канстытуцыйная манархія, заснаваная на падзеле трох галін улады – заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Важным элементам таксама была рэформа сістэмы мяс-

цовага самакіравання і роўнасць нацыянальнасцяў і веравызнанняў[534]. На думку краёўца і канстытуцыйнага дэмакрата, «Прагрэсіўная партыя» магла паспрыяць сбліжэнню інтарэсаў зямян і сялян, калі б выступала як абаронца «агульначалавечых прынцыпаў» і вярнулася да традыцый дзядоў, якія «ў беларускім народзе бачылі народ, блізкі ім, самастойны, які мае права на ўласнае развіццё» [535].

На пачатку сакавіка 1907 г. Канстанцыя Скірмунт адгукнулася на публікацыю А. Лядніцкага і на старонках «Кур'ера Літэўскага» прапанавала стварэнне «Краёвай партыі Літвы і Белай Русі», якая павінна была спрыяць дасягненню рэлігійнага і палітычнага адзінства гістарычнай Літвы. Падмуркам гэтай партыі, паводле публіцысткі, павінны былі стаць імкненне да прававой роўнасці нацыянальнасцяў, веравызнанняў і полаў; дасягненне самакіравання Літвы і Беларусі з сеймам у Вільні і культурнымі цэнтрамі ў Менску і Коўне; адмова ад нацыяналізму з адначасовай падтрымкай усіх нацыянальных культур. Яна нават лічыла неабходным пераўтварэнне польскіх культурніцкіх арганізацый у агульнакраёвыя, якія б спрыялі развіццю беларускай і ўкраінскай культур[536]. Спадзевы на стварэнне краёвай партыі публіцыстка звязвала з МТСГ і ягонымі кіраўнікамі Эдвардам Вайніловічам і Раманам Скірмунтам.

У красавіку 1907 г. Канстанцыя Скірмунт апублікавала артыкул «Навошта патрэбная Краёвая партыя Літвы і Белай Русі?» Адказваючы на пастаўленае ў загалоўку пытанне, яна заявіла, што гэтая партыя павінна спрыяць паразуменню трох нацыянальных патрыятызмаў – літоўскага, польскага і беларускага; а таксама рэалізаваць этычныя і грамадскія памкненні тых літоўскіх і беларускіх палякаў, якіх не задавальняла праграма польскіх нацыянальных дэмакратаў, і забяспечыць будучыню польскай супольнасці ў Краі[537].

А вось польская нацыянальная дэмакратыя выказалася супраць стварэння краёвай партыі артыкулам Юзафа Хласкі на старонках «Дзенніка Віленскага»[538].

Арганізацыйную працу па стварэнні Краёвай партыі ўзяў на сябе Раман Скірмунт. Моцную падтрымку ён атрымаў ад рэдактара «Кур'ера Літэўскага» Чэслава Янкоўскага. У маі 1907 г. у Менску адбылася адмысловая канферэнцыя, у якой удзельнічалі сябры МТСГ, якія сабраліся на чарговы сход Таварыства, а таксама Ч. Янкоўскі.

Удзельнікі прынялі рашэнне аб правядзенні ў Вільні 17 чэрвеня 1907 г. схода прадстаўнікоў польскіх землеўласнікаў шасці беларуска-літоўскіх губерняў. Удзел

[534] *Политическая история России в партиях и лицах*. Сост. В. Шелохаев, Н. Ерофеев, И. Задорожнюк и др. Москва 1994, с. 41.

[535] A. Lednicki, *Po wyborach*, «Kurier Litewski». 1907, Nr 41.

[536] Futurus [K. Skirmuntt], *Stronnictwo Krajowe Litwy i Białej Rusi*, «Kurier Litewski». 1907, Nr 50.

[537] Futurus [K. Skirmuntt], *Kartki polityczne ze spraw krajowych poruszonych w prasie wileńskiej. 1905–07*. Warszawa 1907, s. 79–80.

[538] «Dziennik Wileński». 1907, Nr 52.

прыхільнікаў нацыянальных дэмакратаў не прадугледжваўся. Арганізатары не збіраліся марнаваць час на ідэалагічныя спрэчкі. На сходзе планавалася абмеркаваць праграму, падрыхтаваную Скірмунтам, і абвясціць стварэнне партыі.

Раман Скірмунт рыхтаваўся да сходу ў Парэччы. Менавіта адсюль 6 чэрвеня 1907 г. ён выслаў Чэславу Янкоўскаму асноўныя тэзісы партыйнай праграмы («Агульныя прынцыпы») і прасіў іх надрукаваць у адпаведнасці з рашэннем Менскай канферэнцыі[539]. На жаль, гэтыя «Прынцыпы» не знойдзены, і аб змесце прапанаванай праграмы можам меркаваць толькі на падставе іншых тэкстаў і выступаў Р. Скірмунта. Вядома таксама, што ў лісце ад 8 чэрвеня ён прасіў рэдактара «Кур'ера» ўнесці праўкі ва ўступную частку праграмы, адзначыўшы, што краёвая партыя «падтрымлівае імкненне габрэяў да роўнасці ў выпадку, калі іх інтарэсы не супярэчаць інтарэсам усяго грамадства»[540].

Пра пазіцыю Рамана Скірмунта шмат гаворыць і тое, што ён запрасіў на сход аднаго са стваральнікаў Літоўскага навуковага таварыства Тадэуша Доўгірда, які публічна прызнаваўся ў сваёй літоўскасці[541].

Чэслаў Янкоўскі пазней сцвярджаў, што галоўная ідэя Рамана Скірмунта заключалася ў стварэнні саюза трох партыйных арганізацый (або трох фракцый) – польскай, літоўскай і беларускай[542]. Можна выказаць меркаванне, што на ролю лідэраў беларускай арганізацыі планаваліся Э. Вайніловіч і Р. Скірмунт, а ў літоўскую фракцыю павінны былі ўвайсці Доўгірд і прадстаўнікі Ковенскай губ. Пра гэта сведчыць і выбар удзельнікаў віленскага схода.

Вялікія надзеі з гэтым сходам звязвала Канстанцыя Скірмунт, якая ў дзень яго правядзення накіравала ліст ксяндзу Дамбраўскасу, у якім ацэньвала сход як апошні шанс на паразуменне паміж палякамі, літоўцамі і беларусамі[543].

Аднак спадзяванняў Рамана і Канстанцыі Скірмунт сход не апраўдаў, хоць партыя і была створана. 17 чэрвеня 1907 г. у Вільню прыехала каля 30 чалавек. Двухдзённыя дэбаты скончыліся абвяшчэннем стварэння «Краёвай партыі Літвы і Белай Русі», зацвярджэннем базавага варыянта яе праграмы і абвяшчэннем газеты «Глос польскі» партыйным органам[544]. Яе рэдактарам стаў Чэслаў Янкоўскі, які ў той час ужо пакінуў рэдакцыю «Кур'ера Літэўскага».

Аднак распрацаваная Раманам Скірмунтам канцэпцыя партыі не была прынята. Сход адверг ідэю саюза трох партыйных арганізацый і стварыў партыю літоўскіх і беларускіх палякаў. Нават Вайніловіч і Янкоўскі ў вырашальны момант

539 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 102–122. Лісты Р. Скірмунта да Ч. Янкоўскага. 1906–1909, арк. 10–10 адв.

540 Ibidem, арк. 7.

541 D. Szpoper, *Gente Lithuana, natione Lithuana…,* s. 256.

542 Cz. Jankowski, *W ciągu dwóch lat…*, s. 138.

543 D. Szpoper, *Gente Lithuana, natione Lithuana…,* s. 256.

544 «Kurier Litewski». 1907, Nr 135.

не падтрымалі Скірмунта. Двухдзённыя дыскусіі, верагодна, сведчаць пра тое, што Р. Скірмунт да канца адстойваў уласную канцэпцыю Краёвай партыі.

Праграму падпісалі 23 удзельнікі сходу, сярод якіх не аказалася ні прадстаўнікоў Ковенскай губ., ні Рамана Скірмунта. Як успамінаў Ч. Янкоўскі, яны не пажадалі ўступіць у «чыста польскую партыю»[545].

Прынятая праграма цалкам месцілася ў рэчышчы кансерватыўна-ліберальнага варыянта краёвай ідэі. Яна заклікала да сумеснай працы на карысць усяго Краю, роўнасці ягоных народаў ва ўсіх галінах жыцця і магчымасці свабоднага развіцця іх культур, свабоды веравызнання, выказвала прыхільнасць да канстытуцыйнай манархіі з гарантыяй грамадзянскіх правоў, падтрымлівала ідэю самакіравання, патрабавала пачатковай адукацыі на роднай мове. Пры рашэнні аграрнай праблемы праграма зыходзіла з неабходнасці павялічэння памераў сялянскага землеўладання «шляхам натуральнай эвалюцыі і пры моцнай падтрымцы з боку дзяржавы, без парушэння права ўласнасці». Скарачэнне буйнога памешчыцкага землеўладання дапускалася толькі ў выпадку ліквідацыі цераспалосіцы. Таксама праграма абяцала спрыяць паляпшэнню становішча «бедных і працоўных класаў» і г. д.[546] Многія яе палажэнні фактычна паўтаралі рашэнні передвыбарчага з’езду ў Вільні (снежань 1907 г.).

Ідэя Рамана Скірмунта наконт міжнацыянальнага саюза ў межах Краёвай партыіператварылася ў спадзяванне, што на глебе праграмных прынцыпаў паўстануць «нацыянальныя фракцыі», з якімі партыя магла б знайсці паразуменне і стварыць саюз. Апошняе палажэнне цяжка зразумець. Магчыма, гаворка ішла пра асобныя нацыянальныя партыі, якія б узнікалі на падмурку праграмы «віленскіх краёўцаў».

Праграму падпісалі Іпаліт Корвін-Мілеўскі, Эдвард Вайніловіч, Дзмітры Карыбут-Дашкевіч, Канстанцін Скірмунт, Аляксандр Хаміньскі, Станіслаў Ваньковіч, Чэслаў Янкоўскі, Тадэуш Дэмбоўскі ды інш. Старшынём быў абраны Эдвард Вайніловіч, а яго намеснікам памешчык з Гарадзеншчыны Юльян Талочка[547].

З’яўленне Краёвай партыі выклікала шматлікія крытычныя заўвагі ў адрас яе арганізатараў. «Кур’ер Літэўскі», які па асобных пытаннях ужо падтрымліваў нацыянальных дэмакратаў, і «Дзеннік Віленьскі» змясцілі шэраг крытычных артыкулаў. Незадавальненне прыхільнікаў партыі Дмоўскага выклікала адсутнасць у праграме спецыфічна польскіх патрабаванняў, што дало падставы аднаму з аўтараў «Дзенніка» заявіць, што краёўцы імкнуцца адарваць гістарычную Літву

[545] Cz. Jankowski, *W ciągu dwóch lat*…, s. 138.

[546] *Stronnictwo Krajowe Litwy i Białej Rusi*, «Słowo». 1907, Nr 177.

[547] «Kurier Litewski». 1907, Nr 148.

ад Каралеўства Польскага[548]. Варожа сустрэла з'яўленне партыі і адміністрацыя Віленскага генерал-губернатарства[549].

Частка краёўцаў убачыла ў дадзеным варыянце краёвай арганізацыі выразнае імкненне да абароны інтарэсаў не Краю, а ўласных маёнткаў. Менавіта на гэта звярнуў увагу Баляслаў Ялавецкі. Ён ахарактарызаваў створаную ў Вільні арганізацыю як «партыю без твару, без сілы і без смеласці». На яго думку, ні літоўцы, ні беларусы ніколі не далучацца да партыі, бо яе праграма супярэчыць назве. Фактычна, на думку аднаго з ідэолагаў краёвасці, «узнікла эндэцыя № 2» з выразнай «кансерватыўна-каставай» афарбоўкай. Ялавецкі таксама ахарактарызаваў яе як войска правадыроў, якія не маюць салдат і могуць існаваць толькі на паперы[550]. «Аб'яднаннем кансерватараў» лічыў Краёвую партыю Людвік Абрамовіч[551].

«Кур'ер Літэўскі» даў магчымасць сябрам Краёвай партыі адказаць сваім апанентам. Станіслаў Ваньковіч заявіў, што партыя імкнецца да кампрамісу з рускай нацыяй, вынікам якога можа стаць доўгачаканая палітычная роўнасць палякаў. Краёўцы не высоўваюць лозунга аўтаноміі Літвы і Беларусі толькі таму, што гэта справа далёкай будучыні. Што датычыць радыкальнай аграрнай рэформы, то, на думку Ваньковіча, такое патрабаванне, па сутнасці, не з'яўляецца дэмакратычным, бо можа прывесці да знішчэння найбольш прыбытковых гаспадарак[552].

У абарону Краёвай партыі выступіў таксама пецярбургскі «Край» Эразма Пільтца. У артыкуле «Польская Краёвая партыя Літвы і Беларусі» сцвярджалася, што праграма краёвай партыі напоўнена «духам хрысціянскай любові і міру, ідэаламі нацыянальнай справядлівасці, роўнасці і згоды». Аўтар нават параўнаў яе з... Люблінскай уніяй і бачыў у яе стварэнні імкненне краёўцаў працаваць разам з іншымі народамі Краю дзеля ягонага росквіту. Публіцыст катэгарычна не згаджаўся з тэзісам польскіх нацыянальных дэмакратаў нібыта Краёвая партыя з'яўляецца адмаўленнем ад польскай ідэі. Але падобна, што памылка ў назве партыі, дзе, насамрэч, адсутнічала слова «польская» была невыпадковай. Асяродак пецярбургскага «Краю» разумеў краёвасць як аптымальную форму абароны польскасці[553]. Відаць, менавіта так яе разумелі і сябры новай партыі, што было непрымальным для Рамана Скірмунта.

Крытычныя галасы былі значна мацнейшымі за спробы абароны Краёвай партыі. Прычым прыхільнікі партыі Рамана Дмоўскага крытыкавалі не толькі партыю, але і саму краёвую ідэю. Відаць, якраз апошняе і прымусіла выказацца Рамана Скірмунта, які дагэтуль у дыскусіі не ўдзельнічаў. Расчараванне, якое ён перажыў

---

548 «Dziennik Wileński. 1907, Nr 141.
549 E. Wojniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 174.
550 B. Jałowiecki, *Odrobina obiektywizmu*, «Kurier Litewski». 1907, Nr 162.
551 «Kurier Litewski». 1907, Nr 191.
552 St. Wańkowicz, *Audiator*, «Kurier Litewski». 1907, Nr 170.
553 Zygm. L…ski, *Stronnictwo Krajowe Polskie Litwy i Białej Rusi*, «Kraj». 1907, Nr 22.

у Вільні, не датычыла яго стаўлення да краёвай ідэі. Напрыканцы ліпеня 1907 г. на старонках варшаўскай газеты «Слова» Раман Скірмунт выступіў з вялікім артыкулам «У абарону ідэі», які з'яўляецца адным з найбольш важных для разумення асабістых матываў краёвай дзейнасці яго аўтара.

Ужо на самым пачатку ён зазначыў, што не належыць да Краёвай партыі Літвы і Белай Русі і не збіраецца абараняць яе праграму, а засяродзіць увагу на краёвай ідэі і паспрабуе адказаць на тры ключавыя пытанні:

● Наколькі абгрунтавана ідэя адметнай краёвай палітыкі для Літвы і Беларусі?

● Ці з'яўляецца шкодным для польскіх нацыянальных інтарэсаў існаванне Краёвай партыі?

● Ці магчымае мірнае супрацоўніцтва або сімбіёз нацыянальнасцяў, якія суіснуюць на адной тэрыторыі?

Раман Скірмунт пачаў артыкул з двух вельмі важных прызнанняў. Па-першае, палякі ў Літве і Беларусі за выключэннем некалькіх мясцовасцяў з'яўляюцца абсалютнай меншасцю «пасярод беларускага або літоўскага мора», а, па-другое, яны належаць да «спрадвечных сыноў гэтай зямлі, бо Літва і Беларусь сталі іх Айчынай».

На яго думку, гістарычную і культурную адметнасць Краю прызнала нават расійская бюракратыя, якая стварыла асобную адміністрацыйную адзінку (*Северо-Западный край*), жыццё якой вызначае выключнае заканадаўства і інструкцыі, скіраваныя супраць польскасці і развіцця гістарычнай Літвы. Ён выказаў здзіўленне, што гэтую краёвую адметнасць і права ягоных жыхароў любіць свой Край і быць ягонымі патрыётамі не прызнаюць тыя, хто здаўна адчуваў увесь цяжар цэнтралізму і разумеў каштоўнасць самастойнасці пры вырашэнні мясцовых праблем. Паводле Скірмунта, якраз польскія нацыянальныя дэмакраты настойваюць на тым, каб лёс Беларусі і Літвы вызначаўся ў Варшаве людзьмі, якія не арыентуюцца ва ўмовах мясцовага жыцця і абыякава ставяцца да ягоных патрэб. Раман Скірмунт прыгадаў, што дзеля аўтаноміі Каралеўства Польскага гэтыя людзі пайшлі на пагадненне з расійскай Партыяй канстытуцыйных дэмакратаў і гатовы былі пакласці Край як «ахвяру на алтар кадэцкай праграмы».

«У галовах гэтых спадароў, – з абурэннем пісаў Скірмунт, – не змяшчаецца, як гэта магчыма, каб жыхары цёмнай Літвы і адсталай Русі імкнуліся самастойна вырашаць уласныя праблемы. Не! За імі нельга прызнаваць права сталасці! «Бацвіны» не павінны забываць, што думаць за іх заўжды будзе Карона, а ім дастаткова слухацца. Так было даўней, так было ў ІІ Думе, і ці ж не было вельмі добра? Прэч з краёвай палітыкай! З гледжання Варшавы для «бацвінаў» няма самакіравання і не павінна быць незалежнага меркавання»[554].

[554] R. Skirmunt, *W obronie idei,* «Słowo». 1907, Nr 202. «Бацвіны» ці «бацьвіннікі» – пагардлівая мянушка жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, якая сустракалася ў Каралеўстве Польскім. Пэўны сучасны адпаведнік «бацвінаў» – «бульбашы».

Артыкул Скірмунта быў вельмі эмацыйным. Яго абурала стаўленне апанентаў да Беларуска-Літоўскага краю як да «засценку», іх нежаданне зразумець, што крыніцай краёвасці з'яўляецца любоў да Айчыны, а не нейкія адарваныя ад жыцця тэорыі: «Горкім бывае хлеб, які мы вырошчваем на гэтай зямлі, але нельга пакідаць пост, на які мы пастаўлены лёсам. Тут мы павінны жыць, працаваць і паміраць, і пакуль усведамленне гэтага абавязку будзе з намі, будзе жыць і краёвая палітыка»[555].

На гэтыя словы варта звярнуць увагу. Магчыма, менавіта ў іх – сутнасць усёй грамадскай і палітычнай дзейнасці Рамана Скірмунта. Клопат пра родны Край стаў абавязкам з усведамленнем той высокай місіі, якую выконвалі продкі і павінен выконваць іх нашчадак. Уласная праца набывала значэнне абароны культуры, гісторыі і традыцый Беларуска-Літоўскага краю ад ціску ці то ўсходняга, ці то заходняга «цэнтралізму».

Краёвец Скірмунт таксама пераконваў, што асобная пазіцыя літоўскіх і беларускіх палякаў не толькі не шкодзіць польскай нацыянальнай справе, а, наадварот, спрыяе ёй. Ён прыводзіў прыклады нацый, падзеленых дзяржаўнымі межамі і нават акіянамі, сцвярджаючы, што пачуццё нацыянальнай еднасці ў большай ступені прысутнае там, дзе ўлічваецца адметнасць розных рэгіёнаў. Так, аўстрыйскі немец не павінен дзеля велічы нямецкай нацыі рабіць тое ж самае, што робіць грамадзянін Германскай імперыі. Брытанскае адзінства трымаецца на разуменні метраполіяй адметных задач, якія стаяць перад падданымі Яе Вялікасці Каралевы ў асобных калоніях, а таксама на аўтаноміі і самастойнасці гэтых земляў.

Аўтар прыгадаў гісторыю, адзначыўшы, што і пасля Люблінскай уніі Вялікае Княства Літоўскае мела шырокія магчымасці для самастойнага развіцця. «Нядоля і ўціск XIX ст. наймацней яднае і цэнтралізуе польскае жыццё, пралітая кроў цэментуе яго», – заўважыў публіцыст. Але нельга ігнараваць і тое, што палякі Беларуска-Літоўскага краю і Каралеўства Польскага жывуць у розных умовах і адпаведна маюць розныя задачы: «Грамадскія дзеячы Каралеўства дзейнічаюць на падмурку згуртаванай польскай нацыі. У нас няма такога трывалага падмурку. Мы павінны працаваць сумесна і ўзгоднена з карэнным і няпольскім насельніцтвам Краю, з якім нас яднае кроў і паходжанне, чаго нельга забываць»[556]. Адпаведна, калі першай задачай палітыка Каралеўства Польскага з'яўляецца дасягненне яго аўтаноміі, то для літоўскага ці беларускага паляка галоўным абавязкам застаецца клопат пра патрэбы «нашага Краю». Выкананне гэтага абавязку, на думку Скірмунта, цалкам адпавядала агульнапольскім нацыянальным інтарэсам.

У гэтай публікацыі адчувальны водгук віленскай няўдачы Рамана Скірмунта. Ён зазначыў, што шмат людзей палохаецца самой думкі пра пэўнае нацыянальнае паяднанне, пра супольную працу ў адной арганізацыі з прадстаўнікамі іншых на-

[555] Ibidem.
[556] Ibidem.

цый. Яны перакананыя, што падобная супраца немагчыма. Раман Скірмунт меў іншае меркаванне.

*ДАКУМЕНТ*

**Раман Скірмунт. У абарону ідэі. 1907 г.[557] Фрагмент.**

*Усім вядомы прыклад мірнай супрацы нацыянальнасцяў дае Швейцарыя. У Бельгіі мы бачым прадстаўнікоў абедзвюх нацыянальнасцяў гэтай краіны – валонаў і фламандцаў, якія працуюць разам у адной партыі. Галасы нацыяналістаў, якія імкнуцца пасеяць раздор у палітычным жыцці, застаюцца без водгука. Тое ж назіраем у Канадзе. Супольная праца ў краёвым духу паяднала французаў і англічан. Француз сэр Уілфрэд Лор'е э з'яднаў прадстаўнікоў абедзвюх нацыянальнасцяў у ліберальнай партыі, таксама як раней англічанін сэр Джон Макдональд іх аб'яднаў у кансерватыўнай партыі. І абедзьве нацыі супрацоўнічаюць у руплівай абароне, з аднаго боку, сваёй краёвай незалежнасці, а з другога – адзінства і магутнасці дзяржавы.*

*Імкненне да паляпшэння сужыцця нацый, што жывуць на адной зямлі, вітае ў паветры […]*

*Магчыма, падчас рэвалюцыі нідзе разбуральныя памкненні людзей, што страцілі раўнавагу, не набывалі такіх жудасных форм як у балтыйскіх правінцыях. Нідзе падзел паміж людам і маёмасным класам не быў такім вострым. Тым не менш, і там з'явілася думка пра магчымасць і неабходнасць міжнацыянальнага паразумення і супольнай працы на грамадскай ніве. Прыбалтыйскія немцы прапанавалі заснаваць Балтыйскую канстытуцыйную партыю з мэтаю паяднання добрых сыноў балтыйскай айчыны ў сумеснай працы дзеля агульнага дабра.*

*Балтыйская канстытуцыйная партыя не з'яўляецца нямецкай нацыянальнай. Хоць яна была заснавана немцамі і знайшла сярод іх найбольшую падтрымку, але ніхто, апрача самых упартых гакатыстаў, не нападае на яе, ніхто, апрача людзей злой волі і вузкага мыслення, не абвінавачвае яе ў здрадзе нямецкай справе.*

*Калі мы пачнем адмяжоўвацца ад люду ў нацыянальных арганізацыях, свядома страцім тыя рэшткі нашага ўплыву, што яшчэ засталіся. Відаць, кожны разумее, што падчас супольнай працы ўзнікае ўзаемадавер і нараджаецца адчуванне агульных патрэб.*

*Бюракратыя старога рэжыму працавала дзесяткі гадоў, каб нас аддзяліць ад люду, ізаляваць нас як заразлівых у халерным бараку. Ідучы за лозунгамі эндэцыі, мы б завяршылі гэтую няскончаную і гібельную для нас працу.*

*Супраца розных нацый, якія насяляюць адзін край – не ўтопія. Мы гэта назіраем у іншых краінах. І ў нас яна магчымая. Але неабходна зрабіць яе галоўнай ідэяй нашай праграмы і свядома працаваць у гэтым кірунку.*

---

557 R. Skirmunt, *W obronie idei,* «Słowo». 1907, Nr 203.

*Краёвая партыя нічым не пашкодзіць добрым стасункам палякаў з Літвы і Беларусі з Каралеўствам. Але добрымі і трывалымі гэтыя адносіны стануць толькі тады, калі будзем ставіцца да іншых як роўныя да роўных, калі «звышпалякі» адмовяцца ад імкнення кіраваць нашымі краёвымі справамі і вызначаць нашыя крокі. Гэтае жаданне навязаць апеку ўжо мела кепскія наступствы, але стойкасці супрацьстаяць такім намерам нам заўсёды хопіць.*

*Людзі, што маюць такую каштоўную рысу як асцярожнасць, не павінны даказваць сваю невінаватасць, уступаючы ў шэрагі Краёвай партыі. Нападкі на яе прыхільнікаў зыходзяць з групы «сапраўдных палякаў». Не ўвесь польскі друк, а толькі эндэцкі ўдзельнічае ў гэтым. Прэса рэалістаў і прагрэсістаў прыхільна паставілася да партыі. Адмова называць кагосьці «добрым сынам» свайго народу – гэта добра вядомы тэрарыстычны прыём. Ён дзейнічае на недаспелы або баязлівы розум. «Істинно-русские» адмаўляюць у гэтым многім прыстойным расійцам. Ворагамі Айчыны называлі Віндхорста, Біхтэра ды іншых прадстаўнікоў больш гуманістычнага накірунку нямецкай палітыкі. Калі і нас не лічаць «добрымі сынамі», то мы трапляем у слаўную кампанію.*

*Чалавечая прырода недасканалая. Схільнасць да крыўды бліжніх часта ў ёй прысутная, таму ўключэнне ў праграму ваяўнічых і агрэсіўных палажэнняў з'яўляецца данінай кепскім інстынктам. Такіх палажэнняў і пазіцый няма ў адозве краёўцаў. Пры гэтым ім хопіць смеласці, каб выступіць у абарону ўласных прынцыпаў, бо вера ў іх справядлівасць і правату глыбокая.*

*Іншыя абвінавачванні, выказаныя рознымі буркатунамі пад гукі эндэцкага кацінага канцэрта, можна абмінуць маўчаннем, яны не маюць значэння. На абвінавачванне, што ў нашай праграме мы не ставім сябе паўсюль на першае месца, не гарантуем сабе кіраўніцтва і перавагі, адкажу так – такое кіраўніцтва можна забяспечыць, толькі не ў якасці прывілея, атрыманага з кармазынавай традыцыі*[558] *Рэчы Паспалітай ад мора да мора, а на падставе заслуг і ўласнай працы, тут і зараз.*

Прыведзены фрагмент артыкула выразна сведчыць пра тое, што інтарэсы літоўскіх і беларускіх палякаў для Рамана Скірмунта непарыўна перапляталіся з інтарэсамі ўсёй гістарычнай Літвы. Пры гэтым яны заставаліся неад'емнай часткай польскіх нацыянальных інтарэсаў. Скірмунт трактаваў гэтыя інтарэсы ў рэчышчы палітычнага разумення нацыянальнай ідэі. Клопат аўтара пра лёс мясцовай польскай эліты адначасова быў клопатам пра будучыню Беларусі і Літвы і ўласна польскага руху. Развіццё апошняга Скірмунт звязваў з пераадоленнем міжнацыянальных антаганізмаў, дасягненнем пэўнага паразумення на глебе абароны агульнакраёвых інтарэсаў.

[558] Кармазынавы – цёмна-вішнёвы колер, які часта мелі жупаны магнатаў Рэчы Паспалітай абодвух народаў.

Таксама звяртае на сябе ўвагу і тое, што першапачатковы намер абараніць краёвую ідэю напрыканцы артыкула ператварыўся ў абарону Краёвай партыі Літвы і Беларусі і яе праграмы. Магчыма, ужо падчас падрыхтоўкі гэтага тэксту яго аўтар пераадолеў зразумелае расчараванне віленскім сходам. З гэтага моманту пачалося ягонае паступовае збліжэнне з Краёвай партыяй.

Між тым, у ліпені была створана Рада Краёвай партыі, у якую ўвайшлі старшыня Эдвард Вайніловіч, віцэ-старшыні Юльян Талочка (Гарадзенская губ.) і Тадэуш Дэмбоўскі (Віленская губ.), казначэй Эдмунд Барткевіч (Вільня), а таксама Аляксандр Хаміньскі (Віленская губ.), Караль Незабытоўскі (Бабруйскі пав.), Канстанцін Скірмунт (Кобрынскі пав.), Станіслаў Ваньковіч (Менская губ.) і Міхал Мэйштовіч (Ковенская губ.). Важную ролю ў функцыянаванні партыі павінен быў адыгрываць яе Сакратарыят, які складаўся з Тадэуша Дэмбоўскага і Чэслава Янкоўскага.

Аднак партыя аказалася няздольнай на актыўную дзейнасць. Перспектыва застацца партыяй «на паперы», якую прадказваў Баляслаў Ялавецкі, была вельмі рэальнай. Чэслаў Янкоўскі прызнаваўся, што «Глос Польскі» знайшоў толькі трохі болей за 200 падпісчыкаў. Сродкаў, якія партыя вылучыла на гэтае выданне, хапіла толькі на пяць нумароў[559]. Абранне ў верасні 1907 г. Станіслава Ваньковіча дэпутатам ІІІ Дзяржаўнай Думы ад Віленскай губ. не было звязана з дзейнасцю партыі. Паводле прызнання Вайніловіча, Краёвая партыя «праспала» думскія выбары[560].

У верасні 1907 г. Чэслаў Янкоўскі ў пошуках працы перабраўся ў Варшаву. Аднак думкамі ён быў усё яшчэ ў Вільні і адгукнуўся на прапанову Рамана Скірмунта стварыць суполку, якая б паспрабавала выкупіць «Кур'ер Літэўскі» ў ягонага ўладальніка біскупа фон Ропа. Пераемнік Янкоўскага рэдактар Войцах Бараноўскі і адміністратар Эдмунд Навіцкі не здолелі захаваць ранейшую папулярнасць газеты, і біскуп выказаў жаданне яе прадаць.

Раман Скірмунт зацікавіўся магчымасцю выкупіць газету і вярнуць ёй характар агульнакраёвага выдання. Аднак перамовы ішлі цяжка. Спачатку фігуравала сума ў 50 тыс. руб., потым паступіла прапанова выкупіць палову акцый «Кур'ера» за 30 тыс. Пры гэтым адміністратарам заставаўся Навіцкі, а новыя ўладальнікі атрымлівалі свабоду рэдагавання.

8 кастрычніка 1907 г. Раман Скірмунт напісаў ліст да Чэслава Янкоўскага, які прэзентаваў яго аўтара ўжо як прадпрымальніка. Паводле меркавання Скірмунта, якое грунтавалася на кансультацыях са спецыялістамі па гандлёвых аперацыях, кошт «Кур'ера» быў завышаны прыблізна ў два разы. Раман Скірмунт прапанаваў набыць палову газеты за 15 тыс. руб. і падзяліць штогадовы даход з тым, каб суполка пакупнікоў атрымлівала 900 руб. (6 % ад выкупной сумы), а былы ўладальнік – 2 700 руб. (6 %) ад поўнага кошту газеты, які складаў 45 тыс. руб.

---

559 Cz. Jankowski, *W ciągu dwóch lat…*, s. 136.

560 E. Wojniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 175.

Пры гэтым уладальнік Парэчча вельмі насцярожана ставіўся да існавання незалежнай ад новых уладальнікаў адміністрацыі. Наогул, зацягнутасць перамоў, якія адбываліся з лета 1907 г., прымушала сумнявацца ў перспектывах набыцця газеты. Напрыканцы ліста ён прасіў Янкоўскага не адкідаць думкі пра выданне ўласнай «Газеты Краёвай» і заяўляў, што паспрабуе сабраць на гэта адпаведныя сродкі[561].

Ужо пасля палітычна матываванай высылкі біскупа фон Ропа з Вільні (кастрычнік 1907 г.) Скірмунт і Янкоўскі выказалі намер набыць газету за 25 тыс. і гарантавалі быламу ўладальніку пажыццёвыя 4 % ад усіх яе даходаў. Была дасягнутая згода і нават вызначаны дзень падпісання дамовы. Аднак напярэдадні Янкоўскі атрымаў ліст ад Навіцкага, які паведаміў, што «Кур'ер» не прадаецца (?!)[562].

Няўдачы не адштурхнулі Рамана Скірмунта ад краёвай ідэі і спробаў яе практычнай рэалізацыі. Тым больш, што канцэпцыя краёвасці становілася ўсё больш папулярнай сярод літоўскіх і беларускіх палякаў. Пра гэта сведчыць спроба стварэння некалькіх партыйных арганізацый, якія дэкларавалі краёвасць.

Так, адначасна з віленскім сходам 17 чэрвеня 1907 г. у Менску адбыўся ўстаноўчы сход па стварэнні Польскага дэмакратычнага саюза Беларусі. Галоўнай мэтай яго дзейнасці абвяшчаўся ўздым дабрабыту і культурнага ўзроўню ўсіх жыхароў Беларусі незалежна ад этнічнай і рэлігійнай прыналежнасці, сацыяльнага становішча. Асноўным сродкам дасягнення гэтай мэты лічылася ўвядзенне самакіравання. Мэтай аграрнай рэформы абвяшчалася стварэнне моцнай сялянскай гаспадаркі. Пры гэтым дапускалася магчымасць адчужэння часткі памешчыцкіх земляў за выкуп. Саюз не абмінаў увагай польскія нацыянальныя інтарэсы. Яго праграма патрабавала аўтаноміі Каралеўства Польскага, роўнасці палякаў у правах, захавання і развіцця польскай культуры[563]. У Галоўны камітэт Саюза ўвайшлі К. Гардзялкоўскі, К. Дзямідэцкі-Дзямідовіч, В. Нітаслаўскі, М. Абязерскі, Е. Асмалоўскі і А. Ражноўскі. Падобна на тое, што мела месца спроба арганізацыйнага паяднання ліберальна-дэмакратычнай плыні краёўцаў з Менскай, Магілёўскай і Віцебскай губ. з мясцовымі прыхільнікамі Партыі канстытуцыйных дэмакратаў.

Трэба адзначыць, што Польскі дэмакратычны саюз быў сустрэты даволі прыхільна. На старонках «Кур'ера Літэўскага» з тлумачэннем асноўных праграмных прынцыпаў выступіў адзін з яго арганізатараў Вітальд Жукоўскі[564]. Ён сцвярджаў, што краёвая пазіцыя – адзіная магчымая для польскай грамадскасці Краю, а падзеі 17 чэрвеня 1907 г. выявілі прысутнасць двух кірункаў сярод

---

561 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 102–122. Лісты Р. Скірмунта да Ч. Янкоўскага. 1906–1909, арк. 3–5.

562 Cz. Jankowski, *W ciągu dwóch lat…*, s. 143.

563 W. Żukowski, *Związek Polski Demokratyczny na Białejrusi*, «Kurier Litewski». 1907, Nr 141.

564 W. Zukowski, *W obronie Związku Demokratycznego,* «Kurier Litewski». 1907, Nr 164.

краёўцаў. Калі Краёвая партыя, на яго думку, з'яднала кансерватыўныя элементы, то Саюз аб'яднаў дэмакратычна настроеных прадстаўнікоў розных колаў польскай грамадскасці. Іх паразуменне можа гарантаваць поспех на чарговых думскіх выбарах. Відавочна, што менавіта чыннік выбараў з'яўляўся тым стымулам, які прыспешваў арганізацыйныя намаганні мясцовых польскіх дзеячаў. Аднак разгарнуць практычную дзейнасць гэтая партыя не здолела. Е. Асмалоўскі ва ўспамінах адзначаў, што ўсё закончылася фактычна на стадыі прыняцця галоўных партыйных дакументаў[565].

Варта таксама адзначыць, што 27 жніўня 1907 г. узнікла Польская краёвая партыя на Русі. Яна была створана буйнымі польскімі землеўласнікамі (старшыня партыі князь Раман Сангушка), займала выразныя кансерватыўныя пазіцыі і толькі сваёй назвай нагадвала краёўцаў Беларуска-Літоўскага краю. Вячаслаў Ліпіньскі, характарызуючы плыні польскага руху ва Украіне, аднёс гэтую партыю да «правых» і ахарактарызаваў накірунак яе дзейнасці як «польска-кансерватыўны»[566].

Яна сапраўды не адрознівалася актыўнасцю і практычна не ўдзельнічала ў думскіх выбарах. Раман Юркоўскі залічыў яе ў шэраг «канапавых партый», уся актыўнасць якіх зводзілася выключна да ўдзелу ў дыскусіях у прэсе і выданні адозваў[567]. Ён жа сцвярджаў, што мэтай партыі было дасягненне паразумення з рускай супольнасцю ва Украіне, прадстаўленай пераважна дзяржаўнай адміністрацыяй і памешчыкамі. Але пасля рэвалюцыі 1905–1907 гг. шансы на такое паразуменне зніклі. У азначаным рускім асяроддзі дамінавалі вялікадзяржаўныя і нацыяналістычныя настроі[568].

У Беларусі і Літве ведалі пра гэтую партыю. Раман Скірмунт у лісце да Чэслава Янкоўскага ад 8 кастрычніка 1907 г. згадаў яе і паведаміў пра выданне газеты «Крэсы»[569]. Аднак тут ён памыляўся. Польская краёвая партыя на Русі не здолела стварыць уласны перыядычны орган. Апошняя згадка пра яе на старонках друку (газета «Край») датычыла чэрвеня 1909 г.

Пэўнай рэакцыяй на ўтварэнне Краёвай партыі можна лічыць таксама ідэю стварэння Польскага саюза краёвай працы, якая, паводле В. Бараноўскага, увосень 1907 г. актыўна абмяркоўвалася сярод літоўскіх палякаў. Рэдактар «Кур'ера Літэўскага» заявіў, што ў гэтым выпадку краёвасць не азначае адмаўлення паляка ад польскасці, а літоўца – ад літоўскасці. Кожны народ будзе мець магчымасці для

565 BN. Dział mikroform. Akc. 7042. J. Osmołowski, *Wspomnienia z przeszłości*, k. 130.

566 W. Lipiński, *Szlachta na Ukrainie. Udział jej w życiu narodu ukraińskiego na tle jego dziejów*. Kraków 1909, s. 74.

567 R. Jurkowski, *Polskie Stronnictwo Krajowe na Rusi 1907–1909*, «Echa Przeszłości». 2009, X, s. 195.

568 Ibidem, s. 216.

569 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 102–122. Лісты Р. Скірмунта да Ч. Янкоўскага. 1906–1909, арк. 4.

абароны ўласнай культуры і пры гэтым не перашкаджаць іншаму, бо «ўсім хопіць месца на гэтай зямлі». У супрацьвагу Краёвай партыі сцвярджалася, што будучы Саюз будзе абараняць польскія нацыянальныя інтарэсы, не перашкаджаючы абараняць уласныя інтарэсы іншым народам[570].

Арганізацыйныя намаганні, да якіх меў непасрэднае дачыненне В. Бараноўскі, скончыліся стварэннем у Вільні на пачатку 1908 г. Польскага саюза грамадскай працы ў Літве і Беларусі. «Кур'ер Літэўскі» падтрымаў новую польскую арганізацыю. А. Тупальскі на ягоных старонках коратка сфармуляваў галоўныя пастулаты Польскага саюза: быць палякам, прыхільнікам эвалюцыйнага шляху развіцця, шчырым дэмакратам і ўдзельнічаць у грамадскай працы на карысць усяго Краю[571]. Магчыма, менавіта гэты Саюз меў на ўвазе Раман Скірмунт, калі выказаўся наконт групы людзей, якіх аб'яднаў «палітычны рэцэпт», спісаны з праграмы Краёвай партыі: «Плагіят меў пазітыўны вынік...»[572]

У сярэдзіне лютага 1908 г. «Кур'ер» паведаміў, што да Саюза далучыліся такія вядомыя дзеячы, як Войцах Бараноўскі, Аляксандр Хамінські, Станіслаў Ванькові́ч, Тадэуш Дэмбоўскі, Юзаф Монтвіл, Конрад Недзялкоўскі, Казімір Шафнагель, Анджэй Тупальскі, Міхал Венслаўскі ды інш.[573] Як бачна, значная частка сяброў Краёвай партыі перайшла ў створаны Саюз грамадскай працы.

Крызіс Краёвай партыі Літвы і Беларусі падштурхнуў Рамана Скірмунта да больш актыўных дзеянняў. Напачатку 1908 г. ён уступіў у яе шэрагі. У лютым таго ж года Скірмунт на старонках «Кур'ера Літэўскага» ад імя партыі ўжо адказваў на крытычныя заўвагі А. Тупальскага. Апошні прыпісаў партыі эгаізм «буйных аграрыяў», заклапочаных выключна захаваннем уласных маёнткаў, а таксама згодніцтва з «чарнасоценцамі», праявай якога лічыў паразуменне польскіх выбаршчыкаў з рускімі «правымі» падчас губернскага сходу ў Гародні, дзе абіралі дэпутатаў III Дзяржаўнай Думы (верасень 1907 г.)

Раман Скірмунт накіраваў у рэдакцыю «Кур'ера» кароткі ліст, у якім заявіў, што Краёвая партыя Літвы і Беларусі не з'яўляецца партыяй аграрыяў, якія абараняюць толькі ўласныя інтарэсы, а рашэнне пра саюз з «правымі» прымалася гарадзенскімі выбаршчыкамі. Рэдакцыя «Кур'ера» змясціла ліст, але не ўтрымалася ад каментара пра «эгаістычны дух», якім нібыта прасякнута праграма Краёвай партыі[574].

Менавіта Раман Скірмунт стаў ініцыятарам правядзення агульнага партыйнага сходу, які павінен быў прывесці да кардынальных змен. Сам рэфарматар

---

570 W. B. [W. Baranowski], *Związek pracy krajowej,* «Kurier Litewski». 1907, Nr 221.

571 A. Tupalski, *Polski Związek pracy społecznej na Litwie i Białej Rusi*, «Kurier Litewski». 1908, Nr 32.

572 «Słowo». 1908, Nr 75.

573 «Kurier Litewski». 1908, Nr 35.

574 «Kurier Litewski». 1908, Nr 35.

падрыхтаваў даклад «Развіццё прынцыпаў і мэтаў Краёвай партыі», інфармацыя пра які з'явілася на старонках варшаўскага «Слова»[575]. На парадку дня былі пытанні пра выбары новага кіраўніцтва ў сувязі з тым, што Вайніловіч часова займаў гэтую пасаду, пра выхад з партыі Ваньковіча і Дэмбоўскага і даклад Скірмунта. Таксама адзначалася, што ўдзельнікам сходу для абмеркавання будзе прапанаваны новы праект арганізацыі партыі і новы рэгламент яе дзейнасці. Таксама планавалася «развіццё праграмы» Краёвай партыі.

Што атрымалася ў выніку? 13 лютага 1908 г. адбыўся партыйны з'езд, які зацвердзіў прапанаваныя рэфарматарам прынцыпы рэарганізацыі. Было прынята рашэнне пра стварэнне польскага і беларускага аддзяленняў, якія павінны былі скаардынавана вырашаць уласныя нацыянальныя задачы. Было абрана новае кіраўніцтва. На чале партыі стаў Раман Скірмунт[576].

У сакавіку 1908 г. ён выступіў на старонках «Слова» з вялікім артыкулам, у якім тлумачыў сітуацыю ў партыі[577]. Новы партыйны лідэр заявіў, што насуперак чуткам Краёвая партыя Літвы і Беларусі жыве і развіваецца. Ён не прымаў папрокаў у несвоечасовасці яе стварэння і прыгадаў, што яшчэ раней заявіла пра сваё існаванне ў Краі Партыя нацыянальных дэмакратаў, актыўна разгортвала сваю дзейнасць Партыя канстытуцыйных дэмакратаў. Стварэнне Краёвай партыі, якая пад сваім штандарам яднала «людзей памяркоўных поглядаў, што шчыра жадалі дабра Краю», у гэтай сітуацыі Скірмунт лічыў неабходнасцю. Праблемай была адсутнасць перыядычнага органа, што не дазволіла своечасова растлумачыць грамадству мэты і задачы партыі. Ён параўнаў Краёвую партыю з нямым чалавекам.

Паводле Рамана Скірмунта, галоўным прынцыпам Краёвай партыі было перакананне, што любоў да ўласнай нацыі не азначае нянавісці да іншых, што можна развіваць уласную культуру без шкоды для культурнага развіцця суседніх народаў. «Гіпертрафіраванае нацыяналістычнае пачуццё кінула вялікі цень на ўсю заходнюю цывілізацыю, – пісаў ён. – Падчас бескампраміснай барацьбы здзічэлі і маральна заняпалі пераможцы і пераможаныя. Барацьбе за выжыванне мы супрацьпаставілі ідэю сімбіёзу або мірнага суіснавання нацый і верым, што здолеем ажыццявіць яе на нашай глебе, як гэта атрымалася ў іншых краінах».

Гаспадар Парэчча прызнаваў важнасць абароны інтарэсаў уласнай нацыі і выказваўся за стварэнне ў партыі «польскай фракцыі», але адразу ж адзначаў неабходнасць паразумення з іншымі нацыямі і сумесную з імі грамадскую дзейнасць. Раман Скірмунт бачыў магчымасць пэўнага нацыянальнага сімбіёзу ў межах адной партыі. Гэта значыць, што прынятая сходам праграма рэарганізацыі трымалася на першапачатковай канцэпцыі партыі як міжнацыянальнага саюза.

Асобна Раман Скірмунт спыніўся на аграрным раздзеле праграмы. Ён заявіў,

575 «Słowo». 1908, Nr 45.
576 «Słowo». 1908, Nr 75.
577 R. Skirmunt, *Stronictwo Krajowe*, «Słowo». 1908, Nr 78.

што не можа быць і гаворкі пра «эгаізм буйных аграрыяў», што лозунг «Ні пядзі зямлі!» прыдумала рэдакцыя «Кур'ера Літэўскага» і прыгадаў, што краёўцы ў перыяд І Дзяржаўнай Думы былі ў авангардзе барацьбы супраць радыкальных аграрных праектаў. Скірмунт быў пэўны, што аграрную праблему ў Беларусі і Літве можна вырашыць эвалюцыйным шляхам, выкарыстоўваючы існуючыя інстытуты і Сялянскі банк. Галоўнай задачай ён лічыў ажыўленне зямельнага рынку шляхам стварэння інстытутаў, якія будуць спрыяць парцэляцыі і набыццю сялянамі зямлі.

Кіраўнік Краёвай партыі адкінуў абвінавачванні ў згодніцтве з уладамі, прызнаўшы, аднак, што на дадзены момант урад уяўляе рэальную палітычную сілу, з якой трэба лічыцца. Пры гэтым свае надзеі Краёвая партыя звязвала з «канстытуцыйным урадам». Паводле Скірмунта, толькі ён можа «супакоіць краіну і задаволіць нашыя справядлівыя патрабаванні». Магчыма, пад такім урадам разумеўся Кабінет міністраў, зацверджаны Дзяржаўнай Думай. Артыкул завяршаўся аптымістычным пасланнем аўтара да чытача: «Мы вытрымаем!»

Аднак спадзяванні Скірмунта былі марныя. Ажывіць Краёвую партыю не атрымалася. Яна непрыкметна сышла з палітычнай арэны.

Няздольнасць краёўцаў стварыць уплывовую палітычную арганізацыю ў перыяд рэвалюцыі ў вялікай ступені тлумачыцца пэўным рознагалоссем, характэрным для гэтага кірунку грамадска-палітычнага руху. Сутнасць краёвай ідэалогіі заставалася нязменнай – прыярытэт агульнакраёвых інтарэсаў, роўнасць «грамадзян краю» незалежна ад іх этнакультурнай, рэлігійнай і сацыяльнай прыналежнасці ды інш. Але ўжо ў разуменні нацыі, у стаўленні да асобных народаў Краю (напр., габрэяў), у пошуках шляхоў вырашэння агульнакраёвых праблем і г. д. краёўцы не мелі згоды. Як адзначыла даследчыца Марыя Задэнцка, «краёвая канцэпцыя распадалася на шмат галасоў, аргументацыя і рыторыка якіх больш альбо менш відавочна разыходзіліся ў розныя бакі, змяняліся ў залежнасці ад сітуацыі і ад перыяду гісторыі»[578]. Міхал Ромэр у 1921 г. на старонках свайго дзённіка зрабіў наступны запіс: «Ужываючы тэрмін «краёўцы», трэба заўсёды памятаць, што гэтае паняцце не азначае ні партыі, ні адзінай праграмы. Можна нават сказаць, колькі «краёўцаў», столькі розных праграм […]»[579]

Але краёвая ідэя жыла і развівалася. Яна засталася ідэалагічнай асновай выбарчай кампаніі літоўскіх і беларускіх палякаў у ІІІ Дзяржаўную Думу і Дзяржаўную Раду. На пачатку верасня 1907 г. у Кіеве адбыўся з'езд дэлегатаў губернскіх выбарчых камітэтаў дзевяці «заходніх губ.» Адным з двух прадстаўнікоў Менскай

578 M. Zadencka, *Krajowość a strategie elit wobec emancypacji narodowej ludu w końcu XIX i początku XX wieku: Litwa i Białoruś, prowincje Bałtyckie, Finlandia* (у:) *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu...*, s. 49.

579 Цытата паводле: J. Sawicki, *Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego*, s. 84.

губ. на гэтым з’ездзе быў Раман Скірмунт. У якасці асноўных пастулатаў выбарчай праграмы літоўскіх палякаў былі зацверджаны прынцыпы Віленскага з’езду 1906 г., якія ўключалі ажыццяўленне канстытуцыйных прынцыпаў, патрабаванне роўнасці нацый і рэлігій, адстойвалі недатыкальнасць права ўласнасці, выказваліся за ліквідацыю цераспалосіцы і сервітутаў, уздым сельскагаспадарчай культуры. Важным элементам праграмы заставалася дэцэнтралізацыя ўлады і ўвядзенне самакіравання[580].

Ізноў было прынята рашэнне пра стварэнне асобнага і самастойнага думскага Кола. Падкрэслівалася, што ў сваіх рашэннях яно павінна абапірацца на разуменне асаблівасцяў Краю, клапаціцца пра інтарэсы ўсіх народаў «Літвы і Русі», спрыяць супрацоўніцтву паміж імі. У агульнанацыянальных справах Кола абавязвалася дзейнічаць салідарна з прадстаўнікамі Каралеўства Польскага.

Пасля выбараў абранцы польскай грамадскасці ў адпаведнасці з рашэннямі Кіеўскага з’езда ўтварылі ўласную думскую фракцыю, якая атрымала назву «Польска-літоўска-беларускае кола». Яно дзейнічала ў рэчышчы краёвасці.

Краёвая ідэя выразна прысутнічала ў публіцыстыцы. Гэта датычыла нават «Кур’ера Літэўскага», якога так і не здолелі цалкам «прыручыць» польскія нацыянальныя дэмакраты. Тут па-ранейшаму з’яўляліся артыкулы, якія абгрунтоўвалі адпаведнасць краёвай ідэалогіі самаідэнтыфікацыі літоўскіх палякаў. Пра гэта пісалі, напрыклад, Ю. Букоўскі («Калі жыву ў Літве, кахаю яе суровую прыроду і жыхароў, маю агульныя з Краем інтарэсы, то з’яўляюся грамадзянінам Літвы ў поўным значэнні гэтага слова і літоўцам у грамадскім сэнсе. Аднак таму, што размаўляю і думаю па-польску, што пэўныя імёны польскай гісторыі напаўняюць мяне гонарам або сумам, што выхаваў сваю душу на польскай гісторыі і літаратуры [...], належу да польскай нацыі»)[581] і Канстанцыя Скірмунт[582].

Вядомая публіцыстка была аўтарам найбольш палымяных краёвых зваротаў. У лютым 1910 г. яна яшчэ раз заявіла пра сваю прыналежнасць да «літоўскай нацыі», культура якой разумелася як «літоўска-польскае дрэва, што вырасла на глебе лацінства і каталіцтва»[583].

Публіцыстка пратэставала супраць ужывання тэрміна «крэсы» і заяўляла, што Беларуска-Літоўскі край уяўляе закончаную цэласнасць. Гэты край, які «калісьці складаў больш чым палову Рэчы Паспалітай, быў цэнтрам працы і ідэі па адраджэнні яе духа, а сёння з’яўляецца Айчынай мільённых народаў, і ні ў якім сэнсе не можа быць названы крэсамі»[584].

«Альфай і амегай» краёвасці публіцыстка лічыла саюз літоўскіх палякаў

[580] «Dziennik Wileński». 1907, Nr 84.
[581] «Kurier Litewski». 1908, Nr 223.
[582] Ibidem. 1908, Nr 273, 293.
[583] K. Skirmuntt, *Kartki krajowe*. Wilno 1913, s. 52.
[584] Ibidem, s. 79.

з мясцовымі народамі. Менавіта тут «пані з Муру» разлічвала на з'яўленне новых форм краёвасці, без якіх гэтая ідэя не магла існаваць: «Новая форма – гэта не што іншае, як збліжэнне землеўласнікаў з дэмакратычнымі элементамі, г. зн. з беларускай і літоўскай народнай інтэлігенцыяй – як свецкай, так і духоўнай, з польскім мяшчанствам, з сялянствам, што размаўляе па-польску, з дробнай шляхтай, якая рассеяна па ўсім свеце і цалкам забыта»[585].

Дзеля гэтага збліжэння Канстанцыя Скірмунт лічыла неабходным «адрачэнне ад эгаістычных магнацкіх і зямянскіх інтарэсаў», шчырую падтрымку народных патрабаванняў і культурнае супрацоўніцтва з беларускай і літоўскай інтэлігенцыяй. Яна бачыла «грамадзян краю» сярод літоўскіх палякаў, а таксама маладой літоўскай і беларускай інтэлігенцыі[586].

У сапраўдны орган краёўцаў ператварыў варшаўскае «Слова» Чэслаў Янкоўскі, які ў адным з артыкулаў (1909) ужыў тэрмін «польская краёвая ідэя». На яго думку, толькі яна магла спыніць канфлікты і супярэчнасці, што пагражалі адзінству Краю, які стаў супольнай Айчынай розных народаў: «Толькі пад лозунгам гэтай ідэі ў Літве і Русі можа наступіць яднанне мясцовых нацыянальных сіл для сумеснай працы дзеля будучыні краю. Толькі і выключна краёвая ідэя як ідэя шматэтнічнага краёвага грамадзянства, здольная вырашыць праблемы тутэйшых нацыяналізмаў, і ў першую чаргу польска-літоўскую праблему, якая, нарэшце, перастане быць праблемай»[587].

Апрача ўжо згаданых публіцыстаў і палітыкаў да кола прыхільнікаў краёвасці, паводле канцэпцыі Рамана Скірмунта, можна аднесці таксама Давыд-Гарадокскага ардыната князя Станіслава Радзівіла (1880–1920) і княгіню Марыю Магдалену Радзівіл (1861–1945). Сімпатыі апошняй да беларускага руху заслугоўваюць асаблівай увагі.

У снежні 1913 г. менскі губернатар паведамляў свайму кіраўніцтву, што княгіня Радзівіл «относится с большой симпатией к местному белорусскому населению, стараясь разговаривать с крестьянами на белорусском языке, снабжая местных католиков белорусскими молитвенниками, оказывая всяческую помощь белорусам и принимая исключительно их к себе на службу»[588].

Добра вядомая вялікая матэрыяльная падтрымка, якую княгіня аказвала выдавецкім і культурніцкім праектам «Нашай Нівы». Таксама сустракаюцца звесткі, што яе дом у Менску і палац у Кухцічах Ігуменскага пав. Менскай губ.

---

585 «Kurier Litewski». 1912, Nr 99.

586 Ibidem.

587 Cz. Jankowski, *Idea krajowa,* «Słowo». 1909, Nr 88.

588 РГИА. Ф. 821, оп. 128, д. 698, л. 5.

сталі месцамі сустрэч Рамана Скірмунта з лідэрамі беларускага руху братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, Вацлавам Іваноўскім і Аляксандрам Уласавым[589].

Краёвасць, сапраўды, мела вялікі патэнцыял для паразумення прадстаўнікоў розных палітычных груповак і нацыянальных рухаў. Многія краёўцы ўсведамлялі ўласнае беларускае або літоўскае паходжанне, якое спалучалася з польскасцю як прыналежнасцю да польскай культуры. Родавая памяць часам спрыяла іх далучэнню да літоўскага і беларускага адраджэнцкіх рухаў.

Зразумець шлях гэтых людзей паспрабаваў ксёндз Уладзіслаў Талочка ў артыкуле «Пратэст, скіраваны па памылковым адрасе», прысвечаным мітрапаліту Андрэю Шаптыцкаму. На старонках «Двутыгодніка дыяцэзіяльнага» ён бараніў уніяцкага мітрапаліта ад нападкаў польскага друку. Апошні ў дзейнасці прадстаўніка польскага арыстакратычнага роду з Галіцыі, які паспяхова спалучаў пастырскую працу з удзелам у культурным адраджэнні «русінаў», убачыў нацыянальную здраду.

У. Талочка сцвярджаў, што Шаптыцкія паланізаваліся не раней XVIII ст., і ў іх выпадку мела месца вяртанне арыстакратычнага роду да «першапачатковай нацыянальнасці». Гэты выпадак ён разглядаў у шэрагу аналагічных працэсаў у гісторыі Чэхіі, Венгрыі і Літвы і заклікаў прызнаць іх права на гэтае вяртанне: «Калі мы прымаем сітуацыю з нашчадкамі анямечаных, зрусіфікаваных ды іншых родаў, якія, выпраўляючы памылкі сваіх бацькоў (калі яны былі), вяртаюцца ў лона сваёй нацыі, то нам трэба прыняць і зразумець аналагічную псіхалогію і эвалюцыю спаланізаваных русінаў і літвінаў, не адмаўляючы ім таго ж самага права»[590].

Дадам, што аўтар гэтых слоў, разважаючы пра Шаптыцкага, магчыма, тлумачыў і ўласную эвалюцыю свядомасці і культурніцкай дзейнасці...

Варта таксама звярнуць увагу на артыкул «Неадпаведная тэрміналогія», надрукаваны ў студзені 1912 г. на старонках «Дзенніка Пецярбургскага» за подпісам «Незнаёмы». Аўтар пратэставаў супраць акрэслення літоўскіх палякаў «каланістамі» і «палякамі». Ён падкрэсліваў мясцовае паходжанне пераважнай іх большасці і прапанаваў называць сябе літоўцамі і беларусамі: «Каб разглядаць праблему на адпаведнай глебе, мы, жыхары Літвы і Белай Русі, павінны называць сябе літоўцамі і беларусамі. Гэта адразу зруйнуе ўсе абвінавачванні ў чужым паходжанні. Мы, безумоўна, з’яўляемся абарыгенамі і жывем на ўласнай зямлі [...] Але трагізм палажэння ў тым, што мы, літоўцы і беларусы, павінны афіцыйна называць сябе палякамі, бо ў школьных, касцельных і выбарчых справах кожнага непаляка запісваюць адразу ў рускую курыю. Каб не страціць права маліцца папольску, вывучаць польскую мову і выбіраць дэпутатаў нашай культуры, мы вымушаны сцвярджаць, што з’яўляемся палякамі» [591].

---

[589] O. Łatyszonek, A. Zięba, *Radziwiłłowa z Zawiszów Maria Magdalena (1861–1945)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny,* t. XXX/3, z. 126. Wrocław 1987, s. 398–399.

[590] «Dwutygodnik Djecezalny». 1913, Nr 3, 10 lutego.

[591] «Dziennik Petersburgski». 1912, Nr 545.

Верагодным аўтарамі артыкула маглі быць Міхал Ромэр або Раман ці Канстанцыя Скірмунт. Таксама можна назваць імёны Антона або Івана Луцкевічаў, якія перанялі многія палажэнні краёвасці і як польскія «краёўцы-прагрэсісты» ў 1912 г. пачалі выдаваць польскамоўны «Кур'ер Краёвы» (1912–1914).

Праблема ўзаемадачыненняў беларускага Адраджэння і краёвай ідэі патрабуе спецыяльнай увагі, асабліва з улікам пазнейшага далучэння Рамана Скірмунта да беларускага нацыянальнага руху.

Гэты рух у перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. паступова ператварыўся ў істотны чыннік грамадска-палітычнага і культурнага жыцця Беларуска-Літоўскага краю. Аднак этыка «нацыянальнага эгаізму» не стала характэрнай рысай беларускага Адраджэння. Так, у студзені 1906 г. Беларуская сацыялістычная Грамада абвясціла сябе «партыяй працавітай беднаты Беларускага краю без адрознення нацыянальнасцяў»[592]. Лозунгам «Нашай Нівы» былі словы: «Свайго не цурайся, чужому навучайся», а публікацыі на яе старонках асуджалі ўсе праявы шавінізму, у т. л. беларускага. Зрэшты, пра яго ў той час наогул не даводзіцца казаць.

Дзеячы беларускага Адраджэння знаходзіліся ў пошуках найбольш адпаведнай формулы нацыянальнай ідэі. Яе этнакультурны варыянт («Наша Ніва», 1906–1915) спалучаўся са спробамі паяднання беларускай ідэі з дактрынай сацыялізму (БСГ), з хрысціянска-дэмакратычнай ідэалогіяй («Biełarus», 1913–1915), нарэшце, з краёвасцю. Апошняму спрыялі шчыльныя кантакты з краёўцамі ліберальна-дэмакратычнай плыні, а таксама з дзеячамі дэмакратычных арганізацый літоўскага руху.

Міхал Ромэр увесну 1905 г. ініцыяваў правядзенне ў Вільні польска-беларуска-літоўска-габрэйскіх з'ездаў прыхільнікаў аўтаноміі Літвы. Беларусы, якіх прадстаўлялі Іван Луцкевіч і Аляксандр Уласаў[593], літоўскія палякі і прадстаўнікі габрэйскай супольнасці Вільні выступалі за аўтаномію гістарычнай Літвы з гарантыяй нацыянальна-культурных правоў кожнай нацыі. А вось літоўскія дзеячы адстойвалі ідэю аўтаноміі «этнаграфічнай Літвы з прылеглымі тэрыторыямі і сталіцай у Вільні»[594]. Згода не была дасягнута, але кантакты працягваліся.

Міхал Ромэр у даследаванні гісторыі літоўскага Адраджэння на падставе інфармацыі літоўскай газеты «Darbininku Balsas» (1906, № 1) паведаміў пра зварот кіраўнікоў БСГ напрыканцы 1905 г. да сацыялістычных партый, якія дзейнічалі на тэрыторыі Літвы і ў першую чаргу да Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі з прапановай стварэння адзінай сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы і Беларусі.

---

592 *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.* У 2-х кн. Кн. 1. Рэд. А. Каваленя і інш. Мінск 2011, с. 252.

593 R. Miknys, *Lietuvos demokratų partija 1902–1915 metais* (у:) *Lietuvių atgimimo istorijos studijos*. 10. Vilnius 1995, p. 85.

594 M. Römer, *Litwa. Studyum odrodzenia narodu litewskiego*, s. 350–353.

Яе галоўнай мэтай абвяшчалася аўтаномія Беларусі і Літвы з агульным сеймам[595]. Дарэчы, гэтая ідэя ўвайшла ў праграму БСГ (1906).

Міжнацыянальныя кантакты прыкметна ўзмацніліся ў 1911 г., калі ў Вільні ўзнікла масонская ложа «Еднасць», сярод заснавальнікаў якой былі браты Іван і Антон Луцкевічы. Ложа аб'ядноўвала прадстаўнікоў дэмакратычных плыняў польскага, беларускага, літоўскага нацыянальных рухаў, а таксама габрэйскіх арганізацый. У 1911 г. у ложу быў прыняты Міхал Ромэр, які хутка стаў прызнаным масонскім лідэрам[596].

Дзякуючы ягонай здольнасці пераканаць і павесці за сабой, віленскія масонскія ложы сталі моцнымі цэнтрамі прапаганды краёвай ідэі[597]. Перад Першай сусветнай вайной у Вільні існавалі ўжо чатыры ложы –«Еднасць» («Jedność»), «Літва», «Беларусь» і «Руплівы ліцвін» («Gorliwy Litwin»). Тры першыя фактычна ядналі прыхільнікаў краёвасці, сярод якіх апынуліся браты Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі, літоўскія дзеячы Міколас Сляжэвічюс, браты Міколас і Вацловас Біржышкі, Феліксас Бугайлішкіс, Юргіс Шаўлюс, Ёнас Вілейшыс, Андрус Булёта ды інш.

М. Ромэр у сваім Дзённіку адзначаў: «Як уласна масонская арганізацыя мы не дзейнічаем, але ў многіх справах менавіта сярод нас выпрацоўваюцца дырэктывы і нараджаюцца ініцыятывы. Нашыя ложы маюць вялікі ўплыў на ўмацаванне ў свядомасці братоў краёвай пазіцыі»[598]. Ложы непасрэдна спрычыніліся да выдання беларускага польскамоўнага «Кур'ера Краёвага» (1912–1914) і польскага «Пшэглёнда Віленьскага» (1911–1915).

Відавочна, што прызнаныя лідэры беларускага руху браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі не толькі прынялі ідэю тэрытарыяльнай непадзельнасці зямель гістарычнай Літвы, але і актыўна яе прапагандавалі. Сродкам гэтай прапаганды стаў віленскі перыядычны друк краёўцаў як прастора міжнацыянальнага паразумення і супрацоўніцтва. Так, у рэдакцыі «Газеты Віленьскай» існаваў г. зв. «літоўскі аддзел» у складзе Міколаса Біржышкі, Юргіса Шаўлюса і Павіласа Вішынскаса.

Супрацоўніцтва таксама датычыла дзейнасці газеты «Кур'ер Краёвы». Гэты беларускі праект выходзіў па-за межы дактрыны этнакультурнага нацыяналізму, што дамінавала ў рэгіёне. Гэта быў арыгінальны праект выдання беларускай газеты на польскай мове[599]. Кіраўнікамі і аўтарамі гэтай газеты былі браты Луцкевічы, якіх падтрымліваў Міхал Ромэр. У лістападзе 1913 г., калі газета пераживала

---

595 Ibidem, s. 352.

596 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. Dziennik Michała Römera. T. 4, s. 403.

597 А. Смалянчук, З *гісторыі віленскага масонства пачатку XX ст.*, «Спадчына». 1998, № 5, с. 50–58.

598 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. Dziennik Michała Römera. T. 4, s. 404.

599 ГАРФ. Ф. 102, особый отдел, 1913, оп. 243, д. 157, л. 1.

моцны фінансавы крызіс, у склад яе рэдакцыі ўвайшлі літоўцы Ёнас Вілейшыс, Юргіс Шаўлюс і Сцяпонас Кайрыс, а таксама краёўцы-дэмакраты Ю. Сумарок, Ю. Букоўскі і М. Ромэр[600].

Варта адзначыць, што ў гэты самы час браты Луцкевічы, захоўваючы таямніцу, пачалі выдаваць ліберальна-дэмакратычную газету на рускай мове. «Вечерняя газета» (1911–1915) выступала як орган «рускіх прагрэсістаў», хоць, папраўдзе, гэта была яшчэ адна беларуская выдавецкая ініцыятыва, праз якую рэалізоўваўся беларускі «краёвы праект». Пра яго ўжо даводзілася пісаць[601], таму абмяжуюся толькі сцвярджэннем, што ў паслярэвалюцыйны перыяд краёвая ідэалогія сталася часткай ідэйнага падмурку беларускага руху. Ягоныя кіраўнікі бачылі ў краёвасці сродак умацавання пазіцый беларусаў у нацыянальна-культурным і грамадска-палітычным жыцці Беларусі.

Гэтаму павінны былі спрыяць міжнацыянальныя кантакты, а таксама спроба «думаць Беларусь» у межах канцэпцыі нацыі як палітычнай катэгорыі. Усё ж этнакультурны варыянт нацыяналізму, які паспяхова выкарыстоўвалі літоўцы і палякі, не знаходзіў масавай падтрымкі сярод беларусаў. Для беларускай вёскі, якая была галоўным аб'ектам прапаганды адраджэнцаў, ні родная мова, ні культура не былі дастаткова прывабнымі, бо не мелі сацыяльнага прэстыжу. Можна дапусціць, што прапаганда краёвасці была асцярожнай спробай парушэння пэўнага «нашаніўскага канону» тымі, хто стаяў ля яго вытокаў.

Збліжэнню пазіцый краёўцаў і кіраўнікоў беларускага руху спрыялі таксама тыя крокі, якія прадпрымалі асобныя краёўцы. Так, у беларускім руху актыўна працавалі Язэп Манькоўскі і Аляксандр Заштаўт, якія прадстаўлялі краёўцаў ліберальна-дэмакратычнага накірунку. Крокі насустрач рабілі таксама Раман Скірмунт і Марыя Магдалена Радзівіл. Нагадаю спробу Скірмунта стварыць Краёвую партыю Літвы і Белай Русі з трыма партыйнымі філіямі – польскай, літоўскай і беларускай.

Беларускі гісторык літаратуры Мікола Хаўстовіч адшукаў у Галоўным архіве даўніх актаў (AGAD) у Варшаве лісты Канстанцыі Скірмунт да Аляксандра Ельскага, датаваныя жніўнем і вераснем 1906 г. У лістах ішла гаворка пра напісанне папулярнай «народнай» кнігі для чытання пра Беларусь. Падобна, што гэта была замова пецярбургскага беларускага выдавецтва «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ». У лісце ад 22 верасня 1906 г. Канстанцыя Скірмунт заахвочвала А. Ельскага ўзяць гэтую справу ў свае рукі, а сама разважала пра магчымае напісанне нарыса гісторыі Беларусі. У лісце згадваўся таксама Раман Скірмунт, з якім аўтарка ліста раілася ў гэтай справе, і які падзяляў яе меркаванне наконт аўтарства А. Ельскага. Паводле Канстанцыі Скірмунт, адмова апошняга пісаць кнігу пра Беларусь можа

[600] А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй…*, с. 283.
[601] А. Смалянчук. *«Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі.* Мінск 2017.

абярнуцца тым, што яе напіша нехта іншы і, «хто ведае, ці ў братэрскім духу? »[602] Відавочна. што беларускія справы ўсё больш цікавілі Р. Скірмунта, і нядаўні дэпутат Дзяржаўнай Думы, між іншым, абмяркоўваў іх са сваёй стрыечнай сястрой і вядомай «краёвай» публіцысткай.

Паводле інфармацыі Севярына Выслауха, Скірмунт аказваў фінансавую падтрымку «Нашай Ніве» і сустракаўся з актывістамі беларускага Адраджэння[603]. У 1910-х гг. ён кантактаваў з групай беларускіх студэнтаў у Пецярбурзе. Пазней пра гэта ўзгадваў адзін з тых студэнтаў дзеяч беларускага руху Павел Аляксюк (1892–каля 1950)[604].

Праўда, сярод значнай часткі беларускай эліты ў адносінах да «сацыяльна чужых» пераважала насцярожанае і крытычнае стаўленне. Іх падазравалі ў імкненні захаваць свае дамінуючыя гаспадарчыя і палітычныя пазіцыі. Забягаючы наперад, трэба прызнаць, што гэтая «філасофія падазрэння» суправаджала амаль усю дзейнасць Скірмунта ў беларускім руху.

## *Паміж Менскам, Парэччам і Пецярбургам*

У жыцці Рамана Скірмунта таксама быў эпізод, звязаны з афіцыйнай «службай». У лютым 1905 г. ён пагадзіўся замяніць у Менскім шляхецкім дэпутацкім сходзе памерлага Атона Корсака, які прадстаўляў шляхту Пінскага пав. Яго кандыдатуру зацвердзіў імператар, і ў Менскім сходзе быў заведзены *формулярный список*[605]. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захаваліся тры варыянты яго асабістай справы як дэпутата Губернскага дваранскага схода ад Пінскага пав. Найбольш поўным варыянтам з'яўляецца справа, заведзеная ў Менскім губернскім праўленні 10 сакавіка 1905 г.[606] Апошні запіс быў зроблены 30 чэрвеня 1911 г.

Варта адзначыць, што прадстаўніцтва павятовай шляхты ў губернскім дваранскім сходзе мела пераважна ганарова-фармальны характар. Дэпутат быў абавязаны прысутнічаць на губернскім сходзе дваранства, а таксама на сходах шляхты і яе маршалкаў. Звычайна павет прадстаўляў толькі адзін дэпутат. Аднак гэтая «фармальнасць» магла стаць пачаткам адміністрацыйнай кар'еры.

У сярэдзіне сакавіка 1905 г. губернскае праўленне запатрабавала ад пінскага павятовага спраўніка атрымаць ад кандыдата ў дэпутаты шэраг дакументаў, у т. л.

---

602 М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы. Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзяў*. Том трэці. Warszawa 2017, s. 205.

603 S. Wysłouch, *Białorusini na ziemi Wileńskiej*. Wilno 1930, s. 3.

604 А. Чарнякевіч, *Чужы сярод чужых. Павел Аляксюк і беларускія «паланафілы»*. Мінск 2017, с. 28.

605 НГАБ. Ф. 319, воп. 2, спр. 2979. Формулярный список о службе депутата от дворян по Пинскому уезду Минской губернии дворянина Романа Александровича Скирмунта.

606 НГАБ. Ф. 299, воп. 7, спр. 2849. Формулярный список о службе депутата от дворян по Пинскому уезду Минской губернии дворянина Романа Александровича Скирмунта.

пасведчанні аб дваранстве, выкананні вайсковага абавязку, атрыманні сярэдняй адукацыі ды інш.

У адказ на зварот служачага паліцыі Скірмунт выслаў пашпарт, выдадзены ў верасні 1902 г. і пасведчанне аб прыналежнасці да патомнага дваранства. У лісце ён сцвярджаў, што дата нараджэння і інфармацыя пра звальненне ў запас (26 чэрвеня 1902 г.) пазначаныя ў пашпарце, а пасведчанне аб заканчэнні Рыжскай губернскай гімназіі засталося ў лейб-гвардыі Валынскім палку, дзе ён праходзіў вайсковую службу ў якасці *вольноопределяющегося* І разраду[607].

У ліпені пра Рамана Скірмунта як кандыдата ў дэпутаты ад дваранства Пінскага пав. паведамілі імператару. Гэты выпадак меў асаблівы характар, бо звычайна дэпутатамі прызначаліся дваране, якія ўжо мелі пэўны чын. Скірмунт яго не меў. Тым не менш, імператар згадзіўся на ягоную кандыдатуру. 23 ліпеня 1905 г. указам Мікалая ІІ Скірмунт быў прызначаны на пасаду дэпутата[608].

У сувязі з прызначэннем Менскае дваранскае праўленне запатрабавала дадатковую інфармацыю. Прыстаў Трусевіч паведаміў, што Раман Скірмунт «холост, живёт при отце, имеющем в Поречской волости имение «Поречье» с принадлежащими к нему фольварками Шчыліпоўка і Дуброва, в коих имеется 7 000 дес. земли, суконная фабрика и винокуренный завод, и имение Теклинополь, расположенное в Вилейском уезде Виленской губ. в 5 700 дес. земли. Письменных документов на принадлежность ему этого имущества не имеет, так как он является распорядителем по смерти отца к имуществу»[609].

10 кастрычніка 1905 г. Раман Скірмунт «выполнил присягу на верность службе». Да прысягі яго прыводзіў пінскі дэкан ксёндз Станіслаў Войцік у прысутнасці павятовага «предводителя дворянства».

Пра тое, як Раман Скірмунт працаваў дэпутатам ягоная асабістая справа маўчыць. Падобна, што фармальны характар працы Губернскага сходу не заахвочваў да нейкай адмысловай актыўнасці. Але ён, безумоўна, паспрыяў пашырэнню кантактаў Рамана Скірмунта ў межах Менскай губ. Таксама трэба адзначыць, што з 1906 г. Раман Скірмунт з'яўляўся радным Пінскага павятовага земства. Двойчы (1906 і 1909) на гэтую пасаду яго прызначаў менскі губернатар[610].

У студзені 1909 г. Губернскі сход звярнуўся з лістом да Губернскага праўлення з просьбай прысвоіць Скірмунту чын калежскага рэгістратара. Адзінай перашкодай была адсутнасць дакумента аб атрыманні дэпутатам сярэдняй адукацыі. Сам Раман Скірмунт у сакавіку 1909 г. яго адсутнасць тлумачыў тым, што дакумент нібыта застаўся ў Лейб-гвардыі Валынскім палку. Таксама ён паведамляў, што

---

607 Ibidem, арк. 5–5 адв.
608 Ibidem, арк. 11.
609 Ibidem, арк. 15–15 адв.
610 «Kurier Litewski». 1909, Nr 170; «Kurier Wileński». 1911, Nr 68.

звярнуўся непасрэдна ў Рыжскую гімназію з просьбай выдаць пасведчанне аб яе заканчэнні[611].

Архіўная справа ўтрымлівае працяглую перапіску Менскага губернскага праўлення з камандаваннем Валынскага палка і апекуном Рыжскай навучальнай акругі. З палка паведамілі, што ўсе дакументы былі вернуты адстаўному прапаршчыку Скірмунту, а з Рыгі прыйшоў ліст з інфармацыяй, што Раман Скірмунт у Рыжскай губернскай гімназіі не навучаўся. Насамрэч, як ужо адзначалася, у 1881–1883 гг. ён вучыўся ў Рыжскай гарадской гімназіі, якую так і не скончыў. Адсутнасць дакумента аб сярэдняй адукацыі перакрэсліла адміністрацыйную кар'еру Рамана Скірмунта. Але гэтая няўдача, магчыма, толькі актывізавала ягоную грамадскую і палітычную актыўнасць.

У паслярэвалюцыйны перыяд яна была шчыльна звязана з Менскім таварыствам сельскай гаспадаркі, у якім адбыліся пэўныя змены. Так, у сакавіку 1907 г. агульны сход МТСГ упершыню абіраў свайго «рэальнага» старшыню. Менскі губернатар больш не з'яўляўся ягоным фармальным кіраўніком. З выбарам не было праблемы, бо Эдвард Вайніловіч не меў альтэрнатывы. Таксама былі пераабраны сябры Рады Раман Скірмунт, Ежы Чапскі, Міхал Лэнскі і Аколаў. А вось за пасаду віцэ-старшыні разгарэлася барацьба. Вайніловіч прапанаваў Рамана Скірмунта, як «маладога і здольнага». Але знайшоўся годны канкурэнт.

Трэба адзначыць, што з часоў Юбілейнай менскай выставы (1901) сітуацыя ў Таварыстве істотна змянілася. Даследаванні Рамана Юркоўскага дазваляюць сцвярджаць, што ў МТСГ аформілася апазіцыйная кіраўніцтву групоўка, сябры якой імкнуліся надаць Таварыству больш выразнае нацыянальнае аблічча. Апазіцыю, якая сімпатызавала польскім нацыянальным дэмакратам, падтрымала маладзейшага частка сяброў МТСГ[612]. Менавіта яны прапанавалі кандыдатуру Урбана Крупскага, які падчас выбараў набраў больш галасоў[613]. Аднак кіраўніцтва Таварыства паведаміла пра парушэнне працэдуры галасавання і не прызнала іх вынікі. Вайніловіч не збіраўся саступаць.

Таксама на гэтым сходзе ўздымалася праблема сялянскіх сельскагаспадарчых гурткоў, якія ствараліся пад эгідай МТСГ, але не згадваліся ў статуце арганізацыі. Раман Скірмунт коратка распавёў гісторыю стварэння гурткоў Пінскім аддзелам Таварыства і выказаўся за ўнясенне зменаў у статут[614].

Наступны агульны сход адбыўся ў кастрычніку 1907 г. Галоўнай падзеяй былі выбары віцэ-старшыні. На гэты раз Вайніловіч загадзя пралабіраваў кандыдатуру Рамана Скірмунта. Сам кандыдат падчас выступу прызнаўся, што згадзіўся

---

611 НГАБ. Ф. 299, воп. 7, спр. 2849, арк. 34.

612 R. Jurkowski, *Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich. 1864–1904. Działalność społeczno-gospodarcza.* Warszawa 2001, s. 262.

613 «Głos Polski». 1907, Nr 1.

614 «Kurier Litewski». 1907, Nr 60.

ўдзельнічаць у выбарах толькі па просьбе некаторых сяброў Таварыства. «Ведаю, – заявіў ён, – што не маю папулярнасці сярод вас з прычыны сваёй палітычнай пазіцыі, але палітыка не будзе мець дачынення да сельскагаспадарчых спраў»[615]. Урэшце рэшт ён набраў 60 галасоў супраць 50 у таго ж канкурэнта і заняў пасаду віцэ-старшыні. Раман Скірмунт заставаўся на ёй і працаваў поруч з Эдвардам Вайніловічам амаль да самага канца існавання Таварыства. На наступных выбарах 1910, 1913 і 1916 гг. ён ужо не меў канкурэнтаў.

На вынікі кастрычніцкіх выбараў, магчыма, паўплывалі палітычныя перамены. Роспуск II Дзяржаўнай Думы, змена выбарчага заканадаўства, а таксама вынікі выбараў дэпутатаў ад Менскай губ. у III Дзяржаўную Думу, на якіх перамаглі вялікарускія шавіністы прымушалі вярнуцца да ранейшых, дарэвалюцыйных форм дзейнасці. Эдвард Вайніловіч параўнаў дзейнасць Таварыства з слімаком, які, напаткаўшы перашкоду, вяртаецца да свайго дому і штодзённай працы. Менавіта да гэтага заклікаў старшыня, зрабіўшы агаворку наконт захавання «ўласных культурных ідэалаў» у новай рэчаіснасці[616].

У снежні 1907 г. Раман Скірмунт упершыню кіраваў агульным сходам Менскага таварыства. Вайніловіч быў вымушаны тэрмінова выехать у Пецярбург. Ён толькі распачаў сход, павіншаваў прысутных з надыходзячым святам і прасіў не губляць надзеі на лепшае нават у такі складаны час. У цэнтры ўвагі ўдзельнікаў сходу апынулася пытанне дапамогі сялянам, якія пакутавалі ад голаду ў выніку няўраджаеў 1905–1907 гг. Хлеб быў, але гандляры, карыстаючыся сітуацыяй, павышалі цэны. Выступоўцы канстатавалі, што ў гэтай сітуацыі сяляне могуць спадзявацца толькі на г. зв. «абшарнікаў», якіх звыкліся лічыць галоўнымі ворагамі. У выніку абмеркавання прапановы Рады МТСГ было прынята рашэнне закупіць разам з земствам 500 вагонаў збожжа, каб прадаць яго галадаючым сялянам па цане набыцця. Кіраўніцтва Таварыства разлічвала такім спосабам спыніць гандлёвыя спекуляцыі мясцовых купцоў[617].

Потым сход заслухаў рэферат «апазіцыянера» Яўгена Кавалеўскага пра «крызіс Таварыства». Выступоўца крытыкаваў «бяздзейснасць» кіраўніцтва і прапанаваў дэцэнтралізацыю і дэмакратызацыю МТСГ, а таксама выказваўся за пашырэнне агранамічнай культуры, адкрыццё сельскагаспадарчых школ, ашчадных кас, стварэнне павятовых сельскагаспадарчых арганізацый ды інш.[618] Паводле інфармацыі на старонках газеты «Край», гэты рэферат не выклікаў дыскусіі з прычыны сваёй

615 Ibidem, Nr 233.

616 R. Jurkowski, *Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich…*, s. 260.

617 «Kraj». 1907, Nr 46.

618 R. Jurkowski, *Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich…*, s. 260–261.

«журналісцкай легкавеснасці»[619]. Дыскусія адбылася пазней на старонках «Кур'ера Літэўскага»[620].

Пазіцыі Рамана Скірмунта ў МТСГ паступова ўмацаваліся. На гэта паўплывала ягоная энергічная дзейнасць і кампетэнтнасць у самых розных сферах гаспадарання. Так, у сакавіку 1914 г. на вясновым агульным сходзе Таварыства Раман Скірмунт быў абраны ў склад дэлегацыі для ўдзелу ў з'ездзе Расійскай Экспартнай палаты ў Вільні. Ён жа стаў пастаянным прадстаўніком МТСГ пры Віленскім аддзяленні гэтай палаты[621]. Скірмунт таксама меў дачыненне да распрацоўкі статута Таварыства ўзаемнага страхавання, які павінны былі зацвердзіць улетку 1914 г.[622] Дарэчы, у гэты час сябрамі МТСГ былі яшчэ два прадстаўнікі парэцкай лініі Скірмунтаў – старэйшы брат Аляксандр і малодшая сястра Алена[623].

Важнай прасторай асабістага жыцця Рамана Скірмунта заставалася Парэчча. Уласнай сям'і ён не меў і жыў разам з бацькамі і сястрой Аленай. Трэба адзначыць, што ніхто з пяцёх сыноў Аляксандра і Тэафілы Скірмунтаў не ўзяў шлюбу і не меў уласнай сям'і. Чаму так атрымалася? Адказаць на гэтае пытанне складана, бо асабістыя архівы Скірмунтаў не захаваліся, а аб'ектам публічнага абмеркавання ў тыя часы гэтая праблема не стала. Магчыма, пэўную ролю адыгралі адносіны паміж бацькамі, якія напрыканцы XIX ст. пагоршыліся. Як ужо адзначалася, кожны з іх фактычна вёў уласнае жыццё.

Толькі дзве дачкі з вялікай сям'і Аляксандра і Тэафілы Скірмунтаў мелі дзяцей. А адзінай прадаўжальніцай парэцкай лініі роду стала старэйшая дачка Тэафіла (1857–1935). Дарэчы, аналагічная сітуацыя склалася ў суседнім Моладаве, дзе ніхто з дзяцей Генрыка і Марыі Скірмунтаў не меў уласнай сям'і і нашчадкаў. Канстанцін Скірмунт быў цалкам пагружаны ў грамадскія і палітычныя справы, а ягоны брат Генрык у маладосці перажыў трагедыю, калі каханая жанчына незадоўга да шлюбу парвала з ім стасункі. Іх сястра Ядвіга большую частку жыцця пражыла разам з Марыяй Радзевічуўнай.

Спробы знайсці інфармацыю пра іншыя старонкі асабістага жыцця Рамана Скірмунта паспрыялі знаходцы ў Бібліятэцы імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы двух фотаальбомаў Рамана Скірмунта, датаваных 1905–1914 гг.[624] Яны запоўнены фотаздымкамі з Егіпта, Судана і Італіі, пра што сведчаць некаторыя подпісы і шматлікія афрыканскія пейзажы. «Італьянскіх» здымкаў няшмат, але

---

619 «Kraj». 1907, Nr 46.

620 «Kurier Litewski». 1907, Nr 285; 1908, Nr 9.

621 *Отчет о деятельности Минского общества сельского хозяйства за 1914 г.* Минск 1915, с. 14.

622 *Журналы общих собраний Минского общества сельского хозяйства. 1915. Мартовские собрания.* Минск 1915.

623 *Отчет о деятельности Минского общества сельского хозяйства за 1914 г.*, с. XXVI.

624 БУАНЛ. Аддзел рэдкай кнігі. Fg. 1–919/1, Fg. 1–919/2. Хачу выказаць удзячнасць др Вользе Масцяніцы-Станкевіч за дапамогу ў выяўленні і карыстанні гэтымі матэрыяламі.

на двух з іх можна пазнаць Рамана Скірмунта. Большасць фотаздымкаў – гэта афрыканскія пейзажы, выявы мясцовых жыхароў, вайскоўцаў у брытанскай форме, а таксама цывільных еўрапейскага выгляду.

На многіх фотаздымках прысутны стрыечны брат Рамана Станіслаў Скірмунт, які быў службоўцам брытанскай каланіяльнай місіі спачатку ў Егіпце, а пазней у Судане. Усяго захавалася 70 фотаздымкаў. Подпіс пад адным з афрыканскіх здымкаў сведчыць, што і Раман Скірмунт наведаў Судан. Праўда, асоба на ім зусім не падобная на іншыя ягоныя выявы таго часу. Цікава, што нешматлікія здымкі Скірмунта, зробленыя ў Італіі, выразна адрозніваюцца лепшай якасцю ад большасці афрыканскіх.

Гэтыя фотаальбомы ўтрымліваюць пэўную загадку. Справа ў тым, што ў публіцыстыцы і вядомай эпісталярнай спадчыне Рамана Скірмунта, а таксама ва ўспамінах прадстаўнікоў гэтага роду ніколі не згадваліся ягоныя падарожжы ў Афрыку. Італія таксама не фігуравала ў пісьмовых крыніцах, але падарожжы ў гэтую краіну былі звычайнай справай для Скірмунтаў. Асабліва, калі прыгадаць іх маёмасць у раёне Брындызі. Магчыма, разгадку трэба шукаць у постаці Станіслава Скірмунта. У бібліятэцы імя Урублеўскіх таксама захаваліся ягоныя фотаальбомы. Подпісы сведчаць, што фотаздымкі рабіліся ў Судане з 1909 па 1917 гг. На двух альбомах, датаваных 1913 і 1917 гг., пазначаная сталіца брытанскага Судана г. Хартум. На большасці здымкаў тыя ж афрыканскія пейзажы і выявы мясцовых жыхароў.

Цалкам магчыма, што ўсе гэтыя фотаальбомы належалі Станіславу Скірмунту, а пасля ягонай смерці ў Хартуме ў ліпені 1921 г. разам з іншымі рэчамі былі перасланы ў Пінск да сястры Канстанцыі. Можна меркаваць, што некаторыя з іх маглі трапіць у Парэчча пасля яе смерці ў 1934 г. Магчыма, асобныя здымкі былі пазней устаўлены ў альбомы і тады ж падпісаны. Між іншым, пра гэта сведчыць напісанне прозвішча Рамана Скірмунта праз двайное *tt*. Вядома, што на пачатку ХХ ст. ён меў у прозвішчы толькі адну літару *t*. На жаль, невядома, хто займаўся атрыбутацыяй і якім чынам здымкі апынуліся ў Бібліятэцы Урублеўскіх…

Пра некаторыя іншыя паездкі Рамана Скірмунта сведчыць ягоны пашпарт, які захаваўся ў «фармулярным спісе», куды трапіў увесну 1905 г. Пашпарт быў выдадзены 16 верасня 1902 г., а праз тры дні ягоны ўладальнік ужо быў у Пецярбурзе, дзе прайшоў рэгістрацыю. Таксама ў пашпарце можна ўбачыць штамп «Еўрапейскай гасцініцы» Варшавы, які сведчыць пра прыезд туды Скірмунта 13 кастрычніка 1902 г.[625]

Што датычыць гаспадаркі Парэчча, то, верагодна, з пачаткам актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасці Рамана Скірмунта галоўную ролю ў ёй ізноў пачаў адыгрываць ягоны бацька.

«Ліверпуль на Ясельдзе» ў пачатку ХХ ст. зрэдку фігураваў на старонках га-

[625] НГАБ. Ф. 288, воп. 7, спр. 2849, арк. 5а–6к.

зет і часопісаў. Перамены ў Расійскай імперыі актуалізавалі навіны грамадска-палітычнага жыцця. Між тым, архіўныя крыніцы дазваляюць сцвярджаць, што ў Парэччы па-ранейшаму паспяхова функцыянавалі суконная фабрыка і вінакурны завод. У маёнтку ў 1905 г. жылі замежныя спецыялісты вінакур Густаў Тупенталь, рабочыя Бартэк Шнурова і Александр Мель (усе з Германіі), грамадзянін Аўстра-Венгрыі Карл Загурскі[626]. Газета «Край» у тым жа годзе рэкламавала «Старую гарэлку Александра Скірмунта ў Парэччы», якая прадавалася ва ўласных крамах у Вільні (вул. Вялікая) і Коўне (вул. Віленская)[627]. Гэтую ж рэкламу маглі ўбачыць чытачы газеты «Двутыгоднік Дыяцэзіяльны Віленьскі»[628]. Таксама вядома, што права ўдзелу ў выбарах у І Дзяржаўную Думу атрымалі 105 работнікаў суконнай фабрыкі[629].

Матэрыялы беларускіх архіваў дазваляюць сцвярджаць, што ў маёнтку з 1907 г. існавала незарэгістраваная школа для дзяцей фабрычных рабочых. Улады даведаліся пра яе толькі ў 1912 г., калі рашэннем Менскага Акруговага суда «тайная польская школа» была зачынена, а Раман Скірмунт і настаўніца Марыя Нарэйка былі аштрафаваны[630].

Такім чынам, Раман Скірмунт удзельнічаў у арганізацыі тайнага польскамоўнага навучання ў Менскай губ і ў Пінскім пав. Сустракаюцца звесткі пра ягонае сяброўства ў Радзе польскага таварыства *Oświata* ў Менску[631]. Пра гэта пісаў таксама Канстанцін Скірмунт у лісце да Элізы Ажэшкі ад 1 ліпеня 1907 г. Ён пераслаў пісьменніцы справаздачу Пінскага таварыства дабрачыннасці, датаваную 24 сакавіка 1907 г. Паводле гэтага дакумента, адным з найважнейшых кірункаў дзейнасці было навучанне дзяцей каталікоў польскай мове, катэхізісу, гісторыі і арыфметыцы, іх выхаванне ў духу хрысціянства. З восені 1906 г. Таварыства ўтрымлівала 7 школ (397 вучняў і 12 настаўнікаў), а таксама фінансава падтрымлівала выкладанне польскай мовы ў Пінскай гімназіі. Выдаткі на гэтую дзейнасць склалі болей 2 тыс. руб. У лісце К. Скірмунт адзначыў, што ініцыятарамі гэтай падтрымкі былі «нашы зямяне», а галоўнай пружынай усёй справы былі Канстанцыя Скірмунт і Юзэфа Кужанецкая пры ўдзеле Рамана Скірмунта ды іншых сваякоў»[632].

Тут варта прыгадаць, што названыя асобы мелі таксама непасрэднае дачыненне да выдання «Русінскага лементара» (1907), які можна лічыць першай спробай стварэння буквара на палескай гаворцы. Дарэчы, у артыкуле «Юзэфа Кужанецкая

[626] НГАБ. Ф. 519, воп. 1, спр. 119, арк. 272.
[627] Напр., «Kraj». 1905, Nr 1 i Nr 2.
[628] Гл., напр., «Dwutygodnik Djecezalny Wileński». 1913, Nr 3.
[629] НГАБ. Ф. 519, воп. 1, спр. 119, арк. 272.
[630] НГАБ. Ф. 295, воп. 2, спр. 137, арк. 48.
[631] А. Ильин, Е. Игнатюк, *Очерки истории культуры Пинщины (IX – начало XX в.)*, с. 195.
[632] Instytut Badań Literackich PAN. Archiwum Elizy Orzeszkowej. List Konstantego Skirmuntta. 01. 07. 1907 r.

(успаміны пасля смерці)» Раман Скірмунт прыпісваў аўтарства Лементара менавіта ёй[633]. Аднак веданне тых моцных сяброўскіх стасункаў, якія ядналі гэтых людзей, дазваляе сцвярджаць, што да стварэння палескага буквара дачыненне мелі таксама Раман і Канстанцыя Скірмунты.

Апошняе прымушае яшчэ раз звярнуць увагу на спецыфіку свядомасці эліты літоўскіх і беларускіх палякаў, у якой польскасць арганічна спалучалася з сімпатыяй да іншых мясцовых культур і моваў. Адпаведна можна было ствараць тайныя польскія школы і адначасна падтрымліваць, напр., развіццё беларускай культуры і палескія традыцыі. Такая пазіцыя цалкам адпавядала прынцыпам краёвай ідэалогіі.

У Спісе касцёлаў Пінскай дыяцэзіі за 1936 г. прыгадваўся касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў Парэччы, збудаваны намаганнямі Скірмунтаў, які ў 1930-я гг. ужо не існаваў[634]. Аднак архіўныя дакументы паведамляюць толькі пра невялікую капліцу, усталяваную ў адным са складскіх будынкаў Парэцкага маёнтка (1906) без дазволу ўладаў.

Вось як апісаў яе прыстаў у пратаколе ад 18 кастрычніка 1913 г., калі ўлады даведаліся пра «незаконную» капліцу: «В имении Поречье между другими жилыми и хозяйственными строениями, занятыми под суконную фабрику и другие хозяйственные надобности, в южной части довольно обширной усадьбы имеется каменное двухэтажное здание, расположенное фасадом в сторону фабричного корпуса, в коем в нижнем этаже, с правой стороны, в конце здания помещается каплица. Со двора обыкновенный вход в коридор, поперек здания. Из коридора направо две двери в помещение каплицы […] Самое помещение каплицы размером 12 аршин длиной и 14 аршин шириной. У стены, коей заканчивается здание, посередине устроено возвышение для алтаря; алтарь облечен в соответствующие одежды, на нем имеются священные предметы для совершения богослужения. На стенах несколько икон и священных изображений. С правой стороны каплицы имеется конфессионал для принятия исповеди. Алтарь отделен барьером. Над помешением каплицы на крыше, на щите имеется небольшой крест. Остальное здание, где помещается каплица, занято квартирами служащих и часть складом под железные изделия»[635].

У 1906 г. большая частка гэтага будынка была занята пад склад фабрычнага абсталявання. Калі верыць афіцыйным тлумачэнням Скірмунта (1913), то набажэнствы ў капліцы адбываліся толькі тройчы на год – перад Вялікаднём, перад Раством і ў дзень смерці Аляксандра Аляксандравіча Скірмунта. Ксёндз Войцік наогул заявіў, што гэта не капліца, а пакой для выканання пэўных рэлігійных

---

[633] R. Skirmunt, *Józefa Kurzeniecka (wspomnienia pośmiertne)*, «Kurier Litewski, 1915, Nr 107, 25 kwietnia.

[634] *Spisy kościołów i duchowieństwa Diecezji Pińskiej w roku 1936.* Pińsk, 1936.

[635] НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 8257, арк. 19–19 адв.

рытуалаў – споведзі на Вялікдзень, адпявання памерлых і «напутствования больным». Неабходнасць такога пакоя ці капліцы тлумачылася тым, што бліжэйшы ад Парэчча касцёл знаходзіўся ў Пінску[636].

Распачалося следства. Раман Скірмунт прадпрыняў намаганні па легалізацыі капліцы. У адказ на ягоны зварот Магілёўскі арцыбіскуп у верасні 1913 г. дазволіў адкрыццё капліцы ў маёнтку Парэчча, а ксёндз Войцік адразу ж яе асвяціў. Адначасова ў прыватнай размове Р. Скірмунт папрасіў менскага губернатара Аляксея Гірса дапамагчы з легалізацыяй капліцы. Аднак Менскае губернскае праўленне запатрабавала прадставіць план будынка і капліцы. Свае карэктывы ў гэтую справу ўнесла вайна. План, падпісаны Раманам Скірмунтам, быў прадстаўлены толькі ў снежні 1914 г. Ён адразу ж быў зацверджаны губернскім праўленнем, што стала падставай для спынення следства.

Сярод матэрыялаў, прысвечаных справе Парэцкай капліцы, варты асаблівай увагі ліст менскага губернатара ў Дэпартамент духоўных спраў ад 23 лютага 1916 г., у якім давалася характарыстыка канфесійнай сітуацыі ў Парэччы і наваколлях. Пры гэтым аўтар абапіраўся на дадзеныя колькасці насельніцтва і яго канфесійнай прыналежнасці, сабраныя павятовым спраўнікам. Верагодна, яны адлюстроўвалі сітуацыю ў Парэччы напярэдадні вайны.

Гэтыя дадзеныя малююць карціну цалкам праваслаўнай мясцовасці, канфесійную маналітнасць якой парушалі пераважна рабочыя-каталікі Парэцкай суконнай фабрыкі: «[...] им. Поречье расположено среди следующих населеных пунктов: в 1 версте от имения находится село Поречье, насчитывающее жителей белорусов 1 665 душ обоего пола, православного исповедания и два еврейских семейства, в этом селе имеется православная церковь; в 3-х верстах – дер. Табулки с населением в 893 чел. и дер. Чемерин с населением в 898 чел. – все православные белорусы; в 5 верстах – дер. Новоселки и хутор Виллы с населением в 215 чел. белорусов православного исповедания, и хутор Фурманы, насчитывающий населения 24 чел. белорусов-католиков; в 18 верстах – дер. Клетная с населением в 509 чел. белорусов православного исповедания, кроме одного еврейского семейства. В самом имении Поречье имеется суконная фабрика, на которой состоит рабочих и служащих 243 чел. католиков-белорусов. В 8 верстах от имения Поречье находится дер. Кротово с населением в 492 чел. и дер. Каролина с населением 191 чел. – все белорусы православного исповедания, в этих селениях имеется православная часовня Поречского прихода. Ближайшими к вышеупомянутому имению римско-католическими богослужебными зданиями является костел в местечке Логишин, отстоящим на расстоянии 24 верст, и в г. Пинске, отстоящим в расстоянии 29 верст»[637].

У гэтай характарыстыцы звяртае на сябе ўвагу выключна каталіцкая канфесія

[636] Тамсама, арк. 17–17 адв.
[637] Тамсама, арк. 27–27 адв.

рабочых суконнай фабрыкі. З улікам спецыфікі ўжывання расійскімі ўладамі тэрміна «беларус-католік», можна сцвярджаць, што прыстаў, а разам з ім і губернатар А. Гірс імкнуліся давесці начальству, што на фабрыцы Скірмунта працуюць выключна палякі. Але ткацкая вытворчасць у Парэччы ніколі не мела і не магла мець пэўнага канфесійнага характару. Да таго ж цытаваныя вышэй кнігі рэгістрацыі споведзі і прычасця Парэцкай царквы яскрава сведчаць, што яшчэ ў 1886 г. на фабрыцы працавала даволі шмат праваслаўных.

Цалкам верагодна, што вышэйзгаданы дакумент быў разлічаны на людзей, якія нічога не ведалі ні пра Парэчча, ні пра Скірмунтаў. Ён павінен быў пераканаць улады, што Парэцкая рымска-каталіцкая капліца не будзе прадметам міжнацыянальнай і міжканфесійнай варожасці[638]. Магчыма, Р. Скірмунт меў непасрэдны ўплыў на прадстаўленыя дадзеныя і выснову дакумента.

Прыведзеная характарыстыка таксама сведчыць, што вёска Парэчча напярэдадні вайны не мела каталіцкага касцёла. А вось праваслаўная царква Раства Багародзіцы была збудавана ў Парэччы ў 1912 г. пры падтрымцы Рамана Скірмунта. Вядома, што ў пасляваенны час у царкве захоўваліся скульптурныя працы Алены Скірмунт, якія, верагодна, трапілі туды з капліцы або былі перададзены сям’ёй Скірмунтаў[639].

Стасунак Рамана Скірмунта да Бога і Царквы складана ахарактарызаваць, бо адсутнічаюць ягоныя публічныя выказванні на гэтую тэму. Але, відавочна, што ён разумеў вялікае значэнне хрысціянства і падтрымліваў будаўніцтва і рамонт святыняў. Так, Раман Скірмунт прыняў актыўны ўдзел у вяртанні вернікам касцёла ў вёсцы Гарадзішча паблізу Пінску. Касцёл і бенедыктынскі кляштар у вёсцы былі зачынены ў красавіку 1865 г. Праз некалькі гадоў яны былі канфіскаваны дзяржавай і прададзены з умовай зносу. У 1899 г. новы ўладальнік прадаў будынак касцёла пінскім габрэям на злом. Але, калі тыя прыехалі ў Гарадзішча, сабраўся натоўп сялян, якія не дазволілі руйнаваць касцёл і прагналі новых уладальнікаў.

У арганізацыі гэтага супраціву вялікую ролю адыгралі актывісткі Таварыства дабрачыннасці Канстанцыя Скірмунт і Юзэфа Кужанецкая. Яны падтрымлівалі сялян у іх намаганнях вярнуць касцёл. Калі пагроза яго руйнавання знікла, па іх ініцыятыве быў створаны Часовы камітэт, які звярнуўся да Магілёўскага арцыбіскупа Стэфана Дзянісевіча з просьбай асвяціць касцёл і адслужыць імшу. Першы ліст да арцыбіскупа ад 9 кастрычніка 1909 г. быў падпісаны Раманам Скірмунтам і Юзэфай Кужанецкай. Асвячэнне касцёла адбылося ў лістападзе таго ж года, але супраць яго ўдзельнікаў распачаўся судовы працэс. Улады заявілі пра незаконнасць усёй акцыі. Інтарэсы абвінавачаных абараняў вядомы пецярбургскі адвакат Баляслаў Альшамоўскі і рабіў гэта паспяхова. Сялян, што рамантавалі кас-

[638] Тамсама, арк. 31.

[639] Царква згарэла на пачатку нашага стагоддзя. У 2005 г. яна была адбудавана паводле першапачатковага выгляду.



*Адноўлены касцёл у в. Гарадзішча.*

цёл, толькі аштрафалі, а ксёндз Станіслаў Іваноўскі, які яго асвяціў, быў апраўданы.

Часовы камітэт вырашыў выкупіць зямельны ўчастак разам з будынкам касцёла. Але існавалі дзве вялікія перашкоды. Папершае, каталікі не мелі права набываць зямлю ў «Паўночна-Заходнім краі», а падругое, былі патрэбныя грошы. Урэшце пакупнікамі сталі сяляне з Гарадзішча, а грошы для іх знайшлі Раман і Канстанцыя Скірмунт разам з Юзэфай Кужанецкай. Вырашальную ролю адыграў фундатар, які застаўся інкогніта. Ён перадаў Часоваму камітэту 20 тыс. руб. Раман Скірмунт лічыў, што гэта былі грошы ад княгіні Марыі Магдалены Радзівіл, але яна сама ніколі ў гэтым не прызналася. Гісторыя закончылася ў верасні 1914 г., калі Дэпартамент духоўных спраў дазволіў рамонт і адкрыццё касцёла ў Гарадзішчы[640]. Дарэчы, ва ўспамінах-некралогу на смерць Юзэфы Кужанецкай, якая памерла 12 красавіка 1915 г., Раман Скірмунт з характэрнай для яго сціпласцю галоўную заслугу ў аднаўленні касцёла прыпісаў менавіта ёй[641]. Аднак няма сумневу, што ягоная дзейнасць таксама была вельмі важнай у гэтай справе.

Магчыма, найбуйнейшай падзеяй асабістага жыцця Рамана Скірмунта пачатку XX ст. стала смерць бацькі. У жыцці кожнага сына гэтая падзея з'яўляецца пэўным рубяжом. Да таго ж смерць бацькі мела важныя наступствы для грамадскапалітычнай дзейнасці ўладальніка Парэцкага маёнтку.

Аляксандр Аляксандравіч Скірмунт памёр раніцай 26 чэрвеня 1909 г. у Парэччы. Адбылося гэта нечакана. Напярэдадні ён яшчэ сам аб'ехаў у аднаконным вазку землі маёнтка, аддаў распараджэнні і жыў планамі на наступны дзень...

Яго смерць стала драмай для ўсёй вялікай сям'і. Канстанцыя Скірмунт адгукнулася некралогам на старонках «Кур'ера Літэўскага», у якім характарызавала памерлага як «узорнага грамадзяніна, які доўгія гады вёў нястомную грамадскую працу». У яго жыццяпісе яна адзначыла гаспадарчыя рэформы, якія, між

640 М. Нікалаеў, *Партрэт у Гарадышчынскім касцёле. Хроніка падзей*, «Arche». 2004, Nr 1; R. Skirmunt; *Panie z Muru*, «Słowo Polesia». 1934, Nr 47; «Słowo Polesia», 1934. Nr 49.

641 R. Skirmunt, *Józefa Kurzeniecka (wspomnienia pośmiertne)*, «Kurier Litewski», 1915, Nr 107, 25 kwietnia.

іншым, стваралі магчымасці заробку для «навакольнага люду», удзел у з'ездах, дзе абмяркоўваліся ўмовы ліквідацыі прыгону ў 1861 г., прыгадала, што падчас паўстання 1863 г. ён рызыкаваў сваім жыццём і маёмасцю, бо меў «сэрца патрыёта», а пасля яго, у час апатыі і прыціску здолеў заснаваць Таварыства дабрачыннасці і Таварыства ўзаемнага крэдыту. Напрыканцы Канстанцыя Скірмунт прыгадала сына Рамана, як «годнага спадкаемца родавай традыцыі»[642].

Канстанцін Скірмунт у лісце да Элізы Ажэшкі ад 18 ліпеня 1909 г. паведаміў пра смерць А. Скірмунта і з горыччу канстатаваў: «Мы страцілі прыгожую і шляхетную, тыпова польскую постаць…»[643]

Жалобная абвестка пра смерць А. Скірмунта была апублікавана ў варшаўскім «Слове» 29 чэрвеня 1909 г. У тым самым нумары былі размешчаны спачуванні ад работнікаў маёнтка, якія назвалі памерлага «каханым Шэфам».

Іншы некралог пад назвай «Жыццё, смерць і пахаванне Аляксандра Скірмунта» быў апублікаваны таксама ў варшаўскім «Слове», а ягоным аўтарам, як ужо адзначалася, быў сын Раман, які для чытачоў газеты застаўся ананімам. Абраная форма развітання з бацькам сведчыла як пра гора сына, так і пра ягонае разуменне значнай ролі бацькі ў жыцці Краю. Пасля ўжо згаданага кароткага жыццяпісу А. Скірмунта і пазначэння абставін яго смерці сын падрабязна распавёў пра пахаванне бацькі, якое адбылося 1 ліпеня. Яно было надзвычай масавым і запамінальным.

На чале пахавальнай працэсіі, якая рушыла з Парэчча на родавыя могілкі ў Моладава (7 вёрст) ішлі пінскі дэкан ксёндз Войцік і янаўскі пробашч ксёндз Элерт. Труну спачатку неслі служачыя і работнікі фабрыкі і Парэцкай эканоміі, за якімі рухаўся тысячны натоўп рабочых, мясцовых сялян і вялікая група памешчыкаў на чале з сябрам Дзяржаўнай Рады Эдвардам Вайніловічам.

На палове дарогі паміж Парэччам і Моладавам у вёсцы Табулкі працэсію сустрэлі мясцовыя сяляне. Яны стаялі на каленях абапал дарогі з высока ўзнятымі крыжамі пад адмыслова збудаванымі брамамі, якія ўпрыгожылі палявымі кветкамі і зелянінай. Адсюль да самых могілак труну неслі ўжо сяляне вёсак Табулкі і Чамярын. Пахавальная працэсія, якая пастаянна папаўнялася людзьмі, расцягнулася на вярсту.

На могілках з развітальнымі прамовамі выступілі Эдвард Вайніловіч, Іво Орда (ад зямян Пінскага пав.) і Ф. Энджэеўскі (ад сялян і рабочых). У развітанні таксама ўдзельнічалі князі Друцкія-Любецкія, графы Плятэры, князь Станіслаў Радзівіл, князь Мікалай Радзівіл, Ромэры, Орды, Шчыты, Свяжынскія, Марыя Радзевічуўна ды інш. Гасцей прымалі ўдава, сёстры памерлага Караліна Скірмунт

---

642 S. K. [K. Skirmuntt]. *Aleksander Skirmunt (wspomnienia pośmierne),* «Kurier Litewski». 1909, Nr 161.

643 Instytut Badań Literackich PAN. Archiwum Elizy Orzeszkowej. List Konstantego Skirmuntta. 18. 07. 1907.

і княгіня Эдвіна Друцкая-Любецкая, а таксама Раман Скірмунт. Іншыя дзеці А. Скірмунта чамусьці апынуліся ў ролі «гасцей».

Моцнае ўражанне на прысутных зрабіла прамова Вайніловіча, змест якой Раман Скірмунт перадаў цалкам.

*ДАКУМЕНТ*

**Прамова Эдварда Вайніловіча на пахаванні Аляксандра Скірмунта. 1909 г.** [644]

*Я не ўпершыню стаю над вырытай магілай. Раней стаяў над магіламі людзей для мяне больш-менш чужых, стаяў і над такімі магіламі, у якія б сам ахвотна лёг толькі, каб вярнуць да жыцця памерлых. Ніколі не прамаўляў. Гаварыць абыякава не выпадае, бо трэба шанаваць смерць, а пра блізкіх казаць цяжка. У гэтым выпадку чалавек збірае боль у сабе і захоўвае няшчасце як Божы знак, які носіць у сваім сэрцы пакуль не зразумее яго, а зразумее, відаць, толькі тады, калі стане перад Найвышэйшым Суддзёй.*

*Чаму адчуваю патрэбу сказаць некалькі словаў над магілай вельмі блізкага мне чалавека? Перш за ўсё таму, што, маючы мандат абранца землеўласнікаў Міншчыны, адчуваю сябе абавязаным ушанаваць памяць аднаго з найбольш заслужаных грамадзян гэтага краю. Але пра яго буду казаць вельмі мала, думаючы больш пра тых, каго ён пакінуў у краі і ў сям'і. Калісьці на далёкіх могілках я быў уражаны вельмі глыбокай думкай. На помніку замест твару памерлага ўбачыў выявы людзей, якіх ён пакінуў. І гэта вельмі справядліва, бо ім найцяжэй.*

*Зазначу, што ў нашым выпадку века труны апусцілася не над адным чалавекам, а над цэлым пакаленнем, над цэлай эпохай грамадскага жыцця Літвы і Беларусі. Памерлы быў яго актыўным удзельнікам, а часта нават увасабленнем гэтага жыцця. Гэта быў цяжкі перыяд, але не звычайны, не шэры, перыяд вялікіх эканамічных рэформ і вялікіх палітычных патрасенняў. Ён патрабаваў работнікаў, вялікіх ахвярнасцю і розумам […] Такіх было дастаткова. Яны трывалі альбо падалі, але заўсёды былі на пасту, на іх месца станавіліся іншыя, верныя сабе, верныя прынцыпам, верныя пакаленню, адзін з апошніх прадстаўнікоў якога стаў каля брамы вечнасці.*

*Гэтае пакаленне перажыло два цяжкія ўзрушэнні – эканамічную рэформу і палітычны рух 63-га года. Гэта быў занадта вялікі цяжар для ягоных плеч. І калі, нягледзячы на гэта, яно здолела захаваць нетыкальнай не толькі маёмасць, але і нацыянальны гонар, то тым самым выканала свой абавязак. Яму належыць гонар і ўдзячнасць.*

*Ступень удзелу с. п. Аляксандра ў тых гістарычных падзеях найлепей сведчыць пра яго розум і прынцыпы, пра той шлях, які ён абраў для сябе і па якому імкнуўся весці іншых. Гэта быў шлях абавязку і працы, г. зв. «працы ў падмуркаў».*

[644] [R. Skirmunt], *Żywot, zgon i pogrzeb ś. p. Aleksandra Skirmunta,* «Słowo». 1909, Nr 165.

*Гэта быў легальны шлях, на якім ён шмат здолеў зрабіць, а таксама захаваць асабісты гонар і гонар свайго саслоўя. Калі хоць раз станеш на гэты шлях, то зразумееш, чаму імя памерлага так непарыўна звязана з гісторыяй сялянскай рэформы. А вось падзеі 1863 г. можна лёгка зразумець, цалкам абмінаючы ўдзел у іх с. п. Аляксандра. Ён не мог заставацца ўбаку, але варта адзначыць, што калі некаторыя ішлі пакутаваць на Далёкі Усход, а іншыя імкнуліся вызначаць лёс краю і кіраваць ім з Захаду, то с. п. Аляксандр застаўся на месцы, каб паказаць, як усё гэта можна перажыць і паслядоўнай працай ствараць новыя ўмовы для жыцця.*

*Калі ў некалькіх словах ахарактарызаваць памерлага, то трэба адзначыць, што ён быў вялікім прыхільнікам культуры Захаду, прасякнутым яе дасягненнямі, і на іх падставе ствараў будучыню свайго краю. Найлепшым чынам гэта адлюстравалася ў ягоным удзеле ў сялянскай рэформе. Гарачы прыхільнік далучэння сялян да кола землеўласнікаў, ён быў перакананы, што не сам факт уладання зямлёй робіць чалавека грамадзянінам і ўздымае пачуццё ягонай асабістай годнасці, але ў большай ступені спосаб набыцця гэтай уласнасці.*

*Адчужэння зямлі ён не разумеў! Жадаў, каб селянін здабываў маёмасць працай і ашчаднасцю, пры дапамозе дзяржавы, але без гвалту над прынцыпам прыватнай уласнасці. І гэтае перакананне было настолькі моцным, што пару гадоў таму, калі не толькі падмуркі дзяржавы, але нават грамадскія прынцыпы пачалі разбурацца, яго гарачая кроў зноў зайграла і праз асобу ягонага сына выступіла ў абарону правоў уласнасці.*

*Памерлы сапраўды быў чалавекам, які разумеў усё чалавечае, адчуваў патрэбы іншых і клапаціўся пра патрэбы сям'і. Гэта быў чалавек з вялікім сэрцам, які лічыў сваім абавязкам уціскаць усё ў жалезны абруч волі і розуму, каб вырашаць усе задачы, прыйсці на дапамогу справамі, а не слязьмі, якія бывае лягчэй самому праліць, чым выцерці чужыя.*

*Як ужо згадваў, не толькі жыццё чалавека, не толькі жыццё пакалення, але пэўны перыяд гісторыі краю будзе пахаваны ў гэтай магіле. Хачу яшчэ спыніцца на гэтым перыядзе. Гэта быў час вялікай працы, вялікай ахвярнасці нашай грамадскасці. Была ў ім хвіліна веры ўрада ў здольнасці і патэнцыял грамадскасці, калі нават, як часта любіў узгадваць памерлы, з вышыні трону прагучалі словы падзякі за ініцыятыву нашых землеўласнікаў у справе вызвалення сялян. […]*

*Не буду казаць пра абавязкі блізкіх, якія засталіся, іх сітуацыя вельмі складаная. Усе мы прывыклі бачыць у Парэччы асяродак парадку, працы і высакароднай думкі. Сям'я павінна згуртавацца, паразумецца і вызначыць святара для гэтага асяродку, бо было б грахом, калі б гэты асяродак рассыпаўся па ўсім свеце галавешкамі ці падманлівым полымем! Але тут я спакойны. Сям'я выхаваная ў Парэччы, спадчына захаваная, і свае абавязкі яна выканае.*

*Над гэтай свежай магілы звяртаюся да іншых. Мы павінны сказаць сабе, што прыкладзем усе намаганні, каб вярнулася ў нашае жыццё ўсё тое, што гэтая магіла ў сабе схавае. Толькі тады гэтая зямля стане пухам для памерлага, калі*

*дзецям гэтай зямлі, дзякуючы іх працы, стане лягчэй жыць, калі яны будуць вартыя таго мінулага, якое стагоддзямі хзахоўвала гэтая зямля. Вартыя не правамі […] якія могуць састарэць, а абавязкамі, якія трэба выконваць.*

*Няхай Бог дазволіць, а нашая воля дапаможа, каб мы сталі соллю гэтай зямлі, каб паўсталі не з праху, які ў ёй схаваны, а з поту, якім яе паліваем. Няхай умовай росквіту гэтай зямлі будзе наша сумленне і добрае імя. Гонар тым, хто ішоў гэтым шляхам перад намі!*

*Вечны адпачынак дай яму Божа!*

Чытаючы гэтыя словы, разумееш, што для Рамана Скірмунта бацька быў сапраўдным НАСТАЎНІКАМ, які і пасля адыходу заставаўся для сына духоўным арыенцірам. Але пасля яго смерці сыну давялося істотна абмежаваць уласную грамадска-палітычную дзейнасць. Гаспадарка маёнтка патрабавала шмат часу і сіл, бо той, хто валодаў Парэцкім маёнткам, фактычна нёс адказнасць за лёс усёй сям'і Аляксандра і Тэафілы Скірмунтаў. Менавіта пра гэта пісала Канстанцыя Скірмунт у лісце да Мар'яна Здзяхоўскага ад 7 чэрвеня 1910 г. Адзначыўшы пэўныя ўласныя праблемы, яна заўважыла, што «на прыезд Рамана Скірмунта, абцяжаранага працай па вядзенню інтарэсаў усёй сям'і, на жаль, разлічваць не магу»[645].

Аднак у сітуацыі нарастання вялікарускага нацыяналізму і аднаўлення ўрадам ранейшага антыпольскага курса Раман Скірмунт усё ж паспрабаваў вярнуцца да вялікай палітыкі. У кастрычніку 1910 г. ён быў абраны сябрам Дзяржаўнай Рады ад Менскай губ.

Гэтаму абранню папярэднічалі важныя падзеі, якія заслугоўваюць увагі. Польская грамадскасць Краю пільна сачыла за дзеяннямі Пятра Сталыпіна і ягонага ўрада. Дэпутаты літоўскіх і беларускіх палякаў у Дзяржаўнай Думе і Радзе падтрымалі асноўныя мерапрыемствы г. зв. «сталыпінскай аграрнай рэформы», ключавым элементам якой была ліквідацыя абшчыннага землеўладання і пераход да «хутарской гаспадаркі». Дзякуючы таксама іх намаганням, Указ ад 9 лістапада 1906 г. стаў Законам ад 14 чэрвеня 1910 г.

Затое цалкам адмоўна быў успрыняты ўрадавы законапраект пра ўвядзенне земстваў у «заходніх губернях», якія, дарэчы, павінны былі стаць асновай новай выбарчай сістэмы. У сувязі з апошнім 31 мая 1909 г. Дума прыняла законапраект пра скарачэнне тэрміну дэпутацкіх паўнамоцтваў прадстаўнікоў гэтых губерняў да 1 года. Дзяржаўная Рада яго зацвердзіла, а кіраўнік урада Сталыпін падчас абмеркавання паабяцаў на наступную сесію прадставіць законапраект.

У чэрвені 1909 г. пасля завяршэння працы IV сесіі Дзяржаўнай Рады абранцы землеўласнікаў Беларусі, Літвы і Украіны склалі свае паўнамоцтвы. Выбары адбыліся ў сярэдзіне верасня 1909 г. Яны прынеслі чарговы трыумф мясцовым зямянам-палякам.

---

[645] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–701. Лісты К. Скірмунт да М. Здзяхоўскага, арк. 9–9 адв.

Але сярод абранцаў ужо не было Эдварда Вайніловіча. Яшчэ ў чэрвені 1909 г. на сходзе Кола дэпутатаў ад Беларусі, Літвы і Украіны па ініцыятыве ягонага старшыні Вайніловіча было прынята рашэнне аб перадачы аднаго з дэпутацкіх мандатаў ад шасці губерняў «Паўночна-заходняга краю» прадстаўніку рускай грамадскасці. Дэпутаты спадзяваліся, што гэтая ахвяра зменшыць нападкі «правых».

Сам Эдвард Вайніловіч быў гатовы адмовіцца ад выстаўлення ўласнай кандыдатуры на карысць Рамана Скірмунта. Уладальнік Парэчча разглядаўся як галоўны кандыдат у Дзяржаўную Раду ад Менскай губ. Але 6 чэрвеня 1909 г. у лісце да Чэслава Янкоўскага Раман Скірмунт паведаміў, што ў сувязі з неабходнасцю больш актыўна займацца справамі маёнтка і фабрыкі ён здымае сваю кандыдатуру[646]. Зразумела, што смерць бацькі напрыканцы чэрвеня толькі ўсугубіла сітуацыю.

Між тым, напрыканцы жніўня высветлілася, што польскія зямяне Магілёўшчыны і Віцебшчыны не збіраюцца адмаўляцца ад уласнага прадстаўніка ў Дзяржаўнай Радзе. Знайсці адпаведнага «рускага кандыдата» ад Віленскай, Ковенскай і Гарадзенскай губ. было складана з прычыны адносна малой колькасці рускіх памешчыкаў. Урэшце Вайніловіч заявіў, што здыме ўласную кандыдатуру на карысць памешчыка, сябра земскай управы М. Кір'якова[647]. Гэтае рашэнне падтрымаў таксама Раман Скірмунт. Аднак рускі памешчык так і не быў абраны. Выбаршчыкі не пагадзіліся з меркаваннем кіраўніцтва МТСГ і абралі сябрам Рады князя Гераніма Друцкага-Любецкага.

У пэўным сэнсе гэта быў канец «эпохі Вайніловіча». Польскія зямяне Меншчыны ўжо не спадзяваліся на магчымасць паразумення з расійскай уладай і не маглі пагадзіцца на тое, каб іх край прадстаўляў у Думе рускі памешчык. Яны пагаджаліся з меркаваннямі краёўцаў адносна важнасці згоды з мясцовымі народамі, але пры гэтым не жадалі адмаўляцца ад польскага культурнага і гаспадарчага дамінавання. Прынамсі, так трактаваў пазіцыю прафесара М. Здзяхоўскага падчас гэтых выбараў польскі даследчык Збігнеў Апацкі[648].

Гарадзенскую губ. у Радзе прадстаўляў уладальнік маёнтка Моладава і стрыечны брата Рамана Скірмунта Канстанцін. Падчас выбараў ён заявіў, што як паляк будзе адстойваць у першую чаргу польскія інтарэсы[649]. Толькі потым сцвярджалася важнасць абароны інтарэсаў Беларуска-Літоўскага краю. Пазіцыі братоў усё больш разыходзіліся.

---

646 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 102–122. Лісты Р. Скірмунта да Ч. Янкоўскага. 1906–1909, арк. 1–1 адв.

647 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 169.

648 Z. Opacki, W *kręgu Polski, Rosji i słowianszczyzny. Myśl i działalność społeczno-polityczna Mariana Zdziechowskiego do 1914 roku*. Gdańsk 1996, s. 169.

649 Biblioteka Uniwersitetu Jagełłońskiego (далей – BUJ) Dział rękopisów. Sygn. 9493.III. K. Skirmunt, *Moje wspomnienia*, k. 13; K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*, s. 41.

Абмеркаванне ўрадавага законапраекта пра ўвядзенне земстваў у «заходніх губернях» у Думе распачалося ў маі 1910 г. У адмысловым звароце да дэпутатаў Пётр Сталыпін шчыра заявіў, што яго галоўная мэта – забяспечыць рускае панаванне. Сярод прынцыповых палажэнняў варта адзначыць фіксацыю колькасці земцаў ад «рускага» і ад «польскага» насельніцтва; утварэнне нацыянальных курый па абранні земцаў; гарантыю колькаснай перавагі «асоб рускага паходжання» ў земскай управе, а таксама пералік пасадаў, што прызначаліся выключна для рускіх; прыцягненне да земскай працы праваслаўнага духавенства. На Ковенскую, Віленскую і Гарадзенскую губ. земская рэформа не распаўсюджвалася.

Вялікарускія нацыяналісты актыўна падтрымалі ўрадавы законапраект. У большасці выступленняў земская рэформа трактавалася як палітычная акцыя, ад якой, па словах епіскапа Яўлогія, залежала «быць альбо не быць нашаму Заходняму рускаму краю рускім у палітычным, нацыянальным і культурным значэнні»[650].

Прадстаўнікі польскай грамадскасці мелі іншы погляд. Так, сябра Краёвай партыі Літвы і Беларусі Станіслаў Ванькові̌ч заявіў, што прыняцце законапраекта прывядзе да «земскага самаўпраўства», а не да самакіравання. У прапанове ўрада, на яго думку, выразна прачытваўся лозунг «Расія для рускіх»[651]. Юзаф Монтвіл (Віленская губ.) выказаў меркаванне, што прапанаваны праект супярэчыць палажэнням Маніфеста ад 17 кастрычніка 1905 г. На яго думку, урад імкнецца да «супакаення» краіны не дзеля правядзення рэформ, а дзеля іх поўнай адмены»[652]. Генрык Свянціцкі ахарактарызаваў гэты законапраект як «дыскрымінацыйны» і выказаў упэўненасць, што «прадстаўнікі рускага народу» не дапусцяць знявагі і прыніжэння «народнасці, што столькі стагоддзяў насяляла Заходні край»[653]. Аднак настроям большасці дэпутатаў больш адпавядала рэпліка, што прагучала ў зале напрыканцы выступлення Свянціцкага: «Какой же вредный народ!»[654]

Пасля бурных дэбатаў законапраект з папраўкамі Камісіі па мясцовым самакіраванні быў прыняты. Дума накіравала яго ў Дзяржаўную Раду, дзе засядалі ўжо новыя абранцы ад эліты землеўласнікаў Беларусі і Літвы. Сярод іх быў і Раман Скірмунт. Менавіта ён перамог на выбарах ад Менскай губ. у кастрычніку 1910 г. Гэта былі апошнія выбары, якія адбываліся на сходах землеўласнікаў. Дарэчы, рускія памешчыкі пакінулі выбарчы сход, зразумеўшы, што іх кандыдат не мае шансаў[655].

---

650 *Националисты в 3-й Государственной думе*. Санкт-Петербург 1912, с. 104.

651 *Государственная Дума. Созыв 3-й. Стенографические отчёты. Сессия I–V.* СПб., 1908–1912. Сессия III, стлб. 1119–1131.

652 Там же, стлб. 762–774.

653 Там же, стлб. 810–823.

654 Там же, стлб. 823.

655 РГИА. Ф. 1327, оп. 1, д. 5, л. 187–207.

У Рамана Скірмунта праблемы ўзніклі толькі падчас рэгістрацыі кандыдатуры ў Пінскай павятовай камісіі. Сярод прадстаўленых ім дакументаў адсутнічаў атэстат аб сярэдняй адукацыі. Адпаведна, Камісія адмовіла ў рэгістрацыі. Скірмунт звярнуўся са скаргай да менскага губернатара. На пасяджэнні Менскай губернскай выбарчай камісіі ён прадставіў даведку канцылярыі Менскага шляхецкага дэпутацкага сходу, якая сведчыла, што ён скончыў Рыжскую класічную гімназію. Губернатар асабіста распарадзіўся ўнесці яго ў спіс кандыдатаў[656].

15 кастрычніка 1910 г. распачалася праца V сесіі Дзяржаўнай Рады. У гэты ж дзень Раман Скірмунт прынёс прысягу і падпісаў г. зв. «прысяжны ліст». Аднак і другое ягонае «хаджэнне ва ўладу» аказалася непрацяглым. Камісія Дзяржаўнай Рады па праверцы законнасці абрання дэпутаў 25 кастрычніка 1910 г. прызнала законнымі вынікі выбараў ад васьмі губерняў «Заходняга краю» за выключэннем Менскай. Раману Скірмунту прапанавалі прадставіць «некаторыя дадатковыя звесткі»[657]. Гаворка ішла якраз пра дакумент аб сярэдняй адукацыі. Замест яго ў асабістай справе Скірмунта знаходзілася згаданая даведка. Камісія Дзяржаўнай Рады распачала перапіску з мэтаю адшукаць дакумент.

Між тым, на чацвёртым пасяджэнні Рады, 29 кастрычніка 1910 г. Раман Скірмунт выступіў пры абмеркаванні законапраекта «Пра аўтарскае права». Ён прапанаваў скараціць тэрмін аўтарскіх правоў да 30 гадоў пасля смерці аўтара. Законапраект прадугледжваў 50-цігадовы тэрмін. Сярод аргументаў Скірмунта трэба вылучыць тэзіс пра тое, што творы прыхільнікаў радыкальных перамен («сторонников общего переворота») разыходзяцца ў тысячах танных асобнікаў і становяцца адзінай крыніцай ведаў у галіне сацыяльных навук для малаадукаванай часткі грамадства. У якасці прыкладу ён згадаў выданні Карла Каўцкага і... Льва Талстога (!). Апошні таксама аказаўся ў лагеры тых, хто, паводле Скірмунта, займаўся «крытычнай разбуральнай працай» і «пераацэнкай каштоўнасцяў».

Затое творы, што маюць вялізнае культурнае значэнне для масавага чытача «зачынены» аўтарскім правам, а гэта перашкаджае «культурнаму прагрэсу»: «Грамадства, наогул, моцна зацікаўлена ў тым, каб вынікі працы ягоных лепшых сыноў разыходзіліся па магчымасці без затрымкі. Насамрэч, гэтыя вынікі з’яўляюцца лепшымі рухавікамі культурнага прагрэсу. Надаючы высокім думкам дасканалыя формы, яны робяць іх даступнымі кожнаму, абуджаюць любоў да дабра і прыгажосці. Добрая кніга – выдатны сябра і добры настаўнік. Зрабіць яе даступнай па магчымасці без непатрэбнай затрымкі для маламаёмаснага чытача – гэта, безумоўна, пытанне агульнай карысці»[658].

Атмасфера Дзяржаўнай Рады і чыноўнага Пецярбурга выклікала ў Рамана

---

[656] Там жа. Ф. 1162, оп. 8, д. 4, л. 155–156 адв.

[657] Там жа, д. 5. *Праверка паўнамоцтваў дэпутаў Дзяржаўнай Рады*, л. 14–14 адв.

[658] *Стенографические отчеты. Государственный Совет. Сессия 5.* Заседания 1–64 (10 октября 1909 г.–17 июня 1910 г.). Санкт-Петербург 1910, стлб. 122–123.

Скірмунта даволі песімістычныя разважанні адносна магчымасцяў расійска-польскага паразумення. 22 лістапада 1910 г. у лісце да Мар'яна Здзяхоўскага ён сцвярджаў, што знаходжанне ў Пецярбурзе не спрыяе спадзевам на перамены да лепшага. «Сумным і балючым» вынікам антыпольскай палітыкі дэпутат лічыў законапраект пра ўвядзенне земстваў. Ён абяцаў змагацца супраць яго прыняцця і «максімальна пашыраць думку пра магчымасць і неабходнасць польска-расійскага збліжэння»[659]. Пры гэтым дэпутат дапускаў магчымасць адмены вынікаў ягонага абрання ў Раду. Дарэчы, звесткі пра сыход Рамана Скірмунта з Рады з'явіліся ўжо на самым пачатку яе сесіі. Так, на старонках газеты «Пинский листок» (рэдактар А. Гольцман), карэспандэнты якой цікавіліся кар'ерай свайго земляка, з'явілася паведамленне, што ў Менску пашыраюцца чуткі, нібыта Р. Скірмунт адмовіцца ад звання дэпутата Дзяржаўнай Рады. Сцвярджалася, што яны маюць пад сабой рэальную глебу[660]. Напрыканцы лістапада газета пацвердзіла гэтую інфармацыю[661].

Падобна, што Раман Скірмунт і сам выдатна разумеў хісткасць уласных пазіцый. 7 студзеня 1911 г. ён накіраваў заяву да старшыні Дзяржаўнай Рады, у якой адмаўляўся ад звання дэпутата з прычыны «немагчымасці пастаяннага пражывання ў Санкт-Пецярбурзе»[662]. Апошняе ён тлумачыў неабходнасцю кіравання маёнткам, які перайшоў у яго рукі пасля смерці бацькі. Пра гэтую заяву на пасяджэнні Рады 12 студзеня паведаміў яе старшыня. 19 студзеня 1911 г. Камісія па асабістым складзе і ўнутраным распарадку зняла з разгляду справу Скірмунта. Магчыма, гэтай заявай ён спрабаваў пазбегнуць розгаласу сітуацыі з ягонай адукацыяй. Месца Рамана Скірмунта ў Дзяржаўнай Радзе заняў Караль Незабытоўскі, які на выбарах у кастрычніку 1910 г. аказаўся другім па колькасці набраных галасоў.

Між тым, сярод грамадскасці Менска і Пінска дамінавала версія, што Скірмунт закончыў нейкі замежны ўніверсітэт, а дэпутатам Рады можа быць толькі выпускнік расійскага ўніверсітэта. У прыватнасці, пра гэта пісаў згаданы «Пинский листок».

Гэтая сітуацыя прымушае вярнуцца да праблемы адукацыі Рамана Скірмунта, высокі ўзровень якой відавочны. Гімназію ён не закончыў, але знаёмства з ягонымі кнігамі, артыкуламі, лістамі або прамовамі на розных публічных мерапрыемствах пераконвае ў тым, што Раман Скірмунт атрымаў акадэмічную адукацыю на высокім узроўні. Прычым добрае валоданне нямецкай і англійскай мовамі сведчыць хутчэй пра тое, што гэтая адукацыя была звязана з навукамі не гуманітарнага, а тэхнічнага цыклу. Гэта ўскосна пацвярджае інфармацыю В. Нээф наконт яго навучання ў Палітэхнічным інстытуце ў Рызе.

---

659 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 33–702а. Лісты Р. Скірмунта да М. Здзяхоўскага, арк. 1–1адв.

660 «Пинский листок». 1910, № 5.

661 Там же, № 8.

662 *Государственный совет. Стенографические отчёты. Сессия III-VII.* СПб., 1908–1912. Сессия VI, стлб. 707–708.

Вяртаючыся да згаданага ліста Скірмунта да Здзяхоўскага, варта звярнуць увагу на радкі, прысвечаныя праблеме польска-расійскіх стасункаў і разуменню Раманам Скірмунтам уласнай ролі ў яе вырашэнні: «Безумоўна, пачуццё ўзаемнай непрыязні – гэта прыроджанае пачуццё як польскай, так і рускай душы. Гэта атавізм з часоў крывавай барацьбы нашых бацькоў і дзядоў. Людзі, якія працуюць над сабой, выкідаюць яго са свайго сэрца, але такіх не шмат. Большасць паддаецца прымхам мінулага. Лічу, што да гэтых апошніх сёння належаць кіраўнікі расійскай палітыкі. Няшчасцем з'яўляецца тое, што з гэтым пачуццём варожасці звязана тандэтная палітычная дактрына стрымлівання неабходных рэформ раздзіманнем шавіністычных інстынктаў. Сучасная антыпольская палітыка – гэта бенкарт саюза гэтых няправых сіл. […] Напэўна, нацыянальны антаганізм і барацьба ёсць і будуць такім самым неад'емным спадарожнікам чалавечай долі, як смерць ці хвароба, але заўсёды знойдуцца людзі добрай волі, якія будуць супрацьстаяць ім па меры сіл і магчымасцяў». Верагодна, сябе ён таксама адносіў да гэтых «людзей добрай волі».

Між тым, 1 лютага 1911 г. у Дзяржаўнай Радзе выступіў Сталыпін, які палічыў неабходным уласным аўтарытэтам падтрымаць урадавы законапраект пра ўвядзенне земстваў у Валынскай, Віцебскай, Кіеўскай, Магілёўскай, Менскай і Падольскай губ. Кіраўнік урада абгрунтоўваў утварэнне «рускай» і «польскай» выбарчых курый неабходнасцю супрацьстаяння польскім уплывам.

Урадавы законапраект фактычна грунтаваўся на Палажэнні аб губернскіх і павятовых земскіх установах (1890), у якім прынцып саслоўнасці замяняўся нацыянальным. Замест дваранскай і сялянскай выбарчых курый уводзіліся «польская» і «руская», у якую трапілі ўсе народы Краю апрача палякаў. Вызначалася норма земскіх радных ад кожнай нацыянальнасці з перавагай «рускага элемента». Старшынём земства мог быць толькі прадстаўнік «рускай курыі» і г. д.[663] Сталыпін быў пэўны, што без дзяржаўнай падтрымкі «рускага элемента» земствы стануць зброяй у палітычнай барацьбе палякаў супраць Расіі. Ён заклікаў падтрымаць законапраект, бо ў іншым выпадку ў «шматстрадальную гісторыю рускага захаду будзе ўпісана чарговая старонка рускай паразы»[664].

Трэба адзначыць надзвычай энергічную дзейнасць прадстаўнікоў літоўскіх і беларускіх палякаў, каб не дапусціць прыняцця законапраекта. Апрача актыўных пратэстаў у Дзяржаўнай Радзе прадстаўнікі польскіх дэпутатаў у сакавіку 1911 г. (у т. л. К. Скірмунт, А. Мэйштовіч, К. Незабытоўскі) атрымалі аўдыенцыю ў імператара[665]. Размова датычыла земскай рэформы.

Супраць «нацыянальнага сепаратызму», які быццам бы ўзаконьваў урада-

---

663 В. П. Слобожанин, *Земское самоуправление в Беларуси (1905–1917 гг.)*. Минск 1994. с. 25.

664 *Государственный совет. Стенографические отчёты. Сессия VI*, стлб. 879–879.

665 «Kurier Wileński». 1911, Nr 55.

вы праект, выступіла таксама частка «правых» на чале з Уладзімірам Трэпавым. Урэшце большасць Дзяржаўнай Рады прагаласавала супраць палажэння пра нацыянальныя выбарчыя курыі. Быў адхілены адзін з галоўных прынцыпаў урадавага праекта.

Аднак Сталыпін не збіраўся саступаць. 5 сакавіка на стол Мікалая II было пакладзена прашэнне старшыні Рады міністраў пра адстаўку. Вынікам палітычнага дэмарша стала згода імператара на роспуск абедзвюх заканадаўчых палат і прыняцце законапраекта на падставе 87 артыкула Асноўных законаў. Ён дазваляў прымаць законы ў надзвычайных абставінах, калі не дзейнічалі ні Дума, ні Рада. З 12 па 15 сакавіка абвяшчаўся перапынак у іх працы. Дзяржаўная Рада ўсё ж паспела вынесці на галасаванне ўвесь законапраект і адхіліць яго большасцю галасоў – 134 супраць 23[666].

Але 14 сакавіка 1911 г. закон пра земствы быў прыняты на падставе 87 артыкула. Гэта была «пірава перамога» Сталыпіна. Яго дзеянні выклікалі амаль усеагульнае абурэнне. Падобнага здзеку над законам яшчэ не было, як не было нічога падобнага на тыя надзвычайныя абставіны, якія толькі і маглі апраўдаць гэтую меру. Ад старшыні Рады міністраў адвярнуліся амаль усе палітычныя партыі.

Як польская грамадскасць сустрэла закон ад 14 сакавіка 1911 г.? Варта адзначыць, што не было ні панікі, ні асаблівага расчаравання. Раман Скірмунт выказаўся ў вялікім артыкуле «З нагоды ўвядзення земстваў» на старонках «Кур'ера Віленьскага»[667]. Ён высока ацаніў паслядоўнасць і ўпэўненасць дзеянняў прадстаўнікоў польскіх землеўласнікаў ад Краю ў Дзяржаўнай Радзе, якая, на яго думку, «захавала дзяржаўны розум».

Дзеянні Сталыпіна ён назваў «смелымі, але не дальнабачнымі». Скірмунт бачыў у іх хутчэй праяву пэўнага жывёльнага інстынкту, чым «голас розуму і сумлення». Спосаб, якім Сталыпін дабіўся свайго і ўвёў земствы ў шасці «заходніх губернях», ён лічыў больш значнай падзеяй, чым само ўвядзенне земстваў. У апошнім ён наогул не бачыў шкоды для польскай грамадскасці. Паводле Скірмунта, колькасць радных-палякаў у губернскім земстве не будзе меншай, чым у старых земствах, дзе радных прызначаў губернатар. Апрача таго, ён бачыў карысць ад уваходжання ў земства рускіх памешчыкаў, што магло ўзмацніць шэрагі абаронцаў зямельнай уласнасці і г. д.

Рамана Скірмунта не палохала з'яўленне нацыянальных выбарчых курый. Ён заўважыў, што гэтыя курыі як «ізаляцыйныя баракі расійскай палітычнай медыцыны», насамрэч, уведзены яшчэ 3 чэрвеня 1907 г. Указам пра выбары ў Думу, і не з'яўляюцца нейкім «невядомым ліхам».

Публіцыст і палітык высока ацэньваў сам прынцып рэгіянальнага самакіравання, які ствараў магчымасць мясцовым жыхарам кіраваць гаспадаркай

---

666 А. Я. Аврех, *Столыпин и Третья Дума.* Москва 1968, с. 337–338.

667 R. Skirmunt, *Wobec wprowadzenia ziemstw*, «Kurier Wileński». 1911, Nr 65.

і культурным жыццём рэгіёну, але пры гэтым крытычна выказваўся наконт вопыту дзейнасці земстваў у Цэнтральнай Расіі. Ён адзначыў высокі кошт яго ўтрымання, які забяспечваўся ростам падаткаў, нізкую эфектыўнасць кіравання і немагчымасць поўнага кантролю над выкарыстаннем сродкаў. Таксама звярталася ўвага, што верагоднае павялічэнне сродкаў на школьную адукацыю не будзе спалучацца з уплывам на яе кірункі, а г. зн., што давядзецца фінансаваць таксама царкоўна-прыходскія школы. Затое сітуацыя з медыцынскімі паслугамі значна палепшыцца. Аўтар быў пэўны, што польская грамадскасць не мае падстаў для хвалявання.

Большую вагу ён надаваў палітычнаму аспекту ўвядзення земстваў, які сведчыў, на яго думку, пра імкненне імперскай бюракратыі захаваць «полымя расійска-польскай канфрантацыі». Супраціў гэтай палітыцы можа і павінна аказаць краёвая польская грамадскасць, якая імкнецца да паразумення ўсіх народаў Краю: «Увядзенне ў нашым краі земстваў на падставе параграфа 87 – гэта больш значымая падзея, чым сам змест закона. Вакол гэтага марнага прадукта заканадаўчай творчасці разыграўся канфлікт дзяржаўнага значэння. Ён выклікаў шэраг гвалтоўных рашэнняў. Аднак не кожны гвалт ёсць праява сілы, ён бывае таксама вынікам істэрыі. На ўвядзенне ў жыццё земскага закона можам глядзець без вялікай трывогі, хоць і з пэўным незадавальненнем. Яго дзейнасць у дачыненні да нас будзе негатыўнай, але не смяротнай, калі мы самі не паспрыяем апошняму.

У кожным выпадку інтэнсіўнасць уласнай духоўнай працы – гэта найважнейшы жыццёвы чыннік. Тое ж можна сказаць пра жыццё і развіццё нацый. Калі мы не здрадзім сабе і будзем трымацца прынцыпаў грамадзянскай этыкі, то брама пагібелі для нас не адчыніцца. Тое, чаго мы дасягнем уласнай працай для краю і для самых сябе, можа ўраўнаважыць наступствы шкодных законаў. Навальніцы прыходзяць і адыходзяць, а нам трэба заставацца на сваім пасту і бараніць яго».

Варта звярнуць увагу на чарговую згадку ў тэксце Скірмунта тэзіса пра важнасць абароны «свайго паста». Падобна, што ідэя пэўнай місіі адносна Краю і лёсу літоўскіх і беларускіх палякаў, сапраўды, была адной з дамінуючых у матывацыі дзейнасці Рамана Скірмунта.

Улетку 1911 г. у выніку выбараў ён стаў *гласным* (дэпутатам) Пінскага павятовага земства ад «польскай курыі». На першым сходзе земства 5 жніўня 1911 г. быў абраны таксама *гласным* губернскага земскага сходу ад Пінскага пав.[668]

Што наогул належала да кампетэнцыі павятовых і губернскіх земстваў трох беларускіх губерняў? Найбольш важная сфера іх дзейнасці была звязана з земскімі павіннасцямі ці «земскімі зборамі». Гэта быў від мясцовага падаткаабкладання ў грашовай і натуральнай форме дзеля задавальнення гаспадарчых,

---

[668] «Kurier Wileński». 1911, Nr 53; *Журналы Пинского уездного очередного земского собрания*. 1911. Пинск 1912.

адміністрацыйных і культурных патрэб рэгіёну. Асновай земскіх збораў было ападаткаванне нерухомай маёмасці – земляў, дамоў, прамысловых прадпрыемстваў і гандлёвых устаноў, з прыбытку якіх земству адводзілася $^{1}/_{20}$ частка. Раней зборам мясцовых падаткаў займаліся чыноўнікі, і выкарыстанне сабраных сродкаў было таямніцай для грамадства. У земствах гэтая інфармацыя станавілася адкрытай. На земскіх сходах, дзе разглядаліся справаздачы пра выкарыстанне сродкаў, маглі прысутнічаць усе ахвотныя. Апрача таго, земствы друкавалі справаздачы пра вынікі ўласнай фінансавай дзейнасці.

Таксама ў кампетэнцыю земстваў перайшлі ўсе гаспадарчыя справы паветаў і губерняў, у т. л. пабудова школ і шпіталяў, дарог і мастоў, адкрыццё базараў і правядзенне кірмашоў, страхаванне, усе справы, што датычылі развіцця сельскай гаспадаркі і кустарнай прамысловасці, паляпшэння культуры побыту ды інш. Земская ўправа збірала інфармацыю пра патрэбы насельніцтва і паведамляла пра іх земскаму сходу. Аднак часта гэтая інфармацыя і рашэнні земскіх сходаў прыводзілі да канфліктаў з мясцовымі чыноўнікамі.

Трэба адзначыць, што земствы мелі ўплыў на гаспадарчую і сацыякультурную сітуацыю ў павеце і губерні. У пэўным сэнсе яны спрыялі вызваленню насельніцтва ад улады бюракратыі і паступова прывучалі людзей да самакіравання. У цэнтральных губернях Расійскай імперыі земствы на пачатку XX ст. ужо назапасілі пэўны вопыт гаспадарання і цалкам невыпадкова сталі інстытуцыйным падмуркам стварэння падчас рэвалюцыі 1905–1907 гг. галоўных партый расійскага лібералізму, менавіта Партыі канстытуцыйных дэмакратаў і Партыі 17 кастрычніка.

А вось на беларускіх землях усё толькі пачыналася: «Мы переживаем только первые шаги нашего молодого земского самоуправления, поэтому работа эта несколько отличается от аналогичной работы старых земских губерний. Там уже давно всё налажено, уверенно идёт по проторенному пути, между тем, как нам только что перешедшим от приказного строя, приходится всё начинать сначала», – канстатаваў адзін з менскіх земцаў[669]. Даследчык дзейнасці земстваў на беларускіх землях В. Слабажанін наступным чынам пазначыў прыярытэты земскай працы на Меншчыне: народная адукацыя, медыцына і санітарыя, сацыяльная апека, ветэрынарыя, агранамічныя мерапрыемствы, дарожнае будаўніцтва і страхаванне[670].

Першае пасяджэнне губернскага земства адбылося 22 жніўня 1911 г. і было прысвечана абранню кіраўніцтва і фарміраванню земскіх камісій. Старшынём губернскага земства стаў Барыс Самойленка з Наваградскага пав. «Кур'ер Віленьскі» ахарактарызаваў яго, як «чалавека прагрэсіўных поглядаў, не нацыяналіста». Паводле інфармацыі газеты, ягонае абранне стала вынікам барацьбы «прагрэсіўных элементаў» супраць «кансерватыўна-нацыяналістычнай групы». Раман Скірмунт быў кандыдатам у Камісію па самакіраванні, але не набраў патрэбнай

669 Цытата па: В. П. Слобожанин, *Земское самоуправление в Беларуси (1905–1917 гг.)*, с. 45.
670 Тамсама.

колькасці галасоў, бо супраць ягонай кандыдатуры выступіла якраз згаданая «кансерватыўна-нацыяналістычная група»[671]. Затое на пачатку першага Менскага губернскага земскага сходу, які праходзіў у Менску з 25 студзеня па 7 лютага 1912 г., ён быў абраны ў склад Бюджэтнай і Юрыдычнай камісій[672].

Журналы пасяджэнняў першага схода сведчаць пра высокую актыўнасць земцаў пры абмеркаванні праектаў Бюджэтнай камісіі, а таксама сітуацыі з народнай адукацыяй. Вельмі актыўнай была пінская група на чале з А. Фацінскім. Пінчукі імкнуліся давесці сходу надзвычай складаную сітуацыю ў галіне адукацыі ў павеце і пераканаць прысутных у неабходнасці дадатковага фінансавання гэтай галіны земскай дзейнасці на Піншчыне. Раман Скірмунт некалькі разоў выступаў пры абмеркаванні праектаў Бюджэтнай камісіі. Менавіта ён прапанаваў вызначыць адзін дзень у тыдзень для калегіяльных пасяджэнняў Управы, што і было прынята агульным сходам.

Варта адзначыць маўчанне Рамана Скірмунта ды іншых дэпутатаў ад «польскай курыі» падчас абмеркавання плана мерапрыемстваў, прысвечаных 100-годдзю вайны 1812 г. Падобна, што ў гэтым выпадку земцаў падзяліла гістарычная памяць.

Бюджэт земства Пінскага пав. сведчыць пра прыярытэтнасць развіцця народнай адукацыі, медыцыны і дарожнага будаўніцтва. Не апошнюю ролю ў гэтым адыграла актыўнасць Рамана Скірмунта. Ён часта выступаў з прапановамі на сходах земства. Так, на земскай сесіі, якая адбывалася ў Пінску ў снежні 1912 г., Скірмунт прапанаваў увесці абавязковую папярэднюю рассылку матэрыялаў чарговай сесіі дзеля большай эфектыўнасці працы, раіў прыцягнуць мясцовае сельскае насельніцтва да арэнднага ўтрымання вопытнай сельскагаспадарчай станцыі пад Лагішыным, а таксама хадайнічаў пра ўнясенне ў трохгадовы план будаўніцтва ў павеце пабудовы маста на р. Ясельдзе па дарозе з в. Парэчча ў в. Азарычы ды інш. Звычайна, ягоныя прапановы прымаліся[673]. 16 снежня земцы павета абралі Рамана Скірмунта сваім прадстаўніком у Эканамічную Раду, а таксама ў Эканамічны аддзел пры Менскім губернскім земстве.

Наступны губернскі земскі сход адбыўся ўжо ў лютым 1913 г. Раман Скірмунт прысутнічаў на ўсіх ягоных пасяджэннях. Ён зноў быў абраны ў Бюджэтную камісію, тэрмін дзеяння якой быў працягнуты да канца паўнамоцтваў гэтага складу Менскага земства[674]. Ізноў маўчаў пры абмеркаванні пытання наконт дэлегацыі

[671] «Kurier Wileński». 1911, Nr 71.

[672] «Kurier Wileński». 1912, Nr 22; *Журналы Первого очередного Минского губернского земского собрания*. Сессия 25 января – 7 февраля 1912 г. Минск 1912, с. 4.

[673] *Журналы Пинского уездного очередного земского собрания*. 1911. Пинск, 1912.

[674] *Журналы Второго очередного Минского губернского земского собрания. Сессия 1–11 февраля 1913 г.* Минск 1913, с. 4.

ў Маскву дзеля ўдзелу ў юбілейных урачыстасцях з нагоды 300-годдзя праўлення дынастыі Раманавых.

З дакладам пра ролю губернскага земства ў развіцці школьнай і пазашкольнай адукацыі выступіў прадстаўнік Барысаўскага пав. І. Арскі. Ён пералічыў зробленае земствам за мінулы год, спаслаўся на вопыт адукацыйнай дзейнасці земстваў Цэнтральнай Расіі і выказаў шэраг прапаноў. Пры абмеркаванні даклада Раман Скірмунт звярнуў увагу на дасягненні павятовых земстваў і прапанаваў менавіта ў іх рукі перадаць усю справу арганізацыі пачатковай адукацыі на месцах[675].

Гэтая прапанова была звязана з ягоным перакананнем, што менавіта павятовыя земствы з'яўляюцца галоўным інструментам вырашэння мясцовых праблем, і якраз яны павінны атрымаць максімальныя паўнамоцтвы і магчымасці дзеля гэтага. Ідэю аўтаноміі павятовых земстваў Р. Скірмунт адстойваў і падчас абмеркавання фінансавых пытанняў.

Іншае важнае перакананне Рамана Скірмунта выявілася падчас дыскусіі наконт павелічэння колькасці сяброў Земскай управы. Гласны С. Падалінскі, між іншым, выказаў апасенне ростам уплыву «трэцяга элемента» ў дзейнасці губернскага земства. Так называлі прадстаўнікоў інтэлігенцыі (лекараў, настаўнікаў, аграномаў ды інш.), якія складалі найбольш актыўную частку земскіх працаўнікоў. У многіх земствах Цэнтральнай Расіі менавіта яны з'яўляліся сапраўдным рухавіком земскай дзейнасці асабліва ў галіне асветы і адукацыі, медыцыны і санітарыі, паляпшэння матэрыяльнага дабрабыту ніжэйшых колаў грамадства.

Падобна, што актыўнасць «трэцяга элемента» ў земскай дзейнасці на Меншчыне выклікала боязь кансерватыўнага лагеру, якую і выказаў С. Падалінскі. Яго галоўным апанентам аказаўся Раман Скірмунт, які заявіў, што «трэці элемент» складаецца з адукаваных людзей і спецыялістаў, якія выдатна ведаюць сваю справу і заслугоўваюць поўнага даверу. Ён двойчы выступаў у гэтай дыскусіі, падкрэсліваючы вялікае значэнне дзейнасці земскай інтэлігенцыі[676].

А вось пры абмеркаванні прапановы менскага дэпутата Станіслава Хжанстоўскага хадайнічаць пра адкрыццё ў Менску Сельскагаспадарчага або Палітэхнічнага інстытута Скірмунт праявіў стрыманасць. Ён заявіў пра непадрыхтаванасць пытання і заклікаў калег да больш адказнага падыходу. Урэшце сход абраў Камісію, якой даручыў распрацаваць гэтае пытанне да наступнай сустрэчы. У склад Камісіі ўвайшоў і Скірмунт. Напрыканцы схода ён быў абраны сябрам Сельскагаспадарчай Рады губернскага земства[677].

Трэці агульны земскі сход Менскай губ. адбыўся ў студзені 1914 г. Ужо згаданы Арскі выступіў з дакладам пра стан народнай адукацыі ў губерні. Ён даволі крытычна ацаніў сітуацыю і прапанаваў стварыць пры губернскім земстве ста-

675 Там же, с. 10.
676 Там же, с. 53, 55.
677 Там же, с. 69–71, 92.

лую Школьную камісію. Скірмунт выступіў супраць і настойваў на перадачы ўсёй пачатковай адукацыі павятовым земствам. Ён галасаваў супраць стварэння Школьнай камісіі, але перамаглі яе прыхільнікі[678]. Адначасна земцы прынялі рашэнне адкрыць у Менску Настаўніцкі інстытут.

24 студзеня адбылося пасяджэнне Камісіі па распрацоўцы пытання пра вышэйшую навучальную ўстанову ў Менску. Сябры Камісіі, сярод якіх быў і Раман Скірмунт, прынялі рашэнне хадайнічаць «пра адкрыццё ў Менску, які з'яўляецца цэнтрам Беларусі, вышэйшай сельскагаспадарчай навучальнай установы і пра асігнаванне на яе з земскіх сродкаў пэўнай грашовай сумы»[679]. Сход адзінагалосна падтрымаў гэтае рашэнне.

Раман Скірмунт таксама быў абраны ў склад Камісіі па балотнай справе. 26 студзеня ў якасці яе старшыні ён выступіў з аналізам вынікаў навуковай дзейнасці Балотнай вопытнай станцыі ў в. Лахва. Гэтыя вынікі былі ацэнены як нездавальняючыя. Скірмунт прапанаваў рэарганізацыю навуковых даследаванняў палескіх балот, якая ўключала ліквідацыю «Балотнай камісіі» і стварэнне Камітэта ў складзе прадстаўнікоў губернскага земства і навуковага персанала станцыі, а таксама губернскага земскага агранома, гідратэхніка і інспектара сельскай гаспадаркі губерні. Прапановы разам з бюджэтам працы станцыі ў памеры 37 тыс. руб. былі прыняты сходам[680]. Напрыканцы сесіі Скірмунт быў абраны прадстаўніком земства ў Расійскай экспартнай палаце і на *Совещании об урегулировании заболоченных рек Полесья и работах Полесской изыскательной партии*[681].

У апошнія дні вясны 1914 г. ён таксама прыняў удзел у працы V Надзвычайнага сходу Менскага губернскага земства[682]. Архіўныя дакументы сведчаць, што ў той час Скірмунт спыняўся ў менскай гасцініцы «Гарні», якая знаходзілася на перакрыжаванні вул. Захар'еўскай і Багадзельнай, 64/36[683].

Эдвард Вайніловіч у апублікаваных успамінах адзначыў дзейнасць польскіх дэпутатаў, да якіх заўсёды прыслухоўвалася зала. Сярод іх ён вылучыў Рамана Скірмунта, які «ўласным аратарскім майстэрствам і ўменнем пераканаць прыцягваў увагу сходу»[684], і спецыяліста па фінансавых пытаннях Міхала Ястжэмбскага. У рукапісным варыянце ўспамінаў Э. Вайніловіча адзначалася прыкметная роля Скірмунта ва ўсёй дзейнасці Менскага губернскага земства[685].

Што можна сказаць пра вынікі яго дзейнасці напярэдадні Першай сусвет-

---

[678] *Журналы Третьего очередного Минского губернского земского собрания. Сессия 20–28 января 1914 г.* Минск 1914, с. 27–28.

[679] Там же, с. 135–136.

[680] Там же, с 60.

[681] Там же, с. 91–92.

[682] НГАБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 709, арк. 18–21.

[683] Сёння гэта дом на рагу праспекта Незалежнасці, 19 і вул. Камсамольскай.

[684] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 88.

[685] ЛДГА. Ф. 1135, воп. 20, спр. 752, арк. 64.

най вайны? Даследаванне В. Слабажаніна сведчыць пра імклівы рост земскіх выдаткаў на адукацыю ў перыяд з 1911 па 1914 г. (больш, чым на 500 %). Амаль на 80 % павялічыліся выдаткі на медыцынскія паслугі. У 1912 г. у Менску былі арганізаваны месячныя сельскагаспадарчыя курсы, праз якія за два гады прайшлі сотні сялян. Рэгулярна праводзіліся меліярацыйныя з’езды. Земства падтрымлівала сельскагаспадарчыя кааператывы, стварала склады, дзе можна было набыць тэхніку, мінеральныя ўгнаенні, насенне ды інш.[686] Журналы губернскіх земскіх сходаў сведчаць, што Раман Скірмунт непасрэдна спрычыніўся да поспеху многіх накірункаў земскай дзейнасці, як у Пінскім пав., так і ва ўсёй Менскай губ.

## *Вайна*

Першая сусветная вайна 1914–1918 гг. і яе наступствы да непазнавальнасці змянілі Цэнтральна-Усходнюю Еўропу і жыццё «падданых» расійскага цара. Мала хто ў ліпені 1914 г. мог прадбачыць, што мір вернецца ў Еўропу толькі праз чатыры гады, а імперыя Мікалая II будзе зруйнавана ў выніку рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны. Напэўна, і Раман Скірмунт не думаў, што ў сакавіку 1917 г. менавіта ён узначаліць Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), а ў ліпені наступнага года будзе фарміраваць урад Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).

Здавалася, што ўжо сам пачатак вайны абумовіў пэўныя змены ў нацыянальнай палітыцы Расіі, прынамсі, у дачыненні да «польскага пытання». Так, 2 жніўня 1914 г. быў апублікаваны зварот вялікага князя Мікалая Мікалаевіча да палякаў, які заклікаў забыць былыя спрэчкі і абяцаў адраджэнне адзінай Польшчы, «свободной в своей вере, в языке, в самоуправлении»[687]. Э. Вайніловіч ва ўспамінах прыгадваў уласную «агаломшанасць» ад гэтага звароту, бо, маўляў, раней нават думаць пра гэта забаранялася[688]. Аднак выконваць гэтыя абяцанні ўлады не спяшаліся. А калі праз нейкі час старшыня Дзяржаўнай Думы Міхаіл Радзянка перадаў цару скаргі польскай грамадскасці, якая не дачакалася перамен, той толькі паціснуў плячыма: «Мы, здаецца, паспяшаліся»[689]. Але, тым не менш, працягваць у дачыненні да польскай супольнасці палітыку ціску ў традыцыйных формах ужо не выпадала.

Абвяшчэнне Германіяй вайны Расіі 19 ліпеня 1914 г. выклікала выбух патрыятычных настрояў сярод значнай часткі расійскай грамадскасці. Ужо на наступны дзень быў апублікаваны Маніфест Мікалая II пра абвяшчэнне вайны Германіі, які падтрымалі амаль усе палітычныя партыі. Разумеючы значэнне аб’яднанага вы-

---

686 В. П. Слобожанин, *Земское самоуправление в Беларуси (1905–1917 гг.)*, с. 46–55.
687 «День». 1914, № 206.
688 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 178.
689 Цытаванне па: П. Милюков, *Воспоминания.* Москва 1991, с. 397.

ступлення г. зв. «народных прадстаўнікоў», Мікалай II загадаў правесці 26 ліпеня 1914 г. аднадзённыя надзвычайныя сесіі Дзяржаўнай Думы і Дзяржаўнай Рады.

У Думе пасля выступу старшыні Рады міністраў Івана Гарамыкіна на трыбуну ўздымаліся прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў, якія казалі пра неабходнасць абароны Радзімы, пра адданасць цару, дзяржаве і народу. Потым прагучалі аналагічныя заявы прагрэсістаў і канстытуцыйных дэмакратаў. Толькі сацыял-дэмакратычная фракцыя ў адмысловай Дэкларацыі асудзіла вайну і адмовілася галасаваць за ваенны крэдыт.

Падобным чынам прайшло пасяджэнне Дзяржаўнай Рады. Гарамыкін заклікаў забыць унутраныя канфлікты і з’яднацца вакол «адзінага сцягу, на якім напісаны найвялікшыя для ўсіх нас словы: “Гасудар і Расія”»[690]. Ад імя польскіх дэпутатаў выступаў Аляксандр Мэйштовіч, які заявіў, што «палякі пойдуць у бой, кіруючыся не толькі пачуццём выканання свайго абавязку. Яны пойдуць даць адпор прускаму *Drang nach Osten*, згадваючы той вялікі бой, у якім побач з палякамі і літоўцамі змагаліся славутыя смаленскія палкі». Прамоўца выказаў надзею, што сумесна пралітая кроў паспрыяе нараджэнню «несакрушальнага польска-рускага саюза»[691]. Цяжка казаць, наколькі шчырым было выступленне дэпутата ад Ковенскай губ. А. Мэйштовіч добра разумеў сутнасць урадавай палітыкі ў вырашэнні «польскага пытання» на беларускіх і літоўскіх землях. Хутчэй за ўсё ягоная прамова была выклікана патрабаваннямі канкрэтнай палітычнай сітуацыі.

Расійскія гісторыкі звычайна імкнуцца паказаць патрыятычны ўздым і адзінства жыхароў імперыі ў момант абвяшчэння вайны. Але рэальнае стаўленне большасці насельніцтва Беларуска-Літоўскага краю да гэтай падзеі лепш перадаюць запісы Дзённіка Міхала Ромэра, які ў маёнтку свайго бацькі (в. Багданішкі Віленскай губ.) 18 ліпеня назіраў мабілізацыю ў войска: «Паўсюдна страшны крык і плач, перапалох ва ўсім двары і вёсцы. Няшчасныя сем’і ахвяр у жаху і роспачы, жонкі і маці плачуць, ірвуць валасы на галаве. «Энтузіязму» ані кроплі»[692].

Эдвард Вайніловіч пазней прыгадваў, як сам атрымаў «чырвоную павестку» ўноч на 18 ліпеня. Яму загадвалася прыбыць у Слуцк дзеля выканання абавязкаў старшыні Мабілізацыйнай камісіі: «Трэба было прымаць коней, павозкі ды іншы інвентар дзеля фарміравання абозаў. Уборка ўраджаю спынілася, людзей мабілізавалі, а вазы, зброя, коні адразу з палёў адпраўляліся ў павет. Горад набыў выгляд вайсковага лагера, напоўніўся вясковымі жыхарамі, якія праводзілі сваіх мужоў і сыноў з плачам і прычытаннямі, але яшчэ болей аплаквалі рэквізаваную

---

690 *Государственный совет. Стенографические отчёты. Сессия VIII–XII.* СПб.–Петроград 1913–1917. Сессия IX, стлб. 4.

691 Там же, стлб. 8–9.

692 Цытаванне па: Z. Solak, *Między Polską a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920*, s. 234.

маёмасць. Усё перамяшалася […] У гэтым пекле мне давялося працаваць дзесяць дзён»[693].

Магчыма, нешта падобнае на Піншчыне назіраў і Раман Скірмунт. Але ўжо праз некалькі тыдняў ён быў у Менску і ўдзельнічаў у VI Надзвычайным сходзе Менскага губернскага земства. Першым у пераліку пытанняў было далучэнне Менскага земства да Усерасійскага земскага саюза дапамогі хворым і параненым вайскоўцам (УЗС). Гэтая няўрадавая арганізацыя ўзнікла 30 ліпеня 1914 г. падчас Усерасійскага земскага з'езду. Старшынём Галоўнага камітэту УЗС быў абраны князь Георгі Львоў. Адразу былі створаны аддзелы лекарскай справы і эвакуацыі. Фінансаванне дзейнасці УЗС ажыццяўлялася дзяржавай, земствамі і прыватнымі асобамі[694].

12 жніўня 1914 г. Менскае земства таксама далучылася да УЗС і стварыла Губернскі земскі камітэт дапамогі хворым і параненым вайскоўцам. Ён адразу ж атрымаў ад земства 50 тыс. руб. на арганізацыю шпіталяў, набыццё лекаў і медыкаментаў. Такую ж суму земства пералічыла ў агульны фонд УСЗ. Першым упаўнаважаным ад губернскага земства ва Усерасійскі земскі саюз быў абраны Барыс Самойленка, а другім – Раман Скірмунт[695]. Аднак, паводле інфармацыі *Вестника Минского губернского земства* (1914, № 9) менавіта Скірмунт быў дэлегаваны Менскім земствам на адказныя пасады ў створаны Усерасійскі земскі саюз[696].

Упаўнаважаныя таксама сталі сябрамі ўтворанага губернскага Камітэта. Апрача іх былі абраны такія вядомыя земскія дзеячы, як старшыня Барысаўскай земскай управы І. Арскі, менскі гарадскі галава Станіслаў Хжанстоўскі, земскія дэпутаты Юзаф Свянціцкі, Канстанцін Дзямідэцкі-Дзямідовіч ды інш.[697] Камітэт узначаліў Б. Самойленка, які выступіў на ягоным першым пасяджэнні 14 жніўня з інфармацыяй пра асноўныя задачы дзейнасці УЗС у Менскай губ. У гэты ж дзень было вырашана арганізаваць 100 койкамесцаў для вайскоўцаў у губернскім земскім шпіталі, стварыць запас медыкаментаў, адкрыць пункты харчавання, а таксама рэкамендаваць павятовым земскім управам ствараць мясцовыя Камітэты дапамогі хворым і параненым вайскоўцам[698].

Аднак праца Скірмунта ў УЗС аказалася непрацяглай. Напрыканцы лета 1914 г. і ён атрымаў сваю «чырвоную павестку». Вядома, што 12 кастрычніка 1914 г. падчас выбараў прадстаўнікоў «польскай курыі» ў Пінскае павятовае земства Р. Скірмунт быў абраны завочна, бо знаходзіўся на фронце[699]. Е. Асмалоўскі ва ўспамінах сцвярджаў, што Скірмунт быў мабілізаваны ў 404 пешую Менскую

693 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 177.
694 В. П. Слобожанин, *Земское самоуправление в Беларуси (1905–1917 гг.)*, с. 65.
695 НГАБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 710, арк. 12–12 адв., 65.
696 С. Рудовіч, «*Беларускі дзеяч з вялікіх паноў...*», «Гістарычны альманах». 1999. Том 2, с. 31.
697 НГАБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 710, арк. 53.
698 Тамсама, арк. 59
699 «Kurier Litewski». 1914, Nr 247.

дружыну народнага апалчэння[700]. Яна была адной з шасці дружын Менскай брыгады народнага апалчэння (3 армія). Задачамі апалчэнцаў было нясенне варты і ахова транспартных шляхоў, у першую чаргу, чыгуначных магістраляў. У баявых дзеяннях яны не павінна былі ўдзельнічаць, хоць сітуацыя на фронце часта ператварала апалчэнне ў баявыя вайсковыя адзінкі.

Прагляд дакументаў 404 дружыны ў Расійскім Дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве не пацвердзіў сцвярджэння Асмалоўскага. Скірмунт не фігураваў ні ў загадах камандзіра дружыны палкоўніка Пальчынскага за перыяд з 24 ліпеня па 31 кастрычніка 1914 г., ні ў ягонай «палявой кніжцы» за другую палову 1914 г., ні ў журнале баявых дзеянняў з 24 ліпеня 1914 г. па 30 чэрвеня 1915 г. Магчыма, Асмалоўскі памыліўся з нумарам дружыны. Той жа Асмалоўскі прыгадваў, што Раман Скірмунт быў паранены ў нагу і пасля гэтага накіраваны ў Менск у распараджэнне УЗС[701]. Магчыма, пасля ранення ён вярнуўся да абавязкаў, вызначаных для яго земцамі яшчэ ў жніўні 1914 г. Як бы там ні было, але напрыканцы лістапада Скірмунт ужо прысутнічаў на сходзе Пінскага земства і быў абраны ў склад Рэвізійнай камісіі[702].

Нягледзячы на вайну, дэпутаты Менскага губернскага земства працягвалі дзейнічаць у раней вызначаных кірунках. У прыватнасці, клапаціліся пра развіццё адукацыі, у т. л. вышэйшай. У лістападзе 1914 г. у Менску быў адкрыты Настаўніцкі інстытут з трохгадовым тэрмінам навучання, а пры ім пачалі дзейнічаць настаўніцкія курсы. На парадку дня фігуравала пытанне пра адкрыццё ў Менску ўніверсітэта і сельскагаспадарчага інстытута.

Гэтыя пытанні разглядаліся таксама на пасяджэннях IV Чарговага губернскага земскага сходу напрыканцы студзеня 1915 г. На гэтым сходзе Рамана Скірмунта абралі ў склад Камісіі па адкрыцці ў Менску вышэйшай навучальнай установы. Таксама ён застаўся прадстаўніком земства ва УЗС і Расійскай экспартнай палаце[703].

Трэба адзначыць, што роля Усерасійскага земскага саюза ў вырашэнні пытанняў забеспячэння фронту медыкаментамі і лекарамі імкліва ўзрастала. Ужо напрыканцы 1914 г. Саюз забяспечыў дзейнасць вайсковых шпіталяў на 155 тыс. ложкаў, а на 1 студзеня 1915 г. ім было ўкамплектавана 40 санітарных цягнікоў[704]. Паўнамоцтвы арганізацыі пастУпова пашыраліся. Урэшце ўрад перадаў УЗС справу забеспячэння фронту харчам і медыкаментамі. Адчыняліся палявыя шпіталі,

---

700 BN. Dział mikroform. Akc. 6797. J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. Tom 1. 1914–1917*, k. 2.

701 Ibidem.

702 «Kurier Litewski». 1914, Nr 303.

703 НГАБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 708, арк. 256, 276.

704 В. Воронин, *Земство в годы Первой мировой войны и революций 1917 г.* Рэжым доступу: http://www.portal-slovo.ru/authors/4.php. Дата доступу: 24.12.2016.

рамонтныя майстэрні, пякарні ды інш. Адпаведна сфарміраваўся разгалінаваны апарат упраўлення, вырасла колькасць служачых, ствараліся франтавыя камітэты.

Ад моманту стварэння УЗС дзейнічаў у цесным кантакце з Усерасійскім саюзам гарадоў, які ўзнік у жніўні 1914 г., і займаўся аналагічнымі справамі. У ліпені 1915 г. гэтыя арганізацыі аб'ядналіся ва Усерасійскі земскі і гарадскі саюз (неафіцыйная назва *Земгор*), які стварыў Галоўны камітэт па забеспячэнні арміі. На месцах пачалі ўзнікаць губернскія, павятовыя і гарадскія камітэты. Земгор актыўна супрацоўнічаў з Цэнтральным вайскова-прамысловым камітэтам, які быў створаны па ініцыятыве прадстаўнікоў буйнога прамысловага капітала ў чэрвені 1915 г. Гэты Камітэт уяўляў сабой яшчэ адну ўплывовую грамадскую арганізацыю, якая імкнулася мабілізаваць прамысловасць краіны дзеля патрэб вайны. Першапачаткова гэтыя арганізацыі дзейнічалі выключна як грамадскія, але па меры пагаршэння сітуацыі на фронце яны пачалі прэтэндаваць на палітычныя ролі.

Між тым, сітуацыя расійскіх войск на фронце пагоршылася. У выніку разгрому ва Усходняй Прусіі армій генералаў А. Самсонава і П. Рэненкампфа ў жніўні–верасні 1914 г. Расія страціла загінулымі, параненымі і палоннымі амаль 100 тыс. салдат і афіцэраў[705]. Праўда, перамогі ў Галіцыі над войскамі Аўстра-Венгрыі ў верасні таго ж года трохі зменшылі горыч гэтай паразы.

Напрыканцы зімы 1914–1915 г. становішча на Усходнім фронце, які працягнуўся амаль на 1 200 км, стабілізавалася. Аднак якраз у гэты момант расійскія войскі пачалі адчуваць недахоп забеспячэння. Здараліся выпадкі, калі на фронт прыбывала папаўненне, якое не мела зброі.

Напрыканцы 1914 г. нямецкае камандаванне вырашыла вясной наступнага года пачаць маштабны наступ менавіта на Усходнім фронце. Стратэгічны план Альфрэда фон Шліфена па разгроме Францыі пацярпеў крах, і было прынята рашэнне вывесці з вайны Расію. Пачалася перадыслакацыя войск з Заходняга фронту. На поўдні ад Кракава фарміраваўся моцны ўдарны «кулак», аснову якога складала 11 армія генерала Аўгуста фон Макензена.

15 красавіка 1915 г. пачаўся наступ нямецкіх і астра-венгерскіх армій у Галіцыі. На пачатку чэрвеня быў вызвалены ад расійскіх войск Львоў, а нямецкія дывізіі наблізіліся да Варшавы. Напрыканцы чэрвеня яны перайшлі ў наступ у Памераніі і Усходняй Прусіі. У выніку г. зв. «Свенцянскага прарыву» ўзнікла пагроза акружэння ў Польшчы чатырох расійскіх армій. 9 ліпеня яны пачалі адыход па ўсім фронце. Праз месяц Мікалай II зняў з пасады Вярхоўнага Галоўнакамандуючага вялікага князя Мікалая Мікалаевіча, і сам узначаліў войскі.

Становішча на Усходнім фронце стабілізавалася толькі ў верасні 1915 г. Фронт уяўляў сабой амаль прамую лінію, якая ішла ад Рыжскага заліва да мяжы з Румыніяй. Уся Польшча, значная частка Беларусі і Літвы, частка Латвіі аказаліся пад нямецкай акупацыяй. На беларускіх землях фронт стабілізаваўся па лініі

[705] И. Ростунов, *Русский фронт Первой мировой войны*. Москва 1976, с. 118–125.

Дзвінск – Паставы – Смаргонь – Баранавічы – Пінск. Расія страціла землі, на якіх панавала з канца XVIII ст. Да вайны тут пражывала амаль 23 мільёны чалавек або 13 % насельніцтва імперыі. У расійскіх войсках з'явіліся першыя прыкметы дэмаралізацыі. Даваеннай арміі больш не існавала. На фронт накіроўвалі запасных II разрада і апалчэнцаў.

З набліжэннем нямецкіх войск да Пінска Раман Скірмунт з маці і двума слугамі пераехаў у Менск[706]. У маёнтку засталася малодшая сястра Алена, якая правяла там увесь перыяд нямецкай акупацыі і па меры магчымасцяў клапацілася пра лёс маёмасці.

Верагодна, ужо ўвосень 1915 г. Раман Скірмунт і яго маці пасяліліся ў доме Эмануіла Абрампальскага па вул. Захар'еўскай 31/2[707]. Менавіта гэты адрас указаў Рамана Скірмунт у лістападзе 1918 г. падчас выбараў ва Устаноўчы Сход[708]. У гэтым жа доме, паводле кнігі Леаніда Маракова *Галоўная вуліца Мінска* (2012), апроч уласніка (другі паверх) з 1912 па 1916 г. здымала кватэру княгіня Марыя Магдалена Радзівіл (першы паверх), а таксама жылі калегі Скірмунта па МТСГ Мячыслаў Пагоскі, Леў Ванькові і Рамуальд Хялхоўскі. Скірмунт у кнізе Маракова згадваецца толькі як адзін з частых наведвальнікаў княгіні Радзівіл, але, насамрэч, у 1915 г. ён заняў адну з двух кватэр на трэцім паверсе гэтага дому[709]. Яны, як устанавіў Леанід Маракоў, якраз вызваліліся ў 1915 г.

Пінск быў захоплены наступаючымі нямецкімі войскамі 15 верасня 1915 г. Парэчча таксама аказалася з нямецкага боку лініі фронту, якая праходзіла ўздоўж р. Ясельды і канала Агінскага. Якраз тут перайшлі да абароны часткі нямецкай арміі генерала фон Лінзінгена. Удзельнік вайны Вальтэр Фогель так апісваў баявыя пазіцыі, якія дазвалялі весці толькі «малую вайну»: «Першабытныя лясы паміж Лагішыным, Выганаўскім возерам і паваротам Шчары не дазваляюць перамяшчэння згрупаваных частак. Торф пад нагамі дрыжыць і хістаецца. Бярвенчаты насціл неабходны для ўмацавання сцяжынак. Цалкам адкрытая тэрыторыя балот лёгка абстрэльваецца праціўнікам з закрытых пазіцый. Густы хмызняк, шматлікія крынічкі, вокны глыбокіх балот перашкаджаюць кожнаму кроку. Пастам, патрулям і высунутым назіральнікам пагражае смерць у багне. Бязлітасна зацягвае падманлівае покрыва сваю ахвяру ў бурую бурлівую глыбіню [...] Патрэбна знаходлівасць, спрытнасць і прысутнасць духа у патрулёў і выведнікаў, каб ваяваць у гэтай каварнай мясцовасці»[710].

---

706 НГАБ. Ф. 700, воп. 1., спр. 126, арк. 295.

707 Сёння гэта дом па вул. Савецкай, 17.

708 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ). Ф. 60п, воп. 3, спр. 737, арк. 22.

709 Л. Маракоў, *Галоўная вуліца Мінска. 1880–1940. Кніга 1*. Мінск 2012, с. 119–121.

710 В. Фогель, *Барановичи 1916*. Петербург 1921 Гл.: Рэжым доступу: http://www.fortressby.com/index.php?option=com_content&task=view&id=191&Itemid=6&limit=1&limitstart=3. Дата доступу: 11. 01. 2016.




*Парэчча на нямецкіх паштоўках Першай сусветнай вайны.*




Увосень 1915 г. салдаты абедзвюх армій рыхтаваліся зімаваць у палескіх балотах. З расійскага боку (3 армія генерала Л. Леша) будаваліся зямлянкі, шалашы, навесы і блокгаузы з бярвенняў і зямлі з лініяй насыпных акопаў. З нямецкага – ішло больш актыўнае будаўніцтва. За восень немцы паспелі пракласці праз багны бярвенчатыя гаці, збудаваць масты і нават пракласці вузкакалейку, па якой падвозілі будаўнічыя матэрыялы, харчаванне і боепрыпасы. Амаль да вясны 1918 г. тут ствараўся моцны абарончы вузел, асновай якога былі бетонныя доты, што захаваліся да гэтага часу. Актыўныя баявыя дзеянні тут не вяліся. Зрэдку адбываліся перастрэлкі, у якія спарадычна ўмешвалася артылерыя. Іншым разам праціўнікі ладзілі выведку боем.

Усё гэта паспрыяла таму, што ні вёска Парэчча, ні маёнтак Скірмунтаў моцна не пастрадалі. Знойдзеныя паштоўкі нямецкага салдата Ітэ Рыхтэра (Itte Richter) з краявідамі Парэчча (ліпень 1916 – красавік 1917 г.), адрасаваныя ягонай сястры ў вёску Хайнесдорф пад Берлінам, дазваляюць сцвярджаць, што ў доме Скірмунтаў месціўся вайсковы шпіталь. Відаць, якраз таму ў самім Парэччы захаваліся могілкі нямецкіх салдат з розных вайсковых адзінак. На адной з паштовак відаць нямецкую палявую кнігарню (*Feldbuchhandlung*) у Парэччы. Немцы вельмі грунтоўна размясціліся ў гэтай палескай мясцовасці.

А вось эра прамысловага Парэчча закончылася. Паводле інфармацыі фабрычнага інспектара Менскай губ. у снежні 1914 г. памеры вытворчасці суконнай фабрыкі ў параўнанні з даваенным перыядам зменшыліся на 30 % з прычыны

высылкі замежных майстроў. Пры гэтым колькасць работнікаў не скарацілася і па-ранейшаму складала 213 чал.[711] Аднак ужо праз некалькі дзён суконная фабрыка Скірмунта і вінакурны завод у Парэччы трапілі ў спіс прадпрыемстваў, што спынілі вытворчасць, бо апынуліся ў раёне баявых дзеянняў[712]. Дарэчы, загадам камандуючага Паўночна-Заходнім фронтам ад 25 ліпеня 1915 г. усе прадпрыемствы, што апынуліся ў «вайсковых зонах» класіфікаваліся па дзвюх катэгорыях. У першую катэгорыю трапілі заводы і фабрыкі, якія працавалі на «ваеннае ведамства» і падлягалі эвакуацыі, у другую – «усе астатнія»[713].

Прамысловасць Парэчча належала да другой катэгорыі. Падобна, што праблема эвакуацыі суконнай фабрыкі была ўзнята са спазненнем. Тэлеграма пра гэта з Міністэрства гандлю і прамысловасці была адпраўлена ў Менск толькі 8 верасня 1915 г.[714] Дакументы сведчаць, што з фабрыкі паспелі вывезці толькі прадукцыю і сыравіну, а станкі ды іншае абсталяванне было сапсаванае. Зрэшты, апошняе сцвярджэнне магло не адпавядаць рэчаіснасці, бо інфармацыя пра сітуацыю ў Парэччы была адпраўлена ў лістападзе 1915 г., калі ўжо не існавала магчымасці праверыць выкананне загаду. Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, абсталяванне суконнай фабрыкі было вывезена ў Германію на самым пачатку нямецкай акупацыі. Як бы ні было, але даводзіцца канстатаваць канец эпохі «Ліверпуля на Ясельдзе». Прамысловасць даваеннага ўзроўню тут ужо ніколі не будзе ўзноўлена.

Падобна, што крах прамысловасці абярнуўся вялізарнымі фінансавымі праблемамі сям'і парэцкіх Скірмунтаў. Магчыма, менавіта гэта прымушала Рамана Скірмунта працаваць адразу на дзвюх надзвычай адказных пасадах – фактычнага ўпаўнаважанага Асобнай нарады па харчовай справе, а таксама кіраўніка Губернскай харчовай камісіі.

Аднак ягоная сітуацыя была значна лепшай, чым становішча большасці парэцкіх землякоў, якія выбралі лёс бежанцаў. Вядома, што бежанцы з Парэчча і навакольных вёсак спыніліся ў наваколлях Петрыкава і Жыткавіч. Іх жыццё ў вялікай ступені залежала ад дзяржаўнай падтрымкі і ад дзейнасці дабрачынных арганізацый. Як пазней, у сакавіку 1917 г., паведамляў у Менскі губернскі камітэт УЗС настаяцель Парэцкай царквы Мяфодый Крышпіновіч, «местное население очень черство, оно имеет большие запасы хлеба и не хочет продавать их»[715]. Менавіта парэцкі святар праяўляў найбольшы клопат пра лёс сваіх прыхажан. Аднак пункты харчавання для бежанцаў у наваколлі Жыткавіч з'явіліся толькі ўвесну 1917 г.

---

711 НГАБ. Ф. 311, воп. 1, спр. 93, арк. 29–30.
712 Тамсама, арк. 72–73.
713 Тамсама, арк. 16–16 адв.
714 Тамсама, арк. 103–104.
715 *Беларусь в годы Первой мировой войны (1914–1918): сборник документов*. Сост. В. В. Врублевский и др. Минск 2014, с. 144.

Адступленне расійскіх войск суправаджалася эвакуацыяй устаноў і прадпрыемстваў, а таксама перамяшчэннем вялікай масы насельніцтва на ўсход. Спачатку эвакуацыя мела прымусовы характар і была інспіравана вайсковым камандаваннем. Потым дзейнічаў ужо «інстынкт статку» (Э. Вайніловіч) і чуткі пра «зверствы тэўтонцаў».

У выніку летам і напачатку восені 1915 г. у Беларусі назіралася сапраўднае «вялікае перасяленне народаў». Па дарогах Менскай губ. рухаўся вялізарны натоўп бежанцаў з тэрыторыі Каралеўства Польскага і Гарадзенскай губ. Сярод вымушаных «перасяленцаў» пераважалі старыя, жанчыны і дзеці. У ліпені 1915 г. толькі паміж Кобрынам і Баранавічамі ў дарозе знаходзілася каля 400 тыс. чал.[716] З-за адсутнасці планаў эвакуацыі рух бежанцаў быў досыць хаатычным. Да таго ж, яны не атрымлівалі належнай дапамогі.

Трагедыю бежанцаў выдатна перадаюць вусныя ўспаміны, запісаныя напрыканцы XX ст. сябрамі Беларускага гістарычнага таварыства ў Беластоку:

● На дарозе, за Белавежай шмат войска і цывільных ішлі пешшу. Ехалі на фургонах і аўтамабілях. Натоўп падаваўся на Баранавічы. […] Паветра, насычанае смуродам конскага поту, перамешвалася з пылам і выхлапнымі газамі аўтамабіляў. Затыкала нос і горла. Людзі хварэлі, і смерць збірала жніво. Трупы валяліся паабапал дарогі. Ніхто не прыбіраў, не звяртаў на памерлых увагі (Раман Багроўскі, 1906 г. нар.)[717].

● Спыніліся ў Баранавічах, там быў харчавальны пункт. Там гразь была, нечыстата, звал, там бежанцы паміралі. Пастаянна толькі хавалі, вазілі тыя трупы. На маіх вачах некалькі магіл рабілі: капаюць роў, звозяць, закрываюць, і зноў другі роў капаюць (Віктар Паўлючук, 1902 г. нар.)[718].

Польскі дзеяч Зыгмунт Васілеўскі назваў шлях бежанцаў «крыжовай дарогай». Ён адным з першых пачаў збіраць сведчанні гэтых выгнанцаў. Вось адно з іх: «Хтосьці запытаны, як даўно ён у дарозе, адказаў: “Ужо і сам не ведаю. Не ведаю, можа гэта быў сон, што калісьці я меў дом, а можа я стаў вар’ятам? Дом спалены, жонка памерла ў дарозе, і двое дзяцей пайшлі разам з ёю, ляжаць пад крыжамі. Толькі я і гэты конь засталіся на свеце”»[719].

З надыходам восені становішча бежанцаў яшчэ больш пагоршылася. Яны пакутвалі ад холаду і дажджоў. Пачалі распаўсюджвацца інфекцыйныя хваробы. Ва ўмовах бяздзеяння ўладаў расла смяротнасць. «Спачатку, – прыгадваў Э. Вайні-

---

[716] А. Бабков, *Беженское движение в Беларуси в годы Первой мировой войны* (у:) *Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь*: Тэзісы дакладаў і паведамл. Ч. 1. Мінск 1993, с. 147.

[717] *Бежанства 1915 года.* Рэд. В. Луба. Беласток 2000, с. 32.

[718] Тамсама, с. 231.

[719] Цытата па: M. Korzeniowski, M. Mądzik, D. Tarasiuk, *Tułaczy los. Uchodźcy polscy w imperium rosyjskim w latach pierwszej wojny światowej*. Lublin 2007, s. 17.

ловіч, – калі на падворках былі запасы дошак, […] людзей хавалі ў трунах. Пазней хавалі без іх, а часта здараліся выпадкі, калі памерлых прысыпалі зямлёй каля дарогі або закідвалі мохам у лесе, пакідаючы клопат пра лепшае пахаванне мясцоваму насельніцтву. Насельніцтва выконвала гэтую місію неахвотна і толькі пад ціскам уладаў. Прыдарожныя магілы пазначалі той шлях, якім цягнуўся натоўп бежанцаў, каб знайсці сродкі для выжывання для сябе і свайго «жывога інвентара»[720].

У выніку масавага бежанства эканамічная сітуацыя на Меншчыне рэзка пагоршылася. Сталі надзвычай актуальнымі праблемы харчавання і фуражу, забеспячэння людзей палівам, жытлом ды інш.

Эдвард Вайніловіч пазней успамінаў, як вытоптваліся бежанцамі нясжатыя палі, як знішчалася чужая маёмасць: «Сядзібы і фальваркі з жахам сустракалі доўгія абозы, пакрытыя брэзентам і палатном [...] Яны хаатычна рухаліся на ўсход, спыняліся там, дзе яшчэ можна было нешта знайсці, і, як саранча, пакідалі пасля сябе пустэльню»[721].

У верасні 1915 г. павятовы спраўнік М. Стракоўскі паведамляў менскаму губернатару: «[…] Положение беженцев действительно представляет чрезвычайно неприятное впечатление: скот, который был вывезен с насиженных мест, постепенно пропадает от усталости, заболевания; малые дети и старики простуживаются, ослабевают, не имеют соответствующего ухода, скарб растрачивается, запасы продуктов истощились, а потому до прибытия на питательный пункт (которых к тому же очень мало) беженцы и лошади в пути голодают, а на самих пунктах за массою ожидающих очереди много проходит времени, даже день. Все они почти оборванные, грязные, босые, в особенности дети, не вынося резко изменившейся обстановки жизни, болеют и при отсутствии в дороге […] скорой помощи, фельдшерской или врачебной, умирают в немалом числе. Немало лиц совершенно не обращаются к медицинскому персоналу. Посему эпидемия холерыны и гастрита среди беженцев принимает сравнительно широкие размеры»[722].

Колькі людзей рушыла ў гэты «крыжовы шлях»? Беларускі гісторык Аляксандр Мікалаевіч, спасылаючыся на звесткі Усерасійскага саюза гарадоў, сцвердзіў, што на 1 чэрвеня 1916 г. налічвалася каля 2 760 тыс. бежанцаў. З іх 47,1 % складалі жыхары Гарадзенскай, Віцебскай, Менскай і Віленскай губ.[723] На пачатку 1917 г. агульная колькасць зарэгістраваных бежанцаў вызначалася лічбай 3 200–3 500 тыс. чал.

---

[720] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 185–186.

[721] Ibidem, s. 185.

[722] Трагічны лёс бежанцаў грунтоўна прадстаўлены ў кнізе Анэты Прымак-Онішк (Aneta Prymak-Oniszk, *Bieżenstwo 1915. Zapomniani uchodźcy* (Wołowiec 2016).

[723] А. Мікалаевіч, *Бежанцы Першай сусветнай вайны*, «Спадчына». 1994, № 3, с. 19.

Ураджэнцаў Беларусі сярод іх было прыблізна 1 130–1 320 тыс.[724] Іншы беларускі даследчык Віталь Карнялюк налічыў каля 2 млн. бежанцаў[725].

Што датычыць бежанцаў з тэрыторыі Каралеўства Польскага, то большасць польскіх даследчыкаў паўтараюць падлікі гісторыка Валянціны Найдус, якая ўстанавіла, што іх агульная колькасць складала каля 1 млн. чал.[726] Яна ж сцвярджала, што болей 240 тыс. польскіх бежанцаў размясціліся на тэрыторыі Менскай, Магілёўскай і Віцебскай губ.[727] Прычым Менская губ. прыняла болей за 46 тыс.[728] А вось сведка і ўдзельнік тых падзей Е. Асмалоўскі лічыў, што на Меншчыне спынілася каля 100 тыс. бежанцаў з Польшчы[729].

Паражэнні на фронце паўплывалі на палітычную сітуацыю. Грамадскае меркаванне шукала вінаватых. Станавілася відавочным, што імперская бюракратыя не ў стане адэкватна рэагаваць на выклікі вайны. Нават кансерватыўныя элементы пачалі падтрымліваць ліберальную апазіцыю.

Кансалідацыя апазіцыі адбылася падчас сесіі Дзяржаўнай Думы, якая распачалася 19 ліпеня 1915 г. У жніўні сфарміраваўся г. зв. Прагрэсіўны блок, у які ўвайшлі прадстаўнікі амаль усіх партый, апрача крайне левых і крайне правых. Ягоным падмуркам стаўся Земгор. Сябры і прыхільнікі Прагрэсіўнага блоку ўжо не бачылі палітычных перспектыў самаўладдзя і існаванне моцнай улады звязвалі толькі з Думай. Яны патрабавалі стварэння ўрада, адказнага перад Думай, абмежавання ўлады бюракратыі, амністыі асуджаным за палітычныя і рэлігійныя злачынствы, спынення рэлігійнага пераследу (у т. л. антысеміцкага), аднаўлення прафсаюзаў, аўтаноміі Каралеўства Польскага ды інш.

З'яўленне Прагрэсіўнага блоку выклікала сапраўдную эйфарыю сярод інтэлігенцыі і адукаванай часткі грамадства. Але яна хутка закончылася. Мікалай II адхіліў усе патрабаванні і 3 верасня 1915 г. распусціў Думу. У выніку, як заўважыў Рычард Пайпс, ад цара адвярнуліся амаль усе сацыяльныя колы, альянс паміж бюракратыяй і ліберальнай інтэлігенцыяй стаў немагчымым, а рэвалюцыя – непазбежнай[730].

На жаль, адсутнічаюць матэрыялы, якія б дазволілі высвятліць стаўленне Рамана Скірмунта да гэтых палітычных падзей. Служба ў Земгоры, а таксама логіка ранейшай палітычнай дзейнасці дазваляе лічыць яго асцярожным прыхільнікам

---

[724] *Гісторыя Беларусі ў шасці тамах.* Том 4. *Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.*). Рэд. М. Біч, В. Яноўская. С. Рудовіч і інш. Мінск 2005, с. 445.

[725] В. Карнялюк, *Праблема гісторыка-дэмаграфічнай характарыстыкі бежанцаў з беларускіх зямель (1914–1918 гг.)*, «Веснік ГрДУ», 2000, серыя 1, № 2 (4), с. 24.

[726] Гл., напр., M. Korzeniowski, M. Mądzik, D. Tarasiuk, *Tułaczy los. Uchodźcy polscy w imperium rosyjskim…*, s. 24.

[727] Ibidem, s. 38.

[728] Ibidem, s. 39.

[729] BN. Dział mikroform. Akc. 6797. J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921.* T. 1, k. 205.

[730] Р. Пайпс, *Русская революция*. Часть первая. Москва 1994, с. 257–258.

новай апазіцыі. «Асцярожнасць» магла быць абумоўлена крытычным стаўленнем да расійскіх лібералаў.

Між тым, арганізацыя дапамогі бежанцам таксама спрыяла актывізацыі праціўнікаў царызму. Прычым у гэтым выпадку гаворка ішла ўжо пра нацыянальныя сілы.

Летам 1915 г. праблему дзяржаўнай дапамогі бежанцам узнялі дэпутаты IV Думы. Яе старшыня Міхаіл Радзянка пачаў фарміраваць Раду грамадскіх дзеячаў, у т. л. з прадстаўнікоў Земгора і Ваенна-прамысловых камітэтаў. Аднак ініцыятыву перахапіла адміністрацыя, і 30 жніўня 1915 г. пад эгідай Міністэрства ўнутраных спраў было створана *Особое совещание по устройству беженцев*, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі Дзяржаўнай Думы і Дзяржаўнай Рады, а таксама шэрагу агульнарасійскіх грамадскіх арганізацый. Прычым прадстаўніцтва Думы фарміравалася па нацыянальнай прыкмеце. Фармальным кіраўніком *Совещания* з'яўляўся міністр унутраных спраў, а кіраваў пасяджэннямі ягоны намеснік. Як і ў выпадку іншых Асобных нарад, меў месца пэўны палітычны кампраміс паміж манархам і Думай, бюракратыяй і буржуазіяй.

Трэба адзначыць, што калегіяльнасць у прыняцці рашэнняў Асобнай нарады была моцна абмежавана, як і яе паўнамоцтвы. Фактычна пасяджэнні звяліся да зацвярджэння раней асігнаваных сродкаў на дапамогу бежанцам і спробаў кантраляваць іх выкарыстанне. Аднак менавіта дзякуючы стварэнню гэтай Асобнай нарады дзяржава нарэшце пачала выдзяляць значныя сродкі для дапамогі. Так, у 1916 г. штомесяц выдзялялася каля 20 млн. руб., а да лютага 1917 г. агульныя выдаткі дзяржаўнай казны склалі каля 400 млн.[731] Тут варта прыгадаць дзейнасць Камітэта вялікай княгіні Таццяны Мікалаеўны («Таццянінскі камітэт»), які атрымліваў вялізарныя дзяржаўныя субсідыі, што дазваляла аказваць бежанцам аднаразовую матэрыяльную дапамогу, спрыяць іх працаўладкаванню, па меры магчымасці вяртанню на радзіму і г. д. Таксама дапамогу выгнанцам з родных мясцінаў аказвалі Ваенна-прамысловыя камітэты і Земгор.

Дзякуючы фінансаванню згаданай Асобнай нарады і «Таццянінскага камітэта», стала магчымай дзейнасць шматлікіх дабрачынных арганізацый, на рахунку якіх таксама пералічваліся значныя сумы. Гэта датычыла і тых арганізацый, што ствараліся па нацыянальнай прыкмеце. Дарэчы, якраз Асобная нарада прыняла рашэнне пра выкарыстанне нацыянальнага чынніка ў арганізацыі дапамогі. У рэальным жыцці польскія, літоўскія, беларускія ды інш. дабрачынныя арганізацыі сталі своеасаблівай формай легалізацыі нацыянальных рухаў. Дарэчы, менавіта польскія грамадскія арганізацыі першымі здолелі распачаць акцыю масавай дапамогі бежанцам з тэрыторыі Каралеўства Польскага. Адным з важных цэнтраў гэтай дапамогі стаўся Менск, дэмаграфічная сітуацыя ў якім істотна змянілася.

---

[731] А. В. Ильин Об Особом совещании по устройству беженцев, с. 52. Рэжым доступу: http://www.law.edu.ru/doc/document.asp?docID=1137988. Дата доступу: 20. 01. 2015.

Колькасць прышлага насельніцтва (вайскоўцы, чыноўнікі і бежанцы) дасягала ў Менску 150 тыс. чал.[732]

Многія прадстаўнікі варшаўскай інтэлігенцыі і дзеячы польскіх арганізацый таксама спыніліся ў губернскім цэнтры. Прыгадваючы той час, Вайніловіч заўважыў, што Менск стаў набываць рысы польскага горада[733]. Пра тое ж пісаў і Е. Асмалоўскі, якому па службовых справах часта даводзілася бываць у Менску. Ён сцвярджаў, што «Менск ніколі не быў такім польскім горадам, як у 1916–1918 гг. Ён ператварыўся ў цэнтр польскай палітычнай думкі. Тут былі прадстаўлены палітыкі і грамадскія дзеячы ўсіх кірункаў як Каралеўства Польскага, так і крэсовых палякаў»[734].

Дарэчы, падчас аднаго з візітаў ва ўласны маёнтак Селішча на Піншчыне Асмалоўскі паабяцаў групе польскіх бежанцаў, якая спынілася побач з маёнткам, дапамагчы застацца ў гэтай мясцовасці. Дзеля гэтага ён звярнуўся да Рамана Скірмунта, які дапамог, і бежанцы ўладкаваліся ў маёнтку і ў вёсцы Селішчы[735]. Аднак у красавіку 1916 г. улады вырашылі адправіць іх далей на ўсход. Асмалоўскі зноў звярнуўся да Скірмунта. У выніку мясцовыя ўлады атрымалі тэлеграму ад менскага губернатара: «Прашу не кранаць бежанцаў з маёнтка Селішча палкоўніка Асмалоўскага». Уладальнік маёнтка ўспамінаў, што тэлеграма і ягонае «званне», якога, насамрэч, ён не меў, зрабілі надзвычай моцнае ўражанне на павятовую ўладу[736]. Яна больш не турбавала бежанцаў. А для нас важна адзначыць, што асоба Рамана Скірмунта была даволі ўплывовай у межах губерні.

Найбуйнейшай з польскіх дабрачынных арганізацый быў Цэнтральны грамадзянскі камітэт губерняў Каралеўства Польскага (ЦГК). Ён узнік у Варшаве ў верасні 1914 г. і першапачаткова грунтаваў сваю дзейнасць на ініцыятывах асобных грамадзян, а таксама польскіх грамадскіх, гаспадарчых і культурных арганізацый. У верасні 1915 г. галоўная сядзіба ЦГК знаходзілася ўжо ў Петраградзе. Дзейнасць Камітэта разгарнулася на тэрыторыі Менскай, Магілёўскай, Віцебскай, Чарнігаўскай, Смаленскай і Арлоўскай губ., а таксама неакупаванай часткі Віленскай губ. Камітэт імкнуўся забяспечыць бежанцаў харчаваннем, жытлом, крэдытамі, арганізаваць навучанне дзяцей і г. д. На Меншчыне разам з сябрамі камісій МТСГ яго супрацоўнікі складалі акты страт, панесеных гаспадаркамі ў выніку ваенных дзеянняў.

Расійскія ўлады прызналі Камітэт, хоць у адносінах да яго была відавочнай насцярожанасць бюракратыі. Магчыма, на такі стасунак паўплывала імкненне ЦГК спалучаць дабрачыннасць з актыўнай грамадскай і палітычнай пазіцыяй.

[732] *Гісторыя Беларусі ў шасці тамах.* Том 4, с. 445.
[733] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 187.
[734] BN. Dział mikroform. Akc. 6797. J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921.* T. 1, k. 14.
[735] Ibidem, k. 14.
[736] Ibidem, k. 18.

У ліпені 1915 г. па ініцыятыве ЦГК у Менску паўстаў Губернскі камітэт апекі над бежанцамі[737]. Першым паўнамочным прадстаўніком ЦГК у Менску быў Мар'ян Лютаслаўскі, якога пазней замяніў Адольф Сьвіда[738].

Вялікую ролю ў ратаванні бежанцаў таксама адыграла Польскае таварыства дапамогі ахвярам вайны (ПТДАВ). Менавіта з ім звязана дабрачынная актыўнасць тых палякаў, якія яшчэ да пачатку вайны пражывалі на беларуска-літоўска-украінскіх землях і ў Цэнтральнай Расіі. Найбольш актыўнымі былі мясцовыя землеўласнікі, інтэлігенцыя і духавенства. Таварыства ўзнікла ў Петраградзе напрыканцы жніўня 1914 г. Адным з яго ініцыятараў быў землеўласнік з Меншчыны Генрык Святціцкі. Паводле статута, ПТДАВ дазвалялася адкрыццё аддзелаў на ўсёй тэрыторыі Расіі. Ужо напрыканцы 1914 г. такія аддзелы дзейнічалі ў 86 гарадах, у т. л. у Менску і Вільні[739].

Менскі аддзел узнік у лістападзе 1914 г. (старшыня граф Ежы Чапскі) і меў каля 30 секцый па ўсёй губерні. Таксама варта адзначыць існаванне Санітарна-прадуктовай секцыі ПТДАВ (старшыня Баляслаў Ялавецкі), якая аказвала дапамогу тым бежанцам, якія рухаліся далей на ўсход. Паўнамоцным прадстаўніком гэтай секцыі ў Менскай, Магілёўскай і Віцебскай губ. быў Эдмунд Івашкевіч[740].

Важную ролю адыгрываў Польскі камітэт у Маскве, галоўнай задачай якога была арганізацыя дапамогі палякам, якіх прывёў сюды шлях бежанцаў. Ягоным арганізатарам стаў вядомы адвакат Аляксандр Лядніцкі.

Існаванне розных польскіх арганізацый актуалізавала задачу каардынацыі іх дзейнасці, тым больш, што паступова пачала праяўляцца пэўная канкурэнцыя паміж ЦГК і ПТДАВ. У жніўні 1915 г. па ініцыятыве А. Лядніцкага ў Маскве адбыўся Польскі з'езд, які абраў Раду з'ездаў польскіх арганізацый дапамогі ахвярам вайны. Старшынём Выканкаму Рады быў абраны А. Лядніцкі, а ягонымі намеснікамі – Г. Свянціцкі (ПТДАВ) і Е. Здзяхоўскі (ЦГК)[741]. Легалізацыя Рады наступіла ў лістападзе 1915 г. Такім чынам, быў створаны інстытут каардынацыі дзейнасці ўсіх польскіх арганізацый дапамогі бежанцам.

Аднак стварэнне такога каардынацыйнага цэнтра выклікала пратэсты з боку часткі беларускіх палякаў. Старшыня МТСГ Вайніловіч убачыў у гэтым імкненне стварыць нейкі «агульнапольскі ўрад» з прэтэнзіяй на кіраванне жыццём польскай супольнасці ад Менска да Уладзівастока. Узнавілася боязь краёўца і кансерватара, што падпарадкаванне рашэнням Рады, у якой выразна пераважалі прадстаўнікі дэмакратычнай часткі польскай грамадскасці і жыхары Каралеўства Польскага,

---

[737] M. Korzeniowski, M. Mądzik, D. Tarasiuk, *Tułaczy los. Uchodźcy polscy w imperium rosyjskim...*, s. 56.

[738] Ibidem, s. 57.

[739] Ibidem, s. 89.

[740] Ibidem, s. 91.

[741] Ibidem, s. 120–121.

абернецца для літоўскіх і беларускіх палякаў немагчымасцю адстойваць адметныя ад Польшчы інтарэсы Беларусі Літвы.

У сакавіку 1916 г. Вайніловіч прадставіў уласную пазіцыю падчас Менскага з’езда прадстаўнікоў польскіх арганізацый, якую праводзілі прыхільнікі ідэі цэнтралізацыі. Як ён прызнаваўся ва ўспамінах, ягоная крытыка «агульнапольскага ўрада» была вельмі рэзкай і выклікала абурэнне многіх прысутных. У падтрымку публічна выказаўся толькі Раман Скірмунт. Аднак аргументы двух краёўцаў усё ж паўплывалі на настрой з’езду, і падчас галасавання $^1/_3$ яго ўдзельнікаў не падтрымала «маскоўска-польскай канцэпцыі»[742].

Трэба адзначыць, што з’яўленне ў Менску шматлікіх прадстаўнікоў варшаўскай інтэлігенцыі і дзеячаў польскіх грамадскіх арганізацый істотна змяніла характар мясцовай польскай супольнасці. Да гэтага моманту ў масавай свядомасці жыхароў Меншчыны панавала перакананне ў тоеснасці «паляка» і землеўласніка. І сапраўды, тыя, хто не хаваў сваёй польскасці, звычайна належалі да сацыяльных вярхоў мясцовай грамадскасці. Між тым, сярод польскіх бежанцаў дамінавалі сяляне і рабочыя, а таксама прадстаўнікі інтэлігенцыі.

Для Эдварда Вайніловіча была непрымальнай арыентацыя большасці прышлых палякаў на агульнапольскія нацыянальныя інтарэсы. Іншай характэрнай рысай новай польскай супольнасці была перавага прыхільнікаў дэмакратычнай арыентацыі. А для варшаўскіх бежанцаў нечаканасцю быў выразны кансерватызм мясцовай польскай грамадскасці, арыентацыя яе значнай часткі на каштоўнасці часоў Рэчы Паспалітай абодвух народаў, а таксама на краёвую ідэалогію.

Дзеяч польскай эндэцыі Уладзіслаў Глінка, які ў гэты час знаходзіўся ў Менску, пазней у сваіх мемуарах з абурэннем пісаў, што польскія землеўласнікі ў Беларусі дабраахвотна адмаўляліся на карысць беларусаў ад палітычнага дамінавання і лідэрства. Пры гэтым беларусы характарызаваліся ім як «дзікі» і «варварскі народ»[743].

Відавочна, што бежанцы з Каралеўства Польскага, якія спыніліся на беларускіх землях, не разумелі спецыфікі мясцовых нацыянальных і сацыяльных адносін. Для іх гэта былі толькі «ўсходнія крэсы». Пра складанасць стасункаў паміж дзеячамі з Польшчы і элітай польскай грамадскасці Меншчыны таксама сведчаць успаміны Мячыслава Пароўскага, які, у прыватнасці, абвінавачваў Адольфа Сьвіду ў імкненні павучаць мясцовых дзеячаў[744].

У сутыкненні з «каroннай» Польшчай Раман Скірмунт заўсёды падтрымліваў Вайніловіча. Яны выдатна разумелі адзін аднаго, і нават пэўныя разыходжанні ў трактоўцы краёвай ідэі, якія праявіліся падчас стварэння Краёвай партыі

---

742 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 195.

743 Цытата паводле: M. Korzeniowski, M. Mądzik, D. Tarasiuk, *Tułaczy los. Uchodźcy polscy w imperium rosyjskim...*, s. 190.

744 ZNiO. Dział rękopisów. Sygn. 13542/II. M. Porowski, *Wspomnienia.1904–1918*, k. 102.

Літвы і Беларусі (1907), а таксама ў адносінах да беларускага руху, прынцыпова не паўплывалі на іх супрацоўніцтва і сяброўства. Найбольш яскрава яно праяўлялася ў сумеснай працы ў МТСГ. Раман Скірмунт як віцэ-старшыня ў 1907–1917 гг. заўсёды падтрымліваў канцэпцыю дзейнасці Таварыства, выпрацаваную Вайніловічам.

Дарэчы, увосень 1915 г. стала відавочнай надзвычай складаная гаспадарчая сітуацыя Менскай губ. і змрочныя перспектывы катастрофы з харчаваннем, у першую чаргу для гарадского насельніцтва губерні і асабліва жыхароў Менска. Сітуацыю пагаршалі бежанцы, сотні тысяч якіх рухаліся дарогамі Менскай губ., а таксама акупацыя нямецкімі войскамі часткі яе тэрыторыі і пераўтварэнне іншай часткі ў прыфрантавую зону. Колькасць насельніцтва Менска дасягала 200 тыс. чал. пры адначасным змяншэнні колькасці пастаяннага даваеннага насельніцтва з 110 тыс. да 50 тыс.[745] Гэты «прышлы элемент» надзвычай ускладняў жыццядзейнасць мясцовага насельніцтва і актуалізаваў праблему харчавання.

Напрыканцы 1915 г. на агульным сходзе МТСГ абмяркоўвалася праблема кампенсацый тых страт, якія панесла вёска ў выніку руху бежанцаў, а таксама падчас вайсковых рэквізіцый. Была створана Ліквідацыйная камісія, якая павінна была дапамагаць пацярпелым у атрыманні годнай кампенсацыі. У яе склад увайшлі Раман Скірмунт, Ежы Чапскі, Стэфан Ванькові, Адольф Сьвіда, Эдмунд Івашкевіч ды інш.

Прысутнасць на сходзе бежанцаў з Каралеўства Польскага парушыла адносна спакойны ход дыскусіі. А. Сьвіда выступіў з шэрагам абвінавачванняў у адрас кіраўніцтва МТСГ. Ён казаў пра экстэнсіўны характар земляробства ў губерні, адсутнасць іпатэкі, нежаданне мясцовых землеўласнікаў аблегчыць клопаты мясцовага люду, абмежаванасць земскага самакіравання, бясpraўны стан польскай мовы ды інш. Цікава, што нават аўтар інфармацыі пра гэты сход, змешчанай на старонках «Новага Кур'ера Літэўскага», не ўтрымаўся ад заўвагі, што прамоўца зусім не ведае ўмоў, у якіх існуе і дзейнічае мясцовая польская супольнасць[746].

Наступны агульны сход Таварыства, які меў справаздачна-выбарчы характар, адбыўся ў сакавіку 1916 г. Заканчвалася чарговая трохгадовая кадэнцыя кіраўнікоў МТСГ і ягонай Рады. Але напачатку схода зноў абмяркоўвалася праблема бежанцаў, менавіта іх працаўладкавання. Выступоўцы вельмі крытычна ацанілі магчымасці выкарыстання бежанцаў як працоўнай сілы і паставілі пытанне пра мэтазгоднасць пасяўных прац. Скірмунт у сваім выступленні заклікаў калег быць спагадлівымі да бежанцаў, бо «кожны з іх думае пра ўласны пакінуты дом, пра ўласную гаспадарку». Што да пытання пра мэтазгоднасць пасяўной, ён

[745] *Гісторыя Беларусі ў шасці тамах*. Том 4, с. 445.
[746] «Nowy Kurier Litewski». 1915, Nr 92.

быў катэгарычны: «Мы павінны сеяць. Гэта наш абавязак, наш доўг як доўг салдата – заставацца на сваім пасту да апошняй магчымасці»[747].

Чарговы раз Скірмунт казаў пра важны і адказны «пост», які нельга пакідаць. Відавочна, што вобраз салдата, які абараняе даручаны яму пост, адлюстроўваў ягоны жыццёвы прынцып.

Са справаздачай на сходзе выступіў Эдвард Вайніловіч, які, між іншым, паведаміў, што дакументы на прызнанне польскай мовы як афіцыйнай у дзейнасці МТСГ даўно накіраваны цэнтральным уладам, а ў апошнія дні ён сустракаўся ў Петраградзе з кіраўнікамі польскіх колаў у Дзяржаўнай Думе і Дзяржаўнай Радзе. Яны абяцалі сваю дапамогу, але прасілі пачакаць, бо спадзяюцца адмены ў бліжэйшы час ўсіх антыпольскіх абмежаванняў[748]. Выбары, дарэчы, прайшлі паспяхова для старога кіраўніцтва. Вайніловіч ізноў быў абраны на пасаду старшыні, а Раман Скірмунт захаваў пасаду віцэ-старшыні.

Актуальныя пытанні гаспадарчага жыцця Меншчыны таксама разглядаліся на сходах Менскага губернскага земства. Так, удзельнікі V сходу, які адбыўся на пачатку лютага 1916 г., засяродзілі сваю ўвагу менавіта на эканамічнай сітуацыі ў губерні і пагаршэнні матэрыяльнага дабрабыту яе насельніцтва. Наступствы з'яўлення бежанцаў, якія адыходзілі разам са сваім «жывым інвентаром», характарызаваліся як стыхійнае бедства.

Земцы канстатавалі, што ўлада фактычна ўхілілася ад вырашэння надзённых пытанняў побыту бежанцаў. Між тым, рэзка абвастрылася праблема харчавання і фуража. Не менш актуальным было таксама пытанне кампенсацыі за рэквізіцыі племяннной скаціны і высечку лесу дзеля патрэб войска.

Сход пастанавіў звярнуцца да вайсковых уладаў з запытам наконт атрымання пазыкі ў памеры 880 тыс. руб. дзеля арганізацыі дапамогі бежанцам. Было прынята рашэнне аб стварэнні павятовых Камісій па харчаванні, а таксама па нарыхтоўцы насення для пасяўной 1916 г. Напрыканцы сходу была створана Эвакуацыйная камісія па арганізацыі і каардынацыі дапамогі насельніцтву, у склад якой увайшлі Р. Скірмунт, Э. Вайніловіч, Ю. Свянціцкі, К. Дзямідэцкі-Дзямідовіч, граф Густаў Эмэрык Чапскі[749].

Скірмунт, як прадстаўнік Пінскага пав., таксама быў абраны ў губернскую Камісію па паліву і ў Камісію па выпрацоўцы «лясной таксы». У апошнім выпадку гаворка ішла пра памеры кампенсацыі, якую павінны былі атрымаць уладальнікі лесу за страты «по военных обстоятельствах». Па выніках абмеркавання сход абраў Рамана Скірмунта сваім паўнамоцным прадстаўніком на нарадзе ў Стаўцы

[747] *Журнал общего собрания Минского сельскохозяйственного общества. Мартовские собрания.* Минск 1916, с. 18.

[748] «Nowy Kurier Litewski». 1916, Nr 71.

[749] *Журналы Пятого очередного Минского губернского земского собрания. Сессия 1–7 февраля 1916 г.* Минск 1916, с. 74.

Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, прысвечанай пытанню кампенсацыі страт, выкліканых вайной. У апошні дзень працы сходу Скірмунта таксама абралі ў склад Рэвізійнай камісіі.

Гэты сход паказаў, што ва ўмовах набліжэння фронту і з'яўлення шэрагу новых «выклікаў», якімі былі праблема бежанцаў з усімі выцякаючымі наступствамі, праблема харчавання, кампенсацыі страт прыватных гаспадарак і г. д. роля Рамана Скірмунта ў дзейнасці земства яшчэ больш вырасла.

Аднак у матэрыялах наступных чарговых і надзвычайных сходаў губернскага земства імя Рамана Скірмунта ўжо не фігуравала. Падобна на тое, што ён цалкам засяродзіўся на новых для сябе абавязках Упаўнаважанага Асобнай нарады па харчовых мерапрыемствах і кіраўніка губернскай Харчовай камісіі.

Асобная нарада па харчовай справе была створана па ініцыятыве ваеннага міністра Паліванава ў жніўні 1915 г. Яе галоўнымі задачамі былі забеспячэнне арміі прадуктамі харчавання і фуражом, а таксама барацьба з ростам цэн на прадукты. Урад змагаўся з дэзарганізацыяй вытворчасці і гандлю шляхам бюракратычнага рэгулявання.

Дзеля вырашэння пастаўленых задач старшыня Асобнай нарады (міністр земляробства) атрымаў даволі шырокія паўнамоцтвы. Фактычна, ён кіраваў усёй «харчовай справай» Расіі па-за тэатрам ваенных дзеянняў. Праз сваіх упаўнаважаных, губернатараў ды інш. набываў харчаванне і фураж для насельніцтва, рэгуляваў гандаль і цэны, меў права рэквізіцый і канфіскацый, прызначэння «цвёрдых» цэн або ўстанаўлення г. зв. «таксы».

На месцах былі створаны інстытуты упаўнаважаных Старшыні Асобнай нарады, якія з'яўляліся галоўнымі выканаўчымі органамі. Пра значэнне гэтага органа сведчыць ужо той факт, што з агульнай колькасці 67 упаўнаважаных 35 былі губернатарамі, 18 узначальвалі губернскія земствы, 8 былі членамі Дзяржаўнай Рады або Дзяржаўнай Думы, яшчэ чацвёра займалі пасаду граданачальнікаў[750].

У Менскай губ. пасаду Упаўнаважанага «Асобнай нарады для абмеркавання і аб'яднання мерапрыемстваў па харчовай справе ў Менскай губ, а таксама ў Вілейскім і Ашмянскім пав. Віленскай губ.» займаў старшыня Менскай губернскай земскай управы Самойленка. Ягоным намеснікам быў Раман Скірмунт.

Першыя знойдзеныя распараджэнні Упаўнаважанага, датаваныя снежнем 1915 г., былі падпісаны Самойленкам. Але, пачынаючы са студзеня 1916 г., абавязкі Упаўнаважанага выконваў ужо Скірмунт. З гэтага часу і да лютаўскіх падзей рэвалюцыі 1917 г. менавіта ён заставаўся рэальным Упаўнаважаным, бо Самойленка быў заняты іншымі важнымі абавязкамі. На афіцыйных бланках

---

[750] Н. Кондратьев, *Рынок хлебов и его регулирование во время войны и революции. 1914–1919*. Москва 1991. Рэжым доступу: http://istmat.info/node/25336. Дата доступу: 26. 12. 2015.

Упаўнаважанага, падпісаных Скірмунтам, перад пасадай стаіць нахіленая лінія або ўстаўлены злучнік «за».

Да ягоных абавязкаў належала высвятленне колькасці прадуктаў, неабходных для забеспячэння патрэб мясцовага насельніцтва, веданне рынку, дастаўка прадметаў першай неабходнасці, стварэнне на месцы запасаў харчавання, у выпадку неабходнасці размеркаванне гэтых запасаў ды інш. Дзеля гэтага Упаўнаважаны меў права звяртацца да мясцовых дзяржаўных установаў, грамадскіх арганізацый і прыватных асоб, хадайнічаць перад Старшынём Асобнай нарады па пытаннях рэквізіцыі скаціны, харчавання і фуража, забароны іх вывазу па-за межы губерні, заняцця памяшканняў для захоўвання прадуктаў ды інш. Дарадчы характар Асобнай нарады, а таксама шматлікія бюракратычныя перашкоды істотна зніжалі эфектыўнасць многіх рашэнняў Упаўнаважанага. Фактычна, і ён, і Губернская харчовая камісія маглі абаперціся толькі на тыя фінансы, якія выдзяляліся дзяржавай для іх дзейнасці, а таксама на прадастаўленыя вагоны дзеля дастаўкі неабходных для жыццядзейнасці грузаў. Пастаянна ўзнікалі праблемы, якія даводзілася вырашаць шляхам вялікіх асабістых намаганняў.

Дакументы архіўных фондаў Земгора, Менскага губернскага земства, Упаўнаважанага Старшыні Асобнай нарады і Менскай губернскай харчовай камісіі, якія захаваліся ў сховішчах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Менску, сведчаць, што са студзеня 1916 г. менавіта Скірмунт займаўся каардынацыяй дзейнасці па забеспячэнні харчаваннем насельніцтва Менскай губ., а з лета 1916 г. таксама і неакупаваных частак Віленскай губ. (Вілейскі і Ашмянскі пав.). Гэта, безумоўна, сведчыла як пра эфектыўнасць ягонай працы, так і пра той вялізны аўтарытэт, што ён здабыў ранейшай грамадскай і гаспадарчай дзейнасцю на Меншчыне. Гэта быў чарговы адказны «пост» грамадзяніна Краю Рамана Скірмунта. Дарэчы, гэтую ж дзейнасць ён працягваў і пасля пачатку Расійскай рэвалюцыі. Толькі захоп улады партыяй бальшавікоў у кастрычніку 1917 г. перапыніў ягоную працу па прадухіленні голада ў Менску і губерні.

Самы ранні знойдзены ў архіве ліст за подпісам Р. Скірмунта як Упаўнаважанага датаваны 16 студзеня 1916 г. У гэты дзень ён звярнуўся з запытам да кіраўніцтва Лібава-Роменскай чыгункі, каб даведацца, на якіх чыгуначных станцыях Менскай губ. прадуктовыя склады і пакгаузы запоўнены прадуктамі? Паколькі адказ затрымліваўся, праз 10 дзён быў накіраваны паўторны ліст з просьбай прысланць патрэбную інфармацыю[751].

Сярод захаванай перапіскі фігуруе, напрыклад, адпраўка селядцоў з Астрахані для насельніцтва Наваградскага і Менскага пав., дастаўка вагонаў калёснай мазі з Харкава, адпраўка вагонаў пшанічнай і жытняй мукі, вотруб'я са станцыі Умань ды інш.

Скірмунт пісаў лісты, высылаў тэлеграмы з пазнакай «по военным обстоятель-

---

[751] НГАБ. Ф. 1170, воп. 1, спр. 3, арк. 16.

ствам», а таксама дакументы на пагрузку прадуктаў і іх дастаўку ў Менск, выязджаў у камандзіроўкі, каб на месцы вырашаць найбольш складаныя пытанні і г. д.[752] Пра ягоную актыўнасць, між іншым, сведчыць тое, што тэлеграма, адпраўленая па адрасе: «г. Минск, Скирмунту», знайшла адрасата[753].


[illegible] 56
Сегодня получил полный отказ
Бычка [illegible] выполнить наряд [illegible]
[illegible] Исключительно прошу [illegible]
[illegible] другим районам снабжения
или [illegible] другим продуктом
[illegible]
районы для [illegible] водного
пути [illegible] Полная [illegible]
[illegible] районов снабжения вызывает
[illegible]
[illegible] доверие [illegible]
[illegible]
[illegible] Скирмунт

*Запіска Р. Скірмунта як упаўнаважанага Асобнай нарады па харчовай справе (1916).*

Упаўнаважаны таксама займаўся рэквізіцыямі прадуктаў, якія належалі прыватным гандлярам і маглі быць выкарыстаны ў спекулятыўных мэтах. Рэквізаваныя прадукты па ягоным загадзе накіроўваліся павятовым земствам, якія мелі найбольшую патрэбу. Праўда, працэдура была даволі складанай, бо спачатку трэба было атрымаць дазвол Старшыні Асобнай нарады. Затрымка з дазволам стварала магчымасці для гандляроў пазбегнуць рэквізіцый. Даведаўшыся пра існуючую пагрозу, яны імкнуліся як найхутчэй прадаць прадукты, дамаўляліся з кіраўніцтвам чыгункі, каб тая не спяшалася адпраўляць іх грузы паводле распараджэнняў Упаўнаважанага. У красавіку 1916 г. на «рэквізіцыйных» тэлеграмах Скірмунта з'явіўся пагрозлівы надпіс: «За всякое промедление начальник станции несет полную ответственность»[754]. Таксама здараліся выпадкі, калі земствы перадавалі атрыманыя прадукты іншым прыватным гандлярам.

Але Скірмунт не здаваўся. Дзеля барацьбы са спекуляцыяй ён прапанаваў праводзіць рэквізіцыю «залежалых» прадуктовых грузаў без папярэдняга хадайнічання. Дазвол Старшыні Асобнай нарады быў атрыманы. Ён распаўсюджваўся на Лібава-Роменскую і Александраўскую чыгункі[755]. Раман Скірмунт актыўна ім карыстаўся. Так, «дзеля патрэб насельніцтва» ў маі 1916 г. былі рэквізаваны два вагоны пшанічнай мукі на станцыі Рудэнск, у ліпені – тры вагоны

[752] НГАБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 982, арк. 21, 48, 52–53, 58, 68, 70, 161, 360 ды інш.
[753] Тамсама, арк. 87.
[754] Тамсама. Ф. 1170, воп. 1, спр. 3. арк. 83.
[755] Тамсама, арк. 13–13 адв.

цукру на ст. Гарынь, у лістападзе – два вагоны пшанічнай мукі на ст. Барысаў[756] ды інш. Гандляры атрымлівалі кампенсацыю паводле «цвёрдых» цэн.

Пры гэтым Упаўнаважаны Скірмунт выдатна разумеў важнасць прыватнай ініцыятывы ў забеспячэнні насельніцтва харчаваннем. Так, у студзені 1917 г. ён выказваў занепакоенасць, што змяншэнне колькасці вагонаў, якія паступалі ў распараджэнне Упаўнаважанага, пагражае дзейнасці якраз прыватных гандляроў[757].

Пры ўдзеле Упаўнаважанага, а таксама губернскага земства ў лістападзе 1915 г. была створана Губернская харчовая камісія ў складзе сяброў губернскай земскай управы, прадстаўнікоў павятовых земстваў, Упаўнаважанага Асобнай нарады ды інш. Яна таксама з'яўлялася дарадчай установай, галоўнай задачай якой было забеспячэнне насельніцтва Менскай губ. харчаваннем, закупка прадуктаў, іх размеркаванне паміж паветамі, а таксама барацьба супраць росту цэн.

Стварэнне Губернскай харчовай камісіі, якая адыграла адну з галоўных роляў у забеспячэнні харчаваннем жыхароў Менска і губерні, сведчыць пра пэўны хаос у «харчовай палітыцы» і адсутнасць адзінай сістэмы органаў забеспячэння прадуктамі харчавання. Аднак у Менскай губ. гэтая праблема не існавала, бо на чале Камісіі стаяў Раман Скірмунт, які адначасна выконваў абавязкі Упаўнаважанага Асобнай нарады. У ягонай асобе адбылося аб'яднанне розных арганізацый, што гарантавала каардынацыю іх дзейнасці.

Камісія працавала як пастаянная, збіраючыся двойчы на тыдзень. Апрача ўласна харчовай, даводзілася вырашаць іншыя праблемы, звязаныя з забеспячэннем жыццядзейнасці цывільнага насельніцтва губерні. Да таго ж, на яе сходах папярэдне абмяркоўваліся пытанні, якія потым разглядаліся на пасяджэннях Мясцовай нарады пры Упаўнаважаным.

З кастрычніка 1916 г. у складзе Харчовай камісіі працаваў славуты беларускі паэт і дзеяч нацыянальнага Адраджэння Максім Багдановіч (1891–1917), які ў гэты час прыехаў у Менск. Ён адразу далучыўся да дзейнасці Менскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны. У Харчовай камісіі Багдановіч знаходзіўся на пасадзе «загадчыка выпрацоўкі такс»[758], г. зн., што ягоная дзейнасць датычыла барацьбы са спекуляцыяй шляхам устанаўлення «цвёрдых» цэн. Адначасна ён выконваў абавязкі сакратара ў Губернскай харчовай камісіі і Мясцовай нарадзе пры Упаўнаважаным.

У студзені 1917 г. сакратар Багдановіч падрыхтаваў Агляд дзейнасці Губернскай харчовай камісіі[759]. У гэтым Аглядзе ён, між іншым, падкрэсліў, што Харчовая

---

[756] Тамсама, арк. 120, 225

[757] Тамсама, спр. 2, арк. 105.

[758] Тамсама, спр. 126, арк. 295.

[759] *Обзор деятельности Минской губернской продовольственной комиссии по 1 января 1917 г.* (у:) М. Багдановіч, *Поўны збор твораў.* Т. III. Рэд. У. М. Конан. Мінск 2001, с. 206–

камісія, як і Мясцовая нарада пры Упаўнаважаным, з'яўляліся дарадчымі ўстановамі, адпаведна, іх рашэнні не былі абавязковымі для Упаўнаважанага. Аднак, як адзначаў Багдановіч, не было аніводнага выпадку, каб Скірмунт праігнараваў іх пазіцыю і пастановы[760].

Максім Багдановіч адзначыў намаганні Камісіі па арганізацыі сеткі складоў і яе імкненне абаперціся на гандляроў, якія мелі фінансавую зацікаўленасць і знаходзіліся пад кантролем Камісіі. Таксама згадвалася супрацоўніцтва з мясцовымі кааператывамі, якія атрымлівалі пэўныя ільготы, у т. л. звязаныя з перавозкай прадуктаў па чыгунцы ды інш. Паводле Багдановіча, Скірмунт актыўна падтрымліваў гэтае супрацоўніцтва, якое, аднак, не было плённым па прычыне нізкага ўзроўню развіцця кааперацыі ў губерні.

Першапачаткова сродкі, якія магла выкарыстаць Харчовая камісія, складаліся з 800 тыс. руб. займу, які выдзяліла Ваеннае міністэрства, а таксама 900 тыс. руб., атрыманых губернскім земствам ад Міністэрства ўнутраных спраў на забеспячэнне патрэб у фуражу для скаціны і свойскай жывёлы. Гэтыя грошы таксама былі перададзены Харчовай камісіі. Аднак ужо ў сакавіку 1916 г. Ваеннае міністэрства запатрабавала вяртання сродкаў, частка з якіх ужо была выкарыстана. Давялося паўторна звяртацца да Міністэрства унутраных спраў, якое, аднак, з запрошаных 800 тыс. руб. знайшло магчымасць вылучыць толькі 400 тыс. тэрмінам на 9 месяцаў.

Багдановіч, які дэталёва ахарактарызаваў фінансавую сітуацыю Харчовай камісіі, адразу заўважыў, што нават гэтыя «сціплыя сродкі» часта было складана выкарыстаць з прычыны шматлікіх перашкод, што ўзнікалі падчас набыцця і дастаўкі прадуктаў.

Пры гэтым галоўныя праблемы былі звязаны з забаронамі вывазу прадуктаў па-за межы пэўных рэгіёнаў і дэзарганізацыяй працы чыгуначнага транспарту. На пасяджэнні Камісіі 18 сакавіка 1916 г. было вырашана хадайнічаць перад кіраўніцтвам Асобнай нарады па харчаванні наконт вызвалення закупак Менскай губернскай харчовай камісіі ад забарон на вываз. Аднак хадайніцтва было адхілена.

Між тым, існуючыя забароны парушалі нават планавыя пастаўкі харчавання з запасаў самой Асобнай нарады. Так, даволі доўга ішла перапіска наконт атрымання з Херсонскай губ. запланаваных для Меншчыны на лістапад-снежань 1916 г. 500 тыс. пудоў жыта. Упаўнаважаны Асобнай нарады па харчаванні Херсонскай губ. гофмайстар Гербель катэгарычна адмовіўся выканаць гэтыя

231. У 1917 г. «Обзор» быў выдадзены ў выглядзе брашуры. Аўтар не быў пазначаны. Аўтарства М. Багдановіча ўстанавіў беларускі даследчык Віталь Скалабан у артыкуле «В это суровое и важное время: Максим Багданович в Минске» («Неман». 1981, № 12).

[760] *Обзор деятельности Минской губернской продовольственной комиссии...*, с. 211. У тэксце апублікаванага Агляду відавочная памылка. Так, замест слоў: «и вошёл в комиссию с постановлениями» трэба чытаць: «и вошёл в конфликт с постановлениями».

пастаўкі. Умяшальніцтва Петраграда нічога не змяніла. Толькі шляхам асабістых намаганняў аднаго з «агентаў» Менскай харчовай камісіі, камандзіраваных на поўдзень, з Херсонскай губ. у Менск было адпраўлена 50 тыс. пудоў жыта[761]. Зразумела, што падобнае вырашэнне праблемы паставак перакрэслівала ўсе спробы планавай дзейнасці.

Наогул, з пачаткам зімы 1916 г. сітуацыя з забеспячэннем гарадскога насельніцтва хлебам рэзка пагоршылася. 3 снежня на пасяджэнні Мясцовай нарады пры Упаўнаважаным К. Гардзялкоўскі назваў сітуацыю з пастаўкамі мукі ў горад «катастрафічнай», бо пры штомесячнай патрэбе ў 200 вагонаў мукі ў снежні горад павінен быў атрымаць толькі 6 вагонаў. Скірмунт распавёў пра намаганні ў забеспячэнні губерні хлебам, назваў «маруднымі» дзеянні менскага гарадскога самакіравання і звярнуў асаблівую ўвагу на транспартную праблему і адсутнасць каардынацыі ў дзеяннях цывільных і вайсковых уладаў: «Нам даюць хлеб там, дзе няма вагонаў, а там, дзе ёсць вагоны, вываз хлеба забаронены».

Было вырашана тэрмінова звярнуцца да кіраўніцтва вайсковага забеспячэння дзеля вырашэння транспартнай праблемы і атрымання займу ў 700 тыс. руб.[762]. Намаганні прынеслі плён. 20 снежня 1916 г. на пасяджэнні Мясцовай нарады Скірмунт заявіў, што насельніцтва губерні забяспечана жытняй мукой. Атрымалася арганізаваць яе пастаўкі з Херсонскай, Таўрычаскай і Кіеўскай губ.[763]

Даволі часта Харчовая камісія сутыкалася таксама з праблемай адсутнасці вагонаў для дастаўкі закупленых прадуктаў. Да таго ж, планавая колькасць вагонаў на працягу 1916 г. штомесяц змяншалася. Узнікалі праблемы нават з пастаўкамі прадуктаў з дзяржаўных запасаў, дзе, як здавалася, ужо ніякі гофмайстар не мог чыніць перашкод. Напрыклад, надзвычай складаным аказалася забяспечыць насельніцтва губерні танным цукрам. Дарэчы, прыватныя гандляры знаходзілі яго без асаблівых праблем і прадавалі па завышаных цэнах. Толькі ўвосень 1916 г. намаганні Камісіі далі пазітыўны эфект. Вялікую ролю ў гэтым адыграла паездка Рамана Скірмунта і Канстанціна Гардзялкоўскага ў Кіеў і ўвядзенне пасады адмысловага «агента» для нагляду за пастаўкамі цукру з Украіны.

Цалкам іншая праблема ўзнікла з пастаўкамі семяннога аўса. Харчовы аддзел МУС адправіў у Менскую губ. значна больш аўса, чым было патрэбна. У выніку на станцыях Рэчыца і Хойнікі сабралася да 300 вагонаў ізлішкаў семяннога аўса[764].

Усе гэтыя ды іншыя праблемы павінен быў вырашаць Раман Скірмунт як кіраўнік Харчовай камісіі і фактычны Упаўнаважаны Асобнай нарады па харчовых справах. Безумоўна, без стварэння сеткі вопытных супрацоўнікаў яны былі

---

761 Тамсама, с. 218.

762 НГАБ. Ф. 1170, воп. 1, спр. 2, арк. 46–48.

763 Тамсама, арк. 87–91.

764 *Обзор деятельности Минской губернской продовольственной комиссии...*, с. 216–217.

невырашальнымі. Такія кадры знайшліся. Багдановіч прыгадваў актыўную дзейнасць аграномa Некляпаева, А. К. Гаворкі, А. А. Гутаровіча, Канстанцінаўскага, прысяжнага паверанага Паніквіцкага ды інш.[765] Іх праца ў сукупнасці з энергіяй і ініцыятывай Скірмунта дазваляла Харчовай камісіі вырашаць самыя складаныя задачы.

Максім Багдановіч у згаданым Аглядзе падкрэсліў, што на 1 студзеня 1917 г. грашовыя сродкі Харчовай камісіі пракруціліся амаль 4 разы (!). І гэта ў сітуацыі, калі часта даводзілася ствараць запасы харчу і стрымлівацца ад хуткага яго продажу. Найбольшыя сумы пайшлі на набыццё цукру, жытняй і пшанічнай мукі, а таксама крупаў, рыбы, алею і сала. Таксама вялікія сродкі вылучаліся на набыццё фуража ды іншых кармоў[766].

Значнае месца ў дзейнасці Упаўнаважанага Асобнай нарады і кіраўніка Харчовай камісіі займала барацьба з ростам цэн. Калі не зрываліся пастаўкі, то цэны атрымлівалася «збіваць», выпускаючы на рынак буйныя партыі прадуктаў па нізкіх цэнах. У сітуацыі дэфіцыту даводзілася ўводзіць «цвёрдыя» цэны («издание такс»).

Непасрэднае дачыненне да цэнаўтварэння меў Максім Багдановіч. Працэдура выглядала наступным чынам: спачатку цэны абмяркоўваліся на пасяджэнні Харчовай камісіі, потым – у Мясцовай нарадзе пры Упаўнаважаным, а пасля адабрэння накіроўваліся на зацвярджэнне губернатару. Упершыню праблема «таксы» паўстала ў маі 1916 г. Зыходнай пазіцыяй былі праекты мясцовага земскага і гарадскога самакіравання. У абмеркаванні таксама ўдзельнічалі спецыялісты па вытворчасці таго або іншага «прадукта» і прадстаўнікі мясцовасцяў, дзе планавалася ўвядзенне «цвёрдых» цэнаў. Улічваліся сабекошт прадукцыі, кошт выдаткаў на транспарціроўку тавараў і прадуктаў, звычайны адсотак гандлёвага прыбытку ды інш. Усё, што гандляры маглі атрымаць звыш устаноўленай «таксы» лічылася спекулятыўным прыбыткам.

У выніку шэрагу пасяджэнняў са жніўня па кастрычнік 1916 г. былі ўстаноўлены «цвёрдыя» цэны на большасць прадуктаў і тавараў першай неабходнасці на тэрыторыі ўсёй губерні. Асабліва старанна выпрацоўвалася «такса» на жыта. Захаваныя журналы Мясцовай нарады пры Упаўнаважаным па харчаванні Менскай губ. сведчаць пра актыўную ролю Скірмунта ў правядзенні цэнавай палітыкі. Так, галоўным пытаннем пасяджэння 8 жніўня 1916 г. было ўстанаўленне «цвёрдых» цэн на жыта, авёс і ячмень. Агранамічная секцыя МТСГ прапанавала максімальную цану за 1 пуд жыта ў памеры 1,75 руб. Улады Менска настойвалі на 1,50 руб. Пасля гарачай дыскусіі ўдзельнікі пасяджэння пагадзіліся на 1,65 руб. Цана 1 пуда аўса была ўстаноўлена ў памеры 2,00 руб., а пуд ячменю каштаваў –

765 Тамсама, с. 219.
766 Тамсама, с. 219–227.

1,60 руб. Трэба адзначыць, што падчас дыскусіі Скірмунт прапанаваў уласны варыянт цаны, які ў выпадку жыта на 1 капейку перавышаў прапанову МТСГ.

Прадстаўнік менскіх уладаў таксама прапанаваў павысіць «цвёрдую» цану на муку, што павінна было, на яго думку, спрыяць павялічэнню запасаў мукі ў горадзе. Скірмунт не пагадзіўся і прапанаваў пачакаць 10 дзён, каб стабілізаваўся рынак пасля прынятых рашэнняў. Удзельнікі нарады прынялі яго прапанову[767]. Дарэчы, Пінскі пав. на гэтым пасяджэнні прадстаўляў падпалкоўнік Е. Асмалоўскі, які ў 1919 г. будзе прызначаны Пілсудскім на пасаду Генеральнага камісара Усходніх земляў. Важна адзначыць, што нягледзячы на выразныя сімпатыі да сацыялдэмакратаў, ён падтрымліваў блізкія адносіны з Раманам Скірмунтам.

На пасяджэнні Мясцовай нарады пры Упаўнаважаным 15 лістапада 1916 г. абмяркоўвалася сітуацыя з забеспячэннем менскага насельніцтва дровамі. Сябра Харчовай камісіі М. Доўнар-Запольскі (не блытаць з вядомым гісторыкам!) прэзентаваў пазіцыю Камісіі, якая прапанавала ўзняць цану за нарыхтоўку, перавоз і ўкладку 1 м$^3$ дроў да 24 руб. Таксама менскія ўлады збіраліся ўзняць «цвёрдыя» цэны на розныя гатункі мяса. Скірмунт быў супраць. Ён нагадаў, што, калі зацвярджаліся існуючыя цэны, прадстаўнікі Менска заяўлялі, што яны не зменяцца на працягу ўсёй зімы. Таксама, на думку Скірмунта, павышэнне цаны на дровы не можа гарантаваць адсутнасці «дравяного голаду». У выніку галасавання прапанова Харчовай камісіі была адхілена[768].

Аднак, паводле прызнання самога «загадчыка выпрацоўкі такс» Багдановіча, «цвёрдыя» цэны не апраўдвалі надзей. Асноўнай прычынай была адсутнасць у Харчовай камісіі і Упаўнаважанага дастатковага запасу прадуктаў, на якія ўстанаўлівалася «такса». Без гэтага «цвёрдыя» цэны абарочваліся знікненнем некаторых тавараў/прадуктаў і наступнага іх продажу ўжо па спекулятыўных цэнах. Да таго ж пры фарміраванні «таксы» даводзілася арыентавацца на афіцыйныя дадзеныя цэны транспарціроўкі ды інш. Насамрэч, гандляры часта былі вымушаны набываць прадукты і перавозіць іх са значнай надбаўкай.

Скірмунт спрабаваў выкарыстаць таксама іншыя сродкі ў барацьбе з дарагавізнай, аднак губернатар не падтрымаў яго хадайніцтва пра забарону вывозіць пэўныя віды прадукты па-за межы Менскай губ., а магчымасці рэквізіцый, якімі валодаў Упаўнаважаны, як ужо згадвалася, былі моцна абмежаваны[769].

Запісы журналаў Менскай губернскай харчовай камісіі за студзень-люты 1917 г. сведчаць пра складанасць сітуацыі з забеспячэннем насельніцтва Менскай губ. харчам і пра вялікія намаганні сяброў Камісіі. Так, напрыклад, на пасяджэнні 20 студзеня Скірмунт казаў пра надзвычай складаную сітуацыю з забеспячэннем

---

767 Тамсама, спр. 1, арк. 3–5.

768 Тамсама, спр. 2, арк. 1–3.

769 *Обзор деятельности Минской губернской продовольственной комиссии...*, с. 228–230.

вагонамі[770]. Пасяджэнне 31 студзеня ўпершыню вёў Самойленка. Ягонае з'яўленне было абумоўлена падрыхтоўкай да прыезду ў Менск міністра земляробства, якому неабходна было прадставіць поўную карціну патрэб губерні ў харчаванні[771]. 3 лютага Скірмунт узняў праблему забеспячэння губерні хлебам, бо Курская і Кіеўская губ. сарвалі планаваныя пастаўкі мукі[772]. 21 лютага гаворка ішла пра адсутнасць плана чыгуначных перавозак на сакавік[773] і г. д.

У гэты ж дзень разглядалася прашэнне сакратара Камісіі Максіма Багдановіча пра адпачынак дзеля выздараўлення і пра адпаведную фінансавую дапамогу. Сакратар Камісіі атрымаў двухмесячны адпачынак з захаваннем зарплаты і яшчэ 200 руб. на лячэнне[774]. Максім Багдановіч паехаў у Ялту, адкуль ужо не вярнуўся…

Апошняе пасяджэнне Губернскай харчовай камісіі адбылося 1 сакавіка. Галоўным пытаннем быў разгляд хадайніцтва гарадскіх уладаў Слуцка і Бабруйска пра павышэнне цэн на ўсе хлебныя прадукты. Хадайніцтва было адхілена. Скірмунт лічыў непажаданым змяняць умовы жыцця ў асобных гарадах Менскай губ. Ён заявіў пра неабходнасць «прыкладаць усе намаганні дзеля сумеснай працы гарадскіх і павятовых земскіх упраў»[775].

Гэтае імкненне да супольных намаганняў, да пэўнага яднання ў агульнай справе было характэрным для усёй дзейнасці Рамана Скірмунта, якой бы галіны яна не датычыла.

### *Польская супольнасць Менска*

Разам з наплывам бежанцаў з Каралеўства Польскага знікла ранейшае адзінства польскай супольнасці Меншчыны. Вайніловіч і Скірмунт па-ранейшаму карысталіся вялікім аўтарытэтам, але ўсё часцей на першы план выходзілі іншыя людзі. Іх погляды адлюстроўваліся на старонках штодзённай польскай газеты «Новы Кур'ер Літэўскі», якая пачала выходзіць у Менску ў жніўні 1915 г. Ініцыятарам выдання быў вядомы прадстаўнік ПДНП Юзаф Хласка, а рэдактарам і выдаўцом – Казімір Прухнік.

Ва ўступным рэдакцыйным артыкуле першага нумара газеты абвяшчалася, што яна з'яўляецца пераемніцай віленскага «Кур'ера Літэўскага». Рэдакцыя выказвала надзею, што палякаў з'ядноўваюць агульнанацыянальныя інтарэсы: «Будучыня нацыі, умовы яе далейшага існавання – гэта праблема, дзеля вырашэння якой кожны з нас гатовы забыць пра асабістыя цяжкасці [...]».

Змешчаны ў гэтым жа нумары Зварот з'езду польскіх таварystваў дапамогі

770 НГАБ. Ф. 137, воп. 1, спр. 36, арк. 6.
771 Тамсама, арк. 1.
772 Тамсама, арк. 15.
773 Тамсама, арк. 18.
774 Тамсама, арк. 19.
775 Тамсама, арк. 22.

ахвярам вайны (Масква, жнівень 1915 г.) патрабаваў кардынальных змен у характары польска-расійскіх адносін. Пазіцыя польскай супольнасці ў стасунку да расійскіх уладаў станавілася ўсё больш патрабавальнай. Апошняе праяўлялася ў рэгулярных паведамленнях пра выступленні дэпутатаў-палякаў у Дзяржаўнай Думе і Дзяржаўнай Радзе, у якіх ўздымалася пытанне пра адмену ўсіх антыпольскіх абмежаванняў[776]. Газета звяртала ўвагу ўладаў на неабходнасць адкрыцця польскіх школ для дзяцей бежанцаў з Каралеўства Польскага[777].

Адначасна Юзаф Хласка выступіў з крытыкай праграмы Прагрэсіўнага блока. Ён адзначыў «адсутнасць яснасці» ў раздзелах, якія датычылі правоў нярускіх народаў імперыі. Адносна палякаў у праграме сцвярджалася неабходнасць ліквідацыі антыпольскіх абмежаванняў і перагляд заканадаўства, што датычыла польскага землеўладання. Для «Новага Кур’ера» гэтага ўжо было недастаткова[778].

Беларускі рух на старонках газеты трактаваўся як «антыпольская інтрыга», арганізаваная спачатку расійскімі ўладамі, а пазней – нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй[779]. Пры гэтым кіраўнікі беларускага руху характарызаваліся як «палякі-перабежчыкі», якія змагаюцца з праявамі польскасці. Погляд «Новага Кур’ера Літэўскага» амаль не адрозніваўся ад віленскага «Кур’ера Літэўскага», які, напрыклад, яшчэ ў кастрычніку 1914 г. абвінавачваў у паланафобіі княгіню Марыю Магдалену Радзівіл[780].

«Новы Кур’ер» разглядаў «польскае пытанне» як агульнапольскую з’яву, не звяртаючы ўвагі на яго асаблівасці ў Беларусі і Літве. Тыповай была рэакцыя на заяву князя Г. Друцкага-Любецкага, выкліканую чуткамі пра магчымасць расійска-германскай сепаратнай мірнай дамовы. Князь пратэставаў супраць верагоднага ў гэтым выпадку падзелу беларускіх земляў. Рэдакцыя суправадзіла змест яго выступлення ўласнай заўвагай, у якой асудзіла праяву «тутэйшага патрыятызму»[781].

Паступова на старонках выдання пачала з’яўляцца інфармацыя пра пэўныя крокі нямецкіх улад насустрач патрабаванням польскай грамадскасці акупаваных земляў[782]. Звычайна гэтыя згадкі суправаджаліся заўвагамі наконт «крыжацкай» небяспекі. У ліпені 1916 г. газета надрукавала заяву расійскага МУС, якая рэзка асуджала тых палякаў, якія «схіляюцца да аўстра-нямецкай пазіцыі»[783]. Ужо ў наступным нумары з’явіўся адказ, напісаны кіраўніком Польскага камітэту ў Маскве А. Лядніцкім. Аўтар звяртаў увагу на тое, што «польскае пытанне» ў расійскай палітыцы стаіць на «мёртвай кропцы». Між тым, даўно наспела не-

---

776 «Nowy Kurier Litewski». 1915, Nr 12, 19, 24, 25, 26, 28, 37, 114.
777 Ibidem. 1915, Nr 38.
778 Ibidem. 1915, Nr 8.
779 Ibidem. 1915, Nr 85, 199, 350.
780 «Kurier Litewski». 1914, Nr 210.
781 «Nowy Kurier Litewski». 1916, Nr 308.
782 Ibidem. 1916, Nr 112, 202.
783 Ibidem. 1916, Nr 186.

абходнасць не толькі зліквідаваць усе абмежаванні, але таксама пацвердзіць «правы палякаў на свабоднае нацыянальнае існаванне і эканамічнае адраджэнне, як гэта зрабіла антынямецкая кааліцыя адносна бельгійцаў і сербаў»[784].

Аднак рэакцыя «Новага Кур'ера» на Маніфест ад 5 лістапада 1916 г. была адназначна негатыўнай: «Гэтае новае Каралеўства Польскае, якое павінна ўзнікнуць пад патранатам Германіі, не адпавядае самым сціплым патрабаванням польскай нацыі»[785]. Пры гэтым легіёны асуджаліся як падман польскай моладзі. Газета змясціла таксама пратэсты многіх вядомых палітычных дзеячаў з ліку мясцовых палякаў. Пад адным з іх, напрыклад, стаяў подпіс Іпаліта Корвін-Мілеўскага[786]. Адначасна «Новы Кур'ер Літэўскі» праігнараваў апошнюю спробу віленскіх палітыкаў актуалізаваць краёвую ідэю і пад яе сцягам выступіць у абарону тэрытарыяльнай цэласнасці гістарычнай Літвы.



Унівэрсал

Конфэдэрації Вялікаго Князьства Літоускаго.

Лета 1915 мес. Грудня 19 дня члены Літоускіх, Беларускіх, Польскіх і Жыдоускіх організацій прыступілі да КОНФЭДЭРАЦІІ ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО, дабіваючыся супольнымі сіламі, абы Літоускіе і Беларускіе землі, каторые здауна прыналежалі да ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО, а цяпер апанаваны Нямецкімі войскі, станавілі пры новых варунках гісторычных нераздзельнае цела на фундамэнці НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ ЛІТВЫ І БЕЛАРУСІ, ЯК СУЦЭЛЬНАЇ ДЗЕРЖАВЫ, ЗАСЬЦЕРАГАЮЧЫ УСІМ НАЦІЯМ У ЯЕ МЕЖАХ УСЕ ПРАВЫ.

Дзеля гэтаго конфэдэраты звертаюцца да усіх націй, да усіх станау, да усіх істнуючых організацій і да усіх грамадзян Краю, клічучы, абы уважаючы на важнасць вялікаго гісторычнаго момэнту, забыушыся крыуд узаемных, свар і недавер'я, маючы на мэці адно карысць супольнае Бацькаушчыны, прылучыліся да КОНФЭДЭРАЦІІ ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО.

*РАДА ТЫМЧАСОВАЯ*
*Конфэдэрації Вялікаго Князьства Літоускаго.*

*Універсал Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага (1915).*

19 снежня 1915 г. на ідыш, беларускай, польскай і літоўскай мовах у Вільні быў апублікаваны Універсал Часовай Рады Канфедэрацыі ВКЛ. Дакумент паведамляў пра стварэнне літоўска-беларуска-польска-габрэйскай Часовай Рады, якая будзе імкнуцца, каб «Літоўскія і Беларускія землі, якія здаўна прыналежалі да Вялікага Княства Літоўскага, а цяпер апанаваны нямецкімі войскамі, станавілі пры новых варунках гісторычных нераздзельнае цела на фундаменці незалежнасьці Літвы і Беларусі, як суцэльнай дзяржавы, засьцерагаючы усім нацыям у яе межах усе правы»[787].

У лютым 1916 г. Універсал быў дапоўнены зваротам, у якім Рада Канфедэрацыі сваімі галоўнымі задачамі абвяшчала стварэнне на літоўска-беларускіх землях незалежнай дзяржавы з сеймам у Вільні, абраным на падставе ўсеагульных, роўных, прамых і тайных выбараў, і гарантыяй паўнаты праў усім народам Краю.

784 Ibidem. 1916, Nr 187.
785 Ibidem. 1916, Nr 290.
786 Ibidem. 1916, Nr 297.
787 ЛДГА. Ф. 1135, воп. 24, спр. 7, арк. 153.

Тэрыторыя незалежнай дзяржавы павінна была ўключаць Ковенскую і Віленскую губ., беларускую і літоўскую часткі Гарадзенскай і Сувалкаўскай, літоўскія часткі Курляндскай і частку Менскай губ., «каторая звязана з Віленскім цэнтрам». Форму дзяржаўнага ладу і Канстытуцыю «будучай вольнай літоўска-беларускай гасударственнай адзінкі» павінен быў вызначыць і зацвердзіць сейм у Вільні. У заключэнне зварот заклікаў да сумеснай працы дзеля будучыні Краю: «Кіньма сваркі і звадкі, ад каторых церпіць увесь Край. Падумайма разам ды шчыра аб долі гэтага Краю, бо ж усе мы, апрача жмені прыблуд, сыны нашай зямлі – нашай Літвы і Беларусі»[788].

Відавочна, што ідэйнай пляцоўкай супрацоўніцтва краёўцаў-дэмакратаў з дзеячамі літоўскага і беларускага рухаў стаўся ўжо вядомы тэзіс супольнага (краёвага) грамадзянства ў форме гарманічнага міжнацыянальнага сужыцця. Апошняе трактавалася як перадумова аптымальнага развіцця ўсіх народаў гістарычнай Літвы. Краёўцы па-ранейшаму ў нацыянальнай эмансіпацыі літоўцаў і беларусаў бачылі не супрацьпастаўленне, а дапаўненне краёвай свядомасці.

Часовая Рада аб'яднала дзеячаў розных нацыянальных рухаў, а ініцыятыва яе стварэння належала беларусам, у прыватнасці, Івану Луцкевічу. Аднак выпрабавання часам яна не вытрымала. Абвастрэнне міжнацыянальных адносін (асабліва польска-літоўскіх), да чаго сваю руку прыклалі кіраўнікі германскай акупацыйнай адміністрацыі, хутка зруйнавала гэты праект.

Краёўцы аказаліся адсунутымі на перыферыю грамадска-палітычнага жыцця. Фактычна, толькі беларускія дзеячы заставаліся прыхільнікамі краёвай канцэпцыі дзяржаўнасці і працяглы час выступалі за ўтварэнне Беларуска-Літоўскай федэрацыі або канфедэрацыі. Прычым гэта датычыла не толькі віленскіх, але і менскіх беларускіх дзеячаў.

Безумоўна, параза краёвай ідэі ў Вільні не магла не паўплываць на яе папулярнасць з іншага боку фронта. Тым больш, што «каронная» частка польскай супольнасці ў Менску катэгарычна не прымала краёвасці, сцяг якой яшчэ трымалі ў руках прызнаныя мясцовыя правадыры беларускіх палякаў. Узмацненне пазіцый «прышлых» палякаў вяло да пэўнай маргіналізацыі такіх дзеячаў, як Раман Скірмунт і Эдвард Вайніловіч. Мясцовая польская супольнасць пераставала быць сацыяльнай базай краёвай ідэі, яна ўсё больш хілілася ў бок ідэалогіі польскіх нацыянальных дэмакратаў. Раман Скірмунт не мог не заўважыць гэтай тэндэнцыі. Цалкам магчыма, што ягонае далучэнне да беларускага руху не ў апошнюю чаргу было абумоўлена якраз пошукамі новага саюзніка краёвай ідэі.

---

[788] А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэя…*, с. 313. Найбольш грунтоўна гісторыя Канфедэрацыі ВКЛ была раскрыта ў артыкуле Зеновіуша Панарскага (Zenowiusz Ponarski) *Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916* (Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1998, Nr 10, s. 57–68).

## «БЕЛАРУСКІ ДЗЕЯЧ З ВЯЛІКІХ ПАНОЎ…»[789]

Напрыканцы 1916 г. Раман Скірмунт прыняў запрашэнне ўвайсці ў склад Менскага аддзелу *Беларускага таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны* (БТППВ). Тым самым ён зрабіў важны жыццёвы выбар. Як ужо адзначалася, аналагічныя дабрачынныя таварыствы адначасна з'яўляліся важнымі легальнымі асяродкамі нацыянальных рухаў. Беларускае таварыства не было выключэннем. Фактычна, у снежні 1916 г. да беларускага руху далучыўся буйны памешчык і прадпрымальнік, адзін з ідэйных лідэраў краёвасці, былы дэпутат Дзяржаўнай Думы (1906) і былы сябра Дзяржаўнай Рады (1910–1911), кіраўнік Губернскай харчовай камісіі, Упаўнаважаны Асобнай нарады па харчовых мерапраемствах і віцэ-старшыня Менскага сельскагаспадарчага таварыства. У студзені 1917 г. ён да таго ж быў абраны сябрам праўлення Віленскага зямельнага банка[790]. Безумоўна, прысутнасць Скірмунта ў беларускім Адраджэнні ўзмацняла ягоную грамадскую вагу і спрыяла росту цікавасці да беларускай ідэі з боку эліты тагачаснага грамадства.

Выбар, зроблены Скірмунтам напярэдадні Расійскай рэвалюцыі, быў незвычайным для прадстаўніка гэтага роду, але ён выцякаў з ягонай адданасці краёвай ідэі і ранейшай прыхільнасці да культурніцкай дзейнасці беларускіх адраджэнцаў.

### *Беларускі выбар*

Беларускае таварыства дапамогі ўзнікла ўвесну 1915 г. у Вільні (старшыня – Вацлаў Іваноўскі, намеснікі – Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі). Ягоная дзейнасць распаўсюджвалася на Віленскую, Віцебскую, Гарадзенскую, Магілёўскую і Менскую губ. Таварыства атрымала права на выдачу грашовай дапамогі, адкрыццё пунктаў харчавання, прытулкаў і сталовых для бежанцаў, аказанне ім медыцынскіх паслуг, забеспячэнне працай ды інш. Бюджэт Таварыства фарміраваўся з прыватных ахвяраванняў і дзяржаўных субсідый. Аднак у беларускім выпадку субсідыі былі мінімальныя. Расійскія ўлады фактычна адмовіліся фінансаваць беларускую дабрачынную арганізацыю. Тым не менш, яшчэ да «Свенцянскага прарыва» былі створаны аддзелы Таварыства ў Менску, Вілейцы, Полацку ды іншых гарадах[791].

---

789 Так, у 1919 г. ахарактарызаваў Р. Скірмунта адзін з карэспандэнтаў газеты «Беларуская думка» (№ 4). С. Рудовіч выкарыстаў гэтыя словы ў назве свайго артыкула ў «Гістарычным альманаху» (1999, том 2).

790 «Минский голос». 1917, № 2330.

791 *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII–пачатку XXI ст.*, с. 298–299 (аўтар тэксту С. Хоміч).

*ДАКУМЕНТ*

**Са Звароту Камітэта Беларускага таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны.**

*28 мая 1915 г.* [792]

*Да грамадзян Беларусі*

*Памагаць бліжнім у бядзе – гэта павіннасць усіх, хто, жывучы у вялікай сямы людакоў, бачыць у кожным чалавеку брата. Гэта наказ, ад катораго ніхто ня вольны, калі у яго сэрцы захоўваюцца словы адвечнай святой запаведзі: любі бліжняго свайго як сябе самога.*

*У пачатку вайны з сумежных з намі зямель Польшчы і Літвы панаехала у нашу старонку багата людзей, у каторых вайна забрала ўсё: хаты, зямлю, меньне, заработак. Са сваіх вёсак і мястэчак пацягнуліся да нас сотні і тысячы палякоў, жыдоў і літвіноў.*

*І беларусы, памятаючы сваю павіннасць як мага адгукнуліся на іх нядолю: з беларускіх валасцей сяляне слалі збожжа і грошы польскім сялянам; на местах беларускія грамадзкія працаўнікі ахвоча ішлі працаваць у камітэты, што памагаюць усім пацярпеўшым ад вайны – бяз розніцы націі і веры; беларускія гурты устраівалі зборы грошаў і спектаклі на іх карысць і т. п. Ажно прыйшоў час, што хваля вайны закранула і Беларускі край. Пагарэлі у часі бітвы беларускія вёскі і мястэчкі. Скрануліся з мейсца нашы шарыя гаротнікі ды памандравалі у глыб сваей старонкі – бяз куска хлеба, без граша у каліце, адно з пустымі рукамі! І вось да нашых грамадзкіх павіннасцей прылучылася ішчэ адна: дагэтуль нам даводзілася памагаць нашым бяздольным гасьцям, цяпер жа мы павінны даць падмогу і прыпынак сваім сыном зямлі Беларускай, спрадвечным жыхаром яе.*

*Гэта ужо няпростая дапамога бяздольнікам, гэта – самапомач, бо, памагаючы нашым братом родным, мы памагаем самі сабе, беларусы – беларусам.*

*Каб споўніць гэтую павіннасць, трэба злучыць нашыя грамадзкія сілы, трэба наладзіць шырокую на ўвесь край – арганізацію дзеля помачы пацярпеўшым ад вайны. Да гэтай работы і прыступіла «Беларускае Таварыство помачы пацярпеўшым ад вайны» аткрытае у Вільні [...]*

*Ніхай-жа усе шчырыя беларусы і усе праўдзівыя грамадзяне Беларускага краю бяз розніцы веры і націі адгукнуцца на гэты наш кліч, ніхай прыступаюць да «Беларускага таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны», ніхай памагаюць яму працай сваей і грашмі, каб споўніць сваю грамадзкую павіннасьць перад Родным краем, споўніць вялікую запаведзь любві да чалавека.*

*КАМІТЭТ*

*У Камітэт Таварыства выбраны:*

*Маршалак В. Іваноўскі*

*Намеснікі маршалка: А. Луцкевіч і В. Ластоўскі*

*Пісары: П. Алексюк і І. Біндзюк*

*Скарбнік В. Столыгва*

---

[792] «Наша Ніва». 1915, № 21, 28. 05. Тут і далей усе беларускамоўныя дакументы і цытаты падаюцца з захаваннем арфаграфіі і пунктуацыі.

З пачаткам нямецкай акупацыі заходняй часткі Беларусі аддзелы БТППВ на ўсход ад фронту пачалі дзейнічаць самастойна. Апрача дабрачыннай дзейнасці яны таксама займаліся нацыянальна-культурнай працай, менавіта ладзілі вечарыны і спектаклі, арганізоўвалі навучанне на беларускай мове і г. д. У кулуарах абмяркоўваліся палітычныя праблемы.

Асабліва важнай была дзейнасць Таварыства ў Менску, які паступова станавіўся не толькі ваенным, але і палітычным цэнтрам Беларусі. Архіўныя дакументы сведчаць, што ўжо ў маі 1916 г. Менскі аддзел БТППВ паспрабаваў істотна пашырыць межы сваёй дзейнасці. Ягоны сябра Вільгельм Русецкі звярнуўся да губернатара з просьбай дазволіць выданне беларускамоўнай штотыднёвай газеты «Беларусь»[793].

Апрача мовы, яе праграма амаль не адрознівалася ад большасці іншых выданняў. Газета павінна была змяшчаць агляды палітычнага і гаспадарчага жыцця, інфармацыю пра ход ваенных дзеянняў, публікаваць справаздачы з пасяджэнняў Дзяржаўнай Думы і Дзяржаўнай Рады, асвятляць дзеянні ўрада, змяшчаць тэлеграмы і карэспандэнцыі з замежжа і з Расіі, у т. л. планавалася «Беларуская і мясцовая хроніка». Таксама В. Русецкі збіраўся знаёміць чытачоў з літаратурнымі навінкамі.

Выданне газеты магло паспрыяць фактычнай легалізацыі культурніцкай працы дзеячаў беларускага руху. Але губернатар адхіліў прашэнне. Паліцыя выказала сумневы наконт асобы заяўніка, які меў толькі «домашнее образование» і мог быць «подставной особой», а вайскоўцы заявілі пра адсутнасць ваенных цэнзараў з веданнем беларускай мовы. Варта адзначыць, што ў захаванай службовай перапісцы за май–чэрвень 1916 г. яшчэ адсутнічала перасцярога адносна развіцця беларускага руху. Але даволі хутка стаўленне чыноўнікаў да беларускай культурніцкай дзейнасці кардынальна змяніцца.

Галоўныя намаганні менскага аддзелу БТППВ датычылі дабрачыннай дзейнасці. Максім Багдановіч пад псеўданімам *М. Осьмак* у лістападзе 1916 г. змясціў на старонках петраградскай газеты «Дзянніца» агляд дзейнасці першага года існавання Менскага аддзела[794]. У прыватнасці, ён адзначыў, што ў яго склад уваходзіла «каля паўсотні чалавек». Узначальваў Аддзел адвакат Віктар Чавусаў, а найбольш актыўнымі супрацоўнікамі былі Людвіка Сівіцкая (*Зоська Верас*) і яе маці Эмілія, Антон Лявіцкі (*Ядвігін Ш.*) і яго дачка Ванда, Усевалад Фальскі, Вільгельм Русецкі, Уладзіслаў Голуб (*Уладзіслаў Галубок*), якія «шмат працы палажылі на карысць Камітэту».

Сябра Менскага аддзела Багдановіч пісаў пра адкрытыя дармовыя прытулкі для сем'яў бежанцаў, бясплатныя і танныя сталовыя (у т. л. славутую

---

793 НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 9243, арк. 1–1 адв.

794 М. Осьмак [Багдановіч М], *Агляд працы за першы год Менскага аддзелу Беларускага Таварыства для помачы пацярпеўшым ад вайны, «Дзянніца»*. Беларуская штотыдньовая газэта. 1916, № 4, с. 1–4.

«Беларускую хатку», якая пасступова ператварылася ў клуб беларускай інтэлігенцыі), пра дзіцячы прытулак, арганізацыю ткацкай майстэрні, адкуль выходзілі «тканіны з узорамі на беларускі лад», пра сельскагаспадарчыя курсы для бежанцаў. Тут вялося навучанне па-беларуску, а заняткі вялі Л. Сівіцкая, В. Русецкі і Я. Крыўка.

*М. Осьмак* канстатаваў адсутнасць пастаяннай фінансавай дапамогі. БТППВ толькі эпізадычна атрымлівала грошы ад Усерасійскага саюза гарадоў, г. зв. *Северопомощи* і Таццянінскага камітэта. І нават гэта каштавала вялікіх намаганняў. І тым не менш, паэт і грамадскі дзеяч бачыў перспектывы гэтай дзейнасці: «Значыцца працаваць можна! Дзеля таго клічма ўсіх сьвядомых беларусоў еднацца і працаваць – ні пакладаючы рук, каб у гэтыя суровыя і важныя часы, калі быць может ідзе аб увесь далейшы кірунак жыцьця нашага Краю, каб быў чутны і наш голас – голас маладой Беларусі»[795].

Гісторык Віталь Скалабан, які высвятліў аўтарства Багдановіча, падчас падрыхтоўкі гэтага «Агляду» да друку (1980) вёў актыўную перапіску з былой сакратаркай Таварыства Людвікай Сівіцкай (у шлюбе Войцік), якая звярнула ўвагу на пэўнае перабольшанне значэння дзейнасці Менскага аддзела[796]. Магчыма, такім чынам Багдановіч імкнуўся заахвоціць «маладую Беларусь» да актыўнай грамадскай і культурнай працы.

Дарэчы, яна ж распавяла, што ўжо ў першы свой вечар у «Беларускай хатцы» Багдановіч папрасіў не класці цукар у гарбату. Пазней падчас размовы прызнаўся, што гэта ягоная асабістая ахвяра дзеля дзяцей, якія не атрымліваюць цукру. А аднойчы Максім Багдановіч прынёс у Таварыства паўпуду цукру. Як аказалася, ён назапашваў цукар з таго пайка, які атрымліваў у Харчовай камісіі, каб перадаць дзецям бежанцаў[797].

Сябрамі Менскага аддзела былі таксама Аляксандр Уласаў, Альберт Паўловіч, Аркадзь Смоліч, Павел Аляксюк, Рамуальд Зямкевіч, Лявон Дубяйкоўскі, Лявон Заяц, Самуіл Плаўнік (*Змітрок Бядуля*), ксёндз Аляксандр Астрамовіч (*Андрэй Зязюля*), ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі ды інш.[798]

Напрыканцы лістапада В. Чавусаў падаў прашэнне губернатару аб правядзенні 4 снежня 1916 г. публічнай беларускамоўнай лекцыі «Беларускае адраджэнне» (*докладчик Максим Адамович Богдановіч*). Паводле прашэння, мэтаю лекцыі

---

[795] Тамсама, с. 4.

[796] В. Скалабан, «*Вам як гісторыку не зашкодзіць ведаць...» Лісты Зоські Верас да Віталя Скалабана* (у:) *Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах.* Выпуск 1. Мінск 2009, с. 181–183.

[797] *Верас Зоська*, *Я помню ўсё. Успаміны, лісты.* Уклад. М. Скобла. Гародня-Вроцлаў 2013, с. 41–42.

[798] Тамсама, с. 32–47; *Гісторыя Беларусі ў шасці тамах*. Том 4. *Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.)*. Рэд. М. Біч, В. Яноўская. С. Рудовіч і інш. Мінск 2005, с. 462.

было папаўненне фінансавых сродкаў Аддзела. Да прашэння дадавалася кароткая праграма выступу. Багдановіч пасля агляду нацыянальных рухаў у Заходняй Еўропе збіраўся распавесці пра гістарычны лёс Беларусі і фарміраванне беларускай народнасці, пра «Літоўска-рускую дзяржаву» і беларускую культуру ў XVI–XVIII стст., барацьбу з польскімі ўплывамі і «адраджэнне Беларусі» ў пачатку XIX ст., ахарактарызаваць сучасны беларускі рух, а таксама пазнаёміць слухачоў з развіццём беларускай літаратуры апошняга дзесяцігоддзя[799].

Губернатар А. Гірс адхіліў прашэнне па рэкамендацыі дырэктара Дэпартамента паліцыі: «Ввиду повсеместного распространения в Империи сепаратистских течений среди национальностей, населяющих окраины России, и усиливающейся в последнее время в том же направлении пропаганды белорусских националистов, разрешение В. Чаусову лекции […] в целях государственного порядка является нежелательным»[800].

Падобна, што ў другой палове 1916 г. Менскі аддзел БТППВ зрабіў даволі шмат, каб расійскія ўлады заўважылі іх «прапаганду», і гэтая лекцыя выклікала значна больш боязі, чым ранейшае прашэнне пра выданне газеты на беларускай мове.

Паводле ўспамінаў Сівіцкай, адвакат Чавусаў быў «фармальным» кіраўніком. Ён часта адсутнічаў на пасяджэннях і дзейнасцю Аддзела асабліва не цікавіўся. Затое ведаў усе працэдурныя «кручкі» і «падыходы» да адміністрацыі[801]. Напрыканцы 1916 г. востра адчувалася патрэба ў іншым кіраўніку. Відавочна, што Рамана Скірмунта запрашалі ў сябры БТППВ якраз з мэтай перадаць у ягоныя рукі кіраванне арганізацыяй.

Паводле паказанняў Аркадзя Смоліча следчым АДПУ (1930), гэтае запрашэнне перадаў яму Максім Багдановіч[802]. Інфармацыі можна давяраць, бо, як прыгадвала пазней Сівіцкая, Смоліч быў сябрам Багдановіча падчас знаходжання паэта ў Менску[803]. Апрача таго, як адзначалася, Багдановіч у другой палове 1916 г. – пачатку 1917 г. працаваў у Губернскай харчовай камісіі, дзе шчыльна супрацоўнічаў са Скірмунтам.

У сваіх паказаннях Смоліч ахарактарызаваў паэта як «анархіста-індывідуаліста з яскравай нацыяналістычнай афарбоўкай». Ён нават прыпісаў Багдановічу кіраванне тагачаснай нацыянальнай палітыкай і адзначыў, што той «цвёрда стаяў на пазіцыі кааліцыі з буржуазіяй»[804].

Як ужо адзначалася, далучэнне Рамана Скірмунта да беларускага руху было

[799] НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 9187, арк. 410.
[800] Тамсама, арк. 406.
[801] В. Скалабан, *«Вам як гісторыку не зашкодзіць ведаць...»*, с. 183.
[802] *Показания А. Смолича от 20 октября 1930 г.*, «Навіны Беларускай Акадэміі Навук». 1992, 11 снежня.
[803] В. Скалабан, *«Вам як гісторыку не зашкодзіць ведаць...»*, с. 190.
[804] *Показания А. Смолича от 20 октября 1930 г.*, с. 5.

незвычайнай падзеяй у гісторыі Адраджэння. Між іншым, яна прымушае яшчэ раз задумацца пра прывабнасць беларускай ідэі. Гэтая ідэя давала тым, хто яшчэ нядаўна меў толькі адно жаданне: *Людзьмі звацца*, пачуццё гонару за прыналежнасць да нацыі. Гістарычныя экскурсы адраджэнцаў спрыялі разуменні велічы гістарычнага шляху беларусаў.

Вось, напрыклад, што пісаў Максім Багдановіч у «Лісце да простых людзей»: «Беларусы! Мы – вялікі народ, шырока раскінуліся мы і спрадвеку жывем тут. Гэта наш край, наша старонка. Калісьці ў нас было сваё гасударства, скрозь чутно было нашу беларускую гаворку. У ёй пісалі законы, разбіралі справы па судах, вучылі ў школах, друкавалі кнігі, праўлялі набажэнствы ў царквах ды касцёлах. І ўсе размаўлялі па-нашаму: і чыноўнікі, і папы, і паны над панамі, і вялікія князі, што правілі гасударствам. [...] Не пакінем свае гаворкі, сваіх песняў, сваіх звычаяў – свайго кроўнага, спрадвечнага, беларускага. Не адракомся, не забудзем, не кінем на глум; будзем шанаваць, бараніць, дзецям сваім аб тое запаведаць»[805].

Ён жа сцвярджаў дэмакратызм беларускай ідэі, які цалкам пазбаўляў яе шавінізму ў стасунку да іншых народаў: «Защищая интересы своего народа и кладя в основы этой деятельности наличность самостоятельной белорусской национальности и белорусской культуры, белорусская интеллигенция никогда не впадала в шовинизм, не стремилась к умалению прав соседних национальностей [...]»[806]. Пералічваючы задачы беларускага руху, Багдановіч адзначаў «выделение Белоруссии и Литвы, спаянных экономически, географически и исторически, в областную самоуправляющуюся единицу»[807].

Упэўнены, што для краёўца Рамана Скірмунта падобная характарыстыка беларускага Адраджэння выглядала вельмі прывабнай. Тым больш, што паэт умеў пераконваць суразмоўцаў. Таксама важную ролю ў гэтым выбары «грамадзяніна Краю» павінен быў адыграць ягоны характар, менавіта імкненне падтрымаць тых, хто меў патрэбу ў дапамозе і заслугоўваў яе.

Даследчыку складана ў гэтым выбары Скірмунта разгледзець прагматызм буйнога прадпрымальніка і землеўласніка. А вось беларускія дзеячы сацыялістычнай арыентацыі заўсёды бачылі «прагматызм» і вінавацілі Рамана Скірмунта ў намеры «панаваць над беларускім працоўным людам», а таксама ў прапольскіх сімпатыях.

---

805 М. Багдановіч, *Хто мы такія? Ліст да простых людзей* (у:) М. Багдановіч, *Поўны збор твораў. Том III. Публіцыстыка, лісты, летапіс жыцця і творчасці*, с. 126–127.

806 М. Богданович, Белорусы (у:) М. Багдановіч, *Поўны збор твораў. Том III. Публіцыстыка, лісты, летапіс жыцця і творчасці*, с. 124–125.

807 Тамсама, с. 125.

*ДАКУМЕНТ*

**Кастусь Езавітаў. У 25-я ўгодкі Ўсебеларускага кангрэсу[808]. Фрагмент.**

*[…] У Менску на чале «Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны» знаходзіліся буйны беларускі абшарнік Раман Скірмунт, прадстаўніца старога беларускага арыстакратычнага роду княгіня Магдалена Радзівіл, ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, беларускі пісьменнік Ядвігін Ш. (Лявіцкі), юрыст Лявон Заяц, В. Фальскі ды яшчэ некалькі свядомых беларускіх адзінак. Палітычныя памкненні і ідэалы ў гэтых грамадзян былі розныя. Раман Скірмунт выразна меў нахіл у бок польскі, княгіня Магдалена Радзівіл, наадварот, слухаць не хацела аб паляках, бо мела старыя пэрсанальныя спрэчкі з польскай арыстакратыяй […]*

Скірмунт павінен быў добра арыентавацца ў беларускіх справах, тым больш, што ён фінансава падтрымліваў «Наша Ніву» ў часы рэдактарства Янкі Купалы, быў знаёмы з Максімам Багдановічам, пры пасярэдніцтве Марыі Магдалены Радзівіл сустракаўся з вядомымі беларускімі палітыкамі. Веданне сітуацыі ў беларускім Адраджэнні наўрад ці дазваляла яму з аптымізмам глядзець на яго перспектывы.

Беларускі нацыянальны рух ужо меў уласную гісторыю, у якой значныя поспехі чаргаваліся з прыкметнымі няўдачамі. Найбольшыя дасягненні былі звязаны з развіццём культуры і асабліва літаратуры. Вялікую ролю ў культурніцкім руху адыграў беларускі перыядычны друк і, у першую чаргу, «Наша Ніва» (1906–1915). Гэтая газета здолела стаць сапраўдным цэнтрам нацыянальна-культурнага Адраджэння беларусаў.

Але адначасна даводзіцца прызнаць, што расійскія ўлады ў вялікай ступені здолелі ізаляваць нацыянальную эліту ад шырокіх народных мас. Палітыка русіфікацыі збірала свой «ураджай». Беларуская мова не трапіла пад дахі народных школ, не ўвайшла ў царкву і касцёл, а значыць, не прайшла этапаў сацыялізацыі і сакралізацыі. Беларуская ідэя хутка пашыралася, але ўсё ж не мела масавай падтрымкі сярод сялян. Дзеячы Адраджэння гэта выдатна ўсведамлялі. Дастаткова прыгадаць верш Янкі Купалы «Прарок» (1912), славутую «Пагоню» (1916) Максіма Багдановіча або публіцыстыку Вацлава Ластоўскага і Антона Луцкевіча пра «паднявольны народ» на старонках «Нашай Нівы».

Пра прычыны пэўнай маруднасці нацыятворных працэсаў сярод беларусаў напісана шмат. Неабходна адзначыць, што ў тым змаганні за ідэйную прыхільнасць шырокіх мас, якое разгарнулася ў Беларуска-Літоўскім краі на пачатку XX ст., беларускі рух з цяжкасцю вытрымліваў канкурэнцыю з польскім і літоўскім. А яшчэ даводзілася даваць адпор вялікарускім шавіністам і блізкім да іх прадстаўнікам кансерватыўнай плыні «заходнерусізму», рэагаваць на шавінізм

808 К. Езавітаў, *У 25-я ўгодкі Ўсебеларускага кангрэсу,* «Раніца». 1943 № 1–2.

Партыі нацыянальных дэмакратаў Дмоўскага. У даваенныя гады «беларускае пытанне» было выключна ўнутранай справай Расійскай імперыі, а дакладней, яе органаў бяспекі.

Сітуацыя пачала змяняцца толькі падчас вайны. У 1916 г. на акупаваных нямецкімі войскамі тэрыторыях адбывалася паступовая палітызацыя беларускага руху. Яго цэнтрам заставалася Вільня. Як ужо адзначалася, Іван Луцкевіч ды іншыя беларускія дзеячы мелі непасрэднае дачыненне да ідэі адраджэння Вялікага Княства Літоўскага, што ў снежні 1915 г. была ўвасоблена ў віленскай адозве Часовай Рады Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага, якую ведалі і ў Менску[809].

Прагерманская арыентацыя беларускага руху была вымушанай. Немцы разыгрывалі «беларускую карту» ў сваёй антырасійскай палітыцы, а беларусы ў гэтых геапалітычных гульнях таксама імкнуліся атрымаць хоць нейкія «козыры». Адным з іх стала развіццё беларускага школьніцтва. Галоўнакамандуючы Усходнім фронтам Пауль Гіндэнбург напрыканцы 1915 г. дазволіў школьную адукацыю на родных мовах, у т. л. на беларускай. У Вільні адкрыліся беларускія настаўніцкія курсы, а ў Гародні на пачатку 1916 г. з'явілася першая беларуская школа.

Іншым важным поспехам стала тое, што ў 1916 г. «беларускае пытанне» ўпершыню было вынесена на міжнароднае абмеркаванне. У маі таго ж году Вацлаў Ластоўскі і Язэп Салавей на канферэнцыі паняволеных народаў Расіі ў Стакгольме падпісалі зварот да прэзідэнта ЗША Вудро Вільсана з просьбай дапамагчы абараніцца ад асіміляцыі. А ўжо праз месяц у Лазане на III з'ездзе нацыянальнасцяў яны ж распаўсюдзілі мемарандум, у якім выказваўся спадзеў, што незалежна ад вынікаў вайны «еўрапейскія народы выступяць гарантамі надання Беларусі ўсіх палітычных і культурных праў, якія забяспечаць свабоднае развіццё ўсіх інтэлектуальных, духоўных і эканамічных сіл нашага народу і дазволяць яму быць гаспадаром на ўласнай зямлі»[810]. Такім чынам, палітыка нямецкай акупацыйнай адміністрацыі дазволіла Вільні заставацца цэнтрам беларускага руху.

Аднак гэтыя першыя «ластаўкі» перамен зусім не азначалі набліжэння «беларускай вясны». Беларусь была перарэзана лініяй фронту. Сотні тысяч яе жыхароў выправіліся ў крыжовы шлях бежанцаў. Прыфрантавыя губерні былі перапоўнены чужынцамі, якія не ведалі і не разумелі нацыянальна-культурных і гістарычных асаблівасцяў Беларусі. Красамоўным сведчаннем гэтых працэсаў быў сам Менск, у якім, як ужо адзначалася, «прышлы элемент» на пачатку 1917 г. перавысіў даваеннае насельніцтва ў тры разы.

На жаль, адсутнічаюць дакументы, якія б дазволілі паглыбіцца ў матывы «бе-

---

809 Адозва захоўвалася ў фондзе архіва БНР (НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 170, 172) разам з Універсаламі Часовай Рады Канфедэрацыі ВКЛ.

810 [L. Abramowicz], *Litwa pod czas wojny: zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t. p*. Zebrał i do druku przygotował L. A. Warszawa 1918, s. 124.

ларускага выбару» Рамана Скірмунта. Магчыма, з беларускім рухам ён звязваў перспектывы пашырэння краёвай ідэалогіі, тым больш, што павінен быў ведаць пра ўдзел братоў Луцкевічаў і Ластоўскага ў прапагандзе беларускага варыянта краёвасці[811]. Але таксама можна меркаваць пра верагодную эвалюцыю поглядаў гэтага грамадзяніна Краю ў беларускім кірунку.

Аркадзь Смоліч у вышэйзгаданых паказаннях таксама сцвярджаў, што Раман Скірмунт прыцягнуў да дзейнасці БТППВ «яшчэ кагосьці з беларускай буйнай буржуазіі». Гэты выраз дапамагла зразумець Сівіцкая, якая прыгадала ўдзел у пасяджэннях разам са Скірмунтам княгіні Марыі Магдалены Радзівіл («Радзівіліхі»)[812]. У іншых публікацыях таксама згадваўся Станіслаў Радзівіл са Століна.

У студзені 1917 г. Скірмунт узначаліў адзіную беларускую арганізацыю ў Менску. Напрыканцы студзеня, як паведаміла газета «Минский голос», ён быў абраны старшынём Управы Таварыства, у якую разам з ім увайшлі Усевалад Фальскі (намеснік старшыні), а таксама сакратар Таварыства Уладзіслаў Голуб і скарбніца Людвіка Сівіцкая[813]. Магчыма, у той момант ніхто не звярнуў асаблівай увагі на гэтую інфармацыю, але хваля рэвалюцыі і актыўнасць Управы Менскага аддзела БТППВ ператварылі сціплую дабрачынную арганізацыю ў сапраўдны авангард беларускага нацыянальнага руху.

## *На чале беларускага руху*

Інфармацыя пра паўстанне ў Петраградзе ў апошнія дні лютага, пра адрачэнне ад прастола Мікалая II на карысць брата Міхаіла (2 сакавіка 1917 г.), а таксама адрачэнне апошняга дайшлі да Менска са спазненнем. Генерал Аляксей Эверт стараўся максімальна доўга трымаць сталіцу Заходняга фронту ў інфармацыйнай блакадзе, спадзеючыся на нармалізацыю палітычнай сітуацыі. Але ўрэшце і ён саступіў.

В. Гадлеўскі ў аўтабіяграфічным нарысе (1928) прыгадваў атмасферу, якая запанавала ў Менску, калі да яго дайшлі звесткі пра рэвалюцыю: «Менск заварушыўся. Беларусы страпянуліся разам зь іншымі. Пачалася рэвалюцыйная гарачая работа. У сэрцы ўступіла нейкая магутная сіла. Усюды закіпела, як у катле. Народ пайшоў на вуліцу. Пачаліся маніфэстацыі. Помню, у першай агульнаграмадзкай маніфэстацыі прынялі ўчасьце і беларусы з транспарантам, на якім была з аднаго боку надпіс: «Няхай жыве вольная Беларусь», а з другога – нешта болей інтэрнацыянальнае («Пралетарыі злучайцеся» ці нешта іншае). Пад транс-

---

811 А. Смалянчук, *«Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі*, с. 9–44.
812 Верас Зоська, *Я помню ўсё. Успаміны, лісты*, с. 47.
813 «Минский голос». 1917, № 2333.

парантам даволі вялікая грамада беларусаў з Алексюком на чале, каторы стараўся выбіцца на чало беларускага руху»[814].

Эдвард Вайніловіч больш стрымана згадваў першыя сакавіцкія дні ў Менску. Ён успамінаў, што даведаўся пра рэвалюцыю падчас сходу Менскага губернскага земства. Земцам абвясцілі пра неабходнасць прынясення прысягі імператару Міхаілу ў менскім Кафедральным саборы, але хутка ўлады адмянілі гэтае распараджэнне.

6 сакавіка Э. Вайніловіч назіраў вялізную дэманстрацыю на чале з «гарадскім галавой» Станіславам Хжанстоўскім, удзельнікі якой ішлі ў накірунку кафедральнай плошчы. Там адбыўся мітынг у гонар перамогі рэвалюцыі з удзелам галоўнакамандуючага Заходнім фронтам генерала Эверта і кіраўніка Губернскай земскай управы Самойленкі. Паводле Вайніловіча, на мітынгу выступоўцаў ад вайсковага камандавання змянілі цывільныя аратары, з вуснаў якіх гучалі лозунгі «бальшавіцкага зместу»[815].

Стрыманасць Э. Вайніловіча ў ацэнках Расійскай рэвалюцыі з улікам яе далейшага развіцця цалкам зразумелая. Але ў тыя сакавіцкая дні 1917 г. грамадскасць Расіі перажывала сапраўдную эйфарыю. Напрыклад, петраградская газета «Глос Польскі» выйшла з загалоўкам «Вялікая Рэвалюцыя ў Расіі! Цуд». Рэдакцыйны артыкул пачынаўся словамі: «Здарылася! Адбылося тое, пра што яшчэ некалькі дзён таму можна было толькі марыць. Расійскі велікан нарэшце скінуў сваю векавую няволю, махнуў магутнаю рукою, разбіў плюгавую скарлупу абсалютызму і выкінуў кайданы. Ідзе вясна, вясна тых, хто марыў у Расіі пра свабоду, хто імкнуўся да новага лепшага жыцця, хто задыхаўся і паміраў у цесных і задушлівых формах старой дзяржавы…»[816]

А вось як пазней прыгадваў настрой мінчукоў адзін з аўтараў «Минской газеты»: «Немедленно в городе начались торжества, живой, горячий энтузиазм охватил все массы населения, весь город. Смещение прежних властей, удаление полиции, уничтожение гнезд самодержавия прошло спокойно и мирно, без всяких эксцессов. Только жандармерия успела сжечь свои дела и предать забвению «славную» деятельность минских охранников и провокаторов, смешав с пеплом их «достопочтенные» имена»[817].

Здзіўляла хуткасць рэвалюцыйных перамен. Той жа Эдвард Вайніловіч адзначаў лёгкасць, з якой быў зрынуты царызм, які яшчэ ўчора здаваўся непрыступным, а сёння ў адзін момант страціў усіх сваіх прыхільнікаў[818].

---

814 З *жыцьця і дзейнасьці кс. В. Гадлеўскага. Аўтабіяграфічны нарыс,* «Biełaruskaja krynica». 1928, № 13.

815 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 196.

816 «Głos Polski» (Piotrograd). 1917, Nr 9–11.

817 «Минская газета». 1918, № 1924.

818 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 197.

Гісторыя гэтых некалькіх дзён выклікала ў Рычарда Пайпса параўнанне Расійскай дзяржавы з вялізнай штучнай пабудовай, што не мела арганічнага адзінства, а была нібыта сцягнута вяроўкамі, канцы якіх трымаў у руках манарх. А калі ён сышоў, уся пабудова імгненна рассыпалася[819].

Часовы ўрад быў сфарміраваны вечарам 2 сакавіка. Яго ўзначаліў кіраўнік Земгора князь Георгі Львоў, які быў прыхільнікам крайніх форм дэмакратычнага папулізму. Князь быў перакананы, што пры сапраўднай дэмакратыі асноўныя рашэнні прымаюцца зацікаўленымі асобамі, а дзейнасць урада абмяжоўваецца іх рэгістрацыяй. Між тым, на Часовы ўрад звалілася безліч праблем, якія трэба было неадкладна вырашаць. Адной з іх быў статус нярускіх народаў Расіі і рэформа мясцовага самакіравання.

Раман Скірмунт быў адным з тых палітыкаў, якія ўжо ў гэтыя першыя дні выдатна разумелі неабходнасць такога рэфармавання і важнасць вырашэння праблемы ўлады. На самым пачатку сакавіка на сходзе МТСГ ён вітаў перамены і прапанаваў правесці ў Менску сход земскіх радных з удзелам духавенства, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і партый, а таксама людзей, якія могуць быць карыснымі для грамадства, дзеля абрання Камітэта бяспекі і парадку. Ягонай асновай магла стаць Земская губернская ўправа, дапоўненая абранцамі сходу.

Таксама Раман Скірмунт прапанаваў не марудзячы распачаць фарміраванне новай паліцыі, абраць камісараў замест былых станавых прыставаў і арганізаваць павятовую службу парадку. Ён таксама заклікаў калег па МТСГ не ўхіляцца ад грамадскай працы[820]. Магчыма, што ўжо ў тыя дні, напоўненыя радасцю і энтузіязмам, краёвец адчуў небяспеку рэвалюцыйнай хвалі, якая пры адсутнасці ўлады лёгка магла ператварыцца ў выбух анархіі. Дарэчы, з улікам таго, што Часовы ўрад прызначыў камісарам Менскай губ. Барыса Самойленку перад Скірмунтам адкрываліся выразныя перспектывы адміністрацыйнай кар’еры. Той жа Самойленка, як пазней прыгадваў Л. Заяц, на адной з нарадаў Губернскай земскай управы станоўча выказаўся за аўтаномію Беларусі[821].

Аднак найбольшую актыўнасць Скірмунт развіў у БТППВ. Іншыя справы і інтарэсы ўласнай кар’еры адышлі на другі план. Менавіта ён быў адным з галоўных ініцыятараў пераўтварэння дабрачыннай арганізацыі ў *Беларускі камітэт* (іншая назва, якая сустракаецца ва ўспамінах – *Беларускі нацыянальны камітэт*), які адразу ж распачаў энергічную арганізацыйную і прапагандысцкую працу. Дзякуючы аўтарытэту кіраўніка Беларускага камітэта і актыўнасці ўсіх ягоных сяброў, у першыя тыдні рэвалюцыі прысутнасць гэтай арганізацыі ў грамадскім жыцці горада была вельмі прыкметнай.

Стварэнне Беларускага камітэта вітаў князь Станіслаў Радзівіл. 18 сакавіка

819 Р. Пайпс, *Русская революция. Часть первая.* Москва 1994, с. 366.
820 «Nowy Kurier Litewski». 1917, Nr 64.
821 Л. Заяц, *Абмылковы крок*, «Савецкая Беларусь». 1927, № 64.

«Минский голос» апублікаваў ягоную тэлеграму на імя Скірмунта: «Искренне приветствую Белорусский Комитет, желая плодотворной работы для общего блага нашего родного края. Надеюсь быть вам полезным. В память свободы сооружаю в Столине низшую ремесленно-агрономическую школу, которая будет передана в ведение белорусского просвета»[822].

Прадстаўнік Беларускага камітэта Павел Аляксюк увайшоў у склад Камітэта грамадскай бяспекі Менска[823]. Лявон Заяц быў сакратаром першага схода Менскага савета рабочых дэпутатаў, на якім разглядалася квота прадстаўніцтва ў ім ад прадпрыемстваў, войска, партыйных і нацыянальных арганізацый.

4 сакавіка на пасяджэнні Камітэта ён паведаміў пра ўдзел у сходзе і прапанаваў паслаць у Савет свайго прадстаўніка. Аднак прапанову не прынялі. Заяц пазней прыгадваў «іранічную крытыку» свайго выступу на сходзе Савета, якую пачуў ад прысутных. Маўляў, няма чаго «з «нейкімі» саветамі важдацца, калі для Нацыянальнага камітэту адчыняюцца шырокія перспектывы супрацоўніцтва з сапраўднай уладай краю, якая была абраная ў Губернскай земскай управе ў відзе Менскага камітэту грамадскага парадку і бясьпечнасьці, куды пасылае сваіх прадстаўнікоў і Беларускі нацыянальны камітэт».

У выніку абралі толькі часовага дэлегата «з мэтамі інфармацыйнымі». Як прызнаваўся Лявон Заяц, «[…] да гэтага прычыніўся якраз той, хто найбольш па сваёй абшарніцка-клясавай прыродзе мусіў быць супроць Савету – гэта праславуты пан Раман Скірмунт. Гэты стары палітык і далёкабачны буржуй больш практычна падышоў да справы, зазначыўшы, што такі зьвязак для беларусоў мець ня шкодзіць, хаця, канешна, хваліцца гэтым перад кадэцкімі верхаводамі і заправіламі ня варта»[824].

Аднак даволі хутка кантакты паміж Беларускім камітэтам і Саветам абарваліся, а іх шляхі разышліся. У святле далейшых падзей, калі роля Менскага савета рабочых дэпутатаў няўхільна расла, як і сацыялістычныя настроі ў грамадстве, гэтае рашэнне можна ацаніць як памылковае.

Першыя крокі Беларускага камітэта сведчылі пра імкненне Скірмунта да паразумення і кансалідацыі з рознымі палітычнымі сіламі. Гэта сапраўды магло ўмацаваць пазіцыі беларускай арганізацыі ў той палітычнай і нацыянальнай барацьбе, якая толькі распачыналася. Дарэчы, сам склад Беларускага камітэта, у якім Раман Скірмунт дзейнічаў разам з такімі прыхільнікамі сацыялізму як Аркадзь Смоліч, Фабіян Шантыр або Усевалад Фальскі, ствараў для гэтага пэўныя магчымасці.

6 сакавіка 1917 г. Беларускі камітэт прыняў удзел у агульнагарадской маніфестацыі ў гонар рэвалюцыі, якую прыгадваў ва ўспамінах Вайніловіч. Сябры

---

822 «Минская газета». 1917, № 2381.

823 С. Рудовіч, *Час выбару…*, с. 78.

824 Л. Заяц, *Абмылковы крок,* «Савецкая Беларусь». 1927, № 64.

Камітэта прайшлі ў калоне пад сцягам з надпісамі «Witajma wolu narodu» (лацінкай) і «Жыве Беларусь» (кірыліцай)[825]. Фактычна ў гэты дзень менская беларуская арганізацыя ўпершыню публічна і галасна заявіла пра сваё існаванне.

А праз чатыры дні Камітэт у памяшканні былога участка паліцыі на Залатой горцы правёў ужо самастойны мітынг, на якім з прамовамі на беларускай мове выступалі П. Аляксюк, А. Смоліч, У. Фальскі і Ф. Шантыр[826].

Раман Скірмунт упершыню выступіў у Менску на беларускай мове 12 сакавіка, калі па ініцыятыве Беларускага камітэта праводзіўся «Дзень беларускага значка». Паводле сведчання ксяндза Гадлеўскага, ён «добра ўладаў беларускай мовай (трохі з палескім акцэнтам: «шо, шчо»)». Гадлеўскі таксама адзначыў аратарскія здольнасці старшыні Беларускага камітэта і прыгадаў, што выступленні Скірмунта на беларускіх сходах «выдзяляліся і зместам і формай. Яны былі заўсёды высокапатрыятычныя з беларускага пункту гледжання і часам нават проста рэвалюцыйныя, што выклікала ў прысутных буру воплескаў»[827].

Напярэдадні беларускага свята газета «Новое варшавское утро» паведамляла чытачам, што будуць прадавацца беларускія значкі чырвонага і белага колеру для збору сродкаў у Фонд свабоднага беларускага друку[828]. «Минская газета» назвала гэтыя колеры «нацыянальнымі колерамі Беларусі»[829].

Цэнтральнай падзеяй гэтага дня быў мітынг у кінатэатры «Гігант», на якім выступалі Скірмунт, доктар філасофіі Масоніус, Заяц, Аляксюк, Смоліч, Фальскі, Шантыр ды інш. Нягледзячы на разыходжанні ў палітычных поглядах, усе яны выступалі сугучна, бо іх яднала нацыянальная ідэя. «Калі Скірмунт, – успамінаў Макар Касцевіч (*Макар Краўцоў*), – у кожнае слова стараўся ўлажыць праграму, дык Шантыр спяваў гімны рэвалюцыі проста за тое, што яна ўжо сталася, што яна ёсць. Абодва яны былі тады разам, за адным столікам прэзідыуму»[830]. Але так будзе не заўсёды.

У адзінагалосна прынятай рэзалюцыі вылучаўся галоўны лозунг беларускага нацыянальнага руху, менавіта – патрабаванне аўтаноміі Беларусі. «Минский голос» цытаваў рэзалюцыю: «Беларусы, стоячы на глебе краёвай аўтаноміі, будуць выбіраць ва Устаноўчы Сход грамадзян, што падзяляюць гэты прынцып»[831].

Рэвалюцыяператварыла Расію ў адну з найбольш свабодных краін Еўропы. Фактычна не існавала абмежаванняў для культурніцкай і палітычнай дзейнасці нацыянальных арганізацый. Беларускі камітэт актыўна гэтым карыстаўся.

---

[825] С. Рудовіч, *Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 г*. Мінск 2001, с. 79.

[826] «Минский голос». 1917, 11 и 12 марта; «Новое варшавское утро». 1917, № 2802.

[827] В. Гадлеўскі, *З беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917–18 гг.*, «Спадчына». 1997, № 5, с. 20.

[828] «Новое варшавское утро». 1917, № 2804.

[829] С. Рудовіч, *Час выбару*..., с. 79.

[830] Цытата паводле: С. Рудовіч. *Час выбару*…, с. 79.

[831] Тамсама.

У сакавіку 1917 г. Менск стаў сапраўдным цэнтрам беларускай палітычнай дзейнасці. І варта яшчэ раз падкрэсліць вялікую ролю ў гэтых пераменах якраз Рамана Скірмунта.

Менавіта Беларускі камітэт і ягоны кіраўнік першымі выступілі публічна з лозунгам аўтаноміі Беларусі ў межах федэратыўнай і дэмакратычнай Расійскай рэспублікі. Гэты лозунг стаў асновай дзейнасці беларускіх адраджэнцаў у 1917 г. і засведчыў пераход беларускага руху на новы этап. Праца па нацыянальна-культурным Адраджэнні пачала сумяшчацца з актыўнай палітычнай дзейнасцю. Значную ролю ў гэтай трансфармацыі адыграў якраз Скірмунт.

Магчыма, якраз актыўнасць Беларускага камітэта перадвызначыла тую павагу да беларушчыны, якая раней не назіралася ў Менску. Так, запланаваныя групай менскіх адвакатаў папулярныя лекцыі пра формы выбараў ва Устаноўчы Сход планаваліся на рускай, польскай, ідыш і беларускай мовах[832]. Камітэт грамадскай бяспекі вырашыў адкрыць у Менску Народны дом, а кіраванне ім даверыць Беларускаму камітэту[833].

У тым жа сакавіку 1917 г., калі Менскі губернскі камітэт Земгора вырашыў стварыць спецыяльную камісію для распрацоўкі праграмы вядзення прапаганды ў вёсцы, у яе склад былі ўключаны прадстаўнікі Беларускага камітэта П. Аляксюк і А. Смоліч[834]. Пазней гэтая Камісія трансфармавалася ў Камітэт прапаганды на вёсцы на чале з доктарам Уладзімірам Марзонам. Намеснікам стаў Павел Аляксюк. Тыя ж Аляксюк і Смоліч павінны былі выступаць на першым мітынгу, які праводзіў Камітэт прапаганды 27 сакавіка ў Смалявічах.

Як заўважыў Станіслаў Рудовіч, адозвы гэтай арганізацыі, якія публікаваліся на старонках «Вестника Минского губернского комитета», хоць і былі рускамоўнымі, але ўтрымлівалі як лінгвістычны, так і зместавы «беларускі каларыт». Яны пераконвалі, што каталікі-беларусы – «родныя браты» праваслаўных беларусаў, адпаведна, яны павінны «супольна адстойваць свае інтарэсы». Таксама адозва заклікала да яднання ўсіх сялян, каб «не быць прыдушанымі іншымі класамі і нацыянальнасцямі»[835].

Варта адзначыць імкненне Беларускага камітэта наладзіць сувязі з вёскай. Рудовіч паведаміў пра дэлегаванне Камітэтам свайго прадстаўніка ў Вілейскі пав. для арганізацыйнай працы сярод сялян дзеля абрання іх дэлегатаў у склад Камітэта. Таксама гісторык адзначыў факт дэлегавання ў склад Беларускага

832 С. Рудовіч, *Час выбару...*, с. 80; «Минский голос». 1917, 19 марта.

833 Тамсама.

834 С. Рудовіч, *Утварэнне каардынацыйнага цэнтра беларускага нацыянальнага руху ў Менску (сакавік 1917 г.)* (у:) «Спадчына». 1996, № 3.

835 Цытата па: С. Рудовіч, *Утварэнне каардынацыйнага цэнтра беларускага нацыянальнага руху...*, с. 25; «Вестник Минского губернского комитета». 1917, 24 марта.

камітэта прадстаўніка бежанцаў Наваградскага пав. падчас мітынгу ў Менску 15 сакавіка[836].

Напрыканцы сакавіка Беларускі камітэт і Камітэт прапаганды сумесна пачалі падрыхтоўку да склікання агульнакраёвага сялянскага з’езда. На жаль, гэтае супрацоўніцтва аказалася непрацяглым. Беларуская нацыянальная прапаганда і асабліва ідэя аўтаноміі Беларусі знайшлі шмат праціўнікаў, у т. л. сярод рэвалюцыйнай часткі грамадскасці.

Актывізацыя нацыянальных рухаў, пашырэнне ідэі Расіі як федэратыўнай краіны выклікала занепакоенасць шырокіх колаў расійскай палітычнай эліты ад кансерватараў да сацыялістаў. Маючы розныя сацыяльныя праграмы, яны сышліся на платформе ўнітарнай і непадзельнай Расійскай дзяржавы. У Менску ініцыятарам згуртавання гэтых сіл быў Сяргей Кавалік (1846–1926), сапраўдная легенда народніцкага руху. Пасля адбыцця катаргі і ссылкі ў Сібіры ён у 1898 г. пасяліўся ў Менску.

11 сакавіка 1917 г. па яго ініцыятыве ў Гарадскім тэатры адбыўся Сход рускіх грамадзян Менска. На сходзе дамінавала думка, што нацыянальнае з’яўляецца перажыткам «старога парадку», што прыйшоў час адкінуць гэты «перажытак» і будаваць праграмы на «палітычных платформах». Як заўважыў Станіслаў Рудовіч, праявы гэтага нацыянальнага нігілізму ў нейкай ступені можна разглядаць як рэакцыю на сталыпінскую палітыку ў заходніх губернях імперыі, калі выбары ў Дзяржаўную Думу і земствы праводзіліся па нацыянальных курыях, што суправаджалася дыскрымінацыяй часткі насельніцтва. Магчыма, якраз таму імкненне ўлічыць нацыянальныя асаблівасці ў працэсе трансфармацыі імперыі некаторымі ўспрымалася як адмова ад далейшай дэмакратызацыі дзяржаўнага ладу[837].

Таксама вельмі актыўна разгортвалі сваю прапаганду левыя сацыялістычныя партыі. Так, 22 і 23 сакавіка на дзвюх нарадах групы сялянскіх дэпутатаў, што прыехалі ў Менск для ўдзелу ў выбарах Губернскага харчовага камітэта, быў утвораны Менскі губернскі сялянскі камітэт, які ўзначаліў бальшавік Міхаіл Фрунзе (*М. А. Міхайлаў*). Камітэт пачаў працу над скліканнем 20 красавіка 1917 г. з’езда сялян Менскай губ. Адмоўнае стаўленне кіраўніцтва Губернскага сялянскага камітэта да самавызначэння беларусаў яскрава праявілася ў імкненні супрацьпаставіць агульнакраёваму сялянскаму з’езду як спробе аб’яднання сялянства ў агульнанацыянальным маштабе арганізацыю сялян па губернях і паветах.

Вяртаючыся да беларускай дзейнасці, трэба адзначыць, што ў першы месяц гісторыі Расіі без царызму Беларускі камітэт зрабіў надзвычай шмат для арганізацыі ўсіх наяўных беларускіх сіл, выпрацоўкі ўласнай палітычнай пра-

---

[836] С. Рудовіч, *Утварэнне каардынацыйнага цэнтра беларускага нацыянальнага руху…*, с. 25.

[837] С. Рудовіч, *Час выбару…*, с. 86.

грамы і прапаганды беларускай ідэі. Гэтая ацэнка не выглядае завышанай, калі ўлічыць выразную абмежаванасць як матэрыяльных, так і чалавечых рэсурсаў Камітэта.

Вялікая заслуга ў гэтым належала Раману Скірмунту, які фактычна быў адзіным сябрам беларускага Камітэта, які меў вопыт палітычнай дзейнасці і шырокія сувязі з чыноўнай элітай Менскай губ.

Да таго ж, ён па-ранейшаму заставаўся віцэ-старшынём Менскага таварыства сельскай гаспадаркі. Гэтая арганізацыя з пачаткам рэвалюцыі ўжо не абмяжоўвалася выключна вырашэннем гаспадарчых праблем, а імкнулася ўплываць на грамадска-палітычнае жыццё Меншчыны. Скірмунт разам з Вайніловічам намагаліся захаваць «краёвы» характар МТСГ, яго арыентацыю на патрэбы Беларуска-Літоўскага краю. Фактычна гаворка ішла пра галоўныя задачы польскай супольнасці ў Беларусі. Скірмунт настойваў на іх прынцыповай адметнасці ад задач агульнапольскага руху.

Прыхільнікі польскіх нацыянальных дэмакратаў, пазіцыі якіх значна ўмацаваліся ў выніку эвакуацыі ў Менск значнай часткі варшаўскай інтэлігенцыі, крытычна ставіліся да яго дзейнасці. 24 сакавіка падчас сходу арганізацыйнага камітэта, які рыхтаваў глебу для аб'яднання ўсіх польскіх арганізацый на тэрыторыі Менскай губ., упершыню прагучала рэзкая крытыка ў адрас тых палякаў, якія займаюцца не польскімі, а беларускімі праблемамі. Імя Скірмунта яшчэ не называлася, хоць галоўны адрасат гэтага абвінавачвання быў відавочны.

З крытыкай выступіў вядомы польскі адвакат Эдмунд Івашкевіч. Ён быў адным з найбольш актыўных і ўплывовых дзеячаў арганізацыйнага камітэту, які ўвесну 1917 г. выступаў супраць краёвай ідэалогіі. Івашкевіч заклікаў прысутных адчуць важнасць моманту для вырашэння «польскага пытання» і заявіў, што «палякі не павінны апранацца ў беларускі плашчык, а паўсюдна адкрыта і шчыра заяўляць пра ўласную польскасць»[838]. Варта дадаць, што крытыка прагучала напярэдадні менскага з'езда беларускіх арганізацый, галоўным арганізатарам якога быў Беларускі камітэт на чале са Скірмунтам.

Вяртаючыся да дзейнасці Камітэта, можна цалкам пагадзіцца з высновай гісторыка Рудовіча, што яшчэ да сакавіцкага з'езда беларускіх арганізацый менскі асяродак ператварыўся ў цэнтр беларускага нацыянальнага руху і пачаў выконваць каардынацыйныя функцыі[839]. Так, С. Рудовіч паведаміў пра тэлеграму Камітэта да беларусаў Петраграда ад 22 сакавіка 1917 г., у якой апошнім прапанавалася ўстрымацца ад уваходжання іх прадстаўнікоў у Літоўскую нацыянальную раду.

---

838 «Nowy Kurier Litewski». 1917, Nr 84.

839 С. Рудовіч, *Утварэнне каардынацыйнага цэнтра беларускага нацыянальнага руху...*, с. 19.

Літоўская рада была створана ў Петраградзе на пачатку сакавіка і выступала за аб'яднанне Сувалкаўскай, Ковенскай і Віленскай губ. у новую самастойную адміністрацыйную адзінку з назвай «Літва» і літоўскай адміністрацыяй. Апошняе датычыла і тых паветаў, дзе літоўцы складалі меншасць. Рада пастанавіла сфарміраваць Часовы камітэт кіравання Літвой у складзе 12 літоўцаў і 12 прадстаўнікоў іншых народаў (у т. л. шасцёх беларусаў). Камітэту належала падрыхтаваць скліканне Устаноўчага сходу Літвы, які павінен быў вызначыць форму кіравання і акрэсліць стаўленне да суседзяў. У Менску гэта расцанілі як прэтэнзіі на беларускія землі і адмоўна адрэагавалі на прапанову Літоўскай рады.

Менавіта Беларускі камітэт выказаў ініцыятыву склікання з'езда беларускіх арганізацый у Менску, а таксама узяў на сябе яго арганізацыю і правядзенне. З'езд павінен быў з'яднаць беларусаў на аснове рэальнай палітычнай праграмы і стаць пэўнай дэманстрацыяй волі і магчымасцяў беларускага руху.

Неабходнасць такога з'езда была абумоўлена не толькі пэўнымі ўнутранымі праблемамі беларускага руху, але і знешнімі фактарамі. Галоўным з іх была легалізацыя нацыянальных рухаў, якія ўсё часцей выступалі з ідэяй уласнай аўтаноміі ў межах федэратыўнай Расіі. Якраз гэтае палажэнне ўтрымлівала праграма згаданай Літоўскай рады. А 4 сакавіка 1917 г. у Кіеве было абвешчана стварэнне Украінскай цэнтральнай рады (УЦР), якая выступіла з лозунгам аўтаноміі Украіны. Увесну канцылярыя Часовага ўрада амаль штодня атрымлівала тэлеграмы ад розных украінскіх арганізацый з патрабаваннем аўтаноміі[840]. Выразныя імкненні да аўтаноміі праяўляліся таксама ў дзеяннях латышскіх арганізацый. Кансалідацыя нацыянальных рухаў суседніх народаў і лозунгі аўтаноміі непасрэдна закраналі інтарэсы беларусаў і датычылі тэрыторыі іх пражывання. Пэўную патэнцыйную небяспеку таксама ўтрымліваў у сабе працэс адраджэння незалежнай Польшчы.

Наогул, сакавік быў месяцам бурлівых дыскусій пра будучыню Расіі, а для іх беларускіх удзельнікаў таксама пра лёс беларускай зямлі. Некаторыя дзеянні ўрада Г. Львова (заява пра незалежнасць Польшчы, пашырэнне аўтаноміі Фінляндыі) сапраўды давалі падставы спадзявацца на пераўтварэнне імперыі ў федэрацыю.

Сітуацыя патрабавала кансалідацыі беларускіх сіл, цэнтрам якіх стаўся Беларускі камітэт. Якраз Камітэт падрыхтаваў і распаўсюдзіў друкаваную ўлётку «Biełarusy», якая заклікала да яднання («Ніхай нас нішто не раздзеліць, хай ні будзе сваркі паміж беларусам праваслаўным і каталіком, бо ўсе мы дзеці аднэй Маткі – Беларусі») і яшчэ раз сцвярджала адметнасць беларусаў ад сваіх суседзяў («Мы не палякі і не расейцы...»). Улётка друкавалася як польскім варыянтам лацінкі, так і кірыліцай.

840 ГАРФ. Ф. 1778, оп. 1, д. 244 и др.

*ДАКУМЕНТ*

**Улётка «Biełarusy!»**[841]

*Nastało wialikaje świata swabody. Konczyłasia doŭhaja niawola naszaj staronki. Staroje naczalstwa, katoraje dawiało nas da straszennaj, niebywałaj biady złomleno. Ministry ŭ wastrozi, car adroksia ad prastołu. Kamitet Hasudarścwiennaj Dumy ŭziaŭ u swaje ruki kirawannie narodam. Z Kamitetam iduć raboczyje, wojsko, narod. Nowy paradak niasie nam nie bizun i nahajku, nie znieważeńnie naszych światych dumak ab swabodnaj doli, a niasie wolu, niasie praudu, niasie paszanu da Biełaruskago narodu.*

*Braty!*

*Budujcie swaju świetłuju buduczynu. Pakażecie ŭsiamu świetu, szto żywie Biełaruś, pakażecie, szto żywie jaje spradwiecznaja mowa, szto żywie narod Biełaruski, katory wynias na swaich pleczach hetulki kryŭdy i ździeku i nia zhinuŭ praz stolki wiakoŭ padniawolnago żyćcia. Dahetul mowa nasza nia mieła hramadzianskich prawoŭ. Dahetul narod nasz byŭ pakryudżany, abiazdolany – ni znaŭ swajho imiani; ciapier nastaŭ czas, kali puty niawoli, katoryja cisnuli jaho praz sotki hadoŭ, tresnuli; ciapier jon swabodny, ciapier jon może skazać swajo swabodnaje słowa.*

*Dyk strapianisia, Narod Biełaruski! Bolsz ni zakujuć Ciabie ŭ puty żaleznyja, bo sam budziesz swajoj dolaju kirawać. Twaje wybarnyje ludzi zawiaduć taki paradak, jaki Tabie budzie patrebny – tolki wiedaj, kaho wybirać. Wybiraj tych, katoryje pastajać za rodnuju ziamielku, za swabodnuju Biełaruś.*

*Narod Biełaruski!*

*My nie Palaki i nie Rasijecy, my ad wiakoŭ siadzim tut, my haspadary na swajoj rodnaj ziamielcy, my haspadary hetaha kraju nie budziam liczyć parobkami druhich narodaŭ, jak nas dahetul liczyli. Biełarusy, my adzin Narod. Dyk złuczymsia ŭ adno, bo ŭ jednaści siła. Nichaj nas niszto ni razdzielajc, chaj ni budzie swarki miż Biełarusam prawasłaunym i katalikom, bo ŭsie my dzieci adnej Matki – Biełarusi. Hniazdom naszym chaj budzie Minski Biełaruski Kamitet.*

*Hramadzianie Biełarusi!*

*Budziem twaryć narodnaje szczaście, jano ciapier u naszych rukach. Dzieci naszyja buduć dziakawać nam za swabodu Baćkauszczyny i s paszanaj i luboŭju ab nas uspaminać. Kliczcie wialiki klicz woli pa ŭsich kutkoch swabodnaj Biełarusi!*

*Biełaruski kamitet*
*Minsk. Zacharauskaja wuł. № 18.*
*Praczytaŭszy – addaj susiedu.*

З’езд беларускіх арганізацый быў прызначаны на 25 сакавіка 1917 г. у Менску. Ва ўмовах вайны і рэвалюцыйных перамен арганізаваць выбары было немагчыма. Адпаведна арганізатары рассылалі запрашальныя тэлеграмы, імкнучыся дабіцца

[841] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 7, арк. 29–29 адв.

прадстаўніцтва ўсіх беларускіх суполак на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі, а таксама грамадскіх арганізацый, што праяўлялі цікавасць да «беларускага пытання», і нават асобных дзеячаў. Беларускі камітэт праяўляў самую шчырую зацікаўленасць у максімальна шырокім беларускім прадстаўніцтве. С. Рудовіч адшукаў у архівах кароткую тэлеграму з Менску, адрасаваную беларускім актывістам Петраграда: «*Неабходна прыбыць усім*»[842]. Гэтая дзейнасць прынесла плён. Паводле пратакола з'езда, на ім прысутнічала каля 150 удзельнікаў.

Трэба адзначыць, што гэта быў з'езд не толькі арганізацый, але і партый. Так, у першай палове дня 25 сакавіка група дэлегатаў, сярод якіх былі Аркадзь Смоліч, Алесь Бурбіс, Зміцер Жылуновіч ды інш., правялі сход, на якім пастанавілі адрадзіць Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ). Галоўным патрабаваннем партыі ў галіне нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва абвяшчалася аўтаномія Беларусі ў складзе федэратыўнай Расіі. Кіраўнічым органам было прызнана Менскае бюро БСГ на чале з Смолічам[843]. Якраз ён вітаў з'езд ад імя БСГ. Ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі выступіў як прадстаўнік «Каталіцкай дэмакратычнай партыі», а Рамуальд Зямкевіч – «Народнай дэмакратычнай партыі». Падобна, што апошняя існавала толькі ў планах і намерах Р. Зямкевіча, а вось В. Гадлеўскі рэпрэзентаваў групу, якая ў маі 1917 г. афіцыйна аформілася ў «Беларускую хрысціянскую злучнасьць».

Праца распачалася 25 сакавіка ў 19 гадзін. Старшынём з'езда быў абраны Казімір Кастравіцкі (*Карусь Каганец*), а ягонымі «таварышамі» – намеснік губернскага камісара адвакат Іван Метлін і сябра Беларускага камітэта Павел Аляксюк. Сакратарамі абралі Лявона Зайца і Браніслава Тарашкевіча. Адсутнасць у складзе Прэзідыума аднаго з галоўных арганізатараў з'езда Рамана Скірмунта растлумачыў карэспандэнт газеты «Новы кур'ер літэўскі», які паведаміў, што кіраўнік Беларускага камітэта захварэў.

Апублікаваны пазней Пратакол пасяджэнняў з'езда перадае ўзнёслы настрой яго ўдзельнікаў, разуменне імі ўсёй маштабнасці задач, што стаялі перад беларускімі адраджэнцамі, і веру ў магчымасць іх вырашэння[844].

Праўда, поўнай салідарнасці сярод удзельнікаў з'езда не было, і гэта праявілася ўжо падчас абрання намеснікаў старшыні. Метлін, якога вылучылі прысутныя прадстаўнікі рускай супольнасці Менска, прызнаў, што ён «не сімпатызуе залу, бо не трэба дзяліць рускі народ нацыянальнымі перагародкамі»[845]. Нягледзячы

---

842 С. Рудовіч. *Час выбару…*, с. 84.

843 Тамсама, с. 87–88.

844 *Пратакол з'езду беларускіх нацыанальных арганізацый у Мінску 25–27 марца 1917 г.*, «Спадчына». 1990, № 4, с. 29–33. Скарочаны і папраўлены тэкст пратакола друкаваўся таксама ў зборніку *Верас Зоська. Я помню ўсё. Успаміны, лісты. Уклад. М. Скобла. Гародня-Вроцлаў 2013, с. 48–54.*

845 «Nowy Kurier Litewski». 1917, Nr 83.

на гэта, з'езд усё ж прагаласаваў за ягоную кандыдатуру. Перамагло імкненне да яднання нават з сумніўнымі палітычнымі партнёрамі.

Праца распачалася з чытання тэлеграм ад партый, арганізацый і асоб, што віталі беларускі з'езд. Гэта былі шматлікія беларусы з Петраграда, якія не даехалі да Менска, сябры выдавецтва «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», а таксама сябры розных беларускіх гурткоў з ліку бежанцаў, беларусы з Харкава, вайскоўцы-беларусы, а таксама «палякі Пінскага павету». Апошняе прымушае задумацца пра асабістую ролю Рамана Скірмунта ў арганізацыі з'езда. Магчыма, ягоная постаць паўплывала і на прывітальную прамову прадстаўніка палякаў Аршанскага пав., былога супрацоўніка Губернскай харчовай камісіі К. Гардзялкоўскага, які фактычна выступаў ад імя ўсіх палякаў.

Але першым з прывітаннем звярнуўся старшыня Камітэта прапаганды доктар Уладзімір Марзон. Ён заклікаў яго ўдзельнікаў з'езда да супольнай працы і згоды. З прывітальным словам выступілі таксама Зміцер Жылуновіч ад Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў Петраграда, Міхаіл Кахановіч – ад магілёўскіх педагогаў ды інш. Ад Менскага савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў з'езд прывітаў Кузьміцкі. Наогул, большасць выступленняў былі прасякнуты ідэяй згоды і паразумення ўсіх сацыяльных слаёў на падмурку агульных нацыянальных інтарэсаў.

Варта спыніцца на выступе К. Гардзялкоўскага. Дарэчы, у 1907 г. ён належаў да Польскага дэмакратычнага саюза, створанага ў Менску, і быў прыхільнікам краёвай ідэі. Прамоўца выказаў радасць з той нагоды, што палякі разам з беларусамі будуць будаваць вольную Беларусь. Паводле яго прызнання, гэта пазіцыя ўсіх мясцовых палякаў як «суайчыннікаў беларусаў і літоўцаў». Гардзялкоўскі заявіў, што беларусы ў намаганнях да вылучэння Краю ў самастойную адміністрацыйную адзінку знойдуць сярод мясцовых палякаў самых верных саюзнікаў[846].

Заўважу, што пратакол не ўтрымлівае інфармацыі пра аналагічныя выступы прадстаўнікоў іншых нацыянальных супольнасцяў Беларусі. Падобна, што толькі мясцовыя палякі адназначна падтрымалі беларускі з'езд. Тэкст прамовы Гардзялкоўскага змясціў на сваіх старонках «Новы кур'ер літэўскі», рэдакцыя якога ў гэтым выпадку салідарызавалася з прадстаўніком палякаў Аршанскага пав.

Усевалад Фальскі паведаміў пра дзейнасць Менскага аддзелу БТППВ, які пасля «ўзыходжання сонца свабоды» стварыў Беларускі камітэт, арганізоўваў мітынгі, далучаў да сваёй працы сялян і мяшчан, збіраў сродкі на вольны беларускі друк у Менску і Бабруйску, нарэшце, склікаў з'езд нацыянальных арганізацый і займаецца падрыхтоўкай краёвага сялянскага з'езда.

З паведамленнямі пра дзейнасць беларускіх арганізацый выступалі Эдвард Будзька (Петраград), Кілчэўскі (Бабруйск), Парэчын (Яраслаўль). Павел Аляксюк распавёў пра колішнюю «светнасьць» Беларусі, наступны заняпад і падзеі 1905 г., калі «святлейшыя сыны бацькоўшчыны началі будзіць дух народны». Ён вітаў пе-

[846] Ibidem.

рамены апошняга часу і папярэджваў: «Шчасце ў нашых руках, і калі цяпер мы яго не здолеім узяць, то каб ні было пасьля запозна»[847].

Аркадзь Смоліч выступіў з дэкларацыяй БСГ, якая абяцала абараняць як класавыя, так і нацыянальныя інтарэсы беларускага сялянства. Вінцэнт Гадлеўскі ад імя «Каталіцкай дэмакратычнай партыі» казаў пра дапамогу народу ў яго «штодзённай справе» і сцвярджаў, што моцны народ «павінен мець усё сваё: школу, мову, аўтаномію і сваю культуру». Пра асвету народу як галоўную мэту «Народнай дэмакратычнай партыі» казаў Рамуальд Зямкевіч.

Пануючы настрой згоды і паразумення парушыў намеснік старшыні з’езда Іван Метлін, які ў сваёй прамове заявіў, што першачарговая задача – скліканне Устаноўчага Схода, а нацыянальнае пытанне толькі шкодзіць яе вырашэнню. І дадаў, што «па яго разуменьню, наш рух нацыянальны – ні натуральны, бо пад ім німа цьвёрдаго фундамэнту народных нізоў»[848].

Гэтая заява выклікала надзвычай эмацыйную рэакцыю. З пратэстамі, якія часам парушалі этычныя нормы, выступілі Л. Заяц, Э. Жылуновіч, І. Краскоўскі, В. Цывінскі, А. Смоліч, А. Бурбіс, В. Чавусаў, П. Аляксюк. Яны казалі пра правa беларусаў на нацыянальнае развіццё як важную частку заваяванай свабоды. Толькі нехта Адамовіч, чыноўнік і былы настаўнік падтрымаў Метліна і заявіў, што беларуская мова і культура – пустыя гукі, а галоўныя задачы – гэта ваенная перамога над ворагам і дэмакратычныя рэформы[849].

У адказ Аляксюк выказаўся супраць таго, каб Метлін заставаўся «таварышам» старшыні беларускага з’езда. У выніку, як сведчыць пратакол, І. Метлін і яго прыхільнікі пакінулі з’езд[850]. А вось карэспандэнт газеты «Новы кур’ер літэўскі» сцвярджаў, што канфлікт меў працяг. Пасля сыходу Метліна ўзняўся «пякельны шум», бо рускія, што стаялі пры сценах, пачалі крычаць, грукаць крэсламі аб падлогу. І гэта працягвалася даволі доўга[851]. Урэшце абвясцілі перапынак.

І гэта быў не апошні пратэст у першы дзень працы з’езда. Гісторык Уладзімір Ладысеў паведаміў, што старшыня Казімір Кастравіцкі пакінуў яго, незадаволены абраннем ў Прэзідыум з’езда «памешчыка» Скірмунта[852]. Відаць, напрыканцы першага дня працы ён усё ж далучыўся да з’езда і быў абраны ў склад Прэзідыума, а таксама ў склад агітацыйна-палітычнай, арганізацыйнай і фінансавай камісій.

Гэтыя падзеі паказваюць, што, нягледзячы на ўсе намаганні дасягнуць згоды і паразумення, наладзіць супольную працу ўсё ж не атрымалася. Сваю згуб-

---

847 *Пратакол з’езду беларускіх нацыанальных арганізацый у Мінску 25–27 марца 1917 г.*, с. 29.

848 Тамсама, с. 30.

849 Тамсама.

850 Тамсама, с. 31.

851 «Nowy Kurier Litewski». 1917, Nr 83.

852 У. Ладысеў, П. Брыгадзін, *Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.)*. Мінск 2003, с. 23.

ную ролю адыгрываў як недавер да «сацыяльна чужых», так і разыходжанне ў разуменні сутнасці «беларускага пытання».

Пасля аднаўлення працы былі выбраны камісіі з'езда дзеля падрыхтоўкі да наступнага дня. Ва ўсіх камісіях дамінавалі сябры Беларускага камітэта, а Раман Скірмунт апынуўся ў складзе трох камісій. У двух камісіях працавалі П. Аляксюк, Л. Заяц, А. Смоліч, В. Лявіцкая, А. Лявіцкі і Б. Тарашкевіч. Такое шырокае прадстаўніцтва Камітэта было невыпадковым, бо менавіта ягоныя сябры рыхтавалі асноўныя дакументы для працы ўсіх камісій.

У другі дзень з'езда ў яго прэзідыум былі абраны Раман Скірмунт (старшыня), Павел Аляксюк і Аркадзь Смоліч (намеснікі). Зміцер Жылуновіч пазней патлумачыў гэтае абранне імкненнем дэпутатаў прадухіліць раскол, што намеціўся ў першы дзень[853]. Відавочна, што арганізатары з'езда спадзяваліся на той аўтарытэт, які Скірмунт меў сярод земцаў і адміністрацыі. Дарэчы, паводле інфармацыі газеты «Новое варшавское утро», напрыканцы сакавіка ён кіраваў аддзелам забеспячэння ў новастворанам Менскім губернскім харчовым камітэце[854].

І, сапраўды, калі верыць пратаколу, другі дзень абышоўся без скандалаў. Камісіі прадстаўлялі вынікі сваёй працы. Так, Смоліч ад агітацыйна-палітычнай камісіі падкрэсліў важнасць прапагандысцка-асветніцкай працы сярод сялянства і звярнуў увагу на значэнне дзейнасці вясковых настаўнікаў. Меркавалася весці прапаганду па трох асноўных накірунках – палітычным (падтрымка Часовага ўрада), сацыяльным («пад сцягам шырокіх сацыяльных рэформ») і нацыянальным, дзе асноўную ролю павінен быў адыгрываць лозунг «краёвай» (абласной) аўтаноміі. Прынамсі, так гэтыя накірункі бачыліся Міхаілу Кахановічу на старонках «Могилёвского вестника»[855]. А ў прынятай з'ездам рэзалюцыі звяртаў на сябе ўвагу пункт наконт склікання Беларускім камітэтам сялянскага і настаўніцкага з'ездаў і стварэнне саюзаў сялян і настаўнікаў. Пры гэтым беларускія адраджэнцы выказвалі гатоўнасць працаваць у вёсцы поруч з іншымі арганізацыямі[856].

Зміцер Жылуновіч выступаў з дакладам ад камісіі друку. Яе галоўная прапанова была звязана з выданнем беларускай газеты (пажадана штодзённай), рэдакцыя якой павінна была складацца з прадстаўнікоў розных партый, абраных Беларускім камітэтам. Камітэт павінен быў распрацаваць канцэпцыю газеты і прыдумаць яе назву.

Найбольшае месца ў Пратаколе заняла інфармацыя пра даклад прадстаўніка

---

853 З. Ж. [З. Жылуновіч], *З'езд беларускіх нацыянальных арганізацый. 25 сакавіка 1917 г.*, «Полымя». 1925, № 6.

854 С. Рудовіч, *«Беларускі дзеяч з вялікіх паноў...» Эпізоды палітычнай біяграфіі Рамана Скірмунта,* «Гістарычны альманах». 1999, Том 2, с. 42.

855 НАРБ. Ф. 6-п, воп. 3, спр., 175, арк. 3–5.

856 *Пратакол з'езду беларускіх нацыанальных арганізацый у Мінску 25–27 марца 1917 г.*, с. 31.

Школьнай камісіі Браніслава Тарашкевіча. Камісія зыходзіла з неабходнасці ўвядзення беларускай мовы навучання ў першую чаргу ў пачатковых школах, але пры гэтым звярнула ўвагу на адсутнасць беларускамоўных падручнікаў і настаўнікаў-беларусаў. З'езд пастанавіў арганізаваць Таварыства «Прасьвета» і запрасіць да ўдзелу ў ім вядомых дзеячаў беларускай культуры. Сярод кандыдатаў фігуравалі Максім Багдановіч, Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Вацлаў Іваноўскі ды інш. З'езд даручыў будучай дэлегацыі да Часовага ўрада патрабаваць перадачы адукацыі ў «беларускія рукі». Таксама гаворка ішла пра ўсеагульны характар адукацыі, павелічэнне колькасці розных тыпаў школ, арганізацыю беларускіх курсаў для настаўнікаў, пашырэнне пазашкольнай асветы, адкрыццё пры першай магчымасці ўніверсітэта ды інш.

Этнаграфічная камісія (дакладчык М. Кахановіч) прыйшла да высновы, што аўтаномная Беларусь як «нацыянальна-дзяржаўная адзінка» Расійскай федэрацыі павінна ўключаць Менскую, Гарадзенскую, Магілёўскую, Віцебскую, большую частку Віленскай, некаторыя паветы Смаленскай і Чарнігаўскай губ. Як высвятліў Станіслаў Рудовіч, з друкаванага варыянта Пратакола выпадкова «выпалі» згадкі Віцебскай і Віленскай губ. Разгорнутая справаздача з'езда, апублікаваная М. Кахановічам на старонках «Могилёвского вестника» (31.03–2.04. 1917) утрымлівала іх поўны пералік[857].

Дарэчы, для больш дакладнага вызначэння этнаграфічных межаў Беларусі з'езд пастанавіў стварыць асобную Навуковую камісію, у склад якой запрасіць акадэмікаў Я. Карскага і А. Шахматава, а таксама гісторыкаў М. Доўнар-Запольскага і М. Любаўскага. Таксама быў выказаны пратэст супраць намераў Літоўскай нацыянальнай рады (Петраград) уключыць у склад Літвы ўсю Віленскую губ.[858]

Апошняе рашэнне суправаджалася дыскусіяй наконт стаўлення да Літвы і яе аўтанамісцкіх намаганняў. Паводле карэспандэнта «Новага кур'ера літэўскага», у цэнтры спрэчак аказалася пытанне, ці трэба шукаць саюза з Літвой. Меркаванні разышліся. Смоліч ад імя БСГ заявіў пра важнасць беларуска-літоўскага саюза і пажаданне аўтаноміі шасці губерняў гістарычнай Літвы, што адпавядала традыцыі, дазваляла пазбегнуць канфлікта за тэрыторыі са змяшаным насельніцтвам, а таксама гарантавала Беларусі выхад да мора.

А вось Кахановіч як прадстаўнік ліберальнай плыні «заходнерусізму» ў беларускім руху быў катэгарычна супраць. На яго думку, гісторыя ў гэтым выпадку не мела значэння, а з пункту гледжання этнаграфіі і культуры беларусаў нічога (?!) не звязвала з Літвой. Рэдактар «Могилёвского вестника» настойваў на існаванні «адной рускай сям'і» ў складзе Вялікаросіі, Беларусі і Маларосіі[859]. Гэта

[857] С. Рудовіч, *Час выбару...*, с. 91

[858] *Пратакол з'езду беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску 25–27 марца 1917 г.*, с. 32.

[859] «Nowy Kurier Litewski». 1917, Nr 83.

быў толькі пачатак той «цывілізацыйнай» дыскусіі, якая на працягу ўсяго 1917 г. будзе падзяляць прадстаўнікоў розных накірункаў беларускага Адраджэння і істотна перашкаджаць яднанню нацыянальных сіл.

У апублікаваным варыянце Пратакола таксама адсутнічалі важныя палажэнні даклада фінансавай камісіі (Э. Будзька). Чытачы маглі даведацца, што ў створаным Нацыянальным фондзе знаходзіцца 2 тыс. руб., сабраных беларусамі Петраграда. Насамрэч, дакладчык казаў пра перадачу 1 тыс. руб. Э. Вайніловічам, яшчэ 1 тыс. руб. «іншымі». Скрыначны збор на вуліцах Менска і Бабруйска папоўніў Фонд на 2 тыс. руб. Найбольшую суму (10 тыс. руб.) у гэты фонд перадала княгіня Радзівіл. Дэлегаты апладысментамі выказалі ёй падзяку[860].

Даклад Земскай камісіі рабіў аграном Стаўпоўскі. Камісія пры падтрымцы з'езда выказалася за дэмакратычную рэарганізацыю земскага самакіравання, асновай якога павінна было стаць валаснoe земства, сфарміраванае на аснове ўсеагульнага выбарчага права, якое распаўсюджвалася таксама на жанчын[861].

Адным з найбольш важных быў даклад арганізацыйнай камісіі, з якім выступаў Павел Аляксюк. Пасля даклада з'езд выказаўся за стварэнне ў бліжэйшы час вышэйшага прадстаўнічага і заканадаўчага органа аўтаномнай Беларусі – Беларускай Краёвай Рады ў Менску. У яе павінны былі ўвайсці прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцяў Краю. Да яе фарміравання ролю вышэйшага органа ўлады ў Беларусі з'езд браў на сябе[862]. Праўда, як слушна заўважыў Рудовіч, рэалізацыя гэтага рашэння была магчымая толькі пры ўмове, што беларускія адраджэнцы здолеюць аб'яднаць вакол ідэі агульнакраёвай улады ўсе галоўныя палітычныя сілы Беларусі, а таксама асноўную частку яе насельніцтва – беларускае сялянства[863]. Трэба прызнаць, што ўвесну 1917 г. гэта было невырашальнай задачай.

Для кіравання Краем з'езд сфарміраваў Беларускі нацыянальны камітэт (БНК)[864], асноўнымі задачамі якога абвяшчаліся «арганізацыя Беларусі» ў кантакце з Часовым урадам, падрыхтоўка выбараў у Беларускую Краёвую Раду і прапаганда выбараў ва Устаноўчы сход на прынцыпах федэратыўнай і дэмакратычнай Расійскай рэспублікі. Дзеля вырашэння гэтых задач планавалася стварэнне губернскіх, павятовых і нават валасных аддзелаў БНК. У склад БНК былі абраны Раман Скірмунт, Аркадзь Смоліч, Павел Аляксюк, Лявон Заяц, Эдвард Будзька, Усевалад Фальскі, Браніслаў Тарашкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Яўсей Канчар, Іван

---

860 Ibidem; НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 175, арк. 7.

861 *Пратакол з'езду беларускіх нацыанальных арганізацый у Мінску 25–27 марца 1917 г.*, с. 32–33.

862 Тамсама, с. 33.

863 С. Рудовіч, *Час выбару…*, с. 91

864 Як пэўны казус выглядае сцвярджэнне гісторыка Андрэя Чарнякевіча, што падчас з'езда менскае аддзяленне «Таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны» абвясціла сябе Беларускім нацыянальным камітэтам (А. Чернякевич, *БНР. Триумф побежденных*. Минск, 2018, с. 27).

Краскоўскі, Алесь Бурбіс, Казімір Кастравіцкі, Бабарыкін, Фабіян Шантыр, Міхаіл Кахановіч, Вацлаў Іваноўскі, Лявон Дубяйкоўскі і Зміцер Жылуновіч. Большасць сяброў Камітэта належала да БСГ. Аднак яго старшынём пасля доўгіх і вострых спрэчак стаў Скірмунт.

Ксёндз В. Гадлеўскі пазней тлумачыў, што ў той момант ніхто з сяброў БНК, а магчыма і ўдзельнікаў з'езда, не думаў пра далейшае развіццё рэвалюцыі аж «да камунізму». Урад князя Львова выглядаў даволі трывалым, і перамагло меркаванне, што з кадэтамі лягчэй будзе весці размову Скірмунту, а не беларускім сацыялістам[865].

У Прэзідыум БНК апрача Скірмунта абралі Алексюка і Фальскага як «таварышаў» старшыні, Зайца (скарбнік) і Тарашкевіча (пісар). З'езд вызначыў склад беларускай дэлегацыі для візіту ў Петраград. Кампанію Скірмунту склалі Краскоўскі, Будзька, Канчар, Аляксюк, Кахановіч і Касяк. Таксама з'езд выказаўся за «прылучэньне» да дэлегацыі прадстаўнікоў праваслаўнага і каталіцкага духавенства[866].

Напрыканцы працы па прапанове Алексюка з'езд прыняў Дэкларацыю, якую дэлегацыя павінна была ўручыць Часоваму ўраду.

*ДАКУМЕНТ*

**Дэкларацыя З'езда беларускіх арганізацый (Менск, 25–27 сакавіка 1917 г.[867])**

*З'езд прэдстаўнікоў беларускіх палітычных партый і клясоў, сабраўшыся ў Мінску 25–27 марца гэтаго году, вітаючы вялікую расейскую рэвалюцыю, прынесшую нам свабоду і блізкасьць аўтономіі Беларусі, выражаючы сваю гатоўнасьць падтрымаць Часовы Урад у яго барацьбе з унешнімі ворагамі за свабоду Расеі і яе народаў і з прыслужнікамі старога ўраду – перэдае споўніцельную ўладу Беларускаму Нацыанальному Камітэту, каторы павінен у кантакце з Часовым Расейскім Урадам арганізаваць Беларусь. Беларускі Нацыанальны з'езд, умацаваны ў шчырым жаданьні нясьці часьць вялікай працы на карысьць вольных народаў Расеі, моцна перэконаны, што яго Нацыанальны Камітэт, кіруючыся да паляпшэньня жыцьця ў родным краю, прынясе карысьць агульна-гасударственнаму будаваньню на фундамэнце федэратыўнага строю дэмократычно-рэспубліканскай Расеі, аб чым з'езд даручае сваёй дэлегацыі данясьці да ведама Часовага Ураду.*

Такім чынам, напрыканцы сакавіка 1917 г. з'езд беларускіх арганізацый і БНК заявілі пра ўласную гатоўнасць забяспечыць канстытуяванне Беларусі як аўтаномнай палітычнай адзінкі ў складзе Расійскай федэрацыі. Ва ўмовах рэвалюцыйнай

---

865 В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску*, «Спадчына». 1997. № 5, с. 21–22.

866 *Пратакол з'езду беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску 25–27 марца 1917 г.*, «Спадчына». 1990. № 4, с. 33.

867 Ibidem; Гл. таксама: «Новое Варшавское утро». 1917, № 2189. На рускай мове гэты зварот быў апублікаваны ў газеце «Речь»за 1917 г., № 74, с. 4.

эйфарыі і веры ў добрую волю новых кіраўнікоў «свабоднай Расіі» гэтая задача здавалася цалкам вырашальнай. Аднак красавіцкі візіт дэлегацыі БНК у Петраград і перамовы з міністрамі Часовага ўрада высветлілі эфемернасць беларускіх надзей.

Як слушна заўважыў Рудовіч, у тагачасных умовах Беларускаму нацыянальнаму камітэту было надзвычай складана стаць зародкам агульнакраёвай улады ў Беларусі. Ён мог быць толькі грамадскай установай, каардынацыйным цэнтрам вакол якога адбывалася палітычная і нацыянальна-культурная кансалідацыя той часткі беларусаў, што заставалася пад юрысдыкцыяй Расіі[868].

Гэтаму цэнтру трэба было як мага хутчэй зразумець рэальную сітуацыю новай Расійскай дзяржавы, дзе выразна дамінавалі цэнтралісцкія тэндэнцыі, якія мелі моцных саюзнікаў у Беларусі. Апрача таго, у Краі і побач з ім разгортваліся нацыянальныя рухі суседніх народаў, інтарэсы якіх трэба было таксама ўлічваць у справе «арганізацыі Беларусі». А яшчэ важна было дакладна акрэсліць сілы, гатовыя з’яднацца вакол праграмы БНК, каб зразумець рэальнасць уласных нацыянальных прэтэнзій.

Відавочна, што першасны склад БНК на чале са Скірмунтам быў арыентаваны на кансалідацыю ўсіх наяўных беларускіх сіл, а таксама на пошук і прыцягненне патэнцыйных саюзнікаў сярод іншых нацыянальнасцяў Беларусі. Менавіта такой была пазіцыя арганізатараў з’езда і самога Рамана Скірмунта. Як ужо згадвалася, яшчэ да сакавіцкага з’езда ён імкнуўся далучыць да беларускага руху буйных землеўласнікаў. Прыгадваючы фінансавую дапамогу з боку Радзівілаў і Вайніловіча, удзел у пасяджэннях БНК князя Г. Друцкага-Любецкага, можна сцвярджаць, што гэтыя намаганні далі пэўны пазітыўны вынік.

Паводле Гадлеўскага, кіраўнік БНК наогул імкнуўся стварыць «беларускую абшарніцкую партыю»[869]. Не думаю, што гэта сапраўды ўваходзіла ў планы Скірмунта. Ён добра арыентаваўся ў настроях мясцовых «абшарнікаў» каталіцкага веравызнання і разумеў немагчымасць стварэння падобнай партыі. У 1907 г. у яго не атрымалася стварыць Краёвую партыю Літвы і Беларусі, дык няўжо ў 1917 г. ён бачыў магчымасць стварэння «беларускай абшарніцкай партыі»?

Больш верагодна, што ў гэты момант ізноў праявілася характэрная рыса Рамана Скірмунта як палітыка. Ён заўсёды імкнуўся да паяднання і кансалідацыі розных палітычных сіл. А тое, што Гадлеўскі лічыў «абшарніцкай партыяй», насамрэч, было толькі імкненнем прыцягнуць да беларускай палітычнай дзейнасці ўплывовых землеўласнікаў.

Пра імкненне кіраўніка БНК да кансалідацыі таксама сведчыць згаданае пазітыўнае стаўленне да абрання прадстаўніка беларускай арганізацыі ў Менскі Савет рабочых дэпутатаў дзеля пастаяннага кантакта. Таксама вядома, што кіраўнік БНК

---

[868] С. Рудовіч, *Час выбару…*, с. 92–93.

[869] В. Гадлеўскі, *З беларускага палітычнага жыцця…*, с. 22.

угаворваў сацыяліста і прыхільніка расійскай арыентацыі Яўсея Канчара не выходзіць са складу БНК, «таму што пункт гледжання Канчара ў камітэце патрэбны»[870].

Дарэчы, Канчар 30 сакавіка 1917 г. напісаў ліст да Скірмунта, у якім выказаў сумненні ў шчырасці нацыянальных матываў дзейнасці кіраўніка БНК і цікавіўся ягоным стаўленнем да «ўяўнага ўдзелу» палякаў у беларускім руху. Раман Скірмунт напісаў ліст у адказ, які захаваўся дзякуючы таму, што быў апублікаваны Канчарам увесну 1918 г. на старонках часопіса «Чырвоны шлях», выдання Беларускага аддзела Наркамата па справах нацыянальнасцяў у Петраградзе.

У сваім лісце Скірмунт не кляўся ў прыналежнасці да беларускай нацыі, ён толькі адзначыў, што з'яўляецца «ўраджэнцам беларускага Палесся» і дадаў, маючы на ўвазе Беларусь і беларусаў: «Я заўсёды быў і буду горача адданы сваёй радзіме і свайму народу». На верагодны падтэкст пытання наконт «уяўнага ўдзелу» палякаў ён не стаў рэагаваць, адзначыўшы адсутнасць у яго сумневаў наконт шчырасці тых прадстаўнікоў каталіцкага духавенства, якія выступаюць за ўвядзенне беларускай мовы ў дадатковае набажэнства. Скірмунт таксама адкінуў ідэю «гістарычных парахункаў» беларусаў з іншымі народамі, заявіўшы, што «адносіны да іншых заўсёды будуюцца на ўзаемнасці».

*ДАКУМЕНТ*

**З ліста Рамана Скірмунта да Яўсея Канчара. Красавік 1917 г.**[871]

*Милостивый Государь Евсевий Степанович,*

*[…] Я сам уроженец Белорусского Полесья, потомок литовской семьи с древних времен, с испокон веков оседлой в этом крае, и мои предки до 17 столетия пользовались белорусским языком как домашним. Я всегда был и буду горячо предан своей родине и своему народу. Их местонахождение не за Неманом и Бугом, и не на Волге, а здесь в Белоруссии. В I Государственной Думе, смею сказать, благодаря моим усилиям, выделилась краевая группа депутатов Литвы и Белоруссии, совершенно самостоятельная и независимая от Польского Кола. Во фракции автономистов-федералистов I Госуд[арственной] Думы я отстаивал интересы белорусского народа. В отношении настоящего участия в польских организациях и депутации, посетившей Временное правительство, меня по-видимому смешивают с моим двоюродным братом К. Г. Скирмунтом, членом Государственного Совета по выборам от Гродненской губернии.*

*Указывая дальше на мнимое участие многих поляков в белорусском движении, я полагаю, Вы имеете главным образом ввиду католических священников. Гнет старого правительства, осложняя многие вопросы политической жизни края, оказывал в некоторых случаях – против желания – косвенную поддержку*

---

870 С. Рудовіч, «*Беларускі дзеяч з вялікіх паноў...*», с. 38.

871 «Чырвоны шлях». 1918. № 1–2, с. 12–13. Хачу выказаць удзячнасць гісторыку Рыгору Лазько за перададзеную ксеракопію гэтага выдання.

*Полонизму. Отрицая существование, не допуская мысли об употреблении в костелах белорусского языка, оно этим же самым закрепляло положение польского языка. Духовенство не могло согласиться на введение великорусского языка, чуждого прихожанам и в то время опасного для самого существования костела и, конечно, волей-неволей должно было придерживаться польского. Ныне, когда освобождение от прежнего гнета принесло нам свободу самоопределения, когда изречение, имевшее силу и значение в течение десятков лет, «белорусского языка нет и быть не может», отошло в область преданий, многие ксендзы, считаясь с нуждами своей паствы, возбудили вопрос о замене при добавочном Богослужении польского языка белорусским. Сомневаться при таких обстоятельствах в их искренней преданности Белорусскому делу мы не имеем оснований.*

*Вопрос об «исторических счетах» Белорусов с другими народностями я бы пока оставил на стороне. Преобладающее влияние учений Илловайского в течение десятков лет вызвало несколько одностороннее отношение истории к некоторым фактам из прежней жизни нашего края. Впрочем вопрос этот в данный момент не имеет существенного значения. У нас будет столько работы около культурного, экономического и морального возрождения края, что думать об исторических расчетах на первых порах не придётся. Отношения к другим всегда основаны на взаимности. Поскольку другие народы проявляют к нам недоброжелательные стремления, им, конечно, должен быть оказан надлежащий отпор. Arma in manum pace in corde (Са зброяй у руцэ і з мірам у сэрцы. – А. С.) – вот лозунг, которого бы я придерживался в отношении к другим народам.*

*Полагая, что эти ясные и положительные ответы вас удовлетворят, имею честь пребывать к Вам с совершенным почтением и преданностью.*

*Р. А. Скирмунт*

Аднак падзеі, якія адбываліся пасля беларускага з’езда, разбуралі той узнёсла-пераможны настрой, які запанаваў сярод адраджэнцаў. Па-ранейшаму найбольш актуальнай заставалася праблема адзінства.

У ліку першых на заклік беларусаў да яднання адрэагавалі мясцовыя іерархі праваслаўнай царквы. Так, 2 красавіка 1917 г. епіскап Менскі і Тураўскі Георгі ў адмысловым пасланні да духавенства даводзіў «польскі характар» Беларускага камітэта, які нібыта падрываў асновы праваслаўнай веры і падманваў беларусаў, якія, насамрэч, з’яўляюцца толькі адгалінаваннем рускага народу[872].

Сур’ёзныя праблемы паўсталі падчас арганізацыі і правядзення агульнакраёвага сялянскага з’езда ў Менску. Ён адбыўся, але аказаўся малапрадстаўнічым, а яго рашэнні не атрымалі водгуку на месцах. Паводле інфармацыі «Минской газеты», на з’езд прыехалі толькі 52 дэлегаты пераважна з Магілёўскай і неакупаваных частак Віленскай губ. З’езд падтрымаў аграрную праграму БСГ з яе па-

[872] С. Рудовіч. *Час выбару*…, с. 99–100.

лажэннем пра «агульнанародную ўласнасць» на зямлю і перадачу яе сялянам для карыстання ў адпаведнасці з працоўнай нормай. Канчатковае вырашэнне аграрнага пытання звязвалася з дзейнасцю Краёвага сойма Беларусі. Таксама ўдзельнікі з’езда падтрымалі прапанову ўтварэння на месцах сялянскіх камітэтаў пад эгідай БНК[873]. Аднак з’езд і ягоныя рашэнні аказаліся амаль незаўважанымі ў Беларусі.

Галоўнай прычынай няўдачы было супрацьдзеянне Губернскага сялянскага камітэта на чале з бальшавіком Фрунзе, а таксама адмова Камітэта прапаганды ўдзельнічаць у падрыхтоўцы з’езда. Абодва камітэты сышліся на платформе непрыняцця ідэі аўтаноміі Беларусі. Іх напалохала актыўнасць беларускіх адраджэнцаў і сур’ёзнасць іх намераў.

Між тым, выконваючы рашэнне сакавіцкага з’езда, дэлегацыя БНК у сярэдзіне красавіка выправілася ў Петраград на перамовы з Часовым урадам па найбольш актуальных пытаннях існавання беларускай нацыі. Напярэдадні візіту 8 красавіка ў Петраградзе адбыўся мітынг мясцовых беларусаў. Беларусы прывіталі Часовы ўрад і заявілі, што апрача дэмакратычных перамен выступаюць за федэратыўны лад Расіі як неабходную ўмову яе свабоднага развіцця. Беларусь яны бачылі адным са «штатаў свабоднай федэратыўнай Расеі»[874]. Была прынята адпаведная дэкларацыя ў адрас Часовага ўрада. Яе падпісаў «старшыня мітынгу» Вацлаў Іваноўскі, які праз некалькі дзён далучыўся да дэлегацыі БНК.

Перад ад’ездам ў Петраград БНК прыняў удзел у масавай маніфестацыі ў Менску, што адбылася пасля заканчэння І з’езда вайсковых і рабочых дэпутатаў Заходняга фронту, які падтрымаў палітыку Часовага ўрада. У прысутнасці такіх вядомых думскіх палітыкаў як М. Радзянка, Ф. Родзічаў, М. Скобелеў, М. Чхэідзе, І. Цэрэтэлі па вуліцах Менска пад гукі «Марсельезы» прайшла калона маніфестантаў на чале з генералам А. Эвертам і ягоным штабам. Сярод розных нацыянальных і палітычных арганізацый ішлі таксама прадстаўнікі БНК пад белым сцягам з надпісам «Вольная Беларусь»[875]. Але гэтае рэвалюцыйнае яднанне ўжо было больш вонкавым...

Прыехаўшы ў Петраград, яшчэ да перамоваў з Часовым урадам беларусы сустрэліся з сябрамі Літоўскай нацыянальнай рады. Раман Скірмунт, нягледзячы на антылітоўскія настроі прадстаўнікоў «заходнерускай плыні» ў беларускім руху, усё ж не траціў надзеі на паразуменне. Магчыма, што яго пазіцыя набліжалася да курса, які ў стасунку да Літвы займалі ў той час кіраўнікі віленскай беларускай суполкі. Так, у сакавіку 1917 г. Антон Луцкевіч у спецыяльным мемарандуме, дасланым канцлеру Германіі, сфармуляваў галоўную мэту беларускага руху, менавіта – «стварэнне з трох аб’яднаных абласцей Беларусі, Літвы і Курляндыі, занятых нямецкімі войскамі, незалежнай дзяржаўнай арганізацыі»[876]. Сталіцай

[873] Тамсама, с. 125–126.
[874] ГАРФ. Ф. 1778, оп. 1, д. 244, л. 31.
[875] «Новое Варшавское утро». 1917, № 2199.
[876] ЦБУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 21–277, k. 12.

гэтай канфедэрацыі бачылася Вільня. Для беларусаў і часткі літоўскіх і беларускіх палякаў краёвасць яшчэ захоўвала сваю актуальнасць, адпаведна прывабным выглядаў палітычны саюз з літоўскім рухам.

У Петраградзе адбылася свайго роду беларуска-літоўская канферэнцыя, дзе беларускі бок быў прадстаўлены дэлегацыяй БНК і прадстаўнікамі Беларускага камітэта ў Петраградзе. Паводле інфармацыі М. Кахановіча, змешчанай на старонках «Могилевского вестника» (№ 89 ад 20 красавіка), літоўцам прапанавалі саюз дзеля «лепшай будучыні для абодвух народаў». Паводле беларускага боку, ён павінен быў грунтавацца на «даўнейшай супольнай лучнасці ў форме дзяржавы – гістарычнай Літвы», а таксама на існуючай «адміністратыўнай супольнасці» ў форме г. зв. Паўночна-Заходняга краю, і адзінстве эканамічных і палітычных інтарэсаў Літвы і Беларусі[877]. З гэтай прапановай выступіў Раман Скірмунт.

Сябра дэлегацыі кс. Вінцэнт Гадлеўскі пазней прыгадваў, што беларусы апрача факта гістарычнага адзінства, казалі пра значэнне супольнай абароны ад мацнейшых суседзяў і адзначалі агульнасць палітычных і сацыяльных інтарэсаў. Між іншым, гаворка ішла пра важнасць для беларусаў выхаду да Балтыйскага мора, а для літоўцаў – пра існаванне вялікага «заплечча» (Hinterland)[878].

Аднак гэтая прапанова не была прынята. Літоўскія прадстаўнікі заявілі, што «літоўская справа» ўжо набыла міжнародны характар, а «беларускае пытанне» ўсё яшчэ застаецца ўнутрырасійскай праблемай. Дзяржаўнасць на падмурку былога Вялікага Княства Літоўскага не ўваходзіла ў іх планы.

Літоўскі рух мэтаскіравана імкнуўся да дзяржаўнасці ў межах «этнаграфічнай Літвы з прылеглымі тэрыторыямі», і краёвая ідэя ўжо не знаходзіла падтрымкі. Сябры Літоўскай нацыянальнай рады настойвалі на аўтаноміі Літвы з літоўскай адміністрацыяй у межах Ковенскай, Сувалкаўскай і Віленскай губ. «Этнаграфічныя аргументы» беларусаў яны адкідалі на карысць існуючага адміністрацыйнага падзелу. «Яблыкам разладу» таксама стала Вільня. У адказ на літоўскія прэтэнзіі беларусы заявілі, што Вільня – не беларускі і не літоўскі горад, але паколькі ён знаходзіцца на беларускай тэрыторыі і аточаны беларускім насельніцтвам, то павінен належаць беларусам[879].

Палітычная пазіцыя кіраўнікоў літоўскага руху не пакідала аніякіх шансаў на поспех краёвай ідэі. Менавіта «сепаратысцкія памкненні Літвы» Раман Скірмунт пазней назаве галоўнай прычынай маргіналізацыі краёвасці[880].

Відавочна, што ў Петраградзе прыезд беларускай дэлегацыі не выклікаў вялікай

---

[877] W. Slawucič, *Biełarusy i litoŭcy ŭ 1917 hodzie*, «Krynica». 1925, 18 studz.

[878] В. Гадлеўскі, *Беларускае літвафільства*, «Беларускі фронт». 1938, № 7 (публікацыя ў часопісе «Спадчына». 1993, № 2, с. 47)

[879] НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 171, арк. 19–21.

[880] R. Skirmunt. *Rysy odrębności Polesia* (у:) *Polesie ilustrowane*: monografja: praca zbiorowa. Pod red. O. Nelarda. Brześć 1923, s. 28.

цікавасці. Многія тагачасныя петраградскія газеты («Вестник Временного правительства», «Петербургский листок», «Новое время» ды інш.) наогул не заўважылі гэтай падзеі, хоць іх старонкі былі перапоўнены інфармацыяй пра дзейнасць і патрабаванні польскіх, украінскіх ды іншых нацыянальных арганізацый. Знайшлося нават месца, каб паведаміць пра прыезд у Петраград дэлегацыі чукчаў, якія якраз у гэты час імкнуліся прывітаць Часовы ўрад.

Пра візіт беларускай дэлегацыі паведамілі толькі газета кадэтаў «Речь» і «Русская воля», якую выдаваў былы царскі міністр унутраных спраў А. Пратапопаў. З нататкі на старонках «Русской воли» чытачы маглі даведацца, што 11 красавіка ў Петраград прыбыла дэлегацыя беларусаў у складзе былога дэпутата Дзяржаўнай Думы Рамана Скірмунта, інжынера Іваноўскага, настаўніка Касяка, публіцыста Будзяка (Э. Будзькі. – *А. С.*) ды інш. Адзначалася, што дэлегаты наведаюць Часовы ўрад і Выканкам Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў, каб прывітаць іх ад імя беларускага з’езда[881].

На старонках «Речи» фігуравалі таксама іншыя сябры дэлегацыі, менавіта ксёндз Гадлеўскі, праваслаўны святар Разумовіч, рэдактар «Могилевского вестника» М. Кахановіч і ўпаўнаважаны Усерасійскага Саюза гарадоў І. Краскоўскі. Адзначалася, што дэлегаты ўручаць пастановы беларускага з’езда Часоваму ўраду і Выканкаму Савета[882]. Дарэчы, менавіта «Речь» напрыканцы сакавіка 1917 г. паведаміла сваім чытачам пра з’езд беларускіх партый і арганізацый у Менску і ягоныя рашэнні. Ужо ў той інфармацыі падкрэслівалася імкненне БНК спрыяць развіццю Расіі на прынцыпах федэратыўнага і «дэмакратычна-рэспубліканскага ладу»[883].

Сціплыя газетныя паведамленні дазваляюць удакладніць склад беларускай дэлегацыі. Можна меркаваць, што адпаведна з пажаданнямі ўдзельнікаў з’езда яна была дапоўненая прадстаўнікамі каталіцкага (Гадлеўскі) і праваслаўнага (Разумовіч) духавенства. Таксама фігуруе імя В. Іваноўскага, які, верагодна, замяніў Канчара.

Апошні на старонках газеты «Новый курьер варшавский» пасля публікацыі заметкі пра вяртанне беларускай дэлегацыі з Петраграда заявіў, што выйшаў з яе складу, бо не падтрымлівае ідэі аўтаноміі Беларусі. «Як сацыяліст-народнік, – пісаў Канчар, – я выступаю за дэмакратычную рэспубліку з мясцовым самакіраваннем на падставе нацыянальнага самавызначэння і гістарычных умоваў мясцовасці. Толькі так я разумею самакіраванне Беларусі. Федэратыўны лад у Расіі і федэратыўнае ўладкаванне Беларусі лічу непрымальным, зыходзячы з гісторыі стварэння рускай дзяржавы, а таксама амерыканскай і швейцарскай практыкі»[884].

Яшчэ два сябры дэлегацыі не былі заўважаны петраградскім друкам. Між тым,

---

881 «Русская воля». 1917, № 58; НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 175, арк. 16.

882 «Речь». 1917, № 84; НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр.175, арк. 17.

883 «Речь». 1917, № 74.

884 «Новое Варшавское утро». 1917, № 3009.

імя лекара Аляксандра Ярэміча прысутнае на Дакладной запісцы, перададзенай міністру-старшыні Часовага ўрада 14 красавіка. А Павел Аляксюк распавёў пра працу дэлегацыі на з'ездзе беларускіх арганізацый у Менску ў ліпені 1917 г.

Першы візіт дэлегацыя нанесла кіраўніку Часовага ўрада і адначасна міністру ўнутраных спраў князю Львову. Яму была ўручана *Докладная записка*. Падчас размовы падкрэслівалася неабходнасць абвяшчэння Расіі федэратыўнай рэспублікай, дэмакратызацыі гарадскога і земскага самакіравання, пэўнай беларусізацыі адукацыі (напр., увядзення беларускамоўнага навучання ў сістэме народных школ, вывучэння беларускай мовы і гісторыі Беларусі, а таксама беларускай літаратуры і краязнаўства ў настаўніцкіх і духоўных семінарыях ды інш). Таксама закранался пытанне кампенсацыі тых страт, якія панесла беларускае насельніцтва падчас ваенных дзеянняў.

Аляксюк, прыгадваючы гэты візіт, заўважыў, што князь Львоў «выслухаў усё гэта ўважна, але сказаў, што ўсе гэтыя дамаганьні належуцца да розных міністраў»[885]. Паводле Гадлеўскага, кіраўнік урада заявіў, што пажаданні беларусаў можа задаволіць толькі Устаноўчы сход[886]. Кахановіч на старонках «Могилевского вестника» (№ 89 ад 20 красавіка) таксама адзначыў, што дэлегацыя звярнула ўвагу міністра-старшыні на беспадстаўнасць літоўскіх прэтэнзій на беларускія тэрыторыі ў межах Ковенскай, Сувалкаўскай і Віленскай губ., а таксама на Вільню. Князь Львоў заявіў, што прымае да ведама беларускі пратэст і прызнаў, што ўжо атрымаў дэкларацыю літоўцаў, у якой згадваюцца тэрыторыі трох губерняў. Беларуская дэлегацыя яшчэ раз выказалася пра адсутнасць падстаў для падобных прэтэнзій[887].

На асобніку *Докладной записки*, які захаваўся ў фондзе Міністэрства ўнутраных спраў Часовага ўрада (Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі), ёсць рэзалюцыя князя Львова, які накіраваў гэты дакумент свайму намесніку ў Міністэрстве ўнутраных спраў Сяргею Лявонцьеву.

*ДАКУМЕНТ*

**Докладная записка съезда белорусских общественных организаций.**

*14 апреля 1917 г.*[888]

*25, 26 и 27 марта 1917 года в Минске состоялся Съезд Бел[орусских] Общ[ественных] деятелей, который избрал из своей среды для проведения в жизнь постановлений съезда «Бел[орусский] Нац[иональный] Комитет».*

*По вопросам общеполитическим съезд высказался следующим образом: «При-*

---

885 «Вольная Беларусь». 1917, № 8.

886 З *жыцьця і дзейнасьці кс. В. Гадлеўскага. Аўтабіяграфічны нарыс,* «Беларуская крыніца». 1928, 12 і 16 лютага.

887 НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 171, арк. 22.

888 ГАРФ. Ф. 1800, оп. 1, д. 44, л. 1–1 адв. Тэкст *Докладной записки* выклікае здзіўленне, бо больш нагадвае чарнавік, аўтар якога ўжываў скарачэнні слоў. Аднак менавіта на гэтым тэксце прысутная рэзалюцыя князя Львова.

*знавая, что основные взаимоотношения между Белоруссией и Рос[сийской] Державою должны быть определены Всероссийским Учр[едительным] Собр[анием], съезд Б[елорусских] О[бщественных] деятелей считает, что единственной возможной формой государственного устройства Р[оссийской] Д[ержавы] является федеративная республика. Ядром Б[елоруссии] являются губернии: Минская, Могилёвская, Витебская, Гродненская и Виленская.*

*В виду отсутствия в некоторых губ[ерниях] земских организаций, а в других наличия лишь «столыпинских» упрощенных организаций самоуправления, необходимо ускорить введение в Крае учреждений городского и земского самоуправления на демократических началах».*

*По вопросам народного образования съезд высказался следующим образом: «Необходимо назначение в местные органы Центральных управлений по Мин[истерству] Н[ародного] П[росвещения] людей Края, предложенных местными национальными организациями. Преподавание в низших народных школах Белоруссии должно вестись на родном бел[орусском] языке. В учительские и духовные семинарии вводится изучение Белорусского языка, истории Белоруссии, Белорусской литературы и краеведения. Те же предметы вводятся факультативно и в средние школы Бел[оруссии]. Необходимо немедленное учреждение в Б[елоруссии] университета и высшего спец[иального] уч[ебного] заведения. В университете необходимо учредить кафедры белорусского языка, литературы, истории и краеведения Б[елоруссии].*

*По вопросу о возмещении населению убытков, причиненных военными действиями, съезд высказался за необходимость немедленного изменения закона от 6 окт[ября] 1916 г. для действительного обеспечения разоренному населению возможности получить возмещение убытков, причиненных военными действиями.*

*14 апреля 1917 г.*

*Председатель съезда Р. А. Скирмунт (подпись)*
*Члены делегации:*
*Крестьянин Виленской губ. Будславской вол. Э. Будзько)*
*Народный учитель Виленской губ. И. Косяк*
*Доктор медицины А. П. Еремич, уроженец Минской губ.*
*Инженер, техник, доктор технических наук В. Л. Ивановский, Виленская губ.*
*Преподаватель Могилёвского Ремесленного училища М. С. Каханович*
*Юрист П. П. Алексюк Гродненская губ.*
*Минск, Захарьевская, 31*
*Белорусский национальный комитет*

Дарэчы, варта звярнуць увагу на адрас Беларускага нацыянальнага камітэта. Падобна, што ягонай сядзібай стала кватэра Рамана Скірмунта. Магчыма, якраз там адбываліся нарады БНК.

Між тым, беларуская дэлегацыя наведала Сяргея Лявонцьева, які пачаў раз-

мову з пытання: «Якая рэальная сіла стаіць за вамі?» Аляксюк сказаў пра вялікую маральную сілу. Згадаўшы пра гэта падчас з'езда, ён прызнаў, што на чыноўніка гэтае прызнанне не зрабіла аніякага ўражання. Лявонцьеву таксама паскардзіліся на губернскіх камісараў з ліку радных былога «сталыпінскага» земства, якія працягвалі «абрусіцельную палітыку». Ён у адказ заявіў, што «спагадае гэтай бядзе, але памагчы нічым ні можа, ня можа ісьці проціў выбарной уласьці».

Міністр народнай асветы А. Мануйлаў таксама ўважліва выслухаў пажаданні адкрыцця ў Беларусі ўніверсітэта і сельскагаспадарчага інстытута, дапасавання школьных праграм да краёвага жыцця і перадачы кіравання сістэмай адукацыі ў рукі мясцовых ураджэнцаў. Міністр пагадзіўся з выказанымі прапановамі, але заявіў, што ён нічога не можа зрабіць і параіў накіраваць беларускіх прадстаўнікоў у Камітэт пры Міністэрстве народнай асветы.

Паводле ўспамінаў Алексюка, найбольш канкрэтнай была размова з обер-пракурорам Сінода Уладзімірам Львовым. Той, дарэчы, падтрымліваў дэмакратычна і па-рэфарматарску настроеную частку духавенства і канфліктаў з іерархамі праваслаўнай царквы. Сябры дэлегацыі звярнулі ўвагу на палітычныя выступы асобных высокіх прадстаўнікоў царквы ў Беларусі, якія, на іх думку, распальвалі міжнацыянальную і міжрэлігійную варожасць. Львову перадалі асобнік адозвы аднаго з такіх іерархаў, і пракурор пагадзіўся, што такіх людзей нельга трымаць на пасадзе. Таксама абмяркоўвалася кандыдатура епіскапа-беларуса. Але наступстваў гэта не мела.

Важнай падзеяй для дэлегацыі быў візіт да адміністратара Магілёўскай архідыяцэзіі і кіраўніка каталіцкага касцёла ў Расіі біскупа Яна Цэпляка. 12 красавіка Р. Скірмунт, кс. Гадлеўскі, Э. Будзька і П. Аляксюк уручылі біскупу адмысловую заяву пра неабходнасць увядзення беларускай мовы ў касцёл. У заяве сцвярджалася ненармальнасць раздвоенасці беларусаў, якія ў хаце гавораць па-беларуску, а ў касцёле – па-польску. Таксама прыводзіліся прыклады ранейшых спроб увядзення беларускай мовы ў храм, пачынаючы з айцоў езуітаў у Хвашчоўцы. Беларускія дзеячы падкрэслівалі асаблівую патрэбу беларусізацыі касцёльнага жыцця ў тагачаснай сітуацыі, «bo aproč narodnaha biełaruskaha ruchu, katory žadaje swaje mowy ŭ kaścieli, a także aprača karyści, jakuju prynosić nawučeńnie wiery ŭ rodnaj mowi, siudy jašče dałučajecca patrebnaść niaści światło wiery katalickaj tym, katoryja ciapier nawaročywajucca da katalickaha Kaściołu i da katorych ciažka zwaročywacca pa-polsku, bo jany jaje zusim nie razumiejuć, inšymi sławami, palščyna u ciapierašnich warunkach moža pryniaści tolki škodu katalickamu kaściołu na Biełarusi, a nie karyść»[889].

У заяве ўтрымліваліся пажаданні ўвядзення заняткаў па беларускай мове, літаратуры і гісторыі ў Магілёўскай духоўнай семінарыі ў Петраградзе; чытання ў касцёлах зваротаў вышэйшага духавенства па-беларуску; перадачы белару-

---

[889] *Ab biełaruskaj mowi u kaścieli,* «Homan». 1918, Nr 39.

скаму духавенству касцёлаў, якія будуць вернутыя новым урадам і ў якіх можна будзе адразу ўвесці беларускую мову; выдання беларускамоўных кніг для касцёла і школы, а таксама беларускамоўнага часопіса; прызначэння у Беларусь ксяндзоў-беларусаў або тых, хто валодае беларускай мовай; і, нарэшце, прызначэння біскупа-беларуса або таго, «katory umieje pa-biełarusku hawaryć, znaje biełaruski narod i jaho patreby». Таксама біскупа прасілі нагадаць духавенству ў Беларусі пра ягоны абавязак «nakolki chopić sił i mahčymaści pramaulać pa-biełarusku da ludziej u nawučańni wiery ŭ kaścieli i školi». Каталіцкі іерарх спагадліва паставіўся да беларускай дэлегацыі, але нейкіх практычных вынікаў візіт і заява не мелі.

Аляксюк нічога не сказаў пра наведванне Выканкама Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, але, відавочна, што і той візіт, калі ён наогул адбыўся, меў аналагічны вынік. Усе ўважліва слухалі, спагадалі і... нічога не рабілі. Агульны вынік працы дэлегацыі, паводле Алексюка, можна перадаць адным словам рускай мовы – «вообще»[890].

Ацэньваючы гэты візіт сёння, варта адкінуць эмоцыі, характэрныя для маладых беларускіх палітыкаў, якія з цяжкасцю пазбываліся рэвалюцыйнай эйфарыі. Магчыма, галоўным вынікам дзейнасці беларускай дэлегацыі на чале са Скірмунтам было давядзенне да ведама новага расійскага ўрада рашучага імкнення дзеячаў беларускага руху да аўтаноміі Беларусі і федэралізацыі Расіі, адстойванне нацыянальных інтарэсаў у спрэчках з Літоўскай радай. Таксама важным момантам было наладжванне пастаяннага кантакту паміж Часовым урадам і БНК праз упаўнаважаных апошняга. Такімі паўнамоцтвамі Скірмунт надзяліў Эдварда Будзьку і Аляксандра Ярэміча, пра што паведаміў намесніку міністра ўнутраных спраў Дз. Шчэпкіну[891].

Адначасна гэты візіт паспрыяў актывізацыі сіл, варожых беларускаму руху. Дарэчы, водгукі змагання адчуваліся нават у сталіцы Расіі. Так, газета «Речь» (№ 85 ад 13 красавіка) змясціла пратэст БНК супраць тых заяў, якія рабіліся арганізатарамі І з’езда сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губ.

Ад імя Беларускага нацыянальнага камітэта было заяўлена наступнае: «На белорусском национальном съездзе присутствовало до 150 человек, представители политических партий Белоруссии: Белорусской социалистической грамады, Народно-демократической беспартийной группы, Демократической католической партии и других различных групп, которые в своих декларациях и своим единогласным принятием резолюций определили характер съезда. Таким образом, это был не «так называемый съезд», а действительно съезд белорусских общественных деятелей, работающих уже много лет над делом возрождения Белоруссии, среди которых было немало представителей старой краевой политической партии, имеющей свою историю и заслуги, Белорусской социалистической

890 «Вольная Беларусь». 1917, № 8.

891 ГАРФ. Ф. 1800, оп. 1, д. 44, л. 2.

грамады. Правильно организованного представительства крестьян и рабочих на этом съезде, как и на съездах других организаций быть не могло, но заявление, что «белорусский народ в лице своих трудовых классов – крестьян и рабочих» в работах национального съезда никакого участия не принимал – совершенно неверно»[892].

Між тым, 20–23 красавіка 1917 г. у Менску адбыўся I з’езд сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губ. Ён сабраў болей 800 дэлегатаў і праходзіў пад старшынствам Фрунзе. Як сведчыць Дакладная запіска яго намесніка Піліпа Караткевіча ад 1 снежня 1917 г. галоўнай задачай арганізатараў было супрацьдзеянне беларускаму руху і рашэнням сакавіцкага з’езда[893]. На з’ездзе панавалі антыбеларускія настроі. Фрунзе нават спрабаваў забараніць прадстаўнікам БСГ і БНК выступаць па-беларуску.

Аўтары артыкула пра Рамана Скірмунта на старонках Польскага слоўніка біяграфічнага Чэслаў Бжоза і Каміль Стэпан сцвярджалі прысутнасць Скірмунта на гэтым з’ездзе і ягоныя намаганні нейтралізаваць уплывы бальшавіцкай фракцыі, якая крытыкавала БНК як «памешчыцкую інтрыгу»[894].

Калі Скірмунт сапраўды быў на сялянскім з’ездзе, то трэба прызнаць мужнасць палітыка, які адстойваў свае погляды ў самых неспрыяльных абставінах. Аднак супрацьстаяць бальшавіцкай прапагандзе на з’ездзе беларускага сялянства было складана. Верагодная прысутнасць на ім Скірмунта магла толькі ўзмацніць атакі на БНК з боку прадстаўнікоў партый сацыялістычнага кірунку. У авангардзе гэтых атак ішлі бальшавікі і эсэры. А на тым самым I з’ездзе дэлегаты прагаласавалі за рэзалюцыю, якая асуджала ідэю палітычнай аўтаноміі Беларусі і выказвалася за абласное самакіраванне ў межах Расійскай рэспублікі.

У адказ БНК звярнуўся да рэгіянальных беларускіх арганізацый з патрабаваннем энергічна пратэставаць супраць прынятых на з’ездзе рэзалюцый. Так, старшыня Магілёўскага Беларускага камітэта 29 красавіка атрымаў тэлеграму з Менску: «На состоявшемся 23 апреля крестьянском съезде Минске председатель Михайлов заявил Бел Нац Ком помещичья интрига. Соц Громада на поводу помещиков. Объявил беспощадную борьбу. Принята резолюция обрусительного характера. Энергично протестуйте. Присылайте протест Весник Мн Губ комиссара. Председатель Скирмунт»[895].

Магілёўцы адрэагавалі праз… месяц. У пратаколе пасяджэння Камітэта ад 24 мая 1917 г. было запісана: «...Выразить протест от имени МБК против действий

---

892 НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 175, арк. 18.

893 НАРБ. Ф. 4, воп. 1, спр. 98, арк. 188.

894 Cz. Brzoza, K. Stepan, *Skirmunt Roman (1868–1939)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 185.

895 Беларускі Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (далей: БДАМЛіМ). Ф. 3, воп. 1, спр. 137, арк. 58.

и выступлений в г. Минске Михайлова, изложенной в телеграмме председателя Минского комитета Скирмунта»[896].

Сябра БНК Яўсей Канчар таксама ўдзельнічаў у згаданым сялянскім з'ездзе і быў моцна расчараваны пазіцыяй сялянскіх дэлегатаў («белорусские крестьяне поведены по неправильному пути»[897]), а таксама пазіцыяй кіраўніцтва БНК. Паводле ягонай ацэнкі, кіраўніцтва абвінавацiла сялян у адсталасці, неразуменні дзяржаўных, нацыянальных і культурных задач і выкрэсліла яго са сферы сваіх дзеянняў. Стаўку выршылі рабіць на інтэлігенцыю. Канчар у знак пратэсту падаў заяву пра выхад з Камітэту.

Пазней ён прыгадаў сустрэчу са Скірмунтам і Алексюком на беларускім спектаклі, які адбыўся пасля заканчэння з'езда. Скірмунт прапанаваў Канчару забраць сваю заяву і застацца ў Камітэце, бо ягоны пункт гледжання важны для БНК. Аляксюк запытаў, ці верыць ён у беларускую культуру? Канчар адказаў, што верыць, але мільёны беларускіх сялян адкінутыя ад яе, яны засталіся без нацыянальных правадыроў і зжыліся з «вялікай рускай культурай». Таксама ён заявіў пра ўласны намер ісці ў сялянства і абуджаць у ім нацыянальнае пачуццё. Гэтая ідэя ягоным суразмоўцам падалася невыканальнай, а Яўсей Канчар усё ж выйшаў са складу БНК[898].

Трэба прызнаць, што большасць беларускага сялянства сапраўды была заклапочана не праблемай нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння Беларусі, а пытаннямі зямлі і міру, а таксама штодзённымі турботамі сацыяльна-эканамічнага характару. Прапаганда агульнарасійскіх сацыялістычных партый, якая сцвярджала «непадзельнасць» Расіі, выкрывала нібыта «буржуазна-памешчыцкі» характар Беларускага нацыянальнага камітэта і «польскую арыентацыю» БСГ, а таксама абяцала сялянам хуткае вырашэнне практычна ўсіх (?!) існуючых праблем, аказалася даволі эфектыўнай. Яны распальвалі сацыяльныя інстынкты ніжэйшых колаў насельніцтва, і беларуская ідэя згарала ў гэтым полымі, не вытрымліваючы канкурэнцыі.

У 1918 г. сацыяліст Аляксандр Цвікевіч адной з галоўных прычын гэтай няўдачы назваў знаходжанне на чале БНК Рамана Скірмунта, «чалавека надзвычай непапулярнага сярод сялянскага насельніцтва»[899]. Гэта ж адзначыў у сваёй працы «Белорусское движение» (1921) іншы прадстаўнік беларускіх сацыялістаў Фёдар Турук: «Факт участия в Белорусском национальном комитете Р. Скирмунта, человека непопулярного среди крестьян и связанного узами идейного родства

---

896 Тамсама, спр. 136, арк. 28 адв.

897 Е. С. Канчер, *Из истории общественных, национальных и революционных движений белорусов* (публікацыя В. Скалабана), «Нёман». 1993, № 1, с. 147.

898 Там же, с. 147.

899 А. Цвикевич, *Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики*. Киев 1918, с. 7.

с польско-литовской ориентацией, был первой крупной политической ошибкой в истории белорусского движения наших дней, которой умело воспользовались противники [...], сумевшие на крестьянских съездах и собраниях рабочих внедрить в сознание широких масс населения Белоруссии убеждение, что "белорусский вопрос в его целом есть просто польско-помещицкая интрига, направленная к отделению Белоруссии от России и порабощению белорусского крестьянства польскими панами"»[900].

Варта прывесці таксама ацэнку сітуацыі аднаго з лідэраў левага крыла ў БСГ Жылуновіча. У 1925 г., згадваючы пра сакавіцкі з'езд і стварэнне БНК, ён адзначаў, што «сам па сабе Нацыянальны Беларускі Камітэт, як скутак з'езду, займае значнае месца ў гісторыі беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху. Ён адыграў значную ролю і зрабіў бы шмат большую работу, каб на чале яго ня стаў Скірмунт. Гэтая фігура, далёка не адпавядаючая сутнасьці беларускага руху, які выключна грунтаваўся на беларускіх працоўных масах, унясла сабою сумную старонку ў гісторыю яго развіцьця»[901].

Сапраўды, Скірмунт яшчэ з часоў I Дзяржаўнай Думы (1906) меў рэпутацыю абаронцы памешчыцкага землеўладання. Ва ўмовах хуткай радыкалізацыі сацыяльных нізоў, у т. л. сялян, якія былі найбольш заклапочаны вырашэннем аграрнага пытання, постаць кіраўніка БНК выклікала пэўную насцярожанасць. З боку ворагаў беларушчыны яна стала аб'ектам палітычных спекуляцый[902].

А як мясцовая польская супольнасць адрэагавала на лідэрскую ролю Скірмунта ў беларускім руху? Прадстаўнік яе «левай» часткі Ежы Асмалоўскі ў сваім Дзённіку адзначыў з'яўленне ў Менску Беларускага камітэта на чале з добрым знаёмым Раманам Скірмунтам. Пры гэтым ён адразу падкрэсліў «кансерватыўны» характар гэтай арганізацыі, залічыўшы ў «кансерватары» нават А. Смоліча. Скірмунта ён ахарактарызаваў як «колішняга паляка, які абвясціў сябе беларусам». У гэтай характарыстыцы не было іроніі. Асмалоўскі наогул з павагай паставіўся да нацыянальнага выбару Скірмунта. Таксама ў Дзённіку адзначалася пераважна культурніцкая дзейнасць БНК, якая, на яго думку, стала магчымай дзякуючы фінансавай падтрымцы княгіні Радзівіл ды іншых прыхільнікаў беларускага руху[903].

Аднак у маі з польскага боку ўжо прагучала выразная крытыка пазіцыі Скірмунта і ягоных прыхільнікаў сярод мясцовых землеўладальнікаў. Газета «Новы кур'ер

---

900 Ф. Турук, *Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов*. Москва 1921, с. 33.

901 З. Ж. [З. Жылуновіч], *З'езд беларускіх нацыянальных арганізацый. 25 сакавіка 1917 г.*, с. 206.

902 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 2, арк. 15.

903 BN. Dział mikroform, akc. 6797 J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 1 (1914–1917)*, k. 221.

літэўскі» змясціла ананімны артыкул «Пра польскасць на крэсах», аўтар якога, між іншым, звязваў пачаткі беларускага руху з мясцовымі палякамі, што здрадзілі свайму народу[904]. Аўтар заклікаў польскіх чытачоў зберагаць польскасць і не выступаць у якасці «беларусаў польскай культуры». Апошняе ён лічыў «адхіленнем ад нормы» і «надзвычай шкодным» для польскай супольнасці. У якасці прыкладу аўтар прыгадаў інтэрв'ю «аднаго польскага дэпутата» І Дзяржаўнай Думы (імя Р. Скірмунта не называлася) карэспандэнту «Дзенніка Кіеўскага» (1906), у якім дэпутат назваў якраз сябе «беларусам польскай культуры».

Крытык гэтага меркаванага «крывадушша» быў пэўны, што дэклараваная падвоеная свядомасць з'яўляецца фактарам, які расколвае польскую супольнасць і перашкаджае нацыянальнай працы. Адначасна ён не бачыў перспектывы для такіх «перакіньчыкаў» у беларускім руху, прадракаючы, што беларусы будуць успрымаць іх толькі як падманшчыкаў.

Раман Скірмунт, які, безумоўна, чытаў «Новы кур'ер літэўскі», павінен быў зразумець, што частка польскай супольнасці, у т. л. мясцовай, пачала яго ўспрымаць як здрадніка, а ягоную беларускую дзейнасць ацэньваць як свядомы раскол польскага руху. Абвінавачванне ўжо прагучала, хоць прысуд яшчэ не быў вынесены...

Між тым, усё больш складаным станавілася становішча Рамана Скірмунта ў беларускім руху. Падобна, што ўжо ў другой палове красавіка ў БНК пачала складвацца свайго роду «антыскірмунтаўская апазіцыя». Атмасфера на пасяджэннях стала напружанай. Беларускія сацыялісты пачалі думаць пра замену кіраўніцтва. Важную ролю адыгрывала і тое, што большасць беларускіх арганізацый на месцах арыентаваліся на БСГ. Адным з ініцыятараў стварэння гэтай апазіцыі быў кіраўнік Менскага бюро БСГ і рэдактар газеты «Грамада» Аркадзь Смоліч[905].

Беларускі даследчык Арсень Ліс трапна заўважыў: «Як на прадстаўнічую дэлегацыю ў Петраград да Часовага ўрада з беларускімі пастулатамі, то былы член Думы, імпазантны Скірмунт, пэўна, падыходзіў. Але штосьці іншае было дзейсна весці беларускую работу ў свеце, які імкліва радыкалізаваўся, ды ўнутры БНК, у асяроддзі маладых сацыялістаў. […] Аб поглядах яго не пыталіся: якая каму была патрэба ведаць, што гэты памешчык даў слова безаглядна падпарадкавацца ў будучым рашэнню Устаноўчага сходу – перадаць сваю зямлю сялянам»[906].

Спадзяванні кіраўніцтва БНК на магчымае паяднанне беларусаў на глебе нацыянальнай ідэі паступова слабелі і разбураліся. Сітуацыю, сапраўды, магла палепшыць спроба пэўнага сумяшчэння беларускай ідэі з папулярнай сацыяльна-эканамічнай праграмай або нават падпарадкаванне гэтай ідэі вырашэнню першачарговых сацыяльных праблем, але ў тагачаснай сітуацыі гэта магло прывесці да растварэння беларускіх арганізацый у агульнарасійскім сацыялістычным руху,

904 «Nowy Kurier Litewski». 1917, Nr 104.
905 А. Ліс, *Аркадзь Смоліч* (у:) Ліс А. *Выбранае*. Мінск 2014, с. 156.
906 А. Ліс, *Gloria victis!* Збор твораў. Мінск 2010, с. 89.

дзе дамінавалі прадстаўнікі ўжо рэвалюцыйнага цэнтралізму, і ўрэшце да фактычнай адмовы ад барацьбы за нацыянальныя каштоўнасці і дзяржаўнае самавызначэнне.

Беларускі нацыянальны камітэт спрабаваў ісці тым шляхам, які быў вызначаны сакавіцкім з'ездам. Працягвалася праца па падрыхтоўцы выдання газеты «Вольная Беларусь», значэнне якой Скірмунт выдатна разумеў. Яшчэ да сакавіцкага з'езда на патрэбы «Вольнай Беларусі» было сабрана і перададзена Паўлам Алексюком сакратару рэдакцыі Вандзе Лявіцкай болей 1,5 тыс. руб.[907]

Было створана Таварыства беларускай культуры, якое ў красавіку звярнулася да краёвай інтэлігенцыі з заклікам працаваць на ніве беларускай асветы[908]. Першай рэальнай справай Таварыства сталася абвяшчэнне конкурса (з 1 чэрвеня 1917 г.) падручнікаў для беларускай пачатковай школы[909]. Падтрымліваліся намаганні беларускага духавенства па ўвядзенню беларускай мовы ў дадатковае набажэнства ў касцёл. На пачатку мая 1917 г. у менскіх газетах з'явіліся абвесткі пра стварэнне пры БНК беларускага тэатра. «Першае беларускае таварыства драмы і камедыі» запрашала артыстаў, музыкантаў і спевакоў[910].

8 мая адбыўся агульны сход Беларускага таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны, якое імкнулася пашырыць сваю дзейнасць. Старшынём быў абраны А. Ахрэм-Ахрэмовіч, ягонымі намеснікамі – У. Фальскі і Крынка. Быў пашыраны склад праўлення, аднак «абшарнікаў» там прадстаўляла толькі княгіня М. Радзівіл[911].

14 мая «Новое варшавское утро» паведамляла пра лекцыю «Патрэбнасьць нацыанальнага жыцьця для беларусоў», якая павінна была адбыцца ў гэты ж дзень у будынку Гарадской управы. Прозвішча выступоўцы не згадвалася, але, магчыма, ім быў Шантыр. У 1918 г. у Слуцку выйшла з друку ягоная кніга *Патрэбнасьць нацыанальнага жыцьця для беларусау і самаадзначэньня народу*, у якой аўтар лічыў гонарам працу над адраджэннем Беларусі: «Працаваць над прабуджэньням свайго народу, працаваць над адбудовай вольнай Бацькаушчыны Беларусі, працаваць у карысць, каб яна ня была пагардай другіх. А мы ня нявольнікамі сваей цемры, а роунымі сябрамі другім народам, вялікімі сваімі светам і культурай – якая гэта вялікая доля для нас! Як мы павінны быць гордыя тым, што гісторыя на нас складае гэту вялікую і святую працу»[912].

У маі і чэрвені 1917 г. галоўныя намаганні кіраўніцтва БНК датычылі як прапаганды ідэі аўтаноміі Беларусі і далейшага разгортвання нацыянальна-куль-

---

907 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 47.

908 Тамсама, спр. 2, арк. 113.

909 Тамсама, арк. 16; «Новое Варшавское утро». 1917, № 352.

910 «Новое Варшавское утро». 1917, № 417.

911 Тамсама, 1917, 19 мая.

912 Ф. Шантыр, *Патрэбнасьць нацыанальнага жыцьця для беларусау і самаадзначэньня народу*. Слуцк 1918, с. 25.

турнай дзейнасці, так і захавання адзінства беларускага руху. Таксама трэба было даваць адпор ягоным праціўнікам ужо з рэвалюцыйнага лагеру. Так, 11 мая 1917 г. на старонках газеты «Новое варшавское утро» з артыкулам пра беларускае Адраджэнне выступіў П. Аляксюк. Ён пісаў, што ва ўмовах свабоднай Расіі беларускае Адраджэнне нечакана знайшло новых ворагаў: «На смену гнетущему царизму явились люди из демократических лагерей и, не желая глубже разобраться в нашем прошлом, начали борьбу с этим движением, находя его буржуазным, ведущим к помещичьей кабале, польскому королю и тому подобные дикости. Печальнее всего, что в настоящий момент они привлекают к себе наши крестьянские массы и демократическими выкриками временно сеют рознь между народом и интеллигенцией»[913].

Павел Аляксюк, нягледзячы на сяброўства ў БСГ, быў адным з найбольш актыўных прыхільнікаў пазіцыі Скірмунта. Напрыканцы артыкула ён выказваў надзею на «цвярозы інстынкт» роднага народу, які не можа не быць беларускім і не можа ганьбіць бацькоўскую мову. Ён урэшце пойдзе шляхам Адраджэння, але, каб гэта здарылася, ягоныя правадыры павінны захаваць адзінства.

Відавочна, што ў гэты час найбольш грунтоўным падмуркам гэтага адзінства была ідэя аўтаноміі Беларусі. Раман Скірмунт мог толькі вітаць наступныя радкі з артыкула *А. Жывіцы* (Аркадзь Смоліч) «Зямля» ў першым нумары газеты БСГ «Грамада»: «Нам трэба на ўвесь край беларускі краёвае земства, куды будуць выбіраць па новым справядлівым законе са ўсіх губерній Беларусі, і якое будзе распараджацца ў нашым краі ўсімі тутэйшымі справамі. Як кажуць вучоныя людзі, нам патрэбна аўтаномія краю нашага альбо шырокае мясцовае самакіраванне»[914].

Тэма аўтаноміі была адной з дамінуючых на старонках газеты «Вольная Беларусь», першы нумар якой выйшаў 28 мая 1917 г. Рэдактар Язэп Лёсік ва ўступным артыкуле пісаў: «Ад шчырага сэрца вітаючы вольнасць Дзержавы Расейскай, мы з набалелаю пакутнаю душою рвемся да новага жыцьця, да культурна-нацыянальнаго адраджэньня нашаго народу. Мы цьверда ведаем, што гэтакаго мамэнту двойчы ня будзе, і што страцім цяпер, таго ня найдзем ніколі. Наша сьвятая павіннасьць, доўг кожнаго і сьвядомаго беларуса ня бавіць часу, а цяпер жа да скліканьня Устаноўчага Сэйму (Учредительного Собрания) аддаць свае сілы і розум на службу многапакутнаго народу [...] Да вялікай працы, браточкі, уставайця! Да змагання за аўтаномію Беларусі, за дэмакратычную рэспубліку Дзержавы Расейскай!»[915]

Першы нумар газеты Беларускага нацыянальнага камітэта выйшаў з друку ў момант, калі сітуацыя ў Камітэце істотна змянілася. Справа ў тым, што падчас

913 «Новое Варшавское утро». 1917, 11 мая.
914 «Грамада». 1917, 18 красавіка (1 мая).
915 «Вольная Беларусь». 1917, № 1.

сесіі БНК 13–15 мая 1917 г. адбылося сур'ёзнае сутыкненне паміж сябрамі БСГ і прыхільнікамі пазіцыі Рамана Скірмунта.

Гадлеўскі ў аглядзе беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917–1918 гг. прыгадваў, што падчас сесіі яго прыемна ўразіла імкненне прысутных земле-ўласнікаў (Э. Вайніловіча, княгіні М. Радзівіл, князя Г. Друцкага-Любецкага) вярнуцца «да таго народу, з якога яны вышлі». Так, Друцкі-Любецкі ў сваёй прамове заявіў, што паходзіць з роду беларускіх князёў і заявіў, «што ён не вінаваты, што над яго калыскай пяялі не беларускія, а польскія песні». Аднак большасць сяброў Камітэта вельмі крытычна паставілася да гэтага «беларускага павароту» землеўласнікаў. Як заўважыў В. Гадлеўскі, «надыходзіў такі час, што ад князёў і буйных земляўласьнікаў трэба было быць як найдалей, і прыхільнікі Скірмунта, адчуўшы гэты настрой да іх сяброў сэсіі Б. Нац. Камітэту, вышлі, каб болей ужо не вярнуцца. Спужала іх радыкальнасьць беларускага руху»[916].

Гэтыя ўспаміны сведчаць пра палітычнае паражэнне Р. Скірмунта. Яны не дазваляюць прыняць меркавання даследчыкаў У. Ладысева і П. Брыгадзіна, якія заявілі, што ўдзел Э. Вайніловіча, М. Радзівіл і Г. Друцкага-Любецкага ў майскай сесіі БНК дапамог Скірмунту заблакаваць патрабаванні сацыялістычнай часткі Камітэта па яго далейшай дэмакратызацыі і спалучэнні палітычнай і нацыянальна-культурнай працы БНК з праграмай сацыяльна-эканамічныхператварэнняў[917].

У складзе Камітэта засталіся толькі Скірмунт і княгіня Радзівіл. Апошняя ніякай палітычнай ролі не адыгрывала, застаючыся фундатаркай беларускай арганізацыі. А вось становішча Скірмунта істотна змянілася. Магчыма, менавіта падчас майскай сесіі або неўзабаве пасля яе ён адмовіўся ад пасады старшыні БГК і застаўся ў ягоным складзе ў якасці звычайнага сябра. Скірмунт згадаў пра гэта ў прамове на з'ездзе беларускіх арганізацый 9 ліпеня 1917 г.: «Паказывалі на мяне, што шкоджу толькі працы Камітэту, стаючы на чэле яго. Я зараз жэ зьняў з сябе паўнамочыя старшыні Камітэту і застаўся простым яго сябрам»[918].

Варта прыгадаць, што намеснікамі старшыні БНК («таварышамі») былі абраны П. Аляксюк і У. Фальскі. Падобна, што яны падзялілі паміж сабою абавязкі старшыні.

## *У апазіцыі да сацыялістаў*

Майская сесія выразна высветліла імкненне БСГ манапалізаваць Беларускі нацыянальны камітэт, выдаліць з яго нязгодных з сацыялістычнай праграмай сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў і нават тых, хто прымаў гэтую прагра-

---

916 В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску*, «Спадчына». 1997, № 5, с. 23.

917 У. Ладысеў, П. Брыгадзін, *Паміж Усходам і Захадам…*, с. 27.

918 «Вольная Беларусь». 1917, № 11.

му, але прадстаўляў заможныя колы грамадства. Праўда, у маі 1917 г. сябры БСГ, відаць, яшчэ не адчувалі сябе досыць упэўнена для цалкам самастойнага вядзення палітычнай дзейнасці, і Скірмунт застаўся ў складзе Камітэта.

Па выніках майскай сесіі БНК з'явілася дэкларацыя, якая ўпершыню была апублікавана 3 чэрвеня 1917 г. у газеце «Новое варшавское утро» на рускай мове. «Вольная Беларусь» з арыгінальным беларускамоўным тэкстам выйшла толькі 11 чэрвеня. Дэкларацыя асвятляла пазіцыі Камітэта па найбольш важных задачах яго дзейнасці, якія былі пастаўлены яшчэ на сакавіцкім з'ездзе. У першым параграфе БНК яшчэ раз выказваўся за аўтаномію Беларусі ў межах федэратыўнай і дэмакратычнай Расіі. Пры гэтым падкрэсліваліся тыя «шырокія магчымасці», якія нібыта стварыла для Беларусі Расійская рэвалюцыя. Адначасова дэкларацыя перасцерагала ад людзей, што выступаюць ад імя БНК за далучэнне Беларусі да Польшчы ці нейкай іншай краіны і абвяшчала іх «правакатарамі».

Апошні абзац даносіць да нас водгук ужо згаданай дыскусіі на сесіі БНК. Відавочна, што сацыялістаў хвалявала не толькі праблема «памешчыка Скірмунта», але таксама праблема «паляка Скірмунта». Тут варта прыгадаць ліст Я. Канчара да Р. Скірмунта ад 30 сакавіка, дзе ўжо адчуваўся пэўны «нацыянальны недавер». Магчыма, што адказ кіраўніка БНК, як і ягоная дзейнасць на пэўны час задаволілі беларускіх сацыялістаў. Аднак умацаванне пазіцый БСГ у сувязі з агульнай радыкалізацыяй грамадства, а таксама той факт, што Скірмунт як віцэ-старшыня МТСГ захоўваў сувязі з мясцовай польскай супольнасцю, ізноў актуалізавалі гэтую праблему. Трэба прызнаць дамінаванне сярод беларускіх сацыялістаў свайго роду «філасофіі падазрэння» ў адносінах да сацыяльна «чужых», якая знішчала надзею на адзінства беларускіх сіл. Гэтая «філасофія падазрэння» аказалася надзвычай жывучай у беларускай гісторыі.

Можна меркаваць, што гэты «польскі абзац» дэкларацыі быў пэўным папярэджаннем Скірмунту і ягоным прыхільнікам, якія імкнуліся да польска-беларускага паразумення. Менавіта так можна патлумачыць прысутнасць Скірмунта ў МТСГ. Таксама варта яшчэ раз згадаць асновы краёвай ідэалогіі. «Краёвае» або палітычнае разуменне нацыі было платформай міжнацыянальнага паразумення дзеля будучыні Краю як Радзімы розных народаў. Цалкам верагодна, што пошукі саюза з сялянствам, асабліва відавочныя ў дзейнасці Скірмунта ў сакавіку 1917 г., таксама былі звязаны з ягоным разуменнем краёвай ідэі як падмурку саюза розных сацыяльных груп.

У майскай дэкларацыі БНК дэкляраваў свабоду веравызнання і заклікаў беларусаў незалежна ад іх канфесійнай прыналежнасці працаваць разам над «стварэньнем ядынай беларускай культуры». Вырашэнне аграрнай праблемы было аднесена да кампетэнцыі Усерасійскага Устаноўчага Схода і Беларускай краёвай рады. Апрача таго, Камітэт выказваўся за нацыянальны характар беларускай школы, а таксама за заключэнне міра без анексій і кантрыбуцый на аснове права нацый на самавызначэнне. Неабходнай умовай міра абвяшчаўся «зварот забранай

часткі этнаграфічнай Беларусі і далучэньне яе, аб’еднанай з рэштай Беларусі, да Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі»[919].

Гэтае настойлівае падкрэсліванне прыналежнасці Беларусі да рэвалюцыйнай Расіі таксама засведчыла дамінаванне ў БНК сацыялістаў. Аднак сыход Скірмунта з пасады старшыні пакуль заставаўся ўнутранай справай Камітэта. Магчыма, яго сябры баяліся, што інфармацыя пра раскол пашкодзіць аўтарытэту галоўнай беларускай арганізацыі. Усе перамены павінен быў легалізаваць наступны з’езд беларускіх арганізацый, які першапачаткова быў запланаваны на 29 чэрвеня[920].

Аднак на пачатку лета 1917 г. БСГ атрымала палітычнага канкурэнта. Сацыялістычная плынь беларускага руху папоўнілася Беларускай народнай партыяй сацыялістаў (БНПС). 15–16 мая 1917 г. у Менску адбыўся сход, на якім было сфарміравана Арганізацыйнае бюро на чале з настаўнікам Язэпам Сушынскім. У яго склад увайшлі Антон Лявіцкі (намеснік старшыні), Самуіл Плаўнік (*Змітрок Бядуля*) як казначэй і Спіргоба (сакратар). Арганізатары заявілі пра надзвычайную важнасць аграрнага пытання і звярнулі ўвагу на неабходнасць улічваць пры яго вырашэнні «краёвыя асаблівасці і ўмовы мясцовага жыцця»[921]. Таксама на 22 мая быў анансаваны мітынг «народных сацыялістаў». У перыядычным друку адсутнічае інфармацыя пра гэты мітынг, але Кастусь Езавітаў ва ўспамінах (1943) заявіў, што менавіта на ім была прынята праграма партыі і абраны яе Камітэт на чале з Лявонам Зайцам[922].

У беларускай гістарыяграфіі стварэнне і дзейнасць гэтай партыі звязваюць з Раманам Скірмунтам. Так, гісторык Мікалай Сташкевіч лічыў, што Скірмунт пачаў яе ствараць яшчэ напрыканцы 1916 г. (?!) Ён жа сцвярджаў, што пасля канчатковага афармлення ў 1917 г. да партыі далучылася «група буйных памешчыкаў на чале з Р. Скірмунтам»[923]. Аднак меркаванне Сташкевіча не было падмацавана гістарычнымі крыніцамі.

Гэтую інфармацыю пазней паўтаралі У. Ладысеў і П. Брыгадзін[924], С. Хоміч[925]. Пры гэтым у пераліку найбольш вядомых сяброў БНПС звычайна згадваліся таксама П. Аляксюк, А. Лявіцкі, В. Чавусаў, Ф. Стульба, пратаірэй А. Кульчыцкі, генерал К. Кандратовіч, С. Плаўнік, А. Багдановіч, Я. Сушынскі. Згадкі пра дачыненне Скірмунта да стварэння БНПС не суправаджаліся спасылкамі на гістарычныя крыніцы.

Між тым, такія крыніцы ёсць, і яны пацвярджаюць прыналежнасць Рамана

---

919 «Вольная Беларусь». 1917, № 2.

920 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 2, арк. 19.

921 «Новое Варшавское утро». 1917, 20 мая.

922 К. Езавітаў, *Скірмунт раскалывае адзінства беларускага грамадства,* «Раніца». 1943, № 4.

923 *Октябрь 1917 г. и судьбы политической оппозиции в 3-х частях.* Под ред. Энтина Э. М. Часть 2. Гомель 1993, с. 80–81.

924 У. Ладысеў, П. Брыгадзін. *Паміж Усходам і Захадам...*, с. 14.

925 *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII–пачатку XXI ст.*, с. 326.

Скірмунта да Народнай партыі сацыялістаў. У фондзе 582 («Беларуская Народная Рэспубліка») Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва Літвы захаваўся праект праграмы партыі са спісам яе сяброў на адвароце. Ён быў апублікаваны ў зборніку «Архівы БНР», падрыхтаваным да друку Сяргеем Шупам[926].

У гэтым спісе фігуравалі Р. Скірмунт, П. Аляксюк, А. Уласаў, А. Лявіцкі, П. Камароўскі, генерал К. Кандратовіч, кс. В. Гадлеўскі, кс. Каральчук, В. Русецкі, праваслаўныя святары Кульчыцкі, Ачакоўскі і Васюкевіч, Т. Вернікоўскі, К. Гадыцкі-Цвірка, Р. Зямкевіч, Г. Крэпскі, Акуліч, Чаховіч, Герлятовіч і Круглік (пасля прозвішча апошняга пастаўлены знак пытання). Таксама пазначана, што шляхам кааптацыі да БНПС далучыліся П. Мядзёлка, ксёндз А. Цікота, менскі біскуп Э. О'Рурк, Кузьміцкі, Турчыновіч і Раткевіч. Не ўсе партыйцы пакінулі прыкметны след у гісторыі, але постаці вядомых нам беларускіх дзеячаў і святароў выклікаюць сумніў ў іх шчырай прыхільнасці да сацыялістычнай ідэалогіі. Але для нас важная прысутнасць Скірмунта ў згаданым спісе.

Пра ролю Скірмунта ў стварэнні гэтай партыі ў 1943 г. распавёў Кастусь Езавітаў. Ён сцвярджаў, што партыя была створана групай беларускай інтэлігенцыі, якая «не жадала сварыцца з Р. Скірмунтам», а таксама некалькімі менскімі мяшчанамі, якім Скірмунт нібыта «параіў» увайсці ў новую партыю[927].

Галоўнымі мэтамі дзейнасці БНПС абвяшчалася адраджэнне беларускай культуры і ўсебаковае развіццё нацыянальнага жыцця «на фундаменці інтарэсоу працуючага народу», а таксама кіраванне жыццём Беларускага краю да моманту, калі зямля, прылады працы і яе вынікі стануць агульнай уласнасцю ўсяго народу. Партыя выступала за федэратыўнае і дэмакратычнае ўладкаванне Расіі, патрабавала аўтаноміі Беларусі на чале з Беларускай краёвай радай і гарантавала роўнасць усім нацыянальным меншасцям Беларусі.

Цэнтральным у праграме быў раздзел, прысвечаны зямельнаму пытанню. Зямля і ўсе яе багацці, а таксама воды абвяшчаліся агульнанароднай уласнасцю. Права карыстання зямлёй належала тым, хто на ёй працаваў без прыцягнення наёмных работнікаў. Галоўным распараджальнікам зямлі з яе багаццямі, а таксама лесу станавілася Беларуская краёвая рада, абраная агульным, тайным, роўным і прамым галасаваннем. Нацыяналізаваныя землі паступалі ў Нацыянальны народны фонд, з якога ў адпаведнасці з працоўнай нормай меркавалася надзяляць беззямельных і малазямельных сялян. Прычым землі кабінецкія, казённыя, удзельныя, царкоўныя, а таксама падараваныя каралямі Рэчы Паспалітай і расійскімі імператарамі, або набытыя ў гады Першай сусветнай вайны ўключаліся

---

[926] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Уклад.: Сяргей Шупа (уклад., падрыхтоўка тэксту, камент., пер.). Вільня, Нью-Ёрк, Менск, Прага 1998, т. 1, кн. 1, с. 5; ЦДАЛ. Ф. 582, воп. 2, спр. 5, арк. 9–9 адв.

[927] К. Езавітаў, *Скірмунт раскалывае адзінства беларускага грамадства,* «Раніца». 1943, № 4.

ў Нацыянальны народны фонд бясплатна. Сялянскія надзельныя землі і дробныя надзелы, якія не перавышалі працоўнай нормы, заставаліся ў прыватнай уласнасці. Дзеля выключэння прыватнаўласніцкіх зямель з гандлёвага абароту права іх набыцця давалася толькі Нацыянальнаму народнаму фонду. Захоўвалася палажэнне аб выкупе: землі, набытыя «за грошы запрацаваныя», павінны перайсці да народа «за памяркоўную плату» са сродкаў Нацыянальнага фонда.

Гэты раздзел сведчыў пра пэўныя перамены ў поглядах Скірмунта на сутнасць аграрнай рэформы ў Беларусі. Рызыкну выказаць меркаванне, што перамены былі абумоўлены ў першую чаргу радыкалізацыяй сацыяльнага жыцця і не з'яўляліся вынікам пэўнай эвалюцыі поглядаў палітыка ў сацыялістычным накірунку.

Таксама планаваўся кантроль Краёвай рады над дзейнасцю заводаў і фабрык, 8-гадзінны працоўны дзень, сістэма страхавання, ахова жаночай і дзіцячай працы. Прадугледжвалася нацыяналізацыя школы і ўвядзенне бясплатнага навучання ва ўсіх тыпах школ[928]. Такім чынам, у праграме выразна дамінавала ідэя аўтаноміі Беларусі і прапановы «народніцка-сацыялістычнага» характару па вырашэнні аграрнай праблемы. Многія палажэнні «тыповай» праграмы сацыялістычнай партыі адсутнічалі. Відавочна, што Скірмунт і ягоныя прыхільнікі паспрабавалі змагацца з сацыяльным радыкалізмам сяброў БСГ на іх жа тэрыторыі.

У дакуменце фігураваў адрас БНПС: Мінск, вул. Захар'еўская, 24, «Беларуская кнігарня». Тут можна было атрымаць патрэбную інфармацыю, напр., друкаваную праграму БНПС[929] і нават уступіць у партыю. Дарэчы, існаванне друкаванага варыянта партыйнай праграмы сведчыць пра тое, што партыйцы шмат увагі надавалі агітацыі і сур'ёзна ставіліся да перспектыў БНПС.

Таксама можна сцвярджаць, што ўзнікненне БНПС у Менску было звязана з актывізацыяй дзейнасці агульнарасійскай Партыі народных сацыялістаў («энэсаў»). Якраз у маі–чэрвені 1917 г. адбываўся хуткі рост яе арганізацый, а ў чэрвені 1917 г. яна аб'ядналася з *трудовиками* і атрымала назву «Трудовой народно-социалистической партии» (ТПНС)[930].

Многія палажэнні гэтай партыі адпавядалі праграме БНК і маглі задаволіць большасць дзеячаў беларускага руху. Так, па аграрным пытанні партыя выступала за нацыяналізацыю земляў, г. зн. за іх перавод у агульнадзяржаўную ўласнасць з наступнай перадачай працоўнаму насельніцтву. Пры гэтым ТПНС імкнулася не дапусціць «анархічных выступленняў на глебе аграрных адносін», а таксама прадухіліць крызіс гаспадаркі[931]. Праграма прадугледжвала агульнадаступную і абавязковую

---

928 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 3, арк. 11.

929 БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 150.

930 А. В. Сыпченко, *Трудовая народно-социалистическая партия: идеология, программы, организация, тактика (1906 г.–середина 1920-х гг.)*. Автореферат диссертации на соискание ученой степени доктора исторических наук. Самара 2006, с. 34.

931 *Программы главнейших русских партий*. [Москва 1917], с. 35.

пачатковую адукацыю на роднай мове. Будучыню Расіі яна звязвала з усталяваннем федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі, якая павінна забяспечыць свабоднае нацыянальнае развіццё кожнаму народу ў рамках шырокай аўтаноміі[932].

Аўтарытэт гэтай партыі ўзмацніўся напрыканцы вясны – напачатку лета 1917 г., калі яна прыйшла да ўлады. Народныя сацыялісты ўзначалілі міністэрства харчавання (А. Пашахонаў) і міністэрства юстыцыі (А. Зарудны).

Варта адзначыць, што пасля Лютаўскай рэвалюцыі вектар грамадскага развіцця безупынна змяшчаўся ў бок найбольш радыкальных левых партый. У сувязі з гэтым ТПНС паступова ператварылася ў цэнтрысцкую партыю, а пазней апынулася нават на «правым фланзе». Гэты дрэйф быў абумоўлены прынцыповым адказам народных сацыялістаў ад радыкальных дзеянняў і дыктатуры. Улетку стала відавочным іх супрацьстаянне бальшавікам.

Радыкалізацыя грамадскага жыцця ў Беларусі, імкненне БСГ манапалізаваць беларускі рух рабіла Партыю народных сацыялістаў прывабнай для той часткі беларускіх палітыкаў ліберальнай арыентацыі, якія выступалі супраць левага радыкалізму. Сярод іх апынуўся і Павел Аляксюк, які з канца 1916 і да лета 1918 г. звычайна быў побач з Раманам Скірмунтам. Напрыканцы чэрвеня 1917 г. «Новое варшавское утро» апублікавала ягоны адказ на крытыку праграмы БНПС, з якой «сацыяліст-эканаміст» Пратасевіч выступіў на старонках газеты «Минский голос». Ён абвінаваціў народных сацыялістаў у абароне інтарэсаў буйных землеўласнікаў. Аляксюк даказваў неабгрунтаванасць такіх абвінавачванняў. Ён працытаваў некалькі палажэнняў праграмы БНПС, якія сцвярджалі, што ўся зямля павінна быць агульнанароднай уласнасцю, а карыстацца зямлёй могуць толькі тыя, хто жыве з уласнае працы і не наймае работнікаў. Таксама ён сцвярджаў, што «ўся зямля знаходзіцца пад загадам Беларускай Краёвай Рады, выбранай усім тутэйшым народам, агульным, закрытым, роўным, простым галасаваньнем»[933].



*Павел Аляксюк.*
*Фотаздымак пачатку 1920-х гг.*

У маі і чэрвені 1917 г. БНПС, імкнучыся знайсці падтрымку працоўных мас, правяла ў Менску некалькі мітынгаў, але шырокага розгаласу не атрымала. Тым не менш, пар-

932 Там же, с. 37.
933 «Новое Варшавское утро». 1917, 23 июня.

тыя ўдзельнічала ў ліпеньскім з’ездзе беларускіх партый і арганізацый як галоўны апанент БСГ і спрабавала не дапусціць скасавання Беларускага нацыянальнага камітэта.

Пра гэты з’езд гаворка яшчэ наперадзе, а пакуль варта звярнуць увагу на актывізацыю польскіх арганізацый у Менску і даць ацэнку падазрэнням дзеячаў БСГ у прапольскай арыентацыі Скірмунта. Магчыма, боязь сацыялістаў была абумоўлена выразным ажыўленнем дзейнасці польскіх арганізацый на Меншчыне. Варта нагадаць, што польская супольнасць Менскай губ. яшчэ напярэдадні Першай сусветнай вайны адыгрывала істотную ролю ў гаспадарчым і грамадска-палітычным жыцці рэгіёна. У адпаведнасці з «моўнай» канцэпцыяй вызначэння нацыянальнасці ў самім Менску ў 1897 г. 11,4 % насельніцтва былі палякамі[934]. Большасць беларускіх даследчыкаў упэўнена, што гэтыя паказчыкі даволі дакладна адлюстроўваюць сапраўдную колькасць палякаў у горадзе. Даследчыкі з Польшчы звычайна крытычна ставяцца да «моўнага» крытэрыя вызначэння нацыянальнасці, падкрэсліваючы, што расійская афіцыйная статыстыка, як і палітыка ўладаў, імкнуліся мінімалізаваць польскую прысутнасць. Для высвятлення нацыянальнай структуры насельніцтва яны выкарыстоўваюць таксама дадзеныя па канфесійнай прыналежнасці. Аўтар адной з найбольш грунтоўных прац па нацыянальнай структуры насельніцтва Беларусі ў XX ст. Пётр Эбэрхардт сцвердзіў, што ў 1897 г. палякі складалі 15,9 % насельніцтва Менска[935]. Паводле ягоных падлікаў, у 1909 г. амаль кожны чацвёрты жыхар Менскага пав. (24,1 %) быў палякам[936].

Вядома, што ўплыў на гаспадарчае і грамадска-палітычнае жыццё залежаў не столькі ад колькасці палякаў, колькі ад іх сацыяльнай, эканамічнай і культурнай пазіцыі. Паводле дадзеных МУС, у 1905 г. у Менскай губ. сярэдняе і буйное польскае землеўладанні (больш за 150 дзес.) складала 52,4 % усіх прыватнаўласніцкіх зямель[937]. Палякі традыцыйна дамінавалі ў Гарадской думе Менска, якая выбіралася з «вярхушкі» гараджан. У адпаведнасці з Гарадавым палажэннем 1892 г. правам выбіраць і быць выбраным у Думу валодала менш за 1 % менчукоў[938]. Напрыканцы XIX–напачатку XX ст. прэзідэнтамі горада былі граф Караль Чапскі, Мечыслаў Райкевіч, Міхал Валовіч, Мечыслаў Доўнар-Запольскі, Станіслаў Стэфановіч і Станіслаў Хжанстоўскі[939]. Адзін з тагачасных польскіх

---

934 *Первая всеобщая перепись населения Российской империи. 1897 г. Вып. XXII. Минская губ.* Санкт-Петербург 1904.

935 П. Эберхардт, *Дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі: 1897–1989*. Менск 1995, с. 50.

936 Тамсама, с. 67.

937 А. Смалянчук, *Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гг.* Гародня 2000, с. 38.

938 З. В. Шибеко, С. Ф. Шибеко, *Минск. Страницы жизни дореволюционного города.* Минск 1990, с. 29.

939 A. Chwalba, *Historia Polski. 1795–1918.* Krakow 2000, s. 409.

дзеячаў Мечыслаў Пароўскі ўспамінаў, што ў 1909 г. Гарадская рада складалася з 35-ці палякаў і толькі 7-х прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў[940].

Роля польскай супольнасці Менска яшчэ больш вырасла пасля наплыву бежанцаў з Каралеўства Польскага. Менск фактычна стаўся адным з цэнтраў польскага руху. Існуючыя польскія дабрачынныя арганізацыі займаліся таксама культурна-асветніцкай дзейнасцю, умацоўваючы пазіцыі польскай культуры на Меншчыне.

Як ужо адзначалася, у жніўні 1915 г. у Менску пачала выдавацца штодзённая польская газета «Новы кур'ер літэўскі», якая даволі крытычна ставілася да беларускага руху. Так, увесну 1916 г. аўтар артыкула «Тонкая праца» ахарактарызаваў беларускі рух як антыпольскую інтрыгу расійскіх уладаў, а на тэрыторыі Віленшчыны – нямецкіх[941]. Аднак увесну 1917 г. газета адмовілася ад канцэпцыі «інтрыгі» і пачала станоўча ацэньваць беларускую палітычную дзейнасць. «Новы кур'ер» прыхільна сустрэў сакавіцкі з'езд беларускіх арганізацый і стварэнне БНК. Аўтары публікацый абяцалі падтрымаць аўтаномію Беларуска-Літоўскага краю[942]. «Новы кур'ер» змясціў цікавы і падрабязны рэпартаж з беларускага з'езда, напісаны ў прыязнай да беларусаў танальнасці. Газета рэгулярна паведамляла пра беларускія палітычныя сходы і мітынгі. На яе старонках знайшлося таксама месца для адлюстравання пазіцыі «беларусаў польскага паходжання». Так, адзін з іх у апублікаваным лісце ў рэдакцыю сцвярджаў, што хоць паводле паходжання з'яўляецца палякам, але лічыць сваім абавязкам «працаваць дзеля дабрабыту таго краю, у якім нарадзіўся»[943].

Наогул, з пачаткам рэвалюцыі дзейнасць польскай грамадскасці актывізавалася. Гэтаму моцна паспрыяў Зварот Часовага ўрада да палякаў ад 16 (29) сакавіка 1917 г. Урад Расіі з пэўнымі агаворкамі (санкцыя Устаноўчага Схода і ваенны саюз з Расіяй) выказаўся за стварэнне незалежнай польскай дзяржавы. 21 сакавіка 1917 г. было апублікавана распараджэнне Часовага ўрада пра адмену ўсіх антыпольскіх абмежаванняў.

Важнай публічнай праявай польскасці ў Менску сталася ўрачыстае святкаванне чарговай гадавіны Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Упершыню менскія палякі атрымалі магчымасць святочна адзначыць гэтую дату. Свята пачалося з набажэнства ва ўсіх касцёлах. Потым удзельнікі святкавання, сярод якіх вылучаліся дэлегаты з'езда палякаў-вайскоўцаў Заходняга фронту, прайшлі па горадзе дзвюма працэсіямі, якія сустрэліся каля касцёла на Залатой горцы. Тут адбыўся мітынг. Прамоўцы казалі пра значэнне Канстытуцыі 3 мая, пра становішча польскай нацыі і яе перспекты-

940 ZNiO. Dział rękopisów. Sygn. 13542/II. M. Porowski, *Wspomnienia. 1904–1918*, k. 48.

941 «Nowy Kurier Litewski». 1916, Nr 85.

942 Ibidem, Nr 83.

943 D. Tarasiuk, *Kwestja białoruska w poglądach mińskich Polaków (1917–1918)* (у:) *Нацыянальныя пытанні*: Матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў. Рэдкал. Э. Дубянецкі і інш. Мінск 2001, с. 189.

вы. Закончылася святкаванне каля касцёла св. Сымона і Алены. А познім вечарам у Менску яшчэ чыталіся лекцыі пра польскую гісторыю на польскай і беларускай мовах[944]. Марыя Чапска прыгадвала шматлюднасць гэтага святкавання і слёзы радасці ягоных удзельнікаў, якія не маглі стрымаць эмоцый[945]. Міхаліна Даманьска ва ўспамінах сцвярджала, што ва ўрачыстасцях удзельнічала каля 40 тыс. чал.[946]

Аднак, насамрэч, адзінства сярод польскай супольнасці Менска не было. Тая ж М. Чапска распавяла пра польскі сход у вялікай зале Менскага сельскагаспадарчага таварыства, ініцыяваны Раманам Скірмунтам і Эдвардам Вайніловічам. Гаворка ішла пра будучыню Беларускага краю. Паводле Чапскай, большасць залы выказалася за Беларусь у складзе Польшчы. Супраць далучэння да Польшчы выступілі толькі Скірмунт і Вайніловіч, што выклікала абурэнне прысутных.

Аўтарка канстатавала, што большасць польскіх землеўласнікаў адарвалася ад «беларускай глебы» і не жадала разумець асаблівасцяў Краю, прынамсі, не надавала ім значэння: «Мы ўсе любілі наш родны край. Народжаныя і выхаваныя ў Беларусі, мы б ніколі яе не пакінулі, але мы не заўважалі ягонай адметнасці і ўжо крышталізаванай нацыянальнай свядомасці. За стагоддзі польскага дамінавання ў Літве і Беларусі эліта нацыі з вялікай для яе шкодай паланізавалася і адарвалася ад сваёй глебы.

Нашыя суседзі, вялізная большасць землеўласнікаў і менскай інтэлігенцыі выраслі на беларускай глебе, але ўзбагаціўшыся і атрымаўшы набілітацыю, як Вайніловічы, Багдановічы, Федаровічы, Трэпкі, Ёдкі ды інш., паступова далучаліся да прышлага польскага элементу, засвойваючы мову, звычаі і свядомасць каланізатараў, узбагачаючы іх энергіяй і геройствам, замест таго, каб ствараць эліту ўласнай нацыі. Тое ж самае адбывалася ў этнаграфічнай Літве, аналагічна было з дынастыямі Чартарыскіх, Сангушкаў, Сапегаў, Радзівілаў, спаланізаваных так, як і ўся літоўска-беларуская шляхта.

І таму, калі перад менскім сходам было пастаўлена пытанне, ці Беларусь павінна існаваць як незалежная рэспубліка, ці яна мусіць як да падзелаў быць паяднанай з Польшчай, мы ўсе ў вялізнай большасці галасавалі за гэтае паяднанне. Не ведаю, ці былі на тым сходзе нацыянальна свядомыя беларусы, і як бы яны паставіліся да яго, каб былі. Нам, хто галасаваў за паяднанне з Польшчай, здавалася цалкам натуральным, што гэты край дзеля абароны ад агрэсіўнай Расіі павінен шукаць апірышча ў Польшчы. Супраць паяднання з Польшчай выказаліся абодва кіраўнікі сходу – Раман Скірмунт і Эдвард Вайніловіч. Мы былі абураныя на іх, бо не разумелі праблемы»[947].

---

944 «Новое Варшавское утро». 1917, 21 апреля.

945 M. Czapska, *Czas odmieniony.* Paryż 1978, s. 45.

946 D. Tarasiuk, *Między nadzieją a niepokojem. Działalność społeczno-kulturalna i polityczna Polaków na wschodniej Białorusi w latach 1905–1918*. Lublin 2007, s. 114–115.

947 M. Czapska, *Czas odmieniony*, s. 42–43.

У гэтых успамінах Скірмунт выступае як прыхільнік незалежнасці Беларусі ўжо ўлетку 1917 г. Але больш верагодна, што ў прамовах Скірмунта і Вайніловіча гаворка ішла толькі пра незалежнасць Беларускага краю ад Польшчы.

Інфармацыя пра менскі сход таксама дазваляе яшчэ раз прыгадаць сцвярджэнне Гадлеўскага наконт імкнення Скірмунта стварыць беларускую «абшарніцкую партыю». Магчыма, тое ж меў на ўвазе Эўгеніуш Ромэр, які ў сваім дзённіку ў чэрвені 1917 г., разважаючы над будучыняй Літвы і Беларусі, прыгадаў намер Скірмунта стварыць арганізацыю, мэтаю якой было б самавызначэнне Беларусі: «Літва нашая маўчыць, бо ў асноўным знаходзіцца ў руках немцаў, але калі ход вайны зноў верне яе ў расійскую дзяржаву, то будзе абавязкова імкнуцца да аўтаноміі. Цёмная і несвядомая Беларусь не мае дастаткова інтэлігенцыі, каб распачаць самастойную палітыку. Здаецца, Раман Скірмунт носіцца з праектам стварэння арганізацыі, якая будзе імкнуцца да самавызначэння Беларусі, але асабіста сумняваюся, каб пры адсутнасці супрацоўнікаў, што выйшлі з беларускага народу, арганізацыя, якую стварылі і якой кіруюць людзі іншай нацыянальнасці і культуры, можа здабыць сабе прызнанне ўсяго краю і адыграць якую-небудзь ролю»[948]. Відавочна, што Ромэр меў на ўвазе дзейнасць Скірмунта сярод мясцовай польскай супольнасці.

Наяўнасць сярод палякаў Меншчыны розных меркаванняў пра будучыню Беларускага краю і ягоныя стасункі з «Каронай» істотна ўплывала на арганізацыйную дзейнасць польскіх актывістаў. У польскім менскім друку паведамлялася пра аднаўленне Польскага дэмакратычнага саюза (К. Дзямідзецкі-Дзямідовіч), стварэнне Польскага вайсковага саюза, Польскай мацежы школьнай, Нацыянальнага саюза польскай моладзі, Польскага палітычнага клуба ды інш. Таксама ўжо ў сакавіку заўважальныя намаганні па стварэнні адзінага польскага каардынацыйнага цэнтра для ўсіх арганізацый Меншчыны. 11 сакавіка 1917 г. «Новы кур'ер літэўскі» апублікаваў заклік Часовага арганізацыйнага польскага камітэта (старшыня У. Крыньскі) аб правядзенні з'езда прадстаўнікоў польскіх арганізацый Беларусі з мэтаю стварэння «Рады польскіх саюзаў»[949]. Аднак толькі напрыканцы вясны гэтыя намаганні далі плён.

21–23 мая ў Менску адбыўся сход прадстаўнікоў польскіх арганізацый Меншчыны, якія аб'ядналіся ў Польскую раду Менскай зямлі (ПРМЗ)[950]. Галоўнай мэтай Рады абвяшчалася абарона інтарэсаў мясцовай польскай грамадскасці. На сходзе таксама выказвалася ідэя стварэння падобнай арганізацыі для ўсёй Беларусі, а потым і для ўсіх г. зв. «крэсаў». Ягоныя рашэнні і прамовы ўдзельнікаў не

---

948 E. Romer, *Dziennik. 1914–1918.* T. 1. Warszawa 1995, s. 555.

949 «Nowy Kurier Litewski». 1917, Nr 67.

950 Гісторыя стварэння і дзейнасці ПРМЗ грунтоўна прадстаўлена ў кнізе: D. Tarasiuk, *Między nadzieją a niepokojem. Działalność społeczno-kulturalna i polityczna Polaków na wschodniej Białorusi w latach 1905–1918* (Lublin, 2007).

пакідаюць сумневу ў тым, што ПРМЗ падтрымлівала ідэю аўтаноміі Беларусі. Так, у вырашэнні аграрнай праблемы галоўная роля адводзілася аўтаномнаму сейму. Пры абмеркаванні нацыянальнага пытання было выказана пажаданне прадстаўніцтва кожнай нацыянальнай групы ў мясцовым самакіраванні, а таксама будучым сейме. Адвакат Э. Івашкевіч казаў пра неабходнасць стварэння такіх умоў для мясцовай польскай супольнасці, якія б адпавядалі яе культурным і гаспадарчым пазіцыям. Ён жа заявіў пра гатоўнасць палякаў змагацца разам з беларусамі супраць усіх, хто імкнецца знішчыць асаблівасці Краю, і патрабаваў роўнасці для кожнай нацыі, якая будзе падпарадкоўваць свае інтарэсы патрэбам беларускай зямлі[951].

У рашэннях польскага схода відавочная скіраванасць ягонай дзейнасці на інтарэсы мясцовай польскай супольнасці і «беларускай зямлі». Варта падкрэсліць гэтую «краёвасць» Польскай рады, тым больш, што сход па сваім складзе аказаўся даволі дэмакратычным. «Новы кур'ер літэўскі» канстатаваў слабы ўдзел у ягонай працы землеўласнікаў. Сярод 351 дэлегата з вясковых рэгіёнаў Меншчыны толькі 14 прадстаўлялі землеўласнікаў[952].

Старшынём Рады быў абраны вядомы грамадскі дзеяч і землеўласнік з Мазырскага пав. Геранім Кяневіч. У Выканкам Рады ўвайшлі Э. Івашкевіч (віцэ-старшыня), В. Ванькові́ч (віцэ-старшыня), У. Крыньскі, Ч. Крупскі (сакратар), К. Дзямідзецкі-Дзямідовіч, І. Парэмбскі, М. Масоніус ды інш.[953].

Сярод выступоўцаў аказаўся прадстаўнік БНК Павел Аляксюк, які выказаў надзею, што палякі будуць працаваць для дабра Беларусі. Мэтаю беларусаў, па яго словах, з'яўляецца аўтаномія краю, і беларусы гатовы змагацца за свае правы. У адказ К. Дзямідзецкі-Дзямідовіч заявіў, што палякі хочуць працаваць разам з беларусамі і гатовы разам гнаць з Беларусі яе ворагаў. Прамову ён закончыў словамі: «Няхай жыве вольная Беларусь!»[954] Прысутнасць на з'ездзе і прамова Алексюка сведчаць пра спадзевы кіраўніцтва Беларускага нацыянальнага камітэта на супрацоўніцтва з Польскай радай. Гэта было важна яшчэ і таму, што надзеі як віленчукоў, так і менчукоў на саюз з дзеячамі літоўскага руху аказаліся марнымі.

Аднак на рэальную супрацу разлічваць не даводзілася. Асмалоўскі ва ўспамінах сцвярджаў, што ПРМЗ ставілася да Беларускага нацыянальнага камітэта «платанічна прыхільна, па сутнасці ігнаруючы існаванне беларускай арганізацыі». У сваю чаргу і БНК асабліва не шукаў паразумення з Польскай радай, ахвотна ідучы на супрацоўніцтва з асобнымі польскім арганізацыямі ў вырашэнні кан-

951 «Nowy Kurier Litewski». 1917, Nr 126.
952 Ibidem, Nr 130.
953 Ibidem, Nr 126.
954 Ibidem.

крэтных пытанняў[955]. Між тым, у польскай гістарыяграфіі ПРМЗ часам характарызуецца як «неафіцыйны польскі парламент»[956].

У згаданым сходзе ўдзельнічалі прадстаўнікі МТСГ Раман Скірмунт і Эдвард Вайніловіч. Апошні прыгадваў, што яны прыйшлі на яго разам а другой гадзіне ночы пасля нейкага беларускага сходу, дзе Р. Скірмунт быў старшынём. Шматлікія выступы ўдзельнікаў польскага схода ў падтрымку расійскай рэвалюцыі і выказаныя надзеі, што перамены істотна палепшаць сітуацыю ў Краі, выклікалі ў іх пратэст. Яны больш крытычна ацэньвалі сітуацыю і паспрабавалі пазнаёміць з ёй прысутных. Паводле Э. Вайніловіча, абодва казалі пра тое, што сацыялістычныя прынцыпы і новая сістэма галасавання знішчаць дамінаванне «культурнага элемента», парушаць грамадскі лад і аслабяць маёмасныя пазіцыі польскай супольнасці «крэсаў». Адзінай мэтай падтрымання стасункаў з цэнтральным урадам яны лічылі магчымае змяншэнне наступстваў анархіі, у якую ператвараецца рэвалюцыя[957]. Зала адказала шумным незадавальненнем. Прадстаўнікі МТСГ адмовіліся ўваходзіць у Раду.

Магчыма, прыгадваючы падзеі гэтага сходу, Вайніловіч прыпісаў Скірмунту ўласныя думкі. Усё ж Скірмунт на той час падзяляў надзеі на перамены ў нацыянальным жыцці, якія магла гарантаваць толькі рэвалюцыя. Да таго ж, як вядома, Скірмунт быў катэгарычным праціўнікам тэрміна «крэсы». Ён мог казаць пра Край або Беларусь. Ягоная адмова ўваходзіць у ПРМЗ магла быць абумоўлена ў першую чаргу ўласнай беларускай палітычнай дзейнасцю[958]. А вось верагоднасць непрыняцця поглядаў Скірмунта большасцю ўдзельнікаў польскага сходу не выклікае сумневу.

Ва ўспамінах Вайніловіча важна іншае – тое, што Скірмунт удзельнічаў у сходзе не як старшыня ці прадстаўнік БНК, а як дзеяч МТСГ. Нагадаю, што тая сесія БНК, на якой адбыўся першы адкрыты канфлікт «беларускіх абшарнікаў» з беларускімі сацыялістамі, наступствам якога стаў сыход Скірмунта з пасады старшыні, адбылася 13–15 мая.

«Краёвая» арыентаванасць ПРМЗ знайшла адлюстраванне на старонках яе перыядычнага органа «Дзенніка Мінскага» (рэдактары Фелікс Хільхэн і Мар'ян Масоніус), які пачаў выходзіць 1 ліпеня 1917 г. замест «Новага кур'ера літэўскага». У рэдакцыйным артыкуле № 1 адзначалася: «Мы прызнаем права кожнага народу на развіццё і будзем імкнуцца да добрасуседскіх адносін з усімі, хто лічыць сябе грамадзянамі краю і імкнецца працаваць дзеля яго росквіту. Асабліва ў адносінах

---

955 BN. Dział mikroform, akc. 6797 J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 1 (1914–1917)*, k. 221.

956 T. Zienkiewicz, *Polskie życie literackie w Mińsku w XIX i na początku XX w. (do roku 1921)*. Olsztyn 1997, s. 111; A. Chwalba, *Historia Polski*..., s. 584.

957 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 197.

958 D. Tarasiuk, *Między nadzieją a niepokojem*…, s. 120.

з беларусамі, адвечнымі жыхарамі і гаспадарамі краю, з якімі нас яднаюць стагоддзі агульнай гісторыі, а часта і агульнасць крыві, будзем імкнуцца, наколькі гэта ў нашай моцы, спрыяць іх дабрабыту і развіццю культуры і разам змагацца за шырокую аўтаномію Белай Русі»[959].

Рэдакцыя «Дзенніка» абяцала быць газетай «нацыянальнай», менавіта ставіць нацыянальныя інтарэсы вышэй за класавыя, і «дэмакратычнай». Апошняе ўвасаблялася ў клопат пра надзяленне люду ўсімі сацыяльнымі і палітычнымі правамі, паляпшэнне становішча малазямельных і беззямельных сялян ды інш. Таксама адзначалася імкненне рэдакцыі спрыяць фарміраванню на беларускіх землях арганізаванай і свядомай польскай грамадскасці, абуджаць дух грамадзянства сярод дробнай шляхты і сялян шляхам арганізацыі школьнай і пазашкольнай асветы. Дарэчы, апошні тэзіс выклікаў крытыку з боку аўтараў газеты «Вольная Беларусь», якія ацанілі яго як імкненне працягваць паланізацыю беларусаў[960].

У першым нумары «Дзенніка» віцэ-старшыня ПРМЗ Ч. Крупскі тлумачыў асноўныя мэты і задачы новай польскай арганізацыі. Ён адзначыў веліч барацьбы польскай нацыі за незалежнасць аб'яднанай Айчыны і падкрэсліў адметнасць задач палякаў Беларусі як карэннага народу Краю. Апошнія зводзіліся да захавання і падтрымкі польскасці, развіцця асветы і культурнага ўзбагачэння люду шляхам «пашырэння свядомасці сярод самых шырокіх слаёў нашага грамадства і народу, умацавання сувязі паміж імі»[961].

«Дзеннік Мінскі» ў пэўным сэнсе быў спробай паяднання краёвасці з польскай ідэяй. Гэта праяўлялася, як у складзе рэдакцыі, так і ў аналітычных тэкстах, што датычылі нацыянальна-культурнай сітуацыі Меншчыны і яе перспектыў. Таксама было відавочным імкненне мясцовай польскай супольнасці захоўваць прыязныя стасункі з беларускім рухам. Тым больш, што на чале БНК стаяў Раман Скірмунт, які ўласнай асобай сімвалізаваў пэўнае польска-беларускае паяднанне. У кожным выпадку, дэклараваныя мэты палітычнай дзейнасці польскай грамадскасці Меншчыны ўлетку 1917 г. яшчэ не разыходзіліся з мэтамі беларускага руху.

Аднак некаторыя заявы палітыкаў Польшчы, якая адраджалася пад нямецка-аўстрыйскім пратэктаратам, насцярожвалі беларускіх дзеячаў. Так, яны крытычна ацанілі заяву польскага Часовага ўрада ад 6 красавіка 1917 г., у якой сцвярджалася, што лёс земляў паміж Польшчай і Расіяй «павінен вырашацца ў адпаведнасці з нацыянальнымі інтарэсамі незалежнай Польшчы і з улікам волі народаў, якія іх насяляюць»[962]. Пэўныя экспансіяніцкія настроі польскіх палітыкаў адносна г. зв. «крэсаў» былі відавочнымі. «Гоман» адрэагаваў на гэта шэрагам антыпольскіх тэкстаў.

---

959 «Dziennik Miński». 1917, Nr 1.

960 «Вольная Беларусь». 1917, № 2.

961 Cz. Krupski, *Organizacja Rady Polskiej Ziemi Mińskiej*, «Dziennik Miński». 1917, Nr 1.

962 Цытата па: J. Pajewski, *Odbudowa Państwa Polskiego.* Warszawa 1985, s. 198.

Між тым, стварэнне польскіх арганізацый, у якіх аб'ядналіся бежанцы з Каралеўства Польскага і мясцовыя беларускія палякі, працягвалася. У ліпені 1917 г. у Магілёве была створана Польская рада Магілёўскай зямлі. На арганізацыйным з'ездзе прысутнічаў прадстаўнік аналагічнай Віцебскай рады[963]. У прынятай рэзалюцыі ўдзельнікі з'езда выказалі намер дамагацца аўтаноміі Беларусі з прызнаннем правоў нацыянальных меншасцяў[964].

Напрыканцы жніўня кіраўнікі ПРМЗ удзельнічалі ў сходзе «Крэсовай польскай рады» ў Кіеве. Было вырашана распрацаваць *Статут польскага насельніцтва на Русі* як падставу сістэмы польскага самакіравання на тэрыторыях Беларусі, Літвы і Украіны[965]. Відавочна, што ўлетку 1917 г. большасць польскай супольнасці Беларусі яшчэ не звязвала свой лёс з лёсам той польскай дзяржавы, якая адраджалася пры падтрымцы Германіі і Аўстра-Венгрыі.

Найбольш папулярным быў лозунг аўтаноміі Беларусі, у якой былі б гарантаваны правы ўсіх нацыянальных меншасцяў. Гэты лозунг таксама падтрымлівала тая частка каталіцкага духавенства, якая падзяляла ідэалы беларускага Адраджэння. 24–25 мая 1917 г. па ініцыятыве ксяндза Гадлеўскага ў Менску адбыўся сход ксяндзоў-беларусаў (болей 20 чалавек, у т. л. Адам Станкевіч, Фабіян Абрантовіч, Люцыян Хвецька), удзельнікі якога выказаліся за аўтаномію Беларусі ў межах дэмакратычнай федэратыўнай Расіі, а таксама за навучанне на беларускай мове ў школах, увядзенне ў касцёлах казанняў і дадатковага набажэнства пабеларуску[966].

Менскі з'езд фармальна завяршыў працэс стварэння беларускай хрысціянскадэмакратычнай партыі, якая першапачаткова атрымала назву *Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць*. Пазней яна будзе перайменавана ў *Беларускую хрысціянскую дэмакратыю*.

Паводле меркавання айца Аляксандра Надсана, менавіта падчас гэтага з'езда княгіня Радзівіл перадала ксяндзам Францішку Будзьку, Фабіяну Абрантовічу і Люцыяну Хвецьку брыльянтавае кальe на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі (семінарыі) у Рыме. Усё рабілася тайна. Пра кальe ведала толькі некалькі чалавек, у т. л. і Раман Скірмунт[967]. Відавочна, што княгіню і палескага «абшарніка» зблізіла якраз супраца на беларускай ніве і падтрымка адраджэння грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы. З ёй звязваліся надзеі на пашырэнне беларускай свядомасці.

---

963 «Dziennik Miński». 1917, Nr 4.

964 Ibidem, Nr 5.

965 Ibidem, Nr 52.

966 *З жыцьця і дзейнасьці кс. В. Гадлеўскага. Аўтабіяграфічны нарыс,* «Biełaruskaja krynica». 1928, № 13; С. Рудовіч, *Праблема самавызначэння Беларусі*..., с. 121–122.

967 А. Надсан, *Княгіня Марыя Магдалена Радзівіл і справа адраджэньня Уніі ў Беларусі*. Менск 2006, с. 42.

Таксама немагчыма аспрэчыць вялікую ролю Рамана Скірмунта ў пашырэнні ідэі аўтаноміі. Менавіта ён адным з першых зрабіў яе галоўным лозунгам беларускага руху амаль адразу пасля падзення дынастыі Раманавых. Гэтую ідэю настойліва імкнуўся ажыццявіць БНК і пасля сыходу Скірмунта з пасады кіраўніка. Так, ва ўжо згаданай заяве БНК на старонках «Вольнай Беларусі», дзе фігураваў сюжэт пра правакатараў, якія «прыкрываючыся іменем беларускім, вялі прапаганду за далучэньне да Польшчы або да якога другога гасударства», таксама першачарговай задачай Камітэта абвяшчалася «аўтаномнае адбудаваньне Беларусі ў граніцах Расеі, у якіх было б забяспечана вольнае жыцьцё і поўныя правы іншым народам, жывучым на Беларусі»[968].

Тэма аўтаноміі Беларусі была адной з найважнейшых на старонках «Вольнай Беларусі». Першы нумар гэтага перыядычнага органа БНК выйшаў 28 мая 1917 г. і за яго з'яўленнем стаяла вялізная праца ўсяго Камітэта і, безумоўна, першага кіраўніка. Рэдактарам стаў сябра БНК Язэп Лёсік.

У артыкуле «Нашы патрэбы» ён сцвяржаў, што ўсе патрэбы Беларускага краю можна абагульніць адным словам – аўтаномія. Аўтаномію Лёсік тлумачыў як «права заводзіць у сябе свае парадкі, як права на тое, каб наша родная беларуская мова скрозь панавала ў нашым краю, каб на ёй вучыліся, гаварылі, каб яна ўжывалася нараўне з расійскай ва ўсіх урадавых інстытуцыях; каб развівалася наша беларуская культура, літэратура, умеласьць, каб мы, беларусы, сталі нараўне і поплеч з усімі народамі, што жывуць на сьвеці – з расійцамі, палякамі, французамі, ангельцамі і т. д.»[969]

Пазней гэтыя артыкулы былі перапрацаваны ў брашуру пад назвай «Аўтаномія Беларусі» (кастрычнік 1917 г.), у якой Язэп Лёсік даводзіў неабходнасць аўтаноміі не толькі для палітычнага і нацыянальна-культурнага развіцця беларусаў, але таксама для задавальнення асноўных патрэб працоўнага люду.

Спроба сумясціць у лозунгу аўтаноміі Беларусі нацыянальнае і сацыяльнае была вельмі важнай, бо ўсё больш відавочнай станавілася радыкалізацыя сацыяльных патрабаванняў шырокіх народных мас (у т. л. сялянства), якія актыўна далучаліся да грамадска-палітычнага жыцця Беларускага краю. Аднак гэтае сумяшчэнне не магло абысціся без пэўных страт, тым больш што папулярныя ў беларускай вёсцы арганізацыі агульнарасійскіх сацыялістычных партый, асабліва эсэры і сацыял-дэмакраты, цалкам адмаўлялі беларускую нацыянальную ідэю і трактавалі БНК у катэгорыях «панскасці» і польскасці.

Між тым, БНК пад кіраўніцтвам Скірмунта шмат намаганняў прыкладаў дзеля прапаганды менавіта беларускай ідэі, звязваючы з яе пашырэннем умацаванне сацыяльнай базы беларускага руху. Як ужо адзначалася, у красавіку 1917 г. было створана Таварыства беларускай культуры, у маі – Першае таварыства белару-

---

968 *Ад Беларускага нацыянальнага камітэту*, «Вольная Беларусь». 1917, № 2.

969 Я. Л-к [Я. Лёсік], *Нашы патрэбы*, «Вольная Беларусь». 1917, № 19.


ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Цэна асобнага № 15 кап.

Умовы падпіскі на 1917 год.

Умовы друку абвестак:

Газэта палітычная, экономічная і літэратурная.

№ 4. (Субота) Выходзіць двойчы на тыдзень. (24 чэрвеня) № 4.

19 24 і 25 / VI 17 г.

ДЗЕНЬ ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ.

Браты, грамадзяне зямлі Беларускай! У гэтые дні па ўсёй Дзяржаві Расійскай дзе ёсьць беларусы, дзе істнуюць беларускіе арганізацыі, адбудзецца скарбоначны збор на Нацыянальны Беларускі фонд. Дзе двое зыдуцца у імя беларускае, там нябачна вітае беларускі народ. Рукі ён к вам прасьцірае, кліча на помач к сабе! Браты—беларусы, злучайцеся, гуртуйцеся,—зьбірайце ахвяры на Нацыянальны Беларускі фонд!

УНІВЭРСАЛ

*Абвестка пра збор сродкаў у Нацыянальны фонд на старонках «Вольнай Беларусі» (1917, 24 чэрвеня).*

скай драмы і камедыі. Быў заснаваны Беларускі нацыянальны фонд, сродкі якога прызначаліся для нацыянальнай культурніцкай дзейнасці. 24–25 чэрвеня ў Краі і ў тых гарадах Расіі, дзе існавалі беларускія арганізацыі, праводзіліся *Дні вольнай Беларусі*, падчас якіх распаўсюджваліся лістоўкі БНК, ладзіліся выставы твораў нацыянальнага мастацтва, чыталіся лекцыі па гісторыі і культуры Беларусі, а таксама збіраліся сродкі для Беларускага нацыянальнага фонда[970]. Аляксюк на старонках «Нового варшавского утра» заклікаў менчукоў «внести сваю лепту на газеты, книги и школы многомиллионного народа»[971]. Тая ж газета пісала пра поспех беларускіх дзён у Менску, адзначыўшы вялікую цікавасць менчукоў да спектакля Першага таварыства драмы і камедыі і да Купальскай вечарыны. Таксама сцвярджалася, што збор у Беларускі фонд «встретил сочувствие широких масс населения»[972].

Ініцыятыву БНК падтрымалі не толькі менчукі. Як паведаміў адзін з карэспандэнтаў «Вольнай Беларусі», у Барысаве ў Нацыянальны фонд было сабрана болей 400 руб.[973] Моцную падтрымку намаганням БНК аказваў таксама Беларускі камітэт у Магілёве (старшыня М. Кахановіч). Гэтая актыўнасць спрыяла пашырэнню нацыянальнай свядомасці. Так, 20 чэрвеня «Новое варшавское утро» паведаміла пра вынікі Сялянскага з’езда Віцебскай губ., удзельнікі якога выказаліся за аўтаномію Беларусі, роўнасць усіх нацый Краю, а таксама за

970 С. Рудовіч. *Час выбару*…, с. 126, «Новое Варшавское утро». 1917. № 386, 16 июня.
971 «Новое Варшавское утро». 1917. № 392, 24 июня.
972 Ibidem, № 394, 27 июня.
973 «Вольная Беларусь», 1917. № 14, 17 жніўня.

беларусізацыю школы. Яны пагадзіліся з тым, што рашэнне па аграрнай рэформе прыме Устаноўчы Сход, а зямлю будзе размяркоўваць Беларуская рада[974].

Аднак тыя ж сяляне даволі часта дэманстравалі адкрытую пагарду да беларушчыны. У жніўні карэспандэнт «Вольнай Беларусі» з мястэчка Зембін Барысаўскага пав. з горыччу пісаў пра адмоўнае стаўленне местачкоўцаў да беларускага руху: «Каля нашага мястэчка ёсць шмат паноў, але яны руху беларускаму ніякіх перашкодаў не чыняць, наадварот, паміж іх ёесць шмат прыхільнікаў беларускага руху, як напр. Сьвянціцкія, Цюндзявіцкія і інш. Ды проста аж дзіву даешся, адкуль і праз каго нашы сяляне, дома і па-за домам гаворачы па-беларуску, набралі нянавісьці да ўсяго роднага»[975].

Прычыны гэтага трэба шукаць не толькі ў складанасці працэсу фарміравання беларускай нацыі. Як ужо адзначалася, БНК і ўвесь беларускі нацыянальны рух сустрэў вельмі моцнае супрацьдзеянне з боку Выканкама Савета сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губ., а таксама Настаўніцкага саюза. Негатыўнае стаўленне да яго дэманстравалі вядомыя ў Менску дзеячы эсэр С. Кавалік, энэс І. Мятлін і бальшавік М. Фрунзе. Надзвычай варожа да БНК ставіліся таксама Беларускі народны саюз (Віцебск) і Саюз беларускай дэмакратыі (Гомель), які прытрымліваліся ідэалогіі «заходнерусізму». Адмоўную ролю адыгрывала і тое, што ў праграме БНК нацыянальна-культурная дзейнасць не спалучалася з прапановамі вырашэння аграрнай ды іншых актуальных праблем сацыяльнага жыцця.

Тым не менш, за вясну 1917 г. беларускі рух прайшоў вялікі шлях, які не ў апошнюю чаргу быў звязаны з асобай «абшарніка» Рамана Скірмунта. В. Гадлеўскі, які паспрабаваў зрабіць пэўнае абагульненне ягонай дзейнасці ў гэты перыяд, сцвярджаў, што Скірмунт прынёс «шмат карысьці»...

*ДАКУМЕНТ*

**Кс. Вінцэнт Гадлеўскі. Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917–1918 гг.[976] Фрагмент.**

*Роля Скірмунта ў беларускім палітычным жыцьці пачынаецца ад расейскай рэвалюцыі, г. зн. ад лютага месяца 1917 г. Да гэтага часу быў ён ведамы як краёвец, каторы хацеў стварыць супрацоўніцтва народаў, якія знаходзіліся даўней у граніцах Вялікага Княства Літоўскага, і яшчэ ў 1906–1909 гг. многа працаваў над польска-беларускім збліжэньнем. Чалавек, бясспрэчна, зь вялікай духовай культурай, шырокім сьветаглядам і высокай асьветай, Скірмунт належыў у тыя часы да групы тых рэдкіх абшарнікаў на Беларусі, для каторых беларускі селянін быў*

---

974 «Новое Варшавское утро». 1917, № 387, 20 июня.

975 «Вольная Беларусь». 1917. № 14, 17 жніўня.

976 В. Гадлеўскі, *Зь палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917–1918 гг.,* «Спадчына». 1997, № 5, с. 20–22.

*бліжэйшы за селяніна, а нават шляхціца з этнаграфічнай Польшчы і каторыя пачуваліся да нейкай і маральнай, і фізічнай сувязі з народам беларускім.*

*Ад 1917 г. Скірмунт становіцца ў рады беларускіх дзеячоў і, хоць буйны землеўласьнік (да яго належыць вялікі двор Парэчча ў Пінскім павеце), стаецца вялікім дэмакратам і нават (шчыра ці няшчыра) беларускім патрыётам. Пры ўсім гэтым ён добра ўладаў беларускай мовай (трохі з палескім акцэнтам: «шо, шчо»), і ягоныя прамовы на беларускіх сабраньнях выдзяляліся і зместам і формай, яны былі заўсёды высока-патрыятычны з беларускага пункту гледжаньня і часам нават проста рэвалюцыйны, што выклікала ў прысутных буру воплескаў. І вось гэты чалавек скорам выбіваецца на чало беларускага руху.*

*Зараз пасьля рэвалюцыі быў скліканы ў Менску зьезд беларускіх дзеячоў, каб выбраць беларускі палітычны цэнтр і каб нарысаваць плян працы на будучыню. Зьезд адбыўся дня 25–26 сакавіка 1917 г., якраз на год прад абвешчаньнем незалежнасьці Беларусі. На гэты зьезд прыехалі бадай усе актыўныя беларускія сілы ня толькі з Беларусі, але з абшару ўсяе даўнейшае Расеі, зь Петраграду, Масквы, Кіева і іншых гарадоў. На зьездзе былі рэпрэзэнтаваны ўсе тагачасныя палітычныя кірункі, пачынаючы ад беларускіх народнікаў, а канчаючы на соціалістах. На гэтым зьездзе доўгі час дыскутавалася пытаньне, каго выбраць на старшыню такое важнае інстытуцыі, як першага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, і пасьля доўгіх спрэчак бадай усе дзеячы затрымаліся на асобе Р. Скірмунта, б. дэлегата ад Меншчыны ў 1-ую Дзяржаўную Думу, і ён быў выбраны на старшыню Б. Нац. Камітэту ў Менску.*

*Чаму не каго іншага выбралі, а Скірмунта?*

*Трэба ведаць, што на пачатку расейскай рэвалюцыі ніхто не спадзяваўся, што яна будзе паглыбляцца штораз далей, аж да камунізму. Людзі думалі, што ўрад князя Львова, а потым Керанскага будуць трывалкімі, што расейскі лібэралізм і дэмократызм, які дайшоў да ўлады будзе дэцыдаваць аб будучым дзяржаўным строю Расеі, што кадэты, а потым і эсэры, якія стаялі на чале ўлады, не аддадуць гэтай улады нікому. А ў гэтых людзей, асабліва ў кадэтаў, асоба Скірмунта, як ведамага палітычнага дзеяча і сябры 1-й Дзяржаўнай Думы, мела свае значэньне.*

*Вось дзеля гэтай прычыны Скірмунт ня толькі быў выбраны на старшыню Бел. Нац. Камітэту, але і пастаўлены на чале дэлегацыі, якая была выбрана ў ліку 7-мі чалавек на гэтым-жа з'ездзе беларускіх дзеячоў, каб перадаць расейскаму ўраду рэзалюцыі і дамаганьні зьезду ў справе школьніцтва, самаўраду і аўтаноміі Беларусі.*

*Скірмунт у той час быў пакліканы як фаховец («спэц») ад палітычных і вонкавых спраў (нешта падобнае як Чычэрын у бальшавікоў)*[977]*. І трэба сцвердзіць,*

---

[977] Чычэрын, як ведама, ня гледзячы на тое, што паходзіў з расейскае арыстакрацыі, быў пакліканы бальшавікамі ў першых гадох іхняй улады на высокае становішча камісара загранічных спраў і спаўняў гэты абавязак, пакуль яго не замяніў Літвінаў (заўвага – *В. Г.*).

*што як Чычэрын для бальшавікоў, так і Скірмунт для беларусаў у свой час прынясьлі шмат карысьці і адыйшлі (або былі адсунуты) тагды, калі іх услугі сталіся непатрэбнымі. Пры ўсім гэтым магчыма, што Скірмунт хацеў на беларускай справе зрабіць палітычную кар'еру, бо палітыцы ён быў аддадзены целам і душою, не шкадаваў для яе ні фізычных, ні маральных трудоў.*

## *У «другім эшалоне»*

Напачатку лета ўсё больш відавочнай станавілася як выразная дыферэнцыяцыя ўнутры Беларускага нацыянальнага камітэта, так і неабходнасць выпрацоўкі новай ідэйнай платформы адзінства ўсіх палітычных сіл беларускага Адраджэння.

Варта адзначыць, што ў гэты час значна пашырыліся ўплывы БСГ. 18 красавіка пачала выходзіць яе газета «Грамада» (рэд. А. Смоліч). Суполкі БСГ існавалі ў Петраградзе, Менску, Маскве, Гомеле, Віцебску, Бабруйску, Слуцку ды інш. У чэрвені адбылася канферэнцыя БСГ, на якой быў абраны часовы ЦК (З. Жылуновіч, Я. Варонка, К. Дуж-Душэўскі, А. Смоліч ды інш.). Таксама было прынята рашэнне пра пераезд ЦК у Петраград. Пра рост аўтарытэта БСГ сведчыць і тое, што па запрашэнні старшыні Юрыдычнай нарады пры Часовым урадзе прадстаўнікі яе Петраградскай арганізацыі ўдзельнічалі ў выпрацоўцы палажэння аб выбарах ва Устаноўчы сход[978].

Важныя рашэнні павінен быў прыняць Другі з'езд беларускіх арганізацый, які першапачаткова планаваўся на канец чэрвеня. Так, ужо 1 чэрвеня быў падпісаны кіраўніком аддзела БНК Язэпам Лёсікам цыркуляр, які паведамляў пра з'езд дэлегатаў беларускіх грамадскіх і палітычных арганізацый, запланаваны на 29 чэрвеня. У парадку дня фігуравала справаздача Камітэта, пытанні пра беларускае Адраджэнне, аўтаномію Беларусі, беларусізацыю школы, эканамічную сітуацыю і зямельную праблему, а таксама пра рэарганізацыю БНК («праэкт цэнтральнай беларускай арганізацыі»)[979].

Аднак давялося з'езд пераносіць, і ён адбыўся толькі 8–9 ліпеня 1917 г. Падрабязныя рэпартажы газеты «Вольная Беларусь» дазваляюць прааналізаваць ягоную працу. Падрыхтоўкай і арганізацыяй з'езда займаўся Беларускі нацыянальны камітэт, у якім пасля сыходу Скірмунта з пасады старшыні дамінавалі сябры БСГ. Менавіта дэлегаты гэтай партыі адыгралі вызначальную ролю ва ўзмацненні сацыяльнага складніка беларускага руху і дыферэнцыяцыі розных палітычных сіл нацыянальнага Адраджэння.

Жылуновіч, успамінаючы гэты з'езд, адзначаў незадавальненне Петраградскай арганізацыі БСГ дамінаваннем у Менску «буржуйна-шовіністычных элементаў»,

---

[978] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 11.
[979] Тамсама, спр. 2, арк. 19.

якія групаваліся вакол БНК[980]. Лідэры БСГ лічылі, што гэтыя «элементы» стрымліваюць развіццё «беларускага рэвалюцыйнага руху» ва ўмовах, калі рэвалюцыя «зрабіла круты ўхіл улева»[981].

Варта адзначыць, што напярэдадні менскага з’езда ў Петраградзе 3–5 ліпеня адбыліся антыўрадавыя выступленні салдат, матросаў і рабочых, падчас якіх пралілася кроў. Гэтыя падзеі многія гісторыкі лічаць спробай бальшавіцкага мяцяжу, які быў задушаны войскамі, выкліканымі з фронту. Ягоным галоўным палітычным вынікам стала адстаўка князя Львова і фарміраванне новага кааліцыйнага ўрада на чале з лідэрам партыі эсэраў Аляксандрам Керанскім. Ягонае прызначэнне адбылося 8 ліпеня. Склад урада быў пераважна сацыялістычным.

Жылуновіч лічыў неабходным дзеля «выяўленьня сапраўднай сутнасьці беларускага рэвалюцыйнага руху адрэзаць усялякую сантыментальную «агульнанацыянальнасьць» разам з Скірмунтам і ксяндзамі; трэба было стаць перад тварам рэволюцыі ў сапраўдных узаемаадносінах клясавых сіл у беларускім руху, і на гэта Грамада пакіравала. Істнаваўшы ад пачатку рэволюцыі Нацыянальны Камітэт захоўваў гэтыя ўзаемаадносіны і тым самым перашкаджаў нармальнаму разьвіцьцю беларускіх рэвалюцыйных сіл. Ясно, што ў далейшым нельга было заставіць у новым органе з сяброў Камітэта ніводнага чалавека, каб гэтым сьцерці ўсякую пераемнасьць з ім».

БНПС трактавалася кіраўніцтвам БСГ як групоўка «права-шовіністычных элементаў». У згаданых успамінах, апублікаваных на старонках часопіса «Полымя» (1923), Жылуновіч сцвярджаў, што напярэдадні з’езда сябрам БНПС стаў таксама Раман Скірмунт, які паабяцаў дарма перадаць сваю зямлю сялянам[982]. Гэтае абяцанне беларускі сацыяліст лічыў толькі «данінай часу» і не ўспрымаў паважна.

З’езд абяцаў быць «гарачым». Аднак у першы дзень яшчэ дамінавала «сантыментальная агульнанацыянальнасць». Праца распачалася прывітальнай прамовай намесніка старшыні БНК Алексюка, які адзначыў важнасць з’езда і заклікаў яго ўдзельнікаў «найці новыя дарогі для нацыанальнай справы, уліць новыя сілы ў рады працаўнікоў беларускага адраджэньня»[983]. Адбыліся выбары Прэзідыума, які ўзначаліў Зміцер Жылуновіч. Ягонымі намеснікамі («таварышамі») былі абраны А. Лявіцкі (БНПС) і Ф. Галавач (БСГ). Сакратарамі з’езда сталі Э. Будзька (*працоўнік*), Ф. Стульба (БНПС) і П. Каравайчык (беспартыйны).

Пасля гэтага па прапанове П. Алексюка з’езд накіраваў прывітальную тэлеграму Украінскай цэнтральнай радзе, якая 10 чэрвеня 1917 г. прыняла Універсал, што

---

980 Ж. З. [З. Жылуновіч], *Уступамі да Акцябра (Матэр’ялы да гісторыі Савецкай Беларусі)*, «Полымя». 1923, № 7–8, с. 86.

981 Тамсама, с. 87.

982 Тамсама.

983 *Зьезд дэлегатаў ад беларускіх партыйных і грамадскіх арганізацый 8–10 ліпня ў Мінску*, «Вольная Беларусь». 1917, № 8.

абвяшчаў аўтаномію Украіны. Смоліч пры гэтым назваў Украіну «авангардам нацыянальнага руху». Супраць прывітальнай тэлеграмы выступілі толькі дэлегаты Віцебскага камітэта Беларускага народнага саюза, якія пазней нават пакінулі з'езд «сепаратыстаў».

Цэнтральным пунктам першага дня была справаздача БНК. З ёй выступіў намеснік старшыні Камітэта Усевалад Фальскі. «Вольная Беларусь» надзвычай сціпла пераказала ягоную прамову. У газетным варыянце адлюстраваліся пераважна скаргі выступоўцы на «страшэнна кепскія [палітычныя і фінансавыя] умовы» для працы БНК, які «рабіў усё, што мог». Прамоўца таксама адзначыў, што Камітэтам рэгістраваліся новыя арганізацыі, дасылалася літаратура, выдаваліся адозвы, быў заснаваны Нацыянальны фонд і арганізаваны чарговы з'езд беларускіх арганізацый. Аляксюк дадаў, што пры ацэнцы дзейнасці БНК трэба ўлічваць «слабое нацыянальнае пачуццё» ў Беларусі, якое ў многіх абуджаецца толькі тады, калі чалавек трапляе на чужыну.

Невядома, ці то сапраўды такімі сціплымі аказаліся дакладчыкі ад БНК, ці то газета, якую рэдагаваў дзеяч БСГ, не палічыла патрэбным падрабязна пераказваць змест іх выступаў. Відавочна, што маштаб працы БНК ніяк не адлюстраваўся ў газетным варыянце справаздачы.

Адказваючы на пытанне Язэпа Дылы, П. Аляксюк падрабязна распавёў пра красавіцкі візіт дэлегацыі БНК у Петраград, падсумаваўшы яго вынікі словам «вообще»[984]. У адказ на пытанне наконт ініцыятыў БНК па стварэнні рэгіянальных беларускіх арганізацый намеснік старшыні прызнаў, што Камітэт актыўнасцю ў гэтай справе не адрозніваўся і займаўся пераважна рэгістрацыяй суполак, якія ўзнікалі самастойна.

Даклады рэгіянальных арганізацый распачаліся выступам Э. Будзькі, які распавёў пра працу беларусаў у Петраградзе. На яго думку, найважнейшай справай беларускага Адраджэння на дадзены момант з'яўляецца беларусізацыя школы і падрыхтоўка падручнікаў.Даклады з месцаў працягнуў Кахановіч, які на прыкладзе Магілёва выказаў упэўненасць, што «беларускі рух мае моцны грунт пад сабою і можа прыцягнуць да сябе шмат людзей»[985]. Я. Дыла распавёў пра працу маскоўскіх беларускіх арганізацый – Народнай Грамады і Сацыялістычнай Грамады. Дэлегат Асвяцімскі (Слуцк) паведаміў пра беларускую дзейнасць у Слуцкім пав., дзе таксама давялося сутыкнуцца з эсэрамі і бальшавікамі. Ён заклікаў больш актыўна «ісці ў народ» і займацца прапагандай беларушчыны, распавёўшы, што сяляне, якім ён пераказаў праграму БНК, адзінагалосна яе падтрымалі.

Таксама выступалі дэлегаты беларускіх арганізацый Гомеля, Віцебска, Копыля, Бабруйска, Кіева, Смілавічаў. Аляксандр Цвікевіч пазнаёміў прысутных з праграмай Беларускай народнай Грамады (Масква). Зміцер Жылуновіч распавёў

[984] Тамсама.
[985] Тамсама, № 9.

пра дзейнасць петраградскай арганізацыі БСГ, падкрэсліўшы, што «трэба абараняць ня толькі нацыанальныя, але і эканамічныя інтарэсы працоўнага люду». На яго думку, толькі гэта можа паспрыяць далучэнню гэтага люду да беларускага руху. Кіраўнік БСГ заклікаў працаваць з салдатамі і сялянамі. Таксама выступалі беларусы-вайскоўцы, прадстаўнікі арганізацый беларусаў-бежанцаў.

Асаблівай крытыкі БНК з боку рэгіянальных арганізацый не было. Аднак напрыканцы дня Асвяцімскі заявіў пра дрэнную рэпутацыю БНК і запатрабаваў яго «перавыбраць, найменаваць Цэнтральным камітэтам беларускіх арганізацый, каб было даверые на вёсцы і тагды нехай усе, хто толькі можа, йдуць на вёску, каб правесьці сваіх людзей да земства і Устаноўчага сойму»[986].

Гэтую крытыку падтрымаў... Павел Аляксюк: «Пісака выпісаўся […] Такая праца не рабіла жаднаго ўплыву на жыцьцё. Трэба як-небудзь падняць гэто жыцьцё, направіць яго па новай дарозе». Ён прапанаваў зрабіць «цэнтральную арганізацыю» кааліцыйнай, каб у ёй была прадстаўлена не толькі сацыялістычная плынь беларускага руху. Намеснік старшыні БНК сцвярджаў, што справы не выглядаюць так кепска, як пра гэта многія казалі, што «працэс самаабуджэньня народу, разпачаўшыся, ідзе ўсё далей і глыбей». Ён жа звярнуў увагу на цяжкую фінансавую сітуацыю Камітэту, якая перашкаджае актыўнай прапагандзе беларушчыны напярэдадні выбараў ва Устаноўчы Сход[987]. Падобна, што за гэтай прамовай Алексюка стаяла імкненне не дапусціць манаполіі БСГ у кіраўніцтве беларускага руху. Магчыма, пра сапраўдныя намеры лідэраў сацыялістаў сябры БНК ужо ведалі.

Скірмунт у газетным рэпартажы не згадваўся. Відавочна, што асаблівай актыўнасці ён не праяўляў і ў абмеркаваннях першага дня не ўдзельнічаў. Магчыма, пазіцыя былога кіраўніка БНК часткова адлюстравалася ў выступах ягоных намеснікаў, у першую чаргу Алексюка. Тым больш, што падчас з'езда яны былі ўжо аднапартыйцамі.

Пасля выступу Алексюка дыскусіі перапыніліся, а з'езд падзяліўся на секцыі (палітычную, школьную, бежанскую, ваенна-арганізацыйную і зямельную), якія павінны былі падрыхтаваць дакументы для наступнага дня працы. 8 ліпеня з'езд яшчэ захоўваў вонкавае адзінства сваіх шэрагаў, хоць апошнія выступы ўжо прадракалі дыскусіі і спрэчкі вакол «цэнтральнай арганізацыі» беларускага руху.

Агульнае пасяджэнне другога дня распачалося а 16-й гадзіне выступам Я. Сушынскага, які распавёў пра беларускую дзейнасць у Дрысенскім пав. Грунтуючыся на уласным досведзе агітатара, ён сцвярджаў, што сяляне адгукаюцца на прапаганду беларушчыны, і беларускае слова мае падтрымку сярод іх[988].

Ад палітычнай і арганізацыйнай секцыі выступіў М. Кахановіч. Ён заявіў, што

[986] Тамсама, № 10.

[987] Тамсама.

[988] Тамсама.

Беларускі нацыянальны камітэт, абраны ў сакавіку, «выйшаў трохі няўдалым». Яму рабілі закіды, што беларуская справа – «польская і панская інтрыга», а ён амаль не рэагаваў на гэта. Дакладчык прызнаў пэўную справядлівасць гэтых закідаў, адзначыўшы, што ў Камітэце «фактычна былі людзі даволі багатыя». Таксама ён прыгадаў, што БНК не выканаў адно з важных даручэнняў сакавіцкага з’езда, а менавіта не вызначыў этнаграфічныя межы Беларусі. Апрача таго, БНК не здолеў упарадкаваць працэс стварэння беларускіх арганізацый, якія «растуць як грыбы пасля дажджу, а Камітэт нават не ведае, дзе яны ёсьць, а дзе іх няма».

Кахановіч заклікаў рэфарміраваць арганізацыю, стварыўшы «орган, які б лучыў усіх ад крайніх правых да крайніх левых». Гэта была ягоная асабістая пазіцыя, а секцыя прыняла рашэнне пра стварэнне арганізацыі выключна з сацыялістаў і дэмакратаў. На думку дакладчыка, рашэнне секцыі не супярэчыла ягонай прапанове, бо зараз, «хто не сацыяліст, той называе сябе дэмакратам».

Паводле прапановы секцыі, стваралася «Цэнтральная рада дэпутатаў беларускіх арганізацый», якая ў перспектыве павінна была ператварыцца ў «Беларускую цэнтральную раду», галоўнай задачай якой было дасягненне аўтаноміі Беларусі. Дзеля палітычнага прадстаўніцтва прапанавалася мець двух сваіх прадстаўнікоў у Петраградзе і аднаго ў Магілёве.

Пасля выступу Кахановіча прамаўляў А. Цвікевіч, які толькі часткова пагадзіўся з прапановамі секцыі. Ён быў супраць стварэння «Беларускай рады», бо аўтаномію разумеў толькі як «гаспадарскае самакіраваньне, троху як законадаўскае». Цвікевіч асудзіў «сэпаратызм» і выказаўся за моцную Расію з эканамічна-тэрытарыяльнай аўтаноміяй асобных народаў: «Мы хочам упарадкавацца самым і памагчы Расіі [...] Што-ж нам трэба рабіць? Не захопліваць законадаўчых функцый, а ўзяцца за арганізаваньне масаў»[989]. Ён быў супраць дэцэнтралізацыі Расіі і заявіў, што яе «народы прывыклі ўжо жыць у блізкіх адносінах адны з другімі». Прадстаўнік Народнай Грамады нават прапанаваў прыняць удзел у палітычным сходзе 11 ліпеня разам з прадстаўнікамі эсэраў, кадэтаў, Выканкама Рады рабочых і салдацкіх дэпутатаў, губернскага земства ды інш. Цвікевіч спадзяваўся знайсці паразуменне з тымі, хто вёў сапраўдную вайну супраць беларускага Адраджэння.

У дыскусію адразу ж уступіў Аляксюк як прыхільнік палітычнай і нацыянальна-культурнай аўтаноміі. Менавіта разуменне тэрміна «аўтаномія» апынулася ў цэнтры абмеркавання На жаль, «Вольная Беларусь» не стала пераказваць усёй дыскусіі, палічыўшы, што яна цікавая толькі для юрыстаў. А на самім з’ездзе дыскусію перапыніла з’яўленне прадстаўніка Польскай Рады Менскай зямлі, які прывітаў беларускі з’езд і пераказаў жаданне мясцовых палякаў «як сыноў гэтага краю жыць у добрым суседстві з беларусамі і разам працаваць на карысьць агульнай Бацькаўшчыны»[990].

---

989 Тамсама.

990 Тамсама, № 11.

Далейшая дыскусія ў большай ступені датычыла ўжо фармата новай «цэнтральнай арганізацыі». Нарэшце з прамовай выступіў і Раман Скірмунт. Ён казаў пра неабходнасць менавіта палітычнай аўтаноміі, з якой звязваў дабрабыт Беларусі. Былы старшыня БНК назваў «справядлівай» крытыку М. Кахановічам дзейнасці Камітэта і прыгадаў «страшэнна цяжкія ўмовы», у якіх даводзілася працаваць. Ён пагаджаўся з неабходнасцю рэарганізацыі БНК, але быў супраць яго ліквідацыі і стварэння новай арганізацыі. Паводле Скірмунта, гэта магло толькі ўсцешыць ворагаў беларушчыны[991].

*ДАКУМЕНТ*

**Пераказ прамовы Рамана Скірмунта 9 ліпеня 1917 г. на з'ездзе дэпутатаў беларускіх арганізацый[992]. Фрагмент.**

*[…] Юрысты добра сказалі, што німа яснаго і справядліваго азначэньня розных форм аўтаноміі. Але, калі Цьвікевіч гаварыў аб ніпатрэбе палітычнай аўтаноміі, а толькі мяйсцовай, гаспадарскай […] здалося, што Цьвікевіч радзіць здаволіцца пашырэным земскім самаупраўленьнем. Пры зьмяніўшымся дзяржаўным ладзі стары цэнтралістычны парадак далей трываць не можа і не павінен. Дабрабыт як усяе Расіі, так і наш грунтуецца на шырокай палітычнай аўтаноміі краёў і народаў. Да гэтаго трэба дабавіць, што тэрмін «палітычная аўтаномія» не разумее безпременна свайго войска, сваіх асобных грошаў і мытных граніц. Усё гэта можа быць агульнае. Але ад сваіх праўдзівых патрэбаў мы адступацца не можам і не павінны. […]*

*Выступленьне Украінскай Рады надта зрэлае й абдуманае, яно грунтуецца на ясным разуменні інтарэсаў свайго народу. Калі Расія зразумее сэнс нацыянальных намаганьняў жывучых у ёй народаў і пойдзе ім насустрэч, яна не толькі не аслабее, а наадварот, узмацніцца. Грамадзянін Цьвікевіч моцна памыліўся, кажучы, што народы Расіі пры старым парадку прывыклі адзін да другога і зліліся ў адно цэлае. Гэта было злучэньне кайданаў і ланцугоў. Цяпер насталі новыя часы і трэба шукаць новых прынцыпаў злучэньня. (Бурн. апл.)*

*Зробленая Кахановічам крытыка працы Камітэту справядліва. Камітэт, папраўдзі, зрабіў мала, але дзеля страшэнна цяжкіх умоў працы. Час наш пераходны і ідэёвая праца сустрачае шмат неабдуманых слоў і абвінавачэньняў. Паказывалі на мяне, што я шкоджу толькі працы Камітэту, стаючы на чале яго. Я зараз жэ зьняў с сябе паўнамочыя старшыні Камітэту і застаўся простым яго сябрам. Злосныя напады на Камітэт, можа, азначаюць толькі тое, што Камітэт стаяў на сапраўднай дарозі. Тут гаварылі аб ягонай працы і ніхто не ўспамянуў аб тым, што Камітэт не толькі склікаў зьезды, але й залажыў газэту «Вольная Беларусь»,*

---

[991] Тамсама.

[992] Паводле публікацыі газеты «Вольная Беларусь» (№ 11 ад 3 жніўня 1917 г.).

*орган, што стаіць моцна на нацыанальным грунце і адпавядае духу цяперашняга часу.*

*Перамена, рэарганізацыя Камітэту патрэбна. Але праэкт Кахановіча вяртае нас назад. Нацыанальны камітэт і Выканаўчы камітэт тое самае. Быць можа замест таго, каб яго касаваць, перавыбраць, перабудаваць яго. Скасаваньне Камітэту нашы ворагі могуць зразумець як уступку ім, і гэто акрыліла-б іх надзеі. (Апл.)*

Газетны пераказ прамовы не дазваляе ўпэўнена сцвярджаць, што Скірмунт пакінуў без адказу заўвагу Кахановіча наконт невыканання БНК даручэння сакавіцкага з’езда, звязанага з вызначэннем этнаграфічных межаў Беларусі. Магчыма, ігнараванне рашэння з’езда было абумоўлена тым, што кіраўнік БНК не развітаўся з краёвай канцэпцыяй і працягваў шукаць шляхі захавання цэласнасці ўсёй гістарычнай Літвы. Пра гэта могуць сведчыць ягоныя намаганні дасягнуць паразумення з Літоўскай радай у Петраградзе і імкненне пашыраць краёвасць сярод мясцовых польскіх арганізацый.

Меркаванне былога кіраўніка БНК наконт таго, што ліквідацыя Камітэта толькі ўсцешыць ягоных ворагаў, падтрымаў Я. Сушынскі, які таксама заявіў, што не разумее клопату асобных дэпутатаў пра Расію: «Мы павінны найперш дбаць аб дабро свайго народу»[993]. Э. Будзька заявіў, што ў беларускага руху ёсць больш пільныя патрэбы, чым замена адной арганізацыі на іншую. Ім запярэчыў Аркадзь Смоліч, які сцвердзіў, што як арганізатар беларускага руху БНК ужо выканаў сваю ролю, а зараз узнікла патрэба стварэння іншай арганізацыі: «Цяперашні зьезд меншы па ліку, але большы па ўдзельнай цяжасьці, і яго орган павінен мець больш аўтарытэту і паўнамочый»[994].

З’езд прыняў рашэнне пра абранне пяцёх сяброў Выканаўчага камітэта, якія павінны былі ў бліжэйшы час падрыхтаваць першую сесію новай арганізацыі. Пры ўдзеле Алексюка, Гадлеўскага і Смоліча была выпрацавана рэзалюцыя, што з’езд беларускіх арганізацый перадае палітычныя справы Выканаўчаму Камітэту з’езда, а культурныя – Таварыству беларускай культуры. Выканкам быў абавязаны правесці першую сесію да 5 жніўня.

Кандыдатамі на сяброўства ў Выканкаме былі толькі прадстаўнікі БСГ і БНПС. Позна ўвечары ў выніку галасавання былі абраны Я. Лёсік, П. Бадунова, У. Фальскі (усе БСГ), П. Аляксюк і А. Лявіцкі (усе БНПС)[995].

Аднак вынікі выбараў абярнуліся скандалам, які высвятліў сапраўдныя намеры кіраўнікоў БСГ. Я. Дыла, А. Смоліч і З. Жылуновіч заявілі, што выбары неабходна паўтарыць, бо яны прайшлі «паспешна», і што абраны Выканкам

---

993 Тамсама, № 11.
994 Тамсама, № 12.
995 Тамсама.

нібыта не здольны да працы, бо ў яго склад трапілі «шкодныя элементы». На пытанне пра «шкодніка» Жылуновіч адказаў: «Гэта Аляксюк». Прадстаўнікі БСГ заявілі, што не жадаюць працаваць ні з кім з былых сяброў БНК. Адбыўся кароткі і жорсткі абмен меркаваннямі паміж дэлегатамі БСГ і БНПС, падчас якога прагучалі даволі рэзкія ўзаемныя абвінавачванні. У знак пратэсту дэпутаты ад БНПС (апрача Лявіцкага) пакінулі пасяджэнне. Відавочна, што разам з імі сышоў і Скірмунт.



*Рэдактар «Вольнай Беларусі» Язэп Лёсік. Фотаздымак 1920-х гг.*

Адбылося паўторнае галасаванне, і сябрамі Выканкама сталі Я. Лёсік, А. Лявіцкі, У. Фальскі, А. Смоліч і У. Голуб[996]. Даследчык Алесь Жынкін сцвярджаў, што Выканкам узначаліў Язэп Лёсік[997]. Калі гэта і так, то згода Лёсіка на кіраўніцтва была няпростым рашэннем. Вядома, што ён быў абураны скандалам з паўторнымі выбарамі і нават адмовіўся ўваходзіць у склад Рады. Толькі настойлівая просьба Бадуновай змяніла яго рашэнне. Ва ўспамінах Жылуновіч ахарактарызаваў гэтае свядомае разбурэнне адзінства беларускага руху з боку дзеячаў БСГ як «ужываньне рэволюцыйнага мэтоду»[998].

Варта адзначыць, што не прайшла прапанова пературарыць «Вольную Беларусь» у орган друку Цэнтральнай Рады. Газета засталася органам Таварыства беларускай культуры, створанага яшчэ былым БНК. Падобна, што Лёсік як рэдактар газеты не збіраўся рабіць яе яшчэ адным органам БСГ.

Пазней на пасяджэнне вярнуўся Стульба, каб зачытаць пратэст народных сацыялістаў. Яны ацанілі паводзіны дэпутатаў БСГ як недэмакратычныя, як гвалт над меншасцю і заявілі, што адклікаюць сваіх прадстаўнікоў са з'езда і шырока паведамяць пра гэта. Дзеянні сяброў БСГ яны ахарактарызавалі як «перашкодныя да шырокага нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі». Пры гэтым БНПС заяўляла, што «ставячы вышэй за ўсё эканамічны і нацыянальна-культурны росквіт нашага народу, яна ўсе свае сілы ахвяруе яму і на абарону яго клясавых інтарэсаў»[999].

---

996 Тамсама, № 13.

997 Я. Лёсік, *Творы*. Укладанне, прадмова і каментары Алеся Жынкіна. Мінск 1994, с. 11.

998 Ж. З. [З. Жылуновіч], *Уступамі да Акцябра (Матэр'ялы да гісторыі Савецкай Беларусі)*, с. 88.

999 «Вольная Беларусь». 1917, № 13.

Напрыканцы з'езда было прынята рашэнне пра арганізацыю беларускіх бежанскіх гурткоў на чале з Беларускай народнай Грамадой, таксама быў зацверджаны склад Арганізацыйнага бюро беларусаў-вайскоўцаў і заяўлена пра неабходнасць адкрыцця ў Беларусі ўніверсітэта і сельскагаспадарчага інстытута. На гэтым з'езд скончыў працу.

Як ацаніць ягоныя вынікі? Зміцер Жылуновіч пазней канстатаваў, што пасля з'езда «з затаенай крыўдай адыйшлі на гэты раз ад чыннага ўдзелу ў беларускім руху яго злыя гэніі – Р. Скірмунт, П. Алексюк і блізкія ім»[1000]. Для найбольш радыкальных беларускіх сацыялістаў нацыянальная ідэя адыходзіла на другі план перад перспектывай перамогі ў класавым змаганні. Той жа кіраўнік БСГ сцвярджаў: «Буржуазія хоць і свая, хоць і натхнёная адраджэнцкім рухам, усё-ж такі – буржуазія. Значыць – яна вораг...»[1001]

Аднак цалкам задаволенымі петраградскія лідэры БСГ не былі. Яны лічылі, што ў Выканкаме Рады ўсё ж апынуліся «ненадзейныя элементы». У іх катэгорыю трапілі сябры былога БНК. Дарэчы, адзін з іх – Язэп Лёсік – з аптымізмам вітаў стварэнне новай беларускай арганізацыі. На старонках «Вольнай Беларусі» ён сцвярджаў, што першым крокам Рады «будзе зьеднаньне параскіданага, згуртаваньне расьцярушанага ў адно цэльнае, моцнае і працаздольнае і надасць яму сілы, павагі і аўтарытэтнасьці»[1002]. У артыкуле рэфрэнам гучаў лозунг «Жыве Беларусь!» Як старшыня Выканкама Лёсік прыступаў да новых абавязкаў поўны аптымізму і гатовы да цяжкай працы.

Асноўнымі задачамі беларускага руху ў той момант ён лічыў вырашэнне арганізацыйнай праблемы (стварэнне Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый на яе першай сесіі), фінансавага пытання, «ацэнка палітычнага моманту і стаўленне да яго» (магчыма, хвалявала далейшая радыкалізацыя рэвалюцыйнага руху), прыняцце адозвы да народу і правядзенне выбарчай кампаніі ва Устаноўчы сход.

«Злы гэній» беларускага руху Раман Скірмунт толькі аднойчы прамаўляў на гэтым з'ездзе. Магчыма, сярод сацыялістаў ён не адчуваў сябе дастаткова ўпэўнена. А можа, да апошняга спадзяваўся на захаванне адзінства беларускага руху, што звязваў з дзейнасцю БНК, які яднаў розныя палітычныя сілы? На жаль, адсутнічаюць дакументы, якія маглі б дапамагчы зразумець ход думак Скірмунта ў гэты вельмі няпросты для яго перыяд. Насамрэч, адбылося ягонае выгнанне з беларускага руху, і нават падзяка не прагучала падчас ліпеньскага з'езда.

Казімір Акуліч акрэсліў кіраўніцтва БНК Раманам Скірмунтам, «палякам

---

[1000] Ж. З. [З. Жылуновіч]. *Уступамі да Акцябра (Матэр'ялы да гісторыі Савецкай Беларусі)*, с. 89.

[1001] Тамсама.

[1002] Я. Л-к [Я. Лёсік], *Беларуская Рада*, «Вольная Беларусь». 1917, № 11.

і беларусам у адной асобе», як «апошні акт польска-беларускага сімбіёзу...»[1003] Насамрэч, Скірмунт заставаўся дзеячам «другога эшалону» беларускага руху, і яго яшчэ чакалі як новыя поспехі, так і новыя расчараванні. «Апошні акт» яшчэ працягваўся...

Між тым, БНПС не збіралася здаваць свае пазіцыі і адмаўляцца ад удзелу ў сесіях Цэнтральнай рады. Так, 28 ліпеня 1917 г. у мястэчку Смілавічы адбыўся сход жыхароў, на якім было вырашана «залажыць аддзел беларускай партыі народных сацыялістаў і выслаць прэдстаўнікам сваім кс. Янку Завістоўскага на зьезд беларускіх партый і арганізацый у г. Мінск 5 аўгуста 1917 года»[1004]. Падобна, што «зъездам» назвалі І сесію Цэнтральнай рады, прызначаную на 5 жніўня. Старшынём «аддзелу» абралі ксяндза Астрамовіча, ягоным намеснікам Каэтана Станішэўскага. Подпісы пад дакументам пакінулі каля 10 чалавек. Відавочна, што шматлікіх прыхільнікаў у Смілавічах БНПС не мела. Але гэты дакумент дазваляе сцвярджаць, што кіраўнікі БНПС усё ж не гублялі надзеі стаць апанентам БСГ.

Пошукі водгукаў на рашэнні ліпеньскага з’езда прымусілі зазірнуць на старонкі галоўнага органа віленскага цэнтра беларускага руху газеты «Гоман». Цікава, што ўпершыню інфармацыя пра беларускую палітычную дзейнасць у Менску з’явілася ў газеце толькі ў чэрвені 1917 г. Магчыма, гэтае спазненне было абумоўлена абмежаваннямі нямецкай цэнзуры. Дык вось, у артыкуле «Аўтаномія Беларусі» (без подпісу) паведамлялася пра з’езд беларускіх арганізацый і стварэнне Беларускага Нацыянальнага камітэта, галоўнай мэтаю якога была аўтаномія Беларусі. Таксама ў тэксце давалася пазітыўная ацэнка далучэння да беларускага руху «цэлага раду вялікшых паноў-беларусаў». Праўда, з гэтага «раду» былі названы толькі Вайніловіч як прадстаўнік «беларускага правага крыла» і Булгак. Таксама ў артыкуле фігуравалі добра вядомыя беларускай Вільні А. Уласаў і В. Іваноўскі[1005].

Аднак вельмі хутка Антон Луцкевіч на старонках «Гомана» катэгарычна асудзіў саюз з «панамі». У артыкуле «Новы фронт»[1006] ён заявіў, што беларускі рух ад свайго пачатку з’яўляўся «шчыра дэмакратычным» і заўсёды быў моцна звязаны з расійскай сацыял-дэмакратыяй. Ён заклікаў не верыць тым, хто не падтрымліваў сацыял-дэмакратычную апазіцыю ў Расіі. Далучэнне да беларускага

---

[1003] K. Okulicz, *Podział ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1923–1940* (у:) *Alma Mater Vilnensis. Prace Społeczności Akademickiej USB na obczyźnie*. Tom III. Londyn 1953, s. 122.

[1004] Цэнтральная Нацыянальная бібліятэка імя Якуба Коласа. Аддзел рукапісаў. Ф. 23, воп. 1, спр. 20, арк. 1.

[1005] б/п. *Аўтаномія Беларусі,* «Гоман». 1917, № 51. (Варта адзначыць, што з пачаткам нямецкай акупацыі Вільні там быў уведзены грыгарыянскі календар. У 1917 г. яго разбежнасць з юліанскім, які яшчэ дзейнічаў на тэрыторыі Расіі, складала 12 дзён. Між іншым, гэта значыць, што публікацыя ў «Гомане» з’явілася падчас першага дня працы ІІ з’езда беларускіх арганізацый.

[1006] І. Мялешка [А. Луцкевіч], *Новы фронт*, «Гоман». 1917, № 53.

руху «Скірмунтаў, Ваньковічаў і т. п.», якія раней нібыта не прызнавалі беларусаў, Луцкевіч не лічыў праявай «палітычнага розуму» і раіў ставіцца да іх «з вялікай асьцярожнасьцю: ніхай цяперашняе палажэньне адменіцца, і тыя паны, не задумваючыся пераменяць свой фронт гэтаксама, як перамянілі цяпер». Паводле лідэра беларускіх сацыялістаў, «уся буржуазія і ўсё панства беларускае здаўна апалячылося ці абмасковілося».

Вось так... Нібыта і не было ранейшых кантактаў са Скірмунтам і прыхільнасці да краёвай ідэі. Нават у выпадку Луцкевіча сацыялістычнае дактрынёрства брала верх.

Забягаючы наперад, трэба адзначыць, што ўвосень 1917 г. падчас падрыхтоўкі Віленскай беларускай канферэнцыі сацыялісты разам з А. Луцкевічам пачалі актыўна ствараць агульнабеларускі фронт і загаварылі пра першынство ўжо нацыянальнай ідэі.

У беларускай гістарыяграфіі пашырана думка, што «дэмакратызацыя» цэнтральнага каардынацыйнага органа беларускага руху, а таксама паглыбленне сістэмнага крызісу Расіі паспрыяла яго далейшаму разгортванню. Гэта, прынамсі, адзначыў С. Рудовіч[1007]. Наконт «крызісу» сумневаў няма, а вось сцвярджэнне пра «дэмакратызацыю» выклікае пытанні. Ці сапраўды ліквідацыя БНК і спроба адлучэння ад беларускага Адраджэння прадстаўнікоў больш заможных колаў грамадства можа разглядацца як «дэмакратызацыя» беларускага руху? Хутчэй варта казаць пра ягоную сацыяльную радыкалізацыю. Магчыма, яна сапраўды павялічыла колькасць прыхільнікаў БСГ і беларускай справы, але няма адказу на пытанне, у якой ступені іх прываблівала нацыянальная ідэя, а ў якой – сацыялістычная?

Даследчык Юры Туронак бачыў пэўную заканамернасць у ліквідацыі БНК і выгнанні Скірмунта: «БНК павінен быў сысці з палітычнай сцэны. Рэвалюцыя адштурхоўвала Скірмунта, які быў не толькі буйным землеўласнікам, але перш за ўсё як дэпутат былой Дзяржаўнай Думы кампетэнтнай і вопытнай у палітычных справах асобай. «Рэакцыянерамі» таксама лічылі дзеячаў хадэцыі і народнікаў, сярод якіх толькі некаторыя мелі шляхецкае паходжанне. У нармальных умовах гэта было б роўным самазабойству, але з нагоды нігілістычнай палітыкі ўрада ў нацыянальным пытанні не мела вялікага значэння»[1008]. З апошнім тэзісам нельга пагадзіцца. У тагачаснай сітуацыі надзвычай важную ролю адыгрывала дзейнасць партый і арганізацый Беларусі, а не ўрада. Між тым, як трапна заўважыў Алег Латышонак, «БСГ атрымала перамогу коштам адзінства беларускага нацыянальнага руху»[1009].

Гісторыя беларускага руху ў 1917 г. – гэта таксама гісторыя змагання сацыялістычнай дактрыны ў варыянце агульнарасійскіх партый з беларускай ідэяй

[1007] С. Рудовіч, *Час выбару...*, с. 131.
[1008] J. Turonek, *Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi*. Warszawa 1992, s. 72.
[1009] O. Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe. 1917–1923*. Białystok 1995, s. 43.

і канцэпцыяй нацыянальнага адзінства. Ліквідацыя БНК перакрэслівала надзею на гэтае адзінства. Зразумела, што ў той момант яно мела больш вонкавы характар і было фармальным, але і форма ў гістарычных падзеях часам адыгрывае важную ролю. Асабліва ў сітуацыі, калі гісторыя прыспешвае свой ход.

Вяртаючыся да аптымізму Язэпа Лёсіка, трэба адзначыць, што пасля першай сесіі Цэнтральнай рады, якая адбылася ў Менску 5–6 жніўня 1917 г., гэты аптымізм моцна пахіснуўся. Так, інфармацыя пра сесію мела вельмі сціплы характар і была надрукавана на апошняй старонцы газеты[1010].

Гаворка ішла пра зацвярджэнне Статута Рады прадстаўнікамі 23-х беларускіх арганізацый, якія «вызнаюць права Беларусі на аўтаномію, родную мову і разьвіцьцё нацыанальнай культуры». Таксама адзначалася, што гэтыя арганізацыі яднае «прынцып поўнай дэмакратызацыі грамадзянскага ладу, дарэмнай перадачы ўсяе зямлі працоўнаму народу і абароны інтарэсаў работнікаў». Апрача таго, на сесіі быў зацверджаны Статут асветніцкіх гурткоў для вайскоўцаў і прынята рашэнне пра стварэнне ў Менску Цэнтральнага беларускага бежанскага камітэта. Фінансавую праблему ўдзельнікі сесіі прапанавалі часткова вырашыць шляхам падаткаабкладання. Уводзіўся 1 % падаходны падатак з кожнага сябра беларускіх арганізацый, а таксама 25 % ад даходаў кожнай арганізацыі.

Таксама вядома, што на першай сесіі гаворка ішла пра распаўсюджванне нацыянальных лозунгаў на франтах і ўзмацненне барацьбы за беларускую школу. Удзельнікі сесіі абралі Выканкам Рады, куды ўвайшлі: Я. Лёсік, А. Смоліч, Ф. Шантыр, Р. Астроўскі, Ф. Галавач, Я. Дыла, З. Жылуновіч, П. Бадунова ды інш.

Пры гэтым ужо на першай сустрэчы выявілася імкненне петраградскіх лідэраў БСГ адасобіцца ад нібыта «правага» крыла партыі. Пазней Жылуновіч прыгадаў, што дэлегаты Нарвенскай раённай арганізацыі БСГ (Петраград) пачалі асуджаць «трусьлівую палітыку Рады, яе яшчэ нескасаваную тэндэнцыю прадстаўляць агульнанацыянальны рух і інш. Напады былі досыць значныя і мелі важкі ўплыў на сэсыю»[1011]. Магчыма, менавіта гэта аслабіла імпэт Язэпа Лёсіка ды іншых «старых» кіраўнікоў беларускага руху ў складзе Цэнтральнай рады.

У сярэдзіне жніўня «Вольная Беларусь» апублікавала Статут Цэнтральнай рады, першы параграф якога сцвярджаў, што Рада з'яўляецца «адпаведальным кіраўніком і прадстаўніком усяе беларускае справы». Паміж сесіямі Рады важную ролю адыгрываў Выканаўчы камітэт, які павінен быў весці «справы палітычнага прадстаўніцтва і абьеднаньня ўсіх беларускіх арганізацый»[1012].

---

1010 б/п. *Першая сэсія Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый,* «Вольная Беларусь». 1917, № 13; НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 105–106 адв.

1011 Ж. З. [З. Жылуновіч]. *Уступамі да Акцябра (Матэр'ялы да гісторыі Савецкай Беларусі)*, с. 90.

1012 *Статут Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый*, «Вольная Беларусь». 1917, № 14; НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 136–136 адв.

Поўнай згоды і паразумення паміж рэдакцыяй «Вольнай Беларусі» і радыкальнай часткай сяброў Цэнтральнай рады не было. Пэўная перамена настрояў і з'яўленне больш крытычнага погляду на вынікі ліпеньскага з'езда адлюстраваліся ў № 16 «Вольнай Беларусі» (ад 28 жніўня 1917 г.). На першай старонцы былі змешчаны нататкі *І. Піліпава* (сапр. Язэп Нялепка), які заклікаў «братоў Беларусаў» да адзінства: «Ідзіце ўсе разам, памятаючы раз назаўсёды, памятаючы так, каб кожная капля вашай крыві чула; каб кожная складка мазга ведала; каб уся душа ваша любоўю гарачай спазнавала: Адзін за ўсех і ўсе за аднаго! [...] Сіла ў еднасьці»[1013].

У тым самым нумары Самуіл Плаўнік (*Змітрок Бядуля*) падзяліўся расчараваннем ад апошняга беларускага з'езда: «Сварка, ледзь за чубы не ўзяліся. Партыйныя рахункі, асабістыя рахункі... «Гэта хамства!» – выклікае адзін... «А вы агент каталіцкай клерыкальнай партыі», – дадае другі. «Дарога, па якой Б.С.Г. хоча вясьці нашую працу, можа быць перашкоднай для шырокага нацыанальна-культурнага адраджэньня Беларусі», – выяўляе трэці. Што гэта такое? [...] Прадстаўнікі цэлай партыі пакідаюць сход, а старшыня кажа: «Зьезд беларускіх арганізацый вядзе далей сваю справу». Гдзе ж тут характар «агульнага», калі лічыць, што ў нас толькі дзве партыі? А калі хто ня лічыць Б. Н. Саў спрыяючымі нашай справе, хай давядзе нам гэта. Мы хочам ведаць, мы павінны ведаць усё! Вы стаіці на варце інтарэсаў любай усім нам Маткі-Беларусі. Мы ўглядаемся на вас, як на лепшых сыноў яе, – тлумачце нам. Вораг ня сьпіць. Яму да душы гэткія зьявы»[1014].

Нарэшце, варта звярнуць увагу на артыкул «Зямельнае пытаньне і дзяржаўны лад»[1015] за подпісам *І. Рамановіч*. Беларускага дзеяча з такім прозвішчам, здольнага напісаць падобны артыкул і названага ў каментарах рэдактара «шаноўным аўтарам», не было. Аналізуючы змест тэксту можна выказаць меркаванне, што за гэтым псеўданімам мог хавацца Раман Скірмунт[1016]. Зразумела, што артыкул пад ягоным прозвішчам не меў шансаў быць апублікаваным на старонках органа Цэнтральнай рады. Затое нішто не перашкаджала публікацыі пад новым і непазнавальным псеўданімам.

У тэксце крытычна ацэньвалася канцэпцыя нацыяналізацыі («перадачы зямлі

---

[1013] І. Піліпаў [Я. Налепка], *Сіла у еднасьці,* «Вольная Беларусь». 1917, № 16.

[1014] Зрэбны [С. Плаўнік], З *вёскі*, «Вольная Беларусь». 1917, № 16.

[1015] І. Рамановіч [Р. Скірмунт?], *Зямельнае пытаньне і дзяржаўны лад*, «Вольная Беларусь». 1917, № 16.

[1016] Пошукі аўтара *J. Ramanowicza* ў польскім віленскім друку пачатку XX ст. дазволілі выявіць дзве публікацыі зямяніна Юзафа Рамановіча. Публікацыі мелі апісальны характар і датычылі жыцця польскай супольнасці на беларускага-літоўскім памежжы. Прагляд «Вольнай Беларусі» дазволіў выявіць яшчэ адзін тэкст *І. Рамановіча*. У № 6 (1918) газеты ў фельетоне «Чорны Адам» ён заклікаў шанаваць розум і разумных людзей па аналогіі з «заходнімі культурнымі краінамі». У № 21 быў апублікаваны спіс ахвяраванняў на выданне «Вольнай Беларусі», з якога можна даведацца, што *Рамановіч* перадаў у рэдакцыю 50 руб.

ў казну») або сацыялізацыі зямлі («перадача ў агульнародную ўласнасьць»). Дарэчы, аўтар не бачыў прынцыповай розніцы паміж імі. Ён выказваў занепакоенасць, што такая аграрная рэформа прывядзе да значнага ўзмацнення ролі ўрада, які «набірае страшэннай сілы над грамадзянствам гасударства, над яго культурным, эканамічным і нацыянальным развоем». *І. Рамановіч* не меў пэўнасці, што ўрад не будзе злоўжываць сваёй уладай. У гэтым выразная сугучнасць артыкула 1917 г. са скірмунтавым аналізам праектаў радыкальнай аграрнай рэформы ў Дзяржаўнай Думе (1906).

Апрача таго, аўтар выказваў занепакоенасць, што сітуацыю маглі пагоршыць міжнацыянальныя канфлікты ўнутры дзяржавы і верагодны прыход да ўлады ў Расіі «правых нацыяналістаў» або «рэакцыі».

Іншая праблема, на якую ён звяртаў увагу, датычыла памераў зямельнага надзела, які з улікам колькасці ахвотных яго набыць і памераў зямельнага фонду будзе дастатковы «на пражытак, але ні на значнейшы дастатак». Аднак воля і свабода толькі тады становяцца «вельмі каштоўным набыткам», калі народ атрымлівае магчымасць «павялічваць свой дастатак».

Наймацнейшым стымулам да працы аўтар лічыў «асабісты інтарэс», што грунтуецца на прыватнай ўласнасці, якую паўсюдна шануюць, «ня гледзячы на тое, што яна часта ідзе побач з крыўдай і паняверкай». Ён таксама заклікаў не змагацца з «капіталам», а спрыяць яго станаўленню: «Ад творчай працы капіталу мы павінны чакаць эканамічнага (гаспадарнага) росквіту нашага краю і павялічэньня у ём дастатку».

Напрыканцы тэксту аўтар ізноў вяртаўся да тэмы аўтаноміі Беларусі і сцвярджаў, што «Беларусь хоча жыць сваёй воляй і сваім розумам». Ён заклікаў патрабаваць ад Устаноўчага сходу аўтаноміі «з правам уводзіць свае ўласныя распарадкі, згодныя з духам і воляю нашага народа ў поўным закрэсі сваіх спраў, а ў тым ліку і справы зямельнае». Дзеля гэтага прапанавалася стварыць Цэнтральную беларускую народную раду і правесці асобныя выбары ва Устаноўчы сход, «дзе нашы прадстаўнікі апрацуюць статут нашай аўтаноміі і акрэсляць граніцы беларускае зямлі».

Варта нагадаць, што сярод існуючых беларускіх партый найбольш актыўна за агульнанародную ўласнасць на зямлю выступала БСГ. Гэтае палажэнне ўтрымлівалася ў яе праграме, прынятай на канферэнцыі 25 сакавіка 1917 г. Дзеяч БСГ Алесь Бурбіс ва ўласным праекце новай партыйнай праграмы, складзеным улетку 1917 г., сцвярджаў неабходнасць «канфіскацыі зямель казённых, удзельных, манастырскіх, царкоўных і памешчычых у аддачу іх працавітаму народу на фундамэнце сацыялізацыі»[1017]. Гэтай перадачай павінна была займацца Краёвая беларуская Рада.

---

[1017] А. Сідарэвіч, *Да гісторыі Беларускай сацыялістычнай Грамады: агляд крыніцаў,* «Arche-пачатак». 2006, № 4.

*ДАКУМЕНТ*

**І. Popадовіч**

**І. Рамановіч [Р. Скірмунт?]. Зямельнае пытанне і дзяржаўны лад[1018].**

*Можна спадзявацца, што да Устаноўчага Сойму пройдуць у большасьці дэпутаты сацыялістычнага кірунку. Грамада селянскага люду ў Расіі хоць і ні сацыялістычна, але, будучы палітычна ніспелай, цёмнай, беднай і спрагнёнай зямлі, лёгка можна пайсьці у той бок, адкуль чуецца кліч: «Зямля і воля». Вось і можна думаць, што Сойм вынясе дужа важнае пастанаўленне: установіць у Расіі дэмакратычную рэспубліку і перадасьць усю зямлю з рук ціперашніх яе ўласьнікаў у казну, або завядзе сацыялізацыю зямлі. Мы павінны заговедзь [загаддзя] разгледзіць, ці будзе гэтая зямельная рэформа карысная для беларускага народу.*

*Вядома, што кожны народ больш за ўсё жадае быць самавітым гаспадарам у сваём краю, і той дзяржаўны лад, які прызнаў бы за Беларусьсю права на аўтаномію у яе этнаграфічных (дзе жывуць беларусы) [межах], быў бы для нас найлепшы і карысны. У рэспубліцы дабіцца гэтага лягчэй, чым у манархіі, – значыць, гэты парадак дзяржаўнага ладу ня перэчыць інтарэсам беларускага народу. Зусім іншая справа – сацыялізацыя зямлі або пераход яе да казны. Ад мамэнту пераходу ўсёй зямлі у казну, у рукі Ураду – трэ' думаць, тым самым Урад набірае страшэннай сілы над грамадзянствам гасударства, над яго эканамічным, культурным і нацыанальным развоем. Патрэбна вялікая пэўнасьць, што ўрад, узяўшы ў свае рукі такую ўласьць, будзе заўсёды праўдзівым прадстаўніком інтарэсаў усіх грамадзян гасударства, што ён ня будзе злоўжываць ці махляваць гэтай уласьцю; што ў нас будзе магчымасьць скінуць ці зьмяніць яго, калі ён парушыць правы грамадзян. Нарэсьці, ці патрапяць самі народы ў гасударстві спыніць у сябе і паміж сабою усялякія спрэчнасьці ў справе змагання на ніве эканамічнай, нацыанальнай і інш., і ці не створаць яны многа перашкод для Ураду пры выкананні ім сваіх абавязкаў.*

*Дагэтуль ня маем прыкладу, каб дзе на сьвеці быў такі дзяржаўны лад, які нам бажаецца завесьці. Тым-та самую трываласьць дзяржаўнага ладу ня можна згоры правідзіць і ня можна быць пэўным, што так яно станяцца, як жадаецца. Маемо прыклад на Пранцыі. Пранцузы, адзін з найбольш культурных народаў у Эўропі, посьля вялікай рэвалюцыі у канцы 18-га веку, два разы порываліся устанавіць у сваём гасударстві рэспубліку, і ледзьвя за трэцім разам блізка праз 80 год посьле рэвалюцыі, здолалі умацаваць гэты лад дзяржаўнага кіравання. Ці Расія здолее за адным махам пры сваёй культурнай адсталасьці завесьці гэтакі лад, якога яшчэ нідзе німа (усе ціперашнія рэспублікі буржуазныя), ды яшчэ у гэткім часе як цяпер – нет ведама. А што будзе, калі уласьць у Расіі захопяць расійскія нацыаналісты?*

---

[1018] Вольная Беларусь. 1917. № 16, 28 жніўня.

*Дагэтуль яшчэ ніводнае культурнае гасударство не адважылась завесьці у сябе сацыялізацыю зямлі, але можна спадзявацца, што у тым гасударстві, дзе гэта будзе заведзена, не закасуецца гэта і пры пераходзі ўлады у рукі рэакцыі, якая рада будзе выкарыстаць пераход зямлі пад загад Ураду як павелічэньне свае ўласці дзеля трымання людзей у кабале і абрусенні [наварота на маскалёў], перасяляючы людзей заднае акругі у другую па свайму бажанню. Закліч «Уся зямля для працоўнікаў на зямлі» пры сацыалізацыі зямлі вядзе да роўнага падзелу і спажыткавання на роўных правах усяго зямельнага запасу ў гасударстві паміж усімі ахвотнікамі працаваць сваім рукамі на зямлі. Залежна ад гэтаго, – ад ліку зямлі і працоўнікаў, кожны адтрымае кавалак зямлі, які хто зможа абрабіць сам з сямьёю, але бяз наймітa, а мoжа і меньш таго, калі выявіцца нідахват зямлі. Пры гэтакіх парадках трудна будзе выбіцца каму-небудзь з гурту шэрых земляробаў, пакуль хто сядзіць на зямлі, каторае можа хваціць на пражытак, але ні на значнейшы дастатак. Хто сойдзе з зямлі, дык на яго месца пасадзяць другога, бо зямля ня будзе асобнай уласнасьцю, а гасударсцьвеннаю, значыць з яе будуць карыстаць як з дажывотнай арэнды. Памрэ гаспадар, не ведама, што рабіць удаве з нялетнімі дзецьмі: найміта або парабка ня будзе, бо хто можа працаваць, той і сам возьме зямлі. Воля – вельмі каштоўны набытак, калі народ мае магчымасьць павялічваць свой дастатак. Чалавек тым і розніцца ад безмоўнага стварэння, што ён ніколі не здавальняецца тым, што мае, а пастаянна рупіцца аб тым, каб надбаць сабе як найбольш дабра, патрэбы яго пашыраюцца і праз гэта ён вытварае культурны поступ у грамадзянстві. З часам станяцца, што людзі навучацца шчыра працаваць дзеля агульнай карысьці, на грамаду. Цяпер жа такіх людзей мала і трэба прызнаць, што у наш час асобісты інтэрэс гэта самая моцная прынука да працы. Праз тое на цэлым сьвеці шануюць уласнасьць, ня гледзячы на тое, што яна часта ідзе побач з крыўдай і паняверкай. Бяз яе людзь загразьлі б у апатыі і, заміж пашырэньня і павялічваньня патрэб, зьменшылі-б іх да ліку лёгка дабываных патрэб пражыўлення.*

*Беларусь – край бедны. Ані нетра яго, ані паверхні пласт зямлі ня славіцца багацьцем. Трэба многа шчырай і разумнай працы, каб мець добры зыск і аплату за працу, а разумная праца вымагае капіталу (грошы). А сушка балотаў, штучныя гноі, гаспадарскія машыны і прылады, заводы фабрыкі і інш. вымагаюць многа грошы і асабістага пачыну (ініцыятывы), а праз гэта нам ня след змагацца з капіталам (у яком сэнсі? – Рэд.), а наадварот ад творчай працы капіталу, мы павінны чакаць эканамічнага (гаспадарнага) росквіту нашага краю, павялічэння ў ём дастатку.*

*Для нас важней за ўсё, каб нам ніхто ня накладаў сваe волі. Беларусь хоча жыць сваёю воляй і сваім разумам. Устаноўчы Сойм павінян даць Беларусі тэрытарыальную аўтаномію з правам увадзіць свае ўласныя распарадкі, згодныя с духам і воляю нашага народу ў поўным закрэсі усіх спраў, а ў тым ліку справы зямельнае. Дзеля гэтага нам трэба хутчэй устанавіць Цэнтральную Беларускую Народную*

*Раду як на Украіні і дабівацца асобных выбараў у Сойм, дзе нашы прэдстаўнікі апрацуюць статут нашай аўтаноміі і акрэсьляць граніцы беларускай зямлі.*

*І. Рамановіч*

*P. S. Заўважыўшы, што сацыялізацыя і нацыяналізацыя (вылучана рэд. – А. С.) зямлі ні адно і тое, згаджаючыся з шаноўным аўтарам, што зямельная справа на Беларусі можа быць разважаная толькі Беларускаю Краёваю Радаю, і што усе праэкты зямельнай рэформы расійскіх партый для нас ні дапасованы, рэдакцыя ахвотна друкуе артыкул шаноўнага аўтара. Разам з тым, рэдакцыя спадзяецца, што гэта выкліча спрэчкі і знойдуцца людзі, каторыя захочуць асьвяціць пытаньне с свайго погляду на грунт рэчы.*

Жылуновіч памыляўся, калі сцвярджаў ва ўспамінах, што Скірмунт пасля ліпеньскага выгнання не ўмешваўся ў беларускія справы, «да чаго ўжо было прывыкнута»[1019]. У гэты перыяд ён знік з палітычнай арэны як публічны беларускі дзеяч, але падтрымліваў стасункі з сябрамі былога БНК і спрабаваў адстойваць уласныя погляды на будучыню Беларусі. Цалкам невыпадкова на другой сесіі Цэнтральнай Рады ў кастрычніку 1917 г. ягоная кандыдатура была прапанавана сябрамі Выканкама ў якасці прадстаўніка Беларусі ў Радзе народаў. Рада была створана падчас II з'езда прыгнечаных народаў Расіі (5–14 верасня 1917 г., Кіеў)... У кожным выпадку Скірмунт не адышоў цалкам ад палітычнай дзейнасці.

Ён працягваў працаваць у Менскім губернскім харчовым камітэце, дзе з канца сакавіка займаў пасаду загадчыка аддзела забеспячэння. Выкананне службовых абавязкаў патрабавала вялікіх намаганняў і пэўнай самаахвярнасці. Можна толькі здагадвацца якіх высілкаў каштавала яму спалучэнне палітычнай дзейнасці з працай у Камітэце. Дакументы Губернскага камітэта, якія захаваліся ў фондзе 1743 Дзяржаўнага архіва Менскай вобл., дазваляюць у агульных рысах ахарактарызаваць гэты кірунак дзейнасці Скірмунта, які быў працягам ягонай ранейшай працы.

У матэрыялах згаданага фонду захаваліся тэлеграмы і лісты за подпісам Скірмунта як Упаўнаважанага па справах харчавання ў Менскай губ. за студзень – сакавік 1917 г. У прыватнасці, гэта тэлеграма ад 5 студзеня 1917 г. пра выдзяленне двух вагонаў мукі на патрэбы спажывецкага таварыства ў мястэчку Юравічы, накіраваная ў Рэчыцкую земскую ўправу[1020]. 7 сакавіка ўжо на яго імя прыйшоў ліст кіраўніцтва Спажывецкага таварыства чыноўнікаў з просьбай аб выдзяленні для крамы гэтага Таварыства прадметаў першай неабходнасці. Гэта быў паўторны ліст. Ягоныя аўтары адзначалі, што атрымаць гэтыя прадметы немагчыма без распараджэння

[1019] Ж. З. [З. Жылуновіч], *Уступамі да Акцябра (Матэр'ялы да гісторыі Савецкай Беларусі)*, с. 91.

[1020] Дзяржаўны архіў Менскай вобл. (далей: ДАМВ). Ф. 1743, воп. 2, спр. 5, арк. 12.

Скірмунта[1021]. Але падобна, што задавальненне патрэбаў чыноўнікаў не належала да прыярытэтаў ягонай дзейнасці. Адказ на гэты ліст не захаваўся.

13 сакавіка Раман Скірмунт накіраваў пісьмовае распараджэнне начальніку станцыі Лібава-Роменскай чыгункі наконт перадачы Харчоваму камітэту Заходняга фронту Земгора двух вагонаў грэчневай крупы, трох вагонаў гароху і пяці вагонаў пшанічнай мукі[1022]. Адзін з апошніх дакументаў, падпісаных Скірмунтам як Упаўнаважаным нарады па харчаванні датычыў адпраўкі з Адэсы вагона мыла для Менска і быў датаваны 25 красавіка[1023]. А вось тэлеграма да міністра харчавання ад 29 красавіка па справе дастаўкі з Паўночнага Каўказа для Менскай губ. 30 вагонаў кукурузы, была падпісана: «Губпродком Скірмунт»[1024].

Падобна, што на працягу сакавіка – красавіка 1917 г. адбывалася паступовае пераўтварэнне былых імперскіх органаў у новыя ўстановы. Прысутнасць Скірмунта і Самойленкі сведчыла пра пераемнасць дзейнасці устаноў забеспячэння харчаваннем.

Палажэнне аб Губернскім харчовым камітэце было зацверджана Часовым урадам толькі 30 сакавіка 1917 г. Управа Камітэта фарміравалася з прадстаўнікоў найбольш уплывовых арганізацый Менска і губерні, якія прадстаўлялі розныя сацыяльныя колы.

Першае пасяджэнне Менскага губернскага харчовага камітэта (МГХК) адбылося роўна праз месяц 30 красавіка. Ягоная стэнаграма сведчыць, што сябрамі Управы сталі Раман Скірмунт (ад землеўласнікаў), Ісаак Цеўмін і Барыс Шкубер (ад Менскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў), Ефім Хургін (ад гарадскога самакіравання), П. Шэпетаў (ад Менскага аддзела Сялянскага саюза і гарадской кааперацыі), Е. Трушынскі (ад губернскага земства)[1025].

Падчас вечаровага пасяджэння Скірмунт распавёў пра стварэнне і дзейнасць Губернскай харчовай камісіі і падрабязна пералічыў тыя перашкоды, якія не дазвалялі ёй у поўнай меры забяспечваць патрэбы насельніцтва ў харчаванні. Заканчэнне рэферата было даволі аптымістычным. Паводле стэнаграмы, выступоўца выказаў меркаванне, што «в настоящее время дело снабжения губернии из других губерний России значительно улучшиться, чему могут в значительной мере способствовать водные пути, связывающие Минскую губернию с южными, снабжающими ее продовольственными продуктами по плану снабжения. Познакомив заседание с планом снабжения губернии на май месяц, Роман Александрович Скирмунт говорит, что в распоряжении отдела снабжэния за тот же месяц будет иметься около 800 вагонов, из которых отдел предполагает ис-

---

[1021] Тамсама, арк. 39.
[1022] Тамсама, арк. 42.
[1023] Тамсама, арк. 64.
[1024] Тамсама, воп. 1, спр. 5, арк. 52.
[1025] Тамсама, воп. 2, спр. 27, арк. 1.

пользовать около 400, остальные же будет предоставлять частным лицам, т. е. комиссионерам по закупкам»[1026].

У жніўні 1917 г. інструктарам аддзела забеспячэння стаў Павел Аляксюк. Відавочна, што гэта была ініцыятыва Скірмунта. Месячны заробак інструктара складаў 250 руб. і мог быць галоўнай крыніцай даходаў маладога беларускага палітыка, які ў той час ішоў поруч з былым кіраўніком БНК. У верасні 1917 г. Аляксюк атрымаў яшчэ 150 руб. «за сверхурочныя работы по исполнению обязанностей заведующего общим делопроизводством»[1027]. Падобна, што з гэтымі абавязкамі Аляксюк спраўляўся, бо ў дакументах МГХК за кастрычнік і лістапад ён фігураваў ужо як сакратар Управы.

Прынамсі, гэта датычыць надзвычайнага пасяджэння Управы 30 кастрычніка 1917 г., выкліканага нядаўнімі падзеямі ў Петраградзе. Пасяджэнне, якое вёў І. Цеўмін, асудзіла бальшавікоў «за углубление революционного раскола среди демократии и усиление разрухи в продовольственной деле». Управа вырашыла не прызнаваць бальшавіцкі ўрад, заставацца выканаўчым органам МГХК і дзейнічаць у кантакце з мясцовым Камітэтам ратавання рэвалюцыі. Стэнаграму рабіў Аляксюк[1028]. Дарэчы, Раман Скірмунт напрыканцы кастрычніка знаходзіўся ў Петраградзе як сябра Перадпарламента і быў сведкам бальшавіцкага перавароту.

Між тым, сітуацыя з забеспячэннем насельніцтва запасамі харчавання сапраўды рэзка пагоршылася. Арганізатары Усерасійскага прадуктовага з’езда, які адбыўся напрыканцы лістапада, загадзя разаслалі праект рэзалюцыі, у якім адзначалася поўная адсутнасць запасаў харчавання як на фронце, так і ў буйных гарадскіх цэнтрах, сцвярджалася, што краіна жыве толькі тэрміновым падвозам харчавання і канстатавалася «набліжэнне харчовай катастрофы»[1029].

Аднак палітычныя перамены канчаткова адсунулі Рамана Скірмунта ад працы ў МГХК. У стэнаграмах пасяджэнняў Управы за лістапад 1917 – студзень 1918 г. ягонае імя ўжо не фігуравала. Таксама там не згадваўся і Аляксюк. Затое з’явіліся новыя людзі, у прыватнасці, прадстаўнік бальшавіцкага Абласнога выканаўчага камітэта Заходняй вобласці і фронту (Аблвыканкамзах) Людвік Рэзаўскі[1030], які «праславіцца» актыўным удзелам у разгоне Усебеларускага з’езда ў снежні 1917 г.

Сыход з МГХК спрыяў больш актыўнай палітычнай дзейнасці, але адначасна пазбаўляў Рамана Скірмунта важнай крыніцы існавання. Матэрыяльная сітуацыя Скірмунтаў у Менску да канца невядомая, але ўскосныя дадзеныя дазваляюць сцвярджаць, што вайна абярнулася фінансавым крызісам сям’і, і праца Скір-

---

[1026] Тамсама, арк. 7.
[1027] Тамсама, воп. 1, спр. 1, арк. 92, 105.
[1028] Тамсама, спр. 5, арк. 22.
[1029] Тамсама, спр. 1, арк. 75–75 адв.
[1030] Тамсама, спр. 10, арк. 73–81 ды інш.

мунта ў органах забеспячэння харчаваннем Менскай губ. была важнай крыніцай існавання.

Між іншым, пра гэта сведчыць адсутнасць інфармацыі наконт рэгулярнай грашовай падтрымкі Скірмунтам беларускіх культурніцкіх ініцыятыў, а таксама складанае фінансавае становішча Менскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны і БНК, у т. л. падчас ягонага кіравання. Актыўная дабрачынная дзейнасць сям'і Скірмунтаў у дарэвалюцыйны перыяд і непасрэдна Рамана Скірмунта ў 1920–1930-я гг. не дае падставы падазраваць палітыка ў празмернай ашчаднасці. Праца ў Харчовым камітэце была галоўнай крыніцай захавання пэўнага ўзроўню дабрабыту. Дарэчы, паводле знойдзеных дакументаў, заробак сябра Управы МГХК і загадчыка аддзела забеспячэння штомесяц складаў 500 руб.[1031] Памеры заробку былі вызначаны ў красавіку і не змяняліся, прынамсі, да лістапада 1917 г.

Таксама Скірмунт меў дачыненне да з'яўлення ў чэрвені 1917 г. у Менску Саюза землеўладальнікаў, пра што паведаміла газета «Новое варшавское утро». Паводле яе інфармацыі, Саюз ствараўся «для абароны іх [землеўдальнікаў. – *А. С.*] інтарэсаў сёння і падчас правядзення аграрнай рэформы ў заканадаўчых установах»[1032]. Карэспандэнт «Новага кур'ера літэўскага» паведаміў, што Саюз заявіў пра недатыкальнасць прыватнай уласнасці і неабходнасць уздыму дабрабыту ўсяго вясковага насельніцтва[1033]. Вядома, што напрыканцы ліпеня 1917 г., калі канчаткова сфарміравалася структура Саюза землеўладальнікаў, Раман Скірмунт увайшоў у склад ягонай Аграрнай камісіі[1034].

Вайніловіч пазней прыгадваў, што Саюз быў створаны падчас агульнага пасяджэння МТСГ. Ініцыятарам, а таксама галоўным «рухавіком» усёй арганізацыйнай працы быў адвакат Людвік Уняхоўскі, а старшынём абралі Ежы Чапскага. Былі наладжаны сувязі з агульнарасійскім Цэнтральным саюзам памешчыкаў, сядзіба якога знаходзілася ў Маскве. Менчукі рэгулярна ўдзельнічалі ў пасяджэннях Цэнтральнага саюза ў Маскве і Петраградзе. Вайніловіч адзначаў уплывовасць маскоўскіх партнёраў і іх дапамогу ў абароне маёмасных правоў землеўладальнікаў Меншчыны[1035].

Справа ў тым, што сацыяльная сітуацыя на Меншчыне рэзка абвастрылася ўжо ўвесну 1917 г. Гэтаму спрыяла блізкасць фронту з войскам, якое перажывала дэзарганізацыю і распад, ператваралася ў галоўную крыніцу анархіі і сваволля. Так, у маі 1917 г. якраз салдаты ўчынілі пагром маёнтка князя Святаполк-Мірскага ў м. Мір

---

[1031] Тамсама, воп. 2, спр. 21, арк. 9.

[1032] «Новое Варшавское утро». 1917, 18 июня.

[1033] «Nowy Kurier Litewski». 1917, Nr 145.

[1034] Cz. Brzoza, K. Stepan, *Skirmunt Roman (1868–1939)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 185.

[1035] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 189–190.

Наваградскага пав. На ягонай тэрыторыі знайшлі запасы гарэлкі. П'яны натоўп тры дні рабаваў палац, знішчыў бібліятэку і карцінную галерэю. Мэблю і раялі выкідалі з вокнаў другога паверха. Узнікла пагроза антыгабрэйскага пагрому ў самім Міры. Урэшце камандаванне здолела прыслаць баяздольны полк, які прымусіў рабаўнікоў пакінуць м. Мір[1036]. Амаль адначасна салдатамі быў разрабаваны палац Радзівілаў у Паланечцы Наваградскага пав. Рабаўнікі парушылі нават спачын памерлых. Яны разбівалі труны на могілках і выкідалі прах, шукаючы скарбы[1037]. У чэрвені п'яныя казакі знішчылі сядзібу Хялхоўскіх на мяжы Менскай і Віленскай губ.[1038]

Трывожная інфармацыя прыходзіла з Палесся, насельніцтва якога таксама праяўляла «рэвалюцыйную актыўнасць». Як адзначаў карэспандэнт газеты «Новое время», «дымом лесных пожаров, разорением помещичьих гнезд, разрушением культурных предприятий (питомников, лесонасаждений) и упразднением частной собственности откликнулось дикое Полесье на революционный призыв центров».

Увесну 1917 г. па ўсходнім Палессі пракацілася хваля рабункаў маёнткаў і захопаў памешчыцкай зямлі, а таксама падпалаў лесу, якія часта рабіліся браканьерамі. Улетку сітуацыя нібыта нармалізавалася, але той жа карэспандэнт «Нового времени» меў прадчуванне, што «крестьяне лишь выжидают время, когда созреют «панские нивы и огороды», чтобы ринуться на них и пожать то, что ими не посеяно. Есть основание предполагать, что это не обойдется без дреколья и крови, так как атмосфера уже чересчур насыщена грозой»[1039].

Гэтыя вясновыя падзеі можна лічыць свайго роду «першымі ластаўкамі» чарговага сялянскага бунту, які выбухне напрыканцы 1917 – пачатку 1918 г. Полымем пажараў і забойствамі «эксплуататараў» разам з сем'ямі ён напіша крывавую старонку айчыннай гісторыі, пра якую ўсё яшчэ маўчыць беларуская гістарыяграфія.

Менск жыў іншым жыццём, але і яно было напоўнена подыхам вайны. 3 жніўня «Новое Варшавское утро» паведаміла, што ў горад прыбыў польскі атрад на чале з генералам Доўбар-Мусніцкім. Чакалі прыбыцця польскіх уланаў[1040]. Упэўнены, што гэтая падзея прыцягнула ўвагу Скірмунта, які пазней будзе мець непасрэднае дачыненне да лёсу корпуса Доўбар-Мусніцкага.

## *Рэвалюцыя і яе «нарады»*

У першай палове жніўня галоўная ўвага была прыцягнута да Дзяржаўнай нарады, якая з 12 па 15 жніўня праходзіла ў Маскве. Яна была ініцыявана Часовым урадам дзеля кансалідацыі палітычных сіл пасля спробы бальшавіцкага путча.

---

[1036] «Новое Варшавское утро». 1917, 13 мая; 18 мая.

[1037] «Dziennik Miński». 1917, Nr 134.

[1038] «Новое Варшавское утро». 1917, 24 июня.

[1039] «Новое время». 1917, № 14831; НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 178, арк. 15–17.

[1040] «Новое Варшавское утро». 1917, 3 августа.

Удзельнікамі Дзяржаўнай нарады былі дэпутаты Думы ўсіх скліканняў, дэлегаты палітычных партый і арганізацый, гарадскіх дум, земстваў, Савета сялянскіх дэпутатаў, Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, прадстаўнікі гандлёва-прамысловых колаў, арміі і флота, нацыянальных камітэтаў, навуковых і грамадскіх арганізацый, духавенства, Саюза землеўладальнікаў ды інш. Таксама прысутнічалі камісары і сябры Часовага ўрада.

Усяго прыехала каля 2 500 чал. Сярод іх быў і Раман Скірмунт як дэпутат I Дзяржаўнай Думы. Апрача яго ў Маскву прыехалі ад Менскага губернскага з’езда Б. Самойленка і М. Ястжэмбскі, ад гарадской думы – А. Вайнштэйн. З ліку думскіх дэпутатаў, апрача Скірмунта, былі В. Янчэўскі, М. Масоніус, А. Фацінскі, А. Папа-Афанасопула, М. Варанцоў-Вельямінаў ды інш. Э. Івашкевіч, Крамскі і Ф. Хільхэн прадстаўлялі Польскую раду Менскай зямлі[1041].

Дзяржаўная нарада праходзіла ў будынку Вялікага тэатру і выклікала вялікую цікавасць гараджан. У дзень яе адкрыцця сабралася каля 10 тыс. чал. Будынак быў аточаны ланцугом салдат і юнкераў, але натоўп паводзіў сябе спакойна. Карэспандэнт газеты «Известия» параўнаў гэтую падзею з адкрыццём Дзяржаўнай Думы, але адзначыў адсутнасць радасных твараў, а таксама стрыманую і нават крытычную сустрэчу дэлегатаў[1042].

Большасць выступоўцаў заклікала да ўмацавання дзяржаўнай улады ў цэнтры і рэгіёнах, прапанавала спыніць супрацьпраўную дзейнасць радыкальных арганізацый, асудзіць «сепаратызм», ваяваць да перамогі і абвясціць Расію рэспублікай.

Цэнтральнай фігурай Нарады быў міністр-старшыня Часовага ўрада Аляксандр Керанскі, аўтарытэт якога яшчэ быў вялікім. Падчас адкрыцця Нарады ён заявіў, што галоўнай задачай урада з’яўляецца «спасение государства, ограждение чести и достоинства народа русского и государства Российского и борьба со всем, что разрушает эту единственную силу и с теми, кто мешает и препятствует задачам Временного правительства»[1043].

Пэўную канкурэнцыю Керанскаму апошнім часам пачаў складаць генерал Лаўр Карнілаў, якога расійскія «правыя» праслаўлялі як народнага героя. У сярэдзіне ліпеня ён быў прызначаны Вярхоўным галоўнакамандуючым. Генерал здолеў за кароткі тэрмін вярнуць расійскаму войску баяздольнасць. Дзеля гэтага выкарыстоўваліся суровыя сродкі, у т. л. смяротнае пакаранне за дэзерцірства. Кансерватыўныя сілы звязвалі з генералам устанаўленне аўтарытарнага рэжыму, здольнага спыніць рэвалюцыю і анархію.

Ён выступаў у другі дзень Нарады. Рэакцыя залы на яго з’яўленне выразна прадэманстравала адсутнасць таго яднання, якога дабіваўся Часовы ўрад. Большасць

---

[1041] «Новое Варшавское утро». 1917, 8 августа; 9 августа.

[1042] «Известия». 1917, № 143.

[1043] *Государственное совещание*. Москва-Ленинград 1930, с. 19.

удзельнікаў Нарады пры з'яўленні Карнілава ўзнялася з месцаў і сустрэла яго апладысментамі. Левая частка партэра, дзе сядзелі прадстаўнікі Саветаў, «левых» партый і салдаты, сустрэла дакладчыка моўчкі і на сваіх месцах. На крыкі справа: «Салдатам устаць!» злева адказалі: «Халопы!» Распачалася перапалка, якую з цяжкасцю спыніў старшыня Нарады, які папрасіў павагі да «першага салдата Часовага ўрада і да самога Часовага ўрада»[1044].

У сваёй прамове Карнілаў казаў пра катастрафічную сітуацыю на фронце, на пагубнае ўздзеянне на салдат некаторых законаў Часовага ўрада і бальшавіцкай прапаганды, прывёў прыклады салдацкай анархіі і доўга пералічваў імёны забітых салдатамі афіцэраў. Ён быў пэўны, што толькі надзвычайныя меры могуць вярнуць дысцыпліну ў войска і выратаваць Расію ад паразы ў вайне[1045].

Варта адзначыць, што адным з тых, хто не ўстаў пры з'яўленні Карнілава быў Раман Скірмунт, які сядзеў сярод «правых» на прыкметным месцы побач з дзеячамі партыі кадэтаў і, да таго ж, паводле М. Касакоўскага, быў у форме харунжага[1046].

Дзякуючы Дзённіку Міхала Касакоўскага, які ў той час узначальваў польскі Цэнтральны грамадзянскі камітэт у Менску і апекаваўся бежанцамі з Каралеўства Польскага, мы можам даведацца пра пазіцыю беларускага палітыка падчас Дзяржаўнай нарады. 24 жніўня 1917 г. на старонках Дзённіка ён пераказаў размову з Раманам Скірмунтам, які распавёў яму пра Маскоўскую нараду[1047].

Скірмунт выказаў шкадаванне, што спазніўся на Нараду і не меў магчымасці выступіць перад яе ўдзельнікамі. Аднак ён здолеў выказаць свае думкі на сакрэтным сходзе думскіх дэпутатаў. Згадаўшы гэты выступ, Скірмунт прызнаўся, што ніколі так выразна не адчуваў, якая бездань дзеліць яго і іншых дэпутатаў. Ён меў 20 хвілін для выступу, але апошнія 10 хвілін ужо не чуў уласнага голасу ў тым шуме, што ўзняўся ў зале. На пытанне Касакоўскага, што ў яго прамове магло так абурыць прысутных, Скірмунт адказаў: прапанова неадкладнага падпісання міра. На здзіўленае пытанне суразмоўцы, а што ж у гэтым выпадку застанецца ад Расіі, адказаў, што нешта застанецца і нават зашмат. Ён быў перакананы, што параза Расіі пойдзе ёй на карысць, бо застанецца арганізм, здольны да адраджэння. Магчыма, краіна нарэшце развітаецца з традыцыяй карміцца сокамі іншых дзяржаўных арганізмаў. Яна атрымае шанс распачаць уласнае жыццё і выпрацаваць уласны жыццёвы лад.

---

1044 ГАРФ. Ф. 3529, оп. 1, д. 2, л. 26.

1045 Там же, л. 26–33.

1046 M. Kossakowski, *Diariusz. 29 kwietnia–31 grudnia 1917.* Tom 2. Red. naukowa. D. Tarasiuk, M. Korzeniowski, K. Latawiec. Lublin 2006, s. 133 Рукапіс Дзённіка знаходзіцца ў Архіве Польскай Акадэміі Навук у Варшаве. Sygn. III–4. У некаторых згадках Дзённіка спасылкі будуць давацца на арыгінальны рукапіс.

1047 Ibidem, s. 132. Магчыма, мелася на ўвазе ўніформа Земгора.

Менавіта гэтыя развагі прымусілі Скірмунта выказацца пра неадкладны мір. І гэта адбылося падчас працы Нарады, на якой, як заўважыў аўтар Дзённіка, Керанскі з трыбуны абвясціў праклён кожнаму, хто выступаў за сепаратны мір.

Касакоўскі ў гэтым месцы палічыў патрэбным даць кароткую характарыстыку постаці палітыка Рамана Скірмунта. Гэтая характарыстыка ўвабрала ў сябе шмат. Ён прыгадаў «смелыя выступы» супраць радыкальнай аграрнай рэформы ў І Дзяржаўнай Думе, адзначыў, што былы «згоднік» ператварыўся ў ворага «згнілай Расіі», заявіў пра ягонае непрыязнае стаўленне да палякаў з Каралеўства Польскага і напрыканцы дадаў, што Скірмунт гаворыць пра сябе: «Мы, беларусы».

Таксама Касакоўскі патлумачыў, што Скірмунт не ўстаў пры з'яўленні Карнілава, бо быў праціўнікам ваеннай дыктатуры ці гэтага генерала ці казачага «вахмістра» Каледзіна, які таксама выступіў на Нарадзе з жорсткай крытыкай сітуацыі ў войску. Паводле аўтара Дзённіка, Скірмунт быў гатовы падтрымаць дыктатуру адмірала Калчака або генерала Гурко. Асабліва прыхільна ён ставіўся да апошняга і шкадаваў, што той знаходзіцца ў выгнанні як прыхільнік старога рэжыму.

Гэтая размова адбылася 24 жніўня, калі многім здавалася надзвычай верагодным усталяванне ваеннай дыктатуры. У гэтай сітуацыі Скірмунт выказваўся на карысць дыктатуры *просвещенного генерала*. Аднак з улікам ягонай палітычнай дзейнасці на працягу 1917 г. зусім не выпадае адносіць змагара за аўтаномію Беларусі да ліку прыхільнікаў дыктатуры, якая б перакрэсліла ўсе нацыянальна-культурныя і палітычныя імкненні беларусаў і палякаў. Думкі пра дыктатуру, як і пра падпісанне неадкладнага міру, а значыць фактычнай капітуляцыі Расіі, маглі грунтавацца на боязі, што разгортванне рэвалюцыі прывядзе да новай хвалі анархіі і гвалту.

Відавочна і тое, што эвалюцыя поглядаў і палітычнай пазіцыі Скірмунта з пачаткам рэвалюцыі засталася таямніцай для аўтара Дзённіка, які быў прыхільнікам больш радыкальных сацыяльных пераўтварэнняў. Ён заўважыў толькі змену нацыянальнай ідэнтычнасці свайго суразмоўцы.

Таксама Касакоўскі прыгадаў, што пасля вяртання з Масквы Скірмунт аформіў свае думкі ў артыкул і паспрабаваў яго апублікаваць у расійскім цэнтральным друку. Апублікаваць гэты тэкст згадзіўся толькі Максім Горкі на старонках «Новой жизни». Прагляд гэтай газеты дазваляе сцвярджаць, што сваё абяцанне рэдактар не выканаў.

Вяртаючыся да Дзяржаўнай нарады варта адзначыць, што большасць аналітыкаў заявілі пра яе поўную няўдачу. Нарада засведчыла раскол расійскага грамадства і паказала, што падобны палітычны форум не ў стане вырашыць аніякага пытання, тым больш, стварыць новы парламент ці іншы орган, які мог бы стаць апірышчам улады.

Што датычыць беларускай групы ўдзельнікаў Нарады, то яна ўключала Радаслава Астроўскага і Фелікса Галавача, якія прадстаўлялі Менск, Язэпа

Варонку і Вячаслава Багдановіча (абодва Петраград), Івана Краскоўскага (Кіеў) і Алеся Бурбіса (Масква)[1048]. Паводле прызнання І. Краскоўскага, «ідэя шырокага самакіравання» імі толькі згадвалася. Падчас свайго выступу на Дэмакратычнай нарадзе ў Петраградзе ў верасні 1917 г.[1049] Варонка прыгадаў, што ў Маскве прадстаўнікі нацыянальных супольнасцяў выступалі ў перапынках паміж пасяджэннямі[1050].

Дарэчы, менавіта з гэтай Нарады пачалася палітычная кар'ера Язэпа Варонкі (1891–1952). Улетку 1917 г. былы вольны слухач Пецярбургскага ўніверсітэта быў абраны ў ЦК БСГ. Ён адкрыў у сабе талент прамоўцы і хутка стаў у шэрагі кіраўнікоў беларускага руху. У Радзе БНР ён будзе адным з галоўных апанентаў Скірмунта.

Нарада сталася пачаткам імклівага падзення аўтарытэта Керанскага, які яшчэ зусім нядаўна выступаў як «ратавальнік рэвалюцыі». Сам міністр-старшыня выйшаў з Нарады цалкам перакананы, што галоўная небяспека сыходзіць ад «правых».

Сапраўды, дамінаванне «правых» у палітычным жыцці Расіі пасля падзей 3–5 ліпеня было бясспрэчным. Аднак г. зв. «карнілаўскі мяцеж» канца жніўня і ягонае паспяховае падаўленне перавярнулі ўсю палітычную сітуацыю ў краіне. Чашы палітычных вагаў імгненна памяняліся месцамі. «Правую» пацягнула ўніз, а «левая» заняла яе месца. Галоўным палітычным наступствам «карнілаўшчыны» быў поўны разгром і дэмаралізацыя «правых». А вось бальшавікі выдатна выкарысталі сітуацыю і вярнуліся на палітычную арэну ў якасці аднаго з яе галоўных актараў.

Адлучаны ад публічнай беларускай працы, Скірмунт у гэты час працягваў грамадскую дзейнасць. Як віцэ-старшыня МТСГ ён разам з прадстаўнікамі мясцовай польскай супольнасці ўвечары 24 жніўня сустракаў на менскім вакзале ксяндза каноніка О'Рурка, прызначанага адміністратарам Менскай дыяцэзіі[1051].

Працягваліся прыватныя кантакты Скірмунта з кіраўнікамі польскіх арганізацый у Менску. Пры гэтым ягонае прозвішча амаль не сустракаецца на старонках «Дзенніка Менскага», рэдактарам якога напрыканцы ліпеня 1917 г. стаў Тадэуш Яворскі. Новы рэдактар належаў да бежанцаў з Каралеўства Польскага, якія не разумелі краёвасці. Змена рэдактара ў пэўным сэнсе сімвалізавала перамены настрояў польскай супольнасці Меншчыны, якая з усё большай сімпатыяй глядзела ў бок адраджаючайся Польскай дзяржавы.

1 верасня 1917 г. Расія стала рэспублікай. Пра яе федэратыўны характар у пастанове ўрада гаворкі не было. Між тым, «перадавіцы» ўсіх вераснёвых нумароў «Вольнай Беларусі», напісаныя Я. Лёсікам, былі прысвечаны праблеме аўтаноміі

---

[1048] Ф. Турук, *Белорусское движение*..., с. 34.
[1049] У. Ладысеў, П. Брыгадзін, *Паміж Усходам і Захадам*..., с. 37.
[1050] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 12.
[1051] M. Kossakowski, *Diariusz. 29 kwietnia–31 grudnia* 1917. Tom 2, s. 133.

Беларусі. Так, рэдактар газеты пераконваў чытачоў паслаць ва Устаноўчы Сход «такіх людзей, каторыя павінны ўстанавіць у Расіі федэратыўную дэмакратычную рэспубліку (*вылучана аўт.*), або, сказаць па-нашаму, каб кожын народ быў сам сабе галава і каб увесь народ быў сам сабе цар»[1052]. Напрыканцы верасня ён заклікаў урад, не чакаючы Устаноўчага сходу, «выдаць закон, што расійская рэспубліка ёсьць федэратыўная дэмакратычная рэспубліка»[1053].

Магчыма, актывізацыі прапаганды ідэі аўтаноміі паспрыялі рашэнні З’езда прадстаўнікоў народаў і абласцей Расіі, скліканага па ініцыятыве Украінскай Цэнтральнай Рады (8–15 верасня, Кіеў). У складзе беларускай дэлегацыі на г. зв. «З’ездзе народаў» было 8 чалавек, у т. л. два прадстаўнікі БСГ. Адным з іх быў Язэп Лёсік. Менавіта ён пазнаёміў чытачоў «Вольнай Беларусі» з рашэннямі з’езда. Адно з іх патрабавала абвяшчэння федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі[1054].

Апрача таго, на з’ездзе была прынята дэкларацыя па беларускім пытанні, якая выказвала занепакоенасць падзелам беларускай зямлі лініяй фронту і заклікала Часовы ўрад неадкладна абвясціць аўтаномію Беларусі ў складзе федэратыўнай дэмакратычнай Расійскай Рэспублікі. З’езд прыняў рашэнне пра стварэнне «Рады народаў» з сядзібай у Кіеве, якая павінна была тэарэтычна падрыхтаваць абвяшчэнне Расійскай Федэрацыі. Старшынём Рады абралі вядомага гісторыка і кіраўніка Украінскай Цэнтральнай Рады Міхайлу Грушэўскага[1055].

На пачатку кастрычніка Лёсік ізноў заклікаў «дамагацца, каб усе часткі Расійскай рэспублікі былі ні толькі аўтаномнымі правінцыямі, а і дзяржавамі, злучанымі паміж сабой федэрацыйным (хаўрусным) перавяслам на грунці агульнага інтарэсу, супольнае патрэбы і ўзаемнай дапамогі. І толькі тагды становішча Беларусі будзе забезпечана і адносіны яе да Расійскай Рэспублікі будуць шчырыя і пэўныя, калі гэта станецца або калі справы аўтаномнага жыцьця злучаць усе народы Расіі ў адзіны вольны дзяржаўны хаўрус – федэрацыю. А гэта будзе, бо яны вымагаюцца і жыцьцём, і гістарычным поступам народаў Эўропы. Так, гэта будзе, бо павінна быць, калі хоча таго жыцьцё, калі ў гэтым прагрэс і культура чалавецтва»[1056].

Між тым, у новай палітычнай сітуацыі галоўным станавілася пытанне пра ўзаемаадносіны паміж сацыялістычнымі партыямі. Бальшавікі патрабавалі пакончыць з кааліцыямі і сфарміраваць аднародны сацыялістычны ўрад. Аднак

---

[1052] Я. Л-к [Я. Лёсік], *Нашы патрэбы*, «Вольная Беларусь». 1917, № 19.
[1053] Я. Л-к [Я. Лёсік]. *Расійская рэспубліка*, «Вольная Беларусь». 1917, № 21.
[1054] [Я. Лёсік] *Зьезд народаў*, «Вольная Беларусь». 1917, № 21.
[1055] О. Гуцуляк, *Съезды порабощенных народов России как этапы предпрометеизма: из истории прометеизма как борьбы народов против русского империализма*. Рэжым доступу: http://www.mesoeurasia.org/archives/15034. Дата доступу: 4. 07. 2017.
[1056] Я. Л [Я. Лёсік]. *Нашы патрэбы*, «Вольная Беларусь». 1917, № 23.

Усерасійскі цэнтральны выканаўчы камітэт, дзе дамінавалі меньшавікі і эсэры, выказаўся за вырашэнне гэтага пытання на Дэмакратычнай нарадзе.

Нарада распачала сваю працу ў Петраградзе 14 верасня і праходзіла ў бясконцых дэбатах і спрэчках. Толькі 19 верасня пытанне пра склад новага ўрада было пастаўлена на галасаванне. Аднак паразуменне не было дасягнута. Падчас дыскусіі бальшавіцкая фракцыя пакінула залу пасяджэння. Пытанне пра ўладу было вырашана перадаць г. зв. Часовай Радзе Расійскай рэспублікі або «Перадпаламенту».

Ён быў сфарміраваны 20 верасня на пасяджэнні Прэзідыума Дэмакратычнай нарады. Ягоныя паўнамоцтвы заключаліся ў санкцыянаванні дзейнасці новага ўрада і выкананні пры ім функцый дарадчай установы. Бальшавікі, якія атрымалі толькі 58 месцаў (з 313), байкатавалі дзейнасць Перадпарламента.

Ад Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый на Нарадзе выступіў Язэп Варонка. Напярэдадні на сходзе дэлегатаў Рады былі зацверджаны асноўныя пункты яго заявы. Яны ўключалі абвяшчэнне Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі з гарантыяй правоў нацыянальных меншасцяў, стварэнне Рады па нацыянальных справах, якая б выбірала са сваіх шэрагаў міністра па нацыянальных справах, роўнасць моваў у судзе, школе, кіраванні і самакіраванні, прызнанне за ўсімі народамі права склікання ўласных Устаноўчых сходаў, нацыяналізацыю войск, адмову ад кааліцый з буржуазіяй пры фарміраванні ўрада, адмену смяротнага пакарання, заключэнне міру ды інш.[1057] Варта адзначыць, што ў гэтым пераліку першыя месцы займалі патрабаванні нацыянальнага характару. Тэрмін «аўтаномія» адсутнічаў, хоць рэалізацыя прапаноў непазбежна вяла да аўтаноміі.

Язэп Варонка выступаў 17 верасня ў паўпустой зале. Ён пачаў прамову менавіта з крытыкі стаўлення «рэвалюцыйнай дэмакратыі» да нацыянальнага пытання. Варонка параўнаў Дэмакратычную нараду з Дзяржаўнай нарадай, дзе дамінавалі цалкам іншыя палітычныя сілы, а адносіны да праблем нацыянальных меншасцяў былі такімі ж. У выступленні прысутнічалі ўсе вызначаныя дэлегацыяй асноўныя пункты, але галоўны акцэнт быў зроблены на нацыянальныя патрабаванні. Менавіта гэтая частка выступу найчасцей перапынялася рэплікамі і пытаннямі з залы. Аднойчы нават прагучала пытанне: «Товарищ, а Вам в Минске позволили бы так говорить?» Затое прапановы, што датычылі «сацыяльнага блоку», перапыняліся толькі апладысментамі[1058].

Што датычыць Перадпарламента, то новы кааліцыйны ўрад Керанскага пашырыў яго склад да 555 чал. У гэты орган улады увайшлі таксама прадстаўнікі партыі кадэтаў, гандлёва-прамысловых аб'яднанняў ды інш. У выніку пашырэння ў складзе Перадпаламента апынуўся і Скірмунт. Таксама ягонымі сябрамі былі Варонка і Жылуновіч[1059].

---

[1057] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 12.

[1058] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 13–14.

[1059] Ф. Турук, *Белорусское движение…*, с. 34.

Сесія Перадпарламента распачалася ў Марыінскім палацы 7 кастрычніка і працягвалася да бальшавіцкага перавароту 25 кастрычніка. Расійскі гісторык Святлана Руднева ў дысертацыйным даследаванні (2007), прысвечаным гісторыі гэтай установы, сцвярджала, што ў працы Часовай Рады (адбылося 10 пленарных пасяджэнняў) панавала поўнае рознагалоссе пазіцый і поглядаў і не назіралася нават перспектывы збліжэння палітычных сіл[1060]. Старшынём быў абраны адзін з лідэраў уплывовай партыі эсэраў Мікалай Аўксенцьеў, але нават аўтарытэт партыі не дапамог. Падчас кароткага існавання Перадпарламента так і не сфарміравалася большасць, здольная да канструктыўнай дзейнасці.

24 кастрычніка на пасяджэнні нечакана з'явіўся Аляксандр Керанскі, які паведаміў, што ў сталіцы пачалося паўстанне бальшавікоў. Перадпарламент прыняў рашэнне пра стварэнне Камітэта грамадскага ратавання. Раніцай 25 кастрычніка Марыінскі палац быў аточаны матросамі, а бальшавіцкі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт прымусіў сяброў Перадпарламента пакінуць памяшканне[1061].

Удзел Рамана Скірмунта ў працы гэтай дзяржаўнай установы зрабіў яго няволным сведкам прыходу да ўлады партыі Леніна-Троцкага. Але пра гэта гаворка яшчэ наперадзе...

У верасні 1917 г. актуалізавалася праблема выбараў ва Устаноўчы Сход. Пачалося стварэнне выбарчых камітэтаў. 26 верасня ўзнік Польскі выбарчы камітэт, у склад якога ўвайшоў увесь Выканкам ПРМЗ, а таксама прадстаўнікі іншых польскіх арганізацый Меншчыны, у т. л. Менскага таварыства сельскай гаспадаркі. У Камітэце яго прадстаўлялі граф Х. Грабоўскі і Р. Скірмунт. Таксама варта адзначыць прысутнасць у Польскім выбарчым камітэце М. Масоніуса і К. Дзямідэцкага-Дзямідовіча (ад ПРМЗ), Г. Друцкага-Любецкага (ад Саюза землеўласнікаў Менскай губ.)[1062]. Гэтыя дзеячы былі найбольш свядомыя сваёй мясцовай «беларускай прапіскі».

Падобна, што Раман Скірмунт быў фармальным сябрам Камітэта, бо належаў да кіраўніцтва МТСГ. Ягоная дзейнасць у складзе Польскага выбарчага камітэта нідзе не адлюстравалася, а сам ён узначаліў спіс кандыдатаў ва Устаноўчы Сход ад Саюза землеўладальнікаў Менскай губ.

Інфармацыя пра стварэнне Польскага выбарчага камітэта з'явілася на старонках «Дзенніка Мінскага» 4 кастрычніка, а ўжо праз некалькі дзён у артыкуле «Палітыка крэсаў» У. Альшынскі сцвярджаў неабходнасць карэкціроўкі палітычнага курсу польскай супольнасці ў Беларусі. Ён лічыў памылкай, што польскі рух у Беларусі разгортваецца пад «сцягам эміграцыйнай палітыкі […] на

---

[1060] С. Руднева, *Предпарламент (октябрь1917 г.): опыт исторической реконструкции*. Автореферат диссертации на соискание научной степени доктора исторических наук. Москва 2007, с. 42.

[1061] Там же, с. 44.

[1062] «Dziennik Miński». 1917, Nr 79.

падмурку агульнапольскіх інтарэсаў», і заклікаў думаць пра будучыню, у якой Беларусь і Польшча могуць стаць суседзямі. У інтарэсах Польшчы ён заклікаў прадстаўнікоў мясцовай польскай супольнасці прыгадаць уласнае паходжанне і адчуць сябе «польскімі грамадзянамі ў Беларусі».

Як бачна, «грамадзяне краю» трансфармаваліся ў «польскіх грамадзян». Але ў тагачаснай сітуацыі гэта можна трактаваць як пэўную праяву краёвай ідэі. Аўтар заклікаў не адмяжоўвацца, а актыўна супрацоўнічаць з беларускім рухам: «Апрача пабудовы незалежнай Польшчы і ў яе інтарэсах мы павінны будаваць незалежную Беларусь, а гэта можна рабіць толькі разам з беларусамі. Сувязі павінны захоўвацца як паміж «нізамі», так паміж «вярхамі», а супрацоўніцтва павінна ахапіць усе сферы грамадскага і культурнага жыцця»[1063].

Падобна, што заклік «краёўца» Альшынскага быў рэакцыяй на спад цікавасці палякаў Меншчыны да беларускага руху і выразнае «ахалоджанне» польска-беларускіх стасункаў. Польскі даследчык Тадэуш Зянкевіч наогул лічыў, што пэўныя сімпатыі да беларускага руху сярод эліты польскай грамадскасці зніклі ўжо ўвосень 1917 г.[1064] Гэты тэзіс падаецца занадта катэгарычным, хоць на сітуацыю не магла не паўплываць далейшая сацыяльная радыкалізацыя беларускага руху, якая прывяла да ліквідацыі БНК і адыходу ад публічнай дзейнасці Скірмунта. Зрэшты, пасля «карнілаўскага мяцяжа» ў Расіі наогул ўзмацніліся пазіцыі найбольш радыкальных палітычных сіл. А эліта мясцовай польскай супольнасці з большай зацікаўленасцю пачала сачыць за адраджэннем Польскай дзяржавы. Дарэчы, у рубрыцы «Дзенніка Мінскага» пад назвай «Весці з краю» змяшчалася інфармацыя выключна з Каралеўства Польскага.

Іншай праблемай, якая магла адмоўна паўплываць на сімпатыі да беларускага руху, сталася праблемы мовы дадатковага набажэнства ў касцёле. Нагадаю, што доўгі час менавіта польская мова ў касцёле і польскае землеўладанне лічыліся асновай польскіх пазіцый у «забраным краі».

«Дзеннік Менскі» ў шэрагу артыкулаў звярнуў увагу на спробы ўвядзення беларускай мовы ў касцёл[1065]. У выніку ксёндз Гадлеўскі быў вымушаны тлумачыцца на старонках газеты. Ён, між іншым, прызнаў, што гэтая ініцыятыва належыць не яму, а магілёўскаму арцыбіскупу Эдварду Ропу. Гадлеўскі таксама сцвярджаў прыхільнае стаўленне да беларускай мовы з боку мясцовага каталіцкага насельніцтва[1066]. Паколькі крытыка працягвалася, Гадлеўскі больш грунтоўна спыніўся на праблеме і адзначыў нараджэнне «новых дзяржаўных арганізацый, такіх як Украіна і наша супольная Айчына Беларусь, што сёння змагаецца за свае

[1063] Wł. Olszyński, *Polityka kresów*, «Dziennik Miński». 1917, Nr 73.
[1064] T. Zienkiewicz, *Polskie życie literackie w Mińsku w XIX i na początku XX w. (do roku 1921)*, s. 49.
[1065] Напр., гл. «Dziennik Miński». 1917, Nr 69.
[1066] «Dziennik Miński». 1917, Nr 73.

правы. З імі трэба лічыцца і для агульнага дабра супрацоўнічаць». Напрыканцы ён заявіў, што беларускія ксяндзы заўсёды здолеюць ушанаваць у польскім сэрцы пачуццё любові да роднай мовы, аднак яны чакаюць і з польскага боку пашаны да іх уласнай беларускай мовы[1067].

Важным фактарам польска-беларускіх стасункаў стала арганізацыя і дыслакацыя на Меншчыне Польскага корпуса. Яго гісторыя пачалася на з’ездзе вайскоўцаў-палякаў, які адбыўся ў Петраградзе ў чэрвені 1917 г. З’езд выказаўся за арганізацыю польскай вайсковай часткі. Дэлегаты абралі Галоўны Польскі вайсковы камітэт («Начполь») на чале з харунжым Уладзіславам Рачкевічам. Начполь дабіўся згоды Вярхоўнага Галоўнакамандуючага на фарміраванне трох польскіх карпусоў.

I Польскі корпус фарміраваўся на Заходнім фронце пад камандаваннем генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага ў складзе трох пяхотных дывізій, двух артылерыйскіх брыгад і батарэі цяжкай артылерыі. Начполь, які прэтэндаваў на палітычнае кіраўніцтва Польскім корпусам, разгарнуў актыўную дзейнасць па яго фарміраванні. Заклікі і звароты запісвацца ў корпус друкаваліся на старонках «Дзенніка Менскага» і органа Начполя газеты «Жолнеж польскі». Было створана Таварыства сяброў польскага салдата, на чале якога стаў удзельнік чэрвеньскага з’езда вайскоўцаў-палякаў і кіраўнік Цэнтральнага грамадзянскага камітэта ў Менску Міхал Касакоўскі.

Увосень у корпусе налічвалася ўжо каля 25 тыс. чал., з якіх каля 3 тыс. былі афіцэрамі. Прыток афіцэрскіх кадраў быў абумоўлены тым, што многія афіцэры шукалі ў Корпусе паратунку ад анархіі і дэзарганізацыі войска. Дарэчы, у ім адсутнічалі салдацкія камітэты, а іх функцыі выконвалі камісары Начполя, які пастаянна падкрэсліваў палітычны нейтралітэт Польскага корпуса. Штаб корпуса знаходзіўся ў Менску, а падраздзяленні былі раскіданы па тэрыторыі Менскай, Віцебскай і Магілёўскай губ. Генерал прыехаў у Менск напрыканцы ліпеня 1917 г.[1068] Па ініцыятыве М. Касакоўскага адбылася яго сустрэча з лідэрамі мясцовай польскай супольнасці[1069].

Польскі корпус упершыню паказаў сябе 5 лістапада 1917 г. падчас урачыстасцяў у гонар 100-годдзя смерці Тадэвуша Касцюшкі. Кульмінацыяй свята стаў вайсковы парад на Кафедральнай плошчы з удзелам польскіх уланаў, які выклікаў патрыятычны ўздым сярод мясцовай польскай грамадскасці.

Восень была насычана важнымі падзеямі і ў беларускім руху. Я. Варонка пазней адзначаў хуткую актывізацыю «беларускай працы» пасля Дзяржаўнай і Дэмакратычнай нарад, дзе прадстаўнікі Беларусі здолелі давесці свае патрабаванні да

---

1067 W. Godlewski, *Język białoruski w kościole*, «Dziennik Miński». 1917, Nr 97.

1068 «Новое Варшавское утро». 1917, 3 августа.

1069 M. Kossakowski, *Diariusz. 29 kwietnia–31 grudnia* 1917. Tom 2, s. 134

расійскай палітычнай эліты[1070]. Важнай з'явай станавілася стварэнне арганізацый сярод беларусаў-вайскоўцаў армій Паўночнага, Заходняга, Румынскага франтоў і Балтыйскага флота, якія адгукаліся на лозунгі нацыянальнага Адраджэння і аўтаноміі Беларусі.

Падчас гэтай актывізацыі імкненне часткі беларускай эліты да нацыянальнай кансалідацыі чарговы раз сутыкнулася з супрацівам найбольш левай групы ў БСГ. Ізноў нагодай для дыскусіі і пэўнага размежавання стала постаць Рамана Скірмунта, які знаходзіўся ў Петраградзе і працаваў як сябра Перадпарламента. Падобна, што важнасць ягонага вяртання ў беларускі рух, як і неабходнасць самай шырокай кансалідацыі наяўных беларускіх сіл усё больш выразна ўсведамлялася ў Менску. Перадавіцы Язэпа Лёсіка на старонках «Вольнай Беларусі» ў кастрычніку 1917 г. падкрэслівалі актуальнасць якраз агульнанацыянальных задач, сярод якіх вылучалася аўтаномія Беларусі. Сацыяльнае нібыта адыходзіла на другі план.

Дарэчы, у дзень адкрыцця другой сесіі Цэнтральнай Рады «Вольная Беларусь» змясціла артыкул «Расійскае безладдзе», у якім ішла гаворка пра ператварэнне рэвалюцыі ў панаванне анархіі і гвалту: «Вырваўшыся за дапамогай паднявольных суседзяў с кайданаў раманаўскага самадзержавія гэта цёмная маскоўская маса захапіла ў свае рукі ўладу, уселася гаспадарыць на царскае мейсца і бушуе як істы дзікар, апьянелы воляй і нястрымаласьцю. Сама інтэлігенцыя гэтай масы пераняла ўсе звычкі і забабоны старога рэжыму і праз свае камітэты, рады і арганізацыі робіць арэшты, карае сьмерцю, садзіць у турмы, зачыняе газэты, накладае цэнзуру, рэквізуе друкарні […] Велікаруская нацыя, ня гледзячы на сваё нацыанальнае панаванне і дзякуючы гэтаму панаванню, ня мае ні толькі нацыанальнага, але нават племяннога, сваяцкага пачуцьця. Яна, бачыш, вышэй за гэта і пустэлю свайго нацыанальнага пачуцьця запаўняе пустым зыкам касмапалітызму»[1071].

Менавіта так Язэп Лёсік ацэньваў тую «класавую барацьбу», якую працягвалі распальваць бальшавікі і левыя эсэры: «Наша заданне, – пісаў ён, – абараніць наш край ад загубы, захаваць яго ад тае заразы, што насуваецца с цэнтру».

У наступным нумары «Вольнай Беларусі» яе рэдактар выразна засведчыў, што ставіць агульнанацыянальныя задачы вышэй за сацыяльныя пераўтварэнні. Ён заклікаў «памятаць нізабытныя словы Бэбэля, каторы сказаў, што ён перш за ўсё сын свае бацькаўшчыны, а потым – сацыяліста, і памятаючы гэта, несьці сьвятло нацыанальнай сьвядомасьці ў сёлы, вёскі, мястэчкі, пад чорную страху селяніна, у цёмны куток пралетарыя. […] мы павінны ўсьведаміць іх, што наша збавеньне ў нацыанальным адраджэньні, у адбудаваньні жыцьця свайго на грунці ўласнага, нацыанальнага істненьня. Ніхто нашых патрэб не разважыць і не мае права разважаць, апрач нас самых. Нашым Устаноўчым Соймам павінна быць наша Беларуская Краёвая Рада. […] Там, на сваім Устаноўчым Соймі вольна загамоніць

[1070] Я. Варонко, *Беларускі рух ад 1917 да 1920 году*. Коўна 1920, с. 5.
[1071] Я. Л-к. [Я. Лёсік], *Расійскае безладдзе,* «Вольная Беларусь». 1917, № 24.

Беларусь на цэлы белы сьвет, разважыць свае справы, апрацуе плян будаўніцтва, уложэ статут свайго нізалежнага нацыанальнага істненьня і вынясе яго дзеля ўзаемнае ўхвалы на Устаноўчы Сойм усіх народаў дзяржавы Расійскай»[1072].

Пагроза цэнтралізму трактавалася як адна з галоўных на шляху беларускага Адраджэння, і нават на Устаноўчы Сход ужо не ўскладаліся вялікія надзеі: «Хіба вы не бачыце, што ў нашай хаці пануе маскаль-цэнтраліст, каторы, абвязаўшы свой твар чырвонаю хусткай, пройдзе ад нас і да Устаноўчага Сойму? І працаваць там ён будзе ні для нас, ні на карысьць тае нацыі, коштам якой гадуецца. […] Наша будучына ў нашых руках, і наш Устаноўчы Сойм павінен быць на нашай слаўнай беларускай зямлі. Продкі нашы заўсюды цураліся Масквы і змагаліся з ёю і наказалі нам жыць сваім уласным беларускім жыцьцём, справуючыся праз свой беларускі Краёвы Парлямэнт»[1073].

«Вольная Беларусь» галоўнай мэтай абвяшчала дасягненне «палітычна-тэрытарыяльнай аўтаноміі». Падобнае разуменне сітуацыі стварала падмурак для кансалідацыі розных палітычных сіл беларускага руху, у т. л. для вяртання ў ягонае рэчышча Рамана Скірмунта і ягоных аднадумцаў. Але з перспектывы «беларускага Петраграда» сітуацыя ацэньвалася інакш...

Як ужо адзначалася, паступова пачаў паўставаць канфлікт паміж Язэпам Лёсікам і рэдакцыяй «Вольнай Беларусі», з аднаго боку, і менавіта петраградскімі арганізацыямі БСГ, прадстаўленымі ў Цэнтральнай Радзе, – з другога. Сутыкненне розных пазіцый адбылося падчас другой сесіі Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый, якая распачалася 15 кастрычніка ў Менску. Жылуновіч ва ўспамінах (1923) напрост заявіў пра раскол БСГ. А вось інфармацыя «Вольнай Беларусі» аўтарства Язэпа Лёсіка пра гэтую сесію, а таксама пра III з’езд БСГ (14–25 кастрычніка) і з’езд вайскоўцаў-беларусаў Заходняга фронту (18–24 кастрычніка) была напоўнена аптымізмам і верай у палітычную перамогу беларускага Адраджэння. Відавочна, што аўтар гэтай інфармацыі настойліва імкнуўся падкрэсліць тыя моманты, якія сведчылі пра разуменне ўдзельнікамі форума неабходнасці яднання палітычных сіл.

Другая сесія Цэнтральнай Рады адбывалася ў будынку былога «губернатарскага дома». Залу ўпрыгожваў белы беларускі штандар з надпісам «Ніхай жыве вольная Беларусь». Праца распачалася прамовяю сябра Выканкама Аркадзя Смоліча, які казаў пра важнасць агульнабеларускага паяднання. У Прэзідыум былі абраны Я. Дыла (старшыня), а таксама А. Уласаў, В. Адамовіч, Б. Тарашкевіч і А. Данілевіч. Наогул, на сесію прыехалі 36 сяброў Цэнтральнай Рады, якія, паводле інфармацыі Мандатнай камісіі, прадстаўлялі больш за 27 тыс. чал. Варта адзначыць, што на час гэтай сесіі з’езд БСГ перапыніў сваю працу.

Са справаздачай аб дзейнасці Выканкама выступіў Смоліч, які прызнаў, што з дзевяці яго сяброў рэальна працавалі толькі два. Істотнай праблемай была ад-

[1072] Я. Л-к. [Я. Лёсік]. *Устаноўчы Сойм*, «Вольная Беларусь». 1917, № 25.
[1073] Я. Л-к [Я. Лёсік], *Савет Расійскай Рэспублікі,* «Вольная Беларусь». 1917, № 26.

сутнасць фінасавання, бо мясцовыя арганізацыі не пералічвалі сродкі. Фактычна ўся дзейнасць звялася да дэлегавання сваіх прадстаўнікоў на Дзяржаўную і Дэмакратычную нарады, а таксама на з'езд бежанцаў (Масква) і з'езд народаў (Кіеў). Смоліч прызнаў, што Цэнтральная Рада не здолела заваяваць даверу шырокіх мас і стаць аўтарытэтнай краёвай арганізацыяй.

Лёсік адзначыў выступ Язэпа Дылы ў першы дзень. Старшыня Прэзідыума казаў пра беларускую інтэлігенцыю, якая звыклася працаваць на «чужынцаў», і часцяком «перакіньчыкі-беларусы» горш ставіліся да свайго народу і ягонай культуры, чым рускія ці палякі. Дыла адзначыў пагрозу з боку «чырвоных», якія, на яго думку, у нацыянальным пытанні вярнуліся да палітыкі самаўладдзя. Ён адкінуў прапановы пра перанос цэнтра беларускай дзейнасці ў Магілёў або Віцебск і заявіў, што такімі цэнтрамі павінны заставацца Менск і Вільня[1074].

А. Прушынскі ў другі дзень сесіі зазначыў важнасць паяднання беларускай інтэлігенцыі і сялянства. Ён згадаў як падчас з'езда бежанцаў-беларусаў у Маскве (24–26 верасня 1917 г.) даводзілася тлумачыць яго ўдзельнікам асноўныя задачы беларускага руху і выказаў упэўненасць, што нацыянальная ідэя здольная з'яднаць самыя розныя сілы беларушчыны. Прыгадаўшы беларускі рух сярод вайскоўцаў, ён заявіў пра неабходнасць стварэння «моцнай Рады, каторая б бараніла і кіравала ўсёй справаю. Нам патрэбны асобны сэкрэтарыят, каб ён назіраў за ўсім»[1075].

Даклады з «мейсцаў», з якімі выступілі Язэп Дыла (Масква), Зміцер Жылуновіч (Петраград), Латышэнка (ад бежанцаў), Васіль Муха (Балтыйскі флот), Вінцэнт Гадлеўскі, Радаслаў Астроўскі ды інш. прэзентавалі шырокую панараму беларускага руху, якая таксама пераконвала ў неабходнасці моцнага каардынацыйнага цэнтра. Варонка як прадстаўнік «агульнапалітычнай камісіі» сесіі прапанаваў стварэнне Вялікай Беларускай Рады[1076].

На трэці дзень працы, 17 кастрычніка на агульным пасяджэнні ўдзельнікі сесіі прынялі рашэнне пра стварэнне Вялікай Беларускай Рады (ВБР) як новага кіраўнічага цэнтра беларускага руху. Рада павінна была абвясціць сябе «правамоцнаю і бараніць увесь беларускі народ». Сесія прызнала неабходным «кінуць палітыку карэктнасьці і галасна абвесьціць, хто гаспадар на Беларусі», і працаваць дзеля яе аўтаноміі[1077]. Прушынскі назваў ВБР «таранам для беларускай справы», які праб'е «мур нірухомасьці».

Вялікую ролю ў стварэнні новай арганізацыі адыграў рэдактар «Вольнай Беларусі» Язэп Лёсік. Удзельнікі сесіі палічылі патрэбным прывітаць яго апладысментамі. У адказ той заявіў, што «беларускі рух набярэ хутка вялікай сілы і праз

[1074] *II-я сэсія Цэнтральнае Рады беларускіх арганізацый,* «Вольная Беларусь». 1917, № 26.
[1075] Тамсама, № 27.
[1076] Тамсама, № 28.
[1077] Тамсама.

Раду пойдзе да Вялікай Краёвай Беларускае Рады, каторая абвесьціць: уся зямля працоўным людзям, а ўся ўласьць на Беларусі беларускаму народу!».

З 18 па 23 кастрычніка сесія прыпыніла сваю дзейнасць. Многія яе прадстаўнікі ўдзельнічалі ў з'ездзе вайскоўцаў-беларусаў Заходняга фронту, на якім таксама прысутнічалі дэлегаты 12 арміі Паўночнага фронту, а таксама Балтыйскага флота і Румынскага фронту. З'езд прызнаў неабходным стварэнне беларускага войска і сфарміраваў Цэнтральную Беларускую Вайсковую Раду (ЦБВР) на чале з Сымонам Рак-Міхайлоўскім[1078]. Яе галоўнай задачай было стварэнне беларускага войска.

24 кастрычніка другая сесія аднавіла сваю працу. У выбарах Выканкама ВБР прынялі ўдзел сябры Выканкама ЦБВР. У выніку ў кіраўніцтва беларускага руху былі абраны В. Адамовіч (старшыня Выканкама), А. Прушынскі, А. Смоліч, С. Рак-Міхайлоўскі, І. Дварчанін, П. Аляксюк, А. Лявіцкі ды інш.[1079] Прысутнасць Паўла Алексюка сведчыць пра адмову БСГ ад ранейшага курса на размежаванне з г. зв. «правымі» і спробу пэўнай кансалідацыі беларускага руху. Апошняе стварала магчымасць для публічнага вяртання ў ягоныя шэрагі таксама Рамана Скірмунта. Камісарамі Вялікай Беларускай Рады былі абраны Я. Дыла, Б. Сталыгва, Б. Тарашкевіч, З. Жылуновіч, Я. Варонка, П. Бадунова ды інш.[1080] Выканкам разам з камісарамі склаў Малую Раду ВБР.

Выканкам разглядаўся як прататып дзяржаўнай улады аўтаномнай Беларусі, таму ён атрымаў права кааптацыі ў свае шэрагі прадстаўнікоў іншых беларускіх арганізацый, а таксама валасных і павятовых земстваў і гарадскіх дум. Стварэнне ВБР можна ацаніць як безумоўны поспех беларускага руху, які зноў спрабаваў пайсці шляхам нацыянальнай кансалідацыі.

Ці з'яўляўся Раман Скірмунт сябрам ВБР? Польскія даследчыкі Ч. Бжоза і К. Стэпан станоўча адказалі на гэтае пытанне на старонках Польскага слоўніка біяграфічнага. Яны нават сцвердзілі, што вядомы палітык у якасці сябра ВБР удзельнічаў у *Беларускім з'ездзе павятовых саветаў Менскай губ.*, які адбыўся ў лістападзе 1917 г. у Менску[1081]. Праўда, згадкі пра гэты з'езд адсутнічаюць у беларускай гістарыяграфіі. Магчыма, даследчыкі памыліліся з назвай беларускага форума.

Сярод асабістых дакументаў Аркадзя Смоліча, якія захаваліся ў БДАЛіМ, у чарнавіках матэрыялаў Выканаўчага камітэта ЦБВР захаваліся два спісы, у адным з якіх побач з Уласавым, Гадлеўскім, Кульчыцкім, Алексюком, Русецкім, Зямкевічам

---

[1078] С. Рудовіч, *Час выбару…*, с. 140.
[1079] Тамсама.
[1080] *II-я сэсія Цэнтральнае Рады беларускіх арганізацый*, «Вольная Беларусь». 1917, № 28.
[1081] Cz. Brzoza, K. Stepan, *Skirmunt Roman (1868–1939)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 186.

і Кандратовічам фігуравала прозвішча Скірмунта[1082]. Магчыма, менавіта гэта стала падставай для меркавання польскіх даследчыкаў. Але варта адзначыць, што ў згаданым спісе пералічаныя сябры Менскага беларускага прадстаўніцтва, якое аформілася значна пазней. Пра адсутнасць Скірмунта ў Вялікай Беларускай Радзе сведчаць таксама ўспаміны Яўсея Канчара пра тэлефонную размову напярэдадні Усебеларускага з'езда з прадстаўніком Беларускага Абласнога камітэта А. Кусэ-Цюзам, у якой апошні ахарактарызаваў склад Выканкама ВБР. Паводле ягонай ацэнкі, там дамінавалі прадстаўнікі БСГ, а найбольш «правым» быў сам А. Кусэ-Цюз[1083].

Цікава, што ў гэты ж час імкненне да нацыянальнага паяднання назіралася таксама сярод беларускага руху на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі і Літвы. Дарэчы, у дзень стварэння ВБР «Гоман» апублікаваў артыкул Янкі Станкевіча пра лёс беларускіх бежанцаў у Расіі, у якім ён ахарактарызаваў беларускі рух у Менску. Цікава, што напрыканцы кастрычніка 1917 г. аўтар артыкула сярод найбольш актыўных працаўнікоў на беларускай ніве называў Р. Скірмунта, П. Алексюка, княгіню М. Радзівіл, А. Лявіцкага, А. Уласава, В. Гадлеўскага ды інш.[1084] Цяжка пазбыцца ўражання, што артыкул быў напісаны яшчэ ўвесну 1917 г.! Але цалкам магчыма, што згадка асобаў, якія былі непрымальнымі для менскіх сацыялістаў, таксама засведчыла пэўныя перамены ў настроях дзеячаў віленскага беларускага цэнтра.

Створаная Лёсікам на старонках «Вольнай Беларусі» карціна беларускага паяднання істотна разыходзілася з пазнейшымі ўспамінамі Жылуновіча пра другую сесію Цэнтральнай Рады. У 1923 г. ён імкнуўся давесці чытачам часопіса «Полымя», што галоўным вынікам сесіі стала канчатковае размежаванне правых і левых у БСГ і кіраўніцтве беларускага руху.

Жылуновіч ва ўспамінах заявіў пра «паправенне былых народніцкіх элементаў» БСГ. Ён сцвярджаў, што нагодай для расколу стала абранне беларускіх прадстаўнікоў у Раду народаў. З выразным абурэннем ён працытаваў па памяці прапанову дэлегата З'езда народаў «Л.» (Язэпа Лёсіка? Антона Лявіцкага?), які раіў накіраваць у Раду народаў Рамана Скірмунта і заявіў, што «мы мусім паслаць ад нас моцных вучоных людзей. На зьездзе іншыя народы былі прадстаўлены дужа моцнымі людзьмі. Мы не павінны ганяцца за партыйнасьцю, а мусім глядзець з пагляду карысьці агульнанацыянальнай справе»[1085].

На здзіўленне лідэра БСГ значная частка ўдзельнікаў сесіі падтрымала гэтую

---

[1082] БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 277, арк. 22.

[1083] Е. С. Канчер, *Из истории общественных, национальных и революционных движений белорусов* (публікацыя В. Скалабана), «Нёман». 1993, № 1, с. 149.

[1084] Я. Станкевіч, *Беларускія ўцекачы ў Расеі,* «Гоман». 1917, № 82.

[1085] Ж. З. [З. Жылуновіч], *Уступамі да Акцябра (Матэр'ялы да гісторыі Савецкай Беларусі)*, с. 90.

прапанову. «Левыя» грамадоўцы правялі адмысловую нараду, каб з'яднаць галасы БСГ і не дапусціць абрання Скірмунта «і нікога з непажаданых», але яна мела толькі частковы эфект. Як заўважыў Жылуновіч, «у некаторых сяброў Грамады правага ўхілу адпала ўся рэволюцыйнасьць. Агульнасьць справы патуманіла іх ушчэнт. Тронутыя да «глыбіні душы» пачуцьцём сантыментальнага патрыятызму, яны заліліся сьлёзамі ўміленьня (Бадунова) і патапілі сваю клясавую абасобнасьць у частых і гучных овацыях розным дзеячом. Сваім-жа левым сябрам, каторыя дапомнілі аб заданьнях соцыялістых, намякнулі пра «шкодную абмылковасць» падаграваць непатрэбную к часу спрэчнасьць інтарэсаў [...] Болей таго, былі зроблены нават і лічныя выпады супроціў аднаго з прадстаўнікоў Пецербургскай арганізацыі Бел. С. Грамады»[1086]. У выніку, як сцвярджаў З. Жылуновіч, левыя дэманстрацыйна пакінулі пасяджэнне, правялі ўласную нараду і фактычна замацавалі раскол БСГ на правых (Менская арганізацыя) і левых (Петраградская і Бабруйская арганізацыі).

Падобна, што канфлікт правых і левых сапраўды меў месца на сесіі. Так, нават у ідылічнай карцінцы, намаляванай Лёсікам на старонках «Вольнай Беларусі», прыгадваюцца шматлікія галасаванні па пытанні стварэння ВБР, на першым з якіх ідэю новай арганізацыі падтрымалі толькі «ў прынцыпі». Таксама звяртае на сябе ўвагу працягласць апошняга пасяджэння, на якім адбываліся выбары Выканкама ВБР і яе камісараў. Праца распачалася а 10-й гадзіне раніцы, а скончылася а 4-й гадзіне ночы.

Размежаванне паміж найбольш радыкальнымі левымі (Нарвенская арганізацыя БСГ на чале з А. Чарвяковым і Бабруйская арганізацыя на чале з Ф. Шантырам) і большасцю ўдзельнікаў сесіі было выразным, але раскол яшчэ не адбыўся. Аднак пасля сесіі і III з'езду БСГ Нарвенская арганізацыя выйшла з партыі і стварыла Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю, якая падтрымлівала бальшавікоў[1087].

Пра адсутнасць згоды сярод сяброў Малой Рады ВБР таксама сведчыць артыкул Лёсіка «Вялікая Беларуская Рада», апублікаваны на старонках «Вольнай Беларусі» 30 кастрычніка. Рэдактар лічыў надзвычай важным стварэнне ВБР у той момант, «калі анархія і гаспадарскае безладзе разьліліся руйнуючай навальніцай па ўсяму цэнтру расійшчыны». Ён адзначаў, што Рада была створана на прынцыпах поўнага дэмакратызму, перадачы зямлі працоўнаму народу і абароны інтарэсаў рабочых. Менавіта гэта дазваляе ёй лічыць сябе «адпаведальным кіраўніком і прэдстаўніком ўсяго беларускага руху і беларускае справы». Аднак, на думку Лёсіка, у Выканкам ВБР трапілі таксама выпадковыя людзі, «не разумеючыя вялікіх заданняў нацыанальнага адраджэння і зацікаўленыя больш дэмагогічным уплывам або ні здольныя да рэальнай палітычнай і культурнай працы». Аўтар

---

1086 Тамсама, с. 91.

1087 Ф. Турук, *Белорусское движение*…, с. 34.

заклікаў гэтыя «выпадковыя элементы» адысці, інакш «час выцісьне іх сам, як здаровы, ачуньваючы арганізм выціскае з сябе ўсё шкадлівае і нідарэчнае»[1088]. Магчыма, Лёсік меў на ўвазе тых палітычных кіраўнікоў БСГ, якія ўсё яшчэ арыентаваліся на агульнарасійскую «дэмакратыю» і не лічылі першачарговай задачай кансалідацыю ўсіх беларускіх нацыянальных сіл.

Ужо на наступны дзень гэты артыкул абмяркоўваўся на пасяджэнні Выканкама ВБР. «Вольная Беларусь» змясціла інфармацыю пра гэтае пасяджэнне за подпісам *Смутак*. Аўтар напачатку адзначыў, што толькі тры – чатыры сябры Выканкама размаўляюць па-беларуску, а некаторыя з іх нават не разумеюць важнасці беларускага друкаванага слова. Найбольш увагі ён удзяліў абмеркаванню згаданага артыкула, які выклікаў рэзкія нападкі з боку асобных сяброў Выканкама. У прыватнасці, А. Смоліч паставіў пытанне рубам: «Мы або газета?» Дыскусію перапыніў Б. Тарашкевіч, які заявіў, што ніхто не мае права судзіць газету за яе погляды і настаяў на тым, каб гэтае пытанне было знята з парадку дня[1089].

## *Перамога бальшавікоў*

Захоп бальшавікамі ўлады ў сталіцы прайшоў непрыкметна як для Менска, так і для ўсёй Расіі. Петраградская газета «Крыніца» паведаміла пра перамогу бальшавікоў толькі ў лістападзе (№ 3): «У Петраградзе бальшавікі, ня хочучы слухаць Тымчасовага Ураду, падгаварылі салдатаў і рабочых, каб яго скінуць, і скінулі. Адбылося гэта 24–25 кастрычніка. На месца Тымчасовага Ураду паставілі «Раду народных камісараў», наперадзе каторых стаіць Ульянаў-Ленін. За імі не пайшлі другія партыі. Керанскі ўцёк і ўзяўшы войска ішоў проціў іх, дзеля гэтага паўстала вялікае замяшанне, каторае невядома чым скончыцца». Таксама толькі ў лістападзе на падзеі, якія адбыліся ў ноч на 25 кастрычніка ў Петраградзе, звярнула ўвагу «Вольная Беларусь».

Бальшавікі выкарысталі сітуацыю двоеўладдзя, якая склалася яшчэ ў лютым 1917 г., і фармальна перадалі ўладу Саветам. Да таго ж, як слушна заўважыў Рычард Пайпс, яны здолелі схаваць сацыялістычную накіраванасць Кастрычніцкага пераварота. За першы тыдзень знаходжання пры ўладзе бальшавікі не выпусцілі аніводнага дакумента са словам «сацыялізм»[1090]. Іх перамозе паспрыяла падзенне аўтарытэту Часовага ўрада і самога Керанскага. Большасць насельніцтва спадзявалася на Устаноўчы Сход, выбары ў які павінны былі прайсці ў сярэдзіне лістапада.

Сябра Перадпарламента Раман Скірмунт у тыя дні якраз знаходзіўся ў Петраградзе і стаўся сведкам пераварота. Няма сумневу, што ацэнка палітыкам

---

[1088] Я. Л-к [Я. Лёсік], *Вялікая Беларуская Рада,* «Вольная Беларусь». 1917, № 27.

[1089] Смутак, *У Выканаўчым Камітэце,* «Вольная Беларусь». 1917, № 28.

[1090] Р. Пайпс, *Русская революция. Часть вторая*. Москва 1994, с. 177.

трыумфу партыі Леніна-Троцкага магла быць толькі негатыўнай. Менавіта ў дзейнасці бальшавікоў найбольш выразна праяўлялася тэндэнцыя распальвання класавай вайны з непазбежнай анархіяй і гвалтам, якія пагражалі самім асновам культуры і цывілізацыі.

Пэўную інфармацыю адносна пазіцыі і настрою Скірмунта даносяць успаміны Ежы Асмалоўскага. На пачатку кастрычніка 1917 г. ён быў камандзіраваны ў штаб Петраградскай вайсковай акругі. Асмалоўскі вітаў рэвалюцыйныя падзеі вясны 1917 г. і падтрымліваў дэмакратычныя перамены ў войску. У Петраградзе ён пасяліўся ў гатэлі «Еўрапейскі» і сустрэў там Рамана Скірмунта.

22 кастрычніка яны разам вячэралі ў рэстаране. Паводле ўспамінаў Асмалоўскага, Скірмунт распавядаў пра працу Перадпарламента, крытычна ацэньваў А. Керанскага і з павагай выказваўся пра дзейнасць былога старшыні IV Дзяржаўнай Думы М. Радзянкі, характарызаваў кадэтаў як «дактрынёраў» і выказваў занепакоенасць становішчам Краю, пад якім разумеў Менскую губ. Асмалоўскі зрабіў выснову, што суразмоўца пастаянна атрымліваў інфармацыю пра сітуацыю ў Менску. Скірмунт быў пэўны, што выбары ва Устаноўчы Сход забяспечаць перамогу левым эсэрам альбо бальшавікам.

Асмалоўскі таксама адзначыў пэўныя спадзевы свайго суразмоўцы на тое, што яшчэ ёсць час спыніць небяспеку бальшавіцкага радыкалізму, што ўрад мае жаданне і магчымасці вярнуць лад і спакой у краіне, а дысцыпліну – у войску[1091].

25 кастрычніка Асмалоўскі абедаў з Раманам Скірмунтам у тым самым рэстаране. У гэты час перамога бальшавіцкага паўстання ўжо была відавочнай. Міністр-старшыня і Вярхоўны галоўнакамандуючы Керанскі выехаў на фронт. Часовы ўрад кантраляваў толькі Зімовы палац, аточаны атрадамі Чырвонай гвардыі.

Раман Скірмунт распавёў пра роспуск Перадпарламента войскамі бальшавікоў і пра дэпутацкую боязь арыштаў, якіх не было Ён пазітыўна ацаніў выезд Керанскага, сцвярджаў, што на II з'ездзе Саветаў бальшавікі будуць у меншасці, і спадзяваўся, што ўмяшальніцтва франтавых вайсковых частак за пару гадзін цалкам зменіць сітуацыю. Пры гэтым лічыў неабходным, каб урад Аляксандра Канавалава, які замяніў Керанскага, пратрымаўся да прыходу войскаў[1092]. Літаральна праз некалькі гадзін спадзевы Скірмунта зніклі разам з Часовым урадам, які быў арыштаваны ў Зімовым палацы.

Баючыся гвалту «рэвалюцыйных» салдат і матросаў, якія на вуліцах Петраграда нападалі на добра апранутых жыхароў сталіцы, Скірмунт разам з іншым былым думскім дэпутатам Яўстахам Любаньскім ноч на 27 кастрычніка правялі ў гатэльных апартаментах Асмалоўскага. Той меў тры пакоі, дзе пасяліліся таксама яго-ныя ардынарцы. Асмалоўскі сам прапанаваў Скірмунту і Любаньскаму правесці

[1091] BN. Dział mikroform, akc. 6797 J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 1 (1914–1917)*, k. 121.
[1092] Ibidem, k. 132.

ноч у сябе, гарантуючы абарону з боку сваіх салдат, якія былі настроены супраць бальшавікоў. Прапанова з удзячнасцю была прынята. Пазней Асмалоўскі прыгадваў хваляванне ардынарца Патапа Еўтуха з Піншчыны, які вельмі хваляваўся, што будзе абслугоўваць вядомага ўсяму Палессю славутага «поріцкага пана»[1093].

Скірмунт яшчэ некалькі дзён правёў у Петраградзе, хоць Асмалоўскага ён пакінуў адразу пасля таго, як той на падставе дакумента новай улады рэквізаваў апартаменты. У аўтара ўспамінаў засталося ўражанне, што Скірмунт, уражаны гэтай рэквізіцыяй, нават пазбягаў сустрэчы з ім[1094].

Пра што сведчаць пераказы Асмалоўскім двух размоў з Раманам Скірмунтам? Дзейнасць М. Радзянкі магла ацэньвацца пазітыўна як пэўная альтэрнатыва палітычнаму курсу Керанскага і ягонага ўрада, які ў кастрычніку страціў сваіх апошніх прыхільнікаў. Радзянка як кіраўнік Часовага камітэта Дзяржаўнай Думы працяглы час імкнуўся аднавіць яе дзейнасць. Не знаходзячы ў гэтым падтрымкі Часовага ўрада, ён з красавіка па жнівень 1917 г. праводзіў прыватныя нарады думскіх дэпутатаў, спрабаваў (разам з іншым лідэрам *октябристов* Аляксеем Гучковым) заснаваць Ліберально-рэспубліканскую партыю. Аднак усе яго палітычныя ініцыятывы лета-восені 1917 г. закончыліся няўдачай.

Раману Скірмунту маглі спадабацца намаганні Міхаіла Радзянкі вярнуць дзяржаўнай уладзе моц і прэстыж. Нагадаю, што яшчэ ў 1906 г., выступаючы ў Думе супраць прыняцця дэпутатамі адмысловага звароту да народу, Скірмунт заявіў, што нават збанкрутаваная ўлада будзе лепшым варыянтам, чым панаванне анархіі[1095]. Варта адзначыць, што Радзянка не належаў да той катэгорыі палітыкаў, якія казалі «Расія», а думалі толькі пра захаванне ўласных прывілеяў і маёмасці. Характэрны эпізод меў месца 27 лютага падчас ягонага выступу ў Таўрычаскім палацы перад Сямёнаўскім палком. Нехта з салдат закрычаў: «Изничтожить надо этого Родзянко!» Старшыня Думы спакойна адказаў: «Что ж, стреляйте... Отойдите, граждане...» Аднак у сваім кабінеце не вытрымаў: «Мерзавцы! Мы жизнь сыновей отдаем своих, а это хамье думает, что земли пожалеем».

Звяртае на сябе ўвагу прысутнасць Краю ў размове Асмалоўскага і Скірмунта. Менавіта Край, пад якім трэба разумець не толькі Меншчыну, але і ўсю неакупаваную нямецкім войскам Беларусь, быў у той час зыходнай кропкай разважанняў Скірмунта. Знаходзячыся ў Петраградзе, ён імкнуўся быць у курсе апошніх падзей у Беларусі і Літве. Пры гэтым, размаўляючы з адным з лідэраў польскай супольнасці Меншчыны, ён не закранаў «польскага пытання». Затое гаворка ішла пра выбары ва Устаноўчы Сход, у які імкнуліся трапіць абодва суразмоўцы. Дарэчы, Асмалоўскі быў кандыдатам № 1 у спісе Польскага выбарчага камітэта.

---

1093 Ibidem, k. 141.
1094 Ibidem, k. 137.
1095 *Стенографические отчеты. Гос. дума, 1906 год, сессия первая*. Том 2. Заседанія 19–38, с. 1964; «Kurier Litewski». 1907, Nr 151.

Пэўныя спадзяванні Скірмунта на паразу бальшавікоў, выказаныя яшчэ 25 кастрычніка, магчыма, сведчылі, што ён, як і большасць тагачаснай палітычнай эліты, не мог уявіць пераўтварэння бальшавікоў у партыю ўлады.

Скірмунт і Любаньскі вярталіся ў Менск чыгункай праз Маскву. Аднак падарожжа, якое здавалася найбольш бяспечным, насамрэч, такім не было. У Маскве ішлі вулічныя баі. Горад аказаў супраціў бальшавікам, і менчукі за пераезд з аднаго вакзала на другі заплацілі рамізніку 200 руб.[1096]

Між тым, бальшавікі, каб надаць сваім дзеянням падабенства законнасці, увечары 26 кастрычніка 1917 г. абвясцілі на II з’ездзе Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў вядомыя дэкрэты пра мір і зямлю. З’езд, на якім пасля сыходу правых эсэраў, дамінавалі прыхільнікі бальшавікоў, падтрымаў дэкрэты без абмеркавання. Быў сфарміраваны новы ўрад – Савет народных камісараў (Саўнарком) на чале з Уладзімірам Ульянавым (*Леніным*).

Тэрмін яго дзейнасці быў абмежаваны скліканнем Устаноўчага Сходу, які павінен быў пачаць працу ўжо ў лістападзе. Фактычна ў гэтыя кастрычніцкія дні бальшавікі не столькі захапілі ўладу, колькі заявілі прэтэнзіі на яе.

Планы бальшавікоў па руйнаванні старога «буржуазнага» (дэмакратычнага) ладу і пабудове сацыялістычнай дзяржавы не маглі абапірацца толькі на намаганні сяброў іх партыі. Дзеля «расчысткі тэрыторыі» неабходна было зрабіць сваімі саюзнікамі сацыяльныя нізы, рабочых і сялян, якія нічога не ведалі пра сацыялізм і, тым больш, пра дыктатуру пралетарыяту. Як заўважыў Пайпс, бальшавікі паставілі перад імі цалкам зразумелую і прывабную мэту, якую добра перадае лозунг «Рабуй нарабаванае!»[1097]

Былую імперыю фактычна аддавалі на рабаванне. Бальшавіцкі Дэкрэт пра зямлю, які перадаваў сялянскім абшчынам усе ворныя землі, выклікаў чарговы сялянскі бунт, які меў трагічныя наступствы для Беларусі. Абвешчаны «рабочы кантроль» на прадпрыемствах абярнуўся тым, што рабочыя дзялілі паміж сабою ўсе прыбыткі свайго завода. Салдаты-франтавікі рабавалі вайсковыя склады і падбухторвалі сялян прыфрантавых вёсак да рабунку памешчыцкіх маёнткаў і забойства іх уладальнікаў. Фактычна разам з паняццем прыватнай уласнасці знікалі паняцці дзяржаўнай і народнай уласнасці. Сучаснікі бачылі ў гэтым толькі бязладдзе і анархію, але, насамрэч, бальшавікі займаліся «расчысткай тэрыторыі» для ўсталявання новага палітычнага і сацыяльнага ладу[1098].

Пакуль народ рабаваў, бальшавікі на чале з Леніным і Троцкім планамерна ліквідавалі сваіх палітычных праціўнікаў. У выніку праз два тыдні пасля бальшавіцкага перавароту ў Расіі не засталося нават слядоў 12-гадовага парламентарызму. Дыктатура пралетарыята ў варыянце бальшавікоў азначала фактычнае вяр-

---

[1096] M. Kossakowski, *Diariusz. 29 kwietnia–31 grudnia 1917.* Tom 2, s. 263.

[1097] Р. Пайпс, *Русская революция. Часть вторая*, с. 184.

[1098] Там же, с. 181.

танне самаўладдзя. Дэкрэты Саўнаркома, падпісаныя Леніным, адразу набывалі моц закону.

Быццам прадчуваючы ўсё гэта, Вялікая Беларуская Рада, Цэнтральная Беларуская Вайсковая Рада, БСГ, БНПС і Беларускі Выканкам Заходняга фронту 27 кастрычніка 1917 г. выступілі з «Граматай да Беларускага Народу». Яны казалі пра неабходнасць яднання ўсіх «жывых сіл нашае Бацькаўшчыны» дзеля абароны свабоды: «У гэтыя дні нам належыць паказаць запраўды, што злучаная пакутай беларуская рэвалюцыйная дэмакратыя ні дапусьціць, каб віхор бязладу згубіў нашую сьвятую нацыянальную справу абароны вольнасьцяў і правоў Беларускага Народу. [...] Злучыцеся ў адну згодную сям'ю каля Вялікай Беларускай Рады, адкідаючы ад сябе сеючыя нізгоду поклічы і будзьце асцярожнымі ў сваіх дзеях. Толькі парадак і згоднасьць паміж усімі паможа нам утрымаць спакой у нашым краі, а еднасьць з войскам падыйме дух і злучыць увесь народ»[1099].

Цікава, што ў гэты ж дзень на старонках «Дзенніка Мінскага» быў апублікаваны артыкул яго рэдактара, які пасля аналізу сітуацыі ў Расіі і Беларусі заклікаў польскую супольнасць Меншчыны працаваць толькі дзеля Польшчы і катэгарычна заяўляў: «Нашая Айчына – гэта Польшча!»[1100] Менавіта падобныя настроі адштурхоўвалі Скірмунта ад больш цесных кантактаў з польскай грамадскасцю.

Між тым сітуацыя ў Краі станавілася сапраўды трагічнай. Ахвярамі салдацка-сялянскага бунту ўсё часцей станавіліся мясцовыя землеўладальнікі ды іх сем'і. Ініцыятарамі рабункаў ды іх найбольш актыўнымі ўдзельнікамі ў прыфрантавой паласе найчасцей былі дэзерціры. Адным з эпізодаў гэтай катастрофы быў разгром маёнтка Эдварда Вайніловіча ў Савічах у лютым 1918 г. Наогул, хваляванні і пагромы пачаліся раней, але бальшавіцкі «Дэкрэт пра зямлю» ад 26 кастрычніка 1917 г. паспрыяў іх пашырэнню і пэўнай легалізацыі. Сяляне зразумелі, што ўлада на іх баку.

Эдвард Вайніловіч успамінаў, што пасля з'яўлення гэтага Дэкрэта распачалася адкрытая экспрапрыяцыя зямлі і маёмасці памешчыкаў сялянскімі камітэтамі. Ва ўладальніка Савічаў ужо ў другой палове кастрычніка сяляне канфіскавалі ключы ад гумна ды іншых гаспадарчых будынкаў, пачалі прадаваць сабраны ўраджай, у т. л. самому былому гаспадару і г. д. Апошняе было праявай якраз добрага стаўлення. Як прыгадваў Вайніловіч, іншыя сялянскія камітэты часта не дазвалялі памешчыку і ягонай сям'і набываць зерне і малако, адмаўлялі нарыхтоўку дроў, не давалі коней для паездак. Землеўласнікі цярпелі прыніжэнне, але заставаліся на месцы, бо адчувалі, што гэта не можа цягнуцца бясконца. Калісьці запасы хлеба ды іншых прадуктаў павінны былі скончыцца. І сапраўды панаванне сялянскіх камітэтаў саступіла месца пагромам, якія, на думку Вайніловіча, залежалі не

---

[1099] *Грамата да Беларускага Народу*, «Вольная Беларусь». 1917, № 28; Ф. Турук, *Белорусское движение...*, с. 93–94.

[1100] T. J. [T. Jaworski], W *poważnej chwili*, «Dziennik Miński». 1917, Nr 99.

столькі ад багацця памешчыка і стаўлення да яго жыхароў суседняй вёскі, колькі ад настрояў вяскоўцаў ці дваровай службы і актыўнасці бальшавіцкіх агітатараў[1101]. У ролі апошніх часта выступалі дэзерціры, якія стваралі банды марадзёраў.

Маёнтак Савічы Вайніловіча быў разгромлены на пачатку лютага 1918 г. Ягоны ўладальнік пазней падрабязна прыгадваў тыя падзеі.

*ДАКУМЕНТ*

**Успаміны Эдварда Вайніловіча пра разгром маёнтка Савічы**

*6–8 лютага 1918 г.*[1102]

*Перад вячэрай мы назіралі за абозам, які рухаўся праз маёнтак вялізарнай калонай, «разбаўленай» пяхотай і некалькімі вершнікамі. Нечакана абоз спыніўся, і да яго з цемры падбегла група людзей, сяброў «камітэта». Гэта была змова наконт пагрома. Праз некалькі хвілін абоз аднавіў свой рух, а мы адчулі палёгку, не ведаючы, што ён спыніцца праз поўвярсты за паркам, у вёсцы, якая таксама называлася Савічы, і якая ніколі ні ў часы прыгону, ні ў той час, ні потым не мела ніякага дачынення да маёнтка. Пасля непрацяглай вячэры […] мы пайшлі спаць. […] Не паспелі задрамаць, як нас абудзіў стук у дзверы нашага пісара Дзмітра Шкуцько, які паведаміў, што прыйшлі тыя, хто будзе нас рабаваць.*

*Ён хутка пабег уніз, а я правёў жонку па «чорнай лесвіцы» ў сад праз бакавыя дзверы […]*

*Я выпусціў пісара з дому, мяркуючы, што, калі нападнікамі будуць не салдаты, а мясцовыя сяляне, то нічога кепскага мне не зробяць. І амаль адразу заўважыў 12–15 узброеных салдат, якія беглі да параднага ўваходу. Я выбег праз тыя ж бакавыя дзверы, праз якія толькі што вывеў жонку, і накіраваўся праз парк у бок доміка ў садзе. Яшчэ да таго, як дабег да першых дрэў, якія павінны былі схаваць мяне ад рабаўнікоў у гэтую ноч, пачуў шум, гам, выстралы, рык натоўпу, які ўварваўся ў дом. Пачаўся пагром, які потым дакаціўся да стайні і карэтнага сараю і скончыўся праз пару гадзін. Увесь гэты час, не адчуваючы марозу, я стаяў паміж ліпамі, не адводзячы вачэй ад месца, дзе схавалася мая жонка, і чуў крыкі і грукат у доме.*

*Трохі сцішылася. Я выйшаў з укрыцця і ўбачыў пісара, які папярэдзіў мяне пра з'яўленне новай групы рабаўнікоў у суправаджэнні сялян з суседніх Савічаў. Сялянам загадалі шукаць уладальніка, якога трэба пакараць. Пісар параіў мне сысці з маёнтку, што я і зрабіў. Рэшту дня і ўвесь наступны дзень да вечара я правёў у лесе, назіраючы за тым, што рабілася ў маёнтку і доме. Адтуль па-ранейшаму даносіліся выстралы, да якіх далучыліся яшчэ і нейкія выбухі. Колькасць адступаючых войск (г. зн. марадзёраў) павялічылася, вераніцы сялянскіх вазоў, дакладней, маіх уласных вазоў, захопленых дваровымі людзьмі, рухалі туды і сюды з нара-*

[1101] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 200.
[1102] Ibidem, s. 202–206.

*баванай маёмасцю. Я бачыў уганяемае быдла і коней, рабаўнікоў, якія сварыліся і біліся за здабычу.*

*Нярвовае ўзбуджанне не дазваляла замёрзнуць, нягледзячы на тое, што меў лёгкую вопратку, а быў моцны мароз. Толькі ўвечары наступнага дня я рашыўся пайсці ў суседні фальварак «Малыя Савічы», які належаў Чарноцкім. Гаспадароў там ужо не было, але там я знайшоў жонку пад апекай упраўляючага. Ноч я правёў не распранаючыся, у крэсле, у цёплым пакоі і пад дахам.*

*Пагром працягваўся яшчэ два дні, а мы ўвесь тыдзень правялі ў чужым маёнтку, не паказваючыся людзям і атрымліваючы інфармацыю ад блізкіх дваровых людзей пра тое, што мяне ўсё яшчэ шукаюць і расцягваюць рэшткі маёмасці. Толькі 13/27 лютага пасыльны паведаміў, што прыбыў нямецкі атрад, саксы, полк № 100, і мяне выклікаюць. Я паехаў і ўбачыў усю дваровую службу на ганку палаца.*

*На кампасным слупе знаходзіўся кулямёт, а побач дваіх найбольш актыўных дваровых бальшавікоў, якіх немцы збіраліся павесіць. Чалавек 20 з начальнікам хадзілі па пакоях і здзіўляліся таму спусташэнню, якое людзі іншым разам робяць бяздумна і без асаблівай патрэбы дзеля задавальнення сваіх варварскіх патрэб. Не засталося ніводнага століка, ніводнага цвіка ў сцяне, павырывалі ўсе пячныя дзверцы. Шматлікія шыбы і дзверы былі выбіты, многія вывезены. Па прычыне таго, што былі павырываны каналізацыйныя трубы была заліта вадой падлога на другім паверсе і столь на першым. А што зрабілі з архівам і бібліятэкай, якая налічвала болей за 5 000 тамоў! Усё парвана, карціны і партрэты раданачальнікаў нарэзаныя на палосы аба прастрэленыя.*

*Я прасіў саксаў не вешаць арыштаваных пры ўмове, што яны і яшчэ чатыры найбольш нядобранадзейныя сям'і з'едуць з маёнтку, што і было зроблена. Але яны пасяліліся ў суседніх вёсках на адлегласці 1–2 вёрстаў і працягвалі прапаганду.*

*Найбольш балела тое, што сярод самых злосных ворагаў былі тыя, у каго не толькі бацькі, але нават дзяды нарадзіліся і правялі ўсё жыццё ў маёнтку на службе ў маіх продкаў, унукаў якіх я дапамагаў выхоўваць. Праўда, было шмат людзей, якія засталіся мне вернымі ў самыя цяжкія часы, знаходзіліся побач і былі гатовыя падзяліць мой лёс. У першую чаргу трэба назваць сына нашага былога рамізніка, упраўляючага Дзмітра Шкуцько, эканомку, пісара, кухара і лёкая. [...] Я павінен таксама з задавальненнем адзначыць, што сяляне былой дваровай вёскі Браткова ад пачатку адмаўляліся ўдзельнічаць у пагроме і згадзіліся на гэта толькі пад пагрозай, што пры падзеле зямлі нічога не атрымаюць.*

Варта адзначыць, што для Вайніловіча і ягонай жонкі гэты пагром закончыўся не так трагічна, як для многіх іншых землеўласнікаў Менскай, Магілёўскай і Віцебскай губ. Так, паводле інфармацыі «Дзенніка Віленскага» падчас нападу сялян навакольных вёсак на маёнтак Шапялёва Дзісенскага пав. у пажары загінулі граф Мар'ян Бжастоўскі і ягоныя госці, якія спрабавалі абараняцца. У Дрысенскім пав. рабаўнікі забілі ўсю сям'ю Зайкоўскіх, на Магілёўшчыне аднаму з землеўласнікаў,

які належаў да польскай самаабароны, перад тым як забіць, зламалі рукі і ногі і г. д.[1103]

«Вольная Беларусь» паведаміла пра пагромы і рабункі маёнткаў Глінін, Зарэчча, Бараўляны, Лісін, Казіміра, Слабодка ды інш. на Барысаўшчыне, Грушына, Калюніца, Крушчына, Камокі, Нарцэвічы (графа Чапскага) на Ігуменшчыне, Парахонск (Фр. Друцкага-Любецкага): «У некаторых выпадках пагромы канчаліся гвалтоўніцтвам над гаспадарамі. Разгромы рабілі салдаты поруч з сялянамі». Камісар Слуцкага пав. Радаслаў Астроўскі пісаў пра разгром маёнткаў Малева, Альба і Робертава. Жахлівая сітуацыя склалася ў Ігуменскім і Барысаўскім пав., куды былі нават накіраваны войскі[1104].

Для Рамана Скірмунта асабліва балюча было даведацца пра пагромы маёнткаў Лунін князя Гераніма Друцкага-Любецкага на Піншчыне і Маньковічы Станіслава Радзівіла ў Столінскім пав. Разам з іх уладальнікамі ён пашыраў краёвую ідэю і працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце. Пагромы адбываліся і ў іншых мясцовасцях Палесся. Так, 31 кастрычніка Міхал Касакоўскі атрымаў ад інструктара ЦГК з Лунінца спіс разгромленых маёнткаў, сярод якіх фігуравалі Колбы Алевінскіх, Нінкавічы Тупальскіх, Вулька Цярлецкіх, Сучэ і Барова Крашэўскіх, Вешуца Нелюбовічаў, Мокра Барова Ордаў, Церабень і Чарнаў Неслухоўскіх[1105].

Падрабязныя апісанні гвалтаў і рабункаў за лістапад 1917–люты 1918 г. з боку беларускіх сялян і салдат можна знайсці на старонках газет «Дзеннік Мінскі», «Дзеннік Віленьскі» і «Вольная Беларусь». Так, у першым з іх у артыкуле «Пагромы» К. Загурскі, пераказаў абставіны пагрому сядзібы Замойскіх у Рацаве на Віцебшчыне, сведкам якога ён быў, і пералічыў іншыя вядомыя пагромы. У спісе фігуравалі маёнткі Углы, Баброва і Цімухоўка Даўнаровічаў, Трухановічы Камароўскіх, Глінішча Сушчэўскіх, Чарняўка Мацкевічаў, Александраўка Чахоўскіх, Чарнаручча, Гаўрылаўка, Янаў, Друцк, Рай і Пясэчна Шчытаў ды інш.[1106]

Напачатку снежня 1917 г. салдацкая банда паўторна напала на палац Радзівілаў у Паланечцы Навaградскага пав. Зрабавалі ўсё, што мела нейкую каштоўнасць, астатняе разбілі і спалілі. Тое ж зрабілі з домам адміністратара. Карэспандэнт «Дзенніка Мінскага», які паведаміў пра гэтае здарэнне, заўважыў, што банды салдат да гэтага часу знішчалі толькі «буржуеў», але зараз пагроза датычыць ужо сялян: «Адбываюцца забойствы, гвалт і самыя жахлівыя здзекі. Калі ўрад не ўмяшаецца, то невядома, чым гэта скончыцца»[1107]. Паводле Загурскага, Польская Рада Магілёўскай зямлі звярнулася да «главковерха» Крыленкі з патрабаваннем абараніць польскае насельніцтва ад гвалту. У адказ прыйшла тэлеграма, у якой

---

1103 *Rządy bolszewickie*, «Dziennik Wileński». 1918, Nr 68.

1104 «Вольная Беларусь». 1917, № 30.

1105 M. Kossakowski, *Diariusz. 29 kwietnia–31 grudnia 1917.* Tom 2, s. 263.

1106 K. Zagórski, *Pogromy*, «Dziennik Miński». 1917, Nr 136.

1107 «Dziennik Miński». 1917, № 134.

паведамлялася, што бальшавіцкая ўлада не будзе абараняць «буржуеў» і перашкаджаць сялянскай рэвалюцыі.

«Вольная Беларусь» паведамляла пра «віхор руйнавання» ў Віцебскай губ.: «У Гарадокскім павеці асталіся покуль што цэлымі два маёнткі. Дзіка нішчуцца нацыянальныя скарбы. Што німа як унясьці ці ўвезьці, тое нішчыцца на мейсцы; такім чынам, астаўляюць на мейсцы парэзаную жывёлу. Абразы, цяжкія шафы, камоды і др. палюцца на вогнішчах. Раскідываюць печы, падлогу і столь. Часам усе будоўлі падпаліваюцца. Здаралося, што забівалі гаспадароў, калі тыя ні пасьпелі ўцячы. Лес глуміцца да канца. Гэтыя дзікія расправы ўжо пачаліся і ў Віцебскім павеці, і німа каму бараніць»[1108].

Пісьменнік і публіцыст Змітрок Бядуля на старонках беларускай газеты заклікаў да стварэння беларускага войска, з якім ён звязваў надзею на абарону Краю ад «шалёнага віхору паўстання»: «Яго дзікае полымя ахоплівае сваімі буйнымі хвалямі ўсё большыя масы людзей. Пайшоў буяніць і разгуліваць звер. Той звер, які ў звычайным часе сядзіць глыбока захаваны ў чалавечай душы, а ў часе смут і сваволля зрываецца з ланцугоў сумлення, сораму і страху. Рабуюць і паляць маёнткі, мястэчкі і вёскі. Абдзіраюць адзін другога, рэжуць, б'юць, нішчаць здабыткі людскія, і – ратунку няма. Гэты шалёны віхор разгульвае цяпер у нашым краі. Гурт дзікіх людзей-ваўкоў, уходзячы ад фронту, рыскае па нашай зямлі і нішчыць, глуміць усё на пуці сваім, астаўляючы за сабою плач, стогны, голад, холад і руіны»[1109].

Міхал Касакоўскі назваў гэта «вайной народу супраць уласнай культуры»[1110]. Нічога не змяніў нават зварот магілёўскага арцыбіскупа Эдварда Ропа «Да майго народу каталіцкага» ад 28 лістапада 1917 г. Арцыбіскуп заклікаў супраціўляцца уплывам разбэшчанай салдатні і заставацца народам каталіцкім, справядлівым, добрых звычаяў, які памятае пра Божы суд і вечнасць. А там, дзе цэлыя парафіі «растапталі Божы закон і ўдзельнічалі ў гвалтах і рабунках», Роп забараніў спяваць падчас набажэнства і праводзіць урачыстасці ў касцёле, пакуль мясцовыя пробашчы не атрымаюць дазволу арцыбіскупа[1111].

Бальшавікі здолелі ператварыць сацыяльную напружанасць у сапраўдны пажар, у полымі якога гінула лагоднасць і памяркоўнасць беларускага сялянства, знікалі патрыярхальна-патэрналісцкія настроі мясцовых землеўладальнікаў. Да сярэдзіны лютага 1918 г. у Беларусі было знішчана каля 13 тыс. прыватных гаспадарак[1112].

---

[1108] «Вольная Беларусь». 1917, № 33.

[1109] З. Бядуля [С. Плаўнік], *Пара бараніцца*, «Вольная Беларусь». 1917, № 33.

[1110] M. Kossakowski, *Diariusz. 29 kwietnia–31 grudnia 1917.* Tom 2, s. 342.

[1111] «Dziennik Miński». 1917, Nr 132.

[1112] *Гісторыя Беларускай ССР пяці тамах.* Пад рэд.І. Ігнаценкі і інш. Том 3, Мінск 1973, с. 94.

Імкнучыся зразумець прычыны гэтай катастрофы і матывы мясцовых удзельнікаў пагрому, Вайніловіч прыгадаў палітыку расійскай дзяржавы, якая, на яго думку, на працягу чатырох пакаленняў імкнулася пасварыць маёнтак і вёску, распальвала «нацыянальна-класавую барацьбу»[1113]. Аднак варта адзначыць, што гэтыя стасункі былі далёкімі ад нармальных яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай, якую літоўскія палякі пачатку XX ст. моцна ідэалізавалі.

За тыя гады, што мінулі пасля адмены прыгону, у свядомасці сялянскай масы не адбылося кардынальных змен. Расія фактычна засталася «страной рабов, страной господ». Пасля прыходу да ўлады бальшавікоў сяляне, апранутыя ў салдацкія шынелі, адчулі поўную беспакаранасць. Не толькі ў карэннай Расіі, але і ў Беларусі адбыліся падзеі, якія моцна нагадвалі колішнія бунты рабоў. Эпоха парламентарызму аказалася занадта кароткай, каб «падданыя імператара» адчулі сябе свабоднымі грамадзянамі краіны.

Чытаючы газетную інфармацыю пра пагромы і забойствы канца 1917 – пачатку 1918 г. на тэрыторыі цэнтральнай і ўсходняй Беларусі, прыгадваюцца пушкінскія словы з аповесці «Капітанская дочка»: «Не приведи Бог видеть русский бунт – бессмысленный и беспощадный». *У* чарнавіках паэта захаваўся працяг думкі, які не трапіў у апублікаваны варыянт аповесці: «Те, которые замышляют у нас невозможные перевороты, или молоды и не знают нашего народа, или уж люди жестокосердные, коим чужая головушка полушка, да и своя шейка копейка»[1114].

Упэўнены, што гэты бунт нельга лічыць жахлівай праявай чужынскага сваволля, нейкай «расійшчынай» у айчыннай гісторыі, у якую гвалтам былі ўцягнуты беларускія сяляне. Паняцце беларускай талерантнасці, надзвычай папулярнае напачатку 1990-х гг., даўно патрабуе свайго пераасэнсавання...

Чарговы сялянскі бунт закладваў падмуркі беларускага грамадства без Скірмунтаў і Радзівілаў. Безумоўна, важную ролю адыграла бальшавіцкая агітацыя, якая прапагандавала сацыяльную нянавісць і заахвочвала да гвалтаў і забойстваў. Аднак адказнасць перад гісторыяй за здзейненыя злачынствы нясуць у першую чаргу «тутэйшыя». Тагачасныя пагромы былі выстралам ва ўласную будучыню, і менавіта беларусы найчасцей націскалі на курок. Класавая нянавісць перамагала нацыянальную ідэю і салідарнасць. Увосень 1939 г. ужо ў Заходняй Беларусі сялянскі бунт разам з рэпрэсіўным механізмам савецкай таталітарнай дзяржавы дашчэнту знішчыць апошніх беларускіх «буржуеў», адным з якіх акажацца і Раман Скірмунт...

Бальшавікі захапілі ўладу ў Менску і ва ўсходняй Беларусі ў першай палове лістапада. Паўсюдна былі створаны Ваенна-рэвалюцыйныя камітэты (ВРК), якія абапіраліся на бальшавізаваныя войскі Заходняга фронту. Узначаліў гэтую ўладу старшыня Менскага савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў Карл Ландар.

---

1113 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 205–206.

1114 А. Пушкин, *Полное собрание сочинений в 10 т.* Москва-Ленинград 1950, т. 3, с. 328.

Імкнучыся да легітымнасці сваёй улады, бальшавікі ў сярэдзіне лістапада правялі ў Менску III з'езд сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губ., з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобласці і II з'езд армій Заходняга фронту.

Ужо сама арганізацыя з'ездаў забяспечыла колькасную перавагу бальшавікоў. У выніку быў сфарміраваны Абласны выканаўчы камітэт саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (Аблвыканкамзах) на чале з М. Рагазінскім. Ён прэтэндаваў на заканадаўчую ўладу на ўсёй тэрыторыі Заходняга фронту. Выканаўчая ўлада перадавалася Савету народных камісараў Заходняй вобласці і фронту (кіраўнік К. Ландар). Пра легітымнасць улады, дзе дамінавалі вайскоўцы, казаць не даводзіцца. Ва ўмовах стыхійнай дэмабілізацыі фронту бальшавікі фактычна ажыццявілі манёўр захавання створаных імі ўладных структур шляхам іх мімікрыі пад паўнамоцнае прадстаўніцтва рабочых і сялян Беларусі[1115].

Магчыма, што перамога бальшавікоў паспрыяла перасэнсаванню Скірмунтам ролі польскага чынніка ў тагачасных падзеях. Пасля вяртання ў Менск ён прыняў удзел у з'ездзе прадстаўнікоў польскіх арганізацый Беларусі і Украіны, які праходзіў нелегальна. Скірмунт таксама ўдзельнічаў у нарадах Вайсковай камісіі з'езда, дзе гаворка ішла пра стварэнне польскага войска і пра лёс корпуса генерала Доўбар-Мусніцкага. Пасля працяглай дыскусіі яе ўдзельнікі сцвердзілі, што «польскі салдат павінен абараняць ад рабунку і гвалту польскіе грамадскіе арганізацыі, а таксама ўсіх людзей без розніцы веравызнання і нацыянальнасці, што польскае войска не павінна служыць класавым або партыйным інтарэсам, і што Крэсы павінны яго падтрымліваць маральна і матэрыяльна»[1116].

Касакоўскі, які ў сваім Дзённіку апісаў гэтую дыскусію, адзначыў адзінства ў разуменні важнасці падтрымкі польскага войска, абумоўленае станам роспачы, які запанаваў сярод землеўласнікаў. Эмацыйны запал многіх выступоўцаў ахалоджвалі толькі… лічбы. У выпадку верагоднага спынення дзяржаўнага фінансавання існуючага Польскага корпуса ўвесь фінансавы цяжар ускладаўся на Край, які пасля масавага знішчэння маёнткаў ужо не быў у стане яго вытрымаць.

13 лістапада 1917 г. Раман Скірмунт выступіў на пасяджэнні Вайсковай камісіі з'езда з прамовай, якую Касакоўскі ў Дзённіку назваў «сенсацыйнай». Прамоўца выказаў сімпатыі да Польскага корпуса і заклікаў ствараць у Краі польскае войска дзеля «выканання вялікага запавету Рэчы Паспалітай»[1117].

Праз два дні адбылася сакрэтная нарада ў ксяндза Чэслава Мірскага з удзелам Чэслава Крупскага, Эдмунда Івашкевіча, Гераніма Кяневіча, Міхала Касакоўскага і Рамана Скірмунта. Гаворка датычыла вайсковай справы. Абмяркоўваліся рэальныя крокі дапамогі Начполю і камандаванню Польскага корпуса. Удзельнікі на-

[1115] С. Рудовіч, *Час выбару*…, с. 151.
[1116] M. Kossakowski, *Diariusz. 29 kwietnia–31 grudnia 1917.* Tom 2, s. 288–290.
[1117] Ibidem, s. 294.

рады згадзіліся з першачарговай неабходнасцю аддзялення ад Расіі «абарончым мурам». Пры гэтым галоўнай задачай бліжэйшага часу абвяшчалася «паразуменне з краем». У гэтым выпадку гаворка ішла ўжо пра Польшчу. Пачатковым этапам яго дасягнення разглядалася шырокая супраца ў справе арганізацыі вяртання бежанцаў.

Паводле Касакоўскага, удзельнікі нарады дасягнулі амаль поўнай згоды. Было вырашана стварыць «пазапартыйную групу», мэтаю якой была падтрымка фарміравання і дзейнасці польскага войска на «крэсах». Раман Скірмунт пры гэтым заявіў пратэст супраць ужывання тэрміна «крэсы», падкрэсліўшы, што беларуская зямля – гэта «Край»[1118]. Аўтар Дзённіка з пэўнай іроніяй заўважыў, што асабіста ён як «недасведчаны палітык» у дадзенай сітуацыі не разумее розніцы паміж «крэсамі» і «краем». Аднак у гэтай сапраўды не істотнай для вынікаў нарады спрэчцы адлюстраваліся прынцыпова розныя погляды на будучыню беларускай зямлі. Усё ж поўнага паразумення паміж Скірмунтам і кіраўніцтвам мясцовых польскіх арганізацый не было. Цэнтрам прыцягнення для апошніх заставалася Польшча. Менавіта яна была іх «Краем». Аднак у пэўны момант інтарэсы гэтых дзеячаў і Скірмунта супалі.

19 лістапада 1917 г. Менск наведаў кіраўнік Цэнтральнага грамадзянскага камітэта Каралеўства Польскага, сябра Партыі нацыяльных дэмакратаў Уладзіслаў Грабскі. Пасля Кастрычніцкага перавароту ён выйшаў з Камісіі па ліквідацыі спраў Каралеўства Польскага, зразумеўшы немагчымасць рэалізацыі яе праграмы. Паводле Касакоўскага, у Менску ён выказваўся за ўсталяванне «тайных кантактаў» мясцовых польскіх арганізацый з Рэгенцыйнай Радай[1119]. Скірмунта на гэтую сустрэчу не запрасілі…

Чаму Раман Скірмунт у лістападзе 1917 г. пайшоў на збліжэнне з польскімі арганізацыямі? Відавочна, што ён шукаў саюзніка дзеля абароны Беларусі ад бальшавізму. У надзвычай складаны час Скірмунт працаваў на польска-беларускае паяднанне, магчыма, прыгадваючы часы Люблінскай уніі. Польска-беларускае паразуменне бачылася як адзін з перспектыўных варыянтаў абароны Краю, тым больш, што ў Беларусі знаходзіўся баяздольны Польскі корпус. Таксама варта прыгадаць краёвую ідэю, якая для Скірмунта заставалася актуальнай, і ягоныя кантакты з элітай мясцовай польскай супольнасці.

Дарэчы, патэнцыял краёвасці таксама імкнуліся выкарыстаць беларускія дзеячы Віленшчыны, якія да апошняга спадзяваліся на беларуска-літоўскае паразуменне. Яшчэ ў верасні 1917 г. сход віленскіх беларускіх арганізацый накіраваў тэлеграму ў германскі рэйхстаг, у якой выказваў надзею, што Германія дапаможа «рэалізацыі палітычных ідэалаў, падзеленага фронтам 9-мільённага белару-

[1118] Archiwum PAN. Sygn. III–4. M. Kossakowski, *Diariusz.* T. 4, s. 402.
[1119] Ibidem, s. 419.

скага народу, на падставе адзінства з этнаграфічнай Літвой і Курляндыяй»[1120]. Аднак літоўскія палітыкі цвёрда стаялі на пазіцыі ўтварэння монанацыянальнай дзяржавы ў межах «этнаграфічнай Літвы з прылеглымі тэрыторыямі» і сталіцай у Вільні. На гэтым шляху яны знайшлі падтрымку з боку германскіх улад.

Тым не менш, беларусы не саступалі. У верасні 1917 г. падчас сходу беларускіх арганізацый Вільні было прынята рашэнне аб правядзенні Беларускай канферэнцыі. На ёй павінны былі быць прадстаўленымі ўсе беларускія арганізацыі, што дзейнічалі на захад ад лініі фронту. Галоўнай мэтай прадстаўнічага сходу была каардынацыя намаганняў у справе будаўніцтва ўласнай дзяржаўнасці ў саюзе з літоўскай нацыяй. Землі ўсходняй і цэнтральнай Беларусі планавалася далучыць да гэтай «самабытнай дзяржавы»[1121].

Напрыканцы лістапада быў створаны Арганізацыйны камітэт. Яго сябры на старонках газеты «Гоман», дзе галоўную ролю адыгрывалі Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі, заявілі, што перад беларускім рухам з заходняга боку фронту стаіць двайная задача – культурна-нацыянальнае і палітыка-дзяржаўнае самавызначэнне. Галоўнай мэтай абвяшчалася стварэнне дзяржавы ў межах Беларуска-Літоўскага краю. У Камітэт, між іншым, увайшлі браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Салавей, барон Казімір Шафнагель, ксёндз Уладзіслаў Талочка, іераманах Савацій, князь В. Святаполк-Мірскі. Склад Камітэта сведчыць пра спробу арганізатараў аб’яднаць усе сацыяльныя колы беларускага грамадства.

Гэтаму павінна была спрыяць таксама публікацыя ліста Шафнагеля «Да нашай краёвай інтэлігенцыі»[1122]. Аўтар, землеўладальнік з Гарадзеншчыны пісаў пра трагізм становішча беларускага селяніна, пакінутага сваёй інтэлігенцыяй. Ён заклікаў прадстаўнікоў заможных колаў грамадства ўсвядоміць «очывістую праўду – праўду тэрытарыяльную, а хутка пэўне ўжо і праўду палітычную: што вы – грамадзяне Літвы і Беларусі, яе сыны – значыць: “літвіны” або “беларусы”». Шафнагель пераконваў: «Паварот да гэтага адвечнага самавызначэньня […], паварот згодлівы з вашым паходжэньнем і традыцыяй, ня толькі ня будзе вас ганьбіць, а наадварот, прынясе вам чэсць, бо звяжэ вас з народам, бо дасць вам аснову быту, бо вас узмацуе і падніме…»

Гэты зварот у духу краёвасці быў разлічаны на далучэнне да беларускага палітычнага руху часткі вышэйшых сацыяльных колаў мясцовага грамадства. Сярод патэнцыйных адрасатаў ён сустрэў пераважна крытычныя заўвагі. Але важна адзначыць прысутнасць у праграме віленскіх беларускіх арганізацый водгукаў колішняй краёвай ідэі. Яна зноў выкарыстоўвалася як падмурак нацыянальнага і сацыяльнага паяднання жыхароў Беларуска-Літоўскага краю.

---

1120 [L. Abramowicz], *Litwa podczas wojny: zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t.p.*, s. 128.
1121 «Гоман». 1917, № 86.
1122 «Гоман». 1917, №№ 89–91. Пазней ліст будзе выдадзены асобна на польскай мове.).

Вяртаючыся да Скірмунта, трэба адзначыць, што ягонае збліжэнне з польскімі арганізацыямі і падтрымка польскіх вайсковых частак у Беларусі зусім не азначала заканчэння ягонай беларускай дзейнасці. Міхал Касакоўскі на старонках Дзённіка працытаваў адказ аднаго з беларускіх дзеячаў (П. Алексюка?) на пытанне пра Рамана Скірмунта: «Ён для нас вельмі важны, але ён “пан”, таму мы яго пакуль “схавалі”»[1123].

Магчыма, менавіта ў гэты час Скірмунт вырашыў стаць свайго роду звязковым звяном паміж Беларуссю і Польшчай і пасправабаваць з’яднаць палітычныя намаганні эліты беларускіх палякаў і дзеячаў беларускага руху дзеля інтарэсаў Беларуска-Літоўскага краю.

Трэба адзначыць, што польскія вайскоўцы ў месцах дыслакацыі корпуса сапраўды спрабавалі абараняць сядзібы і маёнткі ад рабункаў і пагромаў. Гэта вяло да сутыкненняў з сялянскімі камітэтамі і бальшавіцкай уладай. Апошнюю найбольш абурала самастойнасць Польскага корпуса, які паспяхова пазбягаў бальшавізацыі.

Спробы правядзення бальшавіцкай агітацыі сярод салдат корпуса, абвінавачванні польскіх вайскоўцаў у гвалтах, рабунках і забойствах сялян, адмовы мясцовых «камітэтаў» дазволіць размяшчэнне частак корпуса на сваіх тэрыторыях прымусілі камандзіра 4 снежня звярнуцца да сваіх падначаленых з адмысловай заявай. Генерал Доўбар-Мусніцкі заявіў пра пагаршэнне сітуацыі вакол корпуса. Ён адкінуў абвінавачванні з боку сялянскіх камітэтаў і заявіў, што «польскі салдат занадта культурны, каб дазволіць сабе гвалт над кім-небудзь», аднак пры гэтым «ён здольны абараніць свой гонар і жыццё». Камандзір нагадаў, што корпус падпарадкоўваецца Начполю, створанаму на з’ездзе палякаў-вайскоўцаў у Петраградзе, імкнецца вярнуцца ў Польшчу як арганізаваная і дысцыплінаваная сіла, заклікаў сваіх падначаленых абараняць сябе ад умяшальніцтва чужынцаў і не ўмешвацца ў «чужыя справы»[1124].

Аднак у тагачаснай сітуацыі і з улікам рэзалюцыі нарады ад 13 лістапада 1917 г. гэта было немагчыма. Пра гэта ж сведчаць пратэсты як сялянскіх камітэтаў, так і беларускіх арганізацый.

Між тым, 21 лістапада 1917 г. у мястэчку Солы Ашмянскага пав. была падпісана дамова аб спыненні ваенных дзеянняў. Набліжэнне мірных перамоваў абвастрыла пытанне пра лёс Краю, падзеленага лініяй фронту. Яно хвалявала беларусаў з абодвух яго бакоў. Калі «заходнікі» рыхтавалі Беларускую канферэнцыю ў Вільні і спадзяваліся знайсці падтрымку з боку ўладаў Германіі, то «ўсходнікі» асноўныя надзеі звязвалі з дзейнасцю ВБР і паяднаннем розных нацыянальных і палітычных сіл на глебе агульнакраёвых інтарэсаў.

На старонках «Вольнай Беларусі» Язэп Лёсік пісаў пра важнасць «краёвага сой-

---

[1123] M. Kossakowski, *Diariusz. 29 kwietnia–31 grudnia 1917.* Tom 2, s. 306.
[1124] *Polskie siły zbrojne,* «Dziennik Miński». 1917, Nr 136.

му», які лічыў адзіным сродкам захавання «дэмакратычных заваяванняў» і абароны Краю як ад рэвалюцыйнай анархіі, так і «контррэвалюцыйнасці»: «Краёвая Беларуская Рада стала на чаргу дня і кліча на работу ўсіх, хто любіць свой край, хто жадае яму лепшай сьветлай будучыні і ні хоча загінуць у моры безладзя, калатні і занепаду»[1125].

Ідэя яднання і спадзеву на ўласныя сілы былі галоўнымі ў ягоным артыкуле «Сучасны момэнт»: «Анархічная зараза, нахлынуўшая на нас с цэнтру, ахапіла ўвесь наш край ад краю да краю. Штодня прыносяцца жахлівыя весткі, што пагромы, гвалт і руйнаваньне разліліся па ўсёй шырокай Беларусі. Панскія маёнткі, лясы, сядзібы, усё грамадзкое дабро паліцца, крышыцца, нішчыцца або псуецца на векі. Гіне скарб, пустошыцца край, гарыць народнае дабро. І хто ж дасць ратунак нам, як ні мы самі? […] На сьцені Белае Русі паўстаў покліч айчыны: Паўстаньце ўсе як адзін, ратуйце свой край ад згінення!»[1126]

Гэтыя заклікі рэдактара «Вольнай Беларусі» і аднаго з найбольш аўтарытэтных беларускіх дзеячаў цалкам адпавядалі поглядам Скірмунта. Верагодна, якраз гэтая ідэйная блізкасць і стала асновай вяртання «абшарніка» ў беларускія арганізацыі.

Язэп Лёсік таксама выказаўся наконт крытыкі беларускага Адраджэння як «польскай інтрыгі», якая нібыта падтрымліваецца коштам «тутэйшых паноў» дзеля далучэння Беларусі да Польшчы: «Чаму да Польшчы ганебна прылучацца і дзе яны (ворагі Адраджэння. – *А. С.*) чулі, што беларусы жадаюць да каганібудзь прылучацца, – яны гэтага ні тлумачаць. Ні тлумачаць яны і таго, што ў Польшчы жыве гэтакі самы працоўны народ, як і мы, – ні горшы і ні лепшы за расійцаў ці які-небудзь іншы народ. Іх гэта мала абходзе, але гадаўё гэтае добра кеміць, куды гразёю шпурляе. Яны разумеюць, што нашае сялянства, дзякуючы прыкрым гістарычным умовам, звыкло разумець пад палякамі мейсцовых паноў-перакінчыкоў, і ўсю ганьбу і злосьць да паноў-землеўласьнікаў пераносе на ўвесь польскі народ, ні ведаючы яго і абражаючы людзей саўсім ні вінаватых […] Справа тут ні ў паляках і ні ў расійцах, – ворагам нашым наогул не падабаецца рух нацыянальнага адраджэння нашага народу»[1127].

Між тым, набліжаліся выбары ва Устаноўчы Сход, якія маглі выявіць рэальную расстаноўку палітычных сіл у Беларусі. Выбары ў Менскай выбарчай акрузе, якая ўключала таксама неакупаваную частку Віленскай губ. павінны былі праходзіць 12–14 лістапада, але ў сувязі з супрацьстаяннем паміж Менскім камітэтам ратавання рэвалюцыі і бальшавіцкім ВРК адбыліся толькі 26–28 лістапада.

Выбаршчыкі павінны былі галасаваць за партыйныя спісы. Выбарчая камісія дапусціла да ўдзелу ў выбарах 11 такіх спісаў, сярод якіх варта адзначыць № 3 – Усерасійскі саюз землеўласнікаў; № 5 – блок Бунда і РСДРП (меньшавікі); № 8 –

---

1125 Я. Л-к [Я. Лёсік], *Паўстанне і нашыя заданні,* «Вольная Беларусь». 1917, № 28.

1126 Я. Л-к [Я. Лёсік], *Сучасны момэнт,* «Вольная Беларусь». 1917, № 29.

1127 Я. Л-к [Я. Лёсік], *Скуткі большэвіцкага паўстання,* «Вольная Беларусь». 1917, № 30.

Польскі выбарчы камітэт; № 9 – РСДРП (бальшавікі); № 12 – блок эсэраў і Савета сялянскіх дэпутатаў Менскай і неакупаванай часткі Віленскай губ.; № 13 – БСГ.

Раман Скірмунт прыняў актыўны ўдзел у выбарах. Ён быў «першым нумарам» у спісе кандыдатаў Усерасійскага саюза землеўласнікаў. Прысутнасць Скірмунта ў гэтым спісе была прычынай скандалу, які закончыўся ягонай адстаўкай з пасады віцэ-старшыні МТСГ. 15 кастрычніка 1917 г. на сходзе Таварыства хтосьці з яго сяброў назваў спіс кандыдатаў ад Саюза землеўласнікаў «рускім». Абураны Скірмунт ускочыў з мейсца і пабег да выступоўцы, каб яго зняважыць. Калегі не дапусцілі, а калі Скірмунт супакоіўся, то папрасіў прабачэння ў залы за свой учынак і падаў у адстаўку з пасады віцэ-старшыні[1128].

Увосень 1917 г. менавіта гэты Саюз стаў для Скірмунта адзінай пляцоўкай, якая стварала магчымасць трапіць ва Устаноўчы Сход. Зрэшты, з улікам папулярнасці сацыялістычнай ідэі і дамінавання левых партый і арганізацый гэтая магчымасць была чыста тэарэтычнай.

Зыходзячы з імкнення палітыка да кансалідацыі розных палітычных сіл, можна выказаць меркаванне, што ў МТСГ і Саюзе землеўласнікаў ён бачыў уплывовыя арганізацыі, здольныя адстойваць інтарэсы Краю. Скірмунт быццам уласнай асобай імкнуўся з'яднаць вельмі розныя палітычныя і нацыянальныя сілы.

Захаваныя архіўныя матэрыялы сведчаць, што Саюз землеўласнікаў у Менску не меў вялікага кадравага патэнцыялу. У параўнанні з іншымі «кандыдацкімі спісамі» Менскай акруговай камісіі сярод архіўных матэрыялаў спіса № 3 не захавалася ні зваротаў і абвестак, ні пераліку назіральнікаў[1129].

Аналіз іншых кандыдатаў спіса № 3 сведчыць пра дамінаванне ў ім дробных землеўласнікаў[1130]. Чацвёра (з дванацаці) кандытатаў пражывалі на хутарах, яшчэ двое – у мястэчку і фальварку. Апрача Скірмунта вядомым палітыкам быў землеўласнік і дэпутат IV Дзяржаўнай Думы (Прагрэсіўны блок) Міхаіл Варанцоў-Вельямінаў, які актыўна працаваў у Саюзе земстваў, а пасля Лютаўскай рэвалюцыі выконваў абавязкі камісара Часовага ўрада ў Бабруйскім пав.

Наогул, вядомыя сваёй палітычнай і гаспадарчай дзейнасцю землеўласнікі ў спісах кандыдатаў Менскай выбарчай акругі адсутнічалі. Іх не было ні ў спісе партыі кадэтаў, ні ў пераліку кандыдатаў Польскага выбарчага камітэта. Апошні ўзначаліў Ежы Асмалоўскі. Таксама ў гэтым спісе фігуравалі адвакат Э. Івашкевіч, ксёндз С. Мацэевіч, К. Дзямідэцкі-Дзямідовіч ды інш.

«Першым нумарам» спіса БСГ стаў Аляксандр Прушынскі. Таксама ў яго

---

1128 M. Kossakowski, *Diariusz. 29 kwietnia–31 grudnia 1917.* Tom 2, s. 229.

1129 НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 737, арк. 22.

1130 А. Воробьев, *Выборы в Учредительное собрание на территории северо-западных губерний России (Витебской, Минской, Могилёвской, Псковской и Смоленской)*. Могилёв 2013, с. 35.



Таварышы і грамадзяне!

На выбарах да Устаноўчага Сойму па Міншчыні

№ 13. галасуйце за сьпісак № 13.

Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

Сацыялістычная грамада выстаўляе гэтакіх кандыдатаў:

1] Прушынскі Александр Владзіміраў,—беларускі паэт, адбыў 9 год ссылкі за зямлю і волю народа. [Мінск, 2-я Мікалаеўск, 6].

2] Петроўскі Базыль Петраў [Масква, Переведзероўка, 12].—Работнік і літаратор. Родам с Капыля.

3] Лёсік Язэп Юркаў, [Мінск, Захараўск., 18].

4] Жылуновіч Змітрук Тодароў, [Петроград, Знаменская, 36-54.] Работнік, канторшчык. Беларускі пісьменнік. Родам с Капыля.

5] Міхайлоўскі-Рак Сымон Александраў, салдат, X арміі, вучыцель.

6] Мамонька Язэп Алексееў, салдат, XII арміі. Родам са Случчыны.

7] Тарашкевіч Броніслаў Адамаў, [Петроград, Знаменская 36-54] Сын селяніна с-пад Вільні, кандыдат філолёгіі.

8] Турук Тодар Тодароў, [Масква, Б. Лубянка, Зраценск., 6]. Вучыцель Мінскай гімназіі. Родам з Навагрудчыны.

9] Адамовіч Вячаслаў Антонаў. [Мінск, Міхайлоўская, 21]. Даўнейшы рэдактар «Северо-Запад. Телеграфа».

10] Бадунова Палагея Александроўна [Мінск, Захароўск., 18] народн. вучыц.

11] Міцкевіч Канстантын Міхалаў [Якуб Колас] Відомы паэт Беларусі з Міхалаўшчыны. Мінскага пав. падпаручык 292 Александ. полку.

12] Остроўскі Радаслаў Казіміраў, Слуцк, Камісарыят. Вучыцель с Случчыны беларускі прапаўшчык.

13] Смоліч Аркадзі Антонаў, агроном, родам з Бабруйскага павету, беларускі дзеяч.

*Зварот БСГ да выбаршчыкаў ва Устаноўчы Сход на старонках «Вольнай Беларусі» (лістапад 1917 г.).*

ўвайшлі Я. Лёсік, З. Жылуновіч, С. Рак-Міхайлоўскі, Б. Тарашкевіч, В. Адамовіч, А. Смоліч ды інш.

Напярэдадні выбараў заключылі пагадненне і ўтварылі выбарчыя блокі эсэры (№ 12) з бундаўцамі і меньшавікамі (№ 5), Аб'яднаная габрэйская сацыялістычная рабочая партыя (№ 1) і «Паалей-Цыён» (№ 10), а таксама Польскі выбарчы камітэт (№ 8) і Саюз землеўласнікаў (№ 3). Відавочна, што ў апошнім пагадненні важную ролю адыграла менавіта асоба Рамана Скірмунта.

Якімі былі вынікі выбараў? Гісторык Аляксандр Вараб'ёў у манаграфіі, прысвечанай выбарам, сцвердзіў адсутнасць поўных дадзеных па Менскай выбарчай акрузе, што можа сведчыць пра пэўныя бальшавіцкія маніпуляцыі, накіраваныя на тое, каб схаваць рэальную карціну выбараў[1131].

Паводле дадзеных, агучаных Менскай акруговай выбарчай камісіяй, усяго ў акрузе прагаласавала 917 248 выбаршчыкаў. Перамаглі бальшавікі, які атрымалі 579 тыс. галасоў (63,1 %). Рашаючую ролю адыграла падтрымка вайскоўцаў Заходняга фронту, а таксама блокавае пагадненне бальшавікоў з Сацыялдэмакратыяй Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ), ППС-левіцай і Латышскай сацыял-дэмакратыяй. Другімі былі эсэры разам з бундаўцамі і меньшавікамі (198 тыс.). За спіс кандыдатаў блока Польскага выбарчага камітэта і Саюза землеўласнікаў прагаласавала трохі болей за 40 тыс. выбаршчыкаў (4,4 %). БСГ атрымала толькі 3 тыс. галасоў (0,3 %). Гэта быў найгоршы паказчык, бо нават за спіс Саюза землеўласнікаў прагаласавала 3 465 выбаршчыкаў (0,4 %)[1132]. Паводле інфармацыі газеты «Вольная Беларусь» у Менску за Саюз землеўласнікаў прагаласавала толькі 55 выбаршчыкаў, за БСГ – 161, а за польскі спіс – 4 261. Усяго ў галасаванні ўдзельнічаў 35 651 выбаршчык[1133].

---

[1131] Там же, с. 42.
[1132] Там же, с. 42–43.
[1133] «Вольная Беларусь». 1917, № 33.

Усяго ў трох беларускіх акругах (Магілёўскай, Менскай і Віцебскай) і Заходнім фронце беларускія партыі і аб'яднанні атрымалі толькі каля 19 тыс. галасоў (1 614 тыс.)[1134]. Гэта быў моцны ўдар па прэстыжы беларускага руху.

Аналізуючы прычыны беларускай няўдачы, С. Рудовіч звярнуў увагу не толькі на гіпноз шматлікіх бальшавіцкіх абяцанняў, але таксама на палітычную нявопытнасць, узаемныя супярэчнасці і арганізацыйную раз'яднанасць беларускага руху. Але галоўнай прычынай было тое, што беларуская ідэя знаходзіла значна больш актыўную падтрымку сярод бежанцаў за межамі Беларусі, чым на яе тэрыторыі. Апрача таго, значную ролю адыграла пераарыентацыя дзеячаў на беларускі Устаноўчы Сход[1135].

Параза Саюза землеўласнікаў таксама была заканамернай, а вось Польскі выбарчы камітэт мог разлічваць на значна лепшы вынік. Але, падобна, што і ў асяродку мясцовых палякаў сацыяльныя інтарэсы аказаліся больш зразумелымі для выбаршчыкаў, чым нацыянальная ідэя.

## *Усебеларускі з'езд*

Перамога бальшавікоў, якая суправаджалася руйнаваннем маёнткаў і сядзібаў, расправамі з палітычнымі апанентамі, а таксама мірныя перамовы, што распачаліся ў Берасці паставілі на парадак дня беларускага руху пытанне пра дзяржаўна-палітычнае вызначэнне. Ужо ў сярэдзіне лістапада была агучана ініцыятыва склікання Усебеларускага з'езда. Як паказалі даследаванні С. Рудовіча, амаль адначасова пра неабходнасць агульнанацыянальнага форуму заявілі Вялікая Беларуская Рада ў Менску і Беларускі абласны камітэт (БАК), у якім дамінавалі прарасійскі настроеныя дзеячы ў Петраградзе. Незалежна ад іх з гэтай ідэяй таксама выступіла Беларуская Народная Грамада (БНГ) у Маскве і Краёвае арганізацыйнае бюро (Менск). Апошняе ўзнікла ў сярэдзіне лістапада і складалася з прадстаўнікоў Савета сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губ., Саюза настаўнікаў, Саюза паштовых служачых і г. д. Паводле Прушынскага, Бюро рэпрэзентавала «правыя і масквафільскія элементы»[1136].

Несуцяшальныя вынікі выбараў ва Устаноўчы сход прымусілі беларускіх палітыкаў прыспешыць арганізацыйную працу. Яна адбывалася ва ўмовах выразнай канфрантацыі паміж беларускім рухам і бальшавіцкай уладай у Менску, якая ў беларускім Адраджэнні бачыла пагрозу ўласнаму панаванню.

30 лістапада 1917 г. на старонках «Вольнай Беларусі» з'явілася абвестка пра Усебеларускі з'езд.

---

[1134] С. Рудовіч, *Час выбару…*, с. 163.
[1135] Тамсама, с. 162–163.
[1136] С. Рудовіч, *Час выбару…*, с. 167–168.

***ДАКУМЕНТ***

## УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД[1137]

*Спаўняючы волю беларускіх з'ездаў ваенна-служачых Заходняга фронту і беларускіх палітычных арганізацый, Выканаўчы Камітэт Вялікай Беларускай Рады назначае на 5 сьнежня 1917 году агульны беларускі з'езд у г. Мінску. Гэты з'езд павінен выказаць волю народу беларускага, які ні можэ і ні хочэ далей нідбала глядзець на сваю долю у цяперашні грозны і адпаведны момант. З'езд павінен абсудзіць і развважыць справы аб арганізацыі самаабароны абездоленаго беларускаго народу. З'езд павінен стварыць усімі прызнаную дэмакратычную беларускую краёвую ўласьць, якая патрапіць выкіраваць народ беларускі на сьветлы шлях будучыны, які дасьць народу зямлю, волю і мір унутры краю і за яго межамі.*

*Парадак дня павінен быць такі:*

*1) Міжнароднае становішчо Беларусі (вайна і мір)*

*2) Зямельная справа*

*3) Які мае быць палітычны лад на Беларусі*

*4) Стварэньне органу Краёвай уласьці.*

Аднак адкрыццё з'езда затрымалася. Не ўсе дэлегаты здолелі прыбыць у Менск 5 снежня, тым больш, што БАК настойваў на адкрыцці з'езда 15 снежня. Урэшце пасля доўгіх спрэчак урачыстае адкрыццё адбылося 7 снежня 1917 г. у будынку Менскага гарадскога тэатра.

Падрабязнае апісанне дзейнасці Усебеларускага з'езда не ўваходзіць у намеры аўтара, тым больш што гэтаму форуму прысвечана багатая гістарычная літаратура. Яна ўключае даследаванні беларускіх гісторыкаў, пачынаючы ад кнігі Фёдара Турука «Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов» (Москва, 1921) і заканчваючы працамі С. Рудовіча, С. Хоміча ды інш. Таксама апублікаваны ўспаміны ўдзельнікаў з'езда (В. Захаркі, К. Езавітава, М. Касцевіча, А. Цвікевіча ды інш.) і гістарычныя дакументы. Сярод апошніх варта адзначыць падрыхтаваную да друку Віталем Скалабанам падрабязную справаздачу з працы з'езда Яўгена Ярушэвіча (1993)[1138], а таксама публікацыю пратаколаў, выяўленых Сяргеем Шупам у Цэнтральным Дзяржаўным архіве Літвы (1998)[1139].

Амаль тыдзень удзельнікі з'езда інтэнсіўна працавалі ў секцыях і камісіях.

---

[1137] «Вольная Беларусь». 1917, № 32.

[1138] *Усебеларускі з'езд 1917 года: сведчанні сучасніка* (прадмова і публікацыя В. Скалабана), «Беларускі гістарычны часопіс». 1993, № 1, с. 62–69; № 2, с. 46–55; № 3, с. 61–69; № 4, с. 50–62; *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Укладанне, падрыхтоўка тэксту, уступны артыкул, каментары, пераклады, паказальнікі, кампутарны набор, макет С. Шупы. Том 1, кніга 1. Вільня, Нью-Ёрк, Менск, Прага 1998, с. 15–38.

[1139] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 19–38.

Увесь гэты час у Менск прыбывалі новыя групы дэлегатаў, якія далучаліся да ягонай працы. Паводле дадзеных прэзідыума і Мандатнай камісіі, у працы з'езда ўдзельнічала 1 872 дэлегаты, у т. л. 1 167 – з правам вырашальнага «голасу» і 705 – з правам дарадчага[1140]. Ці быў сярод іх Раман Скірмунт? Цяжка ўявіць, каб, знаходзячыся ў Менску, ён мог праігнараваць вялікі беларускі форум, які разглядаў надзвычай важныя праблемы і вызначаў будучыню Краю. Пра ягоны ўдзел у працы з'езду заявіла падчас інтэрв'ю (2008) дачка Людвікі Сівіцкай Галіна Антонаўна Войцік. Пры гэтым яна спаслалася на вусныя ўспаміны маці[1141].

Гіпатэтычна Скірмунт мог прысутнічаць на з'ездзе як дэлегат БНПС, якая таксама была на ім прадстаўлена. Дарэчы, паводле справаздачы Я. Ярушэвіча, вельмі актыўную ролю ў працы з'езду адыгрываў Павел Аляксюк, які на працягу ўсяго 1917 г. дзейнічаў поруч з колішнім кіраўніком БНК. Ён нават быў абраны ў Раду старэйшын з'езда. Таксама ў справаздачы і пратаколах згадваюцца імёны іншых дзеячаў з блізкага атачэння Скірмунта, якія ў гэты час у пэўным сэнсе працавалі ў яго «камандзе». Гэта Аляксандр Уласаў, сябра абноўленай Рады старэйшын Аляксандр Прушынскі, генерал Кіпрыян Кандратовіч і Язэп Сушынскі. Усе яны былі прыхільнікамі абвяшчэння Беларускай рэспублікі.

Аднак ніводны з вядомых даследчыкам дакументаў працы Усебеларускага з'езда не ўтрымлівае імя Скірмунта. Пётр Крэчэўскі ў грунтоўным нарысе «Кто был на 1-м Всебелоруском съезде» сцвярджаў ягоны беларускі і народны характар і згадаў толькі пра аднаго памешчыка, менавіта «старого белорусского деятеля Бонч-Осмоловского»[1142]. Таксама імя Скірмунта не згадвалася ў даследаваннях такіх грунтоўных знаўцаў гэтага пытання як Віталь Скалабан і Станіслаў Рудовіч.

Відавочна, што бальшавіцкае панаванне ў Менску, рэпрэсіі супраць «буржуеў», не спрыялі публічнаму характару яго дзейнасці. Даводзілася хавацца. Іншая справа, што ён, безумоўна, ведаў пра тое, што адбывалася на менскім форуме. Апрача пытанняў пра дзяржаўна-палітычную будучыню Беларусі і зямельную рэформу Рамана Скірмунта павінны былі цікавіць праблемы міжнацыянальнага сужыцця і асабліва беларуска-польскіх дачыненняў.

Якім было стаўленне да Усебеларускага з'езда палітычна актыўнай часткі мясцовай польскай супольнасці? «Дзеннік Мінскі» прывітаў Усебеларускі з'езд і пажадаў ягоным удзельнікам плённых нарадаў. Пры гэтым выказваліся спадзевы, што «карэнныя жыхары краю, разважаючы пра закон, справядлівасць і самавызначэнне, не забудуць пра нашую [польскую – *А. С.*] культуру і нацыянальную адметнасць і вызначаць належнае нам месца ў згодным сужыцці ўсіх народаў»[1143].

---

1140 *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII–пачатку XXI ст.*, с. 342.

1141 Інтэрв'ю з Галінай Войцік захоўваецца ў асабістым архіве аўтара, а таксама на сайце он-лайн праекта «Беларускі архіў вуснай гісторыі».

1142 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 6, арк. 13–13 адв.

1143 «Dziennik Miński». 1917, Nr 135.

7 снежня з прывітальнай прамовай выступіў прадстаўнік Польскага дэмакратычнага саюза сябра ППС Гнаінскі, які прыгадаў доўгія гады здзекаў расійскай улады над беларусамі і палякамі і пажадаў беларусам быць поўнымі гаспадарамі ў сваім краі[1144]. Ягоны выступ сустрэлі бурнымі апладысментамі.

8 снежня ўдзельнікаў форума віталі прадстаўнік Вярхоўнага польскага ваеннага камітэта прапаршчык Солтык, які пажадаў росквіту вольнай Беларусі, і дэлегат польскіх вайскоўцаў Заходняга фронту. Апошні сцвердзіў супадзенне польскіх і беларускіх інтарэсаў і выказаў надзею на добрасуседскія адносіны паміж народамі, а таксама на тое, што ў Беларусі будзе гарантавана поўная свабода развіцця польскай супольнасці[1145]. Тамаш Грыб у адказ заявіў пра намер беларусаў такім чынам уладкаваць жыццё, каб усім было «вольна і добра». «Наш ідэал, – казаў адзін з лідэраў беларускіх эсэраў, – свабода, роўнасць, братэрства. Верым, што польская дэмакратыя хоча таго ж […] Няхай жыве Польская дэмакратычная рэспубліка!»[1146]

Аднак за афіцыйнымі рэверансамі ў бок беларусаў хавалася насцярожанасць, з якой эліта мясцовай польскай супольнасці назірала за Усебеларускім з'ездам. 9 снежня 1917 г. Касакоўскі ў Дзённіку распавёў пра сход ПРМЗ, на якім абмяркоўваліся адносіны да з'езда. Яго ўдзельнікі крытычна ацанілі ягоны пачатак, калі чуліся толькі сацыялістычныя лозунгі на рускай мове і адчуваўся антыпольскі настрой. Паступова, паводле іх назіранняў, пачала дамінаваць беларуская мова і змяніўся настрой, бо на палякаў пачалі глядзець як на верагодных саюзнікаў. У прынятай рэзалюцыі ПРМЗ пераважала пазіцыя чакання[1147].

Дарэчы, у тым жа дзённікавым запісе Касакоўскі заўважыў, што апладысменты, якімі дэлегаты сустрэлі і праводзілі Гнаінскага, былі звязаныя з той паслугай, якую польскія сацыялісты аказалі з'езду. Польскі дзеяч сцвярджаў, што ў рукі сяброў Начполя трапіла тэлеграма аднаго з кіраўнікоў Аблвыканкамзаха Аляксандра Мяснікова, у якой той выказваўся за разгон беларускага форума. Палякі паспяшаліся папярэдзіць беларусаў. Гэтая інфармацыя заслугоўвае ўвагі, улічваючы добрую абазнанасць Касакоўскага ў справах, якія датычылі польска-беларускіх стасункаў. Магчыма, планы разгону з'езда існавалі ў Аблвыканкамзаху з моманту яго адкрыцця.

Стаўленне эліты польскай супольнасці да беларускага форума таксама адлюстравалася ў артыкуле *Беларускі з'езд у Менску*, апублікаваным у «Дзенніку мінскім» 24 снежня за подпісам *К. Р.* Аўтар засяродзіўся на стаўленні з'езда да

---

1144 *Усебеларускі з'езд 1917 года: сведчанні сучасніка,* «Беларускі гістарычны часопіс». 1993, № 2, с. 49.

1145 Тамсама, с. 50–51.

1146 *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 31; ЦДАЛ. Ф. 582, воп. 1, спр. 1.

1147 M. Kossakowski, *Diariusz. 29 kwietnia–31 grudnia 1917.* Tom 2, s. 362.

Польшчы і палякаў. Ён ацэньваў яго даволі крытычна, адзначыўшы, што ў прамовах такіх лідэраў беларускага руху як прафесар Я. Карскі, ксёндз В. Гадлеўскі, А. Данілевіч, а таксама «прарока з Палестыны спадара Кантара» (Я. Канчар?) адчувалася імкненне да вяртання колішняй русіфікацыйнай палітыкі ў дачыненні да палякаў. Большасць вясковых удзельнікаў з'езда, паводле *К. Р.*, былі далёкімі ад разумення нацыянальных інтарэсаў і цікавіліся выключна тым, як забраць памешчыцкія землі. Шмат увагі аўтар удзяліў таксама намаганням бальшавікоў, якія праз сваіх пасланцаў імкнуліся расколоць і сарваць з'езд. Калі ж гэтага зрабіць не атрымалася, яны разагналі яго з дапамогай войск.

Аднак заканчэнне артыкула было цалкам пазітыўным. Аўтар вітаў пачатак беларускага Адраджэння (менавіта так ён разумеў сэнс форума) і сцвярджаў, што пасля вырашэння аграрнай праблемы беларусы перастануць баяцца палякаў і адчуюць неабходнасць згоднага сужыцця з заходнім суседам[1148].

Польская тэма даволі часта ўздымалася на з'ездзе. Звычайна яе закранаді, згадваючы пра знаходжанне ў Беларусі Польскага корпуса, а таксама сцвярджаючы існаванне польскіх планаў анексіі Беларусі. Справаздача Ярушэвіча дазваляе сцвярджаць, што гэтая антыпольская заклапочанасць асабліва ўзрасла ў апошнія дні з'езда пасля прыезду ў Менск дэлегацыі БАК. Менавіта яго прадстаўнікі Я. Канчар, А. Вазіла і М. Гольман найчасцей казалі пра пагрозу з боку Польшчы. Так, Канчар заявіў, што «поляки-империалисты стремятся к воссозданию Польши. […] Польские легионы распределены по Белоруссии. Говорят о Белоруссии как о землях, являющихся достоянием польского государства»[1149]. Ва ўнісон выступалі прадстаўнікі радыкальнай «Левай фракцыі», у прыватнасці, У. Фальскі. На з'ездзе нехта распаўсюджваў чуткі, што на савецка-германскіх перамовах у Берасці «адзін з бакоў» прапанаваў далучыць Беларусь да Польшчы.

Трэба адзначыць, што рэцыдывы палонафобіі, якая працяглы час насаджалася царызмам, былі характэрнай з'явай для беларускага руху ў 1917–1918 гг. У гэты час пастулаты і стэрэатыпы заходнерусізму былі даволі папулярнымі. Прадстаўнікі больш памяркоўнага Блока сацыялістаў і беспартыйных, аснову якога складалі сябры ВБР і ЦБВР, спрабавалі парыраваць гэтыя антыпольскія выпады. Так, Макар Касцевіч заявіў, што не хоча кідаць бруд ва ўвесь польскі народ[1150]. Алесь Бурбіс пратэставаў супраць абвінавачванняў, якія гучалі ў кулуарах з'езда, што ўвесь беларускі рух інспіраваны «польскімі панамі»[1151].

З'езд паказаў дамінаванне ў беларускім руху прыхільнікаў сацыялістычнай ідэі і савецкай улады. Партыйная дыферэнцыяцыя яго ўдзельнікаў не адыгрыва-

---

1148 K. P. [K. Próchnik?], *Zjazd białoruski w Mińsku*, «Dziennik Miński». 1917, Nr 147.

1149 *Усебеларускіз'езд 1917 года: сведчанні сучасніка,* «Беларускі гістарычны часопіс». 1993, № 3, с. 68.

1150 Тамсама. № 4, с. 54.

1151 Тамсама, с. 53.

ла істотнай ролі. У выступе Канчара нават прагучала: «У нас буржуазии нет»[1152]. Ён жа ў перадапошні дзень заявіў: «Мы отвергаем какое бы то ни было соглашательство с буржуазияй»[1153]. Сапраўды, кансерватыўная плынь беларускага руху на з'ездзе ніяк сябе не праявіла. З'езд адбываўся ў момант панавання ў грамадстве сацыялістычнай ідэі і не было магчымасці супрацьстаяць ёй на ўсебеларускім форуме. Скірмунту заставалася толькі назіраць за ходам падзей.

14 снежня арганізацыйныя пытанні былі вырашаны, і з'езд перайшоў да абмеркавання найбольш важных палітычных і сацыяльных праблем. Дэпутаты заслухалі інфармацыю тагачаснага старшыні з'езда К. Савіча пра змест тэлефоннай размовы з наркомам па нацыянальных справах Сталіным, якая датычыла лёсу Беларусі і Берасцейскіх мірных перамоў. Апошні паабяцаў, што «Савет Народных камісараў будзе абараняць інтарэсы працоўных мас Беларусі ўсімі сродкамі»[1154]. Тым не менш шматлікія прамоўцы патрабавалі дабівацца ўдзелу беларусаў у перамовах.

Найбольш вострыя спрэчкі і дыскусіі датычылі будучыні Беларусі. С. Рудовіч убачыў у гэтым праяву пэўнага «цывілізацыйнага разлому» беларускай супольнасці «на носьбітаў расійска-праваслаўнага сацыякультурнага кода – прыхільнікаў далейшага дрэйфу Беларусі на ўсход у складзе шматнацыянальнай супердзяржавы анахранічнага імперскага тыпу, і тых, чыя ментальнасць заставалася адкрытай каштоўнасцям заходняй еўрапейскай цывілізацыі з шанаваным там ідэалам нацыі-дзяржавы»[1155].

Трэба прызнаць, што прыхільнікі незалежнасці на гэтым з'ездзе не мелі шансаў. Фактычна гаворка вялася пра розныя ступені самастойнасці Беларусі ў межах федэратыўнай і дэмакратычнай Расіі. Вось як пазней характарызаваў сітуацыю А. Цвікевіч: «На Ўсебеларускім Зьезьдзе думка аб незалежнасьці Беларусі не мела суспеху: агульна лунала па ўсіх сходах і камісіях толькі формула «федаратыўнай Расіі», прычым Беларусь мысьлілася як частка яе. Прынцып федарацыі мала каму быў ведам, але спрэчацца з ім значыла наражацца на непрыемнасьці. Нязнайства федэратыўнай сістэмы было нагэтулькі вялікае, што прапазыцыя назваць Беларусь рэспублікай, хоць бы і ў складзе Расійскай федарацыі, выклікала сярод дэпутатаў абураньня, супярэчкі і варожыя адносіны. Трэба адзначыць, што супраць гэтае прапазыцыі найбольш былі настрояны прадстаўнікі валасных земстваў, вёскі і наагул сялянскія дэпутаты, палітычна мала сьвядомыя і знайходзіўшыяся пад уплывам расійскіх эс.-эраў. Што датычэ прэдстаўнікоў ад войска, дык яны, як больш маладыя, сьвядомыя і рэвалюцыйныя, супроць формулы «Беларуская рэспубліка» нічога не мелі, а некаторыя групы сярод іх зусім ясна вычувалі дум-

[1152] Тамсама. № 3, с. 68.
[1153] Тамсама. № 4, с. 52.
[1154] Тамсама. № 3, с. 66.
[1155] С. Рудовіч, *Час выбару…*, с. 182.

ку аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Усё-ж большасьць гэтага кроку баялася, баялася, каб падобным крокам не пашкодзіць "адзінаму фронту расійскай рэвалюцыі"»[1156].

На пазіцыю многіх дэпутатаў уплываў фактар мірных перамоў у Берасці. Менавіта там вырашаўся лёс падзеленай фронтам Беларусі. Выбар аўтаноміі ў межах Расіі ствараў ілюзію, што савецкая дэлегацыя сапраўды будзе абараняць інтарэсы Беларусі і не будзе гандляваць яе зямлёй дзеля падпісання мірнай дамовы.

Як вядома, пасля доўгіх спрэчак быў знойдзены кампраміс. У выніковай рэзалюцыі адсутнічаў тэрмін «Беларуская рэспубліка», але сцвярджалася ўстанаўленне «дэмакратычнага рэспубліканскага ладу ў межах Беларускай зямлі». Гэтая «зямля» заставалася часткай федэратыўнай Расіі. Больш важным было прыняцце рашэння пра стварэнне органа краёвай улады, менавіта «Усебеларускай Рады сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў», якая часова (да Беларускага Устаноўчага Сходу) павінна была кіраваць Краем і наладжваць адносіны з цэнтральнай уладай[1157]. Як сведчаць апублікаваныя матэрыялы, гэтае рашэнне было аднадушным.

Фактычна перамагла ідэя аўтаноміі, за якую Раман Скірмунт змагаўся яшчэ ўвесну 1917 г., але наўрад ці ён радаваўся гэтай перамозе напрыканцы года. Зрэшты, радасць удзельнікаў з'езда была непрацяглай. Яны здолелі прагаласаваць толькі за першы пункт рэзалюцыі. Аблвыканкамзах выкарыстаў салдат 1 Рэвалюцыйнага палка для разгону ўсебеларускага форума. Кіравалі разгонам камісары Крывашэін, Рэзаўскі і Рамнёў.

*ДАКУМЕНТ*

**З успамінаў Макара Касцевіча. 1937 г.**[1158]

*Страшэнны гоман і мітусьня... Улавіўшы мамэнцік некаторай цішыні, Рэзаўскі абвяшчае Зьезд распушчаным, а Прэзідыум яго арыштаваным... Матрос Муха голасна пратэстуе і заяўляе, што ён больш не камісар апекі... Тымчасам урываюцца ў залу ўзброеныя салдаты Рамнёва і, разыходзячыся направа і налева, стараюцца ахапіць Зьезд. Дэлегаты супраціўляюцца, настаўляючы грудзі, іншыя пасярэдзіне грымяць крэсламі, барыкадаю адгароджваючы Прэзідыум. Калёнаю ў два рады салдаты ўціскаюцца ў сярэдзіну Зьезду. Дайшоўшы да барыкадаў, Рамнёў вымае з похвы рэвальвер, паднімае ўгару і колькі разоў націскае цынгель... Але стрэлу не чутно... Пара трусьлівых сьвітак бяжыць за раяль, што стаіць па левай руцэ Прэзідыуму. Магутная фігура селяніна ў жоўтым расшпіленым кажусе*

[1156] А. Цвікевіч, *Чатыры гады. 1918 – 25. III. 1922*, «Спадчына». 1996, № 3, с. 140–141.

[1157] *Постановление 1-го Всебелорусского С'езда о самоопределении Белоруссии и о временной краевой власти* (у:) Ф. Турук, *Белорусское движение*…, с. 106.

[1158] М. Краўцоў [Касцевіч М.], *20 гадоў назад (успамін пра Ўсебеларускі зьезд 1917 г.)*, «Спадчына». 1996, № 1, с. 193–194.

*становіцца на крэсьле пасярэдзіне залы, сьціскае свае мазалістыя кулакі і крычыць: «Раззброіць іх!», паказваючы на чырвонаармейцаў...*

*Усё бачанае апісаць немагчыма... Зьезд разганяецца пагрозаю штыхоў... Нехта запяяў беларускую марсэльезу. Зь ёй выходзім, паміж шпалерамі збройных салдатаў, па сходах на Падгорную вуліцу... На скрыжаваньні Скобелеўскай і Падгорнай – ваякі на белых конях... Два панцырнікі грозна маўчаць...*

*Паход разагнанага Зьезду скіроўваецца ў бок рэзыдэнцыі бальшавіцкае ўлады – будынку Камэрцыйнае Школы... Зь тысячы грудзей разьлягаецца матыў хаўтурнага маршу: «Вы жертвою пали в борьбе роковой...»*

*ДАКУМЕНТ*

**На старонках «Вольнай Беларусі»**[1159]

*18 сьнежня, а 3-й гадзіні у поўначы, посьля таго як на Усебеларускім Зьездзі у Беларускім Нацыянальным домі (Дваранскае Сабранне) была прынята рэзолюцыя аб пераходзі уласьці на Беларусі да Рады Зьезду, натоуп большэвіцкіх узброеных салдат аблажыу будынак, дзе адбывауся Зьезд, арыштавау прэзідзіум і разагнау Зьезд.*

*Арыштованыя выпушчаны. Зьезд мае вясьці далей работу, ні гледзючы на гвалт з боку большэвіцкай мейсцовай улады.*

*Большэвікі ультыматыуна запрапонавалі Вялікай і Вайсковай Беларускім Радам пакінуць заняты імі будынак (дом губэрнатора) праз 24 гадзіны, але іх ніхто ні паслухау.*

*У ноч на 19-е сьнежня большэвіцкі караул заняў дом Беларускае Рады.*

*Зьезд зачыніуся. Былі зноу арэшты, але усе выпушчаны. Абурэнне вялікае. Беларуская рэвалюцыя пачалася. Ніхай жыве Беларускі народ!*

А вось «Дзеннік Мінскі» змясціў кароткую згадку пра разгон Усебеларускага з’езда без каментароў[1160]. Побач была змешчаная інфармацыя пра Доўбар-Мусніцкага і стварэнне польскага войска...

Адначасна бальшавікі занялі былы Дом губернатара, у якім месцілася ВБР, Выканкам ЦБВР, ЦК БСГ ды іншыя беларускія арганізацыі. Аднак беларуская праца не спынілася. Выканкам ЦБВР разам з Выканкамам Рады Усебеларускага з’езда перабраліся ў будынак на вул. Паліцэйскай. Менскія бальшавікі не рашыліся працягваць «беларускі пагром», бо выразна перакрочылі межы сваёй кампетэнцыі. Мітынгі пратэсту ў Менску, Магілёве, Віцебску, Оршы ды іншых гарадах, а таксама шматлікія пратэстныя тэлеграмы і звароты да цэнтральных органаў улады адыгралі сваю ролю. Мяснікоў і Ландэр атрымалі з Масквы вымовы і павінны былі тлумачыцца.

---

[1159] «Вольная Беларусь». 1917, № 35.

[1160] «Dziennik Miński». 1917, Nr 143.

Крыленка непасрэдна навязаў кантакт з ЦБВР. Праз тыдзень пасля разгону кіраўнік Ваеннага аддзела ЦБВР Кастусь Езавітаў разам з Янкам Серадой накіраваліся ў Магілёў, дзе была дасягнута дамоўленасць наконт фарміравання беларускіх вайсковых частак у складзе Чырвонай арміі[1161]. Праўда, пазней Крыленка адмовіўся ад стварэння беларускага войска.

Паводле Рудовіча, разгон усебеларускага форума перапыніў натуральны і паўнавартасны працэс пераўтварэння беларусаў з аморфнай этнічнай масы ў сучасную палітычную нацыю. Далейшая трансфармацыя ў гэтым кірунку «пайшла пакручастымі дарогамі, сталася запаволенай і шмат у чым дэфармаванай»[1162].

Аднак цалкам перакрэсліць вынікі Усебеларускага з'езда бальшавікі не здолелі. Рада старэйшын ператварылася ў Раду з'езда, а раніцай 18 снежня быў створаны Выканкам Рады на чале з Тамашам Грыбам, які абавязваўся праводзіць у жыццё ўсе прынятыя рашэнні і пастановы. Праўда, дзеля гэтага давялося перайсці на нелегальнае становішча. Такі ж лёс напаткаў ВБР і ЦБВР.

Як успрыняў гэтыя падзеі Раман Скірмунт? Як Усебеларускі з'езд і вынікі форума паўплывалі на ягоную палітычную пазіцыю? Відавочна, што Скірмунт не мог не звярнуць увагу на тэрмін «Беларуская рэспубліка», які шматразова гучаў на з'ездзе. Тэрмін сведчыў, што Беларусь ужо ўспрымалася не як нейкая «паўночна-заходняя ўскраіна» Расіі, а як самастойны суб'ект агульнарасійскай федэрацыі з адметнай культурай і ўласнымі традыцыямі. Ад гэтага ўсведамлення было недалёка да ідэі дзяржаўнай незалежнасці, тым больш, што і яна прысутнічала на Усебеларускім з'ездзе, хоць часцей як аб'ект крытыкі.

Пасля з'езда мала каму прыходзіла ў галаву прыгадваць няўдалыя для беларускага руху вынікі выбараў ва Устаноўчы Сход. Беларускае Адраджэнне выявіла свой вялізны патэнцыял і прымусіла лічыцца з ім усе існуючыя палітычныя сілы, у т. л. бальшавікоў. Усё гэта магло толькі заахвочваць да далейшай палітычнай дзейнасці.

Магчыма, Скірмунт таксама належным чынам ацаніў здольнасць да кампрамісу, якую прадэманстравалі на з'ездзе прадстаўнікі розных палітычных сіл беларускага Адраджэння. Як ужо адзначалася, ягоная дзейнасць у 1917 г. адбывалася ў рэчышчы дэмакратычнай складовай беларускага руху. Аднак з дамінаваннем у беларускім руху прыхільнікаў радыкальнай сацыялістычнай дактрыны Скірмунт пагадзіцца не мог.

Ежы Асмалоўскі ва ўспамінах адзначыў раскол сярод беларускіх арганізацый пасля разгону з'езда. Ён сцвярджаў, што большасць беларускіх дзеячаў падтрымлівала Раду Усебеларускага з'езду і будучы Народны Сакратарыят, а кансерватыўная ці больш памяркоўная іх частка стварыла *Беларускі камітэт*,

[1161] O. Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe. 1917–1923*, s. 63.
[1162] С. Рудовіч, Час выбару…, с. 189.

які ўзначаліў Раман Скірмунт. Ягоным намеснікам Асмалоўскі назваў Смоліча[1163]. Непасрэдныя згадкі пра гэтую арганізацыю адсутнічаюць у вядомых матэрыялах беларускага руху, але ўспаміны Асмалоўскага, а таксама падзеі пачатку 1918 г. дазваляюць выказаць меркаванне, што таямнічы «Беларускі камітэт» сапраўды ўзнік напрыканцы 1917 г. Ва ўмовах панавання бальшавікоў ён дзейнічаў нелегальна, а пасля іх сыходу 25 лютага 1918 г. ператварыўся ў Менскае Беларускае прадстаўніцтва (або Беларускае народнае прадстаўніцтва)[1164].

Дарэчы, гэтая арганізацыя на старонках газеты «Беларускі шлях» таксама часта фігуравала як «Камітэт». Менавіта ён згадваўся на старонках «Вольнай Беларусі» і «Дзенніка Мінскага» ў сувязі з тэлеграмай пратэсту, накіраванай у вышэйшыя інстанцыі Германіі, а таксама кіраўніцтву «Обэр-Ост» 18 сакавіка 1918 г. Прычынай тэлеграмы была інфармацыя пра нібыта існуючыя нямецкія планы ўключэння Гарадзеншчыны і Віленшчыны ў склад Польшчы. Аўтары тэлеграмы Р. Скірмунт, А. Зянкевіч і П. Аляксюк выступалі ад імя «Беларускага народнага камітэта»[1165]. Што датычыць *А. Зянкевіча*, то гэта быў не хто іншы, як Рамуальд Зямкевіч[1166].

Таксама трэба адзначыць, што ў інфармацыйным паведамленні Прэсавага бюро пры Нацыянальным сакратарыяце БНР ад 11 ліпеня 1918 г. сцвярджалася, што Менскае беларускае прадстаўніцтва таксама дзейнічае пад назвай «Беларускага народнага камітэта»[1167]. Стварэнне новай беларускай арганізацыі ўскосна пацвярджаюць згадкі Ежы Асмалоўскага пра польска-беларускія стасункі ў Менску на пачатку 1918 г. Ён сцвярджаў, што Рада Усебеларускага з’езду і ПРМЗ фактычна не кантактавалі. Затое на штотыднёвых сходах Выканкама ПРМЗ прысутнічаў дэлегат «Беларускага Камітэта» Аляксандр Прыстар, а прадстаўнік Польскай рады Чэслаў Крупскі рэгулярна ўдзельнічаў у пасяджэннях «Беларускага камітэта». Таксама варта прыгадаць сцвярджэнне Асмалоўскага, што сацыяльныя і палітычныя пазіцыі беларускай і польскай арганізацый былі ўзгоднены[1168].

Пра кантакты паміж ПРМЗ і Беларускім народным камітэтам Асмалоўскі прыгадваў некалькі раз, і іх факт можна лічыць устаноўленым. Іншая справа – згадка Аляксандра Прыстара як прадстаўніка «Камітэта», а таксама Аркадзя Смоліча як намесніка Скірмунта. Яны выклікаюць сумневы. Вядома, што як дзеяч ППС Прыстар уваходзіў у склад Выканкама Рады Усебеларускага з’езда. Тое ж датычыць і Смоліча, які быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады. Далучэнне левых да новай арганізацыі Скірмунта ўяўляецца малаверагодным. Калі ж яны

[1163] BN. Dział mikroform, akc. 6797. J. Osmołowski, *Wspomnienia*, tom 1, k. 211.
[1164] «Беларускі шлях». 1918, № 1.
[1165] «Вольная Беларусь». 1918, № 10; «Dziennik Miński». 1918, Nr 54.
[1166] На жаль, не атрымалася растлумачыць такі варыянт ягонага подпісу.
[1167] НГАБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 222–222 адв.
[1168] BN. Dział mikroform, akc. 6797. J. Osmołowski, *Wspomnienia*, tom 1, k. 214.

сапраўды мелі дачыненне да Беларускага Народнага Камітэта, то гэта сведчыць пра дастаткова гнуткую пазіцыю часткі беларускіх сацыялістаў, якія імкнуліся выкарыстаць усе магчымасці дзеля беларускага палітычнага Адраджэння.

Такім чынам, напрыканцы снежня 1917 г. пасля разгону Усебеларускага з’езда Раман Скірмунт, Павел Аляксюк і Рамуальд Зямкевіч стварылі Беларускі народны камітэт. Дзейнасць працягвалася…

# ПАД ЗНАКАМ «ПАГОНІ»

У студзені 1918 г. пазіцыі партыі Леніна–Троцкага ў Расіі значна ўзмацніліся. Гэта стала відавочным пасля разгону Устаноўчага Сходу 5 студзеня 1918 г., якому папярэднічаў расстрэл у Петраградзе мірнай дэманстрацыі ў яго падтрымку. Трэба адзначыць, што насельніцтва Расіі амаль не адрэагавала ні на расстрэл, ні на разгон Сходу. Падобна на тое, што хаос і анархія 1917 г. стамілі ўсіх. Адчувалася прага «цвёрдай улады», і менавіта яна паспрыяла легітымізацыі бальшавіцкай дыктатуры ў свядомасці людзей.

## *Вызваленне ад бальшавікоў*

У Менску бальшавіцкае панаванне хутка настроіла супраць бальшавікоў нават тых, хто яшчэ нядаўна ім шчыра спачуваў. У першы дзень новага 1918 г. «Минская газета» апублікавала нарыс «В чёрные дни». Аўтар зрабіў агляд асноўных падзей палітычнага жыцця горада за мінулы год, прыгадаў бальшавіцкія рэпрэсіі, а менавіта закрыццё газет, шматлікія арышты, разгон Усебеларускага з’езда, увядзенне ваеннага становішча, і патэтычна ўсклікнуў: «Где же ты, о солнце свободы? Взойди вновь над измученной и истерзанной родиной и обогрей своими светлыми лучами и наш родной Минск»[1169].

Апрача знікнення дэмакратычных свабод нормай жыцця Менска напрыканцы 1917 г. стала пагроза голада. Бальшавікі змагаліся з праблемамі гаспадаркі палітычнымі дэкрэтамі і рэпрэсіямі супраць «буржуеў» ды іх «памагатых». Яны так і не здолелі забяспечыць горад прадуктамі. У выніку 2 студзеня 1918 г. адбыліся падзеі, якія журналісты «Минской газеты» назвалі «голодным бунтом». Натоўп уварваўся ў Гарадскую ўправу і Камітэт па харчаванні і ледзь не пазабіваў службоўцаў. Улады тэрмінова выклікалі Тэкінскі полк. У выніку сярод менчукоў былі забітыя і параненыя[1170]. Таксама ў студзені адбыліся пагромы салдатамі габрэйскіх гандлёвых лавак і прыватнага жытла ў Радашковічах і Ракаве пад Менскам[1171].

«Главкозап» Аляксандр Мяснікоў паспяшаўся ва ўсім абвінаваціць беларускія арганізацыі, у прыватнасці Вялікую Беларускую Раду. І не выпадкова. Выканкам

---

[1169] НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 363, арк. 4; «Минская газета». 1918, № 1924. Хачу выказаць удзячнасць Анатолю Вялікаму і Уладзіміру Ляхоўскаму за дапамогу ў працы з матэрыяламі фонду 325 НАРБ.

[1170] НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 363, арк. 22; «Минская газета». 1918, № 1918.

[1171] НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 363, арк. 61; «Утренняя минская газета». 1918, № 4; «Минский голос». 1918, № 2633.

Рады Усебеларускага з’езда працягваў сваю дзейнасць і імкнуўся сфарміраваць альтэрнатыўны органам улады. 3 студзеня Выканкам прыняў рэзалюцыю, якая запрашала ў яго склад трох прадстаўнікоў ад габрэйскіх сацыялістычных партый і чатырох – ад «рэвалюцыйнай дэмакратыі іншых нацыянальнасцяў»[1172]. Такім чынам, склад Выканкаму павялічваўся да 24 чалавек і ў большай ступені адпавядаў складу Рады Усебеларускага з’езда.

Абвінавачванні з боку бальшавікоў у арганізацыі бунта супраць Саветаў выклікалі пратэст з боку ваеннага аддзела ЦБВР, які ўзначальваў К. Езавітаў. У беларускія вайсковыя камітэты, а таксама ў цэнтральныя органы ўлады была накіравана тэлеграма, якая абвяргала хлусню бальшавіцкіх улад і нагадвала А. Мясніκову пра непазбежны суд... гісторыі: «Белоруса забитого и униженного уже нет. Белоруса холопа уже не существует. Свободный Белорус не позволит каждому проходимцу позорить свое белое ничем не запятненное имя. Не забывайтесь, [...] гражданин Мясников. Помните, что не все позволительно даже для Главкозапа. Помните, что суд истории и суд общества заклеймит Вас позором»[1173].

Бальшавіцка-беларускі канфлікт абвастраўся. Дайшло да таго, што першы нумар «Вольнай Беларусі» ў новым 1918 г. цэнзураваў сам Рэзаўскі і «шмат чаго выкасаў»[1174]. Сапраўды, засталося няшмат. Вось, напрыклад, як выглядаў абзац рэдакцыйнага артыкула: «О, Беларусь! Ці доўга яшчэ будуць гаспадарыць у нас чужынцы, абярнуўшыя гарадэ нашыя ў галодныя пустэлі [...] (*купюра цэнзара – А .С.*). Калі ж кончыцца гэты праклятьı прыгон [...] (купюра цэнзара. – *А. С.*)»[1175].

Між тым, Аляксандр Мяснікоў рабіў усё магчымае, каб сарваць дамоўленасць ЦБВР з М. Крыленкам наконт фарміравання беларускіх вайсковых частак. Урэшце Вярхоўны Галоўнакамандуючы саступіў. «Беларуская нацыянальная чырвоная гвардыя» не была створана.

У другой палове студзеня менскія бальшавікі перайшлі ў наступ. 24 студзеня Аблвыканкамзах распусціў Менскую гарадскую думу, абраную яшчэ напрыканцы мая 1917 г. Уноч на 27 студзеня быў нанесены ўдар па ЦБВР. Прычым да гэтага прычыніліся ўжо цэнтральныя бальшавіцкія ўлады. Атрад маракоў, які прыбыў з Магілёва, разам з менскімі чэкістамі атачыў будынак ЦБВР і арыштаваў К. Езавітава і В. Захарку.

14 лютага (1 лютага)[1176] 1918 г. «Главкозап» загадаў распусціць ЦБВР, а кіраўнікоў і сяброў Рады арыштаваць і перадаць у Ваенны трыбунал[1177]. Іх абвінавацілі

---

1172 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 18, арк. 1.

1173 Тамсама, спр. 5, арк. 41–41 адв.

1174 «Вольная Беларусь». 1918, № 5.

1175 Тамсама, № 1.

1176 Дэкрэтам СНК РСФСР «Аб увядзенні ў Расійскай рэспубліцы заходнееўрапейскага календара» ад 26 студзеня 1918 г. наступным днём пасля 31 студзеня стала 14 лютага.

1177 «Утренняя минская газета». 1918, № 7.

ў кантактах з камандуючым Польскім корпусам генералам Доўбар-Мусніцкім. У гэты час корпус фактычна паўстаў супраць бальшавікоў і заняў Бабруйскую крэпасць з яе вялізнымі складамі. У якасці доказу фігуравалі тэлеграмы К. Езавітава да беларускіх вайсковых арганізацый з патрабаваннем накіроўваць салдат у Бабруйск[1178]. Папраўдзе, Езавітаў якраз спрабаваў не дапусціць захопу Бабруйскай крэпасці. ЦБВР убачыла ў дзеяннях камандавання корпуса намер далучыць Беларусь да Польшчы і падтрымала бальшавікоў, рассылаючы тэлеграмы ў беларускія вайсковыя камітэты з патрабаваннем накіраваць у раён Бабруйска беларускіх салдат[1179].

Галоўнай падзеяй студзеня на Меншчыне стаўся бальшавіцка-польскі канфлікт, у эпіцэнтры якога апынуўся згаданы Польскі корпус. М. Крыленка спрабаваў не дапусціць канцэнтрацыі ягоных частак у раёне Бабруйск–Слуцк. Іншай прычынай абвастрэння стала адмова генерала Ю. Доўбар-Мусніцкага стварыць салдацкія камітэты, з’яўленне якіх вяло да паступовай бальшавізацыі салдацкай масы.

Часткі корпуса былі размешчаны на тэрыторыі Менскай, Магілёўскай і Віцебскай губ. Пасля падзення Часовага ўрада Галоўнае камандаванне згадзілася на канцэнтрацыю корпуса ў раёне Бабруйск–Слуцк. Пазней бальшавікі паспрабавалі не дапусціць перадыслакацыі. Аднак камандаванне корпуса працягвала сцягваць часткі да Бабруйска.

Спробы бальшавікоў дзейнічаць праз сваіх агітатараў закончыліся няўдачай. Тады было прынята рашэнне выкарыстаць сілу. Быццам прадчуваючы гэта, частка кіраўнікоў Начполя, у т. л. Рачкевіч перабраліся ў Кіеў. 4 студзеня 1918 г. былі арыштаваны шасцёра сяброў Начполя, якія засталіся ў Менску. Гэты арышт выклікаў абурэнне з боку польскіх вайсковых арганізацый. У Савет народных камісараў і Вярхоўнаму Галоўнакамандуючаму паляцелі шматлікія тэлеграмы пратэсту, якія пазней апублікаваў «Дзеннік Мінскі». Бальшавікі забаранілі яго выданне, але амаль адразу пачала выходзіць газета «Гонец Мінскі», якая займала тую ж пазіцыю. Арыштаваныя сябры Начполя збеглі з-пад арышту і дабраліся да мяст. Дукоры, дзе знаходзіліся польскія часткі.

Тым часам Крыленка загадаў пачаць раззбраенне корпуса. У выніку распачаліся ваенныя дзеянні. 19 студзеня 1918 г. Крыленка загадаў расфарміраваць Польскі корпус. У адказ генерал Доўбар-Мусніцкі 20 студзеня заняў Бабруйск і крэпасць. У руках польскіх вайскоўцаў апынуліся склады з харчаваннем і ваеннай амуніцыяй, а таксама значныя фінансавыя сродкі. Звесткі пра гэта спачатку выклікалі эйфарыю сярод мясцовай польскай эліты, але хутка яна змянілася моцным хваляваннем. Было відавочна, што генерал Доўбар-Мусніцкі недааценіў

---

[1178] НАРБ. Ф. 60 п, воп. 3, спр. 363, арк. 27; «Утренняя минская газета». 1918, № 3.
[1179] O. Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe*. 1917–1923, s. 65.

суперніка. Супраць корпуса выступіла ўсё збальшавізаванае расійскае войска, а ўлады спынілі яго снабжэнне.

Раскіданыя сілы Польскага корпуса былі аточаны бальшавікамі і вялі цяжкія абарончыя баі. Увесну 1918 г. «Дзеннік Мінскі» апублікаваў няпоўныя спісы загінулых польскіх вайскоўцаў, дзе значылася болей 250 чал. Сітуацыю трохі палепшыў пераход на польскі бок кавалерыі чаркесаў і тэкінцаў пад камандаваннем ротмістра Ікаева. Гэты пераход адбыўся дзякуючы старшыні ПРМЗ Г. Кяневічу, які папросту падкупіў Ікаева[1180]. У далейшым Ікаеў і ягоныя кавалерысты займаліся пошукам харчавання, што звычайна абарочвалася гвалтам і рабаваннем вяскоўцаў.

У беларускай гістарыяграфіі адносна дзеянняў Польскага корпуса ўсё яшчэ дамінуюць ацэнкі савецкіх гісторыкаў, якія грунтаваліся пераважна на інфармацыі бальшавіцкіх органаў улады і данясеннях камандзіраў Чырвонай арміі. Часам нават сцвярджаецца, што Доўбар-Мусніцкі імкнуўся «далучыць Беларусь да Польшчы». Але пра якое далучэнне да Польшчы магла ісці гаворка ва ўмовах незакончанай сусветнай вайны і нямецкага дамінавання на Усходнім фронце?

Таксама трэба ўлічваць, што на рубяжы 1917–1918 гг. польскія арганізацыі Меншчыны, Магілёўшчыны і Віцебшчыны падтрымлівалі беларускіх палітыкаў і пагаджаліся з тым, што палітычныя контуры Беларусі павінны вызначацца яе этнаграфічнымі межамі. Праўда, не выпадае таксама адмаўляць існавання анексіяніцкіх настрояў у адносінах да Беларусі сярод польскіх нацыянальных дэмакратаў, а таксама ў палітычным асяроддзі Рэгенцыйнай рады. Яны былі, і Ежы Асмалоўскі, які ў сярэдзіне ліпеня 1918 г. сустракаўся з сябрамі Рады ў Варшаве, быў уражаны гэтымі настроямі[1181].

Менавіта ў час гэтай «рэпетыцыі» будучай савецка-польскай вайны прагучалі абвінавачванні салдат і афіцэраў Польскага корпуса ў гвалтах і здзеках над беларускім насельніцтвам. Ю. Доўбар-Мусніцкі катэгарычна адкідаў усе прэтэнзіі і скаргі. Генерал сцвярджаў, што ягоныя салдаты страляюць толькі ў адказ. Насамрэч, абвінавачванні былі цалкам абгрунтаваны. Так, Дарота Міхалюк, спасылаючыся на ўспаміны вядомага польскага журналіста М. Ваньковіча, які ў 1918 г. быў афіцэрам корпуса, згадвала пра спаленыя польскімі салдатамі вёскі Вялікія і Малыя Бортнікі ў Бабруйскім пав. і расстрэл некалькіх сялян[1182].

Таксама варта працытаваць фрагмент ліста княгіні Марыі Магдалены Радзівіл да камандзіра корпуса ад 13 снежня 1917 г., у якім яна пратэставала супраць размяшчэння на тэрыторыі ўласнага маёнтка Жарноўкі Ігуменскага пав. польскіх салдат і афіцэраў: «Праз некалькі дзён саранча напала на Жарноўкі. Пра іх

---

1180 BN. Dział mikroform, akc. 6798. J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 220.

1181 Ibidem, k. 258.

1182 D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 223.

паводзіны ў стасунку да майго госця, сп. Завадскай сп. Генералу ўжо распавёў яе муж, а пра тое, як яны абышліся з маёй бухгалтаркай і настаўніцай, я пачула ад іх саміх. Не буду пра гэта шмат казаць […] Я беларуска, мая ўласнасць і мая асоба не польскія, і яе не бачу патрэбы карыстацца з непатрэбнай мне апекі [польскага войска]. Таксама дадам, што паводзіны размешчанага войска ў найвышэйшай ступені нетактоўныя і брутальныя. Яны могуць прывесці да вялікай бяды»[1183].

Шматлікія скаргі мясцовых органаў улады, якім таксама няма падстаў выказваць недавер, сведчаць, што найчасцей прычынай рэпрэсій супраць мясцовага насельніцтва былі абвінавачванні ў бальшавізме, якія ніхто не правяраў. Эпізоды гвалту і насілля звычайна былі звязаны з тым, што корпус павінен быў сам забяспечваць сябе харчам і фуражом.

У выніку наступу бальшавіцкіх войск і варожасці з боку мясцовага насельніцтва становішча Польскага корпуса хутка пагаршалася. ПРМЗ накіравала ў Бабруйск адмысловую дэлегацыю на чале з Эдмундам Івашкевічам, якая павінна была разабрацца ў сітуацыі. 2 лютага Івашкевіч выступаў са справаздачай на пасяджэнні Выканкама Рады ПРМЗ, дзе прысутнічалі адмыслова запрошаныя прадстаўнік Польскай Рады Магілёўскай зямлі Альгерд Гардзялкоўскі і кіраўнік «Беларускага камітэта» Раман Скірмунт[1184]. Пра гэтую тайную нараду з удзелам Скірмунта таксама паведаміў у сваім Дзённіку М. Касакоўскі[1185]. Магчыма, якраз пад уплывам наступстваў бальшавіцкага панавання Скірмунт пачаў усведамляць важнасць кантактаў з польскімі арганізацыямі і, тым больш, з вайскоўцамі, якія былі сілай, здольнай супрацьстаяць бальшавікам.

Э. Івашкевіч ахарактарызаваў сітуацыю як надзвычай складаную. Падчас дыскусіі ўдзельнікі нарады сышліся на тым, што выратаваць корпус ад разгрому можа толькі нямецкае ўмяшальніцтва. Той жа Івашкевіч паведаміў, што паводле Здзіслава Паклеўскага, які займаўся справамі бежанцаў пры нямецкім штабе ў Баранавічах, нямецкая дэлегацыя ў Берасці выказала зацікаўленасць у кантактах з прадстаўнікамі Польскага корпуса.

Старшыня Выканкама ПРМЗ Геранім Кяневіч прапанаваў Р. Скірмунту, А. Гардзялкоўскаму і Е. Асмалоўскаму даведацца ад З. Паклеўскага пра магчымасць перамоў з нямецкімі вайскоўцамі. 3 лютага Паклеўскі паведаміў, што немцы чакаюць прыезду польскай вайсковай дэлегацыі ў Берасце. Выканкам ПРМЗ у паразуменні з сябрамі Начполя, што засталіся на свабодзе ў Менску, вырашылі накіраваць дэлегацыю. Яны былі пэўныя, што камандуючы корпусам адобрыць гэтае рашэнне і надасць дэлегацыі адпаведныя паўнамоцтвы. Візіт павінен быў адбывацца ва ўмовах абсалютнай таямніцы.

Выканкам ПРМЗ прапанаваў удзельнікам нарады абмеркаваць асноўныя

---

[1183] J. Dowbór-Musnicki, *Moje wspomnienia*. Warszawa 1935, s. 171.
[1184] BN. Dział mikroform, akc. 6798 J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2,* k. 222.
[1185] M. St. Kossakowski, *Diariusz. 1 stycznia–31 grudnia 1918 r*. Tom 3, s. 111.

палажэнні пазіцыі дэлегацыі на перамовах. Ва ўзгодненным дакуменце падкрэслівалася, што для будучыні Краю найбольш важным з'яўляецца адарванне ад Расіі і захаванне Польскага корпуса дзеля барацьбы з бальшавікамі. Задачай-мінімум дэлегацыі быў нямецкі дазвол на пропуск вайскоўцаў на тэрыторыю Польшчы, а задачай-максімум – супольная з немцамі акупацыя Беларусі[1186].

Успаміны Ежы Асмалоўскага дазваляюць сцвярджаць, што Раман Скірмунт быў згодны з праграмай, якая кардынальна змяняла геапалітычную арыентацыю Краю. Бліжэйшыя перспектывы звязваліся з Польшчай і цэнтральна-еўрапейскімі дзяржавамі. Але ПРМЗ звязвала з заходняй суседкай і больш далёкія перспектывы. Падчас нарады, якая доўжылася тры дні (!) гэтыя палажэнні аспрэчвалі толькі прадстаўнікі Начполя (Аргельбрандт, Рамоцкі, Дангель і палкоўнік Дыбоўскі), але ўрэшце і яны пагадзіліся з прапанаванай ідэйнай платформай дэлегацыі.

6 лютага абмяркоўвалі ўжо склад дэлегацыі. Аргельбранд прапанаваў выправіць дэлегацыю ў складзе Паклеўскага, Рамоцкага і Дангеля. Аднак апошні адмовіўся. Прагучала кандыдатура Рамана Скірмунта, але той заявіў, што не можа быць у складзе польскай вайсковай дэлегацыі, бо не належыць да Польскага корпуса і не ўяўляе, каго і з якімі паўнамоцтвамі ён можа прадстаўляць на гэтых перамовах. Скірмунт параіў уключыць у яе склад палкоўніка Дыбоўскага. Але той таксама не пагадзіўся. Падобна на тое, што ўдзельнікі нарады, ведаючы пра антынямецкія настроі польскай супольнасці, прадбачылі негатыўныя наступствы ўдзелу ў перамовах.

Э. Івашкевіч яшчэ раз звярнуўся да Скірмунта з прапановай паехаць у Берасце ў якасці прадстаўніка... Выканкаму ПРМЗ. Ён выказаў упэўненасць, што «Беларускі камітэт» дасць згоду, паколькі пазіцыі Камітэта і ПРМЗ узгоднены. Прыгадваючы тыя падзеі, Асмалоўскі заўважыў: «Кандыдатура Скірмунта была найбольш адпаведнай. Сярод шырокіх колаў польскай супольнасці, асабліва сярод землеўласнікаў Скірмунт карыстаўся агульнай павагай, ён жа адыгрываў важную ролю ў беларускім руху, меў палітычны вопыт як былы дэпутат Думы, дасканала ведаў нямецкую мову і палітычную сітуацыю ў Германіі»[1187]. Урэшце рэшт Скірмунт пагадзіўся, але ягоная згода, папраўдзе, была прыхаванай формай адмовы. Ён заявіў, што павінен атрымаць адабрэнне «Беларускага камітэта». Але выправу дэлегацыі нельга было адкладаць. У выніку трэцім сябрам дэлегацыі і яе кіраўніком стаў Ежы Асмалоўскі.

Удзел Скірмунта ў нарадзе, сапраўды, сведчыць пра ягоны аўтарытэт і ўплыў, а таксама пра імкненне польскай супольнасці ў справе ратавання войск узмацніць уласныя пазіцыі беларускімі прадстаўнікамі. Гэта магло надаць дэлегацыі агульнакраёвы характар. Але відавочна, што Скірмунт у гэты момант не адчуваў сябе прадстаўніком польскай супольнасці. Да таго ж, ён разумеў, што інфармацыя пра

[1186] BN. Dział mikroform, akc. 6798 J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2,* k. 228.
[1187] Ibidem, k. 230.

ягоны ўдзел у перамовах можа цалкам перакрэсліць усе ранейшыя заслугі ў справе беларускага Адраджэння.

Між тым, дэлегацыя выправілася ў дарогу, не дачакаўшыся афіцыйнай згоды на вядзенне перамоў ад генерала Доўбар-Мусніцкага. Гэтую затрымку яны тлумачылі праблемамі сувязі, хоць на самой справе праблемы мелі цалкам іншы характар. Рашэнне пра адпраўку дэлегацыі супярэчыла антантафільскай пазіцыі кіраўніцтва Начполя. Уладзіслаў Рачкевіч у той час у Кіеве вёў перамовы з польскімі палітыкамі наконт дапамогі корпусу. Атрымаўшы абяцанне падтрымаць яго, ён распусціў Начполь і стварыў Вярхоўную вайсковую раду. У выніку генерал Доўбар-Мусніцкі атрымаў магчымасць правядзення ўласнай палітычнай лініі. Першай праявай гэтай самастойнасці стала ягоная тэлеграма да прадстаўніка германскага камандавання ў Берасці генерала Хофмана з просьбай прыняць дэлегацыю корпуса. Але гэтая дэлегацыя не здолела перабрацца праз фронт, бо чакала дазволу бальшавікоў.

А вось дэлегацыя прадстаўнікоў ПРМЗ і былога Начполя перабралася праз лінію фронта і 10 лютага прыбыла ў Берасце. Яна апынулася ў даволі складанай сітуацыі. Немцы вялі перамовы з Асмалоўскім і ягоным калегамі, якія фактычна прадстаўлялі толькі ПРМЗ і не мелі дачынення ні да Польскага корпуса, ні да Вярхоўнай вайсковай рады. Невядома, ці зразумеў гэта нямецкі бок. У кожным выпадку немцы пайшлі на гэтыя перамовы. Але адразу заявілі, што Вільня будзе літоўскай і далі зразумець, што ў выпадку адыходу Беларусі ад Расіі яны хутчэй падтрымаюць незалежнасць Беларусі, чым дадуць згоду на яе далучэнне да Польшчы[1188].

Нямецкае камандаванне даволіла дэлегацыі наведаць Варшаву дзеля ўзгаднення пазіцыі з Рэгенцыйнай Радай. Асмалоўскі выступіў перад Радай, сябры якой заявілі, што найважнейшай задачай з'яўляецца захаванне і ўзмацненне польскай вайсковай сілы. Яны не верылі ў здольнасць беларусаў стварыць самастойную дзяржаву і бачылі іх будучыню ў складзе Польшчы.

14 лютага дэлегацыя вярнулася ў Берасце, дзе адбылася агульная нарада, падчас якой гаворка ішла пра сумесную акупацыю Беларусі. Немцы разлічвалі на ўдзел Польскага корпуса ў наступе на бальшавікоў. Яны гарантавалі яго існаванне да канца вайны і пагаджаліся на абарону корпусам інтарэсаў польскага насельніцтва. Нямецкія мэты акупацыі абмяжоўваліся ваеннай здабычай і эксплуатацыяй лесу. 17 лютага сябры дэлегацыі даведаліся, што рашэнні гэтай нарады адобрыў генерал Людэндорф і загадаў генералу Хофману прыспешыць паразуменне з Польскім корпусам[1189].

Дарэчы, у гэты ж час у Берасці знаходзілася таксама беларуская дэлегацыя ў складзе С. Рак-Міхайлоўскага і А. Цвікевіча, якіх накіраваў на перамо-

[1188] Ibidem, k. 252.
[1189] Ibidem, k. 272.

вы Выканкам Рады Усебеларускага з’езда. Галоўным патрабаваннем была непадзельнасць Беларусі і яе ўваходджанне ў склад федэратыўнай дэмакратычнай Расіі. Першы параграф «Наказу», які дэлегацыя атрымала ад Выканкама Рады, сцвярджаў: «Уся Беларусь у сваіх этнографічных рубяжох ёсьць ядынаю і ніраздзельнаю і ўваходзіць як аўтаномная часьціна, на роўных правох у Расійскую Дэмократычную Федэратыўную Рэспубліку»[1190].

Аднак да ўдзелу ў перамовах дэлегацыя не была дапушчана ў сувязі з пратэстам савецкага боку. Беларусам заставалася толькі назіраць за ходам перамоў у якасці… дарадцаў украінскай дэлегацыі. Як канстатаваў Язэп Лёсік на старонках «Вольнай Беларусі»: «Доля Беларусі вырашаецца без беларусаў»[1191].

18 лютага 1918 г. сітуацыя карэнным чынам змянілася. Пасля адмовы кіраўніка савецкай дэлегацыі Троцкага прыняць нямецкія ўмовы міра, пачалося наступленне нямецкіх войск. Спыніць іх наступ не было каму, бо фронт апусцеў.

Зранку 19 лютага паніка ахапіла камісараў Аблвыканкамзаха і менскі гарнізон. Ніхто не збіраўся абараняць ні горад, ні савецкую ўладу. Вось як апісваў гэтыя падзеі карэспандэнт газеты «Гонец Мінскі»: «Горад у аўторак 19 лютага быў ахоплены панікай. Апоўдні распачалася поўная эвакуацыя. З гораду выязджалі на аўтамашынах і на санках, хто як здолеў, у самых розных кірунках. Ламаліся павозкі, губляліся скрыні і мяшкі. Нерваваліся самі і нервавалі іншых. Як назойлівыя мухі перад навальніцай, ляталі самыя розныя чуткі. Людзі апынуліся ў хаосе навінаў, страху і анархіі»[1192].

Улады яшчэ здолелі распаўсюдзіць зварот, у якім заклікалі жыхароў Менска захоўваць спакой і заставацца на сваіх месцах. Адыход войск тлумачыўся адмыслова прадуманай тактыкай[1193].

Між тым, апоўдні 18 лютага з-пад варты збеглі сябры ЦБВР. На кватэры А. Лявіцкага яны правялі надзвычайнае пасяджэнне, на якім вырашылі ўзяць у свае рукі ахову парадку ў горадзе і перадаць уладу Радзе Усебеларускага з’езда. Камендантам Менска быў абраны Кастусь Езавітаў[1194].

Былі арганізаваны беларускія ўзброеныя групы, якія пасля некалькіх сутычак з бальшавікамі ўвечары 19 лютага занялі ключавыя будынкі горада. Так, быў заняты гатэль «Еўропа», які быў галоўнай сядзібай бальшавіцкіх улад і менскай *ЧК*. Старшыня Рады народных камісараў Заходняй вобласці і фронту К. Ландэр здолеў пакінуць будынак літаральна ў апошнюю хвіліну. Беларускае кіраўніцтва

---

1190 «Вольная Беларусь». 1918, № 5.

1191 Тамсама.

1192 Цытата па: BN. Dział mikroform, akc. 6798. J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2,* k. 289

1193 «Минский голос». 1918, № 2645.

1194 O. Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe. 1917–1923*, s. 70.

вярнулася ў былы Дом губернатара, а ўзброеныя сілы сканцэнтраваліся ў раёне плошчы Свабоды (былой Саборнай).

Аднак хутка высветлілася, што беларусы маюць моцнага канкурэнта. Амаль адначасна былі арганізаваны польскія атрады, а польскім камендантам горада быў абраны капітан Ігнацы Матушэўскі. Гісторык Дарыуш Тарасюк сцвярджаў, што ўжо ўвечары 19 лютага на вуліцах горада з'явіліся першыя польскія і беларускія патрулі, галоўнай задачай якіх было здабыванне зброі. Ахопленыя панікай бальшавіцкія часткі не збіраліся аказваць супраціў і складалі зброю. Гэта дазволіла значна павялічыць колькасць патрульных, асабліва Польскай камендатуры. Хадзілі чуткі пра набліжэнне корпуса Доўбар-Мусніцкага[1195].

Польскія атрады таксама займалі ключавыя будынкі горада, прычым дзейнічалі больш энергічна, чым беларускія, бо мелі значна больш падрыхтаваных і ўзброеных вайскоўцаў. Яны нават прымусілі беларусаў перадаць ім арсенал на вул. Маскоўскай. Польска-беларускія адносіны абвастрыліся, але да ўзброеных сутычак не дайшло. Усё ж заставалася рэальная пагроза надыходу бальшавіцкіх войск з фронту. Толькі позна вечарам было дасягнута паразуменне.

Між тым, тысячы салдат бальшавіцкага гарнізона ўсё яшчэ знаходзіліся на чыгуначных вакзалах у чаканні эшалонаў. Яны ўяўлялі сур'ёзную пагрозу для горада. Каб іх пазбыцца, некалькі польскіх афіцэраў пераапрануліся ў нямецкую вайсковую форму і пад выглядам парламенцёраў прыехалі на Берасцейскі вакзал Менска. Яны ўльтыматыўна запатрабавалі пакінуць яго, пагражаючы артылерыйскім абстрэлам. «Ультыматум» падзейнічаў. Салдаты гарнізона пачалі спешна пакідаць горад пешым строем пераважна ў кірунку Барысаўскага тракту.

На працягу ночы з 19 на 20 лютага горад апынуўся пад уладай польскіх і беларускіх арганізацый. А 20 лютага была створана аб'яднаная Камендатура, якая прадстаўляла ЦБВР і польскія ўзброеныя фарміраванні. Пра яе існаванне 21 лютага паведамілі «Минский голос»[1196] і «Гонец мінскі»[1197], які апублікаваў першы загад гэтай Камендатуры. Яна ўзяла ў свае рукі абарону жыцця і маёмасці жыхароў, а таксама забеспячэнне парадку ў горадзе. Усе склады і арганізацыі апынуліся пад спецыяльнай аховай аб'яднаных польска-беларускіх войск. Удзельнікам рабункаў і беспарадкаў пагражаў ваенны суд. У матэрыялах органаў друку і запісах Дзённіка Касакоўскага адлюстравалася радасць менскай вуліцы[1198]. Гараджане спадзяваліся на вяртанне парадку і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні.

Цалкам магчыма, што Раман Скірмунт непасрэдна спрычыніўся да польска-беларускага паразумення. М. Касакоўскі ў Дзённіку пісаў пра кансультацыі кіраўнікоў ПРМЗ са Скірмунтам наконт рэальных магчымасцяў Цэнтральнай Беларускай

[1195] D. Tarasiuk, *Między nadzieą a niepokojem*…, s. 143.
[1196] «Минский голос». 1918, № 2646.
[1197] «Goniec Miński». 1918, № 12.
[1198] M. St. Kossakowski, Diariusz. 1 stycznia–31 grudnia 1918 r. Tom 3, s. 91.

Вайсковай Рады. Раман Скірмунт выступаў за паразуменне беларусаў і палякаў, але папярэдзіў апошніх, што «партыя Алексюка» не мае шмат прыхільнікаў[1199]. ПРМЗ, сапраўды, арыентавалася на Паўла Алексюка, які для іх прадстаўляў «цэнтр» беларускага руху. Дарэчы, паводле Касакоўскага, згаданае паразуменне прадугледжвала ў далейшым стварэнне агульнай адміністрацыі, у якую павінны былі ўвайсці 4 (!) беларуса, 3 паляка і 2 габрэя. Таксама ў дзённікавым запісу 20 лютага Касакоўскі прыгадаў выказаную Варонкам удзячнасць за імкненне палякаў да паразумення[1200].

Цікава, што на адвароце гэтай старонкі Дзённіка ягоны аўтар пазней пакінуў прыпіску, у якой паставіў пытанне пра мэтазгоднасць паразумення з беларусамі: «Навошта ўсё гэта? Якія будуць наступствы? Навошта гэты агульны орган на 24 або на 48 гадзін?» І адразу сам жа даў адказ: «Гэтага жадаюць аўтахтоны, а мы, як пераходны элемент, ствараем ім магчымасць прымаць тактычныя рашэнні, тым больш, што значэння яны не маюць»[1201].

На гэтым жа пасяджэнні ПРМЗ было прынята рашэнне пра тое, што немцаў на вакзале павінна прывітаць сумесная польска-беларуская дэлегацыя ў складзе Э. Івашкевіча, З. Нагурскага і І. Віткевіча (усе ад палякаў) і Р. Скірмунта (ад беларусаў). Пазней у склад дэлегацыі ўвайшоў яшчэ адзін прадстаўнік беларусаў, менавіта П. Аляксюк. Прывітанне павінна было быць «халодным» і «фармальным»[1202].

Важна адзначыць, што ў гэты надзвычай важны момант Скірмунт заставаўся ў эпіцэнтры падзей, хоць ізноў не выходзіў на першы план і не дэманстраваў асабістых палітычных амбіцый.

Апоўдні 20 лютага сваю працу аднавіла Гарадская Дума, на пасяджэнні якой выступілі Варонка і Аляксюк. Першы ад імя Рады Усебеларускага з’езда паведаміў пра тое, што ваенная ўлада знаходзіцца ў руках беларускіх і польскіх арганізацый, якія не будуць ўмешвацца ў цывільнае кіраванне. Цэнтрам гарадскога жыцця ён назваў Думу, якую лічыў патрэбным папоўніць прадстаўнікамі ўсіх груп і партый. Аляксюк як прадстаўнік «Аб’яднаных беларускіх арганізацый» выступіў больш канкрэтна. Ён заявіў пра неабходнасць беларускага прадстаўніцтва ва ўсіх гарадскіх арганізацыях і прапанаваў пашырыць удзел беларусаў у працы Думы, павялічыўшы для іх колькасць месцаў з з 2 да 8[1203]. Прапанова не прайшла. Дума пагадзілася толькі на ўваходжанне беларускага прадстаўніка (А. Смоліча) у Ка-

---

1199 Ibidem.

1200 Ibidem, s. 92.

1201 Archiwum PAN. Sygn. 4. M. St. Kossakowski, Diariusz. 1 stycznia–31 grudnia 1918 r. Tom 3, k. 187. У апублікаваны тэкст Дзённіка гэты запіс не ўвайшоў.

1202 M. St. Kossakowski, Diariusz. 1 stycznia–31 grudnia 1918 r. Tom 3, s. 92.

1203 «Минский голос». 1918, № 2646.

мітэт грамадскай бяспекі[1204]. «Гонец мінскі» таксама паведаміў пра гэтае пасяджэнне і пра выступы прадстаўнікоў беларускіх арганізацый з патрабаваннем уключыць у склад Думы беларусаў, бо «адзіным гаспадаром гэтага краю з'яўляецца беларускі народ»[1205].

На пасяджэнні Думы наступнага дня выступіў Смоліч, які паведаміў пра Першую Устаўную грамату і стварэнне Народнага сакратарыята. Ён пазнаёміў прысутных з тэкстам Граматы і заявіў, што «распачынаецца дзяржаўнае існаванне Беларускага краю»[1206]. Аднак з'яўленне Сакратарыята віталі пераважна польскія сацыялісты. А вось рэакцыя прадстаўніка ПРМЗ К. Дзямідзецкага-Дзямідовіча была даволі асцярожнай. Ён выказаў занепакоенасць, заявіўшы, што «палітычны твар сяброў Сакратарыята невядомы»[1207]. Насамрэч для дзеячаў польскага руху, як і для многіх сяброў Гарадской думы, сацыялістычны твар беларускага Народнага сакратарыята не мог быць таямніцай.

## *Першыя крокі да незалежнасці*

Раніцай 21 лютага ў Менску з'явілася нямецкая кавалерыя. Паводле інфармацыі газеты «Минский голос», нямецкі раз'езд накіраваўся ў камендатуру, дзе паведаміў пра хуткае прыбыццё нямецкіх войск.

А 11-й гадзіне на Віленскі вакзал Лібава-Роменскай чыгункі прыбыў эшалон з нямецкімі войскамі. Неўзабаве на вакзале з'явілася дэлегацыя на чале з прадстаўнікамі беларускай і польскай супольнасцяў Раманам Скірмунтам, Паўлам Алексюком, Эдмундам Івашкевічам, Ігнацыем Віткевічам, Чэславам Крупскім і Зыгмунтам Нагурскім. Раман Скірмунт звярнуўся да нямецкіх афіцэраў з прамовай, у якой выказаў надзею, што нямецкія ўлады праявяць лагоднасць і прыязнасць да мясцовага насельніцтва. Па яго словах, прадстаўнікі апошняга перакананы ў тым, што «нямецкія войскі прыйшлі як абаронцы права, парадку і сапраўднай свабоды, гатовыя аказваць ім усю магчымую дапамогу дзеля захавання ладу і спакою». У адказ прамаўляў граф Ёрк, які падзякаваў за сустрэчу і заявіў, што намеры нямецкіх улад у адносінах да менчукоў прыязныя і сяброўскія, а мэтаю нямецкай арміі з'яўляецца заканчэнне вайны і мірная дамова[1208].

Некаторыя менскія газеты назвалі згаданую дэлегацыю «польскай», і Скірмунту давялося зрабіць абвяржэнне. У першым нумары газеты «Беларускі шлях» ён паведаміў, што размаўляў з нямецкімі афіцэрамі «як прадстаўнік беларусоў»[1209].

Газетныя публікацыі дазваляюць сцвярджаць, што Менск сапраўды вітаў пры-

---

[1204] НГАБ. Ф. 24, воп. 1, спр. 3672, арк. 94 адв.- 95 адв.
[1205] «Goniec Miński». 1918, Nr 12.
[1206] НГАБ. Ф. 24, воп. 1, спр. 3672, арк. 106 адв.
[1207] Тамсама, арк. 107.
[1208] «Dziennik Miński». 1918, Nr 32.
[1209] «Беларускі шлях». 1918, № 1.

ход нямецкіх войск. Вось што паведамляла «Минская газета»: «Местная публика массовой толпой высыпала на улицы. Губернаторская улица и Соборная площадь были забиты людьми. Немецкие солдаты вели себя очень корректно, нередко обращались к местным жителям с приветствиями: «Guten Tag!» Публика вступала с солдатами и офицерами в разговор. Вид немецких солдат аккуратный и бодрый. Большинство из них в касках, в добротных сапогах, с запасной парой за плечами и прочими необходимыми вещами при походе. Два этажа гостиницы «Европа» заняли немецкие офицеры. Обед им был приготовлен в гостиничном ресторане»[1210].

«Вольная Беларусь» канстатавала: «Рад увесь Мінск, бо бальшавікі з чужынцамі на чале (Ландэр, Бэрсон, Мясьнікоў, Рэзаускі – латышы, расійцы і гэбраі) абходзіліся з мінчанамі, як татары пры наезьдзі Батыя. Арышты, штрафы, стрэлянiна сыпаліся на людзей, як з рогу дастатка»[1211]. Відавочна, што менчукі сапраўды моцна стаміліся ад бальшавіцкага панавання, і прыход нямецкіх войск многія ўспрынялі як доўгачаканую палёгку і шанс на нармалізацыю жыцця.

А беларусы спяшаліся... 21 лютага 1918 г. Выканкам Рады Усебеларускага з’езда прыняў Першую Устаўную грамату, у якой абвясціў сябе часовай уладай у Беларусі «для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Ўстаноўчага Сойму на аснове агульнага права для ўсякага дарослага, ня лічачыся з нацыянальнасьцю, вызнаньнем і родам»[1212]. Гэтую ўладу павінен быў здзяйсняць Народны сакратарыят.

Грамата была надрукавана на беларускай і рускай мовах і расклеена па ўсім Менску. Газеты яе не апублікавалі, але інфармацыя пра стварэнне Народнага сакратарыята з’явілася і на іх старонках. Так, «Минский голос» паведаміў чытачам пра пачатак выканання Народным сакратарыятам сваіх абавязкаў з 21 лютага і абранне Язэпа Варонкі ягоным кіраўніком[1213]. У першым складзе Народнага сакратарыята таксама апынуліся Тамаш Грыб, Аркадзь Смоліч, Палута Бадунова, Кастусь Езавітаў, Васіль Захарка, Пётр Крэчэўскі ды інш. Па-ранейшаму дамінаваў сацыялістычны кірунак беларускага руху, што не магло спрыяць кантактам з акупацыйнай адміністрацыяй. Апрача таго, немцы маглі ўспрымаць беларускае прадстаўніцтва як расійскіх марыянетак, асабліва з улікам іх жадання быць разам з Расіяй. У Першай Устаўной грамаце адсутнічаў пастулат аўтаноміі Беларусі ў межах дэмакратычнай і федэратыўнай Расіі, але гэта зусім не азначала адмову ад яго.

Касакоўскі ў Дзённіку паведаміў пра няўдалую спробу групы беларускіх палітыкаў на чале з Варонкам завязаць непасрэдны кантакт з нямецкім камандаваннем. Немцы адмовілі ў размове і прапанавалі скласці пісьмовы мемаран-

---

[1210] «Минская газета». 1918, 22 февраля.
[1211] «Вольная Беларусь». 1918, № 6.
[1212] Ф. Турук, *Белорусское движение...*, с. 111.
[1213] «Минский голос». 1918, № 2650.

дум, які абяцалі пераслаць вышэйшаму камандаванню[1214]. Падобна на тое, што актыўнасць беларускіх арганізацый стала для іх поўнай нечаканасцю.

У гэты ж дзень 21 лютага ў Менск пачалі ўступаць часткі корпуса Доўбар-Мусніцкага. 23 лютага загадам палкоўніка Бялінскага Аб'яднаная камендатура была ператворана ў Камендатуру Польскага корпуса. Таксама вайскоўцы пачалі рэквізіцыю маёмасці Менскага губернскага земства, якая кантралявалася гарадскім Камітэтам грамадскай бяспекі. Выбухнуў канфлікт з гарадской Думай, якая заявіла пратэст[1215].

Паводзіны камандавання корпуса істотна адрозніваліся ад пазіцыі ПРМЗ. Так, орган Польскай рады «Дзеннік Мінскі» адгукнуўся на Першую Устаўную грамату артыкулам «Беларуская дзяржаўнасць», аўтар якога падтрымаў ідэю дзяржаўнай самастойнасці Беларусі[1216]. Сцвярджалася, што галоўную ролю ў дасягненні гэтай самастойнасці павінны адыграць карэнныя жыхары Краю, менавіта беларусы і палякі. Аўтар заклікаў апошніх да актыўнай працы ў гэтым кірунку: «Разам цярпелі прымус, разам перажывалі няволю і разам павінны здабыць свабоду цела і духа для сваіх дзяцей. Пры роўнасці праў палякаў, беларусаў ды ўсіх іншых народаў краю іх будзе яднаць адзіная мэта – росквіт Белай Русі, агульнай маці і карміліцы».

Тагачасная сітуацыя ацэньвалася як найбольш адпаведная стварэнню беларуска-польскага краёвага ўрада, у якім «колькасная моц адных (беларусаў. – *А. С.*) будзе спалучана з культурай і вопытам другіх (палякаў. – *А. С.*)». Развіццё дзяржаўнасці Беларусі звязвалася з далучэннем да «цывілізацыі Захаду», у чым асаблівая роля адводзілася якраз польскай супольнасці.

Аднак падтрымка ідэі дзяржаўнай самастойнасці Беларусі зусім не азначала прызнання Народнага сакратарыята. У тым самым нумары «Дзенніка Мінскага» абвяргаліся чуткі пра аб'яднанне ПРМЗ з Народным сакратарыятам. Адзначалася, што палякі прызнаюць беларусаў за гаспадароў Краю і пры захаванні іх нацыянальных і культурных праў гатовы да паразумення з легітымным і кампетэнтным беларускім прадстаўніцтвам. Аднак Беларускую Рады яны такой не лічылі[1217].

Між тым, нямецкая акупацыйная адміністрацыя не збіралася ні з кім дзяліць уладу. 24 лютага 1918 г. прадстаўнік нямецкага камандавання маёр Вульфэн прыняў польска-беларускую дэлегацыю, у склад якой уваходзілі Скірмунт, Кяневіч, Нагурскі ды інш. Падчас размовы ён заявіў, што нямецкае камандаванне плануе працягваць барацьбу з бальшавікамі і заставацца на акупаваных тэрыторыях да канца вайны. Таксама прызнаўся ў намеры «разагнаць Беларускую Раду», бо камандаванне не верыць у яе здольнасць да сур'ёзнай працы. Пры гэтым ён

[1214] M. St. Kossakowski, *Diariusz. 1 stycznia–31 grudnia 1918 r.* Tom 3, s. 202.
[1215] НГАБ. Ф. 24, воп. 1, спр. 3672, арк. 107.
[1216] b/p. *Białoruska państwowość,* «Dziennik Miński». 1918, Nr 34.
[1217] b/p. *Fałszywe pogłoski,* «Dziennik Miński». 1918, Nr 34.

выказаў гатоўнасць да супрацы з ПРМЗ і заявіў, што немцы будуць працаваць з кожным самакіраваннем, калі яно будзе мець падтрымку насельніцтва[1218].

Невядома, ці падзяліўся Скірмунт атрыманай інфармацыяй з Народным сакратарыятам. Цалкам магчыма, што пра намеры нямецкага камандавання адносна беларускага прадстаўніцтва ў Менску сябры Рады Усебеларускага з'езда даведаліся ўжо 24 лютага. Аднак вядомае нам апісанне падзей, якія адбыліся на наступны дзень, сведчыць хутчэй пра непадрыхтаванасць Рады да гвалту з боку акупантаў.

25 лютага 1918 г. нямецкія вайскоўцы прымусілі беларускі ўрад пакінуць Дом губернатара. Пры гэтым былі канфіскаваны фінансавыя сродкі, і зняты з гмаху бел-чырвона-белы сцяг. Таксама загадалі расфарміраваць Менскі беларускі полк.

26 лютага прыйшла чарга Польскага корпуса. У гэты дзень генерал Доўбар-Мусніцкі і маёр Вульфэн падпісалі дамову, у адпаведнасці з якой ужо на наступны дзень корпус павінен быў пакінуць Менск. Ён атрымаў статус «нейтральнага войска», а месцам дыслакацыі стала тэрыторыя на ўсход ад Менску, трохкутнік паміж Барысавам, Асіповічамі і Магілёвам[1219]. Гэтую дамову звычайна ацэньваюць як поспех польскіх палітыкаў, якія здолелі захаваць войска. Аднак далейшыя падзеі паказалі, што корпус паступова ператварыўся ў фактар, які моцна пагоршыў становішча палякаў на Меншчыне. 6 сакавіка падчас візіту дэлегацыі корпуса ў Варшаву сябры Рэгенцыйнай Рады заявілі, што бяруць у свае рукі палітычнае кіраванне вайсковай адзінкай. У адмысловай дэкларацыі сцвярджалася, што «на беларускіх крэсах адраджаецца былая магутнасць Польшчы», што «крэсы з'яўляюцца яе неад'емнай часткай»[1220].

Асмалоўскі сцвярджаў, што гэта рашэнне значна ўзмацніла анексіяністскія настроі польскай супольнасці адносна будучыні Беларусі. Ён адзначыў іх рост не толькі сярод прыхільнікаў партыі Рамана Дмоўскага, але таксама ў асяродку ПРМЗ, які раней падтрымліваў ідэю беларускай дзяржаўнасці[1221]. Фактычна палітычная пазіцыя Выканкама ПРМЗ была разбурана.

Гэтаму разбурэнню таксама паспрыяла падпісанне ў Берасці 3 сакавіка 1918 г. мірнай дамовы паміж Расіяй, з аднаго боку, і – Германіяй і яе саюзнікамі, – з другога. Тэрыторыя Беларусі дзялілася па лініі Дзвінск–Свенцяны–Ліда–Пружаны–Берасце. Лёс тэрыторый, што знаходзіліся на захад ад гэтай лініі, павінны былі вызначаць Германія і Аўстра-Венгрыя. Яны выводзіліся з-пад юрысдыкцыі Расіі. Тэрыторыя на ўсход ад згаданай лініі лічылася часова акупаванай.

Як бачна, германскі ўрад не прыняў пад увагу інтарэсы беларусаў. Беларусь нічога не атрымала на аднаўленне разбуранай гаспадаркі, а частку яе тэрыторы

---

1218 M. St. Kossakowski, *Diariusz. 1 stycznia–31 grudnia 1918 r.* Tom 3, s. 228.
1219 «Dziennik Miński». 1918, Nr 51.
1220 BN. Dział mikroform. Akc. 6797. J. Osmołowski, Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2, k. 340.
1221 Ibidem, k. 328.

Германія збіралася перадаць Літве (Віленшчыну і Гарадзеншчыну) і Украіне (Гомельскі, Пінскі, Кобрынскі і частку Пружанскага пав.).

Асмалоўскі таксама заўважыў, што канцэпцыі інкарпарацыі Беларусі ў склад Польшчы сярод беларускіх палякаў супрацьстаяла невялікая апазіцыя, якая складалася з Польскага дэмакратычнага саюза, Сацыялістычнага аб'яднання і «групы Э. Вайніловіча». Яны выказваліся за разрыў з Расіяй і аўтаномію Беларусі ў складзе Польшчы. Таксама да апазіцыі ён залічыў нешматлікіх польскіх камуністаў, якія арыентаваліся на Савецкую Расію, і «палякаў-беларусаў», прыхільнікаў ідэі сувярэннай беларускай дзяржавы[1222]. Відавочна, што да апошніх належаў і Раман Скірмунт.

Гэтыя ідэйныя трансфармацыі, а таксама акупацыйны рэжым, які істотна абмежаваў магчымасці палітычнай дзейнасці, паспрыялі таму, што галоўным кірункам дзейнасці ПРМЗ стаўся культурна-асветніцкі, звязаны з пашырэннем польскай мовы і культуры. Асмалоўскі ва ўспамінах назваў гэта палітыкай паланізацыі і адзначыў, што яна моцна пагоршыла польска-беларускія адносіны, а таксама стасункі паміж селянінам і памешчыкам, беларусам-католіком і праваслаўным беларусам. Паводле ягонага меркавання, увесну 1918 г. толькі «група Э. Вайніловіча» падтрымлівала адносіны з паланафільскім і кансерватыўным асяродкам беларускага руху[1223].

Пагаршэнню таксама спрыяў актыўны ўдзел Польскага корпуса ў працэсе вяртання землеўласнікам страчанай маёмасці. Звычайна гэта суправаджалася рэпрэсіямі супраць сялян і габрэяў, якіх падазравалі ў сімпатыях да бальшавікоў. Многія выпадкі гвалту над жыхарамі вёсак і мястэчак трапілі на старонкі не толькі беларускага і габрэйскага, але таксама польскага друку, і выклікалі хвалю абурэння. Асмалоўскі прыгадаў факт публічнага пакарання розгамі аднаго з габрэйскіх агітатараў, што выклікала асаблівую варожасць з боку габрэйскай супольнасці[1224]. У газеце «Беларускі шлях» канстатаваліся наступствы дзеянняў польскіх салдат: «Каталікі беларускія сяляне навекі пазбавіліся ад польскай арыентацыі»[1225].

Частка польскай супольнасці таксама пратэставала супраць ужывання корпуса як паліцэйскай сілы. Іх хваляваў відавочны рост антыпольскіх настрояў. Аднак спробы ПРМЗ паўплываць на пазіцыю камандавання аказаліся безвыніковымі[1226]. Доўбар-Мусніцкі ў пэўны момант пачаў ігнараваць Польскую раду Менскай зямлі.

Між тым, беларускія дзеячы ўсё ж паразумеліся з нямецкай адміністрацыяй. 28 лютага немцы дазволілі дзейнасць Народнага сакратарыята як прадстаўніка беларусаў. Савецкая гістарыяграфія асуджала ўсе кантакты паміж дзеячамі бе-

[1222] Ibidem, k. 340.
[1223] Ibidem, k. 329.
[1224] Ibidem, k. 309.
[1225] «Беларускі шлях». 1918, № 54.
[1226] «Dziennik Miński». 1918, Nr 51.

ларускага руху і нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй у 1918 г. Палітыкаў залічылі ў «здраднікі» беларускага народу, які нібыта змагаўся супраць акупантаў пад сцягам Савецкай улады. Гэтыя ацэнкі былі інспіраваны савецкай ідэалогіяй. Яна і сёння застаецца ўплывовай у Беларусі, нягледзячы на знікненне той партыі і той дзяржавы, якая яе стварыла.

Тагачасныя кантакты паміж беларускімі палітыкамі, у т. л. Раманам Скірмунтам, і нямецкімі акупантамі, трэба ацэньваць не з пункту гледжання савецкай улады ці Расійскай імперыі, а з пазіцыі інтарэсаў беларускай зямлі і яе народу. Відавочна, што найбольш аптымальным шляхам развіцця Беларусі з'яўляецца яе існаванне ў якасці незалежнай дзяржавы. Але ўсе ранейшыя кантакты з прадстаўнікамі расійскай палітычнай эліты, незалежна ад іх сацыяльна-палітычнай арыентацыі, выявілі катэгарычнае непрыманне ідэі беларускага нацыянальнага самавызначэння і тым больш незалежнасці Беларусі. Апрача таго, ні імперыя Раманавых, ні бальшавіцкая дзяржава не з'яўляліся для беларускіх адраджэнцаў і Рамана Скірмунта Радзімай у поўным сэнсе гэтага слова. Зразумела, што войскі Германіі не прыйшлі ў Беларусь дзеля яе вызвалення і забеспячэння народу права на свабоднае развіццё. Іх найбольш цікавілі прыродныя, гаспадарчыя і чалавечыя рэсурсы дзеля патрэб германскай эканомікі і войска. Але менавіта нямецкія войскі спынілі бальшавіцкую палітыку татальнага разбурэння гаспадаркі і культуры.

Да таго ж, у адрозненне ад дзяржавы Раманавых і яе бальшавіцкай пераемніцы немцы, прынамсі, дэманстравалі прыхільнасць да нацыянальна-культурных памкненняў прыгнечаных Расіяй народаў. Як ужо адзначалася, на тэрыторыі г. зв. Обэр-Ост беларуская мова стала мовай школьнай адукацыі. Акупацыйная ўлада не перашкаджала вынясенню «беларускага пытання» на міжнароднае абмеркаванне. У лютым 1916 г. у Вільні пачала выходзіць беларуская газета «Гоман», рэдакцыяй якой кіравалі Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі. У 1915–1917 гг. беларусы на тэрыторыі г. зв. «старой акупацыі» сапраўды разлічвалі на падтрымку з боку Германіі. Менавіта таму пад зваротам да прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Вудра Вільсана (май 1916 г.), які павінен быў засведчыць падтрымку народамі акупаваных земляў нямецкай палітыкі, стаялі подпісы беларускіх дзеячаў В. Ластоўскага і Ю. Салаўя[1227].

Увосень 1917 г. краёвая ідэя спрычынілася да кансалідацыі беларускага руху ў зоне «старой акупацыі». Газета «Гоман» стала цэнтрам падрыхтоўкі Віленскай беларускай канферэнцыі, якая працавала з 23 па 25 студзеня 1918 г. Прадстаўнікі беларускіх арганізацый пагадзіліся з раней выпрацаванай віленскім беларускім асяродкам канцэпцыяй беларускай дзяржаўнасці: «Будучы глыбока пераканаlittleны, што толькі поўная дзяржаўная незалежнасць можа забяспечыць беларускаму народу магчымасць усебаковага эканамічнага і культурна-нацыянальнага развіц-

[1227] W. Sukienicki, *Początki Ober-Ostu i sprawa Konfederacji Wielkiego Księstwa Litewskiego w 1915–1916,* «Zeszyty Historyczne». 1974, zeszyt 28, s. 103

ця […] прадстаўнікі беларусаў […] патрабуюць, каб акупаваныя літоўска-беларускія землі ўтваралі незалежную дэмакратычную дзяржаву, якая б складалася з двух падставовых нацыянальна-тэрытарыяльных адзінак – беларускай і літоўскай, цесна звязаных з незалежнай Курляндыяй»[1228].

Сталіцай дзяржавы павінна была стаць Вільня. Упершыню ідэя беларускай дзяржаўнасці (у саюзе з Літвой) прагучала як патрабаванне прадстаўнікоў беларускага народу. На канферэнцыі была абрана Віленская Беларуская Рада як кардынатар намаганняў усіх беларускіх арганізацый.

Акупацыйныя ўлады не пагадзіліся з беларускай праграмай. Яны нават не дазволілі змясціць паведамленне пра канферэнцыю ў друку. Нямецкімі фаварытамі з'яўляліся літоўцы. Тым не менш, нельга было апускаць рукі.

На тэрыторыі «новай акупацыі» (1918) усё магло скласціся інакш. Усё ж падтрымка нямецкімі ўладамі адраджэння польскай дзяржавы ў саюзе з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй, заява пра прызнанне незалежнасці Украінскай Народнай рэспублікі, прыхільнасць да нацыянальна-дзяржаўных намаганняў літоўскага руху сведчылі, што і беларусы маюць пэўны шанс разыграць «германскую карту». Тым больш, што ўвесну 1918 г. усё больш відавочным станавілася немагчымасць для Германіі працягваць вайну на два фронта. У гэтай сітуацыі краіна была вымушана шукаць новых саюзнікаў, у т. л. і сярод народаў былой Расійскай імперыі.

Аднак ці можна было спадзявацца на паразуменне акупацыйных улад з беларускімі арганізацыямі, дзе дамінавалі сацыялісты расійскай арыентацыі? Магчыма, менавіта таму Раман Скірмунт паспрабаваў аб'яднаць тыя палітычныя сілы, якія дэманстравалі больш «правыя» ці памяркоўна-сацыялістычныя погляды і не мелі ілюзій наконт «федэратыўнай і дэмакратычнай Расіі». Фактычна рабілася стаўка на ўсе тыя палітычныя сілы, якія пасля ліпеньскага з'езда 1917 г. былі адхілены БСГ ад актыўнага ўдзелу ў беларускім руху.

25 лютага 1918 г. узнікла *Менскае беларускае прадстаўніцтва* (МБП). У друку таксама сустракалася назва *Беларускае народнае прадстаўніцтва ў Менску*, якое было адпаведнікам назвы гэтай арганізацыі па-нямецку: *Das Minsker Weissruthenisches Volks-Komitee*[1229].

Паводле газеты «Беларускі шлях»[1230], у гэты дзень у Менску адбыўся сход «беларусоу – прэдстаунікоу ад усіх слаеу насялення», на якім і адбылося стварэнне Прадстаўніцтва. Яно імкнулася «прадстауляць інтарэсы беларускага народу і быць нацыанальным цэнтрам, куды за усякімі спраукамі маюць зварачывацца усе каму дорага нізалежнасць Беларусі, культура і самабыцце беларускага народу». У склад кіраўнічага Камітэта Прадстаўніцтва ўвайшлі 9 асобаў – Р. Скірмунт,

[1228] [L. Abramowicz], *Litwa pod czas wojny: zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t. p.*, s. 130.

[1229] В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску*, «Спадчына». 1997, № 5, с. 30.

[1230] «Беларускі шлях». 1918, № 1.

пратаірэй Менскай епархіі С. Кульчыцкі, генерал К. Кандратовіч, ксёндз В. Гадлеўскі, А. Уласаў, П. Аляксюк, В. Чавусаў, В. Русецкі і Р. Зямкевіч.

Як сцвярджаў пазней Вінцэнт Гадлеўскі, «Прадстаўніцтва паставіла сабе мэту паддзяржаць традыцыі даўнейшага Бел[еларускага] Нац[ыянальнага] Камітэту, разьбітага ў ліпні 1917 г. Б[еларускай] Сац[ыялістычнай] Грамадою і быць нацыянальным цэнтрам, злучаўшым і прадстаўляўшым не адну, але ўсе беларускія партыі, апынуўшыяся па-за Радай Рэспублікі. Апроч гэтага, Прадстаўніцтва паставіла ясна і адкрыта незалежнасьць Беларусі»[1231]. Сапраўды, МБП з’яднала народных сацыялістаў, хрысціянскіх дэмакратаў, беспартыйных. Яно не з’яўлялася нейкай «кішэннай партыяй» Рамана Скірмунта, якая павінна была абслугоўваць ягоныя палітычныя амбіцыі. Насамрэч, Прадстаўніцтва ўяўляла сабой спробу кансалідацыі беларускіх сіл, прыхільных ідэі незалежнасці Беларусі. Раман Скірмунт і ягоныя партнёры па МБП канчаткова адмовіліся ад канцэпцыі аўтаноміі Беларусі ў межах Расіі.

Кансалідацыі спрыяла і тое, што для лідэра МБП не быў характэрным аўтарытарны стыль кіравання. Сябры Прадстаўніцтва маглі выказваць погляды, якія не заўсёды адпавядалі пазіцыі Скірмунта. Гэта часта праяўлялася ў публікацыях на старонках органа МБП газеты «Беларускі шлях» (рэд. № 1 П. Аляксюк, з № 2 – А. Прушыньскі).

Скірмунт быў пэўны, што партыйны склад Народнага Сакратарыята не адпавядаў новай палітычнай сітуацыі ў Менску. Відавочна, што беларускія дзеячы, вядомыя яшчэ па працы ў БНК, стваралі альтэрнатыву Народнаму Сакратарыяту. Гэтая арганізацыя павінна была аб’яднаць тыя сілы, якія належалі да «правага» сектара палітычнага жыцця, парушыць манаполію сацыялістаў і наладзіць кантакты з нямецкай адміністрацыяй.

У Аўтабіяграфічным нарысе В. Гадлеўскі сцвярджаў, што мэтаю новай арганізацыі было «навязаць нейкія зносіны зь нямецкімі ўладамі, якія не прызнавалі і не хацелі нават гаварыць з прадстаўнікамі Беларускай Рады. Прадстаўніцтва (на чале са Скірмунтам) сабрала каля сябе людзей паважнейшых, якіх немцы не маглі ўважаць за нейкіх крыкуноў і маладжавых палітыкаў як Мамонька, Грыб, Варонка ды іншыя. Да Прадстаўніцтва далучыўся і генерал Кандратовіч, будучы арганізатар беларускага войска. Дык Прадстаўніцтву скора ўдаецца наладзіць сякія-такія зносіны зь Немцамі. Абудзілася надзея, што пры нямецкай помачы можна будзе адбудаваць Беларусь»[1232].

Сапраўды, адным з першых крокаў МБП стаўся візіт яго дэлегацыі ў складзе Р. Скірмунта, П. Алексюка і В. Чавусава да нямецкага камандавання, якому ўручылі «беларускі мемарандум». Пра гэта паведаміла газета «Минский голос» 27 лютага.

---

[1231] В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску*, с. 30.

[1232] З *жыцця і дзейнасці кс. В. Гадлеўскага: Аўтабіяграфічны нарыс*, «Гарадзенскія запісы». 1993, с. 127.

На жаль, пра змест пададзенага дакумента нічога не паведамлялася. Цалкам магчыма, што ён утрымліваў асноўныя палажэнні праграмы Прадстаўніцтва. У адрозненне ад Народнага Сакратарыята яно не прэтэндавала на тое, каб прадстаўляць інтарэсы ўсяго беларускага народу.

Галоўнай фігурай МБП быў Раман Скірмунт. Але з фармальнага пункту гледжання гэта стала відавочным толькі 4 красавіка 1918 г., калі быў абраны Прэзідыум Прадстаўніцтва, у які ўвайшлі Раман Скірмунт (старшыня), Аляксандр Уласаў (віцэ-старшыня) і Павел Аляксюк (сябра)[1233]. Месцілася МБП па адрасе вул. Захар'еўская, 41/12 на рагу з вул. Серпухоўскай (зараз Валадарскага), у г. зв. «доме Воліна».

Цікава, што стварэнне МБП не азначала аўтаматычнай ліквідацыі Беларускага народнага камітэта, які працягваў сваю дзейнасць і неўзабаве заявіў пра сябе галасным зваротам да нямецкіх уладаў.

Палітычная праграма Прадстаўніцтва была праграмай адбудовы беларускай дзяржаўнасці «ў межах пражывання беларусаў». Яе ўмацаванне бачылася на шляху паразумення з літоўцамі і латышамі дзеля забеспячэння выхаду да мора і ў саюзе з «вялікай цэнтральнай дзяржавай», пад якой разумелі Германію. Таксама адзначалася важнасць «справядлівай і гістарычнай і дзяржаўнай граніцы з Украінай». Прадугледжвалася правядзенне зямельнай рэформы, якая б павялічыла надзелы дробных землеўладальнікаў і надзяліла зямлёй беззямельнае сялянства. Відавочна, што Раман Скірмунт стаў больш прыхільна ставіцца да ідэі радыкальнай аграрнай рэформы. Вялікае месца адводзілася развіццю адукацыі і асветы, што мела непасрэднае дачыненне да праблемы арганізацыі «новага ўпраўленьня краем». Умовай вырашэння гэтых задач абвяшчалася «злучэнне ўсіх верных сыноў Беларусі» вакол Прадстаўніцтва, а таксама «супольная праца з гэрманскімі акупацыйнымі уласьцямі».

*ДАКУМЕНТ*

**Адозва Менскага Беларускага Прэдстаўніцтва**[1234]

*Менскае Беларускае Народнае Прэдстаўніцтво кліча усіх верных сыноў Беларусі, каторые даражаць палітычным, эканамічным і культурным адраджэннем краю злучыцца каля яго, бо німа другога нацыянальнаго і межпартыйнаго органу, каторы мог бы дабіцца усіх гэтых заданняў.*

*Менскае Беларускае Прэдстаўніцтво дзеля дасягення гэтых мэтаў лічыць патрэбным*

*1) Адбудаванне і разьвіцце Беларускай дзяржаўнасьці у граніцах разсялення беларускаго племяні;*

*2) Урэгуляванне беларуска-літоўскіх дзяржаўна-народных адносін на асновах супольнаго будаўніцтва і зьвязку с Курляндзіяй дзеля аднаўлення старых гандлевых дарог да мора;*

---

[1233] «Беларускі шлях». 1918, № 12.

[1234] «Вольная Беларусь». 1918, № 9; «Беларускі шлях». 1918, № 3.

*3) Падтрыманне зьвязку з вялікай цэнтральнай дзяржавай, каторая адна толькі можа забеспечыць народу права на самаадзначэнне;*

*4) Для паляпшэння быту і здавальнення патрэб сялянства – правядзенне грунтоўнай зямельнай рэформы, каторая б павялічыла надзелы дробных землеўласьнікаў і дала б можнасьць надзяліць беззямельных батракоў зямлёй на рахунак вялікіх землеўласьнікаў, зямель скарбовых і другіх;*

*5) Завесьці зараз-жа, павэдлуг магчымасьці народныя беларускія школы і вучыцельскія семінарыі;*

*6) Выданне школьных беларускіх падручнікаў і арганізацыя народных беларускіх хат дзеля культуры і прасьветы;*

*7) Падгатоўчая работа, каб завесьці новае ўпраўленне краем;*

*8) Правядзенне справядлівай і гістарычнай і дзяржаўнай граніцы з Украінай;*

*9) Супольная праца з гэрманскімі акупацыйнымі уласьцямі, каб завесьці новы парадак і добрабыт краю.*

Варта адзначыць, што гэтая адозва ўпершыню з'явілася на старонках газеты «Вольная Беларусь» 17 сакавіка 1918 г. Значна пазней яна была апублікавана ў газеце «Беларускі шлях» (26 сакавіка), якая з'яўлялася органам Прадстаўніцтва, але выходзіла нерэгулярна.

Рэдактарам і выдаўцом першага нумара «Беларускага шляху» (8 сакавіка) быў Павел Аляксюк. У кароткім паведамленні *Ад рэдакцыі* сцвярджалася, што галоўнымі мэтамі газеты з'яўляюцца «нізалежнасьць Беларусі, нацыянальная еднасьць і арганізацыя, развіцце беларускай духоўнай і матэрыяльнай культуры». Рэдакцыя месцілася ў тым самым будынку, што і МБП, менавіта, у «доме Воліна»[1235].

У перадавым артыкуле гаворка ішла пра абавязак інтэлігенцыі дапамагчы народу выйсці з таго цяжкага становішча, у які яго ўвялі прыгожыя абяцанні расійскай рэвалюцыі. Рэдакцыя заклікала брацца за працу ўсіх, хто мае веды, вопыт, уменні і проста адчувае свой «сыноўні абавязак» адносна народу.

У артыкуле прысутнае імкненне да кансалідацыі і паяднання розных палітычных сіл. Ягоны аўтар (аўтары?) сцвярджаў, што вышэй за ўсе разыходжанні і спрэчкі – «доля нашай Бацькоушчыны-Беларусі, каторая палепшыцца можа толькі праз заклад моцнага фундаменту яе нізалежнасьці на грунці нераздзельнасьці беларускаго народу ў яго этнографічных рубяжах праз падняцце нацыянальнай творчай сілы народу як духоўнай, так і матэрыяльнай; праз управаджэнне станоучай зямельнай рэформы ў інтарэсах дробных земляробаў і беззямельных, каб згодна з засьвядчэннем социяльнай навукі падняць іх добрабыт і дапамагчы эканамічнаму развіццю края. Толькі згода усіх нацыяу ў Беларусі, свабоднае развіцце іх нацыянальных культур і злучэнне ў агульнай працы усіх творчых жы-

---

[1235] Сёння гэта дом № 12 па вул. Валадарскага.



20 коп.

Мінск Пятніца 8 сакавіка 1918 г. № 1.

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Ад рэдакцыі.

*Газета «Беларускі шлях».*
*Фрагмент першай старонкі першага нумару*

вых сіл краю можа давясьці нас да бажаных скуткау».

У тым самым нумары ў артыкуле «Народ і інтэлігенцыя» Язэп Лёсік (*Язэп Ліхадзіеўскі*) сцвярджаў, што інтэлігенцыя з'яўляецца творчай сілай народу, без якой народ застаецца «элементам пасыўным», аб'ектам, а не суб'ектам. І ён заклікаў да яднання, пераконваючы чытача, што «мы ўсе найперш беларусы, а ужо потым сацыялісты ці ні сацыялісты, дэмакраты ці ні дэмакраты, консэрватары ці ні консэрватары»[1236].

Цікава, што гэты выраз з артыкула Лёсіка разам з праграмай газеты найбольш зацікавілі карэспандэнта «Дзенніка Мінскага», які інфармаваў польскую супольнасць пра з'яўленне новага беларускага выдання. Звярнуўшы ўвагу на вышэйпрыведзеную думку Лёсіка, ён пісаў: «Гэтая заява на фоне сапраўднага разліву ранейшых лозунгаў і дэкларацый дыхае даўно не чуваным у расійскай дэмакратыі цяплом, звяртаецца ўвага на найбольш істотную рэч, а будаўніцтва пачынаецца з падмурку сацыяльнага гмаху»[1237]. Аўтар сцвярджаў, што «Беларускі шлях» у лепшы бок адрозніваецца ад іншых беларускіх газет. Ён выходзіць з рэальнай сітуацыі і без непатрэбнага пафасу і пустых лозунгаў пачынае працу з фундаментальных асноў нацыянальнага жыцця.

Ёсць падставы сцвярджаць, што значную частку сродкаў на выданне «Беларускага шляху» МБП атрымала якраз ад Польскай Рады Менскай зямлі. Відавочна, што гэта была заслуга галоўным чынам Скірмунта.

Пачынаючы з № 2, «Беларускі шлях» рэдагаваў ужо Аляксандр Прушынскі. Аляксюк у гэтым нумары заявіў, што ў сувязі з новымі адказнымі абавязкамі ў беларускім руху ён выходзіць з рэдакцыі. Адзначалася, што гэта не зменіць пазіцыю газеты, абвешчаную ў яе першым нумары[1238].

Публікацыі «Беларускага шляху» – важная крыніца для разумення поглядаў Рамана Скірмунта і характару ягонай палітычнай дзейнасці. Варта яшчэ раз адзначыць, што заснавальнік МБП і арганізатар газеты прытрымліваўся дэмакратычнага стылю кіравання, які прадугледжваў высокую ступень свабоды думак і дзеянняў людзей, якія ішлі з ім і трактаваліся палітычнымі канкурэнтамі як пад-

---

[1236] Я. Ліхадзіеўскі [Я. Лёсік], *Народ і інтэлігенцыя,* «Беларускі шлях». 1918, № 1.

[1237] b/p. *Białoruski szlak*, «Dziennik Miński». 1918, Nr 45.

[1238] «Беларускі шлях». 1918, № 2.

началення Скірмунта. Дарэчы, тое ж самае назіралася ў Беларускім нацыянальным камітэце, калі ім кіраваў Скірмунт.

Перамовы ў Берасці выклікалі непакой беларускіх палітыкаў. Пасля адмовы савецкай дэлегацыі дапусціць да ўдзелу беларускіх прадстаўнікоў Народны Сакратарыят і МБП шукалі магчымасці паўплываць на пазіцыю нямецкага боку. Беларускі гісторык С. Хоміч сцвердзіў, што ўжо 27 лютага 1918 г. Народны Сакратарыят накіраваў германскаму камандаванню мемарандум, у якім выклаў мэты беларускага руху і спрабаваў высветліць стаўленне немцаў да ідэі беларускай дзяржаўнасці. Адказу не было[1239].

Напачатку сакавіка 1918 г. землеўласнікі з «групы Вайніловіча» дасягнулі паразумення з палітыкамі МБП аб сумесным мемарандуме да германскіх улад. Дэлегацыя ў складзе Эдварда Вайніловіча і графа Чапскага ўручыла камандуючаму 10 нямецкай арміяй генералу Эрыху фон Фалькенгайну мемарандум, які прапанаваў адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага пад нямецкай апекай на падмурку беларускіх зямель. Гэта была яшчэ адна спроба адстаяць краёвую ідэю, захаваць цэласнасць гістарычнай Літвы і пабудаваць беларускую дзяржаўнасць у межах Беларуска-Літоўскай федэрацыі або канфедэрацыі. Аднак генерал заявіў, што пасля Берасцейскага міра гэта ўжо немагчыма[1240].

У адказ на Берасцейскі мір 9 сакавіка 1918 г. Выканкам Рады Усебеларускага з’езда выдаў Другую Устаўную грамату, якая абвяшчала Беларускую Народную Рэспубліку ў межах рассялення і колькаснай перавагі беларускага народу. Пытанне яе суверэнітэту, межаў і адносін да суседніх дзяржаў абміналася. Вышэйшай заканадаўчай уладай абвяшчаўся Устаноўчы сойм, а да яго скліканне Рада Усебеларускага з’езда. Выканаўчая ўлада належала Народнаму Сакратарыяту. У БНР абвяшчаліся ўсе дэмакратычныя свабоды, правы народаў на нацыянальна-персанальную аўтаномію і роўнасць усіх моваў. Ліквідавалася прыватная ўласнасць на зямлю, якая без выкупу перадавалася тым, хто на ёй працуе[1241].

Змест гэтай Устаўной граматы адразу ж быў даведзены да нямецкіх акупацыйных уладаў. У Берлін канцлеру Георгу фон Гетлінгу была накіравана радыётэлеграма. Адказу не было, і праз два дні прадстаўнікі Народнага Сакратарыята нанеслі візіт начальніку штаба нямецкага корпуса. Як паведамляў потым орган менскай абласной арганізацыі партыі эсэраў газета «Дело труда», у размове, што працягвалася дзве з паловай гадзіны, закраналіся самыя розныя пытанні «дзяржаўнага ўладкавання Беларусі». Беларуская дэлегацыя была ўражана глыбокай эрудыцыяй суразмоўцы, які ведаў працы Яўхіма Карскага і карыстаўся ягонай картай распаўсюду беларускай мовы.

---

1239 *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII–пачатку XXI ст.* У 2-х кн. Кн. 1. Рэд. А. Каваленя і інш. Мінск 2011, с. 356.

1240 BN. Dział mikroform, akc. 6798. J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2,* k. 329.

1241 Ф. Турук, *Белорусское движение…*, с. 112.

У газетнай інфармацыі сціпла адзначалася, што дзеячы Народнага Сакратарыята звярнулі ўвагу на тэрытарыяльныя прэтэнзіі з боку асобных «нацыянальных груп». Падобна, што гаворка ішла пра палякаў, бо ў адказ прадстаўнік нямецкай акупацыйнай улады выказаў здзіўленне «польскімі прэтэнзіямі на акупаваную частку Беларусі». Таксама нямецкі афіцэр прызнаў, што ранейшыя непаразуменні паміж акупацыйнымі ўладамі і Народным Сакратарыятам былі абумоўлены «хлуслівымі даносамі і абвінавачваннямі» апошніх у бальшавізме. Напрыканцы аўтар карэспандэнцыі канстатаваў упэўненасць сяброў беларускай дэлегацыі, што ўжо ў бліжэйшы час «атрымаецца знайсці агульную мову, завязаць кантакты з германскімі ўладамі і працягваць будаўніча арганізацыйную працу ў краі»[1242].

Гэтая інфармацыя сведчыць пра намаганні Сакратарыята наладзіць стасункі з акупацыйнымі ўладамі і знайсці іх падтрымку ў справе абароны беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Аднак даводзіцца канстатаваць, што, нягледзячы на ветлівы прыём і працяглыя размовы з прадстаўнікамі акупацыйнай адміністрацыі, гэтыя кантакты былі цалкам безвыніковымі. Таксама ніяк не рэагаваў на звароты Рады БНР германскі рэйхстаг.

Чаму ўсе гэтыя намаганні ігнараваліся Берлінам? Адказ на гэтае пытанне павінен уключаць аналіз ваенна-палітычнай сітуацыі Германіі і ўлічваць ацэнку нямецкімі палітыкамі незалежніцкіх намаганняў беларускіх сацыялістаў. Падобна, што Берлін канчаткова не вызначыўся ў сваім стаўленні да Беларусі. Відавочна, яны не хацелі раздражняць Расію, парушаючы ўмовы Берасцейскага трактата, і, магчыма, не бачылі ў Радзе БНР сур’ёзнага палітычнага партнёра.

Рада павінна была ўмацаваць свае пазіцыі ў Менску. Шукаючы падтрымкі, менскія сацыялісты звярнуліся да віленчукоў. 9 сакавіка 1918 г. Аркадзь Смоліч напісаў ліст Антону Луцкевічу, які, між іншым, дапамагае зразумець першую рэакцыю сяброў БСГ і Народнага Сакратарыята на з’яўленне МБП. Смоліч пісаў пра важнасць сацыяльных лозунгаў беларускага руху, якія, на яго думку, забяспечылі першыя поспехі беларускай справы ў Менску. Да іх ён адносіў стварэнне Народнага Сакратарыята, прыняцце рашэння пра абвяшчэнне БНР і... прыхільнае стаўленне памочніка кіраўніка нямецкай дэлегацыі ў Берасці «нейкага Шеллера» да беларускай дэлегацыі. Але адначасна Народны Сакратарыят сутыкнуўся з варожасцю «нямецкіх дробных начальнікаў» і быў выгнаны з Дома губернатара. Прычыну Смоліч тлумачыў тым, што «проста німа спаміж нас да іх дапасаваных палітыкаў». Ён настойліва запрашаў віленчукоў прыехаць у Менск і ратаваць беларускую справу.

Напрыканцы ліста Смоліч паведамляў пра існаванне ў Менску «двух цэнтраў»: «Народны Сэкратарыят – выводзіць ад Зьезду 17/XII, а тут сабралася купка «буржуазных беларусаў» і выбралі сваё прэдстаўніцтва – нібы ад усіх клясаў. Але за

[1242] НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 175, арк. 114–114 адв.; «Дело труда». 1918, № 4.

імі нічога не стаіць, апрача хіба Скірмунтавых дастаенстваў»[1243]. Відавочна, што Народны Сакратарыят глядзеў на МБП як на палітычнага праціўніка і не збіраўся шукаць «дапасаваных палітыкаў» сярод «буржуазных беларусаў».

Тым не менш, актыўнасць Народнага Сакратарыята аказалася плённай. Так, 18 сакавіка Менская Гарадская дума, дзе па-ранейшаму даволі моцнымі былі прарасійскія настроі, пасля прамовы Аляксандра Цвікевіча і дыскусіі ўсё ж падтрымала большасцю галасоў Другую Устаўную грамату. Адным з важных аргументаў Цвікевіча было сцвярджэнне, што абвяшчэнне БНР – гэта адзіны шлях не дапусціць падзелу беларускай зямлі паміж суседнімі краінамі[1244].

Сапраўды, на пачатку вясны 1918 г. геапалітычная сітуацыя Беларусі ўскладнілася. У Берліне разглядалася пытанне пра магчымасць далучэння Гарадзеншчыны і часткі Меншчыны да Польшчы ў якасьці кампенсацыі за адмову палякаў ад прэтэнзій на Пазнаньшчыну. У сувязі з гэтым Віленская Беларуская Рада 17 сакавіка накіравала ліст з пратэстам супраць чарговага падзелу Беларусі на імя рэйхсканцлера фон Гетлінга.

Адначасна пратэставалі Рада Усебеларускага з’езда і Народны Сакратарыят. У тэлеграме да рэйхсканцлера сцвярджалася, што такое пагадненне паміж Германіяй і Польшчай парушае «жыццёвыя інтарэсы беларускага народу і значнай большасьці нацыянальных меншасьцяў Беларусі» і з’яўляецца «цяжкай знявагай». Спасылаючыся на права нацый на самавызначэнне, аўтары тэлеграмы заяўлялі, што будучыню Беларусі павінна вызначыць яе насельніцтва «шляхам вольнага народнаго голасавання». Выказвалася просьба дапусціць беларускіх прадстаўнікоў да польска-нямецкіх перамоў, якія ішлі ў Берліне[1245].

18 сакавіка германскаму рэйхсканцлеру і кіраўніцтву Обэр-Ост быў накіраваны зварот Беларускага народнага камітэта. Віленскі «Гоман» апублікаваў яго ўжо 19 сакавіка, «Дзеннік Мінскі» паведаміў пра зварот 21 сакавіка, а «Вольная Беларусь» змясціла тэкст звароту 24 сакавіка. Ён істотна адрозніваўся ад ранейшых беларускіх пратэстаў. Беларускі народны камітэт як «нацыянальны надпартыйны орган Беларускаго народу» адхіляў тэрытарыяльныя прэтэнзіі Польшчы і Украіны, а таксама «літоўскіх і балтыйскіх суседзяў». Аднак адначасна «з радасьцю» віталася дзяржаўнае збліжэнне з апошнімі. Камітэт выказваўся за самастойнае дзяржаўнае існаванне Беларусі на падмурку «заходняй культуры» і пры падтрымцы нямецкай дзяржавы, якая магла паспрыяць ліквідацыі «ніспраўядліваго і шкадліваго разьдзелу». Прапанавалася правядзенне нарады з удзелам прадстаўнікоў Камітэта[1246].

Фактычна ўпершыню на міжнародны форум была вынесена ідэя беларускай

---

[1243] БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 261, арк. 30–30 адв.

[1244] D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 234.

[1245] «Вольная Беларусь». 1918, № 9.

[1246] Тамсама, № 10.

дзяржавы «еўрапейскага тыпу». У тагачасных умовах яна яшчэ не ўсведамлялася як цалкам самастойная. Аўтары адозвы шукалі падтрымкі нямецкага боку, але першы крок быў зроблены.

*ДАКУМЕНТ*

**Тэлеграма Беларускага народнага камітэта ад 18 сакавіка 1918 г., адрасаваная рэйхсканцлеру Германіі і кіраўніцтву Обэр-Ост**[1247]

*Беларускі Народны Комітэт у Мінску як нацыянальны надпартыйны орган Беларускаго народу, каторы дамагаецца палітычнаго, культурнаго і эконамічнаго адраджэння, просіць захаваць родны край ад ніспраўядліваго і шкадліваго разьдзелу. Гістарычныя і этнаграфічныя граніцы Беларусі сягаюць на ўсход да ракі Сожы, абнімаюць паўночную і заходнюю даліну Дзвіны, а на заходзі займаюць значную большасьць Гродзеншчыны і Віленшчыны разам з гарадамі Беластокам і Берэсьцям. На поўдні – граніцы сходзяцца з граніцамі Гродзеншчыны і Міншчыны.*

*Мы рашуча і станоуча протэстуем процi жадання суседніх народаў разглядаць гэтыя землі як безпанскія. З радасьцю вітаючы дзяржаўнае зблiжэнне з нашымі літоўскімі і балтыцкімі суседзямі, мы цвёрда протэстуем процi літоўскіх нізаконных дамаганняў на Вільню і вялікую часьць Віленшчыны і Гродзеншчыны. Гэтае пытанне можа быць аканчацельна разьвязана толькі на аснові узаемнай угоды.*

*Усе прэтэнзіі палякоў на часьці Віленшчыны і Гродзеншчыны мы, безумоўна, адкідаем як безпраўныя захватныя дамаганні. Мы просім паправіць палудзенную граніцу краю з Украінаю згодна з палудзеннаю граніцаю Гродзеншчыны і Міншчыны, каторая 600 гадоў станавіла старую гістарычную дзяржаўную мяжу.*

*Мы жадаем нізалежнаго дзяржаўнаго істнення і бачым спаўненне гэтаго толькі ў апоры на заходнюю культуру і яе прэдстаўніцу – Гэрманскую імперыю.*

*Мы просім абараніць нашыя справядлівыя дамаганні і прызнаць нашых прэдстаўнікоў дзеля перагавораў.*

*Падпісалі: Р. Скірмунт, Р. Земкевіч, П. Аляксюк.*

Гэты зварот перадрукавалі берлінскія газеты, а таксама *Der Zeitung der 10. Armee*, якая выдавалася ў Вільні. Цікава, што ў варыянце нямецкай публікацыі падпісанты фігуравалі як Раман фон Скірмунт, Аляксандр фон Зянкевіч і Пауль Аляксюк[1248]. Як ужо адзначалася, подпіс *Аляксандр Зянкевіч* на самой справе належаў Рамуальду Зямкевічу, які ў гэтым выпадку чамусьці выкарыстаў іншы варыянт напісання імя і прозвішча.

Зварот Беларускага народнага камітэта аказаўся адзіным беларускім зваротам, які нямецкія ўлады не праігнаравалі. Ужо на наступны дзень (!) на старонках зга-

[1247] Тамсама.

[1248] *Die weißruthenischen Ansprüche*, «Der Zeitung der 10. Armee». 1918, Nr 521.

данай газеты 10 арміі з'явіўся адказ. Ягоны аўтар (крыптанім *O. B.*) заявіў, што немцы разумеюць патрабаванні беларусаў, пацвярджэннем чаго з'яўляецца дазвол выдання газеты «Гоман», і гатовы іх падтрымаць.

Ён адзначыў, што тэлеграма Беларускага народнага камітэта дазваляе зразумець нацыянальную праблему ва ўсім яе аб'ёме. Зварот беларусаў, паводле аўтара, дае годны «адказ украінцам, указвае літоўцам на іх неабгрунтаваныя прэтэнзіі, выяўляе анексіяністкія амбіцыі палякаў». На яго думку, гэты зварот яшчэ раз засведчыў, што «стабільная дамова паміж народамі, якія пасля працяглага сядзення ў расійскім балоце, імкнуцца да лепшага і задавальняючага існавання, немагчыма без дапамогі моцнай рукі і справядлівага пасярэдніка». А паколькі ў ролі гэтага пасярэдніка беларусы бачаць Германію, то «тым самым уся ўсходняя праблема прасоўваецца на крок наперад». Напрыканцы падкрэслівалася, што забеспячэнне межаў народаў, вызваленых ад расійскага панавання і абарона правоў нацыянальных меншасцяў застаюцца важнымі задачамі палітыкі нямецкай адміністрацыі[1249].

На беларускую дэкларацыю звярнуў увагу і Міхал Ромэр, які ў сваім Дзённіку адзначыў, што ўмовы Берасцейскага трактата не дазваляюць немцам падтрымліваць беларускія памкненні да стварэння самастойнай дзяржавы. Тамсама адзначалася, што дэкларацыя Скірмунта можа выклікаць тэрытарыяльныя спрэчкі як з Літвой, так з Польшчай і Украінай: «Дэкларацыя Нацыянальнага Камітэту ў Менску, падпісана, між іншым, Раманам Скірмунтам, які адназначна вырашыў стаць беларусам і актыўна працаваць пад нацыянальным беларускім сцягам. Гэтая Дэкларацыя, зрываючы сувязі паміж Белай Руссю і Расіяй і абвяшчаючы пастулат дзяржаўнай незалежнасці Белай Русі ў саюзе або пры падтрымцы Германіі, адначасна выказвае трайны пратэст супраць дзеянняў трох вялікшых суседзяў – Літвы, Польшчы і Украіны». І далей: «Немцы ўхіліліся ад публікацыі гэтай Дэкларацыі [Скірмунта] на той падставе, што паводле ўмоў Берасцейскага трактата з Расіяй, Беларусь была прызнана прыналежнай да фармальнай сферы дамінавання расійскай дзяржаўнасці. Адпаведна, Германія не мае права аказваць фармальную падтрымку беларускім намаганням да разрыву з Расіяй і стварэння самастойнай дзяржавы»[1250].

Ромэр памыляўся. Зварот быў апублікаваны ў берлінскім друку. Гэтая публікацыя як і адказ на зварот у вельмі прыязнай танальнасці зрабілі моцнае ўражанне на палітычную эліту ў Менску, Вільні і Варшаве. Першапачаткой рэакцыяй беларускіх дзеячаў было імкненне адмежавацца ад «здраднікаў». 20 сакавіка Народны сакратар па міжнародных справах Я. Варонка афіцыйна адмежаваўся

---

[1249] «Der Zeitung der 10. Armee». 1918, Nr 522.

[1250] Цытата паводле: Я. Героўска-Калаўр, *Міхал Ромэр і «беларускае пытанне». На падставе запісаў Дзённіка» М. Ромэра паміж 25 сакавіка 1918 г. і 6 сакавіка 1920 г.*, «Архе», 2016, № 4, с. 192–221.

ад вышэйзгаданай тэлеграмы і заявіў, што Раман Скірмунт, Аляксандр Зянкевіч і Павел Аляксюк не маюць нічога агульнага з часовымі органамі БНР[1251]. Аднак хутка стаўленне беларускіх сацыялістаў да аўтараў тэлеграмы, як і да саміх кантактаў з нямецкай адміністрацыяй, пачало змяняцца.

Магчыма, на гэта паўплывала пазіцыя сяброў Віленскай Беларускай Рады, якія з восені 1915 г. спрабавалі разыгрываць «нямецкую карту», а таксама сітуацыя ва Украіне. У студзені 1918 г. немцы прызналі незалежнасць Украінскай Народнай Рэспублікі, а ў сакавіку згадзіліся на далучэнне да яе тэрыторыі значнай часткі беларускага Палесся, у т. л. Піншчыны. Нямецкі адказ на тэлеграму дзеячаў Беларускага народнага камітэта, здаецца, даваў беларусам пэўную надзею на падтрымку і іх намаганняў Германіяй.

Паводле ўспамінаў Асмалоўскага, у гэтыя ж дні Р. Скірмунт, П. Аляксюк і В. Чавусаў накіраваліся ў Берлін. Яны спрабавалі наладзіць кантакты з вышэйшымі ўладамі Германіі, заявілі пра гатоўнасць прыезду прадстаўнічай беларускай дэлегацыі і прасілі пра аўдыенцыю ў імператара Вільгельма[1252]. Заўважу, што іншыя крыніцы не ўтрымліваюць інфармацыі пра гэты беларускі візіт у Берлін.

Як бы ні было, але пазіцыі МБП і Беларускага народнага камітэта значна ўзмацніліся. Магчыма, у гэты момант беларускія сацыялісты ўпершыню задумаліся пра аднаўленне былых палітычных кантактаў з Раманам Скірмунтам.

Гэты зварот і нямецкі адказ на яго таксама былі заўважаны прадстаўнікамі польскай супольнасці Меншчыны. «Дзеннік Мінскі» ўжо 21 сакавіка са спасылкай на берлінскія газеты падрабязна пераказаў змест тэлеграмы[1253]. А ў наступным нумары быў апублікаваны артыкул Эдмунда Івашкевіча, які заўважыў, што беларускі зварот выклікаў сярод палякаў неадназначныя каментары і ацэнкі.

Польскі дзеяч пазітыўна ацэньваў заяву, якая ўпершыню абвяшчала выбар беларусамі не толькі шляху ўласнай дзяржаўнасці, але таксама іх існавання ў супольнасці дзяржаў і народаў «заходняй культуры». Э. Івашкевіч канстатаваў пэўнае працверазенне беларусаў, якія зусім нядаўна цалкам паддаліся «ўсходнім уплывам». Намер аўтараў заявы будаваць беларускую дзяржаўнасць абапіраючыся на Германію ён лічыў доказам іх палітычнага рэалізму. Тым больш, што нямецкія акупацыйныя ўлады прыхільна паставіліся да яго. Жорсткасць заявы адносна прэтэнзій суседзяў на беларускія землі Э. Івашкевіч назваў «дзіцячай хваробай» маладога нацыяналізму і праводзіў аналогіі з колішнімі выказваннямі дзеячаў польскага руху. У адказ на беларускія прэтэнзіі на Віленшчыну і Гарадзеншчыну ён прапанаваў даведацца пра нацыянальна-дзяржаўны выбар саміх жыхароў гэтых рэгіёнаў.

---

[1251] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 254.

[1252] BN. Dział mikroform, akc. 6798. J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 330, 485.

[1253] *Odezwa białoruska*, «Dziennik Miński». 1918, Nr 54.

Але пры гэтым Івашкевіч фактычна падтрымаў (!) гэтыя прэтэнзіі, заявіўшы, што «найважнейшае для Беларусі, а г. зн. і для кожнага з нас – мясцовых палякаў – далучэнне да яе як мага большай колькасці дзяржаваствaральных элементаў, якімі па волі лёсу з'яўляюцца якраз палякі або здаўна паланізаваныя беларусы». Ён сцвярджаў, што сярод «крэсовых палякаў» і беларускіх палітыкаў дамінуе перакананне, што найбольш адпаведнай формай існавання з'яўляецца Беларуска-Літоўская дзяржава з лозунгам: «Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі!»[1254]

Падобна, што гаворачы пра папулярнасць ідэі Беларуска-Літоўскай дзяржавы сярод «крэсовых палякаў», Э. Івашкевіч выдаваў пажаданае за рэальнае. Пераважная большасць польскай супольнасці ў гэты час ужо пачала арыентавацца на Польшчу, і многіх сяброў ПРМЗ насцярожыла заява Беларускага народнага камітэта наконт арыентацыі на Германію.

Пазіцыя палітыкаў іншага лагеру, якія планавалі пашырэнне польскай тэрыторыі на ўсходзе, адлюстравалася ў артыкуле Уладзіслава Студніцкага ў газеце «Naród a Państwo» (1918, Nr 9-10). Ён не бачыў перспектываў «беларускага эксперымента» з прычыны адсутнасці беларускай інтэлігенцыі і асіміляцыйных уплываў з боку Польшчы і Расіі. Дзеянні Р. Скірмунта і Р. Зямкевіча, якія «яшчэ нядаўна былі палякамі», Студніцкі расцаніў як праяву нейкай «хітрай палітыкі», аўтары якой выдаюць сябе за беларусаў толькі з адной мэтаю, – каб адарваць край ад Расіі. «Забываюць толькі, – дадаваў Студніцкі, – што яны мацнейшыя, калі застаюцца самімі сабой, калі з'яўляюцца часткаю вялікай польскай нацыі»[1255].

Няма сумневаў, што Эдмунд Івашкевіч пад згаданымі «беларускімі палітыкамі» разумеў Рамана Скірмунта, Паўла Алексюка, Вінцэнта Гадлеўскага ды іншых з кола Беларускага народнага камітэта і МБП. На пачатку вясны 1918 г. ідэя беларускай дзяржаўнасці ў асяродку права-цэнтрысцкіх беларускіх палітыкаў Меншчыны пераважна спалучалася з краёвай ідэяй.

Відавочна, што гэта ў вялікай ступені адпавядала пазіцыі дзеячаў Віленскай Беларускай Рады, якія 18 сакавіка 1918 г. увайшлі ў склад Рады БНР. Прынамсі, на працягу 1917 г. і на пачатку 1918 г. яны не пакідалі надзеі на магчымасць беларуска-літоўскага палітычнага паразумення. Так, на старонках «Гомана» ў артыкуле «Пасля канферэнцыі» (студзень 1918 г.) сцвярджалася, што «агульны згодны кліч быў адзін […] – незалежнасць. Літоўска-Беларускія землі, якія некалі станавілі незалежнае Вялікае Княства Літоўскае, павінны вярнуць свой утрачаны дзяржаўны быт, – і да незалежнага гасударственнага ядра, якое становяць землі акупацыі, павінна быць далучаная і рэшта Беларускіх зямель, якая яшчэ астаецца пад пана-

---

[1254] E. I-cz [E. Iwaszkiewicz], Z *powodu odezwy białoruskiej,* «Dziennik Miński». 1918, Nr 57.

[1255] Цытата па: M. Jagiełło, *Razem czy osobne? Przewodnik po lekturach.* Tom II. Warszawa 2011, s. 256.

ваннем Расеі. […] На гэтым зышліся ўсе партыі, усе кірункі, усе палітычныя групы»[1256].

Іншая справа, што Віленская Беларуская Рада вельмі насцярожана, а часам варожа ставілася да польскага руху і адраджэнскіх намаганняў палітыкаў польскай дзяржавы. Польска-беларускія стасункі на ўзроўні палітычных эліт на тэрыторыі Віленшчыны былі даволі вострымі, што, дарэчы, адпавядала агульнаму стану міжнацыянальных адносін у рэгіёне ў 1916–1918 гг. На апошняе моцна паўплывала палітыка *divide et emper* нямецкіх акупацыйных улад.

Беларускія віленчукі бачылі ў адраджэнні Польшчы пагрозу тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі. Менавіта яны першымі заявілі пратэст у сувязі са згаданымі нямецка-польскімі перамовамі ў Берліне і выказваннямі міністра В. Раствароўскага адносна магчымага далучэння Гарадзеншчыны і Віленшчыны да Польшчы. Настроі віленчукоў падзялялі беларускія сацыялісты ў Менску, і гэта магло стаць сур'ёзнай перашкодай на шляху таго паразумення, да якога імкнуўся Раман Скірмунт. Аднак непасрэдныя кантакты сяброў Віленскай Беларускай Рады і Рады БНР значна ўзмацнілі пазіцыі прыхільнікаў незалежнай беларускай дзяржавы, што давала пэўны шанс МБП і самому Скірмунту.

Як вядома, прыезд у Менск дэлегацыі віленчукоў на чале з братамі Луцкевічамі моцна паўплываў на абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, якое адбылося раніцай 25 сакавіка 1918 г. на пасяджэнні Рады БНР. Гэта рашэнне адлюстравалася ў Трэцяй Устаўной грамаце.

*ДАКУМЕНТ*

**Трэцяя Устаўная грамата Рады БНР. 25 сакавіка 1918 г.**[1257]

*Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расійскага царызму, які найцяжэй прыціснуу быу Беларусь; ні пытаючыся народу, ён укінуу наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднаго краю апошняе ярмо дзяржаунай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і нізалежны край. Ад гэтаго часу* БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА АБВЕШЧАЕЦЦА НІЗАЛЕЖНАЙ І ВОЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ *(вылучана ў дакуменце. – А. С.). Самі народы Беларусі у асобі свайго нізалежнаго Установчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржауных зьвязях Беларусі.*

*На моцы гэтаго трацяць сілу усе старыя дзяржауныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтаго урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае увайсьці у адносіны з зацікауленымі*

1256 б/п. *Пасля канферэнцыі*, «Гоман». 1918, № 11.

1257 «Вольная Беларусь». 1918, № 11.

*старонамі, прапануючы ім пераглядзіць тую часьціну Берэсьцейскага трактату, і падпісаць міравую дамову з усімі ваеваушымі дзяржавамі.*

*Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Міншчыны, Гродзеншчыны (з Гродной, Беласток і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігоушчыны і сумежныя часьці суседніх губэрняу, заселеныя беларусамі.*

*Беларуская Народная Рэспубліка падцьверджывае ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устауной Граматай ад 9 сакавіка 1918 г.*

*Абвешчаючы аб нізалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што усе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу у поунай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржауныя ідэалы.*

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*

Прыняцце Трэцяй Устаўной граматы было надзвычай важнай падзеяй беларускай гісторыі. Упершыню беларусы заявілі пра сваё імкненне да дзяржаўнай незалежнасці. Нацыянальна-культурнае Адраджэнне выйшла на якасна новы этап свайго развіцця, калі першачарговай задачай стала палітычная самастойнасць Беларусі. Вырашэнне гэтай задачы патрабавала ад беларускіх палітыкаў актыўнай дзейнасці, прынамсі, у двух кірунках. Першы па-ранейшаму датычыў праблемы ўмацавання сацыяльнай базы беларускага руху. Трэба было актывізаваць працу па пашырэнні нацыянальнай свядомасці, папулярызацыі беларускай культуры і ідэі дзяржаўнасці Беларусі. Другі датычыў міжнароднага прызнання права



ТРЭЙЦЯЯ УСТАЎНАЯ ГРАМАТА
Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расійскаго царызму, які найцяжэй прыціснуу быу Беларусь: ні пытаючыся народу, ен укінуу наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднаго краю апошняе ярмо дзяржаунай залежнасці, якое гвалтом накінулі расійскія цары на наш вольны і нізалежны край. Ад гэтаго часу БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА АБВЕШЧАЕЦЦА НІЗАЛЕЖНАЮ І ВОЛЬНАЮ ДЗЕРЖАВАЮ. Самі народы Беларусі, у асобі свайго Устаноучаго Сойму, пастановяць аб будучых дзержауных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтаго тратяць сілу усе старыя дзяржауныя зьвязі, якія далі магчымасць чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьцьі, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтаго урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае уваійсьці у адносіны з зацікауленымі старонамі, прапануючы ім пераглядзіць тую часьціну Берасьцейскаго трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую умову з усімі ваевауцымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеушчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.) Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігоушчыны і сумежныя часьці суседніх губэрняу, заселеныя беларусамі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі падцьверджае усе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народау Беларусі, якія абвешчаны Устауной Граматай ад 9 сакавіка 1918 г.

Абвешчаючы аб нізалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што усе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу у поунай меры здзейсьніць яго палітычна-дзяржауныя ідэалы.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дана у Менску-Беларускім
25 сакавіка 1918 году.

*Трэцяя Устаўная грамата Рады БНР.
25 сакавіка 1918 г.*

беларусаў на самастойную дзяржаву. Адсутнасць прыкметнай рэакцыі міжнароднай супольнасці на абвяшчэнне незалежнасці БНР сведчыла, што беларускіх палітыкаў на гэтым шляху чакае вялізарная праца.

Як адрэагавала на абвяшчэнне незалежнасці Беларусі мясцовая палітычная эліта? 28 сакавіка «Беларускі шлях» артыкулам «Нізалежнасьць Беларусі», падпісаным крыптанімам *Л. Б.*, шчыра вітаў гэтую падзею. Аўтар адзначаў, што «нізалежнай дзяржаві Беларускай ні усміхаецца будучыня», што, «прывыкшы да няволі і пакоры народ беларускі ні стварыў моцных арганізацый», што давялзецца шукаць падтрымкі з боку «дужэйшага суседа». Ён перабіраў асноўныя варыянты такой падтрымкі: МБП імкнецца да Германіі, мясцовае самакіраванне марыць пра федэрацыю з Расіяй, іншыя арыентуюцца на саюз з Польшчай, Украінай або Літвой. Але найлепшым варыянтам аўтар лічыў поўную незалежнасць, да якой імкнулася большасць Рады БНР.

***ДАКУМЕНТ***

**Л. Б. (?) Нізалежнасьць Беларусі**[1258]

*25 сакавіка Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла нізалежнасьць Беларусі. Ні гледзячы на страшэнную апазыцыю нібеларускіх элементау Рады, беларуская частка яе на гэты раз аказалася нізломнаю. Тое безвыходнае палажэнне, у якім знаходзіцца цяпер нашая Бацькоўшчына, скасавало усе розніцы паглядаў між беларусамі. Хто беларус – той за нізалежнасьць.*

*Нізалежнай дзяржаві Беларускай ні усміхаецца будучыня. Прывыкшы да няволі і пакоры народ беларускі ні стварыў моцных арганізацый і цяперака, як і уперад, можа толькі больш ці менш голасна пратэставаць, патрэбаваць, але ні можа сам браць, сам тварыць свае жыццё. Бязсільны і безабаронны, ён, як і заўседы, залежыць ад чужой волі і міласьці.*

*Зямля беларуская, спустошаная вайной, падзеляная на часткі. Вырастаючыя дзержаўныя суседзі Польшча, Літва, Украіна так само хочуць адарваць – і пэўна ім гэта удасца – значныя кавалкі беларускай тэррыторыі. Але, калі пры найгоршым раздзеле, хаця кавалак зямлі беларускай атрымае рэальную волю і нізалежнасьць, дык усё роўна гэтым будзе забязпечана нашая нацыянальная будучына. Усякі раздзел грозны тым, што ў адзеленых часьцінах, дзякуючы штучным перагародкам будзе разьвівацца культура асобнымі дарогамі, будуць безкарысна траціцца сілы народныя на адну і тую ж працу. Пры гэтых варунках культурнае развіцьце усёж магчымае, ні гледзячы на ўсе перашкоды. Вось жа, агледаючыся на сучасны момант, мы з усей пэўнасцей можам сказаць: «Калі ні згінулі да гэтага часу, то і цяпер ні згінем».*

*Каб адбараніць сваю зямлю ад варагоў, каб наладзіць эконамічнае і дзяржаўнае*

[1258] Л. Б., *Нізалежнасьць Беларусі*, «Беларускі шлях». 1918, № 5.

*жыцце Беларускай Дзяржавы, прыдзецца абаперціся на дужэйшага суседа. Трудна цяпер сказаць, на катарога з суседзяў сваіх абапрэцца маладая рэспубліка. Мінскае Беларускае Прадстаўніцтва ясна паказуе на Гэрманію, мейсцовыя самоуправы, выбраныя у часі расійскай рэвалюцыі, пры панаванні на Беларусі усякіх «земгусарскіх» расійскіх партый, катэгарычна патрабуюць федэрацыі з Расіяй. Асобныя палітычныя группы выказуюцца за хаўрус з Украінай, Літвою, Польшчаю. А большасьць Рады Рэспублікі стаіць на грунце поўнай нізалежнасьці Беларусі. Апошняя дарога мусіць такі найлепшая. У справі дзяржаўных адносін ні патрэбна ані прынцыпіяльнасьці, ані пачуцця. Трэба добра агледзіцца, трэба патаргавацца і трэба ісьці у такім хаўрусі, у якім найбольш карысьці іменна для свайго народу, для яго нацыянальнай і эканамічнай справы. Сьпяшацца німа чаго. Трэба памятаць, што абавязкам усіх добрых беларусаў цяпер ёсць – выйграць для беларускаго народу максімум карысьці. А у ігры самае галоўнае – спакойнасьць і вытрываласьць.*

У наступным нумары «Беларускага шляху» (№ 6) ад 29 сакавіка 1918 г. была апублікавана Трэцяя Устаўная Грамата.

## *Раман Скірмунт у Радзе БНР*

Абвяшчэнне незалежнасці істотна змяніла сітуацыю ў беларускім руху. Створанае Скірмунтам МБП знаходзілася ў апазіцыі да Рады БНР і Народнага Сакратарыята. Апошнія ўспрымаліся як органы Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якія кіруюцца партыйнымі інтарэсамі і не з’яўляюцца агульнацыянальнымі органамі ўлады. Аднак акт ад 25 сакавіка 1918 г. прымусіў пераглядзець стаўленне да сацыялістаў. Барацьба за незалежнасць станавілася тым падмуркам, на якім маглі з’яднацца ўсе беларускія сілы.

«Вольная Беларусь» 31 сакавіка 1918 г. (№ 11) таксама апублікавала Трэцюю Устаўную Грамату і вітала абвяшчэнне незалежнасці. У рэдакцыйным артыкуле яно ўспрымалася як голас той Беларусі, якая «жыве і жыць хоча, і жыць яна будзе»: «Скінуто з роднаго краю апошняе ярмо дзяржаунай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і нізалежны край. […] Уваскросла Беларусь! Паустало к жыццю тое, што ворагі пахавалі. Ажывае гістарычная дзяржауная Белая Русь!»

3 красавіка адгукнуўся рэдакцыйным артыкулам «Незалежная Беларусь» віленскі «Гоман». Рада БНР у Менску характарызавалася як «ядыная установа, якая можа прамаўляць ад імя усяго Беларускага краю». Коратка пераказваліся асноўныя перыпетыі прыняцця гэтага рашэння на пленарным пасяджэнні Рады БНР, якое было вельмі няпростым. Так, адзначалася, што абвяшчэнне незалежнасці дыскутавалася ад 17-й гадзіны 24 сакавіка да 5-й гадзіны раніцы 25 сакавіка, што прадстаўнікі земстваў і гарадоў выказаліся супраць незалежнасці, а сябры габрэй-

скай сацыялістычнай групы і партыі «Паалей-Цыён» устрымаліся падчас галасавання[1259].

Віленчукі шчыра віталі абвяшчэнне незалежнасці і выказвалі надзею, што беларусы маюць усе магчымасці, каб збудаваць уласную дзяржаву, бо «якраз у Беларусі мы знаходзім найбольш творчых гасударственных сіл»: «Не кажучы ўжо аб тым, што беларускі народ у мінуўшчыне выявіў быў свае арганізацыйныя задаткі, стаўшыся кіраўнічым гасударственным элементам у Вялікім Княстве Літоўскім, мы павінны адзначыць, што і цяпер беларусы больш прыгатаваны да таго, каб узяць у свае рукі ўпраўленне сваім краем, чым літвіны і палякі»[1260]. Аўтар артыкула «Будаванне дзяржаўнага жыцця» Антон Луцкевіч (*І. Мелешка*) пры гэтым спасылаўся на вопыт земскага самакіравання і вяртанне пасля вайны на Радзіму «беларускіх культурных сіл». Заўважу, што, чытаючы гэты артыкул, цяжка пазбыцца ўражання, што ён быў разлічаны выключна на чытача з нямецкай акупацыйнай адміністрацыі.

Больш разважліва паставіліся да абвяшчэння незалежнасці аўтары «Дзенніка Мінскага». Уладзіслаў Альшынскі (крыптанім *O*) у артыкуле «Незалежнасць ці федэрацыя?» звярнуў увагу на розныя падыходы менскага і віленскага цэнтраў беларускага руху да праблемы будаўніцтва ўласнай дзяржаўнасці. На яго думку, пакуль няма адказу на пастаўленае ў загалоўку пытанне, але сярод розных беларускіх палітычных сіл ёсць разуменне, што іх галоўным абавязкам з'яўляецца клопат пра максімальную карысць для свайго народу[1261].

5 красавіка ў «Беларускай хроніцы» «Дзенніка Мінскага» з'явілася інфармацыя пра габрэйска-рускі блок у Радзе БНР, які выступае супраць дзяржаўнасці Беларусі. У кароткім каментары адзначалася, што беларусы імкнуцца самастойна вызначаць лёс Краю: «Рада Беларускай Рэспублікі толькі ступіла на доўгую і цяжкую дарогу да яе пабудовы, але ўжо першыя крокі сведчаць, што абраны большасцю сяброў Рады кірунак добра прадуманы і палітычна рацыянальны»[1262].

Прыхільнасць да намаганняў беларускіх палітыкаў па-ранейшаму дэманстравала «група Вайніловіча». Дзякуючы ёй, у сакавіку Рада БНР атрымала магчымасць выступіць на пашыраным сходзе МТСГ з удзелам прадстаўнікоў гарадскіх улад, габрэйскай гміны, праваслаўнага брацтва ды інш. Перад імі выступіў Язэп Лёсік, які паведаміў пра Устаўныя граматы, пра імкненне да дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Аднак падтрымкі з боку ўдзельнікаў сходу беларуская палітычная дзейнасць не атрымала[1263].

Цікавасць польскага боку зразумелая, бо палітычная пазіцыя і геапалітычная

---

[1259] Б/п. *Незалежная Беларусь*, «Гоман». 1918, № 27.

[1260] І. Мелешка [А. Луцкевіч], *Будаванне дзяржаўнага жыцця,* «Гоман, № 28.

[1261] O. [Wł. Olszyński], *Niezależność czy federacja?,* «Dziennik Miński». 1918, Nr 61.

[1262] *Sprawy białoruskie,* «Dziennik Miński».1918, Nr 66.

[1263] ZNiO. Dział rękopisów. Sygn. 13542/II. M. Porowski, *Wspomnienia. 1904–1918,* k. 127.

арыентацыя беларускага руху непасрэдна закраналі інтарэсы мясцовай польскай супольнасці. Асабліва хваравіта яна рэагавала на кантакты з нямецкай адміністрацыяй. Е. Асмалоўскі ва ўспамінах сцвярджаў, што пасля абвяшчэння незалежнасці ў Берлін накіравалася чарговая беларуская дэлегацыя ў складзе «старшыні Рады міністраў Лёсіка, старшыні Беларускага камітэта Скірмунта, нясвіжскага ардынанта князя Радзівіла і Алексюка». Яны нібыта перадалі чыноўнікам Міністэрства замежных спраў Трэцюю Устаўную грамату і прынялі ўдзел у «канферэнцыі» з іх удзелам. Аднак Берлін не падтрымаў беларускіх незалежніцкіх памкненняў. Таксама няўдачай скончыліся спробы атрымаць аўдыенцыю ў імператара[1264].

Інфармацыя Асмалоўскага зноў выклікае шэраг пытанняў. І галоўнае з іх датычыць складу дэлегацыі. Чаму Трэцюю Устаўную грамату павезлі ў Берлін не прадстаўнікі Рады БНР, а іх палітычныя апаненты? Дарэчы, старшынём Народнага Сакратарыята з'яўляўся не Язэп Лёсік, а Язэп Варонка. Варта адзначыць і тое, што гэты візіт не адлюстраваўся на старонках беларускага друку. Адсутнічаюць яго сляды і ў вядомых дакументах Рады БНР. Калі ўсё ж такі аўтар успамінаў не памыліўся, то гэты візіт трэба трактаваць як чарговую ініцыятыву МБП і Беларускага народнага камітэта, якія дзейнічалі асобна ад Рады БНР, але таксама ў накірунку барацьбы за незалежнасць. Таксама можна выказаць меркаванне, што ініцыятары і ўдзельнікі дэлегацыі не хацелі афішыраваць свае кантакты з Берлінам. Гэта цалкам верагодна, бо той жа Асмалоўскі са спасылкай на «групу Вайніловіча» сцвярджаў, што выправу дэлегацыі ў Берлін прафінансавала нямецкая адміністрацыя ў Менску[1265].

У гэты ж час значна аслабелі ранейшыя кантакты паміж беларускім правацэнтрысцкім асяродкам Скірмунта і Польскай Радай Менскай зямлі. На гэта паўплывалі як адзначаны рост анексіяніцкіх настрояў сярод сяброў ПРМЗ, так і імкненне беларусаў у будаўніцтве ўласнай дзяржавы абаперціся на Германію. Чым больш відавочным станавілася апошняе, тым далей разыходзіліся шляхі Рады БНР і мясцовай польскай супольнасці. Так, ПРМЗ фактычна адмовілася прыняць прапанову Рады БНР папоўніць яе склад польскімі прадстаўнікамі. У адказ яна выставіла заведама непрымальныя ўмовы. У прыватнасці, было заяўлена, што без апірышча на адну з суседніх заходніх дзяржаў (відавочна, мелася на ўвазе Польшча) немагчыма дасягненне незалежнасці Беларусі і развіццё яе дзяржаўнасці. ПРМЗ не лічыла законнымі ні Народны Сакратарыят, ні ягоныя Граматы, бо падобныя рашэнні, на думку польскіх палітыкаў, мог прыняць толькі заканадаўчы сейм. Нарэшце, Польская Рада патрабавала 10 месцаў у Радзе БНР і прысутнасці польскіх прадстаўнікоў у Міжнароднай камісіі і Камісіі ўнутраных

[1264] BN. Dział mikroform, akc. 6798 J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2,* k. 486.
[1265] Ibidem, k. 487.

спраў[1266]. У той жа час Рада БНР прапанавала палякам толькі 4 месцы.[1267]. Пазней Э. Івашкевіч прызнаўся, што гэтыя ўмовы былі якраз разлічаны на тое, што беларусы іх не прымуць[1268].

Між тым, Раман Скірмунт імкнуўся да кансалідацыі ўсіх наяўных беларускіх сіл. 4 красавіка на пасяджэнні МБП была зацверджана праграма канферэнцыі беларускіх арганізацый. Яна планавалася на 25 красавіка і павінна была пачынацца рэфератамі: «Нацыянальна-культурныя задання» (Р. Скірмунт), «Арганізацыя прасьветы» (В. Гадлеўскі), «Эканамічнае адбудаваньне краю» (А. Уласаў) і «Арганізацыя беларускага прэдстаўніцтва» (П. Аляксюк)[1269]. Тэзісы рэфератаў планавалася прадставіць на разгляд «Камітэта», а праграму канферэнцыі перадаць нямецкай адміністрацыі. Таксама арганізатары заявілі пра намер выездаў на Меншчыну і Віленшчыну дзеля падрыхтоўкі канферэнцыі. Яны папярэдзілі, што на канферэнцыю будуць запрошаны прадстаўнікі толькі тых арганізацый, якія падтрымалі абвяшчэнне незалежнасці БНР.

«Беларускі шлях», які паведамляў пра гэтую канферэнцыю, таксама інфармаваў, што дэлегацыя ў складзе П. Алексюка, В. Гадлеўскага і А. Уласава плануе ў бліжэйшы час наведаць Магілёўшчыну. Магчыма, гэты візіт таксама быў звязаны з канферэнцыяй.

Дарэчы, у гэтай інфармацыі ўжо фігуравала «Беларускае Народнае прэдстаўніцтва у Менску». На старонках «Беларускага шляху» яно таксама часта згадвалася як «Камітэт». Магчыма, аўтары блыталі МБП і Беларускі народны камітэт. Наогул, ствараецца ўражанне, што Скірмунт і ягоныя паплечнікі не надавалі гэтаму вялікага значэння. МБП не прэтэндавала на агульнабеларускі характар, хоць і імкнулася да ўмацавання ўплываў.

Ці існавалі кантакты паміж Радай БНР і МБП? Напэўна афіцыйных кантактаў не было, хоць абмен інфармацыяй меў месца. Вядома, што 25 сакавіка рэдактар «Беларускага шляху» А. Прушынскі накіраваў ліст у канцылярыю Народнага Сакратарыята з просьбай прысылаць у рэдакцыю інфармацыю пра дзейнасць Рады і Сакратарыята[1270]. У выніку на старонках «Беларускага шляху» рэгулярна з'яўляліся публікацыі пра дзейнасць Рады БНР і яе ўрада. У сваю чаргу «Вольная Беларусь» інфармавала сваіх чытачоў пра дзейнасць МБП. Нават Дэкларацыя пра стварэнне МБП упершыню была апублікавана 17 сакавіка ў «Вольнай Беларусі» (№ 9).

Язэп Варонка ў лісце да Антона Луцкевіча ад 5 красавіка прыгадаў, што «Беларускаму шляху» цэнзар забараніў публікаваць інфармацыю пра пасяджэнне

---

[1266] ЛЦДА. Ф. 582, воп. 2, спр. 5, арк. 19–20.
[1267] b/p. *Sprawy białoruskie*, «Dziennik Miński». 1918, Nr 166.
[1268] ЦБУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–774. [Iwaszkiiewicz E.], *Kwestja białoruska,*.k. 5.
[1269] *Беларускае Народнае прэдстаўніцтво у Менску*, «Беларускі шлях». 1918, № 12.
[1270] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр.19, арк. 48.

Рады БНР ад 30 сакавіка, і дадаў: «Заўтра пойдзем лаяцца з цэнзарам»[1271]. Апошні сказ магчыма сведчыць пра пэўныя сумесныя акцыі Рады БНР і рэдакцыі газеты МБП. Апрача таго, асобныя дзеячы Рады і Прадстаўніцтва пастаянна кантактавалі паміж сабою, што цалкам зразумела, бо той жа А. Прушынскі быў сацыялістам і сябрам БСГ. Пасля абвяшчэння незалежнасці ўмацавалася разуменне важнасці арганізацыйнага аб'яднання высілкаў.

Першы крок да паразумення зрабілі сацыялісты, але не менскія, а віленскія. Публікацыі на старонках «Гомана» сведчаць, што віленчукі ўсведамлялі прыярытэтнасць барацьбы за незалежнасць і сцвярджалі, што «пры цяперашніх палітычных варунках ніякіх соцыяльных рэформ агульнага характэру зрабіць нельга, і іх можна будзе праводзіць у жыццё як Беларусь па праўдзі будзе незалежнай дзержавай»[1272].

Антон Луцкевіч пазней прыгадваў перамовы з МБП, падчас якіх ён здолеў пераканаць Скірмунта і ягоных калег у тым, што МБП не павінна канкураваць з Радай БНР у справе кантактаў з немцамі, а павінна ўвайсці ў Раду і «будаваць Бацькаўшчыну супольна з сацыялістамі, паклаўшымі першы камень пад гэту будоўлю»[1273].

У гэты ж час ішла актыўная перапіска паміж Я. Варонкам і А. Луцкевічам. Варонка пагаджаўся з планамі віленчукоў. 5 красавіка ён пісаў братам Луцкевічам: «Усе Вашыя думкі блізка і мае. Аб кааліцыі я паставіў ужо пытанне»[1274].

На пачатку красавіка ў Менск прыехаў Іван Луцкевіч, які правёў перамовы з Варонкам, фракцыяй БСГ у Радзе БНР, незалежнымі сацыялістамі, а таксама сустракаўся з прадстаўнікамі МБП. Таксама ён перадаў Язэпу Варонку і кіраўніцтву МБП лісты ад Антона Луцкевіча, датаваныя 7 красавіка.

У лісце да Варонкі[1275] той пісаў пра існаванне нямецкіх планаў прызнання незалежнасці Беларусі, калі будзе пазітыўна вырашана пытанне «злучэння» Ліфляндыі і Эстляндыі з Германіяй. Пры гэтым немцы не давяраюць сацыялістам і будуць рабіць стаўку на «элементы больш умеркаваныя». Луцкевіч выказваў асцярогу, што ў бліжэйшыя дні немцы паспрабуюць абаперціся на МБП, а гэта паставіць пад пагрозу існаванне Народнага Сакратарыята, які «як зачатак першай ЗАКОННАЙ (вылучана ў дакуменце. – *А. С.*) беларускай народнай уласьці трэба ўдзяржаць за ўсялякую цану».

Ён прапанаваў не адкладаючы «ні на адну лішнюю мінуту» прыняць у склад

---

1271 *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 78.

1272 «Гоман». 1918, № 32.

1273 А. Луцкевіч, *За дваццаць пяць гадоў (1903–1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацыяў.* Менск 1991, с. 51.

1274 *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 78.

1275 Цытата па: А. Сідарэвіч, *Урады БНР і кабінэт Рамана Скірмунта*, «Arche-пачатак». 2008, № 4, с. 111;. БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 126, арк. 108–109.

Рады БНР і «эвэнтуальна» Народнага Сакратарыята кіраўніцтва Менскага Беларускага прадстаўніцтва. Разумеючы, што сацыялісту цяжка будзе паразумецца з тым жа Скірмунтам, Антон Луцкевіч раіў «знасьці «залатую сярэдзіну» між жаданьнямі народных мас і вымаганьнямі палітычнае кан'юнктуры». Адначасна папярэджваў, што «далейшыя яркія сацыяльныя выступленьні могуць Вам прыдбаць папулярнасьць у народных масах, але разам з тым могуць разбіць наша дзяржаўнае будаўніцтва і вярнуць нас у межы Расейскай дзяржавы».

У лісце да сяброў МБП прызнаны лідэр беларускіх сацыялістаў і чалавек, які ўжо спрабаваў разыграць «германскую карту» ў беларускіх інтарэсах, сцвярджаў прыхільнасць Германіі да справы незалежнасці Беларусі. На яго думку, першачарговай задачай станавіўся пошук «элементаў, якія б цвёрда стаялі бы на грунце беларускай гасударственнасці», бо немцы «не зусім вераць, што такія элементы ёсць».

Ён выказваў упэўненасць, што сябры МБП значна ўмацуюць дзяржаўніцкі патэнцыял беларускага руху і прапанаваў ім увайсці ў склад Рады БНР: «Вы, панове, можаце і павінны памагчы першаму зачатку дзяржаўнага будаўніцтва нашае Бацькаўшчыны. Вядома, Ваша праца магчыма тады, калі Вы войдзеце да беларускага ўраду. У гэтым кірунку і павінны быць зроблены крокі. Грунт дзеля гэтага ўжо прыгатован. Вы, як людзі, свядомыя спраў палітычных больш, чым хто іншы, найлепей зразумееце вагу ролі, якая Вам прыпадае. Вы можаце ўнясьці новы дух у Раду Рэспублікі – дух еўропейскай дыплёмацыі. А ён цяпер асабліва патрэбен».

Луцкевіч сцвярджаў, што злучэнне ўсіх беларускіх сіл будзе сігналам для нямецкай палітыкі, што з беларусамі можна і варта мець справу: «Прыйшоў крытычны момант. І ад таго, што здарыцца ўжо ў найбліжэйшыя дні, адносіны нямецкіх уласцей да справы Беларускай дзяржаўнасці могуць павярнуцца ў той або іншы бок»[1276].

Сацыялісты зноў спрабавалі выкарыстаць аўтарытэт Рамана Скірмунта. Магчыма, і ён гэта разумеў, пагаджаючыся стаць «казырным тузом» у чужых руках. Усё ж кааліцыя была неабходнай у барацьбе за незалежнасць, а сацыялісты сапраўды былі дамінуючай палітычнай сілай на руінах імперыі.

Увесну 1918 г. прадстаўнікі былой сацыяльнай і саслоўнай эліты Беларусі выразна ўсведамлялі немагчымасць захаваць адносіны феадальнага тыпу паміж землеўласнікам і вёскай. Уладзіслаў Альшынскі на старонках «Дзенніка Мінскага» сцвярджаў, што гэтых перамен патрабуе як «нацыянальная справа», так і «ўсебаковае развіццё тутэйшага краю». Звяртаючыся да эліты польскай супольнасці Меншчыны, публіцыст пісаў, што феадалізм «мусіць знікнуць на-

---

1276 ЛЦДА. Ф. 582, воп. 1, спр. 2, арк. 11–12; *.Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 88.

заўсёды коштам амбіцый, коштам матэрыяльных страт, інакш ён будзе знесены ходам гісторыі, але разам з намі»[1277].

Падобна, што ў гэты час у Менску з удзелам Івана Луцкевіча адбываліся перамовы паміж кіраўніцтвам Рады БНР і Народнага Сакратарыята, з аднаго боку, і сябрамі МБП, з другога. Іх падрабязнасці невядомыя, але далейшыя падзеі сведчаць, што менскія сацыялісты пагадзіліся на ўваходжанне сяброў Прадстаўніцтва ў склад Народнага Сакратарыята і, магчыма, нават на фарміраванне ўрада Рамана Скірмунта. Аляксандр Уласаў станавіўся галоўным кандыдатам на пасаду старшыні Рады БНР. Гэтая «ахвяра» з боку БСГ была платай за верагодны палітычны поспех на «германскім фронце» беларускай дыпламатыі. МБП і Рамана Скірмунта яны спрабавалі выкарыстаць у якасці пэўнага «тарана», каб дамагчыся прызнання незалежнасці БНР.

Відавочна, што ў Вільні ведалі пра ход менскіх перамоў і спрабавалі ўплываць на іх. Аднак захаваная перапіска сведчыць пра жыццёвасць «філасофіі падазрэння». Так, Антон Луцкевіч у лісце да Язэпа Варонкі ад 14 красавіка паведамляў пра рашэнне Прэзідыума Віленскай Беларускай Рады наконт прапановы ўключэння Скірмунта ў склад Народнага Сакратарыята, каб зрабіць яго кааліцыйным: «Лічым канечне патрэбным, каб у Сэкрэтарыат увайшоў п. Скірмунт, як сэкрэтар загранічных справаў. Прызнаваючы п. Скірмунта найбольш адпаведнім такжэ і на становішчэ старшыні Сэкрэтарыату уважаем аднак, што с пагляду на ўнутрэныя адносіны у Беларусі ў гэты момэнт выбар яго на гэтае становішчэ мог бы быць рызыкоўным. На часовага старшыню Сэкрэтарыату, як мы лічым, быў бы адпаведным п. Лёсік, як асоба нэутральная»[1278]. Напрыканцы ліста Луцкевіч паведамляў пра аднагалоснае рашэнне Рады, што сябрамі Народнага Сакратарыята могуць быць толькі «шчырыя беларусы»[1279].

Невядома, ці думаў Раман Скірмунт пра тое, што, даючы згоду, ён нагадвае чалавека, які другі раз наступае на граблі? А можа 1917 г. так і не стаў для яго засвоеным урокам, і ў складанай палітычнай гульні ён заставаўся рамантыкам, які паверыў у тое, што ў «крытычны момант», пра які пісаў у сваім лісце Антон Луцкевіч, агульнабеларускія нацыянальныя інтарэсы пераможаць вузкакласавы падыход?

«Беларускі шлях» вітаў кааліцыю. 11 красавіка праблеме аб'яднання беларускіх сіл быў прысвечаны артыкул «Тры цэнтры». Ананімны аўтар сцвярджаў, што МБП стваралі тыя беларусы, якія былі перакананы ў неабходнасці паяднання сацыялістаў і «нацыянальных дэмакратаў». Ён прызнаваў правамернасць стварэння Народнага Сакратарыята, вытокі якога звязваў з рашэннямі Усебеларускага з'езда, і заяўляў, што МБП і Народны Сакратарыят адрозніваюцца толькі такты-

1277 W. O. [Wł. Olszyński], *Dwór i wieś,* «Dziennik Miński». 1918, Nr 82.

1278 НАРБ. Ф. 878, воп. 1, спр. 8, арк. 23–23 адв.

1279 Тамсама, арк. 23 адв.

кай і некаторымі пунктамі праграмы. Паводле аўтара, перамены ў міжнароднай сітуацыі патрабуюць стварэння ўжо не сацыялістычнага, а адзінага «нацыянальнага фронту». «Усе беларусы злучаюцца ў адну сямью, – пісаў ён, – бо яны хочуць ратаваць ні праграмы і лёзунгі, а нішчасную Бацькаўшчыну. На іх адных ляжыць гэты гістарычны абавязак, за іх ніхто гэтаго ні зробіць». Аўтар быў пэўны, што аб'яднанне беларускіх сіл будзе з поспехам супрацьстаяць «расійскаму цэнтралізму і імперыялізму», пад сцягам якога злучыліся чарнасоценцы, эсэры, эсдэкі і бальшавікі[1280].

У артыкуле «Чароднае заданне» таксама ананімовы аўтар сцвярджаў, што такім заданнем з'яўляецца стварэнне «моцнаго, адналітаго па духу і аўторытэтнаго *нацыянальнага прэдстаўніцтва* (вылучана аўтарам. – *А. С.*)». Рада БНР і Народны Сакратарыят, на яго думку, не мелі «праўдзівай сілы». Яны «ганяліся за ўладай» і не займаліся «арганічнай працай над злучэнням народу». Аўтар артыкула сцвярджаў, што «*праўдзівае нацыянальнае прэдстауніцтва* (вылучана аўтарам. – *А. С.*), ні адкідаючы нават прэдстауніцтва меншасьцяў, але як меншасьцяў, можа зрабіць цяпер шмат болей карысьці для Беларусі, чым уроеная сабе ніпраўдзівая улада. Трэба адказацца ад ідэі улады, калі яе фактычна німа, і устаць на дарогу заступніцтва за народ і яго інтарэсы. Гэта ні значыло-б, што такое прэдстауніцтво ні магло-б спаўняць некаторых абавязкау улады: празь іх даць народу усю уладу – павінна быць яго мэтай»[1281].

Ужо на наступны дзень, 12 красавіка на пятым пасяджэнні ІІ сесіі Рады БНР у яе склад увайшлі сябры МБП Раман Скірмунт, Павел Аляксюк, Аляксандр Уласаў, Рамуальд Зямкевіч, Казімір Гадыцкі-Цвірка, Вільгельм Русецкі, ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, святары Кульчыцкі і Васюкевіч, генерал Кандратовіч. Такім чынам, склад Рады павялічыўся да 80 чалавек, сярод якіх па-ранейшаму пераважалі прыхільнікі сацыялістычнай ідэалогіі. Дзеячы МБП утварылі фракцыю Цэнтра.

Кааптацыя сяброў МБП выклікала дэбаты, якія закончыліся галасаваннем, вынікі якога засведчылі паяднанне беларускіх палітычных сіл. З пратэстам выступіў толькі сябра Рады Айзэнштадт, які заявіў, што нельга ўключаць у склад Рады тых, хто не прызнаваў яе і «прадпрыняў шэраг сепаратных і кампрамітуючых беларускую нацыянальную справу крокаў»[1282]. Пратэст быў унесены ў пратакол.

Заўважу, што ў гэтым пасяджэнні ІІ сесіі Рады БНР удзельнічаў Іван Луцкевіч. Відавочна, што ягоны прыезд павінен быў гарантаваць аб'яднанне. У хроніцы дзейнасці БНР за 12–20 красавіка паведамлялася, што «приезжавший вторично в Минск представитель Виленской Белорусской Рады И. И. Луцкевич 13 апреля выехал обратно в Вильну. Г. Луцкевич участвовал в весьма важных совещаниях

[1280] б/п. *Тры цэнтры*, «Беларускі шлях». 1918, № 16.
[1281] б/п. *Чароднае заданне,* «Беларускі шлях». 1918, № 16.
[1282] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 92.

у председателя Народного Секретариата И. Я. Воронко, а также на соединенных заседаниях бюро фракций Белорусской Социалистической Громады и независимых социалистов»[1283].

Рашэнне, прынятае 12 красавіка, было надзвычай важным для беларускага руху, які на працягу ўсёй сваёй гісторыі меў праблемы з адзінствам нацыянальных сіл. Ініцыятарамі паяднання былі віленскія сацыялісты, якіх падтрымалі менскія аднадумцы. Вось толькі застаецца пытанне пра матывы гэтай ініцыятывы. Калі ў лісце Антона Луцкевіча да кіраўнікоў МБП дамінавалі інтарэсы беларускай дзяржаўнасці і незалежнасці, то, напрыклад, Вінцэнт Гадлеўскі на старонках аўтабіяграфіі аб'ядняльную ініцыятыву беларускіх сацыялістаў тлумачыў тым, што яны апынуліся ў «палажэньні бяз выхаду»[1284].

Гэтая «бязвыходнасць» была абумоўлена тым, што пасля прыняцця Трэцяй Устаўной граматы ў Радзе ўзнікла даволі ўплывовая «антынезалежніцкая» апазіцыя, якая складалася з эсэраў, земцаў і сяброў габрэйскіх палітычных арганізацый і партый. Яны не жадалі разрываць адносіны з Расіяй і настойвалі на пераглядзе рашэнняў, прынятых 25 сакавіка 1918 г. Пасля таго, як гэтая спроба пацярпела няўдачу, прадстаўнікі партыі эсэраў заявілі пра непрыманне Акта аб незалежнасці і выйшлі са складу Рады. Адбылося гэта 1 красавіка[1285].

Прэтэнзіі Рады БНР на палітычнае кіраўніцтва беларускімі землямі не прымаліся не толькі акупацыйнымі ўладамі, але таксама многімі мясцовымі акторамі палітычнай сцэны. Як сцвярджала Дарота Міхалюк, улада Рады БНР распаўсюджвалася амаль выключна на арганізацыі і ўстановы, якія пашыралі беларускую культуру і асвету[1286].

Непасрэдным наступствам гэтай сітуацыі было цяжкае фінансавае становішча Рады. Магчыма, сапраўды, кааліцыя з «сацыяльна чужымі» для Язэпа Варонкі і ягоных прыхільнікаў у той момант уяўлялася адзіным сродкам пераадолення гэтага крызісу.

У сваю чаргу Раман Скірмунт і кіраўнікі МБП павінны былі разумець, што для паспяховай палітычнай дзейнасці недастаткова наладзіць кантакты з нямецкай адміністрацыяй. Найперш была патрэбна кансалідацыя наяўных беларускіх сіл. Было відавочным, што немцы будуць лічыцца толькі з моцным партнёрам.

13 красавіка ў рэдакцыйным артыкуле «Беларускага шляху» (№ 18) сцвярджалася, што «Беларусь павінна сабраць і зарганізаваць перш у стройную сыстэму нацыянальна-дзержаунай еднасьці усе сьвядомыя і творчыя сілы […] Стварыушы нацыянальную еднасьць за перыод вайны, мы павінны стварыць крыніцу дзержа-

1283 Тамсама, с. 114–115.

1284 З *жыцця і дзейнасці кс. В. Гадлеўскага: Аўтабіяграфічны нарыс*, «Гарадзенскія запісы». 1993, с. 127.

1285 D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 240.

1286 Ibidem, с. 287–288.

унай беларускай уласьці па прызнаку нацыянально-творчаму, а ні соцыяльнаму. Толькі пры выбарах у сойм у нас магчыма барацьба за ўласьць, каб зрабіць тыя ці другія зямельныя рэформы. Скарэй усяго мусіць быць, прайшла-бы эуропэйская аграрная рэформа, бо беларус есьць уласнік.

Наш край цяпер ні мае гасударсцьвеннаго мэханізму, уся задача вельмі прастая сягоння – зрабіць гэты мэханізм. Цяперашні мэханізм круціцца так сяк самакатам, ён прыстасаваны быу да Расійскай імпэрыі і ея палітыкі. Трэба яго сабраць, нарыхтаваць толькі для Беларусі і для ея нацыянальных інтарэсау і пусьціць у нармальны ход. Для гэтаго прыдзецца сабраць усе лепшыя творчыя сілы розных беларускіх станоу і нацыянальных аседлых тут меншасьцяу». Цікава, што прыведзены фрагмент быў працытаваны ў рэдакцыйным артыкуле віленскага «Гомана» (№ 32 ад 19 красавіка), прысвечаным «менскаму паяднанню». Вось толькі думка пра «эуропэйскую аграрную рэформу» і «беларуса-уласніка» была прыбрана з гэтай цытаты.

«Гоман» вітаў паяднанне двух менскіх цэнтраў – «больш радыкальнага» (Рада БНР) і сабраўшага «больш умеркаваныя элементы» (МБП) на «грунце будавання незалежнай Беларускай дзержавы». Праўда, пры гэтым выказвалася адна істотная заўвага, а менавіта: кансалідацыя павінна датычыць шчырых прыхільнікаў беларускай незалежнасці, а не тых, хто «укрывае под славамі аб «самадзельнасці» чужацкай палітычнай ідэалогіі: «да Масквы» або «да Варшавы». Гэта трэба мець асабліва на ўвазе цяпер, калі закладаюцца самые фундамэнты гасударственай будоўлі: бо абмылка, зробленая ў фундамэнці дому, суліць раней ці пазней развал усяе будоўлі».

Гэта заканчэнне артыкула вартае асаблівай увагі. Відавочна, што, нават пераступіўшы праз сацыяльны недавер да «паноў», беларускія сацыялісты захавалі недавер нацыянальны. Тут трэба прыгадаць, што 17 красавіка прэзідыум Віленскай Беларускай Рады звярнуўся да генерала Людэндорфа з просьбай замены польскага войска на тэрыторыі Беларусі салдатамі іншых краін-пасярэдніц. У лісце сцвярджалася, што «дзейнасць польскага войска ў Беларусі даўно выйшла за межы, неабходныя для аднаўлення парадку, што тут вялікую ролю адыгрывае нацыянальная барацьба і зводзяцца нацыянальныя парахункі». Аўтары, сярод якіх вылучаліся постаці Івана і Антона Луцкевічаў, заяўлялі, што мэтаю польскай адміністрацыі насамрэч з'яўляецца паланізацыя беларусаў і г. д.[1287] Магчыма, пачаткі польска-беларускага супрацьстаяння таксама падпітвалі «філасофію падазрэння», якая нікуды не знікла…

19 красавіка першыя вынікі супрацы падводзіў Язэп Варонка ў лісце да Антона Луцкевіча. На думку сацыяліста, яна не мела перспектывы: «Тутака работа неяк рыхтуецца, толькі з «панамі» толку не даб'емся»[1288]. Падобна, што, сапраўды, пер-

---

[1287] НАРФ. Ф. 878, воп. 1, спр. 4, арк. 21 адв.

[1288] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 106.

шы тыдзень супрацы з МБП аказаўся для сацыялістаў даволі складаным. Дарота Міхалюк, спрабуючы зразумець вытокі гэтых цяжкасцяў, прыйшла да высновы, што галоўную адказнасць за ўсе праблемы з наладжваннем эфектыўнай супрацы «паноў» і сацыялістаў нясе якраз Варонка, які так і не здолеў адмовіцца ад уласнай ідэалагічнай і асабістай прадузятасці[1289]. Магчыма, негатыўную ролю таксама адыгрывалі празмерныя амбіцыі маладога палітыка.

Між тым, 16 красавіка ў рэдакцыйным артыкуле «Беларускага шляху» (№ 20) стварэнне «едзінага нацыянальнага фронту» характарызавалася як «вялікае свята» ў беларускім палітычным жыцці і выказвалася надзея, што пасля з'яўлення ў Радзе групы Цэнтр праца «над адбудаваннем Беларускай Народнай Рэспублікі [...] пойдзе моцнымі крокамі». «Сэрцамі і нацыянальным пачуццям, – адзначаў аўтар, – мы адна нацыя. І такой застанемся. На Менск лёг абавязак мудрай нацыянальнай і міжнароднай палітыкай злучыць усю Беларусь у адну беларускую дзяржаву. Дзеля гэтага мусіць быць зроблена мабілізацыя ўсіх сіл нашых, стройная арганізацыя іх, зьбіранне ўсёй Беларускай зямлі. На гэта трэба многа халоднаго гаспадарскаго розуму і гарачаго беларускаго сэрца. Словы ні так будуць патрэбны, як арганічная праца, безабмылковая тактыка і палітычная вытрымаласць»[1290].

Праўда, у гэтым самым нумары газеты пачалася публікацыя вялікага артыкула «С цяжкім возам на гнілой грэблі» (аўтар схаваўся пад крыптанімам *А. Н.*), у якім рабіўся агляд працы БНК і падкрэсліваўся антынацыянальны характар дзейнасці прыхільнікаў сацыялістычнай ідэі. Падобна, што і сябры Менскага прадстаўніцтва не мелі ілюзій наконт эфектыўнасці і працягласці супрацы з дзеячамі БСГ.

19 красавіка пра ўваход кіраўніцтва МБП у склад Рады БНР паведаміў сваім чытачам «Дзеннік Мінскі». Пры гэтым сцвярджалася, што ў абноўленай Радзе «Скірмунт і Аляксюк будуць адыгрываць выбітную ролю»[1291].

Калі палякі Меншчыны пагадзіліся з беларускасцю Рамана Скірмунта, то публіцысты з Каралеўства Польскага па-ранейшаму глядзелі на яго, як на паляка. Так, літаральна праз дзень пасля ўваходу Скірмунта ў склад Рады БНР выйшаў з друку нумар варшаўскага «Тыгодніка ілюстраванага» (№ 15) з артыкулам Чэслава Янкоўскага «Беларусь абуджаецца...» Колішні рэдактар «Кур'ера Літэўскага» сцвярджаў, што на чале беларускага нацыянальнага руху стаяць «радавітыя палякі». У Вільні – гэта Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі, а ў Менску – Раман Скірмунт. У кароткай характарыстыцы апошняга Ч. Янкоўскі параўнаў яго з англійскім *tory*. Артыкул быў багата ілюстраваны, у т. л. фотаздымкамі Р. Скірмунта і Э. Вайніловіча.

---

[1289] D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 296

[1290] «Беларускі шлях». 1918, № 20.

[1291] «Dziennik Miński». 1918, Nr 77.

***ДАКУМЕНТ***

**З артыкула Чэслава Янкоўскага «Беларусь абуджаецца…» (1918)[1292]**

*Пан Раман Скірмунт, што мае зараз 49 гадоў, паходзіць з старажытнага роду, які мае свае шматлікія гнёзды на землях былога Вялікага Княства Літоўскага. Нарадзіўся ў спадчынным маёнтку Парэчча паблізу Пінска, якім і зараз валодае. Вучыўся ў нямецкіх школах. Парэчча з вядомай усім суконнай фабрыкай яшчэ нядаўна было шматлюдным прамысловым паселішчам. Адпаведна ўладальнік Парэчча выдатна арыентуецца не толькі ў сельскай гаспадарцы, але таксама ў іншых эканамічных справах. Пэўны час ён быў віцэ-старшынём Менскага сельскагаспадарчага таварыства. Грунтоўна і ўсебакова адукаваны, ён мае незвычайную вытрымку, грамадзянскую мужнасць і вялікую працавітасць. Быў дэпутатам ад Менскай губерні ў Першай Думе, дзе ягоная смелая прамова супраць «трудавікоў» зрабіла моцнае ўражанне, быў таксама дэпутатам Дзяржаўнай Рады, але адмовіўся ад гэтага мандату. Паводле перакананняў і тэмпераменту – гэта англійскі торы. Да грамадскага жыцця яго прыцягнуў Эдвард Вайніловіч. Іх звязвае не толькі шматгадовае сяброўства, але таксама духоўная блізкасць. Можна сказаць, што Раман Скірмунт шмат у чым з'яўляецца прадаўжальнікам публічнай і грамадскай дзейнасці, а таксама спадчыннікам ідэі і пачуццяў нестара[1293] менскіх землеўласнікаў.*

На пасяджэнні Рады БНР 12 красавіка таксама была зацверджана новая «кабінетная» сістэма ўрада, пра якую паведаміў Язэп Варонка. У кароткай хроніцы, падрыхтаванай у прэс-бюро Народнага Сакратарыята, пераказваліся асноўныя палажэнні ягонага выступу. Гаворка ішла пра адмову ад прынцыпа выбарнасці, стварэнне ўрада з людзей «з'яднаных ўзаемным даверам, блізкасцю перакананняў, усведамленнем адказнасці і кругавой парукай, спецыялістаў і фанатыкаў справы». Апрача таго, адзначалася, што склад новага ўрада дапаможа наладзіць кантакт паміж германскім камандаваннем і беларускай краёвай арганізацыяй і будзе спрыяць «адраджэнню дзяржаўнасці»[1294]. Упэўнены, што гэтая ініцыятыва была часткай пагаднення паміж сацыялістамі і МБП. Сацыялісты фактычна пагаджаліся на стварэнне ўрада «спецыялістаў» з ліку тых, хто меў больш шансаў наладзіць адносіны з нямецкімі ўладамі, як у Менску, так і ў Берліне.

У выніку гэтых перамен у склад Народнага Сакратарыята былі запрошаны Скірмунт і Аляксюк[1295]. Ішлі размовы наконт новай кандыдатуры ягонага старшыні, а таксама кіраўніка Рады БНР. У якасьці альтэрнатывы Язэпу Варонку фігуравалі Язэп Лёсік, Антон Луцкевіч і Раман Скірмунт. На месца кіраўніка Рады

1292 Cz. Jankowski, *Białoruś budzi się…*, «Tygodnik illustrowany». 1918, № 15, с. 174–175.
1293 Гаворка пра Эдварда Вайніловіча.
1294 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 119–119 адв.
1295 ЦДАЛ. Ф. 582, воп. 2, спр. 5, арк. 24–26; НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 19, 108.

прэтэндавалі Аляксандр Уласаў, які быў самым моцным кандыдатам, Аркадзь Смоліч, Аляксандр Прушынскі і Сымон Рак-Міхайлоўскі. Аднак пакуль гэта былі толькі размовы пра рэарганізацыю ўрада, якія скончыліся тым, што «старыя» народныя сакратары па-ранейшаму выконвалі свае абавязкі, а Варонка і Серада заставаліся на чале адпаведна Народнага Сакратарыята і Рады БНР[1296].

Магчыма, часткай таго ж пагаднення было рашэнне пра стварэнне Рады старэйшын, або «Сеньорэн-Конвента» Рады БНР[1297], у якім павінна была быць прадстаўлена кожная яе фракцыя, у т. л. фракцыя МБП. З'яўленне Рады старэйшын таксама магло быць абумоўлена неабходнасцю прымаць важныя рашэнні па-за пасяджэннямі Рады. Апошняя налічвала 80 чалавек, і часта мела праблемы з кворумам.

Рашэнні Рады БНР ад 12 красавіка прымушалі сацыялістаў адмовіцца ад крытыкі «беларускіх буржуеў». Апрача таго, паўстала неабходнасць праінфармаваць жыхароў Беларусі пра пэўныя палітычныя перамены і новы характар Рады. Ролю інфарматара ўзялі на сябе газеты і сябры Рады, якія выпраўляліся ў розныя рэгіёны Беларусі. Так, Іван Краскоўскі ў другой палове красавіка наведаў Магілёў. Па выніках ягонага візіту магілёўская газета «Эхо» 25 красавіка змясціла інфармацыю пад загалоўкам «В Раде Белорусской Народной Республики». І. Краскоўскі паведаміў пра «рэканструкцыю» Рады, якая, між іншым, папоўнілася дзесяццю прадстаўнікамі Менскага Беларускага прадстаўніцтва як арганізацыі «несоциалистической интеллигенции, которая представляет интересы местной буржуазии». Таксама ён заявіў пра «кабінетны прынцып» фарміравання ўрада і назваў імя кандыдата на пасаду прэм'ер-міністра, менавіта Рамана Скірмунта.

Апошні быў ахарактарызаваны як «известный белорусский национальный деятель, депутат 2-й[1298] Государственной Думы, член Государственного Совета России, принимавший активное участие в немногочисленной депутатской группе федералистов, существовавшей и работавшей в условиях того времени конспиративно». Далей прыводзіўся фрагмент размовы Скірмунта з карэспандэнтам газеты «Минский голос», у якім кандыдат на пасаду першага беларускага прэм'ер-міністра заявіў: «В белорусском обществе нет твердой позиции по вопросу момента: быть или не быть [независимой] Белоруссии? Но ни у кого ни на минуту не должно быть сомнения в необходимости сохранения своего отечества – Белоруссии – единой и неделимой. Однако необходимо сказать, что самая верная ориентация – это любовь к своему народу, своему краю. Если мы положим в основу любовь к народу, то это основа объединения всех разнородных элементов края в борьбе за светлое будущее, за великие идеалы возрождения угнетенного на протяжении нескольких столетий белорусского народа».

---

[1296] Цытата па: D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 295.

[1297] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 26.

[1298] Насамрэч, І Дзяржаўнай Думы.

Звяртае на сябе ўвагу пастаўленая Скірмунтам галоўная задача – адзіная і непадзельная Беларусь. Ён не казаў пра незалежнасць, бо гэтае слова ўсё яшчэ палохала частку беларускага грамадства, казаў пра «непадзельнасць» Айчыны, якая ў тагачасных умовах магла быць гарантавана толькі дасягненнем незалежнасці. Таксама ў ягоных словах адчувальная рэвалюцыйная фразеалогія, якая яшчэ нядаўна дамінавала на шматлікіх мітынгах. Магчыма, і Раман Скірмунт аддаваў пэўную даніну часу і саюзу з сацыялістамі. Але не выключана, што гэтыя словы адпавядалі ягонаму рамантычнаму падыходу да палітыкі, пра які ўжо была гаворка.

Пазіцыі Скірмунта ў Радзе БНР сапраўды былі даволі моцнымі. Пра гэта, між іншым, сведчыць ліст Антона Луцкевіча, адрасаваны адразу Варонку і Скірмунту, у якім гаворка ішла пра прыезд у Менск Вацлава Ластоўскага. Шляхі нядаўніх сяброў і аднадумцаў Луцкевіча і Ластоўскага, разышліся ўвесну 1918 г. Пасля з'яўлення ў Вільні лістоўкі ад імя «Сувязі незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі» (22 красавіка), дзе праклямавалася ідэя беларуска-ўкраінскай федэрацыі, А. Луцкевіч пачаў падазраваць Ластоўскага ва ўласнай палітычнай гульні з немцамі. Паводле ягонага меркавання, гэтая «гульня» з'яўлялася часткай плана нямецкага куратара «Гомана» Эдмунда Зузэміля і нямецкіх нацыяналістаў і магла скончыцца адмовай Берліна падтрымліваць беларускую дзяржаву і падзелам яе тэрыторыі паміж Літвой і Украінай. Луцкевіч у лісце сцвярджаў, што згаданая арганізацыя Ластоўскага з'яўляецца «фікцыяй», і што апошні насамрэч не мае ніякіх паўнамоцтваў ад віленскіх беларускіх арганізацый[1299].

Дарэчы, Эдмунд Зузэміль, які ў згаданым лісце фігураваў як «"таварыш Кузміцкі" ў мундзіры», сапраўды быў прыкметнай постаццю ў беларуска-нямецкіх дачыненнях. Ён служыў у адміністрацыі Обэр-Осту і кантактаваў з начальнікам палітычнага аддзелу Фрайхерам фон Гайлем. Пэўныя поспехі беларускага руху на тэрыторыі «старой акупацыі» былі звязаныя таксама з ягоным лабіраваннем беларускіх інтарэсаў[1300].

Зямкевіч у сваіх пазнейшых данясеннях польскай контрвыведцы, між іншым, паведамляў, што «пасля заняцця Менску ён [Э. Зузэміль – *А. С.*] пастаянна круціўся сярод беларусаў і […] літаральна ўсюды меў доступ да ўлад»[1301]. У іншым данясенні Зямкевіч таксама сцвярджаў, што Зузэміль нарадзіўся каля вёскі Парэчча ў ваколіцах Пінска і меў невялікія зямельныя ўладанні паблізу маёнтка Рамана Скірмунта[1302].

---

[1299] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 27; *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 123–124.

[1300] А. Пашкевіч, А. Чарнякевіч, «*Стары нямецкі агент*» *ці* «*бацька радзіміцкага народу*»*?*, «Arche-пачатак». 2005. № 4, с. 147–165.

[1301] Цытата па: А. Пашкевіч, А. Чарнякевіч, «*Стары нямецкі агент*»…, с. 155.

[1302] Тамсама, с. 148.

Апошняя інфармацыя падштурхоўвае да пошуку нейкіх кантактаў «таварыша Кузьміцкага» са Скірмунтам у 1918 г. Аднак вядомыя гістарычныя дакументы нічога не паведамляюць пра гэта. Сцвярджэнне беларускіх даследчыкаў Алеся Пашкевіча і Андрэя Чарнякевіча пра сяброўства Э. Зузэміля ў шэрагах Беларускай народнай партыі сацыялістаў (май 1917 г.), а пазней у Радзе БНР[1303] грунтуецца на памылковым атаясамліванні з «таварышам Кузьміцкім» сапраўднага Кузьміцкага, які на сакавіцкім з'ездзе беларускіх арганізацый у Менску ў 1917 г. прадстаўляў Менскі савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Але вернемся да А. Луцкевіча і ягонага канфідэнцыяльнага ліста, які ён накіраваў двум адрасатам, адзін з якіх быў кіраўніком урада, а паўнамоцтвы другога канчаткова не былі вызначаны. Гэты ліст дапамагае зразумець, якая значная роля адводзілася Скірмунту ў беларускім урадзе. Відавочна, менавіта з ім звязваліся асноўныя надзеі на пералом у стасунках з Германіяй.

Тут варта паразважаць пра тую палітычную небяспеку, якую ўтрымлівала прагерманская арыентацыя Рады БНР. У адрозненне ад Вільні, дзе кантакты Беларускай Рады з нямецкімі ўладамі ўвесну 1918 г. успрымаліся як непазбежны і неабходны элемент палітычнай дзейнасці, сярод палітычнай эліты Менска дамінавалі прарасійскія настроі. Большасць актораў палітычнай сцэны не ўсведамляла існавання Беларусі па-за Расіяй. Спектр уяўленняў пра будучыню Краю быў вельмі шырокім – ад манархіі да бальшавіцкага панавання. Але іх яднала перакананне ў натуральнай прыналежнасці Беларусі да ўсходняга суседа. Апрача таго, непазбежнае пагаршэнне жыццёвых умоў, усталяванне «нямецкага парадку», накіраванага, між іншым, супраць усіх праяў «стыхійнага сацыялізму» і «пугачоўшчыны па-беларуску», спрыялі росту антынямецкіх настрояў. Апошнія актыўна падаграваліся бальшавіцкай прапагандай. У гэтых умовах актывізацыя кантактаў з акупацыйнымі ўладамі пагражала абвінавачваннямі ў здрадзе ці то «вялікай Расіі», ці то беларускага народу. Магчыма, і гэта ўлічвалася менскімі сацыялістамі, якія прапанавалі якраз Раману Скірмунту выйсці на пярэдні план палітыкі паразумення з Германіяй. Зрэшты, Скірмунт сам быў ініцыятарам гэтай палітыкі і не патрабаваў заахвочвання з боку Рады БНР.

Відавочна, што пасля ягонага ўваходу ў кіраўнічае ядро беларускага руху значна актывізаваліся намаганні дасягнуць паразумення з нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй, а таксама з берлінскімі палітыкамі.

Найбольш вядомым эпізодам гэтай палітыкі была пасылка тэлеграмы на імя імператара Вільгельма II з падзякай за вызваленне Беларусі ад бальшавіцкага панавання і спадзяваннем на падтрымку Германіяй беларускай дзяржаўнасці.

Гадлеўскі сцвярджаў, што ініцыятыва тэлеграмы да імператара Германіі належала Скірмунту[1304]. Спачатку яна выклікала пратэсты, але сітуацыя непрыз-

[1303] Тамсама, с. 154.

[1304] В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску*, с. 34.

нання беларускіх дзяржаўніцкіх прэтэнзій, а таксама аргументацыя ініцыятараў тэлеграмы, якія звярталі ўвагу на прыклад Літвы і Украіны і сцвярджалі, што «пры бальшавіцкай і польскай захопнасьці беларусам не ўдасца дзяржаўнага жыцьця»[1305], урэшце пераканалі Раду БНР. Праўда, як прыгадваў той жа Гадлеўскі «болей празорлівыя пасылаюць Скірмунта ў менскае Обэр-Коммандо разьведаць грунт». Вынікі візіту былі пазітыўнымі. Кіраўнікі нямецкай акупацыйнай адміністрацыі далі зразумець, што зварот да Вільгельма II «знойдзе ў Бэрліне належны водгук». Магчымасць такой папярэдняй кансультацыі вельмі верагодная. Тэлеграму трэба было перасылаць праз нямецкую адміністрацыю, і падобныя дзеянні патрабавалі ўзгаднення.

Вось як прыгадваў наступныя падзеі Вінцэнт Гадлеўскі: «Дык справа тэлеграмы была пастаўлена на парадак дня на закрытым пасяджэньні Рады дня 25 красавіка 1918 г. Сам прынцып пасылкі тэлеграмы ня выклікаў большых спрэчак (гэта было ўжо вырашана ў прыватных гутарках), а доўгую, вельмі доўгую дыскусію выклікала зрэдагаваньне тэлеграмы і яе зьмест. Ішло аб тое, каб не сказаць замнога і не сказаць замала. Урэшце, пасьля доўгіх і гарачых спрэчак быў прыняты такі тэкст тэлеграмы: «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як абраная прадстаўніца Беларускага народу, зьвяртаецца да Вашай імпэратарскай Вялікасьці з славамі найглыбейшай падзякі за асвабаджэньне Беларусі нямецкімі вайскамі зь цяжкога ўціску, чужога пануючага зьдзеку і анархіі. Рада БНР дэкляравала незалежнасьць цэльнае і не дзялімае Беларусі і просіць Вашую імпэратарскую Вялікасьць аб абароне ў яе кіраваньня дзеля ўмацаваньня дзяржаўнай незалежнасьці і недзялімасьці краю ў зьвязку зь Германскай імпэрыяй. Толькі пад абаронай Германскай імпэрыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыне». Пры галасаваньні за тэлеграму было пададзена 35 галасоў, проціў 4 галасы, 4 устрымаліся.

Прыхільнікі высылкі тэлеграмы аргумэнтавалі так: у тэлеграме няма зрачэньня незалежнасьці, а нават гэтая незалежнасьць два разы падчырківаецца, апроч гэтага, гаворыцца аб недзялімасьці краю; няма там ані слова аб тым, што Беларусь пераходзіць пад панаваньне немцаў, а толькі гаворыцца аб зьвязку або саюзе зь Нямеччынай. Нямеччына, як дзяржава далейшая, ня так страшная для існаваньня Беларусі як, напрыклад, Расея або Польшча. Апроч гэтага, гаварылася аб эканамічных карысьцях сувязі зь Нямеччынай, куды Беларусь зможа высылаць свае земляробскія прадукты, а урэшце, на заканчэньне ўсяе аргумэнтацыі, гаварылася, што іншага выхаду няма, што гэтаксама робяць іншыя народы і дабіваюцца пажаданых рэзультатаў і г. д.

Падпісалі тэлеграму ад імя Рады пяцёх чалавек: Скірмунт, Аляксюк, Лявіцкі, Зямкевіч і пяты, якога я тымчасам не назаву, бо знаходзіцца ён у дзяржаве, якая цяпер моцна прасьледуе беларусаў. Падпісалі і выслалі празь менскае Обэр-

[1305] З *жыцця і дзейнасці кс. В. Гадлеўскага: Аўтабіяграфічны нарыс*, «Гарадзенскія запісы». 1993, с. 128.

*Чарнавік тэлеграмы Рады БНР імператару Вільгельму ІІ. 25 красавікі 1918 г.*


SEINE MAJESTÄT DEN DEUTSCHEN KAISER.

Die RADA der Weissruthenischen Volks-Republik – als erwählte Ver-
...in des Weissruthenischen Volkes wendet sich an EURE MAJESTÄT mit
...en tiefgefühlten Dankes für die Erlösung von Weissruthenien durch
...schen Truppen aus tiefster Bedrängnis durch fremdherrschaftliche
...lt und Anarchie.

Die RADA der Weissruthenischen Volks-Republik hat die Unab-
...keit (des ganzen und ungeteilten Weissrutheniens erklärt und
... EURE MAJESTÄT um Schutz für ihre Bestrebungen nach Befesti-
... der staatlichen Unabhängigkeit und Unteilbarkeit des Landes im
...e mit dem DEUTSCHEN REICH.

Nur unter dem Schutz des DEUTSCHEN REICHS sieht die Rada ~~das Land~~
... Ihres Landes
... Heil (in der Zukunft.

Präsident der RADA Iwan Ssereda.

Präsident des Sekretariats Jasep Waronka.

Mitglieder der RADA: Roman von Skirmunt
Anton Owssjanik
Pauluk Alekssiuk
~~Peter~~ Kretschewski
Jasep Lossik.

...nsk, den 25 April 1918.

Коммандо. Высылаючы, спадзяваліся хуткага адказу і разам з адказам прызнаньня Беларускай Рады і Беларускай Народнай Рэспублікі *de jure* з боку сільнай тагды яшчэ Нямеччыны. Спадзяваліся так-жа, што такім парадкам беларуская справа стане на грунт міжнародны»[1306].

Гадлеўскі памыліўся ў сваім пераліку падпісантаў. Насамрэч тэлеграму падпісалі кіраўнікі Рады БНР (Іван Серада) і Народнага Сакратарыята (Язэп Варонка), а таксама сябры Рады, большасць якіх належала да Менскага Беларускага прадстаўніцтва – Раман Скірмунт, Антон Аўсянік, Павел Аляксюк, Пётр Крэчэўскі і Язэп Лёсік.

Яна была адпраўлена ў Берлін 26 красавіка праз нямецкую адміністрацыю. Вядома, што ўвечары гэтага дня прадстаўнік Обэр-Ост у Менску фон Моос прыняў беларускую дэлегацыю ў складзе Варонкі, Скірмунта і Аўсяніка. Як пазней паведаміла Прэс-бюро Народнага Сакратарыята, размова датычыла сучаснага становішча Беларусі ў сувязі з апошнімі рашэннямі Рады БНР. Афіцыйная інфармацыя сцвярджала, што прыём меў «надзвычай сяброўскі характар»[1307]. Аднак ёсць падставы сумнявацца ў «сяброўскім характары» сустрэчы. Хутчэй фон Моос перадаў беларусам адказ на тэлеграму, які павінен быў іх расчараваць.

Як вядома, тагачасныя палітыкі, а пазней і гісторыкі, усю адказнасць за гэтую тэлеграму і яе наступствы ўсклалі на Скірмунта. А вось Язэп Варонка ў лісце да Антона Луцкевіча ад 27 красавіка прызнаваўся, што тэкст тэлеграмы належыць яму: «Тэкст тэлеграмы мой, Скірмунт даў саўсім другі; яго мы аткінулі»[1308].

У Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі беларускія гісторыкі нядаўна адшукалі пратаколы пасяджэнняў Рады БНР за красавік-лістапад 1918 г.

---

[1306] В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску*, с. 35–36.
[1307] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 19.
[1308] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 132.

Дакументы сведчаць, што першапачатковы тэкст тэлеграмы зачытаў Раман Скірмунт[1309]. Пасля гэтага распачалася дыскусія пра самую патрэбу высылкі такой тэлеграмы. Вынікі галасавання выявілі рэдкае ў гісторыі Рады БНР адзінства: «за» адпраўку тэлеграмы выказалася 35 сяброў Рады, «супраць» – адзін, і двое ўстрымаліся.

Пасля гэтага Рада ўнесла праўкі ў змест тэлеграмы. Так, выраз: «са славамі гарачай падзякі за аслабаненне германскімі войскамі з цяжкага ўціску бальшавіцкае анархіі» быў заменены словамі: «с цяжкаго чужога уціску, гвалту і анархіі». Замест: «у зьвязку з Гэрманскай Імпэрыяй» было запісана: «ў хаўрусе з Гэрманскай Імпэрыяй». Выраз: «толькі пад апекай Гэрманск. Імператара» замянілі на фармуліроўку: «толькі пад абаронай Германскай Дзержавы».

А вось як выглядала канчатковая рэдакцыя тэлеграмы: «Рада БНР, як выбраная прэдстаўніца ўсяго Беларускага народу, звяртаецца да В. В. са славамі глыбокай падзякі за вызваленне Беларусі Гэрманскімі вайскамі с цяжкаго чужога уціску, гвалту і анархіі.

Рада БНР дэкляравала нізалежнасьць цэлае і нідзялімае Беларусі і просіць В. В. абараніць у яе кіраваннях да ўмацавання дзержаўнай нізалежнасьці і нідзялімасьці Беларусі у хаўрусе з Гэрманскай Імпэрыяй. Толькі пад абаронай Гэрманскай Дзяржавы бачыць добрую долю сваёй стараны ў будучыні».

Няма падстаў не верыць Язэпу Варонку, што праўкі належылі менавіта яму. Відавочна, што яны выразна змякчалі «вернападданіцкі» аспект у змесце тэлеграмы.

У згаданым лісце да Антона Луцкевіча Варонка паведамляў пра тое, што пасылка тэлеграмы атрымала моцны розгалас: «Справа гэта нарабіла тута-ка многа шуму. Голас грамадзянства раздзеліўса на две часткі: адны хваляць, другія называюць нас здрайцамі, немецкімі подданымі. Што зрабіць. Чым-ж усім дагадзіць. Чы разумеюць яны нашу боль, нашые мэты».

*ДАКУМЕНТ*

**Тэлеграма Рады Беларускай Народнай Рэспублікі імператару Вільгельму II. 26 красавіка 1918 г.**[1310]

*An Seine Majestät den Deutschen Kaiser*

*Die RADA der Weissruthenischen Volks-Republik – als erwählte Vertreterin des Weissruthenischen Volkes – wendet sich an EURE MAJESTAT mit Worten tiefgefühlten Dankes für die Erlösung Weissrutheniens durch die deutschen Truppen aus tiefster Bedrängniss durch fremdherrschaftliche Gewalt und Anarchie.*

*Die RADA der Weissruthenischen Volks-Republik hat die Unabhängigkeit des ganzen*

---

1309 ГАРФ. Ф. 6063, оп. 1, д. 1, л. 36–36 адв. Хачу выказаць удзячнасць гісторыку Аляксандру Горнаму за прадастаўленне ўласных выпісак з гэтага дакумента.

1310 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 5–6; *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 129.

*und ungeteilten Weissrutheniens erklärt und bittet EURE MAJESTAT um Schutz für ihre Bestrebungen nach Befestigung der staatlichen Unabhängigkeit und Unteilbarkeit des Landes im Bund mit dem DEUTSCHEN REICH.*

*Nur unter Schutz des DEUTSCHEN REICHS sieht die RADA Heil Ihres Landes in der Zukunft.*

*Präzident der RADA Iwan Ssereda*
*Präzident des Sekretariats Jazep Waronka*
*Mitglieder dar RADA: Roman von Skirmunt*
*Anton Owssianik*
*Pauluk Aleksiuk*
*Piotra Kretscheuski*
*Jazep Lossik*

Адначасова (25 красавіка) у Кіеве сябры беларускай дэлегацыі па ўсталяванні беларуска-ўкраінскай мяжы падчас аўдыенцыі ў германскага пасла ўручылі яму «мемарыял» з просьбай прызнаць «самастойнасць Беларусі і яе ўлады ў выглядзе Рады і яе кааліцыйнага ўрада». Апрача таго, гаворка ішла пра «захаванне Беларусі ў яе натуральных гістарычных, этнаграфічных і эканамічных межах». Мелася на ўвазе тэрыторыя Гарадзеншчыны, басейн Прыпяці і Вільня. Менск таксама спадзяваўся на дапамогу Германіі ў пашырэнні ўлады БНР на ўсходнія землі Беларусі, дзе панавалі бальшавікі[1311]. Аднак ветлівасць нямецкіх прадстаўнікоў у Беларусі і Украіне нічога не значыла. Берлін захоўваў маўчанне. Першая спроба Рады БНР з удзелам Рамана Скірмунта ператварыць Германію ў свайго саюзніка скончылася няўдачай.

Тэлеграма да імператара Вільгельма II не мела спадзяваных міжнародных наступстваў. Немцы адказалі на яе, але гэта быў адказ на ўзроўні камандавання III корпуса. Вайскоўцы з указкі Берліна ігнаравалі ідэю беларускай незалежнасці і падкрэслівалі, што толькі нямецкая адміністрацыя валодае ўладнымі паўнамоцтвамі ў Беларусі[1312].

Адначасна тэлеграма выклікала неспадзяваныя ўнутраныя праблемы. Надзвычай рэзка адрэагавала левая частка Рады БНР і БСГ. Народны Сакратарыят пакінулі П. Бадунова, Т. Грыб, Я. Бялевіч і А. Карач.

Настрой пратэстоўцаў добра перадае заява Тамаша Грыба ад 1 мая 1918 г., накіраваная ім у Раду БНР. Ён рэзка пратэставаў «праціў пасылкі такой тэлеграммы германскаму манарху ат імені ўсяго беларускаго народу» і лічыў «ізменай ідзеі рэволюцыйнаго соціалізму ўхадзіць у хаурус с манархом і аддаваць у апеку імперыалістычной буржуазіі Германіі наш многамільліенны працоўны селянскі народ. Не под апекай буржуазіі, не пад каблуком германскаго жаўнера я бачу леп-

[1311] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 125–128.
[1312] AAN. Sygn. 473, k. 43.

шую будучыну нашэй разароннай і знішченай старонцэ і забітаго абкрадзенаго [...] люду»[1313].

29 красавіка на пасяджэнні Менскай Гарадской думы абмяркоўвалі палітычны курс Рады БНР і ацэньвалі яе апошнія рашэнні. У прынятай пастанове адзначалася, што «избранный Радой Белорусской Народной Республики путь не соответствует интересам народов Белоруссии»[1314]. Думцы вырашылі адклікаць сваіх прадстаўнікоў з Рады БНР і спыніць яе фінансаванне. У маі пакінулі склад Рады таксама прадстаўнікі земстваў.

Дарота Міхалюк, аналізуючы сітуацыю з пратэстамі з нагоды тэлеграмы, прыйшла да слушнай высновы, што большасць пратэстоўцаў найбольш абуралася не самім фактам кантактаў з нямецкай адміністрацыяй, што ўжо ўсведамлялася як непазбежнасць, а тым, што Рада БНР звярнулася да германскага манарха. Вільгельма II успрымалі як прадстаўніка вышэйшых класаў і асобу, адказную за развязванне вайны супраць Расіі[1315]. Гэта абурыла і сацыялістаў, і прыхільнікаў прарасійскай арыентацыі.

Канфлікт у Радзе БНР абярнуўся сур'ёзнымі палітычнымі наступствамі для ўсяго беларускага руху. Ён справакаваў паступовы распад БСГ на тры партыі – Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў, Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю і Беларускую партыю сацыялістаў-федэралістаў. Гэты раскол моцна аслабіў беларускія незалежніцкія памкненні. Але не будзем забягаць наперад...

Прыведзеныя факты сведчаць: ідэя тэлеграмы была калектыўным рашэннем, а тыя, хто галасаваў за яе адпраўку кіраваліся інтарэсамі беларускай дзяржаўнасці. Язэп Лёсік у 1930 г. у паказаннях на следстве ГПУ заявіў: «Тэлеграма нам была патрэбна для беларускай нацыянальнай справы, нам трэба было крычаць на ўсю Еўропу, што Беларусь жыве і патрабуе свайго месца сярод народаў»[1316].

Падсумоўваючы эпізод з тэлеграмай, варта прывесці пазнейшую ацэнку Вінцэнта Гадлеўскага, з якой цяжка не пагадзіцца: «Углядаючыся на гэту справу ў пэрспэктыве 16-ці гадоў, мы даходзім да пракананьня, што высылка тэлеграмы была памылкай. Гэтак мы думаем цяпер, але тагды? Тагды здавалася, што яна ёсьць жыцьцёвай канешнасьцяй, і затым яна сабрала столькі галасоў. Пры гэтым трэба зьвярнуць увагу на тое, што ў палітыцы тыя крокі ўважаюцца за памылковыя, якія не ўдаліся, а тыя, што ўдаліся, уважаюцца часта за геніяльныя. Высылка

[1313] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 154.

[1314] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 137.

[1315] D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 299.

[1316] Цытата па: В. Карнялюк, *Калабарацыя ў Беларусі: эпізод першай сусветнай вайны*, «Гістарычны альманах». 2007, т. 13, с. 9.

тэлеграмы была аднэй з многалікіх спробаў шуканьня выхаду зь цяжкога палажэньня, у якім апынуўся тагды Беларускі народ»[1317].

Нават пасля першых сумесных акцый з сябрамі МБП, накіраваных на пераадоленне міжнароднай ізаляцыі БНР, Язэп Варонка не хаваў свайго насцярожанага стаўлення да новых сяброў Рады. Амаль у кожным лісце да Антона Луцкевіча ён змяшчаў крытычныя заўвагі адносна Скірмунта і сяброў МБП. Так, 27 красавіка Варонка запрашаў Луцкевіча прыехаць у Менск і прызнаваўся: «Адзін я тут, замарыўся. Але ўсё ж такі Скірмунту, Алексюку і Годлеўскаму не веру». І дадаў пра сітуацыю з планаваным абнаўленнем кіраўніцтва: «Ужэ ў іх думкі зьменяюцца. Уласову хочуць даць Старш[ыню] Н[ароднага] С[акратарыята], а Скірмунту – Старш[ыню] Рады. Мы процiў. Больш ні уступілі ні кроку. Гатовы да усяго»[1318].

Відавочна, што і ранейшыя дамоўленасці з МБП сацыялісты лічылі ўступкамі са свайго боку. Падобнае адзінства не магло быць моцным, але першы сур'ёзны крызіс, якім стаў палітычны канфлікт, выкліканы згаданай тэлеграмай, яно яшчэ вытрымала.

Крызіс Народнага Сакратарыята быў пераадолены з дапамогай сяброў МБП. Былі ўведзены пасады ўпраўляючых «народнымі сакратарствамі». Аляксандр Уласаў пачаў упраўляць «сакратарствам» фінансаў, а ксёндз В. Гадлеўскі заняў пасаду ўпаўнаважанага па справах бежанцаў. Упраўляючым «сакратарства» ўнутраных спраў стаў сябра БСГ Антон Аўсянік[1319].

Пры гэтым Народны Сакратарыят быў ператвораны ў «Раду пяцёх» у складзе Я. Варонкі (старшыня Сакратарыята і сакратар замежных спраў), А. Смоліча (сакратар асветы), П. Крэчэўскага (сакратар гандлю і сацыяльнай апекі), І. Серады (сакратар народнай гаспадаркі і харчавання) і Л. Зайца (упраўляючы справамі Сакратарыята)[1320]. Як відаць, сябры МБП хоць і ўвайшлі ў склад урада, але не мелі праў роўных пяцёрцы сацыялістаў.

1 мая 1918 г. на 9-м пасяджэнні ІІ сесіі Рады БНР Т. Грыб і П. Бадунова зрабілі заявы пра выхад з Народнага Сакратарыята, а Грыб таксама абвясціў пра стварэнне новай фракцыі «беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў». Таксама адбыліся выбары трох камісій Рады – Бежанскай, Фінансавай і Гаспадарчай. У кожнай з іх апынуліся сябры МБП альбо кааптаваныя 12 красавіка беларускія дзеячы, якія не належалі да БСГ. У склад Бежанскай камісіі быў абраны В. Гадлеўскі, у Фінансавую ўвайшлі – К. Гадыцкі-Цвірка і Т. Вернікоўскі, у Гаспадарчую – таксама Т. Вернікоўскі[1321]. Варта адзначыць, што сябры МБП найбольш шырока былі

---

1317 В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску*, с. 37.
1318 *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 132.
1319 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 119–119 адв.
1320 «Минский голос». 1918, 5 мая.
1321 *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 140.

прадстаўлены ў складзе Камісіі па міжнародных справах, куды ўвайшлі Скірмунт, Аляксюк і пратаірэй Менскай праваслаўнай епархіі С. Кульчыцкі[1322].

Справаздача пасяджэння таксама паведамляла пра першы сход Рады старэйшын, які планаваўся на 2 мая. Тым часам ён адбыўся толькі 7 мая. Падобна, што і ў гэтым выпадку мела месца вострае фракцыйна-партыйнае змаганне, тым больш, што ў тагачаснай сітуацыі Рада старэйшын ператваралася ў галоўны рухавік перамен.

На 9-м пасяджэнні таксама адбылася падзея, якая дае магчымасць адчуць атмасферу Рады БНР. Усё ж яе большасць складалі даволі маладыя асобы, якія часам маглі і пажартаваць над зацятасцю некаторых найбольш «палымяных рэвалюцыянераў». Вось, што распавёў аўтар справаздачы: «После речи г. Пристора, говорящего только по-польски, г-жа Бодунова просит перевести его речь на белорусский язык. Председательствующий удовлетворяет просьбу члена Рады. Когда же после этого делает какое-то заявление та же г-жа Бодунова, говорящая только по-великорусски, член Рады М. Костевич просит перевести эту речь на белорусский язык. Подымается неудержимый хохот. Фракция белорусских с.-р. (5 человек), к которой принадлежит и злополучная ораторша, подымает шум и протест»[1323].

Менавіта на пачатку мая ўпершыню ў якасці сімвала БНР і беларускай дзяржаўнасці пачала выкарыстоўвацца «Пагоня». Паводле падрыхтаванай для газет інфармацыі прэс-бюро, Народны Сакратарыят пасля даклада Язэпа Варонкі адзінагалосна зацвердзіў малюнак пячаткі «изображающий печать белорусско-литовского князя Миндовга начала XIII столетия (1242–1263). В центре печати помещен рисунок «Погоня» в выпуклом и квадратном орнаменте с древнебелорусским узором по сторонам. Попона на лошади с тремя зубцами, в отличие от круглой; по кругу надпись в стиле летописей: Беларуская Народная Рэспубліка»[1324]. Раней на пячатцы Рады БНР прысутнічалі выявы снапа, касы і сярпа.

Сяргей Шупа ў сваім «архіўным рамане» «Падарожжа ў БНР» (2018) пракаментаваў гэтую падзею, як «канец эпохі БНР з касою і граблямі»[1325]. Насамрэч, як паказалі далейшыя падзеі вакол урада Рамана Скірмунта, гэтая эпоха ўсё яшчэ працягвалася. І справа не толькі ў дамінаванні сацыялістаў з характэрным для іх сацыяльна-класавым падыходам да палітычнай дзейнасці. Прыняцце «Пагоні» ў маі не адлюстравалася ў адпаведных актах урада Варонкі. У ліпені 1918 г. Раман Скірмунт у *Дэкларацыі* свайго кабінета паўторна абвесціць «Пагоню» дзяржаўным гербам БНР.

Першы арганізацыйны сход Рады старэйшын («Сеньорэн-Конвента» ці «паноў

---

1322 Тамсама, с. 141.
1323 Тамсама; НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 22.
1324 Тамсама, спр. 19, арк 185–186 адв.
1325 С. Шупа. *Падарожжа ў БНР*. Б. м., 2018, с. 73.

Рады») адбыўся 7 мая. У Інфармацыйным лістку Прэс-бюро Сакратарыята паведамлялася, што ў яе склад увайшоў Прэзідыум Рады БНР (Я. Варонка, І. Серада, А. Аўсянік і М. Касцевіч), а таксама прадстаўнікі фракцый Рады. Ад фракцыі «беларускіх сацыялістаў» – А. Смоліч і Я. Лёсік, ад фракцыі Цэнтра – Р. Скірмунт, А. Уласаў, В. Гадлеўскі і П. Аляксюк, ад фракцыі «беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў» – Т. Грыб і М. Пашковіч[1326].

На адным з першых пасяджэнняў Рады старэйшын былі прыняты вельмі важныя рашэнні, накіраваныя на ліквідацыю манаполіі сацыялістаў у будаўніцтве беларускай дзяржавы. Паводле Інфармацыйнага лістка прэс-бюро ад 13 мая, папершае, Раману Скірмунту было даручана фарміраванне «новага кабінету беларускага ўраду». У гэты кабінет было прапанавана ўвайсці Я. Варонку, Я. Лёсіку, генералу К. Кандратовічу і былому менскаму *голове* і, як адзначалася «спецыялісту па фінансавых пытаннях» С. Хжанстоўскаму. Па-другое, новы Прэзідыум Рады БНР павінен быў складацца са старшыні А. Уласава, двух намеснікаў – А. Смоліча і С. Рак-Міхайлоўскага і – двух сакратароў[1327].

Варта звярнуць увагу на постаці генерала Кіпрыяна Кандратовіча і Станіслава Хжанстоўскага. Дарэчы, толькі апошні ў згаданым Інфармацыйным лістку атрымаў нейкую характарыстыку. І не выпадкова. Для многіх менскіх сацыялістаў і шырокай грамадскасці ён быў палякам і «буржуем».

С. Хжанстоўскі быў юрыстам і з 1900 г. радным Менскай гарадской думы. З 1909 г. як кіраўнік Думы (*голова*) даволі шмат зрабіў дзеля развіцця і разбудовы Менска. Аднак пасля першых (і апошніх!) дэмакратычных выбараў у чэрвені 1917 г. застаўся толькі адным з 12 радных Менскай гарадской думы па спісу Польскага выбарчага камітэта. 26 кастрычніка Хжанстоўскі ўзначаліў «Польскую грамадзянскую ахову» («Polska Straż Obywatelska») у Менску. Ягонае вяртанне да ўлады ініцыявала нямецкая адміністрацыя. 27 мая загадам акупацыйных уладаў быў адпраўлены ў адстаўку кіраўнік Гарадской управы П. Кашчанка, а на яго месца быў прызначаны С. Хжанстоўскі. Разам з ім у склад Управы ўвайшлі ў якасці радных Р. Скірмунт, П. Аляксюк, Я. Лёсік і І. Серада[1328]. 4 чэрвеня Менская гарадская дума была зліквідавана. Замест яе быў створаны Гарадскі магістрат з пяці чалавек пад кіраўніцтвам войта С. Хжанстоўскага.

Генерал Кіпрыян Кандратовіч удзельнічаў у войнах Расіі з Турцыяй (1877–1878) і з Японіяй (1904–1905), меў шматлікія ўзнагароды. У 1910 г. атрымаў званне генерала ад інфантэрыі[1329]. Падчас Першай сусветнай вайны камандаваў

---

1326 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 26; спр. 2, арк. 3; спр. 8, арк. 29, 33–33 адв.; спр. 19, арк. 202–202 адв.

1327 Тамсама, спр. 8, арк. 29, 33–33 адв.

1328 «Минский голос». 1918, 27 мая.

1329 Л. Лаўрэш, *Міністр Беларускай Народнай Рэспублікі генерал ад інфантэрыі Кіпрыян Кандратовіч. Біяграфічны нарыс*. Ліда 2007, с. 14.

23 армейскім корпусам 2-й арміі генерала Самсонава. Пасля разгрому расійскіх войск ва Усходняй Прусіі знаходзіўся ў рэзерве пры штабе Менскай вайсковай акругі. Якраз у гэты час ён меў кантакты з дзеячамі беларускага Адраджэння, якія паўплывалі на ягоныя погляды і зрабілі імя генерала вядомым у беларускім асяродку.

У 1917 г. генерал К. Кандратовіч быў прызначаны камандзірам 75 пяхотнай дывізіі, якая знаходзілася на тэрыторыі Беларусі. Ён удзельнічаў у з'ездзе вайскоўцаў-беларусаў Заходняга фронту і быў абраны ў склад Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады. Менавіта ў гэты час пачалася ягоная дзейнасць па арганізацыі беларускага войска. Дарэчы, адным з памочнікаў генерала быў паручнік Канстанцін Езавітаў.

У кастрычніку 1917 г. Галоўнакамандуючы генерал М. Духонін даў згоду на фарміраванне беларускіх вайсковых частак. Быў распрацаваны план стварэння Беларускага корпуса на Заходнім фронце. Аднак прыход да ўлады бальшавікоў перакрэсліў гэтыя планы. Як ужо адзначалася, прызначаны на пасаду Галоўнакамандуючага прапаршчык Крыленка пасля пэўных ваганняў забараніў фарміраванне беларускага войска.

У лютым 1918 г. генерал Кандратовіч далучыўся да Менскага Беларускага прадстаўніцтва. Абвяшчэнне БНР, кааптацыя сяброў МБП у склад Рады БНР і актыўная дзейнасць беларускіх палітыкаў на міжнароднай арэне адрадзілі надзею на стварэнне беларускай арміі. Відаць, менавіта гэтую задачу і ставіў перад ім Раман Скірмунт, калі запрашаў увайсці ў склад новага беларускага ўрада.

Гэтыя постаці, як і асоба самога Р. Скірмунта, звычайна ўспрымаліся сацыялістамі як прадстаўнікі сацыяльна і нацыянальна варожага лагера. Але ўвесну 1918 г. яны пачалі ператварацца ў саюзнікаў. У гэты час беларуская нацыянальная ідэя як ідэя незалежнай дзяржавы сталася сілай, што яднала палітыкаў розных кірункаў. Адбывалася сапраўдная «рэканструкцыя» ўрада, якую яшчэ ў красавіку абяцаў Варонка і за якой стаяў палітычны аўтарытэт Віленскай Беларускай Рады.

Аднак ізноў даводзіцца адзначаць унутраную нязгоду Язэпа Варонкі на палітычныя перамены. Чарговы раз у лісце да А. Луцкевіча (8 мая) ён крытыкаваў новых саюзнікаў і іх орган друку: «"Шлях" вядзе дзіцячую палітыку і толькі кампраметуе беларускую справу»[1330]. У гэтым жа лісце канстатавалася маўчанне Берліна, які праігнараваў тэлеграму Рады БНР.

Цалкам магчыма, што на пазіцыю сацыялістаў таксама моцна паўплывалі падзеі ва Украіне. 29 красавіка 1918 г. там адбыўся дзяржаўны пераварот. Усеўкраінскі з'езд хлебапашцаў у Кіеве, які распачаўся 24 красавіка, выказаў недавер эсэраўскай Цэнтральнай Радзе УНР. Да ўлады прыйшоў генерал Паўло Скарападскі, які яшчэ

[1330] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 143; ЛЦДА. Ф. 582, воп. 1, спр. 2, арк. 10.

ў 1917 г. актыўна займаўся ўкраінізацыяй падначаленых франтавых частак і стварэннем украінскага войска. Пры падтрымцы нямецкай адміністрацыі ён абвясціў сябе гетманам Украінскай Дзяржавы. Выконваючым абавязкі кіраўніка новага ўрада, *отаман-міністрам* стаў гісторык і палітык Мікалай Васіленка. Ён жа ў гэтыя дні займаў пасаду міністра замежных спраў. 4 мая быў сфарміраваны новы ўрад пад кіраўніцтвам вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча Фёдара Лызогуба. *Отаман-міністр* і ягоны кабінет былі прыхільнікамі памяркоўна-кансерватыўнай сацыяльнай палітыкі і адчувалі падтрымку нямецкай адміністрацыі.

Беларускія сацыялісты маглі ўспрыняць гэты пераварот як пэўную перасцярогу ўласнаму палітычнаму дамінаванню. Усё ж нямецкая адміністрацыя неаднаразова дэманстравала прыхільнасць да больш кансерватыўнага кола палітыкаў.

Зрэшты, беларуская дэлегацыі ў Кіеве адразу ж пачала наладжваць кантакты з новым урадам. На пачатку мая М. Васіленка прыняў А. Цвікевіча, С. Рак-Міхайлоўскага і М. Доўнар-Запольскага. Паводле інфармацыі прэс-бюро Народнага Сакратарыята (14 мая), якое ў сваю чаргу спасылалася на газету «Киевская мысль», гаворка ішла пра працяг перамоў па праблеме беларуска-ўкраінскай мяжы, адкрыццё Беларускай гандлёвай палаты ў Кіеве і развіццё гандлёвых кантактаў. Адмыслова падкрэслівалася, што пытанне беларуска-ўкраінскай уніі не разглядалася[1331].

Дарэчы, з 4 па 8 мая ў Менску знаходзіўся Вацлаў Ластоўскі, які раней выказваў ідэю беларуска-ўкраінскай федэрацыі. Як ужо адзначалася, супраць гэтага праекта выступаў А. Луцкевіч, які бачыў у ім пэўную антыбеларускую нямецкую інтрыгу. Ініцыятыва Ластоўскага не знайшла падтрымкі ў Менску, але размовы з ім таксама павінны былі актуалізаваць украінскую праблематыку.

Дакументы сведчаць, што перамены ва Ўкраіне паспрыялі актывізацыі беларускай знешняй палітыкі адносна паўднёвага суседа. Падобна, што перамовы з УНР зайшлі ў тупік, а з гетманам П. Скарападскім звязваліся надзеі, якія павінен быў спраўдзіць ужо ўрад Рамана Скірмунта. Вядома, што 13 мая Варонка меў размову па праблеме беларуска-ўкраінскай мяжы з генералам Кандратовічам, які адмыслова прыехаў у Менск[1332]. Магчыма, якраз ён разглядаўся як кандыдат на паездку ў Кіеў, бо Кандратовіч і Скарападскі ўдзельнічалі ў Расійска-японскай вайне, а таксама – ва Усходне-Прускай аперацыі. Праўда, у адрозненне ад Кандратовіча камандзір кавалерыйскай брыгады генерал-маёр П. Скарападскі быў узнагароджаны за асабістую мужнасць. Аднак ехаць у Кіеў давялося Раману Скірмунту.

Між тым, увечары 14 мая адбылося 10-е пасяджэнне ІІ сесіі Рады БНР. Сябры Рады ўжо ведалі пра рашэнне Рады старэйшын ад 7 мая, і заява Варонкі пра адстаўку Народнага Сакратарыята ўжо чакалася. Варонка распавёў пра дзейнасць першага беларускага ўрада і звярнуў увагу на надзвычай цяжкія ўмовы працы.

---

[1331] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 35–36.
[1332] Тамсама.

Напрыканцы прамовы з характэрным для яго пафасам заклікаў пераемнікаў будаваць нацыянальную дзяржаўнасць: «Судите нас за ошибки наши, мы горды уже потому, что ответственны перед Радой. Все мы перед Вами. Наша работа – все для Вас и для многострадальной нашей Бацьковщины. Независимость и неделимость ее – были нашими светочами. Народный Секретариат был для нас той великой идеей, которая давно уже жила в умах белорусских деятелей. Идею эту мы берегли для Вас, «паны Рада», и верим, уходя со сцены активной белорусской политики, что первой задачей и нового правительства будет сбережение этой идеи. Вспоминайте нас со словами великого поэта: «Их нет, но они были». Три месяца страданий прошли, наступают месяцы строительства Белорусской Государственности, Белорусской Народной Республики»[1333].

Пасля прамовы Варонкі Раман Скірмунт як прадстаўнік фракцыі Цэнтра выказаў удзячнасць першаму беларускаму ўраду: «Вы просите судить Вас. Суд над Вами – это суд над всеми нами. Нас будут судить историки. Не судить, а благодарить мы должны Вас, первые носители и воплотители идеи Независимости Белоруссии»[1334]. Яго падтрымаў прадстаўнік арганізаванага ў Радзе Сацыялістычнага блока Васіль Захарка.

Удзельнікі пасяджэння прынялі рашэнне, што Сакратарыят павінен працягваць сваю дзейнасць да арганізацыі новага «кабінета». Пасля кароткіх дэбатаў падтрымалі прапанову даручыць яго фарміраванне Скірмунту. А вось з зацвярджэннем складу Прэзідыума Рады БНР узніклі праблемы. Папраўдзе, новы склад не адпавядаў дамоўленасцям, дасягнутым Радай старэйшын. Дэбаты, якія распачаліся яшчэ да гэтага пасяджэння, датычылі пераважна асобы Аляксандра Уласава. Няма дакументаў, якія б дазволілі зразумець усе перыпетыі гэтай дыскусіі. Застаецца толькі канстатаваць, Уласаў не быў абраны Радай на пасаду старшыні і стаў ягоным намеснікам.

Аўтар справаздачы коратка адзначыў: «После фракционных совещаний и многократных перерывов новый Президиум Рады Республики избирается тайным голосованием в следующем составе: председателем – И. Ю. Лесик, товарищами председателя – А. А. Смолич и А. Н. Власов, секретарями – П. А. Кречевский и г. Ленковский»[1335]. Два месца ў Прэзідыуме, прызначаныя для прадстаўнікоў польскай і габрэйскай меншасці, засталіся часова незанятымі.

Адпаведна, адбыліся змены ў складзе Рады старэйшын, у якую ўвайшоў новы Прэзідыум Рады БНР, да прадстаўнікоў фракцыі Цэнтра далучыўся Гадыцкі-Цвірка, а Сацыялістычны блок быў прадстаўлены Варонкам, Серадой і Аўсянікам. Таксама ў складзе Рады засталіся абодва прадстаўнікі беларускіх эсэраў[1336]. Такім

[1333] Тамсама, арк. 39–40.
[1334] Тамсама.
[1335] Тамсама.
[1336] Тамсама, арк. 41.

чынам, колькасць «старэйшын» дасягнула 14, а прадстаўніцтва Цэнтра налічвала ўжо 6 чалавек.

Беларуская Рада ў Вільні, нягледзячы на перасцярогі і недавер да МБП з боку Варонкі, вітала гэтыя перамены і лічыла рашэнне Рады БНР «актам палітычнага розуму», які паспрыяе яднанню ўсіх беларускіх сіл дзеля незалежнасці[1337].

## *«Дваяўраднасьць»*

Рашэнні былі прыняты, але адразу ж узнікла праблема з іх рэалізацыяй. У першую чаргу гэта датычыла фарміравання кабінета Рамана Скірмунта. Сацыялісты фактычна ігнаравалі і заклік Я. Лёсіка да сумеснай творчай працы, і ранейшыя дамоўленасці пра кааліцыйны ўрад. Прынамсі, пра гэта сведчаць паводзіны Язэпа Варонкі. Так, Інфармацыйны бюлетэнь прэс-бюро Народнага Сакратарыята ад 14 мая пацвердзіў ягоную згоду ўвайсці ў склад новага ўрада пры ўмове месячнага адпачынку «для поправления расшатанного непрерывной годовой работой здоровья»[1338]. 17 мая газета «Беларускі шлях», паведаміўшы пра рашенне Рады БНР наконт новага ўрада апублікавала прыкладны спіс ягоных сяброў, у якім фігуравалі прозвішчы Варонкі як «таварыша старшыні без партфеля» і Аўсяніка як «загадчыка справаў Народнага Сакратарыята»[1339]. Але ўжо на наступны дзень з'явілася інфармацыя, што Варонка «до сих пор своего согласия на вхождение в новый кабинет не давал впредь до решения этого вопроса во фракции БСГ»[1340].

Адначасна пашыралася інфармацыя, што да арганізацыі ўрада Скірмунта працягваецца дзейнасць Народнага Сакратарыята першага складу. Падобна, што майскія рашэнні Рады БНР на месцах трактаваліся як прызначэнне Скірмунта новым кіраўніком беларускага ўрада. Вялікая колькасць напамінаў пра тое, што новы ўрад яшчэ не сфарміраваны, сведчыць пра пэўную нярвовасць Язэпа Варонкі. А 30 мая прэс-бюро ўжо абвяргала інфармацыю пра тое, што С. Хжанстоўскі з'яўляецца народным сакратаром фінансаў[1341]. Інфармацыя пра гэта з'явілася на старонках віленскай газеты «Новый вестник» (№ 55).

18 мая Варонка падпісаў «ліст-паведамленьне» гетману Скарападскаму, у якім адзначалася, што «пан Раман Скірмунт ёсьць прэдстаўнік Народнага Сэкратарыяту Беларускае Народнае Рэспублікі і ўпаунаважен быць Надзвычайным паслом Беларусі пры Урадзе Украінскай Дзяржавы для вядзеньня перагавораў для ўстанаўленьня правільных і прыязных адносін паміж абодвымі дзяржавамі»[1342].

Згода Рамана Скірмунта стаць «надзвычайным паслом» азначала ягоны вы-

---

[1337] б/п. *Новы кабінет*, «Гоман». 1918, № 41.
[1338] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 35–36; спр. 19, арк. 203–204.
[1339] «Беларускі шлях». 1918, № 44.
[1340] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 41.
[1341] Тамсама, арк. 59.
[1342] Тамсама, спр. 14, арк. 2.

езд у Кіеў. Відавочна, што ён разглядаў гэтую паездку як кароткатэрміновы візіт, які не павінен быў перашкодзіць фарміраванню кабінета. Насамрэч, Скірмунт адсутнічаў у Менску месяц, што адмоўна паўплывала на сітуацыю з ягоным урадам.

21 мая адбылося пасяджэнне сяброў будучага «кабінета» з удзелам Варонкі, на якім абмяркоўвалася Дэкларацыя ўрада Скірмунта. Гаворка ішла пра асноўныя накірункі дзейнасці. Захаваны ў архівах чарнавы варыянт гэтай Дэкларацыі дазваляе сцвярджаць, што галоўнай задачай новага ўрада заставалася «укрепление белорусской государственности и авторитета Рады Республики и Народного Секретариата». Адпаведна, прыярытэтныя накірункі яго дзейнасці былі звязаны з міжнародным прызнаннем беларускай дзяржаўнасці, дзе найбольшыя спадзяванні ўскладаліся на Германію, і наладжваннем добрасуседскіх адносін з Літвой, Украінай, Польшчай і Расіяй. Тут першачарговымі станавіліся пытанні, звязаныя з вызначэннем межаў. Адносна Літвы і Украіны прагаворвалася неабходнасць абмена «представителями».

Відаць, мелася на ўвазе праца двухбаковых камісій, якая, дарэчы, ужо мела месца ў адносінах з Украінай. Цвікевіч быў накіраваны ў Кіеў напрыканцы сакавіка, а 25 красавіка ў Кіеве пачала дзейнічаць адмысловая Камісія БНР па ўсталяванні беларуска-ўкраінскай мяжы. У яе склад уваходзілі Аляксандр Цвікевіч, Мітрафан Доўнар-Запольскі і Сымон Рак-Міхайлоўскі[1343]. Пасля прыходу да ўлады ва Украіне гетмана Скарападскага трэба было шукаць паразумення ўжо з несацыялістычным урадам і, магчыма, паездка Скірмунта павінна была аблегчыць гэтую задачу.

У гэтай частцы Дэкларацыі здзіўляе катэгарычнасць сцвярджэння аб адсутнасці тэрытарыяльных спрэчак з Польшчай. Нагадаю, што раней беларускія сацыялісты неаднаразова звярталі ўвагу на прэтэнзіі польскіх палітыкаў на Гарадзеншчыну і Віленшчыну. На гэтыя ж прэтэнзіі даволі рэзка рэагавала МБП у заяве ад 18 сакавіка 1918 г. Магчыма, Скірмунт у сітуацыі, калі ён выходзіў на першыя пазіцыі ў беларускім палітычным жыцці, разлічваў на супрацу з Польскай дзяржавай і вырашыў устрымлівацца ад крытыкі Варшавы, пазіцыю якой ён павінен быў ведаць, дзякуючы кантактам з менскай польскай супольнасцю. Нагадаю, што меркаванні сяброў г. зв. «групы Вайніловіча» наконт будучыні Беларусі істотна разыходзіліся з пазіцыяй польскіх нацыянальных дэмакратаў.

Таксама гаворка ішла пра неабходнасць дамагацца прызнання беларускай дзяржаўнасці дзяржавамі «Чацверногa саюза» і тымі, што захоўвалі нейтралітэт. Зразумела, што ў маі 1918 г. у Менску не даводзілася прыгадваць краіны Антанты.

Першаснай задачай унутранай палітыкі з'яўлялася ўмацаванне аўтарытэта Рады БНР і Сакратарыята, якія павінны былі дамінаваць над усімі іншымі ўстановамі ранейшых урадаў. Таксама ставілася задача дамагацца аб'яднання абодвух частак Беларусі (гаворка ішла пра тэрыторыі «старой» і «новай» ня-

---

[1343] Тамсама, спр. 10, арк. 207.

мецкай акупацыі) у адну адміністрацыйную адзінку і кадыфікацыі ўсіх законаў і распараджэнняў БНР.

Таксама шмат увагі надавалася асвеце і выхаванню, якія павінны былі спрыяць «расширению и закреплению идей Белорусского возрождения и национального сознания». Аграрная рэформа прадугледжвала «законный и мирный путь» задавальнення сялянскай патрэбы ў зямлі, які не павінен быў суправаджацца руйнаваннем эфектыўных гаспадарак.

Дакумент сведчыць пра актыўны ўдзел Варонкі ў абмеркаванні гэтага дакумента. Напрыканцы чарнавіка сцвярджалася, што ягоныя праўкі павінны ўвайсці ў канчатковую рэдакцыю Дэкларацыі.

*ДАКУМЕНТ*

**Чарнавік Дэкларацыі Народнага Сакратарыята (другога складу)**[1344]

*21 мая 1918 г.*

*Главной задачей нашей должно быть укрепление белорусской государственности и авторитета Рады Республики и Народного Секретариата. Для этого необходимо добиваться признания государственности перед оккупационными властями и установления добрых с ними взаимоотношений.*

*Следующей задачей должно быть установление добрососедских отношений с соседними державами, с которыми мы должны установить кроме того правильные пограничные линии. Главное внимание мы должны обратить на наши отношения с Литвой и Украиной. Разграничительная линия между нами и ими должна быть основана прежде всего на национальном принципе, но исторически[е], экономически[е] и географически[е] моменты также следует иметь в виду при окончательном установлении разграничительных рубежей. Опираясь на эти условия мы должны добиться границы нашей с Литвой по Виленщине и Гродненщине и с Украиной по Гродненщине, Минщине, Полесью и Черниговщине. Решить этот вопрос можно только взаимным соглашением для чего необходимо обменяться белорусскому правительству представителями с Литвой и Украиной.*

*Необходимо раз и навсегда подчеркнуть, что граница наша с Польшей есть старая граница королевства Польского с Гродненской губернией, и поскольку поляки этот факт приняли, никакого спора у нас с ними далее быть не может. Далее весьма важным, но и не менее тяжелым вопросом является – установление правильных и справедливых отношений с Великороссией; одной из наших главнейших задач в этом направлении должно быть выяснение отношений великорусского правительства к белорусской государственной независимости.*

*Акты о государственной независимости Белоруссии должны быть доведены до сведения держав, входящих в Четверное согласие и нейтральных держав, у ко-*

---

1344 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 15, арк. 53–53 адв., 66.

*торых также следует добиваться признания белорусской государственной независимости.*

*Во внутренних делах – должно быть установление авторитета Рады Республики и Секретариата над всеми существующими еще учреждениями прежних правительств.*

*Следует добиваться у оккупационной власти соединения обеих частей Белоруссии старой и новой оккупации в одно административное целое, управляемое одним законом и имеющее однородные административные аппараты. Должна быть утверждена юридическая комиссия для подготовки, разработки и кодификации всех законов и распоряжений, необходимых и обязательных для Белорусской Народной Республики в нынешний период ее строительства.*

*Народное просвещение следует поставить на необходимую высоту и в первую голову позаботиться о восстановлении и возрождении низших начальных городских училищ. Необходимо поставить воспитание и образование детей и юношества в такие условия, которые помогли расширению и закреплению идей Белорусского возрождения и национального сознания. В этом смысле необходимо обратить должное внимание на издание научных книг, школьных руководств и учебников и подготовку учительского персонала.*

*В земельном вопросе следует ясно себе установить, что поворот к старому начальному порядку немыслим. Следует дать возможность крестьянину устроить свое существование так, чтобы он был удовлетворен и мог спокойно расширять свою сельско-хозяйственную деятельность на земле, предоставленной ему за счет больших земледельцев; этот способ надела землей крестьян следует провести законным и мирным путем, не разрушая завоевания культуры и не без справедливого соглашения с прежними землевладельцами.*

*Проект рассмотрен на заседании нового состава Народного Секретариата при участии г.г. Скирмунта, Воронко, Хржонстовского, Алексюка и Овсянника. Поправки г. Воронко должны были быть внесены в окончательную редакцию декларации, предоставленной для подписания новым Народным Секретариатом.*

У гэтыя ж дні Раман Скірмунт сустрэўся з карэспандэнтам газеты «Минский еженедельник» і адказаў на ягоныя пытанні. Газета апублікавала вытрымкі з гэтай размовы (№ 1 ад 26 мая і № 3), якія былі перадрукаваны ў «Беларускім шляху». Першая публікацыя з’явілася 29 мая, а 13 чэрвеня было апублікавана заканчэнне размовы, дзе асвятляліся пытанні ўзаемаадносін Беларусі з суседзямі.

На пачатку размовы пераважна закраналіся пытанні ўнутранай палітыкі. Раман Скірмунт падкрэсліў выключную важнасць адзінства ўсіх інтэлігентных сіл краю ў справе беларускай дзяржаўнасці. Міжнародны чыннік яе станаўлення кіраўнік будучага ўрада звязваў выключна з Германіяй. Пры гэтым ён асцярожна адзначыў неадпаведнасць Берасцейскай дамовы нацыянальным інтарэсам

Беларусі. Таксама ішла гаворка пра арганізацыю асветы, адкрыццё пачатковых школ і вышэйшых установ у Менску.

Скірмунт заставаўся верным палітыцы г. зв. «арганічнай працы», якая ў свой час забяспечыла ўздым польскага нацыянальнага руху. Характарызуючы пазіцыю новага ўрада адносна правядзення аграрнай рэформы, ён прыгадаў аналагічную рэформу ў Ірландыі, якая «задаволіла земляробаў і ні пакрыўдзіла земляўласнікаў» [1345].

Падчас гаворкі закранaлася тэма Палесся. Яе актуальнасць магла быць абумоўлена як праблемай дзяржаўнай прыналежнасці беларускага Палесся, бо, як ужо адзначалася, нямецкая адміністрацыя перадавала гэты рэгіён Украіне, так і абставінамі асабістага характару. Усё ж Парэчча разам з Піншчынай апынулася ў складзе суседняй дзяржавы. Змест публікацыі сведчыць, што Скірмунт абмежаваўся толькі тым, што адзначыў вялізны гаспадарчы патэнцыял Палесся пры ўмове ягонага «культурнага заваявання».

Напрыканцы размовы ён даволі аптымістычна выказаўся пра перспектывы беларускай дзяржаўнасці і адзначыў «шляхэтны і толерантны характэр беларускаго народу», які забяспечыць нармальныя ўмовы развіцця ўсім нацыянальным супольнасцям.

Відавочна пэўная асцярожнасць Скірмунта датычна пытанняў, звязаных з рашэннямі Берліна, і рацыянальны падыход да вырашэння вострых унутраных праблем. У гэтай публікацыі цалкам адсутнічаў рэвалюцыйны пафас. Гаворка ішла пра вялізную працу, якую можна выканаць толькі пры ўмове яднання намаганняў усіх прыхільнікаў незалежнасці, і пра тое, што «на Беларусі маюцца усе элементы, патрэбныя для будавання дзержавы».

Варта адзначыць, што ў тыя дні сітуацыя, якая складвалася вакол самога Р. Скірмунта і праекта ягонага будучага ўрада, не давала асаблівых падстаў для аптымістычнага бачання перспектыў беларускай дзяржаўнасці.

*ДАКУМЕНТ*

**Раман Скірмунт пра краёвую палітыку падчас размовы з журналістамі газеты «Минский еженедельник». 22 (?) мая 1918 г.**[1346]

*Пытанне момэнту*

*Цяпер момэнт, – пачаў яг[амосьць] Скірмунт, – калі патрэбуецца зьбіранне ўсіх інтэлігентных сілаў краю для творчай працы у дзеле аснавання Беларускай дзяржаўнасьці. Партыйны склад, на якім да гэтых часоў асноўваліся, саўсім ні адпавядае ні момэнту, ні становішчу. Цяпер ідуць падгатоўчыя чыны для адбудавання Беларусі як дзяржавы. І трэба сабраць усе сілы, якія могуць быць карыснымі,*

1345 *На беларускім шляху*, «Беларускі шлях». 1918, № 53.

1346 Перадрук у газеце «Беларускі шлях». 1918, № 53, 29 мая.

*як у дзержаўна-творчай працы, так і для культурна-эканамічнага адраджэння краю.*

*Беларусь – дзержава*

*Р. А. Скірмунт выказаў перакананне, што пытанне аб Беларускай дзержаве справа больш-меньш блізкай будучыны. І у гэтым найбольш зацікаўлена Нямеччына.*

*Досыць паглядзець на мапу, – кажа яг. Скірмунт, – і зьвярнуць увагу на рубяжы Літвы і Украіны, каб пераканацца, што паміж гэтымі дзержавамі застаецца клін, каторы ні можа астацца выступам Расіі, а будзе асобнай дзержавай Беларускай.*

*Берасьцейская дамова – гэта «бакштэйт» (цэгла), ад якоі ідзець паварот гістарычных граніцаў, але ён далёкі ад найлепшасці. Тамака ні было прэдстаўнікоў інтарэсаў Беларусі, і гэтымі інтарэсамі, натуральна, ні цікавіліся.*

*Рэяльная праца*

*Як толькі зробіцца спраможнай рэяльная праца, на першы чарод выстаўляцца культурныя і эканамічныя пытання. Глаўная увага будзе зьвернена на стварэнне сеці беларускіх пачатковых школаў, пранятых нацыянальным духам. Ужо і цяпер пачаліся перагаворы з людзьмі навукі, каторыя здолаюць у патрэбны момэнт зрабіць арганізацыю прасьветы. На чарзе стаяць таксама пытання аб універсытэці і сельска-гасп[адарчым] інстытуце ў Менску.*

*Аграрнае пытанне*

*Німа сумнення, што пры адбудове Беларусі на першае мейсцо стане пытанне аб зямельнай рэформе.*

*Грунтоўная зямельная рэформа, канечне, патрэбна, і яна будзе зроблена на культурных асновах. Трэба даць магчымасьць сельскаму насяленню пашырыць грунты малазямельных уласьнікаў за рахунак буйнейшых земляўласьнікаў, але з другога боку культурныя гаспадаркі не павінны руйнавацца, і за зямлю павінно быць аплочано па справядлівай ацэнцэ.*

*Прыкладам можа быць Ірляндзія, у якой у 1914 годзе аграрная рэформа здаволіла землеробаў і ні пакрыўдзіла земляўласьнікаў.*

*Палессе*

*Гэта цэлы край, – кажа Р. А. Скірмунт, – каторы патрабуе культурнага заваявання. Палесскія балоты могуць даць 4 мільёны дзесяцін найлепшых лугоў і папасоў, цяпер уяўляюць толькі да нічога ніпрыдатную зямлю. Расійскі урад заўсёды быў мачыхай гэтаму краю і нідбаў аб яго інтарэсах.*

*Заключэнне*

*Наагул ніспагадныя адносіны былшага расійскага ураду да прасьветы стварылі цяперашні ніхват культурных сілаў, але па-за тым на Беларусі маюцца усе элементы, патрэбныя для будавання дзержавы.*

*У беларускім народзе захованы усе задаткі для прыняцця культуры і устройства ім свайго нізалежнага дзержаўнага жыцця.*

*Хаця беларусы і будуць бараніць нацыянальныя прынцыпы Беларусі, але уважаючы на шляхэтны і толерантны характэр беларускаго народу, жыццё нацыянальных меньшасьцяў будзе саўсім забезпечаным.*

У другой частцы размовы гаворка ішла пераважна пра ўзаемаадносіны Беларусі з суседнімі краінамі[1347]. Скірмунт лічыў, што зацікаўленасць Германіі ў стварэнні Беларускай дзяржавы як своеасаблівым буферы паміж Польшчай, Літвой, Украінай і Расіяй тлумачыцца не толькі палітычнымі, але і гаспадарчымі інтарэсамі. Ён катэгарычна адкідаў думку, што Беларусь сама сябе не пракорміць, і лічыў, што пры ўмове меліярацыі Палесся яна цалкам забяспечыць Германію сенам. А таксама будзе пастаўляць прадукты жывёлагадоўлі і лес. У сваю чаргу Беларусь зацікаўлена ў нямецкіх прамысловых вырабах, машынах для сельскай гаспадаркі і тэхнічнай дапамозе ў развіцці беларускай «умеркованай» прамысловасці.

З Расіяй, на думку Рамана Скірмунта, павінны быць толькі «прыязныя адносіны», але «тамака цяпер німа з кім вясьці перагаворы». Да таго ж, трэба чакаць, пакуль Расія не прызнае права народаў на самавызначэнне.

З Украінай Беларусь звязвае гісторыя і «родство». Паміж дзяржавамі будуць самыя прыязныя адносіны, але трэба вырашыць праблему мяжы, якая была ўсталявана ў Берасці без удзелу прадстаўнікоў Беларусі: «Спрэчнасць датыча Менскаго і Горадненскаго Палесся і паўночнай Чарнігаўшчыны, замешкалай беларусамі. Тыя, што робяць размежавання, стаяць на этнографічным пункце, але тутака вялікую ролю іграюць інтарэсы гістарычныя, географічныя і экономічныя. Поўднёвая часьць Меншчыны (Мазырскі, Рэчыцкі і часьць Пінскаго пав.) засялена беларусамі. Другая часьць Пінскаго, Кобрынскі і часьць Берасцейскаго пав. Гародн[енскай] губ. насяляюцца галінай абодвух народаў – беларускага і украінскага – т. зв. «паляшукамі» ці «пінчукамі». З мовы яны болей украінцы, з жыцця і звычаяў – беларусы. Географічна, экономічна і палітычна яны з Беларусью і цягнуць да Балтыцкага мора. Граніцы Менскай і Гародн[енскай] губ. маюць за сабой гістарычнае значэнне. Яны устанаўляліся 600 гадоў таму назад як граніцы паміж Беларусью і Украінай, ішчэ за Міндоўгам і былі узмацаваны Любэльскай уніяй, калі Украіна была аддзелена ад Літвы. Граніцу гэту прызнаваў нават рускі урад пры адміністратыўным устройстве поўн[ачна]-зах[одняга] краю».

Вельмі цікава характарызавалася Літва, з якой, на думку Скірмунта, Беларусь утварала гістарычны саюз: «Літва не была заваёўнікам Беларусі, але сама бараніла Беларусь ад татарскай няволі. Беларусь і Літва заўсёды жылі у згодзі, і уся літоўская дзержаўнасьць была пранята беларускай культурай». Ён лічыў, што праблема

[1347] *На беларускім шляху*, «Беларускі шлях». № 66.

Вільні будзе вырашана «памысльна для абодвых старон». Палітык быў упэўнены ў важнасці для Беларускай дзяржавы збліжэння з Літвой.

Напрыканцы размовы ён катэгарычна адкінуў «чуткі» пра захопніцкія намеры Літвы і Украіны адносна Беларусі: «На Літве і на Украіне [...] аб Беларусі думаюць ні іначэй як толькі аб нізалежнай дзержаве».

Грунтоўнасць ацэнак развіцця стасункаў Беларусі з Германіяй і Украінай можа сведчыць пра тое, што Раман Скірмунт ужо пачаў падрыхтоўку да свайго візіту ва Украіну. А вось Польшча адсутнічала ў гэтай размове, што цяжка зразумець. У сярэдзіне 1918 г. яна з'яўлялася важным чыннікам міжнароднай палітыкі ў рэгіёне, а мясцовая польская супольнасць была ўплывовым актарам палітычнай сцэны Беларусі.

Цікава, што фрагменты гэтай апошняй часткі размовы, якія датычылі Германіі, Украіны і Расіі, трапілі таксама на старонкі расійскай газеты «Известия» ад 27 чэрвеня 1918 г. з пазнакай, што нібыта карэспандэнт газеты сустракаўся (?) з «главой белорусского правительства фон Скирмунтом»[1348].

Між тым, фарміраванне новага ўрада зацягвалася. Язэп Варонка і Антон Аўсянік, нягледзячы на ўнесеныя праўкі ў Дэкларацыю кабінета Скірмунта, усё ж не падтрымалі яе і не пагаджаліся ўвайсці ва ўрад. Ідэя кааліцыі цярпела няўдачу. З гэтай нагоды на 26 мая было прызначана чарговае пасяджэнне Рады БНР. Адначасна Варонка адмяніў ранейшае рашэнне аб адкліканні дэлегацыі Цвікевіча. У Кіеў паведамілі, што з прычыны затрымкі фарміравання новага ўрада дэлегацыя павінна заставацца ў Кіеве і працягваць сваю дзейнасць[1349].

Усё больш відавочнай станавілася пазіцыя байкатавання прынятых рашэнняў з боку БСГ і сацыялістычнай большасці Рады БНР. У гэтай сітуацыі Раман Скірмунт звярнуўся да старшыні Рады БНР Язэпа Лёсіка з заявай пра адстаўку.

*ДАКУМЕНТ*

**Ліст Рамана Скірмунта да старшыні Рады БНР Я. Лёсіка[1350]. 23 мая 1918 г.**

*Яго Міласьці пану Язэпу Лёсіку*
*Старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі*

*14-го траўня было даручано мне Радай фармаванне новаго складу Народнаго Сэкрэтарыята: Бачучы на трудны дзеяны момэнт, я лічі[ў], што супольная праца глаўных партыяу Рады зьяуляецца канечно патрэбнай, то ест, што Сэкрэтарыят павінен быць коаліцыйным. З размоў, каторыя я веў па гэтаму поваду з віднымі прэдстаўнікамі фракцыі злучаных соцыялістаў Рады, я пераканаўся, што ў прынцыпіальных пытаннях у даны момант магчыма згодная супольная работа, але што па ні саўсім для мене ясным і вядомым прычынам прадстаўнікі*

[1348] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 36, арк. 60.
[1349] Тамсама. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 206–207 адв.
[1350] Тамсама, спр. 21, арк. 164.

*фракцыі злучаных соцыялістаў перамянілі свой погляд, і на супольную працу ў той форме, якая намечана раней, глядзяць непріхільно.*

*Бачучы на тое, лічу патрэбным давесьці да ведама Рады, што мандат даны мне на формаванне Сэкратарыяту я складаю.*

*З высокаю да Вас пашанаю*
*Раман Скірмунт*
*Менск, 23 траўня 1918 году.*

Ёсць усе падставы пагадзіцца з С. Рудовічам, які прыйшоў да высновы, што левыя, не адхіляючы магчымасці супрацоўніцтва ў прынцыпе, адмовіліся ўвайсці ва ўрад Р. Скірмунта[1351].

У прыведзенай заяве Скірмунт напісаў, што не разумее прычын байкоту. А вось Эдмунд Івашкевіч выказаў іх у лістах да рэферэнта па справах Літвы і Беларусі ў Палітычным дэпартаменце Часовага ўрада Польшчы і краёўца Людвіка Абрамовіча. У аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы захаваліся пяць лістоў Э. Івашкевіча за май – жнівень 1918 г. і дзве ягоныя Запіскі, прысвечаныя стану беларускага руху. Гэтыя лісты і Запіскі пісаліся ў сувязі з просьбай Абрамовіча інфармаваць яго наконт «беларускай справы».

Дык вось у лісце за 24 чэрвеня Івашкевіч сцвярджаў, што перамены сацыялістаў у дачыненні да Скірмунта і ідэі кааліцыйнага ўрада мелі фінансавыя падставы. Паводле Івашкевіча, якраз у гэты час Варонка атрымаў 150 тыс. руб. ад Украінскай Рады. Погляд сацыялістаў на саюз з МБП адразу змяніўся, і яны пайшлі на парушэнне ранейшых дамоўленасцяў і рашэнняў Рады БНР[1352].

Насамрэч, яшчэ ў першай палове красавіка беларуская дэлегацыя ў Кіеве звярнулася да міністра харчовых спраў УНР з просьбай выдаць Народнаму Сакратарыяту БНР аванс у 300 тыс. руб. для набыцця ва Украіне прадуктаў харчавання ў кошт прададзеных 15 тыс. куб. сажэняў дроваў, нарыхтаваных у беларускіх лясніцтвах[1353]. Рада УНР задаволіла гэтую просьбу. Але цягнула з перадачай грошай. Урэшце іх перадаў беларускай дэлегацыі ўжо ўрад Лызогуба. 10 мая Аляксандр Цвікевіч атрымаў грошы[1354], якія неўзабаве былі перасланы ў Менск.

Як сведчыць справаздача касы Народнага Сакратарыята за перыяд з 30 сакавіка па 1 ліпеня 1918 г., ад УНР было атрымана 125 тыс. руб. Гэта былі вялікія грошы. У справаздачы 11 пасяджэння Рады БНР ад 28 чэрвеня, дзе разглядаўся каштарыс касы Народнага Сакратарыята за мінулыя 4 месяцы, гэтую суму двойчы называлі «колоссальной». Але амаль палова яе (54 566 руб. 97 кап.) пайшла на заробкі ся-

---

1351 С. Рудовіч, *«Беларускі дзеяч з вялікіх паноў…»*, с. 50.

1352 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–31. Калекцыя Л. Абрамовіча, арк. 4 адв.

1353 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 10, арк. 260.

1354 ЛЦДА. Ф. 582, воп. 1, спр. 2, арк. 26–27. *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 148.

брам і службоўцам Народнага Сакратарыята[1355]. Заробкі сяброў Рады БНР за гэты ж перыяд склалі яшчэ 33 130 руб.[1356]

У спісе Рады БНР на атрыманне заробкаў фігуравала 54 асобы, з якіх грошы атрымалі толькі 35. Сярод іх быў таксама Раман Скірмунт, які ў красавіку атрымаў 360 руб., а ў маі – 600 руб. Сярод сяброў МБП у красавіку таксама атрымлівалі заробкі В. Гадлеўскі і Ф. Кульчыцкі (па 360 руб.), Лянкоўскі і Вернікоўскі (па 200 руб.). Дзеля параўнання адзначу, што найвялікшыя заробкі ў Радзе БНР за сакавік – чэрвень 1918 г. складалі агулам 2 тыс. руб.

Чаго варты быў тагачасны рубель сведчыць інфармацыя газеты «Бобруйский голос» ад 11 мая 1918 г., якая паведамляла пра цэны на асноўныя прадукты за фунт. Дык вось фунт хлеба каштаваў 1,25 руб., мяса – 2,50 руб., сала – 7 руб., слівачнага масла – 13 руб., смятаны – 4 руб., бульбы – 20 кап., буракоў – 25 кап.

Нядзіўна, што зацвярджэнне каштарыса на згаданым пасяджэнні Рады БНР праходзіла, як зафіксавалі дакументы, «при напряженной атмосфере»: «Докладчик г. Костевич распинался за ассигнование колоссальной суммы, считая по 600 рублей каждому, да еще с 20 февраля с. г., […] и в итоге все-таки вся эта колоссальная смета была принята»[1357].

Паляпшэнне фінансавай сітуацыі сапраўды ўмацавала становішча ўрада Варонкі, і, магчыма, прымусіла яго задумацца пра мэтазгоднасць ужо абвешчанай адстаўкі. Тым болей, што ва ўрад Скірмунта ён уваходзіў як «таварыш без партфеля».

Варта прывесці характарыстыку Варонкі, дадзеную Э. Івашкевічам у згаданым лісце да Абрамовіча: «Варонка з'яўляецца старшынём Рады. Гэта студэнт універсітэта. Здаецца, добры хлопец. Інтэлектуальны багаж невялікі, але зато мае вялізны тэмперамент і нахабства. Мае дзве жыццёвыя максімы – рэкламу і кругельства. Апошнюю прымаюць за рысу дыпламата, бо праяўляе яе да сваіх і да чужых. Клапоціцца больш пра свае амбіцыі, чым пра справу»[1358]. У іншым месцы гэтага ліста ён пісаў пра ненадзейнасць Варонкі і адносіў яго да тых партнёраў, якія «заўсёды могуць павярнуцца да нас спіною, бо паступаюць так нават з супляменнікамі іншага накірунку ці лагеру, як гэта адбываецца зараз».

Чытанне бюлетэняў прэс-бюро Народнага Сакратарыята, дзе рэгулярна згадваўся Язэп Варонка, нават, калі сама падзея не мела вялікага значэння, як і пратакольны пераказ ягоных прамоў на пасяджэннях Народнага Сакратарыята і Рады БНР, не выклікае жадання аспрэчваць ацэнкі польскага дзеяча. Зрэшты, цалкам магчыма, што менавіта Варонка і рыхтаваў гэтыя бюлетэні. Прынамсі, са спасылкай на меркаванне Сяргея Шупы, можна сцвярджаць, што, калі ў чэрвені

---

[1355] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 197.

[1356] Тамсама, с. 194.

[1357] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 81–81 адв.

[1358] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–31. Калекцыя Л. Абрамовіча, арк. 4 адв.

інфармацыя пачала друкавацца ў бюлетэню пад назвай «Белорусская жизнь», то матэрыялы для яе рыхтаваў менавіта старшыня Народнага Сакратарыята[1359].

У згаданым лісце Івашкевіч не менш крытычна ацаніў Алексюка: «Аляксюк – чалавек сумніўнай маралі, але без сумнення з усім сэрцам ставіцца да справы. Аднак пазбаўлены здольнасцяў і палітычнага тэмперамента».

Ці варта ўлічваць падобныя суб'ектыўныя ацэнкі ў даследаванні гісторыі палітычных падзей? Упэўнены, што варта, бо меркаванні сучаснікаў дапамагаюць зразумець палітыка як чалавека, больш даведацца пра ягоны характар, тэмперамент, інтэлектуальныя здольнасці ды інш. Усё гэта часам спрыяе выяўленню матываў паводзін, без чаго нельга прэтэндаваць на рэканструкцыю гістарычнага працэсу.



*Старшыня Народнага Сакратарыята Язэп Варонка*

Аднак крызіс ідэі кааліцыі быў абумоўлены не толькі асабістымі якасцямі Варонкі. Падзеі чэрвеня і ліпеня, якія перашкодзяць кабінету Скірмунту распачаць «урадаванне», таксама дазваляюць казаць пра «нямецкі след» у абвастрэнні ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў Радзе БНР. Прынамсі, варта заўважыць, што грошы з Украіны паступілі ў Менск пасля прыходу да ўлады гетмана Скарападскага, які меў шчыльныя кантакты з нямецкай адміністрацыяй.

А на заканчэнне характарыстык ад Эдмунда Івашкевіча варта прывесці таксама ягоную ацэнку постаці Рамана Скірмунта з ліста за 13 чэрвеня: «Вяртаючыся да беларускай справы, дадам, што сп. Раман Скірмунт з'яўляецца адзіным звязуючым звяном паміж цёмнай раскудлачанай групкай беларускіх скандалістаў, з аднаго боку, і цывілізаваным светам і акупантамі, з другога. Ён з'яўляецца перакананым беларусам у тым сэнсе, што нібыта верыць у рэальную магчымасць адраджэння ці хутчэй нараджэння гэтай нацыі. Пры гэтым здаўна з'яўляецца перакананым германафілам. Чалавек вельмі высокай культуры, але не палітык, бо не мае дэмагагічных здольнасцяў і занадта прыстойны. Будзе вельмі разборлівым у сродках дасягнення мэты, і ў выніку будзе вымушаны хутчэй за ўсё адысці ад палітыкі, а гэта кепска паўплывае на лёс усёй беларускай справы»[1360].

У маі 1918 г. Скірмунт не збіраўся адыходзіць ад палітыкі. Ён забраў назад заяву пра адстаўку. Верагодна, паміж ім і Варонкам было дасягнута паразуменне.

---

[1359] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 192.
[1360] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–31. Калекцыя Л. Абрамовіча, арк. 3 адв.

25 мая адбылася працяглая размова паміж Скірмунтам і Варонкам. Як паведамляў чарговы Інфармацыйны бюлетэнь, яна датычыла пераважна міжнароднай палітыкі: «...Главной темой совещания явились взаимоотношения Белоруссии с Великороссией и Украиной»[1361]. Па яе выніках было заяўлена, што фарміраванне новага ўрада адкладаецца да 10–15 чэрвеня, а Скірмунт як надзвычайны пасол БНР павінен выехаць за межы Беларусі.

Скірмунт выехаў у Кіеў ужо на наступны дзень. Невядома, якімі знешнепалітычнымі абставінамі быў выкліканы гэты хуткі ад’езд. Але, калі ўлічыць палітычную барацьбу паміж сацыялістамі і групай Скірмунта, то, відавочна, што ў выйгрышы быў толькі Варонка. Так, у выніку ад’езду Скірмунта не адбылося, прызначанае на 26 мая пасяджэнне Рады БНР, на якім павінны былі разглядацца праблемы фарміравання новага кабінета. Апрача таго, Скірмунт не трапіў у склад дэлегацыі Рады БНР, якую 27 мая прымаў камандуючы 10 нямецкай арміяй генерал Фалькенгайн у Менску. І наогул, прынамсі, на два тыдні Скірмунт знікаў з менскай палітычнай сцэны. Як аказалася, насамрэч, Скірмунт адсутнічаў месяц.

Ён вярнуўся ў Менск толькі 26 чэрвеня, калі сітуацыя ў беларускім руху істотна змянілася. Сацыялісты адчувалі сябе больш упэўнена, між іншым, дзякуючы таму, што нямецкая адміністрацыя раптам пачала прыхільна ставіцца да сацыялістычнага Народнага Сакратарыята. 28 мая прэс-бюро Народнага Сакратарыята распаўсюдзіла інфармацыю пра сустрэчу з генералам Эрыхам фон Фалькенгайнам. Раду БНР прадстаўлялі Варонка, Серада, Аўсянік і Аляксюк. Прэс-бюро сцвярджала, што сустрэча прайшла ў прыязнай атмасферы. Генерал заявіў, што ранейшыя непаразуменні былі абумоўлены адсутнасцю сяброўскіх адносін паміж вайсковай адміністрацыяй і Радай БНР і выказаў надзею на іх устанаўленне. Ён таксама быў перакананы, што імкненне Сакратарыята і Рады БНР дзейнічаць у згодзе з германскай дзяржавай прынясе плён.

Варонка падзякаваў за гатоўнасць нямецкіх улад да супрацы з Радай БНР і заявіў: «Время знакомства прошло; мы уже вступаем в период совместной творческой работы. Благодарим Вас и ждем проведения в жизнь идей нашей государственности. Мы верим в духовную силу нашего народа, а содействие германского правительства ускорит достижение нами наших культурных и политических чаяний»[1362].

Пасля сустрэчы з Фалькенгайнам дэлегацыю запрасіў да сябе начальнік штаба арміі генерал фон Штапф. Размова датычыла ўжо канкрэтных пытанняў наладжвання ўзаемаадносін у сувязі з планаваным пераездам штаба ў Менск, а таксама планаў Рады БНР, яе адносін з Беларускім нацыянальным камісарыятам у Маскве, настрояў жыхароў Смаленска і Віцебска, выдання газет ды інш.[1363].

[1361] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк 76–78.
[1362] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 52–52 адв.
[1363] Тамсама, арк. 80.

Відавочна, што гэтая сустрэча надала ўпэўненасці Варонку і пераканала яго ў тым, што кантакты з нямецкай адміністрацыяй могуць развівацца без удзелу Скірмунта. Магчыма, якраз да гэтага і імкнуліся нямецкія вайскоўцы і палітыкі. Эйфарыя Варонкі адчувальная ў лісце да Антона Луцкевіча за 23 чэрвеня: «Справа стаіць добра. Я сам ужэ хажу «па начальству» […] Многага дабіўся»[1364].

Гэтая эйфарыя была выклікана яшчэ і тым, што якраз у тыя дні пачалося раззбраенне немцамі Польскага корпуса генерала Доўбар-Мусніцкага. Польская супольнасць перажывала гэта як катастрофу, а беларускія сацыялісты радаваліся, што пазбываліся небяспечнага суперніка.

Тут варта яшчэ раз спыніцца на наступствах рэквізіцый і рэпрэсій вайскоўцаў Доўбар-Мусніцкага, якія рэзка пагоршылі беларуска-польскія стасункі. У тэлеграме Народнага Сакратарыята, адрасаванай канцлеру Германіі і сябрам Рэгенцыйнай Рады 29 мая 1918 г., адзначалася, што нацыянальная і класавая варожасць абвастрылася да адкрытай нянавісці. Беларускі народ чакаў братэрскага стаўлення ад польскага народу, а атрымаў гвалт і здзекі. Знаходжанне корпуса ў Беларусі трактавалася палітыкамі БНР як акт варожасці, гвалту і знявагі нацыянальнай годнасці[1365].

Відавочна, што паводзіны польскіх вайскоўцаў выклікалі абурэнне беларускага насельніцтва, адлюстраваннем якога быў рост антыпольскіх настрояў сацыялістычнай часткі Рады БНР, што, безумоўна, аслабляла палітычныя пазіцыі Рамана Скірмунта.

Між тым, 25 мая ён атрымаў Пасьведчанне, што з'яўляецца Надзвычайным паслом Беларусі ва Украіне «з паўнамоцтвамі вядзеньня перамоваў аб устанаўленьні належных міждзяржаўных дачыненьняў паміж БНР і Украінскай Дзяржавай»[1366]. У гэты ж дзень быў падрыхтаваны ліст ад імя Старшыні Народнага Сакратарыята да гетмана Скарападскага, які пацвярджаў паўнамоцтвы Рамана Скірмунта[1367].

Кіеўская місія Рамана Скірмунта поўніцца загадкамі. «Вольная Беларусь» (№ 20–21 за 9 чэрвеня 1918 г.) паведаміла, што Скірмунт будзе сустракацца ў Кіеве з беларусамі дзеля прыцягнення іх да дзяржаватворчай працы ў Беларусі. Аднак відавочна, што не гэта было галоўнай задачай надзвычайнага пасла. Хутчэй за ўсё, Менск спадзяваўся на афіцыйнае прызнанне Украінай БНР, хоць з улікам палітычных змен у Кіеве, гаворку пра гэтае прызнанне даводзілася пачынаць ад пачатку.

Таксама ягоны візіт мог мець дачыненне да перамоў, датычных беларуска-ўкраінскай мяжы. Яны праходзілі пры яўным дамінаванні ўкраінскага боку. Як адзначала Д. Міхалюк, беларускія дэлегаты прыехалі ў Кіеў без узгодненай

[1364] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 185.
[1365] Тамсама, с. 30–31.
[1366] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 10, арк. 198.
[1367] Тамсама, арк. 199.

канцэпцыі паўднёвай мяжы і без належных кансультацый са спецыялістамі. Паводле польскай даследчыцы, кіраўнік дэлегацыі Цвікевіч, перакананы ў тым, што лёс беларуска-ўкраінскай мяжы будзе вырашаны на еўрапейскай мірнай канферэнцыі, насамрэч імкнуўся да прызнання Украінай незалежнасці БНР, а таксама разлічваў на яе дапамогу ў перамовах з савецкай Расіяй[1368].

Цікава, што пра місію дэлегацыі Цвікевіча спачатку не ведала нават Рада БНР. Прынамсі, такую выснову можна зрабіць на падставе публікацыі на старонках «Вольнай Беларусі» (№ 16 за 5 мая). Яе аўтар (Язэп Лёсік?) паведаміў пра «памежныя» перамовы ў Кіеве, якія распачаліся 19 красавіка, а таксама пра незадавальненне Рады БНР, сябры якой нібыта даведаліся пра гэтыя перамовы з газет. Магчыма, такім быў стыль кіравання Язэпа Варонкі. У кожным выпадку Народны Сакратарыят многія рашэнні прымаў і праводзіў у жыццё без ведама Рады БНР. Таксама паступова знікла інфармацыя пра дзейнасць Рады старэйшын.

Між тым, у Кіеве сітуацыя на перамовах пачала змяняцца, калі ў склад дэлегацыі БНР быў уключаны прафесар М. Доўнар-Запольскі. Аднак якраз у гэты момант Цэнтральная Рада была зліквідавана, і да ўлады прыйшоў Скарападскі.

У манаграфіі ўкраінскіх даследчыкаў Володымыра Галоўчанкі і Валерыя Салдаценкі адзначаецца актыўнасць беларускай дэлегацыі, якую аўтары акрэслілі спробай «дыпламатычнага міні-бліцкрыга»[1369]. На пачатку мая Цвікевіч уручыў М. Васіленцы пасведчанні Народнага Сакратарыята БНР на працяг перамоў. А 10 мая міністру замежных спраў былі ўручаны тры афіцыйныя заявы беларускай дэлегацыі. Першая з іх утрымлівала просьбу паспрыяць прызнанню РСФСР незалежнасці БНР і ўлічваць яе інтарэсы на ўкраінска-расійскіх перамовах, якія ў гэты час ішлі ў Кіеве. Дзве другія сцвярджалі неабходнасць працягу перамоў па праблеме размежавання Беларусі і Украіны і абвінавачвалі Раду міністраў УНР у анексіянісцкіх намерах адносна беларускіх земляў паўднёвай часткі Менскай і Магілёўскай губ. Да іх дадаваліся заявы Гомельскай гарадской думы і Саюза землеўласнікаў Пінскага, Мазырскага, Рэчыцкага і Гомельскага пав.

29 мая Аляксандр Цвікевіч звярнуўся ўжо да міністра замежных спраў Дмітра Дарашэнкі з заявай, якая ўтрымлівала тыя самыя просьбы. Аднак і новыя ўкраінскія палітыкі не збіраліся ісці на ўступкі. Іх цікавіла не столькі палеская багна, колькі чыгуначная лінія Берасце – Лунінец – Гомель і сам Гомель, які ўспрымаўся як «ключ» да Чарнігава і Кіева. Дарашэнка сцвярджаў: «Ми могли бути спокійні тільки тоді, якби ця лінія належала самостійній сильній Білоруській Державі. Але у нас не було певности, що така держава (формально вже й проголошена) в тодішніх відносинах могла укріпитись і сконсолідуватись; навпаки,

---

[1368] D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 254.

[1369] В. Головченко, В. Солдатенко, *Українське питання в роки Першої світової війни*. Київ 2009, с. 321.

можна було навпевно сподіватись, що цю лінію захопить Советська Росія або Польща»[1370].

У красавіку ўкраінская адміністрацыя з'явілася на Палессі. У сярэдзіне мая быў падрыхтаваны праект закона пра адміністрацыйны падзел далучаных земляў. Між іншым, Пінскі пав. уваходзіў у межы Валынскай губ. Адзінае, чаго здолеў дамагчыся Аляксандр Цвікевіч, – гэта згоды ўкраінцаў на прызначэнне ў Мозырскі, Пінскі і Гомельскі пав. камісараў Народнага Сакратарыята БНР.

Пры гэтым Рада міністраў Украінскай Дзяржавы паабяцала на перамовах з дэлегацыяй РСФСР (кіраўнік Хрысціян Ракоўскі) прыхільна паставіцца да беларускіх інтарэсаў і, па магчымасці, падтрымаць дзяржаўныя памкненні паўночнага суседа.

Падобна, што адначасна беларусы спрабавалі разыграць «расійскую карту». Газета «Голос Кіева» за 31 мая змясціла інфармацыю пра сустрэчу М. Доўнар-Запольскага, А. Цвікевіча і Курыловіча з камісарам Ракоўскім і паведаміла пра просьбу першых абараняць інтарэсы беларускага народу ад магчымага далучэння часткі Беларусі да Украінскай Дзяржавы[1371]. Украінскія даследчыкі сцвярджаюць, што Х. Ракоўскі падтрымаў беларускі пратэст у сувязи са з'яўленнем на Гомельшчыне ўкраінскай адміністрацыі[1372].

3 чэрвеня Цвікевіч накіраваў ліст Ракоўскаму, у якім ад імя Народнага Сакратарыята БНР паведаміў пра палітычныя перамены ў Беларусі і заявіў, што з моманту абвяшчэння незалежнасці БНР (дадаваўся тэкст Трэцяй Устаўной граматы) беларускі народ не прызнае тых пунктаў Берасцейскай дамовы, якія закранаюць ягоныя інтарэсы і ягоную тэрыторыю[1373]. Пазней беларуская дэлегацыя атрымала паўнамоцтвы на вядзенне перамоў з Х. Ракоўскім адносна ўсталявання дзяржаўнай мяжы паміж БНР і Расіяй[1374]. Таксама беларуская дэлегацыя ў Кіеве звярталася з просьбай аб прызнанні незалежнасці БНР да прадстаўніка Аўстра-Венгрыі[1375], спрыяла дзейнасці Беларускай гандлёвай палаты і наладжванню гандлю з Украінай, займалася іншымі важнымі справамі.

Аднак ва ўсёй гэтай актыўнай дзейнасці не знайшлося месца для Рамана Скірмунта. Прынамсі, пра ягоную ролю ў працы дэлегацыі дакументы маўчаць. Пра знаходжанне Надзвычайнага пасла БНР у Кіеве ўпершыню паведаміла «Робітніча газета» (№ 297 за 19 чэрвеня) у сюжэце пад назвай «Размова з беларускім паслом», дзе гаворка ішла пра ягоны прыезд у Кіеў і пераказвалася інтэрв'ю са Скірмунтам.

---

[1370] Цытата па: В. Головченко, В. Солдатенко, *Українське питання в роки Першої світовоі війни*, с. 323.

[1371] Паводле інфармацыі: «Вісти краєвої преси». 1918, № 19.

[1372] В. Головченко, В. Солдатенко, *Українське питання в роки Першої світовоі війни*, с. 324.

[1373] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 10, арк. 266–266 адв.

[1374] Тамсама, арк. 192.

[1375] Тамсама, арк. 264–265 адв.

Скірмунт заявіў, што галоўнай мэтай прыезду з'яўляецца знаёмства з палітычнай сітуацыяй ва Украіне і аднаўленне адносін паміж двзвюма дзяржавамі. Дзеля гэтага ён планаваў сустрэцца з отаман-міністрам Ф. Лызогубам, міністрам харчовых спраў ды інш. Але першая сустрэча адбылася з Дарашэнкам. Скірмунт прызнаў, што яна датычыла гандлю, а таксама праблемы мяжы паміж Украінай і БНР. Ён сцвярджаў, што спрэчных і невырашальных пытанняў паміж суседзямі няма, і сустрэча ў цэлым мела прыязны характар.

На пытанне карэспандэнта наконт гэтай мяжы, пасол БНР заявіў, што гаворка ідзе пра паўднёвыя часткі Гарадзенскай і Менскай губ., населеныя беларусамі і палешукамі, якія не з'яўляюцца ні беларусамі, ні ўкраінцамі. Ён ахарактарызаваў яе як «гістарычную мяжу», якая існуе ўжо 600 гадоў і выкарыстоўвалася ў адміністрацыйным падзеле Расійскай імперыі. На яго думку, для Украіны гэтыя паветы маюць невялікае значэнне, а для Беларусі – першаснае.

Таксама Скірмунт паведаміў пра паразуменне ўсіх палітычных сіл у Беларусі ў справе стварэння кааліцыйнага ўрада і пра тое, што «памяркоўныя элементы» папоўнілі склад Рады БНР. У бліжэйшы час да Рады далучацца таксама прадстаўнікі польскай і вялікарускай супольнасцяў. Габрэі там ужо ёсць. Першаснай задачай беларускіх палітыкаў ён лічыў стварэнне дзяржавы, а таксама адкрыццё ў Кіеве пасольства БНР. Таксама Скірмунт заявіў пра наладжванне адносін з нямецкімі ўладамі і магчымае ў хуткім часе прызнанне Германіяй Беларускай дзяржавы. Пры гэтым ён сцвярджаў верагоднасць будучай федэрацыі Беларусі з Украінай і Літвой.

Заява пра магчымасць хуткага прызнання БНР Германіяй выклікае здзіўленне. Публічныя заявы, падмацаваныя толькі жаданнем зрабіць моцнае ўражанне на суразмоўцу, не адпавядалі ні ягоным прынцыпам як палітыка, ні рысам характару. Цалкам магчыма, што надзвычайны пасол БНР ва Украіне абапіраўся на пэўныя абяцанні прадстаўнікоў нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. Так, Э. Івашкевіч у адным з лістоў да Л. Абрамовіча пісаў пра прыхільнае стаўленне да ўрада Скірмунта генерала фон Штапфа, які быў загадзя праінфармаваны пра палітычныя змены[1376].

Напрыканцы размовы ён папрасіў карэспандэнта адзначыць, што змест артыкула «Экс-палякі» у газеце «Пшэглёнд Польскі» (№ 80 ад 15 чэрвеня), у якім утрымліваліся намёкі на ягоную асобу, не адпавядае рэчаіснасці. Да гэтага часу ён прытрымліваецца прынцыпаў, выкладзеных у брашуры *Głos przeszłości i potrzeba chwili*, выдадзенай некалькі гадоў таму. Гэтае прызнанне, між іншым, сведчыць, што Раман Скірмунт не адмовіўся ад ранейшай краёвай пазіцыі.

Дарэчы, сцвярджэнне Скірмунта наконт адкрыцця пастаяннага дыпламатычнага прадстаўніцтва БНР у Кіеве пацвярджае меркаванне, што адной з галоўных

---

[1376] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–775. Калекцыя Л. Абрамовіча. [E. Iwaszkiewicz], *Sprawy białoruskie w chwili dzisiejszej,* k. 1–2.

задач гэтага візіту было афіцыйнае прызнанне БНР з боку Украінскай Дзяржавы. УНР была за крок ад прызнання незалежнай Беларускай дзяржавы, але так яго і не зрабіла. Прычыны трэба шукаць як у вострай унутрыпалітычнай барацьбе ў асяродку ўкраінскіх палітыкаў, так і ў пазіцыі Берліна, які не збіраўся парушаць умовы Берасцейскага міра. Паводле гэтага пагаднення, менавіта Расія пасля выплаты кантрыбуцыі Германіі павінна была вырашаць лёс Беларусі.

Тая ж «Робітніча газета» паведамляла пра сустрэчу Дарашэнкі з Раманам Скірмунтам, якая працягвалася адну гадзіну і датычыла аднаўлення добрасуседскіх адносін паміж краінамі-суседкамі. Пра сустрэчу Надзвычайнага пасла БНР з Д. Дарашэнкам таксама паведаміла газета «Рабочая жизнь» (№ 88 ад 19 (6) чэрвеня). Варта адзначыць, што абедзьве газеты былі органамі сацыял-дэмакратычных партый, якія адмовіліся падтрымліваць гетмана. Іншыя ўкраінскія выданні быццам не заўважылі прыезду Надзвычайнага пасла БНР.

Кіеўскі візіт Скірмунта таксама трапіў на старонкі нямецкай газеты ліберальнага накірунку «Berliner Börsen Kurier» («Берлінскі біржавы кур'ер») (№ 286 ад 21 чэрвеня). Газетнае паведамленне ў перакладзе на рускую мову захавалася ў матэрыялах архіва БНР. Аўтар гэтай інфармацыі пракаментаваў выказаныя Скірмунтам спадзяванні на хуткае прызнанне Германіяй Беларускай дзяржавы. Спасылаючыся на «афіцыяльнае паведамленне», газета сцвярджала, што «Германія не бачыць ніякіх падставаў (як на гэта «спадзяецца» спадар Скірмунт) прызнаць «Беларусь» самастойнай дзяржавай. Германія разглядае беларускія прэтэнзіі як пытанне, якое павінна быць вырашана паміж беларусамі і Савецкай Расіяй»[1377].

Як адзначылі ў сваім даследаванні В. Галоўчанка і В. Салдаценка, Берлін імкнуўся выкарыстаць Беларусь дзеля дыпламатычнага ціску на Маскву, каб атрымаць пэўныя эканамічныя выгоды, і таму не толькі не згаджаўся на афіцыйнае прызнанне БНР, але і забараняў гэта рабіць Кіеву[1378]. Магчыма, апошняе зразумеў у Кіеве і сам Раман Скірмунт, бо пра ягоныя іншыя запланаваныя візіты да вышэйшага кіраўніцтва Украінскай Дзяржавы кіеўскія газеты больш нічога не паведамлялі. Падобна, што паездка была няўдалай, нават калі гэтыя сустрэчы і адбыліся.

Гэтую думку ўскосна пацвердзіў Дмітро Дарашэнка, які быў не толькі палітыкам, але і гісторыкам. У «Гісторыі Украіны 1917–1923 гг.» (Ужгарад, 1930) ён адзначыў, што пасля размовы з Раманам Скірмунтам «з'ясувалося, що фактично білоруський уряд не має влади, що німці його офіціяльно не визнають і що будучність і форма білоруськоі державности ще не усталені в поглядах самого бі-

1377 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 235.

1378 В. Головченко, В. Солдатенко, *Українське питання в роки Першої світовоі війни*, с. 327.

лоруського уряду. Так, наприклад, були течії за федерацію з Литвою, були й прыхильники федерації з Україною»[1379].

Украінскія даследчыкі лічаць, што гетману Скарападскаму і ягоным міністрам БНР магла нагадваць нядаўнюю Украінскую Народную Рэспубліку часоў Цэнтральнай Рады, якая не мела вялікага аўтарытэту сярод насельніцтва і шмат сіл марнавала на ўнутрыпалітычныя спрэчкі[1380]. Будаваць раўнапраўныя адносіны з такім парнёрам улады Украінскай Дзяржавы не рашыліся.

Скірмунт таксама імкнуўся ацаніць сітуацыю Украінскай Дзяржавы. Ужо пасля вяртання ў Менск ён падзяліўся некаторымі думкамі з Эдмундам Івашкевічам, які ў сваю чаргу пераказаў іх у лісце да Л. Абрамовіча 29 чэрвеня 1918 г. Так, Івашкевіч адзначаў, што Скірмунт у Кіеве заўважыў выразную актывізацыю «панрасійскай» акцыі: «Пад маскай украінскай, данской і кубанскай [дзяржаў] хаваецца адраджэнне Расіі. У гэтым удзельнічае Антанта, але здзіўляе тое, што і немцы не перашкаджаюць гэтаму»[1381].

Магчыма, меркаванне Рамана Скірмунта, што за Скарападскім стаіць «белая» Масква, а «панрасійскай» акцыі сімпатызуюць нямецкія акупацыйныя ўлады ва Украіне, таксама не спрыяла поспеху ягонай дыпламатычнай місіі. Скірмунт хутчэй за ўсё памыляўся, хоць сярод гісторыкаў адсутнічае адзінства ў ацэнцы палітыкі апошняга ўкраінскага гетмана.

Чэрвеньская размова са Скірмунтам дазволіла Івашкевічу сцвярджаць, што ўсе ранейшыя згадкі прэсы пра дзяржаўна-дыпламатычныя стасункі Украіны і Беларусі былі блефам, што ва Украіне дамінуе недавер да «беларускага сепаратызму», а ўкраінскі ўрад абапіраецца толькі на нямецкае войска. Калі ж немцы сыдуць, «прасмажаная ў бальшавіцкім соўсе» Украіна, вернецца да стану анархіі[1382].

У гэтым жа лісце ён таксама пераказаў размову Скірмунта з нейкім вядомым эстонскім палітыкам. Апошні сцвярджаў, што за невялікім выключэннем насельніцтва Эстоніі і Латвіі прыхільнае разрыву адносін з Расіяй. Скірмунта найбольш уразіла тое, што значная частка эстонцаў і латышоў сталі прыхільнікамі незалежнасці, а за інкарпарацыю з Германскім Рэйхам выступае толькі частка баронаў.

Што яшчэ рабіў Раман Скірмунт у Кіеве? С. Рудовіч са спасылкай на газету «Дзянніца» ад 9 жніўня 1918 г. паведаміў пра яго сустрэчу з «баявымі прафесарскімі беларускімі сіламі», якія заявілі, што гатовы вярнуцца на Радзіму дзеля працы на ніве беларускай асветы і культуры[1383].

---

[1379] Цытата па: В. Матвієнко, *Українська дипломатія 1917–1921 років: на теренах постімперскої Росії*. Київ 2002, с. 142.

[1380] В. І. Головченко, В. Ф. Солдатенко, *Українське питання в роки Першої світовоі війни*, с. 335.

[1381] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–31. Калекцыя Л. Абрамовіча, арк. 5–6.

[1382] Тамсама, арк. 6.

[1383] С. Рудовіч, «…*Беларускі дзеяч з вялікіх паноў*», с. 50.

У Хроніцы на старонках «Вольнай Беларусі» (№ 26 за 14 жніўня) адзначалася, што Раман Скірмунт падчас знаходжання ў Кіеве сустракаўся з «расейскім міністрам унутраных спраў» і пры гэтым было ўстаноўлена, што «ніякіх нізгодных пунктаў німа». Гэтым «міністрам» мог быць толькі згаданы Ракоўскі. Калі размова з ім сапраўды адбылася, то з улікам ранейшай сустрэчы апошняга з Цвікевічам паўстае пытанне, пра што мог весці з ім гаворку Раман Скірмунт?

Наогул, атрымліваецца няшмат падзей для месячнага знаходжання ў сталіцы Украінскай Дзяржавы. На гэта звярнулі ўвагу і сябры Сакратарыята. Праўда, звесткі пра іх незадаволенасць датуюцца 14 ліпеня 1918 г., калі палітычная барацьба паміж Скірмунтам і Варонкам дасягнула апагея. Вось што адзначалася ў інфармацыйным паведамленні прэс-бюро Народнага Сакратарыята: «Его [Р. Скірмунта – *А. С.*] доклад в Народном Секретариате оставил весьма неясное впечатление и вселил предположение, что между тем, что было сделано, и тем, что сказано есть значительная разница. Следует ожидать выяснения этого в ближайшие дни»[1384].

Эдмунд Івашкевіч у лісце да Людвіка Абрамовіча ад 24 чэрвеня сцвярджаў, што «беларускаму лідэру» нямецкія ўлады не выдаюць пропуск для вяртання ў Менск[1385]. Калі гэта сапраўды мела месца, то Скірмунт павінен быў задумацца пра перспектывы ягонага кабінета знайсці паразуменне з нямецкімі ўладамі.

Варта адзначыць, што ў тагачасных кіеўскіх газетах, а таксама ва ўкраінскай гістарыяграфіі прыезд Скірмунта ў Кіеў датуецца другой паловай чэрвеня. Узнікае пытанне, дзе ён знаходзіўся больш чым паўмесяца? Нагадаю, што з Менску надзвычайны пасол БНР выехаў 26 мая. Рызыкну выказаць меркаванне, што ягоны шлях у Кіеў, а таксама з Кіева ў Менск праходзіў праз Парэчча, якое апынулася на тэрыторыі Украіны. Ускосна пра гэта сведчыць не толькі працягласць паездкі, але таксама намёкі Варонкі («Вы, паны, отдохнули по своим «маёнткам». Пора стать к работе...»), якія прагучалі падчас палемікі па пытанні роспуску Рады БНР на «канікулы» на пасяджэнні 10 ліпеня.

Інспіраваць гэтую паездку магла інфармацыя пра з'яўленне на Піншчыне ўкраінскіх органаў улады, у т. л. паліцыі. Але хутчэй за ўсё перамагло жаданне ўбачыць, нарэшце, сястру Алену, родныя мясціны і дом, які быў пакінуты амаль тры гады таму.

Каб зразумець, што мог убачыць Скірмунт на сваёй Радзіме, выкарыстаю ўспаміны Ежы Асмалоўскага, які ў красавіку 1918 г. наведаў уласны маёнтак Селішча, што знаходзіўся на ўсход ад Пінска і падчас ваенных дзеянняў апынуўся на расійскім баку фронта. Паводле Асмалоўскага, нягледзячы на панаванне бальшавікоў, а таксама эвакуацыю амаль усіх гаспадароў, сядзібы і гаспадарчыя забудовы захаваліся, хоць і былі ачышчаныя ад жывога і нежывога «інвентара».

---

[1384] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 222–222 адв.

[1385] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–31. Калекцыя Л. Абрамовіча, арк. 4.

Е. Асмалоўскі адзначыў, што большасць землеўласнікаў або іх прадстаўнікоў ужо вярнуліся і займаліся вяртаннем «інвентара» з дапамогай украінскіх гайдамакаў. Пры гэтым адбываліся сапраўдныя карныя «бастанады». Сяляне скардзіліся, што ўкраінская паліцыя горшая ад расійскай, бо «б'е мацней».

Маёнтак Селішча быў абрабаваны. У стадоле не было ні снапа збожжа, ні пучка саломы, хлеў быў пусты, хоць столь захавалася. Толькі ў стайні гаспадар убачыў нейкага заморанага каня, а ў хлявах – некалькіх свіней, якія належалі бежанцам. Сядзіба Асмалоўскіх не мела ні дзвярэй, ні вакон, ні печаў. Але пры гэтым аўтар успамінаў прыгадаў тое незабыўнае пачуццё роднага кута, у якім даўно не быў: «На гэтай пустой зямлі я добра сябе адчуваў, нягледзячы на прымітыўныя ўмовы, адсутнасць выгод і варожае атачэнне. Безумоўна, гэта было ўздзеянне адметнай і своеасаблівай прыроды Палесся, сярод якой вырас, і па якой падсвядома сумаваў у самых прыгожых кутках свету» [1386].

Асмалоўскі адмовіў мясцоваму габрэю ў арэндзе маёнтка і дамовіўся з сялянамі, што яны будуць даваць 1/3 ураджая за карыстанне ягонай зямлёй, вернуць інвентар і дапамогуць адміністратару заараць пару моргаў зямлі на патрэбы двара. Таксама гаворка ішла пра добраахвотную кампенсацыю шкоды, нанесенай гаспадарскаму лесу, што павінна было гарантаваць амністыю ўсім лясным злодзеям з боку гаспадара. Пры гэтым усе разумелі, што гэта дамова з'яўляецца толькі выразам двухбаковага жадання мірна ўладзіць усе праблемы, але нічога не гарантуе ў будучыні.

Другі раз Асмалоўскі наведаў Селішча ўжо на пачатку кастрычніка 1918 г. Адміністратар пахваліўся, што маёнтак ужо меў каня, воз і чатыры каровы. Ураджай быў добры, азімыя пасадзілі па прынцыпе «трацяка», г. зн., што два снапы забіраў работнік, а трэці павінен перадаць гаспадару.

З размоў з адміністратарам і сялянамі Асмалоўскі даведаўся пра «ўсеагульную нянавісць» да гайдамакаў і тых землеўласнікаў, што звярталіся ў паліцыю. У яго склалася ўражанне, што ўкраінскую паліцыю, якая займалася вымагальніцвам і рабаваннямі, ненавідзяць больш, чым кожную іншую ўладу з пачатку вайны[1387].

У гэты раз Асмалоўскі ехаў з Палесся ў Варшаву чыгункай і мог праз вакно бачыць стан той часткі Піншчыны, якая знаходзілася з нямецкага боку фронту, таксама як і скірмунтаўскае Парэчча. Ён сцвярджаў, што тут разбурэнні набылі больш жахлівы характар: «Многія вёскі стаяць пустыя, хаты развальваюцца, дахі знішчаны. Палі незасеяны. Бязлюдны край. Спачатку расійцы выганялі людзей на ўсход ад Ясельды, а потым немцы тых, хто застаўся, вывезлі на працу ў Рэйх. Старыя, хворыя і дзеці пайшлі ў жабрацтва, змарнелі»[1388].

Карціну разбурэння дапаўняюць радкі з ліста Генрыка Скірмунта (19 ліпеня 1917 г.) да графа Ронікера, які ўзначальваў прадстаўніцтва Рэгенцыйнай Рады

---

1386 J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 348.
1387 Ibidem, k. 465–466.
1388 Ibidem, k. 466–467.

ў Берліне: «Фінансавы стан нашага зямянства жахлівы. Амаль усе маёнткі маюць вайсковых адміністратараў, якія рэквізуюць рэшткі інвентара. Прыбытку ніякага. Вельмі багатыя людзі не маюць сродкаў нават на выхаванне дзяцей»[1389].

Магчыма, нешта падобнае назіраў у канцы мая – пачатку чэрвеня 1918 г. у Парэччы Раман Скірмунт, калі ён, сапраўды, наведаў родны кут. Адносіны з сялянамі хутчэй за ўсё павінны былі будавацца на тых самых прынцыпах, як гэта рабілася ў Селішчы. Будучыня была няпэўнай, і ўсе былі аднолькава зацікаўлены ў наладжванні партнёрскіх стасункаў. Нават, калі яны мелі часовы характар.

Між тым, працяглая адсутнасць Скірмунта ў Менску адмоўна паўплывала на лёс ягонага кааліцыйнага ўрада. Найбольшыя нападкі сацыялістаў датычылі постаці Станіслава Хжанстоўскага. Відаць, менавіта таму «Беларускі шлях» і «Вольная Беларусь», рэдактары якіх падтрымлівалі ідэю кааліцыі, змясцілі матэрыялы, якія павінны былі адказаць на прэтэнзіі сацыялістаў і разбурыць вобраз С. Хжанстоўскага як «паляка і буржуя».

9 чэрвеня інфармацыя пра менскага войта і кандыдата ў Народны Сакратарыят з'явілася на старонках «Вольнай Беларусі». Аўтар імкнуўся да беларусізацыі свайго героя: «Пан С. Б. Хржонстонскі – асоба ўсім вядомая ў Менску, юрыст і грамадзкі працаўнік. У свой час ён прызнаў сябе беларусам і называў сябе Хрушчэўскім, а ні Хржонстонскім, як называюць яго па-польску. Ёсьць чуткі, што пан Хрушчэўскі даў сваю згоду ўвайсьці ў склад Беларускаго сэкрэтарыяту кабінэту Р. Скірмунта, як Сэкрэтар грашовых спраў. Пан Хрушчэўскі даўгалетні менскі войт. Будзем чакаць ад яго працы, як ад пэўнаго беларуса, каторы любіць і родны горад і сваю Бацькаўшчыну»[1390].

13 чэрвеня з асобай будучага сакратара «па грашовых справах» знаёміў сваіх чытачоў ужо «Беларускі шлях»[1391]. На старонках газеты з'явілася інфармацыя пра размову яе карэспандэнта з менскім войтам, падчас якой закраналіся два важныя пытанні. Першае датычыла палітычнага становішча Беларусі, а другое – значэння Менска ў сувязі з будаваннем Беларускай дзяржавы.

У прадстаўленні героя гэтай размовы адзначалася, што ён з'яўляецца прыхільнікам беларускага нацыянальнага руху «ні ад нідаўняго часу»: «Будучы ўраджэннем і грамадзкаю працаю звязаны з усім абшырным Беларуска-Літоўскім краем, ён заўсёды відзеў колькі шкоды для культурнаго развіцця і краёвай гаспадаркі учыняе упраўленне з далёкаго, нізнаемаго з мейсцовымі патрэбамі і чужога для іх цэнтру, і дзеля гэтаго быў пастаянным староннікам як найшырэйшай краёвай нізалежнасці для Беларусі».

Таксама сцвярджалася, што ўжо ў 1917 г. Хжанстоўскі заявіў кіраўніку

---

1389 Archiwum Akt Nowych (далей: AAN). Syg. 473, k. 39.

1390 «Вольная Беларусь». 1918, № 20–21.

1391 *Меськія справы. Бяседа з меськім войтам С. Б. Хржонстоускім*, «Беларускі шлях», 1918, № 66.

БНК Раману Скірмунту пра жаданне працаваць дзеля Беларускай дзяржавы. У заканчэнні гэтай часткі размовы ён прызнаваўся: «Я лічу, што двадцаць тры гады жыцьця і грамадзкай працы у цэнтру Беларусі надалі мне ні толькі права, але і абавязкі беларускага грамадзянства, якія я павінен споўняць. Што ж датыча палітычнай праграмы, то я саўсім згаджаюся з праграмай яг. Р. Скірмунта».

Значэнне Менска, на думку войта, толькі вырасце ў сувязі са стварэннем Беларускай дзяржавы. Менавіта Менск ён лічыў яе будучай сталіцай і бачыў добрыя эканамічныя і культурныя перспектывы для яго развіцця: «Мне здаецца, што як бы ні развязалося пытанне з Вільняй, Менск па сваім географічно-цэнтральным палажэнні павінен стаць палітычным цэнтрам – сталіцай. Разам з тым высока паднімаецца і яго эконамічнае значэнне. Пасьля стварэння граніцы з Польшчаю Менск, лежачы на гандлёвых пуцях паміж Захадам і Усходам, павінен пераняць ад Варшавы яе даўнейшае значэнне як пункту абмену таварамі заходня-эўрапэйскай прамысловасьці з Усходам, чым і апраўдае сваю гістарычную назву.

Менск павінен будзе таксама стаць цэнтрам вышэйшай навукі для ўсёй Беларусі. [...] Наш універсытэт павінен будзе прыймаць у свае сьцены студэнтаў усё больш нізаможных станаў, для каторых патрэбна будзе, канечне, разумная грамадзкая дапамога. Разам з тым тыя навуковыя сілы, каторыя будуць заняты у дзеле асьветы, павінны будуць удзяліць сваіх усілкаў яшчэ і да дзяржаўнай арганізацыйнай і палітычнай працы, бо [...] Беларусь пакуль яшчэ мае мала патрэбных для гэтаго людзей». А задачай бліжэйшага дня войт лічыў вырашэнне гаспадарчых праблем і стварэнне падмурка для працы будучага выбарнага самакіравання.

Гэтыя матэрыялы павінны былі пераканаць чытача ў тым, што ў асобе Хжанстоўскага Народны Сакратарыят атрымае спецыяліста высокай кваліфікацыі, які будзе працаваць дзеля Беларускай дзяржавы.

Аднак менскіх сацыялістаў гэтыя публікацыі ні ў чым не пераканалі. І справа была не толькі ў характэрным для іх недаверы да «сацыяльна чужых». Змітрок Бядуля ў гэтых спрэчках убачыў канфлікт «беларусаў польскай культуры» з «беларусамі рускай культуры»[1392]. Быццам сутыкнуліся дзве цывілізацыі, мяжа паміж якімі перарэзала беларускую нацыю. Бядуля пісаў таксама пра «беларусаў беларускай культуры», якія спрабавалі прымірыць абодва бакі. У той момант да прымірэнцаў належалі віленскія беларускія сацыялісты і Старшыня Рады Язэп Лёсік.

Наогул, палітычнае жыццё ў Менску ў чэрвені 1918 г. было не такім багатым на падзеі, як у мінулым месяцы. Нават пасяджэнне Рады БНР, прызначанае на 3 чэрвеня, не адбылося з прычыны адсутнасці кворуму. Івашкевіч у лісце да Абрамовіча за 24 чэрвеня заўважыў: «Нічога не адбываецца. Палітыка памерла»[1393]. Прычыны гэтай «смерці» ён тлумачыў тым, што ў асяродку нямецкай эліты ў Менску адсутнічалі асобы, звязаныя з уплывовымі коламі ў Берліне, а Фалькенгайн

---

1392 З. Бядуля [С. Плаўнік], *Краёвая інтэлігенцыя*, «Беларускі шлях». 1918, № 92.

1393 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–31. Калекцыя Л. Абрамовіча, арк. 4.

не меў аўтарытэту пры двары імператара. Паводле Івашкевіча, «людзі ўплыву» адсутнічалі таксама сярод мясцовай арыстакратыі, а ў беларускім «лагеры» было праблематычна знайсці нават тых, хто б меў хоць пачатковыя ўяўленні пра палітыку. Выключэннем для яго быў толькі Скірмунт, які «сядзіць ва Украіне, бо гэтаму беларускаму лідэру нямецкая ўлада ўжо месяц адмаўляецца выдаць пропуск». Дарэчы, у гэтым месцы чытач ліста (Л. Абрамовіч) алоўкам напісаў: *sic*[1394]

Насамрэч палітыка не памерла. Так, ПРМЗ, нарэшце, здолела правесці даўно абвешчаны з'езд. Ён адбываўся напаўлегальна, бо немцы не дазвалялі падобныя публічныя і масавыя мерапрыемствы. У Менск прыехалі прадстаўнікі 10 акруговых Радаў (усяго 41), таксама былі дэлегаты польскіх арганізацый Віленшчыны і Магілёўшчыны, сябры МТСГ, Саюза землеўласнікаў і польскія грамадскія дзеячы.

Як сведчаць успаміны ўдзельніка з'езда Асмалоўскага, на форуме дамінавалі прыхільнікі супрацы з беларускім рухам, занепакоеныя абвастрэннем польска-беларускіх стасункаў. Як заявіў у сваім рэфераце адзін з лідэраў менскай польскай супольнасці Чэслаў Крупскі, палякі павінны падтрымаць імкненне беларусаў да адарвання ад Расіі і паразумення з Захадам. Пры гэтым нельга прапанаваць беларускім палітыкам саюз з Польшчай, бо гэта можа абвастрыць міжнацыянальныя стасункі, а таксама выклікаць незадавальненне нямецкай адміністрацыі. Паразуменне з апошняй заставалася важным элементам палітыкі палякаў Меншчыны.

Характэрнай для настрою ўдзельнікаў з'езда можна лічыць прамову Эдмунда Івашкевіча, які, між іншым, заявіў: «Мы павінны быць у згодзе з жыхарамі краю. У іншым выпадку Германія выкарыстае нязгоду, зробіць сваім фаварытам беларусаў і пазбавіць нас уплыву на лёс беларусаў і на ўладу ў краі. Хоць цяпер толькі мы гатовыя кіраваць краем, бо на вёсцы няма беларускай інтэлігенцыі. У будучым, калі Польшча настолькі ўмацуецца, што будзе здольная прыцягнуць нас да сябе, наша палітыка зменіцца. Але сёння галоўная палітыка – прыхільнасць да беларусаў»[1395].

16 чэрвеня нагадала пра сябе г. зв. «група Вайніловіча», якая звярнулася з Дэкларацыяй да генерала Фалькенгайна, у якой прасіла паспрыяць прызнанню незалежнасці Беларускай дзяржавы: «Агульны сход Менскага таварыства сельскай гаспадаркі, які складаецца з верных сыноў і грамадзян гэтай краіны, выказвае гарачае пажаданне, што багатая гістарычнымі, дзяржаўнымі традыцыямі і этнаграфічнай адметнасцю Беларусь, краіна з уласнай культурай з дапамогай магутнага Германскага Рэйха будзе прызнана незалежнай дзяржавай па прыкладу Літвы і Украіны і расквітнее ў саюзе з Цэнтральна-еўрапейскімі дзяржавамі»[1396].

---

[1394] Лацінскае слова, якім пазначаюць уласную згоду. Можна перакласці як: *так*.

[1395] J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 357–358.

[1396] ЛДГА. Ф. 1135, воп. 24, спр. 26; AAN. Sygn. 473, k. 41–42.

Дэкларацыя была падпісана прадстаўнікамі МТСГ (Э. Вайніловічам, М. Пароўскім, В. Лопатам, З. Рэвіньскім, І. Віткевічам), Саюза землеўласнікаў (Г. Гутэн-Чапскім, А. Любаньскім, Л. Ваньковічам, М. Валовічам) і Саюза Менскага дваранства (Л. Уняхоўскім, Г. Кяневічам, Ю. Свянціцкім).

Кіраўнік Прадстаўніцтва Рэгенцыйнай Рады ў Берліне граф Адам Ронікер у ліпені атрымаў распараджэнне з дапамогай друку пазнаёміць грамадства Германіі і Аўстрыі з гэтым дакументам. У суправаджальным лісце адзначалася, што зямяне падтрымліваюць незалежнасць Беларусі, абвешчаную Радай БНР, і іх пазіцыя не звязана з польскім рухам[1397].

Варта адзначыць, што ПРМЗ не далучылася да гэтай петыцыі, а Івашкевіч у лісце да Абрамовіча з'едліва заўважыў, што гэтыя людзі раней падавалі петыцыю імператару Мікалаю II, і выказаў перакананне, што гэтая папера, як іншыя падобныя, знікне пад сукном канцыляры Обэр-Ост[1398].

Між тым, сябры МБП і карэспандэнты «Беларускага шляху» чакалі вяртання Рамана Скірмунта. У публікацыях газеты рэгулярна выказвалася надзея на кабінет Скірмунта[1399], адзначалася, што ягонай задачай будзе яднанне ўсіх беларускіх сіл[1400], паведамлялася пра хуткае вяртанне палітыка з Украіны.

З вяртаннем Скірмунта звязваліся не толькі надзеі на ажыўленне палітычнага жыцця і выкананне прынятых Радай БНР рашэнняў. У чэрвені «Беларускі шлях» сутыкнуўся з фінансавымі праблемамі. Падобна, што ПРМЗ больш не дапамагала беларускаму выданню. Зварот за дапамогай у Народны Сакратарыят нічога не даў. Спачатку там заявілі, што трэба прадставіць «належную паперу» і адначасова накіравалі ў рэдакцыю Смоліча «выясьніць пытаньне аб сфармаваньні новай рэдакцыйнай камісіі»[1401], а потым папросту адмовілі ў падтрымцы. Хоць у гэты час грошы ў касе былі, і раздаваліся яны даволі шчодра. Падобна, што ўрад Варонкі паспрабаваў прыбраць да сваіх рук «Беларускі шлях», а, калі не атрымалася з «прыватызацыяй», то адмовіў у фінансаванні.

У чэрвені стаў відавочным канфлікт паміж кіраўніцтвам Сакратарыята і асобнымі дзеячамі МБП. Так, у лісце да А. Луцкевіча ад 20 чэрвеня Варонка скардзіўся: «Многа тут псуе «тройца» – Аляксюк, кс. Годлеўскі і шмітавец Вернікоўскі»[1402]. Магчыма, часткай гэтага канфлікту стала спрэчка за г. зв. Юбілейны дом, які, паводле Хронікі для газет ад 27 чэрвеня, быў адрамантаваны для Народнага Сакратарыята і Рады БНР. Аднак гэтыя ўстановы не маглі туды перабрацца: «Причиной этого является «поступок» членов Рады из фракции, так называемого

---

[1397] Ibidem, k. 40.

[1398] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79 –31. Калекцыя Л. Абрамовіча, арк. 5.

[1399] Напр., З. Б. [З. Бядуля], *Творчая праца*, «Беларускі шлях». 1918, № 72.

[1400] «Беларускі шлях». 1918, № 74.

[1401] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 187.

[1402] Тамсама, с. 182.

«белорусского Минского Представительства» гг. Алексюка, Верниковского и др., которые, как оказалось, сняли в аренду дом не для Рады, а для какого-то ими организованного клуба и ни под каким предлогом не соглашаются «уступить» здание Народному Секретариату»[1403].

Пасля прыезду Скірмунта канфлікт амаль адразу быў вычарпаны, і 12-е пасяджэнне II сесіі Рады БНР (9-11 ліпеня) адбывалася якраз у Юбілейным доме.

Вяртання Скірмунта таксама чакалі ў Вільні. У апошняй дэкадзе чэрвеня Язэп Варонка амаль у кожным лісце да Антона Луцкевіча паведамляў, што «П. Скірмунт яшчэ не вярнуўся»[1404]. Між тым, ён працягваў наведваць начальніка штаба 10 нямецкай арміі генерала фон Штапфа, і рэгулярна паведамляў пра свае поспехі. Так, у Хроніцы для газет ад 21 чэрвеня[1405] сцвярджалася, што падчас ранішняй сустрэчы гэтага дня гаворка зайшла пра «Надзвычайную місію» Народнага Сакратарыята БНР у Маскве дзеля ўручэння Савету Народных Камісараў Устаўных грамат пра аддзяленне Беларусі ад Расіі і незалежнасць БНР. Генерал абяцаў перадаць у Берлін просьбу пра гэтую паездку.

Нямецкае камандаванне пагадзілася на стварэнне інстытута беларускіх дарадцаў пры нямецкіх павятовых камендантах дзеля ўрэгулявання ўзаемадачыненняў войска і насельніцтва. Пры гэтым падкрэслівалася важнасць «национального признака» пры прызначэнні дарадцаў. Таксама Варонка звярнуў увагу генерала на польскую інтэлігенцыю ў правінцыі, якая «вводит в заблуждение Германскую комендатуру и тем порождает между Комендатурой и населением безконечные недоразумения». Начальнік штаба абяцаў, што «в этом направлении будут приняты меры к прекращению польской пропаганды в Белоруссии». З гэтага абмену думкамі Варонка павінен быў зразумець, што ў змаганні з польскімі ўплывамі ў Беларусі нямецкая адміністрацыя гатова падтрымліваць існуючы Сакратарыят. Напрыканцы размовы фон Штапф выказаў задавальненне, што беларуская справа, нарэшце, можа стаць на цвёрдую глебу, абяцаў далейшую падтрымку дзейнасці Сакратарыята і прызнаўся, што лёс Беларусі і яе культуры хвалюе яго асабіста.

Відавочна, што нямецкая адміністрацыя імкнулася ўмацаваць пазіцыі ўрада Варонкі, каб яшчэ больш абвастрыць супярэчнасці паміж левымі і правымі ў Радзе БНР. Падобна, што яднанне розных палітычных накірункаў беларускага руху і фарміраванне кааліцыйнага ўрада Рамана Скірмунта на падставе *делового принципа* выклікала хваляванні акупацыйных улад і боязь, што справа беларускай незалежнасці можа стаць на сур’ёзны падмурак.

Заўважу, што кантакты паміж беларускімі сацыялістамі і нямецкай адміністрацыяй пачалі даваць плён, але ў вырашэнні сваёй галоўнай задачы, а менавіта ў справе прызнання незалежнасці БНР, Народны Сакратарыят і Рада не

---

1403 Тамсама, с. 189.

1404 Тамсама, с. 182

1405 Тамсама, с. 183–184.

прасунуліся ані на крок. Размовы Варонкі з Фалькенгайнам і Штапфам маглі цешыць амбіцыі першага, але яны ніяк не прыспешвалі справу незалежнасці.

Прыйшоў час не прасіць дапамогі, а рабіць усё, каб ператварыцца ў сур'ёзную палітычную сілу, шукаючы саюзнікаў ва ўсіх кірунках. Заява Язэпа Варонка наконт польскай інтэлігенцыі якраз не спрыяла такому пошуку, хоць рашэнні згаданага з'езду ПРМЗ дазвалялі спадзявацца, прынамсі, на часовы саюз з мясцовай польскай супольнасцю. Тым больш, што існавала «група Вайніловіча», якая таксама адстойвала ідэю незалежнасці. Але, відавочна, што саюз з ёй быў магчымы толькі пры ўмове фарміравання кабінета Скірмунта.

У першай палове чэрвеня тэма Беларусі голасна прагучала ў Маскве. Так, 10 чэрвеня ў памяшканні Цэнтральнага Выканаўчага камітэта Ўсерасійскага Савета сялянскіх дэпутатаў адбыўся мітынг, на якім заклікалі зрынуць «Раду Скирмунтов и Хржонстовских», а Беларусь зрабіць федэратыўнай часткай Савецкай Расіі, бо, як «самостоятельное государство Белоруссия немыслима»[1406].

13 чэрвеня гэты мітынг працягнуўся пры актыўным удзеле Беларускай секцыі Партыі левых эсэраў і, нарэшце, прыняў рэзалюцыю, якая заканчвалася заклікамі: «Долой насаждаемую германскими штыками «Белорусскую независимую Республику»! Долой Минскую буржуазную раду, продавшую Германии трудовой народ Белоруссии!»[1407] Між тым, 25 чэрвеня газета «Наше время» паведаміла пра прызначэнне Алеся Бурбіса беларускім консулам у Маскве. Відавочна, што прадстаўніка «Рады Скірмунтаў і Хжанстоўскіх» чакала там цяжкая праца[1408].

Раман Скірмунт вярнуўся ў Менск 26 чэрвеня. Пра гэта паведаміў «Беларускі шлях» (№ 77 за 28 чэрвеня): «Яг. Раман Скірмунт, катораму даручэно формаванне новаго беларускаго ураду, вярнууся 26 г. м. у Менск. Пасля паведамлення Народнаму Сэкрэтарыяту аб рэзультатах паездкі на Украіну, яг. Р. Скірмунт прыступіць да актыўнай чыннасьці, што да формавання ураду». Пазней таксама Язэп Варонка на старонках бюлетэня «Белорусская жизнь» (№ 9 за 29 чэрвеня) адзначыў, што пасля месячнай адсутнасці з Палесся (?!) вярнуўся Раман Скірмунт[1409]. Праўда, пры гэтым як дата прыезду фігуравала ўжо 27 чэрвеня.

Вечарам 28 чэрвеня адбылося 11-е пасяджэнне II сесіі Рады БНР. Перад ім сабралася Рада старэйшын, каб абмеркаваць праблему кворуму. Як высветлілася Раду пакінулі 26 чалавек, у выніку чаго засталося толькі 55 «сапраўдных сяброў». Было вырашана, што для правядзення пасяджэння дастатковая прысутнасць $^{1}/_{3}$ сяброў (18 чалавек)

На першым пасля месячнага перапынку пасяджэнні Рады прысутнічала каля

[1406] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 232.
[1407] Тамсама, арк. 233.
[1408] Тамсама, спр. 10, арк. 123; Тамсама. Ф. 4п, воп. 1, спр. 36, арк. 59.
[1409] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 191.

30 чалавек. Захавалася два варыянты справаздачы – «афіцыйная»[1410] і «прэсавая»[1411], якія адрозніваюцца. Аўтар першай з іх умясціў усё ў адну старонку тэксту, але пры гэтым здолеў перадаць тую напружаную атмасферу, у якой адбывалася шараговае пасяджэнне Рады. Паводле гэтай справаздачы, старшыня Рады Язэп Лёсік ужо пры разглядзе першага пытання парадку (праблема бежанцаў) быў вымушаны спыняць Тамаша Грыба, які «в своей несуразной речи, сопровождавшейся чтением очередной декларации, наносит ряд оскорблений Народному Секретариату и отдельным членам Рады, как-то: г.г. Смоличу, Воронко, Овсяннику, Скирмунту и др., что вызывает бурные протесты пленума Рады и необходимость принятия еще одного вопроса (об оскорблении Народнаго Секретариата)». Урэшце, склад «Бежанскай камісіі» быў сфарміраваны выключна з сяброў Сацыялістычнага блока. Эсэры і Цэнтр не прадставілі сваіх кандыдатаў, што зноў жа выклікала спрэчкі.

Пасля перапынку разглядалася пытанне пра заробкі сяброў Рады. І тут панавала напружаная атмасфера, бо на гэтыя заробкі пайшла «колоссальная сумма». Падчас разгляду гэтага пытання А. Уласаў, які вёў пасяджэнне, падазраючы адсутнасць кворуму, распачаў пераклічку радных, якая перарасла ў «шум і гвалт». Ізноў быў абвешчаны перапынак, пасля якога праект рашэння пра заробкі сяброў Рады быў прыняты адзінагалосна.

Наступным у парадку дня было пытанне пра міжнароднае становішча Беларусі. З дакладам павінен быў выступаць Варонка. Паводле «афіцыйнай» справаздачы, ён адмовіўся ад выступу, бо лічыў сябе зняважаным Т. Грыбам. Ізноў паўстаў шум і спрэчкі, якія скончыліся тым, што Прэзідыум Рады абвясціў пасяджэнне закончаным.

А вось у справаздачы для прэсы сцвярджалася, што разгляд пытання пра міжнароднае становішча, а таксама пра знявагу, нанесеную Т. Грыбам сябрам Народнага Сакратарыята, адбываўся «при закрытых дверях и потому оглашению не подлежат». Падобна, што апошняе не адпавядала рэчаіснасці, таксама як часта ёй не адпавядала іншая інфармацыя, якую Сакратарыят (Язэп Варонка?) рыхтаваў для прэсы.

Ужо гэтае пасяджэнне павінна было паказаць Раману Скірмунту наколькі складаным будзе фарміраванне кааліцыйнага кабінета. Магчыма, у гэты ці наступны дзень ён таксама сустракаўся з Эдмундам Івашкевічам, з якім падтрымліваў сяброўскія адносіны, і быў даволі шчырым у размовах. Апошні ў лісце да Абрамовіча за 29 чэрвеня прыгадаў сустрэчу са Скірмунтам, перадаў ягоную ацэнку сітуацыі ва Украіне і дадаў: «Тут у Менску сітуацыя сп. Рамана такая, што пра з’яднанне ўсіх беларускіх памяркоўных і левых элементаў няма размовы. Калі б гэта здарылася, то не толькі праца [ўрада] была б абцяжарана і абмежавана, але няўступлівыя і амбіцыйныя баламуты ўнеслі б раскол, што дыскрэдытавала б усю

[1410] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 18, арк. 11–11 адв.
[1411] Тамсама, спр. 8, арк. 81–81 адв.

ідэю. Ён рашуча настроены да паразумення з акупантамі, каб у выпадку нейкіх здарэнняў нейтралізаваць баламутаў»[1412].

Падобна, што ўжо ў першыя дні пасля вяртання ў Менск Скірмунт зразумеў, што ідэя кааліцыі з сацыялістамі з групы Варонкі згубіла ўсялякі сэнс. Усе перыпетыі змагання за кааліцыйны кабінет невядомыя. Як невядома і тое, у які момант Скірмунт адкінуў ідэю кааліцыі і пачаў фарміраванне «кабінета справы», грунтуючыся на *деловом принципе*.

Пра напал барацьбы сведчаць кароткія згадкі ў інфармацыйных паведамленнях Сакратарыята. Трэба адзначыць, што ў ацэнках падзей першай паловы ліпеня, якія прысутнічалі ў паведамленнях для прэсы або ў справаздачах пасяджэнняў Рады БНР (за подпісам «Вл. Ф-нъ»), адсутнічаў нават намёк на бесстароннасць. Яны рыхтаваліся Я. Варонкам або яго прыхільнікамі і былі прапагандысцкай зброяй у барацьбе за ўладу.

У паведамленні ад 14 ліпеня сцвярджалася: «Неделю спустя после приезда г. Скирмунта из Киева, так называемое Белорусское Минское представительство (для провокации оно почему-то называется Белорусский народный комитет) стало проявлять усиленную агитацию против Народнаго Секретариата 1-го состава, против всех фракций, образовавшихся из Рады 1-го Всебелорусского съезда и т. п. Особенное рвение в этой якобы порочащей высшие белорусские учреждения агитации проявили члены того же Представительства г. г. ксендз Годлевский, Аляксюк, Верниковский, Власов и друг.»[1413]

Крах ідэі кааліцыйнага ўрада прымусіў Рамана Скірмунта наогул адмовіцца ад яго фарміравання. Разам з ім пра адстаўку з пасады старшыні Рады БНР заявіў Язэп Лёсік. Аднак даволі хутка абодва забралі свае заявы назад і пачалі працаваць над фарміраваннем ўрада паводле згаданага *делового принципа*.

У выніку Варонку і Зайца ў новым урадзе павінны былі замяніць Павел Аляксюк (кіраўнік спраў) і Радаслаў Астроўскі (сакратар асветы). Апошні ўвесну 1917 г. быў камісарам Часовага ўрада ў Слуцкім пав., а з восені ўзначальваў Слуцкую беларускую гімназію. Старшынём Народнага Сакратарыята і сакратаром міжнародных спраў застаўся Раман Скірмунт, сакратаром унутраных спраў – К. Кандратовіч, а сакратаром фінансаў – С. Хжанстоўскі.

Менавіта персанальны склад новага Народнага Сакратарыята і стаў прычынай вострага палітычнага крызісу ў БНР. Адной з галоўных крыніц яго разумення з’яўляюцца справаздачы з 12-га пасяджэння Рады БНР, якое працягвалася з 9 па 11 ліпеня. Таксама важныя звесткі ўтрымлівае інфармацыя пра першы дзень пасяджэння, апублікаваная на старонках «Дзенніка Мінскага».

Пасяджэнне пачалося ўвечары 9 ліпеня ў былым Юбілейным доме, які, паводле аўтара справаздачы, быў напоўнены «публікай». Раніцай і ўдзень адбываліся схо-

[1412] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79 –31. Калекцыя Л. Абрамовіча, арк. 6–6 адв.

[1413] НАРБ.Ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 222–222 адв.

ды асноўных фракцый Рады. Прычым, Сацыялістычны блок Варонкі быў заклапочаны адсутнасцю шэрагу ягоных сяброў, а Цэнтр Скірмунта быў усхваляваны інфармацыяй пра намер эсэраў сарваць пасяджэнне.

Яно пачалося з абмеркавання парадку дня. Адразу ж выбухнула вострая спрэчка наконт пытання пра роспуск Рады на летнія канікулы. Галасаванне выявіла перавагу Цэнтра, які і быў ініцыятарам ягонага разгляду. Атмасфера яшчэ больш напалілася пры абмеркаванні пытання пра зацвярджэнне новых сяброў Рады. Праблема была ў тым, што Прэзідыум Рады самастойна прыняў чатырох новых сяброў ад мясцовых радаў (Радашковіцкай і Ратамскай) і ад хрысціянскіх дэмакратаў. («Дзеннік Мінскі» паведаміў пра пяцёх новых сяброў, прыгадаўшы яшчэ прадстаўніка Койданаўскай рады[1414]). Варонка заявіў пра незаконнасць дзеянняў Прэзідыума. Відавочна, што яго хвалявала магчымае павялічэнне колькасці прыхільнікаў Цэнтра. Аднак большасць сяброў Рады падтрымала рашэнне Прэзідыума.

Пасля гэтага Раман Скірмунт выступіў з праграмай (*Дэкларацыяй*) новага ўрада і прадставіў ягоных сяброў. Аўтар справаздачы не стаў пераказваць змест праграмы, адзначыўшы толькі, што яна не дае нічога новага (?!) і фактычна паўтарае праграму былога Народнага Сакратарыята з нешматлікімі выключэннямі па зямельным пытанні. Ён адразу перавёў увагу чытача на кадравы склад новага ўрада БНР.

Канспектыўны варыянт *Дэкларацыі* захаваўся ў матэрыялах архіва БНР у фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь[1415]. Гэта машынапіс, на якім стаіць штамп з пазнакай, што дадзены тэкст атрыманы 30 жніўня 1918 г. У больш шырокім варыянце ён быў апублікаваны на старонках «Дзенніка Мінскага» 11 ліпеня. Трэба адзначыць, што ягоная публікацыя была забаронена нямецкай цэнзурай. Пераказ гэтай Дэкларацыі ў польскім выданні і на польскай мове цэнзары, магчыма, не заўважылі.

Раман Скірмунт выступаў па-беларуску. Пра гэта, між іншым, сведчыць кароткая цытата з ягонай прамовы, якую выкарыстаў Змітрок Бядуля ў якасці эпіграфа для свайго артыкула ў «Беларускім шляху» (№ 88 за 13 ліпеня). Ён прывёў словы Скірмунта, якія тлумачылі стаўленне новага ўрада да нацыянальных супольнасцяў Беларусі: «Любіць свой народ, гэто ішчэ ні знача нінавідзець другіх».

Што лічыў галоўнымі задачамі Раман Скірмунт? Першым важным пытаннем, якое ён закрануў, было стаўленне да акупацыйнай адміністрацыі. Кіраўнік урада лічыў надзвычай важным устанаўленне шчыльнага кантакта беларускай дзяржаўнай улады з нямецкімі чыноўнікамі. Скірмунт прызнаваў, што ўсялякая акупацыя з'яўляецца цяжкім выпрабаваннем для акупаваных тэрыторый і іх насельніцтва, што акупацыйныя войскі заўсёды ўтрымліваюцца коштам

[1414] b/p. W *Radzie Białoruskiej,* «Dziennik Miński». 1918, Nr 143.
[1415] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 10, арк. 77–77 адв.

«багаццяў» мясцовых жыхароў і іх зямлі. Гэтага немагчыма пазбегнуць. Затое магчыма аблегчыць гэты цяжар шляхам ягонага раўнамернага размеркавання паміж усімі коламі грамадства. Палітык лічыў гэта абавязкам мясцовай улады і адной з найважнейшых задач урада.

Скірмунт ставіў задачу пераўтварэння Народнага Сакратарыята БНР у рэальную ўладу ў Беларусі, якая б кіравала ўсімі сферамі «дзяржаўна-грамадскага жыцця». Ён канстатаваў, што існуючыя органы ўлады да гэтага часу не маюць адзінага кіраўніка, на якога маглі б абаперціся. Народны Сакратарыят якраз і павінен стаць такім кіраўніком.

Першачарговай задачай у стасунках з суседзямі палітык лічыў усталяванне дзяржаўных межаў. Паводле Скірмунта, пра канкрэтны кшталт мяжы ўжо можна весці перамовы з палітыкамі на захадзе і поўдні, а вось на ўсходзе пытанне размежавання належыць будучыні. Пакуль невядома з кім на ўсходзе пра гэта размаўляць. Ён прадбачыў складанасці пры вызначэнні мяжы з Літвой на Віленшчыне, бо там цяжка вызначыць «дэмаркацыйную лінію» паводле этнаграфічнага прынцыпу. Затое вызначэнне мяжы з Польшчай і Украінай, як сцвярджаў карэспандэнт газеты, на думку Скірмунта, не будзе праблематычным, бо яму паспрыяе той самы этнаграфічны прынцып. Калі ж паўстануць праблемы з канфігурацыяй польска-беларускай мяжы, то іх можна будзе вырашыць шляхам галасавання саміх жыхароў спрэчных рэгіёнаў без папярэдняй агітацыі.

Што датычыць Украіны, то тут Раман Скірмунт наогул не бачыў праблемы. З уласнай паездкі ў Кіеў ён вынес перакананне, што паўднёвая суседка не мае вялікай зацікаўленасці ў далучаных да яе беларускіх паветах, а выкарыстанне этнаграфічнага прынцыпу дазволіць зрабіць мяжу дакладнай. Падобна, што ў апошнім выпадку дакладнасці не хапіла ўжо карэспандэнту «Дзенніка Мінскага». Раман Скірмунт выдатна разумеў складанасць вызначэння этнаграфічнай беларуска-ўкраінскай мяжы на Палессі і прапанаваў у гэтым выпадку выкарыстоўваць не этнаграфічны, а «гістарычны прынцып». Паездка ў Кіеў якраз павінна была пераканаць яго ў нежаданні ўкраінскага боку вяртаць далучаныя беларускія паветы. Дарэчы, у згаданым канспектыўным варыянце *Дэкларацыі* канкрэтна прапісвалася задача зрабіць дзяржаўнай паўднёвую мяжу Гарадзенскай і Менскай губ.

Фінансы беларускай дзяржавы павінны былі грунтавацца на «рацыянальнай сістэме дзяржаўнай эканомікі». Галоўнай крыніцай прыбытку станавіліся падаткі. Аднак у тагачаснай сітуацыі немагчыма было стварыць нармальную сістэму падаткаабкладання. Выйсце бачылася ва ўнутраным ці знешнім крэдыце. Пры гэтым падкрэслівалася, што Беларусь болей за іншыя рэгіёны пацярпела ад вайны і нават з лішкам выплаціла ваенную кантрыбуцыю.

У аграрнай сферы Скірмунт заяўляў пра адпаведнасць палітыкі ўрада «заходне-еўрапейскім тэорыям». Ён выказаўся супраць «рэвалюцыйна-радыкальных сродкаў» пры правядзенні аграрнай рэформы і абяцаў яе паступовае ажыццяў-

ленне. Вялізныя зямельныя ўладанні падлягалі парцэляцыі і добраахвотнаму продажу па цэнах, якія б адпавядалі рэальнаму кошту зямлі. У выключных выпадках, калі закраналіся інтарэсы беларускай дзяржавы і яе насельніцтва, дапускалася прымусовае адчужэнне.

Дзяржаўныя і г. зв. кабінетныя землі падлягалі парцэляцыі толькі тады, калі іх «эканамічная эксплуатацыя» сапраўды магла прынесці прыбытак. Лясы станавіліся ўласнасцю дзяржавы і пры рацыяльным характары лясной гаспадаркі павінны былі забяспечыць насельніцтва будаўнічым матэрыялам і палівам. Манастырскія, царкоўныя і касцельныя землі падлягалі парцэляцыі, калі траплялі ў катэгорыю «вялікіх». Прыходскія гаспадаркі заставаліся ў руках духавенства. Таксама прадугледжвалася стварэнне «парцэляцыйнага банку».

Сістэма юстыцыі павінна была грунтавацца на расійскім заканадаўстве, дапоўненым і дапрацаваным з улікам мясцовых асаблівасцяў. Дзеля кадыфікацыі права планавалася стварэнне адмысловай камісіі, якая б распрацавала праект судовай сістэмы з усімі інстанцыямі ўключна з касацыйным судом ці Сенатам. Мовай суда паступова павінна была стаць беларуская мова. Скірмунт адзначыў, што ўрадавым распараджэннем гэтую праблему не вырашыць. Важную ролю павінна адыграць «моцная, свядомая, з'яднаная беларуская інтэлігенцыя», якую, аднак, таксама трэба было выхоўваць.

У галіне асветы прадугледжвалася стварэнне сістэмы пачатковай і сярэдняй школы, а таксама адкрыццё ў Менску ўніверсітэта. Скірмунт прыгадаў згоду прафесароў-беларусаў з Кіева далучыцца да гэтай працы. Ён нават заявіў, што ўжо ўвосень гэты ўніверсітэт пачне сваю дзейнасць.

Галоўнай задачай міжнароднай дзейнасці Народнага Сакратарыята абвяшчалася дасягненне поўнай незалежнасці. Толькі пасля гэтага, сцвярджаў кіраўнік урада, можна весці размову пра пэўныя варыянты федэрацыі, якія магчымы толькі па прынцыпу «вольных з вольнымі і роўных з роўнымі». Ва ўмовах адсутнасці поўнага суверэнітэту за ідэяй федэрацыі можа хавацца «анексія з усімі яе наступствамі».

Тут варта таксама дадаць радок са згаданага канспектыўнага варыянта *Дэкларацыі*: «Дабівацца прызнання Беларускае дзержаунасьці у Дзержавау, выдзеліўшыхся з быушага Расійскага гасударства і ў Чэцьвертного Цэнтрального хауруса, а так сама у заключыушых з імі мір і у нэйтральных»[1416].

Напрыканцы пераказу праграмы новага ўрада БНР карэспандэнт «Дзенніка Мінскага» звярнуў увагу на стаўленне Народнага Сакратарыята да іншых народаў Беларусі. Раман Скірмунт заявіў пра роўнасць праў і супрацоўніцва з тымі народамі, якія «шчыра і адкрыта прызнаюць беларускую дзяржаўнасць і права беларускай нацыі быць гаспадаром у гэтым Краі». Ён адзначыў вялікую грамадскую ролю, якую адыгрываюць іншыя народы, і выказаў спадзеў, што «поль-

[1416] Тамсама, арк. 77.

ская інтэлігенцыя, дасведчаны слой расійскіх чыноўнікаў і актыўны гандлёвы габрэйскі элемент акажуць вялізныя паслугі беларускай справе». Кіраўнік урада меў надзею, што супольная праца ўсіх народаў будзе мець добрыя вынікі.

*ДАКУМЕНТ*

**Дэклярацыя новага беларускага кабінету (пана Р. Скірмунта)**[1417]

*1. Падтрыманне правільных адносін з акупацыйнай Уладай і праца з імі у поуным кантакце.*

*2. Стварэнне з Народнага Сэкрэтарыяту Цэнтральнай Улады, каля якой павінны згрупавацца усе істнуючыя і наново створэныя установы, а так сама земствы і гарады.*

*3. Кантроль за працай земствау і гарадоу у межах закону.*

*4. Вазабнауленне працы почты і тэлеграфу.*

*ЗАГРАНІЧНАЯ СПРАВА*

*5. Дабівацца прызнання Беларускай Дзержаунасьці у Дзержавау, выдзеліушыхся з быушаго Расійскаго Гасударства і у Чэцьвертного цэнтрального хауруса, а так сама заключыушых з імі мір і у нэйтральных.*

*6. Устаноуленне прыязных адносін з суседзямі і правільнае з імі разгранічэнне. У першы чарод з Украінай, ад якой дабівацца прызнання ісходнымі граніцамі – паудневую мяжу быушай Гродзенскай і Менскай губ., б) разгранічэнне з Літвой у Віленшчыне; в) разгранічэнне з Польшчай і Расіяй па этнаграфічнаму прынцыпу.*

*ФІНАНСЫ*

*7. Старанне аб заключэнні займау, якія бы далі магчымасьць нясьці самыя неадложныя дзержауныя выдаткі (займы унутрэныя і заграінічныя).*

*8. Выпуск уласных грошау, як скора будзе прызнана дзержаунасьць.*

*9. Стварэнне зямельно-парцэляціоннага банка, які бы меў права скупляць усю зямлю, назначэную дзеля парцэляцыі сялянскаму земляробнаму люду.*

*10. Старанне аб звароце ў Менск усіх эвакуіраваных Дзержауных банкавых і фінансавых установау.*

*ЗЯМЕЛЬНАЯ СПРАВА*

*11. Апрацаванне зямельнага права, якое задовольніло бы селянскаго земляробнаго люду і павялічыло бы адказна площадь его землевластвовання спосабам добравольнаго выкупу, а гдзе трэба і прынуковага отчужденія зямлі у вялікіх уласьнікау.*

*12. Урадовы кантроль дзеля недапушчэння спекулятыунай прадажы зямлі.*

*ЮСТЫЦЫЯ*

*13. Устаноуленне усіх інстытуцыі Беларускаго Дзержаунаго Суда – ад ніжэйшых да вышэйшых – касацыонных.*

---

1417 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 10, арк. 77–77 адв.

*14. Выбарка прау (нормау) з Расійскага Свода законау і папауненне іх законамі, адказнымі духу і быту беларускага народу.*

*ПРАСЬВЕТА*

*15. Устанауленне у Менску Беларускаго унівэрсытэту.*

*16. Умацаванне Беларускай пачатковай і сярэдняй школы па усяму краю.*

*17. Зварот на Беларусь усіх беларускіх школау і семінарыяу, эвакуіраваных з Беларусі.*

*18. Падтрыманне беларускай нацыанальнай культуры праз Выдавецтва Беларускіх навуковых падручнікау і шырокае развіцце усяго беларускага літэратурнаго выдавецтва і тэатральнаго і інш. штукарства.*

*ТАРГОУЛЯ*

*19. Устаноўленне і падтрыманне тавараабмену з саседнімі дзержавамі. Канцэнтрацыя гэтай справы у Сэкрэтарыяце.*

*20. Арганізацыя звароту уцекачоу з Украіны і Расіі.*

*21. У дзержауных справах Сэкрэтарыят трымаецца самостойнаго кірунку, лічучы пытанне аб федэрацыі, паскольки яна будзе патрэбная і карысная Беларускай Народнай Рэспублікі, пытаннем будучыні і Бел[арускаго] Устаноуч[аго] Сходу.*

*22. Урадовай мовай Беларускай Дзержавы мусіць быць мова Беларуская, але поунае яе увядзенне ва усе Урадовыя Установы павінна адбывацца паступова.*

*23. Беларускі народ з'яўляецца прававым гаспадаром свайго краю. Права другіх народаў да супольнаго грамадзкаго жыцця павінна быць прызнана і учасце у дзержаунай працы іх прэдстаунікоу пажадана, паскольві яны шчыра і яуна стаяць на грунце Беларускай Дзержаунасьці.*

*24. Дзеля апрацавання сложных пытанняу Дзержаунага значэння будуць скліканыя сходы (Камісыі) у складзе, забеспечваюшчым нацыанальна-дзержауныя інтэрэсы Беларусі і тэхнічна правільную пастаноуку справы.*

*25. Гэрбам Беларускай Дзержавы прызнаецца «ПАГОНЯ» (вылучана аўтарам. – А. С.)***.**

Калі лічыць Устаўную грамату за 9 сакавіка першай праграмай Народнага Сакратарыята, то Раман Скірмунт прапанаваў другую па ліку праграму, якая ў адрозненне ад першай грунтавалася на аналізе становішча Беларусі і была рэальнай праграмай дзеянняў, а не рэвалюцыйнай дэкларацыяй аб намерах. І таксама хочацца адзначыць, што менавіта гэтая *Дэклярацыя* замацавала існаванне «Пагоні» як дзяржаўнага сімвала Беларусі.

У афіцыйнай справаздачы адзначалася, што выступ Рамана Скірмунта прывіталі апладысментамі Цэнтр і частка сяброў Сацыялістычнага блока. Эсэры ды іншая частка Блока маўчалі. Потым быў абвешчаны перапынак, падчас якога

ў кулуарах працягвалася абмеркаванне праграмы і складу кабінета, які выклікаў найвялікшыя спрэчкі.

Пасля перапынку дыскусію распачаў Варонка. Ён пагадзіўся з праграмай новага ўрада, але вельмі крытычна выказаўся пра ягоны склад. Прычым найбольшую небяспеку для беларускай справы, на яго думку, неслі «новопомалеванные под белорусский цвет люди. Отсутствие польских легионов и крах польской политики заставил их «записаться» в белорусы». Напрыканцы выступоўца выказаў давер толькі Раману Скірмунту і пажадаў... «гібелі» новаму ўраду: «Ближайшие дни покажут, чего стоит новый кабинет, но для нас не должно быть страшно ничего, если новый Кабинет свою гибель предпочтет гибели независимости и государственности Белоруссии»[1418]. (Заўважу, што аўтар справаздач рэгулярна шырока цытаваў Варонку ў адрозненне ад іншых удзельнікаў пасяджэння, прамовы якіх звычайна пераказваліся адным сказам).

Потым на трыбуну выйшаў Тамаш Грыб з рэзкай крытыкай праграмы і заявай пра небяспеку паланафільства. Як заўсёды, ён нічым не стрымліваў уласнае красамоўства, і старшыня пасяджэння Я. Лёсік быў вымушаны яго перапыняць. Карэспандэнт «Дзенніка Мінскага» звярнуў увагу менавіта на гэты выступ і заўважыў: «Калі б не сцвярджэнне самога прамоўцы, што ён сацыяліст, цяжка было б зразумець ягоную партыйную прыналежнасць. Шавінізм і нацыянальная нянавісць, з аднаго боку, і знішчальна-радыкальны погляд на сацыяльныя праблемы, з другога, выявілі сутнасць прамоўцы»[1419].

Паводле справаздачы, у падтрымку праграмы і складу новага Народнага Сакратарыята выказаліся ад Сацыялістычнага блока Лявон Заяц і Макар Касцевіч, ад Цэнтра – Вінцэнт Гадлеўскі[1420].

Шляхам тайнага галасавання праграма і склад новага ўрада былі зацверджаны Радай БНР. «За» прагаласавала 22 сябра Рады, «супраць» – 8, «устрымаліся» – 6. Перамога Скірмунта была відавочнай, хоць аўтар справаздачы пастараўся яе зменшыць, прыгадаўшы адсутнасць 10 сяброў Сацыялістычнага блока і партыі эсэраў. Але нават іх прысутнасць і галасаванне «супраць» не змянілі б вынікаў пасяджэння. Тым не менш, наўрад ці Скірмунт і Цэнтр святкавалі перамогу. Было відавочна, што новы ўрад чакае вялізная праца.

Наступны дзень пачынаўся пасяджэннем «старога» Народнага Сакратарыята, на якім вырашылі прапанаваць Радзе разглядзець пытанне пра дэлегацыю ў Берлін у складзе Рамана Скірмунта, Язэпа Варонкі, Антона Аўсяніка, Аляксандра Уласава і Антона Луцкевіча[1421]. Здавалася, што нягледзячы на ўсе спрэчкі, захава-

[1418] Тамсама, спр. 8, арк. 83.

[1419] b/p. W *Radzie Białoruskiej,* «Dziennik Miński». 1918, Nr 143.

[1420] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 84.

[1421] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 204

ецца адзінства беларускага руху, працягнецца сумесная праца, і ўрад Скірмунта распачне дзейнасць.

Аднак у гэты ж дзень адбыліся падзеі, якія выклікалі рэзкае абвастрэнне палітычнай барацьбы. Галоўнай прычынай сталася публічная змена стаўлення акупацыйнай улады да Рамана Скірмунта і ягонага ўрада.

Ксёндз Гадлеўскі ў сваёй аўтабіяграфіі пісаў, што на наступны дзень пасля ўваходжання МБП у склад Рады БНР (?!) «нямецкая обер-каманда ў Менску прыслала Скірмунту паперу, у якой пісалася, што ніхай Скірмунт не забываецца, што ў краі нямецкая ўлада, і што іншай улады быць не можа...»[1422] Беларускі дзеяч, прыгадваючы гэтую «паперу», памыліўся ў храналогіі падзей. Насамрэч, нямецкая «вымова» прагучала на наступны дзень пасля зацвярджэння складу скірмунтаўскага ўрада БНР.

Пра гэта таксама пісаў Эдмунд Івашкевіч у аналітычнай запісцы «Беларускія справы ў сучасны момант»[1423], адрасаванай Абрамовічу. Паводле Івашкевіча, начальнік штаба 10 арміі генерал фон Штапф быў загадзя праінфармаваны Скірмунтам наконт фарміравання новага ўрада і пазітыўна ацаніў гэтыя перамены. Аднак 10 ліпеня пазіцыя нямецкай адміністрацыі раптоўна змянілася. Цэнзура забараніла друкаваць праграму, а генерал Фалькенгайн даслаў ліст на імя Рамана Скірмунта, у якім заявіў, што ўлада застаецца выключна ў руках акупацыйнай адміністрацыі і войска, якія не пацерпяць з'яўлення іншых органаў улады. Прычым ліст быў адрасаваны не кіраўніку ўрада, а «землеўласніку пану Скірмунту». Ягоны змест варта прывесці цалкам.

*ДАКУМЕНТ*

**Ліст генерала Фалькенгайна да Рамана Скірмунта ад 10 ліпеня 1918 г.**[1424]

*An Gutsbesitzer Herrn v. Skirmunt. Minsk*

*Es ist hier bekannt geworden, dass am 9 ds. Mts., eine Sitzung stattfand, in der eine «Regierungserklärung» der «weissruthenischen Volskrepublik» über grundlegende Fragen der Politik und Verwaltung in dem von der 10 Armee besetzten Gebiet abgegeben wurde.*

*Der Standpunkt des Armee-Oberkommandos in diesen Fragen ist seinerzeit durch das Generalkommando des III Res.-Korps den Unternzeichnern der Adresse vom 26,4 mitgeteilt worden. Eine Aenderung der Lage ist nicht eingetreten. Es kann daher nicht zugegeben worden, dass neben den anerkannten Verwaltungsbehörden und den militärischen*

---

1422 З *жыцця і дзейнасці кс. В. Гадлеўскага: Аўтабіяграфічны нарыс*, «Гарадзенскія запісы». 1993, с. 127.

1423 БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–775. Калекцыя Л. Абрамовіча. [E. Iwaszkiewicz], *Sprawy białoruskie w chwili dzisiejszej,* k. 1–2.

1424 AAN. Sygn. 473, k. 43. Хачу выказаць шчырую ўдзячнасць нямецкай даследчыцы Дыяне Зіберт (Diana Siebert) за дапамогу ў пошуку гэтага ліста.

*Aufsichtsorganen eine weitere Organisation in Erscheinung tritt, die eine Ausübung von Hoheitsprechen und Verwaltungsbefugnissen für sich in Anspruch nimmt.*

*Der Veröffentlichung von Berichten ŭber die Sitzung in den Zeitungen des besetzen Gebietes darf nicht erfolgen.*

*Der Oberbefehlshaber*
*General der Infanterie Erich von Falkenhayn*

*Пераклад:*

*Да землеўласніка пана Скірмунта. Мінск*

*Нам стала вядома, што 9 дня гэтага месяца адбылося пасяджэнне, на якім была абвешчана «Дэкларацыя ўрада» «Беларускай Народнай Рэспублікі», датычная асноўных пытанняў палітыкі і кіравання на тэрыторыі, занятай 10-й арміяй.*

*Пазіцыя вышэйшага вайсковага камандавання ў гэтых пытаннях у свой час была даведзена праз Вярхоўнае камандаванне III корпуса падпісантам звароту ад 26. 04. Сітуацыя не змянілася. Адпаведна, не дапушчальна, каб побач з прызнанымі адміністрацыйнымі ўладамі і вайсковымі органамі нагляду існавала іншая арганізацыя, якая валодае вышэйшымі правамі і адміністрацыйнымі паўнамоцтвамі.*

*Размяшчэнне інфармацыі пра згаданае пасяджэнне ў газэтах акупаванай тэрыторыі не дазваляецца.*

*Камандуючы*
*генерал інфантэрыі Эрых фон Фалькенгайн*

Рэакцыя Рамана Скірмунта была прадказальнай. Ён заявіў, што сыходзіць у адстаўку і не будзе мець дачынення да палітыкі. Генерал Фалькенгайн адразу ж выказаў шкадаванне і патлумачыў, што ягоны ліст быў толькі «страхоўкай» на выпадак прэтэнзій з боку Расіі. Скірмунт прыняў тлумачэнне нямецкага генерала і застаўся на чале ўрада.

Э. Івашкевіч, пагаджаючыся з тым, што «расійскі фактар», сапраўды, мог быць вырашальным у гэтай сітуацыі, усё ж адзначыў, што раней усе «дзяржаўніцкія прэтэнзіі» беларускага ўрада, якім кіравалі малавядомыя і менш адказныя асобы ніколі не сустракалі такой адкрытай непрыхільнасці з боку нямецкіх улад[1425]. Падобна, што яны, насамрэч, не жадалі мець справу з моцным і ўплывовым беларускім урадам.

Відавочна, што пра змест гэтага ліста даведаліся праціўнікі кабінета Скірмунта, і гэта падштурхнула іх да больш актыўных дзеянняў. Вечарам 10 ліпеня, калі аднавілася 12-е пасяджэнне Рады БНР, Варонка перайшоў у наступ. Ён заявіў, што новыя народныя сакратары, якія не з'яўляліся сябрамі Рады БНР не павінны

---

[1425] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–775. Калекцыя Л. Абрамовіча. [E. Iwaszkiewicz], *Sprawy białoruskie w chwili dzisiejszej,* k. 1.

мець права вырашальнага голасу на яе пасяджэннях. Гэтая заява датычыла С. Хжанстоўскага і Р. Астроўскага.

Прапанова, як заўважыў аўтар справаздачы, «вопреки ожиданиям» была пастаўлена Прэзідыумам Рады на абмеркаванне. Ізноў выбухнула гарачая дыскусія, бо Скірмунт не мог дапусціць дыскрымінацыі амаль паловы свайго ўрада. Аднак у гэтым выпадку перамогу была на іншым баку. Ізноў у паветры павеяла пераменамі. Падчас перапынку з'явіліся чуткі, што кіраўнік урада сыходзіць у адстаўку. Пра гэта нават публічна заявіў Гадлеўскі, але Скірмунт абвергнуў ягоныя словы.

Пасяджэнне аднавілася, і гаворка зайшла пра працу камісій Рады БНР. Язэп Варонка паведаміў пра дзейнасць існуючых камісій і планы стварэння новых. Раман Скірмунт заявіў, што камісіі насамрэч не працавалі і прапанаваў распусціць Раду разам з камісіямі на «летнія канікулы» да 1 верасня. Яго падтрымалі Гадлеўскі і Касцевіч. Супраць выказаўся Іван Серада, які настойваў на працягу працы Бежанскай камісіі.

З рэзкай крытыкай прапановы Скірмунта як несваечасовай выступіў Язэп Варонка. Варта ўслед за аўтарам справаздачы прывесці цытаты з ягонай прамовы: «Вы, паны, отдохнули по своим «маёнткам». Пора стать к работе… Мы полтора года не отдыхали, работая в голоде и холоде для нашей дорогой родины, и даже теперь, видя Вас упитанными и сытыми, не желаем отдыхать, а желаем работать до последних наших сил. Для нас белорусское дело – это наша жизнь. Личной жизни у нас нет. Нам не надо довольства»[1426].

Варонка цалкам забыўся пра папярэджанне, якое ў лісце да яго 7 красавіка выказаў А. Луцкевіч, калі пісаў, што «далейшыя яркія сацыяльныя выступленьні могуць Вам прыдбаць папулярнасьць у народных масах, але разам з тым могуць разбіць наша дзяржаўнае будаўніцтва і вярнуць нас у межы Расійскай дзяржавы»[1427].

Дыскусія паступова ператварылася ў скандал, адным з «герояў» якога зноў быў Тамаш Грыб, і Язэп Лёсік наогул закрыў пасяджэнне. Аўтар справаздачы адзначыў «напряжённую атмасферу» і сцвярджаў, што прысутная публіка авацыяй вітала левую частку Рады.

Вечаровае пасяджэнне 11 ліпеня, якое Прэзідыум Рады БНР назваў у сваіх абвестках надзвычайным, пачалося з пратэсту Варонкі. На гэты раз ён пратэставаў супраць склікання пасяджэння як «надзвычайнага» і супраць роспуску Рады БНР на «канікулы». Лідэр Сацыялістычнага блока сцвярджаў, што Прэзідыум Рады парушае рэгламент яе працы і ранейшыя пастановы. Наступныя выступоўцы Л. Заяц, М. Касцевіч і В. Гадлеўскі не пагадзіліся з аргументамі Я. Варонкі. Урэшце вядоўца Лёсік спыніў дыскусію і працягнуў працу Рады. На галасаванне былі пастаўлены прапановы ад Сацыялістычнага блока стварыць пяць новых камісій

---

[1426] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 85–87.

[1427] Цытата па: А. Сідарэвіч, *Урады БНР і кабінэт Рамана Скірмунта*, «Arche-пачатак». 2008, № 4, с. 111.

Рады БНР (юрыдычную, мандатную, міжнародную, бежанскую і па выбарах ва Устаноўчы сход), ад Цэнтра – перадаць ураду права фарміравання камісій, ад эсэраў – стварыць сем новых камісій.

Галасаванне засведчыла перавагу Цэнтра. Большасцю галасоў (22 супраць 16) былі адхіленыя ўсе камісіі. У знак пратэсту сябры Сацыялістычнага блока і эсэры пакінулі залу пасяджэнняў, у якой засталіся толькі прадстаўнікі Цэнтра. Зрэшты, іх колькасці было дастаткова для працягу пасяджэння. Апошнім прынятым рашэннем быў роспуск Рады на «канікулы» да 15 верасня.

Варта працытаваць апошнія абзацы з афіцыйнай справаздачы за 11 ліпеня: «Публика, покидая хоры, протестует против насилия, совершенного фальсифицированным случайным большинством над истинными представителями народа, награждая Минское представительство эпитетами: «поляки!», «иезуиты!», «насильники» и проч. […] Но в воздухе остается что-то зловещее, пока неясное и таинственное…»[1428]

Прыхільнікі Скірмунта зноў перамаглі, але і гэты поспех не быў канчатковым. Апазіцыя, у якой апынулася большасць сяброў Сацыялістычнага блока і эсэры, умацавалася і не збіралася выконваць прынятыя рашэнні.

У Архіве БНР захаваліся недатаваныя, г. зв. «Дадатковыя патрабаванні сацыялістычных фракцыяў Рады І Усебеларускага з'езду» адносна пагаднення з МБП наконт складу новага ўрада[1429]. Так, дзеля пачатку перамоў сацыялісты патрабавалі склікання Рады БНР. Пры гэтым адзначалася, што тэрмін пасяджэння і спосаб збору сяброў Рады будуць вызначаць сацыялістычныя фракцыі Рады. Яны таксама патрабавалі адстаўкі Прэзідыума Рады і адмены пастановы пра кааптацыю чатырох новых сяброў, якая была зацверджана 9 ліпеня. Яны ж намерваліся вярнуцца да абмеркавання пытання пра выбары чатырох камісій Рады БНР (юрыдычнай, мандатнай, бежанскай і па выбарах ва Устаноўчы сход) і да разгляду запытаў пра павялічэнне складу Народнага Сакратарыята да 9 чалавек і знаходжанне ў ім Хжанстоўскага, Алексюка і Астроўскага. Фактычна гэта быў ультыматум, прыняцце якога азначала паразу канцэпцыі кабінета Скірмунта. Ультыматум быў адхілены.

12 ліпеня на старонках «Беларускага шляху» з'явілася інфармацыя, што новы ўрад уступіў у выкананне сваіх абавязкаў[1430]. Ягонай сядзібай стаў Юбілейны дом па вул. Захар'еўскай. «Беларускі шлях» таксама змясціў абвестку канцылярыі новага беларускага ўрада, якая запрашала «ўсіх чыноунікау, ні маючых заняцця, а таксама другіх асоб інтылігентных прафэсый, радзіушыхся на Беларусі» зарэгістравацца ў канцылярыі. Таксама паведамлялася, што старшыня Сакратарыята прымае наведвальнікаў штодня ад 12 да 13.30 на другім паверсе Юбілейнага дома[1431].

---

[1428] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 96–98.

[1429] Тамсама, спр. 21, арк. 251.

[1430] «Беларускі шлях». 1918, № 91.

[1431] Тамсама.

Відавочна, што ўрад Скірмунта, грунтуючыся на рашэнні Рады БНР, сапраўды спрабаваў распачаць выкананне ўласных абавязкаў, а г. зн., што таксама адбываліся пасяджэнні новага Народнага Сакратарыята. На жаль, не захаваліся пратаколы гэтых пасяджэнняў. Затое атрымалася знайсці ўспаміны аднаго з іх удзельнікаў. Ужо ва ўмовах нямецкай акупацыі Другой сусветнай вайны на старонках «Менскай газеты» (1941, № 15) з'явілася кароткая нататка пад назвай «1918 год у Менску». Яе аўтар, які схаваўся пад крыптанімам К (Ф. Кушаль?), прыгадаў час, калі прэм'ер-міністрам і міністрам замежных спраў быў Раман Скірмунт: «Прадстаўнік старога беларускага арыстакратычнага роду быў шчырым беларусам, меў вялікія дыплёматычныя здольнасьці і быў нязвычна разумным чалавекам». Ён сцвярджаў, што менавіта дзякуючы Скірмунту, БНР наладзіла дыпламатычныя кантакты з тымі дзяржавамі, якія «ня трымаліся па нявольніцку мысьлі адбудовы аднэй вялікай Расеі». Аўтар прызнаваўся, што некалькі разоў быў на паседжанні «Рады міністраў» і яму заўсёды імпанаваў Скірмунт сваймі прамовамі.

Аднак выконваць свае абавязкі новы ўрад не меў магчымасці. 12 ліпеня «стары» Народны Сакратарыят абвясціў сябе «Часовым урадам БНР» і прыняў Пастанову № 1. Гэты дакумент абвяшчаў «несапраўднымі» для Беларусі ўсе дэкрэты ўрада Леніна і распараджэнні камісараў Заходняй вобласці і фронту, дазваляў карыстацца законамі былога Часовага ўрада Расійскай рэспублікі, а таксама «актамі» Часовага ўрада Беларусі. Найбольш важным быў апошні трэці пункт пастановы: «Единственным представительным и верховным органом Белорусской Народной Республики считать Народный Секретариат, избранный Радай 1-го Всебелорусского Съезда»[1432]. Відавочна, дзеля гэтага пункта быў складзены ўвесь дакумент.

У той самы дзень, 12 ліпеня таксама быў распаўсюджаны Універсал Рады I Усебеларускага з'езда, адрасаваны «народу беларускаму і ўсім народам, Беларусь насяляючым»[1433]. Ад імя Рады Усебеларускага з'езда сцвярджалася, што «11-га гэтага ліпеня зроблен гвалт над праўдзівым выразіцелям многапакутнага беларускага народу. Тая группа дзеячоў, каторая была далучэна Радай Рэспублікі ў свой склад пад названням Беларускага Менскага прэдстаўніцтва, сусім ні апіраючыся ні на якія грамадзянскія групы, карыстаючы выпадковай лічбеннай пэрэвагай сваіх сілаў на сходзі, дзеля раз'езду сяброў Рады I-га Ўсебеларускаго конгрэсу, зацьвердзіла, на першых, новый кабінэт Народнаго Сэкрэтарыяту з ясна польскім элементам; па другая, знішчыўшы першыя пастановы Рады, распусьціла Раду да 15-га верэсьня 1918 году, ні заставіўшы на мейсцы ні якага органа, Раду заменяючага, пірадаўшы ўсе будауніцтва Беларускай дзержаунасьці безатказным асобам, у складзі, каторых знаходзюцца элемэнты апасныя для маладой Беларускай Дзержавы».

Далей аўтары Універсала сцвярджалі небяспеку, якая паходзіць ад «польскага элемента», што нібыта імкнецца працягваць палітыку каланізацыі і паланізацыі

[1432] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 228.
[1433] Тамсама, спр. 15, арк. 49–50; спр. 21, арк. 226–227.

беларускага народу. Пасля рэверансаў у бок нямецкай адміністрацыі абвяшчаліся «ні істнуючымі і ні маючымі ні якай сілы» рашэнні Рады БНР ад 9–11 ліпеня. Апрача таго, сябры МБП выключаліся са складу Рады БНР.

Універсал абяцаў «з згоды і дапамогі германскіх окупацыйных уладаў» папоўніць Раду БНР прадстаўнікамі губернскіх і павятовых радаў, гарадоў, земстваў, саюзаў землеўласнікаў і склікаць яе ў новым складзе 5 жніўня ў Менску. Напрыканцы заяўлялася, што «праца 1-га складу Народнаго Сэкрэтарыяту ні павінна спыняцца ні на адну гадзіну». Такім чынам, Варонка і Сацыялістычны блок вярнуліся да раней апрабаваных «рэвалюцыйных» сродкаў вядзення палітычнай барацьбы, якія былі падтрыманы... нямецкай адміністрацыяй.

Як прыгадваў пазней на старонках «Дзянніцы» (за 7 лістапада 1918 г.) Жылуновіч, эсэры «не давалі вольна дыхнуць сваім ворагам [на чале] з кіраўніком Скірмунтам, каб сапхнуць [яго] з пасады старшыні кабінету беларускіх міністраў. Чаго-чаго яны ні рабілі! Крычалі на засяданнях Рады, стукалі кулакамі па сталу, ахвяравалі сябе на арышт, грозячы ім ад Скірмунта. А за спіною Рады нават строілі згаворы з губернскімі і павятовымі земствамі, у якіх усе члены варожа глядзяць не толькі на нацыянальнае пытанне, пастаўленае ў парадку другіх важных пытанняў расейскаю рэвалюцыяй, але [выступаюць] і супраць сацыяльна-палітычнага [пытання]»[1434]. Станіслаў Рудовіч заўважыў, што ў адносінах да ўрада Рамана Скірмунта левыя фактычна паразумеліся з вялікарускімі шавіністамі на чале з менскім архіерэям[1435].

Нянавісць кіраўнікоў беларускіх эсэраў да Рамана Скірмунта не мінула з гадамі. Так, Тамаш Грыб, выступаючы на сходзе замежнай групы БПСР з нагоды трэцяй гадавіны абвяшчэння незалежнасці БНР 25 красавіка 1921 г., ахарактарызаваў МБП як «лоука прыдуманую панам Скірмунтам авантуру, каб [...] сьпекульнуць на ідэі беларускага адраджэнскага руху», заяўляў пра намер палітыка стаць «беларускім вельможным панам Скоропадзкім», сцвярджаў вядзенне «тайных «дыплёматычных» перагавораў пана Скірмунта з кайзароускім гэнэралам Фанкельгэйнам» ды інш.[1436]

Народны Сакратарыят Варонкі ў змаганні з новым урадам актыўна выкарыстоўваў магчымасці друку. Справаздачы з пасяджэнняў Рады БНР, розныя інфармацыйныя паведамленні, «Белорусская жизнь», *Хроника для газет*, якія рыхтавался пры актыўным удзеле Варонкі, сцвярджалі ўяўную незаконнасць перамен і былі напоўнены нападкамі на МБП, на ягоных сяброў, у т. л. з блізкага атачэння Скірмунта, а таксама абвінавачваннямі ў паланафільстве, нацыянальнай здрадзе і г. д.

Гэтыя абвінавачванні траплялі на спрыяльную глебу. Сцяпан Некрашэвіч,

---

[1434] Цытата па: С. Рудовіч, «…*Беларускі дзеяч з вялікіх паноў*», с. 54–55.
[1435] Тамсама, с. 55.
[1436] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 2, с. 1098–1110

спрабуючы зразумець прычыны непапулярнасці Скірмунта, звярнуў увагу на настроі беларускай грамадскасці. «Дело в том, – пісаў ён, – что Скирмунт, крупнейший помещик и католик, сам является для многих неразгаданным сфинксом; выставляемые же им кандидаты на посты народных секретарей в большинстве своем являются лицами, с очень сомнительной национальной окраской. Между тем, в настоящее время, когда строительство белорусской государственности еще находится в стадии своего развития, во главе государства безусловно должны стоять лица, далекие от всякого подозрения в их преданности интересам нации. Вот почему буржуазно-деловой кабинет, выдвигаемый г. Скирмунтом, неизбежно будет провален, так как этот кабинет не может отразить национальных чаяний большинства членов Рады...»[1437]

Цікава, што пры гэтым непасрэдныя нападкі на Рамана Скірмунта на старонках выданняў «старога» Народнага Сакратарыята адсутнічалі. Магчыма, ягоная постаць нават у сітуацыі канфлікту ўсё яшчэ выклікала павагу ў палітычнага праціўніка.

Прапагандысцкая акцыя Сацыялістычнага блока таксама была разлічана на нямецкія ўлады, якія вельмі насцярожана ставіліся да палітычнай актыўнасці польскай супольнасці на акупаваных тэрыторыях. Актыўны розыгрыш «польскай карты» праціўнікамі кабінета Скірмунта таксама мог паўплываць на адносіны да яго нямецкай адміністрацыі. Берлін не жадаў мець суседкай моцную Польшчу.

Як адказваў на гэтыя публічныя нападкі новы ўрад і Прэзідыум Рады БНР? Нагадаю, што яны маглі карыстацца газетамі «Беларускі шлях» (рэдактар А. Прушынскі) і «Вольная Беларусь» (рэдактар Я. Лёсік).

10 ліпеня 1918 г. у рэдакцыйным артыкуле «Беларускага шляху» (№ 86) пад назвай «Атэстат спеласьці» высока ацэньвалася дзейнасць Народнага Сакратарыята. У апублікаванай побач кароткай нататцы «Габінэт Р. Скірмунта» пералічваліся галоўныя задачы, якія стаялі перад ім. Сцвярджалася неабходнасць «уцьвярдзіць міжнароднае становішчо Беларускай Дзержавы, злучыць у адно цэлае нішчасную нашую Бацькаушчыну, збурэную вайной і парваную на 4 часьці». Таксама адзначалася, што «трэба падняць аўторытэтнасьць беларускаго міністэрства, сабраць усе жывые сілы не толькі беларусоу, але усіх грамадзян нашай зямлі, каб зрабіць мудрае устройство і арганізаваць краевую гаспадарку, каб формы жыцця памагалі высокаму росквіту культуры усяго краю і беларускай нацыянальнай ідэі. Трэба прыгатаваць з помаччу спэцыялістау праэкты усіх законау і глаунаго – зямельнай рэальнай эурапейскай рэформы». Напрыканцы аўтар гэтай нататкі выказваў упэўненасць, што новаму ўраду будуць шчыра дапамагаць усе беларусы. Відавочна, што ўсё гэта пісалася ўвечары 9 ліпеня, калі барацьба вакол новага ўрада толькі распачыналася.

11 ліпеня «Беларускі шлях» (№ 87) апублікаваў артыкул Уласава «Зямля блізка»,

---

[1437] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 237.

у якім адзначалася, што Рада БНР большасцю галасоў прыняла праграму ўрада Скірмунта. Пры гэтым А. Уласаў не скупіўся на кампліменты ў адрас найбольш левай часткі Рады (партыі эсэраў), якая падчас дыскусіі «не зыйшла з дзержаунаго беларускаго пачуцця». Ён сцвярджаў, што палітычныя перамены значна наблізілі вырашэнне зямельнага пытання і высока ацэньваў паразуменне з Беларускай сацыялістычнай грамадой, дасягнутае на пасяджэнні Рады: «Гэта есьць шчасьце Беларусі – мудрасьць яе Рады. Учора зямля падсунулася к беларускаму цярпліваму і традыцыйна-культурнаму земляробу саусім блізка с туманнай далі».

Аніводнага слова пра палітычную барацьбу ў Радзе БНР, пра варожасць «старога» Народнага Сакратарыята і ігнараванне ім рашэнняў Рады не было і ў наступным нумары «Беларускага шляху» за 13 ліпеня (№ 88).

У рэдакцыйным артыкуле «Народная дзяржава» быў прыведзены параграф з *Дэкларацыі* Скірмунта, прысвечаны ператварэнню Народнага Сакратарыята ў цэнтральную ўладу, вакол якой павінны «групавацца усе істнуючыя і нанова створаныя установы, так само земство і гарады». Аўтар сцвярджаў, што «пара сот гадоу Беларусі ні хапала сваей тутэйшай Улады, каторая была бы косьць ад косьці, кроу ад крыві нашых гарадоу і весак, каторая бы усю волю і усю думку накіравала бы на падняцце і развіцце Бацькаушчыны. […] Голас народа легка і скора дойдзе да нашай беларускай Улады. Яна будзе служыць народу, а ні народ ёй. Народ сам будзе знаць свае дзержауныя павіннасьці. Спакойныя беларусы заусягды выпоунялі і будуць выпоуняць свае абавязкі адных грамадзян да другіх і сваі абавязкі да Улады».

У гэтым жа нумары быў апублікаваны артыкул Змітрака Бядулі «Адносіны Беларусі да суседніх народаў», у якім аўтар характарызаваў пазіцыю новага ўрада адносна нацыянальных супольнасцяў. Ён адзначаў будучае дамінаванне беларускай «дзержаўнай культуры», прызнаючы пры гэтым неабходнасць забеспячэння культурнага развіцця іншых народаў краю. «Мы пэўны, – пісаў ён, – што усе народнасьці, жывучыя цесна з намі на нашай зямлі пойдуць нам на сустрэч у нашай дзержаўнай будові і ні будуць нам шкодзіць у нашым нацыянальным руху, бо шовінізм у нас мейсца ні мае і мець ні можа. […] Наша ідэя такая, каб у нацыянальным смысле кожны народ быу сам сабою і гэтым ён выпоуне свой прыродна-этычны доуг. А што тычыцца тых беларусау, якія узгадаваліся пад польскай або расійскай культурай, носюць марку першай ці другой нацыі, то мы іх гвалтом у свой лагер ні пацягнем – вольнаму воля».

Таксама на апошняй старонцы гэтага нумару прыводзіўся склад Народнага Сакратарыята Рамана Скірмунта і паведамлялася пра роспуск Рады БНР на два месяцы, да 15 верасня. У выпадку надзвычайнай сітуацыі Прэзідыум Рады мог склікаць яе раней.

Толькі 14 ліпеня «Беларускі шлях» (№ 89) змясціў маленькую рэпліку наконт таго, што кабінету Скірмунта давядзецца выводзіць Беларусь са стану «хаоса, які зрабіуся», што старая сістэма ўлады зруйнавана і патрэбна новая сістэма, бо

нельга наліваць «маладое віно у старыя мяхі». У наступных нумарах за 16 ліпеня (№ 90) і 17 ліпеня (№ 91) сціпла паведамлялася, што распачалася дзейнасць урада Скірмунта. Быў змешчаны адрас яго рэзідэнцыі і абвесткі канцылярыі.

20 ліпеня «Беларускі шлях» наогул перастаў выходзіць, бо скончыліся грошы. Народны Сакратарыят ігнараваў усе просьбы пра дапамогу, з якімі, дарэчы, звярталася кіраўніцтва Выдавецтва «Заранка»[1438]. Выданне аднавілася толькі 16 жніўня, калі пра ўрад Скірмунта ўжо забыліся.

Таксама маўчала пра палітычны крызіс «Вольная Беларусь». Магчыма, за гэтым маўчаннем хавалася пазіцыя нямецкай адміністрацыі і яе цэнзуры, якая папросту забараніла адказваць на крытыку Сацыялістычнага блоку. А магчыма, праявілася тая самая «прыстойнасць» Рамана Скірмунта, пра якую пісаў Івашкевіч у лісце да Людвіка Абрамовіча, прадракуючы крах Скірмунта як беларускага палітыка[1439]. Інакш цяжка зразумець маўчанне МБП і Прэзідыума Рады БНР.

Макар Касцевіч пазней назваў сітуацыю ў Менску «дваяўраднасьцю»[1440]. Сапраўды, ўжо існаваў новы Народны Сакратарыят пад кіраўніцтвам Рамана Скірмунта, які быў зацверджаны на пасяджэнні Рады БНР 9 ліпеня. Але адначасна працягваў дзейнасць Сакратарыят пад кіраўніцтвам Язэпа Варонкі, які адмовіўся перадаваць яму справы і вёў актыўную прапаганду па яго дыскрэдытацыі. У выніку кабінет Скірмунта не мог распачаць рэальнай урадавай дзейнасці.

Канфлікт абвастраўся. Увечары 13 ліпеня ў памяшканне Народнага Сакратарыята (вул. Захар'еўская, 43) прыйшлі старшыня Рады БНР Язэп Лёсік, ягоны намеснік Аляксандр Уласаў, народны сакратар асветы Радаслаў Астроўскі і кіраўнік спраў урада Скірмунта Павел Аляксюк. Яны патрабавалі сустрэчы з Варонкам, у кабінеце якога якраз распачыналася пасяджэнне «старога» Народнага Сакратарыята. У прыёмную да іх выйшаў Езавітаў, якому ўручылі пісьмовае распараджэнне старшыні Рады БНР аб тэрміновай перадачы ўсіх спраў новаму беларускаму ўраду. У адказ Варонка праз Езавітава заявіў, што па гэтым пытанні будзе размаўляць толькі са Скірмунтам.

Тады госці паспрабавалі выкарыстаць іншы дакумент, які быў уручаны Л. Зайцу. Гэта было «Пасведчаньне», выпісанае на бланку Народнага Сакратарыята з адбіткам урадавай пячаткі з подпісамі Р. Скірмунта і П. Алексюка. Гэты дакумент нібыта дазваляў Астроўскаму і Алексюку прыняць справы ад былога ўрада. Як пазней пісаў Варонка на старонках «Белорусской жизни» (14 ліпеня), а таксама ў інфармацыйным паведамленні «Последние известия из Минска» (14 ліпеня): «Оглашение этой бумаги и ея экспертиза поразила Народный Секретариат»[1441].

---

[1438] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 215

[1439] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–31. Калекцыя Л. Абрамовіча, k. 3 адв.

[1440] М. Краўцоў, *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*, «Беларускі звон». 1921, 7 кастр. – 8 ліст.

[1441] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 229–231, 232–234.


БЕЛАРУСКАЯ
НАРОДНАЯ
РЭСПУБЛІКА
НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ.
1918 г.
№ [redacted]
Места Менск.

*«Пасьведчэнне» пра перадачу спраў Р. Астроўскаму і П. Алексюку.*

Справа ў тым, што Аляксюк (дакумент быў напісаны ягонай рукой) атрымаў доступ да пячаткі і бланкаў Народнага Сакратарыята, што дазволіла яму сфабрыкаваць «дакумент» і дамагчыся подпісу пад ім Рамана Скірмунта[1442]. Наступствам гэтай авантуры стала яшчэ адна прапагандысцкая акцыя, накіраваная супраць новага ўрада.

15 ліпеня 1918 г. у Менск з Вільні прыехаў Іван Луцкевіч[1443]. Падобна, што ягонай задачай быў пошук шляху пераадолення крызісу «дваяўраднасьці». Ужо праз два дні шлях быў знойдзены. Менавіта так можна зразумець інфармацыю *Хроники для газет* прэс-бюро «старога» Сакратарыята за 17 ліпеня. Яна інфармавала, што «Народный Секретариат 1-го созыва функционирует в полном составе и никаких изменений в образе его действий не произошло. Наоборот, активность его политики вызовет в ближайшие часы «государственный переворот». Никаких дел новому составу они не передавали и встречают поддержку в самых широких слоях населения. Предстоит формирование коалиционного кабинета со вхождением в него местных кадетов [відавочная памылка друку. – *А. С.*], а также виднейших представителей различных белорусских групировок, образовавшихся в последнее время»[1444]. Фактычна вярталася сітуацыя пачатку красавіка, калі ўпершыню загаварылі пра кааліцыйны ўрад. Але ў адрозненне ад красавіка ўдзельнікі ліпеньскага паразумення ўжо не мелі падстаў для аптымістычнай ацэнкі перспектыў такога ўрада.

20 ліпеня ўрад Рамана Скірмунта падаў у адстаўку, а ўжо на наступны дзень адбылася надзвычайная нарада прадстаўнікоў фракцый Рады БНР, якая прыняла адстаўку. Як інфармавала чарговая *Хроника для газет*, «по всем вероятиям формирование нового кабинета будет поручено нынешнему Народному секретарю народного хозяйства (1-го состава) И. Н. Середе. Утверждение нового (3-го) Народного секретариата будет предоставлено экстренному заседанию Рады Белорусской Народной Республики. Таким образом постановления Рады от 9, 10 и 11 июля не принесли желательных для Минского Белорусского представительства результатов»[1445].

---

1442 Тамсама, спр. 8, арк. 76–78, 100–101.
1443 Тамсама, арк. 103.
1444 Тамсама, арк. 102.
1445 Тамсама, арк. 243.

У апошнім сказе гэтай хронікі адчувалася радасць пераможцаў. Сацыялістычны блок захаваў уладу ў сваіх руках, але якім коштам? Прайграла ўся беларуская справа. Канфлікт адмоўна паўплываў на аўтарытэт беларускай улады ў Менску, які і без таго не быў вялікім. Параза Скірмунта таксама адгукнулася ў Вільні. Менавіта яна стала прычынай адыходу ад беларускага руху такіх дзеячаў як Казімір Шафнагель, Вінцэнт Святаполк-Мірскі і ксёндз Уладзіслаў Талочка. Так, у некралогу на смерць Шафнагеля пяра Талочкі сцвярджалася, што памерлы «быў далёкі ад некрытычнага праслаўлення ўсяго беларускага. Калі ў сярэдзіне 1918 г. занадта радыкальныя плыні пачалі браць верх у беларускім руху, а лозунгі «арганічнай працы» сталі малапапулярнымі, ён разам з В. Святаполк-Мірскім і кс. У. Талочкам адышоў ад беларускага руху, хоць захаваў прыхільнасць да ўсяго добрага і здаровага ў ім»[1446].

Ці можна было пазбегнуць канфлікту? Магчыма, сітуацыю магла выратаваць адмова Скірмунта ад ідэі «кабінета справы» і працяг перамоў пра кааліцыю з Сацыялістычным блокам. Але наколькі б дзеяздольным быў такі ўрад? Да таго ж, перамовы пачатку ліпеня паказалі, што Блок на кааліцыю не пойдзе. Ведаючы характар і палітычную пазіцыю Скірмунта, можна сцвярджаць, што магчымасці для паразумення з сацыялістамі былі вычарпанымі. Можна было б згадзіцца на кадравыя змены, прынамсі, замяніць Хжанстоўскага. Аднак знайсці годную замену гэтай асобе сярод прадстаўнікоў колішняй эканамічнай і фінансавай эліты было вельмі цяжка. І тым не менш, застаецца пытанне, наколькі апраўданым быў курс Цэнтра на перамогу любым коштам?

Дакументы сведчаць, што найбольш актыўнымі праваднікамі гэтага курсу былі В. Гадлеўскі, М. Касцевіч, П. Аляксюк і Т. Вернікоўскі. Магчыма, менавіта яны былі сапраўдным рухавіком той «перамогі», якая праз некалькі дзён абярнулася паразай як Рамана Скірмунта, так і самой ідэі «кабінета справы».

З іншага боку, аналізуючы прычыны гэта канфлікту, нельга праігнараваць меркаванне Эдмунда Івашкевіча, які ў згаданай аналітычнай запісцы «Беларускія справы ў сучасны момант» сцвярджаў, што канфлікт быў абумоўлены не ідэйным разнагалоссем, а прычынамі матэрыяльнага характару: «Групка людзей, якія згрупаваліся вакол былога кіраўніка Сакратарыята пана Варонкі сумленна з'ядае аванс таго крэдыту, які быў прадстаўлены Беларускай Радзе былой Украінскай Радай (усяго 300 000 [руб.]), з разліку ад 800 да 1 500 руб. штомесячнага заробку на галаву, і зусім не заклапочана нават тэарэтычнай працай дзеля беларускай справы»[1447].

Ён лічыў, што рашэнне Скірмунта пазбыцца гэтых «баламутаў» і прыцягнуць да працы «больш салідных людзей», у т. л. прадстаўнікоў польскай і «вялікарускай» супольнасцяў, якія гатовы працаваць дзеля Беларусі, а таксама распусціць Раду

---

[1446] as [Wł. Tołoczko], Kazimierz Szafnagel, «Przegląd Wschodni». 1923, Nr 8.

[1447] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–775. Калекцыя Л. Абрамовіча. [E. Iwaszkiewicz], *Sprawy białoruskie w chwili dzisiejszej,* k. 2.

БНР, непасрэдна пагражала асновам матэрыяльнага існавання групы Варонкі. Гэта ўрэшце рэшт і выклікала з іх боку інтрыгі і барацьбу, у якой яны гатовы былі ахвяраваць нават самой беларускай справай.

У лісце да Л. Абрамовіча ад 19 ліпеня лідэр менскай польскай супольнасці распавядаў пра «інтрыгі і гарачыя спрэчкі» сярод беларусаў, якія, на яго думку, паказваюць сапраўдную вартасць «усёй банды варонкаў». Вартае ўвагі таксама ягонае меркаванне адносна перспектыў Скірмунта ў гэтым змаганні: «Скірмунт – занадта джэнтльмен для такой гульні»[1448]. Івашкевіч прагназаваў «неваабражальную кампраментацыю» беларускага руху і, працягваючы дыскусію з Абрамовічам наконт месца польскай супольнасці ў палітычнай барацьбе ў Беларусі, ізноў прыходзіў да высновы, што палякі павінны трымацца здаля ад гэтай барацьбы.

Гісторык Анатоль Сідарэвіч, разважаючы пра прычыны няўдачы Рамана Скірмунта, таксама звярнуў увагу на характар Язэпа Варонкі і ягоную крыўду на новага старшыню ўрада, які першапачаткова прапанаваў яму месца намесніка старшыні «без партфеля». Менавіта гэтым даследчык тлумачыць усе вышэйзгаданыя ваганні Варонкі наконт уваходжання ў склад новага ўрада і ягоную адмову ад выканання рашэнняў Рады БНР, якія прымаліся на легітымных падставах. У выніку, як канстатаваў Сідарэвіч, «першы прэм’ер-міністр БНР папросту сабатаваў рашэнні Рады»[1449]. Даследчык таксама прыгадаў заўвагу А. Луцкевіча на старонках нарыса «Да гісторыі беларускага руху», у якой адзначалася, што Варонка «зьбіўся з старое дарогі на бездарожжа»[1450].

Варта таксама яшчэ раз прывесці тую характарыстыку, якую Раман Скірмунт атрымаў ад свайго палітычнага апанента Яўсея Канчара на старонках газеты «Чырвоны шлях» (№ 1–2) якраз у ліпені 1918 г. Чытаючы гэты нумар, цяжка пазбегнуць уражання, што сацыяліст Яўсей Канчар імкнуўся рэабілітаваць «неразгаданага сфінкса» Скірмунта перад бальшавіцка-эсэраўскім чытачамі. Між іншым, ён пісаў, што ў сітуацыі аб’яднання «интеллектуальных и культурных сил в деле белорусского государственного строительства Р. А. Скирмунт мог бы быць весьма полезным как большой знаток и практик, как человек большого ума и как белорус»[1451]. Канчар адзначыў пэўную эвалюцыю ўлады ў Фінляндыі, Украіне і Польшчы і заўважыў, што ў Беларусі яна спазняецца, бо «Р. А. Скирмунту не на кого опереться, потому что в Белоруссии нет организованого зажиточного класа, нет даже ярких отдельных представителей этого класса...» Зразумела, што для сацыяльных нізоў з улікам папулярнасці сярод іх радыкальных праектаў ён не меў шансаў стаць лідэрам.

---

[1448] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–31. Калекцыя Л. Абрамовіча, k. 7 адв.

[1449] А. Сідарэвіч, *Урады БНР і кабінэт Рамана Скірмунта,* «Arche-пачатак». 2008, № 4, с. 122.

[1450] Цытата па: А. Сідарэвіч, *Урады БНР і кабінэт Рамана Скірмунта*, с. 123.

[1451] Я. Канчер, *Мысли,* «Чырвоны шлях». 1918, № 1–2, с. 8.

Ці можна наогул сцвярджаць, што ў палітычнай гісторыі БНР быў урад Рамана Скірмунта? У гістарыяграфіі гэтае пытанне застаецца дыскусійным. Большасць даследчыкаў, у тым ліку згаданыя А. Сідарэвіч і Д. Міхалюк сцвярджаюць існаванне гэтага ўрада і пачаткам ягонай дзейнасці лічаць 9 ліпеня 1918 г. Ягоным пераемнікам яны называюць Народны Сакратарыят пад кіраўніцтвам Івана Серады, які быў зацверджаны Радай 22 ліпеня[1452].

А вось Сяргей Шупа ў каментарах да апублікаваных дакументаў архіва БНР катэгарычна адмовіўся прызнаваць існаванне кабінета Скірмунта: «Кабінет Р. Скірмунта ніколі не быў сфарміраваны і не прыступіў да выканання абавязкаў, нягледзячы на сцвярджэнні абсалютнай большасці даследчыкаў»[1453].

З фармальнага пункту гледжання ўрад Рамана Скірмунта быў зацверджаны на пасяджэнні Рады БНР (9 ліпеня) і абвясціў пра пачатак уласнай дзейнасці (12 ліпеня). Але, калі глядзець на рэальны стан рэчаў, то трэба адзначыць, што папярэдні Народны Сакратарыят Варонкі не перадаў новым кіраўнікам ніякіх прэрагатываў улады, захаваў у сваіх руках дзяржаўную пячатку, справаводства, архівы і працягваў дзейнічаць як адзіны беларускі ўрад. Свае паўнамоцтвы ён перадаў непасрэдна ўраду Івана Серады.

Даследчыку застаецца толькі канстатацыя факта, што рашэнне Рады БНР ад 9 ліпеня 1918 г. не было выканана, а сфарміраваны ўрад Рамана Скірмунта насамрэч не меў магчымасці выконваць свае абавязкі. Можна казаць толькі пра ягонае ўяўнае існаванне. Рэальную ўладу, зразумела, у той ступені, у якой наогул можна казаць пра беларускі ўрад улетку 1918 г. у акупаваным Менску, захаваў за сабой Народны Сакратарыят першага складу.

## *Дыпламат БНР*

Нават пасля чарговай палітычнай паразы Раман Скірмунт застаўся ў беларускай палітыцы. Як адзначаў Э. Івашкевіч, «адмову Скірмунта ад працы ў Сакратарыяце трэба лічыць часовай, яна не была адмовай ад удзелу ў беларускім руху»[1454]. Ён жа сцвярджаў, што ў бліжэйшы час Скірмунт засяродзіцца на стварэнні беларускага ўніверсітэта, а ягоная група будзе працаваць у правінцыі дзеля пашырэння нацыянальнай свядомасці. Пры гэтым польскі палітык са скрухай заўважыў, што аб'ектам іх агітацыі будзе пераважна каталіцкае насельніцтва.

Гэтыя падзеі яшчэ раз засведчылі, што матывы беларускай дзейнасці Рамана Скірмунта трэба шукаць не ў імкненні прымерыць карону або гетманскую бу-

[1452] D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 323, А. Сідарэвіч, *Урады БНР і кабінэт Рамана Скірмунта,* с. 124.

[1453] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 189; С. Шупа, *Падарожжа ў БНР*, с. 79.

[1454] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–775. Калекцыя Л. Абрамовіча. [E. Iwaszkiewicz], *Sprawy białoruskie w chwili dzisiejszej,* k. 2.

лаву, а ў ягоным жаданні падтрымаць беларускае нацыянальнае і дзяржаўнае будаўніцтва.

На тым самым надзвычайным пасяджэнні Рады БНР таксама быў зацверджаны склад 9 (!) камісій Рады. У склад Міжнароднай камісіі ўвайшлі Р. Скірмунт, П. Аляксюк і А. Уласаў. Прадстаўнікі Цэнтра таксама папоўнілі склад Культурна-асветніцкай камісіі (М. Касцевіч, А. Прушынскі, А. Уласаў), Камісіі нацыянальнага злучэння (К. Цвірка-Гадыцкі), Камісіі па эканоміцы (Т. Вернікоўскі, А. Уласаў), Камісіі дзяржаўнага кантролю (В. Гадлеўскі, М. Касцевіч) і Аграрнай камісіі (В. Русецкі)[1455]. Такім чынам, сябры МБП засталіся ў складзе Рады БНР, а іх лідэр апрача стварэння беларускага ўніверсітэта збіраўся ўмацоўваць беларускую дзяржаву на міжнароднай арэне.

Між тым, 22 ліпеня пачалося фарміраванне ўрада Івана Серады. У яго склад павінны былі ўвайсці прадстаўнікі асноўных фракцый Рады БНР. Эсэры зноў адмовіліся пасылаць свайго прадстаўніка, але нечакана падтрымалі кандыдатуру Т. Вернікоўскага. Таксама ва ўрад увайшлі Лявон Заяц і Васіль Захарка. Аднак далейшыя перамовы зацягваліся, і стала відавочным, што ідэя кааліцыйнага Сакратарыята пад кіраўніцтвам сацыяліста І. Серады не мае шансаў.

Макар Касцевіч у рэфераце «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі», які ён прачытаў афіцэрам Беларускіх вайсковых аддзелаў і службоўцам Беларускай вайсковай камісіі 8 лістапада 1920 г. у Лодзі, крытычна ацаніў урад Серады: «Старшынём новага складу Сэкрэтарыяту быў выбраны Серада, загадчыкам справаў застаўся Заяц. Агулам бяручы, гэткая комбінацыя была зроблена так сабе, абы запоўніць пустату і ніякай працаздольнасьці ад новага Сэкрэтарыяту спадзявацца нельга было»[1456].

21 жніўня ў матэрыялах *Хроники для газет*[1457] адзначалася замаруджванне працэсу стварэння ўрада. Уся адказнасць за гэта ўскладалася… на сяброў МБП, якіх называлі «крайне правыми» і абвінавачвалі ў сабатажы. Пры гэтым Т. Вернікоўскі быў названы «интриганом».

Таксама з гэтай Хронікі можна даведацца, што Цэнтрам Рады стала фракцыя Усебеларускага з'езду, г. зн. былы Сацыялістычны блок. Сцвярджалася гатоўнасць эсэраў далучыцца да гэтага Цэнтра, каб забяспечыць абсалютную большасць за прадстаўнікамі сацыялістычных партый. Пры гэтым новы Цэнтр заяўляў, што яго прадстаўнікі не будуць сябрамі Народнага Сакратарыята. Яны збіраліся працаваць у камісіях Рады «строго стоя на принципе защиты национальных прав и борьбы с польским элементом в Белоруссии».

Адзначалася, што ў сувязі са стварэннем *Менскай уезднай беларускай рады*, бу-

---

[1455] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 104.

[1456] М. Краўцоў, *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*, «Беларускі звон». 1921, 7 кастр. – 8 ліст.

[1457] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 176.

дзе пастаўлена пытанне аб выключэнні сяброў МБП са складу Рады БНР. Інфармацыя пра гэтую Раду ў беларускай гістарыяграфіі адсутнічае. Магчыма, яе стварэнне было яшчэ адной спробай Скірмунта і МБП вярнуцца да актыўнай палітычнай дзейнасці і стварыць арганізацыю, апазіцыйную да Народнага Сакратарыята.

Відавочна, што канфлікт паміж Сацыялістычным блокам, які падтрымалі эсэры, і МБП не закончыўся разам з адстаўкай урада Скірмунта. Пераможцы не збіраліся спыняцца ў сваім змаганні з «польскім элементам», тым больш, што антыпольскія настроі Рады атрымлівалі станоўчы водгук з боку нямецкага камандавання ў Менску. Варонка нават прадставіў немцам праграму склікання Беларускай нацыянальнай нарады з удзелам персанальна запрошаных беларускіх дзеячаў з Масквы, Петраграда, Смаленска, Кіева ды інш. У якасці прычыны яе склікання называўся «паход польскіх і вялікарускіх арганізацый супраць усяго беларускага», а таксама «загадковасць палітыкі каталікаў-клерыкалаў, за якімі стаяць пэўныя польскія элементы». Пра апошняе сацыялісты загаварылі ў сувязі з пераездам у Менск рэзідэнцыі біскупа Станіслава Лазінскага, што адбылося 14 жніўня[1458].

Прадстаўнікі сацыялістычных фракцый у Радзе БНР імкнуліся канчаткова пазбыцца правых саюзнікаў, у дзейнасці якіх бачылі «польскую інтрыгу» і паведамлялі пра яе нямецкім апякунам. Можна канстатаваць, што ідэя кааліцыйнага ўрада і супольнай дзейнасці беларускіх партый і арганізацый розных кірункаў у Радзе БНР напрыканцы жніўня канчаткова памерла. У чарговы раз асабістыя амбіцыі і кар'ерныя разлікі асобных палітыкаў, а таксама пэўныя сацыяльныя і партыйныя прыярытэты аказаліся мацнейшымі за беларускую нацыянальную ідэю.

Магчыма, адным з наступстваў гэтага стаў выхад Скірмунта са складу Камісіі па міжнародных справах Рады БНР. Пра гэта сціпла паведаміла Хроніка[1459] ад 24 жніўня. Тут варта прыгадаць, што Раман Скірмунт звычайна фігураваў як адзін з галоўных дыпламатаў БНР і першы кандыдат у склад дэлегацыі ў сталіцу Германіі. Падобна, што наладзіць супрацоўніцтва прадстаўнікоў розных палітычных сіл у гэтай Камісіі не атрымалася. Меркаваць пра гэта можна ўжо на падставе інфармацыі Хронікі ад 5 жніўня, якая паведамляла, што «неорганизованной» засталася толькі Камісія па міжнародных справах[1460]. Нагадаю, што ў той час у яе склад уваходзілі Скірмунт, Варонка, Грыб, Аляксюк і Заяц. Прычынай канфліктаў магла стаць таксама адсутнасць паразумення ў Радзе БНР наконт галоўных вектараў яе знешняй палітыкі. Прынамсі, звяртае на сябе ўвагу згаданы факт абмеркавання ў Радзе магчымасці пасылкі дэлегацыі ў Маскву.

28 жніўня Рада БНР накіравала пратэст рэйхсканцлеру Германіі фон Гетлінгу з нагоды інфармацыі пра магчымае ўключэнне часткі беларускіх земляў у склад

[1458] Тамсама.
[1459] Тамсама, арк. 177–178.
[1460] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 227.

Польшчы[1461]. Пры гэтым Рада не адрэагавала належным чынам на Дадатковую дамову Германіі з РСФСР ад 27 жніўня, якая дапаўняла Берасцейскае пагадненне. У адпаведнасці з ёй бальшавіцкае кіраўніцтва павінна было выплаціць Германіі 6 мільярдаў марак на ўтрыманне ваеннапалонных, а таксама ў якасці кампенсацыі за нацыяналізацыю маёмасці нямецкіх грамадзян у Расіі і ануляванне замежных пазык. Прадугледжавалася пастаўка ў Германію харчавання і нафты. У адказ Берлін пагаджаўся распачаць вывад войск з тэрыторыі Беларусі, гарантаваў неўмяшанне ў стасункі паміж савецкай дзяржавай і былымі заходнімі рэгіёнамі Расійскай імперыі і яшчэ раз абяцаў не падтрымліваць дзяржаўныя ўтварэнні на гэтых тэрыторыях.

Гэтае пагадненне ў чарговы раз засведчыла «расійскі» прыярытэт германскай знешняй палітыкі. Берлін фактычна пагаджаўся на перадачу Беларусі бальшавікам. Магчыма, у тагачаснай сітуацыі не выпадала публічна пратэставаць супраць знешняй палітыкі Берліна, тым больш, што надзеі на прызнанне незалежнасці БНР па-ранейшаму былі звязаны толькі з Германіяй. Але пэўную ролю ў гэтым маўчанні мог адыграць выразны рост антынямецкіх і прабальшавіцкіх настрояў значнай часткі беларускага насельніцтва, які назіраўся ўлетку 1918 г.

Эдмунд Івашкевіч у аналітычных запісках да Людвіка Абрамовіча пісаў пра рост актыўнасці расійскага «рэвалюцыйнага элемента» на Меншчыне. Так, ён паведаміў пра «канспіратыўную канферэнцыю» ў Менску, на якой панаваў узнёслы настрой, бо яе ўдзельнікі спадзяваліся на хуткую агульнаеўрапейскую рэвалюцыю. Івашкевіч адзначыў, што «сярод крэсовых рэвалюцыянераў, дзе дамінуюць касмапалітычна настроеныя габрэі, пануе тое ж дактрынёрства, а пры спрыяльных умовах адродзяцца і бальшавіцкія лозунгі». Ён жа быў упэўнены, што «пры набліжэнні бальшавікоў і адыходзе немцаў Край ізноў апынецца ў полымі анархіі яшчэ горшай, чым увосень мінулага году»[1462].

Пра падобныя настроі беларускай вёскі пісаў таксама Міхал Касакоўскі ў сваім Дзённіку. У ліпені 1918 г., падсумоўваючы пяць месяцаў, праведзеных у Менску, ён сцвярджаў, што сяляне напоўнены нянавісцю да памешчыкаў. Руйнаванне сядзіб ім падаецца ўжо недастатковым, і на вёсцы пануе лозунг: «Хоць гняздо знішчанае, але птушка выляцела». А землеўласнікі задаваліся пытаннем наконт працягласці знаходжання нямецкіх войск на Меншчыне, разумеючы, што ў выпадку іх адыходу можа пачацца чарговая хваля сялянскага бунту[1463].

У гэтай сітуацыі патрэбны былі больш асцярожныя крокі, і Рада БНР зноў звярнула ўвагу на Украіну. Нягледзячы на дэклараваную прыхільнасць украінскіх палітыкаў да БНР, Кіеў не спяшаўся прызнаваць незалежнасць Беларусі і налад-

---

[1461] Тамсама, с. 242.

[1462] БУАНЛ. Аддзел рукапісаў. F 79–775. Калекцыя Л. Абрамовіча. [E. Iwaszkiewicz], *Sprawy białoruskie w chwili dzisiejszej,* k. 2.

[1463] Archiwum PAN. Sygn. 4. M. St. Kossakowski, Diariusz. Tom 4, k. 243.

жваць дыпламатычныя адносіны ў поўнай меры. Важную ролю ў гэтым адыгрывала пазіцыя Германіі. Так, 12 верасня 1918 г. МЗС Украінскай Дзяржавы атрымала запыт з нямецкага пасольства адносна прызначэння беларускіх консулаў у Кіеў і Адэсу. У выніку ўкраінскі ўрад быў вымушаны дэзавуіраваць акрэдытацыю консульстваў БНР і запэўніць нямецкага пасла, што ва Украіне няма (!) ні консульскіх, ні дыпламатычных прадстаўнікоў БНР, а калі такія з'явяцца, то МЗС не будзе трактаваць іх як юрыдычныя асобы[1464].

Тым не менш, Кіеў заставаўся важнай пляцоўкай дзейнасці беларускай дыпламатыі. 19 верасня сюды прыбыла Надзвычайная дэлегацыя БНР на чале з Антонам Луцкевічам. Задачай дэлегацыі было юрыдычнае прызнанне незалежнасці БНР з боку Украінскай Дзяржавы. Луцкевіч разумеў, што яно магчыма толькі са згоды Берліна. Відавочна, што візіт у Кіеў адначасна быў спробай пераканаць палітыкаў Германіі ў мэтазгоднасці прызнання БНР. Кіраўнік дэлегацыі таксама спадзяваўся атрымаць украінскую дапамогу ў справе стварэння беларускага войска і вырашыць праблему мяжы на Палессі.

Міністр замежных спраў Д. Дарашэнка выказаў гатоўнасць пайсці насустрач беларускім прапановам і просьбам, але даў зразумець, што вызначальным фактарам прызнання незалежнасці БНР з'яўляецца пазіцыя Германіі. Ён пагаджаўся стаць пасярэднікам у кантактах беларускіх прадстаўнікоў як з германскім паслом у Кіеве, так і з нямецкім урадам у Берліне. Тым больш, што якраз у тыя дні ў сталіцу Германіі накіроўвалася ўкраінская дэлегацыя. Луцкевіч схапіўся за гэтую прапанову і ў перапісцы з Серадой настойваў на візіце прадстаўніка ўрада БНР у Берлін[1465]. Аднак гэты візіт не адбыўся, і, магчыма, пэўную ролю ў гэтым адыграла якраз пазіцыя Рамана Скірмунта.

Дарашэнка выканаў сваё абяцанне і перадаў германскаму паслу А. Муму пажаданні Надзвычайнай дэлегацыі БНР і просьбу пакінуць нямецкія войскі на тэрыторыі Беларусі. У апошнім была зацікаўлена і Украінская Дзяржава, палітыкі якой добра разумелі небяспеку бальшавіцкай інтэрвенцыі з поўначы.

Дарэчы, украінскі вектар знешняй палітыкі Рады БНР заўважылі таксама польскія дзеячы ў Менску, якія, аднак, трактавалі яго ў кантэксце геапалітычнага выбару Беларусі. Так, рэдактар газеты «Дзеннік Мінскі» напрыканцы верасня адзначаў небяспеку «ўсходняга» выбару, да якога падштурхоўваюць Беларусь нават немцы, якія 27 жніўня падпісалі дамову з Расіяй. З «Усходам» ён звязваў украінскі вектар знешняй палітыкі БНР, сцвярджаючы, што «Кіеў – самая кароткая дарога пад маскоўскае панаванне»[1466]. Уладзіслаў Альшанскі лічыў, што паразуменне з «Захадам» з'яўляецца ўмовай існавання Беларусі і заклікаў мясцовых палітыкаў шукаць апору ў дзяржаве, якая «гістарычна і цывілізацыйна належыць

---

1464 В. Головченко, В. Солдатенко, *Українське питання в роки Першої світовоі війни*, с. 327.
1465 D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 325
1466 Wł. Olszański, *Białoruś i Moskwa,* «Dziennik Miński». 1918, Nr 210.

да Захаду, але здольная зразумець патрэбы Беларусі». Ён пісаў пра важнасць канкрэтных крокаў у заходнім кірунку і раіў адмовіцца ад «нерэальных лозунгаў». Відавочна, што аўтар у якасці апоры разглядаў Польшчу, а да «нерэальных лозунгаў», магчыма, адносіў саму ідэю незалежнай Беларусі.

Вышэйзгаданая характарыстыка Кіева як «дарогі пад маскоўскае панаванне» спраўдзілася ў сярэдзіне лістапада, калі гетман Скарападскі выступіў з заклікам стварэння Усерасійскай федэрацыі дзеля аднаўлення «Вялікай Расіі». Аднак гэта адбылося ў сітуацыі, калі Украінская Дзяржава больш не магла разлічваць на падтрымку з боку Берліна і ліхаманкава шукала новых саюзнікаў. У сярэдзіне верасня сітуацыя Германіі яшчэ не выглядала катастрафічнай.

Беларускія дыпламаты шукалі прызнання незалежнасці таксама на іншых шляхах. 23 верасня Надзвычайная дэлегацыя наведала Хрысціяна Ракоўскага, які ўсё яшчэ знаходзіўся ў Кіеве. Яму ўручылі пратэст Рады БНР з нагоды Дадатковай дамовы паміж Расіяй і Германіяй ад 27 жніўня 1918 г. і амаль тры гадзіны размаўлялі пра дзяржаўныя межы, легітымнасць Рады БНР ды інш.[1467] А. Луцкевіч у Дзённіку адзначаў, што наогул меў з Ракоўскім шэсць ці сем сустрэч, кожная з якіх доўжылася 2–3 гадзіны[1468]. Прадстаўнікі БНР у чарговы раз пераканаліся, што бальшавіцкая Расія не збіраецца прызнаваць беларускую незалежнасць.

26 верасня яны ўручылі дыпламатычныя ноты Х. Ракоўскаму, гетману Скарападскаму, а таксама акрэдытаваным у Кіеве паслам іншых дзяржаў. У дакуменце падкрэслівалася, што згаданая Дадатковая дамова накіравана супраць беларускай дзяржаўнасці[1469]. Галоўным вынікам гэтай актыўнасці была папулярызацыя ідэі незалежнасці БНР.

А што рабіў у гэты час Раман Скірмунт? Пасля выхаду са складу Міжнароднай камісіі Рады БНР ягонае імя на пэўны час знікла са старонак дакументаў архіва БНР. Але ад палітычнай дзейнасці ён не адышоў. Адным з новых кірункаў працы стала Беларуская каталіцка-дэмакратычная (хрысціянская) злучнасць, створаная ксяндзамі-беларусамі яшчэ ў маі 1917 г. Актывізацыі гэтай партыі паспрыяў пераезд у Менск біскупа Станіслава Лазінскага.

25 верасня ён прыняў дэлегацыю ўрада Злучнасці, які ў той час узначальваў Раман Скірмунт. Паводле інфармацыі газеты «Гоман» падчас прыёму Скірмунт выказаў спадзяванне, «што па вясковых парафіях мясцовыя ксяндзы не занядбаюць арганізаваць таксама сялянскі люд у нацыянальныя хрысціянскія злучнасці, каб ён нарэшце зразумеў, што калі ёсць Беларусь, т. зн. ёсць і мова беларуская, і што ў гэтай мове ён можа, мае права і боскі абавязак выказваць свае думкі і по-

---

[1467] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 295–295 адв.

[1468] D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 326

[1469] А. Кукса, *Белорусско-украинские дипломатические контакты (январь-декабрь 1918 г.),* «Журнал международного права и международных отношений». 2006, № 1, с. 63.

гляды і не патрабуе ламаць свой язык, вучыцца з прымусу няроднай мовы»[1470]. Відавочна, што пасля ўсіх перажытых скандалаў і няўдач Скірмунт захаваў вернасць ідэалам беларускага Адраджэння і выдатна разумеў ролю каталіцкага касцёла ў гэтым працэсе. Прынамсі, ён бачыў яго вялікія магчымасці ў справе пашырэння беларускай мовы і яе сацыялізацыі.

Падчас гэтай сустрэчы біскуп Лазінскі намінаваў ксяндза Абрантовіча патронам Злучнасці. Апошні таксама быў прызначаны рэктарам Менскай каталіцкай семінарыі, адкрыццё якой адбылося 9 кастрычніка ў Дамініканскім касцёле[1471]. Адносна беларускай мовы ў дадатковым набажэнстве станоўчага адказу дэлегаты не атрымалі[1472]. Даследчык Янка Трацяк са спасылкай на газету «Беларуская думка» паведаміў, што першая імша па-беларуску адбылася ў Менску 6 снежня 1918 г. у капліцы Дабрачыннасці. Служыў сам біскуп, які напрыканцы «сказаў казанне: горача ад сэрца і добра па-беларуску»[1473]. Але ўсё ж прыхільнасцю да беларускай мовы біскуп Лазінскі не адрозніваўся.

Таксама Скірмунт удзельнічаў у працы Камісіі, якая займалася арганізацыяй Беларускага ўніверсітэта. Яе дзейнасць асабліва актуалізавалася пасля вяртання ў Менск з Яраслаўля Настаўніцкага інстытута, які карыстаўся вялікай папулярнасцю. 11 лістапада «Вольная Беларусь» апублікавала праект Статута Беларускага ўніверсітэта за подпісам акадэміка Яўхіма Карскага. Праект прадугледжваў першачарговае адкрыццё пяці факультэтаў – багаслоўскага, гісторыка-філалагічнага, фізіка-матэматычнага, юрыдычнага і медыцынскага. Найбольш адпаведным месцам для ўніверсітэта лічыўся Менск і прадугледжвалася апека з боку ўрада БНР[1474].

Раман Скірмунт працаваў у Радзе БНР і адыграў важную ролю ў спробе яе рэфармавання на пачатку кастрычніка. Гаворка ідзе пра закон Рады БНР ад 9 кастрычніка, які прадугледжваў яе папаўненне прадстаўнікамі іншых нацыянальных, грамадскіх і прафсаюзных арганізацый, а таксама органаў самакіравання. На жаль, пра гэты закон і спробу рэфармавання Рады амаль нічога не пішуць даследчыкі гісторыі БНР. Звычайна, прыгадваюць толькі павялічэнне колькаснага складу Рады ў кастрычніку 1918 г. Між тым, гэтую падзею можна трактаваць як спробу кардынальнага перафарматавання Рады і аб'яднання ў яе межах амаль усіх уплывовых легальных арганізацый і ўстаноў акупаванай Беларусі.

Сярод дакументаў архіва БНР Літоўскага Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва (фонд 582 *Рада міністраў БНР*, воп. 2) знаходзіцца тэкст закон» ад 9 кастрычніка або ягоны праект. Артыкул 16 раздзелу 3 гэтага дакумента прадугледжваў

---

[1470] «Гоман». 1918, .№ 79.

[1471] «Минский голос». 1918, 11 октября.

[1472] R. Skirmuntt, *Ksiądz Biskup Zygmunt Łoziński,* «Słowo», 1932, Nr 322.

[1473] I. Трацяк, *Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі*. Гродна 2013, с. 152.

[1474] Цытата па: НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 19, арк. 86–92.

фарміраванне Рады «па прынцыпу дэлегавання ад: 1) мейсцовых Беларускіх Радау, 2) Земскіх Самаупраўау ці замяняючых іх установау, 3) Гарадзкіх Самаупраўау ці Установаў, якія іх замяняюць, 4) Радау Вышэйшых Учэбных Установау па меры іх арганізацыі, 5) Рэлігіозных і культурных аб'еднанняу, 6) Духавенства праваслаунае цэркві, 7) Каталіцкаго духавенства, 8) Нацыанальных меньшасьцяу, 9) Прэдстаунікоу землеуласнасьці, 10) Прэдстаунікоу сельскагаспадарчых таварыствау і 11) Прэдстаунікоу гандлю і прамысловасьці [...] У Раду Рэспублікі уваходзяць на правах членаў сябры Рады Рэспублікі, якія заседаюць у гэты момэнт, і члены усіх Народных Сэкрэтарыятау, калі-б яны ні былі членамі Рады»[1475]. Былі распісаны квоты сяброў ад кожнай з пералічаных інстытуцый. Найбольшую квоту мелі земскае і гарадское самакіраванне, якія маглі дэлегаваць па 10 прадстаўнікоў.

Пра ролю Скірмунта ў прыняцці гэтага закона можна меркаваць на падставе ўспамінаў Ежы Асмалоўскага, які адзначыў, што змена статута Рады БНР у накірунку пашырэння яе складу адбылася пад уплывам «кансерватыўнай плыні, якая супрацоўнічала з палякамі»[1476]. Ён таксама паведаміў, што адзіным пытаннем, якое выклікала дыскусію на пасяджэнні Рады 9 кастрычніка была колькасць прадстаўнікоў польскіх арганізацый. Аўтары новага статута вылучылі для іх 5 месцаў. Варонка і яшчэ некалькі дэпутатаў выступілі супраць і прапанавалі зменшыць колькасць. Яны сцвярджалі, што палякі таксама могуць увайсці ў Раду як прадстаўнікі іншых саслоўных арганізацый, земскай управы і Саюза кааператываў, што нібыта надасць «недэмакратычны характар» усёй Радзе. Дыскусіі былі вострымі і працяглымі. Праект новага статуту чатыры разы ставіўся на галасаванне, але быў прыняты без змен[1477].

Як бы ні было, але Рада БНР у выніку істотна змяніла свой склад. Архіўныя дакументы сведчаць, што напрыканцы кастрычніка Раду папоўнілі 60 (!) прадстаўнікоў розных арганізацый. Сярод іх фігуравалі ад Саюза землеўласнікаў – Геранім Друцкі-Любецкі і Людвік Уняхоўскі, ад Менскага гарадскога самакіравання – Станіслаў Хжанстоўскі, ад Польскай Рады Менскай зямлі – Эдмунд Івашкевіч, Чэслаў Крупскі, Казімір Петрусевіч, Уладзіслаў Асецімскі і Казімір Рыбінскі, ад МТСГ – Эдвард Вайніловіч, Мечыслаў Пароўскі і Юзаф Свянціцкі. Таксама ў Раду ўвайшлі прадстаўнікі Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці (у т. л. ксёндз Фабіян Абрантовіч), партыі кадэтаў (сярод іх Уладзімір Самойла), Менскай духоўнай кансісторыі, прафсаюза чыгуначнікаў, Настаўніцкага саюза (у т. л. Усевалад Ігнатоўскі), Магілёўскай рады (Міхаіл Кахановіч) ды інш.[1478]

Нават Саюз землеўласнікаў вітаў рэфармаванне Рады БНР. У ягонай заяве ад 17 кастрычніка Рада характарызавалася «як адзіны орган, каторы можа пры

[1475] ЛЦДА. Ф. 582, воп. 2, спр. 76, арк. 3.
[1476] J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2,* k. 490.
[1477] Ibidem, k. 491.
[1478] ЛЦДА. Ф. 582, воп. 2, спр. 76, арк. 5.

цяперашнім палажэнні правільна выказываць жаданні ўсяго мясцовага насялення беларускага края», а таксама як «вышэйшая ўстанова, здольная вывесці Беларусь са стану палітычнай анархіі і эканамічнай разрухі». Землеўласнікі падтрымлівалі незалежнасць і непадзельнасць Беларусі, абаранялі права ўласнасці і лічылі «патрэбным ісці па дарозе абяспячэння працоўнага малазямельнага насялення зямлёй на справядлівых асновах»[1479].

Фактар рэфармавання Рады фігураваў у перамовах з прадстаўнікамі Украінскай Дзяржавы. Так, пашырэнне складу Рады прысутнічала ў заяве Надзвычайнай дэлегацыі як адзін з аргументаў на карысць афіцыйнага прызнання БНР: «В настоящий момент [...] в Раду Белоруссии вошли все организованные элементы края и дали преобладание в ней центру и правым. Признание в такой момент независимости Белоруссии окажет серьезную поддержку в глазах народа элементам правопорядка» і г. д.

Аднак шэраг вельмі ўплывовых інстытуцый не прынялі прапановы Рады БНР. Так, супраць выступіла левая фракцыя габрэйскай абшчыны Менска. Паводле інфармацыі на старонках газеты «Минский голос», яе прадстаўнікі сцвярджалі, што «нынешняя Рада сосредоточила в своей среде представителей крайней помещичьей реакции в лице господ Скирмунтов и К., единственная программа которых – уничтожение всех социальных и политических стремлений белорусского народа, всей демократии в нашем крае»[1480].

Таксама адмовіліся ўваходзіць у склад Рады Менскае губернскае земства і Саюз кааператываў, матывуючы сваё рашэнне тым, што Рада БНР з'яўляецца палітычнай і часовай арганізацыяй[1481]. Відавочна, што яны ўлічвалі фактар выводу нямецкіх войск і рыхтаваліся да карэннай змены палітычнай сітуацыі.

Рэзкая крытыка дзейнасці Рады БНР і ўсяго беларускага руху прагучала на старонках газеты «Минский голос». Вядомы публіцыст ліберальнага лагера Юры Волін ахарактарызаваў дзейнасць Рады як «беларускі вадэвіль»[1482]. У ягоным артыкуле адлюстраваўся стасунак да беларускага руху кіраўнікоў губернскага земства, якія пачалі падзяляць бальшавіцкія пазіцыі. Дарэчы, у снежні 1918 г. менавіта Ю. Волін будзе прызначаны бальшавікамі кіраўніком Беларускага аддзялення Расійскага тэлеграфнага агенства ў Менску[1483].

Даводзіцца канстатаваць, што ў цэлым спроба ўзмацнення ўладных паўнамоцтваў Рады скончылася няўдачай рэфарматараў. Рэальнага аб'яднання ўплывовых палітычных сіл вакол Рады БНР і ідэі беларускай дзяржаўнасці не адбылося. Затое ў лістападзе закон ад 9 кастрычніка пачалі актыўна выкарыстоўваць

---

1479 «Гоман». 1918, № 88.

1480 «Минский голос». 1918, 16 октября.

1481 J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2,* k. 491.

1482 Ю. Волин, *Тихие думы*, «Минский голос». 1918, 20 октября.

1483 О. Лицкевич, *Летописец перемен*, «Беларуская думка». 2008, № 8.

левыя дзеля ўзмацнення сацыялістычнай фракцыі Рады. Так, пастановай ад 17 лістапада службоўцы і рабочыя Лібава-Роменскай і Аляксандраўскай чыгунак атрымалі разам 12 месцаў у Радзе[1484].

Амаль адначасна з рэфармаваннем Рады закончыўся перыяд урадавання Івана Серады. Ужо на адным з першых кастрычніцкіх пасяджэнняў Рады выконваючага абавязкі старшыні Народнага Сакратарыята адправілі ў адстаўку, абвінаваціўшы ў тым, што ён сумесна з Менскім губернскім земствам прадпрыняў дзеянні, якія «нанеслі шкоду» Радзе БНР[1485]. Гэтае абвінавачванне падтрымалі ўсе групоўкі ў Радзе, а сацыялісты-федэралісты нават выключылі Сераду са складу сваёй фракцыі.

Фарміраванне новага ўрада было даверана Антону Луцкевічу, які ў той час яшчэ знаходзіўся ў Кіеве. 11 кастрычніка Серада заявіў пра адстаўку ўрада і згадзіўся выконваць абавязкі старшыні да сфарміравання новага кабінета[1486]. Бясслаўны канец чарговага сацыялістычнага ўрада БНР яшчэ раз засведчыў згубнасць палітычнага курса, які вызначалі вузкапартыйныя інтарэсы.

Між тым, становішча нямецкіх войск на Заходнім фронце рэзка пагоршылася, сярод салдат узмацніліся антываенныя настроі. 4 кастрычніка рэйхсканцлер Германіі прынц Максіміліян Бадэнскі быў вымушаны звярнуцца да прэзідэнта ЗША з заявай пра гатоўнасць Германіі прыняць тыя ўмовы міру, якія Вудра Вільсан адзначыў у вядомым пасланні да кангрэса ЗША ад 8 студзеня 1918 г. («14 пунктаў»). Дарэчы, адна з іх абяцала «недзяржаўным» народам права на самавызначэнне.

Другая палова кастрычніка стала перыядам надзвычайнай палітычнай і дыпламатычнай актыўнасці Рады БНР. Параза Германіі ў вайне ставіла пад сумнеў сціплыя поспехі беларускай дзяржаўнасці, патрабавала чарговай карэкцыі ўнутрыпалітычнага курса Рады і звышнамаганняў на міжнароднай арэне.

18 кастрычніка Рэйхсканцлеру і кіраўніку рэйхстага была накіравана нота Надзвычайнай дэлегацыі Рады БНР. У ёй сцвярджалася, што пасля прызнання нямецкім бокам «прынцыпаў Вільсана» Берасцейская дамова страціла сваю моц і больш не з'яўляецца перашкодай на шляху прызнання незалежнасці БНР з боку Германіі. Аўтары ноты прасілі «прызнаць Дзержаўную Незалежнасьць Беларусі і даць магчымасьць Беларускаму Ураду здзейсьніць прыналежныя яму функцыі дзержаўнага будаўніцтва і упраўленьня, а разам з гэтым організаваць аружную сілу дзеля самаабароны»[1487].

Адначасна ў штаб 10 арміі паступіла тэлеграма, адрасаваная германскаму Рэйхсканцлеру, з просьбай пакінуць нямецкія войскі ў Беларусі дзеля яе абароны ад «анархічных бунтароў, для якіх ні чалавечае і грамадзянскае, ні міжнароднае

1484 «Минский голос». 1918, 17 ноября.

1485 D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 329.

1486 НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 11, арк. 1.

1487 *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 281–282.

права не з'яўляецца святым». Таксама адзначалася, што тая ж просьба накіравана прэзідэнту ЗША. Тэлеграма была падпісана прадстаўнікамі Саюза землеўласнікаў графам Георгам Гутэн-Чапскім і Аляксандрам Любаньскім, сябрамі МТСГ Раманам Скірмунтам і князем Антоніем Радзівілам, прадстаўніком купецтва і прадпрымальнікаў Грэгарам Капланам і «бургамістрам» Менска Станіславам Хжанстоўскім[1488]. Тэлеграму пераслалі ў Берлін з заўвагай, што падпісанты маюць намер непасрэдна ўручыць яе Рэйхсканцлеру.

Падобна, што ў сітуацыі набліжэння бальшавікоў да Менска Рада БНР дамовілася аб сумесных дзеяннях з прадстаўнікамі ўплывовых арганізацый прадпрымальнікаў і землеўласнікаў. Калі Рада патрабавала прызнання незалежнасці Беларусі, то апошнія прасілі не выводзіць нямецкія войскі. Важным вынікам гэтага паразумення стала сумесная дэлегацыя да Рэйхсканцлера. Дакументы нямецкіх архіваў сведчаць, што яе кіраўніком быў Раман Скірмунт, а гэта дае падставы казаць пра ягоную вялікую ролю ў дасягнутым паразуменні.

Інфармацыя пра беларускую дэлегацыю была адпраўлена ў Берлін 19 кастрычніка. 23 кастрычніка штаб 10 арміі інфарміраваў Міністэрства замежных спраў, што раніцай наступнага дня ў Берлін прыедзе беларуская дэлегацыя ў складзе «спадароў Скірмунта, князя Радзівіла, Грэгара Каплана, Хжанстоўскага, графа Гутэн-Чапскага і Любаньскага»[1489].

Праз тры дні прыйшло паведамленне пра прыезд раніцай 27 кастрычніка другой часткі дэлегацыі ў складзе «прадстаўнікоў Беларускай Рады з Менску: Савіча, Лёсіка, Луцкевіча, Разэнбаума, Туркевіча і Сямашкі». Таксама паведамлялася, што «кіраўнік дэлегацыі спадар фон Скірмунт» ужо знаходзіцца ў Берліне[1490].

Інфармацыя пра паездку дыпламатаў БНР у Берлін таксама захавалася сярод дакументаў Рады. Праўда, яна разыходзіцца з нямецкімі дадзенымі і не ўтрымлівае звестак пра сумесныя дзеянні з прадстаўнікамі заможных колаў грамадства. Дакументы паведамляюць, што 20 кастрычніка у сталіцу Германіі выправіліся Раман Скірмунт, Язэп Лёсік, Іван Луцкевіч, Сямён Разэнбаум і Канстанцін Савіч[1491].

Ежы Асмалоўскі сцвярджаў, што беларуская дэлегацыя ў першую чаргу імкнулася дамовіцца з Берлінам пра адтэрміноўку вывада нямецкіх войск з Беларусі[1492]. Аднак варта звярнуць увагу на заяву Антона Луцкевіча, агучаную падчас сустрэчы з сябрам украінскага ўрада А. Палтовым у Кіеве напрыканцы

---

[1488] Politisches Archiv des Auswärtigen Amts (Berlin). R 21619–1. Хачу падзякаваць нямецкіх гісторыкаў Томаса Бона (Thomas Bohn) і Арцёма Куйду (Artem Kouida) за кансультацыі і дапамогу ў доступе да архіўных матэрыялаў.

[1489] Ibidem. R 21619–2.

[1490] Ibidem. R 21619–3.

[1491] J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 491; А. Ціхаміраў, *Проблемы белорусско-германских отношений в 1914–1922 гг.*, «Белорусский журнал международного права и международных оношений». 2002, № 4, с. 40.

[1492] J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 491.

кастрычніка. Луцкевіч заявіў, што паводле атрыманай інфармацыі Германія згодна прызнаць незалежнасць БНР, у сувязі з чым у Берлін накіравалася беларуская дэлегацыя[1493]. На старонках «Гомана» таксама сцвярджалася, што дэлегацыя збіраецца перадаць кіраўнікам Германіі «адозву» Рады БНР пра незалежнасць[1494]. Можна пагадзіцца з меркаваннем даследчыка А. В. Ціхамірава, які лічыць, што менавіта прызнанне незалежнасці БНР і згода Берліна на стварэнне беларускага войска як першы крок дзяржаўнага будаўніцтва былі галоўнымі задачамі, прынамсі, другой часткі дэлегацыі[1495].

Аднак Рэйхсканцлер Максіміліян Бадэнскі адмовіўся прыняць беларускіх палітыкаў, а перададзены яму зварот Рады БНР застаўся без адказу. Цікава, што 20 кастрычніка канцлер Германіі прыняў дэлегацыю Літвы і пацвердзіў прызнанне незалежнасці Літоўскай Рэспублікі.

Частка дэлегацыі БНР вярнулася ў Менск. У Берліне застаўся Раман Скірмунт, які, магчыма, павінен быў дамагчыся дазволу нямецкіх улад на візіт беларускіх прадстаўнікоў у Швейцарыю. Верагодна, якраз пра гэтую паездку ішла гаворка ў тэлеграме Рамана Скірмунта з Берліна, адрасаванай А. Луцкевічу і Я. Лёсіку. Яна была адпраўлена раніцай 7 лістапада з гатэля «Берлін»: «Alle schritte unternommen um reise zu ermoeglichen hoffe morgen duenstige antwort skirmunt» («Усе крокі, каб паездка адбылася, зробленыя. Спадзяюся заўтра на пазітыўны адказ. Скірмунт»)[1496].

Язэп Лёсік 11 лістапада ўжо кіраваў пасяджэннем Рады БНР. Іншая частка дэлегацыі, у складзе якой быў Раман Скірмунт са спецыяльнай місіяй накіравалася ў Берн. Місія заключалася ва ўручэнні ноты Рады БНР паслам ЗША, Англіі, Францыі, Італіі ды прадстаўнікам нейтральных дзяржаў[1497]. Упершыню беларускія дыпламаты звярталіся да краін Антанты.

Падчас гэтай паездкі ў Берне адбыліся перамовы з Канстанцінам Скірмунтам, які прадстаўляў Польскі нацыянальны камітэт[1498]. Ва ўспамінах ён прыгадаў сустрэчу з Раманам Скірмунтам і Антоніем Альбрэхтам Радзівілам і ахарактарызаваў яе як «вельмі цікавую». Паводле К. Скірмунта, ягоных суразмоўцаў найбольш хваляваў лёс «нашага краю», які пакідалі нямецкія войскі, а з усходу насоўваліся бальшавіцкія войскі. Яны распавядалі пра спробы арганізацыі абароны і цікавіліся сітуацыяй з фарміраваннем польскага войска. К. Скірмунт адказаў, што Польскі нацыянальны камітэт памятае «пра польскія інтарэсы ў на-

---

1493 А. Кукса, *Белорусско-украинские дипломатические контакты (январь-декабрь 1918 г.),* с. 64.

1494 «Гоман». 1918, № 87.

1495 А. Ціхаміраў, *Проблемы белорусско-германских отношений в 1914–1922 гг.,* с. 40–41.

1496 БДМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 261, арк. 37.

1497 «Минский голос». 1918, 17 лістапада

1498 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 214; W. Roszkowski, *Radziwiłł Antoni Albrecht (1885, Berlin–1935, Niaswiż)* (у:) Polski Słownik Biograficzny. Tom XXX/I, zeszyt 124, s. 134–135.

шым краі». У сваю чаргу ён распавёў пра стварэнне польскай арміі ў Францыі, Італіі і ЗША, пра фарміраванне вайсковых частак у Польшчы, якія, між іншым, папаўняліся вызваленымі немцамі салдатамі Ю. Пілсудскага, і абяцаў прыкласці намаганні, каб дапамога не спазнілася. К. Скірмунт таксама канстатаваў паразуменне суразмоўцаў у тым, што Беларуска-Літоўскі край не павінен застацца безабаронным[1499].

Успаміны Канстанціна Скірмунта сведчаць, што гэтая размова была вынікам ініцыятывы яго брата Рамана. Магчыма, якраз таму яна не трапіла на старонкі інфармацыйных хронік. Яны ж дазваляюць казаць пра пэўныя перамены ў пазіцыі Рамана Скірмунта. Магчыма, адным з вызначальных матываў у ягоным змаганні за незалежнасць Беларусі ў той час было імкненне не дапусціць паўторнага прыходу бальшавікоў. Вялікае значэнне Польшчы і яе войск у гэтай справе ён добра разумеў. Магчыма, якраз позняй восенню 1918 г. Скірмунт пачаў разглядаць Польшчу ў якасці галоўнага міжнароднага партнёра Беларусі.

Аднак візіт Рамана Скірмунта і Антонія Альбрэхта Радзівіла ў Швейцарыю пераследаваў таксама іншыя мэты, звязаныя з дзейнасцю Камітэта па стварэнні Лігі нацый ва Ўсходняй Еўропе. Як вядома, стварэнне Лігі нацый як арганізацыі, што павінна была спрыяць развіццю міжнароднага супрацоўніцтва і мірнаму ўрэгуляванню канфліктаў, прадугледжвалася праграмай пасляваеннага ўладкавання міра прэзідэнта ЗША Вудра Вільсана. Увосень 1918 г. напярэдадні Парыжскай мірнай канферэнцыі ў Берліне паўстаў Камітэт, які імкнуўся забяспечыць у будучай Лізе нацый годнае прадстаўніцтва народаў Усходняй Еўропы. Дакументы Прадстаўніцтва Рэгенцыйнай Рады Каралеўства Польскага ў Берліне сведчаць пра прыналежнасць Скірмунта і князя Радзівіла да гэтага Камітэта. У кастрычніку 1918 г. у Камітэт таксама ўваходзілі граф Георг (Ежы) Гутэн-Чапскі (Менск), Клаўдзій Дуж-Душэўскі, Вацлаў Ластоўскі[1500] і Яўген Канткоўскі (усе Вільня), барон Фрыдрых фон дэр Роп, Бернгард фон Вильдеман-Клопман (абодва Коўна), Георгі Керасялідзэ (Тыфліс), Конрад Ціліякус (Гельсінгфорс), барон Ніколас ван дэр Бруген, граф. А. Жышчэўскі[1501].

Пратакол пасяджэння Камітэта ад 28 кастрычніка зафіксаваў даручэнне Раману Скірмунту, князю Антонію Радзівілу і барону Фрыдрыху Ропу падчас знаходжання ў Швейцарыі наладзіць кантакты з палітыкамі Швейцарыі. На 27 лістапада быў прызначаны сход у Берліне, пасля якога планавалася стварэнне асобных нацыянальных камітэтаў усіх краін, што ўдзельнічалі ў праекце[1502]. Таксама дакументы сведчаць, што дзейнасць Камітэта на дадзеным этапе мела тайны характар.

1499 K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*, s. 78.
1500 Верагодна гэта быў Вацлаў Ластоўскі (1880–1954), зямянін з Віленшчыны.
1501 AAN. Sygn. 473, k. 42. Хачу падзякаваць нямецкай даследчыцы Дыяне Зіберт (Diana Siebert) за перададзеныя копіі дакументаў Прадстаўніцтва Рэгенцыйнай Рады ў Берліне.
1502 Ibidem, k. 44.

Ягоны склад дазваляе казаць пра пэўны «арыстакратычны» характар дзейнасці і дамінаванне прадстаўнікоў прыгнечаных народаў былой Расійскай імперыі, апрача габрэяў.

Гісторыя азначанага Камітэта заслугоўвае асобнага даследавання, а пакуль варта звярнуць увагу на шырокае прадстаўніцтва ў ім беларускіх дзеячаў. Здзіўляе згадка ў дакументах Клаўдзія Душэўскага (Дуж-Душэўскага), які ў той час быў даволі маладым чалавекам (27 год) і належаў да партыі беларускіх эсэраў (?!). Магчыма, раскрыццё таямніц гэтага Камітэта ўзбагаціць гісторыю БНР новымі і нечаканымі сюжэтамі.

Між тым, 22 кастрычніка Я. Лёсік, А. Смоліч і П. Крэчэўскі ад імя Рады БНР звярнуліся да прэзідэнта ЗША з просьбай прызнаць БНР як суверэнную дзяржаву, аказаць ёй палітычную падтрымку і дапамогу ў абароне ад бальшавікоў[1503]. Таксама напрыканцы кастрычніка былі накіраваны дэлегацыі ў Польшчу (Я. Варонка, К. Петрусевіч, П. Андрэеў і Г. Крэпскі)[1504] і ў Літву (Бурнашэвіч, Язэп Мамонька, Янка Станкевіч)[1505].

Аднак наладзіць стасункі з палітычнай элітай у Варшаве не атрымалася. І гэта пры тым, што Камітэт па справах Усходу, створаны ў кастрычніку 1918 г. пераважна з сяброў ППС і прадстаўнікоў Польскай Рады Менскай зямлі, быў прыхільны краёвай ідэі, сімпатызаваў канцэпцыі дзяржаўнасці ў межах былога Вялікага Княства Літоўскага і дэклараваў роўнасць палякаў, беларусаў і літоўцаў. Д. Міхалюк лічыць, што ў гэтым выпадку няўдача дэлегацыі Рады была абумоўлена дамінаваннем у яе складзе сацыялістаў, якія пастаянна нагадвалі пра пагрозу паланізацыі і варожа ставіліся да зямянства. Польскія эліты не бачылі ў Беларусі годнага палітычнага партнёра[1506].

Дарэчы, кіраўнік дэлегацыі ў Варшаву Язэп Варонка якраз належаў да найбольш рэзкіх крытыкаў Польшчы і яе ўплываў. Магчыма, ягонае прызначэнне сведчыць пра адсутнасць рэальнага імкнення Рады БНР да пачатку польска-беларускага дыялогу. Больш адпаведным кіраўніком дэлегацыі ў Варшаву мог быць Раман Скірмунт або нехта іншы з Менскага Беларускага прадстаўніцтва. Але на гэта Рада не пайшла.

Вынікі гэтай дыпламатычнай актыўнасці былі нездавальняючымі. Фактычна,

---

1503 *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 284; D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 333.

1504 НАРБ. Ф. 4, воп. 1, спр. 96, арк. 234. Склад дэлегацыі прывёў ва ўспамінах Ежы Асмалоўскі (J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 492). Яго ж вызначыў таксама Сяргей Шупа, які памыліўся з ініцыяламі Андрэева і Крэпскага (*Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 295). Асмалоўскі ў сваю чаргу памылкова лічыў, што дэлегацыі ў Варшаву і Вільню выправіліся толькі пасля 20 лістапада.

1505 J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 492.

1506 D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 343.

адзіным поспехам гэтых візітаў, а таксама дзейнасці Надзвычайнай дэлегацыі ў Кіеве можна лічыць прыцягненне ўвагі краін Еўропы да праблемы прызнання БНР. Як пазней заўважыў Макар Касцевіч, «Беларусь была на волі свайго ўласнага гаротнага лёсу»[1507].

На сітуацыю ў Менску на пачатку лістапада 1918 г. моцна ўплывала рэвалюцыя ў Германіі і параза гэтай краіны ў вайне. Пазіцыі Рады БНР і Народнага Сакратарыята моцна аслабелі. Выразна актывізаваліся арганізацыі, якія арыентаваліся на Расію, на чале з земцамі. Так, ужо 3 лістапада Рада прадстаўнікоў земскага і гарадскога самакіравання прыняла рэзалюцыю наконт «недопустимости выступления против Советской власти», якое характарызавалася як небяспечная авантура[1508].

9 лістапада з Кіева ў Менск прыехаў Антон Луцкевіч, і ўжо на наступны дзень распачалося пасяджэнне Рады БНР. Трэба было рэагаваць на новыя выклікі і змены геапалітычнай сітуацыі. Так, на пачатку лістапада перастала існаваць Аўстра-Венгерская імперыя, якая распалася на шэраг дзяржаў, а 3 лістапада гэты апошні саюзнік Германіі падпісаў акт капітуляцыі. 5 лістапада пачалося адступленне нямецкіх войск у Францыі. 8 лістапада ў Камп'енскім лесе пад Парыжам было падпісанае перамір'е, якое вызначала ўмовы капітуляцыі Германіі.

У самой краіне выбухнула рэвалюцыя. 9 лістапада канцлер Максіміліян Бадэнскі заявіў пра адрачэнне імператара Вільгельма II і перадаў паўнамоцтвы канцлера лідэру Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі Фрыдрыху Эберту. 10 лістапада агульны сход прадстаўнікоў берлінскіх рабочых і салдацкіх саветаў сфарміраваў новыя часовыя органы ўлады – Выканкам рабочых і салдацкіх саветаў Вялікага Берліна і Раду народных упаўнаважаных. Германія стала рэспублікай.

У гэты ж дзень Рада БНР правяла перавыбары складу Камісіі пра правы і абавязкі Народнага Сакратарыята, абмеркавала і накіравала на дапрацоўку тэкст прысягі для вайскоўцаў і службоўцаў, разгледзела пытанне пра заяву нямецкаму камандаванню наконт адмовы ад рэквізіцый і аблягчэння ўмоў размяшчэння войск для цывільнага насельніцтва. Напрыканцы пасяджэння «за зачыненымі дзвярыма» абмяркоўвалася праблема арганізацыі беларускага войска[1509].

11 лістапада працягвалася пасяджэнне Рады. У гэты дзень яго вёў ужо Язэп Лёсік. Радныя працавалі даволі аператыўна. Так, быў прыняты закон пра правы і абавязкі беларускага ўрада. Народны Сакратарыят ператвараўся ў Раду народных міністраў БНР, вызначалася колькасць міністэрстваў (14), а таксама правы і абавязкі старшыні народных міністраў і ягоных намеснікаў, сфера кампетэнцыі Рады і Дзяржаўнага кантралёра ды інш. Нягледзячы на пратэст фракцыі эсэраў, за-

---

1507 М. Краўцоў, *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*, «Беларускі звон». 1921, 7 кастр. – 8 ліст.

1508 «Минский голос». 1918, 25 лістапада.

1509 Тамсама. 1918, 14 лістапада.

кон быў прыняты без паправак. Адзінагалосна адправілі ў адстаўку ўрад Серады. А вось абмеркаванне рэалізацыі прынятага закона пра Раду народных міністраў, а таксама кандыдатуры старшыні Рады зацягнулася. Выказвалася ідэя пра цалкам сацыялістычную Раду, пра неабходнасць склікання і аднаўлення працы ўсіх органаў самакіравання, прапаноўваліся кандыдаты на пасаду старшыні. Падобна, што Антон Луцкевіч, які на пачатку кастрычніка разглядаўся як адзіны кандыдат, у лістападзе ўжо меў канкурэнтаў.

Дыскусію перапыніла інфармацыя пра пасяджэнне ў земстве, дзе «производится попытка посягнуть на права Рады, на права белорусского народа и поднять знамя борьбы против белорусского национального дела»[1510]. Пазіцыя земства стала прадметам асобнага пасяджэння Рады, якое закончылася глыбокай ноччу.

13 лістапада Раду народных міністраў узначаліў Антон Луцкевіч. Ён таксама пакінуў за сабой пасаду міністра замежных спраў. Паводле газеты «Минский листок», першыя прапановы ўваходжання ў Раду міністраў былі зроблены Я. Воронку, Т. Грыбу і К. Петрусевічу. Такім чынам, Луцкевіч паспрабаваў сабраць у Радзе прадстаўнікоў буйнейшых сацыялістычных партый незалежніцкага накірунку.

«Минский голос» 15 лістапада паведаміў нават пра перамогу сацыялістычнай фракцыі ў Радзе БНР. Пры гэтым Рада БНР захавала сваё адзінства. Прынамсі, матэрыялы органаў друку дазваляюць казаць толькі пра дэмарш сяброў партыі кадэтаў, якія 27 лістапада на пасяджэнні Рады заклікалі прысутных падтрымаць ідэю федэрацыі БНР і Расійскай Рэспублікі. Прапанова не была прынятая, і кадэты пакінулі Раду[1511].

Раман Скірмунт у гэтых пасяджэннях і абмеркаваннях не ўдзельнічаў, бо ягоная місія ў Швейцарыі яшчэ не скончылася. Пра вяртанне дэлегацыі «Минский листок» паведаміў толькі 17 лістапада.

Між тым, сітуацыя ў Менску была вельмі напружанай. Арганізацыі, прыхільныя далучэнню да Расіі, 11 лістапада правялі сумесную нараду, у выніку якой Часовую Раду органаў земскага і гарадскога самакіравання папоўнілі прадстаўнікі сацыялістычных партый, прафсаюзаў, кааператываў і рабочых арганізацый. Яны адразу заявілі прэтэнзіі на ўладу ў Беларусі. На наступны дзень пашыраная Часовая Рада накіравала Савету салдацкіх дэпутатаў 10 нямецкай арміі «мемарандум», у якім патрабавала перадачы ўлады, вызвалення палітзняволеных, адмены абмежаванняў для свабоды слова, сходаў і саюзаў, недатыкальнасці асобы і жылля, спынення рэквізіцый ды інш.[1512]

Пачалася перапіска, з якой можна зразумець, што Савет салдацкіх дэпутатаў узгадняў свае дзеянні са штабам арміі і не спяшаўся задавальняць патрабаванні земцаў і сацыялістаў. Штаб адхіліў большасць патрабаванняў, але пагадзіўся па-

[1510] Тамсама.

[1511] «Минская газета». 1918, 29 лістапада.

[1512] «Новый вестник». 1918, 17 ноября.

чаць перамовы пра перадачу кіравання Краем і запрасіў упаўнаважаных Часовай Рады на сустрэчу[1513].

21 лістапада быў сфарміраваны Выканкам Рады органаў земскага і гарадскога самакіравання, сацыялістычных партый і прафесійных арганізацый, які ўзначаліў С. Кавалік. У прынятай рэзалюцыі ўзброены супраціў савецкай уладзе характарызаваўся як «недопустимая и пагубная авантюра». Выканкам Рады заяўляў, што будзе аказваць супрацьдзеянне падобным планам, а таксама тым «контрреволюционным силам, которые стремятся поработить трудовые массы Белоруссии»[1514].

Рада БНР у ноч на 12 лістапада якраз абмяркоўвала актывізацыю земцаў ды іншых прарасійскіх і прабальшавіцкіх арганізацый і партый. Яе адказ быў амаль што люстраным. «Минский голос» 15 лістапада паведаміў сваім чытачам, што дэлегацыя Рады БНР наведала генерала Фалькенгайна, а таксама Раду салдацкіх дэпутатаў 10 арміі. Абмяркоўвалася пытанне перадачы цывільнай улады ў рукі Рады, арганізацыя беларускіх вайсковых частак, а таксама спыненне рэквізіцый і палягчэнне вайсковага пастою.

Таксама Рада БНР шукала магчымасць вайсковай абароны Беларусі. У Менск былі запрошаны вайскоўцы, якія маглі стаць на чале беларускага войска. «Минский голос» 17 лістапада паведамляў пра запрашэнне Радай генерала К. Кандратовіча, а таксама генералаў Караткевіча, Пажарскага, Сямашкі і Алексіеўскага, удзельніка Усебеларускага з’езда і эсэра. У гэты ж дзень газета «Новый вестник» змясціла інфармацыю пра гатоўнасць Беларускай ваеннай арганізацыі, якая, паводле яе звестак, налічвала больш за 1 тыс. чал., перайсці пад камандаванне Рады БНР.

«Минская газета» 23 лістапада інфармавала чытачоў пра паездку генерала Кандратовіча ў правінцыю дзеля арганізацыі Беларускай народнай арміі[1515]. Праўда, амаль адразу газета змясціла абвяржэнне, з якога вынікала, што генерал Кандратовіч узяў на сябе толькі арганізацыю вайсковай міліцыі з усіх нацыянальнасцяў Краю дзеля арганізацыі яго абароны[1516].

Антон Луцкевіч ва «ўласнаручных паказаннях» пасля арышту (1939) сцвярджаў, што генерал Кандратовіч падаў праект стварэння ў кароткі час 20-тысячнага войска, фінансаванне якога нібыта гатовы былі ўзяць на сябе віленскія банкіры і памешчыкі. Луцкевіч сцвярджаў, што быў праціўнікам гэтага праекта, які падтрымалі «былы сенатар Савіч, памешчык Скірмунт і яшчэ нейкія палякі», якія лічылі неабходным «даць узброены адпор чырвоным войскам»[1517]. Дарэчы,

---

[1513] Там же.

[1514] «Минская газета». 1918, 24 лістапада.

[1515] Тамсама. 1918, 23 лістапада.

[1516] Тамсама. 1918, 26 лістапада.

[1517] *Соственноручные показания Антона Луцкевіча* (у:) Антон Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху. Выбраныя творы*. Мінск 2003, с. 198–199.

аўтары артыкула пра Рамана Скірмунта на старонках Польскага біяграфічнага слоўніка сцвярджалі, што ён пераконваў Луцкевіча пачаць перамовы з немцамі наконт перадачы ўзбраення 10 арміі беларускім вайскоўцам. А пасля адмовы Луцкевіча нібыта адышоў ад беларускага руху[1518]. Апошняе не адпавядае рэчаіснасці, але асаблівая заклапочанасць Скірмунта абароназдольнасцю БНР не выклікае сумневаў.

Луцкевіч на сустрэчы з Фалькегайнам усё ж узняў пытанне арганізацыі войска БНР і пачуў у адказ: «Калі ў поле зроку германскіх войск з'явяцца якія б ні было ўзброеныя сілы, мы накіруем супраць іх нашы кулямёты»[1519].

22 лістапада на пасяджэнні Рады БНР выступіў з дэкларацыяй Рады народных міністраў Антон Луцкевіч. Галоўнай задачай абвяшчалася «будаўніцтва і абарона незалежнай БНР». У галіне міжнароднай палітыкі з'явілася палажэнне пра магчымыя федэрацыі з суседзямі «на падмурку забеспячэння Беларусі максімальнай незалежнасці і забеспячэння яе інтарэсаў»[1520]. Як прыгадваў пазней Макар Касцевіч, планавалася весці перамовы з суседнімі народамі «ў залежнасьці ад дэмократычнасьці іх дзяржаўнага ладу. Аканчальнае рашэньне аб федэрацыі з кім-нібудзь пакідалася Беларускаму Устаноўчаму сойму»[1521].

Рада БНР прыняла гэтую дэкларацыю. Пэўныя надзеі на магчымую федэрацыю давалі перамовы з літоўскімі палітыкамі. Язэп Варонка пазней прыгадваў, што «па ўгавору з літвінамі, Віленская Беларуская Рада паслала ў Літоўскую Раду шэсьць сваіх прэдстаўнікоў, а адзін з членаў Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі (Я. Варонка – *А. С.*) уступіў у Літоўскі ўрад на пасаду Міністра Беларускіх Спраў»[1522]. Гэты ўрад быў сфарміраваны яшчэ 11 лістапада. Таксама варта адзначыць, што пасля пераезду ў Вільню генерала Кандратовіча менавіта яму літоўскі ўрад даручыў сфарміраваць сілы самаабароны.

Між тым, Чырвоная армія набліжалася да Менску. Рада міністраў паспрабавала спыніць яе рух з дапамогай дыпламатыі. Газета «Известия» ад 1 снежня паведаміла пра прыезд у Маскву дэлегацыі Рады БНР «для разрешения белорусского вопроса советским правительством». Яна ахарактарызавала гэты візіт як сенсацыю і коратка адзначыла, што ён закончыўся безвынікова[1523].

Як прыгадваў праз два гады Касцевіч: «Проці навалы бальшавікоў на Менск – зрабіць нічога нельга было. Чырвоная армія, як саранча паўзла на ўсе парожнія пасьля немцаў месцы, якія, адходзячы, трымаліся ўсё ж такі строгіх ваенных

---

[1518] Cz. Brzoza, K. Stepan, *Skirmunt Roman (1868–1939)* (у:) *Polski Słownik Biograficzny*. Tom XXXVIII/2. Zeszyt 158, s. 185.

[1519] *Соственноручные показания Антона Луцкевіча*, с. 199.

[1520] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі*. Том 1, кніга 1, с. 300–301.

[1521] М. Краўцоў, *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*, «Беларускі звон». 1921, 7 кастр. – 8 ліст.

[1522] Я. Варонка, *Беларускі рух ад 1917 да 1920 г. Кароткі агляд*. Коўна 1920, с. 16.

[1523] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 96, арк. 243.

плянаў. Радзе Міністраў нічога не заставалася, як выехаць за межы бальшавіцкага дасяганьня. На бліжэйшыя часы пастаноўлена было пераехаць у Вільню»[1524].

Варта адзначыць, што варыянт пераезда быў падрыхтаваны загадзя. Ужо 18 лістапада Луцкевіч паведаміў Генконсулу БНР ва Украіне, што ўрад з усімі ўстановамі перабраўся ў Вільню і карэспандэнцыю з ім прапанаваў весці па ягоным хатнім адрасе (ул. Віленская, 33)[1525]. Як аказалася, гэта быў толькі пачатак гісторыі БНР у эміграцыі, якая доўжыцца па сённяшні дзень.

А. Луцкевіч у паказаннях падчас следства НКУС (1939) сцвярджаў, што Рада БНР вырашыла застацца ў Менску, каб захаваць пры савецкай уладзе беларускі нацыянальны характар Краю і папулярызаваць ідэю незалежнасці БНР. Асаблівыя надзеі на наладжванне стасункаў з бальшавікамі ўскладаліся на Усевалада Ігнатоўскага[1526]. Але, папраўдзе, у Менску засталіся пераважна эсэры, некаторыя сябры Рады выехалі, а іншыя адышлі ад палітыкі.

29 лістапада 1918 г. Чырвоная армія заняла Менск. У гэты ж дзень Рада народных міністраў выступіла са Зваротам да беларускага народу. Урад Антона Луцкевіча заклікаў гуртавацца вакол Рады і ўрада БНР і ствараць па ўсёй Беларусі «валасныя, павятовыя і мястовыя Беларускія Рады, каб арганізованы народ запраўды мог узяць у свае рукі ўласьць у сваей старонцы». Са свайго боку ўрад абяцаў імкнуцца да таго, каб «згодна з законамі, выдаванымі правадаўчымі ўстановамі Беларускай Народнай Рэспублікі, глаўнае багацце народу – лясныя абшары – перайшлі на ўласнасьць краю, каб тыя, хто сваёй працай на раллі корміць увесь край, былі справядліва надзелены зямлёй, каб узмацавалася наша незалежная Беларуская Рэспубліка, і каб чужыя нам людзі ізноў не запанавалі над намі»[1527].

Дыпламатычныя дэлегацыі БНР ужо не вярнуліся ў Менск. Дэлегацыя ў Польшчу засталася ў Варшаве, дзе спыніліся таксама сябры іншых дыпламатычных місій. У Варшаву таксама выехаў Раман Скірмунт.

Трэба адзначыць, што напрыканцы 1918 – напачатку 1919 г. беларуская палітычная эліта не перапыняла сваіх незалежніцкіх намаганняў на міжнароднай арэне. Па-ранейшаму прыкметную ролю ў гэтым адыгрываў Раман Скірмунт.

Міхал Касакоўскі ў сваім Дзённіку паведаміў пра візіты Скірмунта ў краіны Антанты напрыканцы 1918 г.[1528] Расійская газета «Жизнь национальностей» у першым нумары за 1919 г. змясціла кароткую інфармацыю пра паездку Скірмунта разам з Варонкам у снежні 1918 г. у Лондан. Паводле карэспандэнта газеты, беларускія палітыкі ехалі «молить о вооруженной поддержке Белорусской Рады».

---

[1524] М. Краўцоў, *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*, «Беларускі звон». 1921, 7 кастр. – 8 ліст.

[1525] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 13, арк. 1–1 адв.

[1526] *Соственноручные показания Антона Луцкевіча*, с. 199.

[1527] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 308–309

[1528] Archiwum PAN. Sygn. 4. M. St. Kossakowski, Diariusz. Tom 11, k. 48.

Ён жа не ўтрымаўся ад з'едлівага каментара: «Но надо думать, что всё это напрасно. Англия не настолько богата людьми, чтобы тратить их для какой-то Рады»[1529].

Іншай інфармацыі пра гэтыя візіты знайсці не атрымалася. Але, калі гэтыя візіты, сапраўды, адбыліся, то іх вынікі былі несуцяшальнымі. Буйнейшыя еўрапейскія дзяржавы не разглядалі Беларусь у якасці суб'екта еўрапейскай палітыкі. Рада БНР не здолела паказаць сябе моцным і надзейным палітычным партнёрам. Да таго ж, як адзначыў Касакоўскі, кіраўнікі Антанты не збіраліся весці перамовы з тымі, хто раней рабіў стаўку на Германію[1530].

Мячыслаў Ялавецкі пазней прыгадаў візіт зямян з Літвы і Беларусі да Юзафа Пілсудскага, які адбыўся напярэдадні новага 1919 г. Камендант прыняў візіцёраў у г. зв. Палацы намесніка на Кракоўскім прадмесці. У групе быў таксама Раман Скірмунт, якому і даручылі прамаўляць ад усёй дэлегацыі. Паводле Ялавецкага, Скірмунт у кароткім выступе прадставіў трагічны лёс Вільні і гістарычнай Літвы, занятай бальшавікамі. Пілсудскі нецярпліва махнуў рукой і заявіў, што лёс гэтых земляў яго хвалюе не менш, чым прысутных, але ў гэты момант ён не мае войск, каб адказваць на ўсе пагрозы. Пры развітанні паабяцаў зрабіць усё, што ў ягонай моцы, каб вызваліць Край[1531].

## *«Страшэнна не хватае Рамана Скірмунта».*

Бальшавікі заявілі пра роспуск Рады БНР. Былі арыштаваны І. Серада, П. Бадунова, Я. Мамонька, А. Неканда-Трэпка, В. Іваноўскі, якія засталіся ў горадзе. Аднак хутка яны былі выпушчаны з-пад арышту і атрымалі магчымасць выехаць з Менска[1532]. Новая ўлада праявіла незвычайны для сябе лібералізм, які, магчыма, быў абумоўлены планамі па стварэнні БССР, што неўзабаве будзе абвешчана ў Смаленску. Зрэшты, нельга казаць пра цалкам «новую ўладу», бо ў Менск вярнуліся многія дзеячы вядомага Аблвыканкамзаха.

Іх першачарговай задачай было выяўленне і ліквідацыя «сацыяльна чужых». Падобна, што да вырашэння гэтай праблемы паспрабавалі далучыцца таксама органы мясцовага самакіравання ў Менску. Так, 5 снежня на пасяджэнні Гарадской думы займаліся падлікам колькасці «буржуеў». «Минская газета» 7 снежня ў артыкуле «Сколько в Минске буржуев» паведаміла пра вынікі гэтых падлікаў. Аказалася, што «буржуеў» з гадавым прыбыткам ад 25 да 50 тыс. – 130 чал., ад 50 да 150 тыс. – 150 чал., ад 150 да 500 тыс. – 20 чал., ад 500 тыс. да 1 млн. – 10 чал. і больш за 1 млн. – 6 чал.[1533]

---

[1529] Цытата па: НАРБ. Ф. 60п, воп. 3, спр. 384, арк. 1.

[1530] Archiwum PAN. Sygn. 4. M. St. Kossakowski, Diariusz. Tom 11, k. 49.

[1531] M. Jałowiecki, *Na skraju imperium i inne wspomnienia*. Warszawa 2014, s. 436–437.

[1532] М. Краўцоў, *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*, «Беларускі звон». 1921, 7 кастр. – 8 ліст.

[1533] НАРБ. Ф. 4п, воп.1, спр. 96, арк. 256.

Імкненне спадабацца бальшавікам не дапамагло. Яны разагналі ўсе органы самакіравання, у тым ліку Гарадскую думу, якая, паводле інфармацыі газеты «Известия» (14 снежня 1918 г.), на сваім апошнім пасяджэнні вітала далучэнне Беларусі да Расіі і заклікала «дэмакратычныя сілы» яднацца з Савецкай уладай дзеля абароны палітычных і сацыяльных заваёў пралетарыята і сялянства[1534].

Згаданы лібералізм Саветаў працягваўся нядоўга. Янка Купала ў 1920 г. у артыкуле «Справа незалежнасьці Беларусі за мінулы год» прыгадваў: «Першыя дні бальшавіцкай гаспадаркі, асабліва тут, у Менску, падавалі надзею, што беларуская справа стане на добры дэмакратычны грунт. Бо як жа было іначай думаць? На чале «чразвычайкі» стаў не Яркін, вядомы ў Смаленску сваёй крывавай ненасытнасцю, а нейкая другая асоба. Так што спачатку і расстрэлы былі рэдка чутны. Пачалі выдаваць «Известия» на 4-х мовах: расійскай, беларускай, польскай і жыдоўскай (выйшлі 4 ці 5 нумароў). Не касавалі дробнага гандлю і не забаранялі прывозіць прадукты з вёскі ў места. Але гэты мядовы месяц Савецкай улады на Беларусі цягнуўся нядоўга»[1535].

Ён закончыўся пасля таго, як у Смаленску была абвешчана «Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь», а бальшавікі захапілі Вільню. У Менск прыехаў згаданы Віктар Яркін, які стаў старшынём Надзвычайнай камісіі (*ЧК*) ССРБ. Ён быццам імкнуўся пацвердзіць тую «славу», якую прыдбаў у Смаленску...

Між тым, Рада народных міністраў у складзе старшыні А. Луцкевіча, міністраў Я. Варонкі, В. Захаркі, А. Смоліча і дзяржаўнага кантралёра Л. Зайца 7 снежня правяла пасяджэнне ў Вільні, на якім прыняла адстаўку Варонкі ў сувязі з міністэрскім партфелем у літоўскім урадзе, адзначыла фінансавы крызіс Рады і вырашыла выправіць Аркадзя Смоліча да Сымона Пятлюры з просьбай пра дапамогу. Пазней ён павінен быў ехаць у Рыгу ці Лібаву дзеля перамоў пра дзяржаўныя сувязі паміж БНР і Латвіяй[1536].

Адначасна Рада міністраў павінна была адрэагаваць на закон ад 28 лістапада 1918 г. пра выбары ў польскі сейм. Улады польскай дзяржавы планавалі правесці гэтыя выбары таксама ў Беластоцкім і Бельскім пав., што фактычна вызначала іх будучую дзяржаўную прыналежнасць. 14 снежня А. Луцкевіч і В. Захарка накіравалі міністру замежных спраў Польшчы ноту пратэсту, у якой правядзенне выбараў на згаданых тэрыторыях ацэньвалася як парушэнне «сувярэнных правоў Беларускаго Народа»[1537]. 2 і 3 студзеня 1919 г. польскаму ўраду былі накіраваны яшчэ дзве ноты пратэсту, звязаныя з далучэннем да Польшчы Аўгустоўскага пав. і правядзеннем у Вільні агульнай мабілізацыі мужчын (з 17 гадоў) у поль-

[1534] Тамсама, арк. 253.

[1535] Я. Купала, *Поўны збор твораў у 9 тамах.* Том 8. *Артыкулы, нататкі, выступленні, калектыўныя творы*. Мінск 2002, с. 83–84.

[1536] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 314.

[1537] Тамсама, с. 314–315.

скае войска[1538]. Амаль адначасна ноты пратэсту з нагоды «анексионистских притязаний Польши» былі дасланы прадстаўнікам дзяржаў Антанты, а таксама ўраду Германіі[1539].

Апошнія ноты дасылаліся ўжо з Гародні, куды 27 снежня перабраўся ўрад Луцкевіча з прычыны набліжэння бальшавікоў да Вільні. У Гародні яшчэ знаходзіўся нямецкі гарнізон, і пакуль не існавала бальшавіцкай пагрозы. Менавіта тут Рада міністраў даведалася пра абвяшчэнне 1 студзеня 1919 г. Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь у Смаленску. Макар Касцевіч у згаданым рэфераце для беларускіх вайскоўцаў (1920) дакладна ахарактарызаваў сутнасць гэтай «дзяржаўнасці»: «Беларуская незалежнасьць пад бальшавікамі была толькі фікцыяй, усё рабілася на маскоўскі капыл, а народныя камісары недоўгавечнага ўраду Жылуновіча, былі толькі сьмешнымі манэкэнамі»[1540].

Аднак у студзені 1919 г. абвяшчэнне ССРБ ацэньвалася беларускімі дзеячамі па-іншаму. Прынамсі, гэта датычыла сяброў былой БСГ. Так, 13 студзеня Аркадзь Смоліч у лісце да А. Луцкевіча адзначаў: «Хоць я лічу, што ад бальшавізму для краю больш шкоды, чым карысьці, хоць ён нас мацней прывязуе да Масквы, чым гэта хацелася б, але калі ён дае магчымасць шырокай культурнай працы, узнае і бароніць нашую дзяржаўнасьць і галоўнае, калі ён давядзе яе да натуральных рубяжоў – створыць Беларусь аб'еднаную, якая хоць некалькі месяцаў пражыве цяпер супольным жыцьцём, Беларусь з Вільняю, Белым Стокам і Бранскам, дык мы мусім ухваціцца за гэтую ідэю, прызнаць яе нацыянальным заданьнем часу і проста стаць у рады абаронцаў гэтага парадку і ваяваць у гэтых радох хоць бы з усім светам...

Трэба выпусціць дэкларацыю аб тым, што нашыя нацыянальна-палітычныя мэты дасягнуты, а ў справах сацыяльных мы змагацца з бальшавікамі не будзем. Дзеля чаго мы складаем паўнамоцтвы. Што мы нават будзем дапамагаць таму Савецкаму Беларускаму Ураду, які аб'еднае Беларусь і разаўець культурную працу і г. д. »[1541]

Невядома, што адказаў Луцкевіч, але ў сваім дзённіку 17 студзеня, прыгадаўшы першыя загады кіраўніка ўрада ССРБ Зміцера Жылуновіча, ён адзначыў: «Усё ж такі гэта наша вялікая пабеда: усё праводзіцца паводле рэцэпту, аб якім я ў Кіеве трактаваў з Ракоўскім. Тады […] Ракоўскі фармуляваў магчымую ўгоду на гэткіх трох асновах: прызнаньне незалежнасьці Беларусі, адначаснае апавяшчэнь-

---

[1538] Тамсама, с. 316–317.

[1539] Тамсама, с. 317–319.

[1540] М. Краўцоў, *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*, «Беларускі звон». 1921, 7 кастр. – 8 ліст.

[1541] Цытата па: *1 января 1919 года: Временное рабоче-крестьянское советское правительство Белоруссии: док. и материалы*. Сост. В. Д. Селеменев (рук.) и др.; науч. ред. М. Ф. Шумейко. Минск 2005, с. 124.

не федэрацыі з савецкай Расіяй і ўвядзеньне ў Беларусі савецкай канстытуцыі. Усё гэта і праведзена бальшавіцкім маніфестам і першымі двумя прыказамі Жылуновіча»[1542].

Раман Скірмунт не мог ведаць ні зместу ліста Смоліча, ні запісаў дзённіка Луцкевіча. Аднак на падставе ранейшых кантактаў беларускіх сацыялістаў з бальшавікамі ён мог меркаваць пра магчымае збліжэнне іх пазіцый у сітуацыі, калі бальшавікі пойдуць насустрач беларускім патрабаванням. У студзені 1919 г., як многім здавалася, бальшавікі зрабілі важны крок на шляху да Беларусі. Боязь магчымага збліжэння беларускай незалежніцкай эліты з Савецкай Расіяй магла быць тым чыннікам, які прымушаў Скірмунта шукаць уласныя шляхі да незалежнасці Беларусі і дзейнічаць па-за межамі кампетэнцыі сябра Рады БНР.

25 студзеня 1919 г. галоўнакамандуючы войскамі Антанты маршал Фош з прычыны выказанай польскімі палітыкамі гатоўнасці далучыцца да барацьбы з бальшавізмам загадаў нямецкім акупацыйным уладам прапусціць польскія войскі на ўсход. 9 лютага адбыліся першыя сутычкі паміж польскімі войскамі і Чырвонай арміяй на Берасцейшчыне і Гарадзеншчыне. Распачалася польска-савецкая вайна, і Беларусь ізноў апынулася ў эпіцэнтры ваенных дзеянняў.

А вось Варшава ў снежні 1918 г. ператварылася ў адзін з беларускіх палітычных цэнтраў. Апрача згаданых дэлегацый Рады БНР, якія не вярнуліся ў Менск, сюды прыехалі Павел Аляксюк, Лявон Дубяйкоўскі, Радаслаў Астроўскі, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Аляксандр Уласаў, Антон Неканда-Трэпка ды іншыя палітыкі, якія выступалі за супрацоўніцтва з Польшчай на прынцыпах палітычнай і культурнай роўнасці[1543]. Міхал Ромэр, што ў снежні наведаў Варшаву, якую лічыў «гняздом эндэцыі», адзначыў у Дзённіку, як нешта незвычайнае, шматлікасць у ёй «палякаў-беларусаў», прыхільнікаў нацыянальна-дзяржаўнага Адраджэння Беларусі[1544].

Паводле ўспамінаў Асмалоўскага, апошнія збіраліся ў доме княгіні Марыі Магдалены Радзівіл і ў Польска-беларускім клубе. У Клубе абмяркоўвалі вырашэнне «беларускага пытання» як унутранай справы польскай дзяржавы, а вось на сходах у княгіні Радзівіл дамінавала ідэя польска-беларускай уніі паводле ўзору Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Удзел у гэтых сходах прымалі Скірмунт і Вайніловіч[1545].

Прыгадаўшы актыўнасць беларусаў і палякаў з Беларусі, Асмалоўскі адзначыў адсутнасць на гэтых сходах палякаў з Каралеўства Польскага. Ён сцвердзіў, што для апошніх не існавала «беларускага пытання», бо для іх наогул не існавала

---

[1542] Тамсама, с. 130.

[1543] J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 492.

[1544] Цытата паводле рукапісу артыкула Ё. Гераўскай-Калаур «Міхал Ромэр і беларускае пытанне» (2016).

[1545] J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 493.

беларускай нацыі, а было толькі нейкае племя на нізкім узроўні развіцця, пазбаўленае нацыянальнай свядомасці і падлеглае асіміляцыйным уплывам культуры суседніх народаў[1546]. У гэтых радках адчувальнае раздражненне і абурэнне «караняжамі».

На пачатку 1919 г. Раман Скірмунт удзельнічаў у працы розных грамадскіх, палітычных і гаспадарчых арганізацый Варшавы, якія з'ядналі польскіх землеўласнікаў Беларусі і Літвы, што апынуліся ў ролі выгнанцаў. Вайніловіч прыгадваў ягоны ўдзел як прадстаўніка МТСГ у дзейнасці Саюза палякаў з Беларусі, у які ўваходзіла каля 800 чал. Так, 24 студзеня 1919 г. з удзелам Скірмунта абмяркоўваліся перспектывы Беларусі ў саюзе з Польшчай, а таксама ішла гаворка пра аграрную рэформу[1547]. Той жа Вайніловіч успамінаў пра выступ Скірмунта на сходзе «крэсоўцаў» 23 лютага, прысвечаны будучыні «крэсаў» і іх сувязі з Польшчай[1548].

У студзені 1919 г. Скірмунт яшчэ раз наведаў Парэчча, каб пакінуць яго з набліжэннем Чырвонай арміі. У артыкуле «Пані з Муру», апублікаваным у газеце «Слово Полесся» (1934) ён з веданнем справы апісваў тагачасную сітуацыю безуладдзя на Палессі: «...З Палесся павольна адыходзілі дэмаралізаваныя нямецкія войскі, пакідаючы невядомаму лёсу, пазбаўлены ўсялякай улады край. Хвіліна была панурая як глухая зімовая ноч. Пачуцці насельніцтва змяшаліся. Усе жадалі міра, а бачылі перад сабою толькі няпэўнасць. Прысутнасць улады і павага да закону ўтаймоўваюць дзікунскія схільнасці, што дрэмлюць у чалавечай душы. Падобнай павагі не было. Абуджаўся інстынкт драпежніка, які шукае здабычу на пакінутым полі бітвы сярод параненых і памерлых. Цішыня, напоўненая трывогай, вялікім цяжарам прыціснула пінскую зямлю. Калі ж наступіць світанак, які пакладзе канец няпэўнасці? Лепей будзе ці горш? Ніхто не мог прадугадаць. Між тым, усход зачырванеў змрочным як луна бліскам пажараў. Наблізіліся і запоўнілі ўвесь край банды бальшавікоў»[1549].

Чырвоная армія заняла Пінск 25 студзеня. Раман Скірмунт перабраўся ў Варшаву, куды таксама перавёз сваю маці і сястру Алену. Стрыечная сястра Ядвіга, якая мела ў Варшаве кватэру на вул. Свентакжыскай, прыгадвала, што ў лютым 1919 г. да яе завітаў кузэн Раман Скірмунт, які толькі што вярнуўся з Усходу[1550]. А вось Канстанцыя Скірмунт пераехала з Пінска ў Моладава, дзе заставаліся Генрык і Марыя.

Пра іх лёс не было вядома да сярэдзіны лютага, калі ў Варшаве з'явіўся Генрык Скірмунт. Як аказалася, пасля прыходу бальшавікоў у Моладава ён быў арышта-

---

[1546] Ibidem.
[1547] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 235.
[1548] Ibidem, s. 240.
[1549] R. Skirmuntt, *Pani z Muru*, «Słowo Polesia». 1934, Nr 51.
[1550] J. Skirmuntówna, *Dwadzieście pięć lat wspomnień o Maryi Rodziewiczównie. Pani na Hruszowej*, s. 53.

ваны і перавезены ў Пінскую турму на допыты. Рэвалюцыйны трыбунал вынес яму смяротны прысуд, які ў апошні момант замянілі высылкай у Моладава ў распараджэнне мясцовага Сялянскага камітэта. Магчыма, планавалі расстраляць яго менавіта там. Аднак Г. Скірмунт здолеў пазбыцца аховы і з дапамогай польскіх войск дабраўся да Варшавы.

Канстанцін, Генрык і Раман сустрэліся на кватэры Ядвігі Скірмунт, дзе таксама пражывала Марыя Радзевічуўна. Гаспадыня прыгадвала тую сустрэчу як «шчаслівы вечар», на якім выпілі апошнюю бутэльку моладаўскай старкі. Г. Скірмунт распавёў пра свае «прыгоды». Радасць сустрэчы азмрочвала толькі адсутнасць інфармацыі пра Марыю і Канстанцыю ў Моладаве. Але і для іх усё скончылася добра. 5 сакавіка польскія войскі ўвайшлі ў Пінск, і Ядвіга Скірмунт адразу ж выправілася ў Моладава.

Пра лёс Парэцкага маёнтка пасля прыходу бальшавікоў амаль нічога невядома. З дапамогай пінскага краязнаўцы Аляксандра Ільіна атрымалася знайсці ў Дзяржаўным архіве Берасцейскай вобл. ліст Савета рабочых і батрацкіх дэпутатаў маёнтка Парэчча ў Пінскі Ваенна-рэвалюцыйны камісарыят ад 10 лютага 1919 г. Сябры Савета даслалі ў Пінск вопіс рухомай і нерухомай маёмасці маёнтка, якая «расхищается злыми людьми в настоящее время». Яны прасілі прысланць у Парэчча камісара і дазволіць арганізаваць узброеную міліцыю дзеля аховы маёмасці і лясоў, якія «стребляются совершенно злыми людьми и спекулянтами». Ліст быў падпісаны сябрамі Савета і завераны пячаткаю з надпісам *Совет им. Поречье Минск. губ. Пинск. уез.*[1551] Такім чынам, дакумент паведамляў пра актыўнае рабаванне маёнтка, які гаспадар адраджаў з вялікімі цяжкасцямі. Прозвішчы сяброў Савета з Парэчча сведчаць, што яны не мелі дачынення да «тутэйшых». Магчыма, якраз мясцовае насельніцтва фігуравала ў лісце як «злые люди».

А вось у Менску бальшавіцкае панаванне працягвалася да пачатку жніўня 1919 г. Атмасферу ў горадзе, напоўненую страхам і голадам, выдатна перадаў у адным са сваіх твораў тагачасны менчук, чалавек крымінальнага свету і пісьменнік Сяргей Пясэцкі: «Аднойчы раніцай на ходніку насупраць плошчы перад касцёлам на Залатой горцы сабраўся натоўп. Смялейшыя выходзілі на плошчу. А некаторыя нават падыходзілі да касцёла, перад якім на каменных прыступках ляжалі пяць трупаў мужчын. Вопратка на нябожчыках была жахлівая, парваныя і брудныя лахманы. Дзе-нідзе від符неліся шматкі шэра-жоўтай, даўно не пранай бялізны. Абутак быў выцерты, не чышчаны, прынамсі, месяц. Усё казала пра тое, што гаспадары вопраткі і абутку былі здаўна пазбаўлены свабоды. Зараз іх пазбавілі і жыцця. Чарапы былі прабіты ўдарамі цвёрдых прадметаў – прыкладамі або

[1551] Дзяржаўны архіў Берасцейскай вобл. (далей: ДАБВ). Ф. 495-ОАФ, воп. 3, спр. 6, арк. 5. Хачу выказаць шчырую ўдзячнасць Аляксандру Ільіну за магчымасць выкарыстання ягоных матэрыялаў з фондаў ДАБВ.

стваламі вінтовак. У аднаго вочы былі ўціснуты ў чэрап, а праз вачніцы выцякаў мозг, змешаны са шматкамі крыві. Знявечаныя трупы ў дзіўных позах ляжалі на прыступках касцёла. Іх забілі не тут… Не было аніякіх слядоў барацьбы. Іх прывезлі ўначы і расклалі нібыта ў тэатры. Жахлівае відовішча!

Гэта Чэка паказала гораду крывавыя клыкі. Забівалі ўжо некалькі месяцаў. Забівалі буржуеў і сацыялістаў. Забівалі злодзеяў і рабочых. Забівалі дарослых і дзяцей. Забівалі вінаватых і бязвінных. Забівалі жахліва і, здавалася, без сэнсу. Аднак мэта была: задавіць, знішчыць, страхам пазбавіць волі. Загіпнатызаваць жудаснымі пакутамі і страшнай смерцю… Без суда, без закона. Не хавалі арыштаў, не рабілі таямніцы з расстрэлаў у падвалаў Чэка або ў падвалах дамоў, калі ў турмах не хапала месца. Стваралася ўражанне, што нехта страшны і баязлівы забівае вакол сябе ўсіх, хто даступны. Нібыта гэта робяць не людзі, а крывавыя бестыі, бязлітасныя да чалавека і ўсіх праяваў жыцця.

У горадзе запанаваў страх. Увечары людзі баяліся выходзіць на вуліцы. Удзень баязліва з'яўляліся на іх. Погляды былі трывожнымі, галасы сцішанымі. Уначы па вуліцах горада кружыў жахлівы аўтобус смерці – «чорны воран». На ім асуджаных вывозілі за горад і расстрэльвалі. У пэўны момант у мясцовай газеце на апошняй старонцы пачалі змяшчаць спісы людзей, зліквідаваных Чэка. Гэта была яшчэ адна форма тэрору і падпарадкавання горада, які ўжо даўно быў знішчаным чырвонымі – ад крыві – гаспадарамі. Аднак у спісы не ўключалі ўсіх забітых бальшавікамі людзей. На гэта не хапіла б газеты»[1552].

Менавіта ў гэты час у знешнепалітычнай дзейнасці краёўцаў і беларускіх палітыкаў на першы план выходзіць «польскі напрамак».

Чытаючы ўспаміны і дзённік Эдварда Вайніловіча, міжволі звяртаеш увагу на частае ўжыванне ім тэрміна «крэсы», супраць якога краёўцы калісьці катэгарычна пратэставалі. Падобна, што ў свядомасці многіх былых краёўцаў пад уплывам бальшавіцкай рэвалюцыі адбыліся істотныя змены. На іх звярнуў увагу таксама Міхал Касакоўскі, калі ў сваім Дзённіку на пачатку 1919 г. пісаў пра перакананне Вайніловіча ў тым, што Беларусь павінна быць далучана да Польшчы. Ён нават сцвердзіў, што былы краёвец вярнуўся ў «польскае лона». У наступным абзацы ён прыгадаў Рамана Скірмунта і заявіў, што той нібыта яшчэ раней вярнуўся да Польшчы, і дадаў: «Іншыя беларускія краёўцы таксама збеглі ад "сваіх"»[1553].

Перамены ў свядомасці Рамана Скірмунта ды іншых краёўцаў сапраўды адбыліся. Ім паспрыяла панаванне бальшавікоў і ягоныя разбуральныя для сацыяльнага і гаспадарчага жыцця рэгіёна наступствы. Многія краёўцы страцілі веру ў магчымасць аднаўлення нармальнага жыцця ўласнымі сіламі і пачалі шукаць

[1552] S. Piasecki, Fragment powieści «Nikt nie da nam zbawienia» (tom III «Trylogii złodziejskiej»). Рэжым доступу: https://kresy.pl/kresopedia/minsk–1919-blat-na-caly-swiat/ Дата доступу: 17. 05. 2018.

[1553] Archiwum PAN. Sygn. 4. M. St. Kossakowski, *Diariusz*. Tom 11, k. 48.

моцнага палітычнага партнёра, які здолеў бы пакончыць з бясконцым ваенным і рэвалюцыйным хаосам. У гэтых умовах мала хто мог захаваць веру ў незалежнасць Беларусі.

Аднак не магу пагадзіцца з меркаваннем Касакоўскага аб заканчэнні «эпохі краёўцаў» на пачатку 1919 г. Ежы Асмалоўскі, напрыклад, меў іншае бачанне сітуацыі. Характарызуючы настроі польскай інтэлігенцыі і землеўласнікаў з тых рэгіёнаў Беларусі, дзе палякі складалі меншасць, ён адзначаў, што сярод іх «ёсць перакананыя прыхільнікі не толькі федэрацыі Польшчы і Беларусі, але нават незалежнай Беларусі, бо дзякуючы гэтаму назаўсёды будзе перакрэслена дзяржаўная прыналежнасць гэтых тэрыторый да Расіі. Яны разумеюць, што ў стагодзе нацыяльных амбіцый, якім стала XX ст., інкарпарацыя гэтых земляў насуперак волі насельніцтва немагчыма, а вось польскія ўплывы ў Беларусі ўсё роўна будуць моцнымі»[1554].

Раман Скірмунт заставаўся дзеячам беларускага руху нават тады, калі адарванне Беларусі ад Расіі ўяўлялася яму больш рэальнай задачай, чым дасягненне дзяржаўнага суверэнітэту. Антон Луцкевіч па-ранейшаму разлічваў на ягоныя дыпламатычныя здольнасці. Ва ўрадзе Луцкевіча выдатна разумелі важнасць беларуска-польскіх кантактаў, асабліва ў сітуацыі, калі польскія войскі стаялі каля Гародні і чакалі адыходу нямецкага гарнізона. Нарадзілася ідэя адкрыцця ў Варшаве Генеральнага консульства БНР на чале з Р. Скірмунтам. 11 сакавіка ў Гародні былі выпісаны два пасведчанні на яго імя, паводле якіх ён прызначаўся сябрам Надзвычайнай дэлегацыі ўрада БНР дзеля вядзення міжнародных перамоў, а таксама атрымліваў упаўнаважанне на вядзенне перамоў з урадам Польскай Рэспублікі як Генеральны консул БНР у Варшаве[1555]. Аднак гэты план не быў рэалізаваны…

Згаданыя дакументы, якія не маглі з’явіцца без паразумення са Скірмунтам, сведчаць, што ўвесну 1919 г. ён працягваў беларускую дзейнасць. У сакавіку палітык таксама пагадзіўся далучыцца да беларускай дэлегацыі на Парыжскай мірнай канферэнцыі, якая распачалася ў студзені 1919 г. 21 сакавіка на пасяджэнні Рады міністраў быў зацверджаны поўны склад гэтай дэлегацыі з Раманам Скірмунтам у якасці «радчага»[1556].

Аднак да Парыжа ён так і не даехаў. Наогул, фінансавыя праблемы прымусілі беларускі ўрад змяніць планы. Толькі ў красавіку ў Парыж выправіліся К. Кандратовіч, А. Азнабішын і Л. Баркоў, а Антон Луцкевіч далучыўся да дэлегацыі напрыканцы мая. Ён знаходзіўся ў Берліне, дзе чакаў вырашэння фінансавай прабле-

---

[1554] J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 2 (1918)*, k. 547.
[1555] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, спр. 22, арк. 39.
[1556] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 336, 632.



Беларуская Народная Рэспубліка
Рада Народных Міністраў
République Démocratique
de la Ruthenie Blanche
Conseil des Ministres

Горадня, 10 красавіка 1919 г.
№ 43

Ekspozytura Żandarmerji Polowej
w WILNIE
WIDZIANO PRZY MELDOWANIU
na wyjazd do Warszawy
dnia 5 ... 1919 r.
8088
Referent Wydziału Przepustek

ДЫПЛЯМАТЫЧНЫ ПАШПАРТ.

Мы, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, імем Беларускага Народу просім усе ваенныя і цывільныя установы чужаземных Дзяржаў і загадваем усім прыналежачым нам ваенным і цывільным уладам, каму гэты пашпарт будзе паказаны, дазволіць свабодны праезд заграніцу намесьніку Старшыні Рады Народных Міністраў і Міністру Заграніцачных Спраў, АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ, і даваць яму у патрэбе усялякую дапамогу.

Гэты пашпарт мае моц на шэсьць месяцаў.

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ РАДЫ НАРОДНЫХ МІНІСТРАЎ:
Аркадзь Смоліч

*Дыпламатычны пашпарт Антона Луцкевича (1919).*

мы і афармлення пропуска ў Парыж для сябе і Рамана Скірмунта[1557]. Апошнім займалася французская вайсковая місія ў Берліне.

Раман Скірмунт ехаць у Берлін адмовіўся. Адмову ён патлумачыў тым, што баіцца «сапсаваць сабе фірму для Парыжа». Але напрыканцы красавіка ў перапісцы з кіраўніком урада выказаў гатоўнасць «ехаць кожны мамэнт»[1558].

Увесну 1919 г. ліставанне паміж Луцкевічам і Скірмунтам было рэгулярным. Так, у лістах А. Луцкевіча часоў Парыжскай мірнай канферэнцыі, апублікаваных гісторыкам Рыгорам Лазько на старонках часопіса «Arche» (2006), згадваецца ліст Рамана Скірмунта да кіраўніка ўрада БНР ад 25 сакавіка, у якім той распавёў пра падарожжа «кур'ера Алексючанкі» (Аўгіння Аляксюк) у Варшаву[1559]. На пачатку мая Луцкевіч у лісце з Берліна паведаміў сябрам дэлегацыі БНР у Парыжы паштовы адрас Рамана Скірмунта: «Варшава, Эўропэйская гасьцініца»[1560].

Магчыма, якраз у маі Раман Скірмунт прыняў канчатковае рашэнне не ехаць у Парыж і закрыць «беларускую старонку» сваёй палітычнай біяграфіі. Аркадзь Смоліч у тым самым месяцы ў лісце да Антона Луцкевіча пісаў: «Тут [у Варшаве – *А. С.*] ёсць Скірмунт цяпер... Ні даецца на ўгаворы і хоча ехаць у Парэчча. Можа удасца яго паслаць у Парыж…»[1561] Але не ўдалося…

У чэрвені і ліпені А. Луцкевіч ужо прасіў брата Івана, Аркадзя Смоліча і сяброў Ды-

[1557] *Лісты Антона Луцкевіча з часу Парыжскай мірнай канферэнцыі*. Падрыхтоўка да друку Р. Лазько, «Arche». 2006, № 10 (50), с. 66.

[1558] Тамсама, с. 64.

[1559] Тамсама, с. 65.

[1560] Тамсама, с. 64.

[1561] Цытата па: А. Чарнякевіч, *Чужы сярод чужых. Павел Аляксюк і беларускія «паланафілы»*. Мінск 2017, с. 74.

пламатычнай місіі БНР у Берліне скантактавацца з Скірмунтам. Магчыма, гэта было звязана з пераездам Скірмунта ў Парэчча і ягонай занятасцю аднаўленнем гаспадаркі.

Інфармацыя пра дзейнасць Рамана Скірмунта ў Варшаве ў першай палове 1919 г. сведчыць пра ягоныя намаганні ў дасягненні польска-беларускага паразумення. Пры гэтым ён імкнуўся абаперціся на польскую грамадскасць з Беларусі і Літвы. У гэты час ягоная постаць не фігуравала ў складзе беларускіх арганізацый у Варшаве, хоць там дзейнічалі асобы, з якімі ён калісьці меў добрыя кантакты (П. Аляксюк, Т. Вернікоўскі, Р. Зямкевіч ды інш.).

Вайніловіч у дзённікавым запісу ад 15 сакавіка паведамляў пра сумесны з Раманам Скірмунтам і Аляксандрам Мэйштовічам візіт да віцэ-старшыні Польскага нацыянальнага камітэта графа Маўрыцыя Замойскага. Размова ішла пра ўсходнюю мяжу Польшчы. Удзельнікі размовы прыйшлі да згоды, што яна павінна праходзіць па Дняпры[1562]. Гэты запіс сведчыць пра наяўнасць ідэі польска-беларускай федэрацыі.

Цікава, што ў гэты ж дзень Ежы Асмалоўскі сустракаўся з Юзафам Пілсудскім, якога цікавіла пазіцыя суразмоўцы наконт вырашэння «беларускага пытання». Асмалоўскі заявіў, што лічыць найлепшым варыянтам вяртанне да гістарычнай традыцыі і аднаўленне федэрацыйных сувязяў Беларусі, Літвы і Польшчы. На яго думку, такі падыход мог бы задаволіць незалежніцкія памкненні беларусаў і стварыць магчымасці для развіцця іх нацыянальнай культуры. Асмалоўскі быў пэўны, што ідэю федэрацыі прыняло б не толькі польскае і каталіцкае насельніцтва Беларусі, але і праваслаўнае, якое яшчэ памятае колішнюю рэлігійную і дзяржаўную адасобленасць ад Расіі. Ён даводзіў, што савецкая Расія не знойдзе падтрымкі сялянства, якое звыклася з індывідуальнай уласнасцю. Асмалоўскі выказаўся супраць інкарпарацыі, а падзел Беларусі паміж Польшчай і Расіяй лічыў найгоршым варыянтам, які пагражаў канфліктам не толькі з беларускім рухам, але таксама з Расіяй[1563]. Падчас сустрэчы Асмалоўскі меў уражанне, што Пілсудскі не згаджаецца з ягонай ацэнкай сітуацыі і мае ўласны погляд, які, аднак, не быў агучаны. На развітанне Пілсудскі падзякаваў суразмоўцу і дадаў: «Я падумаю…»

Ва ўспамінах Асмалоўскага прыцягвае ўвагу ягонае імкненне разгадаць «загадку» Пілсудскага, а менавіта зразумець намеры Начальніка дзяржавы адносна будучыні беларускіх і літоўскіх земляў. У гэтай сувязі варта прыгадаць эпізод з адмовай Пілсудскага прызначыць у Сейм прадстаўнікоў польскай супольнасці Меншчыны, Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Падчас выбараў у Сейм Асмалоўскі як кіраўнік Варшаўскай выбарчай акругі атрымаў просьбу пра выдзяленне 20 месцаў у Сейме для названай супольнасці, а таксама аналагічную просьбу ад палякаў Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Асмалоўскі ведаў, што віленцы і гарадзенцы былі прыхільнікамі партыі Рамана Дмоўскага і выступалі за інкарпарацыю тэры-

[1562] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 242.
[1563] J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 3 (1919)*, k. 524–525.

торый, якія прадстаўлялі, у склад Польшчы. А вось сярод менчукоў, віцебчукоў і магілёўцаў дамінавала ідэя федэрацыі. Тым больш, ён быў уражаны рашэннем Пілсудскага, які задаволіў просьбу першых і не згадзіўся на прадстаўніцтва другіх.

Гэтая гісторыя дала падставу аўтару ўспамінаў сцвярджаць, што насамрэч на пачатку 1919 г. паміж канцэпцыямі Пілсудскага і Дмоўскага адносна «беларускага пытання» не існавала разбежнасці. Яны папросту змагаліся за ўладу[1564]. Ён жа сцвярджаў, што ідэя польска-літоўска-беларускай федэрацыі і аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага, якая яшчэ на пачатку 1918 г. карысталася падтрымкай палітычнай эліты Польшчы напрыканцы таго ж года ўжо «знаходзіла падтрымку ў маленькай групкі асобаў»[1565].

Дарэчы, падобныя ўражанні ад кантактаў з Пілсудскім пакінуў у сваім дзённіку Касакоўскі, які ў адрозненне ад Асмалоўскага не прымаў федэрацыйнай канцэпцыі. 10 мая 1919 г. на старонках дзённіка ён паспрабаваў пераказаць пазіцыю Начальніка дзяржавы ягонымі ж словамі. У выніку паўстаў вобраз Пілсудскага як прыхільніка палітыкі інкарпарацыі ўсходніх земляў былой Рэчы Паспалітай, які прапанаваў сваім падначаленым «маўчаць пра анексію, казаць пра федэрацыю, рабіць свае справы і адначасна весці перамовы, размаўляць, дурыць галовы, чакаць адпаведнага моманту, каб ударыць і ўзяць»[1566].

Цікава, што да падобных высноў прыйшоў таксама Міхал Ромэр, які ў першай палове красавіка 1919 г. па просьбе Пілсудскага наведаў Коўна і пазнаёміў літоўскі ўрад Міколаса Слежэвічуса з планам Начальніка Польскай дзяржавы заняць Вільню і абвясціць саюз Польшчы і Літвы, у якім Літва захавала б свой суверэнітэт. Фактычна, гаворка ішла пра аднаўленне федэрацыі часоў Рэчы Паспалітай. Місія скончылася няўдачай. Ёнас Вілейшыс ад імя літоўскага ўрада заявіў, што польскія прапановы перакрэсліваюць усё, што было зроблена літоўцамі ў справе дзяржаўнага будаўніцтва[1567].

Запісы дзённіка Ромэра сведчаць пра ягонае расчараванне польскай палітыкай «федэралізму». Ужо на пачатку чэрвеня 1919 г. ён прыйшоў да высновы, што Варшавай кіруе эндэцыя, а «шляхетная канцэпцыя» Пілсудскага сталася прыкрыццём «рэакцыйнай, павярхоўнай і папулярнай у Польшчы палітыкі, якая з'яўляецца вынікам нацыяналізму, мілітарызму і г. д., усіх багоў прускага дзяржаўніцкага духу, якім хварэе ўвесь свет […] Гэтая рэакцыйная і павярхоўная палітыка не будзе ні карыснай для Польшчы, ні прывабнай для Літвы, ні эфектыўнай для сужыцця і гістарычнай працы народаў на ўсходзе»[1568].

---

1564 Ibidem, k. 500–502.

1565 Ibidem, k. 502.

1566 Archiwum PAN. Sygn. 4. M. St. Kossakowski, *Diariusz.* Tom 11, k. 437–438.

1567 Z. Solak, *Między Polska a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920*, s. 404.

1568 Цытата паводле рукапісу артыкула Ёанны Гераўскай-Калаур «Міхал Ромэр і беларускае пытанне» (2016). Запіс ад 3 чэрвеня 1919 г.

Ва ўмовах дамінавання ідэі інкарпарацыі ў палітычнай і грамадскай думцы Варшавы прыхільнікі аднаўлення «гістарычных традыцый» не мелі шансаў. Магчыма, гэты настрой паўплываў таксама на пазіцыю колішніх краёўцаў. Прычым адмова ад пэўных ідэалаў краёвасці часам спалучалася з адмовай ад лібералізму ў вырашэнні аграрнай праблемы. Пра гэта думаеш, між іншым, калі чытаеш апісанне Касакоўскім на старонках Дзённіка стварэння Саюза абароны землеўласнікаў. Гэты Саюз з'яднаў землеўладальнікаў, якія выступалі ў абарону прыватнай уласнасці і бачылі пагрозу для яе ў праекце аграрнай рэформы, што прадугледжваў парцэляцыю буйных зямельных ўладанняў. Раман Скірмунт разам з Э. Вайніловічам, Г. Кяневічам і Я. Нямцэвічам знаходзіўся ў прэзідыуме гэтага сходу.

Паводле Касакоўскага, у дыскусіі, якая разгарэлася на арганізацыйным сходзе, гучалі «галасы мінулай эпохі». Менавіта так ён ахарактарызаваў пазіцыі тых, хто выступаў супраць аграрнай рэформы або зводзіў яе толькі да камасацыі сялянскіх надзелаў[1569]. «Бедныя зубры! – заўважыў Касакоўскі. – Згінулі ў Белавежскай пушчы, выбітыя сялянамі, а іх «партрэты» разгублена бадзяюцца па варшаўскім бруку»[1570].

Думаю, што ўдзел Скірмунта ў арганізацыі Саюза зусім не азначаў ягоную згоду з «галасамі мінулай эпохі». Дарэчы, той жа Касакоўскі ў згаданым запісу адзначыў дыскусію падчас гэтага сходу і выступы яго ўдзельнікаў у падтрымку дзяржаўнай аграрнай рэформы, уключаючы парцэляцыю буйных уладанняў.

Між тым, у сярэдзіне красавіка пачаўся наступ польскіх войск. Напярэдадні Пілсудскі прызначыў Асмалоўскага Генеральным камісарам Цывільнай управы ўсходніх земляў. 19 красавіка польскія войскі ўвайшлі ў Вільню, а праз тры дні быў апублікаваны вядомы зварот Юзафа Пілсудскага «Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага».

Зварот, які распаўсюджваўся на польскай і літоўскай мовах, абяцаў вольнасць, магчымасць вырашэння нацыянальных і канфесійных праблем без умяшальніцтва з боку Польшчы і паведамляў пра стварэнне Цывільнай управы замест вайсковага кіравання. Першай задачай гэтага органа ўлады дэкларавалася дапамога насельніцтву ў рэалізацыі ягонага права на самавызначэнне. Гэтаму павінны былі спрыяць дэмакратычна абраныя прадстаўнікі насельніцтва земляў былога Вялікага Княства Літоўскага.

Асмалоўскі ва ўспамінах адзначыў негатыўную рэакцыю мясцовай польскай супольнасці на гэты зварот. Палякі Віленшчыны былі ўпэўнены ў далучэнні Вільні да Польшчы, а зварот гэтага не гарантаваў[1571]. Пра тое ж пісаў у сваім

[1569] Archiwum PAN. Sygn. 4. M. St. Kossakowski, *Diariusz*. Tom 11, k. 258.
[1570] Ibidem, s. 260.
[1571] J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921. T. 3 (1919)*, k. 549.

дзённіку Касакоўскі[1572], які, дарэчы, пасля пэўных ваганняў прыняў прапанову Асмалоўскага і ўвайшоў у склад Цывільнай управы як прадстаўнік Генеральнага камісара ўсходніх земляў у Варшаве.

Цывільная ўправа на нейкі час стала адным з цэнтраў прыхільнікаў федэралізму. Але варта адзначыць, што беларускія палітыкі не далучыліся да яе дзейнасці. Сярод іх не знайшлося ахвотных працаваць у гэтай польскай установе. Раман Скірмунт таксама не меў такога жадання. Ён атрымаў персанальнае запрашэнне ўвайсці ў склад Цывільнай управы, але адмовіўся яго прыняць[1573]. Затое яго прыняў Б. Тарашкевіч, які, аднак, хутка пераканаўся ў немагчымасці заставацца беларускім палітыкам і належаць да польскай адміністрацыі, і пакінуў Управу.

Верагодна, пра гэта думаў і Раман Скірмунт, атрымаўшы запрашэнне. Наогул, казаць пра прычыны адмовы можна толькі гіпатэтычна. Ізноў даводзіцца нагадваць пра адсутнасць эго-дакументаў, якія б дазволілі зразумець матывы рашэння. Але варта адзначыць, што ад моманту свайго ўзнікнення Цывільная ўправа апынулася пад жорсткай крытыкай з боку прэсы, прыхільнай партыі Рамана Дмоўскага. Таксама трэба прыгадаць крытыку Цывільнай управы на старонках успамінаў Эдварда Вайніловіча. На яго думку, дзейнасць каманды Ежы Асмалоўскага не спрыяла «польскай справе на крэсах» і выклікала сярод мясцовага насельніцтва толькі незадавальненне польскай уладай[1574]. Апрача таго, у супрацоўнікаў Асмалоўскага перыядычна ўзнікалі канфлікты з вайскоўцамі на глебе нявызначанасці сферы кампетэнцыі цывільных і ваенных улад.

Магчыма, Скірмунт не трактаваў Цывільную ўправу як арганізацыю, здольную рэалізаваць канцэпцыю федэралізму. Таксама можна выказаць думку ў ягоным расчараванні гэтай канцэпцыяй, прынамсі, яе рэальным напаўненнем, пра што ўжо была гаворка. Дарэчы, у дзённікавым запісу ад 10 мая 1919 г. Міхал Касакоўскі пералічыў беларускіх палітыкаў, з якімі ўжо нібыта вяліся перамовы пра «федэрацыю». У гэтым спісе фігуравалі П. Аляксюк, Л. Дубяйкоўскі, А. Смоліч і палкоўнік Янсан. Касакоўскі выказаў упэўненасць, што з кімсьці з іх напэўна атрымаецца дамовіцца пра «аб'яднанне з Польшчай»[1575]. Рамана Скірмунта ў гэтым пераліку не было. Затое, паводле дадзеных гісторыка А. Чарнякевіча, ён фігураваў у пазнейшай размове Асмалоўскага з Касакоўскім як адзін з кандыдатаў на пасаду кіраўніка беларускага ўрада[1576].

Увесну 1919 г. Скірмунт актыўна працаваў у розных арганізацыях палякаў

---

[1572] Archiwum PAN. Sygn. 4. M. St. Kossakowski, *Diariusz*. Tom 4, k. 349.

[1573] J. Gierowska-Kałłaur, *Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich (19 lutego 1919 – 9 września 1920)*. Warszawa 2003, s. 304.

[1574] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 251.

[1575] Archiwum PAN. Sygn. 4. M. St. Kossakowski, *Diariusz*. Tom 4, k. 438.

[1576] Пра гэта пісаў А. Чарнякевіч, але без пазначэння крыніцы інфармацыі. Гл.: A. Czarniakiewicz, *Kształtowanie się ośrodka polonofilskiego w białoruskim ruchu narodowym (listopad 1918 – grudzień 1919)*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2008, Nr 29, s. 50.

Беларусі і Літвы. Можна пагадзіцца з меркаваннем Станіслава Рудовіча, які сцвярджаў, што іх намаганні зводзіліся да таго, каб, не дапусціўшы падзелу Беларусі паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, уключыць Край цалкам у склад II Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. на ўмовах уніі ці шырокай аўтаноміі, і каб зямельнае ўладкаванне было праведзена з мінімальнымі стратамі для абшарнікаў[1577].

Пры гэтым беларускай грамадскасцю ён па-ранейшаму ўспрымаўся як дзеяч беларускага руху. Так, віленская газета «Беларуская думка» 5 мая 1919 г. (№ 4) паведамляла сваім чытачам, што «на гэтым тыдні ў Вільню прыедзе з Варшавы беларускі дзеяч з вялікіх паноў Раман Ськірмунт».

Цалкам магчыма, што ягоны прыезд у Вільню быў абумоўлены ўдзелам у з'ездзе Польскіх радаў Менскай, Магілёўскай і Віцебскай земляў. Прынамсі, тая ж газета 7 мая (№ 5) паведаміла пра гэты з'езд і ўдзел у ім графа Чапскага, Г. Кяневіча ды інш. 9 мая (№ 7) на першай старонцы газеты з'явілася крытычная нататка за подпісам *Саўка Барывой* пад назвай «Зьезд польскіх панскіх радау». Рамуальд Зямкевіч, які схаваўся пад згаданым псеўданімам, вельмі крытычна ацаніў працу з'езда: «Сумна было слухаць рэляцыю паноў. Для іх німа незалежнасьці Беларусі, Літвы ці Украіны, аб гэтых народах амаль не гаворыцца, здабыткі рэвалюцыі хоць бы і найменьшыя не прызнаюцца, аб аграрнай справе ні слова. Няўжо-ж усё гэта не жыццёвая патрэба і канешнасьць, а адны выдумкі злых соцыялістаў? […] Але што-ж, паны думаюць па-панску і не разумеюць, што яны ўжо толькі – morituri…»

12 мая «Беларуская думка» яшчэ раз адгукнулася на гэты з'езд, адзначыўшы, што ў пытанні пра далучэнне Беларусі і Літвы да Польшчы не было адзінадушнасці. Хочацца верыць, што Скірмунт і тут быў верным сваёй традыцыі ісці насуперак плыні...

У апошні дзень мая ў Варшаве прайшоў арганізацыйны сход Польска-Беларускага таварыства. Адным з галоўных ініцыятараў быў Лявон Дубяйкоўскі, якога з беларускага боку падтрымаў Аркадзь Смоліч, а з польскага – Эдвард Вайніловіч, Канстанцін Гардзялкоўскі, Міраслаў Абязерскі ды інш. Таварыства выступала за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. як супольнасці раўнапраўных народаў, заснаванай на прынцыпе «вольныя з вольнымі і роўныя з роўнымі».

У адмысловым камунікаце Таварыства пералічваліся ягоныя асноўныя задачы, менавіта спрыяць сяброўству паміж польскім і беларускім народамі, пашыраць сярод польскай грамадскасці веды пра Беларусь, а сярод беларускай – веды пра Польшчу, прапагандаваць ідэю моцнай сувязі Польшчы і Беларусі, уплываць на грамадскую думку, спрыяць падтрымцы Польшчай намаганняў дзеля ўмацавання культурных, эканамічных, а найбольш палітычных кантактаў паміж вольнай Беларуссю і вольнай Польшчай ды інш. Таксама паведамлялася, што дыскусіі ў Таварыстве адбываюцца кожны аўторак у памяшканні Аб'яднання дэмакра-

---

1577 С. Рудовіч, «*…Беларускі дзеяч з вялікіх паноў*», с. 56.

тычных партый (вул. Шпітальная, 1)[1578]. На пачатку жніўня быў зацверджаны ягоны статут і абрана кіраўніцтва. Старшынём стаў Міраслаў Абязерскі, а віцэ-старшынём – Лявон Дубяйкоўскі[1579]. Раман Скірмунт далучыўся да дзейнасці Таварыства.

Як заўважыў з нагоды ўтварэння Таварыства Вайніловіч, «беларусы сталі падтрымліваць ідэю ўсходніх межаў Польшчы аж за Днепр і Дзвіну, бо зразумелі вялікарускі шавінізм бальшавікоў і спадзяюцца на гістарычную талерантнасць і свабоднае развіццё ўсіх народаў у Польшчы. Дзеля гэтага яны пайшлі на кантакт з крэсовымі землеўласнікамі і пачалі ствараць Польска-Беларускі саюз»[1580].

Падзеі беларускага палітычнага жыцця ў Варшаве ўлетку 1919 г. сведчаць, што менавіта Лявон Дубяйкоўскі стаў галоўным беларускім прадстаўніком у Польшчы. Так, 15 чэрвеня ён атрымаў ліст ад Смоліча, які паведаміў пра ягонае прызначэнне часовым прадстаўніком урада БНР у Варшаве[1581]. А яшчэ праз месяц Дубяйкоўскі быў абраны старшынём толькі што створанага Беларускага таварыства[1582]. Паводле статута, гэта была дабрачынная арганізацыя, якая апекавалася ваеннапалоннымі і дапамагала беларусам, што апынуліся ў выгнанні ў Варшаве. Але адначасна гэтая арганізацыя таксама адыгрывала палітычную ролю.

Пэўным канкурэнтам Дубяйкоўскага ў кантактах з польскімі палітыкамі быў Аляксюк. А вось для Рамана Скірмунта лета 1919 г. стала часам адыходу ад беларускага руху. Такія высновы напрошваюцца, калі чытаеш лісты Антона Луцкевіча з Парыжа, у якіх ён скардзіцца на адсутнасць Скірмунта і просіць забяспечыць ягоны прыезд.

Лета 1919 г. для Скірмунта было напоўнена гаспадарчымі клопатамі. Аднаўленне гаспадаркі Парэчча ішло павольна. Пляменніца Скірмунта Вацлава Нээф (1894 г. нар.) у размове з Зоф'яй Дэрналовіч прыгадвала, што пасля Першай сусветнай вайны Парэцкі маёнтак быў цалкам зруйнаваны: «Фабрыкі былі вывезеныя, не было аніводнага каня, аніводнай каровы. Увесь першы пасляваенны год дзядзька Раман еў толькі гарохавы суп. Наогул, было вельмі цяжка. Немцы ўсё вывезлі. Як Раман вярнуўся, не было зусім нічога, нават фунта мукі. Толькі дзякуючы таму, што мог прадаваць дрэва, паступова справы наладзіліся»[1583].

Зруйнаваны быў увесь Пінскі пав. У ліпені 1919 г. па просьбе прадстаўнікоў Амерыканскай асацыяцыі дапамогі (*American Relief Administration, ARA*), якая распачала гуманітарную місію ў знішчанай Еўропе, у т. л. на польскіх і беларускіх зем-

---

[1578] БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 167, арк. 7–7 адв.

[1579] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 257.

[1580] Ibidem, s. 248.

[1581] БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 236, арк. 5.

[1582] Цэнтральная Нацыянальная бібліятэка імя Якуба Коласа. Аддзел рукапісаў. Ф. 23, спр. 742.

[1583] Запіс успамінаў Вацлавы Нээф. З матэрыялаў Зоф'і Дэрналовіч (Варшава).

ляx, прэзідэнт Пінска Гаўрылкевіч падпісаў запоўненую ў гарадской радзе анкету. Адказы на пытанні яскрава сведчылі, што на Піншчыне панавалі голад і разруха.

Гэты дакумент засведчыў, што ў 25-тысячным Пінску спустошаная гарадская казна, 90 % працаздольнага насельніцтва з'яўляюцца беспрацоўнымі, цалкам знішчана прамысловасць, адсутнічае паліва для ацяплення, няма аддзення, бялізны і абутку. Усё гэта тлумачылася нямецкімі, украінскімі і бальшавіцкімі кантрыбуцыямі. У горадзе не было мукі, тлушчу і малака. Мяса (ялавічына) засталося па 12 г на чалавека ў дзень. Усе публічныя танныя кухні, а таксама школьныя былі зачынены. Фактычна, увесь харчовы запас горада складаўся з гнілой бульбы і бручкі. Асабліва трагічным было становішча дзяцей і бежанцаў, якія вярталіся ў родныя мясціны. Для паўнаты карціны палескай трагедыі трэба яшчэ прыгадаць масавыя захворванні тыфам і воспай[1584].

Агент Інспекцыі па вайсковай мабілізацыі Цывільнай управы з Пінскага пав. у лістападзе ў сваім рапарце адзначаў, што з 24 гмін цалкам зруйнаваны 14, што павет нагадвае абоз, які безупынна качуе, і штодня дзясяткі людзей перабіраюцца за Буг ці ва Украіну[1585].

Пра амаль поўнае руйнаванне гаспадаркі таксама сведчыць карэспандэнцыя дабрачыннай арганізацыі «Галоўная Рада апекі» ў Варшаве, што датычыла Парэчча. У чэрвені 1919 г. павятовы аддзел Рады ў Пінску ўзначаліў ксёндз Станіслаў Войцік. Менавіта ён да вайны быў старшынём Пінскага каталіцкага дабрачыннага таварыства, а ў 1913 г. асвяціў капліцу ў Парэччы, збудаваную без дазволу ўладаў.

Дакументы Рады апекі сведчаць што ў ліпені 1919 г. Парэцкі маёнтак таксама атрымаў гуманітарную дапамогу, менавіта муку (1 пуд 225 фунтаў) і смалец (1,5 фунта)[1586]. Пры гэтым Скірмунт адначасна імкнуўся падтрымліваць іншых. У лістападзе 1919 г. ён сам ахвяраваў Радзе 100 пудоў бульбы[1587].

Маёнтак Парэчча таксама фігураваў як пэўны цэнтр гуманітарнай дапамогі дзецям Парэцкай гміны. У ліпені 1919 г. тут пад апекай знаходзілася 199 дзяцей. Менавіта на іх патрэбы маёнтак атрымаў муку, сала, фасолю і малако[1588]. Падобна, што гэтыя прадукты прызначаліся для дзіцячай сталовай у Парэччы. Наогул, Рада апекі адчыніла дзіцячыя сталовыя ў 12 вёсках Пінскага пав., якія знаходзіліся ўздоўж р. Ясельды і канала Агінскага. Кожная была разлічана на 120–150 дзяцей. Падчас вайсковых дзеянняў жыхары гэтых вёсак былі выселены, а калі вярнуліся, то былі вымушаны жыць у зямлянках[1589].

---

[1584] AAN. Sygn. 52, j. 501. Дакументы без пагінацыі.

[1585] J. Gierowska-Kałłaur, *Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich (19 lutego 1919 – 9 września 1920)*, s. 396.

[1586] AAN. Sygn. 52, j. 714. Дакументы без пагінацыі.

[1587] Ibidem, j. 501. Дакументы без пагінацыі.

[1588] Ibidem.

[1589] Ibidem.

Цікава, што частка маёмасці пінскіх Скірмунтаў улетку 1919 г. усё яшчэ знаходзілася ў дэпазітарыі Варшаўскага прадстаўніцтва Таварыства апекі над помнікамі. Запісы дэпазітарнай кнігі за 1919–1921 гг. сведчаць, што, напр., дэпазіт Рамана Скірмунта складаўся з 7 пакункаў са «старой парцалянай і крышталём». Генрык Скірмунт пакінуў на захаванне 22 пакункі з крышталём, абразамі, партрэтамі, гравюрамі, вырабамі з бронзы і срэбра, польскімі і турэцкімі дыванамі і мэбляй другой паловы XVIII ст. Таксама ў дэпазітарыі апынуліся абразы, скульптуры, вырабы з бронзы і мэбля з пінскага дому Канстанцыі Скірмунт. Пры гэтым у кнізе быў запісаны варшаўскі адрас Рамана Скірмунта: вуліца Свентакжыска, 18/10. Той жа адрас фігураваў у дэпазітным запісу яго старэйшага брата Аляксандра. Відавочна, што гэтым адрасам падзялілася сястра Ядвіга.

Між тым, Рамана Скірмунта вельмі чакалі ў Парыжы. Ён быў патрэбны дзеля наладжвання кантактаў з польскай дэлегацыяй у Парыжы, якой кіраваў прэм’ер-міністр і адначасна міністр замежных спраў Ігнацы Падэрэўскі. Луцкевіч у лісце-справаздачы сябрам Рады БНР ад 19 чэрвеня паведамляў: «Наагул жа, вядзем перагаворы з усімі апрача палякоў і – ад учорашняга дня – літвіноў»[1590]. Дарэчы, стасункі з апошнімі так і не атрымалася наладзіць. Карэспандэнцыя А. Луцкевіча перапоўнена ягоным абурэннем спробамі літоўскай дэлегацыі дыскрэдытаваць дыпламатаў БНР у вачах іншых удзельнікаў канферэнцыі. У згаданым лісце Луцкевіч ахарактарызаваў прадстаўнікоў Літвы як «банду палітычных спэкулянтаў».

У той жа час у іншым лісце (8 ліпеня) ён наступным чынам фармуляваў задачы дэлегацыі БНР: «Паўтараю: мы гаварылі і будзем гаварыць з усімі, будзем таргавацца на ўсе бакі, каб вытаргаваць для нашага краю, калі не незалежнасьць, дык, прынамсі, фэдэрацыю з тым ці іншым сільнейшым суседам»[1591].

Перспектывы польска-беларускага паразумення на глебе барацьбы з агульным ворагам – бальшавіцкай Расіяй – выглядалі даволі добра. Тым больш, што ў Варшаве і Вільні ўжо адбываліся пэўныя перамовы. Відаць, якраз іх меў на ўвазе Смоліч, які ў лісце з Вільні да Луцкевіча ад 16 чэрвеня пісаў: «Палякі яшчэ не адважыліся на прызнаньне нашае і таргуюцца»[1592]. Пра тагачаснае імкненне да паразумення з Польшчай таксама сведчаць дакументы Цэнтральнага вайсковага архіва Польшчы, на якія спасылаўся Андрэй Чарнякевіч ў артыкуле, прысвечаным фарміраванню палонафільскага асяродку ў беларускім руху[1593]. Безумоўна, Раман Скірмунт мог адыграць важную ролю ў наладжванні дыялогу з польскімі палітыкамі ў Парыжы.

---

1590 *Лісты Антона Луцкевіча з часу Парыжскай мірнай канферэнцыі*, с. 70.

1591 Тамсама, с. 71.

1592 БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 261, арк. 32.

1593 A. Czarniakiewicz, *Kształtowanie się ośrodka polonofilskiego w białoruskim ruchu narodowym…*, s. 58–59.

Смоліч у лісце ад 16 чэрвеня, відаць, адказваючы на пытанне, паведамляў: «Скірмунта я выпісаў. Спадзяюся, што ён ужо выехаў у Парыж»[1594]. Аднак спадзяванні аўтара ліста не апраўдаліся. Тым не менш, Антон Луцкевіч не пакідаў надзеі на прыезд Скірмунта. У лісце да сяброў Дыпламатычнай місіі БНР у Берліне ад 25 чэрвеня ён прасіў: «Старайцеся зрабіць усё, каб Скірмунт сюды прыехаў»[1595]. Падобна, што місія зрабіла ўсё ад яе залежнае. Праз тры дні Луцкевіч у лісце да брата Івана пісаў: «Мы тут маемо вельмі многа работы. Страшэнна не хватае Рамана Скірмунта. Калі будзеш мець аказію, то напішы яму, каб канечне сюды прыехаў. Пропуск для яго ёсьць у Бэрліне ў галавы французскай ваеннай місіі генэрала Дупонта. З ім ён мог-бы зьнясьціся пры помачы французскай місіі ў Варшаве або можа паехаць праз Бэрлін і ўзяць асабіста»[1596].

Урэшце рэшт Луцкевіч сам распачаў перамовы з польскай дэлегацыяй. У ліпені ў Парыжы адбылася ягоная сустрэча з Падэрэўскім. Відаць, ужо пасля яе кіраўнік беларускай дэлегацыі паведамляў у лісце ад 29 чэрвеня сябрам Дыпламатычнай місіі БНР у Берліне: «Я мо' ў хуткім часе даб'юся перамены нашае пазіцыі ў краю – пад польскай акупацыяй, але гэта йшчэ толькі добрыя праекты... »[1597]

Магчыма, пэўную ролю ў адмове Скірмунта ад паездкі ў Парыж адыграла цікасць да яго асобы з боку кіраўнікоў Польскай дзяржавы, якая стала відавочнай якраз улетку. Напрыканцы чэрвеня Пётр Крэчэўскі ў лісце да Васіля Захаркі ў Берлін, грунтуючыся на інфармацыі з газет, нават зрабіў выснову, што Скірмунт «вядзе якіесь перагаворы з палякамі»[1598].

Эдвард Вайніловіч у дзённіку адзначыў, што 2 ліпеня меў сустрэчу з Аляксандрам Скжыньскім, які ў адсутнасць Падэрэўскага часова ўзначальваў Міністэрства замежных спраў. Гаворка зайшла пра аграрную рэформу. Скжыньскага цікавіла стаўленне суразмоўцы да ўвядзення максімальных памераў зямельных уладанняў (г. зв. «максімум»). Вайніловіч быў праціўнікам гэтай рэформы. Падчас размовы Скжыньскі зацікавіўся меркаваннем суразмоўцы адносна асобы Рамана Скірмунта і магчымасцямі апошняга прыехаць у Варшаву па запрашэнні міністэрства. Вайніловіч заявіў, што ведае яго як самога сябе і гатовы за яго паручыцца, а ў выпадку запрашэння сам мог бы прывезці яго ў Варшаву[1599].

Раман Скірмунт прыехаў у Варшаву ўжо на наступны дзень. Вайніловіч 3 ліпеня адзначыў у дзённіку «нечаканы прыезд» Скірмунта ў Варшаву і іх сустрэчу на абедзе ў княгіні Радзівіл, куды таксама былі запрошаны сябры Польска-

[1594] БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 61, арк. 32 адв.
[1595] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 363.
[1596] БДАМЛіМ. Ф 3, воп. 1, спр. 261, арк. 32 адв.
[1597] *Лісты Антона Луцкевіча з часу Парыжскай мірнай канферэнцыі*, с. 73.
[1598] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 367.
[1599] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 252.

Беларускага таварыства Павел Аляксюк і кс. Гарасімовіч[1600]. Пра падрабязнасці абеда Вайніловіч нічога не напісаў, але, магчыма, падбор ягоных удзельнікаў не быў выпадковым.

9 ліпеня Эдвард Вайніловіч і Раман Скірмунт былі запрошаны ў Міністэрства замежных спраў. Прыём затрымліваўся, і Вайніловіч, які ў той дзень меў неадкладныя справы, пакінуў прыёмную. А вось Раман Скірмунт застаўся. Ён меў размову спачатку са Скжыньскім, а потым з Пілсудскім[1601]. На наступны дзень падзяліўся з Вайніловічам уражаннямі ад сустрэчы ў Бельведэры, якія аказаліся «хутчэй добрымі». Паводле запісаў Вайніловіча, галоўным прадметам размовы была аграрная рэформа. Скірмунт паведаміў, што «Пілсудскі прызнаў асаблівую важнасць аграрнай праблемы для нас, бо яна вызначае праблему нацыянальных адносін і сілу польскага валодання на Крэсах»[1602].

Сціплыя звесткі з дзённіка Вайніловіча адлюстроўваюць заклапочанасць варшаўскіх палітыкаў ходам абмеркавання ў Сейме аграрнай праблемы. Але ў якой ступені на выніку гэтага абмеркавання маглі паўплываць Скірмунт і Вайніловіч? Магчыма, насамрэч гэтыя размовы датычылі больш важнай палітычнай падзеі, пра якую Скірмунт не палічыў патрэбным інфармаваць калегу. У гэты час іх адносіны ўжо не былі такім шчырымі, як раней. Прынамсі, у лісце да М. Здзяхоўскага ад 15 жніўня 1928 г., у якім ішла гаворка пра Вайніловіча, Скірмунт прызнаваўся ў няведанні ягоных поглядаў на «беларускую справу пасля адраджэння польскай дзяржаўнасці» і адмаўляўся «маляваць яго закончаны партрэт»[1603].

Андрэй Чарнякевіч выказаў меркаванне, што ў сітуацыі набліжэння польскіх войск да Менска ў Варшаве прадумвалі сцэнар стварэння беларускага ўрада на чале з Раманам Скірмунтам[1604]. Дыскусія ў Сейме вакол аграрнай рэформы магла стаць нагодай, каб знайсці падтрымку такой палітычнай камбінацыі з боку краёўцаў[1605]. Гэтую гіпотэзу падтрымала Д. Міхалюк, паводле якой Раман Скірмунт «насіўся з намерам стварэння новага беларускага ўрада пад сваім кіраўніцтвам», але з гэтым не пагадзіўся Ю. Пілсудскі. Яна ж сцвярджала, што меркаваны ўрад павінен быў быць урадам БНР, але мець характар краёвага прадстаўніцтва і супрацоўнічаць з польскімі партыямі[1606].

Паводле згаданых даследчыкаў, галоўнай перашкодай для рэалізацыі гэтага сцэнару стала пазіцыя Юзафа Пілсудскага. А. Чарнякевіч спаслаўся на запіс тэлефоннай размовы, што адбылася ў сярэдзіне ліпеня паміж афіцэрамі польска-

---

1600 Ibidem.
1601 Ibidem, s. 254.
1602 Ibidem.
1603 БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–702a. Лісты Р. Скірмунта да М. Здзяхоўскага, арк. 11.
1604 A. Czarniakiewicz, *Kształtowanie się ośrodka polonofilskiego w białoruskim ruchu narodowym…*, s. 59, 62.
1605 Ibidem, s. 59.
1606 D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 451.

га Галоўнага камандавання ў справе выезду да Варшавы беларускай дэлегацыі. Дэлегацыя павінна была прасіць Начальніка польскай дзяржавы дазволіць фарміраванне беларускіх войск і стварэнне беларускага ўрада. У фрагменце гэтай размовы прадстаўнік Галоўнай ад'ютантуры Бельведэра паручнік Налэнч-Кажанёўскі пераказаў пазіцыю Пілсудскага, які пагаджаўся на фарміраванне беларускага войска з удзелам польскіх афіцэраў і пад камандаваннем беларуса, але выказваўся супраць беларускага ўрада. Паводле Начальніка дзяржавы, спачатку трэба было правесці выбары і толькі потым думаць пра стварэнне ўрада[1607].

Гіпотэза наконт фарміравання ўрада на чале са Скірмунтам падаецца занадта смелай. Пра яе сведчаць толькі ўскосныя звесткі, якія пераважна грунтуюцца на факце сустрэчы апошняга з Пілсудскім. Даволі сціплая палітычная дзейнасць Скірмунта ў першай палове 1919 г. не дае ніякіх падстаў сцвярджаць, што нібыта ён «насіўся з ідэяй» урада. Інфармацыя пра верагодны ўрад Скірмунта або пра ягоную ініцыятыву ў гэтым накірунку адсутнічае на старонках успамінаў М. Касакоўскага і Е. Асмалоўскага, якія добра арыентаваліся ў «беларускім пытанні».

А. Чарнякевіч таксама абапіраўся на ўспаміны Б. Тарашкевіча, які праз год старонках часопіса «Przymierza» (1920) сцвярджаў, што «прадстаўнікі беларускага ўрада прапанавалі стварэнне краёвага ўрада (без этнаграфічнай Літвы) у паразуменні з польскімі партыямі. Такім чынам, гэты ўрад меў бы паўнамоцтвы Рады БНР, якая ў той час была адзіным законным прадстаўніком беларускай нацыі. Краёвы ўрад павінен быў забяспечыць скліканне парламента і адразу ж стварыць войска для вайны з Савецкай Расіяй. Зразумела, што пры гэтым Беларусь пайшла б поруч і звязала б сваё існаванне з тым, хто ў такі важны момант аказаў ёй рашаючую падтрымку. На жаль... Справу адклалі нібыта да моманту заняцця Менску»[1608].

Пераможны для польскіх войск ліпень 1919 г. стаўся месяцам ажыўлення польска-беларускіх кантактаў. Так, 28 ліпеня Эдвард Вайніловіч у сваім дзённіку распавёў пра вячэру ў гатэлі «Еўрапейскі», ініцыяваную Беларускім камітэтам і асабіста Лявонам Дубяйкоўскім. На вячэры прысутнічалі польскія афіцыйныя асобы, у т. л. міністр Ежы Іваноўскі. У прамовах Дубяйкоўскага, Вайніловіча і кагосьці з беларускіх палітыкаў (у дзённіку фігуравалі прозвішчы Алексюка і А. Луцкевіча) дамінавала тэма польска-беларускага паразумення. Дубяйкоўскі нават казаў пра магчымае аб'яднанне Беларусі і Польшчы як вольнай з вольнай і роўнай з роўнай[1609]. Цалкам магчыма, што Р. Скірмунт таксама прысутнічаў на вячэры, але ў дзённікавы запіс Вайніловіча ягонае прозвішча не патрапіла. У той самы дзень Ю. Пілсудскі прыняў дэлегацыю Цэнтральнай Беларускай рады Вілен-

---

[1607] A. Czarniakiewicz, *Kształtowanie się ośrodka polonofilskiego w białoruskim ruchu narodowym…, s.* 63.

[1608] Ibidem.

[1609] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 256.

шчыны і Гарадзеншчыны ў складзе Б. Тарашкевіча, П. Алексюка, М. Кахановіча і М. Кушнева і абяцаў дапамогу ў стварэнні беларускага войска[1610].

Улетку 1919 г. згаданымі Тарашкевічам «прадстаўнікамі беларускага ўрада» ў Варшаве былі хутчэй ён сам, Дубяйкоўскі і Аляксюк. Дарэчы, у гэты час менавіта з дзейнасцю Алексюка былі звязаны найбольш значныя спробы стварэння беларускага войска. Пасля заняцця палякамі Менска галоўную ролю ў кантактах з польскімі палітыкамі, а таксама ў агульнанацыянальным прадстаўніцтве пачаў адыгрываць Часовы беларускі нацыянальны камітэт. Ён паўстаў 10 жніўня ў Менску, а ягоным кіраўніком быў абраны Аляксандр Прушынскі. Відавочна, што ў розыгрышы «польскай карты» Скірмунт канчаткова саступіў ініцыятыву іншым беларускім палітыкам.

Калі ўсё ж прыняць гіпотэзу А. Чарнякевіча наконт польскага сцэнару з беларускім «краёвым» урадам Скірмунта, то можна сцвярджаць, што гэта быў фінальны эпізод беларускага перыяда ягонай палітычнай і грамадскай дзейнасці.

Польскія войскі ўвайшлі ў Менск 8 жніўня. Гэта адразу актуалізавала праблему польска-беларускага паразумення, і ў лісце ад 14 жніўня ў Берлін Луцкевіч быў вельмі катэгарычны: «Трэба за ўсялякую цану знайсьці супольны язык з палякамі і згаварыцца з імі аб арміі»[1611].

1 верасня старшыня Рады народных міністраў БНР па запрашэнні Падэрэўскага прыехаў на перамовы ў Варшаву. Напярэдадні выезду з Парыжа ў лісце да сяброў Дыпламатычнай місіі БНР у Берліне ён яшчэ раз агучыў пазіцыю ўрада: «Угледаемся, дзе будзе найвялікшая карысьць для нашай Бацькаўшчыны, і пойдзем з тымі, хто дасьць максімум пэўнасьці, што мы захавалі незалежнасьць у самых шырокіх межах»[1612].

Аднак ніякіх перамоў у Варшаве не адбылося. Луцкевіч не ўзгадніў тэрмін свайго прыезду і не застаў Падэрэўскага, які ўжо вярнуўся ў Парыж. Запісы Дзённіка Касакоўскага сведчаць, што кіраўнік польскага ўрада не папярэдзіў сваіх падначаленых пра візіт беларускага палітыка. Нічога не ведаў пра гэты візіт і Асмалоўскі. Апрача таго, высветлілася, што А. Луцкевіч не можа вярнуцца ў Парыж, бо польскія ўлады не прызналі пашпарт БНР і адмовілі ў дыпламатычнай візе. Гэтую сітуацыю некаторыя даследчыкі лічаць інтэрнаваннем беларускага палітыка ў Варшаве[1613]. Абураны Луцкевіч прыйшоў да высновы, што

---

[1610] Ibidem; A. Czarniakiewicz, *Kształtowanie się ośrodka polonofilskiego w białoruskim ruchu narodowym*…, s. 63.

[1611] Тамсама, с. 75.

[1612] Тамсама, с. 77.

[1613] Р. Лазько, А. Кротаў, М. Мязга, *Беларусь у еўрапейскай палітыцы. 1918–1925 гг. Нарысы.* Гомель 2003, с. 47.

яго наўмысна «выцягнулі» з Парыжа, каб паралізаваць працу дэлегацыі БНР на канферэнцыі[1614].

Пэўнай кампенсацыяй магла быць ягоная сустрэча з Пілсудскім. Аднак яе вынікі не маглі задаволіць Луцкевіча. Начальнік дзяржавы заявіў, што ў еўрапейскай палітыцы «беларускае пытанне» з'яўляецца маргінальным і параіў заняцца «арганічнай працай» і стварыць нешта накшталт беларускага «П'емонту». Палітычныя дэкларацыі, на думку Пілсудскага, маглі толькі пагоршыць сітуацыю. Прынамсі, пра гэта ён пісаў у лісце да Асмалоўскага 21 верасня[1615]. Безумоўна, на пазіцыю кіраўнікоў Польшчы моцна ўплывала сітуацыя на фронце. Поспехі польскага войска выразна паслаблялі пазіцыі прыхільнікаў дыялогу з урадам БНР.

Аднак вернемся да Рамана Скірмунта… Адна з апошніх згадак яго як беларускага дыпламата ўтрымлівалася ў дакуменце пад назвай «Склад супрацоўнікаў Міністэрства замежных спраў БНР» (верагодна, восень 1919 г.). Прозвішча Скірмунта фігуравала ў складзе праектаванай дыпламатычнай місіі Міністэрства замежных спраў БНР у Лондане[1616].

Таксама прозвішча Скірмунта, побач з якім стаіць пытальнік, фігуравала ў дакуменце, які С. Шупа ў другой кнізе першага тому зборніка «Архівы БНР» назваў «Слуцкая акцыя. Нататкі [з нарады?]»[1617]. Дакумент не датаваны, але ягоны змест сведчыць, што хутчэй за ўсё, ён быў створаны ў першай палове лістапада 1920 г., магчыма, адразу пасля Першага беларускага з'езда Случчыны (14–15 лістапада). Укладальнік тома выказаў меркаванне, што дакумент адлюстраваў змест кансультацый, якія адбываліся ў Варшаве з удзелам дзеячаў Найвышэйшай Рады БНР і прадстаўніка Рады Случчыны П. Жаўрыда.

Больш грунтоўным выглядае каментар да гэтага дакумента ўкладальнікаў зборніка матэрыялаў «Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і ўспамінах» (2006)[1618]. Яны адзначылі, што аналіз дакумента дазваляе казаць не пра тое, што адбылося, а хутчэй пра намеры. Ён не з'яўляецца пратаколам пасяджэння, а больш нагадвае план-канспект будучай нарады. Дарэчы, падчас другой публікацыі гэтага дакумента пытальнік каля прозвішча Скірмунта, а таксама пытальнікі каля прозвішчаў некаторых іншых згаданых постацяў чамусьці зніклі. Магчыма, сапраўды, прысутнасць Скірмунта ў гэтым дакуменце сведчыла толькі пра планы ягонага аўтара, а пытальнік азначаў сумневы ў магчымым удзеле гэтай асобы ў нарадзе. Хутчэй за ўсё, намерам засталася і сама нарада.

---

[1614] D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920…*, s. 457.

[1615] Ibidem, s. 458–459.

[1616] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.* Том 1, кніга 1, с. 543.

[1617] Тамсама, кніга 2, с. 950.

[1618] *Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і ўспамінах.* Уклад., падрыхт. тэкстаў, іл., аўт. заўв., паказ. А. Гесь, У. Ляхоўскі, У. Міхнюк; прадм. У. Ляхоўскага. Мінск 2006, с. 67–78. Каментар на с. 323.

У далейшай гісторыі беларускага руху асоба Рамана Скірмунта амаль не прысутнічае. Фактычна ўлетку 1919 г. закончыўся беларускі перыяд дзейнасці краёўца, які Казімір Акуліч акрэсліў як «апошні акт польска-беларускага сімбіёза»[1619].

Даводзіцца канстатаваць, што патэнцыял Рамана Скірмунта як беларускага палітыка не быў выкарыстаны напоўніцу. Недавер да «сацыяльна чужых», узмоцнены падазрэннямі ў «польскай інтрызе», разбураў усе спробы яднання на падмурку беларускай нацыянальнай ідэі і барацьбы за дзяржаўны суверэнітэт. Іншай прычынай была адсутнасць моцнага еўрапейскага партнёра Рады БНР, што абмежавала магчымасці дзейнасці Рамана Скірмунта як беларускага дыпламата на міжнароднай арэне.

[1619] K. Okulicz, *Podział ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1923–1940* (у:) *Alma Mater Vilnensis. Prace Społeczności Akademickiej USB na obczyźnie*. Londyn 1953, s. 122.

# ПАМІЖ ПАРЭЧЧАМ І ВАРШАВАЙ

Наступленне польскіх войск на савецкім фронце паспрыяла актывізацыі кантактаў паміж дзеячамі БНР і польскай палітычнай элітай. 8 жніўня 1919 г. быў заняты Менск, а ўжо праз два дні паўстаў Часовы Беларускі нацыянальны камітэт на чале з Аляксандрам Прушынскім. Менавіта ён выйшаў на першы план «польскага напрамку» знешняй палітыкі БНР.

## *«Польскі напрамак»… без Скірмунта*

Сярод часткі беларускай палітычнай эліты адрадзіліся надзеі на ажыццяўленне славутага лозунга «За нашу і вашу вольнасць». Другі подых ім надаў віленскі зварот Юзафа Пілсудскага ад 22 красавіка 1919 г. На старонках віленскай газеты «Беларускае жыццё» (рэд. Францішак Аляхновіч) сцвярджалася, што адзіным беларускім саюзнікам з'яўляецца дэмакратычная Польшча, і толькі пры яе падтрымцы беларусы могуць «здабыць для сябе тыя палітычныя варункі жыцця, аб якіх думае кожны свядомы беларус, здабыць сабе незалежнасць і толькі пры помачы польскага войска, якое ідзе цяпер на ўсход, [можна] злучыць землі нашае бацькаўшчыны ў непадзельную Беларусь»[1620].

Менская газета «Звон» (рэд. Ядвіга Луцэвіч[1621]) 10 верасня 1919 г. (№ 15) апублікавала фрагменты адозвы Польска-беларускага таварыства. У ёй сцвярджалася, што польскае войска нясе «вызваленьне і волю», што Польшча пад кіраўніцтвам дэмакратычнага Сейму адраджаецца як Рэч Паспалітая. Адозва заклікала беларусаў уступаць у польскае войска, а заканчвалася спадзевам, што «вольная і злучаная Белая Русь адтрымае права супольна [ісці] з вольнай і злучанай Польшчай, як роуны з роуным, да шчасьлівай будучыны у аднауленай прыязьні дзяржаунага сужыцьця з Рэчы Паспалітай польскай». Таксама газета паведамляла склад урада Польска-Беларускага таварыства, у якім фігуравалі Р. Скірмунт, П. Аляксюк, Б. Тарашкевіч, Л. Дубяйкоўскі, Э. Вайніловіч, Г. Кяневіч, А. Лядніцкі, Ч. Янкоўскі ды інш. Спадзяванні на польска-беларускае паразуменне былі звязаны пераважна з асобай Юзафа Пілсудскага.

Важнай палітычнай падзеяй стаўся прыезд Начальніка Польскай дзяржавы ў Менск 18–19 верасня 1919 г. Цырымонію прывітання Пілсудскага ў Шляхецкім доме распачала дэлегацыя Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта.

---

1620 «Biełaruskaje życcio». 1919, Nr 10.

1621 Паводле інфармацыі Цывільнай Управы Усходніх земляў, выданнем кіравалі група, у якую ўваходзілі Я. Лёсік, Я. Фарботка, А. Прушынскі і М. Касцевіч.

Прамаўляў Аляксандр Прушынскі, які падзякаваў за вызваленне Менска і Заходняй Беларусі ад прыгнёту бальшавікоў і адзначыў: «...Мы верым і спадзяёмся, што разам з вольным Менскам, Вільняй і сівой Горадняй вольнымі і шчаслівымі будуць у вольнай і незалежнай Беларускай Рэспубліцэ нашыя адвечныя астрогі на рубяжох Масквы – Віцебск і Магілёў і стары Смаленск. Гэтага мы спадзяёмся, у гэтае мы верым. А гэтай верай і надзеяй абдараваў нас братні народ, каторага Слаўнаму Прэдстаўніку гатовы мы сказаць у Меншчыне не толькі нашае сягоньняшняе «дзякуй», але і заўсёды: Здароў будзь, прыходзь да нас Госьцю мілы, Суседзе дарагі!»[1622]

На наступны дзень той жа Прушынскі, выступаючы падчас прыёму Пілсудскім дэлегацый розных народаў Беларусі, выказаў надзею, што «ўсе беларускія землі будуць аб’яднаныя ў адзіны дзяржаўны арганізм»[1623]. Пасля дэлегацый выступіў Ю. Пілсудскі. У прамове па-беларуску (!) ён пацвердзіў ранейшую пазіцыю: «Польшча йдзе на ўскраіны не дзеля таго, каб навязваць сваю волю. Я выдаў Адозву, пацверджаную вышэйшай уладаю – Польскім Соймам, што гэтай зямлі ніхто і нічога гвалтам накідаць не будзе, яна будзе вольнаю, і само насяленне вырашыць формы свайго палітычнага быту»[1624].

Варта адзначыць, што Пілсудскі ніяк не адрэагаваў на беларускія заявы наконт незалежнасці БНР і непадзельнасці беларускіх земляў. У эйфарыі тых дзён на гэта, магчыма, ніхто не звярнуў асаблівай увагі. Але насамрэч маўчанне кіраўніка Польскай дзяржавы было невыпадковым. Увосень 1919 г. незалежная і непадзельная БНР не ўваходзіла ў планы польскай палітыкі.

Між тым, вайна працягвалася, а становішча цывільнага насельніцтва няўхільна пагаршалася, бо стаўленне польскіх вайскоўцаў да яго мала чым адрозніваліся ад стаўлення чырвонаармейцаў. Сярод жыхароў Меншчыны расло незадавальненне дзейнасцю як вайсковай, так і цывільнай польскай улады. Так, ужо згаданае «Беларускае жыццё» ў тым самым нумары, дзе цытавалася ўрачыстая прамова Прушынскага, пералічвала шматлікія факты антыбеларускай палітыкі польскіх чыноўнікаў, якія цалкам супярэчылі заявам кіраўніка дзяржавы. Гаворка ішла пра знішчэнне беларускага школьніцтва на Гарадзеншчыне і Віленшчыне. Аўтар артыкула нават назваў Польшчу «ненармальным арганізмам», «часткі якога паступаюць нязгодна з ідэяй, якую праводзіць цэнтр, і кожная робіць сваю палітыку ў палітыцы»[1625].

Аднак надзея на паразуменне з Польшчай усё яшчэ была моцнай. На пачатку кастрычніка «Беларускае жыццё» нагадала пра існаванне Польска-беларускага

[1622] «Biełaruskaje życcio». 1919, Nr 15.

[1623] Цытата па: В. Астрога, В. Скалабан, *Пілсудскі ў Менску. Хроніка аднаго візіту*, «Спадчына». 1998, № 4, с. 44–45.

[1624] Тамсама, с. 45.

[1625] «Biełaruskaje życcio». 1919, Nr 15.

таварыства і пра тое, што ягонай галоўнай мэтай з’яўляецца супольнае палітычнае жыццё Беларусі і Польшчы на падставе прынцыпу «вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі». Сярод асноўных задач Таварыства назвалі «завязаньне як найцяснейшай прыяцельскай лучнасьці паміж народам польскім і беларускім», «прапаганду ідэі цеснай зьвязі Польшчы з незалежнай Беларусяй, шырэньне згодна з гэтай падставай прыхільнага і спагаднага погляду публікі ў Польшчы і Беларусі» ды інш.[1626]

Асобныя палітычныя падзеі ўмацоўвалі гэты спадзеў. Варта прыгадаць падтрымку менскім ваяводам У. Рачкевічам развіцця беларускага школьніцтва на Меншчыне, а таксама дэкрэт Пілсудскага ад 22 кастрычніка аб стварэнні Беларускай вайсковай камісіі і арганізацыі беларускага войска. Праўда, цэнтрам ягонага фарміравання быў прызначаны... Слонім. Апошняе засведчыла імкненне Варшавы маргіналізаваць «беларускае пытанне». Як заўважыла Д. Міхалюк, у той перыяд ні прыхільнікам канцэпцыі федэрацыі, ні іх апанентам не быў патрэбны моцны беларускі ўрад з войскам. Яны ўжо планавалі падзел беларускіх земляў[1627].

Хваляванне беларускай эліты адлюстравалася ў матэрыялах тагачаснага беларускага друку. Так, у № 19 «Звона» (6 кастрычніка 1919 г.) паведамлялася пра рост антыпольскіх настрояў у беларускай вёсцы, выкліканых палітыкай польскай адміністрацыі: «Польскія ўраднікі на правінцыі абсалютна не разумеюць, дзе ім прыходзіцца служыць, і абсалютна ня лічацца з Беларускім насяленьнем. Яны разглядаюць Беларусь як польскую зямлю і на ўсё паглядаюць вачыма звычайнага шовіністы, каторы ніяк ня можа сьцяміць, чаму кругом яго жывуць не палякі, а нейкі іншы народ. Адгэтуль – непаразуменьні, нязгода і варажнеча. Асабліва-ж кепска тое, што пасады провінцыяльных ураднікаў пазаймалі тыя людзі з панскага стану, на якіх народ прывык глядзець як на сваіх няпрыхільнікаў». Газета звяртала ўвагу на тое, што ў выніку такой палітыкі актывізаваліся «беларускія адшчапенцы», якія раздуваюць нянавісць да Польшчы і чарговы раз вабяць людзей да «Маскоўшчыны».

Аналагічны погляд на старонках газеты «Беларускае жыццё» выказаў Францішак Аляхновіч: «...Тые с паміж польскага грамадзянства, каторые дарваліся да сякой-такой улады, карыстаюцца з кожнай аказыі, каб разварушыць гэтак мазольна будаваную лепшымі сынамі Польшчы і Беларусі арку згоды, а у душах пакрыуджаных пакінуць нездавольство, непрыязнь, а можа і хаценьне адплаты...»[1628]

Напрыканцы 1919 г. сябры Польска-беларускага таварыства звярнуліся да кіраўніка Цывільнай управы з «мемарыялам», у якім пералічвалі шматлікія факты асіміляцыйнай дзейнасці польскіх чыноўнікаў, у т. л. закрыццё беларускіх газет

---

[1626] Тамсама. 1919, Nr 16.
[1627] D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa. 1918–1920*…, s. 461.
[1628] «Biełaruskaje życcio». 1919, Nr 22.

і вучэльняў, адмовы ў прыёме на працу беларускіх настаўнікаў, арышты дзеячаў беларускага руху ды інш. Таварыства прапанавала стварыць Камісіі паразумення і перадаць некаторыя функцыі Управы Польска-беларускаму таварыству[1629].

Раман Скірмунт не ўдзельнічаў у менскіх перамовах. Не было яго і сярод згаданых Асмалоўскім падпісантаў «мемарыялу». Напрыканцы 1919 г. ён звонку мог назіраць востры палітычны крызіс беларускага руху і фактычны заняпад ідэі дзяржаўнасці. Да апошняга спрычыніўся раскол у кіраўніцтве, інспіраваны беларускімі эсэрамі, якія дзеля змагання з уяўнымі «польскімі ўплывамі» ў лістападзе 1919 г. заключылі тайнае пагадненне з бальшавікамі.

У сярэдзіне снежня таго ж году Рада БНР раскалолася на Народную Раду БНР, якая сфармавала ўрад з сяброў партый эсэраў і сацыялістаў-федэралістаў на чале з Вацлавам Ластоўскім, і Найвышэйшую Раду БНР (Антон Луцкевіч). У адрозненне ад Ластоўскага апошні па-ранейшаму шукаў паразумення з Варшавай. Аднак нават згаданыя перамовы з кіраўніком Польскай дзяржавы нічога не змянілі. У выніку ў лютым 1920 г. Луцкевіч зышоў у адстаўку, і дзейсным застаўся толькі ўрад Ластоўскага.

Зразумела, што «бальшавізацыя» беларускага ўрада магла толькі ўзмацніць рашэнне Рамана Скірмунта пра адыход ад беларускай палітычнай дзейнасці. Яго імя не фігуравала сярод удзельнікаў польска-беларускіх перамоў, якія ў сакавіку 1920 г. адбываліся ў Менску. З беларускага боку гэта была яшчэ адна спроба (ці не апошняя?!) дабівацца незалежнасці і цэласнасці Беларусі ў саюзе з Польшчай. В. Іваноўскі, Я. Лёсік, А. Уласаў, А. Станкевіч ды іншыя сябры беларускай дэлегацыі зноў пачулі абяцанні польскага боку (Уладзіслаў Рачкевіч і Леан Васілеўскі), якія датычылі падтрымкі цэласнасці Беларусі, развіцця беларускай мовы, дзяржаўных датацый беларускім школам і праваслаўнай царкве на тэрыторыі Менскага ваяводства.

Раскол беларускага руху і прабальшавіцкая пазіцыя партыі эсэраў Тамаша Грыба ды іх саюзнікаў яшчэ больш паслабілі міжнародныя пазіцыі прыхільнікаў БНР. «Беларускае пытанне» па-ранейшаму заставалася «прадметам рэгіянальнай палітыкі»[1630], лёс якога вырашалі Расія, Польшча і Літва.

Яшчэ адным фактарам, які перашкаджаў выкананню польскім бокам пэўных абяцанняў і дамоўленасцяў з беларускімі дзеячамі, была пазіцыя мясцовай польскай супольнасці. Яе большасць патрабавала далучэння беларускіх земляў да Польскай дзяржавы. Краёвыя амбіцыі былі перакрэслены небяспекай вяртання бальшавікоў.

Ёанна Гераўска-Калаўр прааналізавала палітычную і грамадскую актыўнасць палякаў Меншчыны ў 1919–1920 гг. і прыйшла да высновы, што іх лідэры толькі фармальна пагаджаліся з канцэпцыяй федэралізму, а на практыцы ажыццяўлялі

---

1629 BUJ. Dział rękopisów. Sygn. 9818. J. Osmołowski, *Wspomnienia. 1919*. Tom 3, k. 652–657.
1630 D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa. 1918–1920…*, s. 498.

праграму партыі Рамана Дмоўскага. «Паразе федэрацыйнай канцэпцыі ў перыяд актыўнасці Цывільнай управы Усходніх земляў паспрыяла розніца ў разуменні асобных паняццяў, – заўважыла даследчыца. – Для аўтара Віленскага звароту «грамадства» было грамадствам, г. зн. усімі, а для палякаў Меншчыны – гэта было «польскае грамадства». Для Пілсудскага Цывільная ўправа была ўладай на «тэрыторыі Усходніх земляў», а для палякаў (і прадстаўнікоў іншых нацый) Меншчыны – «польскай уладай»[1631].

Галоўнай прычынай незадавальнення менскіх палякаў было іх нежаданне дзяліць уладу з беларусамі і габрэямі. 16 жніўня 1919 г. Ежы Асмалоўскі атрымаў ліст ад супрацоўніка Цывільнай управы Уладзіслава Есьмана, які калісьці быў сябрам Краёвай партыі Літвы і Беларусі. Есьман абураўся канцэпцыяй федэралізму і сцвярджаў, што Цывільная ўправа ў выніку кантактаў з людзьмі, якіх падазравалі ў адстойванні самастойнасці Беларусі ці яе федэрацыі з Польшчай дзеля асабістых або саслоўных інтарэсаў, страціла павагу польскай грамадскасці.

«Трэба ўлічваць, – пісаў ён, – што тая моладзь, якая [...] рызыкуючы жыццём і здароўем выратавала гэтыя тэрыторыі ад бальшавікоў, і тыя маці і жонкі, што з трывогай чакаюць звестак з фронту ад сыноў і мужоў, не схільныя нават у мінімальнай ступені думаць, што змагаюцца за шчасце габрэяў і цнатлівых беларускіх парабкаў, якія падчас бальшавіцкай агрэсіі мучылі іх сем'і і руйнавалі маёнткі, альбо за задавальненне амбіцый паноў Скірмунтаў і Вайніловічаў *et consortes*, якім сняцца кароны беларускіх вялікіх князёў. Зрэшты, так думае не толькі моладзь, але таксама паважаныя генералы і палкоўнікі»[1632].

Аўтар ліста заяўляў пра адстаўку, але яна не адбылася. У лістападзе 1919 г. Есьман быў нават прызначаны кіраўніком Берасцейскай акругі Цывільнай управы[1633]. Ускосна гэты эпізод пацвярджае адсутнасць прынцыповай розніцы паміж прыхільнікамі канцэпцый Пілсудскага і Дмоўскага ў дачыненні да Беларусі.

Цікавасць уяўляе згадка ў лісце Есьмана Рамана Скірмунта і Эдварда Вайніловіча. Відавочна, што частка мясцовай польскай супольнасці ацэньвала іх палітычную дзейнасць як імкненне да стварэння Беларускай дзяржавы дзеля задавальнення ўласных палітычных амбіцый. Папраўдзе, як адзін, так і другі былі вельмі далёкія ад падобных намераў. Дарэчы, 17 лістапада 1919 г. Вайніловіч падпісаў «мемарыял» Менскага таварыства сельскай гаспадаркі пра далучэнне «крэсаў» да Польшчы[1634]. Подпісу Рамана Скірмунта там не было...

---

[1631] J. Gierowska-Kałłaur, *Aktywność środowisk polskich w Mińszczyźnie w realiach lat 1919–1920*, «Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej» 2010, tom 45, s. 119.

[1632] Biblioteka Publiczna m. Warszawy. Dział rękopisów. Akc. 1553. Kwestja Białoruska. 1919–1920, s. 13.

[1633] J. Gierowska-Kałłaur, *Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich*, s. 116–117.

[1634] Ibidem, s. 111.

## *Доўгая дарога дадому*

Падобна, што ўвосень 1919 г. палітыка ў жыцці Рамана Скірмунта сапраўды адышла на другі план. Не было магчымасці спалучаць ранейшую грамадска-палітычную актыўнасць з працай па аднаўленні маёнтка. Нават у Менску ён быў рэдкім госцем. Прынамсі, штодзённы «Гонец Мінскі» (рэдактар В. Ваявудскі), які пачаў выходзіць у верасні 1919 г. і паведамляў пра грамадскую і палітычную актыўнасць сяброў польскіх і беларускіх арганізацый, толькі аднойчы згадаў пра яго.

Скірмунт займаўся адраджэннем Парэчча. Разам з аднаўленнем маёнтка ён імкнуўся аднавіць і патэрналісцкі характар стасункаў з вёскай. Дакументы сведчаць пра існаванне ў 1919 г. у Парэцкім маёнтку пачатковай школы, якую наведвалі 75 вучняў (14 католікаў і 61 праваслаўны). Настаўнікам быў Юзаф Марачэўскі[1635]. Пошукі сродкаў на ўтрыманне школы і дзіцячых сталовых прымусілі Скірмунта звярнуцца ў Польска-амерыканскі камітэт дапамогі дзецям, які ў 1920 г. знаходзіўся ў Берасці[1636].

Аднак пасля рэвалюцыйнай завеі і ваеннай катастрофы сацыяльныя канфлікты ў Парэччы былі непазбежнымі. Так, у кастрычніку 1919 г. агент Інспекцыі па вайсковай мабілізацыі Цывільнай управы паведаміў пра канфлікт паміж сялянамі гміны Жабчыцы і маёнткам Скірмунта ў Парэччы. Дзеля «ўрэгулявання стасункаў» у яго ўмяшалася жандармерыя, якая пагрозамі прымусіла сялян працаваць у маёнтку[1637]. Усе абставіны гэтага здарэння невядомыя, але варта звярнуць увагу, што ў канфлікце фігураваў не Раман Скірмунт, а ягоны маёнтак.

Яшчэ ў гэтым рапарце звярталася ўвага на рост антыпольскіх настрояў у палескай вёсцы. Адной з галоўных прычын службовец Цывільнай управы лічыў «дзіўныя паводзіны мясцовых зямян», якія нібыта прадавалі збожжа выключна габрэям, а тыя перапрадавалі яго сялянам па завышанай цане. Паводле ягонага меркавання, менавіта гэта разам з беднасцю сялянскай масы, яе страхам, што вернецца паншчына, а таксама адсутнасцю прадуктаў харчавання спрыялі росту варожасці да польскай улады і рыхтавалі глебу для вяртання бальшавікоў[1638]. Магчыма, сапраўды мясцовае польскае зямянства з дапамогай войска і жандармерыі спрабавала ўзяць свайго роду рэванш за знішчаныя маёнткі, забітых сваякоў і ўвесь жах, перажыты ў 1917–1919 гг.

Водгукі канфлікта ў Парэччы можна заўважыць і ў артыкуле «Панскія здзекі», апублікаваным на старонках беларускай газеты «Наша думка» (рэдактар М. Га-

---

[1635] ДАБВ. Ф. 2001, воп. 4, спр. 76. У 1919 г. у Парэччы знаходзілася яшчэ адна школа на 86 вучняў (4 каталіка і 82 праваслаўныz). Настаўнікамі былі Надзея Сангін і Апалоній Маслоўскі.

[1636] Літоўскі Цэнтральны Дзяржаўны архіў (далей: ЛЦДА). Ф. 129, воп. 2, спр. 2357, арк. 329.

[1637] J. Gierowska-Kałłaur, *Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich*, s. 393.

[1638] Ibidem, s. 393.

рэцкі) (1921, № 27) за подпісам *Бічук*. Аўтар выкарыстаў матэрыялы органа ППС газеты «Работнік», карэспандэнт якой наведаў Парэчча і размаўляў з сялянамі. Ён сцвярджаў, што ўласна «панскі двор» не быў зруйнаваны, а служба выжывала, хто як мог. Тыя, хто меў каня, пачалі апрацоўваць зямлю, што ляжала аблогам. Пасля вяртання Скірмунта ўвесну 1919 г. сяляне прыйшлі да яго, каб дамовіцца наконт арэнды апрацаванай імі зямлі «на трацьцяк», г. зн. за ¹/₃ ураджаю. Скірмунт нібыта ўсіх выгнаў, нават не стаў размаўляць[1639].

Аднак такія паводзіны былі нехарактэрнымі для Рамана Скірмунта. Магчыма, інфармацыя пра выганне была перабольшваннем. Апошняе ўскосна пацвярджаецца тым, што ў другой частцы артыкула ўжо адзначалася, што Скірмунт «лічыцца тут за аднаго з лепшых і далікатных земляўласьнікаў», што ён здае зямлю ў арэнду на больш выгодных для сялян умовах, чым суседзі.

Таксама *Бічук* распавёў пра эпізод, які цалкам пярэчыў назве публікацыі ў «Нашай думцы», і быў звязаны з асаднікамі. У Парэцкім маёнтку не былі засеяны два фальваркі, і павятовая ўлада планавала перадаць іх асаднікам. Гаспадар Парэчча даведаўся пра гэта і прапанаваў сялянам забраць гэтую зямлю, «на якіх хочуць варунках». Сяляне так і зрабілі. Калі ж з'явіліся асаднікі, Скірмунт заявіў: «Нічога не магу даць для колёнізацыі, усё сяляне разабралі і аруць; сам зямлі маю ня шмат».

Калі на старонках польскай газеты «Работнік» паўставаў негатыўны вобраз памешчыка-прыгнятальніка, які не меў ані кроплі польскага патрыятызму, то на старонках «Нашай думкі» хутчэй вымалёўваўся пазітыўны вобраз «свайго» зямяніна, праціўніка асадніцтва. Апошняе, дарэчы, дазваляе сцвярджаць, што адыход ад беларускай палітычнай дзейнасці не азначаў адмаўлення Скірмунта ад краёвай ідэі.

На старонках Дзённіка Міхала Касакоўскага ў верасні 1919 г. Раман Скірмунт згадваўся як той, хто адмовіўся прадаваць прадукты харчавання польскаму войску па ўстаноўленых коштах. Ён патлумачыў адмову цяжкім станам гаспадаркі[1640]. Затое Генрык Скірмунт з Моладава, паводле той жа крыніцы, знайшоў магчымасць падтрымаць польскіх вайскоўцаў.

8–9 сакавіка 1920 г. Раман Скірмунт удзельнічаў у агульным сходзе Менскага таварыства сельскай гаспадаркі. Кіраваў сходам Эдвард Вайніловіч, які ў прамове казаў пра неабходнасць дзяржаўнай падтрымкі аднаўлення зямянскіх гаспадарак: «Інтарэсы зямян супадаюць з інтарэсамі ўсяго краю. Гаворка не ідзе пра абарону нейкіх каставых інтарэсаў, а пра карысць усяго грамадства. Чым болей зямлі будзе апрацоўвацца, тым болей будзе прадукцыі і збожжа, а ў гэтым зацікаўлены ўсе»[1641].

Сябра Рады МТСГ Раман Скірмунт быў абраны дэлегатам на сход Берасцейскага

---

[1639] «Наша думка». 1921, № 27.

[1640] Archiwum PAN. Sygn. 4. M. St. Kossakowski, *Diariusz*. Tom 4, k. 122.

[1641] «Goniec Miński». 1920, Nr 182, 9 marca.

акруговага таварыства сельскай гаспадаркі. Гэтая інфармацыя сведчыць пра новую геаграфію ягоных інтарэсаў у гэты перыяд.

Аднак у ліпені 1920 г. хваля вайны зноў дакацілася да Палесся. На пачатку месяца пачаўся контрнаступ бальшавікоў, і ўжо 11 ліпеня яны занялі Менск. Праз чатыры дні Пілсудскі загадаў адвесці войскі на лінію Пінск – Агінскі канал – р. Шчара – р. Нёман да Гародні. Польскія ўстановы ў Пінску пачалі эвакуацыю. Канстанцыя Скірмунт пазней прыгадвала: «Адступленне польскіх войск азначала надыход саранчы, ад якой трэба было ратаваць не толькі маёмасць, але і жыццё. Амаль уся інтэлігенцыя, якая ведала пра лёс інтэлігенцыі ў Расіі, пакідала горад. У перапоўненых вагонах выязджалі мяшчанскія сем'і, забіраючы толькі малую частку свайго даробку»[1642].

У дарогу вырушылі таксама Скірмунты. Пра гэты эпізод бежанства распавяла Ядвіга Скірмунт ва ўспамінах, прысвечаных сваёй сяброўцы пісьменніцы Марыі Радзевічуўне, з якой яны разам жылі ў маёнтку ў Грушаве паблізу Кобрына.

23 ліпеня сюды дабраліся Скірмунты з Моладава і Раман Скірмунт з маці і сястрой Аленай з Парэчча. Далей яны выправіліся разам у накірунку Варшавы. У той дзень бачылі, як гарэлі лес і палі, а ўвечары шлях асвятлялі блікі рэфлектараў з боку Пружанаў, да якіх набліжаліся бальшавікі. Ядвіга Скірмунт прыгадвала, што рухаліся яны вельмі няспешна, бо разам з імі ішоў статак быдла.

Дарога бежанцаў была доўгай. Даводзілася начаваць у прыдарожных маёнтках, у хатках леснікоў, пад адкрытым небам. Але самым жахлівым было пачуццё няпэўнасці, якое ўзмацнялася відам дэзарганізаванага і дэмаралізаванага польскага войска. Таксама бачылі іншых бежанцаў: «...Сустракалі мы табары падобныя на наш, толькі яшчэ больш змучаныя, якія ішлі з больш аддаленых мясцінаў:

– Ідзем з Бабруйска.

– А мы з-пад Барысава.

– Мы ў дарозе ўжо шэсць тыдняў.

– А мы чатыры тыдні.

Гэта былі нашы, свае, палякі. Так шкада было гэтых людзей, іх маёнткаў і засценкаў, пакінутых на рабаванне ворага. […] З узрастаючым хваляваннем пыталіся сябе, ці ёсць і адкуль возьмецца тая сіла, якая затрымае ворага, а з дэмаралізаваных адступаючых частак зробіць войска пераможцаў?»[1643]

У адзін з вечароў Раман Скірмунт наблізіўся да іх павозкі, і Ядвіга Скірмунт стала сведкай «прафесійнай літаратурнай размовы» паміж стрыечным братам і пісьменніцай.

Каля Варшавы яны раздзяліліся. Ядвіга Скірмунт з Марыяй Радзевічуўнай на-

---

[1642] Цытата па: D. Szoper, *Gentu Lithuana, natione Lithuana…*, s. 107.

[1643] J. Skirmuntówna, *Pani na Hruszowej: dwadzieście pięc lat wspomnień o Marii Rodzewiczównie*. Warszawa 1994, s. 69–70.

кіраваліся ў сталіцу, а Генрык і Раман працягнулі свой шлях у Кутноўскае, у маёнтак Барухова Крэткоўскіх. Ім трэба было клапаціцца пра захаванне статкаў.

Як вядома, сіла, каб спыніць наступ бальшавіцкіх войск, знайшлася. Нацыянальна-патрыятычны ўздым польскага народу, спалучаны з вайсковай і дыпламатычнай падтрымкай з боку ЗША, Францыі ды іншых еўрапейскіх краін, змяніў сітуацыю на фронце. 16 жніўня пачаўся контрнаступ, у выніку якога пад Варшавай былі разгромлены савецкія арміі, і ўжо праз пяць дзён пераможцы зноў занялі Берасце.

У сярэдзіне верасня ў Рызе аднавіліся мірныя перамовы паміж дэлегацыямі савецкай Расіі і Украіны, з аднаго боку, і Польшчы, з другога. Да ўдзелу ў іх не былі дапушчаны ні дэлегацыя БССР, ні дэлегацыя ўрада БНР. Аднаўленне перамоў адбывалася на фоне новага паспяховага наступу польскіх войск, якія разграмілі праціўніка на р. Нёман і рухаліся наперад па ўсім фронце ад Гародні да Пінска. Адначасна на поўдні Расіі пачаўся наступ войск генерала Урангеля.

28 верасня пасля двухдзённых жорсткіх баёў вайскоўцы групы палкоўніка Станіслава Булак-Булаховіча ўступілі ў Пінск. Трэба адзначыць, што «пінская аперацыя» была адной з найбольш яркіх у вайсковай біяграфіі Булак-Балаховіча. Ён здолеў рассекчы 4 армію праціўніка на дзве часткі, прычым яе падраздзяленні страцілі кантакт з іншымі войскамі бальшавікоў. У палон трапіла частка штаба арміі, 2 тыс. салдат і каля 400 афіцэраў, каса, склады правіянту і абмундзіравання ды інш.[1644]

Першым «пінскім загадам» камандзір групы перадаваў цывільную ўладу выбарнаму гарадскому самакіраванню, загадваў аднавіць працу заводаў, майстэрняў і гандлёвых прадпрыемстваў, забараняў самавольныя рэквізіцыі і рабункі з боку вайскоўцаў і пагражаў парушальнікам ваенна-палявым судом[1645].

А ўжо праз два тыдні польскія службоўцы з розных інстанцый пачалі звяртацца да кіраўніцтва з просьбай вывесці «балахоўцаў» з Пінску. Так, адзін з іх дакладваў генералу Францішку Краёўскаму: «У выніку дзеянняў групы Балаховіча сялянскае насельніцтва не можа зразумець, у якой краіне яно жыве. Гэта адчуваецца ўжо паблізу Пінска. Людзі не разумеюць, якія адносіны існуюць паміж польскай дзяржавай і расійскай дабраахвотнай вайсковай групай, і які ўплыў на яе мае польскае камандаванне». У рапарце адзначаліся факты антыпольскай прапаганды «балахоўцаў», якая мела нацыянальны і сацыяльны характар, і «небяспека негатыўных наступстваў у сувязі з вельмі вострым габрэйскім пытаннем»[1646].

У рапартах старасты Пінска таксама фігуравала варожасць «балахоўцаў» да польскай адміністрацыі, шматлікія рабункі і забойствы габрэяў, у якіх абвінавачваліся «зялёныя банды з арміі Балаховіча». Стараста пісаў пра пагаршэнне стану

---

[1644] А. Латышонак, *Жаўнеры БНР*, с. 141.
[1645] ДАБВ. Ф. 2001, воп. 1, спр. 100, арк. 1.
[1646] Тамсама, арк. 2.

«жывога інвентара», бо «шмат коней і кароў было забрана салдатамі на патрэбы войска. Асабліва актыўна гэтым займаюцца «балахоўцы», якія дзейнічаюць горш за бальшавікоў, бо тыя хоць сялянаў шкадавалі»[1647]. Відавочна, што намаганні афіцэрскага корпусу «балахоўцаў» па падтрымцы дысцыпліны і парадку, пра што таксама пісаў стараста, не былі дастакова эфектыўнымі.

У іншым рапарце той жа стараста сцвярджаў, што «насельніцтва імкнецца любым коштам пазбыцца «балахоўцаў» і пачаць жыць больш-менш нармальным жыццём. Зараз «балахоўцы», нягледзячы на антыпольскую агітацыю, падрыхтавалі для нас вельмі добрую глебу. Людзі пачалі глядзець на польскія ўлады і польскае войска як на крыніцу законнасці і бяспекі»[1648].

Між тым, у Пінск перабраўся Беларускі палітычны камітэт (БПК) на чале з Вячаславам Адамовічам (старэйшым) і Паўлам Алексюком. 12 кастрычніка БПК падпісаў дамову з Булак-Балаховічам, якая павінна была надаць ягоным дзеянням беларускі палітычны характар. Паводле даследаванняў Алега Латышонка, БПК абавязваўся дапамагчы ў арганізацыі беларускай арміі, а палкоўнік павінен быў перадаць Камітэту цывільную ўладу на занятай яго войскам тэрыторыі Беларусі[1649].

У сучаснай беларускай гістарыяграфіі прысутны міф Станіслава Булак-Балаховіча як «бацькі» беларускага войска і змагара за незалежную БНР. Аднак знаёмства з дакументамі ДАБВ (фонд 2001 ды інш.) дазваляе сцвярджаць, што паводзіны многіх вайскоўцаў групы Булак-Балаховіча ў Пінску і падчас лістападаўскага марша на Мазыр і Рэчыцу нанеслі вялікую шкоду ідэі беларускай дзяржаўнасці.

Вось як ацаніў дзеянні групы С. Булак-Балаховіча даследчык ягонага вайсковага шляху Алег Латышонак: «Ваенным поспехам генэрала Булак-Балаховіча спадарожнічалі незьлічоныя забойствы і гвалты, зьдзейсьненыя ў дачыненьні да мясцовага насельніцтва, у спалучэньні з шырокамаштабным рабаўніцтвам. Ва ўмовах вайны лёгка было парушаць дысцыпліну. Польскія часткі таксама мелі на сумленьні не адзін супярэчны з гонарам жаўнера ўчынак, аднак памеры злачынстваў, зьдзейсьненых жаўнерамі генэрала Булак-Балаховіча, пераўзышлі ўсялякія, нават ваенныя, нормы.

Ахвярамі балахоўцаў перш за ўсё былі габрэі. Балахоўцы абвінавачвалі іх ва ўсіх няшчасьцях, якія напаткалі Расею ў выніку бальшавіцкай рэвалюцыі. Значная колькасьць габрэяў на абшары, дзе вёў свае баявыя дзеяньні атрад Балаховіча, сапраўды, падтрымлівала бальшавікоў, пры гэтым нярэдка са зброяй у руках. Аднак гэта не апраўдвае перасьледу ўсяго габрэйскага насельніцтва, а большая

---

1647 Тамсама, арк. 8.

1648 Тамсама, арк. 9.

1649 А. Латышонак, *Беларуская палітыка Пілсудскага ўвосень 1920 г.* (у:) *Рыжскі мірны дагавор 1921 г. і лёсы народаў Усходняй Еўропы*. Рэдактар У. Ладысеў. Мінск 2001, с. 25.

частка зьдзейсьненых балахоўцамі злачынстваў вынікала з маральнага разбэшчаньня і прымітыўнай прагі нажывы»[1650].

Вызваленне Піншчыны ад бальшавікоў дазволіла Скірмунту вярнуцца ў Парэчча. Магчыма, ягонае вяртанне адбылося яшчэ да падпісання ў Рызе прэлімінарнай дамовы паміж Польшчай і РСФСР (12 кастрычніка), і ён быў сярод тых нешматлікіх зямян, пра вяртанне якіх напрыканцы кастрычніка пісаў у сваіх рапартах пінскі стараста[1651]. Прынамсі, выступаючы ў Варшаве на сходзе «Саюза палякаў беларускіх Крэсаў» 24 кастрычніка 1920 г., Скірмунт характарызаваў сялянскія настроі пасля выгнання бальшавікоў.

У Дзяржаўным архіве Берасцейскай вобл. захавалася апісанне стану Лунінецкага пав. у студзені 1921 г., якое дапамагае зразумець сітуацыю на Піншчыне. У справаздачы павятовай камендатуры паліцыі за 6 студзеня 1921 г. сцвярджалася, што мясцовае насельніцтва пазбаўлена амаль усяго ў выніку пастаянных вайсковых рэквізіцый, а таксама крадзяжоў з боку салдат. У справаздачы сцвярджалася, што многія сяляне не мелі насення для сяўбы і харчаваліся хлебам з жалудоў і бруквы. Уся прамысловасць павета складалася з нешматлікіх тартакаў і... рыбалоўства. Прычым апошняе было ў заняпадзе, бо вайскоўцы рэквізавалі рыбалоўныя сеткі. Дарогі і масты былі знішчаны. Адзначалася, што бяднейшая частка сялянства сумуе па бальшавіках, а праваслаўнае духавенства імкнецца «падтрымліваць русіфікацыю павета і духоўна ўздзейнічае дзеля перацягвання насельніцтва на рускі бок»[1652].

Таксама варта прывесці апісанне Баляславам Скірмунтам у аповесці «З жыцця польскага двору» (1939) вяртання ў родны дом улетку 1920 г. сям’і Падгорскіх, прататыпам якіх былі якраз Скірмунты: «Двор пастрадаў ад вайны, але яшчэ больш ад кепскіх людзей. Скралі дзверы і вокны, вывезлі ўсё, што можна было забраць. Засталіся сцены, і за тое трэба было дзякаваць Богу, бо ў іншых дварах і гэтага не было. Увайшлі ў палац. Паўсюль пусткі і голые сцены, але служба пачала прыносіць сталы і крэслы, а таксама іншую мэблю, якую схавала ў сябе. Тым не менш першую ноч спалі на зямлі, на сенніках. Не лепш было з прадуктамі, бо літаральна нічога не мелі, апрача таго, што нашы бежанцы прывезлі з сабою. Але служба і тут дапамагла. Адзін прынёс хлеб, другі масла, трэція – яйца, крупы, іншыя прыпасы. Адразу пасля прыезду было што з’есці, але што будзе потым? Пра гэта ніхто не думаў. Мы радаваліся вяртанню ў роднае гняздо, нават у такіх цяжкіх і невясёлых умовах»[1653].

Сітуацыя ў маёнтку Парэчча была лепшай. Усё ж частка «жывога інвентара» і маёмасці была выратавана падчас бежанства, а сядзібны дом пазбег рабунку.

---

[1650] А. Латышонак, *Жаўнеры БНР*, с. 141–142.

[1651] ДАБВ. Ф. 2001, воп. 1, спр. 100, арк. 8 адв.

[1652] ДАБВ. Ф. 2026, воп. 1, спр. 395, арк. 2.

[1653] Skirmunt B. *Z życia dworu polskiego*. Wilno 1939, s. 106.

## *Супраць Рыжскага трактата*

Інфармацыя пра падпісанне Рыжскага трактата актывізавала палітычную дзейнасць Рамана Скірмунта. Для яго вынікі перамоў у Рызе і ўмовы прэлімінарнага пагаднення азначалі канчатковы крах канцэпцыі краёвасці, да якога ў дадзеным выпадку непасрэдна спрычыніліся ўлады незалежнай Польшчы.

Польскую дэлегацыю на перамовах у Рызе ўзначальваў віцэ-міністр замежных спраў Ян Домбскі, але фактычным яе кіраўніком быў прыхільнік палітычнай лініі Дмоўскага Станіслаў Грабскі. Адпаведна дэлегацыя кіравалася канцэпцыяй інкарпарацыі этнічна мешаных тэрыторый былой Рэчы Паспалітай у склад Польскай дзяржавы. Праграма Партыі нацыянальных дэмакратаў Дмоўскага таксама прадугледжвала нацыянальную асіміляцыю беларусаў і ўкраінцаў на далучаных тэрыторыях.

Фактычна, усё было вызначана ўжо 2 кастрычніка падчас размовы Яна Домбскага з кіраўніком савецкай дэлегацыі Адольфам Іофе. Яны дамовіліся пра падзел беларускіх і ўкраінскіх земляў. Польска-савецкае размежаванне праходзіла прыблізна ў 30 км на захад ад Менска. Рыжскі трактат перакрэсліваў ўсе беларускія надзеі на незалежнасць і цэласнасць Беларусі, а таксама руйнаваў рэшткі канцэпцыі федэралізму.

Варта прывесці меркаванне Чэслава Мілаша з кнігі *Wyprawa w dwudziestolecie* (Kraków, 1999): «Федэрацыйныя планы Пілсудскага былі абумоўлены тым, што ён быў сынам Вялікага Княства, разумеў шматнацыянальны характар гэтай зямлі і тое, што назва «Польшча» не адпавядала рэчаіснасці. Федэрацыя была адзіным магчымым шляхам, але тут Пілсудскі сустрэў моцнага праціўніка, менавіта нацыяналізм польскага сейма, а таксама нядаўна народжаныя літоўскі, беларускі і ўкраінскі нацыяналізмы. Паводле меркавання некаторых сведкаў і аднačасова даследчыкаў таго перыяду, Рыжскі трактат надламіў Пілсудскага так моцна, што пасля яго гэта быў ужо іншы чалавек»[1654].

Аднак гэты «надлом» не варта перабольшваць. Пілсудскі спрабаваў сарваць рыжскія дамоўленасці. Менавіта так можна трактаваць «бунт» генерала Л. Жалігоўскага і ўступленне 9 кастрычніка польскіх войск у Вільню. 12 кастрычніка была абвешчана дзяржава *Сярэдняя Літва*.

Магчыма, Булак-Балаховіч павінен быў зрабіць нешта падобнае на беларускіх землях. На пачатку лістапада 1920 г. ягонае войска (каля 11 тыс.) перайшло дэмаркацыйную лінію і за некалькі дзён заняло Петрыкаў, Мазыр, Рэчыцу і Калінкавічы. У Мазыры Беларускі палітычны камітэт ператварыўся ва ўрад БНР. Яго ўзначаліў старшыня БПК Вячаслаў Адамовіч (старэйшы), а Булак-Балаховіч атрымаў тытул *Начальнік Беларускай дзяржавы*[1655]. Аднак савецкія войскі перайшлі ў контрна-

---

[1654] Cz. Miłosz, *Wyprawa w dwudziestolecie*. Kraków 1999, s. 34–35.
[1655] А. Латышонак, *Жаўнеры БНР*, с. 158.

ступ. Пад ударамі 16 арміі «балахоўцы» былі змушаны адступіць у нейтральную зону. 26 лістапада яны перайшлі польскую мяжу, і былі інтэрніраваны.

У гэтыя ж дні Чырвоная армія падаўляла Слуцкае паўстанне, якое было яшчэ адной спробай адстаяць незалежнасць БНР. Падчас ягонага разгрому часткі згаданай 16 арміі атрымалі дазвол польскага камандавання на ваенныя дзеянні ў нейтральнай зоне, дзе знаходзіліся базы паўстанцаў. Рэшткі Слуцкай брыгады перайшлі польскую мяжу 28 снежня, і таксама былі інтэрніраваны.

Рыжская дамова выклікала абурэнне не толькі беларусаў, але таксама значнай часткі беларускіх і літоўскіх палякаў. Адным з найбольш прынцыповых палітычных праціўнікаў гэтай дамовы стала «краёвае» польскае зямянства. У першых ягоных шэрагах ізноў з'явіліся постаці Эдварда Вайніловіча і Рамана Скірмунта. Вынікі рыжскіх перамоў перакрэслівалі не толькі грамадскую і палітычную дзейнасць, але фактычна ўвесь жыццёвы шлях гэтых людзей. Варта прывесці адпаведны запіс з Дзённіка Эдварда Вайніловіча.

*ДАКУМЕНТ*

**Запіс у Дзённіку Эдварда Вайніловіча за 13 кастрычніка 1920 г.**[1656]

*Сёння мне споўнілася 73 гады. Ніколі раней у гэты дзень не было так сумна. Я даведаўся пра падпісанне ў Рызе мірных ініцыятыў, паводле якіх усходнія памежныя губерні і Менск як сталіца Беларусі застаюцца ў руках бальшавікоў!!! Жахлівая з'ява: Польшча перакрэсліла сваю культурніцкую шматвякавую дзейнасць на ўсходніх землях. Місія закончаная. «Маўр можа адыйсці».*

*Больш ста гадоў пасля падзелаў Польшчы мы захоўвалі ў Беларусі каталіцкую веру, польскую ідэю, нацыянальныя традыцыі, цярпелі «выключныя законы», пераслед, крывёю пазначалі межы 1772 г. У апошні час мы пасылалі ў войска лепшых сваіх сыноў, перадавалі на яго патрэбы апошнія плады зямлі-карміліцы, а дзяржаўнаму займу – ўсю наяўнасць. І пасля ўсяго гэтага на мірных перамовах Польшча адмаўляецца ад Менска, і гіне ўся наша тытанічная праца, тое ж «Сельскагаспадарчае таварыства», «Узаемнае страхаванне», «Гарадское крэдытнае таварыства», «Мацеж школьная», школы, школьныя пункты.*

*Няўжо гэтая цяжкая карпатлівая праца была патрэбна толькі дзеля таго, каб усё звесці да нуля не ў выніку ваенных няўдач, не па прычыне варожага супраціву, а ў выніку адсутнасці разумення ўсёй значнасці нашых усходніх земляў дзеля ўмацавання дзяржавы? Дзеля таго, што наша камісія на мірных перамовах у Рызе не тое, што «павінна была саступіць», але ад пачатку прынцыпова «не жадала адстойваць Менск». Нам будзе сорамна ў сваёй хаце «вочы падняць». Мы сталі піянерамі ідэі, якую не прызнала сама метраполія, што адраклася ад нас, і цяжка заплаціць за гэта.*

---

1656 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 296.

*Польшча губляе свае землі, якія б магла засвоіць, дзякуючы палітыцы перасялення з шчыльнанаселенай часткі краіны. Падзяляючы Беларусь, яна стварае вечную ірэдэнту, нібыта прыклад Усходняй Галіцыі не з'яўляецца паказальным.*

*Вечная ганьба камісіі, якая складалася не з дзяржаўных дзеячаў, а была створана паводле партыйнага прадстаўніцтва ў Сейме, які нясе ўсю адказнасць за анархію ў Польшчы, за знешнія і ўнутраныя праблемы дзяржавы. Гэты Сейм ледзь сабраў кворум пры ратыфікацыі Версальскага трактату, але быў перапоўнены пры разглядзе пытання пра пакосы канюшыны ў Галіцыі.*

*Тое, што адбылося – гэта новы, чацвёрты падзел Польшчы, прапанаваны самой Польшчай. Аднак першы падзел, названы злачынствам не адразаў ад цела Польшчы столькі, колькі сённяшняя камісія ў Рызе добраахвотна перадала бальшавікам. Зрэшты, польскі Сейм, абраны пасля падзелаў, ніколі не заяўляў цвёрдым голасам пра правы Польшчы на межы 1772 г. у адрозненне ад Францыі, якая заўсёды памятала пра Эльзас і Латарынгію і «без усялякіх плебісцытаў» пастаянна заяўляла пра свае правы на гэтыя землі.*

Чытаючы Дзённік, разумееш, што ў драматычным успрыняцці Рыжскага трактата многімі краёўцамі-зямянамі асабістыя трагедыі людзей, якія страчвалі «родавыя гнёзды» як крыніцы існавання і месцы памяці, спалучаліся з перажываннямі і клопатам за беларускую Радзіму і яе жыхароў, лёс якіх будзе вызначаць ужо бальшавіцкая ўлада.

Тэрмін «чацвёрты падзел Польшчы» ў Дзённіку Вайніловіча не варта трактаваць як адмову аўтара ад краёвасці. Гэты тэрмін быў абумоўлены эмацыйным станам аўтара Дзённіка і крыўдай на польскую палітычную эліту. Эдвард Вайніловіч па-ранейшаму перажываў за Беларусь і ў адным з наступных запісаў адзначыў: «Беларусы нас не зразумеюць. Мы самі на працягу стольких гадоў скардзіліся на падзел дзяржавы паміж трыма суседзямі, а зараз самі, не спытаўшы беларусаў, падзялілі іх краіну»[1657].

Праўда, ужо 14 кастрычніка Вайніловіч падзяліўся з Дзённікам газетнымі звесткамі пра захоп Менска атрадам Булак-Балаховіча, а Вільні – Літоўска-беларускім корпусам генерала Жалігоўскага. Першы нібыта будзе ствараць «Беларускую Рэч Паспалітую», а другі – аналагічную «Цэнтральна-Літоўскую»[1658]. Відаць, нават журналісты не маглі паверыць у тое, што здарылася ў Рызе. У іншым запісу ад 24 кастрычніка Вайніловіч таксама прыгадаў, што хадзілі чуткі пра сфарміраваны «беларускі ўрад», у склад якога быццам бы ўвайшлі Э. Вайніловіч, Р. Скірмунт, Е. Чапскі і А. Сьвіда[1659].

20 кастрычніка ў Дзённіку з'явіўся чарговы сумны запіс пра тое, што маёнтак

---

[1657] Ibidem, s. 298.
[1658] Ibidem, s. 300.
[1659] Ibidem, s. 298.

Савічы застаецца з савецкага боку мяжы. «Гэта Божая воля, – адзначыў зямянін, – каб я схіліў галаву бяздомны, з сціплымі сродкамі на закаце свайго жыцця...»[1660]

Аднак ні Раман Скірмунт, ні Эдвард Вайніловіч «на закаце свайго жыцця», ні многія іншыя зямяне-краёўцы не збіраліся скарыцца перад Сеймам і ягонай дыпламатыяй. 22 кастрычніка Вайніловіч атрымаў тэлеграму ад Скірмунта, які запрашаў яго прыехаць у Варшаву на агульны сход сяброў «Саюза палякаў з беларускіх Крэсаў». Гэта быў першы сход Саюза пасля працяглага перапынку, звязанага з тым, што поспехі польскага войска дазволілі многім яго сябрам вярнуцца на Радзіму.

Надзвычайныя падзеі на нейкі час адрадзілі гэты Саюз. Увечары 23 кастрычніка гаспадар Савічаў ужо быў у Варшаве, а на наступны дзень старшынстваваў на шматлюдным сходзе. Сход працягваўся амаль пяць гадзін. Зала была перапоўнена. Паводле назіранняў Вайніловіча прысутнічала 500–600 чалавек, на тварах якіх чыталася «безнадзейная стомленасць і крыўда». Яны ўжо ведалі, што Сейм аднагалосна зацвердзіў вынікі перамоў у Рызе. У цэнтры ўвагі апынуўся выступ старшыні Польска-беларускага таварыства Міраслава Абязерскага, які быў дэлегаваны Міністэрствам унутраных спраў у Рыгу як эксперт па «беларускім пытанні». Ён сцвярджаў, што савецкія прадстаўнікі былі гатовы саступіць усю тэрыторыю да Дняпра і Дзвіны, але кіраўнікі польскай дэлегацыі вырашылі пазбыцца «беларускага нарыва» і задаволіліся лініяй апошняга перамір'я, пакінуўшы Менск бальшавікам.

На сходзе таксама выступіў Раман Скірмунт, які распавядаў пра настроі насельніцтва ў мясцовасцях, дзе яшчэ нядаўна панавалі бальшавікі, і рабіў высновы пра гатоўнасць людзей «павярнуцца ў польскі бок». Ягоная прамова зрабіла моцнае ўражанне. Пазней Вайніловіч у лісце да прафесара Здзяхоўскага цытаваў адну з ягоных думак, а Здзяхоўскі ў сваю чаргу прыгадаў яе праз два гады ў сваім артыкуле «Рыжскае злачынства» на старонках віленскай газеты «Слова». «У будучым, – казаў на сходзе Скірмунт, – пана Грабскага назавуць бацькам беларускага супраціву ў Польшчы, бо абедзьве часткі Беларусі заўсёды будуць імкнуцца да паяднання. Польшча валодае меншай часткай. Беларускі рух, якога Грабскі так баіцца, не быў страшным, ён паварочваўся да Польшчы, шукаў у ёй апірышча, ад яе хацеў браць культуру Захаду, з ёй хацеў паяднацца. Цяпер ён стане зброяй у руках будучай Расіі, якая накіруе яго супраць Польшчы»[1661].

Гэты прагноз спраўдзіўся. Магчыма, тая дыстанцыя, якую Раман Скірмунт увесь міжваенны перыяд захоўваў у дачыненні да беларускага руху, была абумоўлена якраз перакананнем, што за гэтым рухам (прынамсі, часткай яго) стаіць Расія.

«Рыжскае злачынства», пра якое пісаў Мар'ян Здзяхоўскі, было незагойнай ранай для ўсяго пакалення краёўцаў. Канстанцыя Скірмунт у студзені 1925 г. пісала

[1660] Ibidem, s. 297.

[1661] M. Zdziachowski, *Zbrodnia Ryska*, «Słowo». 1922, Nr 87, 12 listopada.

пра змарнаваную працу шматлікіх краёвых пакаленняў, пра парушаны запавет продкаў і задавалася пытаннем, якім будзе адказ пакрыўджанай краіны[1662].

Эдвард Вайніловіч ніколі не пагадзіўся з Рыжскім трактатам. У лісце да прафесара Здзяхоўскага 24 сакавіка 1927 г. ён з сумам канстатаваў: «...Уся мая праца была перакрэслена ў Рызе і засыпана попелам забыцця». Таксама ён задаваўся рытарычным пытаннем: «Як сучасныя настаўнікі польскай гісторыі тлумачаць маладому пакаленню, што падзелы Кацярыны былі злачынствам, а Рыжскі трактат паратункам?»[1663] Дарэчы, у гэтым самым лісце Вайніловіч дзякаваў Здзяхоўскаму за згадку ім у выступе 19 сакавіка 1927 г. падчас урачыстай «акадэміі» з нагоды імянін Пілсудскага постаці Рамана Скірмунта, «майго бліжэйшага сябра працы, які меў шчасце застацца ў межах Краю»[1664].

А Раман Скірмунт прыгадаў Рыжскі трактат у сваёй прамове на пахаванні Эдварда Вайніловіча 16 чэрвеня 1928 г. у Быдгошчы. «Адроджаная Польшча, – казаў ён, – была сапсавана страхам людзей малой веры. Вялікая частка вынікаў самахвярнай працы многіх пакаленняў была знішчана ў адзін дзень! Сэрца крэсовага ваяра крываточыла ад гэтай звесткі, але ён нічога не мог змяніць. Ён выканаў сваё заданне і павінен быў адысці [...] Таму, хто меў уяўленне пра абавязкі грамадзяніна, маладушша новых людзей здавалася здрадай»[1665].

Увосень 1920 г. Вайніловіч усё ж спрабаваў паўплываць на выпрацоўку канчатковага варыянта мірнага трактата. Тым больш, што гэта наўпрост датычыла ягонага «родавага гнязда». Падчас знаходжання ў Варшаве, ён сустракаўся з віцэ-міністрам замежных спраў Эразмам Пільтцам і выказаў ідэю стварэння камісій з прадстаўнікоў мясцовых землеўласнікаў дзеля ўдзелу ў перамовах. Таксама ён прапанаваў уключыць у склад польскай дэлегацыі сяброў «крэсовых арганізацый» з правам голасу. Пільтц абяцаў падтрымаць гэтыя прапановы[1666].

27 лістапада Вайніловіч наведаў Савічы і Пузава, якія знаходзіліся ў нейтральнай зоне. У Дзённіку ён запісаў: «У Савічах я прабыў тры гадзіны, зазірнуў у палац, зруйнаваны ўнутры і запаскуджаны слядамі бальшавіцкага знаходжання, а яшчэ болей бясконцымі заездамі і начлегамі польскіх салдат. Рэшткі мэблі зламаны, аніводнага матрацу, аніякага спраўнага інвентара. Спрабаваў знайсці схаванае срэбра ды іншыя каштоўнасці, але без поспеху. Закапанае ў пограбе спіртное скрадзена, шыбы выбіты. Людзі, што прыйшлі прывітацца, напалоханы і не маюць пэўнасці ў заўтрашнім дні.

---

1662 K. Skirmuntt, *Idea Jagellońska – a polityka kresowa*. Wilno 1925, s. 12.

1663 *Listy Edwarda Woyniłłowicza do Mariana Zdziechowskiego z lat 1905–1928, cz. I.* (publikacja R. Jurkowski), «Echo przeszłości». 2007, VIII, s. 220.

1664 Ibidem.

1665 Цытата па: J. Lutosławski, S. p. *Edward Wojniłłowicz (Kartki z dziejów Kresów schodnich)*. Warszawa 1928, s. 26.

1666 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 301.

Настрой далёкі ад аптымістычнага ў параўнанні з мінулым годам, калі я сустракаўся з імі пасля першага «наезду» бальшавікоў. За гэтыя пяць месяцаў шмат хто памёр ад тыфу. Вінакурны завод спалены […] Паўсюль – адсутнасць улады і парадку. Ужо пачаўся разгул банд, якія беспакаранна рабуюць усё, што трапляе пад руку»[1667].

Між тым, Міністэрства замежных спраў катэгарычна адмовілася пасылаць у Рыгу прадстаўнікоў зямян нават у якасці экспертаў. Сярод «крэсовых арганізацый» панавалі настроі апатыі і безнадзейнасці. Але Вайніловіч паспрабаваў змяніць сітуацыю і дамагчыся прысутнасці ў складзе польскай дэлегацыі ў Рызе эксперта-зямяніна.

Як ён прызнаўся на старонках Дзённіка, энергіі яму надала сустрэча з Раманам Скірмунтам у Варшаве. Менавіта яго, Скірмунта ён лічыў найбольш адпавядаючым гэтай місіі. Той прыехаў у Варшаву па нейкіх «вельмі важных справах» і пад ціскам Вайніловіча згадзіўся на паездку ў Рыгу. Заставалася толькі атрымаць пропуск. Ізноў была сустрэча з Пільтцам, які папярэдзіў, што міністр князь Яўстах Сапега ніколі не дазволіць прысутнасці такога «эксперта». Аднак, карыстаючыся з ад'езду міністра ў Парыж, Пільтц пад сваю адказнасць згаджаўся забяспечыць праезд у Рыгу двум экспертам як «дыпламатычным агентам».

Аднак супраць кандыдатуры Скірмунта выказаўся прэзідыум Саюза палякаў беларускіх Крэсаў, які бачыў такім экспертам М. Парэмбскага. Геранім Кяневіч прыгадаў адсутнасць Скірмунта ў дзейнасці польскіх арганізацый Меншчыны. Нарэшце, сышліся на тым, што паедуць два эксперты. Пазней, прааналізаваўшы сітуацыю, Вайніловіч вырашыў вызваліць Скірмунта ад гэтага абавязку і ўсю справу перадаць прэзідыуму Саюза. Ён зразумеў, што ўладальнік Парэчча для кіраўніцтва «крэсовых арганізацый» застаецца непажаданай асобай[1668].

На наступны дзень Вайніловіч слухаў ягоны выступ на сходзе «Саюза зямян беларускіх Крэсаў» (так у Дзённіку). Скірмунт казаў пра перамены ў настроях сялян на вызваленых ад бальшавікоў тэрыторыях, пра відавочны рост варожасці да польскай улады, абумоўлены дзеяннямі як вайскоўцаў, так і цывільнай адміністрацыі[1669].

20 лютага 1921 г. Вайніловіч яшчэ раз звярнуўся ў Дзённіку да тэмы экспертаў. Геранім Кяневіч паведаміў яму, што Пільтц у адсутнасць міністра пацвердзіў абяцанне пра выдачу дыпламатычных дакументаў двум прадстаўнікам «крэсовых арганізацый» – Парэмбскаму і Скірмунту. Прэзідыум змяніў сваю пазіцыю адносна Скірмунта і выказаў зацікаўленасць у ягонай паездцы. Аднак Скірмунт адмовіўся. Трохдзённыя спробы Кяневіча пераканаць яго ў мэтазгоднасці паездкі

---

[1667] Ibidem, s. 304–305.
[1668] Ibidem, s. 313.
[1669] Ibidem.

ў Рыгу нічога не далі[1670]. Скірмунт зразумеў, што ягоны голас як эксперта нічога не варты для дэлегацыі, у якой пераважалі палітыкі партыі Дмоўскага. У Рыгу паехаў адзін Парэмбскі, і гэтая паездка нічога не змяніла.

18 сакавіка 1921 г. у Рызе быў падпісаны канчатковы тэкст мірнай дамовы, які пацвярджаў ранейшыя дамоўленасці і ўдакладняў канфігурацыю польска-савецкай мяжы. У гэты дзень Эдвард Вайніловіч запісаў у Дзённіку: «18 сакавіка насельніцтва былых усходніх тэрыторый Польшчы, якое налічвала некалькі мільёнаў чалавек, было адарванае ад «польскай мацежы» і кінутае «братамі-палякамі» ў пашчу бальшавіцкага молаха»[1671]. Праз два дні ён дадаў: «Гэта не дзень славы, а дзень нацыянальнай ганьбы, за якую, не дай Бог, каб будучым пакаленням не давялося адпакутаваць»[1672].

Вайніловіч на старонках Дзённіка не шкадаваў крытыкі ў адрас як варшаўскай палітычнай эліты, так і мясцовай адміністрацыі. Але, відавочна, што паступова ён усё ж пагадзіўся з палітычнымі пераменамі і прыняў новую Польшчу. У адным з лістоў да М. Здзяхоўскага адзначаў: «Гэтая дзяржава [Польшча] сама, нягледзячы на перамогу ў вайне, па ўласным жаданні пайшла на ампутацыю земляў, якія былі інтэгральнай часткай Рэчы Паспалітай абодвух народаў. Але з іншага боку, гэта была польская дзяржава, што адрадзілася пасля больш чым стогадовага палітычнага нябыту. […] Менавіта таму, як часта падкрэсліваю, да яе трэба ставіцца з павагай і шанаваць існуючыя законы»[1673].

Відаць, падобныя погляды меў і Раман Скірмунт, што абумовіла ягоную палітычную адаптацыю, якая спачатку была найбольш відавочнай на лакальным узроўні, у межах Піншчыны і Палесся. Таксама даводзіцца сцвярджаць, што ў спробах змагання супраць рыжскіх дамоўленасцяў Раман Скірмунт не праяўляў надзвычайнай актыўнасці і ініцыятывы. Прынамсі, такое ўражанне ўзнікае пры чытанні згаданага Дзённіка Вайніловіча.

## *Ізноў «палескі фармат»?*

Дамінуючым матывам дзейнасці Скірмунта на пачатку 1920-х гг. з’яўлялася адбудова Парэчча і аднаўленне гаспадаркі Палесся. У адрозненне ад Вайніловіча, Кяневіча ды шматлікіх іншых беларускіх і літоўскіх палякаў ён захаваў родны дом і тую зямлю, якая была Радзімай продкаў. Парэчча патрабавала ягоных намаганняў і, магчыма, менавіта голас гэтай малой/вялікай Радзімы стаў вырашальным чыннікам ягонай грамадскай і палітычнай дзейнасці. Край звузіўся да памераў Парэчча і навакольнага Палесся, але па-ранейшаму заставаўся галоўнай

[1670] Ibidem, s. 316.
[1671] Ibidem, s. 318.
[1672] Ibidem, s. 319.
[1673] *Listy Edwarda Woyniłłowicza do Mariana Zdziechowskiego z lat 1905–1928. Cz. 1*, s. 210.

крыніцай ягонай дзейнасці. Пры гэтым палітычныя перамены ператваралі Рамана Скірмунта ў лаяльнага грамадзяніна Польскай дзяржавы.

Нешта падобнае ў гэты момант перажываў іншы вядомы ідэолаг краёвасці Міхал Ромэр. Ён перабраўся ў Коўна, стаў лаяльным грамадзянінам Літвы і спалучаў працу па ўмацаванні яе дзяржаўнасці з намаганнямі палепшыць польска-літоўскія стасункі. Магчыма, у сітуацыі адсутнасці шансаў на захаванне адзінства Беларуска-Літоўскага краю частка краёўцаў зрабіла стаўку на новыя дзяржавы. Яны, прынамсі, маглі абараніць рэшткі Краю ад бальшавіцкага панавання, якое ўспрымалася як цывілізацыйная катастрофа.

Між тым, Польская дзяржава стварала новую адміністрацыйную структуру. 18 лістапада 1920 г. на далучаных усходніх землях былі створаны тры акругі – Наваградская, Палеская і Валынская. А 4 лютага 1921 г. паўстала Палескае ваяводства ў складзе дзевяці паветаў, адным з якіх быў Пінскі. Першым ваяводам стаў Валеры Роман (1887–1952), які належаў да прыхільнікаў палітычнай канцэпцыі Пілсудскага.

У красавіку 1921 г. Скірмунт быў абраны ганаровым суддзёй Пінскага акруговага суда (Цывільны адзел), пра што ён даведаўся з ліста старшыні гэтага суда ад 20 мая[1674]. Суддзя Скірмунт павінен быў штомесяц удзельнічаць у пасяджэннях суда ў Пінску. На пачатку чэрвеня яму паведамілі, што пасяджэнні з ягоным удзелам запланаваны на 23 чэрвеня і 21 ліпеня[1675].

Пра прыняцце Скірмунтам новай рэчаіснасці, між іншым, сведчыць інфармацыя на старонках выдання *Dziennik Urzędowy Województwa Poleskiego*. Дзеннік пачаў выходзіць увесну 1921 г. і ўтрымліваў пераважна афіцыйную інфармацыю, датычную дзейнасці розных узроўняў адміністрацыі Палескага ваяводства. Раман Скірмунт фігураваў у інфармацыі пра прыезд у Пінск прэм’ер-міністра Антонія Панікоўскага 23 кастрычніка 1921 г. Як адзін з прадстаўнікоў мясцовага зямянства ён удзельнічаў у цырымоніі прывітання высокага госця. На ўрачыстым сняданку ў сталовай пінскай гімназіі «Мацежы школьнай» Скірмунт узняў тост. Потым разам з графам Мянчыньскім і Асмалоўскім уручыў кіраўніку ўрада адмысловы «мемарыял», у якім ішла гаворка пра гаспадарчае аднаўленне Палесся, ягоную кансалідацыю з іншымі землямі ІІ Рэчы Паспалітай і выказваліся прапановы па паскарэнні гэтага працэсу.

Падчас вячэры ў мясцовым клубе «Крэсы» Скірмунт казаў пра вялікую ролю і заслугі мясцовага зямянства, якое на сваіх плячах перанесла ўвесь цяжар русіфікацыйнай палітыкі і пасля падзелаў Рэчы Паспалітай заставалася крэпасцю польскай ідэі і культуры, што абараняла Край ад «усходняй навалы». Калі ж

[1674] ДАБВ. Ф. 2031, воп. 4, спр. 1017, арк. 2.
[1675] Тамсама, арк. 3.





*Пінск на фотаздымках 1920 – 1930-х гг.*

прыйшоў час аб’яднання, менавіта зямяне перадалі ІІ Рэчы Паспалітай «крэсы», «наскрозь прасякнутыя духам патрыятызму ў сваіх лепшых колах»[1676].

Ён таксама прывітаў прэм’ера як кіраўніка ўрада, «найлепшай апорай якога было і застаецца зямянства», падзякаваў за прыезд на Піншчыну і падкрэсліў, што ўжо ў гэтым відавочная зацікаўленасць урада «ўсходнімі крэсамі», гэтай «самай няшчаснай і беднай часткай Польшчы», якая найбольш патрабуе ўвагі і дапамогі з боку дзяржавы. Панікоўскі ў сваю чаргу казаў пра вялікую ролю зямянства («крэсовых рыцараў») і выказаў надзею, што менавіта зямяне стануць тым мастом, які злучыць «крэсы» з карэннай Польшчай у справе кансалідацыі дзяржавы.

Гэтая афіцыйная інфармацыя, наскрозь прасякнута патрыятычна-адміністрацыйным пафасам, не характэрным для ранейшых прамоў Скірмунта. З даклад-

[1676] Dziennik Urzędowy Województwa Poleskiego (далей: DUWP). 1921, Nr 8–9, 1 grudnia, s. 29–30.

насцю можна казаць толькі пра тое, што ён уваходзіў у кола найбольш вядомых грамадскіх дзеячаў Пінскага пав. і прадстаўляў яго зямянства падчас палітычных мерапрыемстваў.

Дарэчы, змест прамоў падчас візіту Панікоўскага сведчыць пра вастрыню праблемы інтэграцыі Палесся ў Польскую дзяржаву. Магчыма, тая ж самая праблема ў асабістым плане стымулявала грамадскую актыўнасць самога Скірмунта. Урэшце, перспектыў развіцця Краю на падмурку беларускай ці беларуска-літоўскай дзяржаўнасці ў бліжэйшай будучыні не назіралася...

На пачатку 1922 г. па ініцыятыве ваяводы была сфарміравана Часовая рада Палескага ваяводства, у якую ўвайшлі ваяводскія і павятовыя чыноўнікі, а таксама прадстаўнікі зямянства, гаспадарчых і культурніцкіх арганізацый.

Як паведамляў згаданы «Дзеннік», на першым пасяджэнні Часовай рады ў Берасці 12 сакавіка 1922 г. В. Роман заявіў, што яе стварэнне абумоўлена імкненнем «пачуць голас грамадства па найважнейшых праблемах»[1677]. І гэты «голас» ён пачуў... Ужо на першым пасяджэнні пасля рэферата пра арганізацыю самакіравання і ўвядзенне павятовых сеймікаў Скірмунт распачаў дыскусію, у якой адстойваў думку пра несваечасовасць увядзення самакіравання. Маўляў, насельніцтва да гэтага непадрыхтавана. Ён заклікаў да асцярожнасці ў рэфармаванні Палесся і казаў пра неабходнасць прысутнасці ягоных прадстаўнікоў у Сейме пры разглядзе законаў, якія датычылі «ўсходніх крэсаў». Скірмунт быў упэўнены, што без апошніх Сейм ніколі не зразумее асаблівасцяў Палесся.

Дыскусія была даволі вострай. Палескі ваявода казаў, што сеймікі неабходны дзеля збору падаткаў на патрэбы ваяводства. А кіраўнік «Стражы крэсовай» С. Ленартовіч нават заявіў, што выступ супраць сеймікаў – гэта выступ супраць самакіравання наогул. Раман Скірмунт у сваю чаргу адзначыў, што пастаянныя змены сістэмы кіравання толькі множаць хаос у дзейнасці адміністрацыі і перашкаджаюць планаванню. Ён прапанаваў пачакаць з увядзеннем сеймікаў да прыняцця новага закона пра самакіраванне. Яго падтрымаў старшыня Берасцейскага сельскагаспадарчага таварыства Ю. Банькоўскі. Пытанне пра сеймікі было вынесена на галасаванне, і прапанова ваяводы перамагла большасцю ўсяго ў два галасы. Пры гэтым Раман Скірмунт быў уключаны ў склад ваяводскай Камісіі па арганізацыі самакіравання ў паветах і гмінах.

Гаспадар Парэчча быў адным з найбольш актыўных «галасоў» на гэтым пасяджэнні. Менавіта па яго прапанове было прынята рашэнне пра ліквідацыю павета ў Ганцавічах і арганізацыю Столінскага павета. Ён таксама выступаў пры абмеркаванні рэферата пра становішча школьнай адукацыі і сцвярджаў, што адкрыццю школ павінна папярэднічаць падрыхтоўка кваліфікаваных настаўнікаў. У іншым выпадку Скірмунт прадказваў пратэсты бацькоў. У дыскусіі пра памеры сялянскіх павіннасцяў ён звярнуў увагу на незадавальненне вёскі прадастаўленнем

[1677] Ibidem. 1922, Nr 3, 1 kwietnia, s. 13.

уласнага транспарта («шарваркі»), прапанаваў наладзіць улік вазоў і звяртацца да гэтай павіннасці толькі ў выпадку вострых грамадскіх патрэб[1678].

Падобна, што Скірмунт не выступаў толькі пры абмеркаванні праблемы асаднікаў. Галоўным выступоўцам быў згаданы Банькоўскі, які казаў пра складаную сітуацыю асаднікаў, большасць з якіх спынілася ў гарадах і з цяжкасцю дабіраецца да атрыманых надзелаў, дзе звычайна адсутнічаюць жылыя пабудовы. Наогул, паводле афіцыйных звестак, у 1921 г. на патрэбы асаднікаў у ваяводстве было вылучана амаль 128 тыс. дзес., з якіх 46,7 тыс. раллі. Але, папраўдзе, вядзенню гаспадаркі адпавядалі толькі 22,4 тыс. У 1922 г. планавалася прыняць яшчэ 1 800 асаднікаў. Магчыма, маўчанне Скірмунта было абумоўлена якраз ягоным негатыўным стаўленнем да асадніцтва[1679].

Дзеля разумення тагачаснай сітуацыі на Палессі варта прывесці інфармацыю з выступу начальніка санітарнай службы, які паведаміў, што напрыканцы 1921 г. Палескае ваяводства прыняло каля 100 тыс. рэпатрыянтаў, а з 1 красавіка пачнецца новая хваля вяртання. Ён жа казаў пра масавыя захворванні тыфам, асабліва ў паўднёва-заходняй частцы ваяводства (у т. л. у Пінскім пав.), якая была найбольш знішчана ваеннымі дзеяннямі. Апрача захворванняў рэпатрыянтам пагражаў голад. Так, улетку 1921 г. газета «Глос Палескі» паведаміла пра смерць Пелагеі Ярашчук, якая вярнулася з бежанства, але ў апусцелай вёсцы не знайшла ні знаёмых, ні сваякоў. Жыла зборам ягад і памерла ў лесе ад знясілення[1680].

Інфармацыя «Дзенніка» пра пасяджэнне Часовай рады, дзе зноў сустракаем актыўнага і энергічнага Рамана Скірмунта, які адстойвае ўласную краёвую пазіцыю, дазваляе казаць пра ягонае вяртанне да грамадскага жыцця. Ён цалкам пазнавальны ў апісанні гэтага пасяджэння. Але, як ужо адзначалася, маштаб «Краю» зменшыўся да межаў Палескага ваяводства. Прычым гэты краёвы палескі патрыятызм спалучаўся з крытыкай як лакальнай, так і цэнтральнай адміністрацыі Польшчы.

Наогул, польскія зямяне, што паходзілі з беларускіх і літоўскіх земляў, у 1920-я гг. апынуліся ў сітуацыі палітычных ізгояў. На старонках друку яны рэгулярна падвяргаліся заслужанай і незаслужанай крытыцы. Так, у адной з публікацый «Газеты Віленьскай» (№ 93 ад 26 красавіка 1922 г.) сцвярджалася, што зямяне мелі саслоўныя і гаспадарчыя прывілеі ў Расійскай імперыі і не споўнілі свой патрыятычны абавязак у змаганні за польскую культуру і дзяржаву. Гэты тэзіс выклікаў абурэнне Вайніловіча, які адказаў на яго ў артыкуле «Голас зямяніна» на старонках віленскага «Слова».

Вайніловіч, між іншым, прыгадаў, што шляхта яшчэ ў 1862 г. была пазбаўлена права самакіравання. Маршалкаў шляхты («предводителей дворянства») пачалі

---

1678 Ibidem, s. 13–18.
1679 Ibidem, s. 23.
1680 *Śmierć od wycieńczenia*, «Głos Poleski» 1921, Nr 16, 17 lipca.

прызначаць расійскія ўлады. Адзіным «прывілеем», як саркастычна адзначыў аўтар, з'яўлялася выплата г. зв. «кантрыбуцыі» ў памеры 10 % ад усіх даходаў. Яшчэ ён нагадаў пра закон ад 10 снежня 1865 г., які абмежаваў права шляхты і зямян распараджацца зямельнай маёмасцю[1681].

Але гэтыя ды іншыя абмежаванні, на ягоную думку, не зменшылі польскага патрыятызму зямян. Гэта іх маёнткі былі «асновай польскасці на крэсах», а іх сыны ўзняліся на паўстанне ў 1863 г., разумеючы, што «межы Айчыны трэба бараніць не над Бугам, а над Дняпром і Дзвіной». Пасля разгрома паўстання на Край апусціўся змрок «выключных законаў», якіх не ведала Каралеўства Польскае. Але прыйшоў час бальшавіцкай навалы, і ўжо новае пакаленне дзяцей «беларускіх зубраў» пайшло ваяваць і павяло за сабой усіх тых, хто «лічыў Варшаву сэрцам Айчыны».

Рыжскі трактат стаў для зямян жахлівым ударам. Большасць страціла зямлю, якую бараніла, і дах над галавой. Іх лёсам стала жыццё скітальцаў. Але ў яшчэ больш цяжкім стане апынуліся беларускія сяляне, што засталіся пад уладай «надзвычайкі». Вайніловіч прыгадваў, што сустракаў на варшаўскім бруку дэлегацыі вясковых «хадакоў» Меншчыны з «мёртвымі тварамі», малапісьменнымі петыцыямі і неразуменнем таго, што адбылося: «…А мы ж, паночку, тым палякам так верылі!..»

Аўтар прызнаваўся, што сам не чакаў такога моцнага патрыятычнага ўздыму шляхты і зямянства ў ягоным апошнім «паспалітым рушэнні», якім яно выкупіла ўсе свае гістарычныя грахі і памылкі: «Крэсовае зямянства адышло, выканаўшы свой абавязак. Слава ягонай памяці!»

Публікацыя артыкула Вайніловіча ў віленскім «Слове» не была выпадковай. Якраз гэтае выданне ў міжваенны час ператварылася ў галоўную трыбуну зямянства Беларуска-Літоўскага краю (віленскіх ці беларускіх «зубраў») і краёвасці кансерватыўнага накірунку, якая ў гэты час апелявала да традыцый ужо не Вялікага Княства Літоўскага, а Рэчы Паспалітай. Скірмунт таксама публікаваўся ў «Слове». Ён сімпатызаваў пазіцыі рэдактара – вядомага публіцыста Станіслава Мацкевіча (Цата), 1896–1966), якая адрознівалася пэўным спалучэннем кансерватызму і своеасаблівай краёвасці.

Першы нумар «Слова» выйшаў з друку 1 жніўня 1922 г. У рэдакцыйным артыкуле «На віленскім пасту» падкрэслівалася прыхільнасць рэдакцыі да ідэалогіі кансерватызму як найбольш спрыяльнай адраджэнню Польскай дзяржавы: «Польшча не ўзнікае як нешта новае, яна адраджаецца, і таму ідэя, якая падкрэслівае сувязь з культурай і працай, супрацьстаіць рэвалюцыі і разбурэнню, павінна адыграць вызначальную ролю». Рэдактар адзначаў асаблівую актуальнасць кансерватызму на Віленшчыне, бо, па-першае, яна межавала з савецкай Расіяй, а па-другое, была шматнацыянальным і шматканфесійным рэгіёнам, дзе найбольш востра стаяла

---

[1681] E. Woyniłłowicz, *Głos ziemienina*, «Słowo». 1922, Nr 27, 1 września; Nr 32, 6 września.

праблема «польскай культурнай экспансіі» дзеля пашырэння супольнасці «лаяльных грамадзян Польшчы».

У кастрычніку 1927 г. С. Мацкевіч фактычна выклаў асновы польскага кансерватызму, які прадугледжваў адраджэнне рэлігійнасці, барацьбу з панаваннем рацыяналізму і матэрыялізму ў жыцці, палітыцы, навуцы і мастацтве; пашырэнне дзяржаўнага (не нацыянальнага!) патрыятызму; традыцыяналізм як перакананне, што менавіта кансерватары выказваюць настрой нацыі, якая толькі ў часы няволі навучылася любіць польскую традыцыю; адмову ад ідэі верхавенства народу; рэгіяналізм; класавую салідарнасць як антытэзу класавай барацьбы ды інш.[1682]

Даследчык гісторыі газеты Мацей Вайтацкі (Maciej Wojtacki) заўважыў у кансерватызме «Слова» прысутнасць выразнага патэрналізму ў адносінах да мясцовага літоўскага і беларускага сялянства, якое спалучалася з элементамі дактрыны фізіякратызму эпохі Асветніцтва. Менавіта на гэтым падмурку планавалася будаваць новы тып адносін паміж маёнткам і вёскай[1683].

Трэба адзначыць, што ў варыянце віленскага «Слова» кансерватызм спалучаўся з манархізмам і імперскасцю ў духу колішняй Рэчы Паспалітай. «Імперыя» магла існаваць толькі як шматкультурны і шматканфесійны феномен. Гэта збліжала яе канцэпцыю з краёвасцю. Мацкевіч быў праціўнікам польскага этнакультурнага нацыяналізму і выступаў супраць дактрыны Рамана Дмоўскага. Таксама ён змагаўся супраць нацыяналізму няпольскіх народаў, але ў другую чаргу.

Мацкевіч адстойваў уласнае разуменне краёвасці ў спрэчках з аўтарамі «Пшэглёнда Віленьскага» (рэд. Людвік Абрамовіч). Апошняе выданне прытрымлівалася больш традыцыйнага разумення краёвай ідэі і выказвалася за лібералізацыю сацыяльнай і нацыянальнай палітыкі міжваеннай Польшчы.

Відавочна, што погляды рэдактара «Слова» імпаніравалі Раману Скірмунту, які заставаўся краёўцам, але тэрытарыяльнай асновай рэалізацыі краёвай ідэі бачылася ўжо не гістарычная Літва, а існуючая Польская дзяржава. У лісце да Здзяхоўскага ад 21 верасня 1927 г. Скірмунт пісаў, што з вялікай прыемнасцю прачытаў ягоны артыкул «Польшча і Расія» на старонках «Слова». Яго ўзрадавала, што Здзяхоўскі, нягледзячы на пэўныя разыходжанні з пазіцыяй рэдакцыі, працягваў публікавацца ў газеце. Завяршаючы дадаў: «Людзі часам крытыкуюць мяне, што я яго [«Слова» – *А. С.*] не байкатую. Але прыклад пана сведчыць, што я не памыляюся, не жадаючы слухаць гэтых галасоў»[1684].

Як жа на старонках «Слова» асвятлялася «беларускае пытанне»? Нацыянальныя праблемы займалі вялікае месца ў публіцыстыцы карэспандэнтаў газеты і яе рэ-

[1682] Cat [St. Mackiewicz], *Zachowawczość*, «Słowo», 1927, 30 października.
[1683] M. Wojtacki, *«Słowo» Stanisława Cata-Mackiewicza. Dziennik konserwatystów wileńskich w latach 1922–1939. Monografia piśma*. Toruń 2009, s. 7.
[1684] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33 – 702a, арк. 9.

дактара. Пры гэтым найбольш увагі ўдзялялася габрэйскай супольнасці, беларусы былі на другім месцы, прынамсі, да разгрому «Грамады» на пачатку 1927 г.

Большасць публікацый, прысвечаных «беларускаму пытанню», адпавядала канцэпцыі дзяржаўнага патрыятызму як сродка выхавання лаяльных грамадзян. Аднак дыяпазон меркаванняў аўтараў «Слова» пра метады і межы палітыкі дзяржаўнай асіміляцыі істотна адрозніваўся. Так, палітык і публіцыст Уладзіслаў Студніцкі, наогул, адмаўляў беларусам у праве на ўласную культуру і палітыку. У артыкуле «Польская нацыянальная палітыка» (№ 44, 24 лютага) ён сцвярджаў, што галоўнай мэтай польскай палітыкі ў адносінах да беларусаў з'яўляецца іх поўная асіміляцыя.

А вось Мацкевіч лічыў важным захаванне «праваслаўнай Беларусі» як пэўнага «буфера» на мяжы з Расіяй. З дзяржаўнай асіміляцыяй беларусаў ён звязваў ідэю адраджэння Рэчы Паспалітай як «польскай імперыі» і прапанаваў падтрымліваць тыя беларускія арганізацыі, якія займалі антыбальшавіцкія пазіцыі[1685].

На рубяжы 1924–1925 гг. з шэрагам артыкулаў, прысвечаных гісторыі Беларусі, на старонках «Слова» выступіў Юзаф Цырскі (*K. Smreczyński*). У гэтых публікацыях фактычна адлюстравалася нацыянальная канцэпцыя беларускай мінуўшчыны[1686]. У раздзеле, прысвечаным беларускаму руху ў 1917 г., Цырскі прыгадаў Рамана Скірмунта як кіраўніка Беларускага нацыянальнага камітэта і прадстаўніка той часткі зямянства, якая падтрымала беларускі рух[1687]. Таксама ён вёў рубрыку «Агляд беларускага друку», якая цалкам абвяргала вышэйзгаданы тэзіс Студніцкага.

Можна сцвярджаць, што пры асвятленні «беларускага пытання» ў «Слове» дамінавала канцэпцыя дзяржаўнай асіміляцыі беларусаў і пераўтварэння іх у лаяльных грамадзян Польшчы. Для С. Мацкевіча і ягоных прыхільнікаў беларусы былі важным элементам як гісторыі былой Рэчы Паспалітай, так і будаўніцтва польскай «імперыі».

Адносіны беларускіх дзеячаў да публікацый «Слова» вызначаліся іх палітычнай пазіцыяй. Найбольш пазітыўна ацэньвалі асвятленне беларускай праблематыкі прадстаўнікі тых арганізацый, якія рабілі стаўку на Польскую дзяржаву і імкнуліся выкарыстаць існуючыя палітычныя магчымасці. Адным з іх быў Арсен Паўлюкевіч, які ў адкрытым лісце да польскай грамадскасці на старонках «Слова» абвінавáціў польскі ўрад у ігнараванні ініцыятыў той часткі беларускага руху, якая звязвала лёс беларускай нацыі з Польскай дзяржавай[1688].

---

1685 Cat [St. Mackiewicz], *Przedrosja*, «Słowo». 1923, Nr 63, 18 marca; M. Wojtacki, *«Słowo» Stanisława Cata-Mackiewicza…*, s. 312.

1686 K. Smreczyński, *Białorusini* «Słowo». 1924. № 242, 243, 278, 287, 296, 297 (23 października–31 grudnia); 1925, № 2, 3, 9 (3–13 stycznia).

1687 Ibidem, 1924. Nr 296, 30 grudnia.

1688 M. Wojtacki, *«Słowo» Stanisława Cata-Mackiewicza…*, s. 317

Вяртаючыся да артыкула Вайніловіча «Голас зямяніна», можна сцвярджаць, што ён выказаў погляды большасці польскіх землеўласнікаў, радзімай якіх была беларуская зямля. Думаю, што падобныя думкі наведвалі і Рамана Скірмунта, які ў адрозненне ад свайго старэйшага калегі і сябра не страціў ні зямлю, ні дах над галавой. Але ці набыў ён новую Айчыну?

Тэкст Вайніловіча таксама сведчыў пра паступовае пераўтварэнне краёўца ў «крэсоўца», які настойліва падкрэсліваў менавіта польскі патрыятызм зямянства і ягоную ролю ў Адраджэнні польскай дзяржаўнасці. У гэтым артыкуле Край пертвараўся ў «Крэсы», якія павінны былі стаць часткай Польскай дзяржавы. Але не сталі, бо Варшава забылася пра «тэстамент Тадэуша Рэйтана».

У якой ступені погляды Вайніловіча падзяляў Раман Скірмунт? Ці можна датычна ягонай асобы казаць пра пераўтварэнне краёўца ў «крэсоўца»? Каб адказаць на гэтыя пытанні варта звярнуць увагу на грамадскую і палітычную дзейнасць уладальніка Парэчча, а таксама на ягоную публіцыстыку.

### *Вяртанне палітыка і… даследчыка*

Упершыню імя Рамана Скірмунта голасна прагучала падчас выбараў у Сейм і Сенат у 1922 г. Польскі даследчык Пётр Ціхарацкі прыйшоў да высновы, што Скірмунт быў галоўнай постаццю рэгіянальнага выбарчага блока Краёвае аб’яднанне Палесся (Krajowe Zjednoczenie Polesia) (КАП), які дзейнічаў на Піншчыне[1689]. Гісторык Аляксандр Ільін на падставе дакументаў ДАБВ сцвердзіў, што гэты блок быў створаны па ініцыятыве Рамана Скірмунта, Яна Сянкевіча і Зыгмунта Корсака[1690]. Выбарчы спіс КАП, які знаходзіўся ў «цэнтры» палітычнага спектру выбарчай кампаніі, быў зарэгістраваны пад нумарам 24.

Алесь Пашкевіч у даследаванні нацыянальных працэсаў у Палескім ваяводстве праз прызму выбарчых кампаній у парламент адзначыў, што асноўным пастулатам выбарчай кампаніі КАП стаў заклік абараняць інтарэсы Палескага краю[1691]. Якраз пра гэта ішла гаворка на мітынгу КАП, які адбыўся 1 кастрычніка 1922 г. у Пінску і сабраў каля 200 чалавек. Выступоўцы Раман Скірмунт і суддзя Пінскага акруговага суда Ян Сянкевіч падкрэслівалі «надпартыйнасць» Аб’яднання і заклікалі прысутных падтрымаць той выбарчы спіс, у якім будуць прадстаўлены мясцовыя кандыдаты, а не чужынцы[1692]. Відавочна, што галоўным матывам палітычнай

[1689] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*. Łomianki 2014, s. 114.

[1690] А. Ільін, *Раман Скірмунт у грамадска-палітычным і культурным жыцці Піншчыны ў 20–30-я гг. 20 ст.*, «Гістарычны альманах». 2003, Том 8, с. 98.

[1691] А. Пашкевіч, *Нацыянальныя працэсы ў Палескім ваяводстве ў 1920-я гг. праз прызму выбарчых кампаній у польскі парламент*, «Arche-пачатак». 2013, № 4, с. 120.

[1692] А. Ільін, *Раман Скірмунт у грамадска-палітычным…*, с. 99.

дзейнасці Скірмунта ў гэты час з’яўлялася абарона інтарэсаў Палесся як часткі Польскай дзяржавы.

Ідэйна блізкія пазіцыі займаў выбарчы блок «Дзяржаўнае аб’яднанне на крэсах» (ДАК, спіс № 22), створаны ў верасні 1922 г. Роля лідэра ў ім была адведзена для былога Генеральнага камісара Цывільнай Управы Усходніх земляў Асмалоўскага.

Віленскае «Слова», якое сімпатызавала гэтаму блоку, размяшчала выбарчыя матэрыялы. Так, у № 66 (18 кастрычніка) была апублікавана праграма ДАК, якая складалася з чатырох асноўных пунктаў: улагоджванне спрэчак, незалежна ад далучэння дэпутатаў да тых ці іншых партыйных фракцый; падтрымка лакальных інтарэсаў «Крэсаў (Усходніх земляў)» у партыях і ва ўрадзе; адстойванне нацыянальнай і рэлігійнай талерантнасці; улік інтарэсаў мясцовага насельніцтва падчас правядзення аграрнай рэформы.

Публікацыя заканчвалася заклікам да выбаршчыкаў незалежна ад іх партыйнай прыналежнасці, канфесіі і нацыянальнасці, клапаціцца пра інтарэсы дзяржавы і асабліва пра інтарэсы «нашых Усходніх земляў». П. Ціхарацкі лічыў стварэнне ДАК спробай аб’яднання тых палітычных сіл, якія падтрымлівалі польскую дзяржаўнасць на далучаных землях Віленшчыны і Заходняй Беларусі[1693]. Польскі даследчык таксама адзначыў факт перамоў прадстаўнікоў ДАК і КАП наконт аб’яднання, якія не закончыліся поспехам[1694].

Апрача Рамана Скірмунта і Яна Сянкевіча кандыдатамі ў дэпутаты Сейма ад КАП былі доктар філасофіі і Старшыня Саюза сялянскай асветы Марцэлі Налэнч-Дабравольскі (Пінск), ветэрынар Уладзімеж Бахеньскі (маёнтак Відзібор Лунінецкага пав.), праваслаўны святар з мяст. Вэлюнь Лунінецкага пав. Міхаіл Кнурэнка, сяляне Міхал Качаноўскі (хутар Паўлінаў Лунінецкага пав.) і Іван Багатка (в. Каморнікі Лунінецкі пав.) ды інш. У спісе кандыдатаў у сенатары фігуравалі Раман Скірмунт, адвакат Казімір Паўлікоўскі (Пінск) і Станіслаў Старчэўскі (в. Чорчэ Камень-Кашырскі пав.)[1695]. Гэты пералік дазваляе сцвярджаць, што КАП спрабавала аб’яднаць зямян, мясцовую інтэлігенцыю і сялян і арыентавалася пераважна на сялянскіх выбаршчыкаў.

Выбарчая кампанія КАП не вылучалася актыўнасцю. А. Ільін прывёў радкі з рапарта Пінскага старасты: «… Краёвае аб’яднанне Палесся (спіс № 24) агітацыю вядзе слаба. Яна знаходзіць прыхільнікаў не ў выніку агітацыі, а дзякуючы перакананням часткі насельніцтва – электарата Нацыянальна-дэмакратычнай партыі, якую Краёвае аб’яднанне прадстаўляе на тэрыторыі Пінскага пав.»[1696]

Матэрыялы паліцыйнай справаздачы дазволілі даследчыку зрабіць выснову, што КАП заключыла пагадненне з мясцовымі нацыянальнымі дэмакратамі і поль-

[1693] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, s. 106–108.
[1694] Ibidem, s. 114.
[1695] DUWP. 1922, Nr 10, 27 października.
[1696] А. Ільін, *Раман Скірмунт у грамадска-палітычным…*, с. 99.

скай хадэцыяй. Агульным лозунгам стаў заклік абароны інтарэсаў Палескага краю. У выніку дамоўленасці былі складзены г. зв. «краёвыя спісы» («listy krajowe»)[1697]. Падтрымку КАП з боку «эндэцка-хадэцкага асяродку» адзначыў таксама Ціхарацкі[1698].

Гэтая інфармацыя выклікае здзіўленне. Неаднаразова адзначалася ўзаемная варожасць, якая падзяляла краёўца Скірмунта і сяброў партыі Дмоўскага ад пачатку палітычнай дзейнасці першага. Да таго ж, ідэя абароны інтарэсаў Палескага краю ніколі не была прэрагатывай польскіх нацыянальных дэмакратаў і хадэцыі. І, тым не менш, у пошуках палітычных саюзнікаў праціўнікі на нейкі час паразумеліся.

Папулярнасць Скірмунта сярод шырокіх колаў шляхты і часткі сялянства і верагоднасць ягонага поспеху на выбарах абярнуліся, як адзначаў А. Ільін, «сапраўдным пераследам» кандыдата КАП у друку. Дарэчы, характар абвінавачванняў (удзел у кіраўніцтве БНР, выступы ў абарону беларускіх школ ды інш.) вельмі нагадваў тую крытыку, якая раней гучала з боку нацыянальных дэмакратаў.

Вынікі выбараў у Сейм для КАП і Рамана Скірмунта былі несуцяшальныя. За «краёвы спіс» у Палескім ваяводстве прагаласавалі толькі 4 553 выбаршчыкі (1,9 % галасоў), з якіх больш за палову (2 389) – у Сарненскім пав. У Пінскім – 1 298, у Лунінецкім – 866. Гэтыя лічбы, на думку А. Пашкевіча, сведчаць, што большая частка сялянства з недаверам паставілася да спіса № 24, і яго падтрымала толькі частка польскага насельніцтва Палесся[1699]. Няўдачай скончыліся выбары і для Дзяржаўнага аб’яднання на крэсах. Блок Асмалоўскага набраў 5,2 % галасоў (12 343). Перамог Блок нацыянальных меншасцяў, за які прагаласавалі 31,6 % выбаршчыкаў. ППС падтрымала 30,8 %, а «Вызваленне» – 16,7 %[1700]. Такім чынам, на Палессі сялянства фактычна галасавала за кандыдатаў Блока нацыянальных меншасцяў або за польскіх сацыялістаў.

Пётр Ціхарацкі таксама адзначыў факт ініцыяваных Дзяржаўным аб’яднаннем на крэсах перамоў наконт сумеснай з КАП падтрымкі кандыдатуры Скірмунта на выбарах у Сенат. Аднак і гэтая ініцыятыва закончыліся няўдачай. Мясцовыя польскія выданні, якія наогул балюча перажывалі адсутнасць адзінства прадзяржаўных палітычных сіл, надзвычай варожа адрэагавалі на магчымасць іх аб’яднання вакол асобы Скірмунта на выбарах у Сенат. Напрыклад, «Глос Палескі» ідэю сумеснай падтрымкі Скірмунта назваў «ганьбай»[1701].

Вынікі выбараў сенатараў прынцыпова не адрозніваліся ад выбараў дэпутатаў Сейма. Два абраныя сенатары прадстаўлялі Блок нацыянальных меншасцяў, а трэці мандат атрымаў прадстаўнік ППС. Нечаканым аказаўся поспех КАП

---

[1697] Тамсама, с. 100.
[1698] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, s. 114–115.
[1699] А. Пашкевіч, *Нацыянальныя працэсы ў Палескім ваяводстве …*,с. 120.
[1700] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, s. 124.
[1701] Ibidem, s. 125.

у Пружанскім, Берасцейскім і Кобрынскім пав., якія ўваходзілі ў сеймавую Берасцейскую выбарчую акругу[1702]. Аднак і ў гэтым выпадку набраных КАП галасоў не хапіла, каб атрымаць месца ў Сенаце.

Наогул, на выніkі выбараў на Палессі выразна паўплываў недавер мясцовага сялянства да польскай дзяржаўнасці, ягонае спачуванне не нацыянальным, а сацыяльным лозунгам і «радыкальная дэмагогія», як ацаніў выбарчую кампанію ППС аўтар даследавання нацыянальнай палітыкі ў міжваеннай Польшчы Канстанцін Сракоўскі[1703].

У агульнапольскім маштабе найбольшую колькасць мандатаў на выбарах у Сейм і Сенат атрымалі кааліцыя Хрысціянскі саюз нацыянальнай еднасці, Польская народная партыя «Пяст», Блок нацыянальных меншасцяў і Польская народная партыя «Вызваленне». Варшаўская кіруючая эліта мела ўсе падставы ацаніць вынікі выбараў як паразу польскай дзяржаўнасці[1704].

Аналагічна выказаўся на старонках свайго Дзённіка Эдвард Вайніловіч. Ён адзначыў, што абранцы «ўсходніх крэсаў» умацуюць пазіцыі «левіцова-бельведэрскіх партый» у Сейме, а новы Сейм не будзе лепшы за папярэдні. Таксама ён звярнуў увагу на няўдачу Рамана Скірмунта і з горыччу зазначыў, што парламент не будзе мець ні ягонага красамоўства, ні перасцярог[1705]. Паводле Вайніловіча, вынікі выбараў на «ўсходніх землях» былі абумоўлены палітыкай ўрада, што ўсяляк патрымліваў левыя партыі і варожа ставіўся да зямян, якія маглі ўмацаваць цэнтр і правых у Сейме.

Для беларусаў, якія далучыліся да Блока нацыянальных меншасцяў, гэтыя выбары аказаліся найбольш паспяховымі за ўвесь міжваенны час. Яны атрымалі 11 месцаў у Сейме і 3 месцы ў Сенаце. Праўда, як паказалі даследаванні А. Пашкевіча, у большай ступені гэты поспех быў забяспечаны ўплывамі ўкраінскіх і габрэйскіх арганізацый[1706].

Выбары 1922 г. былі апошняй уласнай палітычнай ініцыятывай Рамана Скірмунта. Яе няўдача паказала неабходнасць далучэння да адной з існуючых партый. Магчыма, разуменне гэтага спрычынілася да ахапіўшай яго апатыі, пра якую распавядалі Э. Вайніловічу агульныя знаёмыя. Праўда, ён сам пры сустрэчы са Скірмунтам у лістападзе 1923 г. яе не заўважыў[1707].

Трэба адзначыць, што гаспадар Парэчча таксама прымаў удзел у працах Рады

[1702] А. Пашкевіч, *Нацыянальныя працэсы ў Палескім ваяводстве …*, с. 123.

[1703] Цытата па: А. Пашкевіч, *Нацыянальныя працэсы ў Палескім ваяводстве…*, с. 125.

[1704] К. Гамулка, *Паміж Польшчай і Расіяй. Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных фарміраванняў. 1918–1922.* Вільня 2008, с. 210.

[1705] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część druga*. Warszawa 2016, s. 70.

[1706] А. Пашкевіч, *Выбары на Палессі ў польскі парламент у 1922 г.* (у:) «Гісторыка-культурная спадчына Брэсцка-Пінскага Палесся: паміж мінулым і будучыняй. Ч. 1. Брэст 2006, с. 223–227.

[1707] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część druga*, s. 109.

Палескага ваяводства і Пінскага павятовага сейміка. Апошні распачаў сваю дзейнасць у чэрвені 1923 г. Першае пасяджэнне сейміка прывіталі прадстаўнікі розных сацыяльных колаў і нацыянальных груповак. Раман Скірмунт выступаў ад зямян Пінскага пав. Разам з Ежы Асмалоўскім, Зыгмунтам Корсакам ён быў абраны ў кіраўнічы орган сейміка[1708]. Пратаколы праўлення Парэцкай гміны за 1924–1925 гг. сведчаць таксама пра ягоны ўдзел у працы і гэтага органа самакіравання[1709].

Затое раней часу закончылася кар’ера Скірмунта як суддзі Пінскага акруговага суда. Пра гэта сведчыць перапіска са старшынём суда, якая тычылася прадстаўлення Раманам Скірмунтам у Апеляцыйны суд у Вільні свайго жыццяпісу з указаннем «навуковай кваліфікацыі, а таксама ранейшай дзяржаўнай і грамадскай дзейнасці»[1710]. Як вядома, дакумента аб атрыманні сярэдняй адукацыі Р. Скірмунт не меў…

Аляксандр Ільін сабраў інфармацыю пра грамадскую дзейнасць Рамана Скірмунта ў 1920-я гг., якая ўражвае сваёй насычанасцю. Так, у 1923 г. ён узначаліў Палескае акруговае таварыства сельскай гаспадаркі (ПАТСГ) у Пінску і здолеў значна актывізаваць ягоную дзейнасць. План працы на 1924 г. прадугледжваў правядзенне лекцый у сельскагаспадарчых гуртках і арганізацыю спецыялізаваных бібліятэк. У 1924 г. Таварыства арганізавала выставы скаціны ў Пінску і ў Лунінцы. У маёнтках Пачапава, Коранева, Хойна і Сташаны на Піншчыне былі вызначаны ўчасткі для вырошчвання розных гатункаў аўса[1711].

У чэрвені 1925 г. намаганнямі ПАТСГ была арганізавана Выстава сельска-гаспадарчай прадукцыі ў Берасці, якая прыцягнула ўвагу Юзафа Пілсудскага. Каля ўваходу на Выставу высокага госця сустрэў старшыня Таварыства Раман Скірмунт[1712].

Дарэчы, у 1929 г. Скірмунт як старшыня ПАТСГ выступіў супраць утварэння агульнапольскага Цэнтральнага таварыства сельскагаспадарчых арганізацый і гурткоў. Ён здаўна быў праціўнікам варшаўскага цэнтралізму і непакоіўся, што агульнапольская сельскагаспадарчая арганізацыя не будзе ўлічваць рэгіянальныя асаблівасці Палесся. Менавіта пра гэта ён пісаў на старонках «Слова» ў артыкуле «Гранада», прадракаючы новай арганізацыі лёс зачумленай Гранады ў часы праўлення Альманзора, калі яе абміналі ўсе падарожнікі[1713]. Але ўрэшце Скірмунт прыняў перамены і працягваў дзейнасць на чале мясцовай філіі Цэнтральнага таварыства.

У родным Парэччы ён утрымліваў сваім коштам пажарную каманду, фінанса-

---

[1708] DUWP. 1923, Nr 6–7, 1 lipca, s. 15–16.
[1709] ДАБВ. Ф. 2021, воп. 1, спр. 11.
[1710] ДАБВ. Ф. 2031, воп. 4, спр. 1017, арк. 11.
[1711] А. Ільін, *Раман Скірмунт у грамадска-палітычным…*, с. 101.
[1712] ДАБВ. Ф. 2003, воп. 2, спр. 855, арк. 135 адв.
[1713] R. Skirmunt, *Grenada*, «Słowo». 1930, Nr 91, 18 kwietnia.

ваў мясцовае аддзяленне агульнапольскага парамілітарнага «Саюза стральцоў», мэтаю якога было фізічнае выхаванне і пачатковая вайсковая падрыхтоўка моладзі[1714].

Раман Скірмунт таксама ўдзельнічаў у дыскусіях пра развіццё чыгункі на Палессі. Паводле інфармацыі газеты «Кур'ер Віленьскі» (1924. № 133, 4 снежня), ён выступаў на нарадзе Дырэкцыі Віленскай рады чыгуначнага траспарту ў Вільні, дзе гаворка ішла пра будаўніцтва новых чыгуначных шляхоў.

Пры гэтым уладальнік Парэчча знаходзіў час для ўласнай навуковай зацікаўленасці, якая галоўным чынам датычыла гісторыі, этнаграфіі і літаратуразнаўства. Відавочна, што ён быў чалавекам схільным да гуманітарных дысцыплін, але выявілася гэта толькі пасля заканчэння вайны і знішчэння амаль усёй прамысловасці Парэчча. Скірмунт не стаў яе аднаўляць, магчыма, не толькі таму, што не меў адпаведных сродкаў. Упэўнены, што больш чым фабрыкі і заводы яго заўсёды вабілі гісторыя, літаратура і музыка.

Літаратура і гісторыя прысутныя амаль ва ўсіх ягоных публікацыях. У выступах і тэкстах ён часта дэманстраваў блізкае знаёмства з творамі старажытных грэчаскіх і рымскіх аўтараў. Апрача таго, выдатна ведаў польскую, англійскую і нямецкую літаратуру, цытаваў вядомых расійскіх пісьменнікаў. Скірмунт быў аўтарам цікавых тэкстаў з элементамі даследавання, прысвечаных гісторыі і культуры Палесся, разважанняў-успамінаў пра жыццё і дзейнасць колішніх калегаў і сяброў па «краёвай» палітычнай дзейнасці, нарэшце, выдаў брашуру, прысвечаную творчасці Юліуша Славацкага (1926)[1715] ды інш.

Але на першым плане ягоных гуманітарных зацікаўленасцяў знаходзілася ўсё ж гісторыя. Яна заўважальная ўжо ў ягоных брашурах 1904–1905 гг., у публіцыстыцы міжваеннага часу, а таксама ў водгуках на публікацыю ўспамінаў Іпаліта Корвін-Мілеўскага і Эдварда Вайніловіча, у нарысе пра Канстанцыю Скірмунт ды інш.

У артыкуле «Складаная праблема» Скірмунт выказаўся ў абарону гістарычнай навукі: «Гісторыя – гэта жыццяпіс народаў, памылкі мінулага – яе папераджальныя знакі, праявы мудрасці і мужнасці продкаў – указальнікі шляху. Яна пашырае пэўныя погляды і паняцці, дае досвед. Досвед – гэта добры настаўнік, і хоць вучань часта бывае тупым, але пэўныя высновы з яго ўсё ж робіць»[1716].

У 1923 г. Скірмунт меў непасрэднае дачыненне да выдання зборніка «Палессе ілюстраванае» пад рэдакцыяй інжынера Актавіўша Нэлярда[1717]. У зборніку былі апублікаваны два тэксты Рамана Скірмунта: гісторыка-этнаграфічны нарыс «Рысы адметнасці Палесся» (за подпісам *Roman Skirmunt*) і гістарычны артыкул «З старых летапісаў» (за подпісам *Romunt*).

---

1714 А. Ільін, *Раман Скірмунт у грамадска-палітычным…*, с. 102.

1715 Ro…munt [R. Skirmunt], *Blichtr i blask. Z rozmyślań o Słowackim*. Wilno 1926.

1716 R. Skirmuntt, *Zawiłe zagadnienie*, (у:) *Nowe formy unii kościelnej w Polsce*. Słonim 1932, s. 16.

1717 *Polesie ilustrowane*. Monografia. Praca zbiorowa pod redakcją inż. Nelarda. Brześć n/B 1923.

Інжынер Нэлярд быў вядомай постаццю на Палессі. Як кіраўнік Паддырэкцыі Берасцейскай чыгункі ён спрычыніўся да аднаўлення гэтага віда транспарта на Палессі. Адначасна праводзіў актыўную грамадскую дзейнасць, спрыяў развіццю асветы і друку. У 1923 г. увайшоў у склад управы Таварыства апекі над Усходнімі крэсамі. Адначасна быў выдаўцом і рэдактарам часопіса «Kolejowiec Kresowy», выступаў як публіцыст на старонках друку. У вышэйзгаданым палескім зборніку ён фігураваў як рэдактар, выдавец і адзін з аўтараў. Магчыма, менавіта ён быў ініцыятарам з'яўлення «Палесся ілюстраванага». Аднак прысутнасць тэкстаў Рамана і Генрыка Скірмунтаў, шматлікія выявы «скірмунтаўскіх мясцін» Парэчча і Моладава, фотапартрэты Аляксандра Скірмунта (малодшага) і ягонага сына Рамана сведчаць таксама пра актыўную ролю Скірмунтаў у падрыхтоўцы зборніка.

Артыкул «Рысы адметнасці Палесся» – адзін з найбольш важных і канцэптуальных тэкстаў у зборніку. Аўтар пераконваў чытача ў культурнай самабытнасці Палесся, абумоўленай асаблівасцямі гістарычнага шляху. Гэты тэкст таксама важны для разумення эвалюцыі вобраза «Краю» Рамана Скірмунта.

Публікацыя пачыналася згадкай, што з XIII ст. Палессе або ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, або знаходзілася пад ягоным уплывам. Паводле аўтара, землі шасці беларуска-літоўскіх губерняў часоў «расійскай акупацыі» былі «непарушальным цэнтрам» дзяржаўнасці гістарычнай Літвы, а Палессе з'яўлялася яе паўднёвым рубяжом[1718].

Скірмунт прыгадаў крызіс краёвай ідэі, якая пасля краху Расійскай імперыі была перакрэслена «сепаратысцкімі памкненнямі Ковенскай Літвы», і заўважыў, што ў выніку чарговага падзелу Краю Польшча атрымала толькі заходнія ўскрайкі Белай Русі і захад Палесся. Таксама ён згадаў дрыгавічоў як продкаў сучасных палешукоў, якія, на яго думку, знаходзіліся ў сваяцкіх сувязях з продкамі беларусаў крывічанамі, а таксама з драўлянамі і палянамі, ад якіх, аднак, моцна адрозніваліся. Беднасць іх земляў не прываблівала асаднікаў, што спрыяла захаванню мясцовым насельніцтвам «спецыфічных рысаў» і пэўнай архаікі. Толькі апошняя вайна і прысутнасць войск стала прарывам ізаляванасці Палесся. Яно разглядалася аўтарам як асобны рэгіён гістарычнай Літвы з адметным гістарычным шляхам.

Скірмунт аспрэчваў меркаванне «вядомага карыфея ўкраінскай мегаламаніі» прафесара Міхайлы Грушэўскага, які сцвярджаў прыналежнасць большай часткі Палесся да Украіны. Паводле аўтара, гэтыя прэтэнзіі не мелі этнаграфічных і гістарычных падстаў і не адпавядалі «настроям сённяшняга дня». У гэтым месцы ён прыгадаў ідэалагічную паразу «натоўпу ўкраінскіх агітатараў», якія падчас нямецкай акупацыі спрабавалі пераканаць палешукоў у іх прыналежнасці да Украіны.

Працы беларускіх даследчыкаў Я. Карскага і М. Доўнар-Запольскага, на думку Скірмунта, таксама засведчылі адрознасць жыхароў Палесся ад суседзяў

---

[1718] R. Skirmunt, *Rysy odrębności Polesia*, (у:) *Polesie ilustrowane,* s. 31.

з поўначы і поўдня. Паводле аўтарскага меркавання, «за выключэннем мовы палешук больш падобны на беларуса, чым на ўкраінца». Аднак «характар, знешні выгляд і аддзенне выразна адрозніваюць палешукоў ад беларусаў. Яны менш энергічныя і менш размоўныя, чым апошнія»[1719].

На Палессі не выявілася тэндэнцыя да самавызначэння, аднак свой выразны след тут пакінула бальшавіцкая агітацыя. Скірмунт прыгадаў моцны супраціў мясцовага насельніцтва польскім войскам падчас іх наступу ў 1919 г. Ён зазначыў, што гэты супраціў нельга тлумачыць сімпатыямі да Расіі, бо расійскія вайскоўцы ў часы Сусветнай вайны якраз скардзіліся на адсутнасць патрыятызму сярод палешукоў і іх абыякавасць да яе вынікаў.

Ён паспрабаваў намаляваць патрэт палешука, у якім адлюстраваліся пэўныя псіхалагічныя і антрапалагічныя асаблівасці, а таксама побытавая культура, нормы паводзін і адметная мова.

*ДАКУМЕНТ*

**Раман Скірмунт. Рысы адметнасці Палесся[1720]. Фрагмент.**

*[…] У палешука моцна развітае паняцце ўласнасці. Ён будзе ўпарта абараняць сваё і не схільны прэтэндаваць на маёмасць блізкіх людзей. Можна прывесці прыклады (праўда, нешматлікія) з часоў вайны, якія дазваляюць убачыць шляхетныя рысы палешука. Аднак у стасунках з чужымі прагнасць і імкненне да хуткай нажывы часта бярэ ў ім верх.*

*Сярод моладзі свабода і бесцырымоннасць у адносінах паміж паламі досыць значная, але мае пэўныя межы. Зрэдку сустракаецца дзяўчына, якая не захавала цнатлівасці. Занадта вясёлая кабета можа мець вялікую папулярнасць, але ёй цяжка будзе знайсці мужа, асабліва ва ўласнай вёсцы. Звычай сумеснага начлегу на выпасах скаціны, дзе бывае вельмі весела, або падчас сумесных падарожжаў пры сплаве лесу на платах, калі спаць кладуцца ў адным шалашы, які пашыраны ў некаторых мясцовасцях Белай Русі, тут з'яўляецца чужым. У хатнім жыцці і ў гаспадарцы жаночая туфелька адыгрывае паважную ролю. Маральная перавага жанчыны над мужам з'яўляецца даволі пашыранай з'явай.*

*Падчас жніва і збору сена паляшук паказвае сябе здольным да самай цяжкай працы, калі ж патрэбы яго задаволены, не імкнецца да яе. Пад добрым кіраўніцтвам – вельмі добры работнік, пад кепскім – будзе толькі марнаваць час. Добры земляроб, які старанна працуе на сваёй зямлі. А вось з жывёлагадоўляй горш. Звычайна трымае жывёлы больш, чым трэба, што вядзе да мінімальных прыбыткаў.*

*Паўсюднасць вады з дзяцінства робіць яго блізкім гэтаму элементу. Рыбалку*

---

1719 Ibidem.

1720 R. Skirmunt, *Rysy odrębności Polesia*, (у:) *Polesie ilustrowane,* s. 31. Гэтая публікацыя была заўважана і яе перадрукавала «Газета Варшаўска» (Nr 145 ад 6. 06. 1925), а «Пшэглёнд Віленьскі» на сваіх старонках пераказаў яе змест (Nr 10, 1925).

*любіць страшэнна, плавае як бабёр, дасканала вяслуе. Мокнуць у вадзе, якая ўжо бярэцца льдом, для такога рыбака – дробязь. Затое вада, як сродак захавання чысціні для яго амаль не існуе. Лёгка пераносіць спёку і холад. Апошняе між іншым пацвярджаецца тым, што, як здаецца, аніводны паляшук не памёр падчас моцных марозаў увосень 1921 г. у неацяпляльных вагонах польскай чыгункі на ўсходніх крэсах.*

*Рост яго можна акрэсліць як сярэдні, цела – моцнае, валасы пераважна каштанавага колеру. Часта нават чорнавалосыя палешукі маюць блакітныя вочы. Народнае аддзенне летам – гэта штаны і кашуля з даматканага палатна з каляровым пасам і саламяны капялюш з шырокімі палямі, аточаны чорнай або часцей чырвонай стужкай, а таксама доўгая сермяга з шырокімі палямі з карычневага сукна, звычайна вытканага ў хаце. Зімой капялюш замяняе чорная авечая шапка, якая, зрэшты, выкарыстоўваецца таксама летам, каб схаваць галаву з доўгімі валасамі ад сонечнай спёкі. Лягчэйшыя элементы вопраткі схаваныя пад авечым кажухом і сермягай. На нагах – г. зв. «ноговыцы» або штаны з тоўстага даматканага палатна і вялікія боты.*

*Уладкаванне вёскі, будоўля хаты, размеркаванне гаспадарчых будынкаў трохі нагадваюць беларускую вёску і вельмі моцна адрозніваюцца ад таго, што мы бачым ва Украіне. Затое мова істотна адрозніваецца ад беларускай. У перыяд перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. у Пінску працавала адмысловая камісія дзеля выпрацоўкі пэўных прынцыпаў, каб пазбегнуць хаосу ў вызначэнні мовы, што магло выклікасць сумненні ў дадзеных перапісу. Дыскутавалі над тым, як акрэсліць мову палешукоў. Расійскі бок прапанаваў пазначаць яе як «маларуска-польска-беларускую». Урэшце рэшт спыніліся на назве «маларуска-беларуская». Нікому з прысутных не прыйшла ў галаву адзіная ўласцівая назва – «паляшуцкая мова».*

*Падчас перапісу 1921 г. большасць перапісчыкаў кіравалася ўласным натхненнем. Адзін называў мову «мясцовай», «польскай», другі – «беларускай», трэці – «палескай», чацвёрты – «расійскай» і г. д. Такая імправізацыя ў вызначэннях стварыла вобраз нейкай венецыянскай мазаікі, але не наблізіла нас да праўды. Веданне крэсовай сітуацыі ніколі не было моцнай рысай кіруючых сфер у Варшаве.*

*У 1920 г. выйшаў загад друкаваць усе дзяржаўныя дакументы на Палессі на польскай і беларускай мовах, не зразумелых большасці палешукоў. Іх мова больш падобная на ўкраінскую, хоць істотна адрозніваецца і ад яе […]*

У якасці прыкладаў «паляшуцкай мовы» ён прывёў запіс песні «На тыхому Дунаю Ясё коні поіт…», а таксама гумарыстычных дыялогаў: «Ласочка, гды була…»; «Шчупак у морі гулюе да волі…». Пры гэтым Скірмунт адзначыў немагчымасць дакладнай перадачы гэтай мовы на пісьме літарамі польскага або рускага алфавітаў. Паводле ягоных назіранняў, чысціня палескай мовы найбольш захавалася ў жанчын, а мужчыны яе страцілі ў выніку большай рухлівасці. Напрыканцы

артыкула Скірмунт змясціў запіс старажытнай песні: «Святый Андрэю, святый Боболя…», як прыклад захавання пэўных традыцый былой Рэчы Паспалітай нават праваслаўным насельніцтвам[1721].

Відавочнае аўтарскае імкненне падкрэсліць адметнасць Палесся, своеасаблівасць этнаграфіі і мовы палешукоў, іх характару і псіхічнага складу. У тэксце адчувальнае «палескае напаўненне» краёвасці Скірмунта. У адрозненне ад уласнай пазіцыі ў 1918 г., калі ён казаў пра Палессе як частку беларускай зямлі, праз пяць год аўтар імкнуўся паказаць яго адметнасць не толькі ад Украіны, але і ад Беларусі.

У артыкуле «З старых летапісаў» *Ромунт* зрабіў агляд гісторыі «нашага краю» (так ён назваў пінскае Палессе) ад князя Гедыміна да Паўночнай вайны XVIII ст. На пачатку ён коратка пазначыў уласны канцэптуальны падыход: «Наш край на працягу стагоддзяў быў месцам, дзе праходзіла першая лінія абароны заходняй культуры. Гэта было поле бою, дзе змагаліся дзве варожыя сілы […]. Менавіта таму ён [край (заўвага – *А. С.)*] атрымаў шмат цяжкіх udараў і ран, якія стрымлівалі ўпартую, хоць і марудную творчую працу»[1722].

Скірмунт распачаў агляд з заўвагі пра каштоўнасць пісьмовых крыніц для гістарычнага даследавання, а таксама адзначыў іх рэдкасць для даследаванняў старажытнай гісторыі. Таксама падкрэсліў намаганні расійскага ўрада, які ў свой час імкнуўся знішчыць усе «сляды сувязі нашых земляў з Польшчай», і згадаў пра знішчэнні гістарычных дакументаў у перыяд ваенных дзеянняў. Аўтар папярэдзіў чытача, што, прынамсі, частка прыведзенай ім інфармацыі ўзята «з старых рукапісаў», якія цудам ацалелі.

Тут варта прыгадаць ліст маладога польскага гісторыка Караля Гурскага (1903–1988) да рэферэнта аддзела рэстаўрацыі Палескага ваяводства і гісторыка Рамана Харашкевіча, напісаны напрыканцы лета 1929 г., у якім ён паведамляў пра каштоўны збор гістарычных дакументаў, што датычылі Крывіцкай воласці Віленскага ваяводства, і захоўваліся ў сямейным архіве Рамана Скірмунта[1723]. Гісторык пісаў пра некалькі соцень надзвычай цікавых старажытных актаў, у якіх адлюстравалася поўная карціна гаспадарчых стасункаў у воласці ад пачатку XVII ст. Відавочна, што Скірмунт меў досвед працы з гістарычнымі дакументамі і актыўна карыстаўся гістарычнай літаратурай з уласнай бібліятэкі. У тэксце ён таксама спасылаўся на дакументы Пінскага павятовага архіва.

Ягоны тэкст стварае добрае ўражанне даволі прафесійным падыходам аўтара да свайго даследавання. Ён выкарыстоўвае крыніцы (найчасцей спасылаўся на *Summariusz różnych transakcji w metrykach W. Ks. Lit. znajdujących się i do powiatu Pińskiego służączych*), а таксама працы такіх вядомых гісторыкаў як Ваўжынец Рудаўскі, Фрыдэрык Папэ і Людвік Калянкоўскі.

---

1721 Ibidem, s. 34.

1722 Romunt [Skirmunt R.], Z *starych kronik,* (у:) *Polesie ilustrowane*s, s 129.

1723 ДАБВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 74, арк. 18.

У артыкуле гісторыя пінскага Палесся – гэта гісторыя князёў, войн і бунтаў. Так, Скірмунт згадаў князя Васіля Пінскага, які ў 1386 г. прысягнуў у вернасці «каралю польскаму Ягайлу». Пры гэтым ён спасылаўся на дадзеныя згаданага Сумарыуша. Таксама са спасылкай на гэтую крыніцу аўтар паведаміў пра княгіню Марыю і князя Фёдара Іванавіча Яраславіча (пачатак XVI ст.), якія прызнавалі ўладу «караля польскага» і фактычна з'яўляліся толькі «вялікімі абшарнікамі». Калі дынастыя пінскіх князёў абарвалася, Жыгімонт І перадаў іх землі каралеве Боне.

За выключэннем кароткай згадкі пра вялікага князя Гедыміна Раман Скірмунт пісаў толькі пра польскіх каралёў. У выніку пінскае Палессе фігуравала як неад'емная частка Польскай дзяржавы, а Рэч Паспалітая набыла выключна польскі характар. Літва згадвалася зрэдку і толькі як рэгіён «польскай» Рэчы Паспалітай.

Скірмунт адзначыў, што ў часы каралевы Боны з'явілася значна больш пісьмовых крыніц па гісторыі пінскага Палесся, што было абумоўлена яе клопатам пра развіццё і ўпарадкаванне Краю. Са спасылкай на даследаванне Л. Калянкоўскага ён сцвярджаў, што ў сярэдзіне XVI ст. Пінск стаў адным з найбольш заможных гарадоў Літвы, а рэестр пінскіх баяр таго часу ўключаў прадстаўнікоў вядомых родаў, нашчадкі якіх і ў 1920-я гг. жылі на Піншчыне. *Ромунт* назваў Ордаў, Булгакаў, Алізараў, Пратасевічаў і Войнаў. Апошнія ў XVI–XVII стст. валодалі Моладавам і пакінулі вельмі цікавы гістарычны помнік у выглядзе тэксту, вылітага на зване Моладаўскай царквы. Аўтарам тэксту быў Сямён Война. Скірмунт паспрабаваў працытаваць гэты тэкст у сваім артыкуле, апусціўшы словы, якія не здолеў разабраць. Паводле аўтара, «у словах гэтага палескага аўтахтона ёсць глыбокая вера і сыноўняя прыхільнасць да караля і да Рэчы Паспалітай».

Гэты звон добра вядомы беларускім даследчыкам. Ён быў адліты ў 1583 г. людвісарам Марцінам Гофманам у Коўне па замове кашталяна мсціслаўскага Сямёна Войны. Вышыня звону – 62 см, дыяметр – 70 см. У верхняй частцы звон дэкараваны пасам расліннага арнаменту з фантастычнымі істотамі і жывёламі. Ніжэй змешчаны гравіраваны надпіс на беларускай мове лацінскім алфавітам[1724].

[1724] Вось ягоны тэкст, адаптаваны да сучаснай беларускай мовы Валерыем Пазняковым: *На вечную памяць дабравернага хрысталюбівага вяльможнага пана яго міласці пана Войны Мацвеевіча Грычына, названага ў святым хрышчэнні Барысам, кашталяна мсціслаўскага, старасты ожскага, пераломскага, убарцкага, падкаморыя пінскага і жонкі яго міласці дабравернай пані Багданы Янушаўны Любельскай, названай у святым хрышчэнні Меланняй, загадам і накладам іх міласцей праз сына іх міласцей першароднага (усякія бо отракі, што лона расчыняюць, святыя Богу) дабравернага і хрысталюбівага пана яго міласці пана Сямёна Войну, старасту паморскага, палангаўскага і горждаўскага, цівуна ўжвенцкага ў зямлі Жамойцкай і рэвізора караля яго міласці гэты звон адліты ў слаўным месце Коўне і даны ў царкву Божую ў маёнтку іх міласцей вотчынным у Моладаве на векі непарушна. Жыў яго міласць пан Война, кашталян мсціслаўскі, на гэтым свеце веку свайго гадоў блізу дзевяноста, будучы*

Магчыма, гэты ўнікальны гістарычны помнік беларускай культуры ў свой час таксама спрычыніўся да беларускага выбару Рамана Скірмунта ў 1917–1918 гг.

Поспехі гаспадарчага і культурнага развіцця перакрэсліла катастрофа 1648 г., калі казацкія атрады дайшлі да Пінска. «Рэч Паспалітая, – пісаў Скірмунт, – хісталася ў аснаваннях. Забыліся ўрокі яе магутнасці. Рука, здольная караць злачынства, быццам страціла моц. А чалавечая натура слабая, бо без страху быць пакараным знікае пачуццё абавязку, і кепскія якасці лёгка перамагаюць над добрымі. Пад уплывам тых, хто заўсёды цягнуўся да Масквы як сваёй духоўнай маці, схізматыкі Пінска ўзнялі зброю супраць Рэчы Паспалітай»[1725]. Гэтаму эпізоду пінска-палескай гісторыі Скірмунт удзяліў шмат увагі. Магчыма, у трагедыі Пінска сярэдзіны XVII ст. ён бачыў пэўныя паралелі з падзеямі нядаўняга часу.

Спачатку ён працытаваў фрагмент даследавання В. Рудаўскага *Historia polska od śmierci Władysława IV aż do pokoju oliwskiego czyli dzieje panowania Jana Kazimierza od r. 1648 do 1660 przez W. J. Rudawskiego* (Petersburg-Mohylew, 1855) з апісаннем разгрому войска казакоў і пакарання Пінска войскамі ліцвінаў. Потым амаль на дзвюх старонках прывёў падрабязнае апісанне катастрофы Пінска 1648 г., узятае, паводле ягоных слоў, з дакументаў Пінскага павятовага архіва (?!).

Аўтар вельмі негатыўна выказаўся пра ролю праваслаўнай царквы, якая выступала як палітычны інструмент Масквы і на працягу ўсёй гісторыі пінскага Палесся ў складзе «польскай» Рэчы Паспалітай заставалася найбольш варожым інстытутам у дачыненнях з заходняй цывілізацыяй.

Падзеі больш позняй гісторыі атрымалі толькі фрагментарнае асвятленне.

---

*з мілай жонкай яго міласці ў стане святым сужэнскім паняй Багданай у боязі Божай пад міласэрнасцю яго святой у добрай аднастайнай міласці і згодзе і ў законе старажытным царквы сабору грэцкага, з маладосці і ў сярэдніх гадах яго міласць добрым рыцарам будучы і зацных, пачцівых, слаўных продкаў родам сваім наследваючы, каралям іх міласцям і вялікім князям літоўскім і Рэчы Паспалітай добра служачы зацных урадаў дасягнуў і сенатарам вялікім, зацным у радзе караля яго міласці быў. Акрамя таго з міласернасці Божай у боязі яго святой з мілай жонкай яго міласці добрае, пачцівае патомства цнатлівае, сыны і дочкі парадзіў і іх, як патрыярх Якаў, сыноў сваіх благаславіў, вялікія ўцехі і радасці з усіх дзетак сваіх хвала даў сынам сваім на пачцівых, зацных пасадах, у лавіцу ў радзе каралеўскай бачыў, і сыноў сваіх сыноў да хросту святога на руках сваіх аддаваў і іх благаславіў пачціва. Таксама дочкі, пачціва, добра ў доме сваім выхаваныя, пры жыцці сваім у стан святы сужэнскі за добрых, пачцівых людзей, у дамы пачцівыя, шляхецкія з благаславеннем сваім бацькоўскім выдаўшы, з патомства іх унучат сваіх і праўнукаў стварыў і ў год ад творцы госпада Бога жыцця яго міласці вызначаны, у міласэрнасці Божай у добрых днях і ўцехах сваіх правадзіўшы, да госпада Бога адышоў і дух свой у рукі гасподні аддаў, а ў жыццё вечнае з гэтага светнага жыцця сышоў яго міласць пан кашталян мсціслаўскі ў маёнтку яго міласці вотчынным Парэччы ў год Божы 1582 дня 15 мая* (В. Пазднякоў, *Моладаўскі звон* [у] *Электронная энцыклапедыя ВКЛ*. Рэжым доступу: http://vkl.by/articles/2152.). Дата доступу: 18. 07. 2018.

[1725] Romunt [R. Skirmunt], Z *starych kronik*, s. 132.

Адносна перыяду канца XVIII–XIX стст. Скірмунт заўважыў, што пісаў пра яго ў іншым месцы[1726]. а з падзей XX ст. ён прыгадаў толькі пажары ў Пінску 1901 і 1921 гг., калі найбольш пацярпеў цэнтр горада.

Адносна аднаўлення Пінска, якое адбывалася на ягоных вачах, Скірмунт не ўстрымаўся ад сарказма, прыгадаўшы існаванне ў Пінску «сціплай польскай сярэдняй школы» і вялізнай рускамоўнай гімназіі, якую наведвалі амаль 500 вучняў, а таксама пераўтварэнне горада ў цэнтр праваслаўнай епархіі і архіерэйскую сталіцу, чаго не было нават у часы Расійскай імперыі.

У апошнім абзацы адлюстраваўся даволі сумны настрой аўтара, які не быў пэўным у правільнасці абранага ўладамі шляху адраджэння Палесся: «У складаных справах гэтага свету часта цяжка бывае зразумець, ці гэта добрая зорка вядзе людзей да лепшай долі, ці гэта злы хохал[1727] па бездарожжу іх водзіць. У нас, на крэсах часта ўзнікаюць падобныя сумненні. Нягледзячы на гэты – жывем з надзеяй»[1728].

На тытульным аркушы знойдзенага асобніка «Палесся ілюстраванага», захаваўся тэкст Рамана Скірмунта да невядомай асобы: «Перасылаю Пані гэты выраз добрых намераў выдаўцаў, хоць шкадую, што вынік не адпавядае намерам. На самой справе Палессе трохі іншае і трохі больш архаічнае».

Відавочны палітычны падтэкст гэтага выдавецкага праекту. За «архаікай» Палесся стаяла імкненне аўтараў зборніка яшчэ раз нагадаць палітыкам з Варшавы пра неабходнасць улічваць адметнасць як мінуўшчыны, так і сучаснасці гэтага Краю.

Паводле А. Ільіна, у 1925 г. Скірмунт стаў сябрам Пінскага культурна-асветніцкага камітэта, які ўзначаліў пінскі староста В. Болдак. Гэты Камітэт спрычыніўся да выдання «Газеты Палескай» (рэд. Раман Гарашкевіч), на старонках якой значнае месца адводзілася асвятленню падзей культурнага і гаспадарчага жыцця Піншчыны.

Гаспадар Парэчча таксама меў дачыненне да стварэння Палескага музея ў Пінску (1936)[1729]. Вядома, што ён перадаў у яго фонды каштоўныя экспанаты, у т. л. альбом з выявамі скульптур Алены Скірмунт (29 жніўня 1936 г.) ды інш. На пачатку 1930-х гг. Раней Скірмунт таксама прымаў у Пінску парламентарыяў, якіх знаёміў з гісторыяй і культурай Палесся.

У 1926 г. Раман Скірмунт пад псеўданімам *Ro…munt* выступіў у якасці даследчыка жыцця і творчасці славутага польскага паэта Юліуша Славацкага (1809–1849). У Вільні, у выдавецтве «Слова» выйшла з друку ягоная брашура «Мішура

[1726] Тэкст не знойдзены.

[1727] У драме С. Выспянскага «Вяселле» гэта фантастычная постаць, сімвал сна нацыі (заўвага - *А. С.*)

[1728] Romunt [R. Skirmunt], Z *starych kronik*, s. 133.

[1729] В. Лабачэўская, *Захавальнік Палескага музея Дзмітрый Георгіеўскі,* Мінск 2001.

і бляск. З разважанняў пра Славацкага»[1730]. Зразумела, што ён не належаў да кола прафесійных даследчыкаў, але, відаць, меў патрэбу падзяліцца ўласнымі меркаваннямі адносна паэтычнай творчасці і асобы вялікага паэта.

Скірмунт не выглядаў прафанам, бо шырока карыстаўся працамі такіх вядомых даследчыкаў жыцця і дзейнасці паэта, як Антоні Малецкі (1829–1913) і Юзаф Трацяк (1841–1923). Таксама ведаў працы маладзейшага пакалення навукоўцаў, якіх ва ўступе папракнуў у ідэалізацыі Славацкага. З адным з іх прафесарам Юліушам Кляйнэрам (1886–1957) Скірмунт нават палемізаваў. У кнізе згадваюцца таксама іншыя даследчыкі творчасці Славацкага, у прыватнасці, Манфрэд Крыдль (1882–1957).

Многія з гэтых даследаванняў знаходзіліся ў бібліятэцы Скірмунта ў Парэччы. З дапамогай добразычлівых атрымалася знайсці інфармацыю пра захаванне ў Пінску кнігі вядомага гісторыка літаратуры Фердынанда Хёсіка (1867-1941) *Juliusz Słowacki. 1809-1849. Biografia psychologiczna. Tom pierwszy* (Kraków-Warszawa, 1897) з экслібрысам бібліятэкі. Дарэчы, гэтая інфармацыя падтрымлівае надзею, што, прынамсі, частка архіва і бібліятэкі не была знішчана людзьмі і часам…

Таксама *Ро…мунт* карыстаўся працамі англійскіх даследчыкаў творчасці і жыццёвых лёсаў славутых паэтаў эпохі брытанскага рамантызму Джорджа Байрана (1788–1824) і Персі Шэлі (1792–1822), якія, хутчэй за ўсё, таксама знаходзіліся ў ягонай бібліятэцы. Веданне гэтых прац, а таксама іншых, прысвечаных творчасці Іагана фон Гётэ (1749–1832) і Фрыдрыха Шылера (1759–1805), паспрыяла цікавым аўтарскім параўнанням творчасці і лёсу гэтых літаратараў з постаццю Славацкага.

Брашура «Мішура і блеск…» уяўляе сабой вялікі нарыс (44 стар.), у якім аўтар спрабуе прааналізаваць творчасць Славацкага як лірыка і драматурга, паглыбляецца ў ягоныя адносіны з суседзямі па Парнасе – Зыгмунтам Красіньскім (1812–1859) і Адамам Міцкевічам (1798–1855), параўноўвае ягоную творчасць з творчасцю Шэлі, робіць літаратуразнаўчы аналіз некаторых твораў паэта, у прыватнасці, паэмы «Кароль-Дух» ды інш.

Чытаць брашуру складана, бо аўтар пісаў пра Славацкага мовай і стылем, якія моцна нагадвалі творы галоўнага героя ягонай працы. У тэксце шмат сімволікі, прысутнічае пэўная высакапарнасць стылю. Складаная структура патрабуе пастаяннай канцэнтрацыі ўвагі.

Канцэптуальная сутнасць «разважанняў», якая адлюстравалася ў назве кнігі, была сфармулявана ўжо на першай яе старонцы: «Не ўсё, што мы знаходзім у скарбніцах мудрасці вялікіх мысляроў, з’яўляецца сапраўдным золатам. Там можна знайсці, як і ў дзяржаўнай скарбніцы, апроч поўнавартаснай манеты валюту тыпу «білён», г. зн. манету, якая не мае вартасці…»[1731] Працягваючы думку,

---

[1730] Ro…munt [R. Skirmunt], *Blichtr i blask. Z rozmyślań o Słowackim*. Wilno 1926.
[1731] Ibidem, s. 1.

Скірмунт пералічыў «вялікіх» (Гамера, «ранняга» Шылера, «позняга» Міцкевіча, Шэлі і… Славацкага), якія не здолелі ва ўсім быць на высокім узроўні.

У цэнтры ўвагі аўтара апынулася праблема ўзаемасувязі творчасці вялікага паэта з асаблівасцямі ягонага характару і менталітэту. Пры гэтым тэкст адрозніваўся выразнай крытычнай накіраванасцю, якая не заўсёды выглядала абгрунтаванай. Скірмунт змагаўся супраць ідэалізацыі вобраза Славацкага, якая, на яго думку, апошнім часам пашырылася. Так, ён сцвярджаў, што Славацкі лёгка трапляў пад чужыя ўплывы, у выніку чаго нараджалася паэзія, якую Міцкевіч параўноўваў з прыгожым храмам, дзе адсутнічаў Бог.

*Ро…мунт* нават спрабаваў аналізаваць паэтычную творчасць Славацкага з пазіцыі фармальнай логікі і ў выніку прызнаў, напрыклад, што ў драме «Фантазы» (1845) «логіка і здаровы сэнс трашчаць ва ўсіх суставах, быццам ламаныя на пракруставым ложы»[1732]. Таксама ён заявіў, што драмы Славацкага не маюць сцэнічнай вартасці.

Шмат месца ў кнізе заняў аналіз стасункаў паміж Ю. Славацкім і А. Міцкевічам, Ю. Славацкім і З. Красіньскім. Паводле Скірмунта, з боку галоўнага героя яго кнігі галоўным матывам адносін была… зайздрасць[1733]. На яго думку, Славацкі ўспрымаў, напрыклад, аўтара «Пана Тадэвуша» як канкурэнта, «нібыта вяршыня Міцкевіча засланяла яму сонца»[1734].

Гэтыя ды іншыя крытычныя заўвагі ў адрас Славацкага не перашкодзілі аўтару прызнаць ягоную веліч як паэта эпохі рамантызму: «Славацкі, безумоўна, быў адным з найвялікшых рамантыкаў і не меў схільнасці да творчасці ў духу класіцызму. У высокай супені фантастычны, ён быў закаханы ў ненатуральныя з’явы і падзеі, а ў сваіх буйных фантазіях ахвотна мяняў зямную долю на жыццё духа на Месяцы. Ён дасканала адчуваў прыгажосць прыроды і маляваў яе вобразы рукой геніяльнага мастака»[1735]. Вяршыняй ягонай творчасці *Ро…мунт* лічыў паэму «Кароль–Дух» (1845–1849), якая набліжалася да жанра гістарычнай эпапеі, дзе аўтар імкнуўся паказаць усе ўвасабленні Караля-Духа, што вызначаў ход польскай гісторыі. Магчыма, гэты гістарыясафічны аспект паэмы таксама спрыяў цікавасці да яго з боку Рамана Скірмунта.

Апошнія старонкі кнігі напоўнены параўнаннем творчасці Персі Шэлі і Юліуша Славацкага. Іх творчы поспех і папулярнасць (у П. Шэлі ўжо пасля смерці) ён тлумачыў адпаведнасцю настроям таго часу з яго схільнасцю да фантазіі ды ігнаравання здаровага сэнсу[1736].

А вось яшчэ адна цікавая характарыстыка творчасці Ю. Славацкага: «Розум

[1732] Ibidem, s. 13.
[1733] Ibidem, s. 15.
[1734] Ibidem, s. 23.
[1735] Ibidem, s. 24–25.
[1736] Ibidem, s. 41.

Славацкага – гэта дзіўны твор, адзіны ў сваім родзе. Складана знайсці ў літаратуры іншых народаў падобны тып творчага духу. У найвышэйшай ступені арыгінальны, ён атрымліваў натхненне з чужых крыніц, карыстаўся чужымі ідэямі, як ніхто іншы з вялікіх паэтаў найноўшай эпохі. Самалёт фантазіі лёгка ўздымаў яго да гімалайскіх вяршынь. На гэтай непамернай вышыні адчуваў сябе ў сваёй стыхіі як каршук – лётчык ад нараджэння. Майстар формы, падобна да Гефеста, які долатам і молатам каваў жалеза, ён надаваў цудоўныя формы мове, заўсёды адпаведныя яго фантазіі і каштоўныя як твор мастацтва. Але іх бывае цяжка пагадзіць са здаровым сэнсам»[1737]. Дарэчы, Скірмунт вельмі трапна заўважыў, што «Кароль-Дух» і «Пан Тадэвуш» – два полюса, вакол якіх круціцца ўвесь свет польскай паэзіі[1738].

Напрыканцы кнігі, пасля параўнання творчасці Славацкага і Шэлі, *Ро…мунт* заўважыў, што ў «Пантэоне вялікіх паэтаў іх помнікі застануцца назаўсёды, і нашчадкі будуць чытаць іх творы. Гэтае чытанне будзе карысным, калі ў ім будзе прысутнічаць крытычны розум і здаровы сэнс. Усё ж скарбніца творчасці вялікіх паэтаў захоўвае апроч багацця каштоўных металаў пустэчу білёна і фішак»[1739]. Як бачна, Раман Скірмунт у гэтым тэксце не пазбег пэўнай «дыдактыкі» і маралізатарства. Магчыма, што апошняе не ў меншай ступені, чым жаданне падзяліцца думкамі пра паэта і ягоную творчасць, падштурхнулі яго да падрыхтоўкі і выдання гэтай кнігі.

Расплата за пэўнае аўтарскае нахабства была хуткай і жорсткай. Кніга *Ро…мунта* была заўважана, і на старонках «Кур'ера Віленьскага» (№ 265 ад 16 лістапада 1926 г.) з'явілася рэцэнзія гісторыка літаратуры дацэнта Універсітэта Стэфана Баторыя Станіслава Цывіньскага (1887–1941). Яе назва («Жоўць і дылетантызм») дакладна перадае стаўленне навукоўца да працы даследчыка з Парэчча. Дарэчы, на самым пачатку рэцэнзіі ён фактычна раскрыў таямніцу аўтара і назваў яго імя.

Цывіньскі быў абураны з'яўленнем кнігі «Мішура і бляск…» Ён не шкадаваў аўтара, якога лічыў некампетэтным і нават не маючым права публічна выказвацца пра творчасць вялікага паэта. Рэцэнзент вылучыў у кнізе найбольш абуральныя «акорды», якія датычылі характарыстыкі стасункаў паміж Ю. Славацкім, А. Міцкевічам і З. Красіньскім, а таксама «псіхалогіі творчасці Славацкага»[1740].

Ён сцвярджаў, што *Ро…мунт* гвалтам загнаў творчасць Славацкага ў формулу летуценнасці, між тым, як сярод трох вялікіх паэтаў ён быў найбольшым рэалістам. Катэгарычна не прымаў рэцэнзент тэзіса пра адсутнасць сцэнічнасці ў драмах Славацкага і падрабязна пералічыў пастаноўкі ягоных твораў на сцэне тэатра ў Кракаве. Непрымальным для яго аказаліся і спробы літаратуразнаўчага аналізу паэмы «Кароль-Дух». Таксама Цывіньскі не ўпадабаў аўтарскі стыль, які

1737 Ibidem.
1738 Ibidem, s. 6.
1739 Ibidem, s. 44.
1740 S. Cywiński, *Żołć i dyletantyzm*, «KurierWileński». 1926, Nr 265, 16 listopada.

акрэсліў «капрызна-актуальным», прыгадаў шматлікія арфаграфічныя памылкі. І толькі напрыканцы рэцэнзіі ў адным сказе ён усё ж адзначыў «львіны кіпцюр» аўтарскага інтэлекту, які найбольш праявіўся ў характарыстыцы значэння творчасці Славацкага. Трэба прызнаць, што большасць крытычных заўваг Цывіньскага выглядалі цалкам абгрунтаванымі, хоць сама рэцэнзія не была пазбаўлена акадэмічнага снабізму.

Таксама Раман Скірмунт адгукнуўся артыкулам на 100-годдзе смерці славутага нямецкага літаратара Іагана Вольфганга Гётэ. Нарыс «Пра Гётэ»[1741] быў апублікаваны ў «Слове» ў чэрвені 1932 г. Нават у «юбілейным» артыкуле прысутнічалі арыгінальныя думкі, якія сведчылі не толькі пра добрае веданне аўтарам твораў Гётэ, але і пра ягонае імкненне зразумець вытокі гэтай творчасці. Скірмунт адзначаў жывасць пачуццяў і ўражлівасць, пісаў пра фантазію, якая знішчала межы і авалодвала прасторамі, адзначаў пранiклівы і крытычны розум, багацце думкі і дасканаласць формы твораў Гётэ.

Паводле Скірмунта, у Гётэ менавіта розум трымае цуглі пачуццяў і фантазіі. Ягоныя творы ён лічыў скарбніцай жыццёвай мудрасці: «У першую чаргу на гэты свет быў накіраваны ягоны погляд і з ім звязаныя ягоныя радасці. З падтрыманнем ладу звязваў поспехі, выдатна разумеў жыццё і паводле свайго разумення спрыяў ягонаму паляпшэнню. Мудрэц гэтага свету. Святло і цені адлюстроўваюцца ў гэтых трох словах». Напрыканцы аўтар зноў не ўтрымаўся ад пэўнага маралізатарства і заўважыў, што калі б мудрасць Гётэ стала здабыткам немцаў і ўсяго свету, то зніклі б тыя супярэчнасці і зайздрасць, якія і сёння прыгнятаюць жыццё.

Цалкам магчыма, што асновай гэтага тэкста стаў рэферат Рамана Скірмунта, з якім ён выступаў падчас урачыстай «акадэміі», прысвечанай славутаму нямецкаму літаратару, што адбылася ва Універсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні. Прынамсі, у лісце да прафесара Здзяхоўскага ад 31 мая 1932 г. Скірмунт пісаў пра запрашэнне да ўдзелу ў ёй, якое атрымаў ад прафесара Стэфана Гліксэлі[1742]. Падобна, што ягоная зацікаўленасць гісторыяй літаратуры ўсё ж выклікала пэўную павагу ў акадэміцкіх колах Вільні.

Але галоўным кірункам ягонай дзейнасці была прэзентацыя і абарона інтарэсаў мясцовага зямянскага асяродку. Вайніловіч у Дзённіку (запіс за 8 лістапада 1923 г.) прыгадаў сваю сустрэчу са Скірмунтам у Варшаве, куды той прыехаў дзеля ўдзелу ў з'ездзе зямян з «усходніх крэсаў». Верагодна, гаворка ішла пра Крэсовы саюз зямян, які быў арганізаваны ўвесну 1921 г., а ў 1923 г. налічваў амаль 1 тыс. сяброў[1743].

Паводле Вайніловіча, у цэнтры ўвагі на з'ездзе апынуліся праблемы з выплатай г. зв. «падатку з маёнтка», які для многіх зямян аказаўся непамерна цяжкім,

---

[1741] R. Skirmuntt. O *Goethem*, «Słowo», 1932, Nr 135, 13 czerwca.

[1742] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–702a, арк. 16–16 адв.

[1743] *Organizacje ziemiańskie na ziemiach polskich*. Poznań 1929, s. 93.

тым больш, што землі, якія выкарыстоўваліся ў гаспадарчых мэтах, звычайна складалі нязначны адсотак ад агульнай плошчы маёнтка. Скірмунт у размове прызнаўся, што дзеля выплаты падатку яму даводзіцца прадаваць лес. Іншыя зямяне такой магчымасці не мелі і былі вымушаны прадаваць зямлю. Асноўным пакупніком былі мясцовыя сяляне. У выніку змяншалася «польская маёмасць на крэсах». Падобна, што гэта ў роўнай ступені хвалявала ў той час Скірмунта і Вайніловіча.

Падчас размовы апошні даведаўся пра ініцыятыву дэпутата Эдварда Урбановіча наконт стварэння ў Міністэрстве ўнутраных спраў Падсакратарыята па праблеме «ўсходніх крэсаў». На пасаду кіраўніка нібыта разглядаліся кандыдатуры Р. Скірмунта і А. Мэйштовіча[1744]. Гэтая інфармацыя значна палепшыла настрой Вайніловіча.

Дарэчы, прапанова стварыць згаданы Падсакратарыят у сувязі з «дэзарганізацыяй службы бяспекі, бяссіллем мясцовай адміністрацыі, дрэннай сітуацыяй у самакіраванні і сістэме школьнай адукацыі, што абярнулася ўпадкам ідэі польскасці і павагі да дзяржавы на «крэсах»», увайшла ў выніковую рэзалюцыю з'езда зямян Віленскай зямлі, які адбыўся 22 лістапада 1923 г. у Вільні.

Газета беларускіх эсэраў «Змаганьне» пераказала асноўныя падзеі гэтага з'езда, аналізуючы публікацыі газеты нацыянальных дэмакратаў «Дзенніка Віленскага» і віленскага «Слова». Паводле рэдакцыі беларускай газеты «гваздзём зьезду аказалася – па сваёй сэнсацыйнасьці – выступленьне добра вядомага беларусам, бо некалі чыннага працаўніка на грунце беларускага дзяржаўнага будаўніцтва (у Менску) пана Рамана Скірмунта, у апошнія гады зусім адыйшоўшага ад усялякае грамадзкае працы. «Dz. Wil.» не дае зьместу яго выступленьня: з кароткага ўспаміну аб прамове п. Скірмунта можам толькі дагадывацца, што ў ёй ішла гутарка аб выдзяленьні Заходняе Беларусі, як асобнае адзінкі (мо' аўтаномнае?), што п. Скірмунт дамагаўся ўшанаваньня правоў беларускага насяленьня, адзначаючы асабліва "аблыжнасьць польскіх заяваў быццам беларусы-каталікі – гэта не беларусы, а палякі"»[1745].

Рэдакцыя палічыла важным працытаваць публікацыю ў «Дзенніку Віленскім» з пераказам фрагмента прамовы Скірмунта: «Рэфэрат п. Рамана Скірмунта (Унутранае палітычнае палажэньне), хаця сказаны з вялікім пафосам, зьмяшчаў толькі банальную крытыку крэсовае палітыкі і адміністрацыі, а часамі ў ім былі чутны адгалоскі старых, заглохшых ужо «краёвых» лёзунгаў. Запраўды, сьмешным ужо зьяўляецца гэтае вечнае процістаўленьне крэсаў нейкаму «асяродку Польшчы» і нараканьне на крыўды, якія церпяць крэсы ад рэшты дзяржавы. Выкрыў такжэ п. Скірмунт чысьленых беларусаў-каталікоў, з якімі сам добра не

1744 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część druga*, s. 109–110.
1745 б. п. *На з'ездзе абшарнікаў,* «Змаганьне». 1923, № 11, 28 listopada.

ведаў, што рабіць, ды зьвёў да нуля працу нацыянальных (польскіх – *Рэд.*) паслоў, прадстаўнікоў Віленшчыны»[1746].

Эсэраўская газета пазітыўна ацаніла ягоны выступ на з'ездзе: «Імя Рамана Скірмунта розна ў нас успамінаюць. Але трэба адзначыць, што прыпомніўся ён беларускаму грамадзянству ў гэты мамэнт ня блага!» Гэтая пазітыўная ацэнка на старонках беларускага выдання вартая ўвагі. Магчыма, існавалі пэўныя надзеі на вяртанне Скірмунта ў беларускі рух. Насамрэч, бліжэй да ісціны быў усё ж «Дзеннік Віленскі», які прыгадаў краёвую ідэю.

Рэдактар «Слова» С. Мацкевіч прысвяціў гэтаму з'езду артыкул[1747], дзе таксама адзначыў актыўнасць Скірмунта ў абмеркаванні праектаў аграрнай рэформы і ўнутранай палітыкі. Публіцыст коратка пераказаў змест ягонага рэферата, які распачаўся з пераліку тых трагічных наступстваў, якія меў Рыжскі трактат. Паводле Мацкевіча, выступоўца «з выключным веданнем справы» характарызаваў палітычныя асновы дзейнасці адміністрацыі ва «Усходняй Польшчы», пералічыў «хваробы краю», у т. л. казаў пра «бандытызм», які ператвараецца ў «партызанскую вайну», звярнуў увагу на шкоды, якія прыносіць «нашаму краю» выкарыстанне надзвычайных дэкрэтаў (напр., закона пра вайсковых асаднікаў), на непаслядоўнасць нацыянальнай палітыкі ў дачыненні да розных народаў ды інш.

Рэферат выклікаў дыскусію, якая паказала, што большасць яе ўдзельнікаў заклапочана выключна ўмацаваннем польскай дзяржаўнасці на г. зв. «крэсах». Так, на форуме дзейнасць віленскага біскупа Юрыя Матулевіча (Юргіса Матулайціса) характарызавалася як «антыдзяржаўная і антынацыянальная»[1748]. Насамрэч, біскуп змагаўся з тэндэнцыяй паланізацыі ў каталіцкім касцёле, уводзіў у дадатковае набажэнства літоўскую і беларускую мовы, заснаваў у Друі кляштар марыянаў (1923), які стаўся моцным беларускім асяродкам у Віленскай епархіі ды інш. Палітыка талерантнасці выклікала незадавальненне ўдзельнікаў з'езда, якія вырашылі патрабаваць выдалення біскупа Матулевіча з Вільні. Таксама яны з асуджэннем выказаліся пра недастатковую актыўнасць урада ў змаганні з «бандытызмам», які пагражаў асновам польскай дзяржаўнасці.

У наступным месяцы Скірмунт ужо ўдзельнічаў у з'ездзе «Польскага таварыства апекі над Крэсамі» ў Варшаве. Таварыства было заснавана ў 1922 г., а ягонай галоўнай мэтай была «ўсебаковая дапамога, духоўная і матэрыяльная апека польскага насельніцтва, якое пражывае або перасяляецца на Крэсы Рэчы Паспалітай, а таксама нацыянальным арганізацыям, якія дзейнічаюць на Крэсах»[1749].

---

1746 Ibidem.

1747 Cat [St. Mackiewicz], *Wrażenia i notatki*, «Słowo». 1923, Nr 262, 23 listopada.

1748 Біскуп Юры Матулевіч у 1925 г. адышоў ад кіравання дыяцэзіяй. Памёр праз два гады ў Коўне. 28 чэрвеня 1987 г. быў беатыфікаваны Папам Рымскім Янам Паўлам II. Зараз ідзе працэс яго кананізацыі.

1749 *Statut Polskiego Towarzystwa opieki nad Kresami*. Łuck, b.d., s. 3.

Паводле інфармацыі газеты «Дзеннік Віленьскі», на з'ездзе прысутнічалі каля 200 чалавек, якія прадстаўлялі амаль сто арганізацый Таварыства з усіх куткоў Польшчы. Раман Скірмунт быў прадстаўніком Піншчыны[1750].

Распачаў з'езд дэпутат Сейма Ст. Глабіньскі рэфератам пра значэнне «Усходніх земляў», галоўнай ідэяй якога быў тэзіс, што без іх Польшча ніколі не адродзіцца як вялікая дзяржава. Карэспандэнт «Дзенніка Віленьскага» паведамляў, што ў цэнтры ўвагі з'езда былі сацыяльна-эканамічныя праблемы, галоўнай з якіх было захаванне «польскага стану маёмасці». Выступоўцы выказваліся за паляпшэнне дзейнасці мясцовай адміністрацыі, патрабавалі гарантый бяспекі для жыцця і маёмасці, дзеля чаго прапанавалі ўвядзення «хуткага суда», умацавання дзяржаўнай мяжы, высылкі «непажаданых элементаў». Таксама прагучала прапанова не ўжываць слова «крэсы», каб не дэманстраваць рэгіянальнай неаднароднасці Польшчы і замяніць яго тэрмінам «памежныя ўсходнія ваяводствы».

Раман Скірмунт быў абраны ў Галоўную Раду Таварыства, склад якой сведчыць пра пэўную спробу паяднання прадстаўнікоў розных палітычных кірункаў. Так, у яе трапіў вядомы палітык з лагера нацыянальных дэмакратаў Уладзіслаў Грабскі, які якраз і быў ініцыятарам увядзення згаданага «падатку на маёнтак», што найбольш хваляваў зямянства ўсходніх ваяводстваў. Дарэчы, праз некалькі дзён пасля гэтага з'езда У. Грабскі быў прызначаны прэзідэнтам С. Вайцахоўскім кіраўніком новага ўрада, на чале якога распачаў фінансавую рэформу. У выніку абясцэненая гіперінфляцыяй польская марка была заменена на цвёрды злоты. Таксама ў Радзе апынуўся ягоны аднадумец маршалак Сената Войцах Трампчыньскі, прадстаўнік Польскай народнай партыі «Пяст» Ян Дэмбскі ды інш.

Відавочна, што Раман Скірмунт далучыўся да той часткі польскай супольнасці Палесся, якая спрабавала спалучыць інтарэсы польскага зямянства з інтарэсамі польскай дзяржавы. Нават, ягоная крытыка была скіравана фактычна на ўмацаванне польскіх палітычных пазіцый на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

У міжваенны час з вялікай сям'і Скірмунтаў у падтрымку беларускага руху, дакладней ягонай культурніцкай працы, выступала толькі Канстанцыя Скірмунт. Так, у верасні 1924 г. на старонках газеты «Пшэглёнд Віленьскі» яна выказала жаданне далучыцца да арганізацыі, якая б прапагандавала выданне беларускіх падручнікаў лацінскім шрыфтам. У гэтым жа артыкуле яна звярнулася да вытокаў беларускага руху і адзначыла важнасць для ягонага развіцця лозунга самавызначэння нацый і беларускай дзейнасці Рамана Скірмунта. Праўда, ягонае імя ў публікацыі не фігуравала. Гаворка ішла пра «шляхціча літоўскага роду, сэрцам з'яднанага з Беларуссю і яе неадрыўнай часткай Палессем, які ў той час накіраваўся ў Петраград, каб прадставіць адроджаны народ і голасна заявіць: «Ёсць Беларусь». У гэты момант адарвалася Беларусь ад расійскага іспаліна. З гэтага часу яе імя,

[1750] *Zjazd Towarzystwa opieki nad Kresami*, «Dziennik Wileński». 1923, Nr 278, 11 grudnia.

раней невядомае еўрапейскай супольнасці, стала блізкім кожнаму прагрэсіўнаму палітыку Захаду як назва адметнага краю і адметнага народу славянскай нацыі, які паводле сваёй расы і гісторыі быў еўрапейскім валам на паўночным усходзе былых рубяжоў паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй»[1751].

Магчыма, Канстанцыя Скірмунт улічвала пэўныя змены ў палітычнай пазіцыі свайго стрыечнага брата і таму не стала называць імя. Вядомая публіцыстка і сястра заўсёды высока ацэньвала ўнёсак Рамана Скірмунта ў беларускае Адраджэнне, а ў дадзеным артыкуле з гонарам напісала пра гэта.

Пра колішнюю беларускасць Рамана Скірмунта часам прыгадвалі і беларускія выданні. Так, яшчэ ў красавіку 1921 г. на старонках газеты «Наша думка» (рэд. Максім Гарэцкі) у матэрыяле пад назвай «Дзе нашыя паны?» паведамлялася, што «“Наш” пан Раман фон-Скірмунт (з Меншчыны) маючы вялікія матар’яльныя страты ад вайны і рэвалюцыі і, мусіць, пакрыўджаны «няўдзячнасьцю» беларускіх адраджэнцаў, неяк аддаліўся ад беларускае грамадзкае працы. Жыве ў Польшчы»[1752].

На пачатку 1925 г. на старонках органа беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў газеты «Крыніца» быў апублікаваны артыкул «Эканамічная нацыянальнасць»[1753], аўтар якога сцвярджаў, што Р. Скірмунта, Э. Вайніловіча, Я. Кастравіцкую і Ф. Друцкага-Любецкага прывялі да беларускага руху не толькі «краёвы ўхіл ды спагаднасць да беларускай ідэі», але таксама жаданне «выслужыцца перад беларускім народам, каб ён пакінуў ім маёнткі». Калі ж, паводле аўтара, яны зразумелі, што маёнткі страчаныя, то адышлі ад беларускага руху. У гэтым тэксце прысутныя колішнія падазрэнні сяброў партыі эсэраў.

Найдаўжэй памяць пра беларускую дзейнасць Скірмунта падтрымлівалі менавіта хадэкі. Варта прыгадаць высокую ацэнку дзейнасці Рамана Скірмунта ў згаданым рэфераце Вінцэнта Гадлеўскага пра беларускае палітычнае жыццё ў Менску ў 1917–1918 гг.[1754].

Між тым напрыканцы 1924 г. у Вільні адбыўся чарговы з’езд зямян, які на старонках «Слова» быў ацэнены як «адна з найважнейшых падзей польскага жыцця на Крэсах»[1755]. На з’езд прыехала каля 500 чалавек, і зала Віленскага зямельнага банку была перапоўнена. На жаль, інфармацыя пра гэты з’езд амаль не ўтрымлівала прозвішчаў ягоных удзельнікаў, але параўнанне праблематыкі, якая ўздымалася ў дыскусіях на з’ездзе, са зместам артыкула Скірмунта «*Ultime Thule*»

[1751] K. Skirmuntt, *Podręczniki białoruskie, Azja czy Europa*, «Przegląd Wileński». 1924, Nr 15, 21 września.

[1752] б/п. *Дзе нашыя паны?*, «Наша думка». 1921, № 16, 22 красавіка.

[1753] S. K-i, *Ekanamičnaja nacyjanalnaść,* «Krynica». 1925, Nr 2, 11 studnia.

[1754] В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917–18 гг*, «Спадчына». 1997, № 5, с. 18–39

[1755] Ks. X. *Zjazd ziemian,* «Słowo». 1925, Nr 1, 1 stycznia.

сведчыць пра ягоную прысутнасць на з’ездзе ці, прынамсі, пра інфармаванасць пра ход дыскусій[1756].

Артыкул у «Слове», падпісаны крыптанімам *ks. X.*, быў свайго роду разважаннямі над гістарычнай роляй і сучасным станам гаспадарак польскіх зямян на «Усходніх землях». Дамінуючай тэмай была крытыка палітыкі Варшавы на Палессі. Аўтар прыгадаў змаганне шляхты за зямлю часоў Расійскай імперыі, у якім спалучалася барацьба за захаванне польскай культуры і… «тутэйшасць». Ён адзначаў, што мясцовая краёвая шляхта на працягу стагоддзяў стварала адно цэлае з народамі Краю: «Габрэй, беларус і літовец ведаюць пра гэта і размаўляюць з крэсовымі зямянамі інакш, чым з тымі, хто быў прысланы здалёк, і не здолеў выклікаць да сябе краёвых сімпатый ні ўласнай высокай культурай, ні маральнай чысцінёй».

Адзначалася адкрытасць «крэсовых» сядзіб і маёнткаў, іх кантакты з рознымі сацыяльнымі групамі і рознымі народамі, падкрэслівалася, што «ўвесь крэсовы польскі элемент змагаецца за польскую дзяржаўнасць з японскім фанатызмам і марыць пра той час, калі ўсе палякі з’яднаюцца пад лозунгам гэтай дзяржаўнасці». Аднак гэтыя людзі аказаліся непатрэбнымі ўраду, і ён прыслаў «чужакоў», на якіх «наш люд часта глядзіць горш, чым калісьці на спраўніка або прыстава». У выніку сваволля адміністрацыі, празмерных выдаткаў на яе ўтрыманне і дзейнасці антыпольскіх арганізацый «пачаў бунтаваць нават вельмі спакойны беларускі люд».

Крытыка Варшавы дамінавала таксама ў згаданым артыкуле Рамана Скірмунта «*Ultime Thule*»[1757] (за подпісам *Romunt*), які быў апублікаваны на старонках «Слова» ў лютым 1925 г. Гэта быў водгук палітыка на сход прадстаўнікоў гмінных рад Пінскага пав., які стаўся нагодай для размовы пра лёс Палесся і «крэсаў» як «зямлі няўдач».

Для назвы аўтар выкарыстаў вобраз «апошняй Фулы» з паэмы Вергілія. Так рымскі паэт называў край, дзе заўсёды панавала цемра. *Ромунт* запрашаў чытачоў наведаць «Фулу», якая, папраўдзе, знаходзіцца за Бугам, усяго ў 200 км ад Варшавы. Артыкул прасякнуты сарказмам і напоўнены крытыкай варшаўскіх адміністратараў, якія часта толькі шкодзілі гаспадарчаму аднаўленню і палітычнай стабільнасці Палесся. Характэрнай рысай варшаўскай палітыкі ён лічыў непрыязь да зямянства і імкненне ператварыць «крэсы» ў прастору сацыяльных і палітычных канфліктаў.

Менавіта так ён ацэньваў ініцыятывы дэпутата Сейма і былога кіраўніка Польскай людовай партыі «Вызваленне» Станіслава Тугута. З дзейнасцю апошняга Скірмунт звязваў правядзенне шматлікіх з’ездаў, сходаў і канферэнцый з удзелам прадстаўнікоў мясцовага самакіравання на Палессі. Дарэчы, беларускія гісторыкі звычайна адзначаюць прыхільнасць Тугута да пазітыўнага вырашэн-

---

[1756] Romunt [R. Skirmunt], *Ultime Thule*, «Słowo». 1925, Nr 37, 14 lutego.
[1757] Ibidem.

ня «беларускага пытання». Прынамсі, менавіта з ім як з кандыдатам на пасаду прэм’ер-міністра ў верасні 1923 г. вёў перамовы Браніслаў Тарашкевіч[1758].

Вяртаючыся да артыкула, трэба адзначыць, што гаспадар Парэчча як прадстаўнік рады Парэцкай гміны ўдзельнічаў у адным з такіх сходаў у Пінску. Паводле апісання Скірмунта, на сходзе панавала агітацыя ў духу «ўсходняга суседа». Старшыня сходу Ежы Асмалоўскі і дэпутат Сейма Антоні Кардоўскі нават прамаўлялі на рускай мове. Прычым апошні заклікаў выдаліць з гмінных рад усіх зямян апрача Асмалоўскага («Корсак і Скірмунт зусім непатрэбны ў гміннай радзе»). Абодва выступалі за правядзенне чарговых выбараў у самакіраванне па партыйных спісах, адмаўляліся прызнаваць падатковыя ільготы разбураным вайной зямянскім гаспадаркам, сцвярджалі, што загады ваяводаў не павінны датычыць дзейнасці мясцовага самакіравання і крытыкавалі дзяржаўную паліцыю.

*Ромунт* бачыў небяспеку ў ператварэнні такіх сходаў у «агітацыйна-палітычныя з’езды» пад апекай адміністрацыі. На яго думку, «гэтая дарога не прывядзе да санацыі Крэсаў. Калі пойдзем па ёй, то трапім у поўнае бездарожжа. Блуканне па такім дарогам нараджае таксама іншыя думкі. Магчыма тыя, што імкнуцца да святога спакою на Вейскай, маюць намер аддаць Крэсы пэўным палітычным партыям, падзяліць іх на сферы ўплыву, як гэта рабілі вялікія дзяржавы з Чорным кантынентам. Гэта памылковы разлік. Іх спакой будзе выкуплены неспакоем на Крэсах, што значна больш небяспечна для Дзяржавы». Скірмунта ў гэтым артыкуле найбольш хваляваў лёс Палесся і Польскай дзяржавы. Цікава, што слова *дзяржава* ў артыкуле пісалася з вялікай літары. Менавіта так краёўцы калісьці пісалі слова *край*.

Аўтар не хаваў прыналежнасці да зямянства, а таксама крыўды на тое, што яно нібыта адсунута ад удзелу ў вырашэнні праблем Палесся. Таксама аўтар выступаў як прыхільнік моцнай улады, здольнай спыніць бальшавіцкую прапаганду і пакончыць з той партызанскай вайной, якая ў 1924–1925 гг. стала нормай жыцця Палесся і амаль усёй Заходняй Беларусі.

Рэха гэтай вайны таксама адчувалася ў прамове Рамана Скірмунта 4 кастрычніка 1925 г. у Пінску падчас урачыстасцяў з нагоды 10-годдзя польскай паліцыі. Галоўнай ідэяй прамовы была неабходнасць абароны дзяржаўнага правапарадку і законнасці як гарантыі нармальнага развіцця грамадства і творчай працы грамадзяніна.

Выступоўца прызнаваў, што польская паліцыя далёкая ад дасканаласці, але адначасна казаў пра «відавочны рух» у накірунку да прававой дзяржавы і заклікаў з разуменнем ставіцца да пэўных хібаў яе дзейнасці: «Умовы, у якіх мы жывем пасля трагічных падзей мінулых гадоў, яшчэ далёкія ад нармальных. Гэта балючым рэхам раз-пораз адбіваецца на жыцці спакойнага грамадзяніна і робіць цяжкімі і цярністымі выкананне абавязкаў органамі бяспекі. На жаль, гэта непазбежна

[1758] Я. Мірановіч, *Найноўшая гісторыя Беларусі*. Санкт-Пецярбург 2003, с. 90.

і цалкам зразумела. Паглядзіце на мора, якое доўгі час пасля шторма застаецца неспакойным. Гэтая ж з'ява відавочная і ў чалавечай душы. Тая ваенная бура, якая парушыла мір на зямлі, даўно мінула, але чалавечая душа яшчэ не вярнулася ў ранейшы стан спакою і развагі. Усё гэта робіць працу органаў бяспекі выключна цяжкай і адказнай. Яшчэ больш абцяжарвае выкананне задач працягласць і адкрытасць нашай мяжы на ўсходзе. Усё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы ацэньваем дзейнасць нашай дзяржаўнай паліцыі»[1759].

Скірмунт станоўча ацаніў дзейнасць кіраўнікоў паліцыі ў Пінскім пав. Трэба заўважыць, што ягоны погляд моцна адрозніваўся ад стаўлення да паліцыі палітычна і грамадска актыўнай часткі беларускай супольнасці. Архіўныя дакументы і ўспаміны сведчаць пра неапраўданую брутальнасць паліцыі, прэвентыўныя арышты, збіццё і здзекі з затрыманых.

Аднак і пазіцыю Скірмунта можна зразумець. Тагачасны польскі друк быў перапоўнены інфармацыяй пра напады, рабункі і забойствы. Так, напрыклад, «Кур'ер Віленьскі» (1924, Nr 7, 4 ліпеня) паведамляў пра начны напад узброенай групы на маёнтак Падольшчына Дзісенскага пав. Гаспадар маёнтка аказаў супраціў і загінуў. Маёнтак быў дашчэнту разрабаваны і знішчаны. Тая ж газета (1924, Nr 3, 29 верасня) паведамляла пра сутычку польскіх пamежнікаў з атрадам, які перайшоў мяжу з савецкага боку ў Сарненскім пав. Палескага ваяв. Сутычка закончылася разгромам парушальнікаў мяжы. Яны павярнулі назад, пакінуўшы забітых і параненых.

20 ліпеня «Кур'ер Віленскі» (Nr 21) паведаміў пра начны напад узброенай кулямётамі «банды» (30 чал.) на мястэчка Вішнева Валожынскага пав. Нападнікі спусташылі крамы, а нарабаванае на пяці фурманках здолелі вывезці за мяжу. Усе намаганні памежнікаў і паліцыі атачыць і нейтралізаваць рабаўнікоў не мелі поспеху. На пачатку жніўня 1924 г. «Кур'ер Віленьскі» (Nr 33, 3 жніўня) падвёў трагічныя вынікі ліпеня і паведаміў пра 15 узброеных нападаў з-за мяжы на працягу месяца.

Эдвард Вайніловіч на старонках Дзённіка таксама адзначаў шматлікія напады і забойствы на польска-савецкім памежжы. Так, 5 верасня 1924 г. ён даведаўся з «Газеты Нясвіжскай» пра забойства ў Начы Глябоўскай паблізу мяжы братоў Свянціцкіх на вачах іх сям'і[1760]. А 1 кастрычніка зафіксаваў напад на цягнік каля Лунінца, падчас якога былі разброеныя амаль 30 паліцэйскіх і жандараў, схоплены палескі ваявода Станіслаў Даўнаровіч, які атрымаў ад нападнікаў 25 бізуноў, за што даў распіску. «Такія выпадкі, – адзначыў Вайніловіч, – канчаткова дыскрэдытуюць польскую ўладу на крэсах, што якраз і з'яўляецца мэтай бальшавікоў»[1761].

Добрай нагодай для размовы пра ідэальную дзяржаву для Скірмунта стаў юбі-

---

[1759] «Gazeta Poleska». 1925, Nr 7, 9.

[1760] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część druga*, s. 141.

[1761] Ibidem.

лей незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі. Гэтай падзеі быў прысвечаны ягоны чарговы артыкул[1762]. Публікацыя, магчыма, была звязана з выступам на мітынгу ў Пінску. У лісце да Здзяхоўскага 26 чэрвеня 1926 г. ён адзначаў, што будзе «пяяць славу Вільсану і долару з нагоды 150-годдзя іх здрады ўласнай Маці-Радзіме»[1763].

Артыкул у «Слове» сведчыць, што для аўтара гэты ідэал быў звязаны з моцнай уладай, павагай да закону і свабодным грамадствам. Пры гэтым ён выступаў прыхільнікам хрысціянскай справядлівасці і… генія англасаксаў.

Структура артыкула нагадвала публічны выступ. Раман Скірмунт пачаў з гісторыі апошняй вайны, да якой, на яго думку, прывяло пашырэнне ў Еўропе «навукі Бісмарка», а менавіта дамінавання сілы над правам і неразборлівасць у сродках дзеля дасягнення ўласнай мэты. Аднак, «дзе няма справядлівасці і праўды, там няма цвёрдага падмурку для шчасця». Крах Расіі для яго таксама быў прыкладам значэння агульначалавечых і хрысціянскіх каштоўнасцяў, ад якіх гэтая краіна здаўна адмовілася. Менавіта ЗША замянілі Расію ў змаганні з радзімай Бісмарка, што і забяспечыла перамогу «цывілізаванага свету». Але заслугай ЗША і іх прэзідэнта быў не толькі ўнёсак у разгром Германіі. Скірмунт падкрэсліў значэнне 14 прынцыпаў Вудра Вільсана дзеля «адраджэння чалавечнасці».

Вяртаючыся да юбілею, аўтар спыніўся на змаганні паўночна-амерыканскіх каланістаў за незалежнасць ад Англіі, адзначыў здольнасці Джорджа Вашынгтона як вайскоўца і палітыка, прызнаў дзяржаўнасць ЗША вынікам творчасці «англасаксонскага генія». Таксама адзначалася падтрымка амерыканскай вайны за незалежнасць многімі жыхарамі Еўропы, у тым ліку палякамі, сярод якіх вылучыў постаці Касцюшкі і Пулаўскага. Скірмунт не забыўся прыгадаць, што абодва гэтыя героі былі «крэсоўцамі». Чарговым выпрабаваннем для маладой дзяржавы стала грамадзянская вайна, якая закончылася адменай рабства і захаваннем адзінства. Пры гэтым Скірмунт адзначыў «моцную волю, вялікі розум і сэрца» палітыка ўжо іншай эпохі – Аўраама Лінкальна.

У апошнім абзацы аўтар спыніўся на заслугах амерыканскага народу, чыя «працавітасць, цярлівасць і дысцыплінаванасць стварылі тыя ўмовы, у якіх жыццё можа развівацца шчасліва, поўніцца сіламі. У свабодным краі ёсць вялікая павага да закону і моцная ўлада. Няхай гэта стане для нас прыкладам і ўрокам».

«Навуку Бісмарка» Скірмунт яшчэ раз прыгадаў у артыкуле «Lupus Silesius»[1764] (за подпісам *Ro…munt*). Аналізуючы міжнародную сітуацыю ў Еўропе, аўтар выказаўся наконт магчымага паяднання Германіі і Расіі супраць Польшчы. Разважанні былі выкліканы публікацыяй успамінаў былога пасла Германіі ў Лондане (1912–1914) князя Ліхоўскага *Auf dem Wege cum Abgrund* (1927).

Скірмунт лічыў кнігу характэрнай для мыслення тагачасных нямецкіх па-

---

[1762] R. Skirmunt, *150-cio-lecie niepodległości St. Zj. Ameryki*, «Słowo». 1926, Nr 157, 9 lipca.
[1763] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–702a, арк. 7.
[1764] Ro…munt [R. Skirmunt], *Lupus Silesius*, «Słowo», 1928, Nr 37, 15 lutego.

літыкаў. У якасці прыкладу такога мыслення ён пераказаў меркаванне князя Ліхоўскага наконт падзелаў Рэчы Паспалітай. Аўтар сцвярджаў, што падзелы былі абумоўлены любоўю да бліжняга, бо, маўляў, у краіне не было парадку, а дзяржавай ніхто не кіраваў(?!). Ён жа пісаў пра непарушнасць германскіх і расійскіх межаў, пра важнасць для Германіі саюза з Расіяй. Скірмунт параўнаў гэты фрагмент аўтарскіх разважанняў з «воем галоднага воўка» і адзначыў пэўную нязменнасць «крыжацкай свядомасці».

Ва ўласных разважаннях ён засяродзіўся на асаблівасцях германа-расійскіх адносінаў у XIX ст. і імкненні Бісмарка да саюза з Расіяй. Ён жа адзначыў адмову «жалезнага канцлера» ад гэтага саюза, калі той убачыў нежаданне Аляксандра II. З гэтай нагоды *Ро..мунт* заўважыў: «Нельга ахвяраваць уласнай годнасцю нават у палітыцы, бо гэта ўспрымаецца як праява слабасці і маральнага крызісу, выклікае ў праціўніка і саюзніка пачуццё пагарды да слабейшага. Тое ж пачуццё выклікае той, хто навязвае ўласнае сяброўства». Магчыма, гэтая выснова была засвоеным урокам уласнай палітычнай дзейнасці.

*Ро…мунт* пісаў, што пашыраная ў свеце непрыязь да Германіі абумоўлена тым, што яе духоўным бацькам з'яўляецца не Кант, не Гётэ, а Бісмарк: «Бісмарк быў вялікім будаўніком-адраджэнцам імперскай магутнасці, але адначасна аказаўся кепскім настаўнікам. Ён меў творчы розум і невымерную сілу волі, але маральны змест ягоных учынкаў разыходзіўся з запаведзямі Дэкалогу. Лепшую сваю рысу – вялікі розум – ён не мог перадаць эпігонам, а нормы маралі знішчыў на некалькі наступных пакаленняў. Нашчадкі праславілі ягоныя слабасці і зрабілі іх нямецкімі каштоўнасцямі.

Схільнасць парушаць правы бліжняга, бязлітаснасць, нянавісць, адмова ад мудрасці распачалі апантаны танец, парушылі спакой народаў, паказалі сваю поўную брыдоту ўсяму свету. Гэта яны падштурхнулі немцаў да развязвання Сусветнай вайны. Свет пасля цяжкай вайсковай Кальварыі мае досыць крыві і жалеза, але не для палітычных масонаў з школы эпігонаў Бісмарка. Пакуль злы дух не саступіць пачуццям, якія адпавядаюць патрабаванням хрысціянскай этыкі, недавер і насцярожанасць да Германіі будуць існаваць з вялікай шкодай для агульначалавечых каштоўнасцяў, і перш за ўсё для саміх немцаў». Тут мы зноў сустракаем характэрнае для Рамана Скірмунта імкненне спалучыць палітыку з пэўнымі этычнымі (хрысціянскімі) каштоўнасцямі.

Але галоўным аўтарскім пасылам да чытача было хваляванне пра лёс Польшчы, якая магла стаць ахвярай магчымага германа-расійскага збліжэння. Гэтую праблему Раман Скірмунт таксама абмяркоўваў у перапісцы з М. Здзяхоўскім. Так, у лісце ад 30 лістапада 1930 г. ён адзначаў, што над сучаснай нямецкай палітыкай можна толькі плакаць: «Хочуць утрымацца ў танальнасці Бісмарка, але пазбаўлены ягонага розуму» І прыгадаў колішнюю заўвагу прафесара: «Немцы льюць ваду на млыны бальшавізма. Тыя грозна равуць і востра мелюць».

## *У «партыі» Пілсудскага*

Найважнейшай палітычнай падзеяй наступнага году стаўся майскі дзяржаўны пераварот, які вярнуў да ўлады Юзафа Пілсудскага. Прычынай гэтай трагічнай падзеі звычайна лічаць пагаршэнне эканамічнай сітуацыі ў Польшчы і востры палітычны крызіс. 10 мая быў сфарміраваны чарговы кааліцыйны ўрад, на гэты раз Вінцэнта Вітоса. У гэты ж дзень у інтэрв'ю карэспандэнту газеты «Дзеннік Поранны» Пілсудскі заявіў, што распачынае барацьбу з панаваннем у Польшчы «разбэшчаных партый», якія арыентуюцца толькі на грошы і асабістыя выгоды. 12 мая верныя Пілсудскаму вайсковыя часткі пачалі прыбываць у Рэмбертаў. У гэты ж дзень Маршалак сустрэўся з прэзідэнтам Вайцахоўскім, каб дамагчыся ад таго адстаўкі ўрада Вітоса. Аднак Вайцахоўскі не саступіў. Таксама няўдачай закончылася спроба перамоў з прэзідэнтам, якую прадпрыняў маршалак Сейма Мацей Ратай.

У выніку ў Варшаве адбыліся вулічныя баі паміж войскамі Пілсудскага і часткамі, якія захавалі вернасць прэзідэнту. 14 мая Пілсудскі стаў гаспадаром Варшавы. Урад Вітоса і прэзідэнт Вайцахоўскі склалі свае паўнамоцтвы. У адпаведнасці з Канстытуцыяй абавязкі прэзідэнта пачаў выконваць маршалак Сейма Мацей Ратай. З рэкамендацыі Пілсудскага ён даручыў Казіміру Бартэлю сфарміраваць урад, у якім Пілсудскі стаў міністрам вайсковых спраў. 31 мая на сумесным пасяджэнні Сената і Сейма новым прэзідэнтам быў абраны Ю. Пілсудскі, які, аднак, адмовіўся прыняць гэты выбар і рэкамендаваў на пасаду прэзідэнта прафесара Ігнацыя Масціцкага. Яго і абралі на наступны дзень.

У гісторыі Польшчы распачаўся г. зв. «перыяд санацыі» з характэрным для яго аўтарытарным палітычным рэжымам. Польскі гісторык Анджэй Гарліцкі наступным чынам ацэньваў перамены і планы Маршалка: «Май 1926 г. даў Пілсудскаму поўны кантроль над выканаўчай уладай у Польшчы. […] Ад гэтага моманту Пілсудскі сам вызначаў склад урада. Менавіта ён прымаў найважнейшыя палітычныя рашэнні. […] Пілсудскі неяк назваў майскі пераварот рэвалюцыяй без рэвалюцыі, разумеючы пад гэтым, што ён прыйшоў да ўлады рэвалюцыйным шляхам, але захаваў існуючыя інстытуты. Насуперак агульнапашыраным чаканням ён не разагнаў парламент і захаваў незалежнасць суда. Аднак планаваў паступова падпарадкаваць сабе абедзве гэтыя ўлады»[1765].

Парламент, дарэчы, перажыў публічнае прыніжэнне, бо быў вымушаны легалізаваць майскі пераварот і абраць прэзідэнтам малавядомага ў палітычных колах навукоўца паводле «рэкамендацыі» Пілсудскага.

Трэба адзначыць, што для тагачаснага польскага грамадства Юзаф Пілсудскі быў жывой легендай, галоўным аўтарам незалежнасці Польшчы. Здзяхоўскі пазней пісаў, што «пасля майскіх падзей разгубленасць у адных і абурэнне ў другіх

[1765] A. Garlicki, *Piękne lata trzydzieste.* Warszawa 2008, s. 11.

хутка саступілі месца пачуццю палёгкі, нібыта з душы зваліўся прыгнятаючы цяжар»[1766].

Якім было стаўленне да тых падзей Рамана Скірмунта? Падобна, што ён успрыняў іх са стрыманым аптымізмам. 23 чэрвеня 1926 г. у лісце да М. Здзяхоўскага, які, дарэчы, таксама разглядаўся Пілсудскім у якасці кандыдата на прэзідэнта, Скірмунт пісаў: «Занадта кепска я ведаю таямнічага Маршалка, каб мець пэўную апінію наконт ягонай асобы, але вылучэнне пана на першую пасаду ў Рэчы Паспалітай робіць вельмі добрае ўражанне. Адпавядаць высокай пасадзе больш важна, чым яе рэальна займаць, – казаў Канфуцый». І дадаў: «Сёння выконваць ролю прэзідэнта надзвычай цяжка. Гэта як танец сярод гадаўя, не толькі небяспечнага, але і агіднага»[1767].

А вось Эдвард Вайніловіч у Дзённіку асудзіў дзяржаўны пераварот, прыгадаўшы «здраднікаў Канстытуцыі і вайсковай прысягі»[1768]. У дзеяннях Пілсудскага ён нават разгледзеў праявы бальшавізму. Вайніловіч быў пэўны, што толькі пралітая кроў у Варшаве і гатоўнасць войск у Познані аказаць супраціў выратавалі краіну ад дыктатуры. Выбар прэзідэнтам І. Масціцкага быў для яго нечаканым, але ў Дзённіку ён выказаў перакананне, што Пілсудскі будзе кіраваць краінай за спіной у прэзідэнта[1769].

Пазіцыя Вайніловіча не змянілася нават пасля таго, як у кастрычніку 1926 г. у склад новага ўрада ўвайшлі яго добрыя знаёмыя Караль Незабытоўскі і Аляксандр Мэйштовіч. Ён не прыняў запрашэння прыехаць у Нясвіж, дзе 25 кастрычніка ў замку Радзівілаў з удзелам Пілсудскага павінна была адбыцца ўрачыстасць дэкаравання труны загінулага ў 1920 г. князя Станіслава Радзівіла ордэнам *Virtuti Militari*. У лісце да арганізатараў колішні кіраўнік МТСГ заявіў, што як шматгадовы апякун Радзівілаўскай ардынацыі ў выпадку сваёй прысутнасці ён павінен прамаўляць на гэтай урачыстасці, але змест ягоны выступу быў бы непрыемным для Пілсудскага…[1770] Дарэчы, візіт Пілсудскага ў Нясвіж, дзе князь Януш Радзівіл сабраў амаль усіх прадстаўнікоў польскай арыстакратыі і найбольш вядомых шляхецкіх родаў, выразна паказаў жаданне палітыка знайсці падтрымку сярод кансерватыўных колаў польскага грамадства.

А вось Раман Скірмунт прыняў перамены. У згаданым лісце да Здзяхоўскага ад 23 чэрвеня 1926 г. ён пагадзіўся прыехаць у Вільню дзеля ўдзелу ў арганізацыйным сходзе, на якім планавалася ўтварэнне новай кансерватыўнай арганізацыі. Ён параіў прафесару Здзяхоўскаму таксама даслаць запрашэнні Яну Сянкевічу (Парэчча) і графу Вітальду Мянчынскаму (Пінск), якіх лічыў карыснымі для гэтай

---

[1766] M. Zdziechowski, *Sprawa sumienia polskiego*. Wilno 1927, s. 16.
[1767] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–702a, арк. 6.
[1768] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część druga*, s. 205.
[1769] Ibidem, s. 209.
[1770] Ibidem, s. 223.

справы. Наогул, ідэю стварэння такой арганізацыі ён назваў «добрай і своечасовай». Скірмунт адзначыў важнасць падтрымкі з боку друку і пры гэтым прыгадаў віленскае «Слова», а таксама выказаўся за пошукі лідэра: «Не менш патрэбны смелы, цвёрды і абачлівы чалавек, які б далей вёў справы»[1771].

Увосень 1926 г. у Вільні паўстала Арганізацыя кансерватыўнай дзяржаўнай працы (Organizacja Zachowawczej Pracy Państwowej). На пачатку снежня «Слово» апублікавала яе «Праграмную дэкларацыю»[1772]. Новая арганізацыя выступала за «рэвізію існуючай Канстытуцыі» ў накірунку змяншэння ролі парламента і пашырэння ўладных паўнамоцтваў кіраўніка дзяржавы. Апошні ператвараўся ў найвышэйшы орган дзяржаўнай улады, які вызначаў палітыку ўрада і суадносіў інтарэсы Польшчы з інтарэсамі асобных сацыяльных колаў. Польшча характарызавалася як каталіцкая дзяржава з захаваннем роўнасці іншых канфесій. Таксама ішла гаворка пра свабоду развіцця нацый, калі яна не будзе ствараць небяспеку для дзяржавы. Шмат у чым гэтая Дэкларацыя адпавядала пазіцыі лагера прыхільнікаў Ю. Пілсудскага.

Найбольш вядомымі дзеячамі створанай Арганізацыі былі князь Яўстах Сапега (старшыня), Станіслаў Мацкевіч, Аляксандр Мэйштовіч і Караль Незабытоўскі. Прычым два апошнія, як адзначалася, увайшлі ў склад урада К. Бартэля. Раман Скірмунт, а таксама Мар'ян Здзяхоўскі былі абраны ў яе Галоўную раду, хоць не ва ўсім згаджаліся з яе стваральнікамі. Так, у згаданым лісце да Здзяхоўскага Скірмунт крытычна выказаўся адносна «Праграмнай дэкларацыі», адзначыўшы структурныя хібы і беднасць зместу. Падобна, што незадаволены быў і Здзяхоўскі, бо Скірмунт выказаў сваю радасць з нагоды таго, што прафесар усё ж застаўся ў Галоўнай радзе.

Аднак у Палескім ваяв. палітычная дзейнасць кансерватараў актыўнасцю не адрознівалася. П. Ціхарацкі са спасылкай на дакументы Управы Палескага ваяв. (люты 1927 г.) сцвярджаў, што яна праяўлялася толькі ў ініцыятывах асобных зямян (напр., Генрыка і Рамана Скірмунтаў), па-сутнасці, была эфемерычнай і абцяжаранай ваганнямі патэнцыйных лідэраў[1773].

Пасля стварэння напрыканцы 1927 г. «партыі ўлады», а менавіта Беспартыйнага блоку супрацы з урадам (ББСУ) (Bezpartyjny Blok Współpracy z Rządem) кансерватары далучыліся да яго. ББСУ з'яўляўся шырокай кааліцыяй партый і арганізацый, арыентаванай на падтрымку Пілсудскага і ягоных намаганняў па манапалізацыі ўлады. Даследчыкі адзначаюць хуткую эвалюцыю Беспартыйнага блока ад папулісцкай структуры да элітарна-бюракратычнай арганізацыі.

Ідэю стварэння «партыі ўлады» выказаў сам Пілсудскі, а яе рэалізацыяй займаліся два набліжаныя да яго супрацоўнікі з г. зв. «групы палкоўнікаў» – Валеры Славэк (1879–1939) і Казімір Сьвітальскі (1886–1962). Апошні, дарэчы,

[1771] БВУ. Аддзел рукупісаў. F 33–702а, арк. 6–7.

[1772] *Deklaracja Programowa,* «Słowo». 1926, Nr 282, 3 grudnia.

[1773] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, s. 208.

адказваў за прысутнасць у выбарчых спісах ББСУ прадстаўнікоў кансерватыўных арганізацый. Менавіта ён напрыканцы 1927 г. будзе размаўляць з Раманам Скірмунтам наконт уключэння ягонай кандыдатуры ў спіс кандыдатаў у сенатары ад Беспартыйнага блока.

Між тым, увосень 1926 г. увагу дзяржаўных чыноўнікаў і палітычных назіральнікаў з усходніх ваяводстваў Рэчы Паспалітай прыцягнуў поспех Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), якая за кароткі час з дэпутацкага клуба ператварылася ў буйную палітычную партыю. Да майскага перавароту Грамада была невялікай арганізацыяй, якая налічвала ўсяго 569 сяброў. А вось напрыканцы 1926 г. колькасць яе сяброў ужо пераўзыходзіла лічбу ў 100 тысяч. Некаторыя беларускія даследчыкі пішуць нават пра 150 тысяч[1774].

У палітычнай гісторыі Беларусі феномен Грамады з'яўляецца ўнікальным. Прычыны незвычайнага поспеху Грамады даследчыкі звязваюць з настроямі незадавальнення, якія панавалі сярод беларускай грамадскасці ІІ Рэчы Паспалітай. Гісторык Яўген Мірановіч лічыць, што для пераважнай большасці беларусаў Грамада была надзеяй на перамены; сілай, што нагадвала беларусам пра іх чалавечыя і грамадзянскія правы; партыяй, якая ўголас казала польскім уладам, што думаюць пра іх беларусы, арганізаванай формай пратэсту супраць прыніжальнай «крэсовай» рэчаіснасці[1775].

Іншы важны аспект – пэўная інерцыя мясцовай адміністрацыі, якая пасля майскага перавароту 1926 г. баялася праяўляць ініцыятыву, каб не ўступаць у супярэчнасць з цэнтральнымі ўладамі і чакала інструкцый з Варшавы. Апошняе паспрыяла разгортванню арганізацыйнай працы і ўтварэнню грамадаўскіх арганізацый амаль ва ўсіх паветах Заходняй Беларусі.

Тут варта прывесці думку П. Ціхарацкага, выказаную ім на адной з навуковых канферэнцый, што многія беларусы зразумелі пасіўнасць мясцовай улады як сігнал, што Польская дзяржава змяніла сваю палітыку ў «беларускім пытанні», што Грамада дзейнічае з дазволу Варшавы ды інш.

Насамрэч, Варшаву вельмі непакоіла сітуацыя ў Заходняй Беларусі. Ужо ў лістападзе ў Сейме разглядалася прапанова пра забарону дзейнасці Грамады, а баявыя дружыны ППС пачалі разганяць мітынгі і сходы партыі. Міністр юстыцыі і прадстаўнік «крэсовага» зямянства Мэйштовіч пазней успамінаў: «Ішоў час, і сітуацыя пагаршалася з дня на дзень. Камуністычная дзейнасць, якая разгорталася пад прыкрыццём Грамады, ахоплівала ўсё больш шырокія колы. Колькасць гурткоў, якія былі органамі Грамады, павялічылася з 350 у верасні да 800 напрыканцы лістапада. Агітатары заклікалі не плаціць падаткі, змагацца з паліцыяй і не выконваць распараджэнняў уладаў. Адкрыта гаварылася пра паўстанне ўвесну

[1774] *Гісторыя Беларусі*. У 6 т. Том 5. Беларусь у 1917–1945 гг. Рэдкал. М. Касцюк і інш. Мінск 2007, с. 396.

[1775] Я. Мірановіч, *Найноўшая гісторыя Беларусі*, с. 92.

і пра адарванне Беларусі ад Польшчы. Сцвярджалася, што зброю перададуць Саветы падчас лясных прац. […] Гурткі кіравалі гмінамі, загадвалі і выдавалі пропускі на пераход бальшавіцкай мяжы, узяўшы на сябе функцыі органаў улады. Дэзарыентаванае насельніцтва не ведала, ці то падпарадкоўвацца польскай уладзе, ці то гурткам? Паліцыя бяздзейнічала, баючыся перавысіць свае паўнамоцтвы[1776].

Аляксандр Мэйштовіч звярнуўся да Пілсудскага за дазволам распачаць ліквідацыю Грамады. Пілсудскі дазволіў, і ў ноч на 15 студзеня 1927 г. адбыліся масавыя арышты грамадаўскіх дзеячаў, у т. л. партыйнага кіраўніцтва, да якога належалі дэпутаты Сейма Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Павел Валошын і Пётр Мятла. Разам з імі быў арыштаваны дэпутат ад Незалежнай сялянскай партыі Фёдар Галавач. Усяго было арыштавана каля 500 актывістаў Грамады[1777].

Гэтыя дзеянні ўрада выклікалі абурэнне нават шэрагу некамуністычных партый і арганізацый, што адлюстравалася ў перыядычным друку ўсходніх ваяводстваў. Так, напр., «Пшэглёнд Віленьскі» адрэагаваў рэдакцыйным артыкулам «Супакаенне... без рэформ»[1778]. Назва нагадвала вядомы выраз Пятра Сталыпіна часоў Расійскай рэвалюцыі 1905–1907 гг., а змест артыкула падкрэсліваў падабенства ў дзеяннях колішняга кіраўніка кабінета міністраў Расійскай імперыі і міністра юстыцыі Польшчы.

Рэдакцыя паведамляла пра масавыя арышты сяброў Грамады і звяртала ўвагу на тое, што арышт дэпутатаў Сейма адбыўся без дазволу гэтага органа ўлады. Газета назвала гэты арышт «здзекамі над Канстытуцыяй». Таксама падкрэслівалася, што абвінавачванні носяць агульны характар і нагадваюць пераказ розных чутак і плётак. Аўтар артыкула (Людвік Абрамовіч?) быў перакананы, што рэпрэсіі зробяць беларускую ідэю яшчэ больш папулярнай і прадказваў далейшы рост колькасці гурткоў Грамады. Ён таксама нагадаў, што рэдакцыя «Пшэглёнда Віленьскага» неаднаразова падкрэслівала важнасць і актуальнасць «беларускага пытання», якое цалкам ігнаравалася ўрадам.

Варта адзначыць, што ўжо 3 лютага ў Косаве на Палессі адбыўся інцыдэнт, які пацвярджаў правату «Пшэглёнда Віленьскага». У гэты дзень у мястэчку прайшла масавая дэманстрацыя пратэсту супраць арыштаў, падчас разгону якой паліцыя выкарыстала зброю. У выніку былі забіты шэсць чалавек, а сямёра – паранены.

Асаблівай увагі заслугоўвае артыкул Станіслава Сьвяневіча «Польшча і беларусы»[1779] на старонках газеты «Кур'ер Віленьскі». Аўтар ацаніў разгром Грамады як праяву палітычнай істэрыі. Пры гэтым ён прызнаваўся, што польскія віленскія дэмакраты не толькі не былі праціўнікамі ліквідацыі беларускай арганізацыі, але

[1776] ZNiO. Dział rękopisów. Sygn. 15555 II/1. A. Mejsztowicz, *Przyczyny mojej dymisji*, k. 120.
[1777] *Гісторыя Беларусі.* У 6 т. Том 5. Беларусь у 1917–1945 г., с. 398.
[1778] [L. Abramowicz], *Uspokojnie… bez reform*, «Przegląd Wileński». 1927, Nr 2, 30 stycznia.
[1779] St. Świaniewicz, *Polska a Białorusini,* «Kurier Wileński». 1927, Nr 14, 19 stycznia.

нават заклікалі да гэтага. Аўтар ацэньваў Грамаду, як арганізацыю, што з'яднала розныя беларускія сілы на падмурку барацьбы супраць польскай дзяржавы. Сярод грамадаўцаў Сьвяневіч вылучаў свядомых камуністаў і ідэйных беларускіх патрыётаў, якія канкуравалі паміж сабой: камуністы разлічвалі на далучэнне да СССР, а патрыёты спадзяваліся на нараджэнне незалежнай і дэмакратычнай Беларусі. На думку аўтара, Грамаду трэба было спачатку раскалоць, і ўжываць рэпрэсіі толькі супраць тых, хто быў звязаны з Менскам.

Сьвяневіч аспрэчваў геапалітычны паварот Польшчы на Захад і пісаў пра польскі «імперыялізм» на Ўсходзе, як «імперыялізм духа, імперыялізм Міцкевіча і філарэтаў, імперыялізм колішняга Віленскага ўніверсітэта, імперыялізм Сыракомлі і Манюшкі». На яго думку, толькі такі польскі «імперыялізм» можа забяспечыць поспехі Польшчы на Усходзе і гарантаваць польска-беларускае паразуменне. Напрыканцы артыкула аўтар звярнуўся да Пілсудскага з заклікам пакончыць з палітыкай «дэструкцыйнага нацыяналізму» і пазбыцца тых чыноўнікаў, якія паранейшаму кіруюцца ім у сваёй дзейнасці.

Незадавальненне масавымі арыштамі грамадаўцаў выказала нават частка «пілсудчыкаў», якія баяліся негатыўнай рэакцыі Заходняй Еўропы. Быў момант, калі здавалася, што ўсё можа закончыцца адстаўкай Мэйштовіча, але той меў падтрымку Пілсудскага і нават умацаваў свае пазіцыі ва ўрадзе.

У адрозненне ад згаданых выданняў Раман Скірмунт з задавальненнем успрыняў ліквідацыю Грамады. Мэйштовіч ва ўспамінах прыгадваў Скірмунта сярод тых, хто падтрымаў ягоныя дзеянні і выказаў падзяку[1780]. Паводле адваката К. Петрусевіча, які абараняў грамадаўцаў на «працэсе 56-ці» ў Вільні, Раман Скірмунт ніколі не хаваў свайго варожага стаўлення да Грамады[1781].

Дзеля разумення пазіцыі Скірмунта варта зазірнуць на старонкі віленскага «Слова». Тэма Грамады была тут адной з прыярытэтных. 16 студзеня 1927 г. (№ 12) быў апублікаваны вялікі артыкул С. Мацкевіча, у якім знішчэнне Грамады ацэньвалася як доўгачаканая абарончая акцыя ІІ Рэчы Паспалітай супраць бальшавіцкіх агітатараў, накіраваная на абарону «ўсходніх земляў» Польшчы[1782]. Гэтую акцыю ён звязваў не толькі з урадам, але таксама з дзейнасцю нядаўна створанай Арганізацыі кансерватыўнай дзяржаўнай працы (АКДП), адным з заснавальнікаў якой быў тагачасны міністр юстыцыі. Аўтар прыгадаў, што на апошнім з'ездзе «крэсовых» зямян пераважная большасць падтрымала праграму АКДП і ўпэўнена заявіў, што «сёння спадар Мэйштовіч з'яўляецца свайго роду дыктатарам меркаванняў крэсовага зямянства і карыстаецца найвялікшым аўтарытэтам сярод крэсовага грамадства». Пры гэтым

---

[1780] A. Mejsztowicz, *Przyczyny mojej dymisji*, k. 154.

[1781] *Proces Białoruskiej Włościansko-Rabotnickiej Hramady. Mowa obrończa adwokata Kazimierza Pietrusewicza*. Wilno 1928, s. 24.

[1782] Cat [St. Mackiewicz], *Pohurtkowie i jego refleksy*, «Słowo». 1927, Nr 12, 16 stycznia.

С. Мацкевіч ахарактарызаваў АКДП як саюз людзей, якія «верацъ у польскую дзяржаўнасць, у польскую традыцыю і ў польскую будучыню».

Рэдактар «Слова» наогул разглядаў Грамаду па-за рамкамі ўласна беларускага руху. Спасылаючыся на апублікаванае ў менскай «Звяздзе» 9 чэрвеня 1926 г. рашэнне ЦК КПБ пра неабходнасць барацьбы з «нацдэмам» па абодвух баках мяжы, ён сцвярджаў, што Грамада была савецкай правакацыяй супраць беларускага нацыянальнага руху. Яе мэтаю быў разгром беларускіх арганізацый сіламі польскай дзяржавы. Рэпрэсіі ўрада разглядаліся аўтарам як удар па бальшавіцкай агітацыі. Рэдактар «Слова» нават выказаў перакананне, што разгром Грамады прывядзе да паляпшэння польска-беларускіх адносін.

Гэтая ідэя шырока абмяркоўвалася і ў наступных нумарах газеты. Для публіцыстаў «Слова» пытанне наконт беларускага характару Грамады было рытарычным. Відавочна, што і Раман Скірмунт бачыў у дзеяннях Грамады выключна «бальшавіцкую інтрыгу», накіраваную як супраць Польшчы, так і супраць беларускіх некамуністычных арганізацый.

Эдвард Вайніловіч на старонках Дзённіка таксама падтрымаў дзеянні Мэйштовіча і польскага ўрада. У запісу за 19–20 студзеня 1927 г. ён пераказаў размову з Незабытоўскім, які сцвярджаў, што пазіцыі яго і Мэйштовіча ва ўрадзе апошнім часам толькі ўзмацніліся. Вайніловіч даведаўся, што Мэйштовіч дабіўся дазволу на ліквідацыю Грамады пасля працяглай барацьбы з апанентамі, падчас якой нават пагражаў адстаўкай. Суразмоўца распавёў яму пра поспехі следства, якое мела доказы, што Грамада падтрымлівалася з Масквы і дзейнічала за бальшавіцкія грошы[1783].

А вось Канстанцыя Скірмунт імкнулася звярнуць увагу грамадства на ўласна польскі ўнёсак у адсутнасць паразумення з беларусамі і літоўцамі. У адкрытым лісце да рэдактара газеты «Дзень Польскі» яна сцвярджала, што віна Польшчы ў тым, што яна добраахвотна пазбылася зямлі Рэйтана, «нягледзячы на пратэсты, боль і крыкі ўсіх яе жыхароў». Адказам на просьбы беларусаў і літоўцаў дазволіць школы ў роднай мове пад эгідай Міністэрства асветы былі штрафы і турэмнае зняволенне. У выніку яны пайшлі ў «гурткі». Зараз «гурткі» выкрыты, а небяспечныя для дзяржавы дэпутаты арыштаваны. Бяспека грамадства і краю гарантавана. Але, калі апрача караючай рукі Польшча не працягне беларусам і літоўцам рукі дапамогі, не паспрыяе іх выхаванню ў роднай мове і традыцыях, то яна назаўсёды заплямiць сябе несправядлівасцю[1784].

Пра стаўленне польскай грамадскасці да падобнай пазіцыі сведчыць тое, што рэдакцыя «Дня Польскага» не толькі не апублікавала яе ліст, але нават не адказала на яго. Ліст апублікаваў Л. Абрамовіч з каментарам, у якім прызнаў пажаданні аўтаркі ідэалістычнымі.

---

[1783] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część druga*, s. 236.

[1784] K. Skirmuntt, *Otwarty list do redaktora «Dnia Polskiego»*, «Przegląd Wileński». 1927, Nr 5, 15 marca.

Арыштаваных кіраўнікоў і актывістаў Грамады судзілі на некалькіх працэсах. Самым гучным быў «працэс 56-ці», які праходзіў у лютым – маі 1928 г. у Віленскім акруговым судзе. Суд прыгаварыў Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага, П. Мятлу, П. Валошына да 12 гадоў турэмнага зняволення, М. Бурсевіча – да 8 гадоў. Большасць асуджаных атрымалі тэрміны ад 3 да 6 гадоў. Дванацаць чалавек былі апраўданы, бо суд палічыў, што яны не належалі да Грамады. Сярод іх былі Антон Луцкевіч і Радаслаў Астроўскі, якія, папраўдзе, былі грамадаўцамі. Астроўскі быў нават намеснікам Тарашкевіча і дырэктарам Беларускага кааператыўнага банка ў Вільні, праз які адбывалася савецкае фінансаванне Грамады.

У судовым працэсе ўдзельнічала некалькі соцень сведак, адным з якіх быў Раман Скірмунт. З ініцыятывы адваката ён выступаў падчас разгляду пытання прыналежнасці да Грамады Радаслава Астроўскага.

Сярод матэрыялаў Літоўскага Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва захоўваецца стэнаграма пасяджэння суда. Раман Скірмунт даваў паказанні 18 красавіка 1928 г. Вось ягоная характарыстыка Астроўскага: «Абвінавачанага Астроўскага ведаю з 1916 г. як беларускага дзеяча. Абвінавачаны Астроўскі спачатку быў настаўнікам гімназіі ў Слуцку, потым у 1916 г. (насамрэч у 1917 г. – *А. С.*) быў камісарам ўрада Керанскага, прычым выдатна спраўляўся з абавязкамі. Пасля прыходу бальшавікоў ён збег у армію Дзянікіна, дзе быў афіцэрам, але з прычыны радыкальнасці ўласных палітычных перакананняў пакінуў яе. Наступная наша сустрэча адбылася ў 1920 г., калі абвінавачаны Астроўскі працаваў у Польска-амерыканскім камітэце дапамогі дзецям. Прычым амерыканцы хвалілі яго як чалавека працавітага і здольнага. У 1923 г. Астроўскі выехаў з Берасця, і больш я яго не бачыў. Астроўскі рабіў ураджанне матэрыяльна забяспечанага чалавека. Палітычныя погляды абвінавачанага Астроўскага былі радыкальнымі, аднак у той час сімпатый да камуністаў ён не меў. Чуў, што бальшавікі пераследавалі бацьку Астроўскага».

Адвакат запытаўся наконт Грамады: Ці не заўважыў сведка якіх-небудзь публічных беспарадкаў сярод беларускага насельніцтва пасля ўзнікнення Грамады?

Раман Скірмунт: «На жаль, мой адказ на гэтае пытанне будзе не такім добрым [для абвінавачаных]. На тэрыторыі Палесся і Піншчыны ўплывы Грамады былі накіраваныя на пашырэнне сярод насельніцтва камунізму і на практыцы праяўляліся ў форме масавых беспарадкаў, як, напрыклад, было ў Косаве.

Таксама хачу адзначыць, што падчас знаходжання ў Менску я заўважыў жаданне беларусаў да супрацоўніцтва з палякамі, якое ўзнікла на глебе боязі бальшавіцкага патопу. У складзе дэлегацыі, якая наведала Берлін і Швейцарыю з просьбай, каб на нейкі час працягнуць нямецкую акупацыю Меншчыны таксама былі беларусы»[1785].

У адказах сведкі адчувальнае імкненне адвесці ад Астроўскага абвінавачванне

---

[1785] ЛЦДА. Ф. 129, воп. 2, спр. 2357, арк. 329–329 адв.

ў камуністычнай дзейнасці. Таксама варта звярнуць увагу на апошнюю частку адказу Скірмунта на другое пытанне адваката. Выказаўшы ўласнае меркаванне наконт ролі Грамады ў арганізацыі «беспарадкаў», Скірмунт прыгадаў менскі перыяд свайго жыцця і дзейнасці, каб аспрэчыць пашыраны прапагандай тэзіс тоеснасці беларускага руху і камуністычнай ідэалогіі.

Паказанні Рамана Скірмунта таксама пераказаў карэспандэнт віленскага «Слова», які штодня знаходзіўся ў залі суда і перадаваў інфармацыю ў рэдакцыю. Ён адзначыў, што «сведка Раман Скірмунт, былы прэм’ер беларускага ўрада гаворыць пра Астроўскага, як пра беларускага дзеяча, што заўсёды рабіў уражанне вельмі разумнага чалавека»[1786].

Таксама ў ягоную справаздачу трапіла рэпліка Бабяньскага, якая суправаджала пытанне адваката наконт Грамады: «Мы занадта мала мелі аб’ектыўных сведкаў». Старшыня суда ў гэтым месцы перапыніў адваката. А вось як быў перададзены адказ Скірмунта: «У мяне склалася адмоўнае ўспрыняцце Грамады. Нацыянальны рух у нас на Піншчыне слабы, адзначаецца ягоная блізкасць да камуністаў». Нават у гэтым варыянце адказаў сведкі адчуваецца нежаданне падтрымаць абвінавачванне Віленскай пракуратуры.

Варта адзначыць, што ў гэты самы дзень у якасці сведкаў абароны А. Луцкевіча выступалі Людвік Хаміньскі, Людвік Абрамовіч і Станіслаў Сьвяневіч. Першым даваў паказанні Л. Хаміньскі, які, у прыватнасці, казаў пра культурніцкую дзейнасць А. Луцкевіча і пра яго імкненне з дапамогай Германіі «ажыццявіць незалежніцкія мары Беларусі». Таксама ён заявіў, што арышт дэпутатаў Сейма супярэчыць Канстытуцыі краіны, а на просьбу пракурора выказаць меркаванне наконт мэтаў Грамады адказаў, што «ўсе шчырыя беларусы лічаць незалежнасць ідэальным вырашэннем беларускага пытання». Л. Абрамовіч і Ст. Сьвяневіч, якія давалі паказанні ўжо пасля Скірмунта таксама спрабавалі адвесці ад Луцкевіча падазрэнні ў датычнасці да Грамады і казалі пра ягонае імкненне наладзіць супрацоўніцтва з польскай грамадскасцю[1787].

Магчыма, удзел Скірмунта ў «працэсе 56-ці» як сведкі з боку абароны не ў апошнюю чаргу быў выкліканы разуменнем, што ў польскай палітыцы адсутнічае здольнасць выбачэння віны і вінаватых, неабходная для прымірэння і паразумення розных палітычных сіл. Менавіта пра гэта ён пісаў у лісце да прафесара Здзяхоўскага ад 21 верасня 1927 г.

Гэты ліст быў трохі запозненай рэакцыяй на публічны выступ Здзяхоўскага ў абарону арыштаваных пасля майскага перавароту генералаў Тадэвуша Развадоўскага (1866–1928) і Владзімежа Загурскага (1882–1927?). Генералы захавалі вернасць ураду Вітоса і ваявалі супраць войскаў, што выступілі на баку Пілсудскага. Пасля перамогі апошняга яны былі арыштаваны як крымінальныя злачынцы

[1786] W. T., *35-ty dzień procesu «Hramady»*, «Słowo». 1928, Nr 89, 19 kwietnia.
[1787] Ibidem.

і змешчаны ў віленскую турму на Антокале. Доказы іх віны не былі прадстаўлены, нягледзячы на ўсе намаганні пракуратуры. У польскім грамадстве пашырылася меркаванне, што галоўнай прычынай зняволення генералаў, якія, дарэчы, вызначыліся ў ваенных падзеях 1918–1920 гг., была звычайная помста з боку «пілсудчыкаў».

У красавіку 1927 г. Мар'ян Здзяхоўскі апублікаваў брашуру «Справа польскага сумлення», якая належала да найбольш моцных выступленняў супраць урада Бартэля/Пілсудскага і спрычынілася да вызвалення генералаў[1788]. Гэтая брашура выклікала разважанні Рамана Скірмунта наконт суадносін этыкі і палітыкі…

*ДАКУМЕНТ*

**З ліста Рамана Скірмунта да Мар'яна Здзяхоўскага[1789]. 21 верасня 1927 г.**

*[…] Простая душа не адважыцца сазаць горкае слова праўды моцным гэтага свету, хоць выказаць яго ў адпаведны момант – гэта заслуга і маральны абавязак, які нельга лічыць праявай варожасці. Голас чалавека, вольнага ад сервілізму, з аднаго боку, і ад партыйнага фанатызму, з другога, мае асаблівае значэнне. Грамадскае меркаванне, як і ўсё чалавечае, часцяком крочыць памылковымі сцежкамі, таму ў шматлікіх выпадках ягоны голас можна ігнараваць. Але, калі гавораць людзі беззаганныя, людзі асаблівых якасцяў розума і сэрца, трэба прыслухоўвацца. У гэтым выпадку голас разносіцца шырока і не застанецца без наступстваў нават, калі вушы, да якіх ён звернуты, па загадзе застануцца глухімі.*

*Разыходжанне шляхоў этыкі і палітыкі непазбежнае. Гэта факт, хоць ён годны шкадавання. Этыка – гэта плод Божых загадаў, палітыка – вынік разлікаў чалавечага розума. Адсюль разыходжанне. Але ўсе непатрэбныя адхіленні ад прамых шляхоў з'яўляюцца цяжкай памылкай і добрых вынікаў не даюць. Dimissio peccatorum (выбачэнне грахоў – А. С.) – гэта не толькі адна з Божых запаведзяў. Яе ўжыванне ў чалавечых адносінах з'яўляецца мудрым і карысным.*

*Цэзар, праўда, загінуў пад ударамі сваіх бліжэйшых сяброў, але здольнасць выбачэння віны, якую ён выказаў, прынесла яму шмат прыхільнікаў і выдатна паспрыяла ачышчэнню цяжкай пасля грамадзянскай вайны атмасферы. У нас гэтага, на жаль, няма. Не бачна нічога падобнага.*

*Пасля майскіх падзей нарадзіўся прыгожы лозунг санацыі… Яго адразу ж падхапілі халера, тыф і дызэнтырыя, якія гуляюць па вуліцах у санітарнай вопратцы, сцвярджаючы, што нясуць людзям здароўе.*

*Лёс людзей добрай волі, якія пераступілі ганак Бельведэру, нагадвае мне лёс гасцей палаца Цырцэі. Сядзяць яны бязвольныя на добрым утрыманні ў прыгожых клетках з пыхлівымі назвамі, сядзяць усе, не выключаючы прэзідэнта.*

*Складанне вялікай ахвяры на алтар агульнага дабра – гэта шляхетны ўчынак.*

---

[1788] M. Zdziechowski, *Sprawa sumienia polskiego*. Wilno 1927.

[1789] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–702a, арк. 8–9 адв.

*Межы падобнай ахвярнасці добра перадае рымскі выраз «vitam patria, honorem nemini» («вітай Айчына, бывай гонар» – А. С.).*

У апошнім абзацы Раман Скірмунт пісаў пра шляхетнасць складання «ахвяры на алтар агульнага дабра». Самаахвярнасць была рысай і ягонага жыцця, а таксама грамадскай і палітычнай дзейнасці. Якраз пра яе пісаў Э. Вайніловіч у сваім Дзённіку, прыгадваючы абставіны папярэдняй згоды Скірмунта ўдзельнічаць у перамовах у Рызе ў якасці эксперта[1790]. Магчыма, тая ж самаахвярнасць ў свой час паспрыяла далучэнню палітыка да беларускага руху.

Відавочна, што разважанні Скірмунта наконт суадносін этыкі і палітыкі былі абумоўлены ў першую чаргу падзеямі польскага палітычнага жыцця апошніх двух гадоў. А параўнанне жыхароў Бельведэра з гасцямі чараўніцы Цырцэі дазваляе казаць пра пэўнае прадчуванне аўтарам ліста наступстваў уласнага вяртання ў палітыку.

Між тым, у лістападзе 1927 г. Сейм і Сенат закончылі сваю дзейнасць. Выбары былі прызначаны на сакавік 1928 г. Аднак выбарчая кампанія, якая актывізавала палітычнае жыццё ў Палескім ваяв. фактычна распачалася ўжо позняй восенню 1927 г. Як сведчаць запісы Дзённіка Казіміра Сьвітальскага, у лістападзе 1927 г. ён планаваў сустрэцца з прадстаўнікамі кансерватыўнай эліты ўсходніх ваяводстваў, у тым ліку з Раманам Скірмунтам, каб заахвоціць іх прыняць удзел у выбарах у Сенат па выбарчым спісе ББСУ[1791].

Ці адбылася гэтая сустрэча невядома, але Арганізацыя кансерватыўнай дзяржаўнай працы далучылася да выбарчай кампаніі ББСУ. У студзені 1928 г. кіраўніцтва Арганізацыі падало Сьвітальскаму пералік уласных кандыдатаў на ўключэнне ў выбарчы спіс Блока. У ім фігураваў і Раман Скірмунт. Апрача яго там апынуліся такія «зубры» як граф Л. Лубеньскі, К. Незабытоўскі, С. Ваньковіч, рэдактар «Слова» С. Мацкевіч ды інш[1792].

Паводле П. Ціхарацкага, ключавую ролю ў паразуменні ББСУ з зямянамі Палесся адыграў князь Ф. Друцкі-Любецкі[1793]. Аднак шэраг мясцовых «зубраў», якія належалі да Крэсовага Саюза зямян, адмовіліся падтрымліваць «партыю ўлады». Магчыма, сярод іх быў і Раман Скірмунт, бо ў канчатковым выбарчым спісе ББСУ на выбарах у Сенат ягонае імя ўжо не фігуравала.

Ціхарацкі звязваў перамену пазіцыі зямян з адмовай біскупа Зыгмунта Лазінскага далучыцца да выбарчай кампаніі ББСУ і ягонай спробай дзейнічаць самастойна. З ініцыятывы біскупа быў арганізаваны Каталіцкі выбарчы камітэт. Гэтая выбарчая акцыя кончылася правалам, але яна сапраўды магла адарваць

---

[1790] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia. 1847–1928. Część pierwsza*, s. 311.

[1791] K. Świtalski, *Diariusz. 1919–1935*. Warszawa 1992, s. 239.

[1792] Ibidem, s. 335–336.

[1793] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, s. 235.

частку зямян ад супрацоўніцтва з ББСУ. Аднак наўрад ці гэта датычыла Рамана Скірмунта. Пазней у артыкуле, прысвечаным біскупу Лазінскаму, ён даволі крытычна выказаўся наконт ягоных выбарчых ініцыятыў у 1928 і 1930 г.

Але застаецца фактам, што «шлюб» Рамана Скірмунта з «партыяй улады» ў 1928 г. не адбыўся. У Палескім ваяв. у сенацкім выбарчым спісе ББСУ апынуліся К. Незабытоўскі, Ф. Друцкі-Любецкі і войт гміны Хорст Лунінецкага пав. Ізідар Прыко. Яны і былі абраны ў Сенат.

Выбары 1928 г. у Палескім ваяв. завяршыліся перамогай ББСУ. Блок атрымаў усе мандаты ў Сенат і пяць (з дзесяці) у Сейм. Аднак як тагачасныя аналітыкі, так і сучасныя гісторыкі ўпэўнены, што гэтая перамога стала магчымай толькі дзякуючы шырокамаштабным злоўжываванням мясцовай адміністрацыі і рэпрэсіям супраць апазіцыі.

Алесь Пашкевіч ўпэўнены, што «афіцыйныя лічбы галасавання за ББСУ ні ў адным з палескіх паветаў не адлюстроўвалі рэальны ўзровень падтрымкі гэтай арганізацыі, які, насамрэч, безумоўна, быў меншы»[1794]. Пётр Ціхарацкі звярнуў увагу на разбежнасць вынікаў галасавання ў Палескім ваяв. за ББСУ падчас выбараў у Сейм 8 сакавіка (прагаласавала 29,1 % выбаршчыкаў) і ў Сенат 15 сакавіка (63,5 %). «Калі лічыць гэтыя вынікі тэарэтычна магчымымі, – заўважыў даследчык, – то трэба прызнаць, што на працягу тыдня адбылася радыкальная перамена настрояў на карысць урада і супраць апазіцыйных груп. Калі ж дадаць да гэтага, што два першыя месцы ў сенацкім спісе ББСУ займалі вялікія землеўласнікі, адчуванне малаверагоднага парадокса толькі ўзмацняецца»[1795]. Невыпадкова ў польскай гістарыяграфіі вынікі гэтых выбараў характарызуюцца як «цуд над урнай».

Выбарчая кампанія 1928 г. засведчыла з'яўленне новай палітычнай сілы. Завяршылася фармаванне ББСУ, які імкнуўся да манапалізацыі палітычнай улады. А. Хайноўскі назваў ягоную ідэалогію «аўтарытарнай утопіяй» і адзначыў, што цэнтрам Блока з'яўлялася постаць Юзафа Пілсудскага, у геній якога верылі безаглядна. На яго думку, у гэтай пазіцыі праявілася «характэрная для настрояў палякаў найноўшага часу прага да маральнага аўтарытэту, якая ўвасобілася ў веру ў геніяльнасць вялікай асобы»[1796]. Для Палесся перамога ББСУ, як адзначыў П. Ціхарацкі, абярнулася прыспешанай маргіналізацыяй усіх апазіцыйных арганізацый і партый. Блок стаў іх адзінай альтэрнатывай.

Аднак вынікі выбараў 1928 г. не далі ББСУ большасці ў парламенце. Блок павінен быў лічыцца з апазіцыяй, якая ўтварыла кааліцыю «Цэнтралеў», што з'яднала партыі левай і цэнтрысцкай арыентацыі. Паўстаў канфлікт паміж

[1794] А. Пашкевіч, *Нацыянальныя працэсы ў Палескім ваяводстве…*, с. 165.
[1795] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, s. 235.
[1796] A. Chojnowski, *Piłsudczycy u władzy. Dzieje Bezpartyjnego Bloku Współpracy z Rządem*. Wrocław 1986, s. 122.

заканадаўчай і выканаўчай уладамі, які ў тагачасных палітычных умовах быў больш небяспечны для парламента.

Жыццё працягвалася, і ўсё часцей прыносіла боль і смутак. Так, у 1928 г. адышла ў нябыт маці Рамана Скірмунта, якую пахавалі ў магіле яе мужа на родавых могілках у Моладаве. На жаль, не атрымалася знайсці дакументаў, якія б сведчылі пра ролю маці ў жыцці сына. Наяўныя гістарычныя крыніцы ствараюць уражанне, што маці знаходзілася быццам у цені бацькі. Але цалкам магчыма, што менавіта ўплыў маці паспрыяў ягонай цікавасці да гісторыі, літаратуры і музыкі…

А ў чэрвені 1928 г. Раман Скірмунт развітваўся з колішнім настаўнікам і сябрам Эдвардам Вайніловічам. Раман Скірмунт прыехаў на пахаванне ў Быдгашч і ў развітальнай прамове казаў пра чалавека, які ў цяжкіх умовах Расійскай імперыі захоўваў «спадчыну стагоддзяў», зберагаў каталіцкую веру, польскую культуру і зямельныя ўладанні ў руках палякаў. Сутнасцю ягонай палітычнай і грамадскай дзейнасці Скірмунт лічыў гаспадарчае ўмацаванне польскіх пазіцый на ўсёй тэрыторыі Беларуска-Літоўскага краю. Ён прыгадаў прыхільнасць памерлага да «неабходнага для тагачаснай польскай палітыкі» лозунга краёвасці, які ў асобе Вайніловіча знайшоў пераканананага абаронцу. Не абышлося і без крытыкі палітычнага курсу ІІ Рэчы Паспалітай, які перакрэсліў «вынікі самахвярнай працы многіх пакаленняў». Для Вайніловіча – гэта было трагедыяй: «Для таго, хто меў высокае ўяўленне пра абавязкі грамадзяніна, маладушша новых палітыкаў здавалася здрадай»[1797].

Відавочна, што для Рамана Скірмунта смерць Вайніловіча была вялікай стратай. Нават разыходжанне іх шляхоў у міжваены час не аслабілі боль. У лісце да Здзяхоўскага ад 15 жніўня 1928 г. ён паспрабаваў даць больш поўную характарыстыку свайму сябру: «Намаляваць ягоны духоўны партрэт, здаецца, нецяжка. Ад нараджэння ён меў цэльны характар, светлы розум, але не вельмі складаны. Ён быў чалавекам учынку, схільнасць да тэарэтычных разважанняў у яго была менш відавочнай. Умовы для працы краёвага грамадскага дзеяча ў «перадпатопавы» час (перад вялікай вайной) былі вельмі складаныя. Адносіны да Варшавы (карэннай Польшчы), да Расіі, да мясцовага люду ці да Беларускай справы часам уяўляліся надзвычай складанымі. Трэба было ўпэўнена крочыць па полю з цярноўнікам і пасткамі, часам усміхацца злу і абмінаць з абыякавым ці непрыемным тварам тое, што мілае сэрцу. Падобная задача была амаль невыканальнай для чалавека, які па сваёй натуры быў чужды такой дыпламатыі.

Якім было ягонае стаўленне да другой з названых мною праблем, і якія ён меў погляды на Беларускую справу пасля адраджэння польскай дзяржаўнасці, гэтага я добра не ведаю. Наколькі лёгка намаляваць агульны контур яго думак, настолькі ж цяжка (па тых або іншых прычынах) прадставіць іх поўны вобраз.

[1797] J. Lutosławski, *S. p. Edward Woynułłowicz (Kartki z dziejów Kresów Wschodnich)*. Warszawa 1928, s. 25–30.

Адкрыты розум, вялікае сэрца і вялікая адвага рабілі з яго чалавека незвычайнага, дзейнасць якога ў спрыяльных абставінах магла б даць значна большы плён, чым той, што атрымаўся. На мой погляд і пасля «патопа», нягледзячы на няўдачы і цяжкія паражэнні, ён зусім не быў рэліктам. Можна толькі шкадаваць, што ягоная асоба апынулася недзе на ўзбоччы, калі польскі карабль пасля шторму нарэшце знайшоў сваю прыстань. А гэтага, дарэчы, дабіваліся многія нікчэмныя людзі, нават з крэсаў»[1798].

У гэтым жа лісце Скірмунт дзякаваў прафесару Здзяхоўскаму за згоду прыняць удзел у падрыхтоўцы кнігі памяці Вайніловіча. Ён сам на выданне першай часткі ўспамінаў Вайніловіча адрэагаваў вялікай рэцэнзіяй, напоўненай уласнымі ўспамінамі і разважаннямі[1799].

Іншыя публікацыі Скірмунта прымушаюць звярнуць увагу на ягоную заклапочанасць праектам неауніі. Увосень 1930 г. у артыкуле «Скажам ясна…» на старонках «Слова» ён (як *Ромунт*) даволі крытычна выказаўся адносна намераў Ватыкана па «навяртанью Расіі» шляхам пашырэння г. зв. візантыйска-славянскага або «ўсходняга абраду» на ўсход, а таксама з нагоды рэзкай крытыкі польскім друкам асобы ксяндза Фабіяна Абрантовіча і ягонай місіянерскай дзейнасці ў Харбіне[1800].

Ф. Абрантовіч быў адным з ідэолагаў беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху. Увесну 1918 г. магілёўскі арцыбіскуп Э. Роп накіраваў яго ў Менск дзеля заснавання і кіравання Менскай духоўнай семінарыяй. Менавіта ён дамагаўся ад менскага біскупа Зыгмунта Лазінскага згоды на ўвядзенне беларускай мовы ў дадатковае набажэнства. Быў сябрам Рады БНР.

Жыццёвыя і палітычныя шляхі Абрантовіча і Скірмунта павінны былі перасякацца ў Менску, а пазней у Пінску, куды перабралася згаданая семінарыя і яе выкладчыкі. Сам Скірмунт нідзе не пісаў пра свае кантакты з Абрантовічам, але ў артыкуле, прысвечаным Канстанцыі Скірмунт, прыгадаў знаёмства з ім сваёй сястры і «поўнае паразуменне ў нацыянальных справах» паміж імі[1801]. Няма сумневу, што Раман Скірмунт асабіста ведаў Абрантовіча і захаваў добрыя ўспаміны пра сустрэчы з ім.

У 1927 г. Абрантовіч скончыў навіцыят у Друйскім кляштары і разам з аднадумцамі сярод друйскіх марыян збіраўся адраджаць грэка-каталіцкую царкву ў Заходняй Беларусі. Аднак праз год ён быў прызначаны Апостальскім экзархам для каталікоў усходняга абрада ў Кітаі з тытулам архімандрыта і накіраваны ў Харбін.

Сталіца кітайскай Маньчжурыі для ватыканскай Камісіі «Pro Russia», якая каардынавала ўсю дзейнасць па пашырэнні «ўсходняга абрада», была адным з найбольш

---

[1798] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–702a, арк. 10–11.
[1799] R. Skirmuntt, *Edward Woyniłłowicz. Wspomnienia 1847–1928 r. Wyd. 1931 r.*, «Słowo». 1932, Nr 1–8.
[1800] Romunt [R. Skirmuntt], *Mówmy wyraźnie...*, «Słowo». 1930, Nr 218, 23 września.
[1801] R. Skirmuntt, *Panie z Muru*, «Słowo». 1934, Nr 132, 17 maja.

важных рэгіёнаў. Трэцюю частку гэтага паўмільённага горада складала расійская эміграцыя, і гэта была найвялікшая руская супольнасць па-за межамі СССР.

Камісія «Pro Russia» паўстала ў 1925 г. як структурная частка Кангрэгацыі ўсходніх цэркваў, а праз пяць гадоў стала незалежнай установай, падпарадкаванай непасрэдна Пію XI. Галоўным ідэолагам «паходу на Усход» даследчыкі лічаць біскупа Мішэля Дэрбіны (Michel d'Herbigny, 1880–1957). Ён быў перакананы, што пасля краху бальшавікоў Расійская праваслаўная царква будзе аслаблена і дэмаралізавана, і перад Рымам з'явіцца перспектыва пашырэння на ўсход.

Трэба адзначыць, што праект Дэрбіны цалкам ігнараваў спецыфіку дзейнасці ў беларускім асяродку і ніяк не быў звязаны з патрэбамі беларускага нацыянальнага Адраджэння[1802]. Неаунія падпарадкоўвалася рымска-каталіцкай іерархіі ў Польшчы. Яе характэрнай рысай быў «бірытуалізм», г. зн. выкарыстанне ў каталіцкім набажэнстве двух абрадаў – лацінскага і ўсходняга. Каталіцкі Касцёл атрымаў магчымасць прапанаваць вернікам «усходні абрад» без папярэдняй дамоўленасці з праваслаўнай Царквой. Апрача таго, візантыйска-славянскі абрад знешне адпавядаў сінадальнаму расійскаму праваслаўю. Апаведна мовамі набажэнства паводле «ўсходняга абрада» станавіліся царкоўна-славянская і руская[1803].

Камісія «Pro Rusia» падпарадкавала сабе ўвесь праект неауніі, а гэта азначала крах надзеі на адраджэнне традыцыйнай грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі. Апошняму паспрыяла і тое, што следам за Ф. Абрантовічам у Харбін былі адпраўлены яшчэ два прыхільнікі беларускай грэка-каталіцкай царквы айцы Язэп Германовіч і Андрэй Цікота. Падобна, што да гэтай адпраўкі беларускіх ксяндзоў меў непасрэднае дачыненне віленскі біскуп Яблжыкоўскі, які адстойваў польскасць каталіцкага касцёла.

Дзейнасць Абрантовіча ў Харбіне сустрэла шматлікія перашкоды, звязаныя з негатыўным стаўленнем да «ўсходняга абрада» з боку кітайскіх улад, праваслаўных рускіх і нават… езуітаў, якія не дазвалялі выкарыстоўваць рымска-каталіцкія храмы для набажэнства грэка-каталікоў. Таксама праблемай была пэўная неакрэсленасць ягоных задач і непадрыхтаванасць самой місіі з боку Ватыкана. У лісце да генерала марыян Ф. Бучыса ад 3 красавіка 1929 г. Абрантовіч пісаў: «Дзіўныя сапраўды людзі […] паслалі, самі ня ведаючы, што тут ёсць […] ані грошай, ані інструкцый ня далі, не акрэсьлілі максымальных і мінімальных межаў, у лістах не парасьцераглі […] Кажуць існаваць у самай бязглуздай сітуацыі, на крэдыт ужо 4-ы месяц»[1804].

---

[1802] Ю. Туронак, *Міжваенная унія ў Заходняй Беларусі*, «Спадчына. 1992, № 5, с. 73.

[1803] А. Горны, *Неаунія ў Заходняй Беларусі ў ацэнках беларускіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў*, Рэжым доступу: http://pawet.net/library/history/bel_history/gorny/.html. Дата доступу: 17.05.2018

[1804] Цытата па: А. Надсан, *Pro Patria Aliena. Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924–1938)*. Менск 2006, с. 80.

Аднак вялізарная праца архімандрыта і ягоных памочнікаў усё ж дала плён. У Харбіне выдавалася шмат каталіцкай літаратуры на рускай мове, былі створаны прытулкі для хлопчыкаў і дзяўчынак пры каталіцкіх кляштарах, збудавана царква. Незадавальненне польскага друку выклікала інфармацыя пра тое, што некалькі каталіцкіх манахінь перайшлі ва «ўсходні абрад», а польскія дзеці спявалі падчас набажэнства ва ўніяцкай царкве.

Раман Скірмунт у сваім артыкуле выступіў у абарону ідэі адраджэння ўніі і яе пашырэння на ўсход. Ён разлічваў, што поспех гэтай справы наблізіць Расію да Еўропы і зліквідуе існуючыя непаразуменні. Пры гэтым аўтар усведамляў усю складанасць гэтай задачы, адзначыўшы, што ў Расіі «ўсё вырашаюць людзі, прасякнутыя нянавісцю да захаду і яго культуры», што праваслаўнае духавенства ніколі не прызнае сваім братам ксяндза, калі той не адмовіцца ад вяршынства Рыма. Адначасна ён бачыў істотныя перашкоды на гэтым шляху з боку польскай каталіцкай супольнасці. Скірмунт пісаў пра неабходнасць адмовы ад успрыняцця праваслаўя як веравызнання ворагаў Польшчы і заклікаў палякаў-каталікоў «пазбыцца культу нянавісці» да іншых.

Таксама *Ромунт* заўважыў, што новае набажэнства не з'яўляецца адраджэннем колішняга ўніяцкага, а «месціцца ў канонах праваслаўнай царквы». Ён нават параўнаў гэты падыход з палітыкай аднаго з галоўных «ліквідатараў» уніяцкай царквы ў Беларусі мітрапаліта Іосіфа Сямашкі. І дадаў, што «будаўніцтва падмурку пад магутны гмах расійскага Касцёла ў межах Рэчы Паспалітай – гэта непрадуманае дзеянне, ад якога трэба бараніцца».

У другой частцы артыкула *Ромунт* адмыслова звярнуўся да асобы Фабіяна Абрантовіча. Ён ахарактарызаваў святара як беларуса і чалавека сур'ёзнага і мудрага. І дадаў, што «пераўтварэнне чалавека іншай нацыі ў ворага толькі за тое, што ён яе мілуе, з'яўляецца найбольш эфектыўным спосабам стварэння ворагаў. Можна мілаваць сваю нацыю без нянавісці да суседа-пабратыма. Культ нянавісці выклікаў разню вялікай вайны, а сёння з яго смокча жыццядайныя сокі расійскі бальшавізм». Скірмунт закончыў артыкул заклікам ачышчаць ад нянавісці ўласныя сэрцы.

У тэксце адчувальны аўтарскі клопат пра лёс Польскай дзяржавы і яе «ўсходніх земляў», а таксама пра важнасць дамінавання ў палітыцы і ў штодзённым жыцці хрысціянскіх каштоўнасцяў.

Скірмунт таксама цікавіўся падзеямі міжнароднага жыцця, асабліва сітуацыяй у Германіі. У лісце да М. Здзяхоўскага ад 30 лістапада 1930 г. ён распавядаў пра свае «прыгоды» з выбарам газеты, інфармацыя якой павінна была дапамагчы зразумець асаблівасці палітычнага жыцця ў Германіі: «Ахвотна чытаю замежныя газеты і хацеў бы знайсці нямецкую газету, якая б мне адпавядала. Пачаў ад «Neues Wilner Jornal». Газета семіцкая, добра рэдагаваная, кірунак адкрыта антыбальшавіцкі, адносіны да хрысціянства і касцёла цалкам прымальныя, але не спадабалася мне празмернасць сенсацый і недакладных інфармацый. Перакінуўся на «Reichspost», які аказаўся

занадта лакальным. Колішні вялікі аўстрыйскі свет пасля катаклізмаў вайны ператварыўся ў засценак. Падпісаўся на «Germanie», але газета занудлівая, дрэнна рэдагаваная, да палякаў і Польшчы, як і раней, ставіцца з нянавісцю. Вырашыў, што трэба вярнуцца да прыстойнай, светлай, жывой «Kölnische Volkszeitung», добра мне вядомай з даваенных часоў. І быў расчараваны. Яе выдае каталіцкая фірма, цалкам пазбаўленая гэтага духу. Пра польскія справы пішуць са злосцю і з'едлівай нянавісцю, якой хрысціянскае пачуццё, відавочна, не можа злагодзіць.

Спадзяваўся, што каталіцкая думка, некалі моцная ў Германіі, і сёння застаецца творчай і жывой, але памыліўся. На практыцы – гэта сапраўднае паганства. З вядомых філосафаў, здаецца, адзін Фёрстэр[1805] не падпаў пад гэтыя ўплывы. Ягоны голас гучыць як крык у пустыні, на які аніводнае нямецкае рэха не адгукнецца. Цалкам падтрымліваю вашую думку, што немцы ліюць ваду на млыны бальшавізму, а тыя грозна равуць і востра мелюць»[1806].

Вяртаючыся да палітычнай дзейнасці Рамана Скірмунта, варта адзначыць, што не толькі ў Варшаве, але і ў савецкім Менску памяталі пра яго і, магчыма, мелі адносна гаспадара Парэчча нейкія планы.

Пра гэта падумалася, калі супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Уладзімір Дзянісаў звярнуў маю ўвагу на тэкст на адвароце апошняй старонкі «фармулярнага спіса» Скірмунта часоў Расійскай імперыі: «Усе копіі дакумэнтаў Р. Скірмунта на 20 лістах сьпісаны з аўтэнтыкавай справы і слова у слова згодны з арыгіналамі. З аўтэнтыкам згодна. 10 сьнежня 1928 г. г. Менск»[1807].

Як вядома, у тыя гады архівы знаходзіліся ў складзе Народнага камісарыята ўнутраных спраў. Атрымліваецца, што беларускіх «чэкістаў» напрыканцы 1928 г. раптам зацікавіла постаць Рамана Скірмунта?! На жаль, зачыненасць архіваў беларускага КДБ не дазваляе працягваць распрацоўку гэтага сюжэту…

Цікавасць «чэкістаў» магла быць звязана з заснаваннем Арганізацыі кансерватыўнай дзяржаўнай працы і ўваходжаннем Скірмунта ў склад яе Галоўнай рады. Так, на пачатку 1929 г. у газеце «Савецкая Беларусь» з'явілася нататка пад назвай «Раман Скірмунт – польскі кансэрватар». Са спасылкай на віленскае «Слова» паведамлялася пра новы склад кіраўніцтва «Захаваўчай Дзяржаўнай Арганізацыі Працы» як партыі «польскіх кансэрватараў-манархістаў, якія да беларускага пытаньня адносяцца найгорш», і адзначалася прысутнасць Рамана Скірмунта ў складзе яе кіраўніцтва. Аўтар прыгадваў, што гэты палітык «яшчэ з царскіх

[1805] Гаворка пра філосафа Фрыдрыха Фёрстэра (1869–1966), які прытрымліваўся ідэй пацыфізму, арыентаванага на прынцыпы міжнароднага права, прапанаваныя прэзідэнтам ЗША Вільсанам. Ён крытычна ацэньваў мілітарызм нямецкай палітычнай эліты ў часы Першай сусветнай вайны. У 1926 г. пераехаў у Францыю і стаў галоўным інтэлектуальным ворагам нацыстаў. У Германіі ягоныя кнігі спальваліся, а філосаф быў пазбаўлены грамадзянства. У 1940 г. здолеў выехаць у ЗША.

[1806] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–702a, арк. 13–13 адв.

[1807] НГАБ. Ф. 319, воп. 2, спр. 2979, арк. 20 адв.

часоў і ў пачатку рэвалюцыі быў вядомы як актыўны беларускі дзеяч заходняй арыентацыі» і выказваў сумневы ў шчырасці ягонай беларускай дзейнасці[1808].

Раман Скірмунт і пазней згадваўся ў друку савецкай Беларусі. Так, у разгар масавых рэпрэсій у кастрычніку 1937 г. у газеце «Звязда» была апублікавана нататка «Барацьба сялян з памешчыкам Скірмунтам». Гэта быў перадрук інфармацыі з газеты «Праўда» (1912) пра канфлікт сялян в. Альшанка з Р. Скірмунтам.

Пры гэтым рэдакцыя «Звязды» змясціла ўласны каментар, што датычыў постаці галоўнага героя нататкі: «Памешчык Скірмунт, аб якім тут гаворыцца, той самы Скірмунт Раман, які ў 1917 г. быў старшынём нацдэмаўскага «Нацыянальнага камітэта» і разам з лёсікамі, жылуновічамі і інш. змагаўся супроць пралетарскай рэволюцыі, супроць беларускага народа, за буржуазна-панскую Польшчу. У гады грамадзянскай вайны Скірмунт быў галоўным заправілам «Беларускай рады», якая вітала кайзера Вільгельма як «вызваліцеля» Беларусі, у 1919–1920 гг. была прыслужніцай белапольскіх акупантаў, актыўна дапамагала ім аднаўляць панаванне ў Беларусі польскага панства, фарміравала банды для барацьбы з Совецкай Расіяй, рабочымі і сялянамі Беларусі»[1809].

Затое тыя дзеячы беларускага руху, якія дзейнічалі поруч са Скірмунтам у 1917–1919 гг. добра памяталі пра ягоны «вялікі дэмакратызм» і «беларускі патрыятызм». Так, Віцэнт Гадлеўскі казаў пра гэта падчас выступу на пашыраным сходзе Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні з нагоды 16-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці БНР. Ён падрабязна ахарактарызаваў дзейнасць Рамана Скірмунта ў беларускім руху, адзначыў ягоны намер стварэння беларускай абшарніцкай партыі і вялікую працу па ўмацаванні незалежнасці БНР. Аднак на пачатку рэферата В. Гадлеўскі заўважыў, што «цяпер Р. Скірмунт працуе ў польскай санацыі, якая яго дэлегавала ў сэнат і ў беларускай працы ня прыймае ніякага ўчасьця»[1810]. На жаль, на прычынах адыхода Скірмунта ад беларускага руху выступоўца не засяродзіўся...

## *Сенатар*

Палітычны канфлікт паміж польскім парламентам II склікання і ўрадам закончыўся роспускам першага напрыканцы лета 1930 г. Выбары ў Сейм і Сенат былі прызначаны прэзідэнтам Масціцкім адпаведна на 16 і 23 лістапада.

Адразу пасля роспуску парламента былі арыштаваны былыя дэпутаты-камуністы, а таксама лідэры «Цэнтралева» і шэраг іншых апазіцыйных палітыкаў. Арышты палітычных апанентаў, якіх абвінавачвалі ў злачынствах крымінальнага

---

[1808] б/п. *Раман Скірмунт – польські кансэрватар*, «Савецкая Беларусь». 1929, № 42, 23 лютага.

[1809] б/п. *Барацьба сялян з памешчыкам Скірмунтам*, «Звязда». 1937. № 243, 21 кастрычніка.

[1810] В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917–1918 гг.*, с. 20–22.

і палітычнага характару, павінны былі спрыяць выбарчай перамозе ББСУ. Арыштаваных утрымлівалі ў турме Берасцейскай крэпасці, камендантам якой быў прызначаны палкоўнік В. Костак-Бэрнацкі. Умовы ўтрымання былі надзвычай цяжкімі і брутальнымі. Аўтарытарызм улады стаў рэчаіснасцю.

На выбарах 1930 г. ББСУ не прадставіў аніякай праграмы, што павінна была падкрэсліць адрозненне Блока ад звычайнай палітычнай партыі. Праграму замяніла прозвішча Пілсудскага, якое стаяла на першым месцы сеймавага выбарчага спіса. А вось сенатарскі спіс ББСУ ў Палескім ваяв. узначаліў Раман Скірмунт. Абставіны перамоў з прадстаўнікамі «пілсудчыкаў», на жаль, невядомыя. Але ў адрозненне ад мінулых выбараў Скірмунт вырашыў вярнуцца да палітычнай дзейнасці як прадстаўнік «партыі ўлады».

Ягонае імя стаяла першым у тым «сенатарскім» спісе, які атрымаў старшыня акруговай выбарчай камісіі № 60 у Пінску. Вось поўны спіс кандыдатаў па гэтай акрузе:

1. Раман Скірмунт, 62 гады, земляроб, маёнтак Парэчча Пінскага пав.

2. Францішак Друцкі-Любецкі, 51 год, земляроб, маёнтак Лунінец Лунінецкага пав.

3. Антоні Выслоўх, 64 гады, земляроб, маёнтак Піркавічы Драгічынскага пав.[1811]

4. Др Міхал Выростак, 54 гады, адвакат, Варшава

5. Тадэуш Машыньскі, 52 гады, натарыус, Пінск

6. Якуб Кенда, войт гміны Міжлессе Пружанскага пав[1812].

«Земляробы» ад ББСУ ў сенатарскім выбарчым спісе былі буйнымі землеўладальнікамі і прадстаўлялі кансерватыўную частку мясцовага зямянства. Паводле агентурнай інфармацыі камандавання IX корпуса, якое знаходзілася ў Пінску, кандыдатура Скірмунта была прапанавана дзеля прыцягнення зямян і заахвочвання сялян галасаваць за ББСУ[1813].

Раман Скірмунт карыстаўся вялікім аўтарытэтам не толькі на Палессі. Так, віленскае «Слова», якое актыўна падтрымлівала «партыю ўлады», даволі шмат увагі надавала ягонай постаці. У прыватнасці, С. Мацкевіч у артыкуле «Тутэйшыя кандыдаты» з сенатарскага спіса ББСУ падрабязна ахарактарызаваў гаспадара Парэчча і толькі назваў прозвішчы іншых кандыдатаў.

Вось што маглі даведацца чытачы «Слова»: «Спіс зямян – кандыдатаў у парламент распачынаецца спадаром Раманам Скірмунтам, які знаходзіцца на 1-м месцы сенатарскага спіса ББСУ на Палессі. Гэта чалавек, які за шмат гадоў перад адраджэннем незалежнасці карыстаўся катэгорыямі, якія не толькі рыхтавалі працу польскай дзяржавы на гэтых тэрыторыях, але і прадугледжвалі вяртанне яе імперскага характару. Раман Скірмунт – гэта сімвалічны палескі шляхціч не-

[1811] Пазней кандыдатура А. Выслоўха апынулася ў «сеймавым» спісе ББСУ.

[1812] ДАБВ. Ф. 2001, воп. 1, спр. 2382, арк. 5.

[1813] ДАБВ. Ф. 67, воп. 1, спр. 2052, арк. 12–13.

залежны ў сваёй палітычнай думцы і вельмі далёкі ад мяшчанскай местачковасці эндэкаў. Раман Скірмунт – гэта палескі шляхціч, які нават тады, калі польская нацыя знаходзілася ў няволі, па сваіх разумовых здольнасцях быў падобны на якога-небудзь Чэмберлена, г. зн. меў свядомасць і розум пераможцы, аперавай катэгорыямі шырокіх даляглядаў і вялікай палітыкі. Ён не меў пачуцця нявольніка, максімальная палітычная праграма якога выражаецца ў марах пра тое, каб «немец не пляваў нам у твар». Усё жыццё Р. Скірмунт даказваў, што нельга быць “малымі палякамі”»[1814]. Рэдактар «Слова» рабіў з Рамана Скірмунта прыхільніка ідэалогіі сваёй газеты, а той, здаецца, і не пратэставаў…

Напярэдадні выбараў у тых нумарах «Слова», якія распаўсюджваліся на Палессі, быў змешчаны фотаздымак Рамана Скірмунта і ягоная біяграфія. Відавочна, што яна павінна была ўзгадняцца з аўтарам, і мы маем магчымасць зазірнуць у кароткую біяграму галоўнага героя, складзеную з ягоным удзелам.

*ДАКУМЕНТ*

**Кандыдаты ББСУ. Раман Скірмунт**[1815]

*Нарадзіўся на Палессі ў Пінскім павеце, у маёнтку Парэчча ў 1868 г.*

*Адукацыю атрымаў у дзяржаўнай гімназіі (у той час мовай выкладання была нямецкая) у Рызе.*

*Да ўдзелу ў грамадскім жыцці далучыўся ў першых гадах нашага стагоддзя, а ў 1904 г. стаў сябрам Рады Менскага таварыства сельскай гаспадаркі. У 1906 г. быў абраны дэпутатам І Дзяржаўнай думы ад Менскай зямлі, а ў 1907 г. – віцэ-старшынём Менскага таварыства сельскай гаспадаркі.*

*У 1910 г. стаў дэпутатам Дзяржаўнай Рады ад Менскай зямлі, а ў 1911 г. адмовіўся ад мандата.*

*Радным павятовага і губернскага земства (сейміка) (Пінск і Мінск) быў з 1906 г. і да вайны. Падчас вайны як афіцэр запасу папоўніў шэрагі расійскай арміі. У выніку намаганняў земства быў адкамандзіраваны ў распараджэнне Цывільнай управы і выконваў абавязкі Упаўнаважанага па справе забеспячэння Менскай губ. харчам з 1915 па 1917 г.*

*У 1917 г. быў дэлегаваны з беларускіх земляў у Раду Расійскай рэспублікі ў Пецярбурзе, якую ў канцы кастрычніка таго ж года разагналі бальшавікі.*

*З 1923 па 1928 г. быў ганаровым суддзёй пры Акруговым судзе ў Пінску, узначальваў Раду ваяводскага таварыства сельскай гаспадаркі, потым ЦТСАГ [Цэнтральнае Таварыства сельскагаспадарчых арганізацый і гурткоў. – А. С.] ад пачатку яго існавання і па сённяшні дзень. Адначасна быў сябрам гміннай рады, Пінскага павятовага сейміка, аддзялення ды інш.*

---

[1814] Cat [St. Mackiewicz], *Kandydatury tutejsze,* «Słowo». 1930, Nr 240, 18 października.

[1815] *Kandydaci B. B. W. R.,* «Słowo». 1930. Nr 254, 5 listopada (пераклад з польскай мовы).

У гэтай біяграфіі для выбаршчыкаў асаблівая ўвага звярталася на мясцовае паходжанне Рамана Скірмунта, ягоны ўдзел у гаспадарчым аднаўленні Палесся, а таксама на значны вопыт палітычнай дзейнасці ў вышэйшых органах улады Расійскай дзяржавы. Беларускі перыяд ягонай дзейнасці не згадваўся.

Дарэчы, гэты дакумент канчаткова вырашае праблему адукацыі Рамана Скірмунта. Хіба ж кандыдат у Сенат не пазначыў бы ў сваёй біяграфіі навучання ва ўніверсітэце, калі б гэта сапраўды мела месца? Што ж датычыць «дзяржаўнай гімназіі» ў Рызе, то вядома, што Скірмунт так і не здолеў яе закончыць. Атрымліваецца, што ягоны ўзровень адукацыі і культуры быў вынікам галоўным чынам самастойных заняткаў і хатняй адукацыі.

Выбары на Палессі (і не толькі там!) закончыліся перамогай ББСУ. У Палескім ваяв. за выбарчыя спісы Блока ў Сейм і Сенат прагаласавала 90,5 % выбаршчыкаў[1816]. У выніку «партыя ўлады» атрымала 10 месцаў у Сейме і 3 – у Сенаце. Адным з сенатараў стаў Раман Скірмунт.

Гэтая перамога была вызначана яшчэ на этапе рэгістрацыі выбарчых спісаў. Так, у Берасцейскай выбарчай акрузе (№ 59) рэгістрацыю прайшлі толькі 5 спісаў, з якіх 4 былі прадстаўлены габрэйскімі арганізацыямі. У Пінскай выбарчай акрузе (№ 60) апрача ББСУ і габрэйскіх спісаў былі зарэгістраваны яшчэ два спісы ад польскіх арганізацый. Спісы, прадстаўленыя камуністамі і Блокам нацыянальных меншасцяў, быліануляваны. У выбарах у Сенат удзельнічалі толькі два спісы – ББСУ (№ 1) і Блока абароны правоў габрэйскай нацыі (№ 17).

Як заўважыў Алесь Пашкевіч, «славянскаму насельніцтву ў такіх умовах нічога не заставалася, як толькі галасаваць за «спіс маршалка Пілсудскага» або выбіраць такія дэманстратыўныя формы пратэсту, як адмова ад удзелу ў выбарах ці галасаванне за ануляваныя спісы»[1817]. Аднак мясцовая адміністрацыя прыклала намаганні, каб не дапусціць байкоту выбараў. Здараліся выпадкі, калі ўсе жыхары вёскі пад белым сцягам з надпісам «№ 1» адначасова з'яўляліся перад выбарчымі скрынямі[1818].

Магчыма, нешта падобнае адбывалася таксама ў Парэччы і ягоных наваколлях. Тут пражывала 5 106 выбаршчыкаў і былі створаны чатыры выбарчыя ўчасткі. У галасаванні на выбарах у Сейм прынялі ўдзел 4 510 чал., з якіх ББСУ падтрымалі 4 436(!). 17 парэчан аддалі «галасы» за Блок абароны правоў габрэйскай нацыі, і трое падтрымалі Каталіцкі людовы блок. «Цэнтралеў», спіс якога быў зарэгістраваны ў гэтай выбарчай акрузе, не атрымаў аніводнага «голаса». Таксама было зафіксавана 54 несапраўдных бюлетэня[1819]. Магчыма, гэтае адзінадушша па-

---

[1816] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, s. 322.
[1817] А. Пашкевіч, *Нацыянальныя працэсы ў Палескім ваяводстве…*, с. 189.
[1818] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, s. 319.
[1819] ДАБВ. Ф. 493, воп. 5, спр. 3, арк. 115.

рэчан было абумоўлена прысутнасцю ў выбарчым спісе Рамана Скірмунта. Але цалкам верагодна, што і тут мелі месца злоўжыванні і фальсіфікацыі.

Паводле тагачасных аналітыкаў і сучасных гісторыкаў, яны дасягнулі асабліва высокага ўзроўня на Палессі. Адпаведна, выбары 1930 г. увайшлі ў гісторыю Польшчы пад саркастычнай назвай «берасцейскіх». Таксама трэба прыгадаць рэпрэсіі, якія працягваліся нават падчас выбараў. Паводле Анджэя Гарліцкага, у гэтыя дні ў краіне было арыштавана каля 5 тыс. чал., у т. л. 84 былыя дэпутаты Сейма і сенатараў[1820].

У выніку «партыя ўлады» атрымала 247 мандатаў у Сейме. Гэта гарантавала ёй стабільную большасць, але не дазваляла змяніць Канстытуцыю краіны, што было адной з галоўных мэтаў «лагера пілсудчыкаў».

У Сенаце ББСУ таксама мела большасць – 77 месцаў (з 111). Ад Палескага ваяв. апрача Скірмунта былі абраны Ф. Друцкі-Любецкі і адвакат М. Выростак. Прычым, Скірмунта ў Палескай выбарчай акрузе падтрымалі больш 236,5 тыс. выбаршчыкаў[1821]. Толькі шасцёра іншых сенатараў мелі большую падтрымку ў сваіх акругах.

25 лістапада Здзяхоўскі напісаў ліст у Парэчча, у якім сардэчна павіншаваў Скірмунта з абраннем. Новаабраны сенатар падзякаваў прафесара і зазначыў, што прыняў вынікі выбараў са змешаным пачуццём, у якім спалучаліся «дрыжыкі, якія адчувае чалавек, што нечакана трапіў у халодную ваду, і сумнеў, ці атрымаецца быць карысным у сучасных умовах. Карны рэгламент для сяброў Б[еспартыйнага] Б[лока] пакідае вельмі сціплую магчымасць для свабоды руху і думкі. Кола тых, хто вызначае пазіцыю ўлады, моцна згуртаванае, для новых людзей цяжка даступнае і... не для кожнага там знойдзецца месца». І з пэўнай надзеяй дадаў: «Калі б Бог усю справу завяршыў поспехам, то мы б з лепшым настроем маглі глядзець у будучыню»[1822].

Відавочна, што Скірмунт звязваў з курсам «пілсудчыкаў» надзеі на стабілізацыю палітычнай сітуацыі і нейтралізацыю патэнцыйных мясцовых «бальшавікоў». Праўда, у лісце таксама адчувальны ягоны сумнеў, што ў існуючых палітычных абставінах ён здолее адыграць прыкметную ролю.

Магчыма, на апошняе паўплывала інфармацыя пра фізічныя і маральныя здзекі з палітыкаў, якія былі зняволены ў верасні 1930 г. у турме Берасцейскай крэпасці. Пасля выбараў частку з іх выпусцілі з турмы пад грашовы заклад. Былыя арыштанты не збіраліся маўчаць, і грамадства, у прыватнасці, даведалася, што зняволеных фактычна мучылі голадам. Аснову іх штодзённага рацыёна складаў суп з гнілой капусты, бруднай морквы, бульбы і буракоў. Пры гэтым сем'ям забаранялася перадаваць затрыманым харчаванне. Таксама ў друку паведамлялася, што

[1820] A. Garlicki, *Piękne lata trzydzeste*, s. 125.
[1821] *Skład osobowy i komisje Senatu Rzeczpospolitej Polskiej*. Styczeń 1931 r., s. 26.
[1822] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–702a, арк. 12.

былых парламентарыяў, у т. л. колішняга прэм'ер-міністра В. Вітоса прымушалі прыбіраць адхожыя месцы, прычым не толькі ва ўласных камерах...

Напрыканцы 1930–пачатку 1931 г. у Польшчы ўзнялася хваля калектыўных пратэстаў. А. Гарліцкі адзначыў, што ніколі раней у краіне не адбывалася нічога падобнага. Пратэсты падпісвалі вядомыя дзеячы культуры, у прыватнасці, Марыя Радзевічуўна, Зоф'я Налкоўская, Юліан Тувім, Аляксандр Сьвентахоўскі ды інш.[1823]

У пэўны момант да пратэстуючых далучыўся і Раман Скірмунт. У снежні 1930 г. на старонках «Слова» з'явіўся ягоны артыкул «Пра Караля духа», падпісаны псеўданімам *Ромунт*[1824]. Нягледзячы на назву, ён не быў прысвечаны ні вядомаму твору Юліуша Славацкага, ні ягонай творчасці. Гэта было свайго роду мастацка-філасофскае эсэ, аўтар якога заклікаў да яднання, на аснове малітвы: «І адпусці нам правіны нашыя, як і мы адпускаем вінаватым нашым». Скірмунт спадзяваўся, што гэтыя словы стануць «дэвізам нашага жыцця». Ён не бачыў іншага шляху для Польшчы ў сітуацыі, калі краіна мела агрэсіўных суседзяў, перажывала ўнутраны сацыяльны канфлікт, а асобныя яе рэгіёны не адчувалі сябе часткай Польскай дзяржавы. Прыгадваючы ліст Скірмунта да прафесара Здзяхоўскага ад 21 верасня 1927 г., трэба прызнаць, што гэтая праблема належала да тых, што на працягу доўгага часу хвалявалі яго як грамадзяніна Краю.

Менавіта пераможцам з ББСУ быў адрасаваны гэты зварот. Аднак эліта «пілсудчыкаў» не пачула *Ромунта*. Частка былых парламентарыяў па-ранейшаму ўтрымлівалася ў турме Берасцейскай крэпасці. А ў кастрычніку 1931 г. улады распачалі г. зв. «Берасцейскі працэс», які закончыўся прысудамі турэмнага зняволення для дзесяці сяброў ППС і Людовай партыі-Пяст.

Тут варта прывесці ацэнку дзейнасці ББСУ краёўцамі, якія ядналіся вакол газеты «Пшэглёнд Віленьскі». 27 сакавіка 1931 г. на старонках газеты (№ 6–7) быў апублікаваны артыкул «Дэмакратызм і нацыяналізм». Ён не быў падпісаны, але хутчэй за ўсё належаў рэдактару Людвіку Абрамовічу.

Аўтар сцвярджаў, што даваенны канфлікт паміж дэмакратамі і нацыяналістамі скончыўся перамогай нацыяналізму пасля Сусветнай вайны. Перамог ён і ў Польшчы, дзе дэмакратыя ніколі не мела моцных традыцый. Супрацьстаянне ББСУ і нацыянальных дэмакратаў, на думку аўтара, зусім не азначала, што іх пазіцыі істотна розняцца. Пэўныя ўступкі культурным патрабаванням нацыянальных меншасцяў з боку ББСУ трактаваліся як выбар больш эфектыўнай нацыяналістычнай тактыкі, якая не нагадвала «рызыкоўных метадаў бязлітаснага знішчэння, характэрных для блізарукага радыкальнага нацыяналізму ў шавіністычнай афарбоўцы». Аўтар быў пэўны, што ў справе абароны польскіх нацыянальных інтарэсаў ББСУ будзе дзейнічаць нават больш рашуча, чым нацыя-

[1823] A. Garlicki, *Piękne lata trzydzeste*, s. 148.

[1824] Romunt [R. Skirmuntt], O *Królu duchu,* «Słowo». 1930, Nr 290, 18 grudnia.

нальныя дэмакраты. А, між тым, – адзначаў ён, – у ББСУ ўвайшла ўся ранейшая польская дэмакратыя. Якраз паразай дэмакратызму аўтар тлумачыў крызіс краёвай ідэі і праблемы з яе пашырэннем у грамадстве.

Безумоўна, гэты крызіс адчуваў і Раман Скірмунт. Ён пагадзіўся з немагчымасцю адраджэння Краю ў межах колішняга Вялікага Княства Літоўскага. Ягоным «Краем» сталася спачатку Палессе, а пазней і ўся Польская дзяржава. Краёвец паступова ператварыўся ў апалагета моцнай дзяржаўнай улады. У гэтым плане ягоныя мэты супадалі з мэтамі ББСУ. Аднак сродкі, якімі карысталася «партыя ўлады», не заўсёды адпавядалі пазіцыі Скірмунта. Тым не менш, ён далучыўся да «пілсудчыкаў» і перыядычна дэманстраваў уласную адданасць справе іх кіраўніка. Праўда, аналіз ягоных тэкстаў і дзейнасці ў Сенаце Польшчы дазваляе казаць пра пэўную нязгоду і прыхаваную апазіцыйнасць гаспадара Парэчча.

Напрыканцы лістапада адбылося першае пасяджэнне парламенцкага клуба ББСУ ў новым складзе. Ягоным старшынём ізноў быў абраны Валеры Славэк. Кіраўніком «сенатарскай групы» стаў Юзаф Таргоўскі. Паводле гісторыка А. Хайноўскага, сярод парламентарыяў ББСУ існаваў умоўны падзел на кансерватараў і лібералаў. Дамінавалі апошнія, якія і лабіравалі новую Канстытуцыю[1825].

Раман Скірмунт быў абраны старшынём Камісіі па рэгламенце, а таксама сябрам Канстытуцыйнай камісіі і Камісіі па вайсковых справах. Ягоны ўдзел у працы названых Камісій і самога Сената быў даволі сціплым. Стэнаграфічныя справаздачы сенацкіх пасяджэнняў дазваляюць сцвярджаць, што ўпершыню Раман Скірмунт выступіў толькі 7 лістапада 1931 г. Ён прэзентаваў законапраект Камісіі па вайсковых справах «Пра надзвычайны перавоз афіцэраў і шэраговых запасу і апалчэння, а таксама вайсковага інвентара ў мірны час»[1826]. Сенат прыняў яго без абмеркавання.

26 студзеня 1932 г. ён выступіў на пасяджэнні Сената з праектам Закона пра абавязкі і правы шэраговых польскага войска. Праект прадугледжваў увядзенне новай групы вайскоўцаў, а менавіта корпуса «падафіцэраў». Скірмунт сцвярджаў, што падобныя корпусы ўжо ўведзены ў найбольш моцных войсках свету. Да абавязкаў «падафіцэра» належала навучанне навабранцаў, камандаванне вайсковымі адзінкамі ды інш. Праект заахвочваў найбольш здольных «падафіцэраў» працягваць вайсковую кар'еру і станавіцца афіцэрамі[1827]. Ён быў прыняты пры адным голасе супраць.

1 сакавіка 1932 г. Раман Скірмунт выступаў у Сенаце падчас абмеркавання бюджэту на 1932–1933 г. Ён адразу зазначыў, што абмеркаванне бюджэту з'яўляецца нагодай для дыскусіі па найбольш важных праблемах дзяржаўнага і нацыяналь-

---

[1825] A. Chojnowski, *Piłsudczycy u władzy*..., s. 171–172.

[1826] Senat Rzeczypospolitej Polskiej. Okres III. Sprawozdania stenograficzne. Posiedzenie 22, 7. 11. 1931, s. XX/11–XX/12.

[1827] Ibidem. Posiedzenie 26, 28. 01. 1932, stlb. 24–26.

нага жыцця і засяродзіўся на праблеме неауніі, у развіцці якой бачыў небяспеку для польскай дзяржаўнасці.

У кароткім гістарычным экскурсе Скірмунт параўнаў унію з вялізным помнікам, які «ззяў на самыя далёкія крэсы нашых даўніх усходніх земляў да Веліжа і Віцебска», але ўжо страціў сваю жывёльную сілу.

Разважаючы над прычынамі краху ўніі у XIX ст., ён заўважыў, што да гэтага спрычыніўся не толькі знешні гвалт, але таксама ўнутраныя праблемы, вытокі якіх ён звязваў з пэўнай «падвоенасцю» ці «гібрыдызмам» уніяцкай царквы: «У галіне дагматыкі ўнія характарызавалася тоеснасцю поглядаў і палажэнняў, на якіх трымаецца ўсходняя царква, з заходнімі прынцыпамі. Затое ў абраднасці захаваліся выразныя сімвалічныя адрозненні. Як вядома, уніяцкая царква ў гэтай галіне набліжалася да праваслаўнай царквы. Гэтая пэўная падвоенасць або гібрыдызм абарочваліся тым, што розум менш адукаваных вернікаў не мог зразумець, чым уніяцкая царква падобная на заходні касцёл і непадобная на ўсходні. Два супрацьлеглыя цэнтры цягнулі вернікаў-уніятаў у розныя бакі. На захад паварочваў стрэлку компасу вялікі рымскі асяродак, на ўсход накіроўваў магутны маскоўскі цэнтр. У гэтай сітуацыі страцілі арыентацыю нават вышэйшыя іерархі ўніяцкай царквы. Магчыма, не было б гэтага краху, калі б уніяцкую царкву не пакінулі ўласныя пастыры. Па-сутнасці, прычынай хуткага і безнадзейнага ўпадку ўніяцкай царквы ў першай палове XIX ст. стаўся якраз іх адыход.

Аднак нельга тлумачыць сыход з уласнай дарогі толькі звычайнай чалавечай нікчэмнасцю. Можна меркаваць, што пэўную адмоўную ролю адыграў той самы гібрыдызм, як я яго назваў, або тая падвоенасць, што была закладзеная ў вытокі ўніі. Магчыма, якраз гэты чыннік павёў іх па фальшывай дарозе і спрычыніўся да ўпадку уніі. Нельга лічыць, што гэты ўпадак адбыўся лёгка, і людзі як авечкі пайшлі за сваімі пастухамі. На самой справе супраціў у тыя часы быў даволі значны, але тагачасныя расійскія ўлады не выбіралі сродкаў. Там, дзе не дзейнічала здрада, ужываліся гвалт, розгі, вайсковыя экспедыцыі, нават гарматы выкатваліся на пазіцыі, што з'яўляецца гістарычным фактам. У выніку гвалту, які дапаўняла навука фальшывых пастыраў, наступіў крах уніі».

Далейшая частка ягонага выступу была прысвечана праекту неауніі. Так, Скірмунт адзначыў, што ягоным аўтарам з'яўляецца ватыканская Камісія «Pro Russia», якая імкнецца пашырыць унію ў савецкай Расіі. Адпаведна шырока ўжывалася руская мова, распаўсюджваліся рускамоўныя малітоўнікі ды іншая рэлігійная літаратура. Усё гэта выклікала хваляванні сярод мясцовай эліты, якіх не разумелі ў Варшаве. Дзеля параўнання Скірмунт прапанаваў сенатарам уявіць існаванне камісіі «Pro Germania», якая б занялася анямечваннем польскага Шлёнска.

Выступоўца сцвярджаў, што акцыя неауніі не была добра прадуманай, і сутыкненне з рэчаіснасцю прымусіла яе арганізатараў адмовіцца ад прарасійскага накірунку і звярнуць увагу на мясцовае насельніцтва. Але гэта пагражала абва-

стрэннем і без таго складаных нацыянальных адносін. Ягоным патэнцыйным ініцыятарам магло стаць якраз уніяцкае духавенства.

Сенатара непакоіла з'яўленне на беларускім Палессі ўніяцкіх прапаведнікаў з Падкарпацця і ўсходняй «Малапольшчы»[1828], таксама іх намер будаўніцтва «візантыйска-славянскай царквы». Гаворка ішла пра небяспеку пранікнення на Палессе ўкраінскага нацыяналізму. Скірмунт рашуча выступіў супраць з'яўлення гэтых прапаведнікаў. Ён нагадаў сенатарам, што існуе гістарычная, этнічная і эканамічная мяжа паміж «Руссю літоўскай» і «Паўднёва-заходнім краем» або паміж Палессем і Валынню. Ён закончыў свой выступ зваротам да ўрада з просьбай не выпускаць з поля зроку праект неауніі і дзейнічаць у кантакце з іерархамі каталіцкага касцёла. На яго думку, толькі ў гэтым выпадку маглі быць задаволены патрэбы касцёла, дзяржавы, польскай нацыі і «люду, які насяляў памежныя тэрыторыі»[1829].

Здаецца, што гэта быў адзін з найбольш яркіх выступаў сенатара Рамана Скірмунта, які сваёй энергетыкай нагадваў ягоныя выступы ў Дзяржаўнай Думе. Ён казаў пра тое, што хвалявала яго як краёвага палітыка, зямяніна і палешука, які адстойваў пэўныя культурныя і гістарычныя традыцыі былой Літвы і Палесся.

Міністр рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы Януш Енджэевіч, падводзячы вынікі дыскусіі, спыніўся на праблеме неауніі і адзначыў, што пазіцыя ўрада грунтуецца на канкардаце. Ён таксама заявіў пра адсутнасць перамоў з Апостальскай сталіцай адносна ўвядзення «візантыйскага абраду» і прызнаўся, што «ўрад уважліва назірае за развіццём уніі»[1830].

Тэзіс «непрадуманасці» пашырэння г. зв. «усходняга абраду» на тэрыторыі Польшчы больш грунтоўна быў раскрыты Скірмунтам у артыкуле «Складаная праблема», апублікаваным у зборніку «Новыя формы касцёльнай уніі ў Польшчы»[1831]. Аўтар засяродзіўся на прычынах няўдачы ўсяго праекта, абумоўленых традыцыйна негатыўным стаўленнем да ўніі з боку расійскіх свецкіх і духоўных эліт, а таксама яе непрыняццям палешукамі.

Скірмунт прыгадаў знішчэнне ўніяцкай царквы ў Беларусі ў 1839 г., а таксама пашыранае перакананне расійскай эліты ў яе «здрадніцкім» характары. Аўтар пераказаў размову наконт уніі пэўнага «пана Х» (магчыма, гэта быў ён сам) з адным з найбольш ліберальных расійскіх палітыкаў Аляксандрам Стаховічам на пачатку Першай сусветнай вайны, а таксама ягоную ж размову на Дзяржаўнай нарадзе ў Маскве ў 1917 г. з былым дэпутатам I Дзяржаўнай Думы і сябрам партыі кадэтаў ксяндзом Сіпягіным. Першы шмат казаў пра талерантнасць праваслаўных рускіх у дачыненні да палякаў у Галіцыі, але катэгарычна адмаўляў нешта падоб-

---

1828 Гаворка ішла пра Львоўскае, Станіславаўскае і Тарнопальскае ваяв.
1829 Ibidem. Posiedzenie 30, 1. 03. 1932, stlb. 24–29.
1830 Ibidem, stlb. 75.
1831 R. Skirmuntt, *Zawiłe zagadnienie,* (у:) *Nowe formy unii kościelnej w Polsce*. Słonim 1932.

нае ў стасунку да мясцовых уніятаў. Другі лічыў унію ў Расіі цалкам безнадзейнай справай і спадзяваўся на поспех каталіцкага Касцёла з лацінскім абрадам[1832].

Вельмі крытычна Скірмунт выказаўся наконт выкарыстання ў місіянерскай дзейнасці ў Расіі беларускіх і ўкраінскіх прапаведнікаў. Ён адзначыў, што іх будуць успрымаць як «двайных здраднікаў», бо да гэтага часу расійскія эліты не прызнаюць існавання ні беларускай, ні ўкраінскай нацый[1833].

Што датычыць сітуацыі на беларускіх землях, то аўтар канстатаваў абумоўленае палітыкай русіфікацыі пераўтварэнне каталіцызму ў «польскую веру», а праваслаўя – у «рускую веру» з выцякаючымі наступствамі. Ён адзначыў непрыняцце гэтага становішча з боку беларускага каталіцкага духавенства і нешматлікай нацыянальнай інтэлігенцыі, у т. л. «бязбожнікаў». Дарэчы, якраз у асяродку апошніх Скірмунт бачыў найбольш актыўных прыхільнікаў уніі, якія імкнуліся збудаваць «нацыянальную царкву». Аўтар сцвярджаў, што ніякіх пазітыўных вынікаў гэта не дало. Маўляў, каталікі не разумеюць навошта ім яднанне з праваслаўем, а стаўленне праваслаўных да ўніі вызначана яшчэ былой расійскай школай[1834].

У выніку ўнія знайшла толькі нешматлікіх прыхільнікаў. Аўтар параўнаў яе з домам, што будуецца на пяску, і адзначыў перавагу каталіцкага Касцёла, які, на яго думку, быў «збудаваны на скале»[1835] і арыентаваны на духоўную дасканаласць чалавецтва: «Ён развіваецца і працуе сярод людзей і для людзей, ён улічвае іх патрэбы і разумее нацыянальныя і дзяржаўныя праблемы. Адпаведна ўласнай місіі, супрацоўнічае з дзяржавай, спрыяе культурнаму развіццю народаў, жыве з імі адным жыццём, дзеліць долю і нядолю. Яго любяць, лічаць сваім уласным, амаль нацыянальным, хоць ён застаецца агульнасусветным носьбітам Слова»[1836].

Скірмунт прызнаваў важнае значэнне пашырэння «ўсходняга абраду» на тэрыторыі савецкай Расіі, але пры гэтым пісаў пра ягоную небяспеку для Польскай дзяржавы і каталіцкага Касцёла: «Увядзенне расійскага абраду на нашых землях, яго пранікненне ў Касцёл значна ўзмацняе значэнне расійскага элемента ў нашым доме. Гэта шкодна для дзяржаўных інтарэсаў, а для Касцёла штучнае перасоўванне мяжы ўсходніх уплываў на захад з'яўляецца вельмі сумніўным здабыткам. Да нас едуць, як на Суматру або Барнео, місіянеры з Францыі, Галандыі і Фландрыі, захопленыя ўзнёслай ідэяй яднання. Але яны крочаць не тымі дарогамі, яны не чуюць голаса нашай гісторыі, не ведаюць нашага вопыта, не адчуваюць, што нам баліць, і што нам шкодзіць»[1837].

---

[1832] Ibidem, s. 8.
[1833] Ibidem, s. 9.
[1834] Ibidem, s. 11.
[1835] Ibidem, s. 12.
[1836] Ibidem, s. 13.
[1837] Ibidem, s. 16–17.

Між тым, Расія ў кожным сваім вобразе застаецца ворагам Польшчы: «Для іх нашая незалежнасць як костка ў горле. Як і гакатысты з-над Шпрэі, яны не могуць забыць, што пасля падзелаў былі гаспадарамі на нашай зямлі, якая ніколі раней не знаходзілася ў залежнасці ад Масквы»[1838].

Скірмунт таксама адзначыў небяспеку дзейнасці ўкраінскіх уніяцкіх місіянераў («украінізму») для «польска-беларускіх земляў», прыгадаўшы, што Палессе апынулася ў межах Украіны дзякуючы нямецкім картам Першай сусветнай вайны[1839].

Апошняя частка артыкула нагадвала вышэйзгаданы тэкст у «Слове» («Скажам ясна…»), толькі тут па-іншаму расстаўлены акцэнты. На першым плане апынулася не важнасць звышзадачы, пастаўленай у Ватыкане, а інтарэсы «польска-беларускіх земляў»: «Русіфікацыя каталіцкага Касцёла на тэрыторыі крывавага шматвяковага змагання заходняй культуры з усходняй нагадвае небяспечную капітуляцыю. З пазіцыі дзяржаўных інтарэсаў – гэта небяспека, ад якой трэба абараняцца. Сяўба, якая можа даць добры ўраджай на прасторах далёкага ўсходу, на нашых землях абернецца атручаным плодам. Паўстануць канфлікты, замяшанне, недавер і хваляванне»[1840].

Стаўленне Рамана Скірмунта да праблемы неауніі грунтавалася на пазіцыі патрыёта польскай дзяржавы і яе ўсходніх «польска-беларускіх земляў». Пагаджаючыся з надзвычай важнай задачай усяго гэтага праекта, ён рэзка крытыкаваў ягоную рэалізацыю на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў міжваеннай Польшчы. Скірмунт звярнуў увагу на прарасійскі характар усёй акцыі і выказаў меркаванне, што яна абернецца ўмацаваннем менавіта расійскіх уплываў сярод мясцовага насельніцтва. Ён не верыў у перспектывы беларускага праекта адраджэння грэка-каталіцкай царквы і выступаў прыхільнікам далейшага ўмацавання і пашырэння каталіцкага Касцёла з лацінскім абрадам.

Дарэчы, ягоную ацэнку «ўсходняга абраду» цалкам падзяляла Канстанцыя Скірмунт, якая даволі часта выказвалася на гэтую тэму на старонках «Пшэглёнда Віленскага». Пра гэта пісаў прафесар Дарыуш Шпопэр у кнізе пра Канстанцыю Скірмунт[1841]. Аднак пры гэтым ён цалкам праігнараваў выразную сімпатыю публіцысткі да Беларусі і беларусаў, якая была адной з падстаў непрыняцця праекта неауніі. Так, у артыкуле «Забыццё гісторыі»[1842] яна падкрэслівала, што першая «станцыя» неауніі была створана якраз на беларускай зямлі (в. Альбертын каля Слоніма), якая «ніколі не была расійскай». Канстанцыя Скірмунт адзначала, што Беларусь «ад самых пачаткаў сваёй гісторыі імкнулася да незалежнасці, мужна змагалася за яе на працягу некалькіх пакаленняў сваіх князёў, нарэшце,

[1838] Ibidem, s. 17.
[1839] Ibidem, s. 21.
[1840] Ibidem.
[1841] D. Szpoper, *Gente Lithuana, Natione Lithuana*…, s. 409–415.
[1842] Futurus [K. Skirmuntt], *Zapomnienie historii*, «Przegląd Wileński». 1931, Nr 20, 8 listopada.

абяскроўленая гвалтам, усё ж адарвалася ад мацнейшых Кіева і Масквы і далучылася да даўняй Літвы». У выніку яна абаранілася ад татарскай няволі, якая на два стагодзі апанавала расійскія і ўкраінскія землі, пазбегла Іванаў Грозных і Пятроў І, разам з усім усходнім славянскім светам прыняла рэлігійную ўнію і пачала развіваць уласную культуру.

Публіцыстка заклікала мясцовую «краёвую адукаваную супольнасць» не змагацца з нацыянальным адраджэннем беларусаў, а падтрымаць яго як натуральны і непазбежны працэс. Пазіцыю непрыняцця беларускага Адраджэння яна тлумачыла «забыццём гісторыі», што лічыла вынікам двухсот год расійскага панавання.

Але вернемся ў Сенат. 25 сакавіка 1933 г. Раман Скірмунт прэзентаваў законапраект Камісіі па вайсковых справах пра ўвядзенне ордэна *Virtuti Militari*. Ён нагадаў, што гісторыя ордэна распачалася ў 1792 г. у часы Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Тады ягонае з'яўленне выклікала незадавальненне ўсходняга суседа, які ўбачыў у гэтым імкненне да вайсковага ўмацавання Рэчы Паспалітай. Між тым, апошняе, паводле сенатара Скірмунта, павінна быць нашым першачарговым клопатам: «Няхай рука будзе моцнай, узброенай, спраўнай, а ў сэрцы няхай жыве мір – гэта найлепшы адказ на ўсе магчымыя прыгоды, якія рыхтуе нам невядомы лёс»[1843]. Менавіта развіццё вайсковай справы ва ўсіх яе формах ён лічыў галоўнай мэтай адраджэння ордэна. Дарэчы, законапраект рабіў яго даступным нават для цывільных. Таксама ўводзіўся дзень свята ордэна – 11 лістапада. Законапраект быў прыняты без дыскусіі.

8 мая 1933 г. на сесіі Нацыянальнага сходу, які ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 1921 г. складаўся з дэпутатаў Сейма і сенатараў, адбыліся выбары прэзідэнта. Пілсудскі пасля пэўных ваганняў падтрымаў кандыдатуру Ігнацыя Масціцкага, які і быў абраны. За яго прагаласавала 332 парламентарыя (з 343 прысутных). Шэраг «левых» партый, а таксама нацыянальныя дэмакраты байкатавалі выбары.

Раман Скірмунт таксама галасаваў за Масціцкага. Пазней на старонках «Слова» ў артыкуле «Пасля сесіі» ён назваў вынікі выбараў «шчаслівымі»: «За сем гадоў свайго прэзідэнцтва ён [Ігнацы Масціцкі – *А. С.*] сваім тактам, безстароннасцю, важнасцю сваіх выступаў здабыў агульную прыхільнасць і павагу. З годнасцю прэзентаваў Рэч Паспалітую ў замежжы. Нам добра вядомая моц падмуркаў нашага дзяржаўнага быту, а для замежжа гэты выбар будзе жывым знакам стабільнасці нашага ўнутранага жыцця»[1844].

Скірмунт адзначыў адсутнасць на выбарах прадстаўнікоў шэрагу партый і не ўтрымаўся ад заўвагі ў адрас нацыянальных дэмакратаў, якія нібыта «прэзентуюць сябе адзінымі змагарамі за дзяржаву і права, а апынуліся ў адной лодцы з тымі, хто ніякай лаяльнасці да дзяржавы не мае».

Дарэчы, на пачатку артыкула аўтар прыгадаў, што ў сваім «працяглым жыцці

---

[1843] Senat Rzeczypospolitej Polskiej. Okres III. Posiedzenie 57, 25. 03. 1933, stlb. 8.

[1844] R. Skirmuntt, *Po skończonej Sesji*, «Słowo». 1933, Nr 135, 19 maja.

быў сябром трох ці нават чатырох заканадаўчых інстытутаў». Тым самым, не называючы Рады БНР, ён усё ж і яе ўлічваў у сваёй палітычнай біяграфіі.

Значнае месца ў артыкуле занялі аўтарскія разважанні пра сусветны эканамічны крызіс і ягоны негатыўны ўплыў на польскую гаспадарку. Аўтар працытаваў прэзідэнта ЗША Рузвельта, які заявіў, што Амерыка не выйдзе з крызісу, пакуль не палепшыцца эканамічная сітуацыя ва ўсім свеце. Гэты экскурс быў патрэбны, каб пераканаць чытача, што крытыкі сучаснага ўрада – гэта «фальшывыя прарокі». Ён даводзіў, што, насамрэч, «урад ведае эканамічную сітуацыю, назірае за ёй і робіць усё магчымае, каб дапамагчы тым, каму сёння найцяжэй».

Скірмунт станоўча ацаніў прыняцце на гэтай сесіі закона пра ўніверсітэты. Апазіцыя сцвярджала, што ён знішчае аўтаномію ўніверсітэтаў і абяцала масавыя пратэсты. Аднак абышлося без іх. Паводле Скірмунта, універсітэцкая аўтаномія была прыведзеная ў адпаведнасць з патрэбамі дзяржавы. У артыкуле таксама згадвалася рэформа самакіравання і меліярацыя Палесся, аднак рэдакцыя скараціла тэкст і пакінула толькі згадкі пра іх.

Упершыню ў сваёй палітычнай біяграфіі Раман Скірмунт выступаў у ролі публічнага адваката ўрада. Магчыма, рэгулярныя кантакты з прадстаўнікамі «партыі ўлады», прысутнасць на пасяджэннях парламенцкага Клуба ББСУ, нарэшце, роля прадстаўніка «пілсудчыкаў» у Сенаце, а таксама ўдзел у палітычных і грамадскіх акцыях «партыі ўлады» істотна паўплывалі на ягоную пазіцыю.

У артыкуле Скірмунт выступаў як прыхільнік палітыкі ББСУ і асабіста Юзафа Пілсудскага. Ён звярнуў увагу на пашырэнне дыктатарскіх рэжымаў у Еўропе, у прыватнасці, у Італіі, Югаславіі, Партугаліі, Румыніі, Літве, Германіі, і спыніўся на Польшчы, палітычны лад якой таксама часам характарызавалі як дыктатуру. Згадаўшы абвінавачванні апазіцыі, ён не стаў іх аспрэчваць, але адзначыў, што Польшча мае дэмакратычна абранае нацыянальнае прадстаўніцва і свабоду слова. Але галоўным гарантам таго, што Польшча не пойдзе шляхам вышэй згаданых краін, паводле аўтара, была асоба «правадыра»: «Мы павінны дзякаваць Божай волі, што маем такога Правадыра. Пра яго можна сказаць тое, што казаў Гомэр пра выбітную міфалагічную постаць: Яму дадзеная моц, іншыя пры ім – цень. Няхай жыве Правадыр Маршалак Юзаф Пілсудскі! Няхай жыве доўга!»

Раман Скірмунт ніколі не праяўляў схільнасці да сервілізму, і ягоную прыхільнасць да палітыкі «партыі ўлады» і асобы Пілсудскага можна патлумачыць толькі сімпатыяй да моцнай улады. Яна праяўлялася і на ранейшых этапах ягонай палітычнай дзейнасці, хоць і не афішавалася. Якраз такі погляд дамінаваў у «пілсудчыкаў», і Раман Скірмунт у пэўны момант стаўся таксама ягоным публічным носьбітам. Але, чытаючы ягоныя тэксты, адчуваеш прысутнасць у іх пэўнага «другога плану». Згадваючы артыкул пра «Караля–духа», можна сцвярджаць, што Скірмунт быў праціўнікам палітычных рэпрэсій з боку «партыі ўлады» і спадзяваўся на паяднанне польскай грамадскасці і яе палітыкаў на падмурку інтарэсаў Польскай дзяржавы.

Між тым, «лагер пілсудчыкаў» працягваў рэпрэсіўную палітыку. Пасля адабрэння Пілсудскім у Польшчы быў створаны лагер для палітычных праціўнікаў «рэжыму санацыі». Прэзідэнт Масціцкі ў чэрвені 1934 г. падпісаў указ пра стварэнне г. зв. «месца ізаляцыі» ў Бярозе-Картузскай. Гэтае рашэнне было прыспешана забойствам сябрамі Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў (АУН) міністра ўнутраных спраў Бранiслава Перацкага ў тым самым чэрвені 1934 г. Але, відавочна, што галоўнай прычынай ягонага стварэння было нежаданне «партыі ўлады» адмаўляцца ад рэпрэсій супраць сваіх палітычных праціўнікаў.

Беларускія гісторыкі часам параўноўваюць лагер у Бярозе-Картузскай з лагерамі сталінскага ГУЛАГу. Аднак у іх польскім аналагу рэжым быў больш лагодны. Тут не было масавых забойстваў, хоць здараліся смяротныя выпадкі. Затое адміністрацыя рабіла ўсё магчымае, каб пазбавіць зняволеных не толькі палітычнай, але і чалавечай годнасці. Гэта была самая жахлівая турма ІІ Рэчы Паспалітай, якая моцна прычынілася да абвінавачванняў правячай эліты ва ўстанаўленні «фашысцкага рэжыму».

Праз лагер прайшлі каля трох тысяч чалавек. Пераважна гэта былі сябры АУН, польскія нацыяналісты з Нацыянальна-радыкальнага лагера, сябры Камуністычнай партыі Польшчы і яе заходнебеларускага і заходнеўкраінскага «філіялаў», дзеячы ППС і Людовай партыі. Звычайна зняволенне было вынікам рашэння адміністрацыі.

Магчыма, менавіта інфармацыя пра стварэнне гэтага лагера і ўмовы ўтрымання зняволеных спрычынілася да напісання Скірмунтам артыкула «Да новай дзяржавы» («Ku nowemu państwu»)[1845]. У гэтым артыкуле аўтар паспрабаваў больш грунтоўна ахарактарызаваць паварот шматлікіх еўрапейскіх дзяржаў да дыктатарскіх рэжымаў як да «новай дзяржавы» і выказаў меркаванне адносна перспектыў дыктатуры ў Польшчы.

Галоўнымі прычынамі азначаных перамен у грамадскім і палітычным жыцці краіны Скірмунт лічыў, «псіхічныя і гаспадарчыя патрасенні, якія выклікала Першая сусветная вайна»; пасляваенныя геапалітычныя змены, з якімі не пагадзіўся прайграўшы бок; а таксама ўзнікненне новай дзяржавы, варожай да культуры ўсяго чалавецтва. У апошнім выпадку гаворка ішла пра СССР. Паводле аўтара, гэта была краіна, дзе «рай пахне пеклам», і дзе «людзям накінулі ярмо, з якога няма сіл выбрацца». І ў той жа час з гэтай «пасіўнай масы ў кайданах бальшавіцкая ўлада стварыла грозную і паслухмяную рабскую сілу», якая пагражае ўсяму свету. Бальшавіцкая пагроза прымушае ўзмацняць абараноздольнасць, а гэта ў сваю чаргу і вядзе да нараджэння «новай дзяржавы» з абмежаваннем дэмакратычных свабод.

У якасці характэрных тыпаў «новай дзяржавы» Скірмунт назваў Італію з уладай Мусаліні, Югаславію і Германію, дзе «ніхто не здолеў прадбачыць моц

[1845] R. Skirmunt, *Ku nowemu państwu,* «Słowo», 1933, Nr 348, 22 grudnia.

гітлераўскага перавароту». Аўтар таксама заўважыў з’яўленне рысаў «новай дзяржавы» нават у палітычным ладзе Францыі і Англіі. Ён сцвярджаў пэўную непазбежнасць яе будаўніцтва і адзначыў пэўны пазітыў гэтага працэса пры ўмове, што «будаўнік» такой дзяржавы будзе думаць пра карысць для людзей і кіравацца «здаровай і ўзнёслай ідэяй». Аднак якраз з гэтым і паўсталі найвялікшыя праблемы, бо для «новай дзяржавы» характэрны раскол на ўладароў і нявольнікаў, а таксама панаванне бюракратыі. «Чорныя і карычневыя кашулі, – пісаў Скірмунт, – кіруюць у Італіі і Германіі. З здзіўленнем глядзіць абываталь на гмах новай дзяржавы і думае: Толькі, каб мяне яна не знішчыла сваім цяжарам, толькі каб не вярнула паншчыны ўжо для ўсіх».

Скірмунт заклікаў да асцярожнай «перабудовы». У палітычных рэжымах Італіі і Германіі ён бачыў люстраны адбітак бальшавізму. Сенатар прыгадаў словы аднаго з расійскіх генералаў, які ў барацьбе Калчака з бальшавікамі разгледзеў той самы бальшавізм, толькі не чырвоны, а белы, і выказаў упэўненасць, што гэта шлях да пагібелі.

«Кансерватар» Скірмунт у гэтым тэксце выступіў прыхільнікам лібералізму. Ён абараняў дамінаванне ў дзяржаве «самадастатковых і моцных індывідуумаў», а таксама «жывой думкі», якая не павінна падаўляцца. Надзею на гэта сенатар звязваў з постаццю «правадыра», імя якога не называлася, але чытач разумеў, што гаворка ішла пра Пілсудскага. Менавіта асоба Маршалка нараджала спадзяванні, што ў гэтым працэсе будуць дамінаваць «евангельскія ісціны».

Аднак, нягледзячы на ўсе рэверансы ў бок Пілсудскага ў артыкуле адчуваецца боязь, што і Польшча можа ператварыцца ў «новую дзяржаву» кшталту Італіі ці Германіі. Заявы Скірмунта пра немагчымасць падобных перамен, звязаныя з постаццю «правадыра», нечым нагадвалі заклінанні супраць злых духаў. Зноў можна сцвярджаць прыхаваную апазіцыйнасць Скірмунта ў дачыненні да палітыкі «партыі ўлады».

Згаданы артыкул быў перaказаны ў «Кур’еры Варшаўскім» (Nr 356, 28 снежня 1933 г.) пад назвай «Уздых незалежнага грамадзяніна». У пераказе на першым плане апынулася перакананне аўтара, што знішчэнне грамадзянскіх свабод вядзе грамадства ў тупік. Варта адзначыць, што «Кур’ер Варшаўскі» быў органам Хрысціянска-нацыянальнай партыі, якая супрацоўнічала з польскімі нацыянальнымі дэмакратамі і захоўвала дыстанцыю ў стасунку да ББСУ.

Магчыма, пэўная апазіцыйнасць Скірмунта таксама праяўлялася ў ягоным стаўленні да працы Канстытуцыйнай камісіі Сената, сябрам якой ён з’яўляўся. У многіх пасяджэннях Камісіі ён не ўдзельнічаў, у іншых не праяўляў звычайнай актыўнасці.

Варта заўважыць, што канстытуцыйны праект ББСУ адкідаў канцэпцыю падзела ўлады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую, прызнаючы за дзяржавай дамінуючую ролю ў прававой сістэме. Яе галоўным прадстаўніком станавіўся прэзідэнт, паўнамоцтвы якога значна пашыраліся. Аўтары праекта сцвярджалі

ідэнтычнасць інтарэсаў дзяржавы і грамадства, спрабавалі паяднаць прынцып моцнай дзяржаўнай улады і свабоду асобы. Аднак палітычныя рэаліі ставілі пад сумнеў апошняе.

Як сябра «партыі ўлады» Скірмунт публічна падтрымліваў канстытуцыйную рэформу. У прыватнасці, напрыканцы жніўня 1933 г. ён кіраваў сходам АКДП у будынку Віленскага зямельнага банка. Галоўнай тэмай сходу было абмеркаванне канцэпцыі рэарганізацыі працы Сената, якую прапанаваў Валеры Славэк. З рэфератам выступіў князь Сапега, які пазітыўна ацэньваў канцэпцыю і намеры яе аўтара. Потым адбылася дыскусія, па выніках якой Скірмунт канстатаваў: «Прынцыпы канстытуцыйнай рэформы, прапанаваныя палкоўнікам Славэкам, сход лічыць адпаведнымі, а правядзенне на іх падмурку рэформы Канстытуцыі пажаданым»[1846].

Паводле захаваных дакументаў, сенатар Раман Скірмунт толькі тройчы выказваўся падчас «канстытуцыйных» дыскусій ў парламенцкім Клубе ББСУ. Гэтая актыўнасць датычыла верасня 1933 г. Так, 8 верасня ён прапанаваў абавязкова накіроўваць у Сенат рэзалюцыю Сейма па абвінавачванні ўрада ў парушэнні Канстытуцыі: «Калі Сенат мае права голасу ў справе недаверу да ўрада, то павінен таксама мець права голаса пры абвінавачванні ўрада ў парушэнні Канстытуцыі»[1847]. Праз чатыры дні Скірмунт выказаўся супраць узроставага абмежавання (70 год) для ўдзелу ў выбарах у Сейм і Сенат. Ён прывёў шматлікія прыклады актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці людзей, больш сталага ўзросту[1848].

15 верасня Скірмунт выступіў падчас абмеркавання Статута «Каманды грамадзян» («Kadry Obywatelskiej»). Гэта была ідэя Славэка па стварэнні элітарнага слою «лепшых грамадзян», якія б мелі больш праў, чым «звычайныя». Скірмунт падтрымаў прапанову, што толькі прадстаўнікі эліты маглі кааптаваць сяброў у яе склад. Ён таксама лічыў патрэбным стварэнне пэўнага «сіта» дзеля адбору «лепшых грамадзян» і гатовы быў даручыць гэтую ролю ваяводскім камітэтам ББСУ[1849].

А вось у Сенаце ён ніколі не выступаў ад імя Канстытуцыйнай камісіі, затое часта інфармаваў пра вынікі працы Камісіі па вайсковых справах. Апошні ягоны выступ у Сенаце адбыўся 15 сакавіка 1934 г. Скірмунт прэзентаваў законапраект пра супрацьпаветраную і супрацьгазавую абарону. Ён казаў пра рост небяспекі ў сувязі з развіццём паветраных войск і працай над новымі тыпамі баявых газаў. Прапанаваны Камісіяй законапраект вызначаў дзеянні розных тыпаў уладаў і не толькі іх: «Вайсковае камандаванне павінна мець усе прэрага-

---

[1846] *Zebranie dyskusyjne*, «Słowo». 1933, Nr 236, 30 sierpnia; Turbator, W *ogonie*, «Przegląd Wileński». 1933, Nr 15–6, 24 września.

[1847] AAN. Sygn.. 62/II, j. 79, k. 25.

[1848] Ibidem, k. 32.

[1849] Ibidem, k. 45.

тывы ўлады дзеля арганізацыі эфектыўнай і ўсебаковай абароны насельніцтва. Выканаўчая ўлада павінна атрымаць дырэктывы, каб ведаць, у якім накірунку дзейнічаць, каб выканаць сваю задачу. Грамадзянін павінен ведаць пра свае абавязкі і задачы, якія давядзецца яму вырашаць»[1850]. Законапраект быў прыняты большасцю галасоў.

У студзені 1935 г. Раман Скірмунт далучыўся да большасці сенатараў, якія прагаласавалі за прыняцце новай Канстытуцыі[1851]. 23 красавіка пасля зацвярджэння Сеймам, Канстытуцыя была падпісана прэзідэнтам. На наступны дзень яна была апублікавана, і набыла моц галоўнага закона краіны. Прыняцце новай Канстытуцыі было сур'ёзным крокам польскай палітычнай эліты на шляху да аўтарытарызму.

Але Юзафу Пілсудскаму не было наканавана стаць прэзідэнтам паводле новай Канстытуцыі. 12 мая 1935 г. ён памёр. Ягонае пахаванне нагадвала акт агульнанацыянальнага яднання. Аднак, папраўдзе, «рэжым санацыі» толькі паглыбіў раз'яднанасць польскага грамадства. А смерць лідэра «партыі ўлады» амаль адразу высветліла супярэчнасці ў яе шэрагах.

У ліпені 1935 г. былі прыняты новыя законы пра арганізацыю выбараў у Сейм і Сенат. Замест партыйных спісаў уводзіўся адзіны спіс кандыдатаў у выбарчай акрузе, які зацвярджаўся акруговым выбарчым сходам. Акругі станавіліся двухмандатнымі, хоць колькасць дэпутатаў істотна скарацілася. Выбары ў Сенат страцілі ўсеагульны і прамы характар. Спачатку абіраліся выбаршчыкі, якія пазней абіралі сенатараў. Трэць сенатараў прызначаў прэзідэнт. У гэтай сітуацыі ўзрастала роля Сейма.

Выбары ў Сейм і Сенат былі прызначаны адпаведна на 8 і 15 верасня 1935 г. У Палескім ваяв. былі створаны тры акругі па выбарах у Сейм і адна – па абранні сенатараў. Падчас гэтых выбараў на Палессі сутыкнуліся амбіцыі дзеячаў лакальных структур ББСУ, грамадскіх арганізацый і мясцовай адміністрацыі. Прычым усе яны належалі да «партыі ўлады». Найбольш гучны скандал выбухнуў у Пінскай выбарчай акрузе (№ 55). 14 жніўня ў Пінску адбыўся акружны выбарчы сход, які павінен быў зацвердзіць спіс чатырох кандыдатаў у дэпутаты Сейма і вызначыць месца кожнага з іх у гэтым спісе. Паколькі абіраліся толькі два дэпутаты, паслядоўнасць у спісе адыгрывала важную ролю.

Адміністрацыя ў асобе пінскага старасты Э. Цэдзіньскага праявіла празмерны «клопат» пра вынікі гэтага пасяджэння. Напярэдадні ягоныя ўдзельнікі атрымалі ад старасты запрашэнне на сустрэчу, якое вельмі нагадвала загад. Таксама староста заявіў, што галасаванне будзе адкрытым, што цалкам пярэчыла існуючаму заканадаўству. На наступны дзень высветлілася, што ў прапанаваным адміністрацыяй спісе кандыдатаў прысутнічаюць прадстаўнікі варшаўскай

---

[1850] Senat Rzeczypospolitej Polskiej. Okres III. Posiedzenie 67, 15. 03. 1934, stlb. 60.
[1851] Ibidem. Posiedzenie 69, 16. 01. 1935, stlb. 104.

палітычнай эліты і… жонка старасты Зоф'я Цэдзіньска. Галасаванне ператварылася ў фарс, бо ягоныя вынікі не задавальнялі старасту, і старшыня сходу тройчы пералічваў галасы, кожны раз атрымліваючы іншыя лічбы.

Абураныя выбаршчыкі, сярод якіх вылучаліся постаці Рамана Скірмунта, Караля Радзівіла і Станіслава Алявіньскага, звярнуліся з пратэстам да ваяводы, а таксама ў Варшаву. Іх незадавальненне таксама было абумоўлена выбраннем на першыя месцы кандыдатаў, якія не былі звязаны з Палессем. Пратэсты адыгралі ролю, і галасаванне давялося паўтарыць. З. Цэдзіньска зняла ўласную кандыдатуру, а яе муж страціў пасаду[1852].

Старшынём паўторнага выбарчага сходу стаў вядомы на Піншчыне землеўласнік С. Алявіньскі, а сакратарамі сходу – Раман і Кацпер Скірмунты і Аляксандр Берг. У выбаршчыкаў ужо не было падставы для пратэстаў, але на першых месцах выбарчага спісу засталіся тыя ж варшавяне Ян Фрэйман і Францішак Кольбуш, якія перамаглі на выбарах 14 жніўня. Кандыдаты групы праціўнікаў пінскага старасты аказаліся на трэцім і чацвёртым месцах і адпаведна страцілі шанс быць абранымі[1853].

Наогул, у Палескім ваяв. выбары ў Сейм закончыліся перамогай кандыдатаў ББСУ. Зрэшты, іншага і быць не магло, бо апазіцыя фактычна байкатавала парламенцкія выбары. Кандыдаты ББСУ перамаглі таксама на выбарах у Сенат. Праўда, і тут сутыкнуліся інтарэсы адміністрацыі (ваявода Вацлаў Костак-Бярнацкі) і ваяводскай арганізацыі ББСУ (кіраўнік Эдвард Дунін-Маркевіч). В. Костак-Бярнацкі выкарыстаў выбарчую кампанію, каб пазбыцца ўплываў Э. Дуніна-Маркевіча. У выніку мясцовы кіраўнік ББСУ не быў нават абраны ў склад ваяводскай калегіі па выбарах у Сенат, што выклікала крызіс самой ваяводскай арганізацыі ББСУ[1854].

Як сведчаць дакументы контрвыведкі IX корпуса, Дуніна-Маркевіча актыўна падтрымлівала група палескіх землеўласнікаў на чале з Раманам Скірмунтам[1855]. Наогул, эліта землеўласнікаў Палесся вельмі крытычна ставілася да асобы ваяводы і ягонай дзейнасці. Аднак і Костак-Бярнацкі наўрад ці быў задаволены вынікамі выбараў у Сенат. Выбаршчыкі прагаласавалі за Пятра Алявіньскага і палкоўніка Юзафа Таўбэ. П. Алявіньскі належаў да Саюза паляпшэння Рэчы Паспалітай («Związek Naprawy Rzeczypospolitej» альбо «Naprawa»), які знаходзіўся на «левым» фланзе «лагера пілсудчыкаў» і выступаў супраць узмацнення аўтарытарызму.

---

[1852] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, s. 365.

[1853] P. Cichoracki, *Wybory parlamentarne w okręgu Nr 55* (*Pińsk, Łuniniec, Stolin*), «Гістарычная брама». 2010, № 1. Рэжым доступу: http://brama.brestregion.com/nomer25/artic05.shtml. Дата доступу: 15.05.2018.

[1854] И. Ким, *Парламентские выборы 1935 г. в Полесском воеводстве,* «Гістарычная брама». 2009, № 1, с. 46.

[1855] ДАБВ. Ф. 67, воп. 1, спр. 2086, арк. 27.

Менавіта гэта і не падабалася ваяводзе. Дарэчы, кантакты Р. Скірмунта з братамі Алявіньскімі таксама сведчаць на карысць ягонай апазіцыі аўтарытарызму як дамінуючаму стылю кіравання «партыі ўлады». Апрача таго, з С. Алявіньскім яго, магчыма, звязвалі пэўныя сваяцкія адносіны, бо жонка апошняга Аляксандра паходзіла з роду Скірмунтаў.

Падводзячы вынікі выбарчай кампаніі ў Палескім ваяв., ізноў даводзіцца канстатаваць вырашальную ролю «адміністрацыйнага чынніка». Паводле расійскага даследчыка І. Кіма, «улады зрабілі ўсё магчымае дзеля перамогі праўрадавых сіл, уключаючы адпаведны падбор сяброў выбарчых інстытуцый (акружных камісараў, сяброў выбарчых камісій, дэлегатаў выбарчых сходаў). Дакументы ўтрымліваюць доказы ціску і прымусу з боку ўладаў з мэтаю схіліць насельніцтва (асабліва вясковае) да ўдзелу ў выбарах і галасавання за вызначаных уладамі кандыдатаў. Таксама дакументы сведчаць (пераважна ўскосна) пра парушэнні ўладамі выбарчага заканадаўства і фальсіфікацыю вынікаў выбараў»[1856].

П. Ціхарацкі выказаў думку, што ход выбараў у Палескім ваяв. і асабліва скандал у Пінску быў праявай пэўнага крызісу «партыі ўлады». У наступныя месяцы канкурэнцыя паміж адміністрацыяй і грамадскімі арганізацыямі толькі абвастрылася. Самаліквідацыя ББСУ (30 кастрычніка 1935 г.) яшчэ больш ускладніла сітуацыю. Мясцовыя прыхільнікі «рэжыму санацыі» пачалі пошук новай формы інстытуцыянальнага аб’яднання. Яе знайшлі толькі ў 1937 г., калі быў створаны Лагер нацыянальнага адзінства (ЛНА) (Obóz Zjednoczenia Narodowego), у ідэалогіі якога нацыяналізм спалучаўся са схільнасцю да таталітарызму. Якраз Лагер заняў дамінуючыя пазіцыі ў асяродку праўрадавых структур і арганізацый Палескага ваяв.[1857]

Гэты сюжэт варта закончыць інфармацыяй пра апошнія парламенцкія выбары ў гісторыі ІІ Рэчы Паспалітай, якія адбыліся ў лістападзе 1938 г. Яны праходзілі ў атмасферы абвастрэння міжнароднай сітуацыі ў Еўропе, кульмінацыяй чаго стала Мюнхенскае пагадненне 29–30 верасня 1938 г. Польшча выкарыстала капітуляцыю Чэхаславакіі і яе саюзнікаў перад Гітлерам, каб захапіць тэрыторыю г. зв. «Заользя», землі былога Княства Цешыньскага. Гэтая «перамога» віталася польскай грамадскасцю і яшчэ больш умацавала пазіцыі «партыі ўлады». Дарэчы, яе лідэрамі ў гэты час былі прэзідэнт І. Масціцкі і генеральны інспектар узброеных сіл Э. Рыдз-Сміглы. Апошні меў падтрымку з боку ЛНА.

У верасні 1938 г. прэзідэнт распусціў парламент і абвясціў выбары ў Сейм і Сенат. Апазіцыйныя партыі зноў іх байкатавалі. Фактычна, ЛНА не меў палітычных канкурэнтаў звонку. Ягоныя праблемы, таксама як і ў 1935 г., былі звязаны з праявамі «ўнутрылагернай» барацьбы. Так, напр., у Палескім ваяв. было відавочным сутыкненне палітычных амбіцый групы дзеячаў «Naprawy» братоў

[1856] И. Ким, *Парламентские выборы 1935 г. в Полесском воеводстве*, с. 48.
[1857] P. Cichoracki, *Wybory parlamentarne w okręgu Nr 55 (Pińsk, Łuniniec, Stolin).*

Алявіньскіх з планамі Ваяводскай управы і кіраўніцтва ЛНА. «Naprawa» далучылася да ЛНА, імкнучыся аслабіць пазіцыі прыхільнікаў таталітарызму. З часам яна стала найбольш уплывовай унутрыапазіцыйнай групай, якая на Палессі абапіралася на ваяводскае аддзяленне Цэнтральнага таварыства сельскагаспадарчых гурткоў і арганізацый. Яе прыхільнікам заставаўся і Раман Скірмунт.

Аднак браты Алявіньскія прайгралі палітычную барацьбу. П. Алявіньскі на выбарах сенатараў ад Палескага ваяв. набраў толькі два «голаса». Сенатарскія мандаты атрымалі Францішак Пачэсьняк і Уладзіслаў Мілевіч, чые кандыдатуры зацвердзіла Варшава, нават без згоды Ваяводскай управы[1858]. Аднак пра канфлікт паміж імі казаць не даводзіцца. Перамогу на гэтых выбарах яны забяспечылі сумеснымі намаганнямі.

С. Алявіньскі па выніках галасавання ў Пінскім акружным выбарчым сходзе заняў толькі чацвёртую пазіцыю сярод кандыдатаў у дэпутаты Сейма і зняў сваю кандыдатуру. Найбольш «галасоў» набраў Кшыштаф Шчыт-Неміровіч (маёнтак Дварэц Лунінецкага пав.)[1859], які разам з Раманам Скірмунтам працаваў у Пінскім аддзеле Крэсовага саюза зямян[1860].

Геранім Тукальскі-Нелюбовіч, прыгадваючы дзейнасць Пінскага аддзела, сцвярджаў, што найбольш выбітнымі ягонымі сябрамі былі менавіта Кшыштаф Шчыт-Неміровіч, Ян Сянкевіч і Раман Скірмунт. Варта прывесці характарыстыку апошняга: «Раман Скірмунт быў вядомы сваёй арыентацыяй, амаль што беларускай, і аўтарытэтам, які меў у сялян. У сваім маёнтку Парэчча размаўляў мясцовым дыялектам, па-сялянску…»[1861].

Тукальскі-Нелюбовіч таксама распавёў цікавы эпізод сустрэчы Рамана Скірмунта з новым войтам, які з «інспекцыяй» прыехаў у Парэчча: «Яго войтаўская вялікасць загадала адвезці сябе з фасонам пад ганак сядзібы, а лёкаю, які выйшаў, загадаў паведаміць гаспадару пра свой прыезд. Не чакаючы адказу, войт зайшоў у дом і натыкнуўся на гаспадара. Калі няпрошаны госць прадставіўся, пан Раман даволі хутка яго пазбыўся, заявіўшы, што гаспадарчыя справы вырашаюцца ў канторы і накіраваў да ўпраўляючага. Пану войту гэта не спадабалася, ён настойваў, каб з ім размаўляў сам Скірмунт. Урэшце раззлаваны пан Раман аблаяў яго па-беларуску, бо ахвотна карыстаўся гэтай мовай, і, стукаючы палкай па падлозе, выгнаў вон»[1862]. Гэты эпізод яскрава сведчыць пра стаўленне Скірмунта да мясцовай бюракратыі, якая пераважна складалася з прыезджых чыноўнікаў.

---

[1858] P. Cichoracki, *Województwo Poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, s. 418.

[1859] Ibidem, s. 413–416.

[1860] *Spis członków Kresowego Związku Ziemian*. Warszawa 1938, s. 30.

[1861] ZNiO. Dział rękopisów. Sygn. 15444 II/cz. 2. H. Tukalski-Nelubowicz, *Pół wieku wspomnień. Cz. 2. W siodle 1926–1939*, k. 158.

[1862] Ibidem, k. 252.

## *«Мемуары»*

Раман Скірмунт не пакінуў уласных мемуараў, і нават невядома, ці яны рыхтаваліся, але можна вылучыць ягоную мемуарыстыку ў тэкстах, што датычылі асобаў, якіх ён добра ведаў – Іпаліта Корвін-Мілеўскага, Эдварда Вайніловіча, Канстанцыі Скірмунт і біскупа Зыгмунта Лазінскага.

У ліпені 1931 г. на старонках «Слова» ён выступіў з пэўнай рэфлексіяй («На бясплодных вяршынях»[1863]), якая была водгукам на выданне кнігі Іпаліта Корвін-Мілеўскага *Семдзесят гадоў успамінаў* (1855–1925)[1864]. Гэты тэкст быў напоўнены ягонымі асабістымі ўражаннямі ад асобы і дзейнасці аўтара, а таксама ўмоў тагачаснага палітычнага жыцця. Таксама ў артыкуле прысутнічаў крытычны погляд аўтара на спецыфіку ўспамінаў як гістарычнай крыніцы.

Сітуацыю Іпаліта Корвін-Мілеўскага як польскага грамадскага дзеяча на беларускіх і літоўскіх землях да рэвалюцыі 1905 г. Скірмунт параўнаў з сітуацыяй чалавека на бясплоднай і бязлюднай вяршыні. Ён прыгадаў, што ва ўмовах Расійскай імперыі для яго як прадстаўніка нацыі, пазбаўленай самастойнага дзяржаўнага жыцця, не існавала магчымасці легальнай палітычнай або грамадскай дзейнасці.

На пачатку сваёй «рэцэнзіі» Скірмунт прыгадаў шматлікія выданні ўспамінаў і дзённікаў польскіх і не толькі польскіх палітыкаў, грамадскую вартасць якіх ён ацаніў як вельмі сціплую: «Большасць з іх хутка знікне ў цемры забыцця, і толькі гісторык будзе вышукваць у гэтых руінах факты і погляды, характэрныя для мінулай эпохі»[1865]. У якасці прыкладаў, ён назваў успаміны Ігнацыя Дашыньскага (1925–1926), Леана Біліньскага (1924–1925), а таксама былога канцлера Германіі Бернгарда фон Бюлова (1930–1931). Параўноўваючы кнігу апошняга з успамінамі Корвін-Мілеўскага, Скірмунт заўважыў, што ў абодвух выпадках празмернае аўтарскае эго перашкаджала «яснасці погляду» або аб'ектыўнасці ацэнак.

Ужо на самым пачатку ён прывёў крытычную характарыстыку Корвін-Мілеўскім постаці вядомага англійскага палітыка Герберта Генры Асквіта (1852–1928) і параіў чытачу з асцярожнасцю прымаць аўтарскія ацэнкі асоб, якія згадваюцца ў кнізе. Паводле Скірмунта, у гэтых успамінах прысутнічае «моцная індывідуальнасць аўтара, інтэлект адваката або пракурора, цікавыя меркаванні пра рэчы і падзеі, а таксама напоўненыя злосцю і пагардай ацэнкі іншых асоб. Вынесены аўтарам прысуд у апеляцыйнай інстанцыі быў бы зменены…»[1866]

Тэкст Скірмунта можна разглядаць менавіта як заключэнне такой «апеляцыйнай інстанцыі». Разважаючы пра постаць аўтара ўспамінаў, ён адзначыў, што

---

1863 R. Skirmuntt, *Na jałowych wyżynach (wspomnienia z lat siedemdziesięciu H. K. Milewskiego*, «Słowo». 1931, Nr 167, 24 lipca; Nr 168, 25 lipca; Nr 169, 26 lipca; Nr 170, 28 lipca.

1864 H. Korwin-Milewski, *Siedemdziesiąt lat wspomnień (1855–1925).* Poznań 1930.

1865 R. Skirmuntt, *Na jałowych wyżynach*…, «Słowo». 1931, Nr 167, 24 lipca.

1866 Ibidem.

«гіпертрафія індывідуалізма як адвечная нацыянальная загана, якая ў апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай у значнай ступені прычынілася да яе ўпадку, трохі ўтаймаваная, датрывала да нашых дзён. У Іпаліце Корвін-Мілеўскім жыў адаптаваны да новых умоваў шляхціч, што лічыў сябе абранцам Лёсу, народжаным для кіравання або крытыкі, які не прызнаваў аніякай дысцыпліны, ігнараваў пачуцці і меркаванні іншых. Гэты пыхлівы пан, які калісьці зрываў сеймы, рабіў наезды і пры кожнай нагодзе хапаўся за корд, ужо не мог дзейнічаць старымі метадамі. Ён задаваў перцу бліжнім спосабамі, больш-менш адаптаванымі да патрабаванняў сучаснай культуры»[1867].

Постаць аўтара справакавала Скірмунта выказаць уласнае меркаванне адносна рысаў ідэальнага палітыка. Ён пісаў пра пачуццё адказнасці за няўдачы, разуменне вартасці чужых меркаванняў і ацэнак, уменне з’яднаць людзей і разам з імі дасягнуць поспеху. «Адзінота, – адзначыў Скірмунт, – можа быць карыснай для мысляра, а для палітычнага дзеяча яна будзе падразаннем крылаў»[1868]. У гэтай характарыстыцы досыць адчувальны ўласны досвед Скірмунта-палітыка.

Для Рамана Скірмунта вобраз ідэальнага палітыка быў звязаны з постаццю Эдварда Вайніловіча. Абараняючы яго ад крытыкі Корвін-Мілеўскага, ён заўважыў, што «схільнасць падаўляць людзей уласнай вышэйшасцю пярэчыла ягонай (Э. Вайніловіча – *А. С.*) натуры. Адпаведна ягонае лідэрства не выклікала пратэстаў за выключэннем асобных гарачых прадстаўнікоў іншых палітычных лагераў або баламутаў, якія знойдуцца ў кожным калектыве. Не громкімі крыкамі, а ўласнай самаахвярнай дзейнасцю ён даказваў сваю любоў да Радзімы, і гэта бачыў кожны, хто не закрываў вочы. Такі лідэр мае гарантаваны давер і прыхільнасць грамадства. Людзі ахвотна ідуць за тым, хто кіраваць умее і імкнецца»[1869].

Гэтаму «дыдактычнаму» элементу рэцэнзіі цалкам адпавядала яе «мемуарная частка», у якой Скірмунт папраўляў Корвін-Мілеўскага і адначасна дэманстраваў уласныя прыярытэты грамадскай і палітычнай дзейнасці. Між іншым, ён аспрэчваў сцвярджэнне аўтара ўспамінаў наконт пэўнай змовы супраць яго сяброў «беларуска-літоўскай фракцыі» Дзяржаўнай Рады (1906–1910), а таксама перакананне аўтара, што дзеячы Польскага Нацыянальнага камітэта ў Парыжы (1918) імкнуліся выдаліць яго з Францыі, прапануючы прадстаўляць Камітэт у Рыме і Ватыкане. Прычыны гэтых ды іншых канфліктаў Скірмунт бачыў у вышэйзгаданых асаблівасцях характару Корвін-Мілеўскага.

Найбольш рэзкія заўвагі рэцэнзента датычылі аўтарскіх нападак на Адама Міцкевіча. Славуты паэт на старонках «Пана Тадэвуша» вуснамі Ключніка крытычна выказаўся пра Воўк-Ланеўскага, які быў прадзедам Корвін-Мілеўскага.

---

[1867] Ibidem.

[1868] Ibidem, «Słowo». 1931, Nr 170, 28 lipca.

[1869] Ibidem.

Адказ аўтара ўспамінаў Міцкевічу Скірмунт параўнаў з вымовай, якую робіць пыхлівы магнат уласнаму халопу[1870].

Абурэнне Скірмунта выклікала аўтарская спроба даказаць эфектыўнасць бізуна як сродка выхавання прыгонных, якая таксама датычыла штодзённасці ў маёнтках Воўк-Ланеўскага. Гаспадар Парэчча назваў гэтага «дзіўным капрычыё пра бізуна» і некалькі старонак прысвяціў крытычнаму стаўленню часткі польскіх зямян у XIX ст. да прыгоннай сістэмы і іх удзелу ў рэформе Аляксандра II (1861). Пры гэтым ён прыгадаў успаміны ўласнага бацькі пра імператара, які ў сваёй прамове, што падводзіла вынікі працы Галоўнага рэдакцыйнага камітэта, выказаў асаблівую падзяку шляхце літоўскіх губерняў, якая падала прыклад усёй Расіі. Гэтыя словы сталі памяццю ўсёй сям'і…[1871]

У сюжэце пра розныя ацэнкі ролі бізуна Раман Скірмунт выказаў цікавую заўвагу адносна працы гісторыка, якая і сёння гучыць актуальна: «Гаворачы пра Сярэднявечча або ягоныя помнікі, мы павінны ацэньваць яго інакш, чым ацэньваем сучасныя стасункі. Нельга ў разуменні мінуўшчыны карыстацца сучаснымі адзінкамі меры і вагі. Трэба разумець псіхалогію даўняй эпохі і ўмовы яе жыцця, але сучаснаму чалавеку нельга пераймаць яе дух. Удвая памыляецца той, хто ацэньвае далёкае мінулае як нейкі прывід Сярэднявечча»[1872].

Нягледзячы на шматлікія крытычныя заўвагі і заклік да асцярожнасці пры чытанні кнігі, Раман Скірмунт усё ж назваў успаміны Корвін-Мілеўскага каштоўнымі, бо ў іх «адчувальная моц інтэлекту і волі, якая вырасла на нашай зямлі»[1873].

Цікава, што ў лісце да М. Здзяхоўскага ад 11 верасня 1931 г. Раман Скірмунт шкадаваў празмернай крытычнасці і прызнаваўся ў сімпатыі да аўтара. «Люблю кожную цікавую думку і ўсе праявы моцнай волі, якія нарадзіла наша зямля. Ён (Корвін-Мілеўскі – *А. С.*) меў адно і другое, хаця на блізкіх людзей і супрацоўнікаў глядзеў скрозь крывое шкло эгаізма, якое паказвала людзей як смешных або нікчэмных. У адпаведнасці з такім узорам ён намаляваў цэлую галерэю і выставіў яе на публічны агляд. Каталог гэтых нікчэмнасцяў не патрабаваў каментара. Ягоны розум, веды, адвага, якія пераходзілі часам у дэманстрацыю ўласнай вышэйшасці, выклікалі ў мяне хутчэй здзіўленне. Думаю, што большасць віленскай грамадскасці будзе злавацца на мяне за тое, што я яго ацэньваю занадта высока. Чуў у гэтых колах галасы абурэння і варожасці да яго.

Прызнаюся, што пара думак дарэмна трапілі ў рэцэнзію. Але не стаў іх выкідаць, бо здаваліся мне цікавымі. Такая ўжо чалавечая слабасць. Але ў адным выпадку Мілеўскі зрабіў непапраўную памылку. Маю на ўвазе «капрычыё пра бізуна». Гэты выраз утрымлівае вялікую прымху, ён недакладны. Нельга выказ-

---

[1870] Ibidem, «Słowo». 1931, Nr 169, 26 lipca.

[1871] Ibidem.

[1872] Ibidem.

[1873] Ibidem, «Słowo». 1931, Nr 170, 28 lipca.

вацца пра гэтую смутную спадчыну Сярэднявечча такім вясёлым кавалерскім тонам. Тут адчувальны дух Усходу, а не парыжскія свабоды і французская культура. У польскага чытача гэта можа выклікаць непрыязь да зямянства, а ў чытача іншаземнага – крытычныя заўвагі пра польскую культуру»[1874].

Гэты артыкул Рамана Скірмунта даволі шмат гаворыць пра яго як пра грамадскага і палітычнага дзеяча. Ён зрэдку звяртаецца да асабістай памяці пра мінулыя падзеі і імкнецца выказаць пэўныя думкі адносна палітычнай дзейнасці. Найбольш эмацыйна і крытычна Скірмунт ацаніў аўтарскую крытыку постаці Адама Міцкевіча і «капрычыё пра бізуна». Апошняе дае шмат для разумення ягоных палітычных поглядаў як пэўнага спалучэння кансерватызму і лібералізму. Наогул, відавочнае дамінаванне сацыяльнай праблематыкі ў рэфлексіі Рамана Скірмунта, які, аднак, у сваіх развагах і ацэнках не выходзіў па-за межы польскага нацыянальнага дыскурсу. Ён нават не згадаў пра крытычныя і часам зняважлівыя ацэнкі Іпалітам Корвін-Мілеўскім дзеячаў літоўскага і беларускага нацыянальных рухаў.

Затое апошняе прыцягнула ўвагу іншага краёвага рэцэнзента Людвіка Абрамовіча, які адгукнуўся на кнігу Корвін-Мілеўскага на старонках «Пшэглёнда Віленскага» артыкулам «Успаміны былога зубра»[1875]. У адрозненне ад Скірмунта яго найбольш уразілі праявы шавінізму ў адносінах да беларусаў, літоўцаў і габрэяў. Абрамовіч заўважыў, што раней Корвін-Мілеўскага адрозніваў нацыянальны індыферэнтызм і адсутнасць цікавасці да Польшчы, таксама як і ведаў пра яе. Гэтыя перамены свядомасці ён звязваў з уплывам польскіх нацыянальных дэмакратаў.

Рэдактар «Пшэглёнда» звярнуў увагу на сцвярджэнне аўтара ўспамінаў пра польскае паходжанне ўласнага роду і адзначыў, што большасць шляхецкіх родаў Беларусі і Літвы (Тышкевічы, Валовічы, Скірмунты, Ваньковічы ды інш.) маюць мясцовае паходжанне і з’яўляюцца спаланізаванымі родамі «беларускіх і літоўскіх баяраў». «Менавіта таму сярод іх, – заўважыў Абрамовіч, – зрэдку сустракаецца непрыязь і знявага да літоўскасці і беларушчыны, якую на кожным кроку дэманструе Корвін-Мілеўскі». Ён таксама не ўтрымаўся ад параўнання аўтара ўспамінаў з былым кіраўніком МТСГ: «Не менш тыповы, чым ён, менскі «зубр» Эдвард Вайніловіч ніколі не хаваў сваіх сімпатый да беларускага адраджэння (хоць разумеў яго па-свойму), якраз таму, што ягоныя продкі не былі чужакамі».

А вось Раман Скірмунт не палічыў патрэбным спыняцца на гэтым аспекце ўспамінаў, што таксама можна разглядаць як пэўны ўказальнік на шляху эвалюцыі ягонай свядомасці і палітычнай пазіцыі ў бок польскасці. Магчыма, гэта таксама адлюстравалася ў напісанні ягонага прозвішча. Артыкул пра ўспаміны Іпаліта Корвін-Мілеўскага быў першым, які ён падпісаў як *Roman Skirmuntt*. З’яўленне

---

[1874] БВУ. Аддзел рукапісаў. F 33–702a, арк. 14–15.

[1875] Licz [L. Abramowicz], *Wspomnienia byłego żubra*, «PrzeglądWileński». 1931, Nr 4–5.




*Вокладка кнігі ўспамінаў Эдварда Вайніловіча (1931).*

напрыканцы прозвішча падвойнага *tt* падкрэслівала арыстакратызм старажытнага роду. Зрэшты ў другой палове 1930-х гг. другое *t* знікла ў напісанні прозвішча.

Яшчэ больш эмоцый і разважанняў выклікалі ў Скірмунта мемуары Эдварда Вайніловіча *Успаміны. 1847–1928. Частка першая* (Вільня, 1931)[1876]. На іх выданне ён адгукнуўся вялізным артыкулам, які публікаваўся ў васьмі (!) нумарах «Слова»[1877].

Гэтая публікацыя важная для разумення як грамадска-палітычнай пазіцыі аўтара, так і ягонай ідэнтычнасці на пачатку 1930-х гг. Варта нагадаць, што Вайніловіч адыграў ролю ментара для Рамана Скірмунта ў пачатку ягонай грамадска-палітычнай дзейнасці. Пазней іх яднала не толькі блізкасць поглядаў, але і сяброўства. Нават намаганні Скірмунта ў 1918 г. знайсці нямецкую падтрымку для БНР не сапсавалі добрых стасункаў паміж імі.

Успаміны Вайніловіча Раман Скірмунт ахарактарызаваў як найлепшы пуцяводнік для тых, хто імкнецца «зразумець дух другой паловы даўняй Рэчы Паспалітай, земляў колішняга Вялікага Княства Літоўскага ад Дняпра да Буга, ад Дзвіны да паўночных рубяжоў Валыні». Аўтара ўспамінаў ён лічыў чалавекам, які «чуў голас гэтай зямлі і разумеў яго лепш, чым хто-небудзь іншы».

Скірмунт падкрэсліў моцны краёвы патрыятызм Эдварда Вайніловіча, які «пры вырашэнні самых розных спраў, ці то польскіх нацыянальных і палітычных, ці то перыяду расійскай дзяржавы, заўсёды думаў як гэта паўплывае на становішча краю. Ён імкнуўся захаваць пераказаныя гісторыяй вялікія традыцыі, абараніць ад ціску варожай сілы здабыткі нашай культуры, і нястомна клапаціўся пра гэта. У кабінетах пецярбургскіх палітыкаў, у Дзяржаўнай Радзе, на палітычных сходах у Варшаве, Вільні і Кіеве, паўсюдна праяўляўся ягоны незвычайны характар дзеяча з міцкевічаўскай «зямлі лясных узгоркаў, зямлі лугоў зялёных». Ён быў яе прыроджаным гетманам. Дзякуючы яму і падобным, яна па сённяшні дзень захавала нязменным свой выгляд»[1878].

Раман Скірмунт пераказваў асноўныя падзеі жыцця Эдварда Вайніловіча, а не-

[1876] E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1847–1928. Cześć pierwsza*. Wilno 1931.

[1877] R. Skirmuntt, *Edward Woyniłłowicz. Wspomnienia 1847–1928 r. Wyd. 1931 r.* «Słowo». 1932, Nr 1, 1 stycznia; Nr 2, 3 stycznia; Nr 3, 5 stycznia; Nr 4, 6 stycznia; Nr 5, 8 stycznia; Nr 6, 9 stycznia; Nr 7, 10 stycznia; Nr 8, 12 stycznia. Адначасна гэты тэкст друкаваўся ў газеце «Kurier Nowogródzki» (1932. Nr 1–8, 1–11 stycznia).

[1878] R. Skirmuntt, *Edward Woyniłłowicz. Wspomnienia 1847–1928 r. Wyd. 1931 r.*, «Słowo». 1932, Nr 1, 1 stycznia.

каторыя з іх (пераважна палітычнага характару) дапаўняў уласнымі ўспамінамі і ацэнкамі. У публікацыі паўстаў вобраз польскага зямяніна, які ганарыўся беларускім паходжаннем, быў патрыётам беларускай зямлі, клапаціўся пра яе люд, але пры гэтым заставаўся палякам «да мозга касцей» і ўзмацняў польскую культуру на «далёкіх рубяжах».

Тут варта прывесці поўную характарыстыку постаці Вайніловіча, бо цяжка пазбыцца пачуцця, што Скірмунт маляваў пэўны тып краёвага польскага зямяніна, да якога ў той момант адносіў і самога сябе. Зыходным пунктам грамадскай і палітычнай дзейнасці Вайніловіча ён лічыў ягонае замілаванне да зямлі продкаў, сэрцам якой былі родныя Савічы ў Слуцкім пав., якія «сталіся для яго найдаражэйшым асяродкам у свеце». Пры гэтым родавы маёнтак для Вайніловіча быў не замкнёнай прасторай, а шляхам у шырокі свет…

*ДАКУМЕНТ*

**Р. Скірмунт, Эдвард Вайніловіч. Успаміны 1847-1928 гг. Выд. 1931 г.**[1879]
**Фрагмент.**

*[..] Любасць да айчыннага гнязда ён у пэўнай ступені пераносіў на павет, які яго атачаў, з павета пераносіў гэтае моцнае пачуццё на ўсю Менскую зямлю, а адтуль – на ўсю супольную Радзіму. Богам яму было наканавана апынуцца на пасту, які быў высунуты далёка на ўсход. Галоўнай сваёй задачай ён лічыў абараняць яе (Радзіму – А. С.), умацоўваць гістарычную спадчыну і сувязь з захадам Літвы – Белай Руссю.*

*У гэтых справах ён не прымаў указанняў з-над Віслы. Няхай у Варшаве ствараюць агульную праграму нацыяльнай палітыкі, але спосаб дзеянняў для нас, крэсоўцаў, ужо быў вызначаны. Выдатна ведаючы мясцовае жыццё, ягоныя чыннікі і ўмовы, ён гэта добра разумеў. Ягоны лакальны патрыятызм быў моцным. Без падкрэслівання гэтай рысы вобраз Э. Вайніловіча будзе няпоўным. Гэта было пачуццё, падобнае замілаванню шатландцаў да сваёй малой айчыны. Адначасна шатландзец застаецца добрым брытанцам, не горшым за радавітага англічаніна, і таксама робіць свой унёсак у нацыянальную скарбніцу. Разумны англічанін не злуецца на лакальны патрыятызм шатландца і не патрабуе, каб той адмовіўся ад сваёй крыві і паходжання. Гэтыя рэгіянальныя адрозненні не перашкаджаюць нацыянальнай еднасці.*

*Вайніловіч у сваіх пачуццях – паляк да мозга касцей, адчуваў адзінства з мясцовым беларускім людам, хацеў, каб той прайшоў такі самы шлях эвалюцыі, як ягоныя продкі […] Не як чужынец, а як свой сярод сваіх імкнуўся ён жыць на роднай зямлі.*

*Моцнае пачуццё замілавання да краю, як ні якое іншае, узмацняе пазіцыі нацы-*

---

[1879] R. Skirmuntt, *Edward Woyniłłowicz. Wspomnienia 1847–1928 r. Wyd. 1931 r.*, «Słowo». 1932, Nr 1, 1 stycznia.

*янальнай культуры на далёкіх рубяжах і гарантуе яе існаванне ў шырокіх межах. Гэта яно было тым незнішчальным мастом паміж Крэсамі і цэнтрам, якога ані час, ані полымя, ані іржа не здолелі знішчыць. Гэта яно напаўняла духам тую дзейнасць, якую ён павінен быў выканаць у сваім жыцці.*

У разважаннях Скірмунта відавочнае імкненне паказаць польскасць Эдварда Вайніловіча і ягоную сувязь з агульнанацыянальнымі працэсамі. Так, галоўнай заслугай свайго настаўніка і сябра ён лічыў «паяднанне польскай супольнасці на Крэсах і спрыянне яе больш актыўнай грамадскай дзейнасці»[1880]. Усё гэта стала магчымым дзякуючы Менскаму таварыству сельскай гаспадаркі, якое ў выніку намаганняў Вайніловіча стала моцным легальным асяродкам дзейнасці польскага зямянства.

Краёвы патрыятызм апошняга трактаваўся як элемент агульнапольскі, а тэрмін «краёвасць» нават не згадваўся. Замест яго часта ўжываліся словы *крэсы і крэсовец*. Колішні «Край» як падмурак усёй грамадскай і палітычнай дзейнасці, для Скірмунта пачатку 1930-х гг. сапраўды ператварыўся ў «крэсы» як частку Польскай дзяржавы.

Таксама звяртае на сябе ўвагу прыпісванне Вайніловічу пэўных паланізацыйных намаганняў. Менавіта так трэба разумець сцвярджэнне аўтара, што менскі дзеяч імкнуўся да таго, каб беларускі люд «прайшоў той самы шлях эвалюцыі, што і ягоныя [Вайніловіча – *А. С.*] продкі», а менавіта шлях самапаланізацыі. Гэтаму тэзісу супярэчаць добра вядомыя факты падтрымкі Вайніловічам ды іншымі краёўцамі беларускай культуры. Калі канчатковай мэтай была паланізацыя (ці самапаланізацыя) «тутэйшых», то дзеля чаго Вайніловіч спрыяў іх беларусізацыі?

Важнай рысай асобы аўтара ўспамінаў Скірмунт лічыў праўдалюбства: «Звыкся казаць праўду, дзяліцца тым, што адчуваў і пра што думаў, нягледзячы на тое, ці падабаецца гэта слухачам»[1881]. Магчыма, і ў гэтым Вайніловіч быў пэўным узорам для публіцыста і палітыка з Парэчча.

На жаль, ізноў даводзіцца канстатаваць сціпласць Скірмунта, які зрэдку дзеліцца ўласнымі ўспамінамі і не замінае Вайніловічу дамінаваць у гэтым артыкуле ад пачатку да канца. Толькі ў ягонай трэцяй частцы Скірмунт выступае ў ролі мемуарыста, каб фактамі пацвердзіць праўдзівасць і шчырасць Вайніловіча. Так, ён прыгадаў эпізод, калі агульны сход МТСГ не падтрымаў свайго старшыню. Гэта адбылося ў 1902 г., калі напярэдадні пасяджэнняў губернскай Асобнай нарады пра патрэбы сельскагаспадарчай прамысловасці зямяне сабраліся ў Менску дзеля выпрацоўкі ўласнай праграмы рэформ. У тэзісах Вайніловіча ўтрымлівалася прапанова роўнасці габрэяў у правах карыстання і валодання зямлёй. Яна выклікала адмоўную рэакцыю залы, якая падчас галасавання амаль аднадушна яе адхіліла.

---

1880 Ibidem, «Słowo». 1932, Nr 2, 3 stycznia.
1881 Ibidem, «Słowo». 1932, Nr 3, 5 stycznia.

Вайніловіча падтрымалі толькі некалькі чалавек (у т. л. і Раман Скірмунт), на што ён адрэагаваў рэплікай: «Ніколі не знаходзіўся ў такой знакамітай меншасці»[1882].

Іншы прыгаданы Скірмунтам эпізод быў звязаны са славутай менскай выставай МТСГ 1901 г. У прадмове падчас яе адкрыцця Вайніловіч у прысутнасці вышэйшай губернскай адміністрацыі падрабязна пералічыў факты дзяржаўнага праследу і рэпрэсій у дачыненні да польскіх зямян і адзначыў, што зямяне ўсё гэта вытрымалі і нават умацавалі свае гаспадарчыя пазіцыі. Ён верыў у будучыню тых, хто перажыў цяжкія выпрабаванні: «*Sursum corda!* Як сурма гучалі ягоныя словы. Так казаў гетман, свядомы шляху і мэце, да якой вёў людзей»[1883].

Паводле Скірмунта, менавіта яму належала ідэя паяднання ўсіх земляў былога Вялікага Княства Літоўскага ў адзіным «саюзе спецыялістаў». Магчыма, аўтар артыкула меў на ўвазе ідэю стварэння агульнага Літоўскага таварыства сельскай гаспадаркі, якое б аб'яднала зямян шасці беларуска-літоўскіх губерняў. Расійскі ўрад не дазволіў яе рэалізацыі, разгледзеўшы ў ёй (не без падстаў!) сродак паяднання мясцовай польскай эліты.

Дарэчы, ідэя адзінства ўсяго Краю нечакана праявілася таксама ў палітыцы расійскага ўрада, які ў 1905 г. паспрабаваў арганізаваць удзел польскіх зямян ва ўрачыстым адкрыцці помніка Кацярыне II у Вільні. Віленскі генерал-губернатар князь П. Святаполк-Мірскі разаслаў афіцыйныя запрашэнні. У выніку асобныя прадстаўнікі польскага зямянства Віленскай, Ковенскай і Гарадзенскай губ. (у т. л. Канстанцін Скірмунт) прынялі ўдзел у цырымоніі, за што атрымалі мянушку «катараняжаў». А вось з Менску ніхто не прыехаў. Раман Скірмунт прыгадаў сход, дзе вырашальнае слова належала ягонаму бацьку, пазіцыю якога падтрымаў Вайніловіч. Рашэнне не ўдзельнічаць у адкрыцці помніка было адзінадушным[1884].

Яшчэ адным важным урокам Вайніловіча для Рамана Скірмунта стала тая мужнасць і вытрымка, з якой ён перанёс смерць абодвух сваіх дзяцей – Сымона і Алены. Скірмунт прыгадаў словы І. Корвін-Мілеўскага, які аднойчы параўнаў Вайніловіча са старым рымлянінам. Распавядаючы пра сямейную драму свайго настаўніка і сябра, Скірмунт закрануў праблему Веры. Паводле Рамана Скірмунта, перажыць гэтае гора, яму дапамагла актыўная грамадская праца і «глыбокая вера ў мудрасць Божых рашэнняў, часта незразумелых для чалавечага розуму»[1885]. Прычым «глыбокая вера» апынулася на другім плане. Нават апісваючы клопаты Вайніловіча па рэалізацыі праекта пабудовы касцёла святых Сымона і Алены ў Менску (1910), Раман Скірмунт звяртаў увагу пераважна на ідэалагічнае напаўненне гэтага праекту. Апісанне ім асабістай драмы Вайніловіча дазваляе сцвярджаць, што і для яго свецкая дзейнасць была на першым плане.

---

[1882] Ibidem.
[1883] Ibidem.
[1884] Ibidem.
[1885] Ibidem.

Ён таксама адзначыў адсутнасць у Вайніловіча той рэвалюцыйнай эйфарыі, якая ў 1905 г. ахапіла нават польскіх зямян Меншчыны. У той жа час іх лідэр з насцярожанасцю глядзеў на дзеянні розных расійскіх апазіцыйных партый. Мандат дэпутата Дзяржаўнай Рады (1906) ён прыняў як абавязак перад роднай зямлёй.

Раман Скірмунт у гэтай публікацыі зрэдку дазваляў сабе ўласныя ўспаміны. Адзін з іх датычыць постацяў вядомых расійскіх палітыкаў таго часу – Сяргея Вітэ (1849–1915) і Пятра Сталыпіна (1862–1911). Скірмунт вылучыў іх сярод іншых палітыкаў імперыі пачатку XX ст. і намаляваў свайго роду падвойны партрэт: «Вітэ і Сталыпін, зусім непадобныя адзін да другога, былі найбольш выбітнымі расійскімі палітыкамі на сконе імперыі. Вітэ меў шматбаковыя і неардынарныя здольнасці. Ягоны інтэлект выдатна адлюстраваўся ў знешнім выглядзе. Вялікія вочы былі рухлівыя і ўважлівыя, масіўная постаць аказвалася здольнай да нечаканых скокаў і па-майстэрску выкананых балетных паваротаў. Ён не выклікаў даверу, хоць часам яго заслугоўваў. Меркаванне пра Сталыпіна з асабістага ўражання было хутчэй памылковым. Самавіты, паважны ў рухах, з суровым поглядам ён ствараў уражанне высакароднага і слаўнага зямяніна. У ягоных словах гучалі ноткі шчырасці. Яму лёгка верылі, хоць часта гэтай веры ён не заслугоўваў»[1886].

Скірмунт таксама падрабязна апісаў пэўны скандал, які меў месца на сходзе МТСГ падчас абмеркавання кандыдатуры будучага дэпутата Дзяржаўнай Рады ад Менскай губ. Гэты сход папярэднічаў выбарам 1909 г., калі дэпутата апошні раз выбіраў сход землеўласнікаў. Як ужо адзначалася, Вайніловіч адмовіўся прадстаўляць Менскую губ. і прапанаваў абраць рускага памешчыка М. Кір'якова. Гэта была рэалізацыя рашэння дэпутацкай групы «ад Літвы і Русі», ініцыятары якога разлічвалі напярэдадні ўвядзення земстваў аслабіць польска-расійскае палітычнае напружанне.

Прэзідыум Рады Таварыства падтрымаў Вайніловіча і вырашыў у выпадку нязгоды сяброў МТСГ з кандыдатурай М. Кір'якова пакінуць залу пасяджэнняў, каб не дапусціць абрання іншага кандыдата. Так і атрымалася. Разам з Прэзідыумам залу пакінула шмат іншых сяброў Таварыства. Вайніловіч і ягоныя аднадумцы былі пэўныя, што выбары праваліліся. Аднак на наступны дзень высветлілася, што абраным аказаўся сябра Прэзідыума князь Геранім Друцкі-Любецкі. Вайніловіч ва ўспамінах ніяк не патлумачыў гэтага абрання, а Скірмунт распавёў, што князь, адказваючы на непрыемнае пытанне старшыні МТСГ, прызнаўся, што выйшаў з усімі разам, але… вярнуўся праз іншыя дзверы і пагадзіўся стаць дэпутатам[1887]. Падобныя паводзіны для Рамана Скірмунта былі непрымальнымі, тым больш, што і для яго прысутнасць у пэўных органах улады была выкананнем пэўнага абавязку перад Краем, а не задавальненнем уласных амбіцый.

Раман Скірмунт шмат увагі прысвяціў дзейнасці МТСГ падчас Першай сус-

---

[1886] Ibidem, «Słowo». 1932, Nr 4, 6 stycznia.
[1887] Ibidem, «Słowo». 1932, Nr 5, 8 stycznia.

ветнай вайны, а менавіта намаганням ягоных кіраўнікоў абараняць гаспадарчыя інтарэсы буйных і дробных землеўласнікаў ва ўмовах блізкасці фронту і неабходнасці задавальняць патрэбы вайскоўцаў. Аднак чарговы раз ён не выходзіў па-за межы ўспамінаў Вайніловіча, хоць сам адыгрываў вельмі важную ролю ў тых падзеях і мог бы шмат цікавага распавесці.

Як мемуарыст ён выступіў і пры характарыстыцы «польска-польскіх» адносін у Менску напрыканцы 1915–пачатку 1916 г. Як адзначалася, Менск стаў прытулкам для шматлікіх польскіх грамадскіх і палітычных дзеячаў пасля нямецкай акупацыі польскіх земляў. Скірмунт іранічна параўнаў настроі гасцей з берагоў Віслы з настроямі хрысціянскіх місіянераў, якія неслі святло Веры ў «цёмную Літву». Тым больш, што менская «правінцыя» ўспрыняла няпрошаных апекуноў як носьбітаў абсалютнай ісціны і слухала іх з пакорлівасцю быдла. А Вайніловіч пратэставаў. Паводле Скірмунта, ягоная пазіцыя заключалася ў тым, каб ва ўмовах абуджэння і актывізацыі польскага нацыянальнага руху на ўсход ад лініі фронту прадстаўнікі Краю дзейнічалі скансалідаванай групай дзеля абароны краёвых інтарэсаў, і толькі ў вырашальны момант павінны былі паяднацца з польскім рухам. Заўважу, вядомыя гістарычныя крыніцы не пацвярджаюць апошняга тэзісу…

Скірмунт прыгадаў, што на адным са шматлюдных польскіх сходаў у Менску ягоныя ўдзельнікі спакойна ўспрынялі пазіцыю Вайніловіча, але наступнага прамоўцу, які казаў тое ж самае, сустрэлі крыкамі: «Таргавіца! Таргавіца!»[1888] Аўтарытэт Вайніловіча паступова саступаў аўтарытэту варшаўскіх палітыкаў.

Лютаўскую рэвалюцыю 1917 г. ён сустрэў насцярожана. Скірмунт успомніў, як на адным з ахопленых эйфарыяй сходаў, дзе гарадскі *голова* адвакат Хжанстоўскі казаў пра перспектывы некрывавай рэвалюцыі, толькі тры асобы не верылі ў спакойную і бяспечную будучыню – Эдвард Вайніловіч, Караль Незабытоўскі і ён сам. І сапраўды, трагічныя падзеі ў мястэчку Славута на Валыні, дзе ў жніўні 1917 г. натоўпам салдат быў забіты князь Раман Сангушка, выявілі цалкам іншы твар рэвалюцыі. Бязладдзе нарастала. Падзенне Керанскага і прыход да ўлады бальшавікоў, – пісаў Скірмунт, – станавіліся непазбежнымі. А Вайніловіч знаходзіўся ў Савічах, паблізу фронта і салдат, якія ўжо нікому не падпарадкоўваліся.

Раман Скірмунт падрабязна спыніўся на вышэйзгаданым пагроме маёнтка. Ён адзначыў добрыя адносіны паміж Вайніловічам і жыхарамі Савічаў і навакольных вёсак, што дазваляе сцвярджаць, што зямянін быў сапраўдным сябрам люду. І даказваў гэта не словамі, а канкрэтнымі справамі, дапамагаючы людзям у няшчасці. Між тым, «разбуральнікі ладу не любяць тых праяваў жыцця, што супярэчаць іх лозунгам пра непазбежнасць канфлікту паміж багатым і бедным,

[1888] Ibidem, «Słowo». 1932, Nr 6, 9 stycznia.

і ў смутныя часы трымаюць іх у поле зроку. Невядомая рука накіравала банду салдат на Савічы…»[1889]

Надзеі на заступніцтва мясцовага люду не апраўдаліся: «Пачуццё ўдзячнасці натоўпа напісана на пяску, і яго лёгка здувае вецер. У марозную зімовую ноч натоўп рабаўнікаў з акопаў наблізіўся да брамы сядзібы, паступова далучыліся да яго слугі, што жылі ў сядзібе, і сяляне суседніх вёсак. Усё ламаюць, нішчаць, рвуць…»

Апісваючы гэты пагром і паводзіны сялян, удзячнасць якіх да «пана» была перакрэслена магчымасцю беспакаранная рабунка, Скірмунт амаль што прадказаў уласны лёс. Увосень 1939 г., вяртаючыся з Пінска ў Парэчча, каб загінуць, ён, відаць, забыўся пра лёс Вайніловіча, і таксама спадзяваўся на людзей. А можа, не меў іншага выйсця?

У апошняй частцы артыкула Скірмунт коратка пераказаў падзеі 1918–1920 гг., адзначыў непрыняцце Вайніловічам пранямецкай арыентацыі нават перад пагрозай бальшавіцкага панавання: «Пагрозу бальшавізму ён разумеў не горш за іншых, але не збіраўся кідацца ў абдымкі Мефістофеля, каб ратавацца ад Вельзевула».

Скірмунт таксама прыгадаў палітычную і грамадскую актыўнасць Вайніловіча пасля вяртання ў Менск увосень 1919 г., а таксама ягоны боль ад усведамлення, што ён аказаўся непатрэбным новай Польшчы. Уражанне ад Рыжскага міру ён параўнаў з громам з яснага неба, які знішчыў ідэю, якой служылі «крэсоўцы»[1890]. Аўтар гэтых слоў разумеў і падзяляў боль колішняга ўладальніка Савічаў.

Напрыканцы артыкула Раман Скірмунт яшчэ раз звярнуўся да характарыстыкі Вайніловіча: «Польскі зямянін з Белай Русі такім нарадзіўся, і імя сваё заўсёды годным павагі хацеў бачыць. Быў самім сабою, ролі не граў, жыў у прастаце і праўдзе, уласнай думкай і ўласным пачуццем, спаўняючы абавязкі, які Бог яму даручыў. Жыццё, напоўненае працай, прысвяціў Айчыне, быў стойкі і моцны духам перад зменлівасцю лёсу. Розум меў сабраны, нераскіданы, галаву адкрытую і сэрца любячае. Дзеяч без заганы, наколькі дазваляе чалавечая натура, узор хрысціяніна, увасабленне добрага духу крэсовага зямянства. Постаць з бронзы. Няхай яна свеціць нашчадкам»[1891].

Гэтым тэкстам Скірмунт аддаваў належны гонар Эдварду Вайніловічу і той частцы польскага зямянства Беларуска-Літоўскага краю, якая жыла яго інтарэсамі, а пасля Рыжскага міру страціла і маёнткі, і Радзіму. «Малая Радзіма» Скірмунта засталася ў межах Польскай дзяржавы, і, падобна, што якраз існаванне апошняй стала вызначальным фактарам перамен у свядомасці палітыка з Парэчча. Магчыма, менавіта таму ён імкнуўся падкрэсліць польскасць Вайніловіча і ягонае дачыненне да агульнанацыянальнага змагання за незалежнасць Польшчы і нават «забыўся»

[1889] Ibidem, «Słowo». 1932, Nr 7, 10 stycznia.
[1890] Ibidem, «Słowo». 1932, Nr 8, 12 stycznia.
[1891] Ibidem.

прыгадаць прыхільнасць свайго сябра да той краёвай ідэі, якая выпрацоўвалася пры ягоным актыўным удзеле. Замест гэтага ён сцвердзіў прыхільнасць менскага палітыка да ідэі паступовай паланізацыі/самапаланізацыі беларускага люду. Гэты тэзіс вельмі сумнеўны, калі прыгадаць падтрымку Вайніловічам культурніцкіх праектаў беларускага Адраджэння пачатку ХХ ст. Дарэчы, успаміны самога Р. Скірмунта таксама сведчылі на карысць адметнасці палітычнай і нацыянальнай пазіцыі Вайніловіча ад поглядаў прадстаўнікоў дамінуючых плыняў польскага руху.

Тэзіс пра пажаданую «культурную эвалюцыю» беларускага і літоўскага сялянства ў «польскім кірунку» прысутнічаў таксама ў нарысе Рамана Скірмунта «Пані з Муру» (1934), прысвечаным жыццю і дзейнасці стрыечнай сястры Канстанцыі Скірмунт[1892].

У намаляваным ім партрэце яна фігуравала пераважна як «аўтарка розных прац па гісторыі Літвы і шматлікіх разважанняў наконт мінулага і сучасных праблем усходніх земляў Рэчы Паспалітай Польскай»[1893], а таксама як грамадская дзячка і арганізатар шматлікіх дабрачынных акцый, у т. л. дзеля падтрымкі тайных польскіх школ і каталіцкага Касцёла, як прыхільніца эмансіпацыі жанчын.

Тэкст публікацыі сведчыць, што аўтар карыстаўся дзённікам або нататнікам Канстанцыі Скірмунт. Прынамсі, ён цытаваў запісы з яе дзённіка, якія датычылі перыяду жыцця з бацькамі ў Крыме, а таксама часоў Першай сусветнай вайны. Цалкам верагодна, што пасля яе смерці ў студзені 1934 г. архіў сястры апынуўся ў Парэччы, і Раман Скірмунт мог ім карыстацца. Шматлікія цытаты з яе публікацый таксама сведчаць пра наяўнасць у бібліятэцы парэцкага маёнтка асноўных публіцыстычных твораў Канстанцыі Скірмунт.

На пачатку нарыса Скірмунт адзначыў вялікі ўплыў на фарміраванне асобы сястры з боку яе маці. На яго думку, сэнсам жыцця Алены Скірмунт было служэнне бліжнім і Айчыне, пашырэнне ідэалаў хрысціянства, увасабленне пэўных ідэалаў у пластычным мастацтве[1894]. Пры гэтым сям'я ўспрымалася як пэўны «абавязак».

Таксама важнай постаццю ў жыцці Канстанцыі Скірмунт была яе сяброўка Юзэфа Кужанецкая, з якой разам яны жылі ў пінскім палацы Скірмунтаў і Бутрымовіча, у г. зв. «Муры». Характарызуючы грамадскую дзейнасць жанчын, Скірмунт прыгадаў, што яе пачаткі прыйшліся на найбольш неспрыяльны для польскай супольнасці час. Мясцовае чынавенства называла дзвюх жанчын з «Муру» «праклятымі польскімі патрыёткамі». Пры гэтым у свядомасці сястры польскі па-

---

[1892] R. Skirmuntt, *Panie z Muru*, «Słowo». 1934, Nr 125, 10 maja; Nr 126, 11 maja; Nr 127, 12 maja; Nr 128, 13 maja; Nr 130, 15 maja; Nr 131, 16 maja; Nr 132, 17 maja; Nr 133, 18 maja; Nr 134, 19 maja.

[1893] R. Skirmuntt, *Panie z Muru*, «Słowo». 1934, Nr 125, 10 maja.

[1894] Ibidem.

трыятызм спалучаўся з замілаваннем гістарычнай Літвы. Паводле слоў Скірмунта, у душы сястры гучаў «голас Літвы»[1895].

Пераказваць увесь нарыс не варта, тым больш, што многія прыведзеныя аўтарам факты і меркаванні ўжо выкарыстаны ў ранейшых раздзелах кнігі. Але варта адзначыць, што да найбольш значных сюжэтаў гэтага тэксту належалі дабрачынная дзейнасць К. Скірмунт і Ю. Кужанецкай, звязаная з Каталіцкім таварыствам дабрачыннасці (1904); іх спроба паставіць жанчыну на чале пінскага Таварыства ўзаемнага крэдыту (г. зв. «Палескі банк»); удзел у арганізацыі тайнага польскамоўнага навучання ў часы Расійскай імперыі, а таксама падрыхтоўка Ю. Кужанецкай і выданне *Lementaru* на мове палешукоў; выданне кніг К. Скірмунт па гісторыі Літвы і яе публіцыстыка.

Шмат месца ў нарысе заняла гісторыя абароны ад знішчэння зачыненага ўладамі пасля паўстання 1863 г. касцёла айцоў бенедыктынаў у Гарадзішчы пад Пінскам. Раман Скірмунт не прызнаўся, што сам меў непасрэднае дачыненне да гэтай барацьбы, якая скончылася поспехам. Галоўным чыннікам перамогі ён лічыў масавы характар руху абаронцаў касцёла. У выніку той быў адрамантаваны і аднавіў сваю дзейнасць у 1914 г.

Падрабязны аповед пра гэтую гісторыю сведчыць пра важнасць праблематыкі веравызнання і лёсу каталіцкага Касцёла як для Канстанцыі Скірмунт, так і для аўтара нарыса. Тэма стасункаў «краёвай» публіцысткі і каталіцкага касцёла ўключала таксама іншыя сюжэты. Так, аўтар прыгадаў, што Канстанцыя Скірмунт на вельмі выгодных для духавенства ўмовах прадала Курыі частку «Мура», разам з суперыёрам ордэна езуітаў прычынілася да адкрыцця ў Пінску польскай гімназіі ў 1919 г., падтрымлівала добрыя стасункі з беларускім ксяндзом Абрантовічам, арганізоўвала петыцыі ў падтрымку кандыдатуры Зыгмунта Лазінскага на пасаду пінскага біскупа ды інш.

Але тут хочацца паправіць шаноўнага аўтара… Усё ж публіцыстыка Канстанцыі Скірмунт сведчыць, што галоўнай тэмай яе дзейнасці заставалася краёвая ідэя. Яна была адной з найбольш яркіх дзяячак краёвасці на пачатку ХХ ст. і належала да нешматлікага асяродку аўтараў, што захавалі вернасць гэтай ідэі ў міжваенны час. Аднак у публікацыі брата тэрміны «краёвасць» або «краёвая ідэя» адсутнічалі, хоць цалкам абмінуць гэты феномен ён не мог. Да таго ж, пэўнага тлумачэння патрабавала вядомае прызнанне Канстанцыі Скірмунт: *Gente Lithuana, natione Lithuana*.

Раман Скірмунт характарызаваў яе дзейнасць, цытаваў артыкулы і даводзіў чытачу, што прамоўленая ёю формула самаідэнтыфікацыі, а таксама нацыянальная (краёвая) пазіцыя месціцца ў рамках польскай гістарычнай і культурнай традыцыі. Паводле аўтара, галоўнай мэтай сястры было супрацьдзеянне русіфікацыі гістарычнай Літвы. Яна нібыта лічыла, што польская ідэя на землях былога

---

[1895] Ibidem.

Вялікага Княства Літоўскага не мела шансаў у змаганні з русіфікацыяй, таму выступала за абуджэнне ў народзе беларускай свядомасці і ўмацаванне літоўскай.

«У тыя часы, – заўважыў аўтар, – гэта была слушная пазіцыя». І патлумачыў яе: «Знайсці адпаведную дарогу ў завірусе праблем гісторыі і сучаснасці было цяжкай задачай. Чым ёсць і як фарміруецца нацыянальнае пачуццё? На яго ўплываюць розныя чыннікі. Перш за ўсё гэта выхаванне. Таксама важным падмуркам з'яўляецца паходжанне, традыцыя і асяродак, у якім жывем, які гэтае пачуццё ўзмацняе або знішчае. Інстынкт самазахавання нацыі патрабуе выразных рысаў і яскравых фарбаў. І гэтыя рысы відавочны ў нацый, які жывуць згуртаванай масай і маюць уласную дзяржаву. Але пэўныя адхіленні ад гэтага непазбежны, калі ў складзе дзяржавы знаходзяцца розныя плямёны з адметнымі народнымі мовамі, якія жывуць паасобку. Ці ж гэта добра, калі інтэлігенцыя, што мае агульнае паходжанне з людам, хоць апошні і прамаўляе інакш, адрываецца ад яго як ад іншай нацыі? Ці не лепей, захоўваючы адзінства, спрыяць ягонай культурнай эвалюцыі, якую на працягу стагоддзяў прайшла сама інтэлігенцыя?»[1896]

Гэтыя разважанні вельмі важныя для разумення ідэйных вытокаў выпрацоўкі краёвай ідэі ў яе кансерватыўным (кансерватыўна-ліберальным) варыянце. Аднак хачу яшчэ раз звярнуць увагу, што Раман Скірмунт выказаў іх у 1934 г., калі ўжо адбылося ягонае пераасэнсаванне мінулага і ўласнай дзейнасці, абумоўленае палітычнымі пераменамі і пэўнай трансфармацыяй свядомасці.

Апошні сказ у вышэйцытаваным фрагменце фактычна даводзіць, што мэтаю краёўцаў было пашырэнне польскасці сярод беларусаў і літоўцаў, іх паланізацыя ці самапаланізацыя. Падобная думка прысутнічала таксама ў развагах Скірмунта з нагоды ўспамінаў Эдварда Вайніловіча. Зноў хочацца запярэчыць паважанаму аўтару. Факты падтрымкі Канстанцыяй Скірмунт беларускай культурніцкай дзейнасці дастаткова вядомыя, асабліва ў міжваенны перыяд. І відавочна, што за імі не мог хавацца намер паланізацыі. Для вядомай публіцысткі беларуская культура была каштоўнасцю самой па сабе. Яна мела ўласны патэнцыял развіцця і з'яўлялася важным чыннікам станаўлення нацыі.

Згаданую вышэй формулу самаідэнтыфікацыі сваёй сястры Раман Скірмунт тлумачыў пэўным непаразуменнем: «Канстанцыя Скірмунт любіла простыя адказы на складаныя пытанні. «Мае продкі, – казала яна, – былі літоўцамі («Litwinami»). Міцкевіч быў літоўцам («Litwinem»), мая маці была літоўкай («Litwinką»), і я такая ж!» Яна не магла зразумець, што значэнне гэтага слова ў мінулым адрознівалася ад сучаснага»[1897]. Падобна, што ў гэтай сітуацыі ўжо сам Раман Скірмунт спрабаваў знайсці «просты» адказ на складанае пытанне…

Скірмунт сцвярджаў, што якраз «младалітвіны» перакрэслілі традыцыі адзінства Літвы і Польшчы, што іх дзейнасць па-сутнасці супярэчыла духу

---

[1896] Ibidem, «Słowo». 1934, Nr 127, 12 maja.
[1897] Ibidem.

творчасці Адама Міцкевіча і той жа Канстанцыі Скірмунт. Ён прыводзіў цытаты з яе артыкулаў, у якіх публіцыстка падкрэслівала значэнне польскай культуры, што паяднала народы ў адной дзяржаве, прызнавала іх роўнасць і вольнасць, несла людзям грамадзянскія правы і г. д. У ягонай трактоўцы літвінка Канстанцыя Скірмунт заставалася дзяячкай выключна польскага руху. Адначасна аўтар нарыса прызнаваў, што публіцыстыка сястры, якая, дарэчы, пагаджалася на перадачу Вільні літоўцам, «павялічвала капітал этычных рэсурсаў чалавечнасці»[1898].

Скірмунт таксама адзначыў яе прыхільнасць да «ягелонскай ідэі» як ідэі польска-беларуска-літоўскай дзяржаўнасці на прынцыпах федэралізму. Ён сцвярджаў, што сястра верыла ў поспех літоўскага Адраджэння і непакоілася лёсам Беларусі. Паводле аўтара нарыса, «яна меркавала, што ведае чалавека, здольнага да яе [Беларусі. – *А. С.*] адбудовы і не магла зразумець ягоных сумневаў і стрыманасці»[1899]. Тут Скірмунт меў на ўвазе самога сябе. Вядома, што Канстанцыя Скірмунт падтрымлівала ягоную дзейнасць у беларускім руху. Гэтая падтрымка, між іншым, сведчыла пра сур'ёзнасць беларускіх амбіцый і надзей палітыка з Парэчча.

У якасці гэтага «адраджэнца Беларусі» таксама можна было б разглядаць асобу Юзафа Пілсудскага, але з ім публіцыстка звязвала надзею на польска-літоўскае паразуменне, сцвярджаючы, што «літвін заўсёды з Літвой дамовіцца»[1900]. Таксама на пярэднім плане тагачаснай палітыкі знаходзілася постаць Генеральнага камісара Цывільнай управы Усходніх земляў Ежы Асмалоўскага, якога К. Скірмунт добра ведала па сумеснай дзейнасці яшчэ ў дарэвалюцыйны час, але, здаецца, якраз гэтае веданне выклікала ў яе пэўны недавер да Генеральнага камісара.

Вынікі перамоў у Рызе перакрэслілі спадзевы на рэалізацыю «ягелонскай ідэі». Стаўленне Канстанцыі Скірмунт да Рыжскага трактата, на думку аўтара нарыса, яскрава пацвердзіла яе вялікую любоў да Польшчы, якая «вырасла на глебе ўсходніх земляў». Адмова ад іх польскай дэлегацыяй у Рызе, «зробленая легкадумна і з усмешкай пагарды», абурыла яе да глыбіні душы: «Яна не валодала землямі на адкінутым усходзе. Прычыны яе гневу мелі ідэйны характар. Яна любіла белага Арла ў саюзе з Пагоняй. Арол, які адляцеў, адарваўся, кінуў яе [Пагоню. – *А. С.*] як ахвяру гіенам, здрадзіў свайму высокаму гістарычнаму прызначэнню. Гэты ўчынак выклікаў жах. Яго ўзмацняла пачуццё, што большасць беларускага люду і добрая жменя [людзей – *А. С.*] польскага паходжання траплялі пад уплыў сучаснага бальшавіцкага паганства з такім небяспечным змяшаннем паняццяў, якога свет не бачыў»[1901].

Скірмунт таксама прыгадаў яе спробы паўплываць на дзяржаўную палітыку ў адносінах да Літвы. Пасля Рыжскага міру яна была ўпэўнена ў важнасці нар-

---

[1898] Ibidem, «Słowo». 1934, Nr 128, 13 maja.
[1899] Ibidem, «Słowo». 1934, Nr 132, 17 maja.
[1900] Ibidem.
[1901] Ibidem.

малізацыі польска-літоўскіх адносін і спрабавала палепшыць іх стан, выкарыстоўваючы сваяцкія сувязі. «Пані з Муру» неаднаразова звярталася да тагачаснага міністра замежных спраў і свайго стрыечнага брата Канстанціна Скірмунта з лістамі, у якіх абараняла літоўскую пазіцыю ў пытанні пра прыналежнасць Вільні. Аднак ён адстойваў іншае меркаванне. Нарэшце, яна не вытрымала: «Гэта не Скірмунт – літвін, гэта Твардоўскі з Познані!» Пры гэтым, – як заўважыў аўтар, – яе голас грымеў як удар молата ў кузні, які суправаджаецца шыпеннем іскр, падаючых у ваду.

У гэтым аповедзе сімпатыі аўтара разышліся. Ён захапляўся сястрой, якая захоўвала вернасць «ягелонскай ідэі», але таксама разумеў (і падзяляў!) пазіцыю Канстанціна Скірмунта. Адносна апошняй ён заўважыў, што літоўскія памкненні апынуліся ў вострай супярэчнасці з польскімі дзяржаўнымі інтарэсамі.

Нарыс «Пані з Муру» фактычна з'яўляецца адзіным вядомым тэкстам Рамана Скірмунта, дзе закранался «беларускае пытанне». Але і ў гэтым выпадку аўтар пазбягаў нават намёкаў на ўласнае дачыненне да беларускага руху. Ён выказваў пэўныя думкі толькі ў сувязі з стаўленнем Канстанцыі Скірмунт да беларускага Адраджэння і характару польска-беларускіх адносін. Так, напрыклад, ён прывёў меркаванне славутай публіцысткі наконт гістарычнай місіі Польшчы на ўсходзе, якая, між іншым, уключала абуджэнне сярод «беларускай масы» нацыянальнай самасвядомасці, падтрымку развіцця беларускай культуры і, нарэшце, пераўтварэнне беларусаў у саюзнікаў Польшчы. Яна сцвярджала, што поспех можа мець толькі палітыка, прасякнутая «духам Евангелія».

Раман Скірмунт, які раней неаднаразова пісаў пра важнасць евангельскіх ісцін у палітычным жыцці, у гэтым тэксце крытычна выказаўся наконт эфектыўнасці падобнай палітыкі ў нацыянальным пытанні. «Гістарычны вопыт, – пісаў ён, – сведчыць, што нацыі добра памятаюць толькі крыўды, а пачуццё ўдзячнасці кароткачасовае. Яны не любяць даўгоў удзячнасці. Да таго ж, вучань, калі набіраецца ведаў, схільны выгнаць прэч свайго настаўніка»[1902]. Маючы на ўвазе геапалітычнае становішча беларускай зямлі, ён таксама заўважыў, што працэс кансалідацыі нацыі залежыць ад знешніх уплываў, ад моцы і тыпу бліжэйшых асяродкаў культуры.

Магчыма, прыгадваючы ўласны вопыт беларускай палітычнай дзейнасці, Скірмунт таксама адзначыў адсутнасць адзінай формулы для вырашэння нацыянальнага пытання. Ён сцвярджаў, што ў розных сітуацыях магчымы розныя шляхі яго вырашэння[1903].

Апавядаючы пра апошнія гады жыцця сястры, азмрочаныя цяжкай хваробай, глухатой і адзінотай, ён пісаў пра яе мужнасць у пакутах, настойлівасць у намерах, незалежнасць у думках і гарачае сэрца ў дачыненні да людзей. А вось адносна

---

[1902] Ibidem, «Słowo». 1934, Nr 133, 18 maja.
[1903] Ibidem.

ідэй, якімі жыла і кіравалася ў сваёй дзейнасці Канстанцыя Скірмунт, аўтар нарыса працытаваў словы Фрыдрыха Ніцшэ пра аднаго з вялікіх нямецкіх філосафаў: «Думкі яго састарэлі, але жыццё застанецца ўзорам на стагоддзі»[1904].

Магчыма, гэты нарыс быў не толькі данінай памяці любімай сястры, славутай публіцысткі і колішняй калежанцы ў краёвым руху, але адначасна пэўным сімвалічным развітаннем Рамана Скірмунта з ідэямі краёвасці ў іх першапачатковым вымярэнні. У адрозненні ад Канстанцыі Скірмунт ён прыняў і пагадзіўся з існаваннем нацыянальных дзяржаў. І менавіта Польшча ўспрымалася ім як дзяржава, якая была найбліжэй да колішніх надзей прыхільнікаў краёвасці.

Праблема ролі Касцёла і каталіцкага духавенства ў жыцці Краю была ўзнята Раманам Скірмунтам ў артыкуле, прысвечаным жыццю і дзейнасці пінскага біскупа Зыгмунта Лазінскага[1905]. Ён быў апублікаваны напрыканцы 1932 г. У гэтым тэксце прысутныя аўтарскія ўспаміны. Апрача таго, ён закранаў далікатную праблему стаўлення нашага героя да Веры і каталіцкага Касцёла.

Магчыма, сутнасць гэтага стаўлення адлюстравалася ў разважаннях наконт суадносін Божага наканавання і чалавечай волі. Сцвердзіўшы вялікую набожнасць біскупа, якога яшчэ пры жыцці называлі «святым чалавекам», Скірмунт адзначыў ягоны недавер да вынікаў дзейнасці чалавечага розуму і дадаў: «Іншае разуменне характэрнае для звычайнага смертнага. Натхненне прыходзіць з Нябёс, але ж і розум ёсць Божым дарам, і чалавек павінен ім карыстацца, калі сутыкаецца з цяжкай праблемай. Натхненне бывае цудадзейным, але магчымасці чалавека абапірацца на яго ў сваім жыцці абмежаваныя. Тым, хто пры рашэнні матэматычнай задачы спрабуе абаперціся на малітву, а не на логіку, цяжка будзе дасягнуць поспеху. Малітва да Бога ўзносіць думку і напэўна аказвае вялікі ўплыў на ўсё нашае жыццё, але яна не вызваляе ад мазоляў штодзённасці. Воля, пачуцці і розум не створаны чалавекам. Гэта найбольш каштоўныя інструменты, якія Божая воля яму падаравала. Няхай чалавек прыводзіць іх у творчы рух, і дасягнутае з іх дапамогай, будзе ягонай заслугай, а знішчанае і сапсаванае толькі абцяжарыць яго. Няхай актыўна і рупліва карыстаецца і просіць блаславення Нябёсаў. Няхай крочыць з дапамогай той моцы, якую дараваў яму Бог. [...] Гэта ўпрыгожвае чалавека, і дзеля таго Бог даў яму розум».

Гэтыя думкі сведчаць пра тую вагу, якую Раман Скірмунт надаваў уласна чалавечай дзейнасці, абумоўленай такім Божым дарам як розум. Безумоўна, Вера і Касцёл былі важнай часткай ягонага духоўнага жыцця, але відавочна і тое, што яшчэ большую вагу ён надаваў чалавечаму розуму. У адрозненне ад Эдварда Вайніловіча, які смерць дзяцей і страту роднай зямлі перажыў з пачуццём: «Так хацеў Бог…», Скірмунт у большай ступені адчуваў адказнасць чалавека за тое, што адбывалася навокал.

---

[1904] Ibidem, «Słowo». 1934, Nr 134, 19 maja.

[1905] R. Skirmuntt, *Ksiądz Biskup Zygmunt Łoziński*, «Słowo», 1932, Nr 322, 19 grudnia.

Якраз з гэтай пазіцыі ён ацэньваў жыццё і дзейнасць біскупа Зыгмунта Лазіньскага. У выніку атрымаўся крытычны артыкул, дзе высокая ацэнка асабістай мужнасці і набажнасці біскупа спалучалася з пэўнай крытыкай ягонай дзейнасці як кіраўніка дыяцэзіі.

Як ужо адзначалася, Зыгмунт Лазінскі ўзначаліў Менскую дыяцэзію ў лістападзе 1917 г. Скірмунт прыгадаў некалькі цікавых эпізодаў з менскага жыцця 1918 г., калі яму давялося сустракацца з біскупам. Яны былі апісаны даволі сціпла, і для большасці чытачоў павінны былі застацца напаўзагадкавымі. Але ў нас ёсць магчымасць гэтыя загадкі разгадаць.

Першы прыгаданы аўтарам эпізод датычыў візіту да менскага біскупа ў 1918 г. «некалькіх грамадскіх дзеячаў дзеля абмеркавання пэўнай важнай справы цякучага жыцця». Цалкам верагодна, што гаворка ішла пра візіт да біскупа беларускай дэлегацыі на чале са Скірмунтам 25 верасня 1918 г., галоўнай тэмай якога было ўвядзенне беларускай мовы ў дадатковае набажэнства ў касцёлах дыяцэзіі. Прынамсі, пра яго ў кастрычніку 1918 г. паведаміла газета «Гоман»[1906]. Біскуп выслухаў візіцёраў і заявіў: «Ахвотна выслухаў вашыя меркаванні, але яны для мяне не маюць вялікага значэння. Калі маю сумненні, то звяртаюся да Святога Духа падчас імшы і раблю тое, што потым мне ў галаву прыйдзе».

Таксама Скірмунт прыгадаў выдаленне з Менску «выбітнага беларускага дзеяча ксяндза Г.» (відавочна, гаворка пра ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага) і тое, што ў гэтай сітуацыі нават ягонае заступніцтва не дапамагло. Ён жа заўважыў, што пазней біскуп змяніў сваё стаўленне і ацэньваў святароў выключна за іх святарскую працу.

Нарэшце, трэці ўспамін Скірмунта датычыў апошніх дзён нямецкай акупацыі Менска, калі да горада ўжо набліжаліся войскі бальшавікоў. Біскуп запрасіў да сябе вядомых менскіх грамадскіх дзеячаў і палітыкаў і прапанаваў стварыць Камітэт з прадстаўнікоў усіх нацый, саслоўяў і палітычных кірункаў, каб разам з бальшавікамі абмеркаваць існуючыя праблемы. Ён быў упэўнены, што Божая воля дапаможа знайсці паразуменне і стварыць падмуркі для мірнага развіцця грамадства. Скірмунт прызнаўся, што ў той момант меў уражанне, што слухае чалавека… з Месяца. І дадаў, што толькі непасрэднае сутыкненне з бальшавікамі паказала біскупу, што не можа быць паяднання голуба і каршука.

Тут варта заўважыць, што ад снежня 1918 па жнівень 1919 г. біскуп Лазінскі хаваўся ад бальшавіцкага пераследу ў вясковых хатах. Ён быў арыштаваны ў 1920 г. і 11 месяцаў правёў у турмах, у т. л. у Бутырскай турме ў Маскве. Быў вызвалены ў ліпені 1921 г. дзякуючы намаганням польскага ўрада. На той момант ён важыў 43 кг (!) Пасля выздараўлення біскуп паспрабаваў вярнуцца ў Менск… «Гераічны дух жыў у гэтым святары», – заўважыў Скірмунт.

З 1925 г. да сваёй смерці ў 1932 г. Зыгмунт Лазінскі ўзначальваў Пінскую

[1906] «Гоман». 1918, № 79, 8 кастрычніка.

дыяцэзію. Адносна гэтага перыяду аўтар артыкула таксама прыгадаў некалькі эпізодаў, якія сведчылі, што біскуп, пагружаны ў малітву, не надаваў належнай увагі «зямным» праблемам жыцця дыяцэзіі. У выніку, паводле Скірмунта, біскуп не аказаў таго ўплыву на вернікаў і духавенства, якога можна было чакаць ад чалавека надзвычай набажнага і эрудыраванага. «Каму шмат дадзена, – заўважыў напрыканцы Скірмунт, – той шмат ад сябе патрабуе, а ў людзей нараджае надзею на цуд. Іншае поле дзеяння, чым кіраванне дыяцэзіяй, можа, у большай ступені адпавядала б ягонай узнёслай душы. Чалавек беззаганны і набожны, рабіў як мог і ўмеў, і такім застанецца ў памяці. Псалмом было ягонае жыццё».

Успаміны і разважанні Рамана Скірмунта, прысвечаныя постаці біскупа Лазінскага, адначасна былі разважаннямі пра значэнне розума, ведаў і волі чалавека ў суадносінах з Божым наканаваннем. Ён быў упэўнены, што Касцёл павінен не толькі рыхтаваць людзей да смерці, але таксама вучыць іх жыць.

Раман Скірмунт у гэтым артыкуле моцна нагадваў сябе самога пачатку XX ст. Выказаныя ім думкі шмат каму маглі не спадабацца. Сярод вернікаў біскуп Лазінскі карыстаўся вялікім аўтарытэтам нават пасля сваёй смерці. Дарэчы, у 1957 г. распачаўся працэс ягонай беатыфікацыі. У 1993 г. папа Ян Павел II надаў яму тытул «Вялебнага Сына Божага».

## *Маёнтак і ягоныя жыхары*

Гэты сюжэт варта распачаць з апісання сядзібы і парку ў Парэччы, якое належыць славутаму даследчыку зямянскіх рэзідэнцый паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай Раману Афтаназы (1914–2004). У другой палове 1930-х гг. тагачасны студэнт Львоўскага ўніверсітэта пачаў апісваць гэтыя рэзідэнцыі, быццам імкнучыся выратаваць ад знішчэння той свет, які хутка знікне назаўсёды.

Ягоныя даследаванні пачыналіся якраз на Палессі. Палац у Моладаве і дом Скірмунтаў у Парэччы былі апісаны маладым даследчыкам аднымі з першых[1907]. Гэтае апісанне дапамагае ўявіць атмасферу роднага дома Рамана Скірмунта і той малой/вялікай Радзімы, дзе прайшлі апошнія дзесяцігоддзі ягонага жыцця.

*ДАКУМЕНТ*

**Раман Афтаназы. Палац і парк у Парэччы**[1908]

*Не з'яўляючыся будынкам, які будаваўся для жылля, палац у Парэччы нават пасля перабудовы і прыстасавання да жыцця гаспадара захаваў суровы і без-*

---

[1907] T. Epsztein, *Nieznane fakty z biografii Romana Aftanazego (1914–2004)*, «Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej». 2015, Nr 50 (z. 2), s. 107.

[1908] R. Aftanazy, *Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej*. Wyd. 2. T. 2. Województwa Brzesko-litewskie, Nowogródzkie. Warszawa, 1992, s. 120–122.

*стылёвы выгляд. […] Ягоны фасад, павернуты да Ясельды, трохі ўпрыгожваў толькі атачоны жалезнай балюстрадай балкон. Адно крыло мела веранду з дахам, які трымаўся на тонкіх калонах. З вокнаў гэтага боку адкрываўся даволі меланхалічны, але вельмі прыгожы і вельмі палескі від на працякаючую ў некалькіх метрах ад дому Ясельду з яе шматлікімі маляўнічымі лугамі, вясною і ўвосень залітымі вадою па небасхіл.*

*З пункту гледжання архітэктонікі ўнутраны інтэр'ер палаца быў даволі сціплым. Сцены салонаў і жылых пакояў былі пафарбаваны. Паркет ляжаў толькі ў некаторых пакоях. Аднак усе пакоі для гасцей, г. зн. вялікі і малы салоны, сталовая, кабінет і некаторыя іншыя мелі стылёвую мэблю канца XVIII ст. Часткова яна была прывезена з Моладава.*

*Палац меў багатыя калекцыі, напр. калекцыю абразоў, самы стары з якіх прадстаўляў Маці Божую і дзіця ў срэбным аддзенні, каронах і паходзіў з касцёла ў Любешове. Былі сямейныя партрэты, еўрапейская парцаляна, мініяцюры, залатыя медалі, якімі некалі ўзнагароджвалі прадукцыю мясцовай фабрыкі, частка сямейнага архіва і бібліятэка, галоўным чынам гістарычнай літаратуры, якую апошнія гаспадары пастаянна папаўнялі.*

*Славай Парэчча быў вялізарны парк (каля 60 га), закладзены з боку палаца, які цягнуўся да Ясельды. Ягоная кампазіцыя складалася як з дрэваў, так і з кустоў, што раслі там стагоддзямі, а таксама з прывезеных з іншых еўрапейскіх і нееўрапейскіх краін з падобным кліматам. Галоўным стваральнікам парка і яго апекуном да 1939 г. быў Раман Скірмунт. Бліжэй да палаца знаходзіліся газоны з клумбамі кветак і дэкаратыўнымі кустамі, агароджаныя нізкарослым жываплотам. Парк займаў увесь бераг Ясельды і яе прытока. Тут былі каналы і сажалкі з перакінутымі праз іх выгнутымі дугой драўлянымі масткамі, а таксама паўвостравы і астравы. На самым буйным востраве галоўнага рэчышчы ракі быў пасаджаны сад.*

*Цэнтральная алея, якая цягнулася праз увесь парк з поўначы на поўдзень, дзяліла яго на дзве часткі. У паўночнай пераважалі старыя чырвоныя дубы, букі і белая акацыя. Больш цікавай была заходняя частка з мноствам бягучых у розныя бакі, пятляючых і перакрыжаваных шляхоў і сцяжынак, якія пераважна вялі ў бок ракі. Тут вялізнымі масівамі раслі дубы з дамешкам ялінаў, ясеняў, клёнаў, вязаў ды іншых экзатычных гатункаў, напр., цюліпанавых дрэў. Адно з іх узнялося на 15 м, а ў шырыні мела 44 см. Балотны кіпарыс з раздвоеным ствалом узняўся на 6 м.*

*У заходняй частцы парку раслі таксама звычайныя, белыя і сібірскія елкі, веймутовы сосны, яліны канадскія і Энгельмана, кедры і лістоўніцы еўрапейскія, чырвоныя дубы, некалькі гатункаў клёнаў, у т. л. ясенепадобныя, конскі каштан ды інш. Адна з алей была засаджана тонкімі кіпарысамі. На шырокай паляне стаялі два самотныя і магутныя дубы, узрост якіх складаў некалькі стагоддзяў. […] Усе дрэвы мелі шыльды з дакладнай батанічнай назвай. У парку жылі розныя гатункі жывёл і цэлыя роі балотных птушак, для якіх будаваліся адмысловыя хаткі.*

*Падчас Першай сусветнай вайны Парэчча і ягоныя зборы ацалелі. Затое немцы абрабавалі ўсе фабрычныя будынкі, якія ў перыяд працяглых пазіцыйных баёў, як і фальваркі, былі зруйнаваны. У міжваенны час уладальнік ужо не меў сродкаў, каб аднавіць вытворчасць. Некаторыя ацалелыя будынкі былі прызначаны пад гаспадарчыя мэты.*

Як ужо адзначалася, першыя пасляваенныя гады для жыхароў Парэчскага маёнтка былі надзвычай цяжкімі. Рамана Скірмунта ратаваў лес, продаж якога дазваляла выплачваць дзяржаўныя падаткі, паступова аднаўляць зруйнаваную гаспадарку і падтрымліваць сямейнікаў. У маёнтку жылі, апрача гаспадара, ягоная маці Тэафіла і малодшая сястра Алена. Таксама часцяком прыязджалі і надоўга затрымліваліся сёстры Ванда (не замужам) і Тэафіла Корсак-Залеская.

На Вялікдзень і Раство звычайна збіраліся ўсе дзеці Аляксандра Скірмунта і Тэафілы з Любаньскіх. Феліцыя прыязджала з мужам Пятром Сташэвічэм. З блізкага Кажанёва наведваўся старэйшы брат Аляксандр. Тэафіла прывозіла сваю дачку Вацлаву. Разам з маці Марыяй (з Лясоцкіх) прыязджаў студэнт Палітэхнічнага інстытута ў Гданьску Аляксандр Скірмунт. Траіх ужо не было. Браніслава (не замужам) памерла ў 1916 г. у Вільні і была пахавана на Росах[1909]. Яшчэ да вайны ў 1910 г. памёр Зянон, а Вацлаў трагічна загінуў у выніку неасцярожнага абыходжання са зброяй ў 1872 г. Абодва былі пахаваны ў Моладаве.

Сямейнае «гняздо» ў Парэччы яднала вялікую сям'ю. Пра цёплую атмасферу роднага дома сведчаць мянушкі сямейнікаў, якія, паводле ўспамінаў Вацлавы Нээф (з Корсак–Залескіх), найчасцей прыдумлялі Раман і Генрык з Моладава. Так, старэйшы брат Аляксандр атрымаў мянушку «Парцалянавы», а Браніславу называлі «Вежай мудрасці». Яна, сапраўды, была надзвычай разумнай і адукаванай, мела мастацкія здольнасці і закончыла Школу мастацтва ў Рыме. Браніслава пераехала ў Вільню, дзе пісала абразы, некаторыя з якіх можна было ўбачыць у Парэччы. Затое Ванда мела мянушку «Цюпця», якую прыдумаў Генрык Скірмунт, які найбольш падсмейваўся над яе «мудрасцю». Алену называлі «Вечнай маладосцю» за яе энергічнасць і актыўнасць, а Феліцыю – «Цэрэрай Лагішынскай». Як вядома, Цэрэра ў старажытным Рыме была багіняй урадлівасці.

Дарэчы, якраз з Феліцыяй быў звязаны адзіны вядомы сямейны канфлікт. Справа ў тым, што пасля смерці маці ў 1928 г. Тэафіла і Феліцыя прэтэндавалі на маёнтак Тэклінаполь на Вілейшчыне. Маёнтак быў падзелены, прычым Феліцыя атрымала сядзібу і гаспадарку, а Тэафіла толькі зямлю ў фальварку

[1909] У чэрвені 2018 г. атрымалася знайсці магілу Браніславы Скірмунтуўны на віленскіх могілках Росы. На сённяшні дзень гэта адзіная магіла сямейніка парэцкіх Скірмунтаў, месцазнаходжанне якой не выклікае сумневу. Браніслава памерла ў віленскім шпіталі ў лістападзе 1916 г. Маці, браты і сёстры атрымалі магчымасць наведаць магілу толькі на пачатку 1920-х гг.

Сеннае з вырубленым лесам. Падзел быў несправядлівы, але Баляслаў Скірмунт з Шаметаўшчыны, прызначаны сям'ёй у якасці пэўнага кантралёра, не стаў унікаць у праблему і зацвердзіў яго. Сям'я была абурана, і стасункі Парэчча з Феліцыяй надоўга сапсаваны.

Пра стан гаспадаркі Парэцкага маёнтка на рубяжы 1920–1930-х гг. сведчаць успаміны былога кіраўніка Апеляцыйнага суда Яна Закжэўскага, які па запрашэнні Генрыка Скірмунта прыехаў на Піншчыну ў 1930 г. Адміністратар маёнтка ў Моладаве параіў яму наведаць суседняе Парэчча і пазнаёміцца з Раманам Скірмунтам і ягонай гаспадаркай, якая ўключала ткацкую майстэрню воўны, крухмальню, вінакурню, бровар, фабрыку воцату, разбудаваную сельскагаспадарчую прамысловасць і ўласную вузкакалейку да Янава, моцна пашкоджаную ў апошнюю вайну.

Парэчча ён наведаў разам з Генрыкам Скірмунтам. Яно ўразіла госця ўжо тым, што больш нагадвала фабрычны пасёлак, чым зямянскі маёнтак. Ён убачыў высокія фабрычныя коміны, якія больш не дымілі, і знішчаную вузкакалейку, без адбудовы якой не было сэнсу адраджаць фабрычную прамысловасць. Затое працавалі вінакурня і фабрыка воцату, прадукцыя якіх збывалася на мясцовым рынку, паўсюдна сустракаліся работнікі, віравала праца.

Госцю з Варшавы спадабалася атмасфера дома і размова з гаспадаром, якога ён ахарактарызаваў як аднаго з «найбольш разумных сярод крэсовых зямян». Гаспадар пачаставаў хатнім віном з груш амаль 30-гадовай вытрымкі. Схаванае ў зямлі яшчэ ў часы рэвалюцыі 1905–1907 гг. яно ператрывала шматлікія рабункі маёнтка[1910]. Пры гэтым гаспадар не скардзіўся на сялян у адрозненні ад Генрыка Скірмунта, які ў шчырай размове прызнаўся Закжэўскаму, што ў «выпадку вайны з Усходам, сяляне без ваганняў перарэжыць мне горла»[1911].

У момант прыезду Я. Закжэўскага ў палацы гасцявала Марыя Скірмунт з Лясоцкіх, удава Зянона Скірмунта, якая жыла ў Кракаве. Пра іншых жыхароў сядзібы Скірмунтаў можна даведацца са спісаў выбаршчыкаў у Сенат, якія захаваліся сярод дакументаў ДАБВ. Так, у лістападзе 1930 г. тут пражывалі, апрача Рамана Скірмунта, Алена і Ванда, упраўляючы Аляксей Аляксееў (35 гадоў, у маёнтку з 1926 г.), ксёндз Казімір Дзімітровіч (37 гадоў, у маёнтку з 1922 г.), а таксама «гаспадыня дому» Кацярына Цярэшка (47 гадоў, у маёнтку ад нараджэння)[1912]. Дадзеныя вуснай гісторыі дазваляюць сцвярджаць, што ўпраўляючы верагодна ў 1919–1920 гг. ваяваў у войску С. Булак-Булаховіча.

Ксёндз Дзімітровіч прыехаў на Піншчыну ў 1922 г. з Седлец. Ягоны ліст у курыю, датаваны 10 красавіка 1922 г. сведчыць пра рашучыя намеры акаталічвання мяс-

[1910] ZNiO. Dział rękopisów. 14573/II. J. Zakrzewski, *Z moich wspomnień. Odkrywam Pińszczyźnę*, k. 10.

[1911] Ibidem, k. 5.

[1912] ДАБВ. Ф. 493, воп. 3, спр. 89, арк. 19 адв.–20 адв.

цовага праваслаўнага насельніцтва. Так, пасля набажэнства ў Парэцкім касцёле ён нават выказаў упэўненасць, што ў выніку ягонай «мазольнай працы» праваслаўныя будуць пераходзіць у каталіцкую веру, і парафія будзе павялічвацца[1913]. Паводле Дзімітровіча, цэнтрам парафіі павінен быў стаць касцёл у в. Ахова паблізу Пінска. У 1924 г. ён быў прызначаны настаяцелем Ахоўскага касцёла, але ўжо праз год пакінуў яго. Відаць, у нейкі момант сядзіба Скірмунтаў у Парэччы стала ягоным сталым прытулкам. І гэта здзіўляе, бо Раман Скірмунт хоць і сімпатызаваў каталіцкаму Касцёлу, але быў катэгарычным праціўнікам рэлігійнай канверсіі. Зрэшты, за час знаходжання на Палессі настрой кс. Дзімітровіча мог змяніцца.

Кацярына Цярэшка была ўдавой фурмана, і як «гаспадыня дому» штодня вырашала мноства побытавых праблем. Пра яе і дзяцей, якія жылі разам з ёй у маёнтку, гаворка яшчэ наперадзе.

Спіс выбаршчыкаў у Сейм і Сенат 1935 г. засведчыў, што ў маёнтку жылі Кацярына Цярэшка, 1880 г. нар. (пры сыне) і яе дзеці: Філіп, 1902 г. нар.; Раман, 1903 г. нар. (гаёвы фальварка Шаліпуўка); Уладзімір, 1907 г. нар. (слесар); Тэафіла, 1908 г. нар. (пры мужы); Марыя, 1909 г. нар. (пры мужы); Пётр, 1909 г. нар. (столяр). Таксама ў маёнтку пражываў старэйшы брат Рамана Аляксандр Скірмунт, які перабраўся сюды з Кажанёва, ужо згаданы ўпраўляючы Аляксееў і супругі Мячыслаў і Стэфанія Іздэбскія (у маёнтку з 1933 г.)[1914].

Сястра Тэафіла збудавала драўляны дом у фальварку Сеннае і перабралася жыць туды. Яна памерла ў 1935 г. і была пахавана тамсама на новых могілках. Пасля смерці мамы яе дачка Вацлава, якая ўжо была замужам за нямецкім лекарам Жанам Нээфам, атрымала фальварак Дамброва і вырашыла займацца сельскай гаспадаркай. Актыўную дапамогу ў гэтым аказаў Раман Скірмунт, які вельмі любіў сваю пляменніцу. Менавіта дзякуючы яе ўспамінам, ёсць магчымасць зазірнуць у жыццё маёнтка ў 1930-я гг.[1915]

Вацлава Нээф прыгадвала, што фактычна кожную нядзелю яна праводзіла ў Парэччы са сваім дзядзькам, які вельмі чакаў гэтых сустрэч. Падчас школьных канікул яна прыязджала разам з дзецьмі Янам, Крысцінай і Эдвардам, у іншы час наведвала Парэчча адна. Звычайна нядзеля пачыналася з набажэнства ў капліцы. Потым Раман Скірмунт да позняга вечара займаў яе час, распавядаючы гісторыю сям'і ў перамешку з анекдотамі, а таксама прыгадваючы пэўныя падзеі з уласнага жыцця.

Паводле яе ўспамінаў, дзядзька Раман ужо ў дзяцінстве стаў «правай рукой» свайго бацькі і амаль самастойна кіраваў фабрыкай і лясной гаспадаркай маёнтка. Пры гэтым яна адзначыла ягоную любоў да кніг і пастаяннае папаўненне хатняй

---

[1913] ДАБВ. Ф. 2346, воп. 1, спр. 60, арк. 14.

[1914] ДАБВ. Ф. 493, воп. 7, спр. 155, арк. 16–18 адв.

[1915] Далейшы тэкст грунтуецца пераважна на запісаных Зоф'яй Дэрналовіч успамінах Вацлавы Нээф, якія яна перадала аўтару гэтай кнігі.

бібліятэкі, а таксама музычныя здольнасці. Раман Скірмунт «без нот» выконваў музыку Людвіка Бетховена, Вольфганга Амадэя Моцарта і Фрыдэрыка Шапэна.

Яна прыгадала ягонае дэпутацтва ў І Думе (1906) і нежаданне (?!) удзельнічаць у выбарах у ІІ Думу, бо яна, па словах Скірмунта, больш нагадвала камедыю, а не парламент. Таксама Раман Скірмунт прызнаўся, што пасля вайны атрымаў ад урада прапанову стаць ваяводам у Берасці, але адхіліў яе. Распавядаў пра ўласную працу ў якасці сенатара. Аднойчы прызнаўся, што яму заўсёды не хапала лёгкасці ў кантактах з людзьмі, у кампаніі ён адчуваў сябе няёмка і часцяком не мог паказаць свае лепшыя якасьці. Пры гэтым Скірмунт зрабіў камплемент пляменніцы, заявіўшы, што, каб меў такі ж лёгкі характар, як яна, то шмат чаго мог бы дабіцца. У апошнім адчувальнае пачуццё пэўнага незадавальнення нерэалізаванасцю ўласнага патэнцыялу. Магчыма, у гэтыя апошнія гады жыцця ўсё часцей наведвалі думкі пра вынікі ўласнай грамадскай і палітычнай дзейнасці…

Ва ўспамінах Вацлавы Нээф рэфрэнам гучала думка, што Раман Скірмунт – гэта найлепшы чалавек, якога яна сустракала ў сваім жыцці. Дарэчы, аналагічнае меркаванне выказаў былы генеральны консул Польшчы ў Жэневе і дарадца польскай дэлегацыі ў Лізе народаў Казімір Трэмбіцкі (1895–1981), які ў размове з Зоф'яй Дэрналовіч прызнаўся, што быў ачараваны Раманам Скірмунтам. Дарэчы, ён надзвычай добра арыентаваўся ў некаторых «цёмных» старонках біяграфіі гаспадара Парэчча. У прыватнасці, упэўнена заявіў, што Раман Скірмунт не закончыў гімназіі, бо быў забраны з яе, каб кіраваць фабрыкай.

Вяртаючыся да ўспамінаў Вацлавы Нээф, трэба адзначыць, што яна шмат казала пра дабрыню Рамана Скірмунта, прыгадваючы, што ён пастаянна дапамагаў сялянам. У 1930-я гг. у маёнтку пасяліўся ягоны старэйшы брат Аляксандр, які падараваў Кажанёва Стэфаніі Сянкевіч са Станевічаў. Таксама ў сядзібе Скірмунтаў жылі г. зв. «рэзідэнты», а менавіта бацька згаданай Стэфаніі і Пётр Ванькові (1866–1936). Першы з іх прайграў у карты ўсю маёмасць і застаўся без сям'і, другі таксама быў выкінуты блізкімі на вуліцу. Ваньковіч памёр у Парэччы і быў пахаваны на могілках у парку. Тамсама раней быў пахаваны студэнт Аляксандр Скірмунт, які скончыў жыццё самагубствам, і якога Генрык Скірмунт не дазволіў пахаваць у Моладаве.

У 1931 г. Алена выйшла замуж за далёкага сваяка Баляслава з лініі, г. зв. «зарэцкіх» Скірмунтаў, маёнткі якіх знаходзіліся на левым беразе рэк Піна і Прыпяць. Яна пакінула Парэчча, на якое раней актыўна прэтэндавала, прапануючы брату Раману пераехаць у Пінск. Брат не саступіў, але ў выніку спрэчкі Алена атрымала фальварак Белы двор.

Вацлава Нээф распавядала, што частымі гасцямі маёнтка былі прадстаўнікі інтэлігенцыі, і адзначала, што стаўленне гаспадароў Парэчча да іх і да гасцей-арыстакратаў нічым не адрознівалася. Яна прыгадвала візіты ў Парэчча князя Станіслава Радзівіла (1880–1920), які загінуў ва Украіне падчас вайны з бальшавікамі, ваяводы і будучага прэзідэнта Польшчы ў лонданскай эміграцыі

Уладзіслава Рачкевіча (1885–1947), кавалера мальтанскага ордэна і дэпутата Сейма III і IV кадэнцыі графа Эмэрыка Гутэн-Чапскага (1897–1979) ды інш. Варта дадаць, што Парэчча і Моладава наведаў ксёндз Казімір Букраба (1885–1946) амаль адразу пасля прызначэння на пасаду пінскага біскупа.

Гаспадарчыя патрэбы прымушалі Скірмунта неаднаразова звяртацца ў Палескую акруговую зямельную ўправу за дазволам на парцаляцыю. Так, у сакавіку 1927 г. ён атрымаў дазвол на парцаляцыю амаль 270 га. Частка зямлі была прададзена, 10 га ён перадаў бясплатна касцёлу (пазней гэтае рашэнне было перагледжана, і касцёл заплаціў 2,5 тыс. зл.), два гектары адышлі пад пост паліцыі і яшчэ два – да Управы гміны. У лістападзе на патрэбы парцаляцыі было выдзелена яшчэ 57 га, якія трапілі ў рукі 147 новых уладальнікаў. Агульны прыбытак уладальніка Парэчча склаў 29,7 тыс. зл.[1916] Тыя ж дакументы сведчаць, што ён браў дазвол на парцаляцыю і прадаваў свае землі таксама ў кастрычніку 1928 г. і верасні 1929 г. На жаль, адсутнічаюць крыніцы, якія б дапамаглі зразумець, дзеля чаго спатрэбіліся такія вялікія грошы. Дарэчы, у кастрычніку 1935 г. памеры маёнтка Парэчча складалі 5 282,35 дзес.[1917]

Даследчык Ян Тэадаровіч, які ў 1934–1936 гг. працаваў у палескай экспедыцыі Юзафа Абрэмбскага, для часопіса *Sprawy narodowościowe* запоўніў анкету, дадзеныя якой дазваляюць зразумець становішча вёскі і маёнтка Парэчча ў кантэксце ўсёй гміны. Праўда, аўтараў анкеты найбольш цікавіла праблема паланізацыі Палесся.

Ян Тэадаровіч сцвярджаў добры стан гаспадаркі толькі ў двух маёнтках, менавіта ў Парэччы і Клетнай (уладальнік Леан Дамброўскі) (разам 8 тыс. га). Усе іншыя маёнткі (каля 9 тыс. га) мелі вялізныя даўгі[1918].

З анкеты можна таксама даведацца, што толькі ў Парэччы знаходзілася адзіная на ўсю гміну сямікласная школа, у якой працавалі чатыры настаўнікі[1919]. У вёсцы існаваў шэраг грамадскіх арганізацый, у прыватнасці, «Стралец», Саюз рэзервістаў (каля 35 чал.), Пажарная ахова, аддзяленне Лігі супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны. Тэадаровіч адзначыў, што найбольш папулярным з'яўляецца «Стралец», у які запісваюцца, каб не плаціць вайсковага падатку і весела праводзіць час, бо ў праграме ягонай дзейнасці заўсёды былі розныя імпрэзы.

У анкеце адлюстравалася падзенне папулярнасці ББСУ. Як сцвярджаў Тэадаровіч, «гавораць, што ўсе ўрады гэтай «партыі» нічога добрага не прынеслі, з году на год бяда на вёсцы толькі расце». Ён пісаў пра пераважна крытычнае стаўленне да Польскай дзяржавы і бачыў прычыну гэтага як у адсутнасці сва-

---

[1916] ДАБВ. Ф. 2001, воп. 1, спр. 5874, арк. 7, 14.

[1917] ДАБВ. Ф. 2021, воп. 1, спр. 53.

[1918] [J. Teodorowicz], Ankieta. Gmina Porzecze powiat piński. Rozdział II. Хачу выказаць удзячнасць прафесару Ганне Энгелькінг за прадастаўленыя матэрыялы.

[1919] Ibidem. Раздзел IV.

бодных земляў, так і краху надзей на паляпшэнне эканамічнага стану. Пры гэтым, паводле ягоных назіранняў, сацыяльны радыкалізм у апошнія гады істотна зменшыўся, да чаго найбольш спрычынілася дзейнасць паліцыі.

## *«Наш Скірмунт»*

Біяграфія Рамана Скірмунта не будзе поўнай без аднаўлення ягонага вобраза, які захоўвае памяць старэйшых жыхароў Парэчча і навакольных вёсак. Успаміны пра колішняга гаспадара маёнтка – неад’емны элемент лакальнай гістарычнай памяці, які стаўся часткай аўтабіяграфічнай нарацыі парэчан.

Запіс вусных успамінаў пра Рамана Скірмунта з Парэчча, а таксама ягоных сваякоў з Моладава (Іванаўскі раён) ды іншых прадстаўнікоў роду Скірмунтаў з Заходняга Палесся распачаўся яшчэ напрыканцы XX ст. Спачатку гэта былі асабістыя падарожжы па «месцах памяці» вяскоўцаў пра «паріцкага пана», а пазней – навуковыя экспедыцыі, у якіх прымалі ўдзел калегі-навукоўцы, студэнты і выкладчыкі Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільня), Гарадзенскага філіяла Беларускага Інстытута правазнаўства і, нарэшце, супрацоўнікі і валанцёры он-лайн праекту «Беларускі архіў вуснай гісторыі».

Варта патлумачыць, чым з’яўляецца вусная гісторыя (*Oral History*), і якое значэнне маюць вуснагістарычная даследаванні для развіцця сучасных гуманітарных навук. Агульнапрынятага вызначэння гэтай навуковай дысцыпліны, якая пачала актыўна развівацца пасля Другой сусветнай вайны, да гэтага часу няма. Знаёмства з тэарэтычнымі працамі, а таксама ўласны даследчыцкі вопыт дазваляюць трактаваць вусную гісторыю як *міждысцыплінарнае даследаванне на мяжы гісторыі, сацыялогіі і культурнай антрапалогіі, звязанае з вывучэннем феномена калектыўнай памяці. Адначасна яна з’яўляецца сацыяльна арыентаванай галіной гісторыі, якая метадалагічна (стварэнне крыніц шляхам інтэрв’ю) і канцэптуальна пашырае перспектывы гістарычных ведаў і спрыяе разуменню Чалавека ў часе.*

Для беларускай постсавецкай прасторы з характэрнай для яе частковай зачыненасцю архіваў і знішчэннем масіваў пісьмовых дакументаў, вусная гісторыя з’яўляецца важным накірункам даследаванняў сацыяльнай гісторыі, гісторыі штодзённасці, мікрагісторыі ды інш. *Oral History* – гэта таксама ўнікальная магчымасць даследчыку пачуць г. зв. «маўклівую большасць гісторыі» (Арон Гурэвіч) і зразумець гістарычны працэс у ягоным «чалавечым вымярэнні», якое часта адрозніваецца ад канцэптуальных падыходаў акадэмічнай навукі.

Асабіста ўпэўнены, што ігнараванне вуснай гісторыі, пашыранае сярод беларускіх «акадэмічных» гісторыкаў, значна збядняе магчымасці аналізу і інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў. Даследчык сацыяльна-палітычных працэсаў XX ст., які не валодае вуснагістарычным метадам і не працуе з «жывымі архівамі», не мае права прэтэндаваць на разуменне асноўных тэндэнцый гісторыі Найноўшага часу.

У вуснай гісторыі можна вылучыць *гістарычную і сацыялагічную перспектывы*. Першая з іх дамінуе ў сітуацыі, калі даследчык у вусных успамінах бачыць крыніцу інфармацыі пра невядомыя гістарычныя падзеі або пра невядомыя аспекты вядомых падзей. Пры гэтым навуковец сутыкаецца з праблемай верыфікацыі крыніцы.

Традыцыйная гістарыяграфія, якая ў Беларусі ўсё яшчэ стаіць на падмурках філасофіі неапазітывізму, крытычна ацэньвае пазнавальныя магчымасці вуснай гісторыі. На яе глядзяць пераважна як на нейкі дадатак ці ілюстрацыю да архіўных дакументаў. Пры гэтым звяртаецца ўвага на суб'ектывізм атрыманых крыніц. Аднак суб'ектывізм характэрны для ўсіх тыпаў гістарычных крыніц. Усе яны ствараліся чалавекам, які або не імкнуўся да аб'ектыўнага адлюстравання рэчаіснасці, або не быў у стане гэтага дасягнуць. Сёння якраз даследчыкі вуснай гісторыі акцэнтуюць увагу на праблеме дыялогу гісторыка і крыніцы, абмяркоўваюць пытанні навуковай верыфікацыі і інтэрпрэтацыі прамоўленых успамінаў.

Пры выкарыстанні *сацыялагічнай перспектывы* вуснай гісторыі ў цэнтры даследавання аказваецца якраз суб'ектывізм рэспандэнта, а даследчыцкая ўвага скіравана пераважна на аналіз таго, як суразмоўцы распавялі пра пэўную гістарычную падзею або асобу, якую ацэнку ёй далі, якім сэнсам надзялілі. Як заўважыў вядомы італьянскі даследчык Алесандро Партэлі, суб'ектыўная трактоўка падзей уваходзіць у сферу кампетэнцыі гісторыка ў той самай ступені, што і падзеі больш «матэрыяльнай» гісторыі[1920]. Пры гэтым каштоўнасць вуснай крыніцы заключаецца не столькі ў яе адпаведнасці г. зв. «гістарычным фактам», колькі ў адхіленнях ад іх, дзе праяўляецца чалавечая фантазія, боязь, спадзевы, пажаданні і г. д. Апошняе, між іншым, дазваляе навукоўцу падслухаць тое, што вывучаемая супольнасць не здолела альбо не пажадала пра сябе распавесці.

У выпадку з вуснымі ўспамінамі пра Рамана Скірмунта будзе дамінаваць *гістарычная перспектыва*. Праўда, трэба адразу адзначыць, што ад пачатку даследаванняў прысутнічала адчуванне, што аповедам пра трагічны лёс «добрага пана» вясковыя суразмоўцы імкнуліся нешта вельмі важнае распавесці пра саміх сябе…

Суразмоўцамі або рэспандэнтамі, што дзяліліся памяццю пра Рамана Скірмунта былі жыхары в. Парэчча Пінскага раёна, а таксама навакольных вёсак Моладава, Табулак, Чамярына, Рудкі, Аховы, Моталя ды інш. (Пінскі і Іванаўскі раёны Берасцейскай вобл.). Сярод рэспандэнтаў дамінавалі жанчыны 1910–1940-х гг. нараджэння, пераважна праваслаўнага веравызнання, адукацыя якіх звычайна абмяжоўвалася 4–5 гадамі навучання ў польскай ці савецкай школах.

---

[1920] А. Портелли, *Особенности устной истории* (у:) *Хрестоматия по устной истории*. Автор введения, составитель и переводчик М. В. Лоскутова. Санкт-Петербург 2003, с. 40.

Звычайна суразмоўцы прамаўлялі на лакальным варыянце «трасянкі», дзе змешвалася лексіка мясцовай гаворкі, украінскай, беларускай і рускай моваў. Большасць рэспандэнтаў падчас інтэрв'ю пазбягала мовы, на якой размаўляе ва ўласнай хаце. Часта яны імкнуліся прадэманстраваць уменне размаўляць «правільна». Ніжэйпададзеныя цытаты з вусных успамінаў даюцца з захаваннем асаблівасцяў вымаўлення рэспандэнтаў. Яны ўзяты з транскрыптаў аўдыё- і відэазапісаў. Большасць транскрыптаў былі падрыхтаваны дактаранткай Інстытута славістыкі Польскай Акадэміі навук Таццянай Касатай.

У большасці экспедыцый даследчыкі карысталіся распрацаваным апытальнікам, а пачынаючы з 2012 г. дамінаваў метад аўтабіяграфічнага наратыўнага інтэрв'ю, грунтоўна апісаны нямецкімі даследчыкамі Фрытцам Шутцэ і Габрыэль Розэнталь[1921]. Пры гэтым найважнейшай часткай інтэрв'ю станавіўся этап г. зв. «нязмушанага аповеду», калі рэспандэнт у свабоднай форме распавядаў пра ўласнае жыццё, а інтэрв'юэр пазбягаў вярбальнага ўмяшальніцтва ў гэты аповед.

Усяго было сабрана каля 70 вусных сведчанняў, зафіксаваных на аўдыё- і відэаапаратуру. Запісы аўтабіяграфічных інтэрв'ю захоўваюцца на сайце Беларускага архіва вуснай гісторыі (http://www.nashapamiac.org/archive/home), дзе пасля рэгістрацыі іх можна праслухаць, а таксама – у асабістым архіве аўтара.

Варта адзначыць, што для традыцыйнага сялянскага светаўспрыняцця характэрна падкрэсліванне «панска-шляхецкай» вышэйшасці, якая звычайна складаецца з сацыяльнага і прававога дамінавання, матэрыяльнага дабрабыту, больш высокай культуры паводзінаў. У «палескім выпадку» яна таксама ўключае сувязь з польскасцю і каталіцкае веравызнанне.

Сялянскія аповеды пра «пана» звычайна месцяцца ў катэгорыі вобраза «чужога». Аднак ва ўспамінах пра Рамана Скірмунта гэты вобраз нівеліяваўся імкненнем суразмоўцаў паказаць якраз «свайго пана», «нашага Скірмунта». У вусных успамінах паўставаў вобраз «добрага пана», апекуна вёскі, паводзіны якога мінімізавалі тую сацыяльна-культурную дыстанцыю, што існавала паміж маёнткам і вёскай, чаго, дарэчы, не назіралася ва ўспамінах пра іншых прадстаўнікоў роду Скірмунтаў ці сваякоў гаспадара маёнтка ў Парэччы.

Вось як прыгадваліся суразмоўцамі чалавечыя якасці Рамана Скірмунта:

• *Такі быв надто добры пан […] Як бідны людзі, на роботу всегда до яго ходзілы. У кого бідно, то там пан пудоў жыта дасць, у кого бракуе. Пан наш быв очэнь харошы! […] Як ён людзей шановаў! У кого не було, тому поля по кавалку даваў. Добрэнны пан быв наш. Добрэнны!* (Уляна Мельнік, 1923 г. нар., в. Чамярын).

• *Такіх паныв як наш пан, то нігде, такэй душы, наверное, не було. Очэнь-очэнь быв добры. Сочувствовал каждому бідному, помогал бідным. Як горыць хата, ці*

[1921] Гл.: Г. Розенталь, *Реконструкция рассказов жизни: принципы отбора, которыми руководствуются рассказчики в биографических интервью* (у:) *Хрестоматия по устной истории.*, с. 322–355.

*што, ці хлеў, да згарыць корова, плачуць людзі. [Прыходзіў Скірмунт:]: «Ты не бійся, это згорэла не твоя корова, а моя». Даваў [на] корову. Это я ўжо чула ад бацька. А калі землю прадаваў, хто бідны, стараўся цэну знізіці, ну, помогці людзям бідным. І он быв очэнь-очэнь хорошы.*

*[…] А наш ужо Скірмунт быв такі сочувственны каждому бідному чоловіку. Он помогав усім людзям. […] У яго людзі робылы, у пана. І вот моей племенніцы дзядзька робыў у яго. Забралі яго в армію, так он обеспечаў родзіцелей. Землю кусочак даваў, садзілі картоплі і обеспечаў корову сенам. […] Такі быв чоловік… І з свово кармана, своіх грошаў...*

*И хто бідны ходылы по грыбы, і мой хозяін ходыв… Занясуць да пана і стануць перад яго воротамі. Палац быў. Пастройкі былы – красота! Але спалілі ж […] А він выйдзе і нікогда не отправіць дзяцей. Дасць по пару грошыкаў або канфетамі і забярэ тыя грыбочки. Он понімал каждого чоловіка з полуслова […] Він людзей шкодоваў […] Не хватае ў каго хліба ўвесну, то прыдзе да пана пазычыць. Той дасць пуд ці два, ці тры. І аддаваць не трэба. Хто більш, тот хоць трохі аддасць. Рабочым і плаціў, і корміл. Хліб даваў* (Соф'я Хвясюк, 1933 г. нар., в. Парэчча).

• *Люди расказвали, что он был неплохой пан. Всем помогал, кто зайдёт и чего-нибудь попросит. Бацька положительно отзывался о Скирмунте: хороший человек был, к людям хорошо относился. И сейчас, те кто помнит, как и я, все положительно относятся к нему* (Сяргей Глушко, 1925 г. нар., в. Рудка);

• *Трапіць да пана Скірмунта было проста Пастукаемся і зойдзем. Не тое, што зараз. Не дабрацца да якога прэдсэдацеля. А тады: «Паночку, так і так, дзело ёсць». І ён дапамагаў (*Рыгор Цярэшка, 1932 г. нар., в. Парэчча);

• *А пан добры буў, добры! Неколы ў нас згорылы сараі […] Тоды ж було по шэсць хат во дворы, по сем хат. А ў нас згорылы, згорылы, хто-то заполіў, да згорылы. Коровы там булы, збіжжо. У аўгусту місяцу згорылы. Ну, а ў нас жа сям'я велыка, корова була, і тая згорыла. А пан прыіхаў, мама плача, а пан прыіхаў, да кажа: «Не плач, – він так говорыў, по нашэму говорыў, – не плач. Твоя корова не згорыла, это моя». – «А ты, Міхал, заўтра прыдзіш у крэдзенец – гэто, у кантору, неколы казалы крэдзенец, – до мене». Ну, пойшоў тато… [Пан] деньгі на корову даў, 100 злоты, а корова була 80 злотых.*

*Ну, корову купілы. А я малая ж була, пасвіла на конюшыне ў пана ўжэ ж бесплатна. А тая корова здохла, здохла тая корова. Ну, што ж зробыці. У нас жа гурт, сем'я, малыя. Він почуў… Тата не ідзе два дні до яго, ужэ до пана, а він ужэ почуў, што корова здохла. Да вызывае, да кажа: «Міхал, а чаго ты не кажаш, што коровы нема?», а ён кажа: […] «Ну, што ж, пане, так ж далы мне корову вы».*

*Тато молоко возіў, неколы ў пана […] кіньмі возіў тато, а млечарня була, вот, зара, дзе дачы, на Рудцы, там млечарня була. А він кажа: «Давязеш молоко, – даў запіску. – Вот, скілько цепер корова стоіць?» Он кажа: «Не знаю, пане». «Там тобі дадуць грошай, в млечарне і, коб дзіці не булы без молока!» Такі разговор буў. Ну, тато кажа, я ему ўжэ і руку поцаловал… Другу корову за два місяцы купляли.*

*Купілы ўжэ тую корову, і була тэя корова добра* (Ганна Пракопчык, 1930 г. нар., в. Моладава).

• *Він быў харошы, росхарошы. Гэтакіх людзей мала бывае, як Скірмунт быв. Я да яго не ходыла, я яму не робыла, не была я ў яго, но він быв хорошы чоловік […] Він людэй зашчышчаў, ды шчэ як зашчышчаў людэй! Быв такі чоловік хорошы, шчо я… В мірэ на найдзеш такого чоловіка…* (Харыта Чырко, 1913 г. нар., в. Парэчча).

• *Пана нашого Скірмунта [помню]… Сколько он людзям давал… І землю давал даром, без дзенег. […] Пан сваіх людзей шкодоваў, чым мог помагал...* (Яўдакія Пракопчык, 1928 г. нар., в. Парэчча).

• *Яго порыцкіе любілі. Він бы жыв бы, мо, і цяпер яго бы ніхто не почапаў. Він гэтакі хфайны быў чоловік, што кажного чоловіка пошкодуе, дзе які былі бідны люды. Каторы гультаяваты былы, то тым бывало і дасць, і пошкодуе, і поратуе… Прыедуць за штрахіўкаю… А там одын такі чоловік быв бідны-бідны, але гультаёваты… Яго хацелі оштрафоваты, а він прыехаў і сказаў: «Не надо штрафоваты, потому што він бідны чоловік. Яго надо поратоваты, не штрафоваты». […] Хвайны быў порыцкі пан… Там яго любілы всі. На яго зроду ніхто не сказаў, потому што він людзей ратоваў. І там людзі былі богаты […] Мінэ яблыкамі частаваў. Завядзе міне в сад: «Выбірай, яке табе вкусныя…» Оцец робыў у того пана. […] Хвабрыкантам быв, Рыжко Васілій. […] Нам і сена дасць пан. […] Коло паньскага поля даў поўгектара мойму бацьку. Даў за яго работу… Мы там всэ врэмя пахалі. […] Він добры быв чоловік. […] Жартуе бывало з баба́мі, і нігды не зазліцца на тых бабэ́й, што бабы́ там ні зробляць... У яго злосьці не было. І завшэ сміхом у яго выходзіло…* (Надзея Ганута, 1926 г. нар., в. Клетная).

• *Скірмунт всегда помогав людзям* (Павел Рак, 1917 г. нар., в. Парэчча).

• *Харошы быў чалавек. Я яго цалую ў руку, а ён мяне – у галаву* (Рыгор Цудзіла, 1913 г. нар., в. Парэчча).

• *Скірмунт быў добры чалавек. Ён пахаваў у сваім маёнтку пляменніка Генрыка. Той быў самагубцам з-за дзяўчыны, а моладаўскі Генрык Скірмунт […] не дазволіў хаваць у Моладаве* (Мікалай Куцко, 1911 г. нар., в. Табулкі);

• *Він харошы быў пан, а яго растралялі. Калі хліба не маеш, то прыдзе і дасць паўмяшка хліба. Він шчодры быв* (Рыгор Дарашэнка, 1930 г. нар., в. Палтаранавічы).

Людзі згадвалі, што «пан» часта вітаўся першым, аказваў дапамогу асабліва падчас будаўніцтва, «*даваў сенакос*», рабіў падарункі на вяселле і святы, «*пагэтаму людзям вельмі падабалася ў яго працаваць, і яны ніколі ад яго не ўходзілі*» (Марыя Нікалайчык, 1920 г. нар.).

Соф'я Хвясюк таксама прыгадала эпізод, калі яе бацька Рыгор Ліпскі канкураваў з суседам у справе набыцця зямельнага надзелу (0,5 га), які прадаваў «пан». Гэтая зямля знаходзілася побач з хатай Ліпскага і яе набыццё значна палепшала як ўмовы гаспадарання, так і пражывання ягонай сям'і. Сусед жыў праз хату, але гатовы быў заплаціць за зямлю ўдвая даражэй. Ліпскі прыехаў на размову да Скірмунта, каб растлумачыць, чаму менавіта ён павінен набыць гэты надзел.

Скірмунт выслухаў і неўзабаве прыехаў аглядзець гаспадарку селяніна. Урэшце, «пан» зразумеў патрэбы Рыгора Ліпскага і пагадзіўся прадаць зямлю менавіта яму, адмовіўшыся ад больш выгадных умоў.

Распавядаючы гэтую гісторыю, Хвясюк прыгадала пэўныя сумневы Скірмунта: «*А што з табой робыты? Мне ж грошы трэба. Ну, ладно…*» Яна ж падзялілася інфармацыяй пра невялікія прыбыткі «панскага» маёнтка. Відавочна, што гэтая тэма абмяркоўвалася вёскай. Паводле яе ўспамінаў, «*у Скірмунта быв очэнь малы даход. У яго ліс быв і узкоколейка была. І купцы прыязджалі, закуплялі і вырэзвалі ліс. І узкоколейка была. Купцы нанымалы ў Парычча грузчыкаў. Закуплялі ліс і вывозылы да колейкі. Прыязжаў поезд з Іванава, і воны загружалы. Гэты ліс пан прадаваў. І зямля была ў пана – Шчыліпаўка, Міхайлаўка пад Молодово, Дуброва… […] [У Шчыліпоўцы] была волывня. Волов продаваў пан. І людзей аплачваў. І всё дочыста… І яму ўсяго прыходзіла 5 % чыстого доходу. Так Бацюк бацьку казаў*». Па яе ж словах, згаданы Бацюк з Табулак працаваў у Скірмунта «*глаўным бугалтарам*» *і* сябраваў з бацькам рэспандэнткі.

Харыта Чырко ўспамінала, як Раман Скірмунт умяшаўся ў працэс будаўніцтва хаты яе бацькамі, якія з-за адсутнасці зямлі гатовы былі ставіць хату на балоце. Ён выклікаў іх да сябе і перадаў кавалак пустой зямлі, дзе і распачалося будаўніцтва.

Падобныя «падарункі» датычылі не толькі асобных сялян. Паводле ўспамінаў Яўдакіі Пракопчык, у 1938 г. Раман Скірмунт бясплатна надзяліў уласнай зямлёй сялян в. Вілы, бо «сваёй у іх было мала».

Вяскоўцы таксама з гонарам распавядалі пра колішнюю парэцкую прамысловасць Скірмунтаў, асабліва адзначаючы суконную фабрыку:

• *Сукно выраблял яго ўжо бацька, нашаго Скірмунта бацька. І тое сукно ішло па ўсім свеці* (Соф'я Хвясюк);

• *Сукно [Скірмунтаў] на всю Расію славілася* (Рыгор Цудзіла).

• *Самы знамениты был парэчски Скирмунт. Мой дед атца служыл у Грузии, на Кавказе. Так говорил, што и там у Грузии знали сукно его фабрыки. Шынели шили для высшего офицерского состава. І скирмунтка – самая лучшая водка. Так яе называли, и фирму эту знали. Моему батьку его отец рассказывал* (Яўген Дзенісман, 1937 г. нар., в. Палтаранавічы).

Папулярнай тэмай быў таксама аповед пра дабрабыт *хвабрыкантаў*, г. зн. фабрычных рабочых. Так, Павел Клімовіч (1925 г. нар., в. Парэчча) сцвярджаў, што *хвабрыканты* зараблялі па 10 злотых і 80 кг зерня ў месяц. Яўгенія Цудзіла (1915 г. нар., в. Парэчча) казала, што дадаткова *хвабрыкантам* давалі *соткі пад бульбу*, дазвалялі трымаць свіней і кароў. Яны жылі ў збудаваных яшчэ Аляксандрам Скірмунтам двухпавярховых цагляных дамах. Парэчане сцвярджалі, што заробкаў *хвабрыкантаў* хапала на тое, каб іх жонкі займаліся толькі хатнімі справамі. Таксама добрыя заробкі мелі *хлебапашцы* ў маёнтку. Так, Рыгор Цудзіла (1913 г. нар., в. Парэчча) зарабляў не менш, чым *хвабрыканты*, апрача таго, ён атрымаў зямлю *пад бульбу* і штомесяц меў квіток на нарыхтоўку дроў (1 воз).

Але найвялікшы заробак у маёнтку атрымліваў Мікалай Куцко, які быў шафёрам. Ён працаваў на «фордзе» парэцкага ксяндза і з дазволу апошняга часцяком вазіў Скірмунта. Звычайныя маршруты – гэта Моладава і Пінск. У Пінску Раман Скірмунт звычайна спыняўся ў гатэлі габрэя Турка. А потым чыгункай ехаў далей – у Берасце або Варшаву. Ён жа распавёў, што недзе ў 1935 г. Скірмунту прывезлі з Прыбалтыкі «бьюік». Дакументы ДАБВ утрымліваюць інфармацыю, што ў 1939 г. Раман Скірмунт меў аўтамабіль маркі «додж» з нумарам А 55–262[1922].

Былы шафёр згадваў, што Скірмунт ніколі не садзіўся побач з ім: *Шафёр для яго як кучар быв*. Па прыездзе шафёр выходзіў першы, адчыняў дзверы. «Пан» заўсёды дзякаваў: *Вынашу чамаданы і толькі чую як нешта шморг у кішэню. Гляжу – злотыя. Заўсёды даваў 2–5 злотых.*

Асноўны заробак Куцко ў Скірмунта складаў 100 злотых у месяц. Апрача таго, уладальнік Парэцкага маёнтка даў яму кватэру ў Парэччы, забяспечваў харчаваннем і вопраткай, і, нарэшце, выдзяліў 8 га зямлі. Куцко прызнаўся, што на «бьюіку» ён працаваў нядоўга, бо Скірмунт узяў на працу немца Мэля. Апошняму ў 1939 г. давялося вазіць ужо прадстаўнікоў савецкай улады. Аднойчы паламалася вось, дык немца ледзь не растралялі: *Як пана вазіў усё добра было, а ў нас дык ламаецца.*

Дарэчы, шафёрская кар'ера Мікалая Куцко таксама распачалася з дапамогай Рамана Скірмунта. Палескі хлопец прачытаў абвестку ў газеце пра набор на курсы падрыхтоўкі шафёраў у Варшаве і паехаў у сталіцу. Яго не прынялі, бо не меў навыкаў працы з металам. Куцко вярнуўся ў вёску і пайшоў да «пана». Той узяў яго на працу ў кузню, а праз год выдаў даведку, якая дапамагла трапіць на шафёрскія курсы і атрымаць правы.

У аповедах пра дабрабыт *хвабрыкантаў* не адчувалася зайздрасці. Для традыцыйнай сялянскай ментальнасці найбольшай каштоўнасцю была зямля. Мужчына лічыўся паўнапраўным гаспадаром (*хозяінам*), толькі калі станавіўся яе ўладальнікам. А фабрычныя рабочыя мелі ў часовым уладанні толькі невялікія надзелы для агародаў.

Гонар за «свайго пана» прысутнічаў таксама ў аповедах пра ягоную палітычную дзейнасць: *Він быв у Вярхоўнай Думе, і він быв прославлены, наш Скірмунт і его оцец на всю Еўропу* (Соф'я Хвясюк); *Він быв сэнатор, але не за грошы, а проста так, бо разумны* (Фёдар Хвясюк, 1912 г. нар., в. Парэчча).

Пры гэтым палітычная дзейнасць Скірмунта звычайна звязвалася з аграрнай праблемай. Многія суразмоўцы сцвярджалі, што ўладальнік Парэчча выступаў за перадачу зямлі сялянам: *Він шчодры быў. Воны чуствовалі, што вайна вось-вось пачнецца. І маліся гэту зямлю роздаці крестьянам. Отобраць всю землю ад памешчыкаў польскія власці хацелі: «Гэта не ваша зямля, гэта народа зямля». […]*

---

[1922] ДАБВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 305, арк. 129. Хачу падзякаваць Руслану Бугаевічу за прадастаўленую архіўную інфармацыю пра аўтамашыну Р. Скірмунта.

*Паріцкі Скірмунт таксама выступаў, хацеў зямлю крестьянам роздаці* (Рыгор Дарашэнка, 1930 г. нар., в. Палтаранавічы).

Пры гэтым рэспандэнты адзначалі, што падобная пазіцыя была небяспечнай: *Кагда-то ў Варшаве быв Санат як зара Дума, так он жа тожэ участвовал там. То он сказаў, што всю зямлю трэба ў памешчыкаў забраць і аддаць крэсцьянам. Памешчыкам надо покінуць по 40 гектар. Хваціт з іх. А всю зямлю забраць і народу роздаці. Дык у яго сгралялі, і он цераз акно выпрыгнуў. Тая Дума (ілі як) страляла. Матка мая расказвала. Он сам прыехаў у Парычча і народу казаў, што так выступаў, а па мне стралялі* (Мікалай Калбаска, 1925 г. нар., в. Рудка); У *Варшаве яго хацелі забіць, бо раздаваў зямлю сялянам* (Павел Клімовіч).

Улетку 1993 г. М. Кулеш у артыкуле на старонках газеты «Пінскі веснік», пераказваючы ўспаміны пра Скірмунта свайго цесця і галоўнага садавода Парэцкага маёнтка Рыгора Пятровіча Клімовіча, таксама прывёў словы Скірмунта наконт неабходнасці радыкальнай зямельнай рэформы і ягонае ж прызнанне, што гэтая пазіцыя абярнулася тым, што ў яго стралялі, спрабавалі забіць…[1923]

Знайсці іншае дакументальнае пацвярджэнне гэтай інфармацыі не атрымалася, але вопыт палявых даследаванняў падказвае, што павінна была адбыцца нейкая падзея, якая абумовіла падобныя сцвярджэнні рэспандэнтаў і прызнанне самога Скірмунта.

Таксама парэцкія суразмоўцы прыгадвалі асабістую шчодрасць «пана», які раздаваў зямлю сялянам ці то ў якасці вясельных падарункаў, ці як аплату за працу *хвабрыкантаў*, або прадаваў надзелы за невялікія грошы: *Харошы быў чалавек… Раздаваў зямлю: палову так аддаў, палову – за грошы* (Рыгор Цудзіла, 1913 г. нар., в. Табулкі).

Былая настаўніца Лізавета Епішка (1927 г. нар., в. Табулкі) назвала Скірмунта *прагрэсіўным памешчыкам* і прызналася, што яе бацька дапамогі ад «пана» не атрымаў: *Многім ён даваў зямлю. Мой бацька таксама хадзіў прасіць. Скірмунт не даў: «Я ўсім не надаюся»*. І дадала: *Бацька часта супраць пана выступаў і сцяг савецкі вешаў.*

Зямля заставалася галоўнай каштоўнасцю. Яна яднала і адначасна раз’ядноўвала вёску і маёнтак. Менавіта зямля была прычынай адзінага зафіксаванага ў памяці рэспандэнтаў канфлікта паміж маёнткам і вёскай Парэчча. Так, Рыгор Цудзіла прыгадаў, што ў 1905 г. вяскоўцы прыйшлі ў маёнтак з патрабаваннем зямлі. Ён коратка пераказаў размову з «панам»: «Чаго прышлі?» –«Зямлі хочам!» – «Будзе вам зямля, толькі пачакайце». Як ужо адзначалася, гэты сялянскі выступ абумовіў з’яўленне ў тапаніміцы Парэчча мясцовасці «Бунт».

У традыцыйным сялянскім светаўспрыняцці дамінавала перакананне, што «пан» не працуе. У выпадку Рамана Скірмунта сустракаемся з выразным парушэннем гэтай нормы. Суразмоўцы з Парэчча распавядалі пра фізічную працу

---

[1923] Н. Кулеш, «*Где вы видели господскую деревню?*», «Пінскі веснік». 1993, 14 ліпеня.

«пана» ў парку, ім жа заснаваным. Сяляне бачылі, як уладальнік маёнтка пілаваў крывыя дрэвы, абразаў або абсякаў сухія галіны: *Памешчык кожны дзень на работу выязжаў. У яго быў тапорык, пілачка была. Ён працаваў, не то што якія...* (Фёдар Лукашык, 1922 г. нар., в. Парэчча).

Успаміны сведчаць, што парк з'яўляўся прадметам асаблівай увагі Рамана Аляксандравіча. Як ужо адзначалася, гэта быў парк у анлійскім стылі, які не меў дакладна пазначаных межаў і з'яўляўся часткай навакольнага ландшафту. У парку жылі розныя віды жывёл і балотных птушак, для якіх будаваліся адмысловыя дамкі. Парк упрыгожвала сажалка з невялікім астраўком, у якой разводзілі рыбу. Ад Ясельды яе аддзяляла дамба, а вада качалася з дапамогай ветранога рухавіка (*жураўля*): *Там было красіво, жывая прырода была* (Фёдар Лукашык); А *ўжо як памятаю, гэта звалі «Лісына». По лісы былі дубы очэнь хорошыя, высыпаны канавкі. Абсажана дарога і па дароге ўсякі насажаны цвіты, прама в лісы […] І там выкапана была сажалка, шлюз зроблены, коб вада не сцікала, лавочкі, деревья… Ліственніца і такая мяканькая, не помню як зваці, хвоя такая. Когда-то звалі «волоскі горэх» […] У яго всё было пасажана ў «Лісыне».* (Соф'я Хвясюк). Іншая частка парку мела назву «Корычава».

Раман Скірмунт любіў адпачываць у парку. Найчасцей яго можна было ўбачыць на лаўцы каля вялікага абцесанага круглага камня на перакрыжаванні некалькіх сцяжынак.

Адначасна парк быў месцам добрага заробку для парэчан, якія працавалі пераважна па яго ўпарадкаванні (чысцілі сцяжынкі, рубілі сухастой ды інш.). Звычайна зараблялі 1 злоты ў дзень (Павел Рак).

Асаблівай увагі заслугоўваюць адказы на пытанні, што датычылі веравызнання, нацыянальнасці і мовы Рамана Скірмунта. Суразмоўцы распавядалі, што Раман Скірмунт рэгулярна наведваў набажэнствы ў касцёле. Таксама адзначалася рэлігійная талерантнасць «пана» і ягонае непрыняцце рэлігійнай канверсіі: *Скірмунт быў супраць перамены веры. Казаў: «Якім нарадзіўся, такім і памірай». Празнічнага рэжыму Скірмунт не парушаў. Ні свайго, ні праваслаўнага. Адна жанчына ў каталіцкае свята пайшла жаць, дык выклікаў салдат, і яе прагналі* (Павел Клімовіч, 1925 г. нар., в. Парэчча); *Адзін рабочы перайшоў з беларускай веры на польскую, а Скірмунт не адобрыў: «Ты дурак!»* (Павел Рак, 1917 г. нар., в. Парэчча).

Пытанне пра нацыянальнасць Рамана Скірмунта звычайна выклікала пэўную разгубленасць рэспандэнтаў і часам прымушала іх апеляваць да веравызнання: *Скірмунт – паляк, бо хадзіў у касцёл* (Павел Рак);

Затое не было праблем з адказам на пытанне, на якой мове размаўляў Скірмунт:

• *Па-нашаму* (Вольга Чугай, 1910 г. нар.);

• *Па-простаму* (Анастасія Вакульчык);

• *Гаварыў па-простаму более-менее, трошкі па-польску, як пан* (Рыгор Цярэшка);

• *Па-мужыцку* (Мікалай Куцко);

• *Скірмунт, как мы гаворыў. […] Ён і па-польску умеў гаварыць. Канечне! Ён жа католік быв* (Мікалай Калбаска, 1925 г. нар., в. Рудка);

• *Скірмунты разговарвалы как люды…* (Васіль Казак, 1924 г. нар., в. Ахова);

Адной з найбольш цікавых знаходак былі звесткі пра асабістае жыццё «пана». Як вядома, ён не ажаніўся і не меў уласнай сям'і, як і большасць ягоных братоў і сясцёр. Старэйшыя жыхары Парэчча тлумачылі гэта нежаданнем Скірмунтаў дзяліць маёнтак, што непазбежна адбылося б паміж іх дзецьмі і ўнукамі. Аднак такі «гаспадарчы аспект» адзіноты Рамана Скірмунта не выглядаў пераканаўча. Хацелася пачуць адказ на яго ад самога «пана». І гэты адказ знайшоўся!

Як аказалася, пытанне пра прычыны адзіноты Рамана Скірмунта хвалявала не толькі аўтара гэтых радкоў, але таксама галоўнага садоўніка і агародніка Парэцкага маёнтка, «корычэвніка» Рыгора Клімовіча (1893–1975). Летам 1939 г. падчас шчырай размовы ён задаў гэтае пытанне Скірмунту, а ягоны адказ пазней пераказаў сваім сямейнікам. Улетку 1993 г. ягоны зяць Мікалай Кулеш на старонках газеты «Пінскі веснік» апублікаваў артыкул *Где вы видели господскую деревню?*[1924], у якім падзяліўся з чытачамі аповедамі цесця пра Рамана Скірмунта. Сярод іншага прывёў ягоны адказ на пытанне наконт прычын уласнай адзіноты.

Перш чым пераказаць яго, варта бліжэй пазнаёміцца з Рыгорам Клімовічам, намаганні якога моцна паспрыялі стварэнню парка ў Парэччы, а таксама развіццю садаводства і гародніцтва. Уявіць ягоную асобу дапамагаюць дакументы, якія захаваліся ў сямейным архіве сваякоў Рыгора Пятровіча Клімовіча.

Ён нарадзіўся ў студзені 1893 г. у Парэччы, у сялянскай сям'і. Быў хрышчаны ў праваслаўнай царкве. Яшчэ да Першай сусветнай вайны здолеў авалодаць майстэрствам садоўніка. Паводле інфармацыі сваякоў, Клімовіч вучыўся ў Варшаве. У снежні 1914 г. быў мабілізаваны на фронт і стаў салдатам 1 Сібірскага стралковага запаснога батальёна. Праваяваў ён нядоўга, бо ўвесну 1915 г. трапіў у палон падчас ваенных дзеянняў у Венгрыі. Службовыя запісы і заўвагі на старонках «Записной книжки» стралка Клімовіча абрываюцца ў сакавіку 1915 г.

Падчас палону Клімовіч працаваў у маёнтку аднаго з венгерскіх памешчыкаў па сваёй спецыяльнасці. Займаўся садаводствам і гародніцтвам, і здолеў павысіць кваліфікацыю. Пасля вяртання з палону прыняў прапанову Скірмунта і заняўся аднаўленнем гаспадаркі Парэцкага маёнтка. У гэтай працы заслужыў павагу «пана» і аднавяскоўцаў. Пазней Скірмунт аддзячыў тым, хто дапамог аднавіць гаспадарку і надзяліў іх землямі за сімвалічную плату. Рыгор Клімовіч атрымаў зямлю ў в. Вілы (зараз Іванаўскі раён), а ў лістападзе 1938 г. выкупіў у Скірмунта яшчэ амаль 5 га зямлі.

Паміж ім і Рыгорам Клімовічам склаліся асаблівыя адносіны. Так, Раман Скірмунт фактычна сасватаў яму Стэфанію Міхневіч, якая была дачкой ўпраўляючага маёнткам у Дастоеве, і стаў хросным бацькам ягонага сына Янака.

[1924] Тамсама.



*Рыгор Клімовіч з жонкай Стэфаніяй і дзецьмі (1930-я гг.)*

Падчас згаданай размовы, што адбылася ўлетку 1939 г., Раман Скірмунт казаў пра блізкасць вайны, якая зноў пачнецца агрэсіяй Германіі, прадракаў яе жахлівы характар і сцвярджаў, што Польшча, як і ўся Еўропа, захлынецца крывёй.

Падчас гэтай размовы ён адказаў на пытанне наконт прычын адсутнасці ў ягоным жыцці жонкі і дзяцей. Гэты адказ у пераказе Р. Клімовіча і М. Кулеша варта прывесці цалкам: «Мой коханый, а где ты видел господскую деревню? Наших предков великий князь наделял поместьями за преданность и храбрость. Это была его воля. И земли свободные были. Прошли века. Земля не растёт. Если бы мы плодились, как крестьяне, то до этих пор из имений стали бы панские деревни. Помещики этого не хотят. Они лучше согласны стать заложниками своей системы, чем родить нищих потомков. Вот поэтому помещики против земельной реформы, чтобы сохранить поместья. А мне стыдно за своих коллег. Каждый, появившись на свет, имеет право на жизнь и на землю. Потомки храбрых и услужливых подданых великих князей пользуются привиллегией незаслуженно. И я также. Мне стыдно перед крестьянами. Мы – трутни, они – пчёлы».

Аналізаваць гэты двайны пераказ думак Скірмунта даволі складана, аднак звяртае на сябе ўвагу ягоная блізкасць да меркаванняў вясковых рэспандэнтаў. Магчыма, сапраўды, эканамічны чыннік і ўсведамленне таго, што эпоха шляхты ўжо мінула, адыгралі вызначальную ролю ў асабістым жыцці Рамана Скірмунта…

А вось каханне, відаць, усё ж не абмінула «пана». На трэці год працы ў Парэччы атрымалася разгаварыць людзей на тэму ягонага інтымнага жыцця, якое ўсё яшчэ застаецца зачыненым для «чужых». Вельмі асцярожна і тактоўна вяскоўцы распавялі пра ўдаву Кацярыну Цярэшку: *Баба красівая была. Самы гады такі пад яго… То засакрэчана любоў* (Марыя Кучыньская, 1919 г. нар., в Парэчча).

Размовы з жыхарамі Парэчча дазваляюць сцвярджаць, што на працягу доўгага часу значнае месца ў жыцці Рамана Скірмунта займала менавіта Кацярына Цярэшка. Яе муж памёр у 1915 г. Магіла Рамана Цярэшкі з помнікам з камня на парэцкіх могілках – найдаўнейшая. На помніку надпіс: *Роман Терешко. 1875–1915. Блажени чисти сердцем яко им Бога узреть*. А на іншым баку пад імхом быў знойдзены тэкст, які засведчыў дачыненне Скірмунта да яго ўстаноўкі: *Pamięci*

*Romana Tereszki. Druha wiernego Romana Skirmunta poswięcam.* Паблізу знаходзіліся помнікі Кацярыне Цярэшцы (1875–1957), яе сыну Уладзіміру (1907–1956) і ўнучцы Людміле.

Раман Цярэшка быў фурманам у маёнтку і, судзячы па тэксту на помніку, паміж ім і Скірмунтам існавалі амаль сяброўскія адносіны. Пасля трагічнай смерці Цярэшкі, якога панеслі і скінулі коні, Раман Скірмунт апекаваўся ягонай сям'ёй. Лізавета Епішка, якая была сваячкай Цярэшак, сцвярджала, што Раман Цярэшка не мог мець дзяцей…

У 1920-я г. Кацярына Цярэшка жыла і працавала ў маёнтку. Вяскоўцы казалі пра чатырох сыноў Кацярыны – Аляксандра (Олеся), Рамана, Уладзіміра і Пятра (Петруся). У вёсцы іх лічылі дзецьмі ад Рамана Скірмунта і *па-вулічнаму* называлі *скірмунтавымі*. Мікалай Куцко на пытанне, чаму ён лічыць іх дзецьмі «пана», адказаў: *Падобныя як партрэты*. І дадаў: *Як сцямнее, Цярэшка хустку на галаву і сама бяжыць да яго…*

Вусная гісторыя зафіксавала таксама эпізоды нетыповых адносін паміж «панам» і сынамі Кацярыны Цярэшкі. Так, старэйшы з братоў Олесь ажаніўся з дзяўчынай з Парэчча, якую называлі *камуністкай*, бо аднойчы яна выступіла супраць «пана». Пасля вяселля Олесь прыйшоў прасіць дрэва на будоўлю хаты. Але нічога не атрымаў. Раман Скірмунт быў моцна незадаволены шлюбам і нібыта заявіў: Я *ж табе казаў: Не бяры Гэлю* (Рыгор Цярэшка). Маладыя перабраліся ў в. Тышкавічы. Арандавалі жытло. Олесь наладзіў кузню, а жонка аказалася добрай краўчыхай. Рэспандэнты сцвярджалі, што Раман Скірмунт, калі даведаўся, што яны жывуць добра, сам прапанаваў Олесю ўзяць дрэва на пабудову хаты.

Лёс сыноў Кацярыны Цярэшкі склаўся па-рознаму. Олесь пражыў 37 год і памёр у 1943 г. Пахаваны на могілках в. Тышкавічы. Раман, які быў лесніком у маёнтку, у 1939 г. быў вывезены ў Сібір. Распавядалі, што яго разам з іншымі зняволенымі чэкісты патапілі ў баржы побач з Сахалінам (Рыгор Цярэшка). Паводле іншай версіі, ён быў вывезены ў Архангельск, а пазней апынуўся ў польскай арміі генерала Андэрса (Лізавета Епішка). Петрусь у час вайны служыў у паліцыі. Адступіў разам з немцамі. Пазней ён нібыта быў арыштаваны ў Польшчы і вывезены на Далёкі Усход. Спрабаваў збегчы, але быў схоплены і назаўсёды застаўся ў Расіі. Уладзімір, мяркуючы па магіле, застаўся пры маці, а ягоныя дзеці перабраліся ў Пінск.

Моцнае ўражанне рабіла тая асцярожнасць і тактоўнасць, з якой парэчане распавядалі пра адносіны Рамана Скірмунта і Кацярыны Цярэшкі (*засакрэчана любоў*). Усё гэта стварала пэўны рамантычны арэол вакол гэтых адносінаў. Але падчас наступных экспедыцый высветлілася, што, магчыма, Кацярына Цярэшка не была адзінай жанчынай у жыцці «пана». Так, былі запісаны ўспаміны жанчыны 1934 г. нар., якая сцвярджала, што яе родны дзядзька Георгій Кучынскі быў сынам Рамана Скірмунта, які, між іншым, паклапаціўся, каб той атрымаў добрую аду-

кацыю. Дзякуючы падтрымцы Скірмунта, Георгій Кучынскі закончыў Пінскую гімназію, вучыўся ў Пружанскай і Беластоцкай настаўніцкіх семінарыях, стаў студэнтам Ягелонскага ўніверсітэта.

Соф'я Хвясюк таксама прыгадала, што Скірмунт дапамагаў дзецям Кучынскіх: *Васіль – муляр, а Іван – партны. [Раман Скірмунт] усіх вывучыў. Мэншага Грышу паслаў у Польшчу, і там яго пан вывучыў у універсітэце за свае грошы*. Паводле іншых успамінаў, дапамога дзецям гэтай сям'і была праявай удзячнасці Рамана Скірмунта старэйшаму Кучыньскаму, які разам з некалькімі іншымі вяскоўцамі дапамог улагодзіць згаданы «бунт» 1905 г.

Трэба заўважыць, што адзінай крыніцай асвятлення інтымнага жыцця Рамана Скірмунта з'яўляецца памяць старэйшых жыхароў Парэчча. Зразумела, што гэтая крыніца не дае падстаў сцвярджаць, што ўсё вышэйазначанае сапраўды мела месца, а Раман Скірмунт меў пазашлюбных дзяцей. Аднак памяць вяскоўцаў, прынамсі, вартая асвятлення ў гэтай кнізе.

Дарэчы, гэты сюжэт, а таксама вельмі спакойнае стаўленне старэйшых парэчан да праблемы верагодных пазашлюбных дзяцей Рамана Скірмунта, прымушае прыгадаць вядомае *jus primae noctis* або «права першай ночы». Польскі антраполаг Юзаф Абрэмбскі падчас сваёй Палескай экспедыцыі 1934–1936 гг. запісваў успаміны палешукоў пра часы прыгону. Сярод ягоных запісаў аказаўся сюжэт пра Скірмунта з маёнтка Вітчоўка: «Колыс это у нас было в Віцувцы – за Скірмунта. Был Скірмунт помешчык такій, то это было так. Як, значыць, ідэ ужэ дзевіца замуж, то должна матка прівесты до его эту дзевушку. Пріведэ матушка эту дзевушку, то тогда он бэрэ ее в комнату свою і делае початок. І тогда выпускае, ужэ она ідэ замуж. А еслі он не зделае ей початок, это было таке наведенье, то она і замуж не ідэ»[1925]. Магчыма, памяць пра гэтае права часоў прыгону істотна ўплывала на ацэнку вёскай інтымнага жыцця «пана».

Пасля забойства Рамана і Баляслава Скірмунтаў адбыўся рабунак палаца. Працяглы час вяскоўцы наогул адмаўляліся размаўляць пра гэта, сцвярджаючы, што нічога не ведаюць. Адным з першых, хто «прагаварыўся» быў Мікалай Куцко (в. Табулкі), які прызнаўся, што падчас рабунку вынес шмат кніг з бібліятэкі палаца. У размове ён прыгадаў кнігу на французскай мове пра забойства царскай сям'і, а таксама польскамоўнае выданне пра Расію. Свае здабыткі ён схаваў у куфры, які закапаў у зямлю. Але восеньскія дажджы ўсё знішчылі. У хаце застаўся толькі том першы кнігі *Киевская Русь* Міхайлы Грушэўскага (Санкт-Петербург, 1911), які ён паказаў не без пэўных ваганняў. Ніжняя частка тытульнага аркуша, дзе павінен быў быць экслібрыс бібліятэкі Скірмунтаў, была адарваная.

Куцко таксама прыгадаў, што ў 1939 г. палац заняў камісар Холадаў, які на

---

[1925] J. Obrębski, *Polesie*. Red. naukowa i wstęp Anny Engelking. Warszawa 2007, s. 9. Запіс быў зроблены ў в. Азырск Высоцкай гміны Столінскага пав. у 1935 г. Варта дадаць, што ў 1830–1840-я гг. Вітчоўкай Пінскага пав. валодаў Адам Тамашавіч Скірмунт.

сялянскім сходзе агітаваў за расправу з Раманам Скірмунтам. Паводле Куцко, рабаванне палаца і вываз мэблі распачаў менавіта ён. Марыя Новік нават сцвердзіла, што камісарскі рабунак дома Скірмунтаў распачаўся адразу пасля забойства Рамана і Баляслава Скірмунтаў. Апошняе, дарэчы, наводзіць на думку, што менавіта рабунак быў галоўнай прычынай забойства, а за яго арганізацыяй стаяў згаданы камісар Холадаў. Пра «савецкага палітрука Холадава» таксама распавядаў Сяргей Глушко (в. Рудка), які забойства Скірмунтаў звязваў з ягонай антыпамешчыцкай агітацыяй.

Парэцкая гісторыя жыцця і смерці Рамана Скірмунта заканчваецца аповедам пра прыезд ягонай сястры Алены Скірмунт у 1941 г. ужо пасля прыходу нямецкіх войск і арганізацыю пахавання Рамана і Баляслава Скірмунтаў.

Сабраныя ўспаміны таксама сведчаць пра пэўную фальклярызацыю вобраза «пана». Між іншым, яна праявілася ў прыпісванні яму цудадзейнай моцы. Так, суразмоўцы з Парэчча і навакольных вёсак распавядалі пра магічную здольнасць Скірмунта спыняць полымя:

• *Калі адбываўся пажар, то Скірмунт сам выязжаў туды. Він абыходзіў пажарышча, і агонь далей не йшоў. Людзі цікавіліся ягоным сакрэтам, але він нікому гэтага не казаў* (Марыя Нікалайчык);

• *Некалі, я вам скажу, хлеў загарэўся. І пайшло, і пайшло гарэць. І прыехаў пан, стаў, рукі злажыў – і сціхло. Вецер прыціх. Ціхэнько, ціхэнько…* (Анастасія Вакульчык, 1911 г. нар., в. Парэчча);

• *Старыя людзі казалы: Где пожар, він прыедзе. Какую-то молітву он знал. Обежіт быстро, а дальше пожар не ідзе* (Соф'я Хвясюк);

• *У Чамярыне гарэла хата. Ён пожар абег, і ўсё… Пажар далей не пойдзе. Ахвяр няма. А што ён знаў, я не знаю* (Фёдар Лукашык);

• *Іконы здымаў і абыходзіў пожар. Нешта знаў такое* (Рыгор Цярэшка);

• *Він знаў нешта проці пожараў. На пожары абавязкова абыходзіў тры разы* (Павел Клімовіч).

Таксама была запісана гісторыя пра тое, што Раман Скірмунт выратаваў парэчан ў верасні 1939 г. Вяскоўцы распавядалі, што група парэцкіх мужыкоў з чырвоным сцягам выйшла сустракаць цягнік, які рухаўся па вузкакалейцы. Але аказалася, што гэта быў польскі атрад, які пачаў страляць па «гасцінных» гаспадарах. Мужыкі разбегліся. Расправы з вёскай не дапусціў Раман Скірмунт, які нібыта пераканаў польскага афіцэра, што парэчане гэтага зрабіць не маглі: *Не трогайце поріцкіх людзей!* (Марыя Кучыньская); *Кажа: Гэта мої людзі. Оні гэтаго не робылы* (Анастасія Вакульчык). Аповед выклікае пэўны сумнеў, бо, даведаўшыся пра савецкую агрэсію, Раман Скірмунт з сястрой і яе мужам выехаў з Парэчча ў Пінск.

Цікава, што вобраз «добрага пана» цалкам адсутнічаў ва ўспамінах старэйшых жыхароў Моладава, дзе таксама збіраліся вусныя ўспаміны. Дарэчы, ў Парэччы нашыя суразмоўцы таксама прыгадвалі ўладальніка Моладава Генрыка Скірмунта, але выключна дзеля таго, каб падкрэсліць станоўчыя рысы «свайго Скірмунта»:

У *Моладаве быв худшы пан. Бывае і сабакамі нацкуе* (Рыгор Цярэшка, 1932 г. нар.); *Моладаўскі пан лісу не даваў, нават погорэльцам. Казаў, што знарок хату спалылы* (Фёдар Лукашык, 1922 г. нар).

Таксама распавядалі гісторыю пра тое, як Генрык Скірмунт забараніў хаваць на родавых могілках у Моладаве пляменніка-самагубцу. Роспач маці, што прывезла цела сына з Варшавы, не зрабіла на яго аніякага ўражання. Урэшце, дапамог Раман Скірмунт, і самагубцу пахавалі ў Парэччы, у скірмунтаўскім парку.

Гісторыя гэтага самагубства прыцягнула ўвагу парэчан. Марыя Новік (1921 г. нар.) распавяла, што прычынай трагедыі было каханне маладога Скірмунта да настаўніцы, якое выклікала абурэнне і нязгоду ягоных бацькоў. Насамрэч, бацька самагубцы Зянон Скірмунт памёр яшчэ ў 1910 г. Маці Марыя (з Лясоцкіх) выхоўвала сына адна. Аляксандр быў студэнтам Палітэхнічнага інстытута ў Гданьску і належаў да элітарнай студэнцкай карпарацыі «Хэлянія». Трагедыя здарылася ў Варшаве ў маі 1930 г.[1926]

У памяці жыхароў дзвюх вёсак не адлюстраваліся стасункі паміж уладальнікамі Парэчча і Моладава. Падобна, што асаблівай цеплынёй яны не адрозніваліся. Моладава знаходзіцца ў 8 км ад Парэчча, але вусная гісторыя сведчыць, што адлегласць паміж імі складала цэлую гістарычную эпоху. Моладаўскі «пан» быццам спрабаваў спыніць час і жыць на ўзор пыхлівай шляхты часоў Рэчы Паспалітай абодвух народаў.

Паводле сялянскіх уяўленняў, Генрык Скірмунт не працаваў. Пра яго захапленне музыкай і паэзіяй суразмоўцы не ведалі. Зрэшты, сустрэчы вяскоўцаў з «панам» былі даволі рэдкімі. Уваход на тэрыторыю палаца, абнесеную агароджай, быў забаронены. Прыгадваліся выпадкі, калі «пан» (гэтыя ўчынкі прыпісваліся менавіта яму, а не слугам!) спускаў на парушальнікаў, у т. л. на дзяцей, сабак.

Якраз стаўленне «пана» да сялян, слуг і рабочых маёнтка быў дамінуючай тэмай успамінаў пра Генрыка Скірмунта: *Звалі яго нашы людзі «шалёным»… Бо ён быў нервны, мне адзін раз в морду даў* (Стэфан Кіпень, 1920 г. нар, в. Моладава); *Паненка была добрай (Марыя Скірмунт – А. С), а пан был плахі. Як зайдуць да яго, то сабаку пусціць, нацкуе на людзей* (Надзея Вакульчык, 1927 г. нар., в Моладава); А *Генрык быў гадасць-гадасць. Сабак спускаў на людзей. На Каляды, калі прыйшлі спяваць калядкі, ледзь не пазабіваў за нашую мову* (Ніна Шаталава, 1927 г. нар., в. Моладава).

Ірэна Шарэцка-Сасноўска, якая была дачкой упраўляючага маёнткам Станіслава Шарэцкага, пакінула пісьмовыя ўспаміны, у якіх ахарактарызавала Генрыка Скірмунта як псіхічна неўраўнаважанага чалавека[1927]. Аднак гэтая «неўраўнаважанасць» датычыла толькі тых, хто знаходзіўся на ніжэйшых

---

[1926] «Kurier Wileński». 1930, Nr 119, 24 maja.

[1927] Хачу выказаць падзяку прафесару Інстытута гісторыі Варшаўскага ўніверсітэта Міхалу Капчыньскаму за магчымасць пазнаёміцца з гэтымі ўспамінамі.

прыступках сацыяльнай лесвіцы. У памяці колішняй дзяўчынкі, што жыла на тэрыторыі маёнтка, захаваўся вобраз «пана» з кіем у руках, часцяком чырвонага і раззлаванага, які наводзіў страх на людзей. Яна ж прыгадала звычайную практыку звальнення работнікаў без папярэджання з патрабаваннем у некалькі гадзін пакінуць маёнтак, адмову плаціць грашовыя кампенсацыі за траўмы і г. д. Ніякага апякунства з боку «пана» ніхто не ўспамінаў. Відавочна, што паміж вёскай і маёнткам існавала вялізарная сацыяльная дыстанцыя. Генрык Скірмунт разбураў стэрэатып «пана» як культурнага, велікадушнага і далікатнага.

Пры гэтым палац быў аточаны паркам і ружамі, якія даглядаў адмысловы спецыяліст. Тут гасцявалі вядомыя літаратары, славутыя спевакі, гучала музыка і паэзія, дамінаваў культ англійскай культуры. Атмасфера была напоўнена арыстакратычным снабізмам і шляхецкай пыхай. Шарэцка-Сасноўска пісала пра пастаянную «дэманстрацыю сярэднявечнага феадалізму». Дарэчы, нават адсутнасць у палацы радыё, што непасрэдна спрычынілася да трагедыі гэтай сям'і ў верасні 1939 г., была звязана з перакананнем гаспадара, што радыё – гэта атрыбут плебса.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць наяўнасць таксама іншай характарыстыкі Генрыка Скірмунта, якую даў дырэктар школы ў Моладаве Ежы Атлоўскі. Ён, дарэчы, таксама знаходзіўся на ніжэйшых прыступках сацыяльнай лесвіцы. У прыватнасці, Атлоўскі заўважыў, што «пан Генрык ніколі не быў абыякавы да няшчасцяў, якіх хапала ў вёсцы». Былы дырэктар прыгадаў фінансавую дапамогу Генрыка і Канстанціна Скірмунтаў, якая дазволіла закончыць будаўніцтва новай школы ў Моладаве[1928]. Атлоўскі таксама сцвярджаў, што Канстанціна Скірмунта ў вёсцы называлі *наш паныч Косцюк* і патлумачыў, што слова *наш* у палешукоў трэба было заслужыць, што яно сведчыла пра сардэчны стасунак да чалавека[1929].

У 1930-я гг. у палацы жылі таксама брат гаспадара Канстанцін Скірмунт, барон Вайсэнгоф з жонкай, сваячка Скірмунтаў з роду Бутрымовічаў і сястра гаспадара Марыя.

Апошняя, паводле ўспамінаў, моцна адрознівалася ад свайго брата: *Паненка была добра. На біднага мела ўвагу. У нас каровы не було, змарнавалася, а мой бацька хадзіў ежэдневно на работу, і вона прызнала даваці нам, дзецям, молоко… Як хто хварэе, то трудно.. Няма грошай да доктара ісці. Ідуць да яе. Яна напіша бумажку доктару, дасць 1–2 злотых* (Кацярына Мядзведзева, 1920 г. нар., в. Моладава); *Вона, як у нас хто захварэе, то пійдэ да паненкі, і вона нікогда не отказывалась, старалася, каб чалавіку помоч… Очэнь хороша была* (Ніна Шаталава).

Гэтая ж тэма гучала ў аповедах пра апошнія хвіліны жыцця Марыі і Генрыка Скірмунтаў. Суразмоўцы часта паўтаралі словы Генрыка, адрасаваныя забойцам: «*Мяне біце, бо я плахі, а паненку не чапайце. Яна ж добрая была да вас…*» (Вольга Шык, 1922 г. нар.).

---

[1928] J. Otłowski, *Szkoły mojego zycia*. Płońsk 2017, s. 138.
[1929] Ibidem, s. 137.

Сястра таксама заснавала школу для дзяўчынак, вучыла іх спевам. Яе стаўленне да вёскі было ўзорам жаночага апякунства, характэрнага для многіх зямянскіх сем'яў.

Панскасць у Моладаве была неад'емна звязана з польскасцю і каталіцызмам. Нашыя рэспандэнты не мелі сумневу, што Генрык і Марыя Скірмунты палякі па нацыянальнасці, што яны размаўлялі па-польску:

• *А пана […] ненавідзелі, бо тож паляк, другая раса. Співалы: «Надоело жыць пры Польшчы, надоело працаваць, надоело кажду сволоч «прошэ пана» называць» […] З панам і паненкай размаўлялі па-польску, бо воны мо і нэ зналы, нэ понымалы як по-нашаму* (Ніна Шаталава).

Генрык Скірмунт застаўся ў памяці як заўзяты каталік. Шарэцка-Сасноўска прыгадала, што ў касцельным хоры прымушалі спяваць праваслаўных дзяўчат з вёскі. Аляксандр Шык (1924 г. нар.) успомніў эпізод, калі настаўнікі па загадзе «пана» павялі сваіх праваслаўных вучняў на набажэнства ў касцёл. Там дзеці атрымалі папяровыя абразкі каталіцкіх святых. Але на выхадзе з маёнтка іх ужо чакалі старэйшыя школьныя калегі, якія нішчылі гэтыя абразкі.

Ва ўспамінах моладаўцаў і сёння досыць адчувальнае расчараванне тым, як Скірмунты распарадзіліся зямельнай маёмасцю. Жыхары Моладава спадзяваліся, што пасля смерці Скірмунтаў, якія не мелі прамых нашчадкаў, іх зямлю падзеліць вёска. Гэтыя надзеі цалкам адпавядалі звычаёваму праву, якое сцвярджала, што зямля належыць тым, хто на ёй працуе. Але спадзевы былі перакрэслены напрыканцы 1930-х гг., калі Генрык Скірмунт перадаў землі сёстрам уршулянкам. Яны пасяліліся ў афіцыне і пачалі гаспадарыць. Ва ўласнасці моладаўскіх Скірмунтаў застаўся лес.

Ва ўспамінах відавочны востры сацыяльны канфлікт паміж вёскай і «панам» у Моладаве. Ён выбухнуў пасля 17 верасня 1939 г. і забіў гаспадароў маёнтка. Тая ж Ніна Шаталава, што казала пра іншую «расу», на пытанне пра прычыны забойства Скірмунтаў адказала: *Скірмунтаў забілы таму, што воны булы панамі*.

Дарэчы, аповеды жыхароў Моладава пра забойства ў верасні 1939 г. Генрыка і Марыі Скірмунтаў не суправаджаліся праклёнамі забойцаў і згадкай Божай кары. Аднак у інтанацыях таксама гучала шкадаванне: *Мотоляне забілы. І пана забілы, і паненку, і захавалы ў лісы. Свої забівалы…* (Вольга Шык, 1922 г. нар.).

Надзвычай жывая памяць жыхароў Парэчча і навакольных вёсак пра «добрага пана» Рамана Скірмунта і сёння з'яўляецца пэўным адлюстраваннем адвечнай сялянскай надзеі на заступніцтва з боку «пана». Аднак не ў меншай ступені ў ёй адчувальная вера ў жыццё, дзе сумленная праца і дабрыня атрымаюць заслужаную ўзнагароду, а злачынства – непазбежнае пакаранне…

## ГІСТОРЫЯ БЕЗ СКІРМУНТАЎ…

Ацэнка падзей восені 1939 г., калі ў выніку агрэсіі СССР супраць Польшчы адбылося аб'яднанне беларускіх земляў, у апошнія гады стала прадметам абмеркаванняў і спрэчак не толькі сярод гісторыкаў. З канферэнцыйных залаў дыскусія перамясцілася ў публічную прастору Беларусі, дзе ўсё яшчэ дамінуе мадэрнізаваная савецкая версія. Толькі ранейшы «сацыяльна-класавы» пазітыў аб'яднання заменены на нацыянальны[1930]. Апаненты, у т. л. аўтар гэтых радкоў, звяртаюць увагу на ролю «пакта Молатава-Рыбентропа» ў развязванні Другой сусветнай вайны, якая, дарэчы, прыйшла ў Беларусь разам з Чырвонай арміяй. Яны ж адзначаюць, што ахвярай савецкіх рэпрэсій 1939–1941 гг. стала амаль усё насельніцтва Заходняй Беларусі, а першымі ў рэйтынгу «ворагаў народу» апынуліся палякі і дзеячы беларускага руху. Скірмунты падзялілі лёс соцень тысяч іншых жыхароў беларускай зямлі...

Важнай крыніцай для разумення стаўлення насельніцтва да сацыяльна-палітычных і культурных перамен восені 1939 г. з'яўляецца вусная гісторыя. Падчас экспедыцый Беларускага архіва вуснай гісторыі ўздоўж былой савецка-польскай мяжы (2012–2014) былі сабраны шматлікія вусныя ўспаміны, аўтары якіх, незалежна ад іх нацыянальнасці, прыгадвалі падзеі той восені як трагедыю. Аналагічныя вынікі былі атрыманы падчас ранейшых экспедыцый у межах праекта «XX стагоддзе ў памяці жыхароў Беларусі» (2006–2011). Пры гэтым беларускія суразмоўцы часта распавядалі пра першапачатковую радасць з нагоды, што нібыта «свае» прыйшлі. Усё ж Польская дзяржава для большасці беларусаў, як і прадстаўнікоў іншых нацыянальных меншасцяў, так і не стала Айчынай у поўным сэнсе гэтага слова. Аднак тыя ж рэспандэнты звычайна прыгадвалі хуткае расчараванне ў «першых Саветах» і рост спадзеваў на палітычныя змены і нават на аднаўленне польскай улады.

Можна сцвярджаць, што верасень 1939 г. для сучаснага беларускага грамадства – гэта не адно, а два «месцы памяці». Адно, шырока прадстаўленае ў культурнай памяці (Jan Assmann), застаецца сімвалам перамогі беларусаў, якой паспрыяла знешняя палітыка сталінскага СССР. Другое, якое дамінуе ў калектыўнай памяці (Maurice Halbwachs) непасрэдных сведкаў гісторыі, застаецца сімвалам трагедыі, напамінам пра пачатак вайны, памяццю пра бяссілле чалавека перад магутнай

---

[1930] Гл.: В. Якавенка, *Усё ж 17 верасня-сапраўднае беларускае свята,* «Народная воля». 2009, 25 верасня; С. Богдан, *Нацыянальны абсурд, або настальгія па чужынскай уладзе*, «Наша Ніва». 2009, 28 кастрычніка.

і бязлітаснай уладай, а таксама сацыяльнай траўмай, якая ў Беларусі ўсё яшчэ не мае шансаў быць прагаворанай і пераадоленай.

Таксама сустракаецца меркаванне, што беларусы наогул не нясуць адказнасці за тое, што вырабляў Сталін і ягоныя падручныя на далучаных землях, што яны ніякім чынам не спрычыніліся да знішчэння Польскай дзяржавы і трагедыі польскага грамадства. Але лакальная гісторыя восені 1939 г. сведчыць пра іншае… Даволі часта ці то самі беларусы, ці то новая ўлада іх рукамі здзяйснялі злачынствы, якія немагчыма апраўдаць ніякімі «нацыянальнымі» інтарэсамі. Трэба прызнаць, што ў многіх мясцовасцях Заходняй Беларусі з'яўленне савецкіх войск і камісараў справакавала чарговы «сялянскі бунт», які пракладваў шлях у гісторыю ўжо без Скірмунтаў і Радзівілаў.

У той трагічны верасень 1939 г. Польшча не чакала ўдару з усходу. У ліпені 1932 г. яе дыпламаты падпісалі з СССР пакт аб ненападзе, які ў маі 1934 г. быў працягнуты да канца 1945 г. Пакт аб ненападзе паміж Германіяй і СССР, падпісаны ў Маскве 23 жніўня 1939 г., польскія палітыкі прынялі спакойна. Яны не ўбачылі ў ім пагрозы, бо не ведалі пра тайны дадатковы пратакол, які дзяліў Польшчу на нямецкую і савецкую сферы ўплываў уздоўж рэк Нарвы, Віслы і Сану, а пасля ўдакладненняў 22 верасня – уздоўж Пісы, Нарвы, Буга і Віслы.

На пачатку верасня 1939 г. паўночна-ўсходнія ваяводствы II Рэчы Паспалітай многім здаваліся найлепшым прытулкам ад вайны. Настаўнік з Моладава Ежы Атлоўскі ўспамінаў пра першых уцекачоў, якія з'явіліся ў вёсцы, і былі гасцінна прыняты сялянамі. Апошнія нават без загадаў адміністрацыі знаходзілі для бежанцаў жытло і забяспечвалі іх харчам[1931]. Уцекачы з'явіліся і ў палацы Скірмунтаў, але звычайна гэта былі сваякі, знаёмыя або чыноўнікі высокага рангу з Цэнтральнай і Паўднёвай Польшчы.

Праз Парэчча праходзіў бежанскі шлях Мечыслава Ялавецкага (1876–1962), які пакінуў маёнтак Камень пад Калішам і выбраўся на Віленшчыну. Ва ўспамінах ён прыгадаў начлег у Парэччы, у сядзібе свайго добрага знаёмага Рамана Скірмунта ў ноч на 17 верасня. Ялавецкі з жонкай дабраліся да Парэчча позна ўвечары. Іх сустрэў гаспадар і запрасіў на вячэру, на якой аказалася шмат яго блізкіх і сваякоў. Як успамінаў Ялавецкі, за сталом панаваў магільны настрой, а Раман Скірмунт быў смутны і маўклівы. Пасля вячэры, праводзячы гасцей да спальні, ён казаў пра тое, што мае кепскае прадчуванне. Дамовіліся паразмаўляць на наступны дзень, але а 6-й гадзіне раніцы на падворку з'явіліся аўтамашыны з новымі гасцямі. Сем'і Пуслоўскіх і Гадлеўскіх заехалі ў Парэчча па дарозе ў Вільню. Яны не збіраліся затрымлівацца, і Ялавецкія далучыліся да іх. Размова не адбылася…

Ужо ў дарозе шафёр Ялавецкага прызнаўся, што вельмі рады ад'езду з Парэчча, бо кантакты са слугамі Скірмунтаў пакінулі цяжкае ўражанне: «...У Парэччы будзе кепска. Служба нешта ведае, увесь час перашэптваюцца, дзеляцца нейкімі

---

[1931] J. Otłowski, *Szkoły mojego życia*, s. 143–144.

навінамі. Там народ ненадзейны. Толькі стары лёкай, некалькі пакаёвак і кухар – добрыя людзі. Іншыя – гэта бандыты. Я нічога не зразумеў з іх мовы, але яны нешта ведаюць і да нечага рыхтуюцца. Шкада пана Скірмунта, падобна, што добры пан, бацька для суседзяў і беднаты, але гэтыя лайдакі таго не разумеюць»[1932].

Ялавецкія шчаслíва дабраліся да Вільні, адкуль накіраваліся ў Літву. Іх прыезд у Парэчча быў апошнім шансам для Рамана Скірмунта пазбегнуць сустрэчы з савецкімі «вызваліцелямі».

17 верасня 1939 г. войскі СССР здзейснілі акт агрэсіі супраць Польшчы. Супраціў ім аказаў фактычна толькі Корпус аховы памежжа, які, аднак, не меў шансаў спыніць савецкае ўварванне. Галоўныя сілы Войска польскага змагаліся супраць нямецкіх армій. Вядомы загад маршала Рыдза-Сміглага ад 18 верасня, у якім галоўнакамандуючы рапарадзіўся не ўступаць у бой з савецкімі войскамі, а працягваць барацьбу на нямецкім фронце, толькі ўзмацніў дэзарыентацыю. Магчыма, маршал лічыў, што СССР збіраецца ваяваць супраць Германіі. Насамрэч, кіраўніцтва СССР дзейнічала ў адпаведнасці з «пактам Молатава-Рыбентропа».

Важным складнікам агрэсіі супраць Польшчы была дзейнасць «аператыўначэкісцкіх груп» (АЧГ), якія непасрэдна прычыніліся да трагедыі сацыяльна і нацыянальна «чужых». Загад аб іх стварэнні быў падпісаны наркамам унутраных спраў СССР Л. Берыем яшчэ 8 верасня, а праз тыдзень з'явілася дырэктыва НКУС СССР № 20177, якая вызначала задачы АЧГ.

*ДАКУМЕНТ*

**З дырэктывы ад 15 верасня 1939 г. «О задачах опергрупп НКВД СССР при вступлении советских войск на территорию Западной Украины и Западной Белоруссии»[1933].**

*1. Немедленно занять все учреждения связи: телеграф, телефон, радиостанции и радиоузлы, почты, поставив во главе органов связи надежных людей.*

*2. Немедленно занять помещения государственных и частных помещений банков, казначейств и всех хранилищ государственных и общественных ценностей и взять на учет все ценности, обеспечив их хранение.*

*3. Оказать всяческое содействие политотделам армии и прикомандированным к ним работникам в немедленном занятии типографий, редакции газет, складов бумаги и налаживании изданий газет.*

*4. Немедленно занять все государственные архивы, в первую очередь архив*

---

[1932] M. Jałowiecki, *Na skraju Imperium i inne wspomnienia*. Warszawa 2014, s. 762–764.

[1933] *На службе Отечеству: Комитет Государственной Безопасности Республики Беларусь*. Автор концепции и текста А. М. Суворов. Брест 2017, с. 131–132. Дакумент таксама друкаваўся ў выданні: В. Христофоров, *История страны в документах архивов ФСБ России*: сборник статей и материалов. Москва 2013, с. 259.

*жандармерии и филиалов 2-го Отдела Генштаба (экспозитуры, пляцувок – органов разведки).*

*5. В целях предотвращения заговорщической предательской работы – арестуйте и объявите заложниками крупнейших представителей помещиков, князей, дворян и капиталистов.*

*6. Арестуйте наиболее реакционных представителей правительственных администраций, руководителей местной полиции, жандармерии, пограничной охраны и филиалов 2-го Отдела Генштаба, воевод и их ближайших помощников, руководителей к/р*[1934] *партий. […] Аресты духовных лиц пока не производить, особенно католиков.*

*7. Занять тюрьмы, проверить весь состав заключенных. Всех арестованных за революционную и проч. антиправительственую работу освободить, использовав при этом мероприятия для вербовки агентуры и проведения политработы среди населения. Организовать новую тюремную администрацию из надежных людей во главе с одним из работников НКВД, обеспечив строгий режим содержания арестованных.*

*8. Одновременно с проводимыми операциями разверните следствие заключенных, к/р организаций с задачей вскрытия подпольных к/р групп и лиц, ставящих целью проведение диверсии, террора, повстанчества и к/р саботажа. Лиц, изобличенных следствием в организации политических эксцессов и открытых к/р выступлениях, арестовывать немедленно.*

*9. Приступить к созданию агентурно-осведомительной сети с расчетом охватить в первую очередь государственный аппарат, к/р буржуазные помещичьи круги и политические партии. Особое внимание уделить быстрой организации осведомительной сети в редакциях газет, в культурно-просветительских учреждениях, продскладах, в штабах, в рабочих гвардиях и крестьянских комитетах.*

*10. Принять меры к выявлению и аресту агентов провокаторов жандармерии, политической полиции и филиалов 2-го Отдела Генштаба, использовав для этого изъятый архив.*

*11. […] Провести регистрацию и изъятие у всего гражданского населения огнестрельного оружия (нарезного), взрыввеществ и радиопередатчиков.*

*[…]*

*14. Работникам НКВД принять активное участие в подготовке и проведении временных управлений – народных собраний – украинского, белорусского и польского. Для обеспечения усиленного проведения народных собраний наладить необходимую агентурно-оперативную работу по выявлению и репрессированию к/р организаций, групп и лиц, противодействующих и срывающих организацию новой власти.*

---

[1934] к/р – абрэвіатура, прынятая ў справаводстве НКУС, якая прачытваецца як «контррэвалюцыйны(ая)».

*15. Принять активное участие в организации временного управления рабочей гвардии и крестьянских комитетов, обратив при этом серъезное внимание на предотвращение проникновения в их состав, во враждебных целях, к/р и провокаторских элементов.*

*16. Конфискации фуража и продовольствия у населения избегайте. Необходимый фураж и продовольствие покупайте у населения за наличные в советских рублях, объявив населению, что стоимость (курс) рубля равняется стоимости (курсу) злотого. […]*

У Беларускай асобнай вайсковай акрузе планавалася стварыць чатыры АЧГ, але, насамрэч, было створана значна болей. У Палескім ваяв. дзейнасць аператыўна-чэкісцкіх груп узначаліў лейтэнант дзяржбяспекі Сяргей Духовіч[1935], які па выніках гэтай аперацыі ўжо 2 лістапада атрымаў пазачарговае званне капітана і ўзначаліў Упраўленне НКУС Пінскай вобл.

Арышты і расправы з «контррэвалюцыйным элементам» распачаліся ўжо ў першыя дні савецкага наступлення. 22 кастрычніка 1939 г. Л. Цанава падаў кіраўніку камуністаў БССР П. Панамарэнку статыстыку арыштаваных «ворагаў». Усяго «было арыштавана 4 315 чал. З іх: 1) буйных прадстаўнікоў памешчыкаў, князёў, дваран і капіталістаў, якія падазраваліся ў шпіянажы – 500 чал.; 2) рэакцыйных прадстаўнікоў урадавай адміністрацыі: а) ваяводаў, старастаў, намеснікаў ваяводаў і старастаў, бурмістраў і іх бліжэйшых памочнікаў – 401; б) кіраўнікоў мясцовых органаў паліцыі, жандармерыі, пагранічнай аховы і 2-га Аддзела польгенштаба – 716; 3) кіраўнікоў і актыўных членаў контррэвалюцыйных партый – 640; 4) бандытаў – 125; 5) кулакоў, якія збеглі з СССР у Польшчу, звязаных з польскай разведкай – 90; 6) агентаў польскай разведкі і правакатараў – 512; 7) белагвардзейцаў, удзельнікаў белагвардзейскай манархічнай арганізацыі – 28; 8) агентаў паліцыі і жандармерыі – 595; 9) агентаў германскай разведкі – 3; асаднікаў, звязаных з польразведкай – 117; 11) абвінавачаных у шпіянажы – 323; 12) іншы контррэвалюцыйны элемент – 265»[1936].

Звесткі пра наступ Чырвонай арміі адразу ж змянілі атмасферу ў паўночна-ўсходніх ваяводствах Польшчы, якія зноў станавіліся Заходняй Беларуссю. Зямля, якая шматлікім польскім бежанцам здавалася спакойным прытулкам ад жахаў вайны, ператварылася ў сапраўднае пекла. Ядвіга Скірмунт, якая сустрэла гэтыя вераснёвыя дні ў маёнтку Грушава разам з Марыяй Радзевічуўнай, пазней успамінала, як нахабна і агрэсіўна пачала сябе паводзіць вясковая моладзь. Сяляне рэгулярна прыходзілі ў сядзібу з вобыскам, падчас якога знікалі розныя каштоў-

[1935] А. Вялікі, *Дзейнасць аператыўна-чэкісцкіх груп у заходніх абласцях Беларусі ў верасні-кастрычніку 1939 г.*, (у:) *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі.* Мінск 2015, с. 143.

[1936] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 14616, арк. 221.

ныя рэчы. Адзін з візіцёраў, колішні вучань школы звярнуўся да Ядвігі Скірмунт: «Пані нам некалі казала пра нейкага Езусіка, нам ніякага Езусіка не трэба…»[1937]

Сапраўды, калі выдаліць Хрыста, а разам з ім і пэўныя маральныя нормы, калі перастае дзейнічаць закон і права, то… ўсё дазволена! Бальшавізм, як і нацызм, насамрэч «вызваляў». Вось толькі не ад «прыгнёту эксплуататараў», а ад тых маральных каштоўнасцяў, якія сталі асновай чалавечай цывілізацыі і гарантам яе развіцця. У выніку *Homo sapiens*, «вызвалены» ад Веры і Культуры, часцяком нагадваў д'ябла ў чалавечым абліччы.

Зноў Ядвіга Скірмунт: «З першых дзён прыходу на нашыя землі бальшавіцкіх войск пачаліся забойствы. Падвучаная і пэўная сваёй беспакаранасці вёска пачала забіваць палякаў, ці то быў памешчык, салдат або чыноўнік. Найбольш жахліва ўвайшла ў гісторыю тых дзён вёска Падзяменне. Там загінуў шляхетны ляснічы Турчанінаў з сынам, нават не паляк, але жанаты з полькай, адпаведна іх дом быў польскі і каталіцкі; загінуў войт нашай гміны; некалькі суседзяў з сынамі; адступаючыя паасобныя салдаты ды інш. У Гарадцу войт, паляшук і вядомы камуніст прадаў габрэю дубовы крыж з помніка Траўгуту. […] Крыж быў спілаваны і парублены на дровы. Вакол нас руйнавалася ўсё тое, у што шмат гадоў мы ўкладалі сэрца і душу. З боку Моладава ўсё яшчэ была тая ж смяротная цішыня. Але аднойчы хтосьці, што ішоў з тых ваколіцаў, паведаміў, што брат Генрык забіты!

Гэта былі жахлівыя дні, і цяжка прызнацца, але мы адчувалі пэўную палёгку, калі прыходзіў бальшавіцкі атрад і заставаўся ў сядзібе на ноч, бо тады сяляне не высоўваліся з хат, а войска паводзіла сябе адносна годна»[1938].

Для Марыі Радзевічуўны і Ядвігі Скірмунт усё скончылася параўнальна добра. 7 кастрычніка, якраз у той дзень, калі ў Парэччы забівалі Рамана Скірмунта, мясцовы сялянскі камітэт вывез іх у Кобрын, каб без перашкодаў завяршыць рабунак маёнтка. У лютым 1940 г. яны здолелі выехаць у Варшаву.

Асобнай увагі патрабуе згадка ва ўспамінах Ядвігі Скірмунт в. Падзяменне на Кобрыншчыне. У верасні 1939 г. у наваколлях гэтай вёскі быў сфарміраваны «атрад самаахովы» Савы Дранюка, які нападаў на невялікія групы польскіх салдат і афіцэраў, рабаваў і забіваў цывільнае насельніцтва, у першую чаргу бежанцаў. Беларускі даследчык Ігар Мельнікаў нават назваў Падзяменне «беларускай Катынню»[1939]. Дранюк і бандыты з ягонага атрада арганізавалі сапраўднае паляванне на людзей у ваколіцах вёскі.

У 2008 г. салдаты 52-га пошукавага батальёна Міністэрства абароны Беларусі правялі эксгумацыю астанкаў загінулых у Падзяменні. Былі знойдзены парэшткі

[1937] J. Skirmuntówna, *Dwadzieścia pięć lat wspomnień o Maryi Rodziewiczównie. Pani na Hruszowej*. Kraków 2012, s. 162.

[1938] Ibidem, s. 163.

[1939] И. Мельников, *Подземенье – беларуская Катынь*. Рэжым доступу: http://www.istpravda.ru/bel/research/855/. Дата доступу: 10. 03. 2018.

42-х чалавек. Сярод забітых былі польскія паліцэйскія, вайскоўцы, а таксама цывільныя грамадзяне, у т. л. жанчыны. У згаданай публікацыі Мельнікаў выказаў меркаванне, што частка расстраляных былі пасажырамі цягніка, які трапіў пад бамбёжку ў ваколіцах Кобрына.

Дарэчы, з'яўленне атрада Дранюка ды іншых падобных загадзя рыхтавалася савецкімі спецслужбамі. Польскі гісторык Ежы Мілеўскі, спасылаючыся на рукапіс камуніста Васіля Ласковіча, паведаміў пра дзейнасць былога сакратара Берасцейскага акружнога камітэта КПЗБ Івана Тарасюка. Ужо 15 жніўня 1939 г. той пачаў ствараць партызанскія атрады ў наваколлях Берасця. 1 верасня ў Жабчыцах быў арганізаваны «штаб паўстанцкага руху» на чале з Тарасюком. Таксама ствараліся канспіратыўныя «рэвалюцыйныя камітэты» і «атрады самаахвовы»[1940]. 12 верасня Тарасюк пачаў перавод паўстанцкіх груп у раён Пінска.

Паводле ўспамінаў камуніста і «паўстанца» Несцера Андраюка, 16 верасня быў створаны «Паўстанцкі рэвалюцыйны штаб», які кіраваў усімі атрадамі на Піншчыне. Кіраўнікамі «штаба» былі Малец і Рыгор Сіткавец[1941]. Магчыма, якраз яны мелі дачыненне да стварэння «рэвалюцыйнага камітэта» ў в. Моталь, які расправіўся са Скірмунтамі з Моладава.

Верасень 1939 г. у Заходняй Беларусі стаўся таксама трагедыяй асаднікаў і леснікоў. Паводле падлікаў Яніны Стобняк-Смагажэўскай, былі забіты жыхары 29 асад, у т. л. 13 асад Палескага ваяв.[1942] Аператыўныя справаздачы НКУС за кастрычнік 1939 г. утрымліваюць даволі шмат інфармацыі пра расправы і самасуд. Так, напрыклад, 14 кастрычніка ў в. Жарабковічы Баранавіцкага пав. мясцовым сялянскім камітэтам былі арыштаваны асаднікі Баляслаў Пік і Юзаф Прушынскі. Было вырашана пад канвоем «народнай міліцыі» даставіць іх у мястэчка Ляхавічы, але «міліцыянеры» (Уладзімір Дмітрук, Фёдар Таранда, Павел Русак і Сяргей Новік) адвялі іх на 100–200 м і расстралялі. Пазней апраўдваліся, што асаднікі нібыта спрабавалі збегчы[1943].

Аўтар справаздачы асудзіў самасуд і прывёў фрагмент «неправільнага» інструктажа «міліцыянераў» у Часовым кіраванні Беластока: «Смотрите, вы там встретитесь с осадниками, это бывшие военные люди, с ними особо не церемоньтесь, а если кого-либо и прихлопнут, то тот отвечать не будет…»[1944]

Асуджэнне з боку супрацоўніка НКУС здзіўляе, бо камуністы ў Беластоку, насамрэч, толькі выконвалі рэкамендацыі вышэйшых партыйных кіраўнікоў. Вось,

[1940] J. Milewski, *Represje sowieckie wobec ludności polskiej ba ziemiach północno-wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej w latach 1939–1941* (у:) *Z dziejów represji sowieckich wobec Polaków w latach 1937–1952. Białoruś, Litwa, ziemie północno-wschodniej Polski*. Studia i materiały pod red. Jana Jerzego Milewskiego. Białystok-Warszawa 2017, s. 104–105.

[1941] НАРБ. Ф. 1440, воп. 3, спр. 106, арк. 5.

[1942] J. Stobniak-Smogorzewska, *Kresowe osadnictwo wojskowe 1920–1945*, Warszawa 2003, s. 266.

[1943] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 14616, арк. 11.

[1944] Тамсама, арк. 11–12.

напрыклад, што казаў П. Панамарэнка пра асаднікаў на нарадзе старшынь Часовых упраў у Заходняй Беларусі 4 кастрычніка: «Тут дело обстоит так. Осадники – более-менее установившаяся категория. В отношении этих осадников, что нужно сказать: если крестьяне дадут им в морду, мы возражать не будем, но и произвола мы допускать не будем. Другое дело в отношении тех осадников, которые имея 40–50–60 и больше гектаров земли никогда не работали, жили за счет эксплуатации крестьянского труда, и если этих осадников крестьяне потребушат, пускай на здоровье дают. Ничего плохого от этого не будет. Крестьяне достаточно натерпелись от этих мерзавцев»[1945].

Падчас экспедыцый па вуснай гісторыі ў в. Парэчча Марыя Новік (1921 г. нар.) распавяла пра забойства «рэвалюцыянерамі» свайго бацькі «гаёвага» Даўкшы. Уляна Мельнік (1923 г. нар.) прыгадала забойства «гаёвага» ў в. Чамярын ды інш.

Трэба адзначыць, што пазіцыя беларускага сялянства не была аднастайнай. Як архіўныя, так і вусныя крыніцы сведчаць пра спробы сялян, асабліва старэйшага пакалення, дапамагчы тым, каго пераследавала новая ўлада і яе мясцовыя памагатыя. Характарызуючы сітуацыю, Ежы Мілеўскі сцвердзіў, што рэпрэсіі таксама закранулі праваслаўных беларусаў, якія крытычна ставіліся да дзейнасці «рэвалюцыйных камітэтаў» і спрабавалі не дапусціць забойстваў[1946].

Сапраўды, у атмасферы арганізаванага хаосу і гвалту гінулі таксама беларускія сяляне. Пра гэта паведамлялася ў згаданых аператыўных справаздачах НКУС у раздзеле «Бандитские проявления». Так, напрыклад, у в. Шыбрына «камітэтчыкі» правялі вобыскі і арыштавалі сялян Васіля Багданскага, Стэфана Пастушка, Васіля Купрыянка і Міхаіла Дашука. Кіраўнікі сялянскага камітэта Васіль Новік і Купрыянюк загадалі расстраляць арыштаваных[1947].

Савецкія войскі ўвайшлі ў Пінск 20 верасня. Для славутага польскага пісьменніка Рышарда Капусьцінскага гэтая першая сустрэча з «імперыяй» адбылася на мосце праз Піну: «Канец верасьня 1939 году. Паўсюль вайна. Палаюць вёскі, людзі хаваюцца ад налётаў па канавах і лясах, шукаюць ратунку, дзе могуць. На нашай дарозе ляжаць забітыя коні. «Калі хочаце ехаць далей, – раіць нейкі чалавек, – дык вам трэба адсунуць іх убок». Колькі пры гэтым цяганіны, колькі поту: мёртвыя коні вельмі цяжкія.

Натоўпы ўцекачоў, у пыле, у брудзе, у паніцы. Навошта ім столькі клункаў, столькі валізак? Навошта столькі чайнікаў, гаршчочкаў і чыгункоў? Навошта яны так лаюцца? Навошта без перапынку пра нешта пытаюцца? Усе ідуць, едуць, бягуць – невядома куды. Але мая мама ведае, куды. Мама ўзяла за руку маю сястру і мяне, і ўтрох мы ідзем да Пінску, да нашага дому на вуліцы Вясёлай. […]

---

[1945] Тамсама, спр. 14564, арк. 16.

[1946] J. Milewski, *Represje sowieckie wobec ludności polskiej ba ziemiach północno-wschodnich*, s. 105–106.

[1947] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, спр. 14616, арк. 77.

Але, калі праз некалькі дзён вандроўкі мы былі паблізу Пінску, калі здалёк ужо былі відны дамы гораду, дрэвы прыгожага парку і вежы касьцёлаў – на дарозе, каля самага мосту, раптам вырастаюць маракі. Гэтыя маракі маюць доўгія вінтоўкі і вострыя, калючыя штыкі, а на круглых шапках – чырвоныя зоркі. Некалькі дзён таму яны прыплылі сюды ажно з Чорнага мора, затапілі нашыя кананеркі, забілі нашых маракоў, і цяпер ня хочуць пускаць нас у горад. Трымаюць нас на адлегласьці, крычаць «ня рухацца!» і цэляцца з вінтовак. Мама, а таксама іншыя жанчыны і дзеці – бо сабралі нас ужо цэлы натоўп – плачуць і просяць літасьці. «Прасіце літасьці», – моляць нас непрытомныя ад страху мамы, але што мы, дзеці, можам яшчэ зрабіць, і так ужо даўно кленчым на дарозе, рыдаем і працягваем рукі ўгору. Крык, плач, вінтоўкі і штыкі, лютыя твары спацелых і злых маракоў, нейкае шаленства, нейкі жах і незразумеласьць, усё гэта там, каля мосту над Пінай, у тым сьвеце, у які я ўваходжу, маючы сем гадоў»[1948].

Здаецца, толькі ва ўспамінах савецкіх і партыйных дзеячаў адлюстравалася «бязмежная радасць» пінчукоў з нагоды з’яўлення чужога войска. Гэтай па-савецку ідэалагізаванай радасцю перапоўнены, напрыклад, старонкі адпаведнага раздзела кнігі з серыі «Памяць», прысвечанай Пінску (1998)[1949]. Нават арышты і дэпартацыі 1939–1941 гг. тлумачацца барацьбой з антысавецкімі арганізацыямі, якія нібыта рыхтавалі паўстанне за адраджэнне Польшчы (?!). Адзіным дысанансам гэтага «савецкага хору» мемуарыстаў і даследчыкаў з’яўляецца кароткі фрагмент згаданай кнігі Рышарда Капусьцінськага «Імперыя»[1950].

Успаміны Гераніма Тукальскага-Нелюбовіча малююць цалкам іншую карціну панавання ў Пінску «першых Саветаў». Яе пісаў чалавек, для якога крах Польскай дзяржавы быў асабістай трагедыяй. Ён хаваўся ў Пінску на кватэры знаёмага габрэя Абрама і атрымліваў ад яго інфармацыю пра тое, што адбывалася ў горадзе і наваколлях. Аўтар успамінаў прыгадаў масавыя затрыманні інтэлігенцыі, зямян і чыноўнікаў у першыя дні новай улады. Іх змясцілі ў турму, дапыталі, запісалі дадзеныя і… выпусцілі.

Сярод часова затрыманых аказаліся Раман, Алена і Баляслаў Скірмунты, якія прыехалі ў Пінск з Парэчча, а таксама Бодзё (Багдан) Скірмунт[1951]. Пад арыштам засталіся толькі найбольш вядомыя чыноўнікі, у прыватнасці, Ст. Алявіньскі, які пазней быў вывезены ў Архангельскую вобл., дзе загінуў, а таксама прэзідэнт

---

[1948] Р. Капусьцінські. *Імперыя*, «Дзеяслоў». 2007, № 30. Рэжым доступу: http://dziejaslou.by/old/www.dziejaslou.by/inter/dzeja/dzeja.nsf/htmlpage/kap3002ec.html?OpenDocument. Дата доступу: 18. 07. 2018.

[1949] *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пінска*. Мінск 1998, с. 217–238.

[1950] З *успамінаў польскага пісьменніка Рышарда Капусцінскага, ураджэнца г. Пінска*, (у:) *Памяць,* с. 239.

[1951] ZNiO. Dział rękopisów. 15444 II/ cz. 2. H. Tukalski-Nielubowicz, *Pół wieka wspomnień*. Cz. 2. W siodle 1926–1939, k. 16.

Пінска Ежы Алдакоўскі. Лёс апошняга невядомы, але хутчэй за ўсё і ён загінуў недзе на поўначы СССР.

Успаміны ўтрымліваюць даволі шмат інфармацыі пра трагічны лёс зямян і паводзіны мясцовага сялянства. Так, з Жыткавіч у пінскі шпіталь сяляне прывезлі смяротна параненага Тадэуша Рыдзеўскага, які застаўся ў вёсцы, бо меў добрыя адносіны з сялянамі. Аднак прыйшла банда з іншай вёскі, якая схапіла яго і пачала здзеквацца. Рыдзеўскі здолеў вырвацца, дабраўся да свайго дому і выстраліў з рэвальвера сабе ў вісок. Яшчэ жывога «добрага пана» даставілі ў шпіталь, дзе той неўзабаве памёр. У маёнтку Падхацце каля Пінска быў забіты сялянамі рускі памешчык Бакуненка. Уладальнік маёнтка Заполле Стэфан Плятэр разам з добрым знаёмым Рамана Скірмунта Янам Сянкевічам згінулі без звестак, спрабуючы дабрацца да зоны нямецкай акупацыі.

Тукальскага-Нелюбовіча найбольш хваляваў лёс маёнтка Мутвіца, дзе засталася ягоная маці. Ад Абрама ён даведаўся, што ў Мутвіцу прыйшла банда з аддаленых вёсак, якая забіла войта і схапіла адміністратара Міхалоўскага. Але расправы з ім не дапусцілі мясцовыя сяляне. Яны настаялі на «народным судзе», адвезлі арыштаванага ў Пінск, а там далі яму такую характарыстыку, што Міхалоўскага вызвалілі з-пад арышту. Сяляне абаранялі таксама маці аўтара ўспамінаў, якую новая ўлада імкнулася выдаліць з маёнтка. Тады ў вёску прыехаў «камісар» Засыпкін, які сабраў сход і патрабаваў выгнаць «памешчыцу». Нехта з сялян даў ёй прытулак ва ўласнай хаце[1952].

Геранім Тукальскі-Нелюбовіч таксама распавёў пра забойства Скірмунтаў у Моладаве. Гэтая трагедыя ўжо апісана польскай даследчыцай Марыяй Новак-Келбіковай, якая выкарыстала ўспаміны Канстанціна Скірмунта, Гераніма Тукальскага-Нелюбовіча, Анджэя Цеханавецкага, ксяндза Станіслава Рыжко ды інш.[1953] Публікацыя мемуараў колішняга настаўніка школы ў Моладаве Ежы Атлоўскага, а таксама вусныя ўспаміны вядомага польскага гісторыка Анджэя Цеханавецкага (1924–2015, запіс 2006) і старэйшых жыхароў вёсак Моладава і Моталь, дазваляюць удакладніць абставіны гэтай трагічнай падзеі.

У сярэдзіне верасня маёнтак у Моладаве стаўся месцам прытулку для многіх сваякоў і знаёмых Генрыка і Канстанціна Скірмунтаў. Прынамсі, Анджэй Цеханавецкі, які ў той час разам з маці таксама быў у Моладаве, прыгадваў княжну Друцкую-Любецкую з Пазнаньскага з апякункай Карлоўскай, дачку інжынера Кербедзя, пані Ельскую[1954]. У гаспадарчых забудовах спыніўся атрад паліцыі з Беластока, які суправаджаў нейкія важныя дакументы.

---

1952 Ibidem, k. 27.

1953 M. Nowak-Kiełbikowa, *Konstanty Skirmunt. Polityk i dyplomata*. Warszawa 1998, s. 330–334.

1954 Вусныя ўспаміны Анджэя Цеханавецкага былі запісаны Эльжбетай Смулковай (Лондан, чэрвень 2006 г.). Хачу выказаць шчырую ўдзячнасць праф. Эльжбеце Смулковай за прадастаўленыя матэрыялы і цікавасць да дадзенага даследавання.

У палацы не было радыё, і навіны даходзілі да яго жыхароў са спазненнем. 17 верасня Мацільда Цеханавецкая і Ельская паехалі ў Парэчча, дзе было радыё. Вярнуліся ашаломленыя: СССР напаў на Польшчу. Ляснік Моладаўскага маёнтка Генрык Жаброўскі пазней успамінаў, што ў размове з ім увечары 17 верасня Генрык Скірмунт прызнаўся, што верыць у Божае заступніцтва, якое і ў гэты раз абароніць Моладава, а таксама паведаміў, што тэлефанаваў у нейкі маёнтак, што знаходзіўся паблізу мяжы з СССР. Ягоны гаспадар нібыта распавёў, што савецкія войскі захоўваюцца прыстойна, не дазваляюць сялянскіх рабункаў[1955]. Ці была гэта праўда, ці звычайны падман, сёння мы ўжо не даведаемся. Гаспадары палаца Генрык, Канстанцін і Марыя Скірмунты і іх госці засталіся чакаць прыходу «прыстойных» савецкіх войск.

Аднак удзень 18 верасня ў Моладаве з'явіўся ўзброены атрад «рэвалюцыйнага камітэта» з блізкага Моталя, дзе ўжо ўсталявалася новая ўлада. Папярэдне з Моталя патэлефанавалі ў палац з патрабаваннем здаць зброю. Генрык Скірмунт згадзіўся, і паляўнічая зброя была прыгатавана для перадачы. Узброеныя маталяне з чырвонымі павязкамі зайшлі ў палац, забралі зброю і пачалі вобыск. У гэты час сяляне з Моладава запоўнілі маёнтак, забралі коней, аўтамашыну, але, як засведчыў Е. Атлоўскі, не было ні рабунку, ні агрэсіі ў дачыненні да Скірмунтаў ды іх гасцей.

Падчас вобыску была знойдзена зброя, якую пакінула беластоцкая паліцыя, не паведаміўшы пра гэта гаспадарам. У выніку Генрыка і Марыю Скірмунтаў забралі ў Моталь як закладнікаў. Канстанцін Скірмунт быў паралізаваны і не мог рухацца, яго пакінулі ў палацы. Іншых, у т. л. новых гаспадынь маёнтка сясцёр-уршулянак, адвялі ў сутарэньні і пакінулі пад узброенай аховай. Пазней да іх далучылі яшчэ і настаўніка Атлоўскага. Сітуацыя была трагічная. Але ўсё змянілася ранкам 19 верасня, калі да палаца наблізіўся невялікі польскі атрад, які разагнаў паўстанцаў і вызваліў зняволеных. Ёсць звесткі, што гэты атрад прыйшоў у Моладаў, каб выканаць загад генерала Францішка Клеэбэрга аб эвакуацыі Канстанціна Скірмунта[1956]. Праўда, вайскоўцаў было няшмат, і хутка палац быў аточаны пераважаючымі сіламі «партызан». Пачалася перастрэлка. Паводле ўспамінаў Н. Андраюка, гэтым атрадам кіраваў згаданы Рыгор Сіткавец[1957].

У пэўны момант перад палацам з'явіліся два маладыя хлопцы з белым сцягам. Гэта былі парламенцёры Пётр Кузюр і Аляксандр Дзямковіч. У палацы іх ведалі, бо яны вучыліся ў неафіцыйнай «гімназіі» ў Моладаве, якой доўгі час кіраваў ксёндз

[1955] H. W. Żebrowski, *Kto rozstrzelał Henryka i Marię Skirmuntów*, «Wiadomości». 1966, Nr 1079, 4 grudnia, s. 4.

[1956] M. Plewako, *Wspomnienia z wojny 1939 r. na Polesiu* (przygotowane do druku w czasopiśmie «Dziedzictwo Kresowe», Nr 11). Хачу выказаць падзяку спадару Станіславу Плевака за перададзены фрагмент успамінаў.

[1957] НАРБ. Ф. 1440, воп. 3, спр. 106, арк. 5–6.

Ян Зея (1897–1991). Аляксандр Дзямковіч перадаў запіску ад Генрыка Скірмунта, у якой той прасіў скласці зброю. Абаронцы палаца адмовіліся гэта зрабіць і затрымалі парламенцёраў[1958]. Перастрэлка зацягнулася да вечара, і перспектывы абаронцаў выглядалі вельмі кеска. Але раптам на дарозе, што вяла да Янава Палескага з'явіўся яшчэ адзін польскі атрад, які налічваў каля 600-т вайскоўцаў.

Аблога была знята. Мар'ян Плевака, які быў у гэтым атрадзе, пазней прыгадваў, што ўбачыў каля палаца некалькі дзесяткаў вясковых жанчын і мужчын старэйшага ўзросту, якія стаялі на каленях перад кулямётам. Як аказалася, падчас нечаканай для нападнікаў вылазкі абаронцы палаца захапілі вясковых закладнікаў, каб такім чынам спыніць атакі праціўніка. Канстанцін Скірмунт ва ўспамінах таксама прыгадаў сялян і праваслаўнага святара, якія стаялі на каленях, і назваў гэта «дзікім спосабам пакарання»[1959]. Але, падобна на тое, што меркаванне былога дыпламата польскіх вайскоўцаў ужо не цікавіла.

Яны накіраваліся на Камень Кашырскі і забралі з сабою ўсіх жыхароў палаца, у т. л. Канстанціна Скірмунта. Перад адыходам іх камандзір загадаў распачаць «пацыфікацыю» вёскі. А. Цеханавецкі прыгадваў, што яго настойліва прасілі гэтага не рабіць, казалі пра арыштаваных Генрыка і Марыю. Але аргументы не падзейнічалі.

Вёска была аточана з усіх бакоў, і вайскоўцы лёгка падавілі спробы ўзброенага супраціву. Падчас бою салдаты падпалілі хаты і царкву[1960]. У выніку большая частка вёскі, у якой жылі амаль 3 тысячы чалавек, была спалена. Канстанцін Скірмунт прыгадваў, што яго вывозілі праз палаючае Моладава[1961]. Вайскоўцы расстрэльвалі тых, хто аказаў супраціў, выклікаў падазрэнні і не здолеў збегчы. Цеханавецкі прызнаўся, што маці закрывала ягоныя вочы, але адзін эпізод расстрэла ён убачыў цалкам…[1962] Ежы Атлоўскі сцвердзіў, што камандзір планаваў спаліць таксама вёску Кучэвы, але ў гэтым выпадку ўсё ж атрымалася пераканаць яго не рабіць яшчэ адной падобнай «пацыфікацыі»[1963].

Парламенцёры П. Кузюр і А. Дзямковіч былі «замучаны да смерці». Менавіта так распавядалі пра іх лёс жыхары вёскі Моталь Марфа Палто (1939 г. нар.) і Вольга Маліч (1931 г. нар.) улетку 2015 г. Падставай для такога сцвярджэння быў стан трупаў, знойдзеных у Моладаве. Пасля прыходу «першых саветаў» парламенцёраў пахавалі ў цэнтры Моталя.

Генрыка і Марыю Скірмунтаў 20 верасня правезлі праз спаленую вёску са

---

[1958] J. Otłowski, *Szkoły mojego życia*, s. 164.

[1959] K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*, s. 199.

[1960] M. Plewako, *Wspomnienia z wojny 1939 r. na Polesiu* (przygotowane do druku w czasopiśmie «Dziedzictwo Kresowe», Nr 11).

[1961] K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*, s. 200.

[1962] A. Ciechanowiecki, *Prawda o śmierci Henryka i Marii Skirmuntów*, «Wiadomości». 1966, Nr 1067, 11 września, s. 4; Вусныя ўспаміны А. Цеханавецкага (2006). З архіва аўтара.

[1963] J. Otłowski, *Szkoły mojego życia*, s. 172.

словамі: «Глядзіце, што вашыя людзі зрабілі». Гаспадара маёнтка падазравалі ў тым, што менавіта ён па тэлефоне выклікаў вайсковую дапамогу, якая і расправілася з Моладавам. У той жа дзень Генрыка і Марыю жорстка забілі паблізу Моладава. Згаданы Генрык Жаброўскі галоўным віноўнікам іх забойства назваў камандзіра польскага атрада…[1964]

Падчас знаходжання ў Варшаве Канстанцін Скірмунт праз нямецкую дыпламатыю паспрабаваў даведацца пра лёс брата і сястры. Адказ прадстаўніка савецкага пасольства можна лічыць узорам характэрнай для савецкай дыпламатыі і ідэалогіі бессаромнай хлусні. У афіцыйным дакуменце паведамлялася, што яны былі забіты 20 верасня «польскімі сялянамі» (?!)[1965]. Відавочна, што расправы з зямянамі, ляснікамі і польскімі службоўцамі «першыя саветы» імкнуліся прадставіць у Еўропе як вынік ўнутрыпольскага сацыяльнага канфлікта.

Тукальскі-Нелюбовіч, назіраючы са свайго сховішча за тым, што адбывалася на Піншчыне, пісаў пра нязменнасць бальшавіцкіх планаў наконт вынішчэння зямян і інтэлігенцыі. Пры гэтым ён адзначыў пэўныя змены ў формах гэтага вынішчэння, звязаныя з выкарыстаннем мясцовага насельніцтва і імкненнем прадставіць гвалт і забойствы людзей наступствамі «капіталістычнага ладу»: «Новыя ўлады не прыкладалі ўласных рук [да забойстваў]. Але толькі на першы погляд. Там, дзе нейкі бездапаможны і блізарукі буржуй неразумна ўпарціўся і сядзеў на месцы, а навакольныя ці мясцовыя сяляне былі настолькі «несвядомыя», што дазвалялі гэта, то прыязджаў нехта з камісараў, як Засыпкін у Мутвіцу, і паказваў правільны шлях. Так было ў Парэччы, толькі што там канец быў значна горшы і смяртэльна трагічны.

Дарэчы, а навошта забіваць на месцы? Тыя, хто здолеў перажыць першую завіруху і «народны гнеў» пазней сістэматычна адсочваліся і вывозіліся. Нават слядоў не засталося. Так было з Бодзё (Багданам – *А. С.*) Скірмунтам з Альбрэхтова. Спачатку яго арыштавалі (так было прынята), потым выпусцілі (такая была практыка), а ён замест таго, каб зрабіць адзіную лагічную выснову і збегчы, застаўся ў сваім маёнтку. І, урэшце, у навагоднюю ноч 1940 г. яго забралі з дому…»[1966]

У тым жа 1940 г. быў арыштаваны і памёр у турме ў Лунінцы добры знаёмы Рамана Скірмунта, дэпутат Сейма і гаспадар маёнтка Дварэц Кшыштаф Шчыт-Неміровіч (1893–1940). У памяці вяскоўцаў ён таксама фігураваў як «добры пан». Вось што ў інтэрв'ю Ганне Энгелькінг у 1996 г. распавёў адзін са старэйшых

---

[1964] H. W. Żebrowski. *Kto rozstrzelał Henryka i Marię Skirmuntów*, s. 4.

[1965] K. Skirmunt, *Moje wspomnienia. 1866–1945*, s. 205.

[1966] H. Tukalski-Nielubowicz, *Pół wieka wspomnień. Cz. 2. W siodle 1926–1939*, k. 31. Паводле кнігі «Памяць» (Пінскі раён), Багдан Скірмунт быў арыштаваны ў лістападзе 1939 г. і памёр у зняволенні ў сакавіку 1940 г. Ягоная жонка Леакадзія і сын Павел былі высланы ў Казахстан. Высылку перажылі (*Дваране Пінскага пав., якія загінулі або былі рэпрэсаваны ў канцы 1939–1940 г.,* (у:) *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пінскага раёна*. Мінск 2003, с. 214).

жыхароў в. Дварэц Андрэй Кузьміч (1921 г. нар.): «Вы знаете, он был очень хороший человек. По-русски говорил очень хорошо. Сам был паляк. Такой снисходительный человек. И помогал многим. […] Хороший был»[1967].

Трэба адзначыць, што ўвосень 1939 – увесну 1940 г. на Палессі былі забіты або арыштаваны і вывезены, каб згінуць без звестак, амаль усе мужчыны з роду Скірмунтаў. Паводле дадзеных польскага даследчыка Кшыштафа Ясевіча, гаспадар маёнтка Гутка Пінскага пав. Баляслаў Скірмунт (1879 г. нар.) быў арыштаваны ў сакавіку 1940 г., вывезены ў СССР, дзе згінуў без звестак. Аднак гісторык памыліўся з імем ахвяры, бо насамрэч гаспадара маёнтка звалі Антоні Станіслаў[1968]. Ягоная жонка Браніслава (1891–1942) памерла ў адным з калгасаў паўночнага Казахстана[1969].

У кастрычніку 1939 г. органамі НКУС быў арыштаваны гаспадар маёнтка Церабень Кацпер Скірмунт (1910 г. нар.). У аператыўных сводках НКУС захавалася кароткая інфармацыя пра ягоныя паказанні на першым допыце. У прыватнасці, следчы адзначыў, што арыштаваны з 1927 г. быў сябрам Саюза памешчыкаў Пінскага пав., на сходах якога «вырашаліся пытанні абароны польскай дзяржавы», а з 1936 г. належаў да «фашысцкай партыі ОЗОН»[1970]. Кацпер Скірмунт быў вывезены ў СССР, і след яго згубіўся. У сакавіку 1940 г. быў арыштаваны ягоны бацька Уладзіслаў (1866 г. нар.), які таксама згінуў без звестак недзе на прасторах СССР[1971]. Разам з мужам была арыштавана і выслана жонка Эва, якая не перажыла высылкі[1972].

У кнізе серыі «Памяць», прысвечанай Пінскаму раёну, прыводзіцца спіс рэпрэсаваных зямян, у якім таксама згадваецца Эва Скірмунт (1871–1940, згінула без звестак у ссылцы), Ядвіга Антаніна Скірмунт (1864–1945, памерла ў ссылцы)[1973].

Экспедыцыя па вуснай гісторыя 2004 г., якая праходзіла ў тых мясцовасцях Піншчыны, якія былі звязаны са Скірмунтамі, пацвердзіла маштабнасць савецкіх рэпрэсій у дачыненні да гэтага роду. Мужчыны звычайна былі арыштаваны і вывезены ў СССР, дзе загінулі. Іх жонкі і дзеці былі адпраўлены ў Казахстан або на поўнач СССР. Напрыклад, такі лёс напаткаў сям'ю Станіслава Скірмунта з в. Бакінічы. Праз месяц пасля арышту і высылкі гаспадара (у сакавіку 1940 г.) ягоная маці Ядвіга, жонка Разалія і дзеці Тэрэза, Ян і маленькая Гражына былі вывезены ў адзін з калгасаў Казахскай ССР. Маці памерла ў 1945 г. Сам гаспадар

---

1967 A. Engelking, *Kołchoznicy. Antropologiczne studium tożsamości wsi białoruskiej przełomu XX i XXI wieku.* Toruń 2012, s. 169.

1968 *Дваране Пінскага пав., якія загінулі або былі рэпрэсаваны ў канцы 1939–1940 г.*, (у:) *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пінскага раёну*. Менск 2003, с. 214.

1969 K. Jasiewicz, *Lista strat ziemiaństwa polskiego. 1939–1956.* Warszawa 1995, s. 947.

1970 НАРБ. Ф. 4п, воп. 21, спр. 1683, арк. 112–113.

1971 K. Jasiewicz, *Lista strat ziemiaństwa polskiego. 1939–1956*, s. 949.

1972 *Дваране Пінскага пав., якія загінулі або былі рэпрэсаваны ў канцы 1939–1940 г.,* с. 214.

1973 *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пінскага раёну*, с. 214.

згінуў без звестак[1974]. А вось жонка і старэйшыя дзеці перажылі рэпрэсіі і пасля вайны выехалі ў Польшчу. Тэрэза Скірмунт некалькі разоў наведвала Бакінічы, бачыла катлаван, які быў выкапаны на месцы яе роднага дому, і паклапацілася пра будаўніцтва каплічкі-помніка з надпісам: *Matko Boska, módl się za nami, wypraszaj łaski u Syna swego*[1975]. Гэты надпіс прысвечаны ўсім загінулым у полымі апошняй вайны.

Магчыма, адзіным выключэннем быў старэйшы брат Рамана Аляксандр Скірмунт. Ён памёр у Пінску ў 1940 г. і быў пахаваны на старых каталіцкіх могілках. На магіле стаіць металічны крыж без надпісу…[1976]

Тыя, каго не паспелі ці не здолелі вывезці да пачатку савецка-германскай вайны, загінулі ад рук савецкіх партызан ужо падчас нямецкай акупацыі Беларусі. 30 снежня 1942 г. партызаны атрада Героя Савецкага Саюза Фёдара Маркава напалі на сядзібу Скірмунтаў каля в. Шаметаўшчына (сёння в. Шэметава Мядзельскі раён Менскай вобл.). Габрыэля Скірмунт і яе дачка Лідзія былі спалены жыўцом…[1977]

У 1943 г. была захоплена партызанамі і забіта сястра Рамана Скірмунта Алена, якая вярнулася ў Парэчча летам 1941 г. Забойству папярэднічаў напад партызан на парэцкую сядзібу Скірмунтаў, у якой апрача гаспадыні знаходзіліся некалькі нямецкіх вайскоўцаў са службы лясной аховы. Пасля перастрэлкі партызаны ўварваліся ў дом. Палонных немцаў разам з Аленай Скірмунт забралі з сабой. Паводле вусных успамінаў жыхароў Парэчча і Табулак, якія не далі дазволу на запіс і згадванне іх імёнаў, цела Алены Скірмунт было знойдзена з адрубанай галавой… Яе пахавалі ў парку побач з братам і мужам.

Выявіць партызан, якія гэта зрабілі, пакуль не атрымалася. У аповедах жыхароў Парэчча найчасцей фігуравалі г. зв. «жэнькаўцы». Гаворка ішла пра партызан атрада Яўгенія Макарэвіча, які загінуў у чэрвені 1943 г. Пасля яго смерці да лістапада 1943 г. атрадам кіраваў Аляксей Сямёнаў. У лістападзе атрад увайшоў у склад брыгады імя Свярдлова (камандзір Іван Марыняка), а ўзначаліў яго былы камісар атрада жыхар Моталя Іван Калілец[1978]. У вусных успамінах Лізаветы Епішкі

---

[1974] *Дваране Пінскага пав., якія загінулі або былі рэпрэсаваны ў канцы 1939 – 1940 г.*, с. 214. Паводле Тэрэзы Скірмунт, пэўныя ўскосныя дадзеныя дазваляюць сцвярджаць, што яе бацька Станіслаў Скірмунт не загінуў у лагеры, а нейкім чынам («быў выкуплены»?) апынуўся ў савецкім войску з дакументамі на іншае імя і нават удзельнічаў у Сталінградскай бітве.

[1975] А. Дзікавіцкі, *Помнік над катлаванам,* «Наша Ніва». 2001, № 30, 23 ліпеня.

[1976] Пахаванне Аляксандра Скірмунта ўстанавілі пінскія краязнаўцы, у прыватнасці, Эдуард Злобін.

[1977] Гл.: Зм. Бартосік, «Спаленыя жыўцом». Двор Шэметава. Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/25036488.html. Дата доступу: 15.05.2018.

[1978] *Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941-июль 1944)*. Сост. Манаенков А. Л., Горелик Е. П., Маркова А. Ф. и др. Минск 1983, с. 130–132.

(1927 г. нар., в. Табулкі) таксама згадваліся партызаны атрада імя Лазо. Зімой 1943 г. атрадам камандаваў Пётр Кузняцоў, а камісарам быў Леанід Буклікаў[1979].

Лізавета Епішка распавяла пра партызанскі напад на Парэчча на Каляды 1943 г. У той час немцаў у вёсцы ўжо не было, яны перабраліся ў Лагішын. Партызаны выгналі на вуліцу жыхароў г. зв. «мураванкі», якая калісьці была збудавана для сем'яў работнікаў суконнай фабрыкі, а падчас вайны стала прытулкам для некалькіх сем'яў парэчан. Людзей абрабавалі, а маёнтак спалілі. Менавіта тады згарэла сядзіба Скірмунтаў, каталіцкая капліца, згаданая «мураванка» і рэшткі будынку былой суконнай фабрыкі, у якой знаходзілася стайня. Цалкам магчыма, што гэты напад на парэчан увайшоў у аналы партызанскага гераізму як «знішчэнне нямецкага гарнізона». Лізавета Епішка таксама прызналася, што, баючыся гвалту з боку партызан, яе, 16-гадовую дзяўчыну схавалі ў сваякоў з іншай вёскі.

Вяртаючыся да «першых саветаў», трэба адзначыць, што ў Парэцкім маёнтку была створана фабрычна-завадская вучэльня, працягвалі дзейнічаць сыраварня, прадпрыемства па перапрацоўцы малака і паравы млын. Паводле ўспамінаў Антаніны Сідарук, у 1940 г. быў арганізаваны калгас, які аб'яднаў 10 бядняцкіх сялянскіх гаспадарак, у т. л. гаспадаркі Мікалая Тамашука, Івана Хвясько ды інш.

Вясковыя суразмоўцы таксама прыгадвалі дэпартацыі, якія ў Парэччы найбольш закранулі работнікаў лясной службы, а таксама «балахоўцаў». Пра высылку апошніх успаміналі Вольга (1930 г. нар.) і Ігнат (1928 г. нар.) Новікі[1980]. Варта нагадаць, што савецкія дэпартацыі былі адмысловай формай забойства, бо часта «кулакоў» да іншы «контррэвалюцыйны элемент» прывозілі ў мясцовасці, дзе жыццё было немагчыма.

Актыўнае калгаснае будаўніцтва распачалося ўжо пасля вайны. Антаніна Сідарук пераказала аповед сваёй маці пра «кулацкі калгас» у Парэччы[1981]. У 1948 г. у вёску прыехаў «ўпаўнаважаны» з Лагішына, каб паскорыць калектывізацыю. Падобна, што ў той час калгас ужо існаваў. «Упаўнаважаны» казаў пра неабходнасць дэпартацыі мясцовых «кулакоў», у якіх ён бачыў галоўных ворагаў калгаса. Сельскі савет, сакратаром якога была маці А. Сідарук Ганна Чугай, узяў іх пад абарону, даказваючы, што «багацце» з'яўляецца вынікам іх уласнай працы. Аднак госць з Лагішына настойваў на вывазе. Дамовіліся ўвечары правесці сход сельсавета ў пашыраным складзе, на якім і вырашыць лёс парэцкіх «багатыроў».

Ганна Чугай папярэдзіла апошніх пра вызначальны для іх жыцця сход і прапанавала прыйсці пад дом, каб падслухаць дэбаты. Яны прыйшлі, падслухалі

---

[1979] *Партызанскія фарміраванні, якія дзейнічалі на тэрыторыі Пінскага раёна* (у:) *Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Пінскага раёна*, с. 253.

[1980] Успаміны Вольгі і Ігната Новікаў. БАВГ: 50(1) – 981 – 4762. Рэжым доступу: http://www.nashapamiac.org/archive/home.html. Дата доступу: 23. 05. 2018.

[1981] Успаміны Антаніны Сідарук. БАВГ: 50(1) – 981 – 4527. Рэжым доступу: http://www.nashapamiac.org/archive/home.html. Дата доступу: 23. 05. 2018.

і зразумелі, што ад высылкі іх уратуе толькі… калгас. На наступны дзень «кулакі» (Рыгор Глушко, Мікалай Кандрацюк ды інш.) падалі заявы і першымі ўступілі ў калгас.

Рэспандэнты ахвотна распавядалі пра першага старшыню, якім стаў сялянін Іван Матолька з мянушкай «Самалёт». Паводле вусных успамінаў, ён быў непісьменны і «вялікі гультай». Прыгадвалі, што часам бачылі яго за «чытаннем» газеты, якую трымаў дагары нагамі. Таксама распавядалі пра ягоную экскурсію па калгасных палетках для чарговага «ўпаўнаважанага». Госця найбольш уразіў надзел, які цалкам зарос высокай травой свірэпкай з жоўтымі кветкамі. На пытанне, што тут расце, Матолька адказаў: «А, ерунда!» І пачуў у адказ: «О! Дык вы гэтую ерунду больш сейце!» (А. Сідарук).

У Занальным Дзяржаўным архіве ў Пінску захаваліся Кнігі пратаколаў пасяджэнняў праўлення калгаса імя Молатава, дзе даволі часта згадвалася імя забойцы Рамана і Баляслава Скірмунтаў Сільвестра Лукашыка. Так, 7 лютага 1951 г. ён звярнуўся да праўлення з просьбай выдзяліць зямлю пад пабудову дому. Праўленне пагадзілася, і «Соловэй» атрымаў надзел у «былым маёнтку ад Кучынскага 25 м на ўсход»[1982]. У наступным месяцы яму выдзелілі 10 $м^3$ лесаматэрыялаў на будаўніцтва[1983]. У канцы красавіка праўленне задаволіла просьбу Лукашыка наконт выдачы яму авансам 80 кг жыта ў залік працадзён за 1951 г.[1984] Дарэчы, заяў з аналагічнай просьбай было шмат, але амаль усім адмовілі. Падобна, што Лукашык карыстаўся «аўтарытэтам» у сяброў праўлення.

У лютым 1952 г. ён узначаліў 2-ю брыгаду паляводаў[1985]. Аднак калгасная кар’ера не задалася. Кніга пратаколаў сведчыць, што адной з галоўных праблем парэцкага калгаса імя Молатава быў невыхад калгаснікаў на працу. За гэта каралі штрафамі, рэквізіцыяй прысядзібных надзелаў і нават выключэннем з калгаса. Магчыма, што брыгадзір Лукашык не здолеў вырашыць гэтую праблему. Ягонае прозвішча адсутнічае ў спісе тых, хто ў лістападзе 1952 г. атрымаў грашовую прэмію з нагоды 35-годдзя рэвалюцыі (усяго 32 чал.)[1986]. У лютым 1953 г. у пратаколах ужо згадваўся іншы брыгадзір паляводаў. Лукашыка перавялі на пасаду кладаўшчыка, што было не найгоршым варыянтам для выжывання ў калгасе, бо кладаўшчыкі таксама належалі да калгаснай «эліты».

У пасляваенныя гады ад вялізнага маёнтка Скірмунтаў застаўся толькі гмах колішняй вінакурні, якая ператварылася ў завод, дзе выраблялі патаку, крухмал, сокі ды інш. Для многіх жыхароў Парэчча завод стаў альтэрнатывай калгасу. Яшчэ больш важнай альтэрнатывай была сама памяць пра «добрага пана». Антаніна

[1982] Занальны Дзяржаўны архіў Пінска. Р–639, воп. 1, спр. 3, арк. 4.
[1983] Тамсама, арк. 11.
[1984] Тамсама, арк. 14.
[1985] Тамсама, спр. 6, арк. 4.
[1986] Тамсама, арк. 31 адв.–32.

Сідарук прыгадвала, як у 1950-я гг. мужчыны збіраліся ў іх хаце і ўспаміналі Рамана Скірмунта, ягоную дабрыню і заўсёдную гатоўнасць дапамагчы тым, хто сумленнай працай і паводзінамі заслужыў павагу «пана» і вёскі. Гэтыя ўспаміны моцна разыходзіліся з тагачаснай калгаснай і савецкай рэчаіснасцю. Памяць вяртала парэчан у тое мінулае, дзе цяжка працавалася і жылося, але сапраўдны гаспадар быў у пашане, прынамсі ў «добрага пана»...

# POST SCRIPTUM

Каноны акадэмічнай навукі патрабуюць у заключэнне сфармуляваць асноўныя вынікі даследавання і паказаць, як былі вырашаны яго галоўныя задачы. Аднак гэтую кнігу не хочацца завяршаць падобнай данінай фармалізму.

Аповед пра жыццё і смерць Рамана Скірмунта запрашае даследчыка і чытача да размовы пра лёс Беларусі і Польшчы ў XIX–XX ст., пра ролю «польскага чынніка», а таксама суадносіны нацыянальнага і сацыяльнага ў айчыннай гісторыі, пра драму літоўскіх і беларускіх палякаў у эпоху этнакультурнага нацыяналізму, пра краёвую ідэю і краёўцаў як апошніх грамадзян Вялікага Княства Літоўскага, іх пошукі новай Радзімы, а таксама пра гісторыю шляхты гістарычнай Літвы ў перыяд кардынальных сацыяльных пераўтварэнняў. Адначасна ягоны жыццяпіс ўздымае праблему сутнасці беларускай ідэі і яе папулярнасці, зноўку ставіць пытанні пра адзінства беларускага руху і ролю г. зв. «чалавечага фактара» ў палітычным і культурным Адраджэнні XX ст., пра шансы адстаяць незалежнасць БНР у 1918 г. і тым самым далучыцца да супольнасці еўрапейскіх дзяржаў як «вольная з вольнымі і роўная з роўнымі».

Раман Скірмунт як адзін з ідэолагаў краёвасці і «грамадзянін Краю» падтрымліваў нацыянальныя памкненні беларусаў і спадзяваўся, што яны не разбураць адзінства земляў і народаў Беларусі і Літвы. Напрыканцы 1916 г. ён далучыўся да беларускага руху і нават узначаліў яго ў вельмі складаны і адказны перыяд гісторыі. Прыхільнасць да краёвай ідэі не перашкаджала ягонай дзейнасці як беларускага палітыка. Яна цалкам адпавядала той пазіцыі нацыянальнай і канфесійнай талерантнасці, якую дэманстравала беларускае Адраджэнне. Менавіта Раман Скірмунт у 1917 г. адным з першых выказаў патрабаванне аўтаноміі Беларусі ў межах дэмакратычнай і федэрацыйнай Расіі. Ён жа напачатку 1918 г. яшчэ да абвяшчэння незалежнасці БНР публічна выказаўся за незалежнасць Беларусі. Пры гэтым захоўваў надзеі на палітычнае адзінства земляў Беларуска-Літоўскага краю і яго партнёрства з Польскай дзяржавай.

Істотнай перашкодай дзейнасці Скірмунта было сацыяльнае дактрынёрства беларускіх сацыялістаў і іх недавер да «польскага абшарніка», які ўзмацняўся па меры радыкалізацыі Расійскай рэвалюцыі. Параза ўрада Рамана Скірмунта (ліпень 1918 г.) таксама была абумоўлена пазіцыяй Берліна, які дзеля захавання добрых адносін з бальшавіцкімі ўладамі Расіі не збіраўся прызнаваць незалежнасці БНР. Хоць часам і дэманстраваў гатоўнасць такога прызнання. Тым не менш і пасля гэтай няўдачы Скірмунт застаўся ў Радзе БНР і напрыканцы 1918 г. быў адным з яе галоўных дыпламатаў.

Прычынамі яго адыходу ад беларускага руху (лета 1919 г.) было пашырэнне ў ім прыхільнасці да бальшавікоў, а таксама аднаўленне Польскай дзяржавы. Нягледзячы на дамінаванне сярод польскіх эліт поглядаў Партыі нацыянальных

дэмакратаў, што абярнулася Рыжскім трактатам і падзелам Беларусі, які Скірмунт ацэньваў як палітычнае злачынства, менавіта з Польшчай ён звязваў найвялікшыя спадзевы на нармалізацыю жыцця ў рэгіёне і ліквідацыю бальшавіцкай пагрозы. Аднак на палітычнай арэне Польшчы ўладальнік Парэчча заставаўся малавядомай постаццю. У міжваенны перыяд «Край» для Рамана Скірмунта звузіўся да памераў Палесся, якое сталася галоўным аб'ектам ягонага клопату.

Трагічная смерць таксама нараджае пытанні пра значэнне дзейнасці і сэнс ягонага жыцця… Вядома, што смерць часам трактуюць як найвялікшую разбуральніцу гэтага сэнсу (А. Штэрн), якая ўказвае на бязглуздзіцу і недарэчнасць самога жыцця (В. Нясмелаў). Аднак аўтару гэтай кнігі значна бліжэй думка расійскага філосафа Івана Ільіна: «Всё истинно ценное, значительное и священное утверждается перед лицом смерти, победоносно выходит из огненного испытания и является в своем истинном сиянии и величии»[1987]. І далей: «Жить стоит только тем, за что стоит бороться на смерть и умереть... Всё, что не стоит смерти, не стоит и жизни»[1988].

Словы Івана Ільіна прымушаюць задумацца над тым, што апрача таямніцы смерці чалавек сутыкаецца з не менш складанай і велічнай загадкай жыцця. Спроба яе разгадаць – звычайны элемент матывацыі шматлікіх біяграфічных даследаванняў. Але ў якой ступені яны набліжаюць нас да разгадкі?

Жыццё палітыка Рамана Скірмунта ў пэўным сэнсе было заклікам адмовіцца ад філасофіі нянавісці і падазрэння, шукаць не ворагаў, а сяброў і саюзнікаў. Хрысціянскія каштоўнасці былі падмуркам ягонай дзейнасці. У палітычных рэаліях XX ст. такая пазіцыя не давала шансаў на поспех. На палітычнай арэне дамінавалі людзі, якія імкнуліся да перамогі любым коштам. Урэшце Раман Скірмунт заставаўся адзін, і нават надзвычай энергічная грамадская і палітычная дзейнасць не магла кампенсаваць гэтай адзіноты. Яе дапаўняла адзіноцтва Скірмунта як прыватнай асобы. Магчыма, ягоная заўсёдная дабрыня і жаданне прыйсці на дапамогу тым, хто апынуўся ў бядзе, давалі адчуванне напоўненасці жыцця, перакрэслівалі адчуванне самоты. Невыпадкова перад смерцю прыгадаў, што ад людзей ніколі не адварочваўся…

Аднак і напрыканцы кнігі не маю пэўнасці, што наблізіўся да разгадкі таямніцы жыцця Рамана Скірмунта, як і да вырашэння пазначаных праблем. У гістарычнай навуцы, тым болей, у біяграфістыцы нельга прэтэндаваць на іх канчатковае вырашэнне і на дакладныя адказы на пастаўленыя пытанні. На мой погляд, паспяховасць навуковага даследавання заключаецца ў пастаноўцы новых пытанняў і фармулёўцы новых актуальных праблем. Навука – гэта бясконцы працэс пазнання і заўсёдная дыскусія. Спадзяюся, што гэта кніга таксама стане прадметам дыскусіі. Усё ж загадка жыцця Рамана Скірмунта застаецца…

Май 2018 г.

---

[1987] И. Ильин, *Поющее сердце. Книга тихих созерцаний*. Сочинения в 10 томах. Том 3. Москва 1994, с. 339.

[1988] Там же, с. 340.

# POST SCRIPTUM

Kanon akademicki wymaga, by na zakończenie monografii podsumować najważniejsze wyniki badań i wskazać, w jaki sposób osiągnięto ich główne cele. Jednak nie chciałbym zamykać tej książki składaniem daniny formalizmowi.

Opowieść o życiu i śmierci Romana Skirmunta to zaproszenie badacza i czytelnika do rozmowy o losie Białorusi i Polski w XX wieku, o ówczesnej roli «czynnika polskiego», o relacjach między aspektem narodowym i społecznym w historii obu krajów, o dramacie litewskich i białoruskich Polaków w epoce etnokulturowego nacjonalizmu, o idei krajowej i krajowcach jako ostatnich obywatelach Wielkiego Księstwa Litewskiego, o ich poszukiwaniu nowej ojczyzny, jak również o historii szlachty Litwy historycznej w okresie radykalnych przemian społecznych.

Jednocześnie jego biografia uzmysławia problem istoty idei białoruskiej i jej popularności, nasuwa pytania o jedność ruchu białoruskiego i rolę tzw. czynnika ludzkiego w politycznym i kulturalnym Odrodzeniu w XX wieku, a także o szanse wywalczenia niezależności Białorusi w 1918 roku i dołączenia tym samym do wspólnoty państw europejskich jako «wolni z wolnymi, równi z równymi».

Roman Skirmunt jako jeden z ideologów krajowości i «obywatel Kraju» wspierał narodowe dążenia Białorusinów i zakładał, że nie naruszą one jedności ziem i narodów Białorusi i Litwy. Z końcem 1916 roku dołączył do ruchu białoruskiego, więcej: stanął na jego czele w niezwykle trudnym i wymagającym odpowiedzialności momencie historycznym. Fakt, że był zwolennikiem idei krajowej, nie stał na przeszkodzie jego działalności jako białoruskiego polityka, przeciwnie – pozostawał w harmonii z reprezentowaną przez białoruskie Odrodzenie postawą tolerancji narodowej i wyznaniowej. To Roman Skirmunt był tym, kto jako pierwszy sformułował w 1917 roku postulat autonomii Białorusi w ramach demokratycznej i federacyjnej Rosji. On też z początkiem 1918 roku, zanim jeszcze ogłoszono niepodległość Białoruskiej Republiki Ludowej, opowiadał się publicznie za niezależnością Białorusi. Nie tracił przy tym nadziei na zachowanie politycznej jedności białorusko-litewskiego kraju i jego partnerskie stosunki z państwem polskim.

Zasadniczą przeszkodę dla podejmowanych przez Skirmunta działań stanowiło społeczne doktrynerstwo białoruskich socjalistów i ich podejrzliwość wobec «polskiego obszarnika», wzrastająca wraz z radykalizacją rosyjskiej rewolucji. Porażka rządu Romana Skirmunta (w lipcu 1918 roku) była także uwarunkowana stanowiskiem Berlina, który by utrzymać dobre stosunki z władzami bolszewickiej Rosji, nie zamierzał uznawać niezależności Białoruskiej Republiki Ludowej, mimo że czasami demonstrował taki zamiar. Niezależnie od tej klęski Skirmunt pozostał w Radzie BRL i pod koniec 1918 roku był jednym z jej głównych dyplomatów.

Jako przyczyny jego odejścia z ruchu białoruskiego latem 1919 roku należy wskazać wzrost poparcia dla bolszewików w łonie ruchu oraz powstanie państwa polskie-

go. Niezależnie od dominacji wśród polskich elit poglądów Narodowej Demokracji, co doprowadziło do traktatu ryskiego i podziału Białorusi, uważanego przez Skirmunta za zbrodnię polityczną, mimo wszystko to z Polską wiązał największe nadzieje na normalizację życia w regionie i likwidację zagrożenia ze strony bolszewików. Jednakże na polskiej scenie politycznej właściciel Porzecza był postacią mało znaną. W okresie międzywojennym «Kraj» zawęził się dla Romana Skirmunta do obszaru Polesia, które stało się głównym obiektem jego troski.

Także i tragiczna śmierć stawia nas wobec pytań o znaczenie jego działalności i sens życia... Śmierć, jak wiadomo, bywa traktowana jak czynnik najsilniej podający w wątpliwość ów sens (A. Sztern), jak dowód bezsensu i absurdalności życia jako takiego (W. Niesmiełow). Jednak autorowi tej książki znacznie bliższa jest myśl rosyjskiego filozofa Iwana Iljina: «Wszystko, co naprawdę cenne, doniosłe i święte, umacnia się w obliczu śmierci, wychodzi zwycięsko z ogniowej próby i ukazuje się w swoim prawdziwym blasku i wielkości». I dalej: «Żyć warto tylko tym, za co warto walczyć na śmierć i życie i za co warto umrzeć... Wszystko, co nie jest warte śmierci, nie jest warte i życia».

Te słowa Iwana Iljina skłaniają do refleksji nad tym, że oprócz tajemnicy śmierci człowieka spotyka nie mniej złożona i równie wielka zagadka życia. Próba jej odgadnięcia to typowy składnik motywacji większości badań biograficznych. W jakim jednak stopniu przybliżają nas one do rozwiązania tej zagadki?

Życie polityka Romana Skirmunta stanowiło w jakimś sensie wezwanie do odrzucenia filozofii nienawiści i podejrzliwości, do szukania nie wrogów, lecz przyjaciół i sprzymierzeńców. Pryncypia jego działalności były wywiedzione z chrześcijaństwa. W politycznych realiach XX wieku taka postawa nie rokowała szans na sukces. Na scenie politycznej dominowali ludzie dążący do zwycięstwa bez względu na koszty. Ostatecznie Roman Skirmunt został sam i nawet nadzwyczaj energiczna działalność społeczna i polityczna nie mogła skompensować tej samotności. Dopełniała ją samotność Skirmunta w życiu prywatnym. Być może osobista dobroć i pragnienie niesienia pomocy tym, którzy znaleźli się w biedzie, przynosiły mu poczucie życiowego spełnienia, wyzwalały z samotności. Nie przypadkiem w godzinie śmierci powiedział, że nigdy nie odwracał się od ludzi...

Kończąc książkę, nie mam bynajmniej pewności, że zbliżyłem się do odkrycia tajemnicy życia Romana Skirmunta, jak również że rozwiązałem postawione w niej problemy. W naukach historycznych, a tym bardziej w biografistyce nie należy pretendować do ich ostatecznego rozwiązania ani też do wyczerpujących odpowiedzi na wszystkie pytania. W moim przekonaniu skuteczność badań naukowych polega na stawianiu nowych pytań i formułowaniu nowych, aktualnych problemów. Nauka to niemający końca proces poznania i nieustannie trwająca dyskusja. Ufam, że ta książka również stanie się przedmiotem dyskusji. Bowiem zagadka życia Romana Skirmunta trwa…

maj 2018 roku

*Пераклад з беларускай мовы Ганны Энгелькінг.*

# ЛЕТАПІС ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ

1868, 25 красавіка (7 мая) – нарадзіўся ў Парэччы ў сям'і Аляксандра Скірмунта і Тэафілы з Любаньскіх.

1881, 11 жніўня – прыняты ў 5 клас (рэальны) Рыжскай гарадской гімназіі.

1883 – забраны з гімназіі дзеля дапамогі бацьку ў кіраванні гаспадаркай маёнтка.

1888, 31 снежня – 1889, 7 верасня – «вольноопределяющийся» 1 разраду лейб-гвардыі Валынскага палка. Звольнены ў запас у чыне прапаршчыка.

1889–1909, чэрвень – удзел у кіраванні гаспадаркай маёнтка Парэчча.

1891, 1896 – вайсковыя вучэбныя зборы ў Варшаве ў Каломенскім пяхотным палку.

1900 – кіраўніцтва стварэннем ландшафтнага парка ў Парэччы на беразе р. Ясельды.

1900 – прыняты ў шэрагі сяброў Менскага таварыства сельскай гаспадаркі (МТСГ).

1900 – удзел у працы Палескай камісіі МТСГ па падрыхтоўцы статута Палескага таварыства ўзаемнага крэдыту.

1901 – сябра Аддзялення па распрацоўцы сельскагаспадарчых і эканамічных патрэб Палесся пры МТСГ. Удзельнічаў у распрацоўцы ягонай праграмы.

1902 – ганаровы сябра Пінскага рымска-каталіцкага дабрачыннага таварыства.

1902 – сябра Палескага таварыства ўзаемнага крэдыта.

1902–1905 – старшыня Аддзялення па распрацоўцы сельскагаспадарчых і эканамічных патрэб Палесся пры МТСГ.

1903 – сябра Рады МТСГ.

1904 – ініцыятар і адзін з арганізатараў Сялянскай сельскагаспадарчай выставы ў Пінску.

1904 – карэспандэнт пецярбургскай газеты «Kraj», дзе пад псеўданімам *Ромунт* публікаваў інфармацыю пра падзеі гаспадарчага і культурніцкага жыцця Піншчыны.

1904, 10 верасня – адмова ўдзельнічаць у адкрыцці помніка Кацярыне II ў Вільні.

1904 – паездка ў Італію (Венецыя, Брындызі).

1904 – выданне ў Львове брашуры «*Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej*».

1905 – выданне ў Львове брашуры «*Głos przeszłości i potrzeba chwili*».

1905, 23 ліпеня – прызначаны дэпутатам шляхты Пінскага пав. у Менскім губернскім шляхецкім сходзе.

1905, 17 лістапада – публікацыя ў «Кур'еры Літэўскім» звароту аб стварэнні «Краёвай партыі Літвы і Русі».

1905, снежань – сялянскія хваляванні ў маёнтках Скірмунтаў у Пінкавічах, Моладаве і Парэччы.

1906, 11 студзеня – публікацыя ў «Кур'еры Літэўскім» звароту аб стварэнні «Краёвай партыі Белай Русі і Літвы».

1906 – сябра Рады таварыства «Oświata» у Менску.

1906 – пабудова каталіцкай капліцы ў Парэччы без дазволу ўлады.

1906 – старшыня Аддзялення па распрацоўцы сельскагаспадарчых і эканамічных патрэб Палесся пры МТСГ.

1906, 14 красавіка – абранне дэпутатам Дзяржаўнай Думы Расійскай імперыі, сябра Сельскагаспадарчай камісіі І Думы.

1906, 4 мая – стварэнне па яго ініцыятыве думскай фракцыі «Група дэпутатаў заходніх губерняў», якая не далучылася да «Польскага кола» ў І Думе.

1906, 16 мая – выступ у Думе з крытыкай праектаў аграрнай рэформы, прадстаўленых кадэтамі і «трудовиками».

1906, 4 ліпеня – выступ у Думе з крытыкай ідэі думскага звароту да народу.

1906, кастрычнік – прыём у Парэччы віленскага біскупа Эдварда Ропа.

1906, лістапад – публікацыя ў «Кур'еры Літэўскім» артыкула «*Kwestje programowe*» з ідэяй самастойнай думскай фракцыі ад Беларусі і Літвы.

1906, 6–7 снежня – удзел у працы Віленскага схода польскіх выбаршчыкаў, дзе выступаў за стварэнне самастойнай думскай фракцыі ў Думе.

1907–1912 – дзейнасць тайнай школы ў Парэччы для дзяцей рабочых суконнай фабрыкі.

1907, студзень – няўдача на выбарах выбаршчыкаў на губернскі выбарчы сход у ІІ Дзяржаўную Думу ў Пінску.

1907, сакавік – арганізацыйная праца па стварэнні Краёвай партыі Беларусі і Літвы (сумесна з Э. Вайніловічам і Ч. Янкоўскім). Распрацоўка праекта праграмы партыі, які прадугледжваў існаванне беларускай, польскай і літоўскай партыйных арганізацый.

1907, май – канферэнцыя ў Менску па абмеркаванні стварэння Краёвай партыі Літвы і Беларусі.

1907, 17–18 чэрвеня – удзел у сходзе ў Вільні па стварэнні Краёвай партыі. У сувязі з непрыняццем распрацаванай ім праграмы адмовіўся ўступаць у яе шэрагі.

1907, ліпень – публікацыя на старонках варшаўскай газеты «Słowo» артыкула «*W obronie idei*», у якім тлумачыліся асноўныя палажэнні краёвай ідэалогіі.

1907, верасень–лістапад – перамовы (разам з Ч. Янкоўскім) з віленскім біскупам наконт выкупа «Кур'ера Літэўскага», якія скончыліся няўдачай.

1907, 1–2 верасня – удзел у працы з'езда польскіх выбаршчыкаў у Кіеве.

1907, кастрычнік – упершыню выбраны віцэ-старшынём МТСГ (таксама перамагаў на выбарах віцэ-старшыні ў 1910, 1913 і 1916 гг.).

1907 – удзел у выданні «Русынскага лэмэнтара» (разам з Канстанцыяй Скірмунт і Юзэфай Кужанецкай) як першай спробы стварэння буквара на палескай гаворцы.

1908 – пачатак кантактаў з «нашаніўцамі» пры пасярэдніцтве княгіні Марыі Магдалены Радзівіл. Скірмунт пачаў аказваць фінансавую дапамогу рэдакцыі «Нашай Нівы», а таксама наладзіў кантакты з групай беларускіх студэнтаў у Пецярбурзе.

1908, люты – уступленне ў Краёвую партыю Літвы і Беларусі.

1908, 12 лютага – абвяржэнне на старонках «Кур'ера Літэўскага» крытыкі канцэпцыі Краёвай партыі.

1908, 13 лютага – з'езд Краёвай партыі Літвы і Беларусі ў Вільні. Прыняцце абноўленай праграмы (міжнацыянальны саюз) Р. Скірмунта, абранне яго кіраўніком партыі.

1908, сакавік – публікацыя на старонках варшаўскай газеты «Słowo» артыкула «*Stronnictwo Krajowe*» з тлумачэннем яе праграмы і галоўных задач.

1909, 26 чэрвеня – смерць бацькі, Аляксандра Аляксандравіча Скірмунта.

1909, ліпень – публікацыя на старонках варшаўскай газеты «Słowo» артыкула (некралога) «*Żywot, zgon i pogrzeb ś. p. Aleksandra Skirmunta*».

1909, чэрвень – 1915, жнівень – самастойнае кіраванне гаспадаркай маёнтка.

1909–1914 – праца ў Часовым камітэце па аднаўленні і вяртанні вернікам каталіцкага касцёла ў в. Гарадзішча на Піншчыне (разам з Канстанцыяй Скірмунт і Юзэфай Кужанецкай).

1910, 2 кастрычніка – абранне дэпутатам Дзяржаўнай Рады Расійскай імперыі.

1910, 29 кастрычніка – выступ у Дзяржаўнай Радзе пры абмеркаванні законапраекта аб аўтарскім праве.

1911, 7 студзеня – адмова ад дэпутацтва ў Дзяржаўнай Радзе. Аргументаваў неабходнасцю займацца гаспадаркай Парэчча.

1911, 22 сакавіка – публікацыя ў «Кур'еры Віленскім» артыкула «*Wobec wprowadzenia ziemstw*», у якім звяртаў увагу на пазітыўныя для польскай супольнасці наступствы земскай рэформы ў «заходніх губернях».

1911 – радны Менскага губернскага земства, сябра Бюджэтнай і Праўавой камісій.

1914 – сябра дэлегацыі МТСГ для ўдзелу ў з'ездзе Расійскай экспартнай палаты ў Вільні, пастаянны прадстаўнік МТСГ пры Віленскім аддзяленні гэтай палаты.

1914 – удзел у падрыхтоўцы статута Таварыства ўзаемнага страхавання.

1914, 12 жніўня – на Надзвычайным сходзе Менскага губернскага земства абраны ў склад губернскага Камітэта дапамогі хворым і параненым вайскоўцам, а таксама абраны ўпаўнаважаным Менскага земства ва Усерасейскі земскі саюз дапамогі хворым і параненым вайскоўцам (УСЗ).

1914, жнівень – кастрычнік – вайсковая служба ў дружыне народнага апалчэння.

1914, лістапад – вяртанне да абавязкаў у Менскім губернскім земстве і УСЗ.

1915, студзень–люты – на з'ездзе Менскага губернскага земства абраны ў склад Камісіі па адкрыцці ў Менску вышэйшай навучальнай установы, а таксама ўпаўнаважаным Менскага земства ў Расійскай экспартнай палаце.

1915, 25 красавіка – публікацыя ў «Кур'еры Літэўскім» артыкула-некралога «*Józefa Kurzeniecka (Wspomnienia pośmiertne)*».

1915, жнівень – пераезд разам з маці ў Менск. Адрас пражывання: вул. Захар'еўская, 31/2.

1915, верасень – нямецкія войскі занялі Парэчча. Лінія фронту з верасня 1915 па люты 1918 г. праходзіла паблізу вёскі, па р. Ясельдзе і каналу Агінскага.

1915, лістапад – на сходзе МТСГ абраны ў склад Ліквідацыйнай камісіі, галоўнай задачай якой была дапамога цывільнаму насельніцтву ў атрыманні кампенсацый за знішчаную расійскім войскам маёмасць.

1915, лістапад – 1917, сакавік – узначаліў Губернскую харчовую камісію, сакратаром у якой з восені 1916 г. быў Максім Багдановіч.

1915, лістапад – прызначаны намеснікам Упаўнаважанага «Асобнай нарады для абмеркавання і аб'яднання мерапрыемстваў па харчовай справе ў Менскай губ.,

а таксама ў Вілейскім і Ашмянскім паветах Віленскай губ.» Упаўнаважаным быў старшыня Менскай земскай губернскай управы Б. Самойленка.

1916, студзень – 1917, люты – у сувязі з занятасцю Б. Самойленкі выконваў абавязкі Упаўнаважанага «Асобнай нарады для абмеркавання і аб'яднання мерапрыемстваў па харчовай справе...» і кіраваў усім працэсам забеспячэння харчам насельніцтва рэгіёну.

1916, люты – на сходзе Менскага губернскага земства абраны ў склад Эвакуацыйнай камісіі па арганізацыі і каардынацыі дапамогі цывільнаму насельніцтву, Камісіі па паліву, Камісіі па выпрацоўцы «лясной таксы», Рэвізійнай камісіі, а таксама дэлегатам нарады ў Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, прысвечанай праблеме кампенсацыі страт цывільнага насельніцтва.

1916, 15 сакавіка – удзел у працы згаданай нарады ў Магілёве.

1916, лістапад–снежань – сябра Менскага аддзелу «Беларускага таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны» (БТППВ).

1917, студзень – сябра Управы Віленскага зямельнага банка.

1917, студзень – узначаліў Управу Менскага аддзелу БТППВ.

1917, сакавік – Менскі аддзел БТППВ ператварыўся ў часовы Беларускі камітэт (Беларускі нацыянальны камітэт), які ўзначаліў Раман Скірмунт.

1917, 25–27 сакавіка – арганізатар і ўдзельнік З'езда беларускіх партый і арганізацый ў Менску.

1917, 27 сакавіка – канец мая – старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта (БНК).

1917, канец сакавіка – загадчык аддзела забеспячэння ў Менскім губернскім харчовым камітэце.

1917, красавік – удзел у перамовах з Літоўскай нацыянальнай Радай у Петраградзе.

1917, 11–14 красавіка – кіраўнік дэлегацыі БНК на перамовах з Часовым урадам пра аўтаномію Беларусі.

1917, 20–23 красавіка – меркаваны ўдзел у працы I з'езда сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губ.

1917, 13–15 мая – сесія БНК, якая закончылася выхадам з яго складу прадстаўнікоў землеўласнікаў і прывяла да сыходу Рамана Скірмунта з пасады кіраўніка.

1917, май–чэрвень – удзел у стварэнні Беларускай народнай партыі сацыялістаў (БНПС).

1917, 21–23 мая – як прадстаўнік МТСГ удзельнічаў у сходзе польскіх арганізацый Меншчыны, на якім была створана Польская Рада Менскай зямлі (ПРМЗ).

1917, 8–9 ліпеня – удзел у З'ездзе беларускіх партый і арганізацый, дзе была створана Цэнтральная рада беларускіх арганізацый. Адыход ад публічнай беларускай дзейнасці.

1917, канец ліпеня – сябра Аграрнай камісіі Саюза землеўладальнікаў Менскай губ.

1917, 12–15 жніўня – удзел у працы Маскоўскай Дзяржаўнай нарады. Прамова на сходзе думскіх дэпутатаў з прапановай заключэння Расіяй сепаратнага міра. Падрыхтоўка адпаведнага артыкула, які адмовіліся публікаваць расійскія выданні.

1917, 24 жніўня – у якасці прадстаўніка МТСГ удзельнічаў у цырымоніі вітання ксяндза-адміністратара Менскай дыяцэзіі каноніка О'Рурка.

1917, 28 жніўня – меркаваная публікацыя на старонках газеты «Вольная Беларусь» артыкула «Зямельнае пытаньне і дзяржаўны лад» за подпісам *І. Рамановіч*.

1917, 14–22 верасня – меркаваны ўдзел у працы Дэмакратычнай нарады ў Петраградзе як сябра БНПС.

1917, 26 верасня – уваходжанне ў склад Польскага выбарчага камітэту па выбарах ва Устаноўчы Сход ад МТСГ.

1917, 15 кастрычніка – адстаўка з пасады віцэ-старшыні МТСГ.

1917, 7–24 кастрычніка – удзел у працы Перадпарламента ў Петраградзе.

1917, 25 кастрычніка – быў сведкам бальшавіцкага пераварота ў Петраградзе.

1917, лістапад – удзел у з'ездзе прадстаўнікоў польскіх арганізацый Беларусі і Украіны (Менск), сябра Вайсковай камісіі з'езда.

1917, 15 лістапада – удзел у сакрэтнай нарадзе польскіх палітыкаў у Менску, дзе абмяркоўвалі дапамогу Польскаму корпусу Ю. Доўбар-Мусніцкага.

1917, 26–28 лістапада – удзел у выбарах ва Устаноўчы Сход ад Саюза землеўласнікаў Менскай губ. Узначаліў спіс № 3, які набраў 0,4% галасоў выбаршчыкаў Менскай акругі.

1917, канец снежня – стварэнне і кіраванне нелегальным Беларускім народным камітэтам.

1918, 2 лютага – удзел у пасяджэнні Выканкаму ПРМЗ, дзе абмяркоўвалі становішча Польскага корпуса генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага.

1918, пачатак лютага – удзел у тайных нарадах з прадстаўнікамі ПРМЗ і Начполя па праблеме дапамогі Польскаму корпусу. Адмова ўдзельнічаць у тайных польска-нямецкіх перамовах аб лёсе корпуса.

1918, 19–20 лютага – кансультант ПРМЗ па справе польска-беларускага паразумення пасля адступлення бальшавікоў з Менску.

1918, 21 лютага – прадстаўнік беларусаў у складзе польска-беларускай дэлегацыі, якая вітала прыезд германскага камандавання ў Менск.

1918, 24 лютага – сябра польска-беларускай дэлегацыі на перамовах з прадстаўніком германскага камандавання маёрам Вульфенам.

1918, 25 лютага – стварэнне Менскага беларускага прадстаўніцтва (МБП) (Іншая назва – Беларускае народнае прадстаўніцтва ў Менску), якое ўзначаліў Р. Скірмунт.

1918, 8 сакавіка – выхад першага нумара газеты МБП «Беларускі шлях» (рэд. П. Аляксюк). Наступныя нумары рэдагаваў Аляксандр Прушынскі.

1918, 18 сакавіка – тэлеграма Беларускага народнага камітэта да рэйхсканцлера Германіі і кіраўніцтва Обэр-Ост за подпісамі Р. Скірмунта, Р. Зямкевіча і П. Алексюка з асуджэннем падзелу Беларусі па выніках Берасцейскага міра, з пратэстам супраць тэрытарыяльных прэтэнзій Польшчы, Літвы і Украіны і спадзевам на падтрымку Германіяй незалежнасці Беларусі.

1918, 25 сакавіка – прыняцце Радай БНР ІІІ Устаўнай граматы, якая абвяшчала незалежнасць Беларусі. Р. Скірмунт і МБП падтрымалі гэтае рашэнне.

1918, 12 красавіка – каапатацыя МБП у склад Рады БНР.

1918, 26 красавіка – адпраўка ад імя Рады БНР тэлеграмы падзякі германскаму

імператару за вызваленне Беларусі ад бальшавіцкай улады (ініцыятыва Р. Скірмунта).

1918, 1 мая – уключэнне Скірмунта ў склад Міжнароднай камісіі Рады БНР.

1918, 14 мая – Рада БНР даручае Скірмунту фарміраванне новага кааліцыйнага ўрада БНР.

1918, 22 мая – інтэрв'ю Р. Скірмунта журналістам «Минского еженедельника».

1918, 23 мая – заява на імя старшыні рады БНР Язэпа Лёсіка пра адстаўку з прычыны адмовы сацыялістаў ад стварэння кааліцыйнага ўрада.

1918, 26 мая – выезд у Кіеў у якасці Надзвычайнага пасла БНР ва Украіне дзеля перамоў з урадам гетмана Скарападскага.

1918, канец мая – чэрвень – перамовы ў Кіеве з прадстаўнікамі ўрада Украінскай Дзяржавы, меркаванае наведванне Парэчча.

1918, 26 чэрвеня – вяртанне ў Менск.

1918, канец чэрвеня – пачатак ліпеня – фарміраванне ўрада Р. Скірмунта.

1918, 9 ліпеня – выступленне з праграмнай дэкларацыяй на сесіі Рады БНР. Рада зацвердзіла праграму ўрада і ягоны склад.

1918, 12 ліпеня – інфармацыя ў газеце «Беларускі шлях» пра тое, што ўрад Скірмунта прыступіў да выканання сваіх абавязкаў.

1918, 12–20 ліпеня – «дваяўраднасьць» у Менску, барацьба з урадам Язэпа Варонкі, які адмовіўся перадаваць паўнамоцтвы Скірмунту.

1918, 20 ліпеня – адстаўка ўрада Скірмунта пасля перамоў з Іванам Луцкевічам у Менску.

1918, 21 ліпеня – сябра Міжнароднай камісіі Рады БНР.

1918, жнівень – выхад са складу Міжнароднай камісіі.

1918, 25 верасня – візіт да менскага біскупа Зыгмунта Лазінскага на чале дэлегацыі ўрада Беларускай хрысціянскай злучнасьці як ягоны кіраўнік.

1918, кастрычнік–лістапад – удзел у працы Камісіі па адкрыццю ў Менску беларускага ўніверсітэта.

1918, 9 кастрычніка – удзел у зацвярджэнні Радай БНР абноўленага статута, які прадугледжваў уваходжанне ў яе склад прадстаўнікоў большасці партый і арганізацый, якія дзейнічалі ў Менску.

1918, кастрычнік – сябра Камітэта ад Усходняй Еўропе па арганізацыі Лігі нацый.

1918, 18 кастрычніка – адзін з падпісантаў тэлеграмы да рэйхсканцлера Германіі і прэзідэнта ЗША з просьбай пакінуць нямецкія войскі ў Беларусі дзеля яе абароны ад бальшавікоў.

1918, 20 кастрычніка –10 лістапада – візіт у Берлін на чале беларускай дэлегацыі дзеля прызнання незалежнасці БНР.

1918, 11 (?) – 17 лістапада – візіт у Берн у складзе дэлегацыі БНР. Уручэнне дыпламатычных нот БНР паслам краін Антанты. Перамовы з прадстаўніком Польскага нацыянальнага камітэту Канстанцінам Скірмунтам. Прадстаўляў Камітэт па стварэнні Лігі нацый ва Усходняй Еўропе ў перамовах з прадстаўнікамі цэнтральнаеўрапейскіх дзяржаў.

1918, снежань – меркаваны візіт у Лондан (разам з Я. Варонкам).

1918, снежань – сустрэча з Юзафам Пілсудскі ў складзе дэлегацыі «літоўскіх палякаў».

1918, снежань – 1919, сакавік – удзел у сустрэчах польскіх і беларускіх палітыкаў у доме княгіні Марыі Магдалены Радзівіл у Варшаве, дзе абмяркоўвалі варыянты польска-беларускай федэрацыі.
1919, студзень-сакавік – прадстаўнік МТСГ у Саюзе палякаў з Беларусі,
1919, сакавік – 1920, ліпень – праца па аднаўленні гаспадаркі Парэчча.
1919, сакавік – май – удзел у арганізацыі Саюза абароны землеўласнікаў, супраца з іншымі арганізацыямі палякаў з Беларусі і Літвы.
1919, 11 сакавіка – прызначэнне сябрам Надзвычайнай дэлегацыі БНР, а таксама Генеральным консулам БНР у Польшчы. Аднак консульства не было адкрытае.
1919, 15 сакавіка – візіт да віцэ-старшыні Польскага нацыянальнага камітэта М. Замойскага (разам з Э. Вайніловічам і А. Мэйштовічам). Размова датычыла ўсходняй мяжы Польшчы.
1919, 21 сакавіка – уключэнне ў склад дэлегацыі БНР на Парыжскую мірную канферэнцыю.
1919, красавік – адмова далучыцца да дзейнасці Цывільнай управы Усходніх земляў (кіраўнік Е. Асмалоўскі).
1919, май – далучэнне да дзейнасці Польска-Беларускага таварыства (кіраўнік Л. Дубяйкоўскі).
1919, 9 ліпеня – размова з Юзафам Пілсудскім, на якой абмяркоўвалася праблема аграрнай рэформы і гіпатэтычна стварэнне беларускага ўрада на чале з Раманам Скірмунтам.
1919, ліпень–жнівень – адыход Р. Скірмунта ад беларускай палітычнай дзейнасці.
1920, 8 – 9 сакавіка – удзел у агульным сходзе сяброў МТСГ у Менску.
1920, ліпень–верасень – наступ Чырвонай арміі і эвакуацыя з Парэчча ў Кутноўскае, а потым у Варшаву.
1920, кастрычнік – вяртанне ў Парэчча, аднаўленне гаспадаркі.
1920, кастрычнік – 1921, сакавік – барацьба супраць падзелу Беларусі паводле ўмоў Рыжскага мірнага трактату.
1920, 23 кастрычніка – арганізацыя і выступ на сходзе Саюза палякаў з беларускіх Крэсаў.
1920, лістапад – няўдалыя спробы Э. Вайніловіча і Р. Скірмунта дамагчыся выезду апошняга ў Рыгу дзеля ўдзелу ў перамовах у якасці эксперта Міністэрства замежных спраў Польшчы.
1921–1928 – ганаровы суддзя Акруговага суда ў Пінску.
1921 – сябра Назіральнай Рады Крэсовага саюза зямян.
1921, 23 кастрычніка – удзел у сустрэчы ў Пінску прэм’ер-міністра Польшчы Антонія Панікоўскага.
1922, сакавік – сябра Часовай Рады Палескага ваяв.
1922, верасень – адзін з арганізатараў выбарчага блоку Краёвае аб’яднанне Палесся (КАП) (Krajowe Zjednoczenie Polesia) на выбарах у Сейм и Сенат Польшчы.
1922, лістапад – на выбарах у Палескім ваяв. КАП набрала 1,9% галасоў.
1923 – узначаліў Палескае акруговае таварыства сельскай гаспадаркі.
1923 – удзел у выданні зборніка «Polesie ilustrowane», дзе апублікаваў артыкулы «*Rysy odrębności Polesia*» і «*Z starych kronik*».

1923, чэрвень – пачатак працы ў Пінскім павятовым сейміку.

1923, 22 лістапада – удзел у працы з'езда зямян Віленскай зямлі ў Вільні.

1923, снежань – удзельнік з'езда Польскага таварыства апекі над Крэсамі ў Варшаве, сябра Галоўнай рады Таварыства.

1924, снежань – удзельнік нарады пры Дырэкцыі Віленскай рады чыгуначнага траспарта ў Вільні.

1924¸ снежань – удзел у працы чарговага з'езда зямян Віленшчыны.

1925 – сябра Пінскага культурна-асветніцкага камітэта.

1925, люты – публікацыя на старонках віленскай газеты «Słowo» артыкула «*Ultime Thule*» з крытыкай палітыкі цэнтральных улад Польшчы на Палессі.

1925, чэрвень – сустрэча з Ю. Пілсудскім на Выставе сельскагаспадарчай прадукцыі ў Берасці.

1925, чэрвень – перадрук артыкула «*Rysy odrębności Polesia*» на старонках «Gazety Warszawskiej».

1925, 4 кастрычніка – прамова на мітынгу ў Пінску з нагоды 10-годдзя польскай паліцыі.

1926 – выданне ў Вільні кнігі «*Blichtr i blask. Z rozmyślań o Słowackim*», прысвечанай жыццю і творчасці Юліуша Славацкага.

1926, ліпень – прамова на мітынгу ў Пінску з нагоды 150-годдзя незалежнасці ЗША.

1926, ліпень – публікацыя на старонках віленскай газеты «Słowo» артыкула «*150-ciolecie niepodległości St. Zj. Ameryki*».

1926, лістапад – удзел у стварэнні Арганізацыі кансерватыўнай дзяржаўнай працы (Organizacja Zachowawczej Pracy Państwowej) у Вільні.

1926, 16–17 лістапада – абранне сябрам Галоўнай Рады Крэсовага саюза зямян.

1928 – смерць маці Тэафілы Скірмунт.

1928, люты – публікацыя на старонках віленскай газеты «Słowo» артыкула «*Lupus Silesius*» як разважанняў з нагоды выдання ўспамінаў пасла Германіі ў Лондане (1912–1914) князя Ліхоўскага.

1928, 18 красавіка – удзел як сведкі на судовым працэсе Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Паказанні датычылі Радаслава Астроўскага.

1928, 16 чэрвеня – прамова на пахаванні Э. Вайніловіча ў Быдгашчы.

1930 – старшыня Рады Палескага ваяводскага таварыства сельскагаспадарчых арганізацый і гурткоў.

1930, красавік – публікацыя на старонках віленскай газеты «Słowo» артыкула «*Grenada*» з нагоды цэнтралізацыі сельскагаспадарчых арганізацый і гурткоў.

1930, верасень – публікацыя на старонках віленскай газеты «Słowo» артыкула «*Mówmy wyraźnie…*», прысвечанага праблеме неаунії.

1930, 23 лістапада – абранне ў Сенат ад Беспартыйнага блока супрацы з урадамі (ББСУ).

1930, снежань – публікацыя на старонках віленскай газеты «Słowo» артыкула «O Króluduchu», у якім у метафарычнай форме заклікаў да паразумення розных палітычных сіл Польшчы.

1930–1935 – сенатар, старшыня Камісіі па рэгламенце, сябра Вайсковай і Канстытуцыйнай камісій.

1931, ліпень – публікацыя на старонках віленскай газеты «Słowo» артыкула «*Na jałowych wyżynach (wspomnienia z lat siedemdziesięciu H. K. Milewskiego*» як водгука на выданне ўспамінаў Іпаліта Корвін-Мілеўскага.

1932, студзень – публікацыя на старонках віленскай газеты «Słowo» артыкула «*Edward Woyniłłowicz. Wspomnienia 1847–1928 r. Wyd. 1931 r.*» як водгука на выданне першай часткі ўспамінаў Э. Вайніловіча.

1932, 1 сакавіка – выступ у Сенаце падчас абмеркавання бюджэта на 1932–1933 г., у якім засяродзіўся на праблеме неауніі.

1932 – публікацыя артыкула «*Zawiłe zagadnienie*» у зборніку «*Nowe formy unii kościelnej w Polsce*» (Słonim, 1932).

1932, чэрвень – публікацыя ў віленскай газеце «Słowo» артыкула «*O Goethem*», прысвечанага творчасці вялікага нямецкага літаратара.

1932, снежань – публікацыя ў газеце «Słowo» артыкула «*Ksiądz Biskup Zygmunt Łoziński*», прысвечанага жыццю і дзейнасці пінскага біскупа.

1933, май – публікацыя ў газеце «Słowo» артыкула «*Po skończonej Sesji*», у якім пазітыўна асвятліліся вынікі парламенцкай сесіі і палітычная дзейнасць ББСУ.

1933, снежань – публікацыя ў газеце «Słowo» артыкула «*Ku nowemu państwu*», прысвечанага таталітарным тэндэнцыям у палітычным жыцці Еўропы і Польшчы.

1934, май – публікацыя ў газеце «Słowo» артыкула «*Panie z Muru*», прысвечанага жыццю і дзейнасці Канстанцыі Скірмунт.

1939, 20 верасня – забойства Генрыка і Марыі Скірмунтаў каля Моладава.

1939, 21–22 (?) верасня – затрыманне Рамана Скірмунта ў Пінску. Правёў суткі ў турме.

1939, 7 кастрычніка – забойства Рамана і Баляслава Скірмунтаў у лесе каля Парэчча.

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

